## ПРАДМОВА

Беларусь славіцца багаццем водных аб'ектаў, іх вонкавай разнастайнасцю, асаблівасцямі гідралогіі, заселенасцю жывымі арганізмамі, гаспадарчым значэннем. Аднак, нягледзячы на адносна добрую забяспечанасць рэспублікі воднымі рэсурсамі, праблема аховы і збераэжэння кожнага вадаёма і вадацёку паўстае надзвычай востра. З развіццём прамысловасці і сельскай гаспадаркі зараз існуе куды больш магчымасцей страціць гэтую «жывую ваду», чым зберагчы яе і тым самым захаваць натуральны стан і вонкавы выгляд славутых і маляўнічых беларускіх ландшафтаў. Сёння практычна не засталося на Беларусі ніводнага вадаёма, рэчкі ці ручая, які быў бы абыдзены ўвагай чалавека, на жаль, часцей спажывецкай, чым клапатліва-беражлівай. Значэнне вады, яе чысціні ўзрастае з года ў год, і тым больш важна ведаць усе крыніцы яе ўтрымання на тэрыторыі рэспублікі. Інвентарызацыя водных аб'ектаў дасць магчымасць урэшце ўявіць, што мы маем, а што канчаткова можна страціць, калі будзем карыстацца воднымі багаццямі бяздумна, па-спажывецку. З другога боку, водныя аб'екты часта з'яўляюцца своеасаблівым арыенцірам у даследчай і практычнай рабоце спецыялістаў самых розных галін ведаў, а таксама прывабным месцам для тых, хто хоча парыбачыць ці проста адпачыць на ўлонні прыроды. Даведнік якраз і спалучае дзве гэтыя мэты — у ім, як у своеасаблівым рэестры-каталогу, пералічаны ўсе значныя і большая колькасць дробных водных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі з іх асноўнымі параметрамі, а таксама зафіксаваны іх вядомыя ўласныя назвы (што важна для тапанімікі) з прывязкай да канкрэтнага раёна, горада, вёскі, геаграфічнага аб'екта. Гэтыя звесткі будуць таксама карысныя для краязнаўцаў, аматараў рыбнай лоўлі, для ўсіх, каму неабыякавы лёс нашых рэчак і вадаёмаў.

У кнізе ў алфавітным парадку змешчана больш за 5,5 тыс. артыкулаў-даведак пра рэкі, ручаі, азёры, вадасховішчы і каналы (даўжынёй больш за 5 км) нашага краю, якія маюць уласную назву. Ва ўступным навукова-папулярным нарысе даецца абагульняльная характарыстыка водных аб'ектаў, у канцы кнігі прыведзены кароткі слоўнік асобных, найбольш ужывальных у ім гідралагічных тэрмінаў і паняццяў. Значным дадаткам да характарыстыкі таго ці іншага аб'екта служаць чорна-белыя і каляровыя здымкі, карты-схемы месцазнаходжання вадаёмаў, якія даюць уяўленне як аб саміх вадаёмах, так і ў пэўнай ступені аб іх наваколлі, а таксама карты глыбінь найбольш значных і даследаваных азёр. Колькасць лічбавых характарыстык аб'екта, як і памер артыкула пра яго, адпавядаюць ступені даследаванасці гэтага воднага аб'екта.

Аддегласці вадаёмаў, вытокаў ці вусця вадацёкаў ад раённага цэнтра або іншага населенага пункта вызначаны паводле буйнамаштабнай карты па прамой лініі.

У даведнік не трапілі звесткі пра значную колькасць вадаёмаў, частку дробных рэчак і ручаёў, паколькі гэтыя аб'екты з'яўляюцца недаследаванымі. Абмежаванасць аб'ёму кнігі не дазволіла таксама разгледзець у ёй шматлікія старычныя азёры і сажалкі за невялікім выключэннем.

Пры характарыстыцы водных аб'ектаў выкарыстаны архіўныя дакументы БелЭн, гідралагічныя даведнікі і буйнамаштабныя тапаграфічныя карты. Схемы глыбінь (батыметрычныя схемы азёр) складзены ў лабараторыі азёразнаўства БДУ, якой выдавецтва выказвае шчырую падзяку за дазвол на публікацыю.

# УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ



Гарады



Пасёлкі гарадскога тыпу



Пасёлкі сельскага тыпу

Чыгункі


шырокакалейныя


вузкакалейныя


Чыгуначныя станцыі, прыпыначныя пункты раз'езды



1 Насыпы, 2 Выемкі


Аўтамагістралі

Аўтамабільныя дарогі


з пакрыццём


без пакрыцця (палепшаныя грунтавыя дарогі)


Грунтавыя праселачныя дарогі


Палявыя і лясныя дарогі


Масты


Дамбы

Плаціны


праезныя


непраезныя


Азёры і вадасховішчы


Рэкі (стрэлкі паказваюць напрамак цячэння ракі)


Берагі абрывістыя без пляжа


Берагавыя водмелі і мелі


Каналы


Каналы і канавы з дамбамі з аднаго і з двух бакоў



Адзнака ўрэзу вады над узроўнем мора

• 181 Адзнака вышыні над узроўнем мора

Балоты


цяжкапраходныя


праходныя


Лясы


Прасекі


Чаротавыя і трысняговыя зараснікі


Электрастанцыі


Торфараспрацоўкі

Межы


рэспублік


абласцей


запаведнікаў


заказнікаў

## СКАРАЧЭННІ ПРЫНЯТЫЯ НА КАРТАХ

| | | | |
|---|---|---|---|
| адст | адстойнік | Нов | Новы |
| бал | балота | паляўн база | паляўнічая база |
| в | востраў | піянерлаг | піянерскі лагер |
| Верх. | Верхні | прыст. | прыстань |
| воз | возера | рыб. | рыбная гаспадарка |
| Вял | Вялікі | саж | сажалка |
| ДА | дом адпачынку | сан | санаторый |
| кан | канал | спарт база | спартыўная база |
| лясн | лясніцтва | тургасц | тургасцініца |
| Мал | Малы | тэр | тэрыкон |
| ММЦ | міжнародны маладзёжны цэнтр | ур | урочышча |
| Ніж | Ніжні | Чырв. | Чырвоны |

## АЗЁРЫ

У межах Беларусі налічваецца больш за 10 тыс. азёр. Месцамі (Браслаўскі, Ушацкі раёны) яны займаюць 8—10 % тэрыторыі. Увогуле, у паўночнай частцы рэспублікі, у басейнах Заходняй Дзвіны і Нёмана знаходзяцца не толькі шматлікія, але і найбольш глыбокія, разнастайныя па абрысах і маляўнічасці азёры (да 4 тыс.). Таму не выпадкова гэты край называецца Беларускае Паазер'е. На Беларускім Палессі, у басейнах Дняпра і Буга, наадварот, пераважаюць дробныя, даволі аднастайнага выгляду старычныя азёры (каля 6 тыс.), прычым многія з іх пастунова знікаюць у сувязі з меліярацыяй. У цэнтральнай частцы рэспублікі азёр мала, бо пасля раставання ледавіка яны сцяклі па глыбокаўрэзаных рэках, а катлавіны іх запоўніліся торфам.

Сумарная плошча ўсіх азёр Беларусі амаль 2000 км$^2$, агульны аб'ём вады ў іх 6—7 км$^3$. Каля 75 % усіх азёр маюць плошчу меншую за 0,1 км$^2$. Адносна вялікіх азёр з плошчай больш за 20 км$^2$ усяго толькі 9 (Нарач — «Беларускае мора», пл. 80 км$^2$; Асвейскае, 52,8 км$^2$; Чырвонае, 43,6 км$^2$; Лукомскае, 36,6 км$^2$; Дрывяты, 36,1 км$^2$; Нешчарда, 27,4 км$^2$; Выганашчанскае, 26 км$^2$; Снуды, 22 км$^2$; Свір, 21,7 км$^2$). Найбольшыя глыбіні звычайна 15—20 м, а самае глыбокае возера Доўгае (Глыбоцкі р-н, 53,7 м).

Азёры на Беларусі належаць да ліку тых прыродных утварэнняў, якія ў немалой ступені вызначаюць непаўторную разнастайнасць і прыгажосць яе ландшафтаў. Асабліва гэта характэрна для Беларускага Паазер'я, дзе бясконцая змена пясчаных узгоркаў і марэнных град глыбокімі паніжэннямі, занятымі азёрамі і балотамі, частае чаргаванне сіняй вады, яркай зелені лесу і лугу, цёмна-зялёных балот, карычнева-чырвоных ворных зямель ствараюць яркую, каларытную карціну, своеасаблівы калейдаскоп, у які арганічна ўплятаюцца контуры невялікіх вёсак і хутароў. Вялікае значэнне маюць азёры для народнай гаспадаркі. Перш за ўсё гэта накапляльнікі чыстай прэснай вады, каштоўнасць і неабходнасць якой для чалавека пастаянна ўзрастаюць. Азёры з'яўляюцца рэгулятарамі рачных і падземных вод, маюць значныя рыбныя запасы, у іх назапашана шмат (3,7 млрд. м$^3$) каштоўнай арганічнай сыравіны — сапрапеляў. Многія з азёр уключаны ў меліярацыйныя сістэмы, выкарыстоўваюцца як басейны-ахаладжальнікі цеплавых электрастанцый (Дрысвяты, Белае, Чорнае, Лукомскае), на іх базе ствараюцца азёры-вадасховішчы (Лепельскае, Гомель і інш.). Нарэшце, многія з іх выкарыстоўваюцца як месцы санаторна-курортнага лячэння, адпачынку і турызму.

Утварэнне большасці азёр на Беларусі звязана з дзейнасцю паазерскага ледавіка і яго талых вод. Іх сучасныя катлавіны сфарміраваліся прыкладна 9—10 тыс. гадоў назад. На поўначы, у Беларускім Паазер'і, яны розныя: падпрудныя (Нарач, Асвейскае, Мядзел, Лукомскае, Дрывяты і інш.), утвораныя ў выніку намнажэння талых ледавіковых вод у паніжэннях паміж марэннымі градамі або на поўнач ад іх, круглаватыя або лопасцевыя па форме, з несіметрычнымі схіламі; лагчынныя (Саро, Сянно, Балдук, Вечалле, Гінькава і інш.), што ўзніклі ў выніку ледавіковага выворвання і эразійнай дзейнасці талых вод, вузкія па форме, выцягнутыя з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, маюць значную глыбіню пры невялікіх плошчах; эварзійныя (Рудакова, Вісяты, Жэнна, Світа, Вяркудскае і інш.), створаныя вадой, якая вадаспадам сцякала з ледавіка, котлападобныя па форме і, як правіла, глыбокія; тэрмакарставыя (Лісіцкае, Усомля, Канашы, Шчоўна), утвораныя ў выніку раставання пахаваных лінзаў лёду, звычайна малыя і неглыбокія. У выніку ўзаемадзеяння розных па характару працэсаў утварэння сфарміраваліся складаныя азёрныя катлавіны з вельмі звілістай берагавой лініяй (Крывое, Атолава, Неспіш і інш.). На месцы старажытных прыледавіковых вадаёмаў трапляюцца мелкаводныя астаткавыя катлавіны. На Палессі азёрныя катлавіны пераважна старычныя, некаторыя ўтварыліся ў выніку карставых працэсаў (Вулька, Сомінскае); трапляюцца значныя па плошчы, акружаныя тарфянікамі азёры-разлівы (Чырвонае, Олтушскае).

Рэжым кожнага возера цесна звязаны з будовай падводнай часткі катлавіны, у якой вылучаюць мелкаводную прыбярэжную зону (літараль), схіл яе (часцей стромкі) у бок цэнтральнай часткі катлавіны (сублітараль) і асноўную глыбакавод-

ную частку — ложа, якое мае індывідуальныя асаблівасці ў будове.

У адрозненне ад рэк (вадатокаў) азёры вызначаюцца запаволеным водаабменам, з'яўляюцца назапашваючымі (акумулюючымі) сістэмамі. Кожнае возера — утварэнне пэўнай прыроднай зоны, якая і абумовіла іх уласцівасці і характар. Клімат зоны мяшаных лясоў, да якой належыць Беларусь, садзейнічае дадатнаму балансу воднага жыўлення і нязначным ваганням узроўню. Разам з тым кожнаму возеру ўласцівы ўнутраныя індывідуальныя рысы, якія залежаць ад будовы катлавіны, фізічных уласцівасцей воднай масы, гідрахімічных і гідрабіялагічных паказчыкаў, характару намнажэння донных адкладаў.

У водным жыўленні азёр пераважаюць атмасферныя ападкі на люстра і паверхневы прыток, роля падземных вод у ім малапрыкметная. Расходуецца вада (калі не мець на ўвазе гаспадарчае спажыванне) на выпарэнне і сцёк, прычым у большасці выпадкаў праточнасць азёр слабая. У натуральным стане іх водная маса здольна самаачышчацца і ўзнаўляцца за кошт працэсаў перапрацоўкі і ўключэння ў агульны кругазварот тых арганічных і мінеральных рэчываў, што паступаюць з вадазбору або ўтвараюцца ўнутры сістэмы. Аднак гэта найбольш важная ўласцівасць вадаёмаў можа і нярэдка моцна парушаецца пад уплывам інтэнсіўнай гаспадарчай дзейнасці чалавека як на саміх азёрах, так і ў іх наваколлі (на вадазборах). У глыбокіх вадаёмах увесь аб'ём вады мяняецца за 5—10 гадоў, у мелкаводных — за 1—2 гады. Найбольш высокі ўзровень вады ў азёрах у канцы сакавіка — пачатку красавіка, пасля веснавога раставання снегу. На вялікіх вадаёмах узровень вады падымаецца на 0,4—0,5 м, на меншых — на 0,8—1 м. Зімой ваганні ўзроўню звычайна не перавышаюць 5—10 см.

Важным паказчыкам азёрных вод з'яўляецца іх тэмпература і шчыльнасць. Змена пораў года, умовы награвання і астывання азёр фарміруюць так званую асеннюю і вясеннюю гоматэрмію — усталяванне аднолькавай тэмпературы і, адпаведна, шчыльнасці па ўсёй тоўшчы вады. Летам водная маса расслойваецца на тэмпературныя слаі (летняя стратыфікацыя): верхні з іх (эпілімніён) добра награецца і перамешваецца, у сярэднім (металімніён, або слой тэмпературнага скачка) тэмпература паніжаецца на 3—5 °С на кожны метр глыбіні, ніжні слой (гіпалімніён) халодны і шчыльны, з тэмпературай 5—7 °С. Зімой назіраецца адваротная стратыфікацыя, якая характарызуецца павышэннем тэмпературы ад 0 °С каля паверхні да 2,5—3, радзей да 4 °С каля дна. Гэта заканамернасць перашкаджае глыбокаму прамярзанню азёр і тым самым садзейнічае захаванню жыцця пад ільдом. У мелкаводных вадаёмах уся тоўшча воднай масы ў выніку перамешвання аднародная да дна. Размеркаванне тэмператур на паверхні вадаёмаў у летні час залежыць ад надвор'я, формы і памераў катлавіны, развіцця расліннасці і іншых фактараў. Каля нагоннага берага тэмпература заўсёды на 1—1,5 °С вышэй, чым каля згоннага, у паласе расліннасці — на 1,5—2 °С вышэй, чым на адкрытай частцы. Сутачныя ваганні тэмпературы вады каля берагоў звычайна 2, радзей 3 °С, на акваторыі рэдка больш за 1 °С. Найбольш цёплая вада бывае праз 2—4 гадзіны пасля поўдня, самая халодная — пры ўзыходзе сонца. Тэрміны прагравання вады да 10, 15 і 20 °С на азёрах Беларускага Паазер'я і Палесся адрозніваюцца на 1, часам на 2—3 дэкады. Ледзяное покрыва трымаецца з канца кастрычніка — пачатку лістапада да канца красавіка — пачатку мая, таўшчыня лёду 50—70 см, у суровыя зімы на асобных азёрах да 1 м. Ад



**Ушацкія азёры**



Возера Недрава

тэмпературы і перамешвання вады залежыць газавы рэжым азёр. Першае месца па аб'ёму ў працэнтах займае азот, але ён адносна інертны да жыццёвых працэсаў. Асноўнымі «газамі жыцця» з'яўляюцца кісларод і вуглякіслы газ, утрыманне якіх у вадзе залежыць ад паступлення з паветра, інтэнсіўнасці фотасінтэзу і гніення арганічных рэчываў у саміх азёрах. Значны ўплыў на газавы рэжым аказвае характар гаспадарчай дзейнасці чалавека на азёрах і іх вадазборах, г. зн. ступень забруджанасці возера. Летам найбольш багаты кіслародам паверхневы слой (кіслародная насычанасць больш за 100 % ), з глыбінёй утрыманне яго падае і часам каля дна дасягае нулявога. Найбольш нізкае ўтрыманне кіслароду ў азёрах зімой. У мелкаводных вадаёмах яно можа панізіцца да велічынь, пры якіх магчымы заморы рыб і іншых водных жывёл. Размеркаванне вугля-

Возера Аболе

Возера Набіста

кіслага газу адваротна ўтрыманню кіслароду: ад адсутнасці або колькасці ў 5—6 мг/л у паверхневых слаях да павелічэння да 30—40 мг/л у прыдонных.

Паводле ўтрымання мінеральных рэчываў, азёры Беларусі ў большасці адносяцца да сярэднемінералізаваных. Уздзеянне розных фактараў навакольнага асяроддзя вызначае значны дыяпазон мінералізацыі: ад 14—40 мг/л (Вялікае Астравіта, Велле, Ілава, Стрэчна, Белянец, Дубок, Мохавае) да 300—400 мг/л (Баркоўшчына, Жадунь, Пятроўскае, Чэрцы, Чачалёўскае). Звычайна найбольш нізкая мінералізацыя характэрна для азёр з балотным жыўленнем. Калі на вадазборы пераважаюць марэнныя пароды, велічыня мінералізацыі вады ў возеры значна ўзрастае. Колькасць солей у вадзе павялічваецца ў зімовы перыяд, а таксама ад паверхні да дна. У выніку гаспа-



Возера Струста

дарчай дзейнасці (забруджванне вадаёмаў сцёкавымі водамі, мінеральнымі ўгнаеннямі і інш.) мінералізацыя вады павышаецца за кошт назапашвання ў ёй сульфатаў і хларыдаў, біягенных элементаў, асабліва фосфару, і арганічных рэчываў. Калі ў чыстых глыбокіх азёрах утрыманне фасфатаў складае сотыя і нават тысячныя долі мг/л, а перманганатная акісляльнасць (паказчык утрымання арганічнага рэчыва) не больш за 4—5 мг/л, то ва ўмовах паступлення біягенаў за кошт гаспадарчай дзейнасці гэтыя паказчыкі могуць узрастаць адпаведна да 1 мг/л і 15—20 мг/л. Усё гэта рэзка пагаршае якасць вады, умовы існавання ў ёй жывёльных арганізмаў, вядзе да агульнага змяншэння каштоўнасці азёрнага вадаёма і яго магчымай дэградацыі.

Возера — асяроддзе жыццядзейнасці разнастайных раслін і жывёл. Жыццё ў водным асяроддзі лімітуецца комплексам умоў, але галоўным чынам — узроўнем трофнасці, г. зн. біялагічнай прадукцыйнасці, якая залежыць ад колькасці і якасці біягенных рэчываў, што забяспечваюць жыццядзейнасць расліннасці, а значыць — і жывёльных арганізмаў. Першае звяно «харчовага» ланцуга вадаёмаў прадстаўлена фітапланктонам (мікрафітамі) — скопішчам аднаклетачных водарасцей, якія развіваюцца ў верхніх слаях вады. Пры найбольш спрыяльных умовах біямаса фітапланктону дасягае 10—20 г/м$^3$, і жыццё ў такіх вадаёмах найбольш багатае. У глыбокіх празрыстых азёрах яна складае адзінкі грамаў на кубічны метр, у неглыбокіх і мелкаводных 15—20 г/м$^3$, у азёрах, якія служаць месцам скіду неачышчаных стокаў і ў якія з вадазбору паступае шмат біягенных злучэнняў,— да 40—50 г/м$^3$.

Вышэйшыя водныя расліны, або макрафіты, утвараюць больш або менш шырокія палосы ў прыбярэжнай мелкаводнай частцы. У мелкаводных азёрах такая расліннасць пашырана па ўсёй акваторыі, у глыбакаводных звычайна да глыбіні 2—3 м, радзей да 4—5 м. Найбольш выражаны палосы надводных, або паўпагружаных раслін (чарот, трыснёг), з плаваючымі лісцямі (гарлачык, гарлачык жоўты) і падводных, або пагружаных (рдзесты, рагаліснік). Яны, як і мікраскапічныя водарасці, ствараюць арганічнае рэчыва азёр і з'яўляюцца таксама своеасаблівым бар'ерам, ахоўным экранам ад неспрыяльнага ўздзеяння сцёкаў з вадазбору. У азёрах, натуральны стан якіх нядрэнна захаваўся, сярод раслін трапляюцца унікальныя ахоўныя віды — лабелія Дортмана, меч-трава, вадзяны арэх, палушнік азёрны, наяда марская; растуць белыя гарлачыкі і іншыя, больш патрабавальныя да ўмоў існавання расліны.

Сярод жывёльных арганізмаў самую нізкую ступень па ўзроўні арганізацыі займаюць прадстаўнікі зоапланктону (галінаставусыя, весланогія рачкі, калаўроткі і інш.); сярод насельнікаў дна (бентас) — малюскі, малашчацінкавыя чэрві, ракападобныя і інш. Разам яны складаюць 2-е звяно «харчовага» ланцуга і з'яўляюцца кормам для нектона — рыбнага насельніцтва. У азёрах Беларусі больш за 20 відаў прамысловых рыб. У залежнасці ад кормнасці азёры падзяляюцца на рапушка-сігавыя — найбольш глыбокія, празрыстыя і халодныя (аліга трофныя, мезатрофныя); ляшчова-судаковыя і ляшчова-шчупаковыя — неглыбокія (эўтрофныя); карасёва-лінёвыя — мелкаводныя (высакатрофныя); акунёвыя — мелкаводныя (нізкатрофныя). Прамысловае значэнне маюць лешч, судак, акунь, плотка, верхаводка, карась, а таксама віды, якія ўзнаўляюцца штучна (еўрапейскі вугор, серабрысты карась, амурскі сазан, таўсталобік і інш.).

На працягу апошніх 20—25 гадоў азёры Беларусі прыкметна змяніліся ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека і прытым не ў лепшы бок. Скідванне ў вадаёмы бытавых, прамысловых, сельскагаспадарчых сцёкаў прывяло да рэзкага павелічэння ў іх біяпрадукцыйнасці (антрапагеннага эўтрафіравання). Масавае ж развіццё ў іх водарасцей і назапашванне арганічнага рэчыва абумовіла хуткае старэнне азёр, пагаршэнне якасці вады, дэфіцыт кіслароду, заморныя з'явы. Дрэнна адбіваецца на стане азёр меліярацыя (Чырвонае возера), рост гарадоў, транспарту, нерэгулюемае выкарыстанне іх у рэкрэацыйных мэтах. Паўстала неабходнасць правядзення абгрунтаваных для кожнага возера ахоўных мерапрыемстваў, а таксама стварэння на іх аснове заказнікаў і запаведнікаў. Пад дзяржаўнай аховай знаходзяцца азёры, размешчаныя ў Бярэзінскім біясферным запаведніку (Домжарыцкае, Манец, Плаўна, Палік, Вольшыца), у гідралагічных заказніках Выганашчанскае (Выганашчанскае, Бабровіцкае) і Ельня (Ельня, Чорнае, Доўгае і інш.), у ландшафтных заказніках Блакітныя азёры (Балдук, Глубля, Глубелька, Ячмянец), Белае (Белае) і Свіцязянскі (Свіцязь), у Асвейскім (Асвейскае) і Налібоцкім (Кромань) паляўнічых заказніках. Азёрнымі заказнікамі аб'яўлены азёры Доўгае і Белае ў Глыбоцкім, Глыбокае ў Полацкім, Чарбамысла, Вялікае Астравіта, Рычы, Сосна ў Шумілінскім, Крывое ва Ушацкім раёнах. Захаванне азёр для нашчадкаў — адна з важных прыродаахоўных задач сучаснасці.

## ВАДАСХОВІШЧЫ

Да іх адносяць штучныя вадаёмы з поўным аб'ёмам вады не менш за 1 млн. м$^3$; у практыцы вадасховішчамі часам называюць буйныя сажалкі. Гэтыя вадаёмы служаць добрымі рэгулятарамі грунтавых водаў і вільготнасці прылеглых меліяруемых зямель. На Беларусі пабудавана каля 130 вадасховішчаў, буйнейшыя з іх Вілейскае, Заслаўскае, Чырвонаслабодскае, Салігорскае, Любанскае, Чыгірынскае, Пагост, Лактышы, Асіповіцкае і інш. Сярод штучных вадаёмаў рэспублікі пераважаюць вадасховішчы рачнога тыпу, асабліва ў басейне Прыпяці. Даволі пашыраны налiўныя вадасховішчы, якія будуюцца на меліяруемых землях і вада ў іх падаецца пры дапамозе помпаў (напрыклад, вадасховішчы Велута, Любашаўскае, Вял. Арлы, Галоўчыцкае, Лібярполь і інш.). Часам вадасховішчы будуюцца на месцы выпрацаваных кар'ераў (Крычаўскае вадасховішча) ці азёр, якія агароджваюцца плацінамі і дамбамі. Гэта дазваляе павысіць іх узровень на

1—3 м (Пагост). Найбольшая колькасць вадасховішчаў створана на Палессі (46), што тлумачыцца шырокамаштабнасцю работ па водным добраўпарадкаванні гэтай тэрыторыі; менш іх на поўначы рэспублікі, у басейне Зах. Дзвіны (гл. табліцу). Са стварэннем вадасховішчаў азёрнасць Беларусі павысілася з 0,6 да 1,5 %.

Першыя невялікія вадасховішчы (сажалкі) на Беларусі ствараліся ў мінулыя часы пры будаўніцтве вадзяных млыноў. Буйныя вадасховішчы пачалі ствараць пасля Вялікай Айчыннай вайны з будаўніцтвам міжкалгасных і раённых гідраэлектрастанцый. Да канца 1960-х гадоў многія малыя ГЭС былі закансерваваны ці дэманціраваны, аднак вадасховішчы пры гідравузлах захаваліся (Лепельскае, Войкаўскае, Заслаўскае, Янаўскае і інш.). Колькасць іх павялічылася пры будаўніцтве меліярацыйных аб'ектаў (Чырвонаслабодскае, Любанскае, Дняпроўска-Брагінскае, Сялец і інш.), з вырашэннем праблем водазабеспячэння буйных гарадоў (Крылава, Салігорскае і інш.), комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў рэк Палесся (Пагост, Сялец, Джыдзінне, Крывічы, Крытышын, Жыдча, Гошча, Раздзялавічы і інш.). Са стварэннем Вілейска-Мінскай воднай сістэмы і водным добраўпарадкаваннем Мінска звязана будаўніцтва каскада вадасховішчаў на р. Свіслач (Крыніца, Дразды і інш.) і ручаях Цна, Сенніца (Цнянскае вадасховішча).

Акрамя вышэйназваных мэт, вадасховішчы ствараюцца для развіцця рыбнай гаспадаркі, арашэння зямель, рэгулявання сцёку, воднага добраўпарадкавання і водазабеспячэння населеных пунктаў, для стварэння водна-рэкрэацыйных сістэм (каскад вадасховішчаў на р. Свіслач, Заслаўскае, Вяча, Паперня, Раўбічы, Дубраўскае,

**Размеркаванне вадасховішчаў Беларусі па басейнах рэк**

| Рачны басейн | Колькасць вадасховішчаў | Аб'ём вады, млн. м³ | | Агульная плошча вадасховішчаў |
|---|---|---|---|---|
| | | поўны | карысны | |
| Прыпяць | 46 | 554,5 | 396,0 | 196,7 |
| Дняпро | 41 | 37,9 | 186,5 | 122,2 |
| Нёман | 21 | 335,2 | 280,0 | 117,2 |
| Заходняя Дзвіна | 17 | 1696,9 | 235,9 | 352,2 |
| Заходні Буг | 5 | 35,7 | 23,3 | 11,1 |





Заслаўскае вадасховішча

Воўкавіцкае, Асіповіцкае і інш.), для птушкагадоўлі, развядзення і захавання дзічыны (Белавежская Пушча). У апошнія гады ствараюцца вадасховішчы для комплекснага іх выкарыстання некалькімі галінамі народнай гаспадаркі. Для рыбагадоўлі вадасховішчы рэспублікі выкарыстоўваюцца недастаткова, пераважна з-за дрэннай падрыхтоўкі дна перад затапленнем. У рыбнай гаспадарцы задзейнічаны толькі 11 вадасховішчаў агульнай плошчай 11,3 тыс. км$^2$, якія даюць больш за 10 кг/га рыбы. У іх водзіцца каля 15 відаў прамысловых рыб, яны перыядычна зарыбляюцца серабрыстым карасём і карпам. Найбольш прадукцыйным з'яўляецца Асіповіцкае вадасховішча.

У залежнасці ад размеркавання сцёку рэк і марфаметрыі катлавін на Беларусі вылучаюцца 3 тыпы вадасховішчаў: паазерскі, цэнтральных водападзельных узвышшаў і прылеглых да іх раў-

Вілейскае вадасховішча



Вадасховішча Лактышы

нін і палескі. Найменшае затапленне і максімальны напор маюць вадасховішчы водападзельных абласцей, найбольшае затапленне пры нізкіх напорах — на Палессі. Па марфаметрычных характарыстыках вадасховішчы падзяляюцца на сярэднія (аб'ём вады 500—100 млн. м$^3$, плошча люстра 100—25 км$^2$), невялікія (100—10 млн. м$^3$, 25—3 км$^2$), малыя (менш за 10 млн. м$^3$, 3 км$^2$); паводле воднага балансу — на вадасховішчы са значным сцёкам (93—97 %), невялікім (66 %) і на вадасховішчы, у расходнай частцы балансу якіх пераважае расход вады рыбгасамі (55—60 %). Сярод вадасховішчаў рэспублікі большасць (76 %) складаюць малыя вадаёмы. Пераважная большасць вадасховішчаў мае яскрава выражанае паніжэнне ўзроўню вады зімой, перыяд веснавога напаўнення да нармальнага падпорнага ўзроўню і летне-асеннюю спрацоўку. У залеж-



Чырвонаслабодскае вадасховішча

насці ад ёмістасці вадасховішча, аб'ёму сутачнага сцёку і гаспадарчых патрэб рэгуляванне бывае сутачным, сезонным і шматгадовым. Пры сутачным рэгуляванні карысны аб'ём вады штодня аднаўляецца; пры сезонным — штогод поўнасцю выдаткоўваецца і зноў аднаўляецца ў час разводдзя; пры шматгадовым — вадасховішча напаўняецца кожны год, выдаткоўваецца вада ў маласводныя гады. На Беларусі пераважная большасць вадасховішчаў мае сезоннае рэгуляванне сцёку і толькі Вілейскае і Заслаўскае — штогадовае. У тэрмічным рэжыме вылучаюцца перыяды награву (канец сакавіка — канец жніўня), ахаладжвання (верасень — канец лістапада) і зімовага рэжыму (снежань — сакавік). Сярэдняя тэмпература вады ў жніўні 19—20 °С, зімой у прыдонных слаях вада ахалоджваецца да 1,5 °С. Працягласць ледаставу да 130 сутак. Па велічыні мінералізацыі (знаходзіцца ў залежнасці ад разаранасці і забруджанасці вадазбору) вадасховішчы рэспублікі належаць да сярэдне- і высокамінералізаваных (да 500 мг/л).

Штучныя вадаёмы істотна ўплываюць на прыродныя ўмовы прылеглых тэрыторый. Мяняецца мікраклімат узбярэжжаў (павышаецца вільготнасць паветра, павялічваецца скорасць мясцовых вятроў, памяншаецца выпадзенне вадкіх ападкаў на ўзбярэжжа), назіраецца падпор падземных водаў, падтапляюцца і размываюцца прыбярэжныя землі, забалочваюцца і аглейваюцца глебы, адзначаюцца змены раслінных асацыяцый і фауны, на мелкаводдзях і ў прыбярэжных зонах ідуць працэсы заілення і зарастання, «цвіценне» вады і інш. прыродныя з'явы, якія зніжаюць эксплуатацыйныя якасці вады. Таму праектаванне новых вадасховішчаў павінна ўключаць распрацоўку мерапрыемстваў па ахове прыроды, а іх праекты — праходзіць экалагічную экспертызу.

## КАНАЛЫ

Уся тэрыторыя Беларусі пакрыта сеткай меліярацыйных каналаў, што вельмі яскрава бачна на буйнамаштабнай карце. Абсалютная большасць з іх мае невялікую працягласць, якая рэдка перавышае дзесятак-другі кіламетраў (гл. табліцу). Некаторыя каналы ствараюцца з мэтай злучэння суднаходных рэк, забеспячэння патрэб энергетыкі, падачы вады для гарадоў на гаспадарча-пітныя патрэбы. Вялікія каналы маюць комплекснае прызначэнне. З такіх дзейнічаюць Дняпроўска-Бугскі і Мікашэвіцкі суднаходныя каналы, захаваліся Агінскі, Аўгустоўскі, Бярэзінскі (у складзе Бярэзінскай воднай сістэмы), якія страцілі сваё першапачатковае значэнне, але ўяўляюць значную каштоўнасць як аб'екты турызму.

Вялікія прасторы з плоскім і спадзістым рэльефам, значная колькасць атмасферных ападкаў з'яўляюцца прычынай пашырэння на Беларусі забалочаных зямель і балот. Развіццё ж гаспадаркі патрабавала ўвядзення ў абарот усё новых плошчаў зямель і ў першую чаргу ворных. Таму яшчэ ў 19 ст. Камісія для даследавання становішча сельскай гаспадаркі ў Расіі, утвораная ў тагачасным Міністэрстве дзяржаўных маёмасцей, прыйшла да высновы аб неабходнасці асушальных работ у многіх месцах Беларусі. На падставе праведзеных у 1860-я гады абследаванняў было



*Шлюз — рэгулятар на меліярацыйным канале*

**Колькасць каналаў і іх даўжыня**
(паводле звестак Гідраметслужбы Беларусі, 1986 г.)

| Вадазбор агульнай ракі | Даўжыня, км | | | | | | | | | | | | | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5—10 | | 10—15 | | 15—20 | | 20—25 | | 25—30 | | 30—50 | | больш за 50 | | | |
| | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня | коль-касць | агульная даўжыня |
| Ловаць | 3 | 21,9 | | | | | | | | | | | | | 3 | 21,9 |
| Зах. Дзвіна | 98 | 623,9 | 5 | 63,1 | | | | | | | | | | | 103 | 687,0 |
| Неман | 175 | 1168,5 | 26 | 310,5 | 7 | 127,6 | 1 | 22,0 | | | | | | | 209 | 1628,6 |
| Вілія | 37 | 243,5 | 3 | 37,0 | | | 1 | 21,0 | | | | | | | 41 | 301,5 |
| Зах. Буг | 137 | 913,2 | 23 | 285.8 | 4 | 71,2 | 7 | 154,9 | 1 | 26,6 | 3 | 118,0 | | | 175 | 1569,7 |
| Дняпро (без Прыпяці) | 376 | 2503,2 | 54 | 658,9 | 20 | 341,8 | 4 | 87,1 | 2 | 55,7 | 1 | 38,0 | 1 | 62,0 | 458 | 3746,7 |
| Прыпяць | 657 | 4559,4 | 151 | 1842.8 | 60 | 1040,8 | 28 | 651,0 | 14 | 393,6 | 15 | 556,1 | 1 | 52,0 | 926 | 9095,7 |
| Усяго па Беларусі | 1483 | 10 034 | 262 | 3198 | 91 | 1581 | 41 | 936 | 17 | 476 | 19 | 712 | 2 | 114 | 1915 | 17 051 |

вырашана арганізаваць вышуканні і падрыхтаваць генеральны план асушэння балот Палесся, што і выканала Заходняя экспедыцыя на чале з І. І. Жылінскім. Больш таго, за час работы экспедыцыі было асушана каля 500 тыс. га балот, пракладзена больш за 4,6 тыс. км каналаў асушальнага і лесатранспартнага прызначэння. Паводле справаздачы Жылінскага, асушальныя сістэмы зрабілі дабратворны ўплыў яшчэ на 3 млн. га прылеглых зямель. У першай палавіне 20 ст. меліярацыйныя работы пашырыліся на ўсе раёны Беларусі, дзе былі балоты і пераўвільготненыя глебы.

Пасля 1966 г. меліярацыйныя работы выконваліся асабліва інтэнсіўна і ў вялікіх маштабах, але часам без дастатковага навуковага абгрунтавання. Да пачатку 1990-х гадоў плошча закранутых меліярацыяй зямель дасягнула больш за 2,8 млн. га, што складае каля 13,5 % тэрыторыі Беларусі.

Каналы і канавы (калі не прымаць пад увагу гідратэхнічныя пабудовы на іх) з'яўляюцца галоўнымі элементамі меліярацыйных сістэм. Канава — штучнае рэчышча, найчасцей трапецападобнага сячэння, асноўнае прызначэнне якога — паніжэнне ўзроўню грунтавых водаў на 0,8—1,1 м, перахоп паверхневых водаў і транспарціроўка іх у больш натуральны ці штучны вадацёк. Па меры развіцця меліярацыі колькасць канаў змяншаецца, бо ўзамен іх цяпер робяць закрыты, найчасцей ганчарны дрэнаж. Каналы ад канаў адрозніваюцца тым, што іх шырыня і глыбіня значна большая, а даўжыня вымяраецца кіламетрамі. Праўда, па традыцыі некаторыя пракапаныя ў 19 ст. і нават у пачатку 20 ст. каналы і цяпер захавалі назву «канава».

Меліярацыйныя каналы па прызначэнні бываюць не толькі асушальныя, але і абвадняльныя ці комплексныя асушальна-ўвільгатняльныя, па спосабе падачы вады — самацечныя і з механічным пад'ёмам вады, па форме папярочнага сячэння — трапецападобныя, прамавугольныя, парабалічныя, паліганальныя (гл. малюнак). На Беларусі пераважаюць асушальныя меліярацыйныя каналы, якія маюць найчасцей трапецападобную і паліганальную форму.

Пры праектаванні і пракладцы канала дакладна разлічваецца, якая павінна ў ім быць скорасць цячэння вады, улічваецца, у якіх грунтах ён ствараецца. Звычайна скорасць цячэння ў каналах вагаецца ад 0,3 да 1,4 м/с. Пры скорасці 0,3—0,5 м/с рэчышча канала заглейваецца і зарастае (даводзіцца выкошваць траву і праводзіць ачыстку ад глею), пры скарасцях больш за 1,4 м/с дно і схілы размываюцца, асабліва на дробнапясчаным грунце (менш на суглiністым і гліністым і вельмі мала жвірова-галечным). Каб захаваць ложа і берагі каналаў ад размыву, адхоны і дно ўмацоўваюць у тарфяных грунтах драўлянымі мацаваннямі, у пясках — порыстымі і бетоннымі рашэцістымі плітамі; у глінах і суглінках пры дапушчальных скарасцях вады мацаванні не патрабуюцца. Адхоны ўмацоўваюцца таксама пасевам траў. Каб на іх утварылася шчыльная дзярніна, траву падкошваюць і падкормліваюць, але пры гэтым трэба старацца пазбегнуць забруджвання вады мінеральнымі ўгнаеннямі.

Найбольшае значэнне сярод меліярацыйных каналаў маюць **магістральныя каналы** (пра тыя з іх, якія маюць уласную назву, у гэтым даведніку змешчаны асобныя артыкулы-даведкі). Яны прымаюць шматлікія прытокі — адкрытыя канавы, сцёк з ганчарных калектараў. Пракладваюцца магістральныя каналы па самых нізкіх мясцінах. Звычайна яны прамалінейныя, але пры неабходнасці могуць рабіцца плаўныя павароты з радыусам не меней чым 50—100 м. Мінімальная шырыня каналаў па дне 0,4—0,6 м, па паверхні вады 2—5 м, падоўжны нахіл 0,2 %. Даўжыня каналаў залежыць ад памераў (плошчы) асушаемых масіваў і іх канфігурацыі. Звычайна яна складае некалькі кіламетраў, зрэдку — некалькі дзесяткаў кіламетраў. Даўжыня самых вялікіх магістральных каналаў — Слаўкавіцка-Ямінскага, Дубайскага, Заазёрскага, Асавецкага, Шчэлбінскага і Неначы — складае ад 38 км да 52 км. Абагульненыя звесткі пра колькасць і даўжыню меліярацыйных каналаў на Беларусі гл. ў табліцы.

Сярод каналаў нярэдка трапляюцца **вода-падводзячыя** каналы, па якіх падаецца вада для арашальных сістэм, жыўлення рыбаводных сажалак, Дняпроўска-Бугскага канала, для цеплавых электрастанцый, пітнога і водагаспадарчага забеспячэння, абвадняльных сістэм (Сляпянская і Лошыцкая водная сістэмы ў Мінску). Найдаўжэйшыя з такіх каналаў — Галоўны канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы (62 км). Радзей на

Беларусі трапляюцца а г а р а д ж а л ь н ы я, або так званыя н а г о р н ы я к а н а л ы, якія прызначаны для аховы меліяраваных зямель ад паступлення залішніх паверхневых і грунтавых вод са схілаў павышаных участкаў. Найдаўжэйшы канал гэтага тыпу — Ганцавіцкі ў Барысаўскім р-не. Для хуткага адводу залішняй вады з меліяраваных зямель ствараюцца в о д а с к і д н ы я  к а н а л ы, якія дзейнічаюць у высокае разводдзе ці ў час вялікіх паводак. Дно і адхоны такіх каналаў маюць інжынерную ахову, каб захаваць іх ад разбурэння пры значных скарасцях цячэння вады. Пры каналізацыі малых і невялікіх рэк нярэдка паралельна з асноўным прыродным рэчышчам пракладваецца канал, які забірае ▪ іх ваду і тым самым разгружае асноўнае рэчышча (гэта фактычна адна з разнавіднасцей водаскідных каналаў). Праз некалькі кіламетраў вада з такога канала зноў уліваецца ў рэчышча.

На каналах будуюцца масты, шлюзы-рэгулятары і трубы-рэгулятары для таго, каб у малаводныя гады ці ў працяглыя засушлівыя перыяды ўлетку не дапусціць празмерна нізкага апускання грунтавых водаў, што вядзе да страты ўраджаю палеткаў і сенажацяў.

На Беларусі меліярацыйнымі каналамі часта называюць каналізаваныя рэкі, якія маюць вадазбор да некалькіх соцень квадратных кіламетраў, значныя сярэднегадавы▪ расходы вады (больш падрабязна пра іх гл. вышэй).

Тэрмічны рэжым каналаў у бязлёдавы перыяд амаль не адрозніваецца ад рэжыму суседніх рэк. Для гідралагічнага рэжыму каналаў характэрна, як правіла, значная ступень зарэгуляванасці сцёку. Фауна і флора ў каналах, зразумела, значна бяднейшая, чым у навакольных прыродных вадаёмах і рэках. У некаторыя каналы заходзіць на нераст рыба, каля іх гняздуюцца вадаплаўныя птушкі, на Палессі часам у іх трапляецца андатра, пасяляюцца бабры.

## РЭКІ

На Беларусі 20,8 тыс. рэк, іх агульная даўжыня 90,6 тыс. км. Яны належаць вадазборам Чорнага (Дняпро з Прыпяццю; збіраюць ваду з 56 % тэрыторыі Беларусі) і Балтыйскага мораў (Нараў з Бугам, Нёман, Заходняя Дзвіна і Ловаць; дрэніруюць 44 % тэрыторыі рэспублікі), водападзелам пры гэтым служыць Беларуская града. Найбольшыя рэкі (даўжыня больш за 500 км): Бярэзіна (цячэ цалкам па тэрыторыі Беларусі), Нёман (пачынаецца на Беларусі), Сож, Прыпяць, Заходняя Дзвіна і Дняпро (транзітныя). Рэк даўжынёй 101—500 км — 42, іх сумарная даўжыня 6,7 тыс. км. Самых малых рэк і ручаёў (даўжыня да 10 км) — 19,3 тыс., іх агульная даўжыня 48,8 тыс. км. Найбольш распаўсюджаны на Беларусі раўнінныя малыя рэкі, якія працякаюць у адносна неглыбокіх, добра распрацаваных шырокіх далінах са спадзістымі схіламі. Яны маюць складзеныя з лёгкаразмыўных грунтоў звілістыя рэчышчы з чаргаваннем плёсаў і перакатаў, невялікія нахілы воднай паверхні, павольнае цячэнне. У межах узвышшаў даліны рэк больш выразныя, цячэнне іх больш хуткае; месцамі, асабліва ў вярхоўях, такія рэкі працякаюць у ярах, берагі іх стромкія, узроўні вады пры раставанні снегу і значных дажджах могуць павышацца на 2—3 ▪, але затым



Рака Цяруха

**Асноўныя характарыстыкі гідралагічных раёнаў**
(разлічаны для рэк з плошчай вадазбору 1000 км$^2$ за сярэдні па воднасці год)

| Раёны і падраёны | Сярэдні шматгадовы модуль сцёку за год у л/с з 1 км$^2$ | Сезонны сцёк у % ад гадавога | | |
|---|---|---|---|---|
| | | вясна (III—V) | лета — восень (VI—XI) | зіма (XII—II) |
| Заходнядзвінскі | | | | |
| падраён а | 7,0 | 61 | 29 | 10 |
| падраён б | 6,8 | 66 | 23 | 11 |
| Верхнедняпроўскі | | | | |
| падраён а | 6,7 | 70 | 23 | 7 |
| падраён б | 6,4 | 68 | 23 | 9 |
| падраён в | 5,5 | 68 | 22 | 10 |
| Вілейскі | | | | |
| падраён а | 7,2 | 48 | 36 | 16 |
| падраён б | 7,5 | 40 | 40 | 20 |
| Нёманскі | 6,0 | 45 | 35 | 20 |
| Цэнтральнабярэзінскі | | | | |
| падраён а | 5,6 | 52 | 32 | 16 |
| падраён б | 4,9 | 60 | 25 | 15 |
| Прыпяцкі | | | | |
| падраён а | 4,1 | 69 | 19 | 12 |
| падраён б | 3,5 | 59 | 26 | 15 |
| падраён в | 3,6 | 49 | 28 | 23 |

хутка спадаць. На поўдні Беларусі шмат рэк, якія цякуць па балотах або маюць значныя забалочаныя прасторы ў складзе сваіх вадазбораў. Для іх характэрны зацяжное разводдзе і паводкі, паніжаны меженны сцёк. На поўначы Беларусі значную частку складаюць рэкі, якія выцякаюць з азёр або цякуць праз іх. Яны характарызуюцца параўнальна нізкімі паказчыкамі максімальнага сцёку і павышаным сцёкам у межань, больш працяглым разводдзем у параўнанні з іншымі рэкамі тых жа фізіка-геаграфічных рэгіёнаў. За вытокі рэк звычайна прымаюцца месцы, з якіх паяўляецца пастаяннае рэчышча патоку. На Беларусі гэта найчасцей крыніцы, балоты, радзей азёры. У рачной сістэме з вялікай колькасцю вытокаў галоўным лічыцца найбольш аддалены ад вусця ці найбольш мнагаводны. Калі вярхоўе ракі, што выцякае з балота, каналізавана, за выток прымаюць пачатак асноўнага асушальнага канала, які з'яўляецца працягам ракі ўверх па цячэнні, у рэках, якія часова перасыхаюць,— месца на дне лагчыны ці яра, дзе назіраюцца сляды рэчышча, распрацаванага снегавымі ці дажджавымі водамі.

Рэчышчы характэрных для Беларусі раўнінных і нізінных рэк звычайна звілістыя, месцамі падзелены на рукавы. Ва ўзвышаных раёнах рэчышчы больш выразныя, без рукавоў і пратok. З наносаў у іх фарміруюцца рэчышчавыя ўтварэнні — перакаты, косы, астравы, мелі, асяродкі і пляжы. Пры разводдзях і паводках вада не ўмяшчаецца ў рэчышчах і выходзіць на пойму. На поўначы Беларусі рэчышчы звілістыя, неразгалінаваныя, у асноўным устойлівыя. Шырыня іх пераважна 10—20 м, у ніжніх цячэннях 30—50 м. Шырыня буйных рэк звычайна 80—120 м, месцамі да 300—500 м. Пераважныя глыбіні рэк 0,5—1 м, на плёсах 2—4 м, месцамі да 8 м. Дно рэк пясчанае і пясчана-ілістае, на паўночным захадзе месцамі камяністае і парожыстае. На поўдні Беларусі рэчышчы неканалізаваных рэк звілістыя, разгалінаваныя, на многіх рэках часта сустракаюцца старыцы, пратокі, меліярацыйныя канавы. Шырыня рэчышча мяняецца ад 5—10 м у вярхоўях да 20—40 м у ніжніх цячэннях, месцамі павялічваючыся да 60—80 м. Глыбіні на перакатах



Па рацэ Іслач

большасці такіх рэчышчаў 0,1—0,3 м, на плёсах да 2 м, у асобных ямах да 7 м. Часта трапляюцца пясчаныя нізкія астравы. Правыя берагі на рэках мерыдыянальнага напрамку часцей больш высокія, абразійныя, левыя — нізінныя акумуляцыйныя. Вышыня берагоў звязана з марфалогіяй і геалогіяй рэльефу, аказвае ўплыў на ваганне ўзроўню паверхні вады ў рэках (да 12 м на асобных участках Дняпра і Заходняй Дзвіны). Пераважаюць пясчаныя берагі, на поўдні часта суглністыя. Даліны рэк на Беларусі займаюць амаль 10 % усёй тэрыторыі. На поўдні ад мяжы апошняга (паазерскага) зледзянення сучасныя даліны шырокія, адносна мелкія, звычайна асіметрычныя ў папярочным сячэнні; правыя схілы, што доўгі час падмываліся рэкамі, больш высокія і стромкія, чым левыя. Самыя маладыя даліны на Беларускім Паазер'і. Яны пачалі ўтварацца 16—14 тыс. гадоў назад, калі вобласць апошняга зледзянення хутка вызвалялася ад ледавіковага покрыва. Даліны тут звычайна глыбокія (20—30 м) і адносна вузкія, месцамі каньёнападобныя, са стромкімі схіламі; поймы вельмі вузкія або адсутнічаюць. У развітых поймавых далінах вылучаецца шырокае і плоскае дно, занятае поймай, якая перыядычна затапляецца ў разводдзе, меЖаннае рэчышча ракі і схілы з тэрасамі. Вышыня поймаў над межанным узроўнем у рачных далінах Палесся 0,5—3 м, цэнтральнай і паўночнай частках рэспублікі — ад 1,5—4 да 6 м. Сярэдняя густата рачной сеткі Беларусі 0,44 км/км$^2$ (з ваганнямі ад 0,8 да 0,3 км/км$^2$). На поўдні рэспублікі ў Беларускім Палессі шмат каналізаваных рэк (Арэса, Ведрыч, Іпа, Сведзь, Віць, Ненач і інш.) і меліярацыйных каналаў на балотах, што павышае густату гідраграфічнай сеткі. Нахілы рэк Беларусі вагаюцца на розных участках і розных мясцовасцях ад 0,1 да 2—3 ‰ (гэта значыць ад 10 см да 2—3 м на 1 км). На поўначы нахілы малых рэк 2—3 ‰, сярэдніх 0,5—08 ‰, вялікіх 0,1—0,2 ‰, на поўдні малых і сярэдніх рэк адпаведна 1—1,5 ‰, 0,2—0,3 ‰. Нахілы каналізаваных рэк 0,3—0,4 ‰. Сярэднія скорасці цячэння вялікіх і сярэдніх рэк 0,5—0,7 м/с, на перакатах 0,8—1,5 м/с, на плёсах 0,1—0,3 м/с. Максімальныя скорасці назіраюцца ў час разводдзя і паводак, мінімальныя — у межань. Асноўная крыніца жыўлення рэк — частка атмасферных ападкаў, якая не губляецца на выпарэнне і транспірацыю, а трапляе па паверхні ці пад зямлей у рэкі. У цёплы перыяд года вада дажджоў сцякае непасрэдна пасля выпадзення, у халодны — снег намнажаецца на паверхні вадазбораў і вада сцякае вясною пасля яго раставання. Рэкам Беларусі характэрна выразнае веснавое разводдзе і параўнальна ўстойлівыя летне-асенняя і зімовая межані, якія часам парушаюцца паводкамі ад дажджоў летам і ў час адліг зімой. Сярэдняе перавышэнне разводдзя над самым нізкім летнім узроўнем на вялікіх рэках складае ад 1,5 м да 7 м у залежнасці ад водных умоў года, на сярэдніх і малых рэках прыкладна ўдвая ніжэй. Разводдзе самае кароткае ў бас. Нёмана (30—50 сут), самае працяглае — у бас. Прыпяці (да 120 сут). Яно суправаджаецца затапленнем поймаў рэк, а ў асобныя гады (1931, 1956, 1958, 1962, 1967, 1979) — і населеных пунктаў. Шырыня разліваў можа дасягаць ад 1,5 км да 15 км (Прыпяць), глыбіня затаплення ад 0,3—0,8 м на шырокіх поймах рэк да 2 м на вузкіх. Летне-асенняя межань, калі ўзроўні вады найбольш нізкія, доўжыцца ў бас. Заходняй Дзвіны 160—180 сут, Прыпяці 135—165 сут, на астатніх рэках 190—205 сут. У сухую летнюю межань малыя рэкі, а на Палессі ў асабліва засушлівыя гады і асобныя вадатокі з плошчай вадазбору 1200—1300 км$^2$, часам перасыхаюць. Летне-асен-



Рака Сож каля Гомеля

няя межань амаль штогод парушаецца дажджавымі паводкамі. У час найбольш высокай з іх (у лістападзе — снежні 1974 у басейнах Прыпяці, Буга і сумежных раёнах Польшчы) пад'ём узроўню дасягнуў вышыні веснавога разводдзя, шматлікія сельскія населеныя пункты, сельскагаспадарчыя ўгоддзі аказаліся пад вадой. Працяг зімовай межані ў сярэднім 85—110 сут. На рэках Беларусі пераважная большасць рачнога сцёку праходзіць вясной пры раставанні снегу (да 77 % гадавога сцёку). Агульнае памяншэнне веснавога сцёку назіраецца з Пн на Пд і гадавога сцёку — з ПнУ на ПдЗ. На перыяд летне-асенняй межані прыпадае 18—43 % гадавога сцёку, зімовай 4—25 %. Нярэдка ў перыяд зімовых адліг на рэках назіраюцца паводкі, што асабліва характэрна для заходніх і паўднёвых частак Беларусі. Сярэдні шматгадовы сцёк рэк Беларусі складае 36,4 км³ (без транзітнага сцёку). З іх на Дняпро прыпадае 31 %, Прыпяць — 22, Заходнюю Дзвіну — 18, Нёман — 25, Буг — 4 %. З тэрыторыі сумежных з Беларуссю дзяржаў па рэках паступае каля 22 км³ вады (каля 70 % яе з Расіі, 30 % — з Украіны). Адток вады ў суседнія рэспублікі размяркоўваецца так: каля 56 % — на Украіну, 25 % — на тэрыторыю Латвіі, 17 — у Літву, 2 % — у Расію і Польшчу. Зімой рэкі замярзаюць на 80—140 сут. Таўшчыня лёду на іх на Пн і ПнУ 29—64 см, на З і ПдЗ 22—57 см, на Пд 17—45 см. У асобныя суровыя зімы некаторыя рэкі могуць прамярзаць да дна, але гэта з'ява для тэрыторыі рэспублікі не характэрна. У мяккія зімы ледаставу часам не бывае. Сярэднемесячная тэмпература вады ў рэках у ліпені складае 19—22 °С (у асобныя найбольш гарачыя дні 23—27 °С) з максімумам у 16—18 гадзін і мінімумам у 6—8 гадзін. Паводле прыблізных падлікаў, рэкі штогод выносяць за межы Беларусі каля 1,2 млн. т завіслых наносаў і каля 6,5 млн. т (31,4 т/км² за год) растворанных рэчываў у выглядзе іоннага сцёку, паказчык якога (т/км² за год) вагаецца ад 64,6 (басейн Ашмянкі) да 16—24 (басейн Прыпяці). Змяненне рэжыму або ўзнікненне на рэках пэўных працэсаў з рознай ступенню дакладнасці прадказваюць гідралагічныя прагнозы, якія на Беларусі складаюцца з 1931 г. ўстановамі Гідраметэаслужбы. Паводле гідралагічнага рэжыму паверхневых водаў, на Беларусі вылучана 6 гідралагічных раёнаў: Заходнядзвінскі, Верхнедняпроўскі, Вілейскі, Нёманскі, Цэнтральнабярэзінскі, Прыпяцкі (гл. табліцу). На рэках Беларусі існуе каля 200 пастоў і пунктаў, абсталяваных для гідралагічных назіранняў: вызначэння ўзроўняў вады, вымярэння расходаў вады і завіслых наносаў, адбору проб вады на каламутнасць і хімічны аналіз і інш. Амаль усе рэкі выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы. Воды вялікіх і сярэдніх рэк (акрамя ўчасткаў у межах вялікіх гарадоў і за 30—50 км ніжэй іх) маюць добрыя хімічныя і санітарна-бактэрыялагічныя ўласцівасці, прыдатныя для тэхнічнага і гаспадарча-пітнога водазабеспячэння. Рэкі Беларусі здаўна служылі шляхамі зносін мясцовага і міжнароднага значэння. Праз Беларусь праходзіў так званы шлях «з варагаў у грэкі», важнае значэнне мае Дняпроўска-Бугскі канал. Патэнцыяльныя гідраэнергарэсурсы рэк Беларусі складаюць каля 900 тыс. кВт, працуе некалькі невялікіх ГЭС, найбольшая на Свіслачы каля Асіповіч. Агульная даўжыня суднаходных шляхоў Беларусі 3,9 тыс. км. Найбольш развіта суднаходства на Дняпры, Прыпяці, Бярэзіне, Сажы. Па асобных рэках, перш за ўсё па Прыпяці, Гарыні, Сажы, Дняпры, Заходняй Дзвіне, у асобныя гады праводзяць лесасплаў. У рэках Беларусі жывуць 18 абарыгенных відаў рачных рыб і 24 віды азёрна-рачных рыб. Найбольшае прамысловае значэнне маюць плотка, шчупак, лешч, акунь. Ловяць таксама судака, сазана, карася, гусцяру, верхаводку; месцамі трапляюцца лінь, гальян звычайны, галец, падуст, белавочка, чахонь, джгір-насар, бычок-пясочнік, галавень, быстранка, ялец і інш. Прамысловая здабыча рыбы на рэках у 1989 г. склала каля 590 т (у 1985 г.— больш за 760 т). Забаронена здабыча сцерлядзі, ручаёвай стронгі, звычайнага харыуса, рыбца, вусача. Згодна з правіламі аховы рыбных запасаў, аматарскае рыбалоўства вядзецца на ўсіх рэках, прамысловае — на працягу амаль 4,6 тыс. км вялікіх і сярэдніх рэк. Многія рэкі з'яўляюцца водапрыёмнікамі меліярацыйных сістэм, крыніцамі вады на арашэнне, на пітное і тэхнічнае водазабеспячэнне. На берагах рэк ствараюцца зоны адпачынку: Беразіно, Масты, Стоўбцы, Дняпро, Гарадок і інш.; курорты — Горваль, Рагачоў, Ушачы. Рэкі падлягаюць пільнай ахове ад забруджвання і вычарпання, якія у выніку змянення фізічных, хімічных, біялагічных уласцівасцей водаў, зніжэння іх здольнасці да самаачышчэння, парушэння гідралагічнага і гідрагеалагічнага рэжыму могуць прычыніць шкоду здароўю чалавека, а таксама прывесці да памяншэння рыбных запасаў, пагаршэння ўмоў водазабеспячэння і іншых негатыўных з'яў. Прадугледжаны і ажыццяўляюцца некаторыя мерапрыемствы па ахове малых рэк, устаноўлены водаахоўныя зоны ўздоўж вялікіх і сярэдніх рэк. Праводзіцца частковае ўмацаванне берагоў, якія разбураюцца. Асабліва пільна ахоўваюцца берагаахоўныя лясы ў паласе 0,3 км абапал берагоў рэк. Лясы ў паласе 1—6 км ад вялікіх і сярэдніх рэк абвешчаны ахоўнымі. Уздоўж Дняпра да ўпадзення Бярэзіны па абодва берагі на 6 км (ніжэй — на 3 км) забараняецца высечка лясоў; уздоўж Нёмана — на 4 км, Заходняй Дзвіны, Бярэзіны (басейн Дняпра), Сажа, Прыпяці, Віліі, Мухаўца і Піны — на 3 км, Друці — на 1,5 км, Свіслачы (басейн Дняпра) — на 1 км, а для малых рэк — не менш за 500 м. Назіранні за чыстатой вады ў рэках вядуць на ўсіх гідралагічных пастах, па асобнай праграме — на гідралагічных пастах каля вялікіх гарадоў. Па якасным складзе воды рэк рэспублікі ў пераважнай большасці адносяцца да катэгорыі ўмерана забруджаных (ІЗВ — індэкс забруджання вады — роўны 1—2,5). Гэта рэкі Дняпро і Сож (на ўсім працягу), Бярэзіна (у раёне г. Светлагорск), Прыпяць (вышэй г. Пінск), Свіслач (у межах Мінска), Жадунька (у г. Касцюковічы), Іпуць (у г. Добруш), Нёман (амаль увесь), Мухавец (каля г. Кобрын), Лідзея (ніжэй г. Ліда), Ула, Палата, Ушача, Шчара (у г. Слонім), Рось (у г. Ваўкавыск), Котра (ніжэй г. Скідзель, Уша (у г. Маладзечна). Да катэгорыі чыстых (ІЗВ менш за 1) адносяцца воды наступных рэк: Бярэзіны — у верхнім цячэнні да г. Барысаў, Свіслачы — у верхнім цячэнні да в. Дразды, Беседзі — да в. Свяцілавічы, Случы — да г. п. Старобін, Заход-

няй Дзвіны — вышэй Віцебска, Віліі — вышэй г. Смаргонь, Мухаўца — вышэй г. п. Жабінка, Котры — вышэй г. Скідзель. Вельмі забруджаны (ІЗВ = 2,5—4) з'яўляюцца воды рэк: Бярэзіны — вышэй г. Бабруйск, Свіслачы — ніжэй Мінска, Прыпяці — ніжэй г. Пінск, Нёмана — ніжэй г. Масты, Мухаўца — каля г. Брэст, Узы — каля г. Гомель, Добасны ў нізоўях, Ясельды ў вярхоўях. Павышэнне воднасці малых рэк дасягаецца шляхам аховы іх вытокаў (крыніц), будаўніцтва вадасховішчаў, запруд, плацін для рэгулявання сцёку. Аднак вялікая колькасць прамысловых сцёкаў, знос з палёў угнаенняў, якія ўносяцца без належнага кантролю і ўліку, цяжкасці з абясшкоджваннем вялікай колькасці сцёкаў з буйных жывёлагадоўчых комплексаў прыводзяць да значнага забруджвання прыродных водаў. На ПдУ, у зоне ўплыву катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986 г.), рэкі ў значнай ступені забруджаны радыенуклідамі, каля Салігорска на якасць прыродных водаў адмоўны ўплыў аказваюць солі з адвалаў калійных камбінатаў.

# А




**Возера Абаб'е.**

**АБА́Б'Е,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,9 м.**
**Даўжыня 3,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,87 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 10,5 км.**
**Аб'ём вады 2,54 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 32,8 км².**

У бас. Друйкі, за 16 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Абаб'е. Берагавая лінія звілістая, утварае некалькі доўгіх вузкіх заліваў. Пойма балоцістая. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пароcлыя лесам і хмызняком, на 3 разараныя. Берагі нізкія. Дно плоскае, уздоўж берагоў пясчанае. Зарастае падводнай расліннасцю па ўсёй плошчы. Пратокамі злучана з азёрамі Дубра, Вялікая Ельня, Дуброк, з возера выцякае р. Абабіца.

**АБА́БІЦА,** рака ў Браслаўскім р-не, левы прыток Друйкі (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4 км. Выцякае з воз. Абаб'е, вусце каля в. Веркаўшчына. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**АБАКРЫТЭ́ЛІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Пл. вадазбору 2,25 км².**

У бас. р. Прорва, за 23 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Вайнюнцы. Зарастае. Злучана ручаём з р. Прорва.

**АБАЛЯ́НКА,** рака ў Талачынскім і Сенненскім р-нах, левы прыток Лучосы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 89 км.**
**Пл. вадазбору 809 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Данілкава ў Талачынскім р-не на Аршанскім



**Возера Абаб'е.**

узвышшы, цячэ па Чашніцкай раўніне ў Сенненскім р-не, у ніжнім цячэнні — на мяжы з Віцебскім р-нам па Лучоскай нізіне. Асноўныя прытокі: Камянчанка (злева), Нерайшанка, Чудзінка (справа). Даліна трапецападобная, шырыня 0,6—0,8 км, у ніжнім цячэнні да 2 км. Пойма 2-баковая, шырыня 0,2—0,3 км, вышэй в. Дубаўцы каля 0,5 км. Рэчышча



**Рака Абалянка каля вёскі Обаль у Сенненскім раёне.**

звілістае, шырыня 5—10 м. Каля в. Утрылава Талачынскага р-на на рацэ плаціна і Утрылаўская сажалка пл. 27 га.

**АБАРО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца ў забалочаным урочышчы Чырвонае, упадае ў Шчару за 3,5 км на ПдЗ ад в. Дабромысль.

**АБВАДНЫ́ КАНА́Л,** гл. *Скідны канал.*

**АБЁДАЎКА,** Д р а н е ў к а, меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток канала Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 30 км. Пл. вадазбору 130 км². Пачынаецца за 4 км на З ад в. Вязавіца, цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе. Упадае ў канал Ненач за 12 км ад вусця. Рэчышча каналізаванае.

**АБІ́ДА,** возера ў Крупскім р-не.

**Пл. 0,64 км².**
**Найбольшая глыбіня 17 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Пл. вадазбору 327 км².**

У бас. р. Югна (выцякае з возера), за 30 км на Пн ад г. п. Крупкі, на Пн ад воз. Сялява. Схілы катла-

віны парасл і хмызняком. Злучана пратокай з воз. Сялява.

**АБОЛЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 4,67 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,2 м.**
**Даўжыня 6,55 км.**
**Найбольшая шырыня 1,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 17,6 км.**
**Аб'ём вады 14,2 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 744 км².**

У бас. р. Дрысвята (працякае праз возера), за 22 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Дварышча. Падводная частка катлавіны возера мае 2 плёсы: паўночны невялікі мелкаводны і паўднёвы глыбокі. Схілы вышынёй да 15 м. Берагі пясчаныя, на ПдУ забалочаныя, парасл і хмызняком, 2 астравы агульнай пл. 1,6 га. Дно да глыбіні 1 м пясчанае, глыбей — ілістае. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 30—600 м.



Возера **Аболе.**

**АБОЛЬКА,** рака, гл. *Вярэдаўка.*

**АБРАЗЦЫ,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**

У бас. р. Бярозка, за 15 км на ПнУ ад г. Сянно, за 0,5 км на У ад в. Меліхава. Злучана пратокай з воз. Альшанка.

**АБРАМАЎШЧЫНА,** рака ў Шчучынскім і Мастоўскім р-нах, левы прыток Ельні (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Новая Ражанка Шчучынскага р-на, упадае ў Ельню за 2 км на ПдУ ад в. Галынка. На працягу 4,5 каналізаваная (ад в. Мікелеўшчына да вусця). На рацэ каля в. Мікелеўшчына сажалка.

**АБРОВА,** вадасховішча ў Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 1,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**
**Даўжыня 1,82 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Аб'ём вады 7,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 268 км².**

На меліярацыйным канале Галоўны (бас. Ясельды) за 16 км ад вусця, за 30 км на ПдУ ад г. Івацэвічы, каля в. Аброва. Створана ў 1985 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 33,1 млн. м³.

**АБРОЎСКІ КАНАЛ,** Алеская канава, Галоўны канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток канала Гарчакоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 20,6 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Вялікая Гаць, вусце за 6,5 км на ПнУ ад в. Тышкавічы Іванаўскага р-на. Упадаюць каналы Аброўскі 1-ы (справа) і Страла (злева).

**АБРУЧОЎКА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца каля в. Броўшчына, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Замасточча. Сярэдняе і ніжняе цячэнне ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**АБСТЭРНА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 9,89 км².**
**Найбольшая глыбіня 12 м.**
**Даўжыня 5,5 км.**
**Найбольшая шырыня 2,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 18,8 км.**
**Аб'ём вады 50 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 114 км².**

У бас. р. Вята, за 14 км на З ад г. Міёры, каля в. Пераброддзе. На У да возера прымыкае гідралагічны заказнік Балота Мох. Уваходзіць у Абстэрнаўскую групу азёр. Схілы катлавіны возера вышынёй да 10—15 м, зарослыя лесам, на У разараныя. Берагі пясчаныя. Дно складанай будовы да глыбіні 5—6 м пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Расліннасць (пераважна чарот, трыснёг) уздоўж берагоў утварае паласу шыр. 100—150 м. Злучана ручаём з воз. Укля, пратокамі з азёрамі Важа і Набіста. У 1967 узровень возера штучна падняты на 1 м.

**АБСТЭРНАЎСКАЯ ГРУПА АЗЁР,** на мяжы Браслаўскага і Міёрскага р-наў, у бас. р. Вята. Уключае 13 азёр (агульная пл. 32 км², аб'ём вады 140 млн. м³), злучаных сістэмай мелкаводных забалочаных пратокаў. Найбольшыя з іх: Абстэрна, Укля, Набіста, Важа, Інава (гл. картасхему). Азёры дрэніруюцца р. Хараброўка, якая пачынаецца з воз. Набіста, цячэ праз воз. Шчоўна, выцякае з яго пад назвай Вята. Размешчана паміж адгор'ямі Браслаўскай марэннай грады і Полацкай азёрна-ледавіковай нізінай. З У да азёр прымыкае гідралагічны заказнік Балота Мох. У 1960-х гадах, пасля будаўніцтва плаціны на Харабро ўцы, узровень азёр павысіўся на 80—100 см, што спрыяла іх «амаладжэнню» і паляпшэнню фізіка-хімічнай якасці вады. Маюць рыбапрамысловае значэнне, выкарыстоўваюцца для адпачынку і турызму.

**АБУХАЎСКАЕ,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**

У бас. р. Віцьба, за 12 км на У ад Віцебска, за 0,2 км на Пн ад в. Астраўне. Схілы катлавіны на Пн і Пд стромкія, вышынёй 20—25 м, пад выганам; на З і У забалочаная пойма шырынёй да 100 м. Выцякае ручай Горнаўка.




Возера **Аболе.**




Возера **Абстэрне.**

**АБУ́ХАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глыбоцкім і Міёрскім р-нах, правы прыток Ісцянкі (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 11,9 км. Пачынаецца за 1,4 км на У ад в. Ялоўцы Глыбоцкага р-на, вусце каля в. Дранькі Міёрскага р-на.

**АБЧУ́ГА,** Палянка, рака ў Талачынскім і Крупскім р-нах, правы прыток Бабра (бас. Дняпра). Даўжыня 14 км. Пл. вадазбору 64 км². Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰. Пачынаецца каля в. Ліцвякі Талачынскага р-на, вусце каля в. Абчуга Крупскага р-на. У верхнім цячэнні каналізаваная.

**АВУ́ТА,** рака ў Глыбоцкім і Міёрскім р-нах, правы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 47 км.**
**Пл. вадазбору 461 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Выцякае з воз. Падавута на ўскраіне Свянцянскіх град, далей цячэ па Полацкай нізіне. Асноўныя прытокі: Нехрысць і Ісцянка (справа), Улінец (злева). Упадае ў Дзісну за 3 км на ПдЗ ад г. Дзісна. Даліна трапецападобная, шырыня 150—250 м. Пойма высокая, шырыня 100—150 м. Рэчышча слабазвілістае, шырыня 4—6 м у вярхоўі, 8—10 м у ніжнім цячэнні. Каля в. Ялоўцы на рацэ плаціна і сажалка пл. 18,3 га.

**АГАРАДЖА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток Манасееўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 5 км на ПнЗ ад в. Чырвоная Воля, вусце за 9 км на ПнУ ад в. Барсукова.

**АГАРАДЖА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** Няхачаўскі канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Няхачава, вусце за 0,5 км вышэй моста на дарозе, за 7 км на З ад в. Корачын.

**АГАРАДЖА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 6 км на Пн, упадае ў Бобрык за 5 км на ПнУ ад в. Ліпнікі.

**АГАРАДЖА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца з канала Ракітна за 1,5 км на ПнЗ ад в. Навасёлкі, вусце каля в. Велута.

**АГАРО́ДНІЦКІ РУЧА́Й,** у Гродзенскім р-не, правы прыток Котры (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Абухава, упадае ў Котру каля в. Агароднікі.

**АГЕ́ЙХА,** Капаткевіцкі канал, меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 5 км на З, вусце за 2 км на Пд ад г. п. Капаткевічы. Прыток — Аўрамаўскі канал (справа).

**АГІ́НСКІ КАНА́Л,** у Пінскім і Івацэ-



**Абстэрнаўская група азёр.**


**Возера Абстэрна.**

віцкім р-нах, частка былога Дняпроўска-Нёманскага шляху. Праз Шчару і Ясельду злучае басейны рэк Нёмана і Прыпяці. Даўжыня (разам з Выганашчанскім возерам) 54 км. Будаваўся ў 1767—83 па ініцыятыве магната М. К. Агінскага для перавозу грузаў, пераважна лесу. Да 1941 суднаходны, потым абмялеў. Складаецца з 2-х частак, якія пачынаюцца з воз. Выганашчанскае: 1-я (даўжыня 3,5 км) упадае ў Шчару за 3,5 км на Пн ад воз. Выганашчанскае, 2-я (даўжыня 46 км) — у Ясельду за 1 км на ПнУ ад в. Мерчыцы Пінскага р-на. Прымае сцёк з Краелевіцкага (справа), Целяханскага і Хварашчанскага (злева) каналаў і густой сеткі асушальных канаў.

**АГНЁШ,** Агнеж, рака ў Гарадоцкім р-не (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 48 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Выцякае з воз. Заляшно, цячэ па Лучоскай нізіне. Упадае ў воз. Езярышча з ПдУ. Рэчышча каналізаванае ад вытоку да в. Горкі (4,6 км) і ў ніжнім цячэнні (ад вусця на 4,1 км уверх).

**АГУРНЕЎКА,** рака ў Глыбоцкім р-не, левы прыток р. Свіліца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Шарагі Падсвільскага пассавета, вусце за 2,5 км на ПнУ ад в. Стрынадкі таго пассавета.

**АДАМЕНКА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 65 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,3 км на ПнУ ад в. Чарналессе, вусце каля в. Новы Быхаў. Каналізавана амаль на ўсім працягу, акрамя невялікіх участкаў у нізоўі.

**АДВОДЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,3 км$^2$.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Пл. вадазбору 31,8 км$^2$.**

У бас. р. Крашанка, за 24 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,7 км на ПнЗ ад в. Старынкі, сярод лесу. Злучана ручаём з воз. Зыкаўскае, на Пд выцякае ручай у р. Крашанка.

**АДВОРАНСКАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,25 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,7 м.**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Аб'ём вады 0,96 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,3 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 200 м ад в. Адворня. Схілы катлавіны возера вышынёй 3—5 м, на ПдЗ да 8 м. Берагі сплавінныя. Дно выслана сапрапелем. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 1,5—2 м, шырыня паласы — да 35 м. Выцякае ручай у воз. Янова.



**Рака Адроў каля вёскі Забалацце ў Аршанскім раёне.**

**АДРОЎ,** рака ў Аршанскім, Сенненскім і Талачынскім р-нах, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 75 км.**
**Пл. вадазбору 676 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,4 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца меліярацыйнай канавай каля в. Дубніцы Аршанскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне г. Оршы. Асноўныя прытокі: Камяніца, Дзярноўка, Сакалянка, Барань (усе справа). Цячэ па Аршанскім узвышшы. Даліна выразная, да в. Пагост трапецападобная, ніжэй карытападобная, шырынёй 0,6—0,8 км. Пойма пераважна двухбаковая, шырынёй 0,1—0,3 км. Рэчышча ў вярхоўі на 12,5 км да в. Пількавічы Сенненскага р-на каналізаванае, далей звілістае, шырыня ракі ў межань 15—20 м. Берагі ў вярхоўі нізкія, у сярэднім і ніжнім цячэнні стромкія і абрывістыя, вышынёй 5—7 м, месцамі да 20 м. На рацэ каля в. Дубніцы плаціна і сажалка (пл. 1 га), у пойме каля в. Барань Аршанскага р-на наліўная сажалка (пл. 2 га), на берагах у ніжнім цячэнні — г. Барань.

**АДРЫЖЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Віўнева. Упадае ў Пясчанае возера з ПдУ, за 1,5 км ад в. Адрыжын.

**АЖЭХАВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,64 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,3 м.**
**Даўжыня 1,53 км.**
**Найбольшая шырыня 0,71 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,4 км.**
**Аб'ём вады 1,12 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 19,4 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 10 км на ПнЗ ад г. Браслаў, каля в. Крукі. Схілы катлавіны вышынёй 7—12 м, на Пн 2—3 м. Берагі параслі хмызняком, на З забалочаныя, на Пн зліваюцца са схіламі. Дно плоскае, сапрапелістае, каля берагоў пясчанае і пясчана-галечнае. Зарастае. Выцякае ручай у воз. Саванар.

**АЗАРАНСКАЕ ВОЗЕРА,** Азаранкаўскае возера, на мяжы Лепельскага і Ушацкага р-наў.

**Пл. 0,35 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 1,9 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,59 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 км.**




**Адворанскае возера.**




**Возера Ажэхава.**




Возера Азерцы.

Аб'ём вады 0,4 млн. м³.
Пл. вадазбору 5,6 км².

У бас. р. Ула, за 15 км на Пн ад г. Лепель, каля в. Азаранкі Ушацкага р-на. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, параслі хмызняком. Берагі забалочаныя, тарфяністыя. Дно выслана сапрапелем. Сцёк па ручаю ў р. Вароніца.

**АЗАРО́НАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,92 км.

У бас. р. Аўсянка, за 22 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 5 км на У ад в. Смалоўка. Вакол возера забалочаны хмызняк.

**АЗЁРЦЫ,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,19 км².
Найбольшая глыбіня 6,2 м.
Даўжыня 1,3 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Пл. вадазбору 57,7 км².




Возера Азярок.

У бас. р. Эса, за 11 км на ПнЗ ад г. Лепель, каля в. Забалацце. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, на У і З не выражаны, параслі хмызняком. Слаба зарастае. Праз возера працякае р. Зеха.

**АЗЁРКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,08 км².
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.

У бас. р. Мядзелка, за 3 км на Пн ад г. Паставы, за 2 км на ПнУ ад в. Заброддзе, у лясным масіве Пастаўская Дача. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, на Пд і У пад сельгасугоддзямі, астатнія пад лесам.

**АЗЁРНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца з р. Бобрык 2-і за 3,5 км на З ад в. Вялікія Сялюцічы, вусце за 5 км на ПнЗ ад чыг. ст. Капцэвічы.

**АЗЁРНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Каладнянскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Крукава, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Обчын.

**АЗЁРНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Выцякае з воз. Чырвонае, вусце за 5 км на ПдУ ад в. Замошша.

**АЗЁРНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Чабускага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Пласток, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Наўгальнае.

**АЗЁРЫ,** ручай у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Вір (бас. Дняпра).

Даўжыня 11,9 км.
Пл. вадазбору 40 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Панкратавічы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Стасеўка. Рэчышча каналізаванае ад вытоку да месца за 1 км на ПнЗ ад в. Малева (5,9 км).

**АЗЛО́МСКІ КАНА́Л,** гл. *Цахмінскі канал.*

**АЗЯРА́ЙЦЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,15 км².
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.

У бас. р. Дзісна, за 25 км на Пд ад в. Браслаў, за 4 км на Пд ад в. Мілашкі, сярод лесу. Выцякае ручай і меліярацыйны канал у р. Янка.

**АЗЯРА́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Мастоўскім р-не.

Пл. 0,49 км².
Найбольшая глыбіня 3,8 м.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,55 км.
Пл. вадазбору 25 км².

У бас. р. Сіпа (працякае праз возера), за 28 км на ПдУ ад г. Масты, каля в. Малыя Азёркі. Вакол возера забалочаная пойма. Уздоўж берагоў зарастае.

**АЗЯРКІ́,** возера, гл. *Азярок.*

**АЗЯРКО́,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,26 км².
Даўжыня 0,95 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Пл. вадазбору 3 км².

У бас. р. Ула, за 12 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Вял. Жэжліна. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, разараныя. Зарастае слаба.

**АЗЯРКО́,** возера на мяжы Полацкага і Ушацкага р-наў.

Пл. 0,03 км².
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,67 км.

У бас. р. Ушача, за 11 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 23 км на ПдЗ ад г. Полацка, за 1 км на У ад в. Старынкі (Полацкі р-н), сярод забалочанага хмызняку.

**АЗЯРКО́,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,15 км.
Найбольшая шырыня 0,10 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.

У бас. р. Шоша, за 35 км на У ад г. Глыбокае, за 0,3 км на ПдЗ ад в. Хралы, за 0,1 км на Пд ад воз. Івесь. Схілы катлавіны на З вышынёй да 3 м (на У да 5—7 м), разараныя. На Пн і Пд забалочаная пойма шырынёй 50 м. Злучана ручаямі з азёрамі Івесь і Белае.

**АЗЯРО́ДКА,** рака ў Мядзельскім р-не, левы прыток р. Добрая (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Выгалавічы, упадае ў р. Добрая за 1 км на ПнУ ад в. Азяроды. На працягу 4 км каналізаваная (1 км на ПнЗ ад в. Выгалавічы да вусця).

**АЗЯРО́К,** Азяркі, возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,28 км².
Найбольшая глыбіня 8 м.
Даўжыня 1,5 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,4 км.
Аб'ём вады 0,84 км³.
Пл. вадазбору 4,1 км².

У бас. р. Аўсянка, за 40 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 5 км на У ад воз. Цёста. Схілы катлавіны невыразныя, на Пд і ПдУ вышынёй 8—10 м, парослыя хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі пясчаныя і затарфаваныя. Дно плоскае, пясчанае, глыбей 2—2,5 м ілістае. Сцёк у р. Аўсянка. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 2—8 м. У возеры расце рэлікт даледавіковай флоры — вадзяны арэх плывучы — ахоўны від у флоры Беларусі (месца яго росту аб'яўлена помнікам прыроды).

**АЗЯРЦЫ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, у ва-

дазборы р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца з левага берага р. Поні каля моста на дарозе г. Докшыцы — г. п. Бягомль, упадае ў Камайскі канал за 1 км на ПнУ ад в. Нававольберавічы.

**АЗЯРЫШЧАНСКАЯ,** рака ў Веткаўскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад в. Казацкія Балсуны, у гэтай жа вёсцы ўпадае ў Беседзь. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**АКАЛЦЕЦКІ КАНАЛ,** у Мядзельскім р-не, левы прыток р. Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Канчані, упадае ў Вузлянку за 4,5 км на З ад в. Новыя Габы. Прымае сцёк з меліярацыйных сістэм.

**АКЕНЦА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.

У бас. Зах. Дзвіны, за 6 км на Пн ад Полацка, за 1,5 км на У ад в. Гамзёлева, у лясным урочышчы Зялёны Востраў. Вакол возера забалочаны хмызняк. Выцякае ручай у Зах. Дзвіну.

**АКІМАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Пінскім р-нах, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Краі Івацэвіцкага р-на, вусце за 1,1 км на Пн ад в. Забрадцы Пінскага р-на.

**АКМЯНІЦА,** Акменіца, рака ў Браслаўскім р-не (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 38 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Выцякае з возера без назвы на тэрыторыі Латвіі. Упадае ў воз. Струста з ПнЗ. Рэчышча ад вусця ўверх на 2,9 км каналізаванае.

**АКНІСТАЕ,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,17 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Волта (левы прыток Зах. Дзвіны), за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, на Пд ад воз. Белае, на балоце Мох у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Берагі забалочаныя, тарфяністыя. На Пн злучана ручаём з воз. Жучына.

**АКНО,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,15 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,32 км.

У бас. р. Званіца (левы прыток р. Дрыса), за 23 км на ПнЗ ад Полацка, за 0,2 км на У ад в. Балдышы. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на ПнУ 5—7 м, парослыя лесам. Выцякае ручай у р. Званіца.

**АКОЎКА,** рака, гл. *Іванаўка.*

**АКСЕНАВА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.

У бас. р. Нішча (левы прыток Дрысы), за 18 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 4 км на З ад в. Сасновы Бор, сярод лесу.

**АКУНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Палата (правы прыток Зах. Дзвіны), за 46 км на ПнУ ад г. Полацк, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Булыгі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м.

**АКУНЕВА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,49 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,8 м.
Даўжыня 0,97 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,7 км.
Аб'ём вады 1,69 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,4 км$^2$.

У бас. р. Мнюта, за 12 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 300 м ад в. Валодзькава. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, на ПдУ да 10—11 м. Берагі нізкія, пясчаныя і галечныя, на Пн і ПнУ тарфяністыя. Дно пясчанае, глыбей 2 м ілістае. Расліннасцю занята амаль палова плошчы возера. Злучана меліярацыйным каналам з воз. Пліса. На заходніх і паўночна-заходніх схілах ёсць крыніцы.

**АКУНЕВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,48 км.

У бас. р. Ушача, за 14 км на ПдЗ ад Полацка, за 2 км на Пд ад в. Гарчакі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 3 м. Берагі нізкія, на Пд ад возера забалочаны лес.

**АКУНЕВА,** возера ў Глыбоцкім р-не на мяжы з Полацкім.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.

У бас. р. Нача, за 38 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 1 км на Пн ад в. Асінаўка, за 0,2 км на З ад воз. Каравайна. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, парослыя забалочаным хмызняком, на ПдУ пад лесам. На У і Пд забалочаная пойма шырынёй 50 м. Упадае ручай з возера без назвы, выцякае ручай у воз. Каравайна.

**АКУНЕВА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 80 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Эса, за 12 км на ПдЗ ад Лепеля, за 1 км на З ад в. Рудня, сярод лесу. Уздоўж паўднёва-ўсходняга берага озавая града вышынёй да 12 м.




Возера Азярок.

**АКУНЕВА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,006 км$^2$.
Даўжыня 0,1 км.
Найбольшая шырыня 70 м.

У бас. р. Шоша, за 26 км на У ад г. Глыбокае, за 1,5 км на У ад в. Бабруйшчына, паміж азёрамі Крывое і Белае. Берагі парослі хмызняком.

**АКУНЕВЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
Даўжыня 0,65 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.




Возера Акунёва (Глыбоцкі раён, плошча 0,49 км$^2$).

У бас. р. Хонка, за 22 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПдЗ ад в. Вароніна, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, на З да 3 м. Берагі высокія, на У зліваюцца са схіламі.

**АКУНЁВЕЦ**, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,92 км.**

У бас. р. Нішча (правы прыток Дрысы), за 23 км на ПнУ ад г. п. Расоны за 3,2 км на ПдЗ ад в. Вароніна, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м. З заходняга берага забалочаная пойма.

**АКУНЁВЕЦ**, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Нішча (левы прыток Дрысы), за 7 км на У ад г. п. Расоны, за 3,8 км на ПдУ ад в. Дворышча (Бірузоўскі сельсавет), сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй ад 5 м на З да 10 м на У. На У, Пд і З балоцістая пойма.




Возера Акуніна.

**АКУНЁЎКА**, Свіервіца, рака ў Браслаўскім р-не (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 151 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Выцякае з воз. Даўблі, цячэ ў межах Браслаўскай грады. Упадае ў воз. Дрывяты з Пд. Асноўны прыток Сцервіца (справа). Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**АКУНЁЎЧЫК**, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Нішча, за 19 км на ПнУ ад г. п. Расоны, 1 км на Пн ад в. Старына 1-я. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, пад лесам.

**АКУ́НІНА**, возера ў Іванаўскім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 11,8 м.**
**Даўжыня 0,94 км.**
**Найбольшая шырыня 0,31 км.**
**Аб'ём вады 1,15 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,85 км$^2$.**

У бас. р. Піна, за 21 км на ПдУ ад г. Іванава, за 5 км на ПдУ ад в. Махро. Схілы катлавіны пясчаныя, нізкія, на З і Пд параслі лесам, на У забалочаныя. Берагі пясчаныя, на У вышынёй да 0,5—1 м, на З нізкія, на Пд тарфяністыя. У возера ўпадаюць 2 канавы, з паўночнага берага выцякае Завішчанскі канал, які ўпадае ў Завішчанскае возера.

**АКУ́НІНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток канала Безуменнік (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,7 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Калена, злучаецца з каналам за 3,2 км на ПдУ ад в. Завішча.

**АКУ́НЬ**, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на У ад г. п. Ушачы, за 0,3 км на ПнЗ ад в. Салаўёўка. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, на Пд разараныя, часткова пад хмызняком.

**АКЦЯ́БРСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, правы прыток р. Нясеты (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Новае Сяло, упадае ў Нясету за 1 км на Пд ад в. Асінаўка.

**АКЦЯ́БРСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток Дняпра. Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 0,4 км на З ад в. Горкі, злучаны з Дняпром за 2 км на ПнУ ад в. Акцябр.

**АКЦЯ́БРСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, правы прыток р. Нератоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 4,6 км на ПнУ, злучаецца з Нератоўкай за 1,5 км на ПдУ ад г. п. Акцябрскі.

**АЛА́**, рака ў Магілёўскай і Гомельскай абл., левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 100 км.**
**Пл. вадазбору 1230 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,9 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне 40 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Віленка Кіраўскага р-на, працякае па Бабруйскім і Жлобінскім р-нах, вусце за 2 км на Пн ад в. Чыркавічы Светлагорскага р-на. Верхняе цячэнне на Цэнтральнабярэзінскай раўніне, ніжняе — на Прыдняпроўскай нізіне. Асноўныя прытокі: Рылейка, Беліца, ручай Любіца (справа), Вялікая Вязанка (злева). У ніжнім цячэнні ад Алы адыходзіць рака Выдрыца. Даліна пераважна трапецападобная, на асобных участках невыразная, шырынёй 0,8—1 км, каля в. Сцяпы Жлобінскага р-на — да 3 км. Пойма ў вярхоўі асушаная і разараная, шырынёй у сярэднім цячэнні 0,5—0,6 км, ніжэй — 1—1,5 км. Рэчышча каналізаванае, акрамя 5 км у ніжнім цячэнні. Шырыня ракі ў межань у вярхоўі 8—10 м, на астатнім працягу 12—20 м. Берагі стромкія, абрывістыя, вышынёй 1—3 м, задзернаваныя, у ніжнім цячэнні нізкія. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, найбольшая вышыня над межанным узроўнем 2,8 м. На рацэ размешчаны г. п. Кіраўск, каля вёсак Мышкавічы, Вілы, Валасовічы Кіраўскага р-на — плаціны і сажалкі (пл. адпаведна 52, 27 і 32 га). У пойме каля в. Міхалёва Бабруйскага р-на наліўная сажалка (пл. 14,5 га). Плошча меліяраваных земляў у вадазборы Алы 210 км$^2$, даўжыня адкрытай меліярацыйнай сеткі 1527 км.

**АЛАІ́ЗБЕРГ**, возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,46 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 19 м.**
**Даўжыня 4,1 км.**
**Пл. вадазбору 17 км$^2$.**

У бас. р. Свіліца, за 16 км на У ад г. Глыбокае, каля г. п. Падсвілле. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на У параслі лесам. Дно плоскае, пясчанае. Зарастае слаба. Выцякае ручай у р. Свіліца.

**АЛА́ШКІ**, гл. *Алашскае возера.*

**АЛА́ШСКАЕ ВО́ЗЕРА**, Алашкі, возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Пл. вадазбору 9,3 км$^2$.**

У бас. р. Дзісна, за 21 км на ПдЗ ад г. п. Шаркоўшчына, каля в. Вялікія Алашкі. Схілы катлавіны возера вышынёй 5—7 м. Берагі забалоча-

ныя. Зарастае. Сцёк па канале ў р. Дзісна.

**АЛЕЙНІКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Вуглянка (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Пахар, на У ад в. Масткі злучаецца з Вуглянкай. На канале паміж вёскамі Алейнікаў і Красніца плаціна і сажалка.

**АЛЁШКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Камянецкім р-не, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1,4 км на ПнУ ад в. Лешня, упадае ў Лясную за 1,5 км на ПнЗ ад в. Алешкавічы.

**АЛЁШКІ,** рака, гл. *Лешня.*

**АЛЕШНЕНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Дзевятага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на З ад воз. Бабровіцкае з балота Алешня, упадае ў Дзевяты канал у балоцістай мясціне ляснога ўрочышча Галубоўскае.

**АЛЁШНЯ,** рака ў Касцюковіцкім р-не, правы прыток Беседзі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 41 км.**
**Пл. вадазбору 276 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Саматэвічы, цячэ часткова па Бранскай вобласці, дзе і ўпадае ў Беседзь. Вадазбор пераважна на Аршанска-Магілёўскай раўніне. У вярхоўі каналізаваная на працягу 7,6 км.

**АЛЁХАЎКА,** рака ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах, левы прыток Уздзянкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Малое Гарохавішча Дзяржынскага р-на, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ва Уздзянку на ПнУ ад в. Чурылава Уздзенскага р-на. На ўсім працягу каналізаваная.

**АЛЁШАВА ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,002 км$^2$.**
**Даўжыня 0,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,03 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,15 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 14 км на Пд ад г. Полацк, 1,3 км на Пд ад в. Мяжно 2-е, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя. На Пн упадае ручай.

**АЛХІМАЎКА,** Альхімаўка, рака ў Маладзечанскім і Вілейскім р-нах, правы прыток Вяры Вярэдаўкі (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Буйлі Вілейскага р-на, упадае ў Вярэдаўку на ПдУ ад в. Верадова. На ўсім працягу каналізаваная.

**АЛЬБЕНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** Альбенеўскае возера, у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,49 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13 м.**
**Даўжыня 1,48 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,7 км.**
**Аб'ём вады 3,31 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.**

У бас. р. Дрысвяты, за 25 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Тоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на ПнЗ да 11 м, зараслі хмызняком. Дно пясчанае, глыбей 6 м выслана сапрапелем. Зарастае слаба. Сцек па пратоцы ў Богінскае возера.




**Альбенаўскае возера.**



**Рака Ала ў Бабруйскім раёне.**

**АЛЬБІНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Акцябрскім р-не.

**Пл. 0,63 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 35 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Даўжыня агараджальнай дамбы 3,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 1,4 млн. м$^3$.**

За 27 км на З ад г. п. Акцябрскі, паміж вёскамі Альбінск і Дзвесніца. Наліўное Створана ў 1976 для жыўлення Слаўкавіцкага канала ў летні перыяд і рэгулявання водна-паветранага рэжыму меліяраваных глеб. Напаўняецца вадой помпамі з Слаўкавіцкага канала ў перыяд веснавога разводдзя. Ваганні ўзроўню на працягу года 2 м.
**АЛЬБЯРЦІ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** на ўсходняй ускраіне г. Слонім, у бас. р. Іса (працякае праз возера).

**Пл. 0,45 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8 м.**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Пл. вадазбору 1,15 км$^2$.**

**АЛЬЗІНІ́ЦА,** рака ва Ушацкім р-не, левы прыток р. Ушачы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 29 км.**
**Пл. вадазбору 270 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,7 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Выцякае з воз. Жабінак, цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша праз азёры Селішча (ад вытоку да возера называецца р. Баярская) і Матырына. Упадае ва Ушачу за 6 км на Пн ад г. п. Ушачы.
**АЛЬНІ́ЦА,** рака ў Глускім р-не, левы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля в. Баравішча, вусце за 2 км на З ад в. Бараціна.
**АЛЬПЕ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Гарынь (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 4,6 км на У ад в. Рубель, вусце за 1,5 км на Пн ад в. Альпень.
**АЛЬХІ́МАЎКА,** рака, гл. *Алхімаўка.*
**АЛЬХО́ЎКА,** Атцэдка, Атцэда, рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 72 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца з сажалак на ПдЗ ад в. Атцэда, упадае ў Нёман за 1 км на ПдЗ ад г. Стоўбцы. На працягу 3,8 км каналізаваная (выток — 1,5 км на ПнЗ ад в. Качкуны). У г. Стоўбцы на рацэ сажалка.
**АЛЬХО́ЎКА,** Дубаўскі канал, рака ў Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Ванюжычы, вусце за 2 км вышэй в. Вялікае Поле. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.
**АЛЬХО́ЎКА,** рака ў Магілёўскім р-не, левы прыток Жыварэзкі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 43 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Пясчанка, вусце за 1 км на У ад в. Вендрыж.
**АЛЬХО́ЎКА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, правы прыток р. Белая Натапа (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Залессе, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Клін. У ніжнім цячэнні 4 км рэчышча каналізавана. Каля в. Шэйкі плаціна і сажалка.



Рака **Альшанка** ў Валожынскім раёне.

**АЛЬХО́ЎКА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Вята (левы прыток Зах. Дзвіны), за 15 км на ПнЗ ад г. Міёры, за 2 км на ПнЗ ад в. Запалассе. Схілы катлавіны на Пн і У вышынёй 15—18 м, на Пд 8 м, у верхняй частцы часткова разараныя. Шырыня поймы ад 10 м на З да 100 м на У, пад лугам, хмызняком. На ПдЗ выцякае ручай у воз. Запалоссе.
**АЛЬХО́ЎКА,** рака, гл. *Чарнаводка.*
**АЛЬХО́ЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Астравецкім р-не.

**Пл. 0,7 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 3,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Аб'ём вады 2,1 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1140 км$^2$.**

На р. Страча, за 26 км на ПнУ ад г. п. Астравец, каля в. Альхоўка. Створана ў 1951 для водазабеспячэння кардоннай фабрыкі «Альхоўка». Берагі абрывістыя (мясцінамі вышынёй да 7 м), парослыя лесам. Дно ілістае; 3 астравы агульнай пл. 0,1 га.
**АЛЬША́НКА,** Вішнёўка, Гальшанка, Жыгянка, Луска, рака ў Мінскай і Гродзенскай абл., правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана).

**Даўжыня 60 км.**
**Пл. вадазбору 311 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Людвікаўшчына Ашмянскага р-на, працякае па паўднёва-заходніх схілах Ашмянскага ўзвышша, вусце каля в. Няровы. Даліна выразная. Пойма двухбаковая, найбольш развіта ў вярхоўі і ніжнім цячэнні, шырынёй 100—200 м. Рэчышча пераважна ўмерана звілістае, яго шырыня ў межань 4—8 м, на працягу 32 км каналізаванае: ад вытоку да в. Чуркі (17,7 км), ад в. Данілкі да в. Альшанка (5,1 км), ад в. Круглае да вусця (9,5 км). Берагі нізкія. Каля вёсак Габрыялаўшчына і Нарушаўцы сажалкі (пл. адпаведна 0,12 км$^2$ і 0,02 км$^2$).
**АЛЬША́НКА,** Жыгянка, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Лелюкі, упадае ў Нёман за 2 км на ПдЗ ад в. Барава. На ўсім працягу каналізаваная.
**АЛЬША́НКА,** рака ў Касцюковіцкім р-не, левы прыток р. Крупянка (бас. Дняпра). Даўжыня 11,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Вялікая Валаськоўня, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Негін. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.
**АЛЬША́НКА,** рака, гл. *Заальшанка.*
**АЛЬША́НКА,** рака, гл. *Усвейка.*
**АЛЬША́НКА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,36 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 11,1 м.**
**Даўжыня 1,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,31 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4 км.**
**Аб'ём вады 2,03 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9,2 км$^2$.**

У бас. р. Бярозка, за 13 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Карпавічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, на Пн і Пд 7—12 м, парослі хмызняком. Берагі нізкія, на З і ПдУ забалочаныя. Дно пясчанае, глыбей 2 м глеістае. Зарастае да глыбіні 4 м. Злучана пратокай з воз. Абразцы.
**АЛЬША́НКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Друйка (левы прыток Зах. Дзвіны), за 15 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 700 м на З ад в. Дубіна. Схілы катлавіны выразныя, на У і ПнЗ вышынёй да 5 м, часткова разараныя. На астатніх участках да возера прымыкае забалочаны лес. На У выцякае ручай у воз. Сіуды.

**АЛЬШАНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Пл. вадазбору 11,4 км².**

У бас. Зах. Дзвіны, за 20 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Альшанікі. Схілы разараныя, з З і ПдЗ забалочаная пойма. Сцёк праз ручай у Зах. Дзвіну.

**АЛЬШАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток Сямігосціцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Велямічы, вусце за 3 км на У ад в. Альшаны.

**АЛЬШАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Альшанка, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Рудка.

**АЛЬШОЎКА,** рака ў Хоцімскім р-не, левы прыток Беседзі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 28 км.**
**Пл. вадазбору 164 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца і працякае па Смаленскай вобласці (каля 14 км). Вадазбор на ўскраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Пры ўпадзенні ў Беседзь знаходзіцца г. п. Хоцімск.

**АЛЯКСАНДРАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Ганутка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 м. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Горкі, за 1 км на Пн ад в. Клімаў Лог упадае ў раку.

**АЛЯКСАНДРАЎСКІ РУЧАЙ,** ручай у Віцебскім р-не, правы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 12,6 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Бандары, вусце каля в. Сялюты.

**АЛЯКСЕЕЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**

У бас. р. Аўсянка (працякае праз паўднёвую частку возера), за 46 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Аляксеева. Схілы і наваколле разараныя.

**АЛЯНПІНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лідскім р-не, правы прыток Чарняўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Палуты, упадае ў Чарняўку за 1 км на З ад в. Хадзюкі.

**АЛЯНСКІ КАНАЛ,** гл. *Галянка.*

**АМЕЛЬКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток Шчэлбінскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Амелькаўшчына, за 3,6 км на ПдЗ ад вёскі злучаецца з ракой.

**АМЛЫНЦЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Стаўбцоўскім і Нясвіжскім р-нах, правы прыток Гавязнянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Амлыніцы, упадае ў Гавязнянку за 1 км на ПдУ ад в. Ахрэмавічы.

**АМШАНАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Галбіца, за 25 км на У ад г. Паставы, за 0,5 км на Пн ад в. Ясюкі. Схілы катлавіны на З і У вышынёй 10—15 м, на Пн і Пд не выражаны, разараныя, на З пад хмызняком. Выцякае ручай у р. Заражанка.

**АМШЭНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,43 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,97 км.**

У бас. р. Храпаўлянка, за 7 км на ПдЗ ад г. Гарадок, каля в. Малыя Стайкі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад сельгасугоддзямі. На З і У упадаюць 3 ручаі.

**АМШЭРНІК,** возера ў Мядзельскім р-не на мяжы з Пастаўскім.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Страча, за 36 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, за 1 км на Пд ад в. Пешкаўцы Пастаўскага р-на, у межах заказніка Блакітныя азёры. Схілы катлавіны на Пд вышынёй да 15 м (на Пн да 7 м), пад лесам. На ПнЗ і У забалочаная пойма шырынёй да 100 м. Выцякае ручай у р. Лынтупка.

**АМЯЛЬНЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, левы прыток Лошы (бас. Нёмана). Даўжыня 17,4 км. Пачынаецца каля в. Калюга, упадае ў Лошу за 1,7 км на ПнУ ад в. Роспы. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**АНАНЧЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2 км на Пн, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Ананчыцы.

**АНДРУГА,** рака, гл. *Крапіўня.*

**АНДРЫКОВА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 70 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 28 км на У ад г. п. Ушачы, за 0,8 км на У ад в. Дубраўка. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пераважна пад хмызняком.

**АНОШКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Пл. вадазбору 6 км².**

У бас. р. Эса, за 21 км на Пд ад г. Лепель, каля в. Аношкі. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, часткова разараныя, паўднёва-заходнія парэслі хваёвым лесам, паўночна-ўсходнія — хмызняком. Берагі забалочаныя. Востраў пл. 0,3 га. Зарастае. Выцякае ручай у р. Эса.




Возера Альшанка (Сенненскі раён).

**АНТВОЗЕРА,** возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,55 км².**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,9 км.**

У бас. р. Пыранка, за 23 км на ПнУ ад Гродна, на Пд ад в. Новая Руда. Схілы катлавіны вышынёй 5—12 м, парослыя лесам. Берагі зліваюцца са схіламі. Праз возера цячэ р. Сламянка, якая злучае яго з воз. Зацкава.

**АНТОНАЎКА,** рака, гл. *Арлянка.*

**АНТОНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 24 км на ПнУ ад г. п. Расоны, каля в. Антонава. Схілы катлавіны на З і ПнУ вышынёй 3—5 м, разараныя, на Пд слаба выразныя, забалочаныя. Упадаюць ручаі з азёр

Белае і Верамееўскае, выцякае ручай у р. Атлайская.

**АНТО́НАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Славечна (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца з р. Жалонь за 3,6 км на ПнУ ад в. Лубень, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Грушаўка.

**АНТО́ПАЛЬСКІ КАНА́Л,** *гл. Лочынскі канал.*

**АНТО́ШАВА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,3 км.**

У бас. р. Ула, за 20 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, за 1 км на ПнЗ ад в. Зорнікі, сярод балота, паcлагa хмызняком. Выцякае ручай у воз. Лешна.

**АПІВА́РДКА,** рака ў Браслаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 8,5 км. Выцякае з воз. Апіварда, цячэ па мяжы з Літвой, упадае ў воз. Дрысвяты з Пд. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае (ніжняе цячэнне — былое рэчышча р. Дрысвята).

**АПІ́ТА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Гаўі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 133 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кракуны, упадае ў Гаўю на У ад в. Ліпнішкі. На працягу 5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Меліхі). На рацэ каля вёсак Кузьмічы і Ліпнішкі сажалкі.

**АПУКО́ВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Пл. вадазбору 4,25 км².**

У бас. р. Обаль, за 34 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, на У — 10 м, зараслі хмызняком. Берагі нізкія, паўднёва-ўсходнія забалочаныя. У паўднёвай частцы возера 2 плёсы. Востраў пл. 0,7 га.

**АРАВІ́ЦКІ КАНА́Л,** Красносельскі канал, меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Пагонненскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Аравічы, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Малочкі.

**АРАСТА́НЦКАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Мелкавічы, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ананчыцы. Прыток — Баранава канал (злева).

**АРДЗЯЖА́НКА,** рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах, левы прыток Сухадроўкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 81 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Сосновая Наспа, цячэ па Лучоскай нізіне. Упадае ў Сухадроўку (правы прыток Лучосы) каля в. Ільічоўка Віцебскага р-на.

**АРДЗЯ́НКА,** Святыцкі ручай, рака ў Нясвіжскім і Клецкім р-нах, левы прыток Ведзьмы (бас. Нёмана). Даўжыня 14 км. Пачынаецца каля в. Арда Клецкага р-на, упадае ў Ведзьму ніжэй в. Святычы. На ўсім працягу каналізаваная. Каля в. Грыцкавічы сажалка (пл. 0,02 км²).

**АРДЫШЭ́ВА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,4 м.**
**Даўжыня 1,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,74 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,2 км.**
**Аб'ём вады 0,86 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 6 км².**

У бас. р. Лучоса, за 46 км на У ад г. Сянно, за 2,5 км на ПнУ ад в. Сафіёўка Аршанскага р-на, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м. Берагі сплавінныя. Дно выслана сапрапелем, каля берагоў на некаторых участках пясчанае. Зарастае да глыб. 1 м. Выцякаюць рэкі Зелянуха і Ардышэўка. На беразе паляўнічая база.

**АРДЫШЭ́ЎКА,** рака ў Сенненскім і Лёзненскім р-нах, левы прыток р. Лучосы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 93 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Выцякае з воз. Ардышэва, цячэ па Лучоскай нізіне. Упадае ў Лучосу каля в. Кучыншчына Лёзненскага р-на.

**АРЖА́НІЦА,** рака ў Глыбоцкім р-не, левы прыток Бярозаўкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 35 км.**
**Пл. вадазбору 130 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Крулеўшчына, цячэ ў межах Свянцянскіх град. Упадае ў Бярозаўку (левы прыток Дзісны) каля в. Русакі. Даліна трапецападобная, шырыня ад вытоку да воз. Чачалеўскае, праз якое працякае Аржаніца, 0,4—1 км, ніжэй 2—2,5 км. Рэчышча ў верхнім і сярэднім цячэнні на працягу 18,8 км каналізаванае, на непарушаным участку яго шырыня 12—16 м.

**АРЖА́НІЦА,** рака, *гл. Чорная.*

**АРЖО́ЎКА,** рака ў Мядзельскім і Пастаўскім р-нах, правы прыток Мядзелкі (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнЗ ад в. Вохабні, вусце за 1,2 км вышэй в. Манькавічы Пастаўскага р-на. Рэчышча ад вытоку (1,6 км) каналізаванае.

**АРЛЕ́ЙКА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,41 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,9 м.**
**Даўжыня 1,01 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4 км.**
**Аб'ём вады 0,82 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 24 км².**

У бас. р. Лужаснянка, за 24 км на У ад г. Гарадок, каля в. Стырыкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, разараныя. Берагі пясчаныя, зараслі хмызняком. Уздоўж берагоў дно пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Упадае ручай з воз. Плаў. Сцёк у воз. Вымна. На возеры адзначана гнездаванне рэдкай для Беларусі птушкі — гогаля звычайнага.

**АРЛЕ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток канала Урут (бас. Дняпра). Даўжыня 9,8 км. Пачынаецца за 3,3 км на Пд ад в. Калініна, вусце за 0,8 км на ПдЗ ад в. Альхоўка.

**АРЛЕ́Я,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,65 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,7 м.**
**Даўжыня 2,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,2 км.**
**Аб'ём вады 1,23 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 12,3 км².**

У бас. р. Сосніца, за 43 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Арлея. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, на ПнЗ да 15 м, пароcлыя хмызняком, на ПнУ разараныя. Берагі нізкія, на 3 сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем, каля ўсх. берага да глыбіні 1,5 — апясчаненым ілам. Слаба зарастае да глыбіні 1—1,5 м. Упадаюць 3 ручаі, выцякае р. Дражбітка.

**АРЛО́ВЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,005 км².**
**Даўжыня 0,09 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.**

У бас. р. Дрыса, за 48 км на ПдУ ад г. п. Дрыса, за 1,8 км на ПдЗ ад в. Рудня. Схілы катлавіны невыразныя, возера акружана забалочаным лесам.

**АРЛО́ВІЧЫ,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток Дняпра. Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Снегіры, вусце каля в. Арловічы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**АРЛО́ЎКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,21 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,48 км.**

У бас. р. Сосніца (правы прыток Зах. Дзвіны), за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 10 км на ПнУ ад в. Домнікі, за 3,5 км на ПдУ ад вусця Дражбіткі. Вакол возера забалочаны хмызняк.

**АРЛЯ́НКА,** рака ў Магілёўскім р-не, левы прыток р. Друці (бас. Дняпра).

**Даўжыня 24 км.**

Пл. вадазбору 106 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца каля в. Бярозаўка, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Малое Запаточча. Вадазбор на Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Ад в. Стары Сінін да 1,3 км ад вусця рэчышча каналізаванае (17,4 км).

**АРЛЯ́НКА,** Антонаўка, рака ў Сенненскім р-не, правы прыток Бярозкі (бас. Заходняй Дзвіны). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Бесцвіна, вусце за 1 км вышэй в. Арляны. Рэчышча ад вытоку на працягу 6,4 км каналізаванае.

**АРЛЯ́НКА,** рака, гл. *Галянка.*

**АРТЫЧА́НКА,** рака ў Івацэвіцкім р-не, правы прыток р. Шчары. Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад п. Сасновы ў лясным урочышчы Артычанка, упадае ў Шчару на У ад в. Вішнёўка. На ўсім працягу каналізаваная.

**АРЦЁМАЎСКАЕ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 85 м.
Найбольшая шырыня 85 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,25 км.

У бас. р. Галбіца, за 30 км на У ад г. Паставы, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Малькавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам.

**АРЦІ́СЛАЎКА,** рака ў Шклоўскім р-не, левы прыток Дняпра.

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 150 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца каля в. Чарапы, цячэ праз воз. Святое, вусце за 1 км на З ад в. Пруды.

**АРШЫ́ЦА,** рака ў Аршанскім р-не, правы прыток Дняпра.

Даўжыня 33 км.
Пл. вадазбору 519 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,3 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Выцякае з воз. Арэхаўскае, цячэ па Аршанскім узвышшы. Упадае ў Дняпро каля г. Орша. Асноўныя прытокі: Пачаліца, Міронаўка (справа), Выдрыца (злева). Даліна ў верхнім цячэнні трапецападобная, у ніжнім — карытападобная. Пойма двухбаковая. Рэчышча ў верхнім цячэнні звілістае.

**АРЫЖНЯ́,** Пастовіцкі канал, рака ў Старадарожскім і на мяжы з Глускім р-нам, правы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 176 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца за 1,8 км на ПдЗ ад в. Дубное, цячэ па паўночнай частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Пціч за 3 км ніжэй в. Лука Асіповіцкага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**А́РЫЯ,** Бруська, ручай у Быхаўскім р-не, левы прыток р. Варонінка (бас. Дняпра).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 38,5 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Красніца 2-я, вусце каля паўночнай ускраіны в. Хацьмілле. На ўсім працягу каналізаваны.

**АРЭ́СА,** Раса, рака ў Мінскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

Даўжыня 128 км.
Пл. вадазбору 3620 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 16,7 м³/с.
Агульнае падзенне ракі 32,7 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,26 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Ляўкі Старадарожскага р-на, цячэ ў Любанскім і Акцябрскім р-нах па Цэнтральнабярэзінскай раўніне, ніжняе цячэнне ў Прыпяцкім Палессі. Асноўныя прытокі: Таліца (справа), Солан, Нешчанка, магістральныя каналы Чабускі і Слаўкавіцка-Ямінскі (злева). Даліна на вялікім працягу невыразная, месцамі шырынёй 0,3—1 км. Пойма пераважна двухбаковая, ніжэй вёскі Падарэссе яе шырыня 0,1—1 км. Рэчышча амаль на ўсім працягу каналізаванае, шырыня яго ад 5—10 м у вярхоўі да 30—35 м у ніжнім цячэнні. Веснавое разводдзе пачынаецца ў 2-й дэкадзе сакавіка і доўжыцца 40—80 сутак. Максімальны расход вады каля в. Андрэеўка (за 12 км ад вусця) адзначаны ў 1931 — 301 м³/с, найменшы — у 1927 каля в. Андрэеўка (2,14 м³/с). Летне-асенняя межань доўжыцца каля 5 месяцаў. Рака замярзае ў 2-й палове снежня, крыгалом — у 2-й дэкадзе сакавіка. У верхнім цячэнні, за 7 км на Пн ад



Рака Арэса ў Любанскім раёне.

г. Любань, створана Любанскае вадасховішча, якое аказвае істотны ўплыў на гідралагічны рэжым Арэсы. Рака атрымала шырокую вядомасць пасля апублікавання паэмы Я. Купалы «Над ракой Арэсай».

**АРЭ́ХАВАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.

У бас. р. Усыса (працякае праз возера, злучае яго з азёрамі Лугавое і Шчарбакоўскае), за 1 км на ПдЗ ад г. Гарадок. Катлавіна возера акаймавана лесам. Берагі нізкія, паўднёвыя забалочаныя.

**АРЭ́ХАВАЕ ВО́ЗЕРА,** у Мядзельскім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 23 м.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Пл. вадазбору 21,5 км$^2$.

У бас. р. Сэрвач, за 27 км на У ад г. Мядзел, за 2,5 км на Пн ад в. Грыбкі, сярод забалочанага хмызняку. Берагі забалочаныя, дно ілістае, у заходняй частцы пясчанае. Злучана меліярацыйнай канавай з р. Патачанка.

**АРЭ́ХАЎКА,** вадасховішча ў Клічаўскім р-не.

Пл. 1,02 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,5 м.
Даўжыня 1,6 км.
Даўжыня агараджальнай дамбы 3,3 км.
Найбольшая шырыня 0,86 км.
Аб'ём вады 2,52 млн. м$^3$.

У пойме р. Нясета, за 10 км на З ад г. п. Клічаў, каля в. Арэхаўка. Налыўное. Створана ў 1983 для рыбагадоўлі, арашэння і рэкрэацыі. Напаўняецца вадой з р. Нясета пры дапамозе помпавай станцыі. Сярэднегадавы сцёк у яе створы 28,2 млн. м$^3$.



**Арэхаўскае возера** (Аршанскі раён).

**АРЭ́ХАЎНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,47 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 0,8 м.
Даўжыня 1,1 км.
Найбольшая шырыня 0,66 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,16 км.
Аб'ём вады 0,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 179 км$^2$.

У бас. р. Нача (выцякае з возера), за 26 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Арэхаўна. Пойма забалочаная, парослая хмызняком. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, разараныя, на ПдУ невыразныя, на Пд абразійны ўступ вышынёй 3—4 м. Берагі сплавінныя, нізкія. Востраў пл. 0,5 га. Уздоўж берагоў і вострава дно пясчанае, глыбей сапрапелістае. Зарастае. Злучана пратокай з воз. Забеліна.

**АРЭ́ХАЎНА,** возера ва Ушацкім р-не. Пл. 0,17 км$^2$. Пл. вадазбору 126 км$^2$. У бас. р. Крашанка (працякае праз возера), за 5 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Арэхаўна. Катлавіна круглаватай формы, сярод разаранай тэрыторыі.

**АРЭ́ХАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Маларыцкім р-не.

Пл. 4,6 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,1 м.
Даўжыня 5,2 км.
Найбольшая шырыня 2,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 10,6 км.
Аб'ём вады 4,4 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 291 км$^2$.

У бас. р. Маларыта, за 17 км на ПдЗ ад г. Маларыта, каля в. Арэхава. Катлавіна плоская, сподкападобная. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пн і ПнЗ сплавінныя. На У марэнныя ўзгоркі вышынёй 3—4 м. Прыбярэжныя ўчасткі дна выслaны пяском, глыбей — сапрапелем. Моцна зарастае. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 150—200 м, каля заходніх і паўночна-заходніх берагоў развіваецца сплавіна. Каналамі злучана з р. Маларыта і воз. Олтушскае.

**АРЭ́ХАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Аршанскім р-не.

Пл. 2,11 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,5 м.
Даўжыня 3,93 км.
Найбольшая шырыня 1,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 10,8 км.
Аб'ём вады 4,34 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 33,4 км$^2$.

У бас. р. Аршыца (выцякае з возера), за 20 км на Пн ад Оршы, каля г. п. Арэхаўск. Катлавіна выцягнутая, схілы вышынёй 2—5 м, пад лесам, на ПнЗ вышынёй да 10—15 м. Берагі нізкія, парослі хмызняком, на У і ПнУ высокія, стромкія. Востраў пл. 2,4 га. Літараль пясчаная, ложа выслана ілам і сапрапелем. Зарастае слаба. Упадаюць 2 ручаі, р. Чорная.

**АРЭ́ХАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала. Даўжыня 34 км. Пабудаваны ў 1905—10, рэканструяваны (12 м) у 1973. Пачынаецца з воз. Арэхавец на тэрыторыі Валынскай вобл., вусце на ПнЗ ад в. Выгода. Прытокі — Лелікаўскі, Цэрабовіцкі, Дзівінскі (злева), Павіцценскі і Травінскі (справа) каналы.


**Арэхаўскае возера** (Аршанскі раён).

**АСАВЕ́ЦКІ КАНА́Л,** Крываль, меліярацыйны канал у Салігорскім і Любанскім р-нах, левы прыток Чырвонапалянскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 40,4 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Цясова Салігорскага р-на, вусце за 2 км на Пд ад в. Камуна Любанскага р-на.

**АСАВЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Крывіна» (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 2,7 км на З, вусце за 1,9 км на Пд ад в. Галоўск Сенненскага р-на.

**АСАКА́,** рака ў Талачынскім р-не, левы прыток Бабра (бас. Дняпра).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 92 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Дунавік, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Сакалянка. Цячэ па заходняй ускраіне Аршанскага ўзвышша, у сярэднім цячэнні праз лясное ўрочышча Смаляншчына.

**АСАЎЁ,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток канала Залатуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Пераброды (Ровенская вобл.), вусце каля хутара Востраў.

**АСАЎЦЫ,** гл. *Кустовіцкі канал.*

**АСАЧА́НКА,** рака ў Уздзенскім і Пухавіцкім р-нах, правы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 135 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Русакова, цячэ па зах. ўскраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Пціч каля в. Падгацце Пухавіцкага р-на; у верхнім цячэнні наз. Бабёнка. Рэчышча ў сярэд-

нім і ніжнім цячэнні на працягу 14 км каналізаванае.

**АСВЕ́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 52,8 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 11,4 км.**
**Найбольшая шырыня 7,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 33,4 км.**
**Аб'ём вады 104 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 259 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 28 км на Пн ад г. Верхнядзвінск, каля г. п. Асвея, на тэрыторыі Асвейскага паляўнічага заказніка. Схілы — узгоркі і грады вышынёй да 30 м, пад лесам, часткова разараныя. На З да возера прымыкае Асвейскае балота. Берагі звычайна нізкія, тарфяніста-пясчаныя, параслі балотным разнатраўем і рэдкім хмызняком; на Пд амаль зліваюцца са схіламі, параслі сухадольнымі травамі. Рэльеф дна складаны, невялікія разрозненыя водмелі чаргуюцца з паніжэннямі; каля 80 % яго плошчы выслана глеістым ілам. У заходняй частцы востраў каля 5 км$^2$, узгорысты, разараны, вакол яго паласа надводнай расліннасці шырынёй да 100 м. У возера ўпадаюць р. Выдрынка і канал без назвы, сцёк праз канал Дзегцяроўка. На возеры гняздуюцца лебедзь-шыпун, малая чайка, якія занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу; у трысняговых зарасніках на ПдУ разводзяць андатру, водзіцца бабёр.

**АСВІ́ЦА,** рака ў Слуцкім і Старадарожскім р-нах, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад в. Гутніца Слуцкага р-на, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Навасёлкі Старадарожскага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**АСВЯ́ТА,** возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

**Пл. 0,5 км$^2$.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,55 км.**

У бас. р. Дзісна, за 15 км на ПдЗ ад г. п. Шаркоўшчына, сярод балота Мох. Берагі нізкія, тарфяністыя з балотнай расліннасцю. Зарастае. На Пд з возера выцякае ручай у р. Дзісна.

**АСЕ́ЛІЦА,** рака, гл. *Навіна*.

**АСЕ́ЧА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток Аўсянкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 29 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кузюронкі, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша. Упадае ў Аўсянку (правы прыток Усвячы) за 1 км пасля выхаду яе з воз. Нёгра.

**АСЕ́ЧА,** рака, гл. *Дубаўка*.

**АСІ́НАЎКА,** Яшна-Асінаўка, рака ў Пухавіцкім р-не, правы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 126 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ ад в. Рагі, цячэ па заходняй частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Пціч за 2 км ад в. Вецярэвічы 2-я. Рэчышча ў верхнім (2,2 км) і сярэднім (2,5 км) цячэнні каналізаванае.

**АСІ́НАЎКА,** рака ў Дзяржынскім р-не, левы прыток Ліванкі (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ і ўпадае ў Ліванку за 2 км на ПдЗ ад в. Ліўе. На працягу 2 км ад вусця ў раёне торфараспрацовак каналізаваная.

**АСІ́НАЎКА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 1,16 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 3,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,7 км.**
**Аб'ём вады 3,33 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 31,1 км$^2$.**

У бас. р. Мёрыца, за 1 км на ПдЗ ад г. Міёры. Схілы катлавіны спадзіс-




**Асвейскае возера.**



**Асвейскае возера.**

тыя, на ПдУ і ПдЗ стромкія. Берагі нізкія, парослыя хмызняком, на ПнУ сплавінныя. Дно карытападобнае з упадзінамі і паднятасцямі, у паўночнай частцы возера востраў пл. 0,8 га. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей — іл і сапрапель. Расліннасць утварае паласу шырынёй да 25 м. Злучана пратокамі з азёрамі Ворань і Мёрскае.




Возера Асінаўка.

**АСІНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Пл. вадазбору 2,3 км².**

У бас. р. Палоная (выцякае з возера), за 10 км на У ад г. Віцебск, за 3 км на Пн ад в. Вароны. Схілы катлавіны ўзгорыстыя. Выкарыстоўваецца як рыбагадавальнік.

**АСІНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Уса (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца ў в. Праўда, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Асінаўка.

**АСІПОВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Асіповіцкім р-не.

**Пл. 11,9 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,5 м.**
**Даўжыня 23,7 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 55,3 км.**
**Аб'ём вады 17,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4370 км².**

Створана ў 1953 плацінай Асіповіцкай ГЭС у ніжнім цячэнні р. Свіслач (43,6 км ад вусця). Берагі пераважна высокія, звычайна парослыя лесам. Ложа ў межах затопленай поймы перасечана шматлікімі мелкаводнымі ўчасткамі; ёсць 4 невялікія астравы агульнай пл. 15 га. Дно выслана ілам (60 %), уздоўж берагоў — пяском. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня 40—60 см) трымаецца да пачатку красавіка. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню 81 см (найбольшая 144 см, 1958). Праточнасць вялікая, аб'ём вады воднай масы аднаўляецца за 7—8 сутак. Сярэднешматгадовы сцёк у створы плаціны 790 млн. м³. Зарастае 35 % плошчы. Вакол вадасховішча зона адпачынку.




Асіповіцкае вадасховішча.



Возера Асінаўка.

**АСІПОЎКА,** рака ў Маларыцкім і Жабінкаўскім р-нах, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 38 км.**
**Пл. вадазбору 534 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца ў Маларыцкім р-не з канала, вада падаецца з Лукаўскага вадасховішча праз калектар. Вусце каля в. Пятровічы Жабінкаўскага р-на. Цячэ па Брэсцкім Палессі. Даліна невыразная. Асноўны прыток — канал Бона (справа). Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. У верхнім цячэнні да в. Чарняны праходзіць праз лясны масіў і не абслугоўваецца. Рэчышча засмечана, па берагах зарасло хмызняком, дрэвамі. Ніжэй в. Чарняны выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных сістэм.

**АСЛІК,** Асліўка, Ослік, рака ў Круглянскім і Бялыніцкім р-нах, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 66 км.**
**Пл. вадазбору 413 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Саннікі Круглянскага р-на, упадае ў Друць каля в. Асавец Бялыніцкага р-на. Асноўныя прытокі: Рутка (злева), Чарнаўка і Смародзіна (справа). Паўночная частка вадазбору на Аршанска-Магілёўскай, паўднёвая — на Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна трапецападобная, у вярхоўі невыразная, шырынёй 500—800 м. Рэчышча звілістае, шырынёй 10—20 м, ад вытоку на працягу 8 км каналізаванае. Берагі нізкія і забалочаныя.

**АСМОЛЬСКАЯ КАНАВА,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Свідовец (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 6 км на З ад в. Дубы (Жытомірская вобл.), вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Картынічы.

**АСНЕЖЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы пры-

ток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца каля в. Галева, вусце за 3 км на Пн ад в. Аснежыцы.

**АСО́ВІНА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра). Даўжыня каля 6 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнЗ, вусце за 4 км на У ад в. Улессе. Ад вытоку 0,7 км² каналізавана. Цячэ праз забалочаны лес на паўночна-заходняй ускраіне Бярэзінскага біясфернага запаведніка.

**АСО́ВІЦА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Валожынкі (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля в. Мазурка, працякае па ўсходняй ускраіне Налібоцкай пушчы, упадае ў Валожынку на ПнУ ад в. Расолішкі. На ўсім працягу каналізаваная.

**АСО́ТНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Пл. вадазбору 1,75 км².**

У бас. р. Чарнец, за 38 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 5 км на ПнЗ ад в. Халамер'е, сярод ляснога масіву. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, на Пд — да 10 м. Берагі зліваюцца са схіламі. Злучана ручаём з воз. Вял. Таболы.

**АСО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток асушальнага канала меліярацыйнай сістэмы «Маларыта» (бас. Зах. Буга). Даўжыня 13,1 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пд ад в. Яміца, упадае ў канал за 1,8 км на Пн ад в. Мікольская. У ніжнім цячэнні на працягу 3,8 км называецца С к і д н ы  А с о ў с к і.

**АСО́ЦКА,** Б а л а й ц е, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 58 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Генюшы, упадае ў Нёман за 3 км на ПдУ ад в. Залейкі Іўеўскага р-на. На працягу 9,4 км каналізаваная (в. Бердаўка — 2,5 км на ПнУ ад в. Альхоўка).

**АСО́ЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток Дняпра. Даўжыня 18,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Аляксандраўка, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Нагорнае.

**АСТА́ШКАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, у вадазборы р. Сведзь (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на паўднёва-заходняй ускраіне в. Дзяніскавічы, упадае ў сажалку за 2,8 км на ПнУ ад в. Ракаў.

**АСТРАВЕ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,1 м.**
**Даўжыня 0,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,53 км.**
**Пл. вадазбору 0,66 км².**

У бас. р. Ушача, за [illegible] км на Пн ад г. п. Ушачы, каля в. Астравенец. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, на З і Пд пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, месцамі забалочаныя, на Пн сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае, мелкаводдзе пясчанае. Выцякае ручай у р. Ушача.




**Астравенскае возера.**

**АСТРАВІ́ТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,48 км².**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Пл. вадазбору 0,65 км².**

У бас. р. Чарнуйка, за 30 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на Пн ад в. Смароднік, сярод лесу.

**АСТРАВІ́ТА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,8 м.**
**Даўжыня 0,84 км.**

**Асіповіцкае вадасховішча.**




Возера Астравіта (Віцебскі раён).




Возера Астравіта (Ушацкі раён).




Возера Астроўна (Бешанковіцкі раён).

**Найбольшая шырыня 0,79 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Аб'ём вады 1,5 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,4 км$^2$.**

У бас. р. Віцьба, за 10 км на У ад Віцебска, за 2 км на Пн ад в. Вароны. Схілы катлавіны вышынёй 7—8 м, на У 20 м, пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на З участак сплавінных берагоў і забалочаная пойма. Дно плоскае, прыбярэжная яго частка пясчаная, глыбей 1,5 м — выслана ілам. Каля паўд. берага 2 астравы агульнай пл. 0,3 га. Зарастае слаба.

**АСТРАВІТА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,35 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,7 м.**
**Даўжыня 1,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Пл. вадазбору 6,85 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 2 км на ПнУ ад Бярозаўскага возера. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя. Берагі пясчаныя, на Пн і З сплавінныя. 3 астравы агульнай пл. 2 га. Злучана ручаямі з азёрамі Плацішна і Плесна.

**АСТРАВІТАЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Нішча (левы прыток Дрысы), за 19 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 6 км на У ад в. Ізубрыца, сярод лесу. Ёсць невялікі востраў.

**АСТРАВІТЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,41 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,7 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,64 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,8 км.**
**Аб'ём вады 0,51 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,5 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 16 км на Пн ад г. Браслаў, за 1,5 км на Пн ад в. Краснагорка. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя і тарфяністыя, на У зліваюцца са схіламі, параслі хмызняком. Дно плоскае, амаль усё выслана сапрапелямі, каля ўсходніх і паўднёва-ўсходніх берагоў — вузкая пясчаная паласа. Зарастае.

**АСТРАЎКІ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,54 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12,7 м.**
**Даўжыня 1,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,92 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 2,69 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 102 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 30 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Суша. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, на З да 15 м. Берагі невысокія, на ПнУ і ПнЗ зліваюцца са схіламі. Дно паўночнага плёса лейкападобнае, паўднёвага — ускладнена шматлікімі ўпадзінамі, астраўкамі і водмелямі. 2 астравы агульнай пл. 0,1 га. Дно да глыбіні 1,5—2 м (каля заходніх і ўсходніх берагоў да 3—4 м) пясчанае, глыбей ілістае. Упадае ручай з воз. Рагоўскае, злучана пратокай з воз. Цемеміца. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй да 25 м.

**АСТРАЎЛЯ́НКА,** Астраўлянскі канал, рака ў Докшыцкім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Пасекі, вусце за 2 км на Пн ад в. Наддаткі. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**АСТРАЎЛЯ́НКА,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток Лідзеі (бас. Немана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца каля в. Горні, упадае ў Лідзею на ПдУ ад в. Шайбакі. На ўсім працягу каналізаваная.

**АСТРАЎЛЯ́НКА,** ручай у Гарадоцкім р-не, левы прыток р. Усыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Казінова, вусце каля в. Старыя Вайханы. Рэчышча ад вытоку на працягу 4 км каналізаванае.



Астровенскае возера.

**АСТРАЎНЫ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток Забалоцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Лясец Калінкавіцкага р-на, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Мехаўшчына Светлагорскага р-на.

**АСТРАЎЦЫ́,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,92 км$^2$.**
**Даўжыня 2,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**

У бас. р. Дрыса (працякае праз возера і злучае яго з азёрамі Дрыса і Сіньша), сярод лясного масіву, за 36 км на У ад г. п. Расоны, на мяжы з Пскоўскай вобл.

**АСТРАШЫЦКІ ГАРАДО́К,** вадасховішча ў Мінскім р-не.

**Пл. 0,6 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,65 км.**

Аб'ём вады 1,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 114 км$^2$.

На р. Усяжа (52 км ад вусця), за 18 км на ПнУ ад Мінска, каля в. Астрашыцкі Гарадок. Створана ў 1946, рэканструявана ў 1970. Берагі слаба парэзаныя, правы — узгорысты, парослы лесам, левы — спадзісты. Сярэдні шматгадовы аб'ём сцёку ў створы плаціны 24,6 млн. м$^3$. Зарастае. Месца адпачынку, на беразе дзіцячы санаторый.

**АСТРОВЕНСКАЕ ВОЗЕРА**, у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 1,33 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,2 м.
Даўжыня 2,9 км.
Найбольшая шырыня 0,93 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,5 км.
Аб'ём вады 3,04 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 174 км$^2$.

У бас. р. Чарнагосніца (выцякае з возера), за 16 км на У ад г. п. Бешанковічы, каля в. Дашкава. Схілы катлавіны вышынёй 10—18 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, у залівах забалочаныя. У цэнтры возера востраў пл. 13 га, які падзяляе яго на 2 плёсы.



Возера Астроўна (Лепельскі раён).

Дно пясчанае, глыбей 1,5 м выслана сапрапелем. Упадаюць ручаі з азёр Белае і Саро. Зарастае да глыбіні 1,5 м.

**АСТРОЎЕ**, меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток р. Няслаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Курын, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Дземенка Петрыкаўскага р-на.

**АСТРОЎНА**, рака ў Навагрудскім і Лідскім р-нах, левы прыток Нёмана. Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Астроўна Навагрудскага р-на, працякае па лясістай мясцовасці, упадае ў Нёман на У ад в. Ганцавічы Лідскага р-на. Ад вусця на працягу 2,5 км каналізаваная.

**АСТРОЎНА**, возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 1,92 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,2 м.
Даўжыня 3,41 км.
Найбольшая шырыня 0,92 м.
Даўжыня берагавой лініі 9,8 км.
Аб'ём вады 7,4 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 57,9 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 22 км на ПнУ ад г. Лепель, за 3 км на У ад в. Камень. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, на Пн 8—10 м, пераважна разараныя. Дно пясчанае, глыбей 2 м — выслана ілам; ёсць мелі і ўпадзіны. 5 астравоў агульнай пл. 15 га. Злучана ручаём з воз. Чаросава. Выкарыстоўваецца як рыбагадавальнік.

**АСТРОЎНА**, возера ў Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,42 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 18,1 м.
Даўжыня 1,54 км.
Найбольшая шырыня 0,54 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,5 км.
Аб'ём вады 2,16 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 10,2 км$^2$.

У бас. р. Астраўніца, за 27 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Астроўна. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м. Берагі высокія, на ПдЗ зліваюцца са схіламі. Дно пясчанае, глыбей 3—3,5 м ілістае. 3 астравы агульнай пл. 1,8 га. Зарастае да глыбіні 3,5 м, шырыня паласы расліннасці да 35 м. Выцякае ручай у воз. Доўгае.

**АСТРОЎНА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,31 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 1,1 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Пл. вадазбору 15,2 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 22 км на ПдЗ ад Полацка, за 1,5 км на У ад в. Шандзялы. Берагі нізкія, забалочаныя, параслі хмызняком. 3 астравы агульнай пл. 3,6 га. Упадае ручай з воз. Блізніца. Выцякае ручай у воз. Расна.

**АСТРОЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Гомельскім і Рэчыцкім р-нах, правы прыток Асочынскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца з канала за 2,4 км на ПнУ ад в. Аляксандраўка Рэчыцкага р-на, вусце за 0,3 км на Пн ад в. Някрасава Гомельскага р-на.

**АСТРОЎЧЫЦА**, рака, гл. *Лукавіна.*

**АСТРЫНКА**, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Котры (бас. Нёмана).

Пл. вадазбору 87 км$^2$.
Даўжыня 17 км.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Лейкі, упадае ў Котру на ПдУ ад возера Корава. На працягу 4 км каналізаваная (ад вытоку да в. Кульбачына). Каля в. Кульбачына сажалка.

**АСУШНОЕ**, возера ў Жлобінскім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Даўжыня 3,05 км.
Найбольшая шырыня 0,11 км.
Пл. вадазбору 3 км$^2$.

На пойме Дняпра, ніжэй вусця



Дабасны, за 7 км на ПдУ ад г. Жлобін. Старычнае. Злучана ручаем з Дняпром. Зарастае слаба.

**АСЦЁР**, рака ў Смаленскай вобласці




Возера Астраўкі.




Возера Астроўна (Бешанковіцкі раён).

РСФСР, Клімавіцкім і Крычаўскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 274 км.**
**Пл. вадазбору 3370 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 21,6 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,31 ‰.**

Пачынаецца на схілах Смаленскага ўзвышша ў Рослаўскім р-не Смаленскай вобласці, вусце за 2 км на У ад в. Бель 1-я Крычаўскага р-на. На Беларусі цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне (даўжыня каля 50 км), асноўны прыток р. Сасноўка (злева). Даліна ў вярхоўі невыразная, ніжэй трапецападобная, шырыня 1,5—2 км. Схілы спадзістыя, радзей умерана стромкія, вышыня 10—25 м. Пойма двухбаковая, шырыня 0,2—0,3 км, у ніжнім цячэнні 0,3—0,5 км. У разводдзе затапляецца ў сярэднім і ніжнім цячэнні на глыбіню 1—2,5 м тэрмінам да 8—12 сут. Рэчышча звілістае, шырыня ракі ў межань на Беларусі 20—30 м. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя.

**АТКАЛО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Капыльскім і Слуцкім р-нах, левы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца з р. Копанка (верхняе цячэнне Морачы) за 1,5 км на ПнУ ад в. Вуглы Капыльскага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Леніна Слуцкага р-на.

**АТО́ЛАВА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 8,2 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 16,4 м.**
**Даўжыня 9,4 км.**
**Найбольшая шырыня 2,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 38,8 км.**
**Аб'ём вады 27,9 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 325 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 16 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Загор'е. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Катлавіна мае некалькі шырокіх плёсаў. Схілы ў большасці высокія, месцамі тэрасаваныя, на ПдУ нізкія, забалочаныя. Берагі высокія, у паўночнай і паўночна-заходняй частцы зліваюцца са схіламі; там жа озавая града вышынёй да 30—35 м. Дно з упадзінамі і мелямі, уздоўж берагоў пясчанае, у паўночна-заходнім плёсе камяністае і пясчана-галечнікавае, глыбей сапрапелістае. 7 астравоў агульнай пл. 0,3 км$^2$. Расліннасць у паўночна-заходнім і паўднёвым плёсах утварае паласу шырынёй да 200 м. Злучана пратокамі з азёрамі Ліпна і Чорная Урода; праз возера цячэ р. Дзіва.




**Возера Атолава.**

**АТО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Камянецкім р-не, правы прыток р. Сіпурка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 26,6 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Альвус, упадае ў Сіпурку за 1,5 км на ПнЗ ад в. Асінікі.

**АТО́ЦКІ СТАРЫ́ КАНА́Л,** гл. *Нагорны канал.*

**АТО́ЧНА-СЛАБО́ДСКІ КАНА́Л,** ме-

**Рака Асцёр у Клімавіцкім раёне.**

ліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Волма, на паўн. ускраіне в. Іванічы ўпадае ў Волму.

**АТРЭПКІ**, возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1,2 км на ПдЗ ад в. Шаўрава. Схілы катлавіны невыразныя, возера акружана забалочаным лесам. Выцякае ручай Салонаўка.

**АТЦЭДА**, рака, гл. *Альхоўка.*

**АТЦЭДКА**, рака, гл. *Альхоўка.*

**АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ**, канал на ПнУ Польшчы і ў Гродзенскім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 102 км (на тэрыторыі Беларусі 15 км). Сярэдняя глыбіня 1,8 м. Пабудаваны ў 1824—39, каб стварыць водны шлях для перавозкі грузаў з бас. Дняпра (па Дняпроўска-Бугскім канале), Віслы і Нёмана да Балтыйскага мора. Складаецца з сістэмы ўласна каналаў, азёр, сажалак, каналізаваных участкаў рэк і пратокаў паміж азёрамі. На тэрыторыі Беларусі ўключае частку р. Чорная Ганча даўжынёй 9 км (1 км ад в. Лясная — 0,5 км на ПдЗ ад в. Сонічы) і асобнае рэчышча даўжынёй 6 км, якое злучае р. Чорная Ганча з Нёманам (каля в. Нямнова). Цяпер страціў ролю транспартнай артэрыі, захоўваецца як помнік гідратэхнічнага будаўніцтва.



Рака **Аўсянка** ў верхнім цячэнні.

**АЎРАМАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Капаткевіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 4 км на З, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад г. п. Капаткевічы.

**АЎСІМАВІЦКІ КАНАЛ**, гл. *Варатынскі канал.*

**АЎСОВІНА**, рака ў Слаўгарадскім і Карманскім р-нах, правы прыток Сажа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 48,5 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Церахоўка Слаўгарадскага раёна, упадае ў Сож каля в. Студзянец Карманскага р-на. Ад вусця да в. Лабыроўка на працягу 5,4 км каналізаваная.

**АЎСЯНКА**, рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток Усвячы (бас. Зах. Дзвіны).



**Даўжыня 90 км.**
**Пл. вадазбору 598 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Сіціна, цячэ праз 7 азёр (у т. л. Нес-ра, Вышадскае, Мядзена, Цеста), вярхоўе і сярэдняе цячэнне ў межах Гарадоцкага ўзвышша, ніжэй на Суражскай нізіне. Асноўныя прытокі: Асеча (справа), Гардынка і Салонаўка (злева). Упадае ва Усвячу каля в. Любань Усвяцкага р-на Пскоўскай вобл. Даліна да в. Смолаўка скрынка- або трапецападобная, шырынёй 300—400 м, ніжэй па цячэнні невыразная. Пойма двухбаковая, шырынёй 100–300 м. Рэчышча ўмерана звілістае, шырынёй 4–6 м, у сярэднім і ніжнім цячэнні месцамі да 50 м. У рацэ трапляецца вадзяны арэх — ахоўны рэліктавы від у флоры БССР (месца яго росту ніжэй воз. Ведрынскае аб'яўлена помнікам прыроды).

**АЎЦЮКІ**, вадасховішча ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,62 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,3 м.**
**Даўжыня каля 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Аб'ём вады 1,9 млн. м³.**

За 12 км на У ад г. Калінкавічы, каля в. Малыя Аўцюкі. Наліўное. Створана ў 1980 для арашэння, увільгатнення, двухбаковага рэгулявання воднага рэжыму глебы. Напаўняецца



Возера **Атолава.**

вадой за кошт сцёку р. Закованка і меліярацыйных каналаў. Ваганні ўзроўню на працягу года 2,7 м.

**АЎЧОСА,** рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток Басі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 26 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на ПнЗ ад в. Лысая Гара, вусце каля паўночнай ускраіны в. Карасі. Рэчышча каналізаванае на працягу 6,4 км ад вытоку да в. Акунёўка.

**АФАНАСЬЕЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Дубровенскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Пл. вадазбору 80,7 км².**

У бас. р. Лучоса, за 20 км на ПнУ ад г. Дуброўна, за 1 км на ПдУ ад в. Азеры. Схілы катлавіны вышыней да 8 м, пад хмызняком. Берагі высокія. Праз возера цячэ р. Вярхіта.

**АХОДНІК,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца на У ад в. Малькавічы ва ўрочышчы Аходнік, упадае ў Шчару за 1 км на Пн ад в. Чарлёнка.

**АХОНАЎКА,** рака, гл. *Пятроўка.*

**АЦКАЎЛЯНКА,** рака, гл. *Скулянка.*

**АЧОСА,** рака ў Гомельскай вобл., правы прыток Іпуці (бас. Дняпра).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 232 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ ад в. Уютны Веткаўскага р-на. Цячэ на мяжы Бранскай вобл. і Беларусі, упадае ў Іпуць за 4 км на У ад в. Дзям'янкі Добрушскага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**АШАНСКІ КАНАЛ,** гл. *Гашчанскі канал.*

**АШМЯНКА,** рака ў Гродзенскай вобл., левы прыток Віліі. Даўжыня 105 км.

**Пл. вадазбору 1490 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 13,4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Мураваная Ашмянка Ашмянскага р-на, у вярхоўі працякае па цэнтральнай частцы Ашмянскага ўзвышша, у сярэднім і ніжнім цячэнні па Нарачанска-Вілейскай нізіне. Асноўныя прытокі: Гаружанка, Панарка, Сікуня, Сікунка (справа), Лоша, Кернава (злева). Даліна выразная, яе шырыня 1—1,5 км. Пойма роўная, перасечаная, шырынёй ад 200 да 300 м, азёр на ёй мала (найбольшае воз. Рыжае). Рэчышча ў межань да вусця р. Гаружанка мае шырыню 3—5 м, ніжэй 15—20 м; на працягу 6,3 км каналізаванае (ад в. Мураваная Ашмянка да вусця р. Забалаць). Берагі стромкія, абрывістыя, у ніжнім цячэнні параслі хмызняком. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у канцы сакавіка. На рацэ створана Рачунскае вадасховішча, у маляўнічай мясціне зона адпачынку Ашмянка. Каля в. Харанжышкі сажалка (пл. 0,02 км²). У пойме меліярацыйныя каналы.

**АШМЯНКА,** Лебяжода, рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Кроманкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 37 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Налібакі Стаўбцоўскага р-на, упадае ў Кроманку за 4 км на ПнУ ад в. Купіск Навагрудскага р-на.

**АШУРКАВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Нача (левы прыток Зах. Дзвіны), за 22 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Антонавічы, сярод балота.

**АШЫЦІК,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Асінаўка. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, разараныя. Упадае ручай, выцякае ручай Муравец у Зах. Дзвіну.



Рака Ашмянка каля вёскі Маркуны Астравецкага раёна.

**БА́БА,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, левы прыток канала Мухавец (вярхоўе р. Мухавец). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Дабучын, упадае ў Мухавец у г. Пружаны. У разводдзе магчыма перакідванне часткі сцёку па калектары ў р. Ясельда. У Пружанах працякае праз сажалку.

**БАБАРЫ́КІ,** возера, гл. *Соміна.*

**БА́БАЧКА,** рака ў Слонімскім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Бабінічы, упадае ў Шчару на ПдУ ад в. Задвор'е. На ўсім працягу каналізаваная.

**БАБЁНКА,** назва р. Асачанкі ў верхнім цячэнні.

**БА́БІНА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Мядзелка, за 18 км на ПдУ ад г. Паставы, за 0,5 км на Пд ад в. Гаўрылавічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, у ніжняй частцы забалочаныя, у верхняй — разараныя. Злучана каналізаванымі ручаямі з азёрамі Лісіцкае і Лучай. Уздоўж ручаёў на У і Пн забалочаная пойма.

**БА́БІНА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.**

У бас. р. Ула, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, за 0,7 км на У ад в. Бортнікі 1. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам. На Пн забалочаная пойма шырынёй 50—100 м.

**БА́БІЦКІ КАНА́Л,** Станцыённы канал, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Бабічы, за 3 км на Пд ад яе ўпадае ў Ведрыч.

**БА́БКА,** рака ў Салігорскім р-не, левы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Вейна, вусце за 1,8 км на ПдЗ ад в. Пузічы. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**БАБО́ЎЕ,** Пакроўка, меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Ваўчанка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Пакроўка, упадае ў Ваўчанку за 2 км на ПнЗ ад в. Восаў.

**БАБО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Ржаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Шапарня, упадае ў Ржаўку за 1,2 км на ПдЗ ад в. Даліна.

**БАБРО́ВА ВО́ЗЕРА,** Бабровае возера, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,28 км$^2$.**
**Даўжыня 1,18 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Пл. вадазбору 1 км$^2$.**

У бас. р. Шоша, за 24 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Лявонавічы, сярод лясного масіву. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м. Берагі пясчаныя, паўднёвыя супадаюць са схіламі. Злучана пратокай з воз. Крывое.

**БАБРО́ВА ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 35 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Баброва. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад сельскагаспадарчымі ўгоддзямі. На Пд і ПнЗ забалочаная пойма шырынёй 100 м.

**БАБРО́ВІЦА,** рака ў Дубровенскім р-не, правы прыток р. Вярхіта (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 5 км на ПнУ ад в. Шэкі, вусце ў межах той жа вёскі. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**БАБРО́ВІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 9,47 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8 м.**
**Даўжыня 4,9 км.**
**Найбольшая шырыня 3,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 14,4 км.**
**Аб'ём вады 25 млн. м$^3$.**

У бас. р. Грыўда, за 30 км на ПдУ ад г. Івацэвічы, каля в. Бабровічы, у межах гідралагічнага заказніка Выганашчанскае (створаны ў 1986). Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, затарфаваныя і забалочаныя. Берагі нізкія, тарфяністыя, параслі хмызняком. На ПдЗ, З і ПнЗ пясчаны берагавы вал вышынёй да 4 м. Дно плоскае, сапрапелістае, мелкаводдзе пясчана-ілістае. Моцна зарастае. Месца гнездавання і адпачынку ў час асенне-вясенніх пралётаў вадаплаўных птушак.

**БАБРО́ЎКА,** рака ў Слаўгарадскім і Быхаўскім р-нах, левы прыток Дняпра.

**Даўжыня 27 км.**
**Пл. вадазбору 158 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Жарэлы Слаўгарадскага р-на, упадае ў Днепр за 2 км на З ад в. Сялец Быхаўскага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БАБРО́ЎКА,** рака ў Мсціслаўскім і Горацкім р-нах, правы прыток Вербаўкі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 46 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.**

Пачынаецца на ПнУ ад в. Ракшыно Мсціслаўскага р-на, упадае ў Вербаўку за 1 км на З ад в. Крычаватка Горацкага р-на. Рэчышча ў ніжнім цячэнні на працягу 5 км каналізаванае.

**БАБРО́ЎКА,** рака ў Шуміліснкім р-не, левы прыток р. Будавесць (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 2,8 км на ПдЗ ад в. Мясаедава, вусце за 1,5 км ніжэй в. Слабада. Рэчышча на працягу 5 км ад вытоку і на 1 км уверх ад вусця каналізаванае.




**Бабровіцкае возера.**




**Бабровіцкае возера.**




**Возера Бабча.**

**БАБРО́ЎКА,** рака ў Смаргонскім і Валожынскім р-нах, правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля в. Крыўск Смаргонскага р-на, упадае ў Бярэзіну на ПдЗ ад в. Лістапады Валожынскага р-на. На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**БАБРО́ЎКА,** рака, гл. *Чарэшынка.*

**БАБРО́ЎНА,** возера у Расонскім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1 км.

У бас. р. Свольна, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2,7 км на У ад в. Ізубрыца. Сярод лесу, акружана забалочанай поймай. Выцякае ручай у р. Лонніца.

**БАБРО́ЎНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Астравецкім р-не, правы прыток Газоўкі (бас. Віліі). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 2,2 км на У ад в. Бадзівалы, упадае ў Газоўку за 1 км на У ад в. Больнікі.

**БАБРУ́ЙКА,** рака ў Бабруйскім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

Даўжыня 14,5 км.
Пл. вадазбору 88 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Каменка. Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. На ўсім працягу каналізаваная. Пры ўпадзенні ракі ў Бярэзіну заснаваны г. Бабруйск.

**БАБРУ́ЙКАЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Ельскім р-не.

Пл. 1,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 3,3 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Аб'ём вады 1,83 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 162 км$^2$.

На р. Мытва, за 7 км на У ад г. Ельск, каля в. Бабруйкі. Створана ў 1972 для арашэння і рыбагадоўлі. Правы бераг вышынёй 5—6 м, парослы хваёвым лесам; левы — да 10 м, пад змешаным лесам і часткова ворывам. Сярэдні шматгадовы аб'ём сцёку 19,3 млн. м$^3$. Месца адпачынку.

**БА́БЧА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 13 м.
Даўжыня 0,87 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.
Аб'ём вады 1,35 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,95 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 16 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Бабча. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, на У 20—22 м. Берагі нізкія, на Пн і У тарфяністыя. Дно ілістае, мелкаводдзе пясчанае. Выцякае ручай у воз. Кабак.

**БАБЫ́НА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,49 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 32,3 м.
Даўжыня 1,33 км.
Найбольшая шырыня 0,56 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,6 км.
Аб'ём вады 6,07 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 6,3 км$^2$.

У бас. р. Нача, за 15 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Бабынічы. Схілы катлавіны вышынёй ад 7 да 40 м, пад пашай або лесам. Ніжняя частка схілаў амаль паўсюдна ўтварае стром-



**Бабровіцкае возера.**

кі абразійны ўступ вышынёй ад 1 да 9 м. Берагі нізкія, пясчаныя і гліністыя. Мелкаводдзе вузкае. Дно пясчанае, глыбей 8—10 м — ілістае. Зарастае, шырыня паласы расліннасці месцамі да 70 м. Злучана пратокай з воз. Бабынічы.

**БАБЫНІЧЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,6 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 1,87 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,5 км.**
**Аб'ём вады 1,18 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 67,5 км$^2$.**

У бас. р. Нача, за 15 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Бабынічы. Схілы катлавіны вышынёй да 30—40 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на ПнЗ і З сплавінныя. Дно плоскае, мелкаводдзе пясчанае, глыбей сапрапелістае. Моцна зарастае да глыб. 2,5 м. Праз возера працякае р. Быстрыца. Злучана пратокай з воз. Бабына.

**БАГДА́НАЎКА,** меліярацыйны канал у Лунінецкім і Пінскім р-нах, левы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 30 км. Пачынаецца за 12 км на ПнУ ад в. Багданаўка Лунінецкага р-на, вусце за 0,3 км на ПнУ ад в. Бакінічы Пінскага р-на. Ад вусця на працягу 5 км уверх працякае па старым рэчышчы ракі Бобрык 1-ы.

**БАГДА́НАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

**Пл. 1,19 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 16,2 м.**
**Даўжыня 3,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі каля 8 км.**
**Аб'ём вады 9,1 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 89,4 км$^2$.**

У бас. р. Крывінка (выцякае з возера), за 5 км на ПнЗ ад г. Сянно. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м, месцамі да 10 м, у верхняй частцы разараныя, у ніжняй — пад лесам. Прыбярэжная частка дна пясчаная, глыбакаводная — ілістая. Амаль чвэрць плошчы дна выслана расліннасцю. Упадаюць 2 ручаі; злучана пратокай з воз. Сянно.

**БАГДА́НАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,04 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 2,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,63 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7 км.**
**Аб'ём вады 2,57 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 11,8 км$^2$.**

У бас. р. Янка, за 16 км на Пд ад г. Браслаў, за 3 км на З ад в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на Пн сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае, мелкаводдзе пясчанае. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 3 м. Упадаюць 2 ручаі, на Пд выцякае р. Янка.

**БАГДАНАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра).



**Багданаўскае возера** (Сенненскі раён).

Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 0,7 км на Пд ад в. Ахацічы, злучаецца з Алай за 2,8 км на ПдУ ад в. Пад-лессе.

**БАГДА́НАЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Гаст.*

**БАГУСЛА́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Серадовая Рэчка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Багуслаўка, упадае ў Серадовую Рэчку за 1 км на ПнЗ ад в. Ацяты.

**БАГУШЭ́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, правы прыток р. Нача (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,4 км. Выцякае з воз. Людзвішча за 1 км на ПнЗ ад в. Гуры, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Арэхаўна.

**БАГУШЭ́ЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Вялікая Банеўка.*

**БАЙНА́,** рака ў Чашніцкім і Лепельскім р-нах, правы прыток Эсы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Дабрамыслі Чашніцкага р-на, цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша. Упадае ў Эсу каля в. Валатоўкі Лепельскага р-на.

**БАКІ́НІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 0,5 км



**Багданаўскае возера** (Браслаўскі раён).





**Багданаўскае возера** (Сенненскі раён).





**Багданаўскае возера** (Сенненскі раён).

на ПнУ ад в. Вяз, вусце за 1,6 км на ПдУ ад в. Бакінічы.

**БАЛАВЕЦ,** Н о ч в і х а, рака ў Лагойскім р-не, правы прыток Дзвінасы (бас. Віліі).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 70 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Юльянова, упадае ў Дзвінасу каля в. Салаўёўка. На працягу 9,4 км каналізаваная (за 1,8 км на ПнЗ ад в. Загор'е да вусця).

**БАЛАЦНЯНКА,** рака, гл. *Гутлянка.*

**БАЛАЧАНКА,** рака ў Чэрвеньскім і Пухавіцкім р-нах, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

**Даўжыня 36 км.**
**Пл. вадазбору 418 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Кобзевічы Чэрвеньскага р-на, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Балачанка Пухавіцкага р-на. Асноўны прыток — Чарняўка (справа). Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, у сярэднім і ніжнім трапецападобная. Пойма раўнінная, двухбаковая, шырынёй 0,5—0,7 км. Ад вытоку на працягу 28 км рэчышча каналізаванае, у ніжнім цячэнні месцамі звілістае, яго шырыня ў верхнім і сярэднім цячэнні 3—6 м, у ніжнім 15—17 м. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных сістэм.



**Багданаўскае возера** (Браслаўскі раён).

**БАЛВАНКА,** Б а л в а н ь, рака ў Капыльскім і Клецкім р-нах, левы прыток Лані (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 69 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Браткава Капыльскага р-на, цячэ па раўніне, якая акружае Капыльскую граду. Упадае ў Лань за 1 км на З ад в. Рубеж Клецкага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. На рацэ каля в. Заполле Клецкага р-на створана сажалка пл. 16 га.

**БАЛГАЧ,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Страдна, упадае ў Страднае возера з ПдЗ за 0,5 км на Пн ад в. Страдна. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**БАЛДУК,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,78 км².**
**Найбольшая глыбіня 39,7 м.**
**Даўжыня 2,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5 км.**
**Аб'ём вады 11,89 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,6 км².**

У бас. р. Страча, за 33 км на ПнЗ ад Мядзела, у Балдуцкай групе азёр, на тэрыторыі ландшафтнага заказніка Блакітныя азёры, створанага ў 1972, каб зберагчы унікальны ўзгорыста-азёрны прыродны комплекс у Беларускім Паазер'і. Схілы катлавіны вышынёй 25—30 м. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдУ нізкія, забалочаныя. Мелкаводдзе пясчанае. 2 упадзіны глыбінёй 38,1 м і 39,7 м, раздзеленыя 7-метровым падняццем. Вада вызначаецца высокай мінералізацыяй (245—270 мг/л) і празрыстасцю. Расліннасць дасягае глыбіні 6—8 м. Упадае ручай з воз. Балдучыца, выцякае ручай у р. Страча.

**БАЛДУЦКАЯ ГРУПА АЗЁР,** на мяжы Пастаўскага, Мядзельскага і Астравецкага р-наў, на З Беларускага Паазер'я, у бас. р. Страча, на тэрыторыі ландшафтнага заказніка Блакітныя азёры. Уключае невялікія азёры Балдук, Глубля, Глубелька, Ячмянец, Мёртвае, Імшарац і сістэму Альшэўскіх рыбаводных сажалак (гл. картасхему). Агульная плошча 1,5 км², аб'ём вады 18,3 млн. м³. Размешчаны сярод маляўнічага комплексу водна-ледавіковых форм рэльефу (адносныя вышыні 25—30 м), парослага хваёвым і хваёва-яловым лесам. Па азёрах праходзіць турысцкі маршрут.


**Возера Балдук.**

**БАЛДУЧЫЦА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,19 км.**
**Найбольшая шырыня 0,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Страча, за 32 км на ПдЗ ад г. Паставы, за 1 км на ПнЗ ад в. Вайшкуны, у межах заказніка Блакітныя азёры. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, у ніжняй частцы забалочаныя. З усіх бакоў забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. Выцякае ручай у р. Лынтупка.

**БАЛЕВІЦА,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,34 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.**

У бас. р. Страча, за 7 км на Пд ад г. п. Шуміліна, на Пн ад в. Непароты, за 0,2 км на Пд ад воз. Лескавічы. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, пад хмызняком. На ПнЗ забалочаная пойма шырынёй да 150 м.

**БАЛОЙСА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,39 км².**
**Найбольшая глыбіня 15,6 м.**
**Даўжыня 2,06 км.**
**Найбольшая шырыня 1,02 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,8 км.**
**Аб'ём вады 7,3 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

У бас. р. Друйка, за 2,5 км на ПнУ ад г. Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны невысокія, спадзістыя, паўднёва-ўсходнія пад хмызняком, заходнія і паўднёва-заходнія разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на У глiністыя, месцамі забалочаныя і парослыя хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, на З і У месцамі пясчана-галечнае. 3 невялікія астравы. Злучана пратокай (шырыня да 200 м) з воз. Струста. Зарастае да глыбіні 5 м. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй да 100 м. Забруджваецца сцёкавымі водамі Браслава.

**БАЛОНАЎКА,** рака ў Быхаўскім р-не, у бас. Дняпра.

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 113 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 2,2 км на Пн ад в. Кучын, упадае з У у Чыгірынскае вадасховішча каля в. Балонаўка. Ад вытоку на 10,8 км рэчышча каналізаванае.

**БАЛОТНІЦА,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Мужанка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Прыяміна, вусце на ПдЗ ад в. Забалотніца. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**БАЛОТНІЦА,** рака, гл. *Свідавец.*

**БАЛОТНІЦКІ КАНАЛ,** Дзедавец, меліярацыйны канал у Гарадоцкім р-не, у бас. р. Ловаць. Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца з воз. Дзедава, за 1 км на ПдУ ад в. Задрачча, упадае ў воз. Сенніца (на тэрыторыі Пскоўскай вобл.) з ПдЗ, за 0,7 км на ПнЗ ад в. Дарахі.

**БАЛОЦІНКА,** рака ў Воранаўскім р-не, левы прыток Шальчы (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Ёткішкі, упадае ў Шальчу за 0,5 км ад в. Бражольцы. На ўсім працягу каналізаваная.

**БАЛОШЫНКА,** рака ў Астравецкім р-не, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 64,5 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.**

Пачынаецца каля х. Бяляны, на працягу 7 км цячэ па мяжы з Літвой, упадае ў Вілію за 1 км на ПнЗ ад х. Балашынка. У вярхоўі цячэ праз забалочаную лясістую мясцовасць.



Возера Балойса.

**БАНКАВА КАНАВА,** меліярацыйны канал у Іўеўскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца ва ўрочышчы Кухня за 5 км на ПдУ ад в. Паташня, цячэ праз лясныя масівы, упадае ў Бярэзіну ва ўрочышчы Галайбава Града за 2 км на ПдУ ад в. Мільва-Бярэзіна. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**БАРАВІКОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Сведзь (бас. Дняпра). Даўжыня 11,9 км. Пачынаецца за 1,2 км на Пд ад в. Страковічы, упадае ў Сведзь за 0,5 км на Пд ад в. Баравікі.

**БАРАВІКОЎСКІ 1-ы КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правая кампанента р. Смердзь (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца каля в. Кормуж, злучаецца з Баравікоўскім 2-м каналам за 1,5 км на ПнЗ ад в. Міжлессе.

**БАРАВІКОЎСКІ 2-і КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левая кампанента р. Смердзь (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Кормуж, зліваецца з Баравікоўскім 1-м каналам за 1,5 км на ПнЗ ад в. Міжлессе.

**БАРАВІНКА,** рака ў Уздзенскім р-не, правы прыток Лошы (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ ад в. Смалінец, упадае ў Лошу на ПдЗ ад в. Румок.

**БАРАВІЦА,** меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток Слаўкавіцка-Ямінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,1 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдУ ад в. Харомцы, вусце за 3,5 км на ПдУ ад в. Рэпін.

**БАРАВІЧАНКА,** рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток Вярэдаўкі (бас. Віліі). Даўжыня 13 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Новая, упадае ў Вярэдаўку за 3 км на ПнУ ад в. Мясата ў лясным урочышчы Чырвоны Бор. На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў. Магчымы пераліў вады ў Рыбчанку па канале каля в. Гарнякі.

**БАРАВОЕ ВОЗЕРА,** Барова, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,49 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 16 м.**
**Даўжыня 0,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,54 км.**
**Пл. вадазбору 3 км$^2$.**

У бас. р. Галбіца, за 28 км на У — ПдУ ад г. Паставы, за 2 км на ПдУ ад в. Дунілавічы, сярод лесу. Катлавіна са спадзістымі схіламі; усходні бераг пясчаны, заходні забалочаны. Зарастае слаба.

**БАРАВОЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,24 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 15 м.**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Пл. вадазбору 6,25 км$^2$.**

У бас. р. Ласіца, за 30 км на У — ПнУ ад г. Паставы, за 1 км на З ад в. Казлоўшчына. Паўднёва-заходнія схілы катлавіны стромкія, паўднёва-ўсходнія спадзістыя, берагі пясчаныя. Злучана пратокай з воз. Крывое.



Балдуцкая група азёр.




Возера Балойса.




Баравое возера (плошча 0,24 км$^2$).

**БАРАВЯНО́К,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Найбольшая глыбіня 14 м.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.**
**Пл. вадазбору 3,2 км².**

У бас. р. Альзініца, за 15 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, на Пд ад в. Белюкоўшчына. Ляжыць сярод узгоркаў вышынёй 6—9 м, укрытых лесам. Берагі пясчаныя, забалочаныя, пад хмызняком. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4 м.



Возера **Баравянок** (пл. 0,12 км²).



Возера **Баравянок** (пл. 0,09 км²).

**БАРАВЯНО́К,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,8 м.**
**Даўжыня 0,41 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Пл. вадазбору 0,4 км².**

У бас. р. Альзініца, за 8 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1 км на З ад в. Двор Пліна. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, укрыты лесам, на Пн разараныя. Берагі высокія, пясчаныя, на ПнЗ забалочаныя, пад хмызняком. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4,5 м.

**БАРА́Н,** рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Домса (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца на З ад в. Кастрычнік, вусце на З ад в. Вялікі Трылесін. Каналізавана 2,3 км рэчышча паміж вёскамі Чырвоны Араты і Вялікі Трылесін.

**БАРА́НАВА,** рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Лашанкі (бас. Нёмана). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Хлістовічы, упадае ў Лашанку на ПдЗ ад в. Ліхоўка. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БАРА́НАВА КАНА́Л,** Беліна, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 19 км. Выцякае з Сакавіцкага возера, вусце за 3,5 км на З ад в. Камсамолец.

**БАРА́НАЎКА,** рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Пяршайкі (бас. Іслачы).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 34 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца на Пн ад в. Мяжэйкі, упадае ў Пяршайку каля в. Галубы. На працягу 2,8 км каналізаваная (ад в. Ляшчатка да вусця).

**БАРА́НАЎКА,** рака ў Капыльскім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Лугавая, упадае ў Нёман на Пн ад в. Пясочнае. На ўсім працягу каналізаваная. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**БАРА́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Астравецкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 1,08 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 км.**

У бас. р. Сарачанка, за 35 км на Пн — ПнУ ад г. п. Астравец, на Пн ад в. Барані. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны пад лесам, на З разараныя. Праз возера цячэ р. Клевель (у верхнім цячэнні мае назву Сарачанкі).

**БАРА́НЬ,** Халастоўка, рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Адроў (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12,6 км.**
**Пл. вадазбору 54 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,3 ‰.**

Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Лісуны. На ўсім працягу каналізаваная. У вусці г. п. Барань.

**БАРАЎЛЯ́НКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Дзвінасы (бас. Віліі). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад мемарыяльнага комплексу Хатынь, цячэ праз лес, упадае ў Дзвінасу ў яе вярхоўі. Ад вусця на працягу 1,5 км рэчышча каналізаванае.

**БАРАЎЛЯ́НСКАЕ,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,34 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Лужаснянка, за 13 км на Пн ад Віцебска, за 2,5 км на ПнЗ ад в. Мазалава. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на У пад выганам, на З пад лесам.

**БАРАЎСКІ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лёзненскім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,3 км на Пд ад в. Замошша, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Дразды.

**БАРАЎСКО́Е ВО́ЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**

У бас. р. Шасцёнка, за 10 км на Пн ад г. Віцебск, каля в. Дрыколле. Схілы катлавіны ўзгорыстыя, пад хвойным лесам. Бяссцёкавае. На берагах піянерскія лагеры.

**БАРБАРО́ЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Малінаўскі канал.*

**БАРВІНО́К,** возера ў Браслаўскім р-не, на мяжы з Латвіяй.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Друйка, за 22 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 3,5 км на У ад в. Шамялі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м. На Пн упадае ручай з возера без назвы, на Пд выцякае ручай у воз. Берца.

**БАРКО́ЎШЧЫНА,** Малая Даўгоўшчына, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Найбольшая глыбіня 21,8 м.**
**Даўжыня 0,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**
**Аб'ём вады 0,92 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 11,4 км².**

У бас. р. Ушача, за 8 км на Пд ад г. п. Ушачы, каля в. Вашкова, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 20—30 м, на Пд і Пн не выражаны, на З абразійны ўступ вышынёй 2—3,5 м. Берагі нізкія, на ПнЗ і З сплавіна шырынёй 5—10 м, усходні бераг пясчаны, паўднёвы забалочаны. Мелкаводная зона вузкая, пясчаная, глыбакаводная выслана ілам. Надводная

(бас. Зах. Буга). Даўжыня 11,8 км. Пачынаецца за 2,8 км на У ад в. Франопаль, упадае ў Рыту каля ўсходняй ускраіны в. Падлессе Радваніцкае.

**БАТЫЎЛЯ,** рака ў Лельчыцкім і Ельскім р-нах, левы прыток Славечны (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 36,5 км.**
**Пл. вадазбору 734 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,2 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Забродзе Лельчыцкага р-на, цячэ па раўніне Мазырскае Палессе. Упадае ў Славечну каля в. Кузьмічы. Асноўны прыток — канал Валаўскі (справа). Даліна слабавыразная, месцамі адсутнічае, шырынёй 0,8—1,6 км. Пойма вузкая, забалочаная. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. У пойме ракі каля в. Зашыр'е наліўная сажалка пл. 20 га.




**Возера Баторына.**

**БАХАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Быхаўскім і Слаўгарадскім р-нах, правы прыток р. Баброўка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Забродзе Быхаўскага р-на, вусце за 1 км на Пд ад в. Бахань Слаўгарадскага р-на.

**БАХМАТКА,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток Малой Рэчкі (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Бахматы, упадае ў Малую Рэчку за 1 км на Пн ад в. Агароднікі. На працягу 4 км каналізаваная (ад в. Бахматы да вусця).

**БАЦВІНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскай вобл., левы прыток р. Чачора (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Міхалёўка Кармянскага р-на, сярэдняе цячэнне ў Чачэрскім р-не, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Лозаўская Рудня Буда-Кашалёўскага р-на.

**БАЧОНАК,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.**

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 30 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,3 км на ПдУ ад в. Вялікія Асёткі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2 м. На Пн выцякае ручай у р. Дрыса.

**БАЧЫЛАЎКА,** рака ў Лагойскім р-не, правы прыток Іліі (бас. Віліі). Даўжыня 3 км. Пачынаецца каля в. Вялікія Укропавічы, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Аляксандрына. Каля вусця 0,5 км рэчышча каналізаванае.

**БАЧЭВІНСКІ КАНАЛ,** Пешкі, меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток Маркавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Міхалкі, вусце за 2 км на Пд ад в. Стаўкі.

**БАШТА,** рака ў Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,6 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Нарутавічы, вусце за 2 км на У ад в. Сялец, праз якую Башта працякае. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БАЯВАЯ,** канал, гл. *Ізбынька*.

**БАЯВАЯ КАНАВА,** гл. *Ярцаўскі канал*.

**БАЯНАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, правы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2,5 км на З ад в. Бабровічы, вусце за 5 км на У ад в. Барбарова.

**БАЯНАВІЦКІ КАНАЛ,** гл. *Плясецкі канал*.

**БАЯНІЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Любанскім р-не. Пл. 0,58 км². У бас. р. Арэса, за 20 км на ПдУ ад г. Любань, каля в. Сосны. Цахмінскім каналам злучана з р. Арэса.

**БАЯРКА,** рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток Лашанкі (бас. Нёмана).

**Рака Бася ў ніжнім цячэнні.**

**Даўжыня 15 м.**
**Пл. вадазбору 77,5 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Саломенка, вусце ў в. Лаша. На працягу 4,4 км каналізаваная (ніжэй вытоку да в. Пяслі).

**БАЯ́РСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,5 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2 км.**
**Аб'ём вады 0,23 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 17,2 км².**

У бас. р. Свінка (працякае праз возера), за 12 км на ПнУ ад г. Чашнікі, каля в. Баяры. Схілы катлавіны пераважна разараныя. Берагі сплавінныя, на ПдУ абразійныя. Возера акружана забалочанай поймай. Дно сподкападобнае, сапрапелістае, уздоўж берагоў вузкая паласа ілу і пяску. Амаль трэць плошчы возера занята расліннасцю (паласа шырынёй 10—175 м да глыбіні 1 м).

**БАЯ́РСКАЯ,** назва р. *Альзініца* ў верхнім цячэнні.

**БАЯ́РЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Баяры, упадае на Пд у Вілейскае вадасховішча, за 4,5 км на ПнЗ ад в. Будзішча.

**БЕ́ДРЫЦА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Нача (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Карсюкі, вусце за 0,6 км вышэй вёскі Касарэва. Рэчышча ад вусця на працягу 5,7 км каналізаванае.

**БЕ́ЖЫЦА,** рака ў Глускім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля в. Кругаўшчына, вусце за 2 км на У ад в. Бярозаўка. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,2 км каналізаванае. У вярхоўі прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў, у сярэднім і ніжнім цячэнні цячэ праз лес.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Пагонненскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 18,5 км. Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Іванаўка, злучаецца з каналам за 5,6 км на ПнЗ ад в. Вярховая Слабада Брагінскага р-на.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 17,2 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад воз. Белае, вусце каля в. Вышні. Мае прыток — Бастынскі канал (злева).

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Агароднікі, злучаецца з Ясельдай за 2,5 км на З ад в. Новая.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Кажушкавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца з р. Віць за 2,8 км на ПдЗ ад в. Барысаў, упадае ў канал за 4 км на Пд ад в. Навасёлкі.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** Б я р к о з ы, меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Піна (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца за




**Баярскае возера.**



**Возера Баторына.**

Вадасховішча **Белавежская Пушча.**

**Белае возера** (Гродзенскі раён).

**Белае возера** (Верхнядзвінскі раён, плошча 5,52 км$^2$).

1 — у воз. Лісна

1 км на Пн ад в. Богушава, вусце каля в. Кончыцы.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, правы прыток р. Жабінка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца з сажалак рыбгаса «Сакалова» на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Сакалова, упадае ў Жабінку ў межах г. Жабінка.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кармянскім р-не, правы прыток р. Добрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Сапажкі, упадае ў Добрыч за 1 км на У ад в. Высокая.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Уса (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Якшыцы, упадае ва Усу на У ад в. Рэгнаполле.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** рака, гл. *Доўгая.*

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ КАНА́Л,** ручай, гл. *Стражніца.*

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Астравецкім р-не, правы прыток Кемеліны (бас. Віліі). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПнУ ад в. Кемелішкі, упадае ў Кемеліну за 2,3 км на ПнЗ ад в. Вялікія Свіраны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Сулы (бас. Нёмана). Даўж. 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Дружная, упадае ў Сулу за 1,2 км на ПдЗ ад в. Ругаец. На працягу 5,6 км каналізаваны (ад вытоку да паўднёвай ускраіны в. Ругаец). У вярхоўі прымае сцёк з асушальных каналаў; здабываюць торф.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Воранаўскім р-не, левы прыток Жыжмы (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля в. Пераганцы, упадае ў Жыжму на У ад в. Сцілгуны. Ад вытоку на працягу 2,7 км каналізаваны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** Жырмунскі канал, ручай у Воранаўскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца каля в. Жырмуны, упадае ў Дзітву за 1,3 км на ПдУ ад в. Ажэлішкі. На працягу 5 км каналізаваны (ад в. Жырмуны да вусця). Каля в. Таўкіні створана сажалка (пл. 0,21 км$^2$).

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Вілейскім р-не, правы прыток Жучкі (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Качанкі, упадае ў Жучку на У ад в. Касута. На ўсім працягу каналізаваны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Вілейскім р-не, правы прыток Канатопкі (бас. Віліі). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 2,3 км на ПнУ, упадае ў Канатопку за 1 км на ПдЗ ад в. Лоўнавічы. На ўсім працягу каналізаваны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Дзяржынскім р-не, левы прыток Пinduктуці — Пяратуці (бас. Нёмана). Даўжыня 3 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Калоднікі, упадае ў Ператуць на З ад в. Клачкі. На працягу 2,8 км каналізаваны (в. Камароўшчына — 1,5 км на ПнУ ад в. Клачкі).

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Мядзельскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 3 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Астраўляны, упадае ў Вішнеўскае возера на ПнУ. На ўсім працягу каналізаваны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Ашмянскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 2,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ, вусце за 0,5 на ПнУ ад в. Цімуты. На ўсім працягу каналізаваны.

**БЕЗНАЗО́ЎНЫ РУЧА́Й,** у Іўеўскім р-не, правы прыток р. Гастак (бас. Нёмана). Даўжыня 2,4 км. Пачынаецца на З ад х. Гілуха, упадае ў Гастак на У ад в. Добавічы.

**БЕЗУМЕ́ННІК,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток Завішчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Выцякае з воз. Безуменнік, вусце за 3 км на У ад в. Завішча.

**БЕЗЫМЕ́ННАЕ ВО́ЗЕРА,** Палыкаўскае возера, на мяжы Шклоўскага і Круглянскага р-наў.

**Белае возера** (Верхнядзвінскі раён, плошча 5,52 км$^2$).

Пл. 0,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2 м.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Пл. вадазбору 9,6 км$^2$.

У бас. р. Чарнаводка (выцякае з возера), за 17 км на З ад г. Шклоў і за 13 км на У ад г. п. Круглае, паміж вёскамі Палыкавічы і Азёры. Берагі забалочаныя, месцамі параслі хмызняком. Уздоўж берагоў зарастае.

**БЕЗЫМЯ́НКА,** рака ў Брэсцкім р-не, левы прыток р. Градаўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца каля в. Няневічы, вусце на паўднёвай ускраіне в. Чарнаўчыцы. Рэчышча каналізаванае.

**БЕЛААЗЕ́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала. Даўжыня 16 км. Пачынаецца з воз. Белае (на мяжы з Валынскай вобл.) за 5,6 км на Пд ад в. Гаравіца, упадае з Пд у водападзельны б'еф Дняпроўска-Бугскага канала каля в. Селішча. З'ўляецца часткай сістэ-



**Белае возера** (Драгічынскі раён).

мы, па якой ажыццяўляецца падача вады з Прыпяці (рэгулюецца плацінамі каля в. Радастава) на водападзельны б'еф Дняпроўска-Бугскага канала.

**БЕЛАБЯРЭ́ЖСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 5 км на ПнУ, вусце за 2 км на ПнУ ад г. п. Капаткевічы.

**БЕЛАВАРО́ЦІЦА,** рака ў Вілейскім р-не, левы прыток Віліі. Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Рэдзькавічы, цячэ праз лес, упадае ў Вілію на заходняй ускраіне в. Стаўкі. На працягу 10 км каналізаваная (ад вытоку да в. Стаўкі), прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**БЕЛАВЕ́ЖСКАЯ ПУ́ШЧА,** К а м я н ю ц к а е  в а д а с х о в і ш ч а,  П е р а в а л о ц к а е  в а д а с х о в і ш ч а, вадасховішча ў Камянецкім р-не.

**Пл. 3,32 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,95 м.**
**Даўжыня 3,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Аб'ём вады 2,12 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 51 км².**



**Белае возера** (Бярозаўскі раён).

На р. Перавалока (12 км ад вусця), за 25 км на Пн ад г. Камянец, каля в. Ляцкія, на тэрыторыі Белавежскай Пушчы. Створана ў 1964 для развядзення вадаплаўнай дзічыны. Сярэдні шматгадовы сцёк 6,6 млн. м³.

**БЕЛАГАЛО́ВАЕ ВО́ЗЕРА,** у Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,82 км.**

У бас. р. Страча, за 25 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, за 1,5 км на ПдЗ ад воз. Вялікія Швакшты. Схілы катлавіны забалочаныя, пад лесам, берагі забалочаныя, сплавінныя. Бяссцёкавае.

**БЕЛАГРУ́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лідскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Раклёўцы, упадае ў Дзітву каля в. Белагруда.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гродзенскім р-не.

**Пл. 7,1 км².**
**Даўжыня 13 км.**
**Найбольшая шырыня 1,15 км.**
**Пл. вадазбору 267 км².**

У бас. р. Пыранка (цячэ праз возера), за 25 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Азёры. Схілы катлавіны стромкія, вышынёй 10—15 м, парасла лесам, на Пд разараныя.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 5,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 2,73 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9 км.**
**Аб'ём вады 15,75 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 41,2 км².**

У бас. р. Свольна, за 38 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, на 3 ад воз. Лісна. Схілы катлавіны пад лесам, берагі нізкія, тарфяністыя. Дно плоскае, мелкаводдзе ўздоўж берагоў пясчанае. Зарастае да глыбіні 3—4 м. Праз возера працякае рэчка без назвы, якая злучае яго з воз. Лісна.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Драгічынскім р-не на мяжы з Валынскай вобл., Украіна.

**Пл. 5,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 11,6 м.**
**Даўжыня 3,48 км.**
**Найбольшая шырыня 2,78 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 11 км.**
**Пл. вадазбору 107 км².**

У бас. Белаазерскага канала, за 30 км на ПдЗ ад г. Драгічын, за 5 км на Пд ад в. Радастаў, сярод мяшанага лесу. Вакол возера невялікія пясчаныя ўзгоркі. Мелкаводдзе пясчанае. На паўднёвым плёсе востраў. Упадае канал на ПдЗ з воз. Валянскае, на Пн выцякае Белаазерскі, на ПнУ — Жыроўскі каналы (злучаюць возера з Дняпроўска-Бугскім каналам).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бярозаўскім р-не.

**Пл. 5,06 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**
**Даўжыня 3,2 км.**
**Найбольшая шырыня 2 км.**
**Пл. вадазбору 43 км².**





**Белае возера** (Верхнядзвінскі раён, плошча 5,52 км²).



**Белае возера** (Драгічынскі раён).




**Белае возера** (Бярозаўскі раён).

У бас. р. Ясельда, за 14 км на ПдУ ад г. Бяроза, каля г. Белаазерск. Схілы катлавіны спадзістыя, пясчаныя, месцамі пад лесам; берагі забалочаныя.

Дно плоскае, ілістае Зарастае. Уздоўж берагоў палосы трысьнягу, чароту. ірдзестаў. Упадаюць 4 канавы, сцек праз канаву ў Ясельду. Выкарыстоўваецца як ахаладжальнік Бярозаўскай ДРЭС і эксперыментальная база па развядзенню крэветак. У Беларусі ў 1982 у ахаладжальныя вадаёмы ДРЭС выпушчана 1500 асобін крэветкі ўсходняй субтрапічнай рачной. Яна добра акліматызавалася і размножылася. Выкарыстоўваецца як добры санітар (перапрацоўвае донныя адклады і ачышчае вадаёмы) і як корм для моладзі рыб. Патрабуе аховы.




**Белае возера** (Расонскі раён, плошча 3,01 км²).




**Белае возера** (Гарадоцкі раён, плошча 2,4 км²).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 3,01 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,1 м.**
**Даўжыня 2,75 км.**
**Найбольшая шырыня 2,25 км.**
**Аб'ём вады 10,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,1 км².**

У бас. р. Свольна, за 24 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, сярод хваёвага лесу. Схілы катлавіны стромкія, на ПнУ спадзістыя, пясчаныя, пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на ўсходнім заліве больш высокія, тарфяністыя, пад лесам і хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, дно глыбей за 2 м выслана ілам і сапрапелем. Вада вельмі празрыстая. Бясцёкавае, зарастае. Расліннасць утварае паласу шырынёй да 100 м. Месца адпачынку.

**БЕЛАЕ ВО́ЗЕРА,** Белае Сурміно, у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 2,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,9 м.**
**Даўжыня 2,7 км.**
**Пл. вадазбору 2,8 км².**

У бас. р. Обаль, за 40 км на Пн ад г. Гарадок, каля в. Сурміно. Схілы катлавіны спадзістыя, пад лесам; берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Дно пясчана-глеістае. Злучана пратокай з воз. Чорнае. Зарастае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Жыткавіцкім р-не.

**Пл. 1,56 км².**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 14 км на ПнЗ ад г. Жыткавічы, каля в. Белае. Берагі пясчаныя. Злучана пратокамі з Даманавіцкім каналам і рэкамі Случ і Скрыпніца. Упадае Рэпішчанскі канал. Жывіць сажалкі рыбакамбіната «Белае», што ў в. Баравая.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** Бельскае возера, ва Ушацкім р-не.

**Пл. 1,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 21 м.**
**Даўжыня 2,12 км.**
**Найбольшая шырыня 0,93 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,65 км.**
**Аб'ём вады 6,34 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 20,5 км².**

У бас. Зах. Дзвіны, у міжрэччы рэк Выдрыца і Ладасна, за 16 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, каля в. Белае. Схілы катлавіны вышынёй 6—9 м, на Пн да 16 м. Берагі высокія, на Пн зліваюцца са схіламі, на Пд сплавінныя. Мелкаводдзе спадзістае, дно плоскае, уздоўж берага пясчанае. Зарастае, паласа расліннасці ад 25 да 100 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 1,49 км².**
**Найбольшая глыбіня 12,4 м.**
**Даўжыня 6,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,53 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 14,5 км.**
**Аб'ём вады 7,18 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 13 км².**

У бас. р. Чарнагосніца, за 16 км на У ад г. п. Бешанковічы, каля вёсак Гарадзец і Забелле. Схілы катлавіны на 3 вышынёй да 20 м, стромкія, на У да 3 м. Берагі зліваюцца са схіламі, паўночныя і паўднёвыя забалочаныя. Дно пясчанае, глыбей 4 м ілістае. Выцякае ручай у воз. Астровенскае. Зарастае да глыбіні 4 м.



**Белае возера** (Расонскі раён, плошча 3,01 км²).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 1,17 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,6 м.**
**Даўжыня 1,46 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,2 км.**
**Аб'ём вады 4,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,7 км².**

У бас. р. Свольна, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3,5 км на ПнУ ад в. Лісна, сярод хваёвага лесу. Схілы катлавіны на Пн стромкія, на Пд і У спадзістыя, пясчаныя, пад лесам. Берагі пясчаныя, параслі хмызняком, паўночныя нізкія, на Пд высокія. Дно сподкападобнае, да глыбіні 2 м пясчанае, да 3 м ілістае, глыбей выслана сапрапелем, харавымі водарасцямі і рдзестамі. Сцёк па ручаі ў Свольну. Каля берагоў возера зарастае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 1,09 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,1 м.**
**Даўжыня 14,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,1 км.**
**Аб'ём вады 2,47 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 34,7 км².**

У бас. р. Дахнарка, за 5 км на Пн ад г. Полацк, каля в. Гендзікі. Схілы катлавіны спадзістыя, пясчаныя, на У і З пад лесам, астатнія разараныя. Берагавая лінія ўтварае некалькі заліваў і паўастравоў. Берагі сплавінныя, на Пн высокія, разбураюцца хвалямі, на Пд і ПдУ нізкія, пясчаныя. Дно плоскае, мелкаводдзе пясчанае. Зарастае да глыбіні 2 м. Упадае канал Рабінаўка; злучана пратокай з воз. Чорнае. Месца адпачынку.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 1 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,6 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**

**Найбольшая шырыня 1,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,2 км.**
**Аб'ём вады 8,48 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,8 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 14 км на ПнЗ ад г. Полацк, каля вёсак Цінаўка і Азіна. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м. Берагавая лінія ў заходняй частцы ўтварае некалькі заліваў і паўастравоў. Берагі спадзістыя, пясчаныя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей заілены пясок і ілы. Вада празрыстая. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 8—12 м. Расце ахоўная расліна — палушнік азёрны. Месца адпачынку.



**Белае возера** (Жыткавіцкі раён).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,67 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 22 м.**
**Даўжыня 1,94 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Пл. вадазбору 1,73 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 29 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, паміж вёскамі Белае і Пушкары. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, пад хмызняком, берагі высокія. Мелкаводдзе пясчанае. Зарастае слаба. Водзіцца шыракапальцы рак, занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,59 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 24,7 м.**



**Белае возера** (Бешанковіцкі раён, плошча 1,49 км$^2$).

**Даўжыня 2,13 км.**
**Найбольшая шырыня 0,57 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,8 км.**
**Аб'ём вады 5,75 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4,2 км$^2$.**

У бас. р. Шоша, за 36 км на У ад г. Глыбокае, за 2 км на ПдУ ад воз. Шо. Азёрны заказнік, створаны ў 1979 з мэтай захавання эталоннага па чысціні возера і яго насельнікаў, асабліва баброў. Схілы катлавіны пад лесам, на Пн, ПнЗ разараныя. Берагі на З, У, ПдУ высокія, пясчаныя, парослыя лесам, на ПнЗ і Пд нізкія, тарфяністыя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбакаводная частка возера сапрапелістая. Зарастае, паласа расліннасці шырынёй 40—50 м да глыбіні 4 м; да глыбіні 11 м пашыраны мох фантыналіс — адзін з рэдкіх для Беларусі відаў воднай флоры (утварае магутныя плаваючыя дзярнінкі).




**Белае возера** (Гарадоцкі раён, плошча 2,4 км$^2$).

8,8
21,0
1,1
6,1

**Белае возера** (Ушацкі раён, плошча 1,52 км$^2$).




**Белае возера** (Расонскі раён, плошча 1,17 км²).



**Белае возера** (Полацкі раён, плошча 1,09 км²).




**Белае возера** (Брэсцкі раён).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,58 км².**
**Найбольшая глыбіня 21 м.**
**Даўжыня 2,9 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Пл. вадазбору 23,3 км².**

У бас. р. Шоша, за 26 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Бабруйшчына. Схілы катлавіны разараныя, паўднёвыя пад лесам, балоцістыя. Дно пясчанае і галечнае, у глыбокіх месцах ілістае. Упадаюць 3 ручаі, сцёк у р. Шоша.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,55 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,8 м.**
**Даўжыня 1,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,87 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,36 км.**
**Аб'ём вады 2,36 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,21 км².**

У бас. р. Дабрылаўка, за 12 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Бушыкі. Схілы катлавіны вышынёй да 22 м, разараныя, месцамі парослыя хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, у асобных месцах нізкія. Падводная частка катлавіны складанай будовы, мае выгляд трох плёсаў — вузкіх паўночна-ўсходняга (глыбіня 6,2 м) і цэнтральнага (глыбіня 9,8 м) і круглаватага паўднёва-заходняга (глыбіня 6,2 м). Дно каля берагоў пясчанае, месцамі іліста-глеістае. Выцякае ручай у р. Дабрылаўка.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Пл. вадазбору 11 км².**

У бас. р. Волта (выцякае з возера), за 14 км на ПдУ ад г. Міёры, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, на балоце Мох. Ахоўны рэжым возера прадугледжвае зберажэнне ў натуральным стане балотнага масіву Ельня і яго характэрнай флоры і фауны, сярод якіх ёсць рэдкія ахоўныя віды раслін (чубатка пустая, бяроза карлікавая, марошка, гладыш шыракалісты, мядзведжая цыбуля, шпажнік чарапіцавы) і жывёл (жураўель шэры, кулоны вялікі і сярэдні, сявец залацісты, гагара чорнавалёвая, курапатка белая, дзербнік і інш.).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Брэсцкім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 21,5 м.**
**Даўжыня 1,03 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Аб'ём вады 2,6 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 140 км².**

У бас. Серадовай Рэчкі, за 30 км на Пд ад Брэста. Схілы катлавіны невысокія, пясчаныя, параслі лесам. Берагі пясчаныя, з паўночнага боку сплавінныя. Дно да глыбіні 2 м складзена заіленымі пяскамі, глыбей — сапрапелістае. У розных месцах катлавіны возера ёсць крыніцы, якія яго жывяць. Слаба зарастае, пераважна ў паўночнай і паўднёва-ўсходняй частцы; шырыня паласы расліннасці 5—10 м. Каналамі злучана з азёрамі Рагазнянскае і Чорнае. Каля возера зона адпачынку, курорт і турбаза.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,5 м.**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,4 км.**
**Пл. вадазбору 5,6 км².**

У бас. р. Свячанка, за 17 км на ПдУ ад г. Чашнікі, паблізу в. Аўсянікі. Схілы катлавіны вышынёй 3—8 м, разараныя, часткова пад хмызняком. Берагі нізкія. Дно пясчанае і іліста́е. Злучана ручаямі з воз. Чорна і р. Свяча.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Даўжыня 1,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Пл. вадазбору 2,79 км².**

У бас. р. Росіца, за 24 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на З ад в. Крывасельцы, на мяжы з Латвіяй. Канавай злучана з воз. Чорнае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 1,02 км.**
**Найбольшая шырыня 0,93 км.**
**Пл. вадазбору 1,2 км².**

У бас. р. Лучайка, за 3 км на Пн ад г. Паставы, на Пд ад в. Сіўцы. Схілы катлавіны спадзістыя, берагі пясчаныя. Зарастае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Полацкім р-не.

**Пл. 0,3 км².**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,77 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км².**

У бас. р. Нача, за 24 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Данева. Схілы катлавіны вышынёй 10 м, пад хмызняком.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,22 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Пл. вадазбору 2,5 км².**

У бас. р. Чарнец, за 40 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 6 км на ПнЗ ад в. Халамер'е, сярод лясного масіву. Схілы катлавіны вышынёй 11—13 м. Знаходзіцца на тэрыторыі зоны адпачынку Езярышча.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Лунінецкім р-не.

**Пл. 0,22 км².**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 17 км на ПнЗ ад г. Лунінец, за 8 км на З ад в. Бостынь, у межах ландшафтнага заказніка Белае. Схілы катлавіны пясчаныя, параслі хваёвым лесам. Берагі вышынёй да 2 м, пясчаныя. У возеры растуць палушнік азёрны і лабелія Дортмана — рэдкія для Беларусі віды раслін, занесеныя ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу. На донных пясчаных адкладах яны ўтвараюць на глыбіні 0,5—0,8 м падводныя лужкі-зараснікі (ёсць разам толькі ў воз. Свіцязь у Навагрудскім р-не).

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
Пл. вадазбору 1,15 км$^2$.

У бас. р. Галбіца, за 3 км на ПнУ ад г. п. Варапаева, каля в. Белае. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пераважна разараныя, берагі забалочаныя. Слаба зарастае. Злучана пратокай з воз. Азерцы.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,21 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 5,1 м.**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,46 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,18 км.**
**Аб'ём вады 0,72 млн. м$^3$.**
Пл. вадазбору каля 1 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 6 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Замошша 1-е. Схілы катлавіны разараныя, на У і ПнУ пад лесам і хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі сплавінныя. Вакол возера забалочаная пойма. У цэнтры невялікі востраў. Дно амаль плоскае, у прыбярэжнай частцы крыху спадзістае. На ПдЗ злучана ручаём з воз. Ясна. Зарастае да глыбіні 4 м; у флоры возера рэдкі для Беларусі від — наяда марская.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,43 км.**

У міжрэччы Чарніцы і Гаражанкі, за 1 км на Пд ад г. Гарадок, каля в. Белахвостава. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, на У больш стромкія, пад сельгасугоддзямі. На Пд забалочаная пойма. Упадае ручай.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** на мяжы Віцебскага і Бешанковіцкага р-наў.

Пл. 0,17 км$^2$.
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,2 км.**
Пл. вадазбору 1,5 км$^2$.

У бас. Зах. Дзвіны, за 12 км на З ад Віцебска, каля в. Дарагакупава. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, пад лесам, на Пд і ПдУ разараныя. Берагі высокія, на Пн і У зліваюцца са схіламі.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,16 км$^2$.
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**
Пл. вадазбору 61 км$^2$.

У бас. р. Обаль, за 40 км на Пн ад г. Гарадок, паміж вёскамі Аўдзейкава і Дубраўка. Праз возера працякае ручай Трохзубка, які злучае яго з азёрамі Ужо і Езярышча.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,14 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 11 м.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
Пл. вадазбору 17,5 км$^2$.

У бас. р. Свіліца, за 15 км на У ад г. Глыбокае, непадалёку ад г. п. Падсвілле. Схілы катлавіны спадзістыя, забалочаныя, паўночныя і ўсходнія пад лесам і хмызняком. Зарастае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 10 км на Пд ад Полацка, за 2 км на Пд ад в. Межна 2-е. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, на ПдЗ да 5 м, пад лесам, на У і ПдУ разараныя. Уздоўж усходняга берага забалочаная пойма шырынёй да 50 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**

У бас. р. Дрыса, за 18 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2 км на ПнУ ад в. Межна, на У ад воз. Межна. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. На З выцякае ручай у р. Дрыса.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
**Даўжыня 0,46 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,27 км.**

У бас. р. Аржаніца, за 3 км на ПдУ ад г. Глыбокае, каля в. Чачалі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пераважна разараныя, уздоўж берагоў расце хмызняк.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У басейне р. Дзісна, за 42 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 1,5 км на З ад в. Відзы-Лаўчынскія. Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 10 м, на У да 7 м, пад хмызняком, на Пн — пад лесам. Уздоўж паўднёвага берага пераўвільготненая пойма. Злучана ручаём з невялікім возерам без назвы.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.**

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 23 км на ПнУ ад г. п. Расоны, на Пд ад в. Антонава. Схілы катлавіны на Пд і У вышынёй 5—7 м, разараныя, на З і Пн ад возера лес. Выцякае ручай у воз. Антонаўскае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Нішча (правы прыток Дрысы), за 20 км на ПнУ ад г. п. Расоны,




**Белае возера** (Глыбоцкі раён, плошча 0,55 км$^2$).




**Белае возера** (Верхнядзвінскі раён, плошча 0,4 км$^2$).




**Белае возера** (Ушацкі раён, плошча 0,21 км$^2$).




**Белае возера** (Чашніцкі раён).

за 3,5 км на ПдЗ ад в. Вароніна, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м. На Пн забалочаная пойма шырынёй 50—100 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 34 км на У ад г. п. Расоны, за 3 км на ПнУ ад в. Забор'е, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,57 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.**

У бас. р. Друйка (левы прыток Зах. Дзвіны), за 13 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 1 км на ПнЗ ад в. Баруны. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—150 м. Зарастае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 12 км на ПнЗ ад г. Міёры, за 1,4 км на ПдУ ад в. Казакова. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, на Пн і Пд пад лесам. На З забалочаная пойма шырынёй 50—150 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Шэвінка (правы прыток Зах. Дзвіны), за 6 км на ПнУ ад г. п. Шуміліна, за 1,7 км на ПдУ ад в. Мазурына. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пад хмызняком. Злучана канавамі з азёрамі Заберка і Зялёнае.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Ловаць, за 36 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 0,5 км на З ад в. Камары, за 1,5 км на ПдУ ад воз. Мяжа. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—100 м, на Пд лес.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Обаль, за 32 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 7 км на Пн ад в. Роўнае, сярод хмызняку і высечанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй 4 м, на Пн да 10 м.

**БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Храпаўлянка, за 8 км на ПдУ ад г. Гарадок, за 0,5 км на У ад в. Мар'ямполь. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лесам, на У пад сельгасугоддзямі. Уздоўж заходняга берага забалочаная пойма шырынёй 50—75 м.

**БЕЛАЗЁРСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 16 км. Пачынаецца з Белага возера, вусце каля в. Селішча.

**БЕЛАЗЁРСКІ КАНА́Л,** В а ў к а ў н я, меліярацыйны канал у Бярозаўскім і Драгічынскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Перасудавічы Бярозаўскага р-на, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Жабер Драгічынскага р-на.

**БЕЛАЛЕ́ССЕ,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, правы прыток Мышанкі (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,2 км на Пд ад в. Белалессе, упадае ў Мышанку за 0,6 км на ПдЗ ад в. Старая Мыш.

**БЕЛАНО́ЖКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 3,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Сосніца (правы прыток Зах. Дзвіны), за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 3 км на Пд ад в. Труды, сярод лесу. Вакол забалочаная пойма шырынёй ад 20 м на Пд да 100 м на Пн, пад хмызняком. На Пд уздоўж возера парослая лесам озавая града вышынёй 15 м.

**БЕЛАРЭ́Ч,** рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Клява (бас. Дняпра). Даўжыня 9,6 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Пчэлінск, вусце ў в. Казлоў Бераг. Каналізавана 5,5 км, рэчышча ад вытоку да в. Хутар. На рацэ плаціна і сажалка на паўночна-ўсходняй ускраіне в. Мачаск.

**БЕ́ЛАЯ,** рака ў Кіраўскім р-не, правы прыток Друці (бас. Дняпра).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 111 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Старое Заліцвінне, вусце каля в. Падсёлы. Каналізаваная амаль на ўсім працягу, акрамя ўчастка 2,5 км каля в. Новае Заліцвінне.

**БЕ́ЛАЯ,** Б я л а, рака ў Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток Густаткі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 81 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Дворышча Міёрскага р-на, упадае ў Густатку (левы прыток Янкі) каля в. Сасноўцы Шаркоўшчынскага р-на. Рэчышча каналізаванае ад вытоку да х. Паўлава на працягу 9 км. Каля в. Сасноўцы на рацэ сажалка пл. 2 га.

**БЕ́ЛАЯ,** Б я л а, рака ў Камянецкім р-не, правы прыток р. Правая Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 10,1 км. Выцякае з сутокаў р. Сіпурка і Палічна, вусце за 1 км на У ад в. Белая. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае, прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**БЕ́ЛАЯ,** рака, гл. *Бялава.*

**БЕ́ЛАЯ,** меліярацыйны канал у Навагрудскім р-не, правы прыток Нёмана. Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Панямонь, упадае ў Нёман за 0,7 км на ПдУ ад в. Гнесічы.

**БЕ́ЛАЯ НА́ТАПА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, левы прыток Чорнай Натапы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 50 км.**

**Плошча вадазбору 235 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Багацькаўка, вусце каля в. Кашаны. Прытокі — невялікія ручаі і канавы. Даліна складаная, у прырэчышчавай частцы скрынкападобная. Пойма вузкая. Рэчышча звілістае, у вярхоўі на 20,5 км і ў сярэднім цячэнні на 2,9 км каналізаванае; шырыня ў вярхоўі 3—5 м, ніжэй в. Лапаціна 10—12 м. Берагі абрывістыя, вышынёй 2—3 м.

**БЕ́ЛІН-ВО́САЎЦЫ,** вадасховішча ў Драгічынскім р-не.

**Пл. 0,62 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,6 м.**
**Даўжыня 3,39 км.**
**Даўжыня агараджальнай дамбы 3,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Аб'ём вады 2,32 млн. м³.**

За 14 км на ПдУ ад г. Драгічын, каля в. Белін. Наліўное. Створана ў 1984 для рыбагадоўлі, арашэння. Напаўняецца вадой пры дапамозе помпаў з Белінскага і навакольных каналаў. Ваганні ўзроўню на працягу года 3,6 м.

**БЕ́ЛІНА,** гл. *Баранава канал.*

**БЕ́ЛІНСКІ КАНА́Л,** водападводзячы канал у Драгічынскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд ад в. Папінская Вулька, упадае ў вадасховішча Белін-Восаўцы з ПдУ, за 1,7 км на ПнЗ ад в. Адамкова.



**Рака Белая Натапа каля вёскі Мазалава Мсціслаўскага раёна.**

**БЕ́ЛІЦА,** Лукаўскі канал, рака ў Рагачоўскім і Жлобінскім р-нах, левы прыток Добасны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 197 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Старая Кашара Рагачоўскага раёна. За 2 км на ПдУ ад в. Малевічы Жлобінскага р-на ўпадае ў Добасну. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Прытокі — меліярацыйныя каналы агульнай працягласцю 168 км.

**БЕ́ЛІЦА,** рака ў Бабруйскім р-не, правы прыток Алы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 126 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад в. Беларусь, вусце паміж вёскамі Мікулічы і Туркі. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЕ́ЛІЦА,** рака ў Чэрвеньскім і Бярэзінскім р-нах, правы прыток Ушы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Красны Дар Чэрвеньскага р-на, вусце каля в. Беліца Бярэзінскага р-на. На ўсім працягу каналізаваная.

**БЕ́ЛІЦА,** рака, гл. *Ржаўка.*

**БЕЛІЧА́НКА,** рака ў Веткаўскім і Гомельскім р-нах, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 30 км. Пачынаецца за 1,3 км на ПнУ ад в. Данілавічы Веткаўскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Цярэнічы Гомельскага р-на. Цячэ па Гомельскім Палессі. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. У пойме меліярацыйныя каналы. Сажалкі ў пойме на Пд ад р. п. Бальшавік і на правым беразе каля вусця.

**БЕ́ЛЫ БЕ́РАГ,** возера ў Бабруйскім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**

На пойме р. Бярэзіна, на ПнУ ад Бабруйска, каля в. Думанаўшчына. Старычнае. Берагі возера пясчаныя, пад хмызняком. 2 астравы агульнай пл. 1 га. Злучана пратокай з р. Бярэзіна.

**БЕ́ЛЫ БЕ́РАГ,** возера ў Рэчыцкім р-не. Пл. 0,23 км². На пойме р. Бярэзіна, за 27 км на ПнЗ ад г. Рэчыца, паблізу в. Горваль. Старычнае.

**БЕ́ЛЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, у бас Зах. Дзвіны. Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца каля в. Азіна, упадае ў воз. Лонне з У, за 1 км на ПдЗ ад в. Кацельна.

**БЕ́ЛЬКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 0,94 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,2 км.**
**Аб'ём вады 0,53 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,2 км².**

У бас. р. Паловіца, за 29 км на ПнУ ад г. Паставы, каля в. Белькі. Схілы катлавіны на З і У разараныя. Берагі нізкія, на У стромкія, пясчана-галечныя, на З глiністыя, забалочаныя. Усходняя і паўднёва-ўсходняя прыбярэжныя часткі дна пясчана-галечныя з валунамі. Зарастае, расліннасць утварае паласу шырынёй да 10—65 м. Сцёк з возера ў р. Паловіца, уздоўж усходняга берага крыніцы грунтавых водаў.

**БЕЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Белае возера* (пл. 1,52 км²).

**БЕ́ЛЬСКАЯ,** Бяльчанка, рака ў Лепельскім і Ушацкім р-нах, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Ладасна Лепельскага р-на, упадае ў воз. Чорная Урада з ПдЗ. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЕ́ЛЬЧЫЦА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 47 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5‰.**

Пачынаецца з воз. Бецкае, упадае ў Зах. Дзвіну ў межах г. Полацк. Рэчышча ў верхнім і сярэднім цячэнні (5,1 км) каналізаванае. Каля в. Чарнаручча на рацэ плаціна і сажалка пл. 8,8 га.

**БЕЛЯКО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток р. Батыўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,4 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Будкі, вусце за 1,7 км на Пд ад в. Белякі.

**БЕЛЯНЕ́Ц,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 0,96 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**
**Аб'ём вады 0,68 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,6 км².**

У бас. р. Свольна, за 27 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2,7 км на У ад воз. Лісна. Берагі высокія, стромкія, на




**Возера Белянец.**



Возера Белянец.




Бернскае возера.

Пн нізкія, затарфаваныя. Дно сапрапелістае, зарастае імхамі.

**БЕЛЯНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,12 км.**

У бас. р. Ушача, за 9 км на Пн ад г. п. Ушачы, за 500 м на ПдУ ад в. Мяніца (Полацкі р-н), сярод забалочанага хмызняку. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м. На Пн па ручаі, які злучае возера з р. Ушача, забалочаная пойма.

**БЕЛЯНОК,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Альзініца, за 11 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнУ ад в. Загуззе, за 0,6 км на У ад воз. Баравянок. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад лесам. На З забалочаная пойма шырынёй 75 м.

**БЕНІЧА́НКА,** рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток Ушы (бас. Віліі). Даўжыня [illegible] км. Пачынаецца на схілах Ашмянскага ўзвышша на ўскраіне в. Рэдзькі, упадае ва Ушу на ПнУ ад в. Заскавічы. На працягу 7 км каналізаваная (ад вытоку да в. Заскавічы), у сярэднім цячэнні прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**БЕРАЗАВЕ́Ц,** канал Беразавец, рака ў Камянецкім р-не, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад [illegible] Шчэрбава, вусце на ПнУ ад в. Голы Барок. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**БЕРАЗІНА́,** рака, гл. *Бярэзіна.*

**БЕРАЗІНЕ́Ц,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Пл. вадазбору 18,9 км².**

У бас. р. Свіна, за 33 км на ПнЗ ад г. Гарадок, 0,5 км на ПнУ ад в. Прудок. Праз возера працякае р. Копань (злучае яго з азёрамі Вялікае Восмата і Жодзень).

**БЕРАЗІНО́,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,13 км².**
**Даўжыня 0,71 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,68 км.**
**Пл. вадазбору 13 км².**

У бас. р. Страдань, за 30 км на ПнУ ад г. Полацк, за 5 км на З ад чыг. ст. Дрэтунь. Схілы катлавіны спадзістыя, пад лесам. Берагі нізкія. З возера выцякае ручай у р. Страдань.

**БЕРАЗНЯ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Аб'ём вады 0,41 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,3 км².**

У бас. р. Аўсянка, за 26 км на Пн ад г. Гарадок. Схілы катлавіны невыразныя, спадзістыя, пад лесам. Дно ў прыбярэжнай частцы пясчанае, глыбей сапрапелістае. Бясcцёкавае. Каля берагоў зарастае.

**БЕРАЗНЯ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 30 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Беразнякі, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Ельня.

**БЕРАСТАВІЧА́НКА,** рака ў Берасtавіцкім р-не, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 138 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Бераставічаны, цячэ праз г. п. Вялікая Бераставіца, упадае ў Свіслач непадалёку ад в. Галынка. Каля г. п. Бераставіца створана сажалка (пл. 0,05 км²).

**БЕ́РДЫЩКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 10,7 км. Пачынаецца са Скiднога канала за 1,4 км на Пн ад в. Братылава, упадае ў Лясную каля паўд. ускраіны в. Цюхінічы.

**БЕ́РКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, правы прыток р. Чарнагосніца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПнУ ад в. Сініцы, вусце каля в. Беркава.

**БЕ́РКАЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Шыпілавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Крукава, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Обчын.

**БЕ́РНІКІ,** рака ў Свіслацкім р-не, левы прыток р. Крапіўніца (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Янаўшчына, вусце каля паўночнай ускраіны в. Стасюцічы. Амаль на ўсім працягу каналізаваная, за выключэннем ляснога ўчастка (900 м) за 1 км на ПнЗ ад в. Бернікі.

**БЕ́РНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Найбольшая глыбіня 15,8 м.**
**Даўжыня 0,64 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,98 км.**
**Аб'ём вады 0,82 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,16 км².**

У бас. р. Віцьба, за 10 км на У ад Віцебска, на Пн ад в. Вароны. Схілы катлавіны — марэнныя ўзгоркі і озы. Уздоўж возера над урэзам вады тэраса. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі задзернаваныя і парослыя хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей 3 м глініста-ілістае. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй 5—15 м да глыбіні 3 м. У возера ўпадае і выцякае ручай.

**БЕ́РЦА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,42 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,7 м.**
**Даўжыня 1,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,83 км.**
**Аб'ём вады 1,06 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9 км².**

У бас. р. Абабіца, за 20 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 3,5 км на ПнУ ад в. Быстрамаўцы. Схілы катлавіны ў ніжняй частцы стромкія, пясчаныя, парослыя лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн і Пд нізкія, пад лесам. Дно да глыбіні 2 м пясчанае, глыбей сапрапелістае. Зарастае слаба, надводная расліннасць утварае паласу шырынёй да 12 м. Упадае ручай, пратокай злучана з воз. Дубра.

**БЕ́РШТАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Бярштанскае возера, у Шчучынскім р-не.

**Пл. 1,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 17 м.**

Даўжыня 3,36 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Пл. вадазбору 43 км$^2$.

У бас. р. Котра, за 36 км на ПнЗ ад г. Шчучын, каля в. Бершты. Схілы катлавіны тэрасаваныя, разараныя, месцамі парэзаныя ярамі, часткова пад хваёвым лесам. Берагі стромкія, паўднёва-ўсходнія спадзістыя. Дно сапрапелістае. 3 астравы агульнай пл. 0,09 га. Каля берагоў і на водмелях зарастае. Пратокай злучана з р. Котра, упадаюць р. Рудна і меліярацыйны канал.

**БЕ́СЕДЗЬ,** рака ў Смаленскай, Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай абласцях, левы прыток Сажа (бас. Дняпра).

Даўжыня 261 км (у межах Беларусі 185 км).
Пл. вадазбору 5460 км$^2$ (у межах Беларусі 3110 км$^2$).
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 28,4 м$^3$/с.
Агульнае падзенне 59,6 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,23 ‰.

Пачынаецца ў Шумяцкім раёне Смаленскай вобл., цячэ ў Хоцімскім, Касцюковіцкім і Веткаўскім р-нах. Вадазбор на паўднёва-ўсходняй частцы Аршанска-Магілёўскай раўніны, у нізоўях на Чачарскай раўніне і ў Гомельскім Палессі. Асноўныя прытокі: Еленка, Сураў, Жадунька, Дзяражня, Алешня, Палуж, Каўпіта (справа), Альшоўка, Жадунь, Зубар, ручай Машоўка, Стаўбунка (злева). Даліна выразная, слабазвілістая, трапецападобная, шырыня да ўпадзення р. Жадунь 0,2—0,3 км, далей 0,6—1 км, ніжэй вусця р. Свінка 1—1,5 км. Пойма пераважна двухбаковая, большай часткай лугавая, парэзаная пратокамі, старыцамі, рукавамі; вышыня ў вярхоўі 0,1—0,2 км, на астатнім працягу 0,5—0,8 км, пасля ўпадзення р. Свінка да вусця 0,5—1,5 км. Рэчышча моцназвілістае і разгалінаванае; яго шырыня ў вярхоўі 15—20 м, у ніжнім цячэнні 30—40 м (на асобных участках да 100 м). Берагі стромкія, нярэдка абрывістыя, вышынёй 0,3—2 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, найбольшая вышыня над меканным узроўнем 3,5—5,5 м, сярэдняя 2,8 м. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Суднаходная за 78 км ад вусця. На рацэ гар. пасёлкі Хоцімск (каля яго вадасховішча пл. 0,6 км$^2$) і Красная Гара (Бранская вобласць); у нізоўі Веткаўскі батанічны заказнік.

**БЕ́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,31 км$^2$.
Даўжыня 0,72 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,88 км.
Пл. вадазбору 13,8 км$^2$.

У бас. р. Бельчыцы, за 7 км на Пд ад Полацка, каля в. Бецкае. Схілы катлавіны нізкія, забалочаныя, параслі лесам. Берагі сплавінныя. З возера выцякае р. Бельчыца.

**БІКЛО́ЖА,** Б і к л о ж к а, рака ў Бешанковіцкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 40 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.




Берштаўскае возера.

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Замошша і цячэ на ПдУ Полацкай нізіны. Упадае ў Зах. Дзвіну каля в. Храпавішчына. Ад вытоку амаль да в. Загароддзе на працягу 6 км рэчышча каналізаванае.

**БІКЛО́ЖА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,23 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7 м.
Даўжыня 2,6 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.
Пл. вадазбору 2,8 км$^2$.

У бас. р. Біклажа (левы прыток Зах. Дзвіны), за 16 км на У ад г. п. Бешанковічы, каля в. Забелле. Берагі нізкія, на З пад хмызняком. Ёсць востраў пл. 0,25 га. Зарастае слаба.

**БІ́ЛЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.



Рака Беседзь у ніжнім цячэнні.




Возера Бірутэ.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,27 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Друйка, за 20 км на ПдУ ад г. Браслаў, за 1,3 км на У ад в. Мацюлішкі. Акружана забалочаным хмызняком.

**БІО́СТА,** Язвінка, рака ў Астравецкім і Пастаўскім р-нах, правы прыток Страчы (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Нежалішкі Пастаўскага р-на, упадае ў Страчу за 1,3 км на ПнУ ад х. Барок Астравецкага р-на. Ад вусця на працягу 3,4 км каналізаваная, у нізоўі прымае сцёк з сеткі меліярацыйных канаў.

**БІРВЕ́ТА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 34 км.
Пл. вадазбору 1600 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 10,4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца з воз. Эрзветас і цячэ на працягу 31 км па тэрыторыі Літвы. Ніжняе цячэнне ў Браслаўскім р-не па Полацкай нізіне. Упадае ў Дзісну каля в. Казяны. Асноўны прыток на Беларусі — р. Мядзелка.

**БІРУ́ТЭ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,8 м.
Даўжыня 0,83 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.
Аб'ём вады 0,46 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,8 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 10 км на З ад г. Браслаў, каля в. Усяны. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі. Злучана пратокай з воз. Уся, выцякае ручай у воз. Рака.

**БЛА́ГАЎКА,** рака ў Хоцімскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Мосін, вусце каля в. Енаполле. 2 км рэчышча ад вытоку каналізавана.

**БЛЕ́ДНАЕ ВО́ЗЕРА,** Бляда, у Мядзельскім р-не.

Пл. 1,95 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 8,1 м.
Даўжыня 2,02 км.
Найбольшая шырыня 1,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,02 км.
Аб'ём вады 5,71 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 4,72 км$^2$.

У бас. р. Нарач, за 6 км на ПдЗ ад г. п. Мядзел, на Пд ад в. Гатавічы, сярод лесу, на тэрыторыі гідралагічнага заказніка Чарэмшыца (створаны ў 1981). Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, паўднёва-заходнія да 5 м, пясчаныя, пад лесам. Берагі пясчаныя, у паўднёва-заходнім заліве сплавінныя. Мелкаводдзе шырокае, пясчанае. Дно глыбей за 3 м сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 2 м, шырыня паласы надводнай расліннасці да 180 м. Адзначалася гнездаванне лебедзя-шыпуна — рэдкага гнездавальнага віду для Беларусі (занесены ў Чырвоную кнігу рэспублікі).

**БЛЕ́ДНАЕ ВО́ЗЕРА,** Бляда, у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11 м.
Даўжыня 0,56 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Пл. вадазбору 36,6 км$^2$.

У бас. р. Галбіца, за 25 км на У ад г. Паставы, каля в. Дунілавічы. Схілы катлавіны спадзістыя, усходні бераг пясчаны, астатнія забалочаныя. Злучана пратокай з р. Галбіца. Зарастае.

**БЛІ́ЖНЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

Рака Бобр у Барысаўскім раёне.

Пл. 0,25 км².
Найбольшая глыбіня 2 м.
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Пл. вадазбору 3,5 км².

У бас. р. Волта, за 13 км на ПдУ ад г. Міёры, сярод балота Мох, у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Ахоўны рэжым заказніка прадугледжвае збераженне ў натуральным стане балотнага масіву Ельня і яго характэрнай флоры і фауны, якія ўключаюць рэдкія віды раслін і жывёл.

**БЛІ́ЖНЯЕ ВО́ЗЕРА**, у Міёрскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,1 км.
Найбольшая шырыня 50 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,25 км.

У бас. р. Волта (левы прыток Зах. Дзвіны), за 13 км на ПдУ ад г. Міёры, за 2,3 км на ПдУ ад в. Сухавежы, на паўночнай ускраіне балота Мох, у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Берагі забалочаныя, тарфяністыя. На Пд упадае ручай з возера без назвы.

**БЛІ́ЗНІЦА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,23 км².
Найбольшая глыбіня 17 м.
Даўжыня 1,1 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Аб'ём вады 1,48 млн. м³.
Пл. вадазбору 0,7 м².

У бас. р. Ушача, за 20 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Блізніца. Схілы катлавіны разараныя, на ПнУ і З пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на З участкамі нізкія, забалочаныя. Злучана ручаём з возерам без назвы.

**БЛІЗНЯ́ТЫ**, агульная назва азёр у Расонскім р-не; гл. *Паўночны Блізня, Паўднёвы Блізня.*

**БЛАДЫ́НЯ**, Б л у д н і ц а, рака ў Крупскім р-не, левы прыток Начы (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 66 км²
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Ігрушка, вусце каля в. Радзіца. Ад вытоку 4,9 км рэчышча каналізавана.

**БЛЮ́ШКА**, рака ў Стаўбцоўскім р-не, у бас. Нёмана.

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 54 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Падгорная, упадае ў возера Кромань. Ля вытоку каля в. Падгорная створана сажалка.

**БОБР**, рака ў Талачынскім, Крупскім і Барысаўскім р-нах, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

Даўжыня 124 км.
Пл. вадазбору 2190 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 14,9 м³/с.
Агульнае падзенне 69,4 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,56 ‰.

Пачынаецца на Аршанскім узвышшы каля в. Рафалава Талачынскага р-на, цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Асноўныя прытокі: Можа, Еленка, Пліса (злева), Нача (справа). Даліна трапецападобная, шырыня 1—2 км. Пойма няроўная, месцамі забалочаная, шырыня 300—500 м. Рэчышча звілістае, свабодна меандруе, шырыня ракі ў межань 6—25 м, у вусці каля 40 м. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Па берагах паселішчы баброў, у пойме меліярацыйныя каналы. На рацэ гар. пасёлкі Крупкі і Бобр.

**БО́БРЫК 1-ы**, рака ў Брэсцкай вобл., левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 109 км.
Пл. вадазбору 1902 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,6 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца з лясного балота за 2,5 км на ПнЗ ад в. Сукач Ганцавіцкага р-на, цячэ ў Пінскім і Лунінецкім р-нах па нізіне Прыпяцкае Палессе. Упадае ў Прыпяць за 2 км на ПнЗ ад чыгуначнай станцыі Прыпяць. Асноўныя прытокі: Вісліца (справа), каналы Хатыніцкі, Прысць, Багданаўка (злева). Даліна невыразная. Пойма двухбаковая, шырыня ў сярэднім цячэнні 0,5—1 км, у ніжнім цячэнні зліваецца з поймай Прыпяці. Рэчышча каналізаванае на працягу 102 км, пракладзена за 0,5—3 км ад старога. Шырыня яго ад 3—3,5 м у вытоку да 35—40 м у вусці. У пойме ракі ў Пінскім р-не створаны наліўное вадасховішча Пагост і сажалкі рыбгаса «Палессе», 2 невялікія сажалкі (11 га і 2,6 га) каля в. Парахонск.

**БОБРЫК 2-і**, Б о б р ы ч, рака ў Петрыкаўскім і Жыткавіцкім р-нах, левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 44 км.
Пл. вадазбору 710 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачаткам ракі лічыцца вусце Азёрнага канала, якое знаходзіцца за 2 км на ПнУ ад в. Капцэвічы Петрыкаўскага р-на. Цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе, упадае ў Прыпяць каля в. Конкавічы Петрыкаўскага р-на. Асноўныя прытокі: каналы Міхедава-Грабаўскі (злева) і Азёрны (справа). Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй в. Аголічы пераважна трапецападобная. Пойма на вялікім працягу невыразная (асушанае балота). Рэчышча каналізаванае на працягу 40,7 км.

**БО́БРЫНЬ**, Д у б і н с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Мелянкова, упадае ў Дняпроўска-Бугскі канал за 0,5 км ніжэй вусця канала Арэхаўскага.




1 — у возера без назвы

Возера Блізніца.

**БО́БРЫЩА**, возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 2,25 км².
Найбольшая глыбіня 23 м.
Даўжыня 4,29 км.
Найбольшая шырыня 1,02 км.
Даўжыня берагавой лініі 10,3 км.
Аб'ём вады 19,1 млн. м³.
Пл. вадазбору 16,3 км².

У бас. р. Ула, за 10 км на ПнУ ад г. Лепель, за 0,5 км на ПдУ ад в. Старое Лядна, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 14—20 м, стромкія, на Пд да 8 м, спадзістыя, пораслі лесам. Берагі высокія, на Пн зліваюцца са схіламі. Дно карытападобнае, утварае 2 плёсы: усходні глыбінёй да 20 м, і заходні, больш шырокі, глыбінёй да 14 м. Плёсы злучаны нешырокім пралівам. На мелкаводдзі дно пясчанае, глыбей сапрапелістае. Ёсць 2 невялікія астравы агульнай плошчай 0,2 га. Расліннасць да глыбіні 5,5 м. Злучана пратокай з воз. Уклейна.

**БО́БРЫЧ**, рака, гл. *Бобрык 2-і.*

**БО́ГАН**, возера ў Пружанскім р-не.

Пл. 0,23 км².
Даўжыня 0,78 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.

У бас. р. Мухавец, за 9 км на ПдЗ ад г. Пружаны, за 1 км на Пд ад в. Кацёлкі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком, паўночныя разараныя. Берагі забалочаныя.

**БО́ГІНСКАЕ ВО́ЗЕРА**, Б о г і н а, у Браслаўскім р-не.

**Пл. 13,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 15 м.**
**Даўжыня 9,1 км.**
**Найбольшая шырыня 2,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 32,2 км.**
**Аб'ём вады 64,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 914 км².**

У бас. р. Дзісна, за 28 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Богіна. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, пераважна спадзістыя, паўночныя вышынёй да 12 м, стромкія, месцамі разараныя. Да ўсходняга берагу прымыкае маляўнічы лясны масіў. Берагі нізкія, пясчаныя, паўднёвыя і паўднёва-заходнія забалочаныя, паўночна-заходнія і паўночныя зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе да глыбіні 2 м пясчанае і пясчана-жвіровае. Ёсць 8 астравоў агульнай пл. 32,5 га, 2 з іх (Гарадзішча і Церанцейка) — помнікі прыроды. Каля берагоў і астравоў зарастае аерам, хвашчом, трысняговом, чаротам, гарлачыкамі. Праз возера працякае Дрысвята, пры яе ўпадзенні пабудавана ГЭС. На ўсходнім беразе сажалкавая гаспадарка па развядзенню малявак сазана, карпа, белага амура, таўсталобіка. Папулярнае месца адпачынку, рыбалкі і турызму. На сажалках каля в. Чарніцы адзначана гнездаванне рэдкай для Беларусі птушкі — паганкі малой.


Богінскае возера.

**БО́ЙНАЯ,** Б у й н а я, рака ў Стаўбцоўскім і Навагрудскім р-нах, правы прыток Нёмана. Даўжыня 27 км. Пл. вадазбору 78 км². Пачынаецца на ПнУ ад в. Антонева Стаўбцоўскага р-на, упадае ў Нёман каля в. Купіск. На працягу ніжніх 10 км каналізаваная. У ніжнім цячэнні ў час разводдзя праз групу азёр Юзкавічы магчымы пераліў у р. Чорную. У пойме меліярацыйныя каналы.

**БО́КАНЬКІ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,19 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас р. Нача, за 22 км на ПдЗ ад Полацка, на Пн ад в. Мураўшчына, сярод марэнных узгоркаў вышынёй 5—8 м, разараных у верхняй частцы. Уздоўж урэзу вады расце хмызняк, на З — забалочаная пойма шырынёй 3 м. Злучана ручаем з воз. Ракуціна.

**БО́КШЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Маяк, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Прошчыцы.

**БО́ЛАЧКА,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 28,2 м.**
**Даўжыня 1,75 км.**
**Аб'ём вады 1,2 млн. м³.**

У бас. р. Страча, за 30 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, за 3,5 км на Пд в. Канстанцінава. Схілы катлавіны вышынёй да 20—25 м, пад лесам, берагі месцамі забалочаныя. Зарастае слаба. З возера выцякае ручай у р. Страча.

**БО́ЛГАРСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток р. Чэрцень (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Болгарка, вусце за 1,5 км на У ад в. Аляксандраўка.

**БО́ЛЕЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Пл. вадазбору 28,7 км².**

У бас. р. Лужаснянка, за 6 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Новы Болецк. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя, у ніжняй частцы


Рака **Бобрык 1-ы** каля вёскі Парахонск Пінскага раёна.

парасЛі хмызняком. Берагі стромкія. Выцякае р. Кабішчанка (правы прыток Лужаснянкі).

**БОЛНЫРА,** Болнара, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 2,7 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 1,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 5,7 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 64,6 км$^2$.**



**Возера Болныра.**

У бас. р. Сосніца, за 40 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на ПдУ ад в. Труды. Схілы катлавіны амаль не выражаны, берагі нізкія, забалочаныя, парослі лесам. Дно плоскае, ілістае. Раслiннасць утварае паласу шырынёй да 150 м. Праз возера працякае р. Дражбітка, сцёк таксама па канаве ў р. Свіна.

**БОЛТА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,5 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 1,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,53 км.**
**Аб'ём вады 1,47 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 5 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Шалтэні. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам, усходнія разараныя. Берагі нізкія, парослыя хмызняком, на ПдУ сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае слаба. Злучана пратокай з воз. Дрывяты.

**БОЛЮЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,35 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,75 км.**
**Аб'ём вады 0,75 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,5 км$^2$.**

У бас. р. Ракітаўка, за 32 км на ПдУ ад г. Чашнікі, каля в. Болюта. Схілы катлавіны вышынёй да 13—25 м, пад сельгасугоддзямі. Берагі нізкія, пясчаныя, заходнія парослі хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае.

**БОНА,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Кобрынскім р-нах, левы прыток р. Мухавец (басейн Зах. Буга). Даўжыня 34 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Заор'е, упадае ў Мухавец на заходняй ускраіне г. Кобрын.

**БОНДА,** канава Бонда, Ямная канава, меліярацыйны канал у Хойніцкім і Рэчыцкім р-нах, у басейне Дняпра. Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Збынь Хойніцкага р-на, упадае ў канал Іўня-Бонда злева за 4,5 км на ПнУ ад в. Першамайск. Па берагах меліяраваныя землі, вядзецца здабыча торфу.

**БОР,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Ценіца (правы прыток Обалі), за 32 км на У ад Полацка, за 3,5 км на У ад в. Лысае, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам, забалочаным на З і У.

**БОР,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Авута, за 43 км на ПдУ ад г. Міёры, за 1,5 км на Пд ад в. Субачава. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м (на ПдУ 5—7 м), пад лесам.

**БОРАК,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Галбіца, за 24 км на У ад г. Паставы, за 1,4 км на Пд ад в. Мышкі. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, стромкія, пад лесам і хмызняком. Уздоўж берагоў забалочаная пойма шырынёй 25—50 м. Упадае ручай.

**БОРАЎНА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 2,04 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,5 м.**
**Даўжыня 2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Пл. вадазбору 4,4 км$^2$.**

У бас. р. Чарнічанка, за 25 км на У ад г. п. Бешанковічы, за 2 км на ПнЗ ад в. Абухава, сярод забалочанай, лясістай мясцовасці. Берагі нізкія, парослі хмызняком.

**БОРАЎНА,** Боравенскае возера, у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,38 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,2 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,6 км.**
**Аб'ём вады 1,47 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,5 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 2,5 км на У ад г. Лепель, за 1,5 км на З ад в. Бораўна. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пясчаныя і супясчаныя, участкамі пад лесам. Берагі пясчаныя, зараслі водна-балотнай расліннасцю і хмызняком. Дно ілістае, мелкаводдзе ўздоўж берагоў пясчанае. На Пд ўпадае ручай з воз. Глыбочыца, на ПдУ выцякае ручай у воз. Нюля. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 2—5 м.




**Возера Болта.**




**Болюцкае возера.**

**БОРАЎНА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,34 км$^2$.**




Болюцкае возера.




Возера **Бораўна** (Бешанковіцкі раён, плошча 2,04 км²).

**Найбольшая глыбіня 4,1 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,4 км.**
**Аб'ём вады 0,98 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,9 км².**

У бас. р. Астроўніца, за 22 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, за 1 км на 3 ад в. Крупеніна, сярод мяшанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй ад 10 да 15 м, на З да 5 м, на вышыні 3 м ад урэзу вады тэраса. Берагі невысокія, пясчаныя. Мелкаводдзе пясчанае. Зарастае, прыбярэжная паласа расліннасці шырынёй да 50 м.

**БОР-ДУБЕНЕЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток р. Ветліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 26 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Вулька Арая; вусце за 5 км на Пн ад в. Лядзец.

**БО́РКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Галоўчыцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Боркі, вусце за 1,8 км на З ад в. Старыя Галоўчыцы.

**БО́РКІ,** вадасховішча ў Слуцкім р-не.

**Пл. 0,72 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 1,9 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 98 км².**

Наліўное. Створана ў 1984 за 13 км на У ад г. Слуцк, за 2 км на Пд ад в. Папоўцы. Напаўняецца вадой помпамі з р. Слівянка па напорнаму вадаводу. Выкарыстоўваецца для арашэння зямель, рыбагадоўлі.

**БО́РТНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 9,8 км. Пачынаецца за 0,3 км на ПдЗ ад в. Малінаўка, упадае ў р. Ала каля в. Вялікія Бортнікі.

**БО́РТНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Слабада, упадае у воз. Гарнасвечча з Пн, за 1,5 км на ПдУ ад в. Бортнікі 2-я.

**БО́ТЧА,** Кечкаўка, рака ў Асіповіцкім р-не, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 138 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Лазовае, вусце за 1 км на У ад в. Вязычын. Ад вытоку 6,7 км рэчышча каналізавана. У басейне ракі 28 км адкрытай меліярацыйнай сеткі.

**БО́ЧАВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,5 м.**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км².**

Возера ў бас. р. Дражбітка, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на У ад в. Кулькі, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м. Берагі нізкія, забалочаныя.

**БО́ЧАВА,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Обаль, за 15 км на З ад г. п. Шуміліна, за 0,7 км на ПнЗ ад в. Пушчавыя. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком, на Пд і У часткова разараныя. Выцякае ручай Круцік (левы прыток Обалі).

**БО́ЧАВЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Сосніца (правы прыток Зах. Дзвіны), за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 9 км на ПнУ ад в. Домнікі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам, на Пн і ПдУ ад возера хмызняковае балота. Выцякае ручай у воз. Гародна.

**БРА́ГІНКА,** рака ў Гомельскай вобл., раней была левым прытокам Прыпяці.

**Даўжыня 179 км.**
**Пл. вадазбору 2778 км².**

Пасля рэгулявальных работ — пракопвання каналаў, якія сталі адводзіць ваду ў Дняпро, раку дзеляць



Рака **Брагінка** каля гарадскога пасёлка Брагін.

на 3 самастойныя аб'екты: Брагінка Верхняя — ад вытоку (за 0,5 км на З ад в. Пракісель) да вытоку Дзяржаўнай канавы і далей да ўпадзення ў Дняпро (Рэчыцкі, Лоеўскі і Брагінскі р-ны, даўжыня 76 км, пл. вадазбору 1390 км²); Брагінка Сярэдняя — ад вытоку Дзяржаўнай канавы (за 2 км на Пд ад в. Гарадзішча) да вытоку канала Івераўка (другая назва — канава Марозаўка) і далей да ўпадзення ў Дняпро (Брагінскі раён, даўжыня 55 км, пл. вадазбору 460 км²); Брагінка Ніжняя — ад вытоку канала Івераўка да ўпадзення ў Кіеўскае вадасховішча ў межах Украіны (Брагінскі раён, даўжыня 36,5 км, пл. вадазбору 928 км²), увесь іх вадазбор на Гомельскім Палессі. Даліна Брагінкі пераважна невыразная. Пойма нізкая, забалочаная, шырынёй 0,5—1 км. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Шырыня ў межань Брагінкі Верхняй 8—14 м, Сярэдняй і Ніжняй 15—30 м. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у канцы сакавіка. На рацэ г. Брагін.





**БРАДАНО́К,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,65 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 26 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 2,2 км на У ад в. Вароніна, каля мяжы з Пскоўскай вобл. Схілы катлавіны на З і У вышынёй да 10 м, на Пд забалочаная даліна ручая, які ўпадае з воз. Бродна. На Пн выцякае ручай у воз. Язна (Пскоўская вобл.).

**БРАДЗЯ́ЦІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток канала Прырва (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8 км. Пачынаецца ў лесе за 1,2 км на ПнУ ад в. Арлянка, упадае ў канал за 2,5 км на ПдЗ ад в. Брадзяцін.

**БРАДО́К,** возера ў Расонскім р-не. Пл. 0,1 км$^2$. У бас. р. Дрыса, за 26 км на ПнУ ад г. п. Расоны, на мяжы з Пскоўскай вобл. Злучана ручаямі з азёрамі Бродна і Язна.

**БРАДО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Белабярэжнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца каля в. Брады, вусце за 4 км на ПнУ ад г. п. Капаткевічы.

**БРАДО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Дзятлавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца каля в. Пацы, упадае ў канал за 1 км на Пн ад в. Толкава.

**БРАДЫ́,** канал, гл. *Нярэсня.*

**БРА́СЛАЎСКАЯ ГРУ́ПА АЗЁР,** у Браслаўскім р-не, у басейне р. Друйка. Уключае больш за 30 азёр агульнай пл. каля 114 км$^2$, аб'ём вады больш за 540 млн. м$^3$. Найбольшыя Дрывяты, Снуды, Струста, Войса, Неспіш, Волас Паўночны, Бужа, Недрава, Бярэжа, Даўблі, Волас Паўднёвы (гл. картасхему). Размешчаны сярод узгорыстага рэльефу, які прадстаўлены разнастайнымі формамі водналедавіковай акумуляцыі — камамі, озамі. Невялікія ўчасткі лясоў у межах Міжазёрнага ландшафтнага заказніка на Пн ад воз. Струста і на Пд ад воз. Дрывяты. Злучаны паміж сабой невялікімі рэкамі, ручаямі, канавамі і пратокамі, найбольшыя з іх дрэніруюцца р. Друйка. Вакол азёр зона адпачынку Браслаў; па вадаёмах, злучаных Друйкай, праходзяць турысцкія маршруты.

**БРА́ТАЎНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,35 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7 м.
Даўжыня 1,32 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,4 км.
Аб'ём вады 1,29 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,45 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 34 км на ПдЗ ад Полацка, за 1 км на ПнЗ ад в. Лабецкі. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пясчаныя і супясчаныя, параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на 3 месцамі сплавінныя. Дно плоскае. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 3—3,5 м. У возера ўпадаюць 5 ручаёў, на У выцякае ручай у воз. Жадунь.

**БРАТУ́ХІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Плотніца (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,1 км. Пачынаецца за 5,5 км на ПдУ ад в. Мілашавічы, вусце за 2,5 км на У ад в. Тартак.

**БРАТЫ́ЛАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток Скіднога канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца з Бердыцкага канала за 1 км на ПнЗ ад в. Чэрні, упадае ў Скідны канал за 1 км на ПдУ ад в. Братылава.

**БРО́ДАК,** рака, гл. *Булянка.*

**Браслаўская група азёр.**




Возера **Бродна** (плошча 0,51 км²).

**БРО́ДНА**, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,51 км².
Найбольшая глыбіня 3,1 м.
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,68 км.
Даўжыня берагавой лініі 3 км.
Аб'ём вады 1,13 млн. м³.
Пл. вадазбору 3,7 км².

У бас. р. Нешчарда, за 13 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 3 км на ПнЗ ад в. Гарбачэва. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, тарфяністыя, паўночна-ўсходнія пясчаныя, пад лесам. Берагі забалочаныя, на ПнЗ сплавінныя, тарфяністыя. Дно плоскае, сапрапелістае, на ПдУ і У пясчанае мелкаводдзе. Возера — прыёмнік балотнай вады. Падводная расліннасць адсутнічае, у надводнай трыснёг і хвошч утвараюць паласу шырынёй 15—20 м.

**БРО́ДНА**, возера ў Расонскім р-не. Пл. 0,35 км². У бас. р. Дрыса, за 24 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 8 км на ПнУ ад воз. Нешчарда. Ручаём злучана з воз. Брадок.

**БРО́ДНІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток Пагонненскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 10,3 км на ПдЗ ад в. Багушы, вусце за 6,8 км на ПдЗ ад в. Вярховая Слабада.

**БРО́ДНЯ**, рака ў Смалявіцкім і Барысаўскім р-нах, правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

Даўжыня 33 км.
Пл. вадазбору 214 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,4 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Прысынак Смалявіцкага р-на, упадае ў Бярэзіну каля в. Вялікае Стахава Барысаўскага р-на. Цячэ пераважна па Верхнебярэзінскай нізіне. Асноўныя прытокі: Сойка (справа) і Каўпеніца (злева). Даліна ў верхнім цячэнні трапецападобная (шырыня 3—4 км) са спадзістымі схіламі; у сярэднім і ніжнім цячэнні невыразная, зліваецца з далінамі рэк Гайна і Бярэзіна. Пойма забалочаная, у верхнім цячэнні шырынёй 0,3—0,8 км, у ніжнім зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Рэчышча ад вытоку на 12 км каналізаванае, ніжэй слаба меандруе. Шырыня ракі ў межань у верхнім цячэнні 1—3 м, сярэднім 4—8 м, ніжнім 8—12, у вусці 15—17 м. Берагі невысокія, часта пераходзяць у пойму, забалочаныя.

**БРО́ДНЯ**, рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток Схі (бас. Дняпра).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 82 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Люцец, вусце за 2 км на Пд ад в. Бродаўка. У в. Бродаўка на рацэ сажалка.

**БРО́ЖА**, Продзвінка, Брожка, рака ў Бабруйскім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

Даўжыня 28 км.
Пл. вадазбору 390 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца паміж вёскамі Мачулкі і Мартынаўка, вусце за 1,5 км на У ад в. Продзвіна. У верхнім цячэнні 10 км рэчышча каналізавана.

**БРО́ННАЯ**, рака ў Івацэвіцкім р-не, левы прыток канавы Плоскай (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца ў лясным ўрочышчы Хахлоўка за 6,2 км на ПдЗ ад в. Хрышчонавічы Івацэвіцкага р-на, вусце за 8 км на ПнЗ ад пасёлка Бронная Гара Бярозаўскага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**БРУС**, назва р. *Немайцянка* ў верхнім цячэнні.

**БРУ́СА**, рака ў Клецкім р-не, правы



На **Браслаўскіх азёрах.**

прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,9 км. Пачынаецца каля в. Якшычы, вусце за 1,4 км на ПнУ ад в. Лукаўцы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БРУ́СЬКАЯ,** ручай, гл. *Арыя.*

**БРУСЯ́ТА,** рака ў Крупскім і Бярэзінскім р-нах, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 37 км.**
**Пл. вадазбору 340 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца з воз. Нерыб у Крупскім р-не, упадае ў Бярэзіну за 2 км на 3 ад в. Жураўка Бярэзінскага р-на. Асноўныя прытокі: Плаўня (злева) і Узніца (справа). Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна ў вярхоўі невыразная, у сярэднім і ніжнім цячэнні трапецападобная, шырынёй да 2 км. Пойма пераважна двухбаковая, яе шырыня 0,3—0,5 км, месцамі да 0,8 км. Рэчышча ў верхнім і сярэднім цячэнні каналізаванае і выпрастана на 27 км. Шырыня ракі ў межань 8—10 м.

**БРЫЖО́ЎКА,** рака ў Лёзненскім р-не, левы прыток р. Мошна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 15,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Зосіна, вусце за 1 км на З ад в. Бяскова. На працягу 1,2 км каналізаваная (в. Гушчына — 1 км на Пд ад в. Гаране).

**БРЫЛЁЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім і Міёрскім р-нах, правы прыток Пяльніўскага канала (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 0,6 км на Пд ад в. Брылёк Шаркоўшчынскага р-на, упадае ў Пяльніўскі канал каля х. Пяльніва Міёрскага р-на.

**БРЫЛІНЕ́Ц,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.**

У бас. р. Свольна (правы прыток Дрысы), за 40 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на ПнЗ ад в. Малашкава, каля ўсходняга берага воз. Белае, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м. Пойма шырынёй 50—100 м, забалочаная. Выцякае ручай у воз. Белае.

**БРЫ́ЦЕНЬ,** возера ў Столінскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 1,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 32 км на ПнЗ ад г. Століп, за 4 км на ПнУ ад в. Беразцы, сярод балота, пароспага хмызняком. Ручаямі злучана з Прыпяццю і Бобрыкам.

**БРЭДНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**
**Аб'ём вады 0,54 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,33 км².**

У бас. р. Свольна, за 26 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 5 км на ПдУ ад в. Лісна Верхнядзвінскага р-на. Схілы катлавіны вышынёй ад 8 да 20 м, стромкія, на Пн нізкія, пясчаныя, пад хваёвым лесам. Берагі высокія, пясчаныя і тарфяністыя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю (да дна) і нізкай мінералізацыяй, якая абмяжоўвае развіццё раслíннасці і арганізмаў. Дно выслана мхамі.

**БУ́БАЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 19 км на З ад г. п. Шуміліна, за 1,6 км на Пн ад в. Дуброва, сярод забалочанага масіву, парослага хмызняком. Схілы невыразныя. Пойма шырынёй 25—50 м, забалочаная. Упадаюць 3 ручаі.

**БУДАВЕ́СЦЬ,** рака ў Шаркоўшчынскім р-не, левы прыток Обалі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 284 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад в. Лоўжа (у верхнім цячэнні рака наз. Б у д а в і ц а) і цячэ па ўсходняй ускраіне Полацкай нізіны. Упадае ў Обаль каля в. Плігаўкі 2-я. Асноўны прыток Чарніца (справа). Рэчышча ад вытоку на працягу 19 км каналізаванае.

**БУДАВЕ́СЦЬ,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 3,41 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,3 м.**
**Даўжыня 4,14 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13,4 км.**
**Пл. вадазбору каля 20 км².**

У бас. р. Сечна, за 8 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Башні. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м, на З стромкія, тэрасаваныя, пад хмызняком, на У разараныя. Берагі вышынёй 0,3—0,4 м, пясчаныя. Дно складанай будовы, на мелкаводдзі пясчанае, глыбей — сапрапелістае. 5 астравоў. Зарастае слаба, паласа расліннасці шырынёй 20—40 м. Пратокай злучана з воз. Княжна.

**БУ́ДА-ГРЭ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Буда Грэская, вусце за 3,5 км на ПдУ ад в. Вераб'ёва.

**БУ́ДА-ЛЕ́ЛЬЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца каля в. Буда Лельчыцкая, вусце за 4 км на З ад в. Першамайск.




**Возера Братаўна.**




**Возера Брэдна.**

**БУ́ДЗЬКАЎШЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 11,5 км. Выцякае з воз. Сушына, за 0,5 км на ПдУ ад в. Будзькаўшчына, упадае ў




Возера **Будавесць.**




**Буеўскае возера.**




**Возера Бузянка.**

з У, за 0,8 км ад в. Ба-
воз. Арэхаўна
гушова.
**БУДЛЯНКА**, рака ў Магілёўскім, Чавускім р-нах, правы
Быхаўскім ы (бас. Дняпра).
прыток Рас 24 км.

Даўжыня бору 170 км$^2$.
Пл. вадаз ахіл воднай паверхні 0,7 ‰.
Сярэдні

ецца каля паўночнай ускра-
Пачынаец Магілёўскага р-на, вусце
іны в. Ліп токі Чавускага р-на. На ўсім
каля в. С каналізаваная.
працягу УСКІ КАНАЛ, меліярацыйны
**БУДНЕ** у Клічаўскім р-не, у бас. Дняп-
канал зўжыня 5,2 км. Пачынаецца за
ра. Д м на ПдУ ад в. Дуброва, упадае
1,1 к Нясета за 0,5 км на ПдУ ад в. Та-
ў р. ка 2-я. На канале паміж вёскамі
цен днева і Таценка 2-я плаціна і са-
Бу алка.

**БУДСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Галоўнага правага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ, вусце за 5,5 км на ПдЗ ад в. Корачын.

**БУДСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, правы прыток канавы Кухта (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны, вусце за 3,5 км на ПдЗ ад в. Буда.

**БУДЧЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім і Жлобінскім р-нах, левы прыток р. Любіца (бас. Дняпра). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Панкратавічы Бабруйскага р-на, упадае за 1,3 км на ПнУ ад в. Зарэчча.

**БУЕЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лёзненскім р-не.

**Пл. 0,72 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13 м.**
**Даўжыня 2,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,84 км.**
**Аб'ём вады 4,46 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9,4 км$^2$.**

У бас. р. Мошна, за 2 км на ПдЗ ад г. п. Лёзна, каля в. Зубкі. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, паўночныя да 10 м, пераважна разараныя, усходнія параслі хмызняком. Берагі пясчаныя, пад хмызняком, на З і У сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. Выцякае ручай у р. Мошна. Зарастае да глыбіні 2,2 м.

**БУЖА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 4,18 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,1 м.**
**Даўжыня 3,42 км.**
**Найбольшая шырыня 1,72 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,2 км.**
**Аб'ём вады 14,7 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 66 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 7 км на ПнЗ ад г. Браслаў, каля в. Крукі. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, пад лесам і хмызняком, заходнія разараныя. Вакол возера пойма шырынёй ад 8 м на Пн да 250 м на ПдЗ, сухая, моцна завалуненая, парослая хмызняком і сухадольнымі травамі. 16 астравоў агульнай пл. 24,9 га. Каля берагоў і астравоў дно пясчанае, каля ўрэзу вады часта галечнікавае і камяністае. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай раслінnасці да 70 м. Злучана ручаямі з азёрамі Саванар і Рака.

**БУЗА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,21 км$^2$.**
**Даўжыня 0,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,22 км.**

У бас. р. Дрыса (працякае праз возера), за 34 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Бухава. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам і хмызняком, на Пн разараныя. Берагі сплавінныя. Зарастае.

**БУЗЯНКА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,64 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,3 м.**
**Даўжыня 1,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,79 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 0,99 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1107 км$^2$.**

У бас. р. Свольна (працякае праз возера), за 40 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на ПдУ ад в. Лісна. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, на 3 да 8 м, пераважна разараныя. Берагі сплавінныя, на 3 нізкія, пясчаныя. Дно плоскае, амаль усё выслана сапрапелем. Зарастае ўздоўж берагоў. Праз возера праходзіць турысцкі маршрут.

**БУЙНАЯ,** рака, гл. *Бойная.*

**БУЙНЯКАВА,** возера ў Жлобінскім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,09 км.**

У пойме Дняпра, за 5 км на Пн ад г. Жлобін. Старычнае. Злучана ручаямі з азёрамі Сярэдняе і Лебядзёўка. Уздоўж усх. берага лясны масіў.

**БУК,** ручай у Талачынскім р-не, левы прыток р. Усвейка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца каля в. Мяшкова, вусце за 3 км на 3 ад в. Сельцы. Рэчышча ад вусця на працягу 6,3 км каналізаванае.

**БУКЛЕЎКА,** рака ў Мазырскім р-не, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля в. Надаткі, працякае праз Лешненскае вадасховішча і воз. Рэчышча. Рэчышча каналізаванае ад в. Лешня да вусця на працягу 6,5 км.

**БУКЛІНКА,** рака ў Воранаўскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Баяры, упадае ў Дзітву на У ад в. Ажэлішкі ў забалочанай мясціне. На працягу 3 км ад вытоку каналізаваная. Каля в. Пяткаўшчына створаны рыбагаспадарчыя сажалкі (агульнай пл. 1,45 км$^2$).

**БУЛА,** рака ў Слонімскім р-не, левы прыток Грыўды (бас. Шчары).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 72, 7 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Какошчыцы, працякае па раўніннай мясцовасці, упадае ў Грыўду за 1 км на ПдЗ ад в. Старыя Дзевяткавічы. На ўсім працягу каналізаваная.

**БУЛЬБІНАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.**

У бас. р. Лучайка, за 17 км на ПдУ ад г. Паставы, за 1 км на У ад в. Сакалы, сярод лесу. Вакол возера забалочаная пойма. Зарастае.

**БУЛЯ́НКА**, Бродак, рака ў Слонімскім і Івацэвіцкім р-нах, левы прыток Грыўды (бас. Шчары).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 92 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Баравікі Слонімскага р-на, цячэ па раўніннай мясцовасці, упадае ў Грыўду каля в. Грыўда. На ўсім працягу каналізаваная.

**БУ́НІНСКІ КАНА́Л**, Бунінская канава, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток Галоўнага водападводнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Добрая Лука, вусце за 4,5 км на Пд ад в. Вялікі Рожан.

**БУРБІНО́**, возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Шэвінка, за 17 км на ПнЗ ад Віцебска, за 0,5 км на Пн ад в. Субачы. Берагі параслі хмызняком.

**БУРЛА́ЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Ліпа (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Пыцькаўка, упадае ў Ліпу за 1 км на ПнЗ ад п. Ютны.

**БУРЧА́К**, рака ў Ваўкавыскім і Мастоўскім р-нах, правы прыток Верацейкі (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Навасады Ваўкавыскага р-на, упадае ў Верацейку на ПдЗ ад в. Кулёўшчына Мастоўскага р-на. Пойма балоцістая, у яе верхняй і сярэдняй частках здабываецца торф. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БУ́СА**, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток Судзілавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,6 км. Пачынаецца каля в. Тышкавічы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Буса.

**БУСАВЕ́ЦЬ**, рака, гл. *Будавесць*.

**БУСЛЬ**, Бусвы, рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток Усы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 39 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Калініна, упадае ва Усу за 1 км на ПнЗ ад в. Багушэвічы. Ад вытоку да в. Падвалошка на працягу 6 км рэчышча каналізаванае.

**БУСО́ЎНЯ**, возера, гл. *Сцерпік*.

**БУ́СЯЖ**, рака ў Слонімскім і Івацэвіцкім р-нах, правы прыток Грыўды (бас. Нёмана).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 160 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кавалі Слонімскага р-на, у нізоўі забалочана, упадае ў Грыўду на У ад в. Хадоркі. У верхнім цячэнні называецца Мізгіраўка. На ўсім працягу каналізаваная.

**БУ́ТАЧ**, возера ў Жлобінскім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**

На пойме Прыпяці, за 15 км на ПдУ ад г. Жлобін, за 1 км на ПдЗ ад в. Сухі Востраў. Злучана пратокай з воз. Паграбы, выцякае ручай у р. Окра.

**БУ́ТЫКА**, возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**

У бас. р. Храпаўлянка (выцякае з возера), за 20 км на ПнЗ ад Віцебска, каля в. Канавалава, на ПдУ ад воз. Лосвіда.




**Возера Бужа.**




**Возера Бужа.**

**БУ́ЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца каля в. Вялікае Міжлессе, вусце за 2 км на У ад в. Касцюкі.

**БУЯ́КІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас Зах. Буга). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 1,8 км на З ад в. Вочкі, упадае ў Мухавец за 2 км на Пн ад в. Булькова.

**БУ́ЯЧ,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**

У бас. р. Тур'я, за 30 км на ПдУ ад Калінкавіч, каля в. Абухаўшчына. Старычнае.

**БЫКА́ЎКА,** ручай у Гомельскім р-не, правы прыток р. Нямыльня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 38 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на Пн ад в. Залессе, вусце за 1,2 км на Пд ад в. Краўцоўка. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. За 2 км на ПдУ ад в. Маркавічы плаціна і сажалка.

**БЫКА́ЎКА,** ручай у Чавускім р-не, левы прыток р. Вілейка (бас. Дняпра). Даўжыня 3,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Антонаўка, упадае ў Вілейку каля в. Вусце. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Паміж вёскамі Вусце і Галавенчыцы плаціна і сажалка.

**БЫСТРА́НКА,** рака ў Дрыбінскім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Ляскоўка, вусце за 1 км на У ад в. Старое Прыбужжа. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЫ́СТРАЯ,** рака ў Горацкім і Дрыбінскім р-нах, левы прыток Проні (бас. Дняпра).

**Даўжыня 46 км.**
**Пл. вадазбору 688 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 4,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля мяжы з Расіяй, за 5 км на У ад в. Быстрая Горацкага р-на, вусце каля в. Дрыбін. Асноўныя прытокі: Рамясцвянка (злева), Дняпрэц, Лебядзёўка, Каліноўка, Жалезня (справа). Цячэ пераважна па Горацка-Мсціслаўскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырынёй 0,8—1 км. Пойма месцамі двухбаковая, яе шырыня 0,2—0,25 км. Рэчышча звілістае, шырыня ракі ў межань 3—15 м. Выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў; каналізавана 6 км рэчышча ў верхнім цячэнні.

**БЫ́СТРАЯ,** рака ў Стаўбцоўскім і Навагрудскім р-нах, правы прыток Усы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 28 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Кляцішча Стаўбцоўскага р-на ў лясным урочышчы Крывуха, цячэ праз лес. Пойма на ўсім працягу забалочаная, у сярэднім цячэнні меліяраваная. Упадае ва Усу (у нізоўі называецца Шубіна-Нёманскі канал) за 3 км на ПдЗ ад в. Галяндэрня.

**БЫ́СТРАЯ,** меліярацыйны канал у Стаўбцоўскім і Навагрудскім р-нах, правы прыток Нёмана. Даўжыня 11,4 км. Пачынаецца за 4 км на З ад в. Кляцішча Стаўбцоўскага р-на, упадае ў Нёман за 0,8 км на У ад в. Купіск Навагрудскага р-на. Прымае (справа) сцёк з меліярацыйных каналаў.

**БЫ́СТРЫ,** ручай у Горацкім р-не, правы прыток р. Дняпрэц (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Суроўцава, вусце на ўсходняй ускраіне в. Буда. Ад вытоку рэчышча каналізавана на 5 км. Па берагах сельгасугоддзі.

**БЫ́СТРЫЦА,** рака ў Полацкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 123 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца з воз. Каравайна, працякае праз азёры Бабынічы і Нявіда. Упадае ў воз. Лесава (бас. Начы).

**БЫ́ХАВЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,006 км$^2$.**
**Даўжыня 0,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,25 км.**

У бас. р. Крашанка, за 4 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 0,6 км на ПдЗ ад в. Арэхава, сярод балота. Схілы катлавіны невыразныя.

**БЫЧ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Гошчаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Сярадава, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Гошчава.

**БЫЧА́НКА,** канал Бычанка, рака ў Кармянскім р-не, правы прыток р. Касалянка (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Акцяброва, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Косальскі Прудок. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЫЧКІ́,** Папарыха, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток Юркавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Закальное, вусце за 4,5 км на З ад в. Ляхаўка.

**БЫЧО́К,** ручай у Слуцкім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдЗ ад в. Варкавічы, вусце ў межах г. Слуцк. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЫЧО́К,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Жыткавіцкім р-нах, правы прыток Сцвігі (бас. Прыпяці). Даўжыня 24 км. Пл. вадазбору 313 км$^2$. Пачынаецца з рэчышча р. Мутвіца за 0,8 км на Пн ад в. Рудня Лельчыцкага р-на, перасякае Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік, упадае ў р. Сцвіга каля в. Азяраны Жыткавіцкага р-на.

**БЯГЛЁЦ,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Барозаўка, за 1 км на ПдУ ад г. Глыбокае. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, разараныя, на Пн да 3 м, пад лугам. На ПдУ забалочаная пойма. Ручаём злучана з возерам без назвы.

**БЯЗВО́ДНЫ,** меліярацыйны канал у Зэльвенскім р-не, левы прыток Сасвы (бас. Нёмана). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Бязводна, цячэ па паўднёва-ўсходняй ускраіне Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Сасву за 0,5 км на У ад в. Цераховічы.

**БЯЗВУ́СЦЯ,** рака ў Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Асцёр (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Кісялёва Буда, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Роськаў. Рэчышча каналізаванае на працягу 3,5 км (2 км на ПнЗ ад в. Крэсаўка — вусце).

**БЯЗДО́ННАЕ ВО́ЗЕРА,** у Слонімскім р-не.

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Даўжыня 0,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,53 км.**
**Пл. вадазбору 1,8 км$^2$.**

У бас. р. Іванаўка (працякае праз возера), за 25 км на З ад Слоніма, каля в. Клепачы.

**БЯЗДО́ННАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,72 км.**

У бас. р. Дахнарка (левы прыток Дрысы), за 10 км на Пн ад Полацка, за 1,7 км на У ад в. Дахнары. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам, на У забалочаныя.

**БЯЗДО́ННАЕ ВО́ЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 14 км на З ад Віцебска, за 1 км на ПнЗ ад в. Навасёлкі, сярод лесу. На Пд узвышанай градой аддзелена ад воз. Белае.

**БЯЗДО́ННАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,12 км.**
**Найбольшая шырыня 75 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,3 км.**

У бас. р. Усыса, за 10 км на ПдЗ ад г. Гарадок, за 1 км на Пн ад в. Астраўляны. Схілы катлавіны пад сельгасугоддзямі. Злучана ручаём з воз. Вялікае Астраўлянскае, выцякае ручай у р. Астраўлянку.

**БЯЗУЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток канала Рабуска (бас. Дняпра). Даўжыня 15,8 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Адаменка, упадае ў канал за 1,2 км на ПнЗ ад в. Гарывада.

**БЯЗУ́ННЯ,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 11 км. Пл. вадазбору 50 км². Пачынаецца каля в. Жабенцяі, цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша, упадае ў Зах. Дзвіну каля в. Буева.

**БЯ́ЛА,** рака, гл. *Белая.*

**БЯЛА́ВА,** Бялая, Бялява, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Чапунькі (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Косці, упадае ў Чапуньку на ПдУ ад в. Забялаўцы. Рэчышча звілістае, у вярхоўі (2,2 км) і ніжнім цячэнні (4,2 км) каналізаванае, прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**БЯ́ЛЕ,** Бяляны, Бяланы-Эзерс, возера ў Браслаўскім р-не, на мяжы з Латвіяй.

**Пл. 0,92 км².**
**Даўжыня 1,67 км.**
**Найбольшая шырыня 0,95 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,8 км.**
**Пл. вадазбору 7 км².**

У бас. р. Дрысвята (левы прыток Дзісны), за 13 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 2 км на ПнЗ ад в. Урбаны. Схілы катлавіны на З і У невыразныя, на Пд вышынёй 10—15 м, разараныя, на Пн да 7 м. На У і З забалочаная пойма (шырыня да 200 м), месцамі пад лесам.

**БЯЛЁЦ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 3 км на ПдУ ад в. Вярэчча, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м. Выцякае ручай у воз. Мядэсна.

**БЯЛІ́ЦА,** ручай у Мінскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,8 км. Пачынаецца каля в. Цімошкі, вусце каля в. Бяліца. Рэчышча ад сажалкі каля в. Цімошкі да вусця каналізаванае.

**БЯЛЫНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Няропля (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, упадае за 1 км на ПдЗ ад в. Няропля.

**БЯЛЬЧА́НКА,** рака, гл. *Бельская.*

**БЯЛЯ́ВА,** рака, гл. *Бялава.*

**БЯЛЯ́ЕЎКА,** рака, гл. *Курынка.*

**БЯЛЯ́НКА,** рака ў Крычаўскім р-не, правы прыток р. Сажа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 57 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Камароўка, вусце за 1 км на У ад в. Бель 1-я. Каналізавана 10 км рэчышча ў верхнім і сярэднім цячэнні.

**БЯРВЕ́НКА,** рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Пыранкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 25 км.**
**Пл. вадазбору 110 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца з воз. Доўтае, упадае ў Пыранку за 1,5 км на Пд ад в. Лакно. На ўсім працягу каналізаваная.

**БЯРВЕ́НСКАЯ КАНА́ВА,** гл. *Крывы Рог.*

**БЯРЖО́НКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,5 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**
**Пл. вадазбору 6,25 км².**

У бас. р. Акунёўка, за 9 км на ПдЗ ад Браслава, на ПнУ ад в. Пагошча. Злучана ручаём з воз. Пагошча.

**БЯРЖО́НКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,19 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,6 м.**
**Даўжыня 0,69 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.**
**Аб'ём вады 0,32 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 6,56 км².**

У бас. р. Янка, за 9 км на ПдЗ ад Браслава, за 3 км на Пн ад в. Мілашкі. Акружана забалочанай поймай, парослай хмызняком. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя, разараныя. Берагі нізкія, тарфяністыя. Дно выслана сапрапелем. Зарастае.

**БЯРКО́ЗЫ,** гл. *Безназоўны канал.*

**БЯРЛЯ́НКА,** рака ў Краснапольскім р-не, правы прыток р. Каўпіта (бас. Дняпра). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Курганне, вусце за 1 км на З ад в. Перамога. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЯРЛЯ́НКА,** рака, гл. *Каўпіта.*

**БЯРНО́ВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 2,8 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,9 м.**
**Даўжыня 3,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1,62 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 10,2 км.**
**Аб'ём вады 18 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 57 км².**

У бас. р. Обаль, за 22 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 3 км на З ад в. Віроўля. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м, на Пн 5—10 м, парослі хмызняком, на ПнУ і ПнЗ разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пн забалочаныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей дно ілістае. 4 невялікія астравы агульнай пл. 0,1 га. Упадае р. Віраўлянка, выцякае р. Бярноўка. Шырыня прыбярэжнай паласы надводнай расліннасці 3—40 м.



Возера **Бярнова.**



Возера **Бярнова.**

**БЯРНО́ЎКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток Чарнаўкі (бас. Зах. Дзвіны).




Бярозаўскае возера (Ушацкі раён).


Бярозаўскае возера (Ушацкі раён).


Бярозаўскае возера (Сенненскі раён).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 97 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца з воз. Бярнова, упадае ў Чарнаўку (правы прыток Обалі) за 1 км на ПдЗ ад в. Селішча.

**БЯРО́ЗА,** рака ў Зэльвенскім і Слонімскім р-нах, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 96 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца каля в. Шулякі Зэльвенскага р-на, упадае ў Шчару на ПнЗ ад в. Барукі. Ад вусця да в. Куцэйкі 13 км рэчышча каналізавана. Каля в. Сянькоўшчына створана сажалка (пл. 0,33 км$^2$).

**БЯРО́ЗА-1,** вадасховішча ў Бярозаўскім р-не.

Пл. 17,74 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,6 м.
Даўжыня 6,4 км.
Найбольшая шырыня 3,6 км.
Аб'ём вады 31,9 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 480 км$^2$.

На р. Жыгулянка (14 км ад вусця), за 13 км на ПнУ ад г. Бяроза. Створана ў 1986 для арашэння і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 45,7 млн. м$^3$.

**БЯРО́ЗАВАЕ ВО́ЗЕРА,** К у т ы, у Кіраўскім р-не. Пл. 0,12 км$^2$. На пойме р. Бярэзіна, за 15 км на ПдЗ ад г. п. Кіраўск, за 5 км на Пн ад Бабруйска, каля в. Гута. Мелкаводнае. Берагі забалочаныя, усходнія высокія, пад дубовым і хваёвым лесам.

**БЯРО́ЗАВАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Бярозаўскае возера.*

**БЯРО́ЗАВІКІ,** меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, левы прыток Спягліцы (бас. Віліі). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Баравыя, упадае ў Спягліцу за 2,8 км на ПнУ ад в. Абрамаўшчына 1-я ва ўрочышчы Бярозавік. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**БЯРО́ЗАВЫ МАСТО́К,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Кароўка, вусце за 0,6 км на З ад в. Пруднікі. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,6 км каналізаванае.

**БЯРО́ЗАЎКА,** Б я р э ж в і ц а, рака ў Глыбоцкім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 53 км.
Пл. вадазбору 721 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,6 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца з воз. Падлужнае, цячэ праз г. Глыбокае, у межах Свянцянскіх град, далей па Полацкай нізіне. Упадае ў Дзісну за 4 км ніжэй г. п. Шаркоўшчына. Асноўныя прытокі: Аржаніца і Маргва (злева), Дабрылаўка і Стуканаўка (справа). Даліна да ўпадзення Маргвы трапецападобная, на астатнім працягу вузкая, шырынёй 0,5—3 км. Пойма пераважна двухбаковая, шырынёй 50 м — 0,5 км. Рэчышча каналізаванае на працягу 1 км у верхнім цячэнні і 1,5 км каля в. Юльянова Шаркоўшчынскага р-на; на астатнім працягу звілістае, шырыня яго 14—16 м у верхнім цячэнні і 20—30 м у ніжнім.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток Дняпра.

Даўжыня 26 км.
Пл. вадазбору 230 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,98 ‰.

Пачынаецца паміж вёскамі Забор'е і Бярозаўка, вусце каля в. Слабодка. Вадазбор на Аршанска-Магілёўскай раўніне.

**БЯРО́ЗАЎКА,** ручай у Верхнядзвінскім р-не, левы прыток Росіцы (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 21 км. Пл. вадазбору 54 км$^2$. Пачынаецца ў Латвіі ў межах Латгальскага ўзвышша, працякае праз воз. Росіца, упадае ў р. Росіца каля в. Росіца.

Бярозаўскае возера (Ушацкі раён).

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Слуцкім р-не, правы прыток р. Таліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Заграддзе, вусце за 3 км на ПдУ ад г. п. Урэчча. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, левы прыток Ужыцы (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 52 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.

Пачынаецца на ПнУ ад в. Каменка, упадае ва Ужыцу за 2 км ад в. Леснікова. У верхнім цячэнні рэчышча на працягу 2,5 км каналізаванае.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Талачынскім і Круглянскім р-нах, правы прыток Друці (бас. Дняпра).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 76 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Панькавічы Талачынскага р-на, каля в. Малая Арава Круглянскага р-на ўпадае ў Друць. Вадазбор на паўднёвых схілах Аршанскага ўзвышша.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Лепельскім р-не, правы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Экімань, вусце за 0,4 км на ПдЗ ад в. Малое Жэжліна. Працякае праз воз. Хоціна.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Апіты (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Трышокі, упадае ў Апіту за 0,8 км на Пд ад в. Меляхі. У вярхоўі цячэ праз лес, каля в. Дайнава праз сажалку (пл. 0,31 км²), ніжэй прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў. На ўсім працягу каналізаваная.

**БЯРО́ЗАЎКА,** рака ў Свіслацкім р-не, правы прыток р. Калонка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Бязводнікі, вусце на Пд ад в. Якушоўка. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**БЯРО́ЗАЎКА** рака ў Мядзельскім р-не, правы прыток р. Вялікі Перакоп (бас. Віліі). Даўжыня 3 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад х. Бараноўка ва ўрочышчы Барсучына, упадае ў Вялікі Перакоп на ПдУ ад в. Мельнікі. Ад вусця на працягу 1,6 км каналізаваная, у вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**БЯРО́ЗАЎКА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.**

У бас. р. Галбіца, за 10 км на ПнУ ад г. Паставы. Катлавіна размешчана сярод балота. Выцякае ручай у р. Паловіца.



Бярозаўскае возера (Сенненскі раён).

**БЯРО́ЗАЎКА,** меліярацыйны канал у Нараўлянскім р-не, левы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Антонаўка, вусце за 1,4 км на ПнУ ад в. Бярозаўка.

**БЯРО́ЗАЎКА,** меліярацыйны канал у Расонскім р-не, у басейне Зах. Дзвіны. Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Хоцькава, упадае ў воз. Шэпельна з ПнЗ, за 1,5 км на У ад в. Ніўе.

**БЯРО́ЗАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Б я р о з а в а е  в о з е р а, ва Ушацкім р-не.

**Пл. 4,9 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 4,1 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12 км.**
**Аб'ём вады 12,65 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 458 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 23 км на З ад г. п. Ушачы, каля в. Бярозава. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, усходнія пад лесам і хмызняком, на З і ПдЗ разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя і сплавінныя. Мелкаводдзе шырокае, пясчанае. Зарастае ўздоўж берагоў, шырыня паласы расліннасці да 200 м. Злучана ручаём з воз. Глыбач, праз возера працякае р. Дзіва.

**БЯРО́ЗАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

**Пл. 2,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 15,8 м.**
**Даўжыня 5,1 км.**
**Найбольшая шырыня 1,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 18,9 км.**
**Аб'ём вады 15,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 25,8 км².**

У бас. р. Крывінка, за 10 км на ПнУ ад Сянно, каля в. Студзёнка. Схілы катлавіны вышынёй 2—8 м, парослыя хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, на ПдУ высокія, пад хмызняком. Дно з упадзінамі і мелямі, уздоўж берагоў пясчанае, глыбей сапрапелістае. 4 астравы агульнай пл. 3,8 га. Выцякае р. Бярозка (прыток Крывінкі).

**БЯРО́ЗАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,56 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 1,12 км.**
**Найбольшая шырыня 0,87 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,3 км.**
**Аб'ём вады 1,03 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,2 км².**

У бас. р. Дзісна, за 16 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Залессе. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, на У і ПдУ да 15—20 м, пераважна разараныя. Берагі пясчаныя, параслі хмызняком, паўночна-ўсходнія забалочаныя. Вакол возера тарфяністая пойма. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае. Шырыня паласы расліннасці 8—75 м да глыбіні 1,8 м.

**БЯРО́ЗАЎСКІ КАНА́Л,** В я р х о в і ц к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Камянецкім р-не, правы прыток Атоцкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Капылы, упадае ў Атоцкі канал за 2,4 км на ПнУ ад в. Бярозаўка.

**БЯРО́ЗКА,** В е р х н я я  К р ы в і н а, рака ў Віцебскай вобл., правы прыток Крывінкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 34 км.**
**Пл. вадазбору 330 км².**
**Сярэдні расход вады ў вусці 2,9 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**




Бярозаўскае возера (Сенненскі раён).

Пачынаецца з воз. Бярозаўскае, цячэ па Чашніцкай раўніне ў Сенненскім р-не і Полацкай нізіне ў Бешанковіцкім р-не. Упадае ў Зах. Дзвіну каля Бешанковічаў. Асноўныя прытокі — 2 ручаі без назваў (злева даўж. 14 км, справа — 15 км). Даліна і пойма невыразныя, асабліва ў межах, дзе рака цячэ па балоце. Рэчышча ад в. Буднікі да в. Арляны на працягу 21 км каналізаванае, шырыня 8—20 м.

**БЯРО́ЗКА,** Б я р э з к а, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 26,7 км².**




Бярозаўскае возера (Глыбоцкі раён).




Бярозаўскае возера (Глыбоцкі раён).

Сярэдні нахіл воднай паверхні 6,6 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Хорашава, цячэ праз воз. Чарэшлі, упадае ў Нёман за 3 км ніжэй возера. На працягу 9,1 км каналізаваная: ад в. Вераскава да воз. Чарэшлі (6 км) і ад возера да вусця (3,1 км).

**БЯРО́ЗКА,** рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца на схілах Ашмянскага ўзвышша каля в. Пекары, упадае ў Бярэзіну за 0,5 км на З ад в. Замосце. На пойме Бярэзіны рэчышча на працягу 1 км каналізаванае.

**БЯРШТА́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Берштаўскае возера.*

**БЯРЭ́ЖА,** рака ў Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 161 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца з воз. Бярэжа, упадае ў Дзісну за 2 км вышэй ад в. Германавічы. Рэчышча на працягу 7,8 км ад вытоку да в. Белы Двор каналізаванае. На рацэ плаціны і сажалкі: каля вёсак Наўгароды (пл. 1,4 га) і Белеўцы (пл. 9,1 га).

**БЯРЭ́ЖА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,93 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,2 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,4 км.**
**Аб'ём вады 7,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 11,6 км².**

У бас. р. Друйка, на паўночна-заходняй ускраіне г. Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 2—7 м, разараныя, заходнія пад лесам; берагі нізкія, на У высокія, пясчаныя. Дно пясчанае, месцамі сапрапелістае. Зарастае, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 200—300 м. Злучана пратокамі з азёрамі Святца і Ельня.

**БЯРЭ́ЖА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,76 км².**
**Даўжыня 1,07 км.**
**Найбольшая шырыня 0,88 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,98 км.**
**Пл. вадазбору 10,5 км².**

У бас. р. Бярэжа (выцякае з возера), за 14 км на ПдУ ад г. Міёры, за 5 км на У ад в. Белеўцы, сярод балот, у межах гідралагічнага заказніка Ельня (створаны ў 1968). Берагі нізкія, забалочаныя. Злучана канавай з воз. Доўгае.

**БЯРЭ́ЖВІЦА,** рака, гл. *Бярозаўка.*

**БЯРЭ́ЖНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Ельскім р-нах, правы прыток Высока-Махновіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Вуглы Лельчыцкага р-на, вусце за 2,5 км на У ад в. Вярхі Ельскага р-на.

**БЯРЭ́ЖЦЫ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, правы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 8,5 км на ПдЗ, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Бярэжцы.

**БЯРЭЗІНА,** Беразіна, рака ў Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 613 км.**
**Пл. вадазбору 24,5 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 142 м³/с.**
**Агульнае падзенне 69 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,11 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад г. Докшыцы. Асноўныя прытокі: Гайна, Пліса, Уша, Уса, Свіслач (справа), Сха, Бобр,



Возера Бярэжа (Браслаўскі раён).

Клява, Ольса, Ала (злева). Агульная даўжыня рачной сістэмы Бярэзіны (425 рэк) 8490 км, густата рачной сеткі 0,35 км/км².

Паводле будовы даліны, рэчышча і ўмоў працякання Бярэзіна падзяляецца на 3 участкі: верхні (ад вытоку да вусця Гайны, 168 км), сярэдні (паміж вусцямі Гайны і Свіслачы, 205 км), ніжні (ад упадзення Свіслачы да вусця 240 км). У верхнім цячэнні рака працякае праз Бярэзінскі біясферны запаведнік, перасякае азёры Медзазол і Палік. Даліна невыразная, амаль на ўсім працягу зліваецца з прылеглай забалочанай і аблесенай мясцовасцю. Пойма забалочаная, куп'істая, шырынёй 2—3 км, у асобных месцах звужаецца да 0,5 або пашыраецца да 6 км. У разводдзе затапляецца на глыбіню 0,3—1,8 м, часам да 3 м. Рэчышча моцназвілістае, багатае пратокамі і невялікімі пясчанымі астравамі. Шырыня ракі 15—20 м, найбольшая 60 м. Берагі нізкія (да 0,5 м), на асобных участках стромкія (вышыня да 1,5 м), пясчаныя, забалочаныя. У сярэднім цячэнні даліна выразная, трапецападобная, шырыня яе 2—3 км, месцамі — да 1 км. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія, месцамі абрывістыя (вышыня 10—35 м), парэзаныя ярамі і далінамі прытокаў, пад лесам і хмызняком. Каля падэшвы схілаў багатыя выхады грунтавых водаў. Пойма да вусця Бабра левабярэжная, ніжэй двухбаковая, шырынёй 1,5—2 км, хмызняков-





лугавая. У разводдзе затапляецца на глыбіню 0,5—3 м, тэрмінам ад 10—20 сутак да 1,5—2 месяцаў. Рэчышча звілістае, разгалінаванае. Шырыня ракі 60—80 м, найбольшая 100—300 м. Берагі стромкія, вышынёй 1—2 м. Ніжэй упадзення Свіслачы і да вусця даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 2—8 км, месцамі звужаецца да 0,3—0,5 км. Схілы стромкія, вышынёй 6—15 м, месцамі 20—25 м, парэзаныя ярамі і далінамі прытокаў. Пойма вельмі забалочаная, куп'істая, пераважна левабярэжная, радзей двухбаковая; шырыня яе 1,5—5 км. У разводдзе затапляецца на глыбіню 0,2—3,5 м тэрмінам да 1,5 месяца. Рэчышча звілістае, шмат плаўных лукавін, адмелін, заліваў, рукавоў, старыц і поймавых азёр. Шырыня ракі 80—130 м. Берагі ад спадзістых да абрывістых, вышынёй ад 1—[illegible] м да 15 [illegible]. Асаблівасць воднага рэжыму Бярэзіны — высокія паводкі позняй восенню і спад іх у перыяд ледаставу. Значная прыродная зарэгуляванасць сцёку. Веснавое разводдзе звычайна праходзіць адной, пры зацяжным снегараставанні — некалькімі хвалямі. Пад'ём узроўню (працягласць 20—30 сутак) пачынаецца з сярэдзіны сакавіка; сярэдняя вышыня 2,3—3,4 м над межанным узроўнем, найбольшая 4,8 м (у нізоўі). Прабег хвалі разводдзя ад вытоку да вусця на працягу [illegible] сутак. Спад узроўню ў вярхоўі 30—40 сутак, у ніжнім цячэнні да 2 месяцаў. Замярзае Бярэзіна ў 1-й палове снежня, крыгалом пачынаецца ў канцы сакавіка. Найбольшая таўшчыня лёду 30—60 см (канец лютага — пачатак сакавіка). Веснавы ледаход 4—7 сутак. Сярэдняя тэмпература вады летам 18—20 °С. Гадавы сцёк завіслых наносаў каля Барысава 7,2 тыс. т. Водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась, верхаводка, гусцяра; каштоўныя — судак, мінога, галавень, падуст, сом, мянтуз. Суднаходства ад в. Броды Барысаўскага р-на (494 км ад вусця). Лесасплаў. Выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў. Каналізавана 12,8 км рэчышча ў вярхоўі. На рацэ гарады Барысаў, Беразіно, Бабруйск, Светлагорск; у маляўнічых мясцінах зоны адпачынку рэспубліканскага значэння Беразіно і Асіповічы, мясцовага — Дроздзіна, Прырэчча і інш.; курорты Бабруйск і Горваль.

**БЯРЭЗІНА,** З а х о д н я я Б я р э з і н а, рака ў Гродзенскай і Мінскай абласцях, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 226 км.**
**Пл. вадазбору 4 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 30 м³/с.**
**Агульнае падзенне 172 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Бортнікі Маладзечанскага р-на на вышыні 300 м, працякае ў Валожынскім і Іўеўскім р-нах. Асноўныя прытокі: Краўлянка, Альшанка, Чарніца, Чапунька (справа), Іслач, Волка (злева). Даліна выразная, яе шырыня ў верхняй частцы 0,5—3 км, ніжэй в. Гародзькі 3—4 км. Пойма нізкая, асушаная, месцамі ўзгорыстая, шырыня ў вярхоўі 0,2—0,5 км, на астатніх участках ад 0,3 да 3 км. Рэчышча моцназвілістае, шырыня ракі ў межань у вярхоўі 5—20 [illegible], у сярэднім і ніжнім цячэнні 20—35 м, паблізу вусця да 50 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў верхнім і сярэднім цячэнні ў канцы сакавіка, у ніжнім — у пачатку красавіка. Замярзае ў 2-й палове снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Мясцовае суднаходства ад в. Бакшты (за 45 км ад вусця) у перыяд высокай вады. У сярэднім цячэнні ракі Сакаўшчынскае




**Возера Бярэжа (Браслаўскі раён).**

Рака **Бярэзіна** ў сярэднім цячэнні.

вадасховішча, у маляўнічай мясціне (12 км на Пн ад Маладзечна) зона адпачынку Барок. Амаль усе прытокі Бярэзіны каналізаваныя. Усяго ў басейне ракі каля 20 каналаў даўжынёй больш за 5 км (агульная даўжыня больш за 150 км).

**БЯРЭЗІНА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 11 км. Пл. вадазбору 30 км². Пачынаецца каля в. Гвазды, вусце за 2 км на Пд ад в. Дадзекі. Ніжняе цячэнне ў лясістай мясцовасці.



Возера **Бярэшча.**

**БЯРЭ́ЗІНАК,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,14 км².
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Пл. вадазбору 1,62 км².

У бас. р. Вядзеціца, за 40 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на Пд ад в. Красналолле Расонскага р-на. Сярод лясного масіву. Берагі месцамі забалочаныя. Выцякае ручай у воз. Глыбочына.

**БЯРЭ́ЗІНЕЦ,** возера на мяжы Полацкага і Ушацкага р-наў.

Пл. 0,07 км².
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,14 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.

У бас. р. Альзініца, за 10 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 30 км на ПдЗ ад Полацка, за 700 м на У ад в. Бярэзінец. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, пад хмызняком. Злучана кароткім (300 м) ручаём з р. Альзініца. На далінах ручаёў на ПнУ і ПдЗ забалочаная пойма.

**БЯРЭ́ЗІНСКАЯ ВО́ДНАЯ СІСТЭ́МА,** былы водны шлях з бас. Дняпра ў бас. Зах. Дзвіны ў Докшыцкім і Лепельскім р-нах. Даўжыня 169 км. Пабудавана ў 1797—1805 для вывазу будаўнічага лесу з паўночнай часткі Мінскай губерні ў Рыгу. Пачыналася на Бярэзіне пры ўпадзенні р. Сергуч і Сергуцкага канала, праходзіла праз азёры Манец і Плаўна (водападзельны б'еф сістэмы), злучальны Бярэзінскі канал на водападзеле Бярэзіны і Улы, воз. Бярэшча, р. Бярэшча, р. Эса, Лепельскае возера, р. Ула да Зах. Дзвіны. Мела 14 шлюзаў, злучальныя і абводныя каналы. У канцы 19 ст. з-за канкурэнцыі чыгунак, празмернай высечкі лясоў, абмялення рэк і азёр сістэма страціла гаспадарчае значэнне, гідратэхнічныя збудаванні разбурыліся.



Возера **Бярэшча.**

**БЯРЭ́ЗІНСКІ КАНА́Л,** Б я р э ш ч ы н с к і к а н а л, былы суднаходны канал у Лепельскім р-не (уваходзіць у Бярэзінскую водную сістэму). Сцёк у вадазбор р. Эса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца з усходняга берага воз. Плаўна за 1 км на ПнЗ ад в. Валовая Гара, упадае ў воз. Бярэшча за 3 км на ПдЗ ад в. Окана.

**БЯРЭ́ЗІЩА,** возера ў Мазырскім р-не. Пл. 0,22 км². У бас. р. Прыпяць, на ПнЗ ад г. Мазыр. Старычнае.

**БЯРЭ́ЗКА,** рака, гл. *Бярозка.*

**БЯРЭ́ЗНІЦА,** рака ў Слонімскім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана).



Рака **Бярэзіна** (басейн Нёмана) у Іўеўскім раёне.

Даўжыня 4 км. Пачынаецца каля в. Амяльнікі, упадае ў Шчару ў забалочанай мясціне на ПдЗ ад в. Прырэчча. На ўсім працягу каналізаваная.

**БЯРЭ́ЗНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім і Івацэвіцкім р-нах, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 12,4 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Тухавічы, упадае ў Шчару за 1,2 км на ПдЗ ад в. Сельцы ў вусці Мышанкі.

**БЯРЭ́ШТАНЬ,** Чырвонабярэжскі канал, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток канала Сітня (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Бярозаўка, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Зялёны Бор.

**БЯРЭ́ШЧА,** рака ў Лепельскім р-не, левы прыток р. Эса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,2 км. Выцякае з воз. Бярэшча з Пн за 2 км на ПнУ ад в. Чарніцы, вусце за 1,2 км на У ад в. Верабкі. Прыток — р. Оканіца (злева).

**БЯРЭ́ШЧА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 4,08 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 1,3 м.**
**Даўжыня 2,8 км.**
**Найбольшая шырыня 1,8 км.**
**Пл. вадазбору 127 км$^2$.**

У бас. р. Бярэшча (выцякае з возера), сярод лясного масіву, за 12 км на ПдЗ ад г. Лепель, каля в. Чарніца. Берагі тарфяністыя, забалочаныя. Дно плоскае, ілістае. Зарастае. Упадае р. Кеста, выцякае р. Бярэшча, праз Бярэзінскі канал злучана з воз. Плаўна. Адзначалася гнездаванне лебедзяшыпуна — рэдкага віду птушкі, занесенай у рэспубліканскую Чырвоную кнігу.

**БЯРЭШЧЫНСКІ КАНА́Л,** гл. *Бярэзінскі канал.*

**БЯСІ́ТА,** рака, гл. *Чарняўка.*

# В

**ВА́БІЧ,** рака ў Круглянскім, Шклоўскім і Бялыніцкім р-нах, левы прыток Друці (бас. Дняпра).

**Даўжыня 74 км.**
**Пл. вадазбору 565 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1,7 км на У ад в. Бураўшчына Круглянскага р-на, упадае ў Друць за 2 км на У ад в. Прыбор Бялыніцкага р-на. Асноўныя прытокі: Чарнаводка, Васілеўка, Лімнічанка (злева), Свяцілаўка (справа). Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна ў вярхоўі невыразная, у сярэднім і ніжнім цячэнні трапецападобная, шырыня 0,6—1 км. Берагі нізкія, забалочаныя. Пойма двухбаковая, пераважае шырыня 0,2—0,4 км. Рэчышча звілістае, шырыня 10—25 м, у верхнім цячэнні каналізавана 24 км.

**ВА́БІЧ,** рака, гл. *Чарнаводка.*

**ВАВЁРКА,** Вавюрка, рака ў Лідскім р-не, левы прыток Лебяды (бас. р. Нёман).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 80 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Навасады, цячэ па Лідскай раўніне, упадае ў Лебяду на ПдЗ ад в. Паперня. На ўсім працягу каналізаваная. Каля в. Вавёрка сажалка (пл. 0,33 км$^2$).

**ВАДАВО́Е,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,1 км.**
**Найбольшая шырыня 75 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,27 км.**

У бас. р. Альзініца, за 17 км на З ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПнЗ ад в. Чамярычына, сярод лесу.

**ВАДАНО́СКА,** рака ў Клічаўскім р-не, правы прыток р. Сушанка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**



Рака **Вабіч** каля вёскі Вялікі Нежкаў Бялыніцкага раёна.

**Пл. вадазбору 54 км.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на Пн ад пас. Лясны, вусце за 2 км на Пд ад в. Усакіна. У вадазборы і па берагах пераважае забалочаны лес. У вярхоўі — балота Астравы-Дулебы (урочышча Вялікае Дулебскае).

**ВАДАСКІ́ДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім і Рэчыцкім р-нах, упадае ў воз. Гадынь (бас. Дняпра). Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 1,4 км на ПдЗ ад в. Хоўхла, упадае за 2 км на Пн ад чыг. маста праз Днепр на чыгунцы Гомель-Рэчыца.

**ВАДАСКІ́ДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток канала Розы Люксембург (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Асавы, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Роза Люксембург.

**ВАДЗІ́ЧАНЬКА,** рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Усы (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца на паўночна-заходняй ускраіне в. Пятрылавічы, упадае ва Усу за 3 км ніжэй вусця Шуры. На ўсім працягу каналізаваная, у вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў, далей цячэ сярод лесу.

**ВАДО́ТАЎ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не ў бас. Прыпяці, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Ракітна». Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Бабровічы, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Козікі.

**ВАЖА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 2,94 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,1 м.**
**Даўжыня 2,62 км.**
**Найбольшая шырыня 1,11 км.**
**Аб'ём вады 6,67 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 24,4 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 12 км на ПдЗ ад г. Міёры, за 3 км на Пд ад в. Пераброддзе. Уваходзіць у Абстэрнаўскую групу азёр. Схілы катлавіны на Пд, ПдЗ і У вышынёй 8—10 м, месцамі да 17 м, пад лесам, на Пн і ПнЗ разараныя. На У да возера прымыкае балота. Берагі месцамі сплавінныя, паўночныя і заходнія абразійныя, часта зліваюцца са схіламі. 2 астравы агульнай пл. 1 га. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 15—100 м да глыбіні 2 м. Злучана пратокай



Возера **Важа.**

(шырыня 200 м) з воз. Абстэрна; упадае рэчка без назвы.

**ВАЗНОЎСКІ РУЧАЙ,** у Докшыцкім р-не, правы прыток Зуйкі (бас. Віліі). Даўжыня 8 км. Пачынаецца каля в. Несцераўка, упадае ў Зуйку за 1,5 км на ПдУ ад в. Шуміна. На працягу 3 км да вусця каналізаваны.

**ВАЙНЯКІШКІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,42 км.



Возера **Валоба.**

У бас. р. Дрысвята, за 34 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Вайнякішкі. Схілы катлавіны на Пн вышынёй да 10 м, разараныя, на У да 3 м, пад агародамі. З астатніх бакоў возера забалочаны луг. Выцякае ручай у воз. Прутас.

**ВАЙЦІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскім і Лоеўскім р-нах, правы прыток Міхайлаўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2,7 км на ПнУ ад в. Вайцін, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Кашавое. На берагах забалочаны лес, у нізоўях забалочанае ўрочышча Хомінскія Клеткі.

**ВАЛАВЕЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 23,3 км. Пачынаецца ў лесе за 2 км на ПнУ ад в. Брашэвічы, упадае ў канал за 1 км на ПнУ ад в. Ямнік.

**ВАЛАКШАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лоеўскім р-не, левы прыток Брагінкі (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 2,4 км на ПнУ ад в. Вазон; упадае ў Верхнюю Брагінку каля в. Валакшанка.

**ВАЛАСАЦІК,** возера ў Расонскім р-не.



Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,35 км.
Найбольшая шырыня 0,14 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.




Возера **Валоба.**



Возера **Валоба.**

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 30 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Зарэчча, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, на Пн да 13 м. Бяссцёкавае.

**ВАЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Ельскім р-нах, правы прыток р. Батыўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 27 км. Пачынаецца каля в. Вусоў Лельчыцкага р-на, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Чапаеўка Ельскага р-на.

**ВАЛМЯНКА,** рака, гл. *Волма.*

**ВАЛНЕЯ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,27 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Пл. вадазбору 6,25 км$^2$.

У бас. р. Обаль, за 33 км на Пн ад г. Гарадок, за 1 км на ПдЗ ад в. Гуркі. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, парослыя забалочаным лесам і хмызняком, часткова пад лугам. Выцякае ручай у р. Дубоўка.

**ВАЛОБА,** В о л а б а, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 3,39 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,9 м.
Даўжыня 4,62 км.
Найбольшая шырыня 1,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 17,1 км.
Аб'ём вады 17,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 56,5 км$^2$.

У бас. р. Дрыса, за 34 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Азёрная. Катлавіна складанай формы, з мноствам заліваў, ляжыць сярод маляўнічых азёр, аб'яднаных пратокамі з р. Дрыса (гл. схему). Схілы катлавіны вышынёй 9—15 м (на ПдЗ і Пд 5—7 м), пад лесам, на З разараныя. Берагі пясчаныя, на У зліваюцца са схіламі. 9 астравоў агульнай пл. 7 га. Прыбярэжная зона да глыбіні 3—4 м (у заходняй частцы да 5—7 м) пясчаная. Зарастае ўздоўж берагоў, шырыня паласы расліннасці да 30 м. Упадае р. Студзёніца, злучана шырокай і глыбокай пратокай з воз. Сіньша. Месца адпачынку і турызму.

**ВАЛОБРЫНКА,** ручай у Слонімскім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

Даўжыня 13 км.

Пл. вадазбору 56 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Асабнякі, упадае ў Шчару на У ад в. Разанаўшчына. На працягу 5 км каналізаваны (ад в. Касцяні да в. Чамяры). Каля в. Сакалова (у пойме) сажалка (пл. 0,16 км$^2$).

**ВАЛО́ВА,** рака, гл. *Валоўка.*

**ВАЛО́ВА,** возера ў межах г. Полацк.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.

У бас. р. Палата. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад жылой забудовай. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 150 м.

**ВАЛО́ВЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,14 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Дрыса, за 22 км на ПнЗ ад Полацка, за 1,7 км на ПдЗ ад в. Лісуны. Схілы катлавіны на З і Пд вышынёй да 20 м, на У — да 5 м.

**ВАЛО́ЖЫНКА,** рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана).

Даўжыня 35 км.
Пл. вадазбору 168 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,3 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Брылькі на заходніх схілах Мінскага ўзвышша, цячэ праз г. Валожын, упадае ў Іслач ніжэй в. Расолішкі. Асноўны прыток р. Рачэўка. Рэчышча ў вярхоўі слабазвілістае, на працягу 22 км каналізаванае (ад Валожына да в. Расолішкі). Берагі стромкія, ніжэй Валожына абрывістыя. На паўднёва-заходняй ускраіне Валожына сажалка (пл. 0,04 км$^2$). У пойме сетка меліярацыйных каналаў.

**ВАЛО́ЖЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Акцябрскім і Глускім р-нах, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Шкава Акцябрскага р-на, вусце за 4 км на У ад в. Катка Глускага р-на. Прыток — Нова-Дубаўскі канал (злева).

**ВАЛО́ЗЕВА,** возера ў Шаркоўшчынскім р-не. Пл. 0,17 км$^2$. Пл. вадазбору 8,25 км$^2$. У бас. р. Дзісна, за 23 км на ПнУ ад г. п. Шаркоўшчына, каля в. Буды. Злучана канавай з воз. Яжгіня, ручаём з р. Дзісна.

**ВАЛО́К,** меліярацыйны канал у Уздзенскім р-не, левы прыток р. Шаць (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Таўкачэвічы 1-я, вусце за 0,8 км на Пд ад в. Валок.

**ВАЛО́САВІЦКІ КАНА́Л,** гл. *Некрашоўскі канал.*

**ВАЛО́ЎКА,** Валова, Валуўка, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 39 км.
Пл. вадазбору 253 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,7 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне г. Навагрудак, упадае ў Нёман за 1 км на У ад г. п. Любча. Асноўны прыток р. Оса. Даліна выразная, у ніжнім цячэнні зліваецца з далінай Нёмана. Пойма вузкая, двухбаковая, нізінная. Рэчышча звілістае, на працягу 5 км каналізаванае (ад в. Баярская да в. Асташына).

**ВА́ЛТА,** рака, гл. *Волта.*

**ВАЛУ́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,54 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,1 м.
Даўжыня 1,43 км.
Найбольшая шырыня 0,72 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,76 км.
Аб'ём вады 2,18 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 19,3 км$^2$.

У бас. р. Нешчарда, за 6 км на ПдУ ад г. п. Расоны, каля в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, на ПнЗ 1—2 м, пераважна разараныя. Берагі высокія, на З і ПнУ нізкія. Дно пясчанае, глыбей 1 м выслана сапрапелем. Шырыня паласы расліннасці 5—125 м. У возера ўпадае і выцякае ручай.

**ВАЛУ́ЎКА,** рака, гл. *Валоўка.*

**ВАЛЧА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток р. Выдранка (бас. Прыпяці). Даўжыня 24,8 км. Пачынаецца з канала на меліярацыйнай сістэме «Валчанская», за 3,5 км на ПдЗ ад в. Вялікія Чучавічы, вусце за 3,5 км на ПнЗ ад в. Вулька 2-я.

**ВАЛЫНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,17 км$^2$.
Даўжыня 0,62 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.

У бас. р. Дражбітка, за 38 км на ПнУ ад г. Полацк, за 4 км на Пд ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя.




Валуйскае возера.

**ВАЛЫНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11 м.
Даўжыня 0,65 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,42 км.
Аб'ём вады 0,44 млн. м$^3$.

У бас. р. Нача, за 30 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Валынец. Схілы катлавіны вышынёй 3—7 м, на 3 пад




Возера Валынец (плошча 0,08 км$^2$).

хмызняком, на У агароды і пабудовы. Берагі пясчаныя, высокія, на ПдУ сплавінныя. Па берагах да ўрэзу вады расце хмызняк. Вада празрыстая.

**ВАЛЫНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Нача, за 30 км на ПдЗ ад Полацка, за 400 м на ПдЗ ад в. Валынец. Схілы катлавіны вышынёй ад 10 м на ПнУ да 15 м на ПдЗ, стромкія, пад хмызняком. Уздоўж паўднёвых і паўночных берагоў лугавая пойма. Злучана ручаем з воз. Жураўна.

**ВАЛЫНКА,** рака ў Гарадоцкім і Віцебскім р-нах, правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 78 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца ў лясным масіве Астраўская дача за 6 км на ПнУ ад в. Нізкія Гарадоцкага р-на. Упадае ў Зах. Дзвіну каля в. Пруднікі Віцебскага р-на.

**ВАЛЫНКА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Нача (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,5 км. Выцякае з воз. Саланец, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Пятроўцы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВАЛЬКОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** на мяжы Расонскага р-на і Пскоўскай вобл. РСФСР.

Пл. 2,43 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,6 м.
Даўжыня 4,05 км.
Найбольшая шырыня 1,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 12,1 км.
Аб'ём вады 15,06 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 209 км$^2$.




Валькоўскае возера.

У бас. р. Чарапяціца (працякае праз возера), за [illegible] км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на Пн ад в. Глоты. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, на ПдУ 10—15 м, пад лесам, на З разараныя. Берагі нізкія, на ПдЗ зліваюцца са схіламі. Ложа плоскае, выслана ілам і сапрапелем.



Валькоўскае возера.

**ВАНЮЖЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Альхоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Навасёлкі, вусце за 3 км на У ад в. Ванюжычы.

**ВАРАЖДУНЕЦ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Друйка, за 11 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 1 км на У ад в. Слабодка. Схілы катлавіны невыразныя, моцна забалочаныя.

**ВАРАТЫНСКІ КАНАЛ,** Аўсімавіцкі канал, меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 1,8 км на Пд ад в. Пастраш, упадае ў Алу за 2,5 км на ПнУ ад в. Лесішча.

**ВАРАЦЁНКА,** рака ў Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Крапівенка (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Засвецішча, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Крапіўня. Ад вытоку 4,5 км рэчышча каналізавана.

**ВАРВАРАЎКА,** канал Варвараўка, ручай у Хоцімскім р-не, левы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Варвараўка, вусце на паўднёва-ўсходняй ускраіне г. п. Хоцімск. Каналізавана 6,7 км рэчышча.

**ВАРЛЫНКА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток Поні (бас. Дняпра).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 82 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Пугачова, вусце за 2 км на Пн ад в. Юхнаўка. На ўсім працягу каналізаваная.

**ВАРОНІНКА,** Вароніна, рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Ухлясць (бас. Дняпра).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 133 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Гадылёва, вусце каля в. Старое Хазяйства. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВАРОНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Крывая Града, вусце за 8 км на ПнУ ад в. Буда Грэская.

**ВАРОНІЧЫ,** Варонеч, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 1,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,9 м.
Даўжыня 4,9 км.
Найбольшая шырыня 0,55 км.
Даўжыня берагавой лініі 13,1 км.
Аб'ём вады 2,8 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 793 км$^2$.

У бас. р. Ушача (працякае праз возера), за 16 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Варонічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—8 м (заходнія і паўднёва-заходнія 10—18 м), на У і З разараныя.



Возера Варонічы.

Берагі нізкія, тарфяністыя, на У месцамі высокія, зліваюцца са схіламі, на Пн сплавінныя (шырыня сплавіны 5—15 м). 2 астравы ў паўночнай і цэнтральнай частках. Больш за 60 % пл. возера зарастае, шырыня паласы расліннасці 15—150 м да глыбіні 3—3,4 м.

**ВАРО́НКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, у бас. р. Нява. Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 1,4 км на У ад в. Баркі Газьбенскага сельсавета, упадае ў воз. Сенніца з ПдУ за 3 км на ПнЗ ад в. Лугаўскія. Цячэ ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**ВАРША́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток Валчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Вялікія Чучавічы, вусце за 7 км на У ад в. Велута.

**ВАРЭ́НКА,** рака, гл. *Вярэнка.*



Возера **Васлепна.**

**ВАСІЛЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны г. Васілевічы, вусце за 2,2 км вышэй вусця канала Корч.

**ВАСІЛЕ́ВІЦКІ 1-ы КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім і Калінкавіцкім р-нах, левы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца каля зах. ускраіны г. Васілевічы, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Нахаў Калінкавіцкага р-на.

**ВАСІ́ЛЕЎКА,** рака ў Шклоўскім і Бялыніцкім р-нах, левы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Мерч Шклоўскага р-на, вусце за 2 км на Пд ад в. Малыя Васількі Бялыніцкага р-на. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ВАСІЛЁК,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Друйка, за 14 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Родзеўшчына, займае частку забалочанага лугу. Схілы катлавіны невыразныя. Забалочаная пойма шырынёй 75—100 м.

**ВАСІ́ЛЬЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Крапівенка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Васільеўка, вусце каля в. Крапіўня.

**ВАСКРАСЕ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, левы прыток р. Свячанка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Застарынне, вусце каля в. Васкрасенцы.

**ВАСЛЕ́ПНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 1,96 км².**
**Найбольшая глыбіня 8 м.**
**Даўжыня 3,29 км.**
**Найбольшая шырыня 1,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,9 км.**
**Аб'ём вады 8,52 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,43 км².**

У бас. р. Лужасянка, за 22 км на У ад г. Гарадок, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Стырыкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, параслі лесам. Берагі пад лесам і хмызняком. 7 астравоў агульнай пл. 7 га. Мелкаводная частка катлавіны вузкая, стромкая, глыбакаводная плоская. Дно выслана ілам і сапрапелем. Паласа надводнай расліннасці шырынёй да 30 м пашырана да глыбіні 2 м, падводнай — да глыбіні 3 м. Злучана пратокай з воз. Вымна. На возеры адзначана гнездаванне рэдкай для Беларусі птушкі — гогаля звычайнага.

**ВА́СЬКАЎКА,** ручай у Хоцімскім і Клімавіцкім р-нах, левы прыток р. Сураў (бас. Дняпра). Даўжыня 4,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Зелянец Хоцімскага р-на, вусце каля в. Заходы Клімавіцкага р-на. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ВАЎКАВЫ́Я,** К о л а с а ў ш ч ы н а, рака ў Ваўкавыскім р-не, правы прыток Росі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 68 км².**
**Сярэдні нахіл водной паверхні 4,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Войткавічы, працякае праз г. Ваўкавыск, упадае ў Рось на яго паўночна-заходняй ускраіне.

**ВАЎКАЎНЯ́,** гл. *Белазерскі канал.*

**ВАЎМЯ́НКА НО́ВАЯ,** рака ў Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Карпілаўка, упадае ў сажалкі рыбакамбіната «Волма».

**ВАЎМЯ́НКА НО́ВАЯ,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Ваўлянка Новая (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Крываполле, упадае ў раку за 3 км на ПнЗ ад в. Волма.

**ВАЎМЯ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Волма, вусце за 3,5 км на ПдЗ ад в. Іванічы.

**ВАЎНЕ́Я,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,12 км.**
**Найбольшая шырыня 50 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,25 км.**

У бас. р. Сосніца (правы прыток Зах. Дзвіны), за 34 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на ПдЗ ад в. Труды,




Возера **Варонічы.**




Возера **Васлепна.**

на Пд ад воз. Вырвіна. Вакол возера забалочаны луг, на Пд узгоркі вышынёй да 10 м. Выцякае ручай у р. Нежа.

**ВАЎПЯ́НКА,** рака ў Ваўкавыскім р-не, у бас. Нёмана.

> **Даўжыня 31 км.**
> **Пл. вадазбору 165 км².**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,8 м³/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Шніпава, цячэ па Ваўкавыскім узвышшы, упадае ў Воўпаўскае вадасховішча каля в. Воўпа (створана на р. Рось у сутоках з Ваўпянкай). Даліна выразная. Пойма двухбаковая. Рэчышча звілістае, неразгалінаванае, на працягу 16,4 км каналізаванае (0,5 км ніжэй в. Бойдаты да в. Воўпа). Берагі ўмерана стромкія. Каля в. Цярэшкі створана сажалка (пл. 0,06 км²).

**ВАЎЦЭЛЬНА,** возера ў Лунінецкім р-не.

> **Пл. 0,17 км².**
> **Даўжыня 1,65 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,12 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 3,6 км.**

У бас. р. Прыпяць (у час веснавога разводдзя злучаецца з возерам), за 48 км на ПдУ ад г. Лунінец, за 4,5 км на ПдУ ад в. Запроссе. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком. Берагі высокія.

**ВАЎЧА́НКА,** рака ў Асіповіцкім і Бабруйскім р-нах, правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

> **Даўжыня 37,5 км.**
> **Пл. вадазбору 374 км².**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,9 м³/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,8 км на ПдЗ ад р. п. Татарка Асіповіцкага р-на, упадае ў Бярэзіну каля в. Вербкі Бабруйскага р-на. Асноўныя прытокі: канава Ваўчанка (справа), Ясенка (злева). Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырынёй 200—500 м. Пойма двухбаковая, шырынёй 200—400 м. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Берагі стромкія, вышынёй 1,5—3 м. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ВАЎЧА́НКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Падвялікае ў балоцістай мясціне, упадае ў Шчару на ПдУ ад в. Чарлёнка. Ад вытоку на працягу 8,2 км каналізаваная. Каля в. Падвялікае на рацэ створаны сажалкі (пл. 0,04 км² і 0,07 км²).

**ВАЎЧО́,** возера ва Ушацкім р-не.

> **Пл. 0,38 км².**
> **Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
> **Даўжыня 1,28 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,47 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 3,28 км.**
> **Аб'ём вады 1,02 млн. м³.**
> **Пл. вадазбору 78,4 км².**

У бас. р. Крашанка (выцякае з возера), за 1,5 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Ціханяты. Схілы катлавіны вышынёй 5—17 м, пераважна разараныя, на ПдУ парослыя лесам. Берагі месцамі пад хмызняком. Дно (уздоўж берагоў) пясчанае, глыбей выслана ілам. Паласа прыбярэжнай расліннасці шырынёй 5—15 м да глыбіні 1,8—2,5 м. На Пд упадаюць ручаі з азёр Вечалле і Дземінец.




**Возера Ваўчо.**

**ВАХРАМЕ́ЕВА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

> **Пл. 0,05 км².**
> **Даўжыня 0,5 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,12 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Росіца (правы прыток Зах. Дзвіны), за 20 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Росіца. Схілы катлавіны на Пн і Пд вышынёй да 15 м, пад лесам, месцамі — хмызняком. Пойма забалочаная, шырынёй да 50 м.

**ВАШЧА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Чарняўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Залужжа, вусце каля в. Бармуты.

**ВЕ́ДЗЬМА,** Вядзьмянка, рака ў Нясвіжскім і Ляхавіцкім р-нах, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

> **Даўжыня 35 км.**
> **Пл. вадазбору 267 км².**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 м³/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Слабада Нясвіжскага р-на, упадае ў Шчару на ПнУ ад в. Задвор'е. Асноўны прыток р. Шавялёўка. Даліна невыразная. Пойма двухбаковая, у сярэднім цячэнні забалочаная, яе шырыня 300—700 м. На працягу 18,9 км рэчышча каналізаванае: ад вытоку да в. Сваятычы (9,5 км) і ад вусця Шавялёўкі да г. Ляхавічы (9,4 км). Шырыня рэчышча ў межань 2—10 м. У пойме меліярацыйныя каналы, каля в. Кавалі сажалка (пл. 0,15 км²).

**ВЕ́ДРАЧ,** рака, гл. *Ведрыч.*

**ВЕ́ДРЫНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

> **Пл. 0,22 км².**
> **Найбольшая глыбіня 1,5 м.**
> **Даўжыня 0,75 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,44 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 2,25 км.**
> **Аб'ём вады 0,2 млн. м³.**
> **Пл. вадазбору 432 км².**

У бас. р. Аўсянка (працякае праз возера), за 36 км на ПнУ ад г. Гарадок, паміж вёскамі Двухполле і Селязні. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, пад лесам, на Пн і ПдЗ разараныя. Берагі сплавінныя, пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Вада празрыстая амаль да дна. Зарастае.

**ВЕ́ДРЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне г. п. Васілевічы, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Ведрыч.

**ВЕ́ДРЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Бушаўка, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Ведрыч. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ВЕ́ДРЫЧ,** Ведрач, рака ў Калінкавіцкім і Рэчыцкім р-нах, правы прыток Дняпра.

> **Даўжыня 68 км.**
> **Пл. вадазбору 1330 км².**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,5 м³/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Уюнішчы Калінкавіцкага р-на, упадае ў Дняпро каля в. Азершчына Рэчыцкага р-на. Асноўныя прытокі: канава Рэбуска (справа), рэкі Днепрык, Дзяражня (злева). Цячэ па Гомельскім Палессі. Даліна невыразная, шырыня 0,6—0,8 км. Пойма шырынёй 0,3—0,5 км, сухая, лугавая. Ад вытоку 49 км рэчышча каналізавана, шырыня ракі ў межань 6—8 м. У пойме меліярацыйныя каналы.

**ВЕ́ЙНКА,** Падвейка, рака ў Лагой-

скім р-не, правы прыток Дзвінасы (бас. Віліі).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 98 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Роўнядзь, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Дзвінасу на З ад в. Вейна. Ад вытоку амаль да в. Пячное цячэ праз лес, далей да вусця (9,4 км) каналізаваная.

**ВЕЛЕ́МЬЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Быхаўскім р-не, левы прыток р. Езва (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 4,3 км на ПнУ ад в. Дзедава, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Новая Баяршчына 2-я. Па берагах забалочаны лес.

**ВЕЛІЖЖЭ́,** Веліж'я, возера ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Даўжыня 1,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,3 км.**

На пойме р. Прыпяць, за 11 км на У ад г. Петрыкаў, за 2 км на ПнУ ад в. Вялаўск. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя, пад хмызняком. Берагі пераважна нізкія, забалочаныя. Злучана ручаём з р. Скалодзіна.

**ВЕЛІЖЖЭ́,** возера ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,98 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.**

На пойме р. Прыпяць (праз ручай злучаецца з возерам), за 6 км на ПдЗ ад г. Петрыкаў, за 2 км на Пд ад в. Макарычы. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком.

**ВЕЛІКАБО́РСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Хойніцкім р-не.

**Пл. 2,7 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13,9 м.**
**Даўжыня 2,63 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Аб'ём вады 8,95 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 195 км$^2$.**

На р. Віць (51,5 км ад вусця), за 14 км на Пн ад г. Хойнікі, каля в. Вялікі Бор. Створана ў 1986 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 17,4 млн. м$^3$.

**ВЕЛІКАБО́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток канала Ізбынька (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Партызанская, вусце за 5 км на ПнУ ад в. Хвойнае.

**ВЕЛІКАЛЕ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток Дубайскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,6 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Калоднае, вусце за 1,5 км на З ад в. Глінка.

**ВЕЛІКАЛЕ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток Закрэўскага канала, які ўпадае ў Бярэзіну (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Вялікі Лес, упадае ў Закрэўскі канал за 2,4 км на ПдУ ад в. Кабанаўка. Берагі пад сельгасугоддзямі.

**ВЕЛІКЯ́НЦЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Друйка, за 12 км на З ад г. Браслаў, каля в. Велікянцы. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, на З і Пн невыразныя, пад забалочаным лесам. Востраў пл. 0,6 га. Пойма шырынёй 5—100 м, амаль цалкам забалочаная.

**ВЕ́ЛІХАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнУ ад воз. Веліхава (на мяжы з Украінай), упадае ў Рыту за 1,7 км на ПдЗ ад в. Вотчын.

**ВЕ́ЛЛЕ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,9 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,25 км.**
**Пл. вадазбору 3,75 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 16 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Баравуха 1-я. Схілы катлавіны пад лесам, месцамі разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, параслі хмызняком, на У і Пд забалочаныя.

**ВЕ́ЛЛЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,55 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,6 м.**
**Даўжыня 0,93 км.**
**Найбольшая шырыня 0,84 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Аб'ём вады 1,66 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,7 км$^2$.**

У бас. р. Вельніца (выцякае з возера), за 7 км на З ад г. п. Расоны, каля в. Шалашнікі. Схілы катлавіны нізкія, на Пд вышынёй да 3 м, разараныя, месцамі пад лесам. Берагі на Пн і У нізкія, пясчаныя, на Пд і З затарфаваныя, парослыя хмызняком. Слаба зарастае ўздоўж берагоў, шырыня паласы раслінnasці 10—30 м.

**ВЕЛУТА́,** вадасховішча ў Лунінецкім р-не.

**Пл. 7,6 км$^2$.**
**Даўжыня 3,4 км.**
**Найбольшая шырыня 2,8 км.**
**Аб'ём вады 31 млн. м$^3$.**

За 26 км на Пн ад г. Лунінец, паміж вёскамі Велута Лунінецкага р-на і Ліпск, Малькавічы Ганцавіцкага р-на. Наліўное. Створана ў 1976 для рыбагадоўлі, увільгатнення і арашэння. Берагі пясчаныя, параслі хмызняком. Напаўняецца са Стрыжэўскага канала і р. Цна па водападвадным канале пры дапамозе помпавай станцыі.

**ВЕЛУТА́,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток Валчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, вусце за 3,5 км на У ад в. Велута.

**ВЕ́ЛЬНІЦА,** рака ў Расонскім р-не, левы прыток Нішчы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 10,5 км.**
**Пл. вадазбору 83 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца з воз. Велле, цячэ на поўначы Полацкай нізіны. Упадае ў Нішчу (правы прыток Дрысы) за 2 км ніжэй ад в. Галоўчыцы. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ВЕ́ПРЫНКА,** рака ў Клічаўскім і Кіраўскім р-нах (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 127 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Малінне Клічаўскага р-на, упадае ў Чыгірынскае вадасховішча каля в. Груднічкі. У нізоўі на сцёк Вепрынкі аказвае




Возера Велле (Расонскі раён).




Вадасховішча Велута.

ўплыў падпор ад Чыгірынскага вадасховішча.

**ВЕРА,** возера ў Браслаўскім р-не.

> Пл. 0,21 $км^2$.
> Найбольшая глыбіня 5 м.
> Даўжыня 0,85 км.
> Найбольшая шырыня 0,35 км.
> Даўжыня берагавой лініі 2 км.
> Аб'ём вады 0,6 млн. $м^3$.
> Пл. вадазбору 5,5 $км^2$.

У бас. р. Друйка, за 8 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 1 км на Пд ад в. Слабодка. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, разараныя, месцамі пад хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, на З сплавінныя. Дно плоскае, да глыбіні 1,5 м пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Зарастае да глыбіні 1,4 м. Злучана ручаем з воз. Недрава.

**ВЕРАБ'ЁЎКА,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Паўна (бас. Дняпра). Даўжыня 3,4 км. Пачынаецца каля чыгункі Орша — Крычаў, за 4,8 км на З ад в. Сенькава, вусце на паўночнай ускраіне в. Ліхачова. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,6 км каналізаванае.

**ВЕРАБ'І,** возера ў Астравецкім р-не.

> Пл. 0,46 $км^2$.
> Найбольшая глыбіня 3,1 м.
> Даўжыня 1,12 км.
> Найбольшая шырыня 0,57 км.
> Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.
> Аб'ём вады 0,94 млн. $м^3$.
> Пл. вадазбору 8,2 $км^2$.

У бас. р. Страча, за 33 км на ПнУ ад г. п. Астравец, каля в. Вераб'і. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 12—13 м (на Пд да 5 м), пераважна разараныя, на Пд пад лесам. Берагі нізкія, на ПдУ і З сплавінныя, на Пн зліваюцца са схіламі. Дно плоскае, выслана сапрапелем, на мелкаводдзі пясчанае. 35 % плошчы возера зарастае, паласа раслiннасці шырынёй 15—50 м да глыбіні 1,8—2 м. На ПнЗ упадае ручай з воз. Гульбеза, на ПдУ выцякае ручай у р. Страча.

**ВЕРАМЕ́ЕЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

> Пл. 0,01 $км^2$.
> Даўжыня 0,15 км.
> Найбольшая шырыня 0,11 км.
> Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 24 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПдУ ад в. Антонава. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пад лесам, на У балота. Пойма на ПдУ забалочаная. Выцякае ручай у воз. Антонаўскае, упадае ручай з воз. Глыбочына.

**ВЕРАСО́ЖКА,** Верасожа, рака ў Нараўлянскім р-не, левы прыток Мухаедаўскага канала (бас. Прыпяці).

> Даўжыня 12 км.
> Пл. вадазбору 59 $км^2$.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Акопы і цячэ па паўднёвай частцы нізіны Гомельскае Палессе. Упадае ў Мухаедаўскі канал каля в. Ленінскі Пасёлак. Рэчышча ад в. Акопы да вусця на працягу 9 км каналізаванае.

**ВЕРА́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гродзенскім р-не.

> Пл. 1,23 $км^2$.
> Даўжыня 7,5 км.
> Найбольшая шырыня 0,4 км.

У бас. р. Пыранка, за 33 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Глушнева. Катлавіна вузкая, стужкападобная; схілы стромкія, вышынёй да 10 м, пад лесам. Праз возера цячэ р. Сламянка.

**ВЕРАЦЕ́ЙКА,** Верацця, Вярэцейка, Вярэцця, рака ў Ваўкавыскім, Мастоўскім і Бераставіцкім р-нах, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

> Даўжыня 35 км.
> Пл. вадазбору 321 $км^2$.
> Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,7 $м^3/с$.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Зборы Ваўкавыскага р-на, упадае ў Свіслач на ПдЗ ад в. Ярмолічы. Асноўныя прытокі: Залучанка, Бурчак. Даліна ў вытоку выразная. Пойма пераважна двухбаковая, яе шырыня 0,3—1,5 км, асобныя ўчасткі забалочаныя. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Яго шырыня ў межань 5—6 м. Каля в. Духаўляны створана сажалка (пл. 0,31 $км^2$). У пойме меліярацыйныя каналы.



**Вераўскае возера.**

**ВЕРАЦЕ́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Верацейка, у Мядзельскім р-не.

> Пл. 0,12 $км^2$.
> Найбольшая глыбіня 10 м.
> Даўжыня 0,7 км.
> Найбольшая шырыня 0,2 км.

У бас. р. Лаўрыха, за 16 км на ПнУ ад г. п. Мядзел, каля в. Нагаўкі. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, на Пн пад лесам. Берагі пераважна забалочаныя. Водная расліннасць пашырана да глыбіні 5 м. Упадае ручай з Нагаўскага возера.




**Верацейскае возера.**

**ВЕРАЦЕ́ЙСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Дубровенскім р-не, левы прыток р. Вярхіта (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад Пасёлка 11-га (каля р. п. Асінторф), вусце за 1,6 км на У ад Пасёлка 10-га.

**ВЕРАЦЕ́Я,** рака ў Чашніцкім і Бешанковіцкім р-нах, левы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 11,9 км. Выцякае з воз. Краснае за 0,8 км на З ад паўночнай ускраіны в. Дзямідавічы Чашніцкага р-на, вусце за 0,8 км на У ад в. Жалезкі Бешанковіцкага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЕРАЦЦЯ́,** рака, гл. *Верацейка.*

**ВЕ́РБАЎКА,** рака ў Горацкім і Чавускім р-нах, левы прыток Проні (бас. Дняпра).

> Даўжыня 27 км.
> Пл. вадазбору 159 $км^2$.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,7 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Цёмны Лес Горацкага р-на, вусце каля в. Вербаўка Чавускага р-на. У сярэднім і ніжнім цячэнні на працягу 15,2 км каналізаваная.

**ВЕ́РБНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

> Пл. 0,14 $км^2$.
> Найбольшая глыбіня 12 м.
> Даўжыня 0,5 км.
> Найбольшая шырыня 0,35 км.
> Пл. вадазбору 7,5 $км^2$.

У бас. р. Ула, за 23 км на ПнЗ ад



**Возера Верхаўна.**

г. п. Бешанковічы, за 4 км на ПдЗ ад г. п. Ула, каля в. Фролкавічы, сярод лясных масіваў. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м. Зарастае. Уваходзіць у зону адпачынку Ула.

**ВЕРЖБАЛО́ЎКА,** Л а з о ў к а, рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток Гожкі (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Казловічы, упадае ў Гожку каля в. Багушоўка. На ўсім працягу каналізаваная. На паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Верцялішкі створана сажалка.

**ВЕРКАЛЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 3,4 км на З ад в. Вецярэвічы 2-я, вусце за 1,4 км на ПдУ ад в. Вецярэвічы 1-я.

**ВЕРХАЛЕ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Кобрынскім р-нах, левы прыток р. Трасцяніца (бас. Зах. Буга). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Новы Двор, упадае ў Трасцяніцу за 2 км на Пн ад в. Хадынічы.

**ВЕ́РХАЎНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**

У бас. р. Нешчарда, за 25 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Нізінкі. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, пад хмызняком.

**ВЕРХАЧЭ́ННЕ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,10 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Тросніца, за 15 км на ПнУ ад г. Полацк, за 0,5 км на ПдУ ад в. Калошкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—100 м.

**ВЕ́РХНІ ВЫ́ВЕЖАК,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 28 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1,5 км на Пн ад в. Загуззе (Канашоўскі сельсавет). Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, пад лесам, на З і ПнУ невыразныя. Уздоўж берага — забалочаны лес. На Пд выцякае ручай у р. Кудзінка.

**ВЕ́РХНЯЯ ЖАЛО́НЬ,** рака. Гл. *Жалонь.*

**ВЕ́РХНЯЯ ЗАКО́ВАНКА,** рака ў Калінкавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 11,5 км. Пачынаецца за 2,4 км на У ад в. Карма, за 4 км на ПдЗ ад в. Замосце злучаецца з меліярацыйным каналам, які ўпадае ў р. Ненач злева. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЕ́РХНЯЯ КРЫ́ВІНА,** рака, гл. *Бярозка.*

**ВЕ́РХНЯЯ РЫ́ТА,** рака ў Маларыцкім р-не, правы прыток р. Маларыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 24,5 км. Пачынаецца з воз. Крымна (Украіна), у межах Маларыцкага р-на выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйнай сістэмы «Вір» і крыніца арашэння. Асноўны сцёк накіраваны ў Маларыту, пры неабходнасці частку сцёку накіроўваюць у р. Рыта, якая мае самастойны вадацёк. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ВЕ́РЫНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,47 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 23,9 м.**
**Даўжыня 2,48 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,97 км.**
**Аб'ём вады 2,97 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,6 км$^2$.**

У бас. р. Обаль, за 20 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Кісялі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м на Пн і Пд 13—15 м, на З разараныя, на У пад лесам і хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. Дно паўночнай часткі катлавіны плоскае, на Пд мае варонкападобную форму. На Пн да глыбіні 3 м і на Пд да 6—8 м дно пясчанае, глыбей выслана ілам і сапрапелем. Зарастае слаба, паласа расліннасці да глыбіні 2,5—3 м. На Пн выцякае ручай у р. Обаль.

**ВЕ́СКА,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток Завішчыцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад пасёлка Акцябр, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Веска.

**ВЕ́СНАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, левы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Турыно, вусце за 4,5 км на З ад в. Клетнае.

**ВЕТВ,** возера ў Рэчыцкім р-не.
Пл. 0,2 км$^2$. У бас. Бярэзіны, ніжэй вусця Сведзі, за 13 км на ПнЗ ад г. Рэчыца. Поймавае.

**ВЕ́ТКА,** рака ў Акцябрскім р-не, правы прыток р. Трэмля (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Гадуні, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Параслішча. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЕ́ТКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Веткаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПнУ ад г. Ветка, вусце на яго паўночна-заходняй ускраіне. У пойме Сажа працякае праз старычнае возера.

**ВЕ́ТЛІЦА,** рака ў Столінскім р-не, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 30 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Беражное, вусце за 3 км вышэй упадзення ў Прыпяць р. Смердзь. Рэчышча ад вытоку да в. Малыя Арлы на працягу 6 км каналізаванае.

**ВЕ́ТРЫНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Нача (левы прыток Зах. Дзвіны), за 23 км на ПдЗ ад Полацка, на паўднёва-заходняй ускраіне г. п. Ветрына. Схілы катлавіны вышынёй 10 м, пад пабудовамі і агародамі. На З і Пд пойма шырынёй 15—20 м, пад лугам.

**ВЕ́ТХІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны




Возера **Верына.**




Возера **Верына.**

канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток Дняпра. Даўжыня 13,2 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Сямёнаўка, упадае ў Дняпро ў в. Левашы. На берагах сельгасугоддзі.

**ВЕ́ТЧАНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,35 км$^2$.
Даўжыня 0,98 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.
Пл. вадазбору 3,25 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 28 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Ветча і пас. Мірны. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, пад лесам, на Пд і У разараныя. Берагі нізкія, на У зліваюцца са схіламі. Уваходзіць у зону адпачынку Ушачы.

**ВЕХАТНЯ́НКА,** Вехатніца, рака ў Ваўкавыскім р-не, левы прыток Росі (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пл. вадазбору 59 км$^2$. Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,4 ‰.

Пачынаецца на ПдУ ад в. Дыхнавічы, за в. Станкаўцы цячэ праз сажалкі, упадае ў Рось каля г. п. Рось.

**ВЕЦ,** канал Вец, рака ў Пружанскім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня 14 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Нясцеркі, зліваецца з р. Муха на заходняй ускраіне Пружан (у сутоках пачынаецца р. Мухавец). Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ВЕ́ЧАЛЛЕ,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 1,36 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 35,9 м.
Даўжыня 3,68 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,2 км.
Аб'ём вады 25,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 37,2 км$^2$.

У бас. р. Крашанка, за 1 км на ПдУ ад г. п. Ушачы. Уваходзіць у курортную зону Ушачы. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на ПнУ 2—4 м), разараныя. Берагі высокія, на ПнУ і ПдЗ месцамі нізкія. Дно карытападобнае. Ложа складаецца з 2 упадзін глыбінёй 33,4 і 35,9 м, раздзеленых невысокім падняццем. Расліннасць займае 5 % плошчы возера, паласа ўздоўж берага шырынёй 5—30 м да глыбіні 3 м. Упадаюць 4 ручаі, у т. л. з воз. Доўжына; выцякае ручай у воз. Ваўчо. Каля возера дом адпачынку «Лясныя азёры».



Возера Вечалле.

**ВЕ́ЧЫЦА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,14 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,1 м.
Даўжыня 0,78 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,04 км.
Аб'ём вады 0,27 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 69,8 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 10 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, паміж вёскамі Ідута і Старынкі. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м (на Пн і ПнУ 5—7 м), на ПнЗ невыразныя, парослыя лесам і хмызняком, месцамі разараныя. Берагі сплавінныя, пад хмызняком. 95 % плошчы дна зарастае падводнай раслiннасцю. Праз возера цячэ р. Ідута.

**ВЕ́ШАЛКА,** ручай, гл. *Рудніца.*

**ВІДЗІБО́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток Дубайскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Рухча, вусце каля в. Відзібор.

**ВІ́ДЗСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

Пл. 0,97 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 20,5 м.
Даўжыня 4,07 км.
Найбольшая шырыня 0,54 км.
Аб'ём вады 5,11 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 4,5 км$^2$.

У бас. р. Дрысвята, за 34 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 1 км ад г. п. Відзы, каля в. Балікі. Схілы катлавіны вышынёй больш за 20 м, у паўднёвай частцы стромкі абразійны схіл. Катлавіна складзена з 3 плёсаў — мелкаводнага ўсходняга, карытападобнай формы з шырокай літараллю (да 30 м) заходняга і найбольш складанай будовы цэнтральнага з астравам (пл. 0,4 га) і меллю. Большасць берагоў зліваецца са схіламі, у асобных месцах пойма шырынёй да 10 м. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей — ілы. Возера злучана пратокай з воз. Сэклы.

**ВІ́ДЛІНКА,** рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Раста (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Вайнілы, 0,3 км ад чыгункі Магілёў — Чавусы, вусце за 1 км на З ад в. Вайнілы. Рэчышча ў вусці


Возера Вечалле.

каналізаванае на працягу 1,4 км.

**ВІ́ДНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Званіца, за 23 км на ПнЗ ад г. Полацк, за 2,2 км на У ад в. Балдышы. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам.

**ВІ́КТАРАЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Мышкавіцкі канал.*

**ВІЛЕ́ЙКА,** Вілле, рака ў Чавускім р-не, левы прыток Расты (бас. Дняпра).

Даўжыня 30 км.
Пл. вадазбору 147 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 1,6 км на ПнЗ ад в. Вілейка, вусце каля в. Усушак. Асноўныя прытокі: Месенка і ручай Галавенчыцы. Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. У вярхоўі каналізаваная на працягу 13,5 км.

**ВІЛЕ́ЙКА,** рака, гл. *Вільня.*

**ВІЛЕ́ЙСКА-МІ́НСКАЯ ВО́ДНАЯ СІСТЭ́МА,** у Вілейскім, Маладзечанскім і Мінскім р-нах.

Пабудавана для водазабеспячэння Мінска перакідкай вады з Віліі (бас. Нёмана) у Свіслач (бас. Дняпра). Здадзена ў эксплуатацыю ў пач. 1976. У сістэму ўваходзяць: Вілейскае вадасховішча, злучальны канал даўжынёй 62 км з 5 помпавымі станцыямі магутнасцю да 22 м$^3$/с, якія забяспечваюць пад'ём вады на 75 м да водападзелу ў раёне Радашковіч; сістэма вадасховішчаў — Заслаўскае, Крыні-

ца. Дразды; зарэгуляваны ўчастак р. Свіслач ніжэй Мінска. Канал пачынаецца з Вілейскага вадасховішча, праходзіць па Нарачана-Вілейскай нізіне і Мінскім узвышшы. Для захавання і паляпшэння навакольнага асяроддзя і натуральных вадаемаў пры перасячэнні гідраграфічнай сеткі пабудаваны дзюкеры, акведукі, плаціны, вадаспускі, ліўняспускі і інш. гідратэхнічныя збудаванні. Канал мае 2 самацечныя, адносна неглыбокія, участкі: падвадны (ад Вілейскага вадасховішча да помпавай станцыі 1-га падняцця) і адводны (ад помпавай станцыі 5-га падняцця да Заслаўскага вадасховішча). Астатнія 4 участкі з пераменнымі глыбінямі ад 4—6 м у пачатку да 7—8 м і больш у канцы размешчаны паміж іншымі помпавымі станцыямі. Адхоны і бермы на 1 м ніжэй мінімальнага ўзроўню вады ў канале замацаваны жвірам. На асобных участках, дзе магчыма ўцечка вады і падтапленне прылеглых тэрыторый фільтрацыйнымі водамі, канал і яго адхоны маюць інжынерныя замацаванні. Штогадовая перакідка вады з Вілейскага вадасховішча па канале ў Мінск складае каля 382 млн. м³, што павялічвае расход вады Свіслачы ў Мінску ў 4—5 разоў (да 17 м³/с летам і 13 м³/с зімой). Гэта забяспечвае прамысловасць Мінска тэхнічнай вадой і зберагае яго падземныя воды для забеспячэння насельніцтва высакаякаснай пітной вадой. Вада з Вілейска-Мінскай воднай сістэмы перапампоўваецца таксама ў Сляпянскую водную сістэму. У будучым плануецца накіроўваць яе і ў Лошыцкую водную сістэму, якая будуецца.

**ВІЛЕЙСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** В і л е й с к а е  м о р а, у Вілейскім раёне, самы буйны штучны вадаем Беларусі, асноўнае гідразбудаванне Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Пл. 64,6 км².
Найбольшая глыбіня 13 м.
Даўжыня 27 км.
Найбольшая шырыня 3 км.
Даўжыня берагавой лініі 137 км.
Аб'ём вады 238 млн. м³.
Пл. вадазбору 4120 км².

На р. Вілія пры зліцці яе з рэкамі Сэрвач, Ілія, Касутка, за 5 км на У ад г. Вілейка. Створана ў 1973—75 для акумуляцыі і перакіду вады ў Свіслач. Расход вады: скід праз плаціну ў Вілію (75 %), забор у Вілейска-Мінскую сістэму (20 %) і на арашэнне. Берагавая лінія парэзана слаба, але ёсць буйныя залівы, куды ўпадаюць







Вілейскае вадасховішча.



Пляж на паўночным беразе Вілейскага вадасховішча.

рэкі. Берагі нізкія (вышыня 0,5—1 м), у выніку абразійна-абвальных і эразійных працэсаў каля 25 % з іх падвергнута размыву; частка берагоў замацавана. На паўднёвым беразе пясчаныя пляжы шырынёй 50—100 м. 10 астравоў, берагі якіх таксама актыўна размываюцца. Дно выслана пяском, пад тарфянікамі каля 15 % пл. Пераважаюць вятры паўднёва-заходніх і заходніх напрамкаў. Летам пры скорасці ветру 3—5 м/с вышыня хваль 0,2—0,5 м. Найбольшае хвалянне (да 1,5 м) пры вятрах заходняга напрамку. Летам паверхневыя слаі вады праграюцца да 18—22 °С, прыбярэжныя і мелкаводныя да 24 °С. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня 60—70 см) трымаецца да сярэдзіны красавіка. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню 2 м. Празрыстасць вады павялічваецца ад вярхоўяў (1—1,5 м) да плаціны (да 2,5 м). Зарастае слаба (да 10 % пл.). У сярэдзіне чэрвеня назіраецца масавае развіццё сіне-зялёных водарасцей («цвіценне» вады), адміранне якіх у асенні перыяд значна пагаршае якасць вады. Водзяцца шчупак, акунь, лешч, сярэбраны карась, джгір, трохіголкавая колюшка, плотка, верхаводка. На астравах гняздоўі чаек, у некаторыя гады адзначана гнездаванне лебедзяў. Вакол вадасховішча створана буйная зона адпачынку.

**ВІЛІЯ** (літ. Нярыс), рака на тэрыторыі Беларусі і Літвы, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 498 км, у Беларусі — 264 км.**
**Пл. вадазбору 25,1 тыс. км², на тэр. Беларусі — 11 тыс. км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 186 м³/с.**

Пачынаецца з невялікага балота за 1 км на ПнУ ад в. Вялікае Поле Докшыцкага р-на, перасякае мяжу з Літвой за 2 км на ПнЗ ад в. Жарнэлі Астравецкага р-на, упадае ў Нёман на тэрыторыі Літвы каля г. Каўнас. Асноўныя прытокі на тэрыторыі Беларусі: Сэрвач, Нарач, Страча (справа), Дзвінаса, Ілія, Уша, Ашмянка (злева). На рацэ створана Вілейскае вадасховішча, частка вады якога па Вілейска-Мінскай воднай сістэме перапампоўваецца ў Свіслач. Даліна звілістая, добра распрацаваная, у верхнім цячэнні шырынёй 1—3 км, бліжэй да вусця звужаецца да 0,2—0,4 км. Амаль на ўсім працягу тэрасы. Пойма ў верхнім цячэнні ў асноўным забалочаная, шырыня яе 200—400 м, ніжэй перарывістая, шырынёй 50—70 м, месцамі да 600 м; на ўчастку паміж вёскамі Стахі і Раздоры Вілейскага р-на шмат старыц. Рэчышча ў вярхоўі моцназвілістае, шырыня яго ад 1 м да 2 м, каля вусця Ушы 40—60 м (месцамі да 100 м), да ўпадзення Балошынкі 60—70 м; шмат астравоў, адмелін, асяродкаў, трапляюцца парожыстыя ўчасткі. Берагі стромкія, у вярхоўі тарфяністыя. Веснавое разводдзе пачынаецца ў канцы сакавіка і доўжыцца каля 50 сутак. Рэжым адрозніваецца інтэнсіўным веснавым разводдзем (каля 45 % гадавога сцёку) і нізкім стаяннем вады ў летнюю межань. Пасля здачы ў эксплуатацыю Вілейскага вадасховішча ўзроўневы і сцёкавы рэжым плаціны ў межах Беларусі зарэгуляваны. Замярзае ў верхнім цячэнні ў пачатку снежня, у сярэднім і ніжнім — у канцы снежня — пачатку студзеня, крыгалом у 2-й палове сакавіка ад вусця да вярхоўя. Сярэдняя тэмпература вады летам 18—20 °С, найбольшая ў ліпені (27,9 °С, 1956 г.). Водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась, верхаводка, гусцяра; каштоўныя — судак, мінога ручаёвая, галавень, стронга ручаёвая, падуст, сом, мянтуз, вугор. На рацэ гарады Вілейка, Вільнюс і Каўнас (у вусці). На берагах у маляўнічых мясцінах створаны зоны адпачынку Вілейка, Плёсы; у вытоку Віліі помнік прыроды — Бярозкаўскі дуб-велікан. Амаль усе прытокі Віліі каналізаваныя. Усяго ў басейне ракі больш за 40 каналаў агульнай даўжынёй каля 300 км.

**ВІЛІЯ**, возера ў Чачэрскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**

У бас. р. Сож, за 6 км на Пн ад г. Чачэрска, за 2,5 км на ПнУ ад в. Отар. Поймавае. Праз возера цячэ р. Курынка, якая злучае яго з воз. Вір.

**ВІЛЛЕ**, рака, гл. *Вілейка.*

**ВІЛЫ**, Д у н ц ы, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток Юркавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,1 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Старыя Цярушкі, вусце за 6 км на ПдУ ад в. Лесаўня.

**ВІЛЬНЯ**, В і л е й к а, рака ў Гродзенскай вобл. і Літве, левы прыток Віліі (Нярыс). Даўжыня 82 км. Пл. вада-



**Рака Вілія каля вёскі Міхалішкі Астравецкага раёна.**

збору 633 км². Пачынаецца на ПнЗ ад в. Кемяны Ашмянскага р-на, на працягу 13 км у вярхоўі цячэ па мяжы Астравецкага і Ашмянскага р-наў Беларусі з Літвой, астатнія 69 км па тэрыторыі Літвы.

**ВІЛЬЧАНКА,** Вільча, Дзягцярка, рака ў Магілёўскім р-не, левы прыток Дняпра.

Даўжыня 22 км.
Пл. вадазбору 158 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Палетнікі, вусце каля в. Вільчыцы. Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Ад вусця 1,8 км рэчышча каналізавана. На рацэ 2 сажалкі каля вёсак Навасёлкі і Вільчыцы.

**ВІНГРА,** ручай у Пастаўскім р-не, левы прыток Мядзелкі (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 88 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,6 ‰.

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Воцкавічы, цячэ праз воз. Волься. Верхняе цячэнне ў межах Свянцянскіх град, ніжняе — на З Полацкай нізіны. Упадае ў Мядзелку (правы прыток Бірветы) каля в. Курты.

**ВІНЕЦ,** меліярацыйны канал у Пружанскім і Бярозаўскім р-нах, правы прыток Ясельды (бас. Прыпяці).

Даўжыня 50 км.
Пл. вадазбору 420 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,22 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Росахі Пружанскага р-на, цячэ па заходняй частцы нізіны Прыпяцкае Палессе. Асноўныя прытокі: каналы Ястрабельскі (справа), Давыдавіцкі, Чарнічны, Залужжаўскі, Машковіцкі (злева). Упадае ў Ясельду каля в. Перасудавічы Бярозаўскага р-на. У пойме канала наліўныя сажалкі каля вёсак Малеч (пл. 2,9 га), Лукомір (пл. 0,5 га), Паўлавічы (пл. 6,3 га) Бярозаўскага р-на.

**ВІР,** рака ў Бабруйскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 81 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Савічы, вусце за 1 км на У ад в. Вуглы. Працякае праз азёры Плавун і Вяхава. У верхнім і сярэднім цячэнні часткова каналізаваная.

**ВІР,** возера ў Чачэрскім р-не.

Пл. 0,2 км².
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.

У бас. р. Сож, за 4 км на ПнУ ад г. Чачэрска, за 2 км на У ад в. Отар. Поймавае. Усходнія схілы катлавіны пад лесам, заходнія пад хмызняком. Праз возера цячэ р. Курынка, якая злучае яго з воз. Вілія, на Пн упадаюць меліярацыйныя каналы.

**ВІРАЎЛЯНКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Віраўля, упадае ў воз. Бярнова з У за 3,5 км на ПнЗ ад той жа вёскі.

**ВІСЛА,** рака ў Светлагорскім р-не, правы прыток р. Віша (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Уюнішчы, вусце за 0,7 км на ПдЗ ад в. Віша. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВІСЛАВОЎКА,** рака ва Ушацкім р-не, правы прыток р. Выдрыца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Бутава, вусце за 0,8 км на З ад в. Пілатоўшчына. Рэчышча каналізаванае.

**ВІСЛІЦА,** рака ў Пінскім р-не, правы прыток Бобрыка 1-га (бас. Прыпяці).

Даўжыня 41,8 км.
Пл. вадазбору 543 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.



Возера **Вісяты.**

Пачынаецца асушальнай канавай за 2 км на Пд ад в. Рэчкі, цячэ па заходняй частцы нізіны Прыпяцкае Палессе. Асноўныя прытокі — каналы Ліпнікі і Дабраслаўка (злева). Да 1978 Вісліца цякла праз воз. Пагосцкае, пасля стварэння на яго месцы наліўнога вадасховішча Пагост цячэ па новым рэчышчы (канале), агінаючы вадасховішча з Пд. Упадае ў Бобрык 1-ы каля в. Дубнавічы. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, паміж вёскамі Юзафін і Новы Двор трапецападобная, шырынёй 1—3 км. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,3—0,7 км. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае (шырыня да 4 м, ніжэй в. Новы Двор да 20 м), абвалавана дамбамі.

**ВІСЯТЫ,** возера на мяжы Міёрскага і Браслаўскага р-наў.

Пл. 1,05 км².
Найбольшая глыбіня 14,5 м.
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.




Возера **Вісяты.**

Даўжыня берагавой лініі 4,1 км.
Аб'ём вады 4,4 млн. м³.
Пл. вадазбору 16,2 км².

У бас. р. Вяты, за 18 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Вісяты. Схілы катлавіны ўзвышаныя, месцамі стромкія, пераважна пад хмызняком. У паўночна-заходняй частцы востраў пл. 0,2 га. Дно да глыбіні 2 м пясчанае або ілістае, глыбей выслана сапрапелем. Злучана каналам з воз. Укля.

**ВІТАВА,** рака ў Хоцімскім р-не і Бранскай вобл. Расіі, правы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 14 км (на Беларусі каля 4 км). Пл. вадазбору 124 км². Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Варвараўка Хоцімскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Дзегцяроўка Бранскай вобл. Рэчышча ад вытоку на працягу 3 км каналізаванае. У межах Беларусі паабапал ракі расце забалочаны лес.

**ВІТАВА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,03 км².
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Альзініца, за 13 км на У ад г. п. Ушачы, за 400 м на З ад в. Чарапоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, параслі хмызняком, у верхняй частцы месцамі разараныя. Упадае ручай з воз. Селішча, выцякае ручай у воз. Гародна. З ПдЗ і ПнУ па далінах ручаёў лугавая пойма.

**ВІТАРАЖСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Бусяж (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,8 км на У ад в. Еськаўцы, упадае ў Бусяж за 1,4 км на ПдЗ ад в. Мізгіры Слонімскага р-на. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ВІТЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Брэсцкім

р-нах, левы прыток р. Паднева (бас. Зах. Буга). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Закруцін, упадае ў Падневу за 1,7 км на ПнУ ад в. Лазы.

**ВІТОРАЖСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток Мацеевіцкага канала ў водазборы р. Талька (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Новы Уборак, упадае ў Мацеевіцкі канал за 1,5 км на ПдЗ ад в. Віторaж. Па берагах асвоеныя землі.

**ВІТУНЬ,** рака ў Сенненскім р-не, левы прыток р. Бярозка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 15,6 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Кляпчэва, вусце за 1,6 км на ПнУ ад в. Самсоны. Рэчышча ад вусця на 12,4 км каналізаванае.

**ВІЎНЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток Адрыжынскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2,8 км на З ад в. Віўнева, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Адрыжын.

**ВІХРА,** рака ў Магілёўскай і Смаленскай абласцях, правы прыток Сажа (бас. Дняпра).

Даўжыня 158 км (на Беларусі 40 км).
Пл. вадазбору 2230 км$^2$ (на Беларусі 360 км$^2$).
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 14,5 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца ў Красненскім р-не Смаленскай вобл., далей цячэ ў Мсціслаўскім р-не. Асноўныя прытокі: Трасцянка, Упакой, Жалязняк, Вяльнянка (злева), Руфа, Малахоўка, Гарадня, Княгіня, Чорная (справа). У межах Беларусі цячэ па Горацка-Мсціслаўскай раўніне. Даліна ў вярхоўі невыразная, ніжэй трапецападобная, шырынёй 1,5—2 км. Пойма двухбаковая, шырыня яе 0,4—0,6 км. Рэчышча звілістае, шырыня ракі ў межань 15—20 м. Каналізавана 9,9 км рэчышча ў ніжнім цячэнні. Берагі стромкія, часта абрывістыя. На рацэ г. Мсціслаў.

**ВІХУР,** меліярацыйны канал у Асіповіцкім і Пухавіцкім р-нах, левы прыток Лочынскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Уборак Асіповіцкага р-на, упадае ў канал на Пн ад в. Падкоссе Пухавіцкага р-на.

**ВІЦІР,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Сечна, за 8 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, за 0,5 км на ПдУ ад в. Непароты. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, на Пн разараныя, на Пд пад лесам. Пратокамі злучана з азёрамі Княжно і Разван.

**ВІЦЬ,** П р а б о й н а я к а н а в а, рака ў Калінкавіцкім і Хойніцкім р-нах, левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 70 км.
Пл. вадазбору 991 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.



Рака **Віць** каля вёскі Барысаўшчына Хойніцкага раёна.

Пачынаецца каля в. Нахаў Калінкавіцкага р-на, далей цячэ ў Хойніцкім р-не па нізіне Гомельскае Палессе. Прытокі — невялікія ручаі і меліярацыйныя канавы. Упадае ў Прыпяць каля в. Тульгавічы Калінкавіцкага р-на. Даліна невыразная, у нізоўі зліваецца з поймай Прыпяці. Да в. Барысаўшчына Хойніцкага р-на пойма двухбаковая; яе шырыня 200—300 м. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у 3-й дэкадзе сакавіка.

**ВІЦЬ,** вадасховішча ў Хойніцкім р-не.

Пл. 0,51 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,2 м.
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,65 км.
Аб'ём вады 1,62 млн. м$^3$.

У пойме р. Тур'я (левы прыток



Рака **Віхра** ў Мсціслаўскім раёне.




Прыпяці), за 20 км на З ад г. Хойнікі, каля в. Дуброва. Створана ў 1980 для ўвільгатнення зямель і рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 1,76 км. Напаўняецца вадой з р. Тур'я. Ваганні узроўню на працягу года 3,2 км.

**ВІЦЬБА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 33 км.**
**Пл. вадазбору 275 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на У ад в. Поддуб'е, цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша. Асноўныя прытокі: Горнаўка (злева) і Сільніца (справа). У ніжнім цячэнні на працягу 5 км цячэ ў межах Віцебска, дзе і ўпадае ў Зах. Дзвіну (у сутоках, паводле Віцебскага летапісу, у 974 быў заснаваны горад). Каб папоўніць Віцьбу чыстай вадой, ствараецца (1991) водная сістэма для перакідкі вады з кар'ераў вытворчага аб'яднання «Даламіт».

**ВІША,** рака ў Гомельскай вобл., правы прыток Іпы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 39,3 км.**
**Пл. вадазбору 233 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Пружынішчы Акцябрскага р-на, далей цячэ ў Светлагорскім і Калінкавіцкім р-нах па паўночна-ўсходняй ускраіне нізіны Гомельскае Палессе. Упадае ў Іпу каля в. Каплічы Калінкавіцкага р-на. Даліна пераважна трапецападобная, шырыня не 1,5—2 км. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,5—1 км. Рэчышча па ўсім працягу каналізаванае (шырыня 7—12 м). На рацэ г. п. Азарычы. У пойме наліўныя сажалкі каля вёсак Вялікія Ліцвіновічы (пл. 15,8 га) і Беразнякі (пл. 19,5 га).

**ВІШАНКА,** ручай у Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Сураў (бас. Дняпра). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 0,7 км на З ад в. Красны, упадае ў Сураў за 1 км на ПнУ ад п. Вішанскі. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВІШАНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток канала Пруд-Вярхоўе (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Забоззе, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Некрашоўка.

**ВІШАНЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Ржаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Буда, упадае за 1 км на ПдЗ ад в. Вішанька.

**ВІШНЕЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Вілейскім р-не, на мяжы з Мядзельскім і Смаргонскім р-намі.

**Пл. 9,97 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,3 м.**
**Даўжыня 4,38 км.**
**Найбольшая шырыня 3,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13,6 км.**
**Аб'ём вады 19,79 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 56,2 км$^2$.**

У бас. р. Страча, за 32 км на ПнЗ ад г. Вілейка, каля в. Вішнева Смаргонскага р-на. Схілы катлавіны вы-




**Вішнеўскае возера.**




**Вішнеўскае возера.**



**Вішнеўскае возера.**

шынёй 2—3 м, парасл і хваёвым лесам. Берагі нізкія, часта забалочаныя і затарфаваныя, пад хмызняком, на Пд і З высокія. Пойма шырынёй 5—50 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно плоскае, да глыбіні 1.5 м выслана пяском і ілам, глыбей — сапрапелямі. Паласа расліннасці шырынёй 100—800 м да глыбіні 2 м. На Пн выцякае р. Смолка, якая злучае Вішнеўскае возера з воз. Свір.

**ВІШНЕЎКА,** рака, гл. *Альшанка.*

**ВІШНЕЎКА,** рака, гл. *Ластаянка.*

**ВІШНЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Брожа (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Тугоміца, упадае ў Брожу за 1 км на У ад в. Глебава Рудня. Канал праходзіць пераважна па лесе.

**ВІШНЯ,** рака ў Пружанскім і Камянецкім р-нах, правы прыток р. Левая Лясная (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 160 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Падбельскія Агароднікі Пружанскага р-на (на тэрыторыі Белавежскай Пушчы), вусце за 2 км на У ад в. Ганцы Камянецкага р-на. Ад вусця 1,4 км рэчышча каналізавана. У верхнім цячэнні называецца П л ю с к а ў к а.

**ВО́ГЗІНА,** возера ў Лепельскім р-не.




**Возера Войса.**

**Пл. 0,67 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,3 м.**
**Даўжыня 1,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,69 км.**
**Даўжыня берагавой лініі каля 5 км.**
**Аб'ём вады 2,02 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 5,5 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 28 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Суша. Схілы катлавіны вышынёй 10—17 м, на Пн і З нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Берагі на Пн і З сплавінныя. Мелкаводдзе шырокае, пясчанае, глыбей 2,5 м дно выслана сапрапелямі. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй да 60 м, на заходнім плёсе расце ахоўны від флоры ў Беларусі — наяда марская. У возера ўпадае ручай з воз. Какісіна, выцякае ручай Праскавея ў р. Дзіва.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ 2-і КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Курыціцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца з Курыціцкага канала за 3 км на ПнЗ, вусце за 3,8 км на ПдУ ад в. Курыцічы.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім і Лунінецкім р-нах, упадае ў канал меліярацыйнай сістэмы «Камунар» (бас. Прыпяці). Даўжыня 34 км. Пачынаецца каля в. Баркі Пінскага р-на, у трубах праходзіць пад рэчышчамі р. Бобрык 1-ы і канала Багданаўка, далей па лясістай мясцовасці. Вусце за 4 км на ПдЗ ад г. Лунінец. Вада разбіраецца на арашэнне.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лагойскім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Дняпра). Даўжыня 24 км. Адыходзіць ад Цны за 4 км на Пн ад в. Прусавічы, упадае ў яе каля в. Лішкі. Паміж каналам і Цной, а таксама на левым беразе меліяраваныя землі, на якіх здабываюць торф.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток канала меліярацыйнай сістэмы «Ракітна» (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца з р. Цна, вусце за 7 км на ПдЗ ад в. Ракітна.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток канала Іванаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Рудакоў, вусце за 4,5 км на ПдЗ ад в. Бабчын.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Рахавічы, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Капцэвічы.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** у Пінскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца з р. Бобрык 1-ы, за 3 км на ПнУ ад в. Боркі, упадае ў вадасховішча Пагост з ПнУ, за 1,3 км ад в. Пагост Загародскі. Служыць для напаўнення вадасховішча.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Слаўкавіцка-Ямінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ, вусце за 2 км на Пн ад в. Жывунь.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Суцінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Адыходзіць ад р. Пціч за 4 км на З ад в. Чырвоны Пасёлак, упадае ў Суцінку за 3 км на Пд ад в. Суцін. Па берагах асвоеныя меліяраваныя землі.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца з канала без назвы за 2,5 км на ПдУ ад в. Прудок, упадае ў воз. Ліцвін з ПнЗ, за 2 км на ПдУ ад в. Града.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Вуць (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Калініна, упадае за 1,5 км на З ад моста праз Вуць на аўтамабільнай дарозе Гомель — Чарнігаў.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Вялікія Гарадзяцічы, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Дварэц.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** у Бярозаўскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 3 км. Пачынаецца з паўднёвага берага Чорнага возера, за 1 км на ПнУ ад в. Хрысы, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Маневічы. Канал забяспечвае вадой Бярозаўскую ДРЭС.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не. Даўжыня 2,5 км. Выцякае з Дняпроўска-Бугскага канала за 1,5 км на Пд ад в. Асіпавічы, упадае ў Галоўчыцкае вадасховішча з паўднёвага боку. У перыяд разводдзя падае ваду з Дняпроўска-Бугскага канала ў вадасховішча, у межань лішак вады скідваецца ў яго.

**ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не (у бас. Зах. Буга). Даўжыня 1,8 км. Пачынаецца з р. Жабінка за 12 км ад вусця, упадае ў сажалку рыбгаса «Сакалова» каля в. Сакалова.

**ВОДАПРЫЁМНІК,** канал, гл. *Новая Асіпоўка.*

**ВО́ДЗЬГА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Свольны (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 60 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 0,2 км на ПдЗ ад в. Маскалёнкі, цячэ па паўночназаходняй частцы Полацкай нізіны. Упадае ў Свольну (правы прыток Дрысы) за 2 км вышэй ад в. Пользіна. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 5,7 км ад вытоку каналізаванае.

**ВО́ЖА,** к а н а л І л ь і н к а, рака ў Чэрвеньскім і Смалявіцкім р-нах, левы прыток Волмы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 68 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,98 ‰.**

Пачынаецца каля в. Ілынка, вусце каля в. Адынь Чэрвеньскага р-на. У сярэднім цячэнні працякае па Смалявіцкім р-не. На ўсім працягу каналізаваная.

**ВО́ЙКАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Завоссе, цячэ па паўднёва-ўсходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Шчару за 0,7 км на З ад в. Старыя Войкавічы.

**ВО́ЙКАЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** гл. *Плешчаніцкае вадасховішча.*

**ВО́ЙЛАВІЧЫ,** меліярацыйны канал у Шумілінскім р-не, левы прыток р. Сечна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца каля в. Лялюгі, вусце за 0,7 км на Пд ад в. Бярэзніца.

**ВО́ЙЛАЧ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Друйка (левы прыток Зах. Дзвіны), за 14 км на Пн ад г. Браслаў, за 1,5 на ПнУ ад в. Краснагорка. Возера акружана хмызняком, на У і Пн забалочаны луг.

**ВО́ЙСА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 4,88 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,1 м.**
**Даўжыня 3,75 км.**
**Найбольшая шырыня 1,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 15,2 км.**
**Аб'ём вады 14,16 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 249 км².**

У бас. р. Друйка, за 4 км на ПнУ ад г. Браслаў; уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны высокія, абразійныя, на Пд і З спадзістыя, месцамі забалочаныя. Берагавая лінія вельмі звілістая. У катлавіне вылучаюць цэнтральны плёс з плоскім дном і паўночны, заходні і паўднёвы, аддзеленыя астравамі або паднятцямі. 4 астравы агульнай пл. 0,11 км². Найбольшыя глыбіні ў паўднёвым плёсе. На мелкаводдзі дно пясчанае, глыбей выслана ілам. Расліннасць каля берагоў утварае перарывістую паласу шырынёй 15—20 м да глыбіні 2—4 м. Злучана пратокамі з азёрамі Струста і Неспіш.

**ВО́ЙСКАЯ,** рака ў Хоцімскім р-не, левы прыток Беседзі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 79 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Выток за 2,5 км на ПдУ ад в. Іўкіна, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Батаева. Цячэ па Чачорскай раўніне, ад вытоку 3,5 км рэчышча каналізавана.

**ВО́ЙТЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,8 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,7 км.**
**Аб'ём вады 0,18 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,1 км².**

У бас. р. Друйка, за 15 км на ПнУ ад г. Браслаў. Схілы катлавіны разараныя, на У пад хваёвым лесам. Берагі (акрамя паўднёвага і асобных участкаў паўночнага) нізкія, сплавінныя. Да ўсходніх і заходніх берагоў прымыкае балота. Дно плоскае, выслана сапрапелем. 2 астравы агульнай пл. 0,2 га. Зарастае. Сцёк па ручаі ў воз. Снуды.

**ВО́ЙШАЛКА,** Свілы, рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток Жыжмы (бас. р. Нёман). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля в. Свілы, упадае ў Жыжму на ПдЗ ад в. Гайцюнішкі. На працягу 4,8 км каналізаваная (ад вытоку да в. Гайцюнішкі).

**ВО́КНІШЧА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 2,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**

У бас. р. Обаль, за 28 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Обаль, на меліяраваным балоце.

**ВО́ЛАСА ПАЎДНЁВЫ,** Волас Паўднёвы, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 40,4 м.**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7 км.**
**Аб'ём вады 15,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору [illegible] км².**

У бас. р. Друйка, за 5 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Забор'е. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, пад лесам, месцамі разараныя, на У стромкія. Мелкаводная зона вузкая,



**Возера Воласа Паўднёвы.**

пясчаная, глыбакаводная — ілістая. Каля 50 % паверхні дна зарастае расліннасцю да глыбіні 9 м. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю і чысцінёй. Сярод беспазваночных трапляюцца рэлікты ледавіковага перыяду — лімнакалянус, рэліктавая мізіда, понтапарэя, бакаплаў Паласа. Злучана пратокай з воз. Воласа Паўночны.

**ВОЛАСА ПАЎНОЧНЫ,** Волас Паўночны, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 4,21 км².
Найбольшая глыбіня 29,2 м.
Даўжыня 3,56 км.
Найбольшая шырыня 2,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 13,7 км.
Аб'ём вады 30,5 млн. м³.
Пл. вадазбору каля 12 км².

У бас. р. Друйка, за 6,5 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Лявошкі, у межах Міжазёрнага ландшафтнага заказніка. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны пад лесам, на Пд, У і ПнУ высокія, на З і Пн нізкія, спадзістыя, часткова разараныя. Дно са шматлікімі ўпадзінамі і мелкаводдзямі. Мелкаводная зона вузкая, пясчаная, глыбей — сапрапелі і ілы. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 6—7 м. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю і чысцінёй. Мае багаты жывёльны свет. Сярод беспазваночных трапляюцца рэлікты ледавіковага перыяду — лімнакалянус, бакаплаў Паласа. Злучана пратокай з воз. Воласа Паўднёвы, канавай з воз. Снуды.

**ВО́ЛАСНА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,25 км².
Найбольшая глыбіня 9 м.
Даўжыня 1,14 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,33 км.
Аб'ём вады 1,14 млн. м³.
Пл. вадазбору 4,35 км².

У бас. р. Ула, за 13 км на ПнУ ад г. Лепель, на Пд ад в. Бор. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, на Пд і У 3—10 м, парослі лесам і хмызняком. Берагі высокія, пясчаныя, на ПдЗ і ПнУ месцамі сплавінныя. Мелкаводдзе пясчанае. Да глыбіні 1,6 м зарастае. На ПнУ упадае ручай з воз. Некалач, на Пд выцякае ручай у воз. Мухна.




Возера Воласа Паўднёвы.



Рака Волма каля вёскі Іванічы Чэрвеньскага раёна.

**ВО́ЛЕНКА,** Вялынка, рака ў Слонімскім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на паўднёва-заходніх схілах Навагрудскага ўзвышша за 2 км на Пд ад в. Піронім, цячэ праз лес, упадае ў Шчару за 1 км на З ад в. Шундры (на гэтым участку каналізаваная).

**ВО́ЛКА,** рака ў Мінскай і Гродзенскай абласцях, левы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана).

Даўжыня 36 км.
Пл. вадазбору 391 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,9 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад х. Рудня Валожынскага р-на, упадае ў Бярэзіну за 7 км ніжэй в. Бакшты. Цячэ па Налібоцкай пушчы. Даліна невыразная. Пойма вузкая, забалочаная, пад лесам і хмызняком; шырыня 10—15 м, у сярэднім і ніжнім цячэнні да 200 м. Рэчышча звілістае, разгалінаванае ў сярэднім цячэнні, на працягу 5 км ад вытоку каналізаванае; шырыня ў межань у вярхоўі 1—3 м, ніжэй 3—8 м. Берагі стромкія, абрывістыя, невысокія.




Возера Воласа Паўночны.

**ВО́ЛКА,** рака ў Слуцкім і Капыльскім р-нах, левы прыток Морачы (бас. Прыпяці).

Даўжыня 35 км.
Пл. вадазбору 250 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,1 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Славіна ў Слуцкім р-не, далей цячэ ў Капыльскім р-не па Цэнтральнабярэзінскай раў-

ніне. Упадае ў Морач за 7 км вышэй ад в. Вялікі Рожан. Даліна невыразная, месцамі скрынкападобная або трапецападобная, шырынёй 2—3 км. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,5—3 км. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае; шырыня яго 3—8 м. На рацэ плаціны і сажалкі каля вёсак Рахіні (пл. 3 га) і Свідзічы (пл. 10 га).

**ВО́ЛКА,** рака ў Дзяржынскім і Стаўбцоўскім р-нах, левы прыток Сулы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 16 км.**
**Плошча вадазбору 98 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Андрыеўшчына Дзяржынскага р-на, упадае ў Сулу каля в. Наваселле. Ад вытоку на працягу 11 км каналізаваная. Каля в. Паланевічы на рацэ створана сажалка.

**ВО́ЛКУНЬ,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Лужасянка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,6 км. Выцякае з воз. Дворышча за 1,5 км на У ад в. Мікалаёва, вусце за 0,7 км на З ад в. Сушчова. Ад вытоку на працягу 2,1 км рэчышча каналізаванае.

**ВО́ЛМА,** рака ў Мінскай вобл., левы прыток Свіслачы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 103 км.**
**Пл. вадазбору 1150 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,7 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца меліярацыйным каналам каля паўночна-ўсходняй ускраіны в. Каралёў Стан Мінскага р-на, цячэ па Мінскім узвышшы і Цэнтральнабярэзінскай раўніне праз Смалявіцкі, Чэрвеньскі і Пухавіцкі р-ны. Вусце за 1 км на У ад в. Стары Двор Пухавіцкага р-на. Асноўныя прытокі: Вожа, Гаць, Чэрвенка (злева), Слоўст (справа). Даліна трапецападобная, шырынёй 0,4—0,6 км, месцамі больш за 3 км. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія. Пойма на вялікім працягу асушаная і разараная. У верхнім цячэнні зарэгулявана 4 плацінамі, у т. л. плацінай Пятровіцкага вадасховішча. Рэчышча ў сярэднім цячэнні выпрастана і паглыблена, шырыня ракі ў вярхоўі 3—4 м, ніжэй — 8—10 м, у вусцевай частцы больш за 40 м. Берагі стромкія і абрывістыя, вышынёй ад 0,4 м да 2 м. Жывіць сажалкі рыбакамбіната «Волма», частка вады праз іх сістэму скідваецца ў Свіслач. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных сістэм. На ёй г. п. Смілавічы.


Рака Волчас каля вёскі Рэчыца Чэрыкаўскага раёна.

**ВО́ЛМА,** В а л м я н к а, рака ў Дзяржынскім і Валожынскім р-нах, левы прыток Ісламы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 44 км.**
**Пл. вадазбору 177 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Шчэпкі Дзяржынскага р-на, цячэ па заходніх схілах Мінскага ўзвышша праз г. п. Івянец, упадае ў Іслач ніжэй в. Баравікоўшчына. Даліна выразная. Пойма лугавая, яе шырыня ў вярхоўі 20—50 м, у ніжнім цячэнні 120—200 м. Рэчышча звілістае, у верхнім цячэнні каналізаванае, шырыня ракі ў межань 6—10 м. Берагі стромкія, абрывістыя, асабліва на адрэзку ад г. п. Івянец да вусця, дзе рака цячэ праз лес.

**ВО́ЛМА,** вадасховішча ў Чэрвеньскім р-не.

**Пл. 0,83 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Аб'ём вады 1,25 млн. м$^3$.**

На р. Волма (41 км ад вусця), за 16 км на З ад г. Чэрвень, каля пас. Азёрны. Створана ў 1932 для рыбагадоўлі і адпачынку. Сярэдні шматгадовы сцёк 110 млн. м$^3$.

**ВО́ЛТА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 32 км.**
**Пл. вадазбору 207 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Выцякае з воз. Белае ў межах гідралагічнага заказніка Ельня, цячэ па заходняй частцы Полацкай нізіны. Упадае ў Зах. Дзвіну за 2 км ніжэй ад в. Пуцінава. Даліна трапецападобная (шырыня 200—500 м), у верхняй частцы невыразная. Пойма ў вярхоўях зліваецца з прылеглай мясцовасцю, у сярэднім і ніжнім цячэнні перарывістая, шырыня яе 100—150 м. У верхнім цячэнні рэчышча каналізавана.

**ВО́ЛЧАС,** В о ў ч ы ц а, рака ў Магілёўскай вобл., правы прыток Сажа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 80 км.**
**Пл. вадазбору 427 км.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**





Возера **Воласна.**

Пачынаецца з балота каля в. Старынка Мсціслаўскага р-на, цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне праз Крычаўскі і Чэрыкаўскі р-ны. Упадае ў Сож каля в. Вусце Чэрыкаўскага р-на. Асноўныя прытокі: р. Яленка (злева) і ручай Глінец (справа). Даліна трапецападобная, шырынёй 0,1—0,25 км у вярхоўі, 1—1,3 км у вусці. Пойма двухбаковая, пераважна лугавая, месцамі забалочаная, шырыня яе ад 50—200 м у верхнім цячэнні да 250—350 м у ніжнім. Рэчышча звілістае, у вярхоўі каналізаванае на 21,9 км, шырыня ракі ў межань 10—20 м. Берагі стромкія і абрывістыя, у сярэднім цячэнні забалочаныя, парослі хмызняком. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ВО́ЛЫ,** ручай у Аршанскім і Горацкім р-нах, правы прыток р. Бася (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Маркавічы Аршанскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Хамінічы Горацкага р-на.

**ВО́ЛЬСЯ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,25 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 0,84 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.**
**Аб'ём вады 0,34 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 43,2 км$^2$.**

У бас. р. Мядзелка, за [illegible] км на З ад г. Паставы, каля в. Вялікая Волься. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, на Пд і ПдУ 5—7 м, разараныя, месцамі над лугамі. Берагі нізкія, месцамі

сплавінныя. Раслінасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 5—250 м. У возера ўпадае ручай Вінгра, выцякае ручай у Мядзелку.

**ВОЛЬШЫНА,** Мяштоўка, рака ў Зэльвенскім р-не, левы прыток Зальвянкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору [illegible] км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5 ‰.

Пачынаецца каля в. Задвор'е, працякае па паўднёва-ўсходняй ускраіне Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Зэльвянскае вадасховішча каля в. Навасёлкі. Ад вусця на працягу 4 км каналізаваная.

**ВОЛЬШЫЦА,** возера ў Докшыцкім р-не.

Пл. 3,98 км².
Найбольшая глыбіня 2,7 м.
Даўжыня 3,32 км.
Найбольшая шырыня 1,9 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,75 км.
Аб'ём вады 4,97 млн. м³.
Пл. вадазбору 113 км².

У бас. р. Сергуч (працякае праз возера), за 40 км на У ад г. Докшыцы, на тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Схілы катлавіны і берагі нізкія, забалочаныя. Дно плоскае, выслана сапрапелямі, месцамі ілам. Празрыстасць вады да дна. Моцна зарастае.

Возера Вольшыца.

**ВО́РАНАЎКА,** ручай у Пастаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 19 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 6,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Воранава, цячэ ў межах Свянцянскіх град. Упадае ў воз. Споры з ПнЗ. У сярэднім цячэнні 3,8 км рэчышча каналізавана.

**ВО́РАНАЎСКІ РУЧА́Й,** у Воранаўскім р-не, правы прыток Жыжмы (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Таўзгіняны, цячэ праз г. п. Воранава, упадае ў Жыжму на Пн ад в. Германішкі. У г. п. Воранава створана сажалка (пл. 0,28 км²).

**ВО́РАНЬ,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 2,4 км².
Найбольшая глыбіня 16 м.
Даўжыня 2,6 км.
Найбольшая шырыня 1,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,8 км.
Аб'ём вады 17,5 млн. м³.
Пл. вадазбору 57,1 км².




Возера Ворань (Лепельскі раён).

Возера Ворань (Лепельскі раён).

У бас. р. Ула, за 14 км на ПнЗ ад г. Лепель, каля в. Ворань. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, на ПнЗ да [illegible] м, месцамі разараныя. Дно ўскладнена падводнымі паднятцямі, лагчынамі і косамі, да глыбіні 2 м пясчанае. Каля 25 % плошчы займае раслінасць, шырыня паласы 5—75 м. На Пн упадае р. Вароніца, сцёк у р. Зеха.

**ВО́РАНЬ,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,37 км².
Найбольшая глыбіня 3,7 м.
Даўжыня 1,29 км.
Найбольшая шырыня 0,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,74 км.
Аб'ём вады 0,72 млн. м³.
Пл. вадазбору 22,7 км².

У бас. р. Мёрыца, за 1 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Клетаў Двор. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пораслыя хмызняком. Берагі пераважна нізкія, на Пн сплавінныя, пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелямі. 1 востраў пл. 1 га. Раслінасць пашырана да глыбіні 2 м, займае 45 % пл. возера. Злучана пратокай з воз. Асінаўка, на Пд упадае ручай з воз. Кацілава.

**ВО́РЛЕ,** Ворлес, рака ў Віцебскім р-не, правы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Копці, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Старынцы.

**ВО́САВА,** Восаўка, рака ў Воранаўскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 40 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Балотнікі, цячэ па Лідскай раўніне, упадае ў Дзітву на ПнУ ад в. Ажэлішкі. На ўсім працягу каналізаваная.

**ВО́САВА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,12 км².
Найбольшая глыбіня 12 м.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Пл. вадазбору 1,75 км².

Возера Ворань (Лепельскі раён).

У бас. р. Лучайкі, за 12 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Восава. Схілы катлавіны нізкія, забалочаныя. Дно выслана ілам і сапрапелем, ва ўсходняй частцы пясчанае.

**ВО́САЎСКАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Касцюковіцкім р-не, левы прыток р. Дзяражня (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Восаў сярод торфараспрацовак, вусце за 1 км на Пд ад в. Скалін.

**ВО́САЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Стаўбцоўскім р-не, левы прыток р. Блюшка (бас. Нёмана). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПнЗ ад хутара Буда, упадае ў р. Блюшка за 1 км на З ад в. Прудзішчы.

**ВОСАЎСКІ КАНАЛ,** гл. *Нізавы канал.*

**ВОСНАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,006 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.

У бас. р. Аўсянка, за 35 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1 км на ПдУ ад в. Баброва. Схілы катлавіны на З вышынёй 10—15 м, на У 5—7 м.

**ВОСТРАЎ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Курыціцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Курыцічы.

**ВОСЬМЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Косаўскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 20 км. Пачынаецца ў забалочанай мясціне ва ўрочышчы Супрэнны, упадае ў Косаўскі канал за 4 км на ПнУ ад в. Гічыцы. Прытокі — Зябчанскі і Снітчаўскі каналы. Цячэ сярод лесу.

**ВОСЬМЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 3,5 км на Пн, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Палічын.

**ВОСЬМЫ-А КАНАЛ,** Загальскі 8-ы канал, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток Цахмінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 18,3 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Ямінск, вусце за 3,5 км на Пн ад в. Палічын.

**ВОЎКАЎКА,** рака ў Уздзенскім р-не, правы прыток Лошы (бас. Нёмана). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 1,1 км на Пн, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Глінкі. На ўсім працягу каналізаваная, у вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ВОЎНЕ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток канавы Шыра (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,9 км. Выцякае з Загацдеўскага вадасховішча за 1,5 км на ПнЗ ад в. Кочышчы, вусце за 1 км на Пд ад в. Калінавае.

**ВОЎПАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Ваўкавыскім р-не.

Пл. 1,26 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,4 м.
Даўжыня 5,6 км.
Найбольшая шырыня 0,85 км.
Даўжыня берагавой лініі 18 км.
Аб'ём вады 2,3 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1170 км$^2$.

На р. Рось пры ўпадзенні ў яе р. Ваўпянка, за 23 км на Пн ад г. Ваўкавыск, каля в. Воўпа. Створана ў 1955 для энергетычных мэт і арашэння. Берагавая лінія моцна парэзаная, ёсць 2 залівы. Берагі абрывістыя, заходні вышынёй да 4 м, паўднёвы 1,5—2 м, пад хваёвым лесам; у вярхоўі забалочаныя, параслі вольхай і вярбой. 9 астравоў агульнай пл. 3,3 га. Мелкаводдзі (глыбіня да 2 м) займаюць больш за 60 % плошчы вадасховішча. Дно выслана пяском і ілам. Ваганні ўзроўню перад разводдзем да 0,5 м. Уваходзіць у зону адпачынку Воўпа.



Воўпаўскае вадасховішча.

**ВОЎЧАЕ ВУХА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Дрыса, за 27 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Новыя Замшаны. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на У невыразныя, пад забалочаным лесам. На З забалочаная пойма шырынёй да 100 м.

**ВОЎЧКАВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** Пціч, у Мінскім р-не.

Пл. 0,85 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,5 м.
Даўжыня 3,5 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.
Аб'ём вады 2,8 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 143 км$^2$.

У вярхоўі р. Пціч, за 16 км на ПдЗ ад Мінска, каля в. Воўчкавічы. Створана ў 1968 у рэкрэацыйных мэтах. Левы бераг стромкі, абвальна-асыпны, вышынёй да 15 м, пад хвойным лесам і хмызняком; правы — больш спадзісты, вышынёй 10—12 м, парослы мяшаным лесам. Ваганні ўзроўню да 0,2 м. Сярэднегадавы аб'ём сцёку ў створы плаціны 27,6 млн м$^3$. Месца правядзення спаборніцтваў па веславанні і водных лыжах.

**ВОЎЧЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Смалявіцкім р-не, правы прыток Пліскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ, упадае за 1 км на Пд ад в. Трубянок.

**ВОЎЧЫН,** Воўчына, возера ў Мядзельскім р-не.

Пл. 0,53 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 32,9 м.
Даўжыня 1,8 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,29 км.
Аб'ём вады 7,87 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 3,68 км$^2$.

У бас. р. Мядзелка, за 12 км на Пн ад г. п. Мядзел, каля в. Кабайлы, на Пн ад воз. Мядзел. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на Пн 4—5 м), пад лесам і хмызняком, месцамі разараныя. Берагі высокія, у паўночным заліве нізкія, забалочаныя. Мелкаводная зона вузкая, пясчаная. Надводная расліннасць амаль адсутнічае, падводная высцілае дно да глыбіні 4 м. Выцякае ручай у Мядзелку.




Воўпаўскае вадасховішча.




Возера Воўчын.

**ВУГЛЯ́НКА,** рака ў Рагачоўскім р-не, левы прыток Дняпра.

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 63 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 1,3 км на 3 ад в. Княжынка, вусце каля в. Гадзілавічы. Цячэ па Гомельскім Палессі. Прытокі — густая сетка асушальных каналаў. Ад вытоку на працягу 7 км каналізаваная.

**ВУ́ДАГА,** рака ў Чэрыкаўскім р-не, правы прыток Сажа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 37 км.**
**Пл. вадазбору 261 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца на забалочаным лузе на У ад в. Каркоўшчына. Асноўныя прытокі: Казёл (злева), Малая Вудажка (справа). Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй в. Жытнёў трапецападобная, шырынёй 500—600 м, у вусці каля 1 км. Пойма двухбаковая, лугавая, шырынёй 100—150 м. Рэчышча звілістае, неразгалінавае; шырыня ракі ў ніжнім цячэнні 15 м. У вусці г. Чэрыкаў.




**Вулькаўскае возера.**




**Вулькаўскае возера.**

**ВУЖ,** В у ш а н к а, рака ў Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Седча, вусце каля п. Ленінскі. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВУЖА́НКА,** рака ў Капыльскім і Слуцкім р-нах, правы прыток Лакнеі (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 92 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Грозаў Капыльскага р-на, цячэ па раўніне, якая абкружае Капыльскую граду. Упадае ў Лакнею (прыток Случы) за 2 км вышэй ад в. Бязверхавічы Слуцкага р-на. На працягу 14 км рэчышча каналізаванае. На рацэ каля вёсак Гарнастаева і Барок створаны 2 сажалкі (пл. адпаведна 6,9 га і 47 га).

**ВУ́ЖНЦА,** рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 63 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Бер'е, вусце за 1,5 км на У ад в. Жорнаўка. Цячэ праз лес.

**ВУ́ЖЫК,** У ж ы к, рака ў Вілейскім р-не, левы прыток Нарачы (бас. Віліі). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Любань, у сярэднім цячэнні цячэ праз лес, упадае ў Нарач за 2 км на Пд ад в. Любкі. Рэчышча каналізаванае.

**ВУ́ЖЫНЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,007 км$^2$.**
**Даўжыня 0,14 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,33 км.**

У бас. р. Дрыса, за 44 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Рум, за 2,7 км на 3 ад в. Рудня. Схілы катлавіны невыразныя, возера акружана забалочаным лесам. Выцякае ручай у р. Дрыса.

**ВУЖЫНЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім і Хойніцкім р-нах, правы прыток р. Тур'я (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПдЗ ад в. Хобнае Калінкавіцкага р-на, вусце за 3,6 км на У ад в. Вужынец таго ж раёна.

**ВУ́ЗКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гомельскім р-не. Пл. 0,11 км$^2$. На пойме р. Сож, за 10 км на Пд ад Гомеля, ніжэй вусця Узы, у курортнай зоне Чонкі. Старычнае. Па берагах хваёвы лес.

**ВУЗКІ́НЬ,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**



Рака **Вузлянка** каля вёскі Вузла Мядзельскага раёна.

**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 2,23 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,85 км.**
**Аб'ём вады 0,19 млн. м$^3$.**

На пойме Прыпяці, за 12,5 км на Пд ад г. Жыткавічы, за 0,7 км на ПдУ ад в. Боркі. Схілы катлавіны вышынёй 1,5—2 м, пад лугам. Берагі нізкія, затарфаваныя.

**ВУЗЛЯ́НКА,** рака ў Мядзельскім і Вілейскім р-нах, левы прыток р. Нарач (бас. Віліі).

**Даўжыня 53 км.**
**Пл. вадазбору 663 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Мазалеўшчына Мядзельскага р-на, вусце на ПдУ ад в. Іжа. Асноўныя прытокі: Чорная, Ментынь (злева). Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная, шырынёй 1—2 км. Пойма ў верхнім цячэнні разараная, яе шырыня 200—300 м. Ад вытоку да паўночнай ускраіны в. Наўры (15 км) рэчышча каналізаванае. Водапрыёмнік меліярацыйных каналаў. Шырыня рэчышча ў межань ад 8 да 20 м. На рацэ ў маляўнічых мясцінах зона адпачынку Вузлянка.

**ВУЛЬКА,** возера ў Лунінецкім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**

У бас. р. Смердзь, за 15 км на ПнУ ад г. Лунінец, каля в. Вулька 2-я. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад хмызняком; усходнія разараныя. Пойма вакол катлавіны забалочаная, парослая хмызняком.

**ВУ́ЛЬКАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 0,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 24,5 м.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**

У бас. р. Ясельда, за 39 км на ПдУ ад г. Івацэвічы, каля в. Вулька Целяханская. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пясчаныя; паўночныя — тар-

фяністыя, парослыя лесам і хмызняком, месцамі разараныя. Вакол возера лесаахоўная зона, забаронены ўсе віды палявання. Праз возера працякае Агінскі канал.

**ВУЛЬКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток канала меліярацыйнай сістэмы «Хваецкае» (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца з Водападводзячага канала каля заходняй ускраіны, вусце за 10,2 км на Пд ад в. Вулька 1-я.

**ВУС,** рака ў Капыльскім р-не, левы прыток р. Удава (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца каля в. Аргелаўшчына, вусце каля в. Доктаравічы. Рэчышча ад вусця на працягу 1,5 км каналізаванае.

**ВУ́САЧ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**

У бас. р. Друйка, за 20 км на Пн ад г. Браслаў, каля в. Мацюлішкі. Ляжыць сярод разаранай тэрыторыі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, часткова пад хмызняком.



**Рака Вуць каля гарадскога пасёлка Церахоўка Добрушскага раёна.**

**ВУ́СЦЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Расонка, за 7 км на ПдУ ад г. п. Расоны, каля в. Азярцы. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, спадзістыя, разараныя, на Пн пад лесам. Злучана ручаём з воз. Глухое.

**ВУЦЬ,** рака ў Добрушскім і Гомельскім р-нах, левы прыток Сажа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 75 км.**
**Пл. вадазбору 433 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1,7 км на ПнЗ ад в. Лук'янаўка Добрушскага р-на, вусце каля в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на. Асноўныя прытокі: ручай Радзвін (злева) і рака без назвы каля в. Івакі (справа). Цячэ па Гомельскім Палессі. Даліна трапецападобная, шырынёй 300—600 м, у вытоку 150 м. Пойма двухбаковая, месцамі перарывістая, шырынёй 200—300 м; у разводдзе затапляецца на глыбіню 0,4—0,8 м тэрмінам да 2 тыдняў. Ад вытоку рэчышча каналізаванае на 8 км, у сярэднім цячэнні на 17,2 км. Шырыня ракі ў межань 10—18 м. Берагі да в. Вуць нізкія, забалочаныя, ніжэй пераважна стромкія і абрывістыя. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, сярэдняя вышыня над меджанным узроўнем 2,4 м. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у пачатку 2-й дэкады сакавіка. На рацэ г. п. Церахоўка.

**ВЫВЕ́ЖАК,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Пл. вадазбору 0,16 км².**

У бас. р. Аўсянка сярод буйных лясных масіваў, за 25 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1 км на З ад в. Загуззе. Злучана ракой Кудзінка з воз. Мядзесна.

**ВЫ́ГАДА,** возера ў Глускім р-не.

**Пл. 0,78 км².**
**Найбольшая глыбіня 0,5 м.**
**Даўжыня 1,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,9 км.**

У бас. р. Зарудзеча, за 7 км на З ад г. п. Глуск, на нізінным балоце Выгада. Берагі нізкія. Моцна зарастае, дно выслана сапрапелем. Летам амаль перасыхае.

**ВЫГАНАШЧА́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Выганаўскае возера, у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 26 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,3 м.**
**Даўжыня 7 км.**
**Найбольшая шырыня 4,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 21 км.**
**Аб'ём вады 32,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 87,1 км².**

На водападзеле рэк Шчара і Ясельда, за 37 км на У ад г. Івацэвічы, на тэрыторыі гідралагічнага заказніка Выганашчанскае. Схілы катлавіны спадзістыя, пераважна забалочаныя. Берагі нізкія, тарфяністыя, пад хмызняком, на Пн і Пд сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем, у заходняй частцы шматлікія мелі. З Пн на Пд возера перасякае Агінскі канал. Вылучаецца відавым багаццем вышэйшых водных раслін і наяўнасцю прыбярэжнай разнатраўна-асакова-злакавай сплавіны шырынёй да 150 м. Мноства вадаплаўных птушак. Зарастае па ўсёй акваторыі.

**ВЫГАНІЧА́НКА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Іслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 36 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 9,9 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Хімароды, цячэ па заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач на ПдУ ад в. Міхайлова. Ад в. Выганічы да вусця цячэ праз лес па глыбока ўрэзанай даліне.

**ВЫГО́ШЧА,** рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток Убарці (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 79 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на У ад в. Даніlевічы, упадае ў Убарць каля в. Баравое.

**ВЫДЗЕ́РКА,** Літоўка, канал Выдзерка, рака ў Кобрынскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала. Даўжыня 14,1 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Балота, вусце на ўсходняй ускраіне г. Кобрын. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЫДРА́НКА,** Дудрынка, рака ў Лунінецкім р-не, правы прыток р. Смердзь (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,6 км. Пачынаецца з воз. Вуль-






**Возера Выгада.**



**Выганашчанскае возера.**

ка каля в. Вулька 2-я, вусце каля в. Любачын. Верхняе цячэнне ў лясістай мясцовасці. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЫДРА́НКА,** Выдрэйка, рака ў Ганцавіцкім р-не, левы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Баркі, упадае ў старое рэчышча Цны за 2 км на ПнЗ ад в. Палонь. Цячэ ў лясістай мясцовасці. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЫ́ДРЫЦА,** рака ва Ушацкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 120 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Вацлавова і цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша. Упадае ў воз. Чарсцвяцкае з Пд. Рэчышча ў сярэднім і ніжнім цячэнні на працягу 12,4 км каналізаванае.

**ВЫ́ДРЫЦА,** рака ў Жлобінскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 92 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца як адгалінаванне ад р. Ала за 6 км на ПдЗ ад в. Плесавічы, вусце на Пн ад г. Светлагорск. У вярхоўі цячэ праз лес, ніжэй в. Старына рэчышча акаймавана лугавой поймай.

**ВЫ́ДРЫЦА,** рака ў Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах, левы прыток Обалі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Новыя Вайханы Гарадоцкага р-на, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша і Полацкай нізіны. Упадае ў Обаль каля в. Мішневічы Шумілінскага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 9,8 км каналізаванае.

**ВЫ́ДРЫЦА,** рака ў Дубровенскім і Аршанскім р-нах, левы прыток Аршыцы (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16,6 км.**
**Пл. вадазбору 139 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца з тарфянога кар'ера на ПдУ ад р. п. Асінторф Дубровенскага р-на, вусце за 2 км на З ад г. п. Арэхаўск Аршанскага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЫДРЭ́Я,** рака ў Лёзненскім р-не, правы прыток Сухадроўкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 42 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Пагосцішча, цячэ па Лучоскай нізіне. Упадае ў Вольшу (назва ў верхнім цячэнні Сухадроўкі) каля в. Бор.

**ВЫЗЕНКА,** Вызнянка, рака ў Салігорскім р-не, левы прыток Морачы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 109 км$^2$.**



**Возера Вымна (Віцебскі раён).**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Пятніцы, цячэ па ПдЗ ускраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Морач (прыток Случы), каля в. Малы Рожан. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. На рацэ каля г. п. Чырвоная Слабада створана плаціна і сажалка пл. 5,2 га.

**ВЫЛАЗСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пінскім р-не.

**Пл. 0,3 км$^2$.**
**Даўжыня 3,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Пл. вадазбору 6,22 км$^2$.**

У бас. р. Ясельда, з якой возера звязана канавай, за 18 км на ПнУ ад Пінска, каля вёсак Вылазы і Селішча. Берагі забалочаныя. Дно плоскае, выслана магутным слоем ілу. Інтэнсіўна зарастае.

**ВЫМНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 7,24 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,8 м.**

**Выганашчанскае возера.**

**Даўжыня 9,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 22,6 км.**
**Аб'ём вады 31,46 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 106 км$^2$.**

У бас. р. Лужасянка (выцякае з возера), за 20 км на У ад г. Гарадок, каля в. Ноўка. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, пад лесам, на ПнУ і ПдЗ нізкія, забалочаныя. Берагі высокія і стромкія, зараслі хмызняком. Дно амаль плоскае, мелкаводдзе вузкае, пясчанае, 7 астравоў агульнай пл. каля 8 га, найбольшы з іх на ПдЗ зарос лесам. Надводная расліннасць вузкай паласой (10—25 м) акаймоўвае ўзбярэжжа і астравы. Злучана пратокамі з азёрамі Арлейка і Слепня.

**ВЫМНА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 2,1 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,6 м.**
**Даўжыня 2,95 км.**
**Найбольшая шырыня 1,09 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,6 км.**
**Аб'ём вады 11,12 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 97,8 км$^2$.**

У бас. р. Каспля, за 26 км на ПнУ ад Віцебска, каля в. Вымна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, на З зліваюцца са схіламі. Дно выслана пяском, на глыбакаводдзі — глінай. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 20—90 м. Праз возера цячэ р. Вымнянка.

**ВЫМНЯ́НКА,** В ы м н і ц а, рака ў Віцебскім р-не, левы прыток Каспλі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня [illegible] км.**
**Пл. вадазбору 357 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,4 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Выцякае з возера без назвы каля в. Раніна, цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша, працякае праз воз. Вымна, пратокай злучана з Янавіцкім возерам. Асноўны прыток — р. Паловец (справа). Упадае ў Касплю каля в. Пранікі. Даліна да в. Півавары трапецападобная, шырынёй 300—500 м. Пойма перарывістая, шырыня яе да 500 м. Рэчышча звілістае, шырынёй 6—10 м. На рацэ г. п. Янавічы.

**ВЫНЯ́,** рака ў Нясвіжскім і Капыльскім р-нах, левы прыток Лошы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 56 км.**
**Пл. вадазбору 366 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Дубейкі Нясвіжскага р-на, цячэ па слабахвалістай раўніне, вусце на Пн ад в. Харытонаўка. Асноўны прыток р. Грыўчык (справа). Даліна пераважна невыразная. Пойма двухбаковая, шырынёй 300—400 м, у верхнім цячэнні — меліяраванае балота, ніжэй — роўная, сухая. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае; яго шырыня ў межань 7—10 м, на асобных участках у сярэднім цячэнні 30—35 м. Каля вёсак Харытонаўка і Леткаўшчына створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,06 км$^2$ і 0,03 км$^2$). У пойме меліярацыйныя каналы.

**ВЫПРА́ТА,** М а л і н а ў к а, рака ў Лагойскім і Вілейскім р-нах, левы прыток Ілі (бас. Віліі).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 79 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Выпраты Лагойскага р-на, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ілію за 2 км на Пн ад в. Сакалоўка. На працягу 3 км каналізаваная (на У ад в. Сакалоўка да вусця). Каля в. Калачы (на рацэ) і на ПнУ ад в. Сакалоўка (у пойме) створаны сажалкі.



Возера **Вымна** (Гарадоцкі раён).



Возера **Вымна** (Гарадоцкі раён).

**БЫРВІНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 1,63 км².**
**Найбольшая глыбіня 22 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,45 км.**
**Пл. вадазбору 5,5 км².**

У бас. р. Сосніца, за 34 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на З ад в. Труды. Сярод невялікіх пясчаных узгоркаў, пакрытых рэдкім хмызняком і хвоямі. Берагі стромкія, месцамі спадзістыя. Ёсць 2 невялікія астравы.

**ВЫСОКА,** рака, гл. *Высокая.*

**ВЫСОКАБЯРЭЖНЫ КАНА́Л,** рака, гл. *Ракаўка.*

**ВЫСО́КА-МА́ХНАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Мазырскім і Ельскім р-нах, левы прыток р. Батыўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 26 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Махнавічы Мазырскага р-на, вусце за 1 км на З ад в. Белякі Ельскага р-на. Упадае Высокі канал (злева). У вярхоўі і нізоўі цячэ па лясістай мясцовасці.

**ВЫСО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.



Высокае возера (Браслаўскі раён).

**Пл. 1,42 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,9 м.**
**Даўжыня 3,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,45 км.**
**Аб'ём вады 5,18 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 845 км².**

У бас. р. Дрысвята (працякае праз возера), за 26 км на ПдЗ ад г. Браслаў, на Пн ад в. Богіна. Схілы катлавіны вышынёй 9—15 м, разараныя, у ніжняй частцы парослыя хмызняком. Берагі нізкія (0,1 м), пад хмызняком, на У зліваюцца са схіламі. Дно складанай будовы (упадзіны чаргуюцца з мелямі), выслана пяском, ілам, глінай. 3 астравы агульнай пл. 0,03 км². Шырыня паласы расліннасці ўздоўж берагоў 5—30 м да глыбіні 3 м.

**ВЫСО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Дзісна, за 14 км на ПдУ ад г. Міёры, за 1 км на ПнУ ад воз. Бярэжа, на балоце Мох у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Берагі забалочаныя, тарфяністыя.



Возера Вядзета.

**ВЫСО́КАЯ,** рака ў Крупскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Старая Пярэсіка, упадае ў воз. Сялява з Пд каля в. Прошыка. Рэчышча ад вытоку на працягу 7 км каналізаванае. У нізоўі цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці. Прыток — р. Сухая (справа).

**ВЫСО́КАЯ,** Высока, рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток р. Забалаць (бас. Нёмана). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Вільбутава, упадае ў Забалаць за 0,8 км на ПдЗ ад в. Куцкуны. Ад вытоку на працягу 400 м каналізаваная. У пойме сетка асушальных каналаў, здабываюць торф.

**ВЫСО́КІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток Высока-Махнавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Будкі, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Чапаеўка.



Высокае возера (Браслаўскі раён).

**ВЫ́ЦІНСКАЯ КАНА́ВА,** Выцінскі канал, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток Жыроўскага канала (бас. Дняпроўска-Бугскага канала). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Карсынь, вусце за 1,3 км на ПнУ ад в. Смольнікі.

**ВЫ́ШАДСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 11 м.**
**Даўжыня 1,64 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,65 км.**
**Аб'ём вады 1,97 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 168 км².**

У бас. р. Аўсянка (працякае праз возера), за 20 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Вышадкі. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, стромкія, на ПнЗ спадзістыя, парослыя лесам. Берагі пераважна нізкія, пад лесам і хмызняком. 2 плёсы — глыбакаводны паўночны са стромкай літараллю і мелкаводны паўднёвы. Паласа надводнай расліннасці шырынёй 5—30 м.

**ВЫШАМІ́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім і Лоеўскім р-нах, правы прыток Брагінкі (бас. Дняпра). Даўжыня 15,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на, вусце каля в. Лесуны Лоеўскага р-на.

**ВЫ́ШКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, правы прыток Цятранкі (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Вышкава, упадае ў Цятранку за 1,5 км на Пн ад в. Крышылоўшчына.

**ВЯДЗЕ́РКА,** рака ў Бялыніцкім р-не, правы прыток Друці (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 69 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца з балота Галага за 2 км на Пд ад в. Рубеж, вусце каля в. Пільшычы. На большым працягу цячэ праз лес.

**ВЯДЗЕ́ТА,** возера на мяжы Расонскага і Полацкага р-наў.

Пл. 4,68 км$^2$.
Даўжыня 4,6 км.
Найбольшая шырыня 1,6 км.
Пл. вадазбору 26 км$^2$.

На водападзеле рэк Дрыса і Палата, за 45 км на ПнУ ад Полацка, сярод лясных масіваў. Схілы катлавіны вышынёй 4—7 м. Берагі месцамі забалочаныя, пад лесам і хмызняком. Востраў пл. 3,6 га. На З злучана ручаём з воз. Глыбочына, на Пд выцякае р. Вядзеціца.

**ВЯДЗЬМЯ́НКА,** рака, гл. *Ведзьма.*

**ВЯДРО́ЎКА,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток Гаўі (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 37 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Воўкаўцы, упадае ў Гаўю каля в. Лугавая. На ўсім працягу каналізаваная. На рацэ каля в. Кір'янаўцы створана сажалка.

**ВЯДРЭ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 0,11 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,5 м.
Даўжыня 0,47 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.
Аб'ём вады 0,45 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 6,5 км$^2$.

У бас. р. Свінка, за 10 км на ПнУ ад г. Чашнікі, каля в. Малая Вядрэнь. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя. Берагі пад хмызняком. Дно каля берагоў стромкае, да глыбіні 3 м пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Зарастае слаба.

**ВЯ́ЗАЎКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 122 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Гірычы, упадае ў Нёман на Пд ад в. Мацевічы. Асноўны прыток — Карыценка. На рацэ каля вёсак Нямковічы, Парэчча, Раманавічы створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,17 км$^2$, 0,09 км$^2$, 0,03 км$^2$).

**ВЯ́ЗАЎКА,** рака ў Дубровенскім р-не Віцебскай вобл. і Раднянскім р-не Смаленскай вобл., правы прыток р. Альшанка (бас. Дняпра). Даўжыня каля 13 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Новая Зямля Дубровенскага р-на, вусце ў в. Красная Горка Руднянскага р-на. Ад вытоку на 6,5 км рэчышча каналізаванае. Па берагах у межах Беларусі пераважаюць меліяраваныя землі.

**ВЯ́ЗЕНСКАЯ,** Вязынь, Разанка, рака ў Дзяржынскім р-не, левы прыток Усы (бас. Нёмана).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 81 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,5 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Арэхаўская Мінскага р-на, працякае па паўднёва-заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ва Усу каля в. Уса. На працягу 10 км каналізаваная (ад в. Вязанка да вусця).

**ВЯ́ЗЫНКА,** рака ў Мінскім і Маладзечанскім р-нах, у бас. Віліі.

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 60 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 0,4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,1 ‰.

Пачынаецца на У ад в. Ліпяні Мінскага р-на, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, пры зліцці з Гуйкай утварае р. Рыбчанку. Даліна выразная. Пойма двухбаковая, яе шырыня 100—200 м. Рэчышча звілістае, яго шырыня ў межань 5—7 м; у вярхоўі перасякаецца з Вілейска-Мінскай воднай сістэмай. Берагі стромкія. У маляўнічых мясцінах у вярхоўі ракі Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка», у сутоках Вязынкі і Гуйкі г. п. Радашковічы, каля якога зона адпачынку Вязынка.

**ВЯ́ЗЫНКА,** рака, гл. *Ліtанка.*

**ВЯ́ЗЫНЬ,** рака, гл. *Вязенская.*

**ВЯЛЕ́Ц,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11 м.
Даўжыня 1,8 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Пл. вадазбору 681 км$^2$.

У бас. р. Мнюта (працякае праз возера), за 20 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Вялец. Усходнія схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, астатнія нізкія, забалочаныя. Дно глеістае, ва ўсходняй частцы пясчанае. Зарастае. Упадае некалькі невялікіх ручаёў, сцёк у р. Мнюта.

**ВЯЛІ́КАЕ АСТРАВІ́ТА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,48 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6 м.
Даўжыня 1,22 км.
Найбольшая шырыня 0,57 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,3 км.
Аб'ём вады 1,5 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,1 км$^2$.

У бас. р. Сосніца, сярод маляўнічага хваёвага лесу, за 50 км на ПнУ ад г. Полацк. Схілы катлавіны на Пн і У вышынёй 10—11 м, на З 4—5 м, на Пд да 3 м, парослі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, паўднёвыя тарфяністыя. Мелкаводдзе да глыбіні 2 м пясчанае. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (менш за 20 мг/л) і вялікай празрыстасцю (да 5,3 м). Арганічнае жыццё развіта слаба. Надводная расліннасць утварае паласу ўздоўж берага шырынёй да 10 м. Дно да глыбіні 5 м выслана палушнікам азёрным, які занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Возера і прылеглая тэрыторыя абвешчаны аднайменным азёрным заказнікам.

**ВЯЛІ́КАЕ АСТРАЎЛЯ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,24 км$^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Пл. вадазбору 20,8 км$^2$.

У бас. р. Усыса (злучана з возерам ручаём), за 10 км на ПдЗ ад г. Гарадок, каля вёсак Астраўляны, Рыбакі, Сухарукава. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя, месца-




Вышадскае возера.




Вядрэнскае возера.

мі забалочаныя і парослыя хмызняком. У цэнтральнай частцы востраў. Злучана ручаем з воз. Малое Астраўлянскае.




Возера **Вялікае Астравіта.**




**Вялікае возера** (Глыбоцкі раён).

**ВЯЛІ́КАЕ БАЛО́ТА,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток канала ў бас. Зах. Буга. Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца каля в. Балота, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Калюхі.

**ВЯЛІ́КАЕ БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 1,48 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 10,2 м.
Даўжыня 2,65 км.
Найбольшая шырыня 0,81 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,5 км.
Аб'ём вады 8,06 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 3,2 км$^2$.

У бас. р. Свіна, за 50 км на ПнУ ад г. Полацк, на Пд ад в. Белая. Схілы катлавіны вышынёй 11—17 м, стромкія, пад хваёвым лесам. Берагі высокія, на Пн сплавінныя. Дно да глыбіні 5 м выслана пяском, да 6—7 м ілам, глыбей сапрапелем. У паўночнай частцы востраў пл. 0,1 га і пясчаная водмель глыбінёй 0,1 м. Расце ахоўны від — палушнік азёрны, занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Злучана пратокай з воз. Гваздок.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Смалявіцкім р-не.

Пл. 1,6 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 1,2 м.
Даўжыня 1,8 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.
Пл. вадазбору 13,6 км$^2$.

У бас. р. Гайна, за 14 км на ПнУ ад г. Смалявічы, каля в. Арлова. Берагі забалочаныя, тарфяністыя. Зарастае. На З выцякае ручай Граба.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,89 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,7 м.
Даўжыня 2,15 км.
Найбольшая шырыня 0,73 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,4 км.
Аб'ём вады 3,04 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 40,1 км$^2$.

У бас. р. Бярозаўка, на паўночна-заходняй ускраіне. Схілы катлавіны вышынёй 3—10 м, на ПнУ і У 10—16 м, пераважна разараныя, на ПнЗ пад лесам. Берагі месцамі забалочаныя. Дно складаецца з паўночнага (вялікага) і паўднёвага (малога) плёсаў, злучаных пралівам глыбінёй да 1,7 м. У паўночным плёсе востраў пл. 0,7 га. Расліннасцю занята 16 % пл. возера, шырыня паласы 10—100 м да глыбіні 1,9 м. На ПдЗ і З упадаюць 2 ручаі і пратока з воз. Кагальнае, сцёк па пратоцы ў Падлужнае возера.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Рэчыцкім р-не.

Пл. 0,4 км$^2$.
Даўжыня 2,7 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.

У бас. р. Днепр, за 12 км на ПдУ ад г. Рэчыца, каля в. Гранаўка, на тэрыторыі курортнай зоны Белы Бераг. Берагі высокія, пясчаныя. Старычнае.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Мазырскім р-не.

Пл. 0,24 км$^2$.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.

У бас. Прыпяці, за 4 км на У ад Мазыра. Поймавае. Злучана канавай з меліярацыйнай сістэмай. Уздоўж паўднёвага берага пясчаныя грады, парослыя хмызняком.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Даўжыня 0,48 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,27 км.

У бас. р. Волта (левы прыток Зах. Дзвіны), за 13 км на ПдУ ад г. Міёры, за 25 км на ПдУ ад в. Сухавежа. Ляжыць на паўночнай ускраіне вярховага балота Мох, якое уваходзіць у ландшафтны заказнік Ельня. Берагі тарфяністыя, моцна парэзаныя. На Пн злучана ручаём з групай невялікіх азярын.

**ВЯЛІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,62 км.



**Вялікае Белае возера.**

У бас. р. Будовіца, за 5 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, за 0,7 км на У ад в. Мерзлякі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лугам. З паўночнага боку возера меліяраваная плоская паверхня. Злучана ручаём з воз. Малое.

**ВЯЛІ́КАЕ ГАРО́ДНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,24 км$^2$.
Даўжыня 0,88 км.
Найбольшая шырыня 0,33 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,12 км.
Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.

У бас. р. Чарнец, за 40 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 10 км на ПнЗ ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй 18 м (на Пд 2 м), пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд нізкія. Злучана пратокай з воз. Малое Гародна.

**ВЯЛІ́КАЕ ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.


Вялікае возера (Смалявіцкі раён).

Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Аўсянка, за 34 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1,5 км на Пд ад в. Баброва. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад лесам, на Пд невыразныя.

**ВЯЛІКАЕ ЗАБЕЛЛЕ**, гл. *Забельскае возера.*

**ВЯЛІКАЕ ЗАСАМІННАЕ ВОЗЕРА**, у Столінскім р-не.

Пл. 0,98 км$^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,6 км.

У бас. р. Маства (левы прыток Сцвігі), за 21 км на ПдУ ад г. Столін, за 3 км на ПдУ ад в. Альманы, сярод забалочанага лесу. Схілы акруглай катлавіны спадзістыя. З возера выцякае р. Мышанка.

**ВЯЛІКАЕ ІСНА**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11 м.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.
Аб'ём вады 1,54 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 186 км$^2$.

У бас. р. Ушача (працякае праз возера), за 12 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Гарадзец. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м, парослыя лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя, на ПдУ тарфяністыя, пад хмызняком. Дно выслана ілам, пясчаныя адклады толькі на Пн і У у літаральнай зоне. Расліннасць пашырана да глыбіні 3,5 м. У возера ўпадаюць 3 ручаі, у т. л. з воз. Звонь.

**ВЯЛІКАЕ КАМАЙСКАЕ ВОЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,25 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 22 м.
Даўжыня 1,05 км.
Найбольшая шырыня 0,36 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,59 км.
Аб'ём вады 1,67 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 9,8 км$^2$.

У бас. р. Камайка (выцякае з возера), за 17 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Камаі. Схілы катлавіны вышынёй 9—14 м, на З і У 5—6 м, пад лугам і пашай. Берагі нізкія, парослі хмызняком. У падводнай частцы катлавіны вылучаюцца 4 замкнёныя катлавіны з глыбінямі 8 м, 14,9, 18,5 і 22 м. Дно пясчанае, глыбей 2 м выслана ілам. 26 % паверхні возера занята раслінасцю, шырыня паласы 5—30 м да глыбіні 2 м. Злучана пратокай з Малым Камайскім возерам.

**ВЯЛІКАЕ КАМАРЫНА**, Камарын, возера ў Рагачоўскім р-не.

Пл. 0,28 км$^2$.
Даўжыня 2,4 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.

На пойме Дняпра, за 1 км на У ад г. Рагачоў. Старычнае. Злучана ручаём з Дняпром.

**ВЯЛІКАЕ СВІНО**, возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 3,44 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,8 м.
Даўжыня 4,12 км.
Найбольшая шырыня 1,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 13,36 км.
Аб'ём вады 12,28 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 180 км$^2$.

У бас. р. Свіна, за 35 км на ПнЗ ад г. Гарадок, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м (на З і ПдЗ да 15 м). Берагі нізкія, парослі воднабалотнай раслінасцю. Дно пясчанае, глыбей 1,5—3 м выслана ілам. Уздоўж берагоў паласа раслінасці шырынёй да 220 м да глыбіні 2,2 м. У возера ўпадае р. Чарнец і 4 ручаі, выцякае р. Асмоціца; злучана пратокай з воз. Малое Свіно.

**ВЯЛІКАЕ СВЯТОЕ**, возера ў Сенненскім р-не.

Пл. 0,77 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 1,53 км.
Найбольшая шырыня 0,73 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,3 км.
Аб'ём вады 0,48 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 17,1 км$^2$.

У бас. р. Свячанка (выцякае з возера), за 9 км на З ад г. Сянно, за 2 км на ПнУ ад в. Ульянавічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пад лесам і хмызняком. Берагі сплавінныя, пойма (шырыня за 200 м) забалочаная. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Зарасло поўнасцю.

**ВЯЛІКАЕ СУРВІЛІШСКАЕ**, Вялікія Сурвілішкі, Сурвілішскае возера, возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 1,03 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,1 м.
Даўжыня 2,36 км.
Найбольшая шырыня 0,53 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,7 км.
Аб'ём вады 3,25 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 132 км$^2$.

У бас. р. Камайка (цячэ праз возера), за 20 км на З ад г. Паставы, паміж вёскамі Сурвілішкі і Мягуны. Схілы катлавіны пад хмызняком. Берагі нізкія, на ПнЗ сплавінныя. Дно роўнае, найбольш глыбокае на ПдУ. Зарастае каля 30 % плошчы возера, шы-



Возера Вялікае Існа.



Возера Вялікае Свіно.

рыня паласы надводнай расліннасці 10—80 м. Злучана пратокай з воз. Малыя Сурвілішкі, упадае р. Яновіца.

**ВЯЛІКАЕ УКЛЕЙНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,39 км².
Найбольшая глыбіня 17,5 м.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,91 км.
Аб'ём вады 2,83 млн. м³.
Пл. вадазбору 25,9 км².

У бас. р. Альзініца, за 16 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, на ПнЗ ад в. Скачыхі. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м, месцамі абрывістыя, пад лесам, на З вышынёй 3—5 м, парослыя разнатраўна-злакавай расліннасцю. Берагі нізкія, пад хмызняком, месцамі зліваюцца са схіламі. Дно пясчанае, глыбей 5—6 м выслана сапрапелем. Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м. Злучана ручаём з воз. Малое Уклейна, на ПнУ выцякае ручай у возера без назвы.

**ВЯЛІКАЕ ХАЦЬКОВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,07 км².
Даўжыня 0,32 км.




**Вялікае Сурвілішскае возера.**



**Вялікае Сурвілішскае возера.**

Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.

У бас. р. Ценіца, за 32 км на У ад Полацка, за 9 км на ПнУ ад в. Домнікі. Схілы катлавіны слаба выражаны, пад забалочаным лесам, на Пд параслі забалочаным хмызняком.

**ВЯЛІКАЕ ЯЗНА,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 1,5 км².
Найбольшая глыбіня 6,5 м.
Даўжыня 3,2 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,6 км.
Аб'ём вады 5,5 млн. м³.
Пл. вадазбору 60,7 км².

У бас. р. Авута (пратокай злучана з возерам), за 38 км на ПдУ ад г. Міёры, каля в. Язна. Схілы катлавіны разараныя, месцамі пад хмызняком, на У і ПдУ высокія і стромкія. Берагі нізкія. Дно пясчанае, глыбей 3—4 м іністае. У паўднёва-заходняй частцы востраў пл. 0,5 га. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 3 м. Злучана пратокай з воз. Малое Язна.

**ВЯЛІКАЯ БАНЕЎКА,** Багушэўскі канал, меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Ваўчанка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Багушоўка, вусце за 1,3 км на ПнУ ад в. Барсукі. Берагі пад сельгасугоддзямі.

**ВЯЛІКАЯ БАРОНІЦА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,17 км².
Найбольшая глыбіня 12,2 м.
Даўжыня 0,63 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,67 км.
Аб'ём вады 0,74 млн. м³.
Пл. вадазбору 65,9 км².

У бас. р. Ушача, за 10 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Судзілавічы, на тэрыторыі курортнай зоны Ушачы. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, на У і ПдУ невыразныя, параслі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, пад хмызняком. Ложа пясчанае, глыбей 5 м іністае. Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м. Праз возера цячэ р. Ідута, на Пн упадае ручай з воз. Малая Бароніца.

**ВЯЛІКАЯ ВОСМАТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 1,12 км².
Найбольшая глыбіня 8,8 м.
Даўжыня 2,56 км.
Найбольшая шырыня 0,67 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,26 км.
Аб'ём вады 5,21 млн. м³.
Пл. вадазбору 203 км².

У бас. р. Свіна, за 33 км на ПнЗ ад г. Гарадок, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м (на Пн і Пд месцамі да 10 м), параслі лесам, які падступае да ўрэзу вады. Дно пясчанае, глыбей 7 м іністае. 2 астравы агульнай пл. 0,2 га. Надводная расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 4—90 м. На З у возера ўпадае р. Асмоціца, на Пд выцякае р. Копань; злучана пратокай з воз. Малая Восмата.

**ВЯЛІКАЯ ВЯЗАНКА,** Вялікая Вязынка, рака ў Жлобінскім р-не, левы прыток Алы (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 70 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.



Возера **Вялікае Язна.**

Пачынаецца за 3,3 км на ПдУ ад в. Кругі, вусце каля в. Кіцін. На ўсім працягу каналізаваная.

**ВЯЛІКАЯ ЕЛЬНЯ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,46 км².
Найбольшая глыбіня 13,2 м.
Даўжыня 1,35 км.
Найбольшая шырыня 0,57 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,2 км.
Аб'ём вады 2,11 млн. м³.
Пл. вадазбору 2,22 км².

У бас. р. Друйка, за 16 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Быстрамаўцы. Схілы катлавіны вышынёй 3—8 м (на Пн і Пд да 3 м), на З стромкія, парослыя хмызняком, на У спадзістыя, пад лугам. На Пн і Пд вузкія залівы. Берагі высокія, на З зліваюцца са схіламі. Уздоўж берага дно да глыбіні 6 м пясчанае, глыбей іністае. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй 7—50 м да глыбіні 1,5—2 м, падводная пашырана да глыбіні 4 м. На Пн упадае ручай з воз. Малая

Ельня, на У выцякае ручай у воз. Абаб'е.

**ВЯЛІКАЯ КАНАВА**, Баравікоўскі 1-ы канал, меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток Бор-Дубенецкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 5,5 км на ПнЗ ад в. Вялікія Арлы, вусце за 4 км на Пн ад в. Лядзец.

**ВЯЛІКАЯ КАНАВА**, гл. *Вялікі канал.*

**ВЯЛІКАЯ ЛЯБЁДКА**, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Лебяды (бас. Нёмана).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 76 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Падгалішкі, цячэ па раўніннай мясцовасці, у сярэднім цячэнні месцамі па забалочанай пойме. Упадае ў Лебяду на ПнЗ ад в. Бешанкі Лідскага р-на. На працягу 12,1 км каналізаваная (ад вытоку да в. Гайкаўшчына).

**ВЯЛІКАЯ РЭЧКА**, рака ў Лепельскім і Барысаўскім р-нах, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 242 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 6 км на ПдУ ад воз. Домжарыцкае ў Лепельскім р-не, цячэ праз Бярэзінскі біясферны запаведнік, упадае ў Бярэзіну за 4 км вышэй воз. Палік у Барысаўскім р-не. Асноўныя прытокі Гурба (злева) і Пясчанка (справа). Рака каналізаваная ў сярэднім і ніжнім цячэнні, ёсць бабровыя паселішчы.

**ВЯЛІКАЯ СЛІВА**, рака ў Слуцкім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Муравішчына, вусце за 3 км на З ад в. Вялікая Слiва. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ВЯЛІКІ БЕЛЯНОК**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,20 км$^2$.**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Быстрыца, за 28 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Двор Саланевічы. Схілы катлавіны вышынёй да 11 м, заходнія пад лесам і хмызняком, усходнія разараныя. Ручаямі злучаецца з азёрамі Малы Белянок і Нявіда.

**ВЯЛІКІ ГРАБЯНЕЦ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 50 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.**

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 24 км на ПнЗ ад Полацка, за 2,3 км на З ад в. Лісуны, сярод балота.

**ВЯЛІКІ КАНАЛ**, Вялікая канава, меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім раёнах, правы прыток



Возера Вялікая Восмата.

Шчэбінскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 26,7 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны г. Хойнікі, вусце за 0,8 км на ПнЗ ад в. Міхнаўка Брагінскага р-на. На левым беразе пераважаюць меліяраваныя сельгасугоддзі, на правым — участкі лесу.

**ВЯЛІКІ КАНАЛ**, Вялікая канава, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца з Водападводзячага канала за 1,5 км на ПнУ ад в. Рахавічы, вусце за 2 км на У ад в. Яскавічы.

**ВЯЛІКІ КІЛАВЕЦ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Званіца (левы прыток Зах. Дзвіны), за 20 км на ПнЗ ад Полацка, за 2 км на З ад в. Азіна. Схілы катлавіны на Пд і У вышынёй 15 м, пад хмызняком, на Пн — 10 м, у верхняй частцы разараныя.

**ВЯЛІКІ НІКАР**, канал, гл. *Цісаўка.*

**ВЯЛІКІ ПЕРАКОП**, рака ў Пастаўскім і Мядзельскім р-нах, у бас. Віліі.

**Даўжыня 35 км.**
**Пл. вадазбору 241 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Мацясы Мядзельскага р-на (у верхнім цячэнні называецца Малінаўка), упадае з ПдУ у возера Свір. Асноўныя прытокі Сермеж і ручай Першы. Даліна добра распрацаваная, у верхнім цячэнні вузкая, у ніжнім шырынёй 0,3—1 км. Пойма двухбаковая, шырынёй 200—400 м. Рэчышча звілістае (шырыня да 4 м), на працягу 20,4 км каналізаванае: выток — 1,5 км на ПдУ ад в. Мельнікі (9,5 км) і 1,5 км на ПнУ ад в. Абрамы — 2,2 км на У ад в. Хмылкі (10,9 км). Берагі абрывістыя. У нізоўі рыбапрамысловы ўчастак, каля в. Шэметава створана сажалка (пл. 0,42 км$^2$). У вярхоўі і сярэднім цячэнні на пойме прымае сцёк меліярацыйных каналаў.

**ВЯЛІКІ СУПОНЕЦ**, возера на мяжы Глыбоцкага і Ушацкага р-наў.

**Пл. 0,42 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 23,8 м.**
**Даўжыня 0,96 км.**
**Найбольшая шырыня 0,55 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,62 км.**
**Аб'ём вады 3,52 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,13 км$^2$.**

У бас. р. Альзініца, за 19 км на З ад г. п. Ушачы, каля в. Скрабатуны, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй




Возера Вялікае Уклейна.




Возера Вялікая Бароніца.

15—18 м (на Пн 5—10 м, спадзістыя), пад лесам, на ПнЗ разараныя. Дно складанай будовы (чаргуюцца ўпадзіны і мелі). Зона мелкаводдзя вузкая, выслана пяскамі і ілам, глыбей пашыраны сапрапелі. Расліннасць уздоўж берагоў утварае паласу шырынёй 8—50 м да глыбіні 5 м. Злучана пратокай з воз. Малы Супонец.




Возера **Вялікая Ельня.**




**Вяркудскае возера.**

**ВЯЛІКІЯ АРЛЫ,** вадасховішча ў Столінскім р-не.

**Пл. 0,99 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,8 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 1,1 км.**
**Аб'ём вады 3,5 млн. м³.**

У басейне р. Вятліца (правы прыток Прыпяці), на меліярацыйнай сістэме «Магільна», за 20 км на ПнУ ад г. Столін, каля в. Дубянец. Налiўное. Створана ў 1977 для рыбагадоўлі, увільгатнення і арашэння. Даўжыня агараджальнай дамбы 4,4 км. Напаўняецца вадой з Бор-Дубенецкага канала ў час разводдзя і за кошт сцёкавых водаў меліярацыйных каналаў. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 3,8 м.

**ВЯЛІКІЯ АЎЦЮКІ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Закованка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Вялікія Аўцюкі, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Сырод.

**ВЯЛІКІЯ БЛІЗНЯТЫ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.**

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 25 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПнУ ад в. Галубова, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, на Пн 5 м. На ПдЗ выцякае ручай у воз. Глыбочына.

**ВЯЛІКІЯ ТАБОЛЫ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Свіна, за 40 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 3,5 км на ПнЗ ад в. Майсеева. Схілы катлавіны нізкія, на Пн пад забалочаным лесам. На Пд да возера прымыкае балотны масіў. Упадае ручай, на З выцякае ручай у воз. Малыя Таболы.

**ВЯЛІКІЯ ШВАКШТЫ,** Вялікая Швакшта, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 9,56 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,3 м.**
**Даўжыня 4,2 км.**
**Найбольшая шырыня 3,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13 км.**
**Аб'ём вады 22,3 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 94,2 км².**

У бас. р. Страча, за 22 км на ПдЗ ад г. Паставы, за 8 км на ПнЗ ад воз. Нарач. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, параслі хмызняком, на ПнУ пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на З тарфяністыя і сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем, уздоўж усходняга берага да глыбіні 2 м пясчанае. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 150 м, харавыя водарасці ўкрываюць дно да глыбіні 3,5 м. Злучана пратокай з воз. Малыя Швакшты. На паўднёва-заходнім беразе паляўніча-рыбалоўная база.

**ВЯЛІЧКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лідскім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Лідзея, за 12 км на ПдУ ад г. Ліда, каля в. Вялічкі.

**ВЯЛЬІНКА,** рака, гл. *Воленка.*

**ВЯНОК,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,47 км.**

У бас. р. Альзініца, за 9 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПнУ ад в. Паперына, за 0,6 км на З ад воз. Баравянок. Схілы катлавіны на Пд і ПдЗ вышынёй да 15 м, на Пн 3 м, пад лесам.

**ВЯНУЖКА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 73 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца каля х. Свіршчына, цячэ па Полацкай нізіне. Упадае ў Зах. Дзвіну каля в. Гаравыя.

**ВЯРКУДСКАЕ ВОЗЕРА,** Вяркуда, ва Ушацкім р-не.

**Пл. 1,8 км².**
**Найбольшая глыбіня 12 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9 км.**
**Аб'ём вады 10,86 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,1 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 17 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Вяркуды. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 25—30 м, пераважна пад лесам, на У 5—7 м, разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд нізкія, забалочаныя. Падводная частка катлавіны складаецца з 2 плёсаў. Літаральная зона пясчаная, глыбакаводная, выслана ілам. Паласа расліннасці шырынёй да 140 м да глыбіні 3 м.

**ВЯРХІ,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,28 км.**

У бас. р. Мнюта, за 21 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 0,7 км на Пн ад в. Вялец. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад сельгасугоддзямі. Уздоўж урэзу вады хмызняк. Выцякае ручай у р. Мнюта.

**ВЯРХІТА,** рака ў Дубровенскім і Лёзненскім р-нах у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 28 км.**
**Пл. вадазбору 266 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Пятрыкі Дубровенскага р-на, цячэ па Лучоскай нізіне праз азёры Афанасьеўскае і Казённае, пераважна ў лясістай мясцовасці. Упадае ў воз. Зелянское з У на тэрыторыі Лёзненскага р-на. Прытокі Бабровіца і Лютыня (справа). Рэчышча ад вытоку да в. Шэкі на працягу 9 км каналізаванае.

**ВЯРХО́ВІЦКІ КАНА́Л,** гл. *Бярозаўскі канал.*

**ВЯРЭ́ДАЎКА,** Абалька, Лоша-Абалька, рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток Ушы (бас. Віліі).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 108 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Асавец, упадае ва Ушу на ПдЗ ад в. Верадова. На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцек з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ВЯРЭ́НКА,** Варэнка, Вярэмка, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Чапунькі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 75 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Гуршчызна, упадае ў Чапуньку каля в. Лежневічы. На ўсім працягу каналізаваная.



**Вяркудскае возера.**

**ВЯРЭ́ЦЕЙКА,** рака, гл. *Верацейка.*

**ВЯРЭ́ЦЦЯ,** рака, гл. *Верацейка.*

**ВЯРЭ́ЧАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 3,9 км на ПнУ, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Рэдкавічы.

**ВЯСЕ́ЙКА,** Вясея, рака ў Слуцкім р-не, левы прыток Случы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 28,1 км.**
**Пл. вадазбору 307 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Шантароўшчына і цячэ па паўднёва-заходняй ускраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Асноўныя прытокі Сярэдняя Вясейка і Ніжняя Вясейка. Упадае ў Случ за 2,5 км на У ад Слуцка.

**ВЯСНЯ́НКА,** Вясніпка, рака ў Лагойскім і Мінскім р-нах у вадазборы р. Усяжа (бас. Дняпра). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Рэбрышча Лагойскага р-на, упадае з вадасховішча Астрашыцкі Гарадок на 3 ад в. Навасёлкі Мінскага р-на. Рэчышча ад в. Мятлічына Лагойскага р-на да в. Брадок Мінскага р-на на працягу 3 км каналізаванае. Берагі пад сельгасугоддзямі, у нізоўях часткова лес.

**ВЯ́ТА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 424 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Выцякае з воз. Набіста пад назвай Хараброўка (пасля в. Шчоўна называецца Вята), на невялікім працягу цячэ па паўночнай ускраіне гідралагічнага заказніка Балота Мох. Верхняе цячэнне ў межах Браслаўскай грады, сярэдняе і ніжняе — на ПнЗ Полацкай нізіны. На вадазборы шмат азёр (агульная пл. 36 км$^2$). Асноўны прыток Голчыца (справа). Упадае ў Зах. Дзвіну за 1 км ніжэй ад в. Вята. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, у сярэднім — трапецападобная, у ніжнім — скрынкападобная. Рэчышча ад вытоку на працягу 14 км каналізаванае.

**ВЯ́ХАВА,** возера ў Бабруйскім р-не.

**Пл. 0,42 км$^2$.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Пл. вадазбору 85,3 км$^2$.**

У бас. р. Вір (працякае праз возера) за 12 км на ПдУ ад Бабруйска, за 4 км на Пд ад в. Ступені. Мелкаводнае. Схілы катлавіны спадзістыя. Берагі забалочаныя, пад хмызняком. Дно на 70 % плошчы выслана сапрапелем.

**ВЯ́ЧА,** рака ў Лагойскім і Мінскім р-нах у бас. Дняпра.

**Даўжыня 40 км.**
**Пл. вадазбору 297 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,8 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне 80 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Селішча Лагойскага р-на, цячэ па Мінскім узвышшы, упадае ў Заслаўскае вадасховішча каля в. Сёмкава Мінскага р-на. На рацэ вадасховішча Вяча. Даліна трапецападобная, шырынёй 200—300 м. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія, вышыня іх каля 2,5 м. Берагі нізкія, спадзістыя. Пойма шырынёй 50—100 м. Рэчышча звілістае, ад вусця на 13 км каналізавана і часткова абвалавана. Шырыня ракі ў межань 4—8 м. Цячэ ў зонах адпачынку Вяча і Мінскае мора.

**ВЯ́ЧА,** вадасховішча ў Мінскім р-не.




**Возера Вялікі Супонец.**



**Возера Вялікі Супонец.**



**Вяркудскае возера.**



Вадасховішча **Вяча.**



Возера **Вялікія Швакшты.**

Пл. 1,68 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 8 м.
Даўжыня 5,3 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 15,2 км.
Аб'ём вады 5,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 108 км$^2$.

На р. Вяча (бас. Свіслачы), за 19 км на Пн ад Мінска. Створана ў 1970 у рэкрэацыйных мэтах. Берагі спадзістыя і ўмерана стромкія, пад хваёвым лесам і хмызняком; ёсць заліў даўжынёй 300 м. Ваганні ўзроўню малыя (да 0,2 м). Вакол возера зона адпачынку Вяча.

**ВЯЧЭ́РА**, возера ў Любанскім р-не.

Пл. 3,24 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 1,6 м.
Даўжыня 2,75 км.
Найбольшая шырыня 1,55 км.



Возера **Вячэра.**



Возера **Вячэра.**

Даўжыня берагавой лініі 7,45 км.
Аб'ём вады 3,51 млн. м$^3$.

У бас. р. Арэса, за 12 км на ПдУ ад г. Любань, каля в. Азёрная, на плоскай, забалочанай мясцовасці. Берагі нізкія, тарфяністыя, на У пясчаныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем (вядзецца яго прамысловая здабыча), уздоўж усходняга берага пясчанае. Злучана з каналам Чабускі. У выніку меліярацыйных работ возера абмялела і штучна папаўняецца праз магістральны канал з р. Арэсы.

**ВЯШЭ́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Брусята (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Вяшэўка, упадае за 2 км на ПнЗ ад в. Ляськовічы. Берагі пад сельгасугоддзямі.



Возера **Вялікія Швакшты.**

# Г

**ГА́БКА,** рака, гл. *Патачанка.*

**ГАВЯЗНЯНКА,** рака ў Нясвіжскім і Стаўбцоўскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 163 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Завітая Нясвіжскага р-на, упадае ў Нёман на Пд ад в. Мікалаеўшчына. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГАДЗЕ́Я,** рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток Ушы (бас. Віліі).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 77 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Трапалава, цячэ па паўночных схілах Ашмянскага ўзвышша, упадае ва Ушу каля в. Вяжуці. На працягу 6 км каналізаваная (за 1,2 км на Пд ад в. Кавальцы да вусця). Каля в. Маркава на рацэ сажалка (пл. 0,04 км$^2$).

**ГАДЫНЬ,** возера ў Рэчыцкім р-не.

**Пл. 0,48 км$^2$.**
**Даўжыня 3,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,35 км.**

У бас. Дняпра, за 6 км на У ад г. Рэчыца, каля в. Капань. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі хмызняком. Берагі пераважна нізкія, забалочаныя. 2 астравы. На Пн злучана ручаём з воз. Крывы Гіраў, на Пд выцякае ручай у Дняпро.

**ГАЖА́НКА,** рака, гл. *Гожка.*

**ГАЗО́ЎКА,** Газонка, рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Віліі.

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 88 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Чыжоўшчына, упадае ў Вілію на ПдУ ад в. Патокі. На працягу 9,6 км рэчышча каналізаванае (выток — 1,5 км на ПдУ ад в. Загазь). У ніжнім цячэнні цячэ праз лес.

**ГАЙГО́ЛКА,** рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 4,7 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Міцюны, упадае ў Ашмянку на Пд ад в. Малыя Яцыны. На ўсім працягу каналізаваная. У вытоку магчымы пераліў у р. Упель.

**ГА́ЙНА,** рака ў Мінскай вобл., правы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 100 км.**
**Пл. вадазбору 1670 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 11,7 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне 100,7 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,01 ‰.**

Пачынаецца з крыніц на З ад в. Гайна Лагойскага р-на, працякае ў Смалявіцкім, далей у Барысаўскім р-нах, дзе за 1 км ад в. Весялова ўпадае ў Бярэзіну. Асноўныя прытокі: Усяжа (справа) і Цна (злева). У вярхоўі цячэ па Мінскім узвышшы, у ніжнім цячэнні — па Верхнебярэзінскай нізіне. Даліна трапецападобная, ніжэй упадзення Цны невыразная, шырыня яе ад 0,8—1,2 км у верхнім цячэнні да 2,5—3 км у ніжнім. Пойма да в. Свідна адсутнічае, на астатнім працягу двухбаковая, шырынёй 1—1,5 км. Рэчышча ў вярхоўі каналізаванае на 9 км (ад в. Гайна да в. Кузевічы), на астатнім працягу звілістае. Шырыня ракі ў межань у вярхоўі 2—4 м, ніжэй 10—16 м, у вусцевай частцы да 20 м. Берагі стромкія, часта абрывістыя, вышынёй 1—4 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка — пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над меžанным узроўнем 0,9—1,6 м, найбольшая 2,1 м. Рака замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Суднаходства за 30 км ад вусця ў высокую ваду. На рацэ г. п. Лагойск, плаціна і невялікае вадасховішча (у межах Лагойска). На вадазборы Гайны зоны адпачынку Гайна і Лагойшчына.

**ГАЛАВЕ́НЧЫЦЫ,** ручай у Чавускім р-не, левы прыток р. Вілейка (бас. Дняпра). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Антонаўка, вусце на паўднёвай ускраіне в. Галавенчыцы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае, каля вусця — плаціна і сажалка.

**ГАЛАВІ́НЦЫ,** ручай ў Ляхавіцкім р-не, правы прыток Ліпнянкі (прыток Шчары, бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Бенькаўцы, у сярэднім цячэнні цячэ праз лес, упадае ў Ліпнянку на ўсходняй ускраіне в. Ліпск. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГАЛАВІ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Шчучынскім р-не, правы прыток Лебяды (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Вялікія Казлы, упадае ў Лебяду за 1,5 км на ПнЗ ад в. Банюкі.

**ГАЛАДЗЯ́НКА,** Падкасцёлак, возера ў Астравецкім р-не.

**Пл. 0,33 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,49 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,59 км.**
**Аб'ём вады 1,32 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,7 км$^2$.**

У бас. р. Сарачанка, за 34 км на ПнУ ад г. п. Астравец, за 2,5 км на З ад в. Вялікая Страча, уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, на Пд да 15 м, парослыя лесам, на З і У разараныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, на З і Пд супадаюць са схіламі. Дно пясчанае, глыбей 2 м ілістае. На З выцякае ручай у воз. Галодна.

**ГАЛА́ЎНЯ,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,29 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,2 м.**
**Даўжыня 1,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,31 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,79 км.**
**Аб'ём вады 1,28 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 5,53 км$^2$.**

У бас. р. Лукомка, за 22 км на ПдУ ад г. Чашнікі, паміж вёскамі Будзілава і Мар'іна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, на З да 14 м, у верх-




**Возера Галаўня.**

няй частцы разараныя. Берагі нізкія. Пойма шырынёй ад 10 да 200 м, забалочаная, месцамі пад хмызняком. Дно ілістае, каля берагоў пясчанае. Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м. Упадае ручай з возера без назвы, на Пд пратока ў воз. Чарэйскае.

**ГАЛБЕ́ЦА,** рака, гл. *Галбіца.*

**ГАЛБЕ́Я,** Галбея Паўночная, возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,35 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.

У бас. р. Галбіца (цячэ праз возера), за 25 км на ПнУ ад г. Паставы, каля в. Галбея. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, разараныя. Берагі нізкія, на У і Пн зліваюцца са схіламі.

**ГАЛБЕ́Я ПАЎДНЁВАЯ,** гл. *Задняе возера.*

**ГАЛБЕ́Я ПАЎНО́ЧНАЯ,** возера, гл. *Галбея.*

**ГАЛБІ́ЦА,** Галбеіца, Галубейка, рака пераважна ў Пастаўскім р-не, правы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 63 км.
Пл. вадазбору 1050 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,6 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,97 ‰.

Пачынаецца за 0,5 км на ПдЗ ад в. Глінскія, цячэ ў межах Свянцянскіх град пад назвай Заражанка (на працягу 5 км у Мядзельскім р-не), ніжняе цячэнне на Полацкай нізіне, упадае ў Дзісну каля в. Мішуты Шаркоўшчынскага р-на. Асноўныя прытокі: Лаўрыха, Шурыца, Паловіца (злева), Чэртка, Карнееўка, Ласіца і Плісаўка (справа). Даліна трапецападобная, яе шырыня 200—400 м. Пойма шырынёй 50—150 м. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 11 км каналізаванае, у сярэднім і ніжнім цячэнні яго шырыня 20—30 м. Рака працякае праз азёры Задняе і Галбея, сажалкі каля в. Кезікі (пл. 22 га), в. Дунілавічы (пл. 22 га), г. п. Варапаева (пл. 47 га).

**ГАЛДАЎЛЯ́НКА,** рака, гл. *Голдаўка.*

**ГА́ЛІНА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 26 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 2 км на ПнЗ ад в. Нізінкі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м. На Пд і У вакол возера забалочаная пойма.

**ГАЛІ́НАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Галінаўскае возера, у Віцебскім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,35 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.



Рака Галбіца ў ніжнім цячэнні.

Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.

У бас. Зах. Дзвіны, за 44 км на ПнУ ад Віцебска, каля в. Галінава. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя. Злучана кароткім ручаём (250 м) з Зах. Дзвіной.

**ГАЛІНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,16 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.

У бас. р. Сосніца, за 42 км на ПнУ ад Полацка, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Палучча, сярод параслага хмызняком балота. Схілы катлавіны невыразныя.

**ГАЛО́ВЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Пл. вадазбору 4,88 км$^2$.

У бас. р. Палата, за 26 км на ПнУ ад Полацка, за 2 км на ПнУ ад в. Кулькі, сярод лесу. Пратокай злучана з воз. Чарвятка.

**ГАЛО́ДНА,** Галубінае возера, у Астравецкім р-не.

Пл. 0,14 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 21 м.
Даўжыня 0,78 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,81 км.
Аб'ём вады 1,13 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 4,3 км$^2$.

У бас. р. Сарачанка, за 34 км на ПнУ ад г. Астравец, за 3 км на З ад в. Вялікая Страча. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, на ПнЗ і ПдУ 12—14 м, пад лесам, на Пн разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі забалочаныя, усходнія парослі хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбакаводная зона ілістая. На ПнУ выцякае ручай у воз. Тумскае, на Пд упадае ручай з воз. Галадзянка.

**ГАЛО́ЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд ад г. Чэрвень, упадае ў Волму каля в. Іванічы. Перасякае забалочанае ўрочышча Галое.

**ГАЛОЎКІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток канала Корч (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад г. Васілевічы, упадае за 1,5 км на З ад в. Галоўкі. На меліяраваных землях у вярхоўі канала здабываецца торф.

**ГАЛО́ЎНАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток канала Бычок (бас. Прыпяці). Даўжыня 19 км. Пачынаецца за 8,5 км на Пд ад в. Бярэжцы, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Бечы.

**ГАЛО́ЎНАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Плаў (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Глушкавічы, вусце за 8,5 км на ПдУ ад в. Дзяржынск.

**ГАЛО́ЎНАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток р. Крушынная (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 3,5 км на Пд, вусце за 8,5 км на У ад в. Бечы.

**ГАЛО́ЎНЫ ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Баравая, вусце за 2 км на У ад в. Вялікі Рожан.

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім і Жыткавіцкім р-нах, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 6,9 км на ПдЗ ад в. Навіна Салігорскага р-на, вусце за 1,8 км на ПдЗ ад в. Сукачы Жыткавіцкага р-на. Да 1970 па канале ў разводдзе ажыццяўляўся пераліў вады з р. Лань у р. Случ.

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Бярозаўскім р-нах, у бас. Прыпяці. Даўжыня 14,2 км. Пачынаецца з Днепра-Нёманскага канала, за 5 км на ПдУ ад в. Жытлін Івацэвіцкага р-на, упадае ў Спораўскае возера з ПнУ, за 3,5 км на У ад в. Спорава Бярозаўскага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Днепра-Нёманскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Козікі, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Вулька Аброўская. Сярэдняе і ніжняе цячэнне канала праходзіць па былой канаве Жыдоўка.

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца ў сутоках Собельскага канала і Сасновіцы (Заазёрнай канавы) за 8 км, вусце за 11 км на ПдУ ад в. Гоцк.

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** гл. *Аброўскі канал.*

**ГАЛО́ЎНЫ КАНА́Л,** гл. *Жыроўскі канал.*

**ГАЛО́ЎНЫ ПРА́ВЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачы-

наецца за 5 км на У ад в. Рэчыца, вусце за 6,5 км на ПнУ ад в. Спорава. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ГАЛОЎНЫ СТАРЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 5,8 км на ПнУ, вусце за 8 км на У ад в. Спорава.

**ГАЛОЎЧЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнУ ад в. Ляшчэўнік, упадае ў Вабіч каля в. Галоўчын.

**ГАЛОЎЧЫЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Драгічынскім р-не.

Пл. 0,59 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Аб'ём вады 2,2 млн. м$^3$.**

За 18 км на ПдЗ ад г. Драгічын, каля в. Галоўчыцы. Створана ў 1979 для арашэння зямель. Даўжыня агараджальнай дамбы 9,5 км. Напаўняецца вадой з Галоўчыцкага канала і ў паводку па падводзячым канале з Дняпроўска-Бугскага канала (за 2,5 км). Ваганні ўзроўню на працягу года 4,3 м. Сярэднегадавы аб'ём сцёку 3,14 млн. м$^3$.

**ГАЛОЎЧЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 33 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Бобрык, вусце за 1 км на Пн ад в. Дземенка.

**ГАЛУБА,** рака ў Краснапольскім і Слаўгарадскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 84 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Асінаўка Краснапольскага р-на, вусце каля в. Кліны Слаўгарадскага р-на. Вадазбор на Чачорскай раўніне. Рэчышча каналізаванае на працягу 9 км ад вытоку.

**ГАЛУБІНА,** рака ў Горацкім і Шклоўскім р-нах, левы прыток р. Бася (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 92 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на З ад в. Гулідаўка Горацкага р-на, вусце каля в. Ордаць Шклоўскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 8,9 км ад вытоку. Каля в. Аўсянка на рацэ плаціна і сажалка.

**ГАЛУБІНАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Галодна.*

**ГАЛУБІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Прыпяці. Даўжыня 11,8 км. Пачынаецца каля в. Брынёў, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Ляскавічы.

**ГАЛЧЫЦА,** Галчыцы, рака ў Міёрскім р-не, правы прыток р. Хараброўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,4 км. Выцякае з воз. Глыбокае з ПнУ за 0,5 км на У ад в. Апанасенкі, вусце за 4,5 км на ПнЗ ад в. Камянполле. Цячэ ў межах гідралагічнага заказніка Балота Мох, па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ГАЛЫНЕЦ,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
**Даўжыня 0,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Будавіца (верхняе цячэнне р. Будавесць), за 14 км на З ад г. п. Шуміліна, каля в. Латкова, сярод балота. Схілы катлавіны невыразныя.

**ГАЛЬША,** Гольша, рака ў Горацкім і Дрыбінскім р-нах, правы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 37 км.**
**Пл. вадазбору 225 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,4 м$^3$/с.**

Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Чапялінка Горацкага р-на, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Дрыбін. Асноўны прыток — р. Дабранка (справа). Вадазбор на паўночнай ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна скрынкападобная, глыбокаўрэзаная, шырыня яе 0,5—1 км. Пойма двухбаковая, месцамі забалочаная, шырынёй 0,2—0,7 км. Рэчышча каналізаванае на 10 км ад вытоку, ніжэй свабодна меандруе, звілістае, шырыня ракі ў ніжнім цячэнні ў межань 8—10 м. Берагі стромкія, абрывістыя, парaслі лесам.

**ГАЛЬЦОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Стыр (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Лазічы, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Гальцы.

**ГАЛЬШАНКА,** назва р. *Альшанка* ў верхнім цячэнні.

**ГАЛЯДЗА,** рака ў Докшыцкім р-не, левы прыток Сэрвачы (бас. Віліі).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 110 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца на ПнУ ад в. Барсукі, упадае ў Сэрвач на Пн ад в. Мураўшчына. У вярхоўі на працягу 6 км каналізаваная. У ніжнім цячэнні (ніжэй в. Заборцы) цячэ праз лес.

**ГАЛЯНКА,** Алянка, Алянскі канал, рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Вайцехава, упадае ў Ашмянку на ПнУ ад в. Агароднікі. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГАНАЛЕС,** адна з назваў (да 1960) *Заслаўскага вадасховішча.*

**ГАНУТКА,** рака ў Чэрвеньскім і Бярэзінскім р-нах, правы прыток р. Уса (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 90 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Горкі Чэрвеньскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Галоўныя Ляды. Ад вытоку на працягу 13 км рэчышча каналізаванае. Каля в. Вялікая Ганута пабудаваны плаціна і сажалка.

**ГАНУТКА,** рака ў Смаргонскім і Вілейскім р-нах, правы прыток р. Нарач (бас. Віліі). Даўжыня 12 км. Пл. вадазбору 59 км$^2$. Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰. Пачынаецца каля в. Куляшы, упадае ў Нарач на паўднёвай ускраіне в. Ручыца. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГАНЦАВІЦКІ КАНАЛ,** Нагорны канал, меліярацыйны канал у Лагойскім р-не, левы прыток р. Цна (бас. Дняпра). Даўжыня 29 км. Адыходзіць ад Цны за 4 км на Пн ад в. Прусавічы, зліваецца з Цной за 1,8 км на ПнЗ ад в. Зацэнне.

**ГАНЧАНКА,** рака ў Клічаўскім р-не, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра). Даўжыня каля 13 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Гонча меліярацыйнымі канавамі з тарфянога масіву, які асвоены торфапрадпрыемствам «Ганчаскае», вусце за 1 км на Пд ад моста цераз Ольсу на чыгунцы Магілёў — Асіповічы. Рэчышча ў вярхоўі і каля в. Гонча каналізаванае. Па берагах пераважае лес.

**ГАРАВАХА,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток Даманавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Дамачава, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Запераходная.

**ГАРАДЗЕЙКА,** рака ў Стаўбцоўскім і Нясвіжскім р-нах, правы прыток Ушы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 53 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**




**Возера Галодна.**

Пачынаецца на У ад в. Новая Вёска Стаўбцоўскага р-на, цячэ праз г. п. Гарадзея, упадае ва Ушу на У ад в. Студзенкі Нясвіжскага р-на. Ад вусця на 1 км каналізаваная.

**ГАРАДЗЕЙКА,** рака, гл. *Гарадніца.*

**ГАРАДЗЕЦ,** рака ў Слаўгарадскім і Чавускім р-нах, левы прыток р. Крупка (бас. Дняпра). Даўжыня 2,5 км. Пачынаецца за 1,6 км на ПнЗ ад в. Любаны Слаўгарадскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Палоева Чавускага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГАРАДЗЕЧАНКА,** рака ў Клічаўскім р-не, левы прыток р. Нясета (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 65 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Красны Лес, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Дулебня. У вярхоўі рэчышча часткова каналізаванае.

**ГАРАДЗЕЧНА,** назва р. *Дахлоўка* ў верхнім цячэнні.

**ГАРАДЗЕШНЯ,** рака ў Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Дзяражня (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,5 км ад в. Гарадзешня 1-я, вусце за 0,8 км на У ад в. Кісялядзь. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Берагі пераважна пад лесам.

**ГАРАДЗЕЯ,** рака, гл. *Гарадніца.*

**ГАРАДЗІШЧА,** Негразa, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,8 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 2,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 1,57 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,3 км².**

У бас. р. Ладасна, за 16 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Уліцінкі. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, разараныя. Берагі пясчаныя, вышынёй да 0,6 м, на З сплавінныя. На З прымыкае хмызняковае балота. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей 2 м дно сапрапелістае. Зарастае па ўсёй плошчы. На Пн выцякае ручай у воз. Ладасна.

**ГАРАДЗІШЧА,** гл. *Палескае возера.*

**ГАРАДЗІШЧА,** вадасховішча ў Шклоўскім р-не.

**Пл. 0,39 км².**
**Найбольшая глыбіня 9 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Аб'ём вады 1,19 млн. м³.**

На р. Чавенка (правы прыток Басі), за 20 км на У ад г. Шклоў, каля в. Гарадзішча. Створана ў 1982 для арашэння зямель, рыбагадоўлі, воднага забеспячэння навакольных вёсак. Берагі слаба парэзаныя, правы парослы рэдкім хмызняком, левы пад лугам. Ваганні ўзроўню на працягу года 3 м.

**ГАРАДЗЯНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.**

У бас. р. Выдрыца, за 17 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, каля в. Іважнава. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, разараныя, на Пд і У вышынёй да 15 м, пад лесам. Берагі высокія, на Пд і У зліваюцца са схіламі. Злучана ручаём з воз. Вербна.

**ГАРАДНІЦА,** Гарадзея, Гарадзейка, рака ў Нясвіжскім р-не, левы прыток Ушы (бас. Немана).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 24 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Малаеды, цячэ ў межах Капыльскай грады, упадае ва Ушу на ПнУ ад в. Еськавічы. На працягу 9,1 км каналізаваная (ад паўночна-ўсходняй ускраіны в. Малаеды да вусця), у сярэднім цячэнні прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў. У выніку меліярацыі вусцевая частка ракі атрымала новае рэчышча. У вярхоўі створана сажалка (пл. 0,16 км²).

**ГАРАДНЯНКА,** рака, гл. *Скуп'я.*

**ГАРАДОК,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Дняпрэц (бас. Дняпра). Даўжыня каля 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Жаўлачоўка, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Шалахаўка. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,3 км каналізаванае.

**ГАРАЖАНКА,** рака, гл. *Дальняя канава.*

**ГАРАЖАНКА,** назва р. *Усыса* ў верхнім цячэнні.

**ГАРАЖАНСКАЯ,** рака ў Віцебскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца з воз. Уцянскае, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша. Упадае ў воз. Княжно з ПнУ.

**ГАРАНКА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Чорная (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Падсолтава, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Чарнілава. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГАРАНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 1,6 км².**
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Шоша, за 14 км на ПдУ ад г. Глыбокае, за 1 км на ПнЗ ад в. Іванаўшчына, сярод балота, парослага хвояй.

**ГАРАСЯНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Крашанка, за 3 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Ваўчо. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, разараныя. Выцякае ручай у р. Крашанка.

**ГАРАЧА,** Горач, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Чапунькі (бас. Нёмана). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Шавёлы, упадае ў Чапуньку за 1 км на У ад в. Лаздуны. Амаль на ўсім працягу каналізаваная.

**ГАРБАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток канала Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Мураве́йніца, вусце за 2 км на Пн ад в. Гарбавіцкая Рудня.

**ГАРБАХСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім і Іванаўскім р-нах, правы прыток р. Нягуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Гута Драгічынскага р-на, вусце за 2 км на




Возера Гародна (Расонскі раён).




Возера Гародна (Віцебскі раён).

ПдУ ад в. Варацэвічы Іванаўскага р-на.

**ГАРБАЧО́ЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, упадае ў Шчару за 2,5 км на ПнЗ ад в. Гарбачы. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ГАРБІ́НЕЦ**, возера ў Верхнядзвінскім р-не

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 75 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Свольна (правы прыток Дрысы), за 39 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на Пд ад в. Лісна, каля ўсходняга берага воз. Страдань, сярод лесу. Схілы катлавіны стромкія, вышынёй 15—20 м.

**ГАРВЕ́ЖКА**, рака, гл. *Гервятка*.

**ГАРНА́**, рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах, правы прыток р. Вымнянка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 16,8 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Свяцішча Лёзненскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне г. п. Янавічы Віцебскага р-на. Прыток Паловец (злева). Рэчышча ад в. Загарадна Лёзненскага р-на ўніз па цячэнні на працягу 8,1 км каналізаванае.

**ГАРНАСВЕ́ЧЧА**, Дыбалёўскае возера, у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,63 км$^2$.**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,05 км.**
**Пл. вадазбору 13,7 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 17 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Дыбалі. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад лесам, на ПдУ разараныя. Берагі супадаюць са схіламі. Злучана ручаём з воз. Плацішна, упадае Бортніцкі канал, выцякае ручай у р. Ула.

**ГАРО́ДНА**, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,9 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 2,41 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,24 км.**
**Аб'ём вады 2,9 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 10,8 км$^2$.**

У бас. р. Нішча, за 17 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на Пн ад в. Гарбачэва. Схілы катлавіны вышынёй 12—15 м, на ПнУ да 25 м, пад лесам. Берагі нізкія, на Пн супадаюць са схіламі, да ўрэзу вады расце хмызняк. Пойма шырынёй да 100 м, на У і З забалочаная. Мелкаводдзе вузкае, дно пясчанае, глыбей 4 м сапрапелістае. Шырыня паласы расліннасці да 25 м. На З выцякае ручай у воз. Шэвіна.

**ГАРО́ДНА**, возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,87 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8 м.**
**Даўжыня 1,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,92 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,05 км.**
**Пл. вадазбору 16 км$^2$.**

У бас. р. Лучоса, за 10 км на Пд ад Віцебска, каля в. Сасноўка. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на У да 10 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя. Мелкаводдзе шырокае і спадзістае. Дно пясчанае, глыбей 2—4 м ілістае. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1 м, падводная да 3 м.

**ГАРО́ДНА**, возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,85 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 2,04 км.**
**Найбольшая шырыня 0,69 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,25 км.**
**Аб'ём вады 3,42 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3,3 км$^2$.**

У бас. р. Астроўніца (выцякае з возера), за 26 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Гародна. Схілы катлавіны вышынёй ад 12 м да 22 м, пад хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі на ПнУ і ПдЗ нізкія. 2 астравы агульнай пл. 0,4 га. Мелкаводдзе вузкае (10—20 м), пясчанае, у цэнтры ілістае дно. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 30 м.

**ГАРО́ДНА**, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,28 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.**
**Пл. вадазбору 87 км$^2$.**

У бас. р. Заходняя Дзвіна, за 15 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Гародна. Схілы катлавіны разараныя, на У узвышаныя, параслі хмызняком. Злучана ручаямі з азёрамі Сосна і Лезвінка.

**ГАРО́ДНА**, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,17 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 22,9 м.**
**Даўжыня 0,98 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,79 км.**
**Аб'ём вады 1,46 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 28,8 км$^2$.**

У бас. р. Альзініца, за 15 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Белюкоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 30—40 м, параслі лесам і хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. Прыбярэжная частка дна да глыбіні 6—7 м пясчаная, глыбей выслана ілам. Надводная расліннасць утварае перарывістую паласу шырынёй да 5 м, падводная пашырана да глыбіні 3,5 м. Выцякае ручай у воз. Вітава.

**ГАРО́ДНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,06 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 33 км на ПнУ ад Полацка, за 3,6 км на ПдУ ад вусця Дражбіткі. Схілы катлаві-




**Возера Гародна** (Віцебскі раён).




**Возера Гародна** (Бешанковіцкі раён).




**Возера Гародна** (Ушацкі раён).

ны на Пд вышынёй да 5 м, астатнія невыразныя, парослі хмызняком, месцамі пад забалочаным лугам. Упадаюць 2 ручаі (адзін з воз. Бочава), выцякае ручай у воз. Лоўжа.

**ГАРО́ЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 16 км. Пачынаецца каля в. Рудніца, вусце за 3,5 км на ПдЗ ад в. Смалянка.

**ГАРО́ШКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Кананаўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Гарошкаў, вусце за 3,5 км на Пд ад в. Дубровіца. Па берагах забалочаны лес.

**ГАРО́ШКАЎСКІ КАНА́Л,** Л і п н і ц к і к а н а л, меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток канала Ліпнікі (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 3,6 км на ПнУ ад в. Ліпнікі, вусце каля гэтай жа вёскі.

**ГАРУЖА́НКА,** Г р а ў ж а н к а, рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 74 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Шчапанавічы, цячэ ў межах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Ашмянку на Пд ад в. Будзёнаўка. На працягу 7,1 км каналізаваная (выток — 1,7 км на ПнЗ ад в. Гароднікі).




**Возера Гародна (Ушацкі раён).**

**ГАРУ́ШКА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,9 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,13 км.**
**Аб'ём вады 0,5 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 15 км на З ад г. Міёры, каля в. Ніўкі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, на Пн да 15 м, месцамі пад лесам. Пойма на З і ПнУ уздоўж ручая забалочаная, яе шырыня 50—100 м. Злучана ручаём з воз. Абстэрна.

**ГАРЧАКО́ЎКА,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Сакалоўка, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Чамяры.

**ГАРЫ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток р. Гарынь (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Лядзец, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Хорск.

**ГАРЫ́НЬ,** рака ў Брэсцкай вобл., правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 659 км.**
**Пл. вадазбору 27,7 тыс. км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 110 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні на тэрыторыі Беларусі 0,1 ‰.**

Пачынаецца ў Цярнопальскай вобл. Украіны, цячэ ў межах Падольскага і Валынскага ўзвышшаў, ніжняе цячэнне на Прыпяцкай нізіне, на Беларусі — у Столінскім р-не. Асноўныя прытокі на тэрыторыі Украіны: Случ (справа), Стубла, Вілія (злева). Упадае ў Прыпяць 2 рукавамі (левы называецца Вятліца) у слаба асвоенай і незаселенай мясцовасці. Даўжыня ў межах Беларусі 82 км, пл. вадазбору 1,2 тыс. км$^2$. Даліна ракі трапецападобная, на тэрыторыі Беларусі невыразная, дасягае шырыні 2,5 км. Пойма двухбаковая, шырыня ў верхнім цячэнні 0,1—0,7 км, сярэднім 1—1,5 км, у ніжнім да 2,5 км. Рэчышча звілістае, шырыня яго ў ніжнім цячэнні 150—200 м. Суднаходства пачынаецца на адлегласці 291 км ад вусця. На тэрыторыі Беларусі на рацэ гарады Столін і Давыд-Гарадок.

**ГАРЭЛЕЦКІ КАНА́Л,** рака, гл. *Талька.*

**ГАРЭ́НЦКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Бярэзінскім р-не.

**Пл. 1,08 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 15 км.**
**Пл. вадазбору 480 км$^2$.**

На р. Клява, за 5 км на Пд ад г. Беразіно, каля в. Гарэнічы. Створана



**Рака Гарынь каля Давыд-Гарадка Столінскага раёна.**

ў 1951 для рыбагадоўлі, рэкрэацыі і арашэння, у 1972 рэканструявана. Берагі пад ворывам і пашай, левы спадзісты, правы больш стромкі, вышынёй 1,5—2,5 м. Сярэднегадавы аб'ём сцёку 94 млн. м$^3$. Ваганні ўзроўню на працягу года 1—1,5 м. Зарастае ў вярхоўі і каля берагоў.

**ГАСТ,** Г а с т о к, к а н а л Б а г д а н а ў с к і, рака на мяжы Валожынскага і Іўеўскага р-наў, правы прыток ручая Клімок (бас. Нёмана).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 48 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца каля в. Якімаўшчына, цячэ па забалочанай, лясістай мясцовасці, упадае ў Клімок каля х. Шыльвы-Бор. На працягу 5,8 км каналізаваная (ад вытоку да в. Добавічы).

**ГАСЦІ́БІШЧА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,08 км$^2$.**
**Даўжыня 0,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,29 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 25 км на ПдУ ад г. Гарадок, за 1 км на ПдЗ ад в. Бярозна, сярод лесу. Схілы вышынёй да 2 м. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 100 м.

**ГАСЦІ́НЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,14 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.**

У бас. р. Нішча, за 16 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на Пн ад в. Гарбачэва. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, парослі хмызняком, месцамі разараныя.

**ГАСЦЯ́ТНАЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,62 км.**

У бас. р. Нішча (правы прыток Дрысы), за 19 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Лямно, сярод забалочанага лесу. Схілы кат-

лавіны на 3 вышынёй да 10 м, на астатніх участках вакол возера невялікія разараныя ўзгоркі. Пойма забалочаная.

**ГАТКА,** ручай, гл. *Прудовая.*

**ГАЎРЫЛЕНКІ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на У ад г. п. Ушачы, за 0,4 км на ПнУ ад в. Гуські, каля воз. Крывое. Схілы катлавіны на Пд і З стромкія, вышынёй да 18 м, пад лугам. На Пн паміж воз. Гаўрыленкі і воз. Крывое невялікія ўзгоркі вышынёй да 2 м.

**ГАЎЯ,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 100 км (у межах Беларусі 68 км).**
**Плошча вадазбору 1680 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 13,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца на паўднёва-заходніх схілах Ашмянскага ўзвышша Шальчынінскага р-на Літвы. Асноўныя прытокі: Клява, Якунька, Апіта, Жыжма. Даліна выразная. Пойма лугавая, яе шырыня ад 0,1 да 0,9 км. Рэчышча звілістае, на асобных участках каналізаванае, шырыня яго ў межань 12—20 м. Берагі стромкія. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у 2-й палове сакавіка. На левым беразе ў в. Жамыслаўль помнік прыроды — Жамыслаўскі ясень.

**ГАЦЬ,** рака ў Смалявіцкім і Чэрвеньскім р-нах, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра).

**Даўжыня 29 км.**
**Пл. вадазбору 210 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Пяцігодка Смалявіцкага р-на, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Лежні Чэрвеньскага р-на. Асноўны прыток — р. Дыеўка. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГАЦЬ,** рака ў Нясвіжскім і Клецкім р-нах, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Хрыпкава Нясвіжскага р-на, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Ліпка Клецкага р-на. Рэчышча 4 км ад вусця каналізаванае.

**ГАЦЬ,** вадасховішча ў Баранавіцкім р-не.

**Пл. 1,26 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 3,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 3,15 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 249 км².**

На р. Лахазва, сярод лесу, за 22 км на ПдЗ ад Баранавіч, каля в. Яжона. Створана ў 1934 для энергетычных мэт. Берагі моцна парэзаныя, спадзістыя, пад лесам. Дно выслана торфам і ілам. Ваганні ўзроўню на працягу года 0,6 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 32 млн. м³. Выкарыстоўваецца для адпачынку (турбаза «Лясное возера», піянерскія лагеры), рыбагадоўлі.

**ГАЧЧА,** возера ў Полацкім р-не на мяжы з Расонскім.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 3,5 км на Пд ад в. Марыніца, сярод балота. Сцёк з возера па балоце ў р. Марынец (левы прыток Дрысы).

**ГАШЧАНСКІ КАНАЛ,** А ш а н с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Святая Воля, упадае ў вадасховішча Гошча з Пн каля в. Гошча.

**ГВАЗДОК,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**
**Пл. вадазбору 1 км².**

У бас. р. Свіна, за 52 км на ПнУ ад Полацка, на ПдУ ад азёрных заказнікаў Глыбокае-Чарбамысла і Вялікае Астравіта, каля в. Белая. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, пад лесам. Злучана ручаём з воз. Вялікае Белае.

**ГВАЗДОК,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Свіна, за 38 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 2 км на ПнЗ ад в. Майсеева, паміж азёрамі Асотна і Малое Свіна, сярод забалочанага лесу.

**ГВАЗДОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 11 км на ПнЗ ад Полацка, у в. Гваздова. Схілы катлавіны вышынёй 2 м, пад пабудовамі і агародамі. Упадае ручай.

**ГВОЗНА,** рака ў Пружанскім р-не і ў Польшчы, правы прыток Нараўкі (бас. Зах. Буга). Агульная даўжыня 19 км, у Беларусі — 8 км. Пачынаецца сярод лесу, за 3 км на ПнУ ад в. Хвойнік, цячэ праз Белавежскую пушчу. У вытоку праз сетку меліярацыйных каналаў злучаецца з Нараўкай. На тэрыторыі Беларусі рэчышча каналізаванае.

**ГДЗЕНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток Левабярэжнага прыдамбавага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 3 км на Пн, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Гдзень.

**ГЕЗГАЛЬСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Дзятлаўскім р-не.

**Пл. 1,22 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9 км.**
**Аб'ём вады 1,22 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1120 км².**

На р. Моўчадзь (за 9 км ад вусця), за 14 км на Пн ад г. п. Дзятлава, каля в. Гезгалы. Створана ў 1959 для энергетычных мэт і рыбагадоўлі. Правы бераг вышынёй 2,5—3 м, парослы хваёвым лесам, левы пад лугам. Ёсць 9 астравоў агульнай пл. 0,1 км². Дно выслана ілам і пяском. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню 70—80 см. Сярэдні шматгадовы сцёк 278 млн. м³. Залівы і вярхоўе зарастаюць. Вакол вадасховішча зона адпачынку.




Вадасховішча Гаць.




Гезгальскае вадасховішча.

**ГЕРВЯТКА,** Г а р в е ж к а, рака ў Смаргонскім р-не, левы прыток Оксны (бас. Віліі).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 40 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,3 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Слабсны, цячэ па паўночных схілах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Оксну у межах Смаргоні. Каля в. Асінаўка сажалка (пл. 0,19 км²).

**ГІЖЭНКА,** рака, гл. *Трасліўка.*

**ГІЛЯ,** рака, у Воранаўскім р-не, пра-

вы прыток Сольчыцы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца на ПдУ ад х. Кодзі, упадае ў Сольчыцу на ПнЗ ад в. Драбішуны. На ўсім працягу каналізаваная. Каля в. Драбішуны створана сажалка (пл. 0,19 км$^2$).




Гінькава возера.




Гінькава возера.

**ГІНЬКАВА ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 43,3 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,29 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,84 км.**
**Аб'ём вады 7,97 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4,4 км$^2$.**

У бас. р. Нехрысць, за 33 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 4,5 км на Пн ад в. Зябкі. 3-е па глыбіні на Беларусі. Схілы катлавіны вышынёй 20—30 м, вельмі стромкія, пад хмызняком. Берагі супадаюць са схіламі. Мелкаводдзе (глыбіня да 2 м) вельмі вузкае. Дно да глыбіні 6—10 м пясчанае, потым ілістае. Зарастае слаба. Шырыня паласы расліннасці да 25 м.

**ГІ́РНАВА**, возера у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 75 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Друйка, за 9 км на Пн ад г. Браслаў, за 1 км на ПнЗ ад в. Дудалі, на Пн ад воз. Струста, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны на Пд вышынёй да 2 м.

**ГЛЕ́НБАЎКА**, меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток Прыпяці. Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Сітніца, вусце за 4 км на Пд ад в. Запроссе (упадае ў старарэчча (воз. Глыбокае) на пойме Прыпяці).

**ГЛЕ́БКАЎКА**, Глебаўка, рака ў Мінскім і Смалявіцкім р-нах, правы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Глебкавічы Мінскага р-на, вусце каля в. Волма Смалявіцкага р-на. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Па берагах ракі пераважае лес.

**ГЛЕ́ХАЎКА**, рака, гл. *Плехаўка*.

**ГЛІ́НА**, рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, левы прыток р. Ліпа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Салтанаўка, вусце на паўночнай ускраіне в. Польпін. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. У пойме ракі каля в. Бронніца плаціна і сажалка.

**ГЛІ́НА**, Глінка, Гнілка, рака ў Рагачоўскім і Чачэрскім р-нах, левы прыток р. Дулепа (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Бярозавы Гай Рагачоўскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Асінаўка Чачэрскага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГЛІ́НЕЦ**, ручай у Чэрыкаўскім р-не, правы прыток р. Волчас (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 42 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад п. Красны, вусце за 1 км на У ад в. Зоры. Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне.

**ГЛІ́НЕЦ**, возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,15 км$^2$.**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,38 км.**

У бас. р. Бярвенка, за 37 км на ПнУ ад Гродна, за 6 км на ПдУ ад в. Новая Руда, сярод ляснога масіву. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя, на Пн сплавінныя.

**ГЛІ́НІЦА**, рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток р. Сха (бас. Дняпра). Даўжыня 9,8 км. Асноўны прыток — р. Ракаўка. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Стоцберг, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Высокі Бераг. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Па берагах пераважаюць участкі лесу, у сярэднім цячэнні масіў меліяраваных сельгасугоддзяў.

**ГЛІ́НІЦКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Мазырскім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**

Азёрападобнае расшырэнне рэчышча р. Скалодзіна (бас. Прыпяці), за 42 км на З ад Мазыра, каля в. Глініца. Заходнія і паўночна-ўсходнія берагі пад лесам.

**ГЛІ́НІШЧЫ**, меліярацыйны канал у Уздзенскім р-не, правы прыток Нёмана. Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Забалацце, упадае ў Нёман на ПнУ ад п. Занёманец. Прыток — канава Крыса.

**ГЛІ́НКА**, меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток Дубайскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Глінка.

**ГЛІННАСЛАБО́ДСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Глінная Слабада.

**ГЛІ́НСКІЯ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,62 км.**

У бас. р. Палата (правы прыток Зах. Дзвіны), за 45 км на ПнУ ад Полацка, за 3,7 км на Пн ад в. Вялікае Сітна, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя, уздоўж заходняга берага озавая града вышынёй 15 м.

**ГЛІНЯ́НКА**, рака ў Мастоўскім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 12 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Струга, упадае ў Нёман на У ад в. Падбараны. Ад вытоку на працягу 5,3 км каналізаваная.

**ГЛІ́СНА**, возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Храпаўлянка, за 7 км на ПдУ ад г. Гарадок, за 0,5 км на У ад в. Мар'япаль. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на 3 пад лесам, на У разараныя. Уздоўж заходняга берага забалочаная. пойма вышынёй 50—75 м.

**ГЛІ́СНА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 28 км на У ад г. п. Ушачы, паміж паўднёвымі залівамі воз. Крывое. Размешчана сярод лясістых узгоркаў вышынёй 15 м.

**ГЛО́ДАВА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,35 км².**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4 км.**
**Аб'ём вады 1,19 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 13,6 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 6 км на Пд ад г. Паставы, на У ад в. Сімонькі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, на Пд і У да 10 м, парослыя хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, месцамі высокія, пад хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, дно пераважна іліістае. Зарастае да глыбіні 3 м. На Пд упадае ручай з воз. Доўжа, на Пн выцякае ручай у воз. Задзеўскае.

**ГЛО́ДАЎКА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Спорыца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца з воз. Глодава, вусце за 1 км на У ад в. Дукі. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,9 км каналізаванае.

**ГЛУБЕ́ЛЬКА,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Найбольшая глыбіня 17 м.**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,66 км.**
**Аб'ём вады 0,55 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,41 км².**

У бас. р. Страча, за 35 км на ПнЗ ад г. Мядзел, за 2,5 км на ПнУ ад в. Альшэва, у межах ландшафтнага заказніка Блакітныя азёры. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м (на У да 35 м), пясчаныя і супясчаныя, парослі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком, на У і ПнЗ зліваюцца са схіламі. У цэнтры возера востраў пл. 0,1 га. Дно сапрапелістае. Вызначаецца высокай празрыстасцю і чысцінёй вады, маляўнічым наваколлем. Упадае ручай з воз. Ячменец, выцякае ручай у воз. Глубля. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 10 м. У возеры расце мечтрава — рэдкі для Беларусі ахоўны від расліны, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу.




**Возера Глубелька.**

**ГЛУ́БЛЯ,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,47 км².**
**Найбольшая глыбіня 26,8 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,3 км.**
**Аб'ём вады 5,05 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,43 км².**

У бас. р. Страча, за 35 км на ПнЗ ад г. Мядзел, за 2 км на ПнУ ад в. Альшэва, у межах ландшафтнага заказніка Блакітныя азёры. Схілы катлавіны вышынёй да 35 м, пясчаныя, парослі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і Пд забалочаныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. Вызначаецца высокай празрыстасцю і чысцінёй вады, маляўнічым наваколлем. Упадае ручай з воз. Глубелька, выцякае ручай у р. Страча. Шырыня паласы надводнай расліннасці 4—20 м, падводная расліннасць пашырана да глыбіні 7 м.

**ГЛУ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ, вусце за 1 км на У ад г. п. Глуск.



**Возера Глубелька зімою.**

**ГЛУ́ХАВА,** возера ў Лідскім р-не. Пл. 0,15 км². У бас. р. Нёман, за 14 км на ПдУ ад г. Ліда, за 3 км на З ад в. Дакудава, сярод балота.

**ГЛУ́ХАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, прыток Брагінкі (бас. Дняпра). Даўжыня 14,9 км. Адыходзіць ад Краснагорскага канала за 3 км на Пн ад в. Сабалі, уліваецца ў Сярэднюю Брагінку на паўднёвай ускраіне в. Спярыжжа.




**Возера Глубля.**




**Возера Глыбач.**

**ГЛУХА́Я,** рака ў Сенненскім і Аршанскім р-нах, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5 км. Выцякае з воз. Ардышэва, упадае ў воз. Дзевінскае з Пд. Рэчышча на працягу 4,8 км ад вытоку каналізаванае.

**ГЛУХА́Я ЛАНЬ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток Сітніцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,9 км. Пачынаецца з Сітніцкага канала за 4 км на ПнУ ад в. Сітніцкі Двор, вусце за 3 км на Пд ад в. Сітніца. Па канале падаецца вада ў вадасховішча за 1 км на З ад в. Сітніца.

**ГЛУХО́Е ВО́ЗЕРА,** у Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Страча, за 35 км на З ад г. Мядзел, за 0,5 км на Пн ад г. п. Свір. Вакол возера забалочаная пойма. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі сплавінныя. Злучана канавай з воз. Свірнішча.

**ГЛУХО́Е ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Дрыса за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 6,5 км на ПнУ ад в. Шчаперня, сярод парослага хмызняком балота.

**ГЛУХО́Е ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Нішча (правы прыток Дрысы), за 7 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 600 м на Пн ад в. Глоты. Схілы катлавіны вышынёй за 3 м, пад лесам. На Пн і ПдЗ забалочаная пойма шырынёй 50—200 м. На Пн выцякае ручай у воз. Чарапецкае.

**ГЛУХО́Е ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Расонка (правы прыток Нешчарды), за 5 км на Пд ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Азярцы, сярод забалочанага лесу. Выцякае ручай у р. Расонка.

**ГЛУШАНО́К,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Рычанка, за 14 км на З ад г. Браслаў, за 2 км на У ад в. Пустаселле. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, разараныя, на З невыразныя, параслі забалочаным хмызняком і лесам. Пойма шырынёй 50—100 м, на ПнУ забалочаная. Выцякае ручай у воз. Чартоўскае.

**ГЛУШЭ́Ц,** возера ў Гомельскім р-не.

**Пл. 0,48 км².**
**Даўжыня 4,77 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,7 км.**

На пойме р. Сож, за 20 км на Пд ад Гомеля, за 1 км на Пн ад в. Старыя Дзятлавічы. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй 5—6 м, параслі лесам і хмызняком, на Пн участкамі разараныя. Упадае р. Случ-Мільча, выцякае ручай у р. Сож.

**ГЛУШЭ́Ц,** возера ў Лоеўскім р-не. Пл. 0,32 км². У бас. р. Днепр, за 25 км на Пн ад г. п. Лоеў, каля в. Чаплін. Старычнае.

**ГЛЫ́БА,** Глуба, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 1,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,7 м.**
**Даўжыня 3,46 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9 км.**
**Аб'ём вады 7,44 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 33,2 км².**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на ПнУ ад г. п. Расоны, каля в. Шарстова. Схілы катлавіны вышынёй 13—14 м, пад лесам і хмызняком. Берагі пясчаныя, да ўрэзу вады расце хмызняк, на Пн — лес. Нешырокая пойма (5—10 м) парасла хмызняком, вакол заліваў пашыраецца да 250 м, забалочаная. Ва ўсходняй частцы возера востраў пл. 0,7 га. Дно пясчанае, глыбей 2—3 м ілістае. Злучана пратокай з воз. Дрысы. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 2,5—3 м.

**ГЛЫ́БАЧ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Найбольшая глыбіня 18,5 м.**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,66 км.**
**Аб'ём вады 1,08 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 24 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнУ ад в. Бярозава, на ПнУ ад воз. Бярозаўскае. Схілы катлавіны вышынёй да 13 м, на З і Пд 2—4 м, парасլі хмызняком. Берагі супадаюць са схіламі, на Пн і З нізкія. Выцякае ручай у воз. Бярозаўскае.

**ГЛЫ́БАЧКА,** рака ў Шумілінскім р-не, правы прыток Обалі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 75 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Выцякае з воз. Расалай, цячэ па Полацкай нізіне па забалочанай лясістай мясцовасці. Упадае ў Обаль каля в. Рашэтнікі.

**ГЛЫ́БАЧКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,29 км².**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**

Пл. вадазбору 7,5 км$^2$.

У бас. р. Нежлеўка, за 18 км на ПдЗ ад Полацка, за 1 км на ПдУ ад в. Вераб'і. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам і хмызняком, на 3 участкамі разараныя. Выцякае ручай у Нежлеўку.

**ГЛЫБАЧКА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6 м.
Даўжыня 0,85 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,04 км.
Аб'ём вады 0,63 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1 км$^2$.

У бас. р. Крашанка, за 6 км на Пн ад г. п. Ушачы, каля в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, на Пд і У 3—5 м, пераважна пад хмызняком, на Пд разараныя. Берагі пясчаныя, пад хмызняком.

**ГЛЫБАЧКА,** Глыбачка Паўднёвая, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,35 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.



Возера Глыба.

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, на У пад лесам, на З і Пн разараныя, на Пд парасл і хмызняком, забалочаныя. Выцякае ручай у воз. Рукшанскае.

**ГЛЫБАЧКА,** Глыбачка Паўночная, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,20 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 0,4 км на Пн ад в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя. З усіх бакоў забалочаная, парослая хмызняком, пойма шырынёй да 10 м. Упадае ручай.

**ГЛЫБАЧКА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Ушача, за 25 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй да 14 м, на Пд і У пад лесам і хмызняком, на З пад агародамі. На З і Пд парослая хмызняком, пойма шырынёй 20—40 м.

**ГЛЫБАЧКА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,38 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Шоша, за 24 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 1,3 км на ПнУ ад в. Германоўшчына, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 18 м, на Пд да 7 м. Уздоўж паўночна-ўсходніх і заходніх берагоў нешырокая забалочаная пойма.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Талачынскім р-не.

Пл. 0,44 км$^2$.
Даўжыня 0,95 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.
Пл. вадазбору 6,1 км$^2$.

У бас. р. Бярозаўка, за 22 км на У ад г. Талачын, каля в. Галошава. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, разараныя. Берагі на З і ПнЗ забалочаныя, пад хмызняком.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,42 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,5 м.
Даўжыня 1,11 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,36 км.
Аб'ём вады 2,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,94 км$^2$.

У бас. р. Палата за 47 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на У ад в. Малое Сітна, у межах азёрнага заказніка Глыбокае-Чарбамысла. Схілы катлавіны вышынёй 15—17 м, на Пн да 2 м, пад хваёвым лесам. Берагі месцамі зліваюцца са схіламі, пясчаныя, на Пн тарфяныя. Мелкаводдзе вузкае. Дно пясчанае, з глыбіні 5,5 м сапрапелістае. Вызначаецца празрыстасцю і чысцінёй вады, а яе нізкая мінералізацыя і высокая кіслотнасць абмяжоўваюць развіццё раслінnасці і іхтыяфауны (водзіцца пераважна акунь). Расце палушнік азёрны — рэдкі для Беларусі ахоўны від раслін, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу; на глыбіні да 9 м — імхі.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,37 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 8,6 м.
Даўжыня 1,34 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,35 км.
Аб'ём вады 1,72 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 2,3 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 7 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Сержаны. Схілы катлавіны вышынёй 6—15 м, на Пд да 5 м, разараныя, на ПнУ пад




Возера Глыба.




Возера Глыбачка (Ушацкі раён).

лесам. Берагі пясчаныя, на ПнУ і ПдЗ сплавінныя. Дно каля берагоў стромкае, пясчанае, глыбей 2 м сапрапелістае. Упадаюць 4 ручаі, выцякае ручай у р. Ушача. Зарастае да глыбіні 3,8 м.




Возера **Глыбочына** (Полацкі раён).




Возера **Глыбочына** (Полацкі раён).

**ГЛЫБОКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,34 км².**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,55 км.**
**Пл. вадазбору 13,3 км².**

У бас. р. Свольна (правы прыток Дрысы), за 28 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2,4 км на У ад в. Валясы, сярод лесу. Схілы катлавіны стромкія, вышынёй 15 м, на ПнЗ да 25 м. Праз возера цячэ р. Нячэрская (левы прыток Свольны).

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 0,98 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,18 км.**
**Пл. вадазбору 10,5 км².**

У бас. р. Храпаўлянка, за 6 км на ПдЗ ад г. Гарадок, каля в. Малыя Стайкі. Схілы катлавіны вышынёй 7 м, пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. Злучана ручаём з Пярвішчанскім возерам.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Найбольшая глыбіня 9 м.**
**Даўжыня 0,96 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,23 км.**
**Аб'ём вады 1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,7 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 27 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Малы Двор. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пад хмызняком, на ПнЗ разараныя. Берагі супадаюць са схіламі, на Пн і Пд месцамі нізкія, забалочаныя. Дно пясчанае, глыбей 3—3,5 м ілістае. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 4,5 м.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Найбольшая глыбіня 16,1 м.**
**Даўжыня 0,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.**
**Аб'ём вады 0,81 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 15,8 км².**

У бас. р. Вята, за 10 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Апанасенкі. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя. Берагі нізкія, на ПдУ забалочаныя. Злучана ручаём з воз. Сярэднік, выцякае р. Ганчыца.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**

У бас. р. Палата, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км ад в. Дрэтунь, сярод забалочанага лесу.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Обаль, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на Пд ад в. Труды Схілы катлавіны вышынёй 7 м, пад лесам. На Пд выцякае ручай у воз. Летняе.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Галбіца, за 24 км на У ад г. Паставы, на ўсходняй ускраіне г. п. Варапаева. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад забудовамі, разараныя. Выцякае ручай у р. Заражанка (верхняе цячэнне Галбіцы).

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Нішча (правы прыток Дрысы), за 18 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3,5 км на Пн ад в. Юхавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на ПдУ пад лесам, на З і ПдЗ разараныя.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,6 км.**

На водападзеле рэк Волта (левы прыток Зах. Дзвіны) і Бярэжа (левы прыток Дзісны), за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, на балоце Мох у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Берагі забалочаныя, тарфяністыя.

**ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,007 км².**
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Лужасянка, за 25 км на ПнУ ад г. Гарадок, 2,5 км на ПдЗ ад в. Загуззе (Канашоўскі сельсавет). Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад лесам.

**ГЛЫБО́КАЕ СТРУ́НАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 1,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,65 км.**
**Пл. вадазбору 2 км².**

У бас. р. Аўсянка, за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 5 км на ПдУ ад в. Вярэчча. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, пад лесам. Злучана пратокай з воз. Мелкае Струнава.

**ГЛЫБО́КАЯ,** Глыбо́чына, Глыбо́чыцкі кана́л, рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Чачора (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Новая

Яцкаўшчына, вусце на заходняй ускраіне в. Кавалёў Рог. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГЛЫБО́ЧЫНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,37 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,8 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4 км.**
**Аб'ём вады 1,54 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,2 км$^2$.**

У бас. р. Вядзеціца, за 21 км на ПнУ ад Полацка, на ПдЗ ад воз. Вядзета. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, на У да 10 м, пясчаныя, пераслі лесам. Берагі на У участкамі супадаюць са схіламі, на ПдУ і ПдЗ сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, стромкае. Дно ў паўночнай частцы да глыбіні 4—5 м пясчанае, у цэнтральнай і паўднёвай — сапрапелістае. Упадае ручай з воз. Бярэзнік, выцякае ручай у воз. Вядзета. Зарастае слаба, шырыня паласы расліннасці да 10 м, пашырана да глыбіні 2 м.

**ГЛЫБО́ЧЫНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,22 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,98 км.**
**Аб'ём вады 0,3 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 14 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2 км на З ад в. Трыполле, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, пясчаныя. Берагі вышынёй да 0,5 м, забалочаныя, тарфяністыя, да ўрэзу вады расце лес і хмызняк. Дно плоскае, сапрапелістае, каля ўсходняга берага пясчанае. Шырыня паласы надводнай расліннасці 15—30 м. Упадае меліярацыйная канава, выцякае ручай у воз. Сямёненкі.

**ГЛЫБО́ЧЫНА,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 28 м.**
**Даўжыня 0,48 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,44 км.**
**Аб'ём вады 1,68 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 8,42 км$^2$.**

У бас. р. Свінка (цячэ праз возера), за 11 км на ПнУ ад г. Чашнікі, каля в. Новая Ніва. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пад сельгасугоддзямі. Берагі высокія, на З сплавінныя. Дно пясчанае і пясчана-ілістае, глыбей 1,5—2 м сапрапелістае. Шырыня паласы падводнай расліннасці 5—25 м.

**ГЛЫБО́ЧЫНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,36 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Нешчарда (правы прыток Дрысы), за 24 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 0,7 км на Пн ад в. Галубова. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, часткова разараныя, на Пн пад хмызняком. Упадае ручай з воз. Вялікія Блізняты, выцякае ручай у воз. Верамееўскае.

**ГЛЫБО́ЧЫЦА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,17 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 21 м.**
**Даўжыня 0,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,17 км.**
**Аб'ём вады 1,5 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 3 км на У ад г. Лепель, каля в. Глыбочыца. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, у верхняй частцы разараныя. Берагі супадаюць са схіламі, месцамі пад хмызняком. Злучана ручаём з воз. Бораўна.

**ГЛЫБО́ЧЫЦКІ КАНА́Л,** рака, гл. *Глыбокая.*

**ГЛЫБО́ШЧЫНА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,21 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 18,1 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,03 км.**
**Аб'ём вады 1,4 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 17 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Опліса 1-я. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пад хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі вышынёй 0,3—0,5 м, месцамі сплавінныя. Выцякае ручай у воз. Опліса.

**ГНЕ́ДКІ,** меліярацыйны канал у Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Кашаноўка, зліваецца з Жадунькай за 1,4 км на ПдУ ад в. Слабада.

**ГНЕ́ЗДЗІШЧА,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток канала Рудня (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 5 км на ПнУ ад в. Краі, вусце за 6,5 км на Пн ад в. Рудня.

**ГНЕ́ЗНА,** рака, гл. *Нятупа.*

**ГНЕЎ,** рака ў Веткаўскім р-не, левы прыток р. Стаўбун (бас. Дняпра). Даўжыня каля 6 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Неглюбка, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Гарадок. Каля вусця на працягу 2 км рэчышча каналізаванае.

**ГНІ́ВА,** Утонька, Калінаўка, рака ў Веткаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня каля 15 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Залужжа, вусце за 3 км на З ад в. Рыслаўе. Ад вытоку на працягу 3 км рэчышча каналізаванае. На берагах ракі забалочаны лес, прывусцевы ўчастак на забалочанай пойме Сажа сярод шматлікіх старычных азёр.

**ГНІ́ЛІЦА,** рака ў Жыткавіцкім р-не, левы прыток Скрыпіцы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 285 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца ад водаразмеркавальніка каля злуцця каналаў Страявы і Жыткавіцкі. Цячэ па цэнтральнай частцы Прыпяцкага Палесся. Рэчышча ад вытоку да паўднёвай ускраіны г. Жыткавічы, дзе знаходзяцца сажалкі рыбгаса «Чырвоная Зорка» (пл. 816 га), на працягу 11,6 км каналізаванае. Упадае ў Скрыпіцу за 2 км ніжэй в. Млынок.

**ГНІ́ЛІЦА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток Тур'і (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 66 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Рымашы, упадае ў Тур'ю на ПнУ ад в. Лавы. На ўсім працягу каналізаваная.




**Возера Глыбочына (Расонскі раён).**




**Возера Глыбочыца.**

**ГНІЛКА,** рака ў Круглянскім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня каля 16 км.
Пл. вадазбору 96 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Арэхаўка, цячэ па паўднёвых схілах Аршанскага ўзвышша, вусце за 0,8 км на З ад в. Старая Радча. Ад в. Ваўканосава да вусця на працягу 5 км рэчышча каналізаванае. Каля вёсак Дудаковічы і Лясныя плаціны і сажалкі.

**ГНІЛКА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Тошчыца (бас. Дняпра). Даўжыня 7,7 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Ліпа, вусце за 1 км на У ад в. Вішанька. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГНІЛКА,** рака, гл. *Гліна*.

**ГНІЛКА,** рака, гл. *Дзяражынка*.

**ГНІЛУХА,** рака ў Шаркоўшчынскім р-не, левы прыток р. Бярозаўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Дуліна, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Радзюкі.

**ГНОЙНІЦА,** рака, гл. *Плясна*.

**ГНЯЗДЗІШЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, правы прыток Вузлянкі (бас. Нёмана). Пачынаецца каля в. Качаны, упадае ў Вузлянку за 2,5 км на ПдУ ад в. Мазалеўшчына.

**ГОГАЛЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток Светлагорскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 3 км на З, упадае ў Светлагорскі канал за 2,8 км на ПдУ ад в. Гогалеў.

**ГОГАЛЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,05 км².
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Палата, за 28 км на ПнУ ад Полацка, за 3,5 км на У ад в. Альхоўка, сярод забалочанага хмызняку. Выцякае ручай у воз. Спіцы.

**ГОЖКА,** Г а ж а н к а, рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 211 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца на З ад в. Вялікая Капліца, упадае ў Нёман на Пд ад в. Гожа. Асноўныя прытокі Вержбалоўка і Лесніца. На працягу 12,5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Гумбачы).

**ГОЛАВАЧ,** рака на мяжы Верхнядзвінскага і Расонскага р-наў, правы прыток Нішчы (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 44 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Казакова Верхнядзвінскага р-на, цячэ па Полацкай нізіне. Упадае ў Нішчу (правы прыток Дрысы) за 1,5 км на ПдУ ад в. Залессе Расонскага р-на.

**ГОЛАВІШЧА,** возера ў Буда-Кашалёўскім раёне. Плошча 0,11 км². На пойме Дняпра, вышэй вусця Бярэзіны, за 25 км на ПдЗ ад Буда-Кашалёва.

**ГОЛДАЎКА,** Г а л д а ў л я н к а, рака ў Лідскім р-не, левы прыток Лебяды (бас. Нёмана).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору [redacted] км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца на ПнУ ад в. Клюкавічы, упадае ў Лебяду каля в. Навасады. На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцёк з сеткі асушальных каналаў.

**ГОЛЫ БОР,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток Валчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 6,5 км на У ад в. Велута, вусце за 3,5 км на ПнЗ ад в. Вілька 2-я.

**ГОЛЬША,** рака, гл. *Галыша*.

**ГОМЕЛЬ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 3,46 км².
Найбольшая глыбіня 23 м.
Даўжыня 3,4 км.
Найбольшая шырыня 1,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 11,7 км.
Аб'ём вады 19,01 млн. м³.
Пл. вадазбору 744 км².

У бас. р. Тураўлянка за 18 км на Пд ад Полацка, каля в. Гомель, у складзе Ушацкай групы азёр. Схілы катлавіны вышынёй 4—8 м, на ПдЗ да 18 м, пераважна разараныя, у ніжняй частцы парослі хмызняком. Берагі пясчаныя, участкамі галечныя і камяністыя. Дно паўночнага плёса пласкае, паўднёвага больш глыбокае, лейкападобнае са стромкімі схіламі. Мелкаводдзе пясчанае і пясчана-галечнае. У паўднёвым заліве востраў



1 — у воз. Опліса

**Возера Глыбочыца.**



**Возера Гомель.**

пл. 0,1 га. Упадае ручай з воз. Канашы, злучана пратокай з воз. Зашчаты, сцёк па пратоцы ў воз. Суя. Шырыня паласы зарастання да 100 м.

**ГОРАНКА,** рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Палуж (бас. Дняпра). Даўжыня каля 13 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ ад в. Калініна, вусце на паўднёвай ускраіне в. Дуброўка. Ад вытоку на працягу 6,6 км рэчышча каналізавана.

**ГОРАНКА,** назва р. *Куракоўка* ў ніжнім цячэнні.

**ГОРАЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.

У бас. р. Авута (працякае праз возера), за 28 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 0,6 км на У ад в. Дварышча. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пераважна пад хмызняком, участкамі на З і У разараныя.

**ГОРАЦКА-СЛАБАДСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Балачанка (бас. Дняпра). Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Горкі, упадае ў Балачанку за 2 км на Пд ад в. Перуноў Мост.

**ГОРАЧ,** рака, гл. *Гарача*.

**ГОРКІ,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

Пл. 0,34 км².
Даўжыня 1,75 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,1 км.

У бас. р. Прыпяць, за 16 км на ПдУ ад г. Калінкавічы, каля в. Шарэйкі. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, на ПнУ да 4 м, пад хмызняком, на Пд разараныя. Берагі пераважна забалочаныя, месцамі супадаюць са схіламі. Злучана ручаём з воз. Пясчанка.

**ГОРЛАЎСКІ,** ручай у Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Вербаўка (бас. Дняпра). Даўжыня каля 7 км. Выток за 1 км на ПдУ ад в. Будзёнаўка, вусце на заходняй ускраіне в. Расна (на паўночнай ускраіне вёскі на ручаі плаціна і сажалка).

**ГОРНА,** к а н а л Г о р н а, рака ў Кар-

мянскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 109 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Багданавічы, вусце за 2 км на У ад в. Ворнаўка. Ад вытоку да сажалкі ў в. Расохі (11,3 км) рэчышча каналізаванае.

**ГОРНАЎКА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Дрысы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 35 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца за 3,3 км на ПнУ ад в. Новы Строй, цячэ па Полацкай нізіне. Упадае ў Дрысу каля в. Дварыца. Даліна ў сярэднім цячэнні добра выражана, шырыня яе 200—300 м. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,4 км каналізаванае.

**ГО́РНАЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Прабойная канава.*

**ГО́РНАЎСКІ РОЎ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Піна (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Лосічы, упадае ў Піну за 0,7 км вышэй яе вусця.

**ГО́РНІЦА,** Гурніца, рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 59 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 7,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Бычкі, цячэ па ўсходняй ускраіне Гродзенскага ўзвышша, упадае ў Нёман каля в. Кавальцы.

**ГО́РТАЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Пінскім р-нах, правы прыток Хварашчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Горталь Івацэвіцкага р-на, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Хворасна Пінскага р-на.

**ГО́РЫ,** вадасховішча ў Горацкім р-не.

**Пл. 1,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 7 м.**
**Даўжыня 5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,34 км.**
**Аб'ём вады 2,77 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 129 км².**

На р. Быстрая, за 14 км на У ад г. Горкі, каля в. Горы. Створана ў 1985 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 15,7 млн. м³.

**ГО́РЫ,** меліярацыйны канал у Расонскім р-не, правы прыток р. Амосенская (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Дварышча, вусце за 0,6 км на З ад в. Бубны.

**ГО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім і Лунінецкім р-нах, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 32 км. Пачынаецца каля в. Гаўрыльчыцы Салігорскага р-на, вусце за 11,8 км на ПнУ ад в. Чырвоная Воля.

**ГО́ШЧА,** вадасховішча ў Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 0,82 км².**
**Найбольшая глыбіня 10 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 4,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 101 км².**

На месцы аднаўленага возера, за 38 км на ПдУ ад г. Івацэвічы, каля в. Гошча. Створана ў 1981 для акумуляцыі і пераразмеркавання сцёку паміж сезонамі, увільгатнення зямель, рыбагадоўлі. Напаўняецца за кошт Гашчанскага канала. Усходні бераг парослы лесам, паўночны і паўднёвы — лугавой расліннасцю, заходні — пад ворывам. Сярэдні шматгадовы сцёк 12,4 млн. м³.

**ГО́ШЧАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Заполле» (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Гошчава, вусце за 4 км на ПдЗ ад той жа вёскі.

**ГРАБАВЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, правы прыток Мутвіцы (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад в. Грабавец, упадае ў Мутвіцу за 1,5 км на Пн ад в. Малыя Лукі. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ГРА́БАЎКА,** рака ў Гомельскім р-не, правы прыток р. Цяруха (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 29 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Жураўлёўка, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Грабаўка (у вёсцы на рацэ плаціна і сажалка).

**ГРА́БАЎШЧЫНА,** рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 2 км на Пд, упадае ў Ашмянку за 1,2 км на ПнУ ад в. Павяжы. Ад вытоку на працягу 2,5 км каналізаваная.

**ГРАБЕ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** Грэбенская канава, меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Маства (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 14 км на ПдУ ад в. Старына, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Мачуль. Канал праходзіць па лясістай і забалочанай мясцовасці (у верхнім цячэнні — урочышча Мерлінскія Хутары).

**ГРАБЕ́НІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток Жмурненскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Кавыжаў, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Жмурнае.

**ГРАБЕ́НІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Міхалінава.*

**ГРАБНІ́ЦКАЕ,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 1,06 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 км.**

У бас. р. Шэвінка (правы прыток Зах. Дзвіны), за 11 км на ПнУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Грабніца. Схілы катлавіны вышынёй 7—9 м, разараныя, у ніжняй частцы да ўрэзу вады расце хмызняк. Упадае ручай з воз. Філіпенскае, выцякае ручай у Заронаўскае возера.

**ГРАБСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток р. Markup Markup Markup Язнач (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Горкі, упадае ў Язнач за 1,7 км на У ад в. Нівы.

**ГРА́ВА,** Граўка, канал Граўка, рака ў Асіповіцкім р-не ў бас. Дняпра.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 92 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Пагарэлае, упадае ў Асіповіцкае вада-




Возера Гомель.

сховішча на паўднёвай ускраіне в. Лапічы.

**ГРАДА́ЎКА,** рака ў Камянецкім і Брэсцкім р-нах, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 13 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Задвор'е Камянецкага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на. Цячэ па паўднёвай ускраіне Прыбугскай раўніны. Асноўны прыток — р. Безымянка. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГРАДСКАЕ ВОЗЕРА,** Чорнае возера, у Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,88 км.**

У бас. р. Вузлянка, за 18 км на Пд ад г. п. Мядзел, за 4,5 км на ПнУ ад в. Чарэмшыцы, у межах гідралагічнага заказніка Чарэмшыца. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пераслі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя. Пойма шырынёй да 500 м, нізкая, забалочаная, з сеткай меліярацыйных каналаў.

**ГРА́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Пагонненскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пн ад в. Дронькі, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Пагоннае.

**ГРАЖУ́НКА,** рака ў Воранаўскім р-не, левы прыток Шальчы (бас. Нёмана). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца на У ад в. Рамуці, упадае ў Шальчу на Пн ад в. Беняконі. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГРАЗІ́ВА,** рака ў Нараўлянскім р-не Гомельскай вобл. і ў Оўруцкім р-не на Украіне, правы прыток р. Славечна (бас. Прыпяці). Даўжыня 28,6 км, у т. л. 9 км на Беларусі (каналізаваная), 3,6 км на мяжы з Украінай. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Гразіва Оўруцкага р-на, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Дзямідаў Нараўлянскага р-на. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці, свабодна перасякаецца з р. Жалонь (большая частка сцёку ідзе па Гразіве). Жывіць вадасховішча Свяча.

**ГРАЗНУХА,** рака ў Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах, левы прыток р. Чарняўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца каля в. Краўцова Гарадоцкага р-на, вусце каля в. Шчарбакі Шумілінскага р-на. Рэчышча ад вусця на працягу 3 км каналізаванае.

**ГРАЗЬ,** рака, гл. *Пляcна.*

**ГРАМАШЧА́НКА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Грамошча, вусце за 1,2 км на ПнУ ад в. Гараўцы Расонскага р-на. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 4 км каналізаванае.

**ГРАМНІ́ЦА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Дзвінасы (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнУ ад в. Новае Чэрнева, упадае ў Дзвінасу за 1 км на ПдУ ад в. Рудня. На ўсім працягу каналізаваная, у сярэднім цячэнні прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў. У пойме здабываецца торф.

**ГРАМНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лагойскім р-не, левы прыток Грамніцы (бас. Віліі). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Грамніцы, упадае ў Грамніцу за 3,4 км на ПнУ ад в. Нарбутава.

**ГРАЎЖА́НКА,** рака, гл. *Гаружанка.*

**ГРА́ЎКА,** рака, гл. *Грава.*

**ГРО́МАЦЬ,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток Лужасянкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 84 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Казловічы, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша па лясістай мясцовасці. Асноўны прыток р. Рабінка (справа). Упадае ў Лужасянку за 1,2 км на ПнЗ ад в. Хабаты.

**ГРО́МЧАК,** ручай у Шчучынскім р-не, правы прыток Нявішы (бас. Нёмана). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Голдзішкі, упадае ў Нявішу на ПдУ ад в. Вуглы. На ўсім працягу каналізаваны.

**ГРУБЧА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім р-нах, правы прыток р. Несвіч (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Уласы Хойніцкага р-на, вусце за 2,8 км на ПдЗ ад в. Жалібор Брагінскага р-на.

**ГРУ́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, у вадазборы Дрычынскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Адыходзіць ад Дрычынскага канала за 1,5 км на ПнЗ ад в. Белае, уліваецца ў яго за 2 км на У ад п. Вясёлы.

**ГРУЗДЗЕ́НІЦА,** Навіны, рака ў Смаргонскім і Вілейскім р-нах, правы прыток р. Нарач (бас. Віліі). Даўжыня 10,3 км. Пачынаецца каля в. Дзярвелі, упадае ў Нарач на паўночнаўсходняй ускраіне в. Вайдзені. На ўсім працягу каналізаваная.

**ГРУ́НВАЛЬДЫ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,30 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Ласіца, за 34 км на ПнУ ад г. Паставы, за 1,6 км на ПнЗ ад в. Луцк-Казлоўск. Схілы катлавіны невыразныя, месцамі разараныя. Упадае ручай.

**ГРУ́ША,** ручай у Лідскім р-не, правы прыток Жыжмы (бас. Нёмана). Даўжыня 3,3 км. Пачынаецца каля х. Юравічы, упадае ў Жыжму на Пн ад в. Гімбуты. На ўсім працягу каналізаваны.

**ГРЫ́БНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,8 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,2 м.**
**Даўжыня 1,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,36 км.**
**Аб'ём вады 0,47 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 19,6 км².**

У бас. р. Свіна, за 46 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на У ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м (на Пн да 11 м), пераслі лесам і хмызняком, на ПнЗ разараныя. Берагі забалочаныя, сплавінныя, на Пн пясчаныя. Пойма шырынёй да 200 м, забалочаная, тарфяністая, пад хмызняком, на Пд разараная. Дно выслана сапрапелем. Упадае ручай з воз. Званае, выцякае ручай у воз. Клетнае. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.




**Возера Грыбна.**

**ГРЫ́ЎДА,** рака ў Слонімскім і Івацэвіцкім р-нах, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

**Даўжыня 85 км.**
**Пл. вадазбору 1330 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Варонічы Слонімскага р-на, цячэ па Слонімскім узвышшы. Асноўныя прытокі: Була, Булянка, Руднянка, Бусяж, Любішчанскі канал. Даліна выразная, яе шырыня ад 1 да 1,5 км, у вярхоўі не выражана. Пойма двухбаковая, у сярэднім цячэнні забалочаная, шырыня яе 0,4—0,8 км, у ніжнім цячэнні да 1,5 км, у асобных мясцінах перасечаная старыцамі і асушальнымі канавамі. Рэчышча ў вярхоўі і на асобных участках каналізаванае. Яго шырыня ў межань ад 3—4 м у вярхоўі да 20—30 м у ніжнім цячэнні. Берагі стромкія, вышынёй 1—2 м. У маляўнічых мясцінах на ўскраіне г. Івацэвічы зона адпачынку, ніжэй горада ўздоўж ракі насыпныя дамбы.

**ГРЫ́ЎЧЫК,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток Выні (бас. Нёмана).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 57 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**



Рака Грыўда каля горада Івацэвічы.

Пачынаецца каля в. Бадзяжы, упадае ў Выню на паўночнай ускраіне в. Харытонаўка. У верхнім цячэнні называецца П р о р в а. Ад вытоку на працягу 12 км каналізаваная. Каля вёсак Старыца і Баркаўцы створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,32 км$^2$ і 0,09 км$^2$).

**ГРЭБЕЛЬКА,** К л і м а ў к а, рака ў Івацэвіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Манцюты, упадае ў Шчару на У ад в. Быцень. На працягу 5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Рудня).

**ГРЭБЕЛЬКА,** рака, гл. *Грэбенка.*

**ГРЭБЕЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток Зах. Буга. Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ліпнікі, упадае ў Зах. Буг за 1 км на ПнЗ ад г. п. Дамачова. Канал стары, зарослы, не абслугоўваецца.

**ГРЭБЕНКА,** Г р э б е л ь к а, рака ў Мінскім і Пухавіцкім р-нах, левы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 87 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Аляксееўка Мінскага р-на, цячэ ў межах паўднёвай ускраіны Мінскага ўзвышша і па паўночна-заходняй частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Пціч каля в. Наваполле Пухавіцкага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ГРЭ́БЛЯ,** рака ў Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Зубар (бас. Дняпра). Даўжыня каля 15 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Журбін, упадае ў Зубар за 1,5 км на З ад в. Кісялі.

**ГРЭ́ЗА,** рака ў Магілёўскім і Быхаўскім р-нах, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 51 км.**
**Пл. вадазбору 458 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля паўднёва-ўсходняй ускраіны в. Загрэззе Магілёўскага р-на, цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне, вусце на паўднёвай ускраіне в. Вязьма Быхаўскага р-на. Асноўны прыток Езва (злева). Даліна трапецападобная, шырыня яе 1—1,5 км. Пойма двухбаковая, часткова парэзаная старымі рэчышчамі і канавамі, шырынёй 0,4—0,5 км. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Шырыня ракі ў межань ў верхнім цячэнні 4—6 м, ніжэй — каля 10 м. Берагі ўмерана стромкія, адкрытыя, пад лугамі. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ГРЭ́НКІ,** возера ў Баранавіцкім р-не. Пл. 0,32 км$^2$. У бас. р. Шчара, за 3 км на Пн ад Баранавіч.

**ГРЭ́ЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,77 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 4,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 10,38 км.**
**Аб'ём вады 1,67 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4,5 км$^2$.**

У бас. р. Мёрыца, за 6 км на У ад г. Міёры, каля в. Ліпаўка. Схілы катлавіны вышынёй 2—6 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на ПнУ і ПдЗ сплавінныя. Дно плоскае, ілістае. Злучана пратокай з воз. Чэрас. Паласа расліннасці шырынёй 10—50 м да глыбіні 1 м.

**ГУБІ́ЗА,** возера, гл. *Гульбеза.*

**ГУДЫ́,** У к р о п а ў ш ч ы н а, меліярацыйны канал у Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Гуды, упадае ў Іслач за 1 км на У ад в. Баравікоўшчына. У сярэднім цячэнні часам улетку перасыхае.

**ГУ́ЙКА,** рака ў Мінскім і Маладзечанскім р-нах, у бас. Віліі.

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 98 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,3 ‰.**

Пачынаецца каля в. Шчадроўшчына Мінскага р-на, працякае па паўночных схілах Мінскага ўзвышша. У г. п. Радашковічы ў сутоках з Вязынкай утварае Рыбчанку. На працягу 4,8 км каналізаваная: ад в. Рагава на ПнЗ (2,6 км) і на ПдУ (2,2 км).

**ГУЛЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Закованка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца за 6 км на ПдЗ ад в. Гулевічы, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Пеніца.

**ГУЛЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** гл. *Закованка.*

**ГУЛІ́ДАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,27 км$^2$.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.**
**Пл. вадазбору 3,25 км$^2$.**

У бас. р. Маргва, за 13 км на З ад г. Глыбокае, каля в. Гулідава. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, парэслі хмызняком, месцамі на Пд і Пн разараныя. Выцякае ручай у Маргву.

**ГУЛЬБЕ́ЗА,** Г у б і з а, возера ў Астравецкім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12,9 м.**
**Даўжыня 0,94 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,94 км.**
**Аб'ём вады 1,52 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6 км$^2$.**

У бас. р. Страча, за 33 км на ПнУ ад г. п. Астравец, каля в. Вераб'і. Схілы катлавіны вышынёй 8—11 м, парэслі лесам і хмызняком, на У разараныя. Берагі супадаюць са схіламі, на Пн сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. На Пд выцякае ручай у воз. Вераб'і, злучана пратокай з воз. Ёдзі. Паласа падводнай расліннасці шырынёй 5—50 м да глыбіні 1,5—2 м.

**ГУЛЯ́НКА,** рака ў Докшыцкім р-не,




Грэцкае возера.




Возера Гульбеза.

правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 51 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца з сажалкі за 100 м на Пд ад в. Замошша, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Лінск. Працякае па заходняй ускраіне Бярэзінскага біясфернага запаведніка, пераважна праз лес. Ад вытоку на працягу 18 км рэчышча каналізаванае.

**ГУМНІ́ЧНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.**

У бас. р. Палата (правы прыток Зах. Дзвіны), за 41 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на З ад в. Малое Сітна, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя, вакол возера забалочаны хмызняк.

**ГУРБА́,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток Вялікай Рэчкі (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 139 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на З ад в. Студзёнка 2-я, упадае ў Вялікую Рэчку за 3 км вышэй ад яе вусця. Асноўны прыток ручай Юраўка. Цячэ па Бярэзінскім біясферным запаведніку. Па берагах забалочаны лес.

**ГУ́РКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Друйка (левы прыток Зах. Дзвіны), за 10 км на ПдУ ад г. Браслаў, за 2 км на ПдУ ад в. Ахрэмаўцы. Схілы на З вышынёй да 10 м, на У да 15 м. З Пн і Пд да возера прымыкаюць даліны часовых вадацёкаў. Праз сістэму каналаў на Пн злучана з возерам без назвы.

**ГУРНІ́ЦА,** рака, гл. *Горніца.*

**ГУ́РЫСТАЯ,** рака ў Лельчыцкім р-не, правы прыток Убарці (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 87 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад в. Канапелька, цячэ па раўніне Мазырскае Палессе і нізіне Прыпяцкае Палессе па лясістай мясцовасці. Асноўны прыток р. Запалічная (злева). Упадае ў р. Убарць за 2 км вышэй ад в. Уборацкая Рудня.

**ГУСА́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не (бас. Зах. Буга). Даўжыня 15 км. Пачынаецца з Падводзячага канала, за 1,5 км на Пн ад Лукаўскага вадасховішча. Упадае ў сажалку рыбгаса «Сакалова» каля в. Гусак.

**ГУСІ́НАЕ ВОЗЕ́РА,** у Мазырскім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 5 км на ПнУ ад Мазыра, на У ад в. Баравікі. Старычнае. Па берагах хмызняк.

**ГУСТА́ТКА,** рака ў Браслаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток Кулажкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 268 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Выцякае з воз. Густаты, цячэ па заходняй частцы Полацкай нізіны. Асноўныя прытокі Корынка (справа) і Белая (злева). Упадае ў Кулажку (левы прыток Янкі) за 1 км ад паўночна-заходняй ускраіны г. п. Шаркоўшчына. Рэчышча ад вытоку на працягу 8,7 км каналізаванае.

**ГУСТА́ТЫ,** Густата, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 2,4 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,8 м.**
**Даўжыня 3,15 км.**
**Найбольшая шырыня 1,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,7 км.**
**Пл. вадазбору 24,7 км$^2$.**

У бас. р. Густатка (выцякае з возера), за 22 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Рафалова. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пераважна разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя. Вакол возера забалочаная пойма. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае па ўсёй плошчы.

**ГУ́ТА,** рака, гл. *Рэкта.*

**ГУ́ТКА,** ручай у Касцюковіцкім р-не, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 9,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Вялікі Бор, вусце за 1 км на Пд ад в. Зарэчча.

**ГУТЛЯ́НКА,** Балатнянка, рака ў Карманскім і Рагачоўскім р-нах, левы прыток Дняпра.

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 378 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Бярозаўка Кармянскага р-на, вусце за 2 км на Пн ад в. Ільіч Рагачоўскага р-на. Цячэ па паўднёвай ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна пераважна трапецападобная, яе шырыня 1,5—2 км. Пойма двухбаковая, супясчаная і тарфяністая, шырынёй 0,05—0,1 км, у верхнім і ніжнім цячэнні забалочаная. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае, акрамя 0,5 км у вусці.

**ГУ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Цемра (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Вільянава; вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Гута.

**ГУ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток р. Капаёўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Гута, упадае ў Капаёўку каля моста цераз дарогу Чэрск — Дубок.

**ГУЦКІ КАНА́Л,** гл. *Чорны ручай.*

**ГУЦЯ́НКА,** Любонка, рака ў Кіраўскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 53 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Сяргеевічы, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Гута.

**ГЯРВІ́НЯ,** рака ў Воранаўскім р-не, левы прыток Жыжмы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Масюны ў забалочанай мясціне, у вярхоўі цячэ праз лес, упадае ў Жыжму на ПнЗ ад в. Малыя Лепі. На ўсім працягу каналізаваная.

**ДАБАСНА́**, рака, гл. *Добасна.*

**ДАБЕ́ЕЎСКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Шумілінскім р-не.

Пл. 2,31 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,6 м.
Даўжыня 2,22 км.
Найбольшая шырыня 1,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,3 км.
Аб'ём вады 1,65 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 32 км$^2$.

У бас. р. Сечна (правы прыток Зах. Дзвіны), якая выцякае з возера, за 7 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Дабея. Схілы катлавіны невыразныя, на У вышынёй 4—5 м, разараныя. Берагі сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем, які здабываецца на ўгнаенне. У выніку меліярацыі ўзровень возера панізіўся на 1 м. Моцна зарастае па ўсёй плошчы. Злучана ручаём з азёрамі Круглік і Мошна.

**ДАБРАМЫ́СЛЕНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА**, у Лёзненскім раёне.

Пл. 1,16 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 8 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Аб'ём вады 2,25 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 700 км$^2$.

На р. Чарніца (прыток Лучосы), за 10 км на ПдЗ ад г. п. Лёзна, каля в. Дабрамыслі. Створана ў 1962 для энергетычных мэт. Берагавая лінія моцназвілістая, правы бераг пад лесам, левы забалочаны. Сярэдні шматгадовы сцёк у створы плаціны 145,4 млн. м$^3$.

**ДАБРА́НКА**, рака ў Горацкім р-не, правы прыток р. Галыша (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 72 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.

Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Машкова, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Добрая.

**ДА́БРАСЕНЬ**, возера ў Светлагорскім р-не.

Пл. 0,26 км$^2$.
Даўжыня 2,43 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,9 км.

На пойме р. Бярэзіна, за 40 км на ПнЗ ад г. Светлагорск, за 1 км на ПнУ ад в. Васілёўка. Старычнае.

**ДАБРАСЛА́ЎКА**, меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пн ад в. Дабраслаўка, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Лышча.

**ДАБРО́МЫСЛІНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца на паўночна-ўсходняй ускраіне в. Глядзені, упадае ў Шчару за 3,2 км на ПдЗ ад в. Дабромысль.

Дабееўскае возера.

**ДАБРО́ЦІНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Дабрыца (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Барсукі, упадае ў Дабрыцу за 0,8 км на ПнУ ад в. Даброцін.

**ДАБРЫ́ЛАЎКА**, рака ў Глыбоцкім р-не, правы прыток Бярозаўкі (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 32 км.
Пл. вадазбору 133 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 0,9 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Забор'е, цячэ ў межах Свянцянскіх град, у нізоўі працякае праз воз. Пятроўскае. Упадае ў Бярозаўку каля в. Грыцы. Даліна трапецападобная, ніжэй воз. Пятроўскае зліваецца з далінай Бярозаўкі, шырыня ад 0,3 км да 1,5—2 км. Пойма шырынёй 0,1—0,3 км. Рэчышча ад вытоку на працягу 16 км (да воз. Пятроўскае) каналізаванае.

**ДАБРЫНЕ́Ц**, возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,48 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,93 км.

У бас. р. Обаль, за 32 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 7 км на Пн ад в. Роўнае. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, пад лесам і хмызняком. На Пн выцякае ручай у воз. Жужнева.

**ДАБРЫ́ХА**, рака, гл. *Добрыч.*

**ДАБРЫ́ЦА**, рака ў Кіраўскім і Рагачоўскім р-нах, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 35 км.
Пл. вадазбору 250 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Старое Заліцвінне Кіраўскага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Каласы Рагачоўскага р-на. Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Даліна трапецападобная. Пойма асушаная, яе шырыня 0,3—1 км. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу, шырыня ракі ў межань 3—7 м. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ДАБРЫ́ЦА**, рака ў Чэрвеньскім і Бярэзінскім р-нах, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 25 км.
Пл. вадазбору 130 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Мар'ямполь Чэрвеньскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Вусце Бярэзінскага р-на. Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Ад

Дабееўскае возера.

вытоку 5 км рэчышча каналізавана.

**ДАБРЫЦА,** рака ў Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 149 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Сялец, вусце за 1 км на Пн ад г. Рагачова. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. У верхнім і ніжнім цячэнні пераважае лес, у сярэднім — сельгасугоддзі.

**ДАБРЫЦА,** рака, гл. *Добрыч.*

**ДАВЫДАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток канала Вінец (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Міхнавічы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Тулоўшчына Пружанскага р-на.

**ДАВЫДАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Зыбайлы, вусце за 6,5 км на Пд ад в. Корачын.

**ДАВЫДЗЕНСКАЕ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,07 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,37 км.**

У бас. р. Чарнуйка (левы прыток Обалі), за 28 км на ПнЗ ад Гарадка, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Смароднік. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, на Пн пад лесам. Упадае ручай з Масліцкага возера.

**ДАЙНАВА,** ручай у Воранаўскім р-не, правы прыток Жыжмы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца на Пд ад в. Рамуці, упадае ў Жыжму за 1 км на ПнУ ад х. Малыя Навасады. На ўсім працягу каналізаваны.

**ДАКЛОНЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, правы прыток Буднеўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 4,7 км. Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Залог, упадае ў сажалку на Буднеўскім канале за 1,8 км на У ад в. Буднеў.

**ДАКОЛЬКА,** Д а к о л ь, рака ў Старадарожскім і Глускім р-нах, правы прыток Пцічы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 43 км.**
**Пл. вадазбору 462 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Кармазы Старадарожскага р-на, цячэ па паўночнай частцы Прыпяцкага Палесся, цяпер меліяраванай. Асноўныя прытокі — р. Сноўка (справа) і р. Ольніца (злева). Упадае ў Пціч за 2 км вышэй ад в. Касарычы. Даліна невыразная. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае, шырыня яго 5—20 м, у вусці — 12 м.

**ДАЛЁКІ,** Д у д а р ы н с к і   к а н а л, ручай у Лідскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 3 км. Пачынаецца каля в. Далёкія, упадае ў Дзітву на З ад в. Гарняты. На ўсім працягу каналізаваны.

**ДАЛЬНЯЯ КАНАВА,** Г а р а ж а н к а, меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, левы прыток р. Вясейка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Краснае Сяло, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Ізбудзішчы.

**ДАМАЛКА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Белая Натапа (бас. Дняпра). Даўжыня каля 6 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Кокатава, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Зарэчча. Рэчышча каля вусця каналізаванае на працягу 2,3 км.

**ДАМАНАВЦКІ КАНАЛ,** Д а м а н а в і ц к а я   к а н а в а, меліярацыйны канал у Салігорскім і Жыткавіцкім р-нах, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 30 км. Пачынаецца з Асавецкага канала за 2 км на Пн ад в. Абідземля Салігорскага р-на, вусце за 4,5 км на Пн ад в. Новыя Мілевічы Жыткавіцкага р-на.

**ДАМАНАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 1,82 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,5 м.**
**Даўжыня 2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Аб'ём вады 1,82 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4160 км$^2$.**

У сутоках рэк Шчара і Грыўда, за 16 км на ПнУ ад г. Івацэвічы, каля в. Даманава. Створана ў 1954 для энергетычных мэт і рыбагадоўлі. Чаша вадасховішча — частка пойм Шчары і Грыўды, агароджанай дамбай даўжынёй 6,75 км. Напаўняецца вадой р. Шчара, якая паступае праз шлюзы з *Чамялынскага вадасховішча,* размешчанага вышэй па цячэнні. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,1 м. Сярэдні шматгадовы аб'ём сцёку 523 млн. м$^3$.

**ДАМАНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Дыманоўскае возера.*

**ДАМАНКА,** рака, гл. *Думанка.*

**ДАМАШКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Докшыцкім р-не.

**Пл. 0,67 км$^2$.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,08 км.**
**Пл. вадазбору 11,9 км$^2$.**

У бас. р. Бярэзіна, за 35 км на ПдУ ад г. Докшыцы, каля в. Дамашкавічы. Схілы катлавіны вышынёй 20—25 м (на ПнЗ 5—8 м), параслі лесам, на Пн разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн і ПдУ нізкія.

**ДАМАШЭЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Баранавіцкім р-не.

**Пл. 0,25 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**

У бас. р. Шчара, за 7 км на ПнЗ ад г. Баранавічы, каля в. Дамашэвічы. Праз ручай і сістэму меліярацыйных каналаў злучана са Шчарай.

**ДАНЕЦ,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Обаль, за 27 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 4 км на З ад в. Каз'яны, у лясістым паніжэнні рэльефу. Вакол возера забалочаная пойма.

**ДАНІЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Дабрынь, упадае ў вадасховішча Млынок з Пд за 2 км на ПнУ ад в. Дабрынь.

**ДАРАЖЫВЕЛЬ,** З м е й к а, рака ў Кармянскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 33 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на У ад в. Малянік, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Васілеўка. Рэчышча на працягу 3,4 км ад вусця каналізавана. У вадазборы пераважае лес.



Возера **Даўблі.**

**ДАРАНКА,** рака ў Кіраўскім і Бабруйскім р-нах, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 20,5 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнУ ад в. Падрэчча Кіраўскага р-на, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Воўчая Гара Бабруйскага р-на. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ДАРАЎЛЯНКА,** рака ў Маладзечанскім і Валожынскім р-нах, правы прыток Яршоўкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 79 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Ермакі, працякае па заходняй ускраіне Мінскага ўзвышша, упадае ў Яршоўку за 2 км на ПнУ ад в. Сярэдняе Сяло.

**ДАСКА,** рака ў Магілёўскім р-не, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 11 км.**

**Пл. вадазбору 38 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,7 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Мяжысеткі, вусце на ўсх. ускраіне в. Дашкаўка. На рацэ 2 плаціны і сажалкі ў вёсках Мяжысеткі і Лежнеўка.

**ДАТЫНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 1,02 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,22 км.**
**Пл. вадазбору 1,25 км².**

У бас. р. Свіна, за 38 км на ПнЗ ад г. Гарадок. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам. На У з возера выцякае ручай у воз. Малое Свіно.

**ДАЎБЕНІШКІ,** возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Дзісна, за 14 км на З ад г. п. Шаркоўшчына, за 2,5 км на Пд ад в. Зябліны, на вярховым балоце Мох.

**ДАЎБЛІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,64 км².**
**Найбольшая глыбіня 25,8 м.**
**Даўжыня 3,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,1 км.**
**Аб'ём вады 13,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 13,1 км².**

У бас. р. Друйка, за 12 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Даўблі. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, разараныя, у ніжняй частцы параслі хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, пад хмызняком, месцамі вышынёй да 1 м, абразійныя. Зарастае слаба. Шырыня паласы расліннасці ад 20 м да 100 м, пашырана да глыбіні 2 м. Упадаюць 2 ручаі, выцякае ручай у р. Акунёўка.

**ДАЎЖАНКА,** рака ў Бялыніцкім і Клічаўскім р-нах, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 37 км.**
**Пл. вадазбору 272 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Стадолішча Бялыніцкага р-на, вусце на паўночна-ўсходняй ускраіне в. Даўжанка Клічаўскага р-на. Цячэ па паўднёва-ўсходняй ускраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Асноўны прыток — р. Рудка (справа). Даліна невыразная, у ніжнім цячэнні трапецападобная, дробнаўрэзаная, шырынёй 1 км. Да в. Доўгае Клічаўскага р-на схілы параслі мяшаным забалочаным лесам, ніжэй адкрытыя. Пойма двухбаковая, лугавая, у верхняй частцы забалочаная. Рэчышча ў вытоку на працягу 5 км каналізаванае, ніжэй звілістае. У вадазборы пераважае лес.

**ДАХЛОЎКА,** рака ў Пружанскім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 226 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Паддубна (Пружанскі р-н), упадае ў Мухавец каля паўднёвай ускраіны в. Мухалоўкі (Кобрынскі р-н). У верхнім цячэнні называецца Г а р а д з е ч н а. Рэчышча каналізаванае амаль на ўсім працягу.

**ДАХНАРКА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток Дрысы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 208 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Выцякае з воз. Белае, цячэ ў забалочанай мясцовасці па Полацкай нізіне, працякае праз воз. Дахнарскае. Асноўны прыток р. Лонніца (справа). Упадае ў Дрысу за 2 км ніжэй ад в. Баркі. Даліна ў ніжнім цячэнні добра выражана, шырыня яе 200—300 м.

**ДАХНАРСКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,47 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,7 м.**
**Даўжыня 0,89 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,71 км.**
**Аб'ём вады 0,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 73,8 км².**

У бас. р. Дахнарка (працякае праз возера), за 14 км на Пн ад г. Полацк, каля в. Рудня. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, параслі лесам, на Пд разараныя. Берагі пераважна сплавінныя, на Пн забалочаныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**ДВАРАНІНАВІЦКІ КАНАЛ,** рака, гл. *Рылейка.*

**ДВАРЫШЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 13,6 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Дворышча, упадае ў Бярэзіну за 4,5 км на Пд ад в. Дабравольшчына. Па берагах пераважае забалочаны лес.

**ДВАРЫШЧАНСКІ КАНАЛ,** гл. *Церабуцкі 1-ы канал.*

**ДВАРЭЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 50 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Тросніца, за 20 км на ПнУ ад г. Полацк, за 1 км на У ад в. Стадола. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя. На У пойма шырынёй да 25 м.

**ДВАРЭЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мінскім р-не, левы прыток Сямёнаўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Выцякае з р. Сямёнаўка за 1 км на ПнЗ ад в. Дварэц.




Возера Даўблі.




Возера Даўблі.

упадае ў Сяменаўскі канал за 2 км на У ад в. Забалацце.

**ДВОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.**

У бас. р. Дзісна, за 20 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Відзы Лаўчынскія. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, парослі хмызняком. На З злучана ручаем з возерам без назвы.

**ДВОРЫШЧА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Лужаны ва ўрочышчы Гай, упадае ў Бярэзіну за 1,5 км на Пд ад п. Беразінскі (месцазнаходжанне вусця залежыць ад рэжыму эксплуатацыі палёў здабычы торфу). На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцек з асушальных каналаў.

**ДВОРЫШЧА,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,85 км.**

На пойме р. Прыпяць, за 18 км на З ад г. Калінкавічы, за 1 км на Пд ад в. Міхнавічы. Старычнае. Схілы катлавіны невыразныя. Звілістая берагавая лінія ўтварае падоўжаныя вузкія залівы. Берагі высокія, пад хмызняком. У заходняй частцы невялікі востраў.

**ДВÓРЫШЧА,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 14 км на ПдУ ад г. Калінкавічы, за 2,5 км на ПдУ ад в. Пеніца. Схілы катлавіны невыразныя, пераважна разараныя. Берагі вышынёй да 1 м, пясчаныя. Злучана пратокай з воз. Цімошышчы (на ПнЗ), ручаём з воз. Малое (на У).

**ДВÓРЫШЧА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,62 км.**

У бас. р. Мёрыца (левы прыток Зах. Дзвіны), за 1 км на ПнЗ ад г. Міёры, каля в. Дворышча. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, пад агародамі, на Пн і ПдЗ часткова пад хмызняком. Упадае некалькі ручаёў, на Пд выцякае ручай у воз. Мёрскае.

**ДВÓРЫШЧАНСКАЕ ВÓЗЕРА,** у Маларыцкім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,54 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 км.**
**Аб'ём вады 0,43 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,8 км².**

У бас. р. Маларыта, за 11 км на ПдЗ ад г. Маларыта, каля в. Дворышча. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, спадзістыя, пад лугам. Берагі нізкія, тарфяністыя. У возера з дапамогай помпаў падаецца вада з асушальных каналаў, а ПдУ выцякае ручай у р. Маларыта.

**ДЖЫДЗІННЕ,** вадасховішча ў Іванаўскім р-не.

**Пл. 2,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 2 км.**
**Аб'ём вады 7 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3870 км².**

Налíўное. Створана ў 1983 за 23 км на Пн ад г. Іванава, за 3 км на З ад в. Тышкавічы, на меліяраваным балоце Моталь, на месцы аднайменнага возера. Напаўняецца вадой з р. Ясельда ў час веснавой паводкі. Берагі нізкія, забалочаныя, месцамі пад лесам. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 2 м. Выкарыстоўваецца для арашэння зямель, рэкрэацыі.

**ДЗВЕ́Я,** рака, гл. *Змейка.*

**ДЗВІНА ЗАХÓДНЯЯ,** гл. *Заходняя Дзвіна.*

**ДЗВІНАСА́,** рака ў Лагойскім і Вілейскім р-нах, левы прыток Віліі.

**Даўжыня 54 км.**
**Пл. вадазбору 614 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Задворнікі Лагойскага р-на, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, вусце каля в. Стахі. У верхнім цячэнні называецца С ы т н і ц а. Асноўныя прытокі: Малка, Рудаўка, Балавец, Вейнка, Дзвонка. Даліна амаль не выражана. Пойма двухбаковая, пераважна забалочаная (асабліва ў ніжнім цячэнні), шырыня яе 100—150 м. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 3,3 км каналізаванае, яго шырыня ў межань 5—15 м. Берагі стромкія. На рацэ Плешчаніцкае вадасховішча. Каля в. Расохі створана сажалка (пл. 0,17 км²). Выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ДЗВÍНСКІ КАНА́Л,** Д з в і н с к а я к а н а в а, меліярацыйны канал у Салігорскім і Жыткавіцкім р-нах, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 23 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Капацэвічы Салігорскага р-на, вусце за 5,5 км на З ад в. Грычынавічы Жыткавіцкага р-на.

**ДЗВÓНКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Дзвінасы (бас. Віліі).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 57 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,5 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Ляда, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Дзвінасу за 1 км на Пн ад в. Ляўданшчына (каля вёскі створана сажалка пл. 0,28 км²).

**ДЗЕ́ВІНСКАЕ ВÓЗЕРА,** у Аршанскім р-не.

**Пл. 2 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,6 м.**
**Даўжыня 5,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13,6 км.**
**Аб'ём вады 9,73 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 26,9 км².**

У бас. р. Лучоса, за 30 км на Пн ад г. Орша, каля в. Дзевіна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на Пн і ПнЗ 10 м), пад лугам ці разараныя, асобныя ўчасткі на Пн, ПнУ і ПдУ парослі лесам. Берагі вышынёй 0,3—0,4 м, пад хмызняком. Падводная частка катлавіны ўскладняецца мелямі і ўпадзінамі. 1 востраў пл. 0,2 га. Прыбярэжную зону да глыбіні 3 м высцілаюць пяскі, глыбакаводную — сапрапелі і ілы. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй да 25 м і глыбінёй 1—1,5 м, падводная пашырана да глыбіні 2,5 м. У возера ўпадаюць 9 ручаёў і каналаў, на Пн выцякае р. Серакаратнянка. Уваходзіць у зону адпачынку Дзевінскае.



**Дзевінскае возера.**

**ДЗЕВЯ́ТЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Косаўскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 18 км. Выцякае з возера Бабровіцкае ў лясным урочышчы Чалноўка, упадае ў Косаўскі канал за 4 км на ПнУ ад в. Гічыцы. Прымае прыток — Аляшнянскі канал. Цячэ праз лес, пойма пераважна забалочаная.

**ДЗЕВЯ́ТЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Палічын, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Дварэц.

**ДЗЕГЦЯРÓВА,** возера ў Рэчыцкім р-не. Пл. 0,16 км². На пойме Дняпра, на У ад г. Рэчыца. Старычнае.

**ДЗЕГЦЯРОЎКА,** меліярацыйны канал у Верхнядзвінскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6 км. Выцякае з Ас-

вейскага возера, упадае ў воз. Армея (на тэрыторыі Пскоўскай вобл.) з ПдЗ, за 2 км на Пн ад в. Кастрова.

**ДЗЕГЦЯРО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.**

У бас. р. Бярозаўка, за 6 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Дзегцяры. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пераважна разараныя. З усходняга заліва выцякае ручай у воз. Шубіцкае.

**ДЗЕ́ДАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,26 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,6 км.**

У бас. р. Ловаць, за 41 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 0,4 км на У ад в. Задрачча. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м, пад лугам, з паўночнага боку — хмызняк. На Пн праз канал злучана з сеткай меліярацыйных каналаў.

**ДЗЕ́ДАВЕЦ,** гл. *Балотніцкі канал.*

**ДЗЕ́МЕНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.**

У бас. р. Ушача, за 7 км на Пн ад г. п. Ушачы, за 1 км на У ад в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 1 м, параслі лесам, на З камавыя ўзгоркі вышынёй да 13 м. Берагі пераважна забалочаныя. На ПдЗ выцякае ручай у р. Ушача.

**ДЗЕ́МЕНКА,** Дзяменка, рака ў Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Вятчын, упадае ў Чырвонае возера з ПдУ. Працякае па лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча на працягу 7 км ад вусця каналізаванае.

**ДЗЕ́МІНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,31 км$^2$.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Пл. вадазбору 8,53 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 35 км на ПдУ ад г. п. Расоны. На Пд упадае ручай з воз. Доўгае-Мелкае. Злучана ручаём з р. Дрыса.

**ДЗЕМІ́НЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,31 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,9 м.**
**Даўжыня 1,29 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,98 км.**
**Аб'ём вады 0,62 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 24 км$^2$.**

У бас. р. Крашанка, за 4 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПнУ ад в. Кавалеўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, параслі лесам. У паўднёвым плёсе 2 астравы агульнай пл. 2 га. Дно плоскае, выслана сапрапелямі, уздоўж берагоў і вакол астравоў — пяскамі і ілам. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (60 70 мг/л) і празрыстасцю (0,6 м). Зарастае слаба. У возера ўпадаюць 4 ручаі, у т. л. з воз. Доўгі Дземінец і з возера без назвы; на Пн выцякае ручай у воз. Ваўчо.

**ДЗЕ́МЯ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**
**Пл. вадазбору 1,5 км$^2$.**

У бас. р. Свольна, за 23 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,7 км на Пд ад в. Ізубрыца. Схілы катлавіны вышынёй да 22 м (на З да 5 м), пад лесам. У паўночнай частцы заліў. Востраў пл. 1,6 га. На Пд у Свольну выцякае ручай Дземяніца.

**ДЗЕ́РАВІЖ,** рака ў Аршанскім р-не, левы прыток р. Крапівенка (бас. Дняпра). Даўжыня каля 10 км. Пачынаецца за 0,4 км на Пд ад в. Суднікі, вусце за 1 км на У ад в. Чырвонае Есіпава. Рэчышча на працягу 2,4 км (ад вытоку да в. Макараўка) каналізаванае.

**ДЗЕРАВЯ́НКА,** рака ў Баранавіцкім р-не, левы прыток Лахазвы (бас. Шчары).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 75 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Дзераўная, у вярхоўі цячэ па забалочанай, парослай хмызняком пойме, у сярэднім і ніжнім цячэнні ўчасткамі праз лес. Упадае ў Лахазву на ПдЗ ад в. Тартакі. Каля в. Бярозаўка створана сажалка (пл. 0,15 км$^2$).

**ДЗЕРАЎНО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Шуры (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Зарэчча, упадае ў Шуру за 2 км на ПдЗ ад в. Дзераўное. Каля в. Дзераўное створана сажалка (пл. 0,07 км$^2$).

**ДЗЕРВЯНІ́СКА,** возера, гл. *Кальніца.*

**ДЗЕ́РНА,** рака ў Шклоўскім р-не, левы прыток р. Бася (бас. Дняпра). Даўжыня каля 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Майсеенкі. Рэчышча каля в. Навасёлкі каналізаванае на працягу 3 км. На рацэ на Пн ад в. Майсеенкі плаціна і сажалка.

**ДЗЕТАМЛЯ́НКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 28 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Дзетамля, цячэ ўчасткамі сярод лесу, упадае ў старыцу Нёмана на ПдЗ ад в. Альхоўка. На працягу 4,6 км (ад в. Дзетамля да в. Альхоўка) каналізаваная.

**ДЗІ́ВА,** рака ва Ушацкім р-не (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 29 км.**
**Пл. вадазбору 631 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,09 ‰.**

Выцякае з воз. Урада, цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша, працякае праз азёры Атолава, Турасы, Бярозаўскае і Павульскае, упадае каля в. Янова ў воз. Янова, далей цячэ пад назвай Тураўлянка. Каля 12 % вадазбору Дзівы прыпадае на 130 азёр Ушацкай групы. Пры выхадзе з кожнага возера на некаторай адлегласці рака не замярзае ў самы моцны мароз, а над вадой стаіць пара.

**ДЗІ́ВА,** рака ў Лепельскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 5,8 км.**
**Пл. вадазбору 88 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Выцякае з воз. Астроўна, цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша. Упадае ў воз. Катоўскае з Пд у межах в. Катоўшчына. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.




**Дзевінскае возера.**

**ДЗІ́ВАЦЬ,** ручай у Полацкім р-не, правы прыток Обалі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 2,3 км на Пн ад в. Барысаўка, цячэ па Полацкай нізіне. Упадае ў Обаль каля в. Валюшчына. Ад вытоку да в. Залессе на працягу 4,9 км рэчышча каналізаванае.

**ДЗІ́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,78 км$^2$.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.**

У бас. р. Трэмля (левы прыток Прыпяці), за 35 км на ПнУ ад г. Петрыкаў, 5 км на Пн ад в. Церабаў, сярод забалочанага паніжэння. Схілы катлавіны вышынёй да 1 м, спадзіс-

тыя, парослыя хмызняком. Берагі забалочаныя, пад хмызняком, месцамі сплавінныя.

**ДЗІКАЕ ВОЗЕРА,** у Глускім р-не.

Пл. 0,28 км².

У бас. р. Пціч, за 13 км на ПнУ ад г. п. Глуск, за 3,5 км на У ад пас. Кіраўскае, сярод асушанага тарфянога балота. Дно выслана сапрапелем. Злучана ручаём з р. Ліса.

**ДЗІКАЕ ВОЗЕРА,** у Чэрвеньскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Волма, за 3 км на ПдУ ад г. Чэрвень, на асушаным балоце. Злучана меліярацыйнай канавай з р. Чэрвенка.

**ДЗІКАЕ ВОЗЕРА,** у Чэрвеньскім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Уса (выцякае з возера), за 16 км на Пн ад г. Чэрвень, за 1,5 км на ПнУ ад в. Вішанька. Вакол возера забалочаны хмызняк, з захаду — асушанае балота.

**ДЗІКАЕ ВОЗЕРА,** у Дзятлаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**

У бас. р. Моўчадзь (левы прыток Нёмана), за 11 км на Пн ад г. п. Дзятлава, за 1 км на Пд ад в. Нагародавічы. З паўночнага боку лес. Злучана ручаём з р. Дзятлаўка.

**ДЗІКАЯ,** рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Пагірынскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Страла, упадае ў Пагірынскі канал на ПнУ ад в. Малыя Краглі. На працягу 2,2 км каналізаваная (ад в. Вялікія Краглі да вусця).

**ДЗІКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лагойскім р-не, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Казыры, упадае ў Гайну за 1,5 км на Пд ад в. Чырвоны Бор.

**ДЗІКУШКА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Жалудзянкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 9 км.**
**Пл. вадазбору 86 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Скрыбаўцы, цячэ па паўднёвай частцы Лідскай раўніны, упадае ў Жалудзянку на Пн ад в. Лябёдка. Асноўны прыток р. Ішчальнянка. На ўсім працягу каналізаваная.

**ДЗІМАМЕРСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лоеўскім р-не, правы прыток р. Пясочанка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 0,7 км на Пд ад в. Дзімамеркі, упадае ў Пясочанку за 2,3 км на ПнУ ад в. Майск.

**ДЗІРНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Браслаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток р. Белая (бас. Зах. Дзвіны). Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ісакаўцы Браслаўскага р-на, вусце каля х. Паўлінова Шаркоўшчынскага р-на.

**ДЗІСЕНКА,** назва р. *Дзісна* ў верхнім цячэнні.

**ДЗІСНА,** рака ў Віцебскай вобл. і Літве, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 178 км, у межах Беларусі каля 149 км.**
**Пл. вадазбору 8180 км², у межах Беларусі каля 7730 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 52,4 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 39,7 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Выцякае з воз. Дзіснай (Літва), цячэ па тэрыторыі Браслаўскага (на мяжы з Літвой), Пастаўскага, Шаркоўшчынскага і Міёрскага р-наў па Дзісенскай нізіне — заходняй частцы Полацкай нізіны. У верхнім цячэнні называецца Дзісенка. Асноўныя прытокі: Бірвета, Галбіца, Бярозаўка, Мнюта, Аўта (справа), Дрысвята, Янка, Мацніца (злева). Даліна трапецападобная, шырыня яе 400—600 м, месцамі да 1,5 км. Пойма ў вярхоўі чаргуецца па берагах (шырыня 200—400 м), на астатнім працягу двухбаковая, шырыня яе ў сярэднім цячэнні 80—100 м, у ніжнім да 500 м. Рэчышча звілістае, на працягу 7,7 км (1 км на У ад в. Германаўшчына — 2 км на Пд ад в. Марозаўка Браслаўскага р-на) каналізаванае; шырыня яго 20—30 м, у сярэднім цячэнні да 60 м, у нізоўях да 100 м. Берагі ў вярхоўях нізкія, часткова забалочаныя, на астатнім працягу стромкія, вышынёй 2—7 м, у месцах выхаду грунтавых водаў забалочаныя. Максімальны расход вады 710 м³/с, мінімальны — 5 м³/с (в. Па-



Рака **Дзісна** ў ніжнім цячэнні.

зікі Мёрскага р-на, за 15 км ад вусця; адпаведна 1963, 1960). Рака замярзае ў 2-й дэкадзе снежня, крыгалом у 1-й дэкадзе сакавіка.

**ДЗІТВА,** рака на тэрыторыі Літвы, Воранаўскага і Лідскага р-наў, правы прыток Немана.

**Даўжыня 93 км (у межах Беларусі каля 90 км).**
**Пл. вадазбору 1220 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 8,2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца каля г. Эйшышкес у Літве, за 1,2 км ад в. Даўгердзішкі перасякае мяжу Беларусі, цячэ ў межах Лідскай раўніны, у нізоўі — па Нёманскай нізіне. Вусце за 1,3 км ад в. Бенявічы Лідскага р-на. Асноўныя прытокі: Каменка, Восава, Няшкрупа, Крупка, Лідзея (злева), Радунька, Чарняўка (справа). Даліна выразная, яе шырыня да ўпадзення р. Крупка 1—2,5 км, ніжэй 0,6—1,1 км. Пойма двухбаковая, забалочаная, шырынёй ад 500 м да 1 км. Рэчышча ад мяжы з Літвой (50 км) каналізаванае, ніжэй моцназвілістае, дзеліцца на рукавы. Яго шырыня ў межах 20—25 м, у верхнім цячэнні 5—10 м.

**ДЗЯВІЦА,** рака ў Слуцкім р-не, левы прыток Сівельгі (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 55 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на З-ПнЗ ад в. Целявічы, цячэ па паўднёва-заходняй частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Упадае ў Сівельгу за 1,5 км на ПдЗ ад в. Устронь. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ДЗЯВІЦА,** рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 53 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Салтанаўка, вусце за 4,5 км на ПнЗ ад в. Загор'е. Прывусцевы ўчастак у межах Кармянскага р-на. Па берагах і ў вадазборы расце лес.

**ДЗЯВІЧКІ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,14 км$^2$.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.**
**Пл. вадазбору 2,12 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 20 км на ПнУ ад г. Полацк, каля в. Дзявічкі. Схілы катлавіны невыразныя. На ПнУ з возера выцякае ручай у р. Палату.

**ДЗЯВІЧКІ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Палата, за 42 км на ПнУ ад Полацка, за 1,7 км на Пд ад чыг. ст. Алёшча. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на З невыразныя), параслі хмызняком.



Возера Дзягілі.

**ДЗЯВОЧАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 17,5 м.**
**Даўжыня 1,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,93 км.**
**Аб'ём вады 3,58 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4,15 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 18 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Камень. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м (на Пд і ПдУ 11—20 м), пад хмызняком, месцамі ў верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, участкамі зліваюцца са схіламі. Дно высцілаюць пяскі (да глыбіні 2—3 м) і ілы. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй да 35 м. У возера ўпадае ручай, выцякае ручай у воз. Чаросава.

**ДЗЯГАЎКА,** ручай у Клічаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня каля 6 км. Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Ліцвінава, вусце за 1,5 км на Пд ад чыгуначнага моста ў г. Крычаў. Ад вытоку рэчышча на працягу 3 км каналізаванае.

**ДЗЯГІЛІ,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 1,37 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 1,7 м.**
**Даўжыня 1,71 км.**
**Найбольшая шырыня 1,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,44 км.**
**Аб'ём вады 1,75 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4 км$^2$.**

У бас. р. Вузлянка, за 7 км на ПнУ ад г. п. Мядзел, каля в. Дзягілі. Схілы катлавіны вышынёй 1 м (на Пн да 7 м), параслі хмызняком, на Пн участкамі разараныя. Берагі сплавінныя, тарфяністыя, пад хмызняком. Дно выслана сапрапелем, уздоўж паўночнага берага — пяском. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 1—1,2 м. З возера бярэ пачатак Дзягільскі канал.

**ДЗЯГІЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, правы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 14 км. Пачынаецца з воз. Дзягілі за 2,5 км на Пд ад в. Дзягілі, упадае ў Вузлянку за 5,8 км на З ад в. Новыя Габы.

**ДЗЯГЦЯРКА,** рака, гл. *Вільчанка.*

**ДЗЯЙКОЎСКАЕ,** возера у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,67 км.**

У бас. р. Вужыца, за 2 км на ПнЗ ад паўночна-заходняй ускраіны Віцебска, за 0,5 км на У ад в. Пракуды. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, пад выганам і хмызняком. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—100 м. На У упадае ручай Чарвічны, на ПдЗ выцякае ручай у воз. Іскраўскае.

**ДЗЯНІСКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім і Жлобінскім р-нах, правы прыток р. Ржаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 0,3 км на З ад в. Турск Рагачоўскага р-на, упадае ў Ржаўку за 1,5 км на ПдЗ ад в. Дзяніскавічы Жлобінскага р-на.

**ДЗЯНЦЕЛКА,** рака, гл. *Дзятлаўка.*

**ДЗЯРАЖАНКА,** рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 21 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,2 ‰.**




Дзявочае возера.




Дзявочае возера.

Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Лагады, упадае ў Нёман на У ад в. Турэйск. У верхнім цячэнні каналізаваная.

**ДЗЯРА́ЖНЯ,** Дзяражанка, рака ў Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

Даўжыня 54 км.
Пл. вадазбору 312 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Дзяражня Клімавіцкага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на. Цячэ па паўднёва-ўсходняй ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная шырыня яе 1—2 км. Пойма двухбаковая, у верхнім цячэнні да в. Брацькавічы Касцюковіцкага р-на месцамі забалочаная, ніжэй адкрытая, лугавая, шырынёй 0,7—0,8 км. Рэчышча ад вытоку на працягу 8,3 км каналізаванае, ніжэй звілістае, яго шырыня ў межань 6—10 м.

**ДЗЯРА́ЖНЯ,** Дзяражанка, рака ў Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра).

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 59 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Гарноўка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Дзяражня. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,4 км каналізаванае. Рака перасякае забалочаны лес, у вярхоўі — урочышча Казелькава Варта.

**ДЗЯРА́ЖНЯ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.

У бас. р. Свольна (правы прыток Дрысы), за 21 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3,5 км на ПнУ ад в. Мілавіды, у лесе. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м. Авальная катлавіна акружана забалочанай поймай.

**ДЗЯРА́ЖЫНА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 123 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Краснікі, вусце за 4 км на З ад в. Пераходцы (Лепельскі р-н). Цячэ пераважна па забалочаным лесе.

**ДЗЯРА́ЖЫНА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Асінавік, вусце за 2 км на У ад в. Нябышына.



Рака Дзяражня каля аднайменнай вёскі ў Касцюковіцкім раёне.

Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ДЗЯРА́ЖЫНКА,** Гнілка, рака ў Крупскім р-не, правы прыток Эсы (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 56 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 1,3 км на ПдУ ад в. Віркі, цячэ па паўднёва-ўсходняй частцы Верхнебярэзінскай нізіны. Упадае ў Эсу каля в. Струга. Рэчышча каналізаванае.

**ДЗЯРА́ЖЫНКА,** Дзяражына, Дзяражанка, рака ў Смалявіцкім р-не, левы прыток р. Усяжа (бас. Дняпра). Даўжыня каля 8 км. Пачынаецца з сажалкі на ўсходняй ускраіне в. Тадуліна, вусце за 1 км на Пн ад в. Трубічына. Рэчышча ад в. Кавалеўшчына на працягу 6 км каналізаванае.

**ДЗЯРНО́ВА,** Дзярноўка, рака ў Талачынскім і Аршанскім р-нах, правы прыток р. Адроў (бас. Дняпра).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 99 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Ваўкавічы Талачынскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Рэпухава Аршанскага р-на. Цячэ па Аршанскім узвышшы. Рэчышча ад вытоку да в. Вязьмічы (7 км) і каля в. Смаляны Аршанскага р-на (2,2 км) каналізаванае.

**ДЗЯ́ТЛАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, у бас. Прыпяці і Зах. Буга. Складаецца з 2 частак, якія пачынаюцца за 3,2 км на ПдУ ад в. Дзераўная: даўжыня паўночна-ўсходняй часткі 6 км, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Масткі (далей цячэ пад назвай Маркавіцкі канал, упадае злева ў р. Ласінцы — правы прыток Ясельды); даўжыня паўднёва-заходняй — 23 км, упадае за 1 км на ПдУ ад в. Дзятлавічы ў Валавельскі канал справа (правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала).

**ДЗЯ́ТЛАЎКА,** Дзяніцелка, Зітала, Памарайка, рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Моўчадзі (бас. Нёмана).

Даўжыня 26 км.
Пл. вадазбору 151 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.

Пачынаецца каля в. Юравічы, у межах Навагрудскага ўзвышша, цячэ праз г. п. Дзятлава, упадае ў Гезгальскае вадасховішча (на р. Моўчадзь) на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Гезгалы. На ўсім працягу каналізаваная. Каля в. Нагародавічы створана сажалка (пл. 0,06 км²).

**ДНЕПР,** рака, гл. *Дняпро.*

**ДНЕ́ПРЫК,** рака ў Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра).

Даўжыня 19,6 км.
Пл. вадазбору 118 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца за 1,8 км на ПнУ ад в. Валадарск, вусце на паўднёвай ускраіне в. Дземяхі. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Цячэ пераважна па забалочаным лесе.

**ДНЯПРО́,** Днепр (стараж.-грэч. Borysthénēs Барысфен), рака ў Расіі, на Беларусі і Украіне (у т. л. ў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях Беларусі), другая па даўжыні і плошчы басейна пасля Волгі.

Даўжыня 2201 км (да пабудовы вадасховішчаў 2285 км), на Беларусі 700 км.
Пл. вадазбору 504 тыс. км², на Беларусі 63,7 тыс. км² (без бас. Прыпяці).
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1670 м³/с, каля Оршы 123 м³/с, каля Рэчыцы 364 м³/с.
Агульнае падзенне ракі ў Беларусі 54 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,08 ‰.

Пачынаецца з невялікага балота на Валдайскім узвышшы (Смаленская вобл.) на вышыні 236 м над узроўнем мора, упадае ў Дняпроўскі ліман Чорнага мора. Густата рачной сеткі басейна Дняпра на тэрыторыі Беларусі 0,39 км/км². Асноўныя прытокі на Беларусі: Ухлясць, Ржаўка, Сож (злева), Аршыца, Адроў, Лахва, Друць, Бярэзіна, Прыпяць (справа). Вярхоўі вадазбору ракі ў межах Смаленскага і Аршанскага ўзвышшаў, правабярэжжа сярэдняй часткі верхняга цячэння на Цэнтральнабярэзінскай раўніне, левабярэжжа на Аршанска-Магілёўскай раўніне, што на Пд пераходзіць у нізіну Беларускага Палесся. На Пд ад Рагачова па левабярэжжы ракі цягнецца Прыдняпроўская нізіна. У межах Беларусі даліна пераважна трапецападобная, ніжэй вусця Сажа невыразная. Шырыня яе да Магілёва 0,8—3 км, ніжэй (да вусця Сажа) 5—10 км, у межах Палескай нізіны зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Схілы даліны ўмерана стромкія і спадзістыя, вышынёй 12—35 м, парэзаныя ярамі, лагамі, далінамі прытокаў. Пойма на значным працягу ад Магілёва — двухбаковая тэраса, якая ўзвышаецца над ме217ным уз-

роўнем вады на 5—8 м, шырыня яе 0,1—1 км. Ад Магілёва да Жлобіна пашыраецца да 6 км, у межах Гомельскага Палесся да 10 км. Паверхня поймы ніжэй Магілёва перасечана старыцамі, рукавамі, пратокамі і залівамі, большай часткай адкрытая і разараная. Ёсць павышаныя грывістыя ўчасткі, пясчаныя ўзгоркі і прырэчышчавыя валы. Рэчышча на вялікім працягу моцназвілістае, багатае перакатамі і мелямі, найбольш выразнымі на ўчастку паміж вусцямі рэк Друць і Сож. За 9 км вышэй Оршы рака прарэзае граду дэвонскіх вапнякоў, утварае каля в. Прыдняпроўе так званыя Кабяляцкія парогі. Шырыня ракі 60—120 м, паміж вусцямі Бярэзіны і Сажа 0,2—0,6 км, ніжэй 0,8—1,5 км, а ў зоне падпору ад Кіеўскага вадасховішча 3—5 км. Дно роўнае, пясчанае, часам пясчана-жвіровае. Берагі ад спадзістых да стромкіх, на лукавінах разбураюцца, вышынёй ад 0,5 м да 10 м, у асобных месцах наладжаны берагавыя замацаванні. Асноўны сцёк ракі фарміруецца ў верхнім цячэнні. Галоўная крыніца жыўлення — снегавыя воды (у верхнім цячэнні каля 50 %). Грунтавыя воды складаюць 27 %, дажджавыя 23 % гадавога сцёку. Веснавое разводдзе звычайна праходзіць адной, у асобныя гады дзвюма ці трыма хвалямі. Сярэдняя вышыня над самай нізкай межанню каля Оршы 5,9 м, Магілёва 6,2 м, Рэчыцы 4 м. Вышыня найбольшага ўзроўню 4—7 м, у вярхоўі, дзе пойма вузкая, да 12 м. Замярзае ў канцы лістапада — пачатку снежня, крыгалом у сярэднім цячэнні ў канцы сакавіка — пачатку красавіка. На Беларусі найбольшая таўшчыня лёду 60—80 см (у пачатку сакавіка). Веснавы ледаход 4—9 сутак. Каля Оршы найбольшы расход вады 2000 м$^3$/с (1931), найменшы 8 м$^3$/с (1892), каля Рэчыцы адпаведна 4970 м$^3$/с (1953) і 36 м$^3$/с (1921). Гадавы сцёк завіслых наносаў на Беларусі 250 тыс. т. Вада ў рацэ гідракарбанатна-кальцыевага класа, умерана жорсткая, павышанай і сярэдняй мінералізацыі. Для памяншэння забруджвання Дняпра пры прамысловых і камунальных прадпрыемствах ствараюцца ачышчальныя збудаванні, вядзецца кантроль за гідрахімічным рэжымам ракі, аднак стан ракі пакуль не паляпшаецца. Адмоўны ўплыў на ваду, ілы і жывёльны і раслінны свет у Дняпры аказала катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. У рацэ водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась, верхаводка, гусцяра; каштоўныя — судак, мінога ўкраінская, галавень, падуст, вусач і інш. Вядзецца аматарскае і прамысловае рыбалоўства. Суднаходства ад г. Дарагабуж (Расія) да вусця. Басейн Дняпра злучаны з басейнамі іншых рэк (Заходняя Дзвіна, Шчара, Буг), Бярэзінскай воднай сістэмай, Агінскім каналам, Дняпроўска-Бугскім каналам. Найб. гарады на тэр. Беларусі: Дуброўна, Орша, Шклоў, Магілёў, Рагачоў, Жлобін, Рэчыца.

**ДНЯПРО́ЎСКА-БРА́ГІНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Лоеўскім р-не.

**Пл. 9,68 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,2 м.**
**Даўжыня 4,5 км.**
**Найбольшая шырыня 3 км.**
**Аб'ём вады 42,8 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 590 км$^2$.**

На р. Дняпро (1149 км ад вусця), за 18 км на ПнЗ ад г. Лоеў, паміж вёсак Рэкорд і Бушацін. Створана ў 1987 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 1210 млн. м$^3$.

**ДНЯПРО́ЎСКА-БУ́ГСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Кобрынскім р-не.

**Пл. 1,47 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,2 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 1,13 км.**
**Аб'ём вады 7,07 млн. м$^3$.**



**Дняпроўска-Брагінскае вадасховішча.**


**Дняпро ў Аршанскім раёне.**




Возера **Добрына** (Сенненскі раён).

Наліўное. На канале Арэхаўскі (бас. р. Мухавец), за 7,8 км ад вусця, за 27 км на ПдУ ад г. Кобрын. Створана ў 1986 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 89 млн. м$^3$.

**ДНЯПРОЎСКА-БУГСКІ КАНАЛ**, транспартная артэрыя ў Брэсцкай вобл., звязвае р. Піна (прыток Прыпяці) з р. Мухавец (прыток Зах. Буга).

**Даўжыня 196 км (у т. л. штучная частка шляху 105 км).**
**Глыбіня 1,6 м (у перыяд навігацыі).**
**Шырыня 22—28 м.**
**Пл. вадазбору 8,5 тыс. км$^2$.**

Пабудаваны ў 1775—1848. Суднаходства было магчыма толькі ў мнагаводны перыяд. Неаднаразова рэканструяваўся. Выхаду на Зах. Буг не мае (у вусці Мухаўца створана глухая плаціна для павышэння ўзроўню вады), рух суднаў да Брэста. Падзяляецца на 3 часткі: заходні схіл (ад Брэста да Кобрына, даўжыня 64 км) — зарэгуляваная р. Мухавец; водападзельны б'еф (ад Кобрына да в. Ляхавічы Драгічынскага р-на, даўжыня 58 км); усходні схіл — штучны канал (ад в. Ляхавічы да в. Дубай, даўжыня 47 км) і ўчастак рэканструяванай р. Піна (ад в. Дубай да г. Пінск, даўжыня 27 км). Водападзел непастаянны (залежыць ад воднасці года), ім бываюць вусці Белаазерскага, Дзятлавіцкага і Арэхаўскага каналаў. Асноўныя вадасцёкі і каналы заходняга схілу — р. Мухавец, канал Казацкі, рэкі Шэўня, Жабінка, Рыта; водападзельнага б'ефа — каналы Белаазерскі, Дзятлавіцкі, Арэхаўскі, Каралеўскі; усходняга схілу — канал Завішчанскі, р. Піліпаўка і Нясцуха, каналы Спад, Залядынскі, Галоўны, Зуброўскі, Ляхавіцкі. На канале 10 гідравузлоў, 14 вадавыпускаў, 5 земляных плацін і 3 перапады. Асноўная крыніца жыўлення — меліярацыйная сістэма, якая ўключае галаўны гідравузел на Прыпяці для перакіду вады ў азёры Святое, Валянскае (у межах Украіны) і Белае. Азёры рэгулююць сцёк і падачу вады па Белаазерскім канале ў водападзельны б'еф. Выкарыстоўваецца таксама як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ДНЯПРОЎСКА-НЁМАНСКІ КАНАЛ**, Хадакоўскі канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Іванаўскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 31 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Ябловка Івацэвіцкага р-на, вусце за 10 км на ПнЗ ад в. Тышкавічы. Канал праходзіць па лясістай і забалочанай мясцовасці (у сярэднім і ніжнім цячэнні па былой меліярацыйнай канаве Жыдоўка). Прытокі — каналы Уласаўцы і Галоўны (злева).

**ДНЯПРЭЦ**, рака ў Горацкім р-не, правы прыток р. Быстрая (бас. Дняпра).

**Даўжыня 25 км.**
**Пл. вадазбору 71 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Зайцава, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Паляшчыцы. Цячэ па паўднёвых схілах Смаленскага ўзвышша і па Горацка-Мсціслаўскай раўніне. На рацэ вадасховішча Дняпрэц.

**ДНЯПРЭЦ**, вадасховішча ў Горацкім р-не.



**Дняпроўска-Бугскі канал** каля вёскі Ляхавічы Драгічынскага раёна.



**Рака Добасна каля вёскі Побалава Рагачоўскага раёна.**

**Пл. 0,98 км².**
**Найбольшая глыбіня 9 м.**
**Даўжыня 6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Аб'ём вады 4,42 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 59 км².**

На р. Дняпрэц, за 7 км на У ад г. Горкі, каля вёсак Буда, Кварцяны, Паляшчыцы. Створана ў 1979 для арашэння. Ваганні ўзроўню на працягу года 5 м. Слабапраточнае. Сярэдні шматгадовы сцёк 15,4 млн. м³.

**ДОБАСНА,** Дабасна, Добысна, рака ў Кіраўскім, Рагачоўскім і Жлобінскім р-нах, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 81 км.**
**Пл. вадазбору 874 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля пас. Скачок Кіраўскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне г. Жлобін. Цячэ ў межах паўночнай часткі Гомельскага Палесся. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная, шырынёй 700—900 м. Пойма двухбаковая, яе шырыня 200—300 м. Рэчышча каналізаванае амаль на ўсім працягу. Шырыня ракі ў межань 5—15 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку 3-й дэкады снежня, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 1,8 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у 3-й дэкадзе сакавіка. Веснавы ледаход 3—5 сутак.

**ДОБАСНА,** вадасховішча ў Кіраўскім р-не.

**Пл. 1,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 6,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 1,9 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 156 км².**

На р. Добасна, за 10 км на У ад г. п. Кіраўск, каля вёсак Лешчанка, Кісцяні, Барчыцы і Новая Добасна. Створана ў 1969 для арашэння і рыбагадоўлі. У 1974—81 рэканструявана. Берагі вышынёй да 2 м, пад ворывам і хмызняком. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,25 м. Сярэдні шматгадовы сцёк у створы плаціны 2,1 млн. м³.

**ДОБРАЕ ВОЗЕРА,** у Рагачоўскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**

На пойме р. Дняпро, за 5 км на ПД ад г. Рагачоў, за 2,5 км на У ад в. Лучын. Старычнае. Усходні бераг пад лесам. На Пн злучана ручаём са старыцамі.

**ДОБРАСЦЬ,** Задобрасць, рака ў Крычаўскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 87 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Дарлівае, вусце на паўднёвай ускраіне г. Крычаў. Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Ад вытоку да в. Касцюшкавічы (8,8 км) і на працягу 1,8 км на прывусцевым участку рэчышча каналізаванае. Каля в. Каліміна на рацэ плаціна і сажалка.

**ДОБРАЯ,** Каханка, рака ў Мядзельскім р-не, левы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня [redacted] км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Гарадзішча, упадае ў Вузлянку за 2 км на У ад в. Бонда. На ўсім працягу каналізаваная.

**ДОБРУШСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток Траяноўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Папанін, упадае ў Траяноўскі канал за 0,7 км на Пн ад в. Добруш.

**ДОБРЫНА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,46 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,1 м.**
**Даўжыня 1,49 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,6 км.**
**Аб'ём вады 3,52 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,1 км².**

У бас. р. Бяроза, за 10 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Цыганкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м (на Пн да 13 м), на ПнУ разараныя, на Пн пад хмызняком. Берагі месцамі абразійныя. Дно да глыбіні 12 м выслана апясчаненымі адкладамі, глыбей — іламі. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 20 м, падводная расліннасць пашырана да глыбіні 3,5 м. У возера ўпадае 6 ручаёў, выцякае ручай у воз. Бярозаўскае.

**ДОБРЫНА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,37 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**
**Даўжыня 1,59 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,69 км.**
**Аб'ём вады 1,12 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 15,2 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 10 км на ПдЗ ад Віцебска, каля в. Добрына. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м (на Пн і Пд да 5 м), у верхняй частцы разараныя, на У пад хмызняком. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, уздоўж урэзу вады — параслі хмызняком, на Пн нізкія, пераўвільготненыя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей сапрапелі, ілы. Зарастае слаба. Шырыня паласы расліннасці




**Возера Добрына (Віцебскі раён).**




**Возера Добрына (Віцебскі раён).**

5—6 м (вакол мысаў да 20 м). У возера ўпадае ручай, на Пн выцякае ручай у Зах. Дзвіну.

**ДОБРЫНКА,** рака ў Сенненскім р-не, левы прыток Серакаратнянкі (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 112 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на З ад в. Аланцава (у верхнім цячэнні рака называецца Р ы ш т а), цячэ па лясістай мясцовасці ў межах Аршанскага ўзвышша і па Лучоскай нізіне. Асноўны прыток р. Зерамнянка (справа). Упадае ў Серакаратнянку (левы прыток Лучосы) каля в. Роднае Сяло. Рэчышча ад вытоку на працягу 8,3 км каналізаванае. У ніжнім цячэнні на рацэ плаціна і сажалка.

**ДОБРЫНКА,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца з р. Таліца каля в. Языль, вусце за 1,7 км на Пд ад в. Вярхуціна.

**ДОБРЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Добрынка, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Вярхуціна.

**ДОБРЫЧ,** Д а б р ы ц а, Д а б р ы х а, к а н а л Д а б р ы ц а, рака ў Рагачоўскім і Кармянскім р-нах, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 36 км.**
**Пл. вадазбору 234 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,4 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 0,2 км на З ад в. Рубанае Рагачоўскага р-на, вусце за 3 км на У ад в. Высокае Кармянскага р-на. Цячэ па Чачорскай раўніне. Асноўны прыток р. Ржаўка. Даліна пераважна трапецападобная, шырыня яе ў сярэднім цячэнні 300—800 м. Пойма пераважна двухбаковая, шырынёй 100—500 м. Ад вытоку да моста каля в. Пятровічы Кармянскага р-на рэчышча каналізаванае (7,2 км), ніжэй звілістае. Шырыня ракі ў межань ад 1 м ў вярхоўі да 5—6 м у ніжнім цячэнні. Берагі вышынёй 0,5—2 м. На рацэ плаціна і сажалка каля в. Стараград Кармянскага р-на.

**ДОБЫСНА,** рака, гл. *Добасна.*

**ДОМАНТАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, правы прыток р. Мажа (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Навасёлкі Браткаўскага сельсавета, вусце каля в. Домантавічы.



**Домжарыцкае возера.**



**Домжарыцкае возера.**

**ДОМАШНЯ,** рака ў Чэрыкаўскім р-не, правы прыток р. Сянна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 29 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Міхайлаўка, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Драгунскія Хутары. Паабапал ракі пераважае лес. У в. Галоўчыцы на рацэ плаціна і сажалка.

**ДОМЕЛЬКА,** рака ў Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Усяжа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 51 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца па паўднёвай ускраіне в. Багута, вусце за 1 км на Пн ад в. Ізбіцкае. Ад в. Задомля да вусця (5,9 км) рэчышча каналізаванае. Паміж вёскамі Багута і Задомля 2 сажалкі.



**Доўгае возера** (Глыбоцкі раён).

**ДОМЖАРЫЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 2,29 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,2 м.**
**Даўжыня 1,97 км.**
**Найбольшая шырыня 1,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,1 км.**
**Аб'ём вады 2,81 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 30,5 км².**

У бас. р. Сергуч, за 26 км на ПдЗ ад г. Лепель, за 1 км на У ад в. Домжарыцы, на тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Схілы катлавіны нізкія, параслі лесам і хмызняком. На У вялікі заліў. Берагі нізкія, забалочаныя, у паўднёвай частцы тарфяністыя, пад хмызняком. Дно плоскае, каля берагоў выслана торфам, месцамі пяском, у цэнтральнай частцы сапрапелем. Вада вызначаецца нізкай празрыстасцю (да 0,6 м), мяшчае вялікую колькасць арганічнага рэчыва. Возера поўнасцю зарасло падводнай расліннасцю, уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 150 м. На Пн выцякае ручай у р. Сергуч.

**ДОМСА,** рака ў Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Запакулка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Ветка, вусце за 1 км на Пд ад в. Шылавічы. Ад вытоку да в. Вялікі Кудзін (1,9 км) рэчышча каналізаванае.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** самае глыбокае на Беларусі, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 2,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 53,7 м.**
**Даўжыня 6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 14,9 км.**
**Аб'ём вады 43,17 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 30,4 км².**

У бас. р. Шоша, за 32 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Доўгае. Катлавіна глыбока (на 70—80 м) урэзана ў тоўшчу марэнных адкладаў, схілы вышынёй да 30 м (на ПнЗ і ПдУ да 10 м), пераважна пад хмызняком, на асобных участках параслі лесам. Берагі ў асноўным зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдУ нізкія (да 0,2 м), парослыя хмызняком. Падводныя схілы катлавіны вельмі стромкія. У цэнтральнай частцы возера некалькі глыбокіх упадзін, раздзеленых паднятцямі дна. Зона мелкаводдзя пясчаная і пясчана-галечная, уздоўж усходняга і заходняга берагоў месцамі выслана валунамі. Пяскі пашыраны да глыбіні 10—15 м. Глыбей ложа выслана глінамі, якія ў глыбакаводнай частцы змяняюцца іламі. У залівах фарміруюцца сапрапелі. Водная маса вызначаецца вялікай колькасцю кіслароду ва ўсёй тоўшчы і нізкімі тэмпературамі: у летні час толькі паверхневы слой вады да глыбіні 7—8 м прагравецца да 18—20 °C, ніжэй за 20 м тэмпература складае 5—6 °C. Зарастае слаба. У прыбярэжнай зоне паласа надводнай расліннасці шырынёй да 25 м, месцамі адсутнічае. Падводная расліннасць



**Доўгае возера** (Браслаўскі раён).

пашырана да глыбіні 5—7 м, да 10—12 м трапляюцца імхі. Мае багаты жывёльны свет, адзначаны пасяленні баброў, жыве рэлікт ледавіковага перыяду — рачок лімнакалянус, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу. У мэтах захоўвання унікальнага вадаема возера і прыбярэжная тэрыторыя аб'яўлены азёрным заказнікам Доўгае. На Пн і ПнЗ упадаюць ручаі з азёр Свядава і Псуя, на Пд выцякае ручай у воз. Шо.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Браслаўскім р-не

**Пл. 1,87 км².**
**Найбольшая глыбіня 31 м.**
**Даўжыня 3,53 км.**
**Найбольшая шырыня 1,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13,3 км.**
**Аб'ём вады 10,93 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 83,3 км².**

10,9
12,8
12,7
1
2
18,1
7,8
17,4
7,9
31,0
1,2
1,7
3

1 — р. Дрысвята
2 — з воз. Ставок
3 — р. Дрысвята

**Доўгае возера** (Браслаўскі раён).




Доўгае возера (Лепельскі раён, плошча 0,65 км²).




Доўгае возера (Расонскі раён).

У бас. р. Дрысвята (цячэ праз возера), за 24 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Хвасты. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на ПдЗ да 5 м, спадзістыя), параслі хваёвым і мяшаным лесам, на Пд разараныя. Берагі пераважна абразійныя, абрывістыя, на асобных участках зліваюцца са схіламі, у паўночным заліве сплавінныя, пад хмызняком і лесам. Дно складанай будовы (плоскія ўчасткі глыбінёй да 5 м чаргуюцца з глыбокімі ўпадзінамі і мелямі). 6 астравоў агульнай пл. 6,3 га. Прыбярэжная частка дна да глыбіні 3—4 м (месцамі да 5 м) пясчаная, глыбей — ілы і сапрапелі. Пры вытоку на р. Дрысвята пабудавана ГЭС, у выніку чаго ўзровень возера падняўся да 5 м (да будаўніцтва плаціны пл. возера 1,13 км²), аднавіліся працэсы перапрацоўкі берагоў. Адзначаецца сутачнае ваганне ўзроўню на 0,2 м. Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м, поўнасцю зарастаюць залівы.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,69 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,7 км.**
**Аб'ём вады 2,17 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 7,8 км².**

У бас. р. Эса, за 4 км на ПдУ ад г. Лепель, каля в. Дворышча. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м (на У да 4 м), разараныя, месцамі пад лугам. Берагі ўчасткамі параслі хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелямі, зона мелкаводдзя пясчаная. Зарастае да глыбіні 2,3 м. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 10 м. У возера ўпадаюць 3 ручаі, на Пд выцякае ручай у Задняе возера.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,65 км².**
**Найбольшая глыбіня 28,4 м.**
**Даўжыня 2,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 5,22 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,2 км².**

У бас. р. Зеха, за 13 км на ПнЗ ад г. Лепель, каля вёсак Крыўцы і Пунішча. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, параслі лесам, на Пн і ПнЗ часткова разараныя. Берагі амаль паўсюдна зліваюцца са схіламі, на Пд і ПдУ нізкія. Падводная частка катлавіны стромка-ўвагнутай формы з рэзкім павелічэннем глыбінь у цэнтры. Паўночна-заходняя частка возера мелкаводная. Дно да глыбіні 8 м выслана пясчанымі адкладамі, глыбей — сапрапелямі. Шырыня паласы надводнай расліннасці ўздоўж берагоў да 50 м, падводная пашырана да глыбіні 3,5—4 м. На ПнУ з возера выцякае ручай у воз. Пышна.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Шчучынскім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,68 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,95 км.**

У бас. р. Бярвенка (выцякае з возера), за 34 км на ПнЗ ад г. Шчучын, каля в. Арлова Гара. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад лесам, на ПнУ і ПнЗ месцамі разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком, месцамі сплавінныя. Дно амаль цалкам выслана сапрапелем.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,48 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,6 м.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,1 км.**
**Аб'ём вады 1,6 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,9 км².**

У бас. р. Нешчарда, за 16 км на У ад г. п. Расоны, за 2,5 км на ПнЗ ад в. Горы. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, параслі хваёвым лесам, на У разараныя. Берагі месцамі забалочаныя, пад хмызняком. Дно пясчанае, глыбей 2-х м выслана сапрапелем. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 15—30 м. Злучана пратокамі з азёрамі Круглае і Нешчарда (на адной з іх жывуць бабры).

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,8 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,67 км.**
**Аб'ём вады 0,48 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4 км².**

У бас. р. Крашанка, за 20 км на Пд ад г. Полацк, за 1,5 км на У ад в. Саламір'е. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, пад лесам. Берагавая лінія звілістая, утварае некалькі заліваў. У цэнтры возера востраў пл. 0,4 га. Дно на 80 % плошчы выслана сапрапелем. Злучана ручаём з воз. Уклеенка.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Даўжыня 0,93 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,12 км.**
**Пл. вадазбору 1,75 км².**

У бас. р. Нача, за 25 км на ПдЗ ад г. Полацк, каля в. Слабада. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, параслі хмызняком, на Пд разараныя.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 0,98 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,18 км.**
**Пл. вадазбору 38,9 км².**

У бас. р. Астроўніца (выцякае з возера), за 26 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Астроўна. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, пад хмызняком. Берагі высокія. У возера ўпадаюць ручаі з азёр Астроўна і Мелкае.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,21 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 1,32 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 3 км.
Аб'ём вады 0,58 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5,79 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, паміж вёскамі Далапечына і Асінаўка. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м (на З да 6 м), пераважна пад хмызняком, на З месцамі разараныя. Берагі высокія, на У зліваюцца са схіламі, на Пд і З месцамі сплавінныя. На Пн упадае ручай з воз. Рукшанскае, злучана ручаём з воз. Плацішна.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Рэчыцкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.

На пойме Дняпра, за 5 км на Пн ад г. Рэчыца, каля в. Чорнае. Старычнае. Злучана ручаём з Дняпром.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.
Пл. вадазбору 5 км$^2$.

У бас. р. Бярэжа, за 16 км на ПдУ ад г. Міёры, на тэрыторыі гідралагічнага заказніка Ельня, на вярховым балоце Мох. Берагі забалочаныя. Злучана канавамі з азёрамі Бярэжа і Плоскае.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
Даўжыня 0,85 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.
Пл. вадазбору 3,95 км$^2$.

У бас. р. Лучоса, за 20 км на ПдУ ад Віцебска, каля в. Зазыбы 2-я. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м (на Пд да 4 м, спадзістыя), парaслі хмызняком. Берагі высокія, на Пн зліваюцца са схіламі. Злучана ручаём з Дымаправаўскім возерам, на ПнЗ выцякае ручай у Лучосу.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 1,12 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,55 км.
Пл. вадазбору каля 1 км$^2$.

У бас. р. Росіца, за 20 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Юльянова. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м, парaслі лесам. Берагі амаль паўсюдна зліваюцца са схіламі, на ПнУ забалочаныя. На ПнУ выцякае ручай у воз. Чорнае.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.

У бас. р. Свіна (правы прыток Обалі), за 34 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 2,2 км на ПнУ ад в. Асмата, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 7—15 м, на Пд прымыкае балотны масіў. Возера акружана забалочанай поймай (шырыня 30—50 м), парослай хмызняком.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Даўжыня 0,51 км.
Найбольшая шырыня 0,21 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.

У бас. р. Галбіца, за 29 км на У ад г. Паставы, каля в. Жуперкі. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, разараныя, часткова пад выганам. Выцякае ручай у воз. Круглае.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 36 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 3,3 км на ПдУ ад в. Сельнікі, сярод лесу, забалочанага каля ўсходняй ускраіны возера. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, на У невыразныя.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Аўсянка (цячэ праз возера), за 28 км на Пн ад г. Гарадок, за 0,5 км на У ад в. Церахі, сярод балота.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,46 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.

У бас. р. Галбіца, за 19 км на ПдУ ад г. Паставы, за 2 км на У ад в. Смычо, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 5 м. Берагі на Пд і З забалочаныя. Праз возера цячэ р. Смычыца.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.

У бас. Зах. Дзвіны, за 20 км на ПнЗ ад Полацка, за 1,6 км на З ад в. Залессе. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на У пад лесам, на З разараныя. На З і Пд забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. Выцякае ручай у Зах. Дзвіну.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, за 0,6 км на У ад в. Антунова. Схілы катлавіны на Пд і ПдУ вышынёй 5—7 м (на З да 3 м), пад лесам, на Пн невыразныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—100 м. Упадае ручай.

**ДОЎГАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,27 км.
Найбольшая шырыня 0,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.

У бас. р. Чарнуйка, за 32 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1,7 км на ПнУ ад в. Ключ, сярод лесу. Схілы катлавіны на Пд і У вышынёй да 7 м. Упадае ручай з воз. Астравіта, выцякае ручай у р. Чарнуйка.

**ДОЎГАЕ-МЕЛКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.
Пл. вадазбору 1,88 км$^2$.

У бас. р. Дрыса, за 34 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на Пд ад в. Мачулішча. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, парaслі лесам.

**ДОЎГАЯ,** Безназоўны канал, рака ў Рагачоўскім р-не, левы пры-




**Доўгае возера** (Ушацкі раён, плошча 0,21 км$^2$).

ток р. Гутлянка (бас. Дняпра). Даўжыня каля 10 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Стары Доўск, вусце за 0,5 км на У ад в. Канава. Ад вытоку да в. Валасовічы (6,5 км) рэчышча каналізаванае. У нізоўі рака цячэ па забалочаным лесе.

**ДОЎГАЯ ДУБРОВА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, правы прыток р. Скрыпіца (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад в. Града, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ацкаванае.

**ДОЎГІ ДЗЕМІНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,13 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 1,9 м.
Даўжыня 1,3 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,97 км.
Аб'ём вады 0,13 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,5 км$^2$.

У бас. р. Крашанка, за 4 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, каля в. Кавалеўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 7—8 м, парослі лесам. Берагі сплавінныя, шырыня сплавіны на Пн і Пд да 50 м. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (75—85 мг/л) і малой празрыстасцю (да 0,6 м). Знаходзіцца на стадыі пераўтварэння ў балота. Поўнасцю зарасло падводнай расліннасцю. На Пн выцякае ручай у воз. Дземінец.

**ДОЎГІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Бярозаўскім р-нах, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Жытлін, вусце за 6 км на ПнУ ад в. Спорава.

**ДОЎГІ МОХ,** ручай у Чавускім р-не, левы прыток р. Раста (бас. Дняпра). Даўжыня 4,9 км. Пачынаецца за 3,2 км на ПнУ ад в. Доўгі Мох, вусце ў гэтай жа вёсцы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ДОЎЖА,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 1,04 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 13,7 м.
Даўжыня 4,89 км.
Найбольшая шырыня 0,42 км.
Даўжыня берагавой лініі 12,24 км.
Аб'ём вады 5,73 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 10,3 км$^2$.

У бас. р. Мядзелка, за 7 км на Пд ад г. Паставы, каля в. Доўжа. Схілы катлавіны вышынёй 2—6 м (на ПдУ да 20 м), разараныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, у асобных месцах абразійныя. Мелкаводная зона пясчаная, глыбакаводная выслана ілам. Зарастае 13 % пл. возера. Паласа расліннасці ўздоўж берагоў шырынёй 3—20 м да глыбіні 2,3 м. На ПнЗ злучана пратокай з воз. Глодава.

**ДОЎЖНА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,28 км$^2$.
Даўжыня 2,4 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,84 км.
Пл. вадазбору 3,9 км$^2$.

У бас. р. Дрыса, за 22 км на ПдУ ад г. п. Расоны, каля в. Прудок. Берагі высокія, на У зліваюцца са схіламі. На Пд выцякае ручай у р. Дрыса.

**ДОЎЖЫНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,65 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 17,9 м.
Даўжыня 2,01 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,23 км.
Аб'ём вады 4,59 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 14,3 км$^2$.



Возера Доўжына.

У бас. р. Крашанка, за 6 км на Пд ад г. п. Ушачы. Схілы катлавіны вышынёй 20—26 м (на ПдЗ 7—15 м), парослі хваёвым лесам. Берагі пад хмызняком, месцамі забалочаныя. Дно да глыбіні 4—7 м высцілаюць пясчаныя адклады, а глыбей — сапрапель і іл. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 25 м, падводная пашырана да глыбіні 5 м. На Пд у возера ўпадае ручай з воз. Баркоўшчына, на Пн выцякае ручай у воз. Вечалле. Уваходзіць у курортную зону Ушачы (непадалёку дом адпачынку «Лясныя азёры»).


Возера Доўжа.

**ДРАГІЧЫН,** возера ў Бабруйскім р-не.

Пл. 0,16 км$^2$.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 0,09 км.

Уяўляе сабой азёрападобнае расшырэнне ручая, які ўпадае ў р. Вір (левы прыток Бярэзіны), за 3 км на ПдУ ад г. Бабруйск. Берагі часткова забалочаныя, уздоўж заходніх расце лес.

**ДРАГУНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Гутлянка (бас. Дняпра). Даўжыня 10,9 км. Пачынаецца за 2,6 км на Пн ад в. Драгунск, упадае ў Гутлянку за 1,3 км на ПнУ ад в. Задвор'е.

**ДРАЖБІТКА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток Сосніцы (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 129 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.

Выцякае з воз. Арлея, цячэ праз азёры Болныра, Дрогава і Сосна па Полацкай нізіне. Ад вытоку да воз. Болныра (3,6 км) рэчышча каналізаванае. Упадае ў Сосніцу за 33 км ад яе вусця.

**ДРАЖНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,007 км$^2$.
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 50 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Нача (левы прыток Зах. Дзвіны), за 28 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,5 км на З ад в. Наўліца, на ўскрайку забалочанага хмызняку. З У акружана высокімі схіламі. Сцёк па канале ў р. Нача.

**ДРАЖНЕНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнУ ад в. Дражна, вусце за 2 км на Пд ад в. Падарэссе.

**ДРАЖНЕЎСКІ КАНАЛ,** гл. *Сінька.*

**ДРАЖНЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім і Светлагорскім р-нах, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 2,8 км на ПдУ ад в. Глебава Рудня Бабруйскага р-на, упадае ў р. Бярэзіна за 2 км на ПдУ ад в. Дражня Светлагорскага р-на.

**ДРАЗДА,** Дрозка, рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Віліі.

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 64 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца каля в. Дзераўно, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, вусце на У ад в. Каменна. На працягу 11,5 км каналізаваная (за 2,3 км на ПнУ ад в. Хадакі да вусця). Каля в. Хадакі створана сажалка (пл. 0,16 км²).

**ДРАЗДОВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км².**

У бас. р. Нача, за 25 км на ПдЗ ад г. Полацк, за 0,5 км на Пд ад в. Слабада. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м (на ПдУ да 15 м), парaслі хмызняком. На Пд выцякае ручай у р. Нача.

**ДРАЗДЫ,** вадасховішча на паўночна-заходняй ускраіне Мінска.

**Пл. 2,1 км².**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13 км.**
**Аб'ём вады 5,7 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 649 км².**

На р. Свіслач, на тэрыторыі кліматa-бальнеалагічнага курорта Ждановічы. Уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму. Створана ў 1976 для тэхнічнага водазабеспячэння і воднага добраўпарадкавання горада. Штучнымі дамбамі, па якіх пракладзены дарогі, катлавіна вадасховішча падзелена за 3 плёсы. Берагі пераважна нізкія, плаўна зліваюцца са схіламі катлавіны, участкамі добраўпарадкаваныя, са штучнымі пляжамі. Дно пясчанае. 4 астравы агульнай пл. 0,05 км². Ваганні ўзроўню вады на працягу года 1—1,5 м. Моцнапраточнае, водная маса мяняецца за 7 сутак. Сярэдняя тэмпература на паверхні вады летам 18,5—21 °С. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня 50—60 см) трымаецца да 3-й дэкады красавіка. Водная расліннасць развіта слаба. На лясістых берагах паўночна-заходняй часткі вадасховішча санаторыі, піянерскія лагеры і дачныя ўчасткі, лодачная станцыя, пляжная зона. Паміж вадасховішчамі Заслаўскае і Дразды пабудаваны канал для воднага слалама. Побач з вадасховішчам створаны арніталагічны заказнік «Лебядзіны» (нярэдка ў час пералётаў у ім спыняюцца рэдкія ахоўныя віды птушак, занесеныя ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь).

**ДРАЙ,** рака ў Смаргонскім р-не, левы прыток р. Кужэц (бас. Віліі).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 15 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 9,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Ласавічы, упадае ў Кужэц на ПдЗ ад в. Залессе. На працягу 5,3 км каналізаваная (ад в. Каты да вусця). Каля в. Каты створана сажалка (пл. 0,14 км²).

**ДРАНЕЎКА,** рака, гл. *Абедзіўка.*



Возера **Доўжына.**


Вадасховішча **Драздны.**

Пл. 36,1 км².
Найбольшая глыбіня 12 м.
Даўжыня 9,86 км.
Найбольшая шырыня 4,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 37,6 км.
Аб'ём вады 223,5 млн. м³.
Пл. вадазбору 459 км².

У бас. р. Друйка (выцякае з возера), каля паўднёвай ускраіны г. Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны пераважна пад лесам, асіметрычныя: на Пн вышынёй 30—37 м, месцамі разараныя, на ПдЗ да 5 м, забалочаныя. На Пд і ПдУ 3 вялікія залівы. Мелкаводная зона шырокая (150—300 м) і спадзістая, глыбокаводная ўзгорыстая: упадзіны глыбінёй 10—12 м чаргуюцца з падняццямі. 6 астравоў агульнай пл. 0,92 км². Дно да глыбіні 3,5—5 м выслана пяскамі, ніжэй — іламі і сапрапелямі (агульная магутнасць адкладаў да 11 м). На ўзровень возера значны ўплыў аказалі паглыбленне рэчышча і будаўніцтва плаціны на Друйцы: у 1926 пры ўзроўні 132 м пл. возера складала 38,2 км², было 8 астравы, у 1958 пры ўзроўні 129 м пл. 32,6 км² — 11 астравоў. Сярэднемесячная тэмпература вады да глыбіні 7 м у чэрвені 17,2 °С, ліпені — 18,8 °С, жніўні — 17,8 °С. У зімовы перыяд паверхневыя тэмпературы складаюць 0,1—0,2 °С, прыдонныя — 3—3,8 °С. Возера замярзае ў канцы лістапада — пачатку снежня, лёд трымаецца да канца сакавіка, часам да сярэдзіны красавіка — пачатку мая. Шырыня паласы расліннасці ўздоўж берагоў ад 35 да 200 м. Растуць рэдкія для флоры Беларусі віды: наяда гнуткая, наяда малая, гідрыла кальчаковая. Водзяцца каля 20 відаў рыб: лешч, судак, акунь, плотка, лінь, рапушка, мянтуз, верхаводка, карась, язь, шчупак і інш.; ёсць вугор. Адзначана гнездаванне ахоўнай птушкі — лебедзя-шыпуна. У возера ўпадаюць рэчкі Усвіца (злучае з воз. Іказнь), Золвіца, Акунеўка, Рака (злучае з воз. Рака), 6 ручаёў. Уваходзіць у зону адпачынку Браслаў, на паўночным беразе турбаза «Браслаўскія азёры».

**ДРЫГІЧ**, рака ў Віцебскім р-не, правы прыток р. Каспля (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца з забалочанага лясного масіву Касплянскай дачы за 44 км на ПнУ ад в. Марчанкі, вусце за 0,5 км на ПнЗ ад в. Курашчаны. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,3 км каналізаванае.

**ДРЫКОЛЬСКАЕ**, возера ў Віцебскім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.

У бас. р. Шэвінка, за 12 км на ПнЗ ад Віцебска, у межах в. Дрыколле. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад агародамі і забудовамі, на ПнУ пад лесам. Злучана каналам з воз. Бароўскае.

**ДРЫСА**, рака ў Расонскім і Верхнядзвінскім р-нах, правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 183 км.
Пл. вадазбору 6420 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 45,6 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.

Агульнае падзенне ракі 45,3 м.

Выцякае з воз. Дрысы, цячэ па паўночнай частцы Полацкай нізіны, праз азёры Астраўцы, Сінша і Бузы, вусце у межах г. Верхнядзвінск. Асноўныя прытокі: Нешчарда, Нішча, Свольна (справа), Шчаперня і Дахнарка (злева). Даліна трапецападобная, месцамі скрынкападобная, ніжэй вусця Нішчы на асобных участках невыразная, шырынёй 0,2—0,5 км, у нізоўі — 1,5 км. Пойма нярэдка забалочаная, яе шырыня 0,1—0,5 км. Рэчышча звілістае, шырынёй 25—45 м. Веснавое разводдзе пачынаецца ў канцы сакавіка, доўжыцца каля 60 сутак. Летне-асенняя межань каля 140 сутак. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у канцы сакавіка — пачатку красавіка. Веснавы ледаход у вярхоўі 8 сутак, у нізоўі 2 сутак. Каля в. Дзёрнавічы Верхнядзвінскага р-на (61 км уверх ад вусця) найбольшы расход вады 279 м³/с (1962), найменшы — 6,34 м³/с (1972).

**ДРЫСВЯТА**, Друкша (рэдка), рака ў Браслаўскім р-не, левы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 44 км.
Пл. вадазбору 1020 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,1 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Грытуны (да пабудовы ГЭС «Дружба народаў» у 1953 рака выцякала з воз. Дрысвя-



Рака **Друць** каля гарадскога пасёлка Бялынічы.

ты). Участак былога рэчышча паміж вескамі Едзішкі і Вусце цяпер лічыцца прытокам Дрысвяты — Дрысвяткай. Верхняе цячэнне ракі ў межах Браслаўскай грады, ніжняе — на З Полацкай нізіны, вусце каля в. Казяны. Асноўны прыток — р. Прорва (злева). На вадазборы 139 азёр, якія займаюць плошчу каля 125 км$^2$ (12 % вадазбору). Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 200—250 м. Пойма перарывістая, яе пераважная шырыня 50—100 м. Рэчышча ўмерана звілістае, паміж вескамі Кякшты (вусце Прорвы) і Едзішкі на працягу 8,9 км каналізаванае. Шырыня рэчышча ў межань да 14 м. Цячэ праз азёры Доўгае, Верхняе (паміж імі пабудавана ГЭС «Шлях да камунізму») і Богінскае. У вадазборы р. Дрысвята, на беразе воз. Дрысвяты (тэрыторыя Літвы) пабудавана Ігналінская АЭС.

**ДРЫСВЯТЫ** (літ. Друкшай), возера на мяжы Браслаўскага р-на і Літвы.

**Пл. 44,5 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 31 м.**
**Даўжыня 13 км.**
**Найбольшая шырыня 5,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 60,3 км.**
**Аб'ём вады 313 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 604 км$^2$.**

У бас. р. Дрысвята, за 22 км на З ад г. Браслаў, каля в. Дрысвяты. Схілы катлавіны — узгоркі і грады вышынёй да 15 м, месцамі спадзістыя, забалочаныя, усходнія і паўднёва-ўсходнія разараныя, астатнія аблесеныя. Звілістая берагавая лінія ўтварае мноства заліваў, асабліва ў паўднёвай частцы. На берагах шмат валуноў. Рэльеф дна ўзгорысты; да глыбіні 5 м пясчаныя грунты, цэнтральная частка выслана ілам, 8 астравоў, найбольшы з іх Замак (пл. 0,26 км$^2$). Зарастае каля 10 % пл. возера. Упадаюць рэкі Апівардка, Рычанка, выцякае р. Прорва. Выкарыстоўваецца як вадаём-ахаладжальнік Ігналінскай АЭС.

**ДРЫСЫ**, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 2,26 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,7 м.**
**Даўжыня 3,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,96 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 11,4 км.**
**Аб'ём вады 5,83 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1578 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса (выцякае з возера), за 35 км на У ад г. п. Расоны, на ПнЗ ад в. Перавоз. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на З 15—20 м), параслі мяшаным лесам. Берагі пад хмызняком і лесам. Дно плоскае. У цэнтры 5 астравоў агульнай пл. 1 га. Мелкаводдзе ўздоўж берагоў і вакол астравоў да глыбіні 2 м (на Пн да 2,5 м) пясчанае і ілістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 2,2—3 м. На Пд упадае р. Ушча, на ПнЗ злучаецца пратокай з воз. Глыба.

**ДРЫЧЫНСКІ КАНА́Л**, М а ц я р ы н с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Цітаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 18,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнЗ ад в. Бор Рудзенскага пассавета, упадае ў Цітаўку за 2 км на ПдЗ ад в. Загай. Прымае сцёк з Мацярынскага возера.

**ДРЭТУНЬ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,28 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 0,84 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,33 км.**
**Аб'ём вады 0,54 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 14,8 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 34 км на ПнУ ад г. Полацк, каля чыгуначнай станцыі Дрэтунь. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, разараныя, на З пад хмызняком. Дно плоскае, уздоўж берагоў выслана пяском і ілам, глыбей — сапрапелямі. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю. У возера ўпадае ручай з воз. Чэрміцца, выцякае ручай у Палату.

**ДУБ**, возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,35 км$^2$.**
**Даўжыня 1,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,25 км.**

У бас. р. Нёман, за 37 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Запур'е, на мяжы з Літвой. Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 8—10 м (на Пд і У 2—3 м), параслі лесам і хмызняком, на Пд участкамі разараныя. Дно выслана сапрапелем.

**ДУБАВЕ́Ц**, возера ў Клічаўскім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 2,3 км.**
**Найбольшая шырыня 50 м.**
**Пл. вадазбору 61,7 км$^2$.**

У бас. р. Бярэзіна, за 23 км на ПдЗ ад г. п. Клічаў, за 50 км на З ад в. Ворліна, уяўляе сабой азёрападобнае расшырэнне ручая Лень. Па берагах лес і хмызняк.

**ДУБАЙСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны



Рака **Дрыса** каля вёскі Валынцы Верхнядзвінскага раёна.

канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 47 км. Пачынаецца за 4 км на У ад в. Гарадная, вусце за 6 км на У ад в. Кораб'е. Прытокі — каналы Вялікалескі, Крушын, Відзіборскі (злева), Магільны, Глінскі (справа). У нізоўі цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ДУ́БАЎКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 177 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Клюшова. У верхнім цячэнні называецца А с е ч а. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша. Асноўны прыток р. Карлячa (справа). Упадае ў воз. Езярышча з ПдУ за 1,5 км на ПнЗ ад в. Жукава.

**ДУ́БАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,7 км. Пачынаецца з Водападводзячага канала за 1,5 км на ПдЗ ад в. Лобча, вусце за 5 км на ПдУ ад в. Парахонск. Па падводнай трубе (дзюкеры) перасякаецца з каналам меліярацыйнай сістэмы «Парахонская».

**ДУ́БАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім і Ляхавіцкім р-нах, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Дубава, упадае ў Шчару за 1,5 км на ПнУ ад в. Літва. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ДУБАЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Альхоўка.*

**ДУБАЎСКОЕ ВО́ЗЕРА,** у Ганцавіцкім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Цна, за 9 км на Пд ад г. Ганцавічы, каля в. Люсіна. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам. Дно выслана сапрапелем.

**ДУ́БЕНКА,** рака ў Мядзельскім р-не, правы прыток Сэрвачы (бас. Віліі). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Папоўка, упадае ў Сэрвач на З ад в. Баравікі. На працягу 5,7 км каналізаваная (ад вытоку да в. Няверы).

**ДУ́БЕНКА,** рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Лебяды (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на У ад в. Вялікае Мажэйкава, упадае ў Лебяду на ўскраіне в. Малое Мажэйкава. На працягу 4,6 км каналізаваная (ад в. Кіралі да вусця).

**ДУБІНА́,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Рачанята, упадае ў Бярэзіну на ПдЗ ад в. Замосце Маладзечанскага р-на. На працягу 2 км каналізаваная (за 1 км на ПнУ ад в. Дубіна да вусця), прымае сцёк з асушальных каналаў. Месцазнаходжанне вусця залежыць ад рэжыму эксплуатацыі палёў здабычы торфу, што знаходзяцца побач.

**ДУБІ́НСКІ КАНА́Л,** гл. *Бобрынь.*

**ДУБІ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Жмакі, вусце за 1 км на У ад в. Войраўка. У ніжнім цячэнні на працягу 2,4 км канал пракладзены па былым рэчышчы ручая без назвы.

**ДУ́БЛІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Дублін, упадае ў Сярэднюю Брагінку за 3 км на ПнЗ ад в. Новая Грэбля.

**ДУБЛЯ́НСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Мастоўскім р-не.

**Пл. 0,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,65 км.**
**Аб'ём вады 1,37 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 177 км².**

Наліўное. У даліне р. Верацейка за 17,5 км ад яе вусця, за 28 км на З ад г. Масты, каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Дубляны. Створана ў 1984 для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 2,5 м.

**ДУ́БНАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім і Пінскім р-нах, правы прыток канала Багданаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Багданаўка Лунінецкага р-на.

**ДУБНІКО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Таліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Дубнікі, вусце за 3 км на Пн ад г. Любань.

**ДУ́БНІЦА,** рака ў Мастоўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 9 км.**
**Пл. вадазбору 32 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца паміж вёскамі Сухінічы і Заполле, упадае ў Нёман за 1 км на ПдУ ад в. Дубна.

**ДУБНІ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Чарняўка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Плецівішча, упадае ў Чарняўку за 0,5 км на Пд ад в. Лучча.

**ДУБНЯ́НСКАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Трэмля (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,5 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Крукавічы, вусце за 2,5 км на З ад в. Дубнякі.

**ДУБО́К,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 7 м.**
**Даўжыня 1,12 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**



**Возера Дрысы.**

**Даўжыня берагавой лініі 3,26 км.**
**Аб'ём вады 1,21 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,5 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 10 км на ПнЗ ад г. Полацк каля в. Гваздова. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, парослыя лесам. На З два залівы. Берагі нізкія, месцамі сплавінныя, забалочаныя, пад хмызняком. Дно выслана сапрапелем, на У мелкаводдзе пясчанае. Вада празрыстая да 4,3 м. Больш 50 % пл. возера зарастае (да глыбіні 4 м пашыраны імхі). На ПнУ з возера выцякае ручай у р. Полюшка.

**ДУБО́К,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.**

У бас. р. Мядзелка, за 3 км на Пн ад г. Паставы, сярод лясного масіву Пастаўская Дача. Схілы вышынёй да 3 м, на З разараныя.

**ДУБО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток р. Капаёўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 4 км на У ад в. Дубок, вусце за 1 км на Пд ад в. Чэрск. У верхнім цячэнні на працягу 2 км праходзіць па мяжы з Украінай.

**ДУ́БРА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 1,06 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,9 м.
Даўжыня 2,22 км.
Найбольшая шырыня 0,71 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,1 км.
Аб'ём вады 2,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 19,3 км$^2$.

У бас. р. Абабіца, за 17 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Дундары. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лугам. Уздоўж паўночна-ўсходняга берага парослая хваёвым лесам пясчаная озавая града вышынёй да 9 м. Берагі нізкія, у залівах забалочаныя, тарфяністыя, 2 астравы агульнай пл. 0,7 га. Мелкаводдзе да глыбіні 1 м (акрамя заліваў) пясчанае. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй да 25 м, залівы зараслі поўнасцю. Злучана пратокай з воз. Берца, на Пд сцёк па пратоцы ў воз. Абаб'е.




Возера Дубра.

**ДУБРА́ВА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Дзякавічы, упадае ў Чырвонае возера з ПнУ за 3,5 км на ПдЗ ад в. Дзякавічы.

**ДУБРАВЕ́НКА,** рака ў Магілёўскім р-не, правы прыток р. Днепр.

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 56 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Сафіеўка Магілёўскага р-на, усё ніжняе цячэнне ў межах Магілёва, дзе і ўпадае ў Днепр. Даліна добра распрацаваная, яе шырыня 18—20 м. Схілы стромкія, вышынёй 18—20 м, іх пераразаюць шматлікія яры. На паўночна-заходняй ускраіне Магілёва на рацэ плаціна і сажалка. Месца адпачынку гараджан.

**ДУ́БРАЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Смалявіцкім р-не, на мяжы з Мінскім р-нам.

Пл. 3,45 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 14 м.
Даўжыня 5,5 км.
Найбольшая шырыня 1,25 км.
Аб'ём вады 22,4 млн. м$^3$.

На р. Усяжа ў месцы ўпадзення яе ў р. Дубраўка, за 25 км на ПнУ ад Мінска, на тэрыторыі зоны адпачынку Раўбічы, побач з рэспубліканскім спартыўным комплексам. Створана ў 1984 для арашэння зямель, воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак, адпачынку. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 8 м.

**ДУ́БРАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,26 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,1 м.
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,58 км.
Даўжыня берагавой лініі 2 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Дубраўка. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, парослі хмызняком.

**ДУБРО́ВЕНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Марахораўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,8 км. Пачынаецца за 5 км на У ад в. Пухавічы, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Бялёў.

**ДУБРО́К,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,9 м.
Даўжыня 0,88 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.

У бас. р. Абабіца, за 18 км на ПнУ ад г. Браслаў. Схілы катлавіны вышынёй да 13 м, парослі лесам. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Злучана ручаямі з азёрамі Мядзведна і Абаб'е.

**ДУБРО́ЎКА,** рака ў Лагойскім і Смалявіцкім р-нах, левы прыток в. Усяжа (бас. Дняпра).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 42 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,1 ‰.

Пачынаецца ў в. Кандратавічы Лагойскага р-на, вусце за 1 км на Пд ад в. Дуброва Смалявіцкага р-на. Цячэ ў межах цэнтральнай часткі Мінскага ўзвышша. Рэчышча амаль паўсюдна мае выгляд яра. На рацэ ў в. Астрошыцы Лагойскага р-на плаціна і сажалка.

**ДУБРО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Дуброва, упадае ў Верхнюю Брагінку за 2 км на ПдЗ ад в. Ленінск.

**ДУБРО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Мінскім р-не, левы прыток р. Слоўст (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Адыходзіць ад р. Слоўст каля моста на аўтамабільнай дарозе в. Апчак — в. Каліта, выгінаецца і ўпадае ў Слоўст за 3 км на ПнЗ ад в. Дуброва.

**ДУБРО́ЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Альхоўка.*

**ДУДА́РЫНСКІ КАНА́Л,** гл. ручай *Далёкі.*

**ДУ́ДКА,** рака ў Астравецкім р-не, правы прыток Віліі. Даўжыня 8 км. Пачынаецца каля в. Белая Вада, упадае ў Вілію за 1 км на ПнУ ад в. Малыя Свіраны. На працягу 6,6 км каналізаваная (выток — 2 км на Пд ад в. Падольцы).

**ДУ́ДКА,** ручай у Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Сулы (бас. Нёмана). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца каля в. Шашкі, упадае ў Сулу за 1 км на ПдУ ад в. Дудкі. Ад вытоку на працягу 1,2 км каналізаваны.

**ДУ́ДКАВІЦА,** рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток Гадзеі (бас. Віліі). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Скавародкі, упадае ў Гадзею на У ад в. Конавічы. На ўсім працягу каналізаваная.

**ДУДЛЯ́НКА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 56 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Рэмбакаўшчына, упадае ў Нёман каля в. Ляхавічы Навагрудскага р-на. На працягу 14 км каналізаваная (ад вытоку да в. Мішуковічы).

**ДУДРЫНКА,** рака, гл. *Выдранка.*

**ДУКО́РШЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім і Чэрвеньскім р-нах, правы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Маторашчына Пухавіцкага р-на, упадае ў Волму ў г. п. Смілавічы Чэрвеньскага р-на.

**ДУЛЕ́БКА,** Дулеба, рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 152 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 3,7 км на Пн ад в. Ягадка, вусце на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Мацевічы. Рэчышча каналізаванае на працягу 12 км (2,5 км на ПнУ ад в. Баравіца — 3 км на ПнУ ад в. Галынка). Цячэ пераважна па забалочанаму лесу.

**ДУЛЕ́БСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, левы прыток Мікалаеўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Хадэчын, упадае ў Мікалаеўскі канал на ўсходняй ускраіне в. Дулебня.

**ДУЛЕ́ПА,** рака ў Буда-Кашалёўскім і Рагачоўскім р-нах, правы прыток р. Чачора (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Бярозавы Гай Рагачоўскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Лозаў Буда-Кашалёўскага р-на. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Каля в. Выдрыца Буда-Кашалёўскага р-на плаціна і сажалка.

**ДУМА́НКА,** Даманка, рака ў Віцебскім р-не, правы прыток р. Рудня (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 3,5 км на З ад в. Маркавічы Запольскага сельсавета, вусце каля той жа вёскі. У вярхоўі цячэ па лясістай мясцовасці.

**ДУ́МБАЯ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**
**Пл. вадазбору 96 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 3 км на ПнЗ ад г. Паставы. Злучана ручаём з Задзеўскім возерам і р. Мядзелка.

**ДУМБЛЯ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 24 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 1,3 км на У ад в. Гаўраны. Схілы невыразныя, вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 250 м. Выцякае ручай у воз. Аболе.

**ДУНА́ЕК,** меліярацыйны канал у Магілёўскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне г. Магілёў, упадае ў Дняпро за 5 км на ПдЗ ад в. Брады.

**ДУНАЙ,** Прудзіч, Дунаёк, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Чарніцы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 57 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца на Пн ад в. Даўгердзішкі, упадае ў Чарніцу на Пн ад в. Будзішча. На ўсім працягу каналізаваная. Каля в. Такарышкі створана сажалка (пл. 0,01 км²).

**ДУ́НАЙ,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Нявішы (бас. Нёмана). Даўжыня 11 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Трайгі, упадае ў Нявішу на У ад в. Вялікія Пугачы. На працягу 3,5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Лычкаўцы).

**ДУНА́ЙКА,** рака ў Кіраўскім р-не, правы прыток р. Вепрынка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Грыбава Слабада, вусце на паўночнай ускраіне в. Збышын. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ДУНА́ЙСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Днепр. Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на Пн ад в. Сітнякі, упадае ў старыцу Дняпра за 1 км на Пд ад в. Дунай.

**ДУНА́ЙЦЫ,** меліярацыйны канал у Клецкім р-не, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 3,5 км на З ад в. Заельня, вусце за 1,5 км на У ад в. Дунайчыцы.

**ДУНЦЫ́,** канал, гл. *Вілы.*

**ДУРА́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Ліпа (бас. Дняпра). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Высокая Грыва, упадае ў Ліпу за 1,5 на Пн ад в. Дуравічы.

**ДУ́РЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не. Даўжыня 5,6 км. Выцякае з р. Спанаўка (бас. Зах. Буга) з левага боку за 3 км на Пн ад в. Знаменка, вусце за 1,5 км вышэй моста праз чыгунку Брэст — Тамашоўка.

**ДУШЭ́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, правы прыток Выні (бас. Нёмана). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Пацейкі, упадае ў Выню за 1 км на ПдУ ад в. Бабавенка.

**ДЫБАЛЁЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Гарнасвечча.*

**ДЫЕ́ЎКА,** рака ў Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 62 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Восава, вусце за 1,5 км ад в. Кукалеўка. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.




Дубраўскае возера.




Возера Дуброк.

**ДЫМАНО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Даманаўскае возера, у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,67 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км².**

У бас. р. Лучоса, за 18 км на ПдУ ад Віцебска, на Пд ад в. Дыманова. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на ПнУ да 15 м), парослі лесам і хмызняком. Злучана ручаём з Доўгім возерам.

**ДЫМА́РКА,** рака ў Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Закованка (бас. Прыпяці). Даўжыня 18,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Боруск, вусце за 0,8 км на ПдЗ ад в. Пеніца.

**ДЫМА́РКА,** рака ў Дзятлаўскім і Слонімскім р-нах, правы прыток р. Хітрая (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 47 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.**

Пачынаецца на схілах Навагрудскага ўзвышша каля в. Колкі Дзятлаўскага р-на, упадае ў Хітрую каля в. Прырэчча Слонімскага р-на. Цячэ пераважна па лясістай мясцовасці.

**ЕДНАЧЫ**, меліярацыйны канал у Слонімскім р-не, левы прыток Шчары (бас. Немана). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Сянькоўшчына, цячэ праз лясное ўрочышча Паддубенне, упадае ў Шчару ва ўрочышчы Янава, за 2 км на Пн ад в. Еднaчы.

**ЕЖАВІЦА**, рака ў Гродзенскім р-не, у бас. Немана.

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 37 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Бабіна, упадае ў воз. Зацкава. Ад вытоку да в. Дубінка каналізаваная (5,5 км), далей цячэ праз лес.

**ЕЗВА**, Езаўка, рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Грэза (бас. Дняпра).

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 126 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Старая Баяршчына, вусце на заходняй ускраіне в. Тартак. Рэчышча ад вытоку каналізаванае на працягу 14 км. У сярэднім цячэнні і нізоўі (каля 15 км) цячэ па забалочаным лесе.

**ЕЗДАВАЯ КАНАВА**, гл. *Чырвонаазёрны канал*.

**ЕЗЯРЫШЧА**, возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 15,39 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,5 м.
Даўжыня 8,87 км.
Найбольшая шырыня 3,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 32,8 км.
Аб'ём вады 66,95 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 264 км$^2$.

У бас. р. Обаль, за 42 км на Пн ад г. Гарадок, каля г. п. Езярышча. Уваходзіць у арніталагічны заказнік Езярышчанскі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, месцамі да 25 м, пераважна разараныя, часткова пад пашай і сенажаццю. Берагі пясчаныя, паўночныя і паўночна-заходнія — месцамі абразійныя. Дно нярoўнае (шмат упадзін і меляў), да глыбіні 4—6 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. 20 астравоў агульнай пл. 0,67 км$^2$. Упадаюць 8 ручаёў, рэкі Агнеш і Дубоўка, выцякае р. Обаль. Шырыня паласы надводнай прыбярэжнай расліннасці ад 10 м да 120 м. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 2—2,5 м. Гняздуецца больш за 60 відаў птушак.



Возера Езярышча.

**ЁЛАВЕЦ**, ручай у Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Піравалочная (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Плюшчава, вусце на паўднёвай ускраіне в. Ціманава. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (ад вытоку да в. Ясная Паляна).

**ЁЛЕНКА**, рака ў Талачынскім і Крупскім р-нах, левы прыток р. Бобр (бас. Дняпра).

Даўжыня 38 км.
Пл. вадазбору 170 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Выцякае з воз. Касмачэўскае на тэрыторыі Талачынскага р-на, вусце за 2 км на Пд ад в. Новае Жыццё Крупскага р-на. Рэчышча каналіза-



Возера Езярышча.



Возера Ельна (Міёрскі раён).

ванае на працягу 6 км (ад вытоку да в. Елінка) Крупскага р-на. Цячэ пераважна па забалочаным лесе.

**ЕЛЕНКА,** рака ў Хоцімскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 102 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца за 1,1 км на ПнУ ад в. Зелянец, вусце за 2 км на Пд ад в. Бярозкі. Рэчышча каналізаванае на працягу 6,7 км (ад вытоку да в. Чарняўка).

**ЕЛЕНКА,** рака ў Клічаўскім і Чэрыкаўскім р-нах, левы прыток р. Волчас (бас. Дняпра). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад в. Сячыхі Клічаўскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Камаровічы Чэрыкаўскага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 6,8 км каналізаванае.

**ЕЛЕНКА,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток Нёмана. Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля в. Жомайдзі, упадае ў Нёман за 1,5 км на ПнУ ад в. Беліца. На ўсім працягу каналізаваная. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЕЛЕНКА,** рака ў Уздзенскім р-не, правы прыток Перагуці (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Пухаўшчына, упадае у Перагуць за 1,5 км на ПнЗ ад в. Кухцічы. На працягу 4,3 км каналізаваная (выток — 1 км на ПнУ ад в. Ніва).

**ЕЛКА,** Е л н а, ручай у Слонімскім р-не, правы прыток канала каля в. Мілавань (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Бярдовічы, упадае ў канал на ПнЗ ад в. Шышкі. Ад сажалкі (пл. 0,15 км²) каля в. Шышкі да вусця на працягу 2 км каналізаваны.

**ЕЛЬНА,** Е л ь н я, возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 5,42 км².
Найбольшая глыбіня 3,5 м.
Даўжыня 4,85 км.
Найбольшая шырыня 1,52 км.
Даўжыня берагавой лініі 14,9 км.
Аб'ём вады 8,52 млн. м³.
Пл. вадазбору 14,4 км².

У бас. р. Яльнянка, за 16 км на ПдУ ад г. Міёры, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, сярод верхавога балота Мох. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі на З і Пн вышынёй да 1,5 м, на У і ПнУ пясчана-жвіровыя, высланы валунамі. Дно плоскае, сапрапелістае, каля заходняга берага тарфяністае, каля ўсходняга — пясчана-жвіровае. Зарастае слаба, уздоўж берагоў рэдкі трыснег і чарот. Сцек у воз. Чорнае.

**ЕЛЬНА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,46 км².
Найбольшая глыбіня 6,1 м.
Даўжыня 1,61 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,2 км.
Аб'ём вады 1,2 млн. м³.
Пл. вадазбору 138 км².

У бас. р. Друйка, за 3 км на ПнЗ ад г. Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны на У і Пд вышынёй 10—13 м, парослі хваёвым лесам, астатнія 2—6 м, на Пн разараныя. Берагі пад хмызняком. Мелкаводдзе да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй дно сапрапелістае. Упадаюць 5 ручаёў, у т. л. з воз. Бярэжа; на Пн выцякае ручай у воз. Струста. Зарастае да глыбіні 2—2,5 м, пераважна падводнай расліннасцю.

**ЕЛЬНІЦА,** р у ч а й Е л ь н і ц а, рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Ельніца, вусце за 3 км на З ад в. Нежыцы. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ЕЛЬНЯ,** рака ў Краснапольскім і Слаўгарадскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 30 км.
Пл. вадазбору 170 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,9 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца з балота паміж вёскамі Чэрнін і Новае Жыццё Краснапольскага р-на, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Старынка Слаўгарадскага р-на. Даліна пераважна трапецападобная, шырыня яе 250—500 м. Пойма перарывістая, паміж вёскамі Старынка і Ельня Слаўгарадскага р-на адсутнічае. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,9 км (ад вытоку да в. Заазер'е Краснапольскага р-на), на астатнім працягу звілістае. Шырыня ракі ў межань 4—8 м.

**ЕЛЬНЯ,** рака ў Шчучынскім і Мастоўскім р-нах, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 123 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Барташы Шчучынскага р-на, упадае ў Нёман за 2 км на ПнУ ад в. Правыя Масты Мастоўскага р-на. На працягу 18 км каналізаваная: ад в. Барташы да в. Скоржыкі (8 км) і ад в. Мілеўцы да вусця (10 км).

**ЕЛЬНЯ,** возера, гл. Ельна.

**ЕСЬКІНА,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,05 км².



Возера Ельна (Міёрскі раён).




Возера Езярышча.

Даўжыня 0,62 км.
Найбольшая шырыня 0,09 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.

У бас. р. Обаль, за 23 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 2 км на ПнЗ ад в. Зазаводка, на паўднёва-ўсходняй ускраіне ўрочышча Обальскае балота. Схілы катлавіны невыразныя, вакол возера лес.

**ЁСЬМАНАЎКА,** рака, гл. *Каскруўка.*

**ЕСЯНЕЦ,** ручай у Баранавіцкім р-не, правы прыток р. Карыценка (бас. Нёмана). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца на У ад в. Сіратаўшчына, цячэ пераважна праз лес, упадае ў Карыценку за 1,3 км на ПнУ ад в. Ліпічанская Пушча. Рэчышча каля вусця каналізаванае.

**ЁДЗІ,** Ёдава, Ёдаўскае возера, у Астравецкім р-не.

Пл. 0,61 км².
Найбольшая глыбіня 19,7 м.
Даўжыня 1,6 км.
Найбольшая шырыня 0,52 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,74 км.
Аб'ём вады 0,61 млн. м³.
Пл. вадазбору 4,4 км².

У бас. р. Страча, за 33 км на ПнУ ад г. п. Астравец, каля в. Ёдзі. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м, разараныя, паўднёвыя 8—15 м, пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПдУ і ПдЗ сплавінныя. Дно плоскае, да глыбіні 2—4 м выслана пяском і апясчанымі адкладамі, ніжэй сапрапелем. Шырыня паласы зарастання 10—70 м. Упадаюць 4 ручаі, на ПдУ злучана пратокай з воз. Гульбеза.

**ЁХНА,** ручай у Любанскім р-не у бас. Прыпяці. Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2,3 км на ПдУ ад в. Касцяшы. Упадае ў сажалкі рыбгаса «Любань» каля в. Вежанка. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

# Ж

**ЖА́БЕНАК,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 0,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Дрыса, за 29 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПнУ ад в. Вялікія Асёткі, сярод лесу.



Возера Ёдзі.

**ЖА́БЕРНАЕ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,05 км².
Даўжыня 0,38 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Свольна, за 25 км на З ад г. п. Расоны, за 1,5 км на Пн ад в. Мілавіды, сярод забалочанага хмызняку.

**ЖА́БЕРЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Крупскім р-не, левы прыток р. Нача (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Лашанцы, упадае ў Начу на паўночнай ускраіне в. Вялікія Жаберычы.

**ЖА́БІНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,007 км².
Даўжыня 0,17 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Чарнаўка, за 14 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 0,7 км на ПнУ ад в. Белязі, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м. На З да возера прымыкае балота.

**ЖА́БІНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,006 км².
Даўжыня 0,19 км.
Найбольшая шырыня 75 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.

У бас. р. Аўсянка, за 32 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2 км на Пд ад в. Забарок, на ПдЗ ад воз. Цеста. Схілы катлавіны невыразныя, з У і З балота, з Пн і Пд — лес.

**ЖА́БІНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,006 км².
Даўжыня 0,12 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,3 км.

У бас. р. Обаль, за 34 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1,5 км на У ад в. Мішуціна. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, пад хмызняком. Уздоўж паўднёвага берага забалочаная пойма.

**ЖА́БІНА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 70 м.
Найбольшая шырыня 50 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.

У бас. р. Дрыса, за 19 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на ПнУ ад в. Межна. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад лесам.

**ЖА́БІНКА,** рака ў Камянецкім і Жабінкаўскім р-нах, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 25 км.
Пл. вадазбору 228 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Пелішча Камянецкага р-на (да меліярацыі пачыналася ад в. Жыціна), вусце ў межах г. Жабінка. Цячэ па Прыбугскай раўніне. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. Каля в. Сакалова Жабінкаўскага р-на працякае праз сажалкі рыбгаса «Сакалова». Верхняе цячэнне на працягу 10 км называецца канал Жабінка.

**ЖАБІНО́К,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,11 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Альзініца, за 18 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 2,5 км на ПнЗ ад в. Зерчаніцы, сярод балота, парослага на ПдУ хмызняком. За 50—200 м ад возера лес. Упадае ручай.

**ЖА́БЧАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, правы прыток р. Волка (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад

в. Жабчава, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Садавічы.

**ЖАВЎЛКА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток Выні (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Жавулкі, упадае ў Выню на ПдЗ ад в. Каласаўшчына. На ўсім працягу каналізаваная.

**ЖАВУНІЦА,** Жаўніца, Стошына, рака ў Краснапольскім і Кармянскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 38 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на З ад в. Роўнішча Краснапольскага р-на, упадае ў Сож за 3 км на З ад в. Жавуніца Кармянскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,7 км (выток — 2 км на ПнЗ ад в. Беразякі 1-я Краснапольскага р-на).

**ЖАДУНЬ,** Жадунька, рака ў Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 47 км.**
**Пл. вадазбору 488 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,7 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Жадунька Клімавіцкага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Варашылава Касцюковіцкага р-на. Цячэ па заходняй частцы Аршанска-Магілёўскай раўніны. Асноўныя прытокі — Крупня і Крупнянка (злева). Даліна невыразная, месцамі карытападобная. Пойма роўная, парослая лугавымі травамі і хмызняком, месцамі забалочаная. Рэчышча каналізаванае на працягу 25,1 км (выток — 1,8 км на ПдУ ад г. Касцюковічы), ніжэй звілістае, пясчанае. Шырыня ракі да вусця Крупні ў межань 5—8 м, ніжэй да 10 м. Берагі месцамі стромкія і абрывістыя, вышынёй 0,5—2 м. На рацэ г. Касцюковічы.

**ЖАДЎНЬ,** Жадунька, рака ў Бранскай вобл. Расіі і Хоцімскім р-не Беларусі, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 148 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Семірычы Бранскай вобл., вусце на паўднёвай ускраіне г. п. Хоцімск. Даўжыня ў межах Беларусі 12 км. На рацэ паміж Хоцімскам і в. Азяроўка плаціна і сажалка.

**ЖАДЎНЬ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,43 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,4 м.**
**Даўжыня 1,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,1 км.**
**Аб'ём вады 2,14 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 20,9 км².**



**Рака Жалонь. Каналізаваны ўчастак у ніжнім цячэнні.**

У бас. р. Альзініца, за 32 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Вуглы. Схілы катлавіны вышынёй 5—16 м, пераважна разараныя. Берагі месцамі забалочаныя, пад хмызняком. Дно сапрапелістае, уздоўж берагоў пясчанае. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 10—100 м. Упадаюць 3 ручаі, у т. л. з воз. Братаўна; на У злучана пратокай з воз. Ухвішча.

**ЖАКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,62 км.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

У бас. р. Дабрылаўка, за 15 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Кур'янава, на ўскраіне забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя, берагі нізкія, на Пн і ПдУ сплавінныя. Выцякае ручай у р. Дабрылаўка.

**ЖАЛЕЗНІЦА,** рака ў Слуцкім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Шышчыцы, упадае з Пн у Руднянскае вадасховішча на р. Случ. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Прыток — р. Жары (злева).

**ЖАЛІНКА,** рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Жаліна, вусце за 1,5 км на З ад в. Месціна. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу.

**ЖАЛОНЬ,** рака на Украіне і ў Гомельскай вобл., правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 113 км.**
**Пл. вадазбору 1460 км².**
**Сярэдні шматгадовы сцёк з вадазбору каля 4,8 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 113,4 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Пясчанае Оўруцкага р-на Жытомірскай вобл., цячэ па Жытомірскім Палессі (12,8 км), далей 33,8 км па мяжы з Беларуссю, 10,9 км зноў па Жытомірскай вобл., у нізоўі па Ельскім і Нараўлянскім р-нах. Упадае ў старарэчча на пойме Прыпяці за 1,2 км на Пн ад в. Вяпры Нараўлянскага р-на. Асноўныя прытокі — Яўрэйская канава, рэкі Ханя, Харапунь, Стрэлка і Верасожка (справа). Даліна невыразная. Пойма двухбаковая, парэзаная меліярацыйнымі каналамі; шырыня яе ў верхнім цячэнні да 30 м, на астатнім працягу 100—300 м. Рэчышча амаль на ўсім працягу каналізаванае, таму раку нярэдка называюць Мухаедаўскім каналам; каналамі Свячанскі (рака да адгалінавання ад яе гэтага канала называецца Верхняя Жалонь), Антонаўскі і р. Гразіва злучана з р. Славечна.

**ЖАЛУДЗЯНКА,** Саўка, рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Лебяды (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 174 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Купры, цячэ па Лідскай раўніне, упадае ў Лебяду каля в. Лябёдка. На працягу




**Возера Жадунь.**

Даўжыня 11 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Шоркіна, упадае ў Лебяду на Пд ад в. Збражкі. На працягу 4,5 км каналізаваная (ад в. Шайбакі да вусця).

**ЖЎЖНЕВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,13 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.

У бас. р. Обаль, за 8 км на ПнЗ ад вусця р. Свіна, за 37 км на ПнУ ад Полацка, сярод лесу. На Пд упадае ручай з воз. Дабрынь, на У выцякае ручай у воз. Красамай.

**ЖУРАВЕЦ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Аброва 1-е» (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 4,6 км ад в. Вялікая Гаць, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Аброва.

**ЖУРАВОК,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Журавок.

**ЖУРАЎНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,49 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 14 м.
Даўжыня 1,46 км.
Найбольшая шырыня 0,72 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,8 км.
Аб'ём вады 2,68 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 6,9 км$^2$.

У бас. р. Нача, за 30 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Жураўна. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м (на З і ПдЗ 2—5 м), разараныя, месцамі парослыя лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на ПдЗ сплавінныя. Дно да глыбіні 5—6 м пясчанае, ніжэй ілістае. Злучана ручаямі з азёрамі Валынец і Сушына. Зарастае амаль палова плошчы возера да глыбіні 4,5—5 м.

**ЖУРБІЦА,** рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Ніва, вусце за 0,5 км на ПнЗ ад в. Рагозішча. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,5 км (вусце — 0,5 км на Пн ад в. Блюдніца).

**ЖУРОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Брусята (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Селішча, упадае ў р. Брусята за 1 км на ПнЗ ад в. Журоўка.

**ЖУРЫХА,** рака, гл. *Шабеніха.*

**ЖЎЧКА,** Касутка, Капустка, рака ў Вілейскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Рэчкі, упадае ў паўночны заліў Вілейскага вадасховішча каля в. Клоўсі. Каналізаваная, у нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЖУЧОК,** рака ў Вілейскім р-не, левы прыток Ілії (бас. Віліі).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 42 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5 ‰.

Пачынаецца на У ад в. Пляшчаны, цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ілію каля в. Шыпкі. Прыток — р. Чарняўка. На працягу 2 км каналізаваная (в. Скалбішча — 0,8 км на ПдЗ ад в. Шчакоўшчына).

**ЖЎЧЫНА,** возера ў Мёрскім р-не.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.

У бас. р. Волта, за 16 км на ПдУ ад г. Міёры, і гідралагічным заказніку Ельня на балоце Мох. Злучана ручаямі з воз. Акністае і возерам без назвы.

**ЖЫВАРЭЗКА,** рака ў Магілёўскім р-не, правы прыток р. Лахва (бас. Дняпра).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 138 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Куты, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Капейна. У верхнім цячэнні называецца Сянна.

**ЖЫГАЛКА,** ручай у Стаўбцоўскім р-не, левы прыток ручая без назвы (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,7 км на Пд ад в. Жыгалкі, вусце на ПдЗ ад в. Пагарэлае. На працягу 4 км каналізаваны (0,5 км на ПдУ ад в. Жыгалкі да вусця). Каля в. Жыгалкі створана сажалка (пл. 0,03 км$^2$).

**ЖЫГАЛЬСКІ СТАЎ,** меліярацыйны канал, на мяжы Гомельскага і Рэчыцкага р-наў, у бас. Дняпра. Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Жыгальская Рудня Гомельскага р-на, упадае ў воз. Кушчаўка з Пн за 2 км на З ад в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на.

**ЖЫГУЛЯНКА,** Жыгулянскі канал, рака ў Івацэвіцкім і Бярозаўскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці).

Даўжыня 44 км.
Пл. вадазбору 595 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца за 4 км на ПдЗ ад в. Заполле Івацэвіцкага р-на, цячэ ў межах паўночна-заходняй часткі Прыпяцкага Палесся па забалочанай і лясістай мясцовасці, працякае праз Чорнае возера (пасля выхаду з яго называецца Дарагабуж). Вусце за 2 км на ПдУ ад в. Здзітава Бярозаўскага р-на. Даліна і пойма невыразныя. Рэчышча на працягу 26 км да ўпадзення ў возера каналізаванае.

**ЖЫГЯНКА,** рака, гл. *Альшанка.*

**ЖЫДАЎКА,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Іванаўскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца з Галоўнага канала за 4,5 км на ПдУ ад в. Жытлін Івацэвіцкага р-на, вусце за 8 км на ПнЗ ад в. Тышкавічы Іванаўскага р-на. За 3 км ад вусця злева адгаліноўваецца Размужынскі канал, які таксама ўпадае ў Ясельду. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЖЫДЧА,** вадасховішча ў Пінскім р-не.

Пл. 1,2 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9 м.
Даўжыня 3,2 км.
Найбольшая шырыня 2,8 км.
Аб'ём вады 5,1 млн. м$^3$.

За 18 км на ПдЗ ад г. Пінск, каля в. Жыдча. Наліўное. Створана ў 1981 для арашэння, рыбагадоўлі і рэкрэацыйных мэт на месцы выпрацаванага радовішча торфу. Даўжыня агараджальнай дамбы 4,2 км. Напаўняецца вадой з Прыпяці пры дапамозе вадападводзячага канала. Ваганні ўзроўню на працягу года да 6 м.

**ЖЫЖМА,** рака на тэрыторыі Літвы і Беларусі, правы прыток Гаўі (бас. Нёмана).

Даўжыня 82 км.
Пл. вадазбору 584 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,1 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца ў Шальчынінскім р-не Літвы, цячэ ў Воранаўскім, Лідскім і Іўеўскім р-нах. Значных прытокаў няма. Даліна трапецападобная. Пойма двухбаковая, забалочаная, шырыня 0,4—0,8 км. Рэчышча на працягу 27,4 км каналізаванае (ад в. Мікянцы Воранаўскага р-на да в. Сонтакі Іўеўскага р-на). Яго шырыня ў межань да в. Германішкі 5—8 м, на астатнім працягу 8—15 м. Берагі пясчана-ілістыя, стромкія, часам абрывістыя. На рацэ каля в. Гайцюнішкі створана сажалка.

**ЖЫЛЕЎКА,** рака ў Чавускім р-не, правы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Навінка, вусце за 1 км на Пн ад в. Скварск. Рэчышча ад в. Галузы да вусця каналізаванае на працягу 2,7 км.

**ЖЫРМУНСКІ КАНАЛ,** гл. *Безназоўны ручай.*

**ЖЫРОЎСКІ КАНАЛ,** Галоўны канал, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца з Белага возера за 7,6 км на ПдЗ ад в. Сварынь, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Маліна́ўка. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці. Прытокі — Выцінская канава і Малінаўскі канал (злева). З Жыроўскага канала пачынаецца Зуброўскі канал.

**ЖЫТКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 11 км. Пачынаецца з Чырвонага возера за 2 км на ПнУ ад в. Ляхавічы, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Хрысцецкі Бор, дзе знаходзіцца водаразмеркавальнік, з якога вада падаецца ў рэкі Гніліца, Навуць і Рудзянецкі канал.

**ЖЫЦІНКА,** рака ў Асіповіцкім р-не, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км$^2$.
Пл. вадазбору 47 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в.




Жэрынскае возера.

Ігнатаўка, вусце на паўднёвай ускраіне в. Няччо.

**ЖЫЦЦЁ,** рака, гл. *Уздзянка.*

**ЖЭ́ЖЛІНА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,36 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,8 м.
Даўжыня 1,07 км.
Найбольшая шырыня 0,56 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,59 км.
Аб'ём вады 1,4 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1366 км$^2$.

У бас. р. Ула (цячэ праз возера), за 7 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Вялікае Жэжліна. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, участкамі разараныя, на Пд і ПдЗ параслі лесам. Берагі пясчаныя, месцамі забалочаныя, на ПдЗ пад лесам. Дно ілістае. Каля ўсходняга берага востраў пл. 0,7 га. Уздоўж берагоў паласа расліннасці шырынёй 30—100 м да глыбіні 2,9 м.

**ЖЭ́ЛЬЦЫ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,78 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,8 м.
Даўжыня 1,86 км.
Найбольшая шырыня 0,72 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,02 км.
Аб'ём вады 1,56 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 63,5 км$^2$.

У бас. р. Сосніца, за 38 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Жэльцы. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м (на Пд 15—20 м), пад лесам, на ПнЗ разараныя. Берагі нізкія. Дно плоскае, выслана пераважна пяском і ілам, у цэнтры — сапрапелем. Упадаюць р. Няклейка і ручай з воз. Сіценец, выцякае р. Жэльцанка. Зарастае каля $^2/_3$ плошчы возера да глыбіні 1,7—2 м.

**ЖЭ́ННА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,57 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 25 м.
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,7 км.
Аб'ём вады 3,94 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 10,9 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 28 км на У ад г. п. Ушачы, на Пд ад в. Усая. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м (на Пн і У 5—8 м), пад лесам і хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, дно да глыбіні 6—8 м пясчанае, ніжэй ілістае. На ПдУ упадае ручай з воз. Лешна, на ПдЗ выцякае ручай у воз. Крывое. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 20 м.

**ЖЭ́РАМ,** рака ў Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Днепр. Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 5 км на З ад в. Борхаў, вусце за 3 км на З ад в. Дунай. Рэчышча каналізаванае на працягу 8,5 км (выток — 3 км на ПнЗ ад в. Дунай). У вярхоўі забалочанае лясное ўрочышча Жыгальская Рэчка.

**ЖЭ́РЫНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 8,74 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,6 м.
Даўжыня 6,6 км.
Найбольшая шырыня 1,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 14,8 км.
Аб'ём вады 11,87 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 45,8 км$^2$.

У бас. р. Усвейка, за 9 км на У ад г. Чашнікі, за 2 км на Пд ад р. п. Акцябрскі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м (на ПдУ і З да 10 м), пераважна

Рака Жыжма ў Лідскім раёне.

пад лесам і хмызняком. Берагі спадзістыя, на З пясчаныя, параслі хмызняком. Дно сапрапелістае, уздоўж заходняга берага пясчанае. У паўднёвай частцы востраў пл. 14 га. Моцна зарастае ўздоўж берагоў. Упадаюць 6 ручаёў, на З выцякае ручай у р. Усвейка.

**ЖЭРЫХАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток канала Рэкутка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Жырхаўка, упадае ў канал Рэкутка за 0,4 км на У ад в. Гарадок.

**ЖЭСЦЬ,** назва р. *Вузлянка* ў верхнім цячэнні.

**ЖЭЧКА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Котры (бас. Нёмана).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 47 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Куляўцы, упадае ў Котру каля в. Сухары. На працягу 10 км каналізаваная (ад вытоку да в. Зінякі).

**ЖЭЧЫЦА,** рака, гл. *Рэчыца.*

# З

**ЗААЗЕР'Е,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,45 км$^2$.
Даўжыня 1,75 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,05 км.
Пл. вадазбору 8 км$^2$.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 10 км на Пд ад Полацка, каля в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пераважна пад хмызняком, месцамі на Пн і Пд разараныя. Злучана ручаём з воз. без назвы, на ПнУ выцякае ручай у р. Сомніца.

**ЗААЗЕР'Е,** З а а з е р с к а я  в о з е р а, у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,11 км$^2$.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.
Пл. вадазбору 3,25 км$^2$.

У бас. р. Чарнагосціна, за 21 км на ПдУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Вялікія Паўлавічы. Схілы катлавіны разараныя, пад агародамі, на Пд — хмызняк.

**ЗААЗЕР'Е,** гл. *Палескае возера.*

**ЗААЗЕРСКАЕ ВОЗЕРА,** у Бялыніцкім р-не.

Пл. 0,58 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,75 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,85 км.
Пл. вадазбору 8,8 км$^2$.

У бас. р. Клява, за 16 км на ПнЗ ад г. п. Бялынічы, каля в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, пераважна разараныя, на Пн і Пд параслыя хмызняком. Берагі нізкія, часткова забалочаныя, пад хмызняком.

**ЗААЗЕРЦЫ,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,28 км$^2$.
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.




Возера Жэжліна.



Жэрынскае возера.

**Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.**
**Пл. вадазбору 4,5 км$^2$.**

У бас. р. Авута, за 42 км на ПдУ ад г. Міёры, каля в. Дарожкі. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м (на З і Пд да 13 м), пераважна разараныя. Востраў пл. 0,5 га.

**ЗААЗЁРНАЯ КАНАВА**, рака, гл. *Сасновіца*.

**ЗААЗЁРСКАЯ КАНАВА**, Заазёрскі канал, меліярацыйны канал у Лунінецкім і Салігорскім р-нах, левы прыток Галоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 43 км. Пачынаецца за 10 км на ПнУ ад в. Дзянісkавічы Ганцавіцкага р-на, вусце за 11 км на ПнУ ад в. Чырвоная Воля Лунінецкага р-на. Сярэдняе і ніжняе цячэнне канала ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЗААЗЁРСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Упірава, упадае ў Заазёрскае возера ў межах в. Моталь.

**ЗААЛЬШАНКА**, Альшанка, рака ў Смаленскай вобл. і Лёзненскім р-не, левы прыток р. Чарніца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 99 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Пяскі Руднянскага р-на Смаленскай вобл., вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Дразды Лёзненскага р-на.

**ЗАБАВА**, канал Забава, рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Макранка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнЗ ад в. Новая Слабодка, вусце на заходняй ускраіне в. Сушчаў. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗАБАЛАЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Мазырскім р-не, левы прыток Высокамахнавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ, вусце за 3,5 км на З ад в. Забалацце.

**ЗАБАЛАЦЬ**, рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 0,7 км на Пд ад в. Васеўцы, упадае ў Ашмянку за 0,5 км на Пн ад в. Валодзькаўшчына. Прыток — р. Высокая. На працягу 9,6 км каналізаваная: ад вытоку да вусця р. Высокая (8,7 км) і каля вусця (0,9 км).

**ЗАБАРЭЧЧАНСКІ КАНАЛ**, Забарэцкі канал, меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, правы прыток канала Чорны Роў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Багданы, вусце за 2 км на З ад в. Целяхі.

**ЗАБЕЛІНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,32 км$^2$.**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**
**Пл. вадазбору 126 км$^2$.**

У бас. р. Нача, за 28 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Арэхаўна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, разараныя, на Пд пад хмызняком. Злучана пратокай з азёрамі Лесава і Арэхаўна.

**ЗАБЕЛЬСКАЕ ВОЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,44 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,1 м.**
**Даўжыня 1,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,49 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.**
**Аб'ём вады 0,52 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 11,1 км$^2$.**

У бас. р. Бярозаўка, за 4 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Забелле. Схілы катлавіны вышынёй 3—9 м, разараныя, на Пд 14—15 м, пад лесам. Берагі пясчаныя, месцамі забалочаныя, на ПдУ і ПдЗ сплавінныя. Участкамі пойма шырынёй да 50 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. На Пд невялікі востраў пл. 0,7 га. Зарастае ў прыбярэжнай частцы. Злучана ручаём з азёрамі Марцыбылінскае і Мушкацкае.

**ЗАБЕЛЬСКАЕ ВОЗЕРА**, Вялікае Забеліна, возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,4 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.**
**Пл. вадазбору 6,7 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 22 км на З ад г. п. Бешанковічы, каля в. Забелле. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м, пераважна разараныя, на Пд часткова пад хмызняком.

**ЗАБОЗЗЕ**, меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Чэрцень» (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца каля в. Забоззе, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Новая Рудня.

**ЗАБОР'Е**, ручай у Крупскім р-не, правы прыток р. Бобр (бас. Дняпра). Даўжыня 11,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Бяляны, вусце за 1 км на Пд ад в. Кіявец. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗАБОРНЕ**, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**

У бас. р. Друйка, за 12 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 1 км на У ад в. Баруны. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, на Пн часткова разараныя, на У пад лесам. Вакол возера пойма шырынёй 50 м. Зарастае. Выцякае ручай у р. Акмяніца.

**ЗАБОРСКАЕ ВОЗЕРА**, у Гродзенскім р-не. Пл. 0,1 км$^2$. У бас. р. Котра, за 30 км на У ад Гродна, за 4 км на ПдЗ ад в. Галавачы.

**ЗАБРОДСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Ельскім р-нах, правы прыток р. Батыўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,5 км. Пачынаецца за 4 км на Пд ад в. Заброддзе Лельчыцкага р-на, вусце за 3,5 км на ПдУ ад в. Зашыр'е Ельскага р-на.

**ЗАБРОДСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Стаўбцоўскім р-не, правы прыток р. Шура (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца з сажалкі (пл. 0,07 км$^2$) на У ад в. Заброддзе, упадае ў р. Шура за 1 км на ПдЗ ад в. Кругавіны.

**ЗАВЕЛЛЕ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,32 км$^2$.**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,8 км.**
**Пл. вадазбору 2,25 км$^2$.**

У бас. р. Дахнарка, за 16 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Цінаўка. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на Пн да 10 м), на У і Пн параслі лесам і хмызняком, на З разараныя.

**ЗАВЕСНА**, возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 1,59 км$^2$.**




Забельскае возера (Бешанковіцкі раён).



Завішчанскае возера.

Найбольшая глыбіня 2,4 м.
Даўжыня 1,9 км.
Найбольшая шырыня 1,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,5 км.
Аб'ём вады 2,41 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 11,6 км$^2$.

У бас. р. Ловаць (працякае праз возера), за 43 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2 км на У ад в. Марчанкі. Схілы катлавіны вышыней да 5 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, параслі хмызняком. На З забалочаная пойма шырынёй да 200 м, пад хмызняком. Дно плоскае, выслана пяскамі, апясчаненым ілам і сапрапелем. Поўнасцю зарастае, шырыня прыбярэжнай паласы расліннасці да 60 м.

**ЗАВІ́ДЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Піна (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Вялікая Вулька, вусце на Пд ад г. Пінск.

**ЗАВІ́Р'Е,** возера на мяжы Расонскага р-на і Пскоўскай вобл. Расіі.

Пл. 0,18 км$^2$.
Даўжыня 0,84 км.
Найбольшая шырыня 0,06 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.

У бас. р. Нішча, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 6 км на ПнУ ад в. Чырвоны Бор, сярод лесу. Злучана ручаямі з воз. Дземіна і р. Нішча.

**ЗАВІ́РЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Віцебскім р-не, левы прыток р. Балазна (цячэ ў Смаленскай вобл., бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдУ ад в. Валькі, вусце на тэрыторыі Смаленскай вобл., каля в. Завіры.

**ЗАВІШЧА́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Завішчоўскае возера, у Іванаўскім р-не.

Пл. 1,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 10,7 м.
Даўжыня 1,7 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,4 км.

У бас. р. Піна, за 18 км на ПдУ ад г. Іванава, за 6 км на Пд ад в. Патапавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя, пад лесам і хмызняком. Берагі вышынёй да 1 м, месцамі забалочаныя. На ПнУ выцякае Завішчанскі канал.

**ЗАВІШЧА́НСКІ КАНА́Л,** Завішчоўскі канал, меліярацыйны канал у Іванаўскім і Пінскім р-нах, правы прыток р. Піна (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,4 км. Выцякае з Завішчанскага возера за 0,8 км на У ад в. Завішча Іванаўскага р-на, вусце ў межах в. Кончыцы Пінскага р-на. Прытокі — каналы Безуменнік і Кончыцкі (справа).

**ЗАВО́ДНАЯ,** рака ў Дзятлаўскім р-не, у басейне Нёмана. Даўжыня 6 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Малыя Кралі, упадае ў старыцу на пойме Нёмана за 3,5 км на ПнЗ ад в. Зачэпічы. Ад вытоку на працягу 4,5 км каналізаваная.

**ЗАВО́ЛІНКА,** рака ў Аршанскім і Дубровенскім р-нах, левы прыток р. Выдрыца (бас. Дняпра). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Шабаны Дубровенскага р-на, вусце за 2 км на У ад г. п. Арэхаўск. Рэчышча на працягу 9 км ад вусця каналізаванае.

**ЗАГА́ЛЬСКІ ВОДАПАДВО́ДЗЯЧЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,2 км. Пачынаецца з Цахмінскага канала за 3 км на ПнУ ад пас. Барыкоў, вусце за 3,5 км на ПнУ ад в. Калінаўка.

**ЗАГА́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Каранёўка, вусце за 5 км на ПнУ ад в. Віць.

**ЗАГА́ЛЬСКІ 6-ы КАНА́Л,** Барыкоўскі канал, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад пас. Барыкоў, вусце за 5,5 км на ПнЗ ад в. Калінаўка.

**ЗАГА́ЛЬСКІ 8-ы КАНА́Л,** гл. *Восьмы-А канал.*

**ЗАГА́ЛЬСКІ 10-ы КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 26,5 км. Пачынаецца за 5 км на ПнЗ ад в. Татарка, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Дварэц. Прыток — Татарскі канал (злева).

**ЗАГАРА́НКА,** рака, гл. *Загорнікі.*

**ЗАГА́ЦЦЕ,** Загач, возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,8 м.
Даўжыня 1,29 км.
Найбольшая шырыня 0,33 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,64 км.
Аб'ём вады 1,16 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 9,8 км$^2$.

У бас. р. Мядзелка, за 3,5 км на ПдЗ ад г. Паставы. Схілы вышынёй 12—15 м. Берагі пад хмызняком, на З і Пн месцамі сплавінныя. Пойма шырынёй да 10 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно гліністае. Шырыня паласы расліннасці да 20 м, у паўночна-ўсходнім заліве да 200 м. Упадаюць 6 ручаёў, злучана ручаём з Задзеўскім возерам.

**ЗАГА́ЦЦЕ,** вадасховішча ў Ельскім р-не.

Пл. 0,7 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,4 м.
Даўжыня 1,9 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Даўжыня агараджальнай дамбы 4,9 км.
Аб'ём вады 3 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 38,8 млн. м$^3$.

Створана ў 1978 за 15 км на ПдЗ ад г. Ельск, каля в. Загацце для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Налiўное: напаўняецца вадой з Высокамахнавіцкага канала пры дапамозе помпавай станцыі. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 4,7 м.



Завішчанскае возера.



Возера Загацце.




Загорнае возера.




Задзеўскае возера.

**ЗАГНО́ЕК,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,17 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Друйка, за 2 км на Пн ад Браслава, за 0,3 км на У ад воз. Бярэжа. Схілы катлавіны не выражаны, пад лугам. Вакол возера забалочаная пойма. Упадае канава, выцякае ручай у воз. Бярэжа.

**ЗАГО́Р'Е,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,47 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.

У бас. р. Вята, за 4 км на Пн ад Міёраў, каля в. Загор'е. Схілы катлавіны не выражаны. Размешчана сярод лугу, месцамі парослага кустамі. На Пн і ПнЗ забалочаная пойма, шырынёй 50—75 м.

**ЗАГО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

Пл. 0,36 км².
Найбольшая глыбіня 6,7 м.
Даўжыня 1,49 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,1 км.
Аб'ём вады 1,15 млн. м³.
Пл. вадазбору 2,9 км².

У бас. р. Дрысвята (звязана з возерам ручаём), за 27 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Хвасты. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, разараныя. Берагі вышынёй 0,1—0,3 м, пясчаныя, пад хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, стромкае, пясчанае, глыбей дно ілістае. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 3 м.

**ЗАГО́РНІКІ,** З а г а р а н к а, рака ў Ашмянскім р-не, левы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Слабада, упадае ў Ашмянку каля в. Загорнікі. На працягу 4,8 км каналізаваная (ад в. Швабы да в. Загорнікі).

**ЗАГРАБЕ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім і Любанскім р-нах, левы прыток Слаўкавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,6 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Заеліца Глускага р-на, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Чапаева Любанскага р-на.

**ЗАДАШЧЭ́НСКА-Я́СНАЎСКІ КАНАЛ,** Я с н а ў с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Шаць (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПнЗ ад в. Задашчэнне, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Шацк.

**ЗАДЗЕ́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,92 км².
Найбольшая глыбіня 21,8 м.
Даўжыня 2,46 км.
Найбольшая шырыня 0,64 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,2 км.
Аб'ём вады 5,05 млн. м³.
Пл. вадазбору 68,8 км².

У бас. р. Мядзелка, на заходняй ускраіне г. Паставы. Схілы катлавіны вышынёй 5—12 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі пад хмызняком, на Пд сплавінныя. Дно складанай будовы, каля берагоў пясчанае, глыбей — ілістае. Востраў плошчай 0,9 га. Праз возера цячэ р. Спорыца, злучана ручаём з воз. Загацце. Зарастае да глыбіні 2—2,3 м.

**ЗА́ДНЯЕ ВО́ЗЕРА,** Г а л б е я П а ў д н ё в а я, у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,36 км².
Даўжыня 1,65 км.
Найбольшая шырыня 0,42 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,2 км.

У бас. р. Галбіца (працякае праз возера), за 5 км на Пн ад г. Паставы, каля в. Гута. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, на З і ПнУ разараныя, на ПдЗ пад лесам. На З упадае ручай Цімара.

**ЗА́ДНЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

Пл. 0,26 км².
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,42 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,62 км.
Пл. вадазбору 32,6 км².

У бас. р. Эса, за 6 км на Пд ад г. Лепель, за 1 км на ПдЗ ад в. Дварышча. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пад лесам і хмызняком, на ПнУ месцамі разараныя. На Пн злучана ручаём з Доўгім возерам, на Пд выцякае ручай у р. Эса.

**ЗАДО́БРАСЦЬ,** рака, гл. *Добрасць.*

**ЗАДО́РАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, правы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Целяшы, упадае ва Узу за 0,8 км на ПнУ ад в. Мікольск. У вярхоўі канала на нізіннай мясцовасці абвалаваннем утворана невялікае вадасховішча.

**ЗАДРА́ЖАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 4 км на З ад в. Жоўты Брод, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Яскавічы.

**ЗАДРА́ЧАНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** З а д р а ч, у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,77 км².
Найбольшая глыбіня 6,4 м.
Даўжыня 1,97 км.
Найбольшая шырыня 0,57 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.
Аб'ём вады 3,07 млн. м³.
Пл. вадазбору 36,6 км².

У бас. р. Ловаць (працякае праз возера), за 40 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Задрачча. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на У і ПнУ да 30 м), на Пд і ПдЗ пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі тарфяністыя. Пойма шырынёй 5—70 м. Дно ўздоўж берагоў пясчанае, глыбей — ілістае. Зарастае слаба. Шырыня паласы расліннасці да 25 м, пашырана да глыбіні 2,2 м.

**ЗАДУБРО́ВЕНКА,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток Дняпра.

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 84 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.

Пачынаецца на паўночна-заходняй ускраіне в. Волева, вусце ў г. Дуброўна.

**ЗАЕЛАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток р. Жыгулянка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 5,4 км на ПдЗ ад в. Заполле, вусце за 5,4 км на ПдЗ ад в. Няхачава.

**ЗАЕЛЬНЯ**, меліярацыйны канал у Клецкім р-не, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Заельня, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Капланавічы.

**ЗАЖЭВІЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток Асавецкага канала (бас. Прыпяці). Пачынаецца каля в. Зажэвічы, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Бярозаўка.

**ЗАЗУЛЬКА**, рака ў Шчучынскім і Мастоўскім р-нах, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 54 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Вярбілкі Шчучынскага р-на, упадае ў Нёман за 1 км ніжэй ад в. Навасёлкі. У пойме Нёмана працякае праз старыцы.

**ЗАЗУНТАВА**, рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Маладзеева, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Селішча. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗАЙКАВА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Даўжыня 0,34 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Ушача, за 15 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,25 км на З ад в. Гарчакі. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, пад лесам, на У пад хмызняком. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй ад 25 м на Пд да 80 м на Пн. Выцякае ручай у р. Ушача.

**ЗАЙКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Гарадзецкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Чырвоная Горка, упадае ў воз. Сясіта з У за 1 км на ПнЗ ад в. Зайкава.

**ЗАКАБЫЛІЦА**, рака ў Дубровенскім р-не, прыток р. Мярэя (бас. Дняпра).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 57 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Калінаўка, вусце ў в. Ляды.

**ЗАКАМЕНКА**, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,8 м.
Даўжыня 0,36 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,08 км.
Аб'ём вады 0,15 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 2 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 11 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 0,7 км на Пн ад в. Каменка. Схілы катлавіны умерана стромкія, разараныя, на Пн пад лесам. Берагі пясчаныя, на Пн і У высокія. Уздоўж урэзу вады расце хмызняк. Злучана ручаём з воз. Каменка.

**ЗАКОВАНКА**, Гулевіцкі канал, рака ў Калінкавіцкім і Мазырскім р-нах, левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 42 км.
Пл. вадазбору 306 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Лозкі Калінкавіцкага р-на, цячэ па раўніне Гомельскае Палессе, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Лубня Мазырскага р-на. Асноўны прыток — р. Дымарка (злева). Даліна невыразная, пойма асушаная. Рэчышча ад вытоку на працягу 38,5 км каналізаванае, шырыня яго 3—6 м, у нізоўях да 10 м.

**ЗАКРУННЦА**, рака, гл. *Крупка*.

**ЗАКРЭЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток Кабанаўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,1 км на ПнЗ ад в. Кавалёўка, упадае ў Кабанаўскі канал каля в. Рудня. На левым беразе канала знаходзіцца меліяраванае ўрочышча Закораў.

**ЗАЛАТАЯ РЭЧКА**, Злацяжэчка, рака ў Лідскім р-не, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 30 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца каля в. Табала, упадае ў Нёман на ПдЗ ад в. Беліца. На працягу 5 км каналізаваная (ад вытоку да моста на аўтадарозе в. Беліца — в. Жалудок).

**ЗАЛАТУХА**, меліярацыйны канал на Украіне і ў Столінскім р-не, правы прыток Ямнаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня каля 20 км, у т. л. на тэрыторыі Столінскага р-на 9 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Будымля Дубровіцкага р-на Ровенскай вобл., праходзіць па лясістай забалочанай мясцовасці, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Ямнае.

**ЗАЛАТУХА**, меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток канала Мядзведка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ, упадае ў канал Мядзведка за 4 км на ПдУ ад в. Залатуха.

**ЗАЛАТЫ БАРОК**, меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім р-не, левы прыток р. Маціца (бас. Зах. Дзвіны).



Задзеўскае возера.



Возера Закаменка.



Задрачанскае возера.

Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Белы Двор, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Рэчкі.

**ЗАЛАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Астравецкім р-не.

Пл. 0,24 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 12,6 м.**




**Задрачанскае возера.**

Даўжыня 0,87 км.
Найбольшая шырыня 0,37 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,56 км.
Аб'ём вады 1,17 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 140 км$^2$.

У бас. р. Сарачанка, за 34 км на ПнУ ад г. п. Астравец, на З ад в. Горная Кайміна. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны ў выглядзе озавых град і камавых узгоркаў вышынёй 10—14 м, пад лесам, на У разараныя. Берагі на Пн і ПдЗ нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Мелкаводная зона вузкая, пясчаная, глыбакаводная, сапрапелістая, з упадзінамі. Праз возера цячэ р. Клевель (злучае яго з азёрамі Туравейскае і Каймін). Расліннасць пашырана да глыбіні 2,5 м.

**ЗАЛЕСКАЯ СТРЭЛКА,** С н я д з і н с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Судзібар, вусце за 3 км на З ад в. Мардзвін.

**ЗАЛЕСКІ КАНАЛ,** гл. *Чыкалавіцкі канал.*

**ЗАЛІЎ СТАРЫК,** возера на мяжы Мазырскага і Нараўлянскага р-наў.

Пл. 0,43 км$^2$.
Даўжыня 4,2 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,5 км.

На пойме р. Прыпяць, за 7 км на Пн ад г. Нароўля, за 1 км на Пд ад в. Ніжні Млынок. Старычнае. Берагі высокія, месцамі абразійныя, пад хмызняком. Злучана ручаём з воз. Старык. У веснавое разводдзе злучаецца з Прыпяццю.

**ЗАЛУЖАНКА,** З а л у к а н к а, рака ў Стаўбцоўскім р-не, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 50 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.

Пачынаецца паміж вёскамі Залужжа і Вечатарова, упадае ў Нёман за 0,8 км на Пн ад в. Дразды. На працягу 7,2 км каналізаваная: ад вытоку да моста каля в. Скамарошкі (5,2 км) і ад моста каля в. Дразды да вусця (2 км). У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. Каля вёсак Стары Свержань і Залужжа створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,28 км$^2$ і 0,02 км$^2$).

**ЗАЛУЖЖАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток канала Вінец (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2 км на У, вусце за 1 км на З ад в. Падкраічы.

**ЗАЛУЖЖАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Салон (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд, вусце за 5,5 км на ПдЗ ад в. Залужжа.

**ЗАЛУКАНКА,** рака, гл. *Залужанка.*

**ЗАЛУЧАНКА,** рака ў Ваўкавыскім р-не, правы прыток Верацейкі (бас. Нёмана). Даўжыня 11 км. Пачынаецца каля в. Дзевяткаўцы, упадае ў Верацейку на У ад в. Сядзейкі. На ўсім працягу каналізаваная.

**ЗАЛЬВЯНКА,** рака ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 170 км.



Рака **Зальвянка** ў ніжнім цячэнні.

**Пл. вадазбору 1940 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 11 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца паміж вёскамі Лідзяны і Кулявічы Свіслацкага р-на, цячэ ў Ваўкавыскім, Пружанскім, Зэльвенскім і Мастоўскім р-нах. Асноўныя прытокі: Шчыба, Ружанка, Іванаўка, Сасва, Самараўка, Юхнаўка. Даліна трапецападобная, яе шырыня ад 0,5 да 3—4 км у ніжнім цячэнні. Пойма забалочаная, роўная, шырынёй да 2,5 км, у сярэднім і ніжнім цячэнні 0,4—0,6 км. Рэчышча моцназвілістае. Яго шырыня ў межань 15—20 м. На працягу 44,2 км каналізаванае: ад вытоку да в. Краскі (16 км) і на ўчастку за 2 км на Пн ад г. п. Зэльва — 2 км на Пн ад в. Ліхінічы (28,2 км). Берагі пясчаныя, стромкія і абрывістыя. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. На рацэ вадасховішчы Зэльвенскае і Паперня, г. Масты (пры ўпадзенні Зальвянкі ў Нёман), г. п. Зэльва. Водзяцца выдра, норка, андатра; раней было шмат ракаў і мянтузоў, у алешніках абапал ракі жылі бабры (да пачатку меліярацыйных работ). У вусцевай частцы рыбны промысел. У пойме меліярацыйныя сістэмы.

**ЗАЛЮБІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Залюбічы, упадае ў Шчару за 1,6 км на У ад в. Крошын. Прымае сцёк з асушальных каналаў, у пойме здабываюць торф.

**ЗАЛЯДЫ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Красынь; вусце за 1,5 км на Пд ад в. Рагадашч. Прыток — канал Страмец (справа).

**ЗАЛЯШНО́,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,36 км$^2$.**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,92 км.**
**Пл. вадазбору 4 км$^2$.**

У бас. р. Обаль, за 38 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1 км на ПдУ ад в. Гукалы. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, пераважна пад хмызняком, на З і Пн часткова разараныя. На З выцякае р. Агнеш.

**ЗАМАША́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, правы прыток Патачанкі (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПдЗ ад в. Віржы, упадае ў Патачанку за 2,2 км на ПдУ ад в. Замошша.

**ЗАМАШЧА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ, вусце за 7,7 км на ПдУ ад в. Раздзялавічы.

**ЗАМО́ШАНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Ежыкі, вусце за 2 км на З ад в. Замошаны.

**ЗАМО́ШША,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,33 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 30,7 м.**
**Даўжыня 1,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,29 км.**
**Аб'ём вады 3,07 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 135 км$^2$.**

У бас. р. Ушача (працякае праз возера), за 18 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, разараныя, на Пд і ПдУ пaraслі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд і ПдУ нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. Найбольшая глыбіня ў паўднёвым плёсе, у паўночным — 17,9 м. Паміж плесамі невялікі востраў. Дно да глыбіні 6—7 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Вызначаецца высокай празрыстасцю вады. Да глыбіні 2 м зарастае надводнай расліннасцю. Уваходзіць у зону курорта Ушачы.

**ЗАМО́ШША,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.**
**Пл. вадазбору 2,5 км$^2$.**

У бас. р. Лучоса, за 17 км на Пд ад Віцебска, каля в. Зазыбы 2-я. Схілы катлавіны вышынёй 7—9 м, пераважна разараныя, на ПнЗ пад лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Злучана ручаём з Лучосай.

**ЗАМО́ШША,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Угольскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Вятчынская Рудня, вусце каля в. Замошша.

**ЗАМША́НКА,** канал Замшанка, рака ў Маларыцкім р-не, левы прыток р. Верхняя Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Старое Раматова; вусце за 1 км на ПдУ ад в. Дубічна. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗАМЯ́НКА,** рака ў Валожынскім і Стаўбцоўскім р-нах, правы прыток р. Уса (бас. Нёмана). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Камень Валожынскага р-на, упадае ва Усу за 2 км на Пн ад хутара Уса Стаўбцоўскага р-на (1,1 км ніжэй вусця р. Шура).

**ЗАО́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, левы прыток канала Бона (бас. Зах. Буга). Даўжыня 2,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Малы Паўлопаль, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Заор'е.

**ЗАПАКУ́ЛКА,** Пакулка, рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Няропля (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Студзёнка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Няропля. Рэчышча каналізаванае на працягу 3 км (ад в. Запакулле да вусця).

**ЗАПАЛІ́ЧНАЯ,** Крымка, Крынка, рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Гурыстая (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 37 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на Пд, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Зарубанае. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці.

**ЗАПАЛО́ССЕ,** Запалоскае возера, у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,37 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,9 м.**
**Даўжыня 1,14 км.**




Запаўскае возера.




Возера Замошша (Ушацкі раён).




Возера Запалоссе.

Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,8 км.
Аб'ём вады 0,79 млн. м³.
Пл. вадазбору 13,1 км².

У бас. р. Вята, за 13 км на ПнЗ ад г. Міёры, каля в. Запалоссе. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м, у верхняй частцы разараныя, на З парослыя лесам. Берагі высокія, абрывістыя, на ПнЗ зліваюцца са схіламі, на ПдУ і ў паўночным заліве сплавінныя, паўсюдна пад хмызняком. Дно складанай будовы (упадзіны чаргуюцца з мелкаводнымі і астраўнымі падняццямі), уздоўж берагоў пясчанае, глыбей — ілістае. 3 астравы агульнай пл. 2 га. Зарастае 70 % дна возера (пераважна падводнай расліннасцю). Упадаюць 2 ручаі.

**ЗАПАЛО́ССЕ,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Скобраўка, упадае ў Свіслач на паўночнай ускраіне в. Сітнікі.

**ЗАПА́СЕЧНАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Бярозаўскім р-нах, левы прыток Галоўнага Правага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Жытлін Івацэвіцкага р-на, вусце за 7 км на Пн ад в. Спорава Бярозаўскага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЗАПЕ́ЦКАЕ,** возера ў Віцебскім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,37 км.

У бас. р. Ласасіна (выцякае з возера), за 12 км на У ад Віцебска, на ПдЗ ад в. Астране. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад хмызняком, на У часткова разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя. Вакол возера забалочаная, парослая хмызняком пойма.

**ЗАПО́ЛЛЕЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Стары Юркавіцкі канал.*

**ЗАПО́ЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.
Пл. вадазбору 56,1 км².

У бас. р. Свячанка, за 11 км на ПдЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Заполле. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, разараныя. Берагі высокія, на асобных участках зліваюцца са схіламі. Праз возера цячэ р. Свінка.

**ЗАПРУ́ДА,** рака ў Івацэвіцкім і Пінскім р-нах, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 31,4 км. Выцякае з воз. Лунёва з ПдЗ, за 9 км на У ад в. Выганашча; вусце каля в. Збароўцы, якая знаходзіцца на правым беразе р. Вісліца. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Верхняе і сярэдняе цячэнне ў лясістай мясцовасці.

**ЗАПРУ́ДДЗЕ,** ручай у Валожынскім р-не, левы прыток Яршоўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 2,2 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Глін, упадае ў Яршоўку на У ад в. Зарэчча. На ўсім працягу каналізаваны.

**ЗАРАЖА́НКА,** назва р. *Галбіца* ў верхнім і сярэднім цячэнні.

**ЗАРО́НАВА,** Заронаўскае возера, на мяжы Віцебскага і Шумілінскага р-наў.

Пл. 3,61 км².
Найбольшая глыбіня 13,5 м.
Даўжыня 7,6 км.
Найбольшая шырыня 1,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 21,3 км.
Аб'ём вады 23,11 млн. м³.
Пл. вадазбору 147 км².

У бас. р. Шэвінка, за 12 км на У ад г. п. Шуміліна, каля в. Заронава Віцебскага р-на. Схілы катлавіны вышынёй 10—17 м (на З 5—10 м), разараныя, часткова пад лесам і хмызняком. Берагі пясчаныя і пясчана-галечныя, участкамі супадаюць са схіламі, у залівах на З і У сплавінныя. Падводная частка катлавіны падзяляецца на некалькі замкнёных глыбакаводных плёсаў. На ПдУ 5 астравоў агульнай пл. 3 га. Мелкаводдзе шырокае, пясчанае, уздоўж паўночных берагоў пясчана-галечнае з валунамі. Глыбакаводная зона ілістая. Упадаюць 10 ручаёў, у т. л. з воз. Княжно; на З выцякае р. Заронаўка. Зарастае да глыбіні 2—3 м.

**ЗАРО́НАЎКА,** назва р. *Шэвінка* ў верхнім цячэнні.

**ЗАРО́ЎЕ,** возера ў Лепельскім р-не, на мяжы з Ушацкім р-нам.

Пл. 0,19 км².
Даўжыня 0,95 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.
Пл. вадазбору 3,75 км².

У бас. р. Ушача, за 18 км на ПнЗ ад г. Лепель, на З ад в. Зароўе. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на ПдУ да 10 м), парослі лесам і хмызняком. На ПдЗ выцякае ручай у р. Ушача.

**ЗАРО́ЎШЧЫНА,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,06 км²
Даўжыня 0,43 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 1 км.

У бас. р. Галбіца, за 24 км на У ад г. Паставы, за 1 км на У ад г. п. Варапаева. Схілы катлавіны на У стромкія, вышынёй 10—12 м, заняты сельгасугоддзямі; на З спадзістыя, вышынёй 5—7 м, пад лесам. На Пн і Пд ад возера забалочаны выган.

**ЗАРУДЗЕ́ЧА,** рака ў Глускім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 22,4 км. Пл. вадазбору 141 км². Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Макавічы, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Барысаўшчына. Асноўны прыток — ручай Камарынка (злева). Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗАРУ́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток




Возера Заронава.

р. Няслуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Радаўня, вусце за 1 км на Пд ад в. Заруддзе Крыштынскага сельсавета.

**ЗАРУ́ЖАННЕ,** Ружына, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,37 км².**
**Даўжыня 1,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,15 км.**
**Пл. вадазбору 9,44 км².**

У бас. р. Лукомка, за 20 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Заружанне. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м (на У да 2 м), пад хмызняком, на Пн, ПнЗ і У разараныя. Берагі нізкія, пераважна забалочаныя. Злучана ручаём з воз. Несіна. Выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ЗАРЭ́СЦЕ,** вадасховішча ў Магілёўскім р-не.

**Пл. 0,71 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,3 м.**
**Даўжыня 2,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Аб'ём вады 1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 77 км².**

На р. Раста, за 32 км на ПдУ ад Магілёва, каля в. Зарэсце. Створана ў 1981 для арашэння і рыбагадоўлі. Ваганні ўзроўню на працягу года 2 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 12,3 млн. м³.

**ЗАРЭ́ЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Стары Макрэц, упадае ў Верхнюю Брагінку (Дзяржаўную канаву) за 1,7 км на ПдЗ ад в. Зарэчча.

**ЗАСЁЦЕН,** Сецін, возера ў Гомельскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2 км.**

У бас. р. Сож, за 2 км на ПнУ ад Гомеля, каля в. Пакалюбічы. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пад агародамі і пабудовамі. Берагі вышынёй 0,2 м, пясчаныя.

**ЗАСЛА́ЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** Мінскае мора, Ганалес, у Мінскім р-не.

**Пл. 25,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,6 м.**
**Даўжыня 9 км.**
**Найбольшая шырыня 4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 38,2 км.**
**Аб'ём вады больш за 100 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 562 км².**

Другі па велічыні штучны вадаём на Беларусі. На р. Свіслач, за 10 км на ПнЗ ад Мінска. Уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму. Створана ў 1956, рэканструявана і добраўпарадкавана ў 1977. Чаша вадасховішча да затаплення была забалочанай поймай рэк Свіслач, Вяча, Ратамка, Чарняўка. Асн. прызначэнне — сезоннае рэгуляванне сцёку, абвадненне Свіслачы, забеспячэнне вадой Мінска і стварэнне зон адпачынку. Берагі спадзістыя, з Пд і З парослыя лесам (з пасадкамі таполі, вярбы, акацыі). Месцамі створаны штучныя пясчаныя пляжы шырынёй 20—50 м. Ёсць 3 глыбокаўрэзаныя залівы (самы буйны Ратамскі), 11 маляўнічых астравоў агульнай пл. каля 0,29 км². Дно да глыбіні 2 м і вакол астравоў пясчанае, да глыбіні 8 м выслана ілам, уздоўж былых рэчышчаў Свіслачы і Вячы — торфам. Месцамі ад вадасховішча дамбамі адсечаны мелкаводдзі, дзе створаны польдэры. Гадавыя ваганні ўзроўню вады перавышаюць 1 м. Са стварэннем Вілейска-Мінскай воднай сістэмы праточнасць вадасховішча павялічылася ў 3 разы. Ёсць асобныя ўчасткі, дзе абмен вады вельмі замаруджаны (на У у Спартакаўскім заліве, каля прафілакторыя). Пераважаюць вятры паўночна-заходняга напрамку, якія могуць утвараць хвалі вышынёй 0,7—1,2 м. Сярэднямесячная тэмпература вады ў ліпені — жніўні 18—21 °С, у асобныя гады ў жніўні максімальная дасягае 27 °С. Замярзае ў 1-й палове снежня (у асобныя гады ў канцы лістапада), лёд (таўшчыня 60—70 см) трымаецца да канца сакавіка — пачатку красавіка. Сярэдняя працягласць ледаставу 125—130 дзён. Уздоўж берагоў зарастае, расліннасць (чарот азёрны, трысняг звычайны і аер звычайны, трапляюцца рдзесты, драсён земнаводны) найбольш пашыраны ў залівах і ў вярхоўі, дзе ўпадае канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Вадасховішча ўваходзіць у зону адпачынку Мінскае мора, на берагах размешчаны міжнародны маладзёжны цэнтр адпачынку «Юнацтва», базы адпачынку і прафілакторыі, базы для аматараў-рыбаловаў, спартбазы, піянерлагеры і інш. Папулярнае месца адпачынку і аматарскага рыбалоўства.

**ЗАСЛІ́ЦІНАК,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,09 км.**

У бас. р. Дрыса, за 20 км на ПдУ ад г.п. Расоны, за 0,7 км на З ад в. Дворышча. Схілы катлавіны вышынёй 3 м, пад лесам і хмызняком. На Пн і Пд участкамі забалочаная пойма.

**ЗАСЦЕ́НКІ,** рака, гл. *Казёл*.

**ЗАСЫ́ПНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Кармянскім р-не. Пл. 0,12 км². На пойме р. Сож, за 15 км на ПнУ ад г.п. Карма, каля в. Касцюкоўка. Старычнае.

**ЗАТУ́Р'Я,** меліярацыйны канал у Нясвіжскім р-не, левы прыток Тур'і (бас. Нёмана). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Сейлавічы (бас. Нёмана), упадае ў Тур'ю каля в. Затур'я.

**ЗАЎШЫ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля в. Малыя Заўшыцы, вусце каля в. Малы Рожан.

**ЗАХА́РНІЧЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,007 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,07 км.**

У бас. р. Палата, за 11 км на ПнУ ад Полацка, за 0,9 км на ПнЗ ад в. Гірсіна. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам. Паміж лесам і возерам выган (шырыня паласы да 100 м). Выцякае ручай у р. Палата.

**ЗАХБЕ́ЙКА,** возера ў Віцебскім р-не.




**Возера Заронава.**

## ЗАХЛАМЛЕНЫ

**Пл. 0,26 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,7 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,94 км.**
**Аб'ём вады 1,09 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,14 км$^2$.**

У бас. р. Лужаснянка, за 25 км на ПнУ ад Віцебска, за 2 км на У ад в. Ходарава. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пясчаныя, пад лесам, на Пн і Пд невыразныя. Берагі вышынёй да 0,5 м, тарфяністыя, на ПнУ пясчаныя, да ўрэзу вады лес і хмызняк. Мелкаводдзе вузкае. Дно да глыбіні 2,5—3 м пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Ёсць востраў пл. 0,4 га. У час разводдзя ручаём злучаецца з воз. Вымна. Зарастае да глыбіні 2 м.

**ЗАХЛА́МЛЕНЫ КАНА́Л,** Р а д н і ц к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток Ярцаўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ ад в. Каравацічы, каля нафтаправода «Дружба», упадае ў Ярцаўскі канал за 3,5 км на ПнУ ад в. Першамайск. Канал цячэ па забалочаным лесе.

**ЗАХО́ДНІ БУГ,** Б у г, рака на Украіне, Беларусі і Польшчы, левы прыток р. Нараў.

**Даўжыня 772 км.**
**Пл. вадазбору 39,4 тыс. км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады на мяжы Беларусі з Украінай каля 50 м$^3$/с, пры выхадзе за мяжу рэспублікі 100 м$^3$/с, каля г. Вышкаў (Польшча) 127 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца на заходніх схілах Падольскага ўзвышша каля в. Вербабуж Золачаўскага р-на Львоўскай вобл., упадае ў Загжынскае вадасховішча на р. Нараў (Польшча). Асноўныя прытокі ў Беларусі: Калаеўка, Мухавец, Лясная, Пульва. Сярэдняе цячэнне праходзіць па Брэсцкім Палессі і Прыбугскай раўніне. Даўжыня ў межах Беларусі 154 км, пл. вадазбору каля 10,4 тыс. км$^2$. Даліна ракі шырынёй 3—4 км. Пойма нізкая, шырокая, часта зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Шырыня ракі 50—75 м, на асобных участках 200—300 м. Замярзае ў канцы снежня, лёд трымаецца да 2-й паловы сакавіка. Веснавое разводдзе (працягласць 1—2 месяцы) звычайна ў пачатку сакавіка, найбольшы ўзровень разводдзя ад 3 м да 6 м. Летам і ўвосень назіраюцца дажджавыя паводкі, зімой мяшаныя (ад раставання снегу пры адлігах і ад дажджоў). Межань кароткая, перарывістая. Зах. Буг праз Мухавец, Дняпроўска-Бугскі канал і р. Піна злучаны з Прыпяццю, праз Нараў — з р. Чорная Ганча (прыток Немана). Суднаходства ў ніжнім цячэнні. На рацэ Брэсцкі порт.

**ЗАХО́ДНЯЯ БЯРЭ́ЗІНА,** рака, гл. *Бярэзіна.*

**ЗАХО́ДНЯЯ ДЗВІНА́,** рака ў Расіі, Беларусі і Латвіі.




**Заслаўскае вадасховішча.**



**Заслаўскае вадасховішча.**

**Даўжыня 1020 км.**
**Пл. вадазбору 87,9 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 666 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі на Беларусі 38 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,12 ‰.**

Пачынаецца на Валдайскім узвышшы з воз. Каракіна (Цвярская вобл.) на вышыні 221 м над узроўнем мора, упадае ў Рыжскі заліў Балтыйскага мора. Асноўныя прытокі на Беларусі: Усвяча, Обаль, Палата, Дрыса (справа), Каспля, Лучоса, Ула, Ушача, Дзісна і Друйка (злева). Цячэ на Беларусі пераважна з У на З па Суражскай нізіне, паміж Гарадоцкім і Віцебскім узвышшамі і на большым сваім працягу — па Полацкай нізіне. Даўжыня ў межах Беларусі 328 км, пл. вадазбору 33,2 тыс. км². Даліна трапецападобнай формы, каля г. п. Руба — каньёнападобная. Шырыня яе ў асноўным 3—4 км, паблізу ўпадзення Улы і на крайняй усходняй частцы Беларусі дасягае 10—15 км. Глыбіня ўрэза зменьваецца ад 20—30 м да 40—50 м. У будове даліны часцей за ўсё вылучаецца пойма і 2 (некаторыя даследчыкі адзначаюць 3—4) надпоймавыя тэрасы. Пойма ў межах Суражскай нізіны вузкая — да 60 см. Адрозніваюць 2 узроўні: нізкі (1,5—2 м над летнім урэзам ракі, заліваецца ў разводдзе кожны год) і высокі (4—5 м, заліваецца толькі пасля многаснежных зім). Аналагічная будова захоўваецца да Віцебска, прычым шырыня нізкай поймы 40—50 м, а высокай не перавышае 15—20 м. Каля г. п. Руба пойма звужаецца да 10—20 м. На Полацкай нізіне яна таксама вузкая, з двума ўзроўнямі: ніжняя (2,5—3,5 м над летнім узроўнем вады) шырынёй 5—10 м і верхняя (5—5,5 м) 15—20 м. Толькі на асобных участках пойма пашыраецца да 300—500 м (зрэдку да 3 км). Рэчышча звілістае, зарастае пераважна каля берагоў. Шырыня яго да вусця р. Ула 60—120 м, зрэдку да 190 м, каля мяжы з Латвіяй 100—140 м, зрэдку да 240 м. Суднаходству па рацэ перашкаджаюць парогі — на працягу 12 км вышэй Віцебска цягнецца Вярхоўскі парог, утвораны выхадам блізка да дзеннай паверхні дэвонскіх даламітаў; парожыстыя ўчасткі трапляюцца ў сутоках Дзісны і Зах. Дзвіны каля г. Дзісна, а таксама каля г. Верхнядзвінск. Дно пясчана-камяністае і пясчанае або пясчана-галечнае. Берагі ўмерана-стромкія, супясчаныя, радзей — пясчана-гліністыя з валунамі, вышынёй да 8 м, зрэдку да 22 м. Жыўленне ракі мяшанае (пераважна снегавое з вялікай доляй грунтавога). Асаблівасць рэжыму — высокае веснавое разводдзе, нізкая летне-асенняя межань з частымі дажджавымі паводкамі, устойлівая зімовая межань. На перыяд веснавога разводдзя прыпадае 56 %, летне-асеннюю межань 33 %, зімовую — 11 % гадавога сцеку. Веснавое разводдзе доўжыцца 60—70 дзён (з канца сакавіка да 1-й дэкады чэрвеня). Сярэдняя вышыня над самай нізкай меженню 4,4—9 м, найбольшы ўзровень у межах Беларусі 13,5 м (1931). Летне-асенняя межань (доўжыцца 4—5 месяцаў) нярэдка парушаецца дажджавымі паводкамі вышынёй да 6 м. Зімовая межань каля 70—80 дзён. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у 1-й дэкадзе красавіка. Найбольшая таўшчыня ледзу 50—78 см (люты — сакавік). Веснавы ледаход 4—10 сутак. Найбольшы расход вады каля



Возера Захбейка.


Рака Заходні Буг каля Брэста.




Возера **Зачорнае.**

Віцебска 3320 м³/с (1991), Полацка 4060 м³/с (1956), найменшы адпаведна 8 м³/с (1940) і 25,4 м³/с (1938—39). Гадавы сцёк завіслых наносаў каля 320 тыс. т. Вада на працягу года (за выключэннем перыядаў веснавога разводдзя і летне-асенніх паводак) гідракарбанатна-кальцыевага класа з рэзка выражаным гідракарбанатным характарам. Для памяншэння забруджвання Зах. Дзвіны на прамысловых і камунальных прадпрыемствах ствараюцца ачышчальныя збудаванні, вядзецца кантроль за гідратэхнічным рэжымам ракі, аднак стан ракі пакуль не паляпшаецца (у 1990 г. ў Наваполацку адбылася аварыя, якая аказала адмоўны ўплыў на іхтыяфауну да самага вусця ракі).

У рацэ водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась звычайны, верхаводка, гусцяра; каштоўныя — судак, мінога ручаёвая, стронга ручаёвая, галавень і інш. Са старажытных часоў Зах. Дзвіна — важны гандлёвы шлях, у 9—11 ст. па ёй праходзіла адно з адгалінаванняў шляху з «варагаў у грэкі». Рака злучана Бярэзінскай воднай сістэмай (не дзейнічае) з Дняпром. Суднаходства ажыццяўляецца ад Веліжа (Расія) да Верхнядзвінска, у ніжнім цячэнні (у межах Латвіі) — на асобных участках. На Зах. Дзвіне (Даўгаве) працуюць Кегумская, Плявінская і Рыжская гідраэлектрастанцыі. Гарады і пасёлкі гарадскога тыпу на Беларусі: Сураж, Руба, Віцебск (порт), Бешанковічы, Ула, Полацк, Наваполацк, Дзісна і Верхнядзвінск.

**ЗА́ЦКАВА,** возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,75 км².**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,1 км.**

У бас. р. Пыранка, за 26 км на ПнУ ад Гродна, за 4 км на ПнУ ад в. Аб-ры. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, параслі лесам. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. На ПнУ упадае р. Сламянка, на ПдЗ возера злучана пратокай з Белым возерам.

**ЗАЦЯРЖУ́ЎКА,** рака, гл. *Жацераўка.*

**ЗАЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,29 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,9 м.**
**Даўжыня 1,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,04 км.**
**Аб'ём вады 1,39 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,3 км².**

У бас. р. Шэвінка, за 8 км на ПнУ ад г. п. Шуміліна, за 1 км на Пв ад в. Слабада. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, пераважна разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, каля ўрэзу вады параслі хмызняком, на У і З сплавінныя. У паўднёвай частцы востраў пл. 0,1 га. Дно да глыбіні 2 м (вакол астравоў да 4—5 м) пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Упадаюць 2 ручаі, на У выцякае ручай у воз. Філіпенскае. Зарастае слаба, перарывістая паласа надводнай расліннасці пашырана да глыбіні 0,5 м.

**ЗАЧЭ́РНАЎСКАЯ,** рака ў Гарадоцкім і Віцебскім р-нах, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,4 км на Пн ад в. Каменка Гарадоцкага р-на, упадае ў Баранаўскае возера з ПнУ, за 0,4 км на Пн ад в. Канавалава Віцебскага р-на.

**ЗАШЧА́СЛІНСКІ КАНА́Л,** меліяра-



**Рака Заходняя Дзвіна каля гарадскога пасёлка Руба Віцебскага раёна (урочышча Здраўнева).**



Званае возера ў басейне ракі Званіца.

цыйны канал у Глыбоцкім р-не, правы прыток р. Чысцянка (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Шыпы, вусце за 4,5 км на ПдЗ ад в. Чыстае.

**ЗАШЧАТЫ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,83 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7 м.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,35 км.
Пл. вадазбору 660 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 20 км на Пд ад Полацка, каля в. Гомель. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. На Пд упадае р. Турэц, на З выцякае пратока ў воз. Гомель, на якой пабудавана плаціна.

**ЗАШЧОБ'ЕЎСКІ КАНА́Л,** Зашчобскі канал, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Зашчоб'е, вусце за 5 км на ПдУ ад в. Глінная Слабада.

**ЗАШЫР'ЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток р. Батыўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца за 4 км на Пн ад в. Карма, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Зашыр'е. Прыток — Сініцкі канал (злева).

**ЗБО́РХАЎ,** рака ў Веткаўскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Наваміхайлаўка, вусце ў в. Вялікія Нямкі. Рэчышча на працягу 2,6 км (ад вытоку да в. Антонаўка) каналізаванае.

**ЗБУ́НІНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Рагазнянскае возера.*

**ЗВА́НАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 1,28 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 1,78 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,1 км.
Аб'ём вады 2,49 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5 км$^2$.

У бас. р. Званіца (выцякае з возера), за 18 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Званае. Схілы катлавіны вышынёй 15—30 м (на З і ПдУ 8—9 м), пад лесам і хмызняком. Берагі нізкія, сплавінныя, вакол забалочаная, парослая хмызняком пойма. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае на ўсёй плошчы надводнай расліннасцю.

**ЗВАНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,35 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 1,06 км.
Найбольшая шырыня 0,52 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,68 км.
Аб'ём вады 1,28 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 13,4 км$^2$.

У бас. р. Свіна, за 48 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Званае. Схілы катлавіны вышынёй да 5—8 м, пад лесам, на З і Пн разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пд забалочаныя, тарфяністыя. Мелкаводдзе да глыбіні 1—1,5 м пясчанае, ніжэй дно іловае. На Пд выцякае ручай у воз. Грыбна. Зарастае слаба, паласа надводнай расліннасці да глыбіні 1,1—1,8 м, месцамі да 2 м.

**ЗВАНЕ́Ц,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Даўжыня 0,28 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Вужыца, за 30 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 4,5 км на ПнУ ад в. Стралкі, сярод меліяраванага балота. Праз сістэму меліярацыйных каналаў злучана з р. Вужыца.

**ЗВА́НІЦА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 52 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Выцякае з воз. Званае за 1 км на ПдЗ ад в. Званае, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Новыя Замашаны. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці.

**ЗВАНКО́ВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1 км.

У бас. р. Аўсянка, за 26 км на ПнУ ад г. Гарадок, на паўночна-заходняй ускраіне в. Бярозна. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на З невыразныя), разараныя, на У пад лесам.

**ЗВАНСКО́Е ВО́ЗЕРА,** гл. *Звонь.*

**ЗВЕ́ЗДЗІК,** ручай у Шумілінскім р-не, левы прыток р. Сечна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1,2 км на Пн ад в. Пісарава, вусце за 0,8 км на Пд ад в. Бярэзіца. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,4 км каналізаванае.

**ЗВЕ́РЫНКА,** рака ў Расонскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 54 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Выцякае са Зв'рынага возера за 4 км на Пд ад в. Марыніца, упадае ў воз. Якаўскае з У за 0,5 км на З ад в. Рудня. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці.

**ЗВОНЬ,** Званское возера, ва Ушацкім р-не.

Пл. 1,46 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 17,9 м.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 1,14 км.
Даўжыня берагавой лініі 7 км.
Аб'ём вады 8,78 млн. м$^3$.

У бас. р. Ушача, за 12 км на Пд ад г. п. Ушачы, каля в. Звонь. Схілы кат-




Званае возера ў басейне ракі Званіца.




Возера Звонь.

лавіны вышынёй да 5—9 м (на ПнУ 20—25 м), пераважна разараныя, на Пд і З парослыя лесам. Берагі нізкія, пясчаныя і пясчана-галечныя, часткова пад хмызняком. Дно да глыбіні 3,5—4 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Шырыня прыбярэжнай паласы зарастання да 35 м. 3 астравы агульнай пл. 4,2 га. На Пд упадае р. Зуйніца, на Пн выцякае ручай у воз. Вялікая Існа. Адзначаны пасяленні баброў. Уваходзіць у зону адпачынку курорта Ушачы.




1 — у воз. Вялікае Існа
2 — р. Зуйніца

Возера Звонь.




1 — р. Звярынка

Звярынае возера.

**ЗВЯРЫ́НАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,26 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 1,36 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,77 км.**
**Аб'ём вады 0,57 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,1 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 12 км на ПнЗ ад в. Дрэтунь. Схілы катлавіны вышынёй 1—3 м, пораслі лесам. Берагі пераважна пясчаныя, на Пн сплавінныя. Пойма шырынёй 5—15 м, пад лесам. У паўднёвай частцы востраў пл. 0,4 га. Дно сапрапелістае, мелкаводдзе пясчанае. На ПдЗ выцякае р. Звярынка. Зарастае ў прыбярэжнай зоне да глыбіні 1,5 м.

**ЗЕЛЯНСКОЕ ВО́ЗЕРА,** Б а б і н а в і ц к а е  в о з е р а, у Лёзненскім р-не.

**Пл. 1,2 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 2,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,15 км.**
**Пл. вадазбору 346 км$^2$.**

У бас. р. Лучоса (выцякае з возера), за 25 км на ПдЗ ад г. п. Лёзна, каля в. Бабінавічы. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя, участкамі пад лесам і хмызняком. Берагі высокія, часткова супадаюць са схіламі. Упадаюць р. Вярхіта і 2 ракі з аднолькавай назвай Узменка (на Пн і Пд).

**ЗЕЛЯНУ́ХА,** рака ў Мядзельскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Студзяніца, упадае ў воз. Мядзел з У за 1 км на Пд ад в. Цімошкаўшчына.

**ЗЕ́МБІНКА,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Шэрсцін, вусце за 2 км на У ад в. Каменка. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗЕНЧАНКА,** рака, гл. *Зямчатка.*

**ЗЕНЯПІ́ШКА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток р. Пуціска (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля в. Шастакоўцы, упадае ў Пуціску за 1,3 км на ПдЗ ад в. Куляшы. На працягу 5,5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Купры).

**ЗЕРАМНЯ́НКА,** рака ў Сенненскім р-не, правы прыток р. Добрынка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 9 км. Пл. вадазбору 22 км$^2$. Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Ляснічыя Аршанскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Добрына Сенненскага р-на (у некаторых даведніках месца зліцця Добрынкі з р. Зерамнянка лічыцца пачаткам р. Серакаратнянка). Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЗЕ́ХА,** рака ў Лепельскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 8 км. Выцякае з воз. Забалоцце з ПнУ, за 1,2 км на Пн ад в. Забалоцце; упадае ў Лепельскае возера з Пн, за 0,7 км на У ад в. імя Чапаева. Прыток — р. Студзёнка (справа).



Возера Звонь.

**ЗЖА́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца ў лясным урочышчы Супрэнны, упадае ў Шчару за 2,5 км на Пд ад в. Дабромысль.

**ЗІ́ТАЛА,** рака, гл. *Дзятлаўка.*

**ЗЛАЦЯЖЭЧКА,** рака, гл. *Залатая Рэчка.*

**ЗМЕ́ЙКА,** Д з в е я, рака ў Баранавіцкім і Карэліцкім р-нах, левы прыток Ушы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 190 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км ад в. Стайкі Баранавіцкага р-на, у лясным урочышчы Галубоўшчына, упадае ва Ушу на заходняй ускраіне в. Малая Мядзведка. У вярхоўі прымае сцёк з густой сеткі асушальных каналаў і 2 прытокаў з аднайменнай назвай. На працягу 14,5 км каналізаваная (ад вытоку да паўночнай ускраіны в. Шчарбовічы).

**ЗМЕ́ЙКА,** рака ў Баранавіцкім і Нясвіжскім р-нах, правы прыток Змейкі (Дзвеі, бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля в. Пагарэльцы, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Савічы. На працягу 6 км каналізаваная: ад вытоку да заходняй ускраіны в. Друзкаўшчына (3 км) і за 0,5 км на ПнУ ад в. Нагорная да вусця (3 км).

**ЗМЕ́ЙКА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 32 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Паташня, вусце ў межах в. Бароўка.

**ЗМЕ́ЙКА,** рака ў Баранавіцкім р-не, левы прыток Змейкі (Дзвеі, бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 0,7 км на Пн ад в. Бартнікі, упадае ў Змейку на ПдЗ ад в. Задзвея. На працягу 4,6 км каналізаваная (ад вытоку да в. Вольна). Каля в. Вольна створана сажалка (пл. 0,19 км$^2$).



Зелянское возера.

**ЗМЕЙКА,** рака, гл. *Даражывель.*

**ЗМЕНЬ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Ляхавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Пігасы, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Дубраўкі.

**ЗОЛВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 7 м.**
**Даўжыня 1,67 км.**
**Найбольшая шырыня 0,29 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,8 км.**
**Аб'ём вады 1,09 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 15,3 км².**

У бас. р. Дружнянка (злучана ручаём з возерам), за 13 км на Пд ад г. Браслаў, за 1,5 км на Пн ад в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, на Пд не выражаны, пароcлыя лесам і хмызняком. Берагі пад хмызняком, на Пн сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей — сапрапелі. Злучана ручаём з воз. Шылава. Надводная расліннасць утварае паласу шырынёй 10—85 м да глыбіні 2,7 м.

**ЗОРКАЕ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 40 км на ПнУ ад Полацка, за 3 км на Пд ад в. Труды, сярод лесу. З У возера акружана забалочаным хмызняком, з З — лясістымі ўзгоркамі вышынёй 10 м.

**ЗОСІНА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Лучайка, за 6 км на ПнУ ад г. Паставы, за 2 км на У ад в. Сіўцы. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя, на У пад садам. Акружана забалочанай поймай шырынёй 50—100 м. З Пд упадае ручай, на Пн выцякае ручай у р. Лучайка.

**ЗУБАР,** З у б р, рака ў Касцюковіцкім р-не, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 206 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на Пд ад в. Жукаўка, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Бялынкавічы. Найбольшы прыток - р. Грэбля. Рэчышча на працягу 6 км каналізаванае (ад в. Гаўрыленка да в. БароньКі).

**ЗУБАРЭВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 19 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Пратасы, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Зуб-Буда.

**ЗУБІХА,** ручай у Глускім р-не, правы прыток ручая Камарынка (бас. Прыпяці). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Сельцы, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Калюга. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗУБР,** рака, гл. *Зубар.*

**ЗУБРАЎКА,** З у б р а ў с к а е в о з е р а, у Шчучынскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.**

У бас. р. Котра, за 33 км на ПнЗ ад г. Шчучын, каля вусця р. Нявіша. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пад лесам і хмызняком, на У разараныя. Выцякае ручай у р. Котра, упадае меліярацыйны канал.

**ЗУБРОЎСКІ КАНАЛ,** Р о в е ц к а я к а н а в а, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,7 км. Пачынаецца з Жыроўскага канала за 3,5 км на ПдУ ад в. Сварынь, вусце за 3 км на ПдУ ад х. Зарэчка. Прыток — канал Хідры (справа).

**ЗУБРЫЦА,** рака ў Камянецкім р-не, левы прыток р. Белая (бас. Зах. Буга). Даўжыня 4 км. Пачынаецца і цячэ па забалочаным лясным масіве ў межах паўднёва-заходняй ускраіны Белавежскай пушчы, вусце каля паўднёвай ускраіны в. Белая. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае.

**ЗУЙКА,** рака ў Докшыцкім і Мядзельскім р-нах, левы прыток Сэрвачы (бас. Віліі).

**Даўжыня 28 км.**
**Пл. вадазбору 142 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Туркі Докшыцкага р-на, упадае ў Сэрвач за 1 км на Пд ад в. Палессе. На працягу 13,2 км каналізаваная: ад в. Ветахма да в. Калягі (5 км) і за 1,3 км на ПдЗ ад в. Ворнаўка да вусця (8,2 км).

**ЗУЙНІЦА,** рака ва Ушацкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Пораўна, упадае ў воз. Звонь з ПдЗ за 2 км на ПдЗ ад в. Звонь. Рэчышча на працягу 2 км уверх ад вусця каналізаванае.

**ЗУСТА,** рака ў Смаргонскім р-не, правы прыток Спягліцы (бас. Віліі).

**Даўжыня 15 км.**




Зелянское возера.




Возера Золва.




Возера Золва.

Пл. вадазбору 142 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца на асушаным тарфяным балоце з возера без назвы за 3,5 км на ПнУ ад в. Укропенка, упадае ў Спягліцу на ўскраіне в. Наваселкі. На працягу 12,1 км каналізаваная (выток — 1 км на ПдЗ ад в. Лемяшы).

**ЗЫБІНА,** рака, гл. *Крапіўня.*

**ЗЫКОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2 м.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,15 км.
Пл. вадазбору 27,5 км$^2$.

У бас. р. Крашанка, за 22 км на Пд ад Полацка, каля в. Зыкова. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на Пд 2 м), пад хмызняком, на У разараныя. Зарастае. Злучана ручаямі з азёрамі Саламірскае і Адводы.

**ЗЫСКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,28 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.

У бас. р. Сечна, за 5 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Зыскі. Схілы катлавіны вышынёй 3 м, пад выганам. Злучана ручаём з воз. Мошна, выцякае ручай у воз. Дабееўскае.

**ЗЭЛЬВЕНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Зэльвенскім р-не.

Пл. 12 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,5 м.
Даўжыня 9 км.
Найбольшая шырыня 2 км.
Аб'ём вады 28 млн. м$^3$.

На р. Зальвянка паміж вёскамі Беражкі, Каралін, Кашалі; часткова ў межах г. п. Зэльва. Створана ў 1983 для арашэння зямель, воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак, рыбагадоўлі. Правы бераг больш высокі, амаль цалкам пад лесам; левы нізкі, заняты сенажацямі і пашай, у час веснавога разводдзя заліваецца вадой. У г. п. Зэльва на левым беразе лесапарк пл. 47 га. Сярэднегадавы сцёк вады 207 млн. м$^3$.

**ЗЯБЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не (бас. Нёмана), левы прыток Восьмага канала. Даўжыня 6 км. Пачынаецца ва ўрочышчы Зябча ў балоцістай мясцінe, упадае ў Восьмы канал за 6,5 км ад яго вытоку.

**ЗЯМЧАТКА,** З е н ч а н к а, М а л ю ш ы ц а, рака ў Карэліцкім р-не, правы прыток Нёўды (бас. Нёмана).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 61 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,3 ‰.

Пачынаецца каля в. Міратычы, на ўсходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Нёўду на Пд ад в. Зарэчча. На працягу 6,2 км каналізаваная (ад в. Валокі да вусця).

**ЗЯРНЯ,** рака ў Дрыбінскім р-не, правы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 43 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,8 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Бір, вусце на паўночнай ускраіне в. Галавічы.

# І

**ІАРДЫНКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, левы прыток р. Аўсянка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 51 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.

Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Прыбыткава, вусце каля ўсходняй ускраіны в. Прывальні. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці.

**ІВАНАЎКА,** А к о ў к а, рака ў Слонімскім і Зэльвенскім р-нах, правы прыток Зальвянкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 58 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Мыслава Слонімскага р-на, цячэ праз возера Бяздоннае, упадае ў Зальвянку за 1 км на Пн ад в. Кашалі Зэльвенскага р-на. На працягу 2 км каналізаваная (ад вытоку да в. Збочна).

**ІВАНАЎКА,** меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім р-нах, левы прыток Безназоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Іванаўка Хойніцкага р-на, вусце за 7 км на ПдЗ ад в. Багушы Брагінскага р-на.

**ІВАНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, левы прыток р. Нясета (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Дзмітраўка 2-я, упадае ў Нясету за 1,7 км на З ад в. Плоская.

**ІВАНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім і Хойніцкім р-нах, левы прыток Радзінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 4,3 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Нежыхаў Брагінскага р-на, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Радзін Хойніцкага р-на.

**ІВАНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,31 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Нача, за 40 км на ПдЗ ад Полацка, за 800 м на Пн ад воз. Каравайна, за 4 км на ПдЗ ад в. Рабчонкі, сярод лесу. Праз возера цячэ р. Быстрыца (злучае яго з воз. Каравайна).

**ІВАНКАЎШЧЫНА,** меліярацыйны канал у Мазырскім р-не, левы прыток р. Чэрцень (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,9 км. Пачынаецца каля в. Іванкаўшчына, вусце за 5,5 км на ПдЗ ад в. Мялешкавічы.

**ІВАНЬКІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Веткаўскім р-не, левы прыток р. Пералёўка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1,6 км на З ад в. Стаўбунскае Будзішча, вусце за 1,6 км на ПдЗ ад в. Пералёўка.

**ІВАЦЭВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Грыўды (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля в. Гошчава, цячэ праз Івацэвічы, упадае ў Грыўду за 0,5 км на ПнУ да г. Івацэвічы.

**ІВЕНКА,** І ў я н к а, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 111 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца каля в. Урцішкі, упадае ў Нёман на Пд ад в. Збойск. На працягу 10,5 км каналізаваная (ад г. п. Іўе да вусця). На паўночнай ускраіне г. п. Іўе створана сажалка (0,44 км$^2$).

**ІВЕНЧЫК,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток р. Іслач (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на Пн ад в. Раднікі, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач за 0,5 км на ПдЗ ад в. Баравікоўшчына.

**ІВЕСЬ,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,55 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 26 м.
Даўжыня 2,12 км.
Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,8 км.
Аб'ём вады 4,71 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,4 км$^2$.

У бас. р. Шоша, за 36 км на У ад

…Глыбокае, каля в. Івесь. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя, на ПнЗ парослыя лесам. Берагі пясчаныя, пад хмызняком, на У і ПнЗ месцамі абразійныя ці зліваюцца са схіламі. Пойма забалочаная, пад хмызняком, шырыней да 200 м. Дно з упадзінамі і мелямі. Мелкаводная зона пясчаная, глыбакаводная сапрапелістая. Востраў пл. 1 га. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю. Упадаюць ручаі з азёр Молена і Белае (азёрны заказнік), на З выцякае ручай у воз. Шо. Зарастае да глыбіні 5,5 м.

**ІВОЛЬКА,** рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Уза (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 81 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Главаўка, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Цярэхічы. Рэчышча на працягу 2,9 км каналізаванае: в. Савет — 2 км на ПнЗ ад в. Востраў (2,9 км), в. Івольск — вусце (10 км). На рацэ каля в. Івольск плаціна і сажалка.

**ІВЯЗЯНКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Моўчадзі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Сцяткоўшчына, цячэ па Навагрудскім узвышшы, упадае ў Моўчадзь за 1 км на ПнУ ад в. Белалозы. У верхнім цячэнні называецца Л я д з і н к а. На працягу 11,6 км каналізаваная (ад. в. Лядзіны да вусця).

**ІГУМЕНКА,** рака, гл. *Чэрвенка.*

**ІДОЛТА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,58 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13,1 м.**
**Даўжыня 1,71 км.**
**Найбольшая шырыня 0,63 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,4 км.**
**Аб'ём вады 2,47 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 13,2 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 11 км на ПнЗ ад г. Міёры, каля в. Ідолта. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, парослі лесам, на У 2—5 м, разараныя, на З невыразныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на У і ПнЗ сплавінныя. Мелкаводдзе да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй ілістае. Упадаюць 2 ручаі, на Пд выцякае ручай у Вяту.

**ІДУТА,** рака ва Ушацкім р-не, левы прыток р. Ушача (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Есяновікі, вусце за 1,5 км на У ад в. Ідута. У сярэднім цячэнні рэчышча на працягу 1,2 км каналізаванае.

**ІЗАЎКА,** назва р. *Ізва* ў верхнім і сярэднім цячэнні.

**ІЗБЕНАК,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Дрыса, за 27 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Вялікія Асёткі. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, пад лесам, на У пад хмызняком. На Пн выцякае ручай у р. Дрыса.

**ІЗБІНКА,** рака, гл. *Узбінка.*

**ІЗБЫНЬКА,** Б а я в а я, меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Ізбынь, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Хвойнае.

**ІЗВА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 141 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,7 ‰.**

Пачынаецца на заходніх схілах Навагрудскага ўзвышша (каля в. Ладзенікі), упадае ў Нёман на 1 км на ПнЗ ад в. Руда. У верхнім і сярэднім цячэнні называецца І з а ў к а. Цячэ пераважна па лесе, у сярэднім цячэнні — па глыбока ўрэзанай даліне.

**ІЗЛЕДЗЬ,** рака на мяжы Валожынскага, Стаўбцоўскага і Іўеўскага р-наў, левы прыток Волкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 30 км.**
**Пл. вадазбору 134 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Забор'е Валожынскага р-на на схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Волку за 3 км на ПдЗ ад в. Сухі Барок Іўеўскага р-на. У нізоўі цячэ па Налібоцкай пушчы. Асноўны прыток — р. Каменка (справа). Рэчышча каналізаванае ад вытоку да хутара Ізледзь (3,4 км) і на працягу 14 км уверх ад вусця.

**ІЗМАК,** Н е м а к, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 1,13 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,2 км.**
**Аб'ём вады 1,33 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 180 км$^2$.**

У бас. р. Палата (цячэ праз возера), за 44 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Малое Сітна, сярод лясного масіву. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м. Берагі забалочаныя, месцамі сплавінныя, на ПнЗ высокія, пясчаныя. Дно сапрапелістае, на Пд і ПдУ уздоўж берагоў пясчанае. Упадаюць 2 ручаі. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**ІЗМОЧКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.**

У бас. р. Палата, за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 1 км на Пд ад в. Дрэтунь. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам.

**ІЗУБРЫЦА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.



Возера Івесь.



Возера Ідолта.




Возера Ізубрыца.




Возера Інава.

**Пл. 1,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,2 м.**
**Даўжыня 2,23 км.**
**Найбольшая шырыня 1,04 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,2 км.**
**Аб'ём вады 1,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,6 км².**

У бас. р. Свольна, за 40 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Ізубрыца, сярод лесу. Акружана забалочанай, парослай хмызняком, поймай. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, на Пн і ПнЗ 5—10 м. Берагі пясчаныя, забалочаныя, на Пн і ПдЗ сплавінныя. Дно да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелем. Вада мае шчолачную рэакцыю, павышаную колернасць. Зарастае поўнасцю. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1 м. На ПнЗ выцякае ручай у воз. Бузянка.

**ІКА́ЗНЬ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 2,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,4 м.**
**Даўжыня 2,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,7 км.**
**Аб'ём вады 7,94 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 25,3 км².**

У бас. р. Друйка, за 14 км на У ад г. Браслаў, каля в. Іказнь. Схілы катлавіны 12—15 м, у верхняй частцы разараныя, на ПдУ парослыя лесам. Берагі нізкія, месцамі абразійныя, пад хмызняком; у паўночна-заходнім заліве сплавінныя. Мелкаводдзе пясчанае і пясчана-галечнае, глыбей дно выслана сапрапелем. 2 астравы агульнай пл. 1,2 га. Зарастае слаба. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 10 м, месцамі адсутнічае. На ПнЗ выцякае р. Усвіца.

**І́ЛАВА,** возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

**Пл. 1,44 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,49 км.**
**Найбольшая шырыня 1,19 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,9 км.**
**Аб'ём вады 4,25 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4 км².**

У бас. р. Дзісна, за 32 км на У ад г. п. Шаркоўшчына, за 6 км на У ад в. Пагоры, на вярховым балоце. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі вышынёй 0,3—0,5 м, тарфяныя, да ўрэзу вады лес. Дно плоскае, тарфяністае. Вада вызначаецца вельмі нізкай мінералізацыяй, кіслай рэакцыяй (рН 3,6—4,9) і высокай празрыстасцю. Зарастае падводнай расліннасцю.

**І́ЛАВА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Дрыса, за 18 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на ПнУ ад в. Тапары, сярод лесу. Схілы невыразныя, на Пд і З забалочаная пойма. На Пн выцякае ручай у р. Дрыса.

**І́ЛАЎКА,** рака ў Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Ляскова, вусце за 0,6 км на У ад в. Курылава. Ад вытоку на працягу 3,3 км рэчышча каналізаванае.

**ІЛГА́ЙЦЫ,** І л г а й ц а, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 20,2 м.**
**Даўжыня 2,02 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,99 км.**
**Аб'ём вады 2,72 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,4 км².**

У бас. р. Дрысвята, за 17 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Ілгайцы. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на Пн 2—5 м), у ніжняй частцы параслі хмызняком, у верхняй — разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, у залівах нізкія, пясчаныя, задзернаваныя. Дно мелкаводнымі падняццямі падзяляецца на шэраг адасобленых замкнёных катлавін; да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Зарастае слаба, падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4—5 м.

**І́ЛІЯ,** рака ў Лагойскім і Вілейскім р-нах, у бас. Віліі.



Возера Ілава.

**Даўжыня 62 км.**
**Пл. вадазбору 1220 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 8,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Міхалкавічы ў межах Мінскага ўзвышша, у вярхоўі прымае рэкі Каменка (злева) і Бачылаўка (справа), упадае ў паўднёвы заліў Вілейскага вадасховішча. Асноўныя прытокі: Слiжанка, Мышкоўка, Выпрата, Жучок, Рыбчанка (злева), Бачылаўка (у вярхоўі), Дроздка (справа). Даліна невыразная, яе шырыня 2—3 км. Пойма забалочаная, нізкая, яе шырыня 0,3—0,5 км. Рэчышча ад вытоку на працягу 25 км каналізаванае, ніжэй звілістае. Шырыня яго ў межань у вярхоўі 5—10 м, ніжэй да 20 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у канцы сакавіка. У ніжнім цячэнні ракі размяшчаецца зона адпачынку Вілейка. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.



...ака Ілія каля вёскі Ілья Вілейскага ...аёна.

...ЛЬЖА, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,21 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,82 км.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 20 км на ...н ад г. Браслаў, каля в. Кардалішкі. ...хілы катлавіны вышынёй 3—6 м, ...ераважна разараныя, месцамі на З ... У пад хмызняком. Злучана ручаём ... воз. Прасвята.

...ЛЬІНКА, канал, гл. *Вожа.*

...ЛЬМЕНКА, ручай у Магілёўскім ...-не ў бас. Дняпра. Даўжыня 6,8 км. ...ачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Ляў...коўшчына, упадае ў вадасховішча ...удзея, за 1 км на ПдУ ад в. Малыя ...мхінічы. Рэчышча каналізаванае на ...рацягу 4 км (ад в. Ляўкоўшчына да ... Вялікія Амхінічы).

...ЛЬМЁНАК, возера ў Браслаўскім ...-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,2 м.
Даўжыня 0,64 км.
Найбольшая шырыня 0,47 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Аб'ём вады 0,61 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 2,5 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 10 км на ПнУ ...д г. Браслаў, каля в. Слабодка. Схілы ...атлавіны вышынёй 10—20 м, на Пд ...арослыя лесам, на З і Пн разараныя. ...ерагі нізкія, пясчаныя, пад хмызня...ком, месцамі зліваюцца са схіламі. ...дно да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй ...ліістае. Зарастае да глыбіні 3 м. Упа...даюць 2 ручаі, на З выцякае ручай у ...оз. Поцех.

...ЛЬНЯНОЕ ВОЗЕРА, у Гарадоцкім ...-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,15 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Аўсянка, за 26 км на ПнУ ...д г. Гарадок, на паўднёва-заходняй ...скраіне в. Бярозна. Схілы катлавіны ...вышынёй да 3 м, разараныя, на Пн пад ...есам.

...НАВА, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 1,27 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9 м.
Даўжыня 2,24 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,8 км.
Аб'ём вады 6,6 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,8 км$^2$.

У бас. р. Вята, за 13 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Інава. Схілы катлавіны вышыней 3—5 м, разараныя, на Пн 25—30 м, пад хмызняком. Берагі месцамі зліваюцца са схіламі, на З нізкія, забалочаныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбакаводная зона ілістая. Зарастае слаба. Шырыня паласы зарастання да 5 м, у асобных месцах да 35 м. На У выцякае ручай у воз. Укля.

**ІНДУРКА,** рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 85 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Старая Дубавая на схілах Гродзенскага ўзвышша, упадае ў Свіслач на У ад в. Баброўнікі. На працягу 3,8 км каналізаваная (ад в. Луцкаўляны да в. Рагачы). Каля в. Луцкаўляны створана сажалка (пл. 0,34 км$^2$).



Рака Іпа каля вёскі Якімавічы Калінкавіцкага раёна.

**ІПА,** рака ў Светлагорскім, Калінкавіцкім і Мазырскім р-нах, левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 109 км.
Пл. вадазбору 1010 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,9 м$^3$/с.
Агульнае падзенне ракі 29,7 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Сякерычы Светлагорскага р-на, цячэ па нізінах Гомельскага і Прыпяцкага Палесся, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Рудня Гарбавіцкая. Асноўны прыток — р. Віша (справа). Даліна трапецападобная, у нізоўі скрынкападобная, шырыня яе 1,5—2 км. Пойма нізкая, шырынёй 1—1,5 км. Рэчышча ад вытоку на працягу 95 км каналізаванае, шырыня яго 10—12 м. Разводдзе з сярэдзіны сакавіка да першай дэкады мая. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у 2-й пал. сакавіка.

**ІПУЦЬ,** рака ў Клімавіцкім, Добрушскім, Гомельскім р-нах Беларусі, Смаленскай і Бранскай абласцях Расіі; левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).




Возера Ілгайцы.




Возера Іказнь.

**Даўжыня 437 км.**
**Пл. вадазбору 10 900 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 55,6 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 84,9 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Нядзведзь Клімавіцкага р-на, цячэ па Смаленскай, Бранскай і Гомельскай абласцях, упадае ў Сож на паўночна-ўсходняй ускраіне г. Гомель. Асноўныя прытокі на Беларусі: Няцеша, Харапуць (злева), Ачоса (справа). Вярхоўе ракі на Аршанска-Магілёўскай раўніне, прывусцявы ўчастак у Гомельскім Палессі. Даўжыня ў межах Беларусі 64 км. Даліна трапецападобная, шырыня яе ў вярхоўі 1—1,5 км, ніжэй 2,5—3,5 км, на ўчастку ад г. Сураж да вусця 4—8 км. Пойма пераважна двухбаковая, у нізоўі перасечаная старыцамі з азёрамі старычнага тыпу. Шырыня яе да вусця р. Надва 0,2—0,8 км, ніжэй 2,5—3,5 км. Рэчышча каналізаванае на працягу 24,3 км (ад вытоку да мяжы з Расіяй), ніжэй звілістае; шырыня яго ў вярхоўі 1,5—12 м, на астатнім працягу 20—50 м. Берагі стромкія і абрывістыя, вышынёй 0,5—2 м. Найбольшы ўзровень разводдзя ў красавіку, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 3—4 м. Замярзае ў 1-й палове снежня, крыгалом у канцы сакавіка — пачатку красавіка. На рацэ каля в. Цімошкі Клімавіцкага р-на плаціна і сажалка і плаціна ў г. Добруш.

**ІРВЯНІЦА,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток р. Марэя (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 22 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Пунішча, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Ірвяніца.

**ІРЖЭЎКА,** рака ў Талачынскім р-не, левы прыток р. Крывая (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Лагоўшчына, вусце на паўночнай ускраіне в. Воўкавічы. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (ад в. Любанічы да в. Варанцэвічы).

**ІРТЫНЬ,** возера ў Брагінскім р-не. Пл. 0,18 км². На пойме р. Дняпро, за 47 км на ПдУ ад г. п. Брагін, за 1,5 км на Пн ад в. Кірава. Старычнае.

**ІСА,** рака ў Баранавіцкім і Слонімскім р-нах, правы прыток Шчары (бас. Нёмана).

**Даўжыня 62 км.**
**Пл. вадазбору 554 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Серабрышча Баранавіцкага р-на, упадае ў Шчару ў межах Слоніма. Асноўныя прытокі — Пляхоўка і Рудня. Даліна трапецападобная. Пойма чаргуецца па берагах, месцамі адсутнічае, шырыня яе 100—180 м. Рэчышча ў верхнім і ніжнім цячэнні на працягу 15 км каналізаванае: ад вытоку да в. Звераўшчына (11,6 км) і ад в. Харашэвічы да в. Нагуевічы (3,4 км). Яго шырыня ў межань 4—8 м. На рацэ каля Слоніма і в. Нагуевічы плаціны; каля Слоніма ў маляўнічай мясціне зона адпачынку Іса.

**ІСА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,3 м.**
**Даўжыня 1,03 км.**
**Найбольшая шырыня 0,53 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,05 км.**
**Аб'ём вады 0,22 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 30,5 км².**

У бас. р. Обаль, за 40 км на Пн ад г. Гарадок, за 8,5 км на ПдЗ ад г. п. Езярышча, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі сплавінныя. Пойма шырынёй 20—100 м, забалочаная. Дно выслана сапрапелем. Поўнасцю зарастае. 3 астравы агульнай пл. 0,4 га. Праз возера цячэ ручай Чарнуя.

**ІСКА,** рака ў Слонімскім р-не, левы прыток р. Іса (бас. Нёмана). Даўжыня [illegible] км. Пачынаецца за 4 км на У ад в. Новая Стража, цячэ сярод лесу, упадае ў Ісу за 1,2 км на ПдУ ад в. Якімавічы.

**ІСКРАЎСКАЕ,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,44 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Вужыца, за 2 км на ПнЗ ад Віцебска, за 0,2 км на У ад в. Прадкуды. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад выганам. На З забалочаная пойма шырынёй 50 м. Упадае ручай з воз. Дзяйкоўскае, выцякае ручай у р. Вужыца.

**ІСЛАЧ,** рака ў Мінскай і Гродзенскай абласцях, левы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана).



Рака Іслач каля вёскі Ракаў.

Даўжыня 102 км.
Пл. вадазбору 1330 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 10 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.

Пачынаецца каля в. Глушыніцы Дзяржынскага р-на, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, у ніжнім цячэнні праз Налібоцкія лясы. Упадае ў Бярэзіну на ПдУ ад в. Бакшты Іўеўскага р-на. Асноўныя прытокі: Выганічанка, Цецяроўка, Волма (злева), Яршоўка, Пяршайка, Валожынка (справа). Даліна ў вярхоўі трапецападобная, глыбока ўрэзаная; у сярэднім цячэнні скрынкападобная, шырынёй 300—400 м. Пойма ў вярхоўі роўная, шырыня яе 30—50 м, у нізоўі паступова расшыраецца да 2 км, месцамі забалочаная. Рэчышча звілістае, зарэгулявана 3 плацінамі; яго шырыня 10—20 м. На ўсім працягу трапляюцца невялікія астравы. Берагі стромкія, абрывістыя. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у пачатку сакавіка. Адна з нямногіх рэк Беларусі, у якой водзіцца стронга ручаёвая. Лясныя масівы абапал ракі, маляўнічасць і хуткае цячэнне вабяць турыстаў, у т. л. воднікаў.

**ІСНА,** возера ў Гарадоцкім р-не, на мяжы з Пскоўскай вобл.

Пл. 0,14 км$^2$.
Даўжыня 1,12 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,55 км.

У бас. р. Свіна, за 42 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 6 км на ПнЗ ад в. Майсеева. Схілы катлавіны вышынёй 5 – 7 м, пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—75 м. Праз возера цячэ р. Чарнец.

**ІСПАЛО́ХА,** рака ў Слуцкім і Уздзенскім р-нах, левы прыток Лошы (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 55 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца каля в. Гацук Слуцкага р-а, упадае ў Лошу за 2 км ніжэй в. Румок. На ўсім працягу каналізаваная, у ніжнім цячэнні выкарыстоўваецца ў якасці магістральнага канала меліярацыйнай сістэмы.

**ІЎНЯ,** канава Іўня, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток канала Іўня — Бонда (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Раманаўка, упадае ў канал Іўня — Бонда за 1 км на ПнЗ ад в. Прудзішча.

**ІЎНЯ-БО́НДА,** Іўня, канава Іўня-Бонда, Ямная канава, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Прудзішча, упадае ў Ведрыч на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Новы Свет.

**ІЎЯ́НКА,** рака, гл. *Івенка.*

**ІШЧАЛНЯ́НКА,** рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Дзікушкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 56 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,1 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Вялікія Баяры, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Дзікушку за 1,6 км на ПдУ ад в. Дзірванцы. Ад в. Ішчална да вусця на працягу 6,2 км каналізаваная.

# К

**КАБА́К,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,23 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 8,9 м.
Даўжыня 0,87 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.
Аб'ём вады 1,26 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,5 км$^2$.

У бас. р. Ладасна, за 17 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Кабак. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на У 20—25 м), на Пд невыразныя, разараныя, на Пн пад лесам і хмызняком, на ПдЗ сплавінныя. Пойма шырынёй да 50 м, пераўвільготненая, месцамі тарфяністая, парослая хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, глыбакаводная частка ложа плоская, выслана сапрапелем. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 2 м. На Пд упадае ручай з воз. Бабча, на Пн выцякае ручай у воз. Ладасна.

**КАБАНАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 16,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Дарагінь, упадае ў Бярэзіну за 1,8 км на ПдЗ ад в. Таўтыкі.

**КАБІШЧА́НКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Лужаснянка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 28 км.
Пл. вадазбору 166 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Выцякае з воз. Болецкае за 0,6 км на ПдУ ад в. Новы Болецк (у верхнім цячэнні называецца Пальмінка), вусце за 1,3 км на ПдЗ ад в. Саўчонкі.

**КАБЫЛІ́НАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,004 км$^2$.
Даўжыня 0,09 км.
Найбольшая шырыня 0,06 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.

У бас. р. Палата, за 20 км на ПнУ ад Полацка, за 3 км на ПдУ ад в. Конны Бор, каля гары Кабыліная. Схілы катлавіны на Пд і У пакатыя, вышынёй да 5 м, на З спадзістыя. Размешчана сярод лесу.

**КАБЫЛІНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Даўжыня 0,1 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,68 км.
Пл. вадазбору 3,06 км$^2$.

У бас. р. Свольна, за 38 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Кабылінцы. Схілы катлавіны вышынёй да 13 м, парослі лесам, на Пн часткова разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Каля паўночна-ўсходняга берага невялікі востраў.




Возера Кабак.

чэнне толькі ў час разводдзя). Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,2—2,5 м, падводная — да 10 м.

**КАКУЕВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток Пажыхарскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Чкалава, упадае ў Пажыхарскі канал за 2 км на ПдЗ ад в. Прыстарань.

**КАЛАДНЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,3 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Закальное, вусце каля в. Сарачы.

**КАЛАНЕЦ,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,12 км.
Найбольшая шырыня 0,11 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.

У бас. р. Сечна, за 10 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, за 0,5 км на ПдУ ад в. Забор'е (1,5 км на З ад Дабееўскага возера), сярод хмызняку.

**КАЛДЫЧЭЎСКАЕ ВОЗЕРА,** Калдычэва, возера ў Баранавіцкім р-не.

Пл. 0,55 км².
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 0,95 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.

У бас. р. Шчара (выцякае з возера), за 14 км на Пн ад г. Баранавічы, каля в. Калдычэва, сярод балота. Берагі сплавінныя. Дно выслана сапрапелем. Зарастае.

**КАЛЕКТАР 1-ы,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Вярхоўе Ясельды» (бас. Прыпяці). Даўжыня 1,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд ад в. Смаляніца, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Кабылаўка.

**КАЛЕКТАР 4-ы,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Вярхоўе Ясельды» (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ, вусце за 1,9 км на У да в. Вашчынічы.

**КАЛЕКТАР 6-ы,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Вярхоўе Ясельды» (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Краснае, вусце за 2,4 км на ПнУ ад в. Ліхачы.

**КАЛЕСІНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,62 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 30 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Вострава. Схілы катлавіны на Пн вышынёй 8—9 м, разараныя, на Пд невыразныя. На Пд да возера прымыкае забалочаны лясны масіў. На У злучана ручаём з воз. Паўазер'е.

**КАЛЕСНІКАВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,28 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Ушача, за 20 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,5 км на У ад г. п. Ветрына, сярод хмызняку. Вакол возера пойма шырынёй 40—70 м, пад лугам. Выцякае ручай у р. Нежлеўка.

**КАЛІНАВЕЦ,** ручай у Пружанскім р-не, правы прыток р. Левая Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Тарасы, вусце за 2 км на У ад в. Стойлы. На большым працягу цячэ праз лес. Рэчышча ад вытоку на працягу 1 км каналізаванае.

**КАЛІНАЎКА,** рака, гл. *Гніва.*

**КАЛІНІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток р. Нератоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 5 км на Пд ад в. Сапейкаў, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Шкава.

**КАЛІНКА,** Калініца, рака ў Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Лабжанка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Зарэчча, вусце за 2 км на Пд ад в. Сінеж. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,5 км (ад в. Заруччa да вусця).

**КАЛІНКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Ладыжын, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Гарбавіцкая Рудня.

**КАЛКІ,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 6 км на Пд ад в. Букча, вусце за 10 км на З ад в. Карма. Прыток — Тапілаўскі канал (злева).

**КАЛОДА,** рака ў Пружанскім р-не, левы прыток Ружанкі (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца ў Ружанскай пушчы за 3 км на ПдЗ, упадае ў Ружанку за 0,6 км на Пн ад в. Ласасін. Ад вусця на працягу 1 км каналізаваная.

**КАЛОДЗЕЗЬ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,08 км².
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.

У бас. р. Палата, за 46 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна. Схілы катлавіны на З і ПнЗ вышынёй да 15 м, на ПнУ і У 5—7 м (на Пд невыразныя), пад лесам. Уздоўж берагоў нешырокая паласа (75—200 м) забалочанага лесу.

**КАЛОДКІ,** возера ў Вілейскім р-не.

Пл. 0,16 км².
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.

У бас. р. Нарач, за 20 км на ПнЗ ад г. Вілейка, на Пд ад в. Калодкі, сярод забалочанага лесу. Схілы невыразныя, на У і Пн вышынёй да 5 м. Берагі забалочаныя, пад хмызняком, на З сплавінныя.




Возера Каймін.

**КАЛОДНА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,11 км².
Найбольшая глыбіня 12,8 м.
Даўжыня 0,85 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.
Пл. вадазбору 13,5 км².

У бас. р. Ула, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Зарэчча. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, пад лесам і хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. На Пд упадае ручай з воз. Лешна, на Пн выцякае ручай у р. Ула.

**КАЛОДНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,11 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.

У бас. р. Ушача, за 5 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, за 0,5 км на Пн ад в. Замошша 2-е (на Пд ад воз. Пліна). Схілы катлавіны пад лесам (вышыня 7—10 м).

**КАЛОДНЯ,** канал Калодня, рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Покаць (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км.




Возера **Калодна** (Бешанковіцкі раён).

Пачынаецца за 1,3 км на ПнУ ад в. Усошнае, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Нісімкавіцкая Рудня. Рэчышча каналізаванае.

**КАЛО́НКА,** рака ў Свіслацкім р-не і Польшчы, правы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга).

> Даўжыня 34 км (у т. л. ў межах Польшчы 5 км).
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.
> Пл. вадазбору 247 км².

Пачынаецца каля в. Сакольнікі, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Семяноўка (Польшча). Каналізавана каля 17 км рэчышча (выток — 4 км вышэй вусця р. Ятвезь). У ніжнім цячэнні называецца К а л о н а.

**КАЛО́ЧЧА,** возера ў Мазырскім р-не.

> Пл. 0,16 км².
> Даўжыня 1,5 км.
> Найбольшая шырыня 0,12 км.
> Даўжыня берагавой лініі 3,18 км.

На пойме р. Прыпяць, за 15 км на ПдУ ад Мазыра, на ПнУ ад в. Стрэльск. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пясчаныя, парослі лесам і хмызняком. Берагі высокія, пясчаныя.

**КАЛПЕ́НІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, правы прыток Шчары (бас Немана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Палянічыцы, упадае ў Шчару за 1,2 км на Пд ад в. Загор'е. У наваколлі здабываюць торф.

**КАЛПЯНЕ́Ц,** возера ва Ушацкім р-не.

> Пл. 0,02 км².
> Даўжыня 0,25 км.
> Найбольшая шырыня 0,18 км.
> Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 18 км на У ад г. п. Ушачы, за 2 км на Пд ад в. Загор'е, 800 м на У ад воз. Атолава, сярод забалочанай, парослай хмызняком, мясцовасці. Злучана канавай з воз. Атолава.

**КА́ЛЬНІЦА,** Д з е р в я н і с к а, возера ў Гродзенскім р-не.

> Пл. 1,04 км².
> Даўжыня 3,88 км.
> Найбольшая шырыня 0,42 км.
> Даўжыня берагавой лініі 9,2 км.

У бас. р. Пыранка, за 32 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Глушнева. Схілы катлавіны вышынёй 9—10 м, парослі лесам. Берагі пераважна супадаюць са схіламі.Праз возера цячэ р. Сламянка (злучае яго з азёрамі Вераўскае і Стаў), упадае ручай з воз. Чартова.

**КАЛЮХО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Батава» (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Гірск, вусце за 1 км на Пд ад в. Калюхі.

**КАМА́ЙКА,** рака ў Пастаўскім р-не і Літве, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах. Дзвіны).

> Даўжыня 50 км.
> Пл. вадазбору 306 км².
> Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,5 м³/с, на мяжы Беларусі і Літвы — 1,67 м³/с.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Выцякае з Вялікага Камайскага возера за 1 км на З ад в. Камаі. Цячэ ў межах Свянцянскіх град і заходняй часткі Полацкай нізіны, праз азёры Вялікае і Малое Сурвілішскія, Свірас (у Літве). Даўжыня ў межах Беларусі 21 км, пл. вадазбору 205 км². Вусце за 2 км на ПдУ ад в. Дзідзяселіс Ігналінскага р-на. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на Пастаўшчыне каналізаванае (1,5 км на ПдЗ ад в. Вілейты — мяжа з Літвой).

**КАМА́ЙСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, левы прыток р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Камайск, упадае ў Поню за 0,8 км ніжэй вусця р. Варлынка.

**КАМА́Р,** рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Лошы (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнЗ ад в. Навікі, цячэ ў межах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Лошу на ПдУ ад в. Мацкі. На ўсім працягу каналізаваная.

**КАМАРО́ВІЧЫ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Фаставіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 4 км на Пд, вусце за 2 км на Пн ад в. Камаровічы.

**КАМА́РЫН,** возера, гл. *Вялікае Камарына.*

**КАМА́РЫНЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

> Пл. 0,03 км².
> Даўжыня 0,32 км.
> Найбольшая шырыня 0,12 км.
> Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.

У бас. р. Нешчарда, за 14 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Парэчча, сярод забалочанага лесу.

**КАМА́РЫНКА,** ручай у Глускім р-не, левы прыток р. Зарудзеча (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПнЗ ад в. Юзафова, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Барысаўшчына.

**КА́МЕНКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, левы прыток р. Усыса (бас. Зах. Дзвіны).

> Даўжыня 26 км.
> Пл. вадазбору 137 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Малашанкі, вусце за 0,6 км на З ад в. Прудок. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша, рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 4,9 км каналізаванае. Асноўны прыток р. Сутокі.

**КА́МЕНКА,** рака ў Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

> Даўжыня 19 км.
> Пл. вадазбору 82 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад р. п. Градзянка, вусце на паўночна-ўсходняй ускраіне в. Прыцерпа. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (выток — 1,5 км на ПнЗ ад в. Каменічы).

**КА́МЕНКА,** рака ў Чэрыкаўскім і Чавускім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

> Даўжыня 19 км.
> Пл. вадазбору 87 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Каменка Верамейкаўскага сельсавета Чэрыкаўскага р-на, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Дрануха Чавускага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,2 км (ад в. Прудок да вусця).

**КА́МЕНКА,** рака ў Брэсцкім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

> Даўжыня 17 км.
> Пл. вадазбору 194 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Камянецкае Падлессе, вусце за 1 км на Пд ад в. Ямна. Рэчышча каналізаванае.

**КА́МЕНКА,** рака ў Краснапольскім і Слаўгарадскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

> Даўжыня 16 км.
> Пл. вадазбору 44 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,6 ‰.

Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Асінаўка Краснапольскага р-на, вусце за 2 км на З ад в. Казакоўка Слаўгарадскага р-на. Рэчышча ад вусця ўверх на працягу 3,5 км каналізаванае.

**КА́МЕНКА,** рака ў Круглянскім р-не, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра)

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 87 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Паўлавічы, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Кунцы. Рэчышча каналізаванае на працягу 6 км (выток — в. Чырвоная Горка).

**КАМЕНКА,** рака ў Стаўбцоўскім р-не, левы прыток Усы (бас. Нёмана). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Каменка, цячэ ў межах Налібоцкай пушчы, упадае ва Усу за 6 км на ПдЗ ад в. Кляцішча. На ўсім працягу каналізаваная.

**КА́МЕНКА,** Камяніца, рака ў Шклоўскім і Аршанскім р-нах, правы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Засценкі Аршанскага р-на, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Мікіцічы Шклоўскага р-на.

**КА́МЕНКА,** ручай у Воранаўскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 73 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,2 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Гартынкава, упадае ў Дзітву на ПдЗ ад х. Грубянцы. У ніжнім цячэнні на працягу 5 км каналізаваны, ад сажалкі (пл. 0,22 км²) каля в. Пагародна цячэ па новым рэчышчы.

**КА́МЕНКА,** рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

Даўжыня 10,5 км.
Пл. вадазбору 96 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5 ‰.

Пачынаецца з невялікай сажалкі на паўднёвай ускраіне в. Рабяткі, вусце за 1 км на У ад в. Старасёлы. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. На паўднёва-заходняй ускраіне в. Прылессе плаціна і сажалка.

**КА́МЕНКА,** рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток Ласосны (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 40 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 7 ‰.

Пачынаецца на З ад в. Капцёўка, упадае ў Ласосну за 1 км на Пд ад в. Каробчыцы. Каля в. Бросты на рацэ створана сажалка.

**КА́МЕНКА,** рака ў Крычаўскім р-не ў бас. Дняпра. Даўжыня 6 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Каменка, упадае ў старарэчча Сожа (воз. Цяжэбнае) за 2 км на ПдЗ ад п. Сярэдні. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (0,9 км на З ад в. Каменка да вусця).

**КА́МЕНКА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Латышкі, вусце за 0,7 км на ПнУ ад в. Лявонпаль.

**КА́МЕНКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Іліі (бас. Віліі). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца каля в. Бухнавічы, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ілію за 1,7 км на ПдЗ ад в. Александрыно. На працягу 3 км уверх ад вусця каналізаваная.

**КА́МЕНКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,18 км².
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,73 км.

У бас. р. Друйка, за 11 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 5 км на ПнЗ ад воз. Струста, на ПдЗ ад в. Баруны. Схілы катлавіны вышыней 2—3 м, парослі хмызняком. Пойма забалочаная, пад хмызняком, яе шырыня 25—250 м. Праз возера цячэ р. Акмяніца.

**КА́МЕНКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,16 км².
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.
Пл. вадазбору 17 км².

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 17 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 1 км на Пн ад в. Каменка. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, парослі хмызняком, паўднёва-ўсходнія 2—5 м, участкамі разараныя. На У і З да возера прымыкае балота, парослае лесам і хмызняком. На Пд злучана ручаём з воз. Закаменка.

**КА́МЕНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,26 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Смычыца, за 18 км на ПдУ ад г. Паставы, за 1 км на ПдУ ад в. Вароны. Размешчана на ўсходнім ускрайку лясного масіву. На З лугавая нізкая пойма. Злучана ручаём з р. Смычыца.

**КАМІ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,07 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1 км.

У бас. р. Дабрылаўка, за 8 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Азярцы. Схілы катлавіны на З стромкія, вышынёй да 15 м, у ніжняй частцы пад хмызняком; усходнія вышынёй да 3 м, пад лугам. Злучана ручаём з р. Дабрылаўка.

**КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Мінскае возера, штучны вадаём у Мінску.

Пл. 0,4 км² (разам з астравамі).
Найбольшая глыбіня 4,5 м.
Даўжыня 1,5 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Аб'ём вады 0,8 млн. м³.

Створана ў 1941 на р. Свіслач для воднага добраўпарадкавання горада і адпачынку мінчан. Уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму. У маласводныя гады добрую праточнасць возера забяспечвае перакід вады з Вілейскага вадасховішча. Дно пераважна пясчанае, часткова галечнае і ілістае. 11 астравоў. Гадавая амплітуда вагання ўзроўню вады 0,5—0,7 м. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у пачатку красавіка. На левым беразе выратавальная станцыя, спартыўны комплекс «Дынама». Палац піянераў і школьнікаў, на правым — выставачны павільён Міжнароднай гандлёвай палаты.




Возера **Каменка** (плошча 0,18 км²).

**КАМУНАР,** вадасховішча ў Калінкавіцкім р-не.

Пл. 0,38 км².
Найбольшая глыбіня 3,9 м.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Аб'ём вады 1,1 млн. м³.

За 18 км на ПнУ ад г. Калінкавічы, паміж вёскамі Убалаць і Зеляночы. Наліўное. Створана ў 1979 для двухбаковага рэгулявання і ўвільгатнення глебы. Даўжыня агараджальнай дамбы 2,5 км. Напаўняецца вадой за кошт сцёку р. Ненач па напорным трубаправодзе. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,5 м.

**КАМЯНІ́ЦА,** рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Адроў (бас. Дняпра).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 43 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.

Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Казённыя Паршні, вусце на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Сялец. Цячэ па Аршанскім узвышшы.

**КАМЯНІ́ЦА,** рака ў Докшыцкім і Лагойскім р-нах, правы прыток Лонвы (бас. Віліі).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 43 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.

Пачынаецца на схілах Мінскага ўзвышша на ПдУ ад в. Верацеі Докшыцкага р-на, упадае ў Лонву на Пд ад в. Новая Вілейка. Сярэдняе цячэнне — па ўскраіне лясного масіву.

**КАМЯНІЦА,** рака, гл. *Каменка* (у Шклоўскім і Аршанскім р-нах).

**КАМЯНЧАНКА,** рака ў Сенненскім р-не, левы прыток р. Абалянка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 46 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца за 0,6 км на Пн ад г. Галавачы, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Адамова. Рэчышча на працягу 10,5 км ад вытоку каналізаванае.

**КАНАПЛЯНКА,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,11 км².
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,21 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,38 км.
Пл. вадазбору 3,42 км².

У бас. р. Обаль, за 26 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Роўнае. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пад хмызняком, на ПдЗ часткова разараныя.

**КАНАТОПКА,** рака на мяжы Вілейскага і Маладзечанскага р-наў, правы прыток Рыбчанкі (бас. Віліі).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 56 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Трусавічы Лагойскага р-на, цячэ па лясістых паўночных схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Рыбчанку на ПдУ ад в. Вялікі Бор Маладзечанскага р-на.

**КАНАТОПСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток р. Няслуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Канатоп, вусце за 1,5 км на З ад в. Пяшкова.

**КАНАШЫ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,6 км².
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 1,12 км.
Найбольшая шырыня 0,88 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,16 км.
Аб'ём вады 1,65 млн. м³.
Пл. вадазбору 18,5 км².

У бас. р. Тураўлянка, за 16 км на Пд ад Полацка, каля в. Канашы. Схілы катлавіны вышынёй 6—14 м, разараныя, на Пд параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, у залівах сплавінныя. Дно да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелем. Упадае ручай з воз. Усомля, выцякае ручай у воз. Гомель. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 2—2,5 м.

**КАНЁК,** рака, гл. *Конік.*

**КАНСТАНЦІНАВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,47 км².
Даўжыня 1,08 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.
Пл. вадазбору 10,8 км².

У бас. р. Друйка (ручаём злучана з возерам), за 32 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Бабышкі. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, у верхняй частцы разараныя, на У пад хмызняком. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі.

**КАНСТАНЦІНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Чырвонапалянскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Сосны, вусце за 2,5 км на Пн ад в. Кузьмічы.

**КАНТОРСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,52 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,26 км.

У бас. р. Дрыса, за 20 км на ПдЗ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПнЗ ад в. Горкі. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, параслі лесам. Злучана ручаямі з воз. Сярэдняе і р. Дрыса.

**КАНЦОВАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,45 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,12 км.
Пл. вадазбору 2,25 км².

У бас. р. Свінка (выцякае з возера), за 11 км на ПнУ ад г. Чашнікі, за 1 км на У ад в. Вялікая Вядрэнь. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пераважна разараныя.

**КАНЦЫНОВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.

У бас. р. Вята, за 14 км на ПдУ ад г. Браслаў, за 1,3 км на У ад в. Спаруны. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на ПнЗ да 10 м), разараныя, н



**Камсамольскае возера.**

ПдЗ і ПнУ невыразныя. Пойма шырынёй да 100 м, забалочаная. Ручаямі злучана з воз. Укля.

**КАНЧА́НКА,** ручай у Докшыцкім р-не, правы прыток р. Гулянка (бас. Дняпра). Даўжыня 2 км. Пачынаецца за 1,4 км на З, вусце за 1 км на У ад в. Лідск. Рэчышча на працягу 0,3 км ад вытоку каналізаванае.

**КАНЧА́НСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, левы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 21 км. Пачынаецца з возера Дзягілі за 1,5 км на Пд ад в. Дзягілі, упадае ў Вузлянку за 3 км на ПнУ ад в. Няверы. Прымае сцёк з іншых меліярацыйных каналаў.

**КАНЧА́НЫ,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Свольна, за 26 км на Пн ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на Пд ад в. Канчаны, за 1,5 км на ПдЗ ад воз. Асвейскае. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на Пд і Пн пад лесам, на З і У разараныя. Уздоўж заходняга берага забалочаная пойма шырынёй 30 м.

**КАНЧА́РЫ,** меліярацыйны канал у Лідскім р-не, правы прыток Чарняўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца каля в. Няцеч, упадае ў Чарняўку за 2 км на ПдУ ад в. Хадзюкі. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**КАПАЁЎКА,** Капаюўка, рака ў Брэсцкім р-не і Валынскай вобл. Украіны, правы прыток Зах. Буга.

**Даўжыня 39 км.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**
**Пл. вадазбору 264 км².**

Пачынаецца з воз. Лукі (на тэрыторыі Украіны), вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Ляплёўка. Даўжыня ў межах Беларусі 19,5 км. Рэчышча на тэрыторыі Украіны цалкам каналізаванае, у Брэсцкім р-не 2 каналізаваныя ўчасткі: 13 км ад мяжы з Украінай да в. Рудня і 2 км уніз па цячэнню ад моста на дарозе Дамачова — Ляплёўка. У сярэднім і ніжнім цячэнні шырыня рэчышча ў межань 1—3 м. Берагі вельмі нізкія, зліваюцца з поймай, у сярэднім і ніжнім цячэнні больш абрывістыя, вышынёй да 0,5 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, найбольшыя вышыні над меженным узроўнем 1,5 м. Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,9 м³/с.

**КАПАЛО́ВІШЧА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Палата за 52 км на ПнУ ад Полацка, за 3,3 км на З ад в. Белая, за 0,5 км на Пн ад воз. Вялікае Астравіта. Схілы катлавіны на Пн не выражаны, на Пд стромкія, вышынёй 10 м. Размешчана сярод лесу.

**КАПАТКЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** гл. *Агейка.*

**КАПАЧЫ́,** ручай у Смаргонскім р-не, правы прыток Віліі. Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 2,8 км на ПнУ, вусце за 1,1 км на ПдЗ ад в. Капачы. На ўсім працягу каналізаваны.

**КАПЕ́НЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Обаль, за 40 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на Пд ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 7 м, на Пн стромкія, пад хмызняком.

**КАПУ́СНІК,** рака ў Шклоўскім р-не, левы прыток р. Днепр.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 64 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Слабодка, вусце паміж вёскамі Вялікае Зарэчча і Малое Зарэчча.

**КАПУ́СТКА,** рака, гл. *Жучка.*

**КАПУ́СЦІНКА,** Новая Валожынка, рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Валожынкі (бас. Нёмана). Даўжыня 4,2 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Капусціна, упадае ў Валожынку за 1,2 км на У ад в. Пруднікі. На ўсім працягу каналізаваная. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**КАПУ́СЦІНКА,** назва р. *Носаўка* ў верхнім цячэнні.

**КАПЦЭ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Глінка, вусце за 3,5 км на ПнЗ ад чыг. ст. Капцэвічы.

**КАПЦЭ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Міхедава-Грабаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнУ ад в. Грабаў, вусце за 4 км на З ад в. Міхедавічы.

**КАПЦЭ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 7 км на У ад в. Вялікія Сялюцічы, вусце за 3,5 км на ПнЗ ад чыг. ст. Капцэвічы.

**КАПЧА́НКА,** рака ў Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 59 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Заельнік, вусце на паўднёвай ускраіне в. Краснае.

**КАРАВА́ЙНА,** возера ў Полацкім р-не, на мяжы з Глыбоцкім.

**Пл. 0,64 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,1 м.**




Возера **Канстанцінава.**




Возера **Каравайна.**

**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,56 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,2 км.**
**Аб'ём вады 2,78 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,6 км².**

У бас. р. Нача, за 40 км на ПдЗ ад Полацка, за 4 км на ПнУ ад воз. Шо. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на ПдУ 4—5 м), парослі лесам, месцамі разараныя. Берагі пясчаныя, пад лесам, на Пн і З сплавінныя. На З вялікі заліў акружаны вярховым балотам, злучаецца з возерам шырокай пратокай. Мелкаводдзе пясчанае, месцамі іліստае, глыбей дно сапрапелістае. Вада дастаткова празрыстая. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 1,6—2 м, падводнай — да 5 м. Возера — выток р. Быстрыца.

**КАРАВА́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**

**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**
**Пл. вадазбору 2,48 км².**

У бас. р. Шэвінка, за 16 км на ПнЗ ад Віцебска, за 3 км на У ад в. Заронава. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, парослі хмызняком, на Пн разараныя.

**КАРАЛЕЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Мухавец.*

**КАРАНЁВА,** Каранёўскае возера, Святое возера, у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,58 км².
**Найбольшая глыбіня 5,8 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,88 км.**
**Пл. вадазбору 2,86 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна (ручаём злучана з возерам), за 28 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, за 4 км на З ад г. п. Ула. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, парослі лесам, на ПнУ да 5 м, разараныя.

**КАРАСЁВА,** возера ў Сенненскім р-не.

Пл. 0,14 км².
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,28 км.**

У бас. р. Абалянка, за 23 км на У ад г. Сянно, каля в. Нярэйша. Схілы катлавіны вышынёй 4—8 м, пад лесам і хмызняком. Выцякае ручай у р. Нерайшанка.

**КАРАСЁВА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км².
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Межава, за 3 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 0,7 км на ПдУ ад в. Асіннікі, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй 12—15 м, на З невыразныя.

**КАРАСЁВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,03 км².
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,67 км.**

У бас. р. Ловаць, за 36 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 0,75 км на ПдЗ ад в. Камары, сярод балота. Злучана ручаем з воз. Баброва.

**КАРАСЁЎКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,02 км².
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Галбіца, за 28 км на У ад г. Паставы, на ўсходняй ускраіне в. Чорная. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя. Упадае ручай.

**КАРА́СІНА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,15 км².
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,47 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 23 км на З ад г. Браслаў, каля в. Карасіна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. На З пойма шырынёй да 250 м, забалочаная, пад хмызняком. Выцякае ручай у воз. Дрысвяты.

**КАРА́СІНКА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,05 км².
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Палата, за 26 км на ПнУ ад Полацка, за 2 км на ПнУ ад в. Бабовікі. Размешчана сярод лесу, месцамі забалочанага, на ПдЗ і ПдУ вылучаюцца схілы вышынёй да 5 м. Выцякае ручай у р. Палата.

**КАРАЧО́ЎКА,** ручай у Дзятлаўскім р-не, правы прыток Дзятлаўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца на У ад в. Міклашы, упадае ў Дзятлаўку за 1 км на ПнУ ад в. Курпяшы. Каналізаваны на працягу 3 км ад вусця ўверх.

**КАРАЧУ́НКА,** рака ў Дзяржынскім р-не, левы прыток Ператуці (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 33 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,7 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Карачуны, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ператуць на 3 ад в. Клыпаўшчына. На працягу 3,8 км каналізаваная: ад вытоку (1,7 км) і за 0,8 км на ПдУ ад в. Дзягільна — 0,7 км ніжэй моста на аўтадарозе Масква — Брэст (2,1 км). Каля в. Дзягільна створана сажалка (пл. 0,31 км²).

**КАРГАЎШЧЫ́НА,** Каргавіца, Рудакоўка, рака ў Лагойскім р-не, правы прыток р. Балавец (бас. Нёмана).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 32 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Мятлічыцы, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Балавец на ПнУ ад в. Булахаўка. На працягу 2 км ад вусця ўверх каналізаваная.

**КАРКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,1 км².
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,28 км.**

У бас. р. Чарапяцца (з возерам злучана ручаём), за 10 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 4 км на ПнЗ ад воз. Межава, сярод забалочанага лясного масіву. Схілы невыразныя. Берагі забалочаныя, на Пн сплавінныя.

**КА́РЛАЎКА,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток р. Брагінка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца каля в. Кацічаў, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Чыкалавічы.

**КАРЛЯ́ЧА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Дубаўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Пуляхі, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Гуркі. Цячэ па лясістай мясцовасці. Рэчышча ад вытоку на працягу 6 км каналізаванае.

**КАРМАНО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бялыніцкім р-не.

Пл. 0,3 км².
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,62 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,25 км.**

У бас. р. Клява, за 16 км на ПнЗ ад г. п. Бялынічы, каля в. Карманоўка. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, парослі лесам і хмызняком, на У і ПдУ разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Дно сапрапелістае. Пойма шырынёй да 100 м, пад хмызняком.

**КАРМЯНКА,** рака ў Кармянскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 53 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Лебядзёўка, вусце на паўднёвай ускраіне в. Гарадок. На рацэ г. п. Карма.

**КАРНЕ́ЕЎКА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 20 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Ласькія,




**Возера Каранёва.**

вусце каля в. Куніцкія. У нізоўі цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**КАРОБКАВІЦКІ КАНАЛ**, гл. *Цытвянскі канал*.

**КАРОСЦІНКА**, рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці). Даўжыня 33,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Дуброва, вусце за 3 км на Пн ад в. Убарцкая Рудня. Рэчышча на працягу 21 км уверх ад вусця каналізаванае. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**КАРОЎЧЫНА**, вадасховішча ў Горацкім р-не.

Пл. 0,47 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 8,6 м.
Даўжыня 2,5 км.
Найбольшая шырыня да 0,3 км.
Аб'ём вады 1,42 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 35 км$^2$.

На р. Касінка, за 30 км на ПдЗ ад г. Горкі, каля в. Кароўчына. Створана ў 1981 для арашэння, рыбагадоўлі і воднага добраўпарадкавання. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 3 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 7,6 млн. м$^3$.

**КАРОЦІЦА**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,03 км$^2$.
Даўжыня 0,27 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на У ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПдУ ад в. Тураспольле, сярод парослага хмызняком балота. Берагі сплавінныя. Зарастае. Злучана канавай з р. Дзіва.

**КАРПІКАЎСКАЕ ВОЗЕРА**, Карпінскае возера, у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,21 км$^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,68 км.
Пл. вадазбору 16,8 км$^2$.

У бас. р. Паловіца (выцякае з возера), за 17 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Карпікі. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, пераважна разараныя.

**КАРПІЛАЎКА**, рака ў Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Уса (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 53 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Барсукі Хутарскага сельсавета, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Карпілаўка Хутарскага сельсавета. На рацэ ў в. Карпілаўка сажалка Ведрыца-Карпілаўка — помнік прыроды мясцовага значэння (выкарыстоўваецца для арашэння, рыбагадоўлі, з'яўляецца месцам адпачынку).

**КАРСАКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Бярэжа (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Верацеі, вусце за 0,5 км на ПнУ ад хутара Пішчалёўка. Прыток — Пяльнюўскі канал (справа). Канал праходзіць па паўднёва-заходняй ускраіне гідралагічнага заказніка Ельня.

**КАРЦЭЯ**, возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

Пл. 0,25 км$^2$.
Даўжыня 0,9 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.
Пл. вадазбору 3,75 км$^2$.

У бас. р. Дзісна, за 11 км на У ад г. п. Шаркоўшчына, за 1 км на З ад в. Шкунцікі. Схілы катлавіны вышынёй 1—2 м, месцамі разараныя. Выцякаюць ручаі ў Паловіцу і Стуканаўку.

**КАРЧАНКА**, рака, гл. *Красная канава*.

**КАРЧОЎКА**, ручай у Карэліцкім р-не, левы прыток Сэрвачы (бас. Нёмана).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 27 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,3 ‰.

Пачынаецца на ПдУ ад в. Плужыны, упадае ў Сэрвач каля в. Асташын. На працягу 10 км каналізаваная (ад в. Варонча да вусця).

**КАРЫТНІЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, правы прыток Іліі (бас. Віліі). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Старынкі, упадае ў Ілію за 2,2 км на ПдУ ад в. Карытніца.

**КАРЫЦЕНКА**, Скарбянка, рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Вязаўкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 80 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.

Пачынаецца на ПдУ ад в. Хвінявічы, цячэ пераважна па лесе, упадае ў Вязаўку ў в. Карытніца Лідскага р-на. На працягу 9,7 км ад вусця ўверх каналізаваная.

**КАРЫЦІНСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Выцякае з Пакамерскага возера за 4 км на ПнУ ад в. Яловая, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Малькавічы. Прыток — Ялоўскі канал (злева).

**КАРЭСІНА**, возера ў Аршанскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Аршыца, за 24 км на Пн ад Оршы, за 2 км на ПдУ ад в. Клюкаўка. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, пад лесам і хмызняком, на Пд і ПнУ часткова разараныя.

**КАРЭЧНА**, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.

У бас. р. Дрыса, за 30 км на У ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Забор'е. Размешчана сярод высокіх (да 20 м) узгоркаў, парослых лесам.

**КАСАЛЯНКА**, Касалянка, Перагонка, рака ў Слаўгарадскім і Кармянскім р-нах, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 34 км.
Пл. вадазбору 352 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,8 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Малая Зімніца Слаўгарадскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на. Цячэ па паўднёва-заходняй ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная, шырыня яе 0,9—1,5 км. Пойма ў вярхоўі забалочаная, ніжэй сухая, двухбаковая, яе шырыня 0,2—0,9 км. Рэчышча каналізаванае на працягу 17,5 км (выток — 0,5 км вышэй вусця р. Бычанка), далей слаба меандруе. Шырыня ракі ў межань у сярэднім цячэнні 8—10 м, у ніжнім 3—5 м.

**КАСАРЭЎШЧЫНСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, левы прыток р. Свячанка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Старое Вадапаева, вусце за 0,5 км на З ад в. Касарэўшчына.

**КАСІНКА**, Касуля, рака ў Дрыбінскім р-не, левы прыток р. Бася (бас. Дняпра).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 70 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Шатнева, вусце за 2 км на З ад в. Кароўчынская Слабада. На рацэ вадасховішча Кароўчына.

**КАСКРУЎКА**, Каскараўка, Есьманаўка, рака ў Валожынскім р-не,




Карманоўскае возера.

левы прыток Яршоўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Татары, упадае ў Яршоўку на У ад в. Запруддзе. Ад вусця на працягу 1,2 км каналізаваная.

**КАСМАЧЭ́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Талачынскім р-не.

Пл. 0,54 км$^2$.
Даўжыня 1,3 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,28 км.

У бас. р. Еленка (выцякае з возера), за 23 км на ПдЗ ад г. Талачын, за 2 км на У ад в. Залаззе, сярод забалочанагаляснога масіву. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя, сплавінныя.




Касмачэўскае возера.

**КА́СПЛЯ,** рака ў Смаленскай вобл. і Віцебскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 136 км.
Пл. вадазбору 5410 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 35 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.

Выцякае з воз. Каспля ў Смаленскім р-не на ўсходніх схілах Віцебскага ўзвышша, у нізоўі цячэ па Суражскай нізіне, вусце каля г. п. Сураж. Даўжыня ў межах Беларусі 20 км, пл. вадазбору 513 км$^2$. Асноўныя прытокі на тэрыторыі Беларусі — Вымнянка і Неваро́жка (справа), на тэрыторыі Смаленскай вобл.— Жараспея і Габза (злева). Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 300—400 м (у вярхоўі да 3 км). Пойма ніжэй вусця Габзы перарывістая, шырыня яе 100—200 м. Рэчышча слабазвілістае, шырынёй 10—30 м у верхнім цячэнні і да 40—50 м у ніжнім. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў 1-й дэкадзе сакавіка, найбольшая вышыня над межанным узроўнем (на Беларусі) 9,1 м (1956. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у пачатку сакавіка. На рацэ г. Дзямідаў (Смаленская вобл.) і г. п. Сураж.

**КАСТАЎЕ́,** возера ў Віцебскім р-не.

Пл. 0,65 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,8 м.
Даўжыня 3,2 км.
Найбольшая шырыня 0,34 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,98 км.
Аб'ём вады 2,14 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5 км$^2$.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 28 км на ПнУ ад Віцебска, за 6 км на Пн ад в. Курына. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пясчаныя, парасл лесам, участкі на У і З у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на У і З у канцавых частках забалочаныя, сплавінныя. Дно да глыбіні 1—1,5 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелем. Упадаюць 3 ручаі, на Пд выцякае ручай у Зах. Дзвіну. Зарастае слаба, шырыня паласы зарастання 5—15 м.

**КА́СТРЫЧКА,** рака, гл. *Кострычка.*

**КАСУ́ЛЯ,** рака, гл. *Касінка.*

**КАСУ́ТКА,** рака, гл. *Жучка.*

**КАСЦЯНЕ́ЎКА,** рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток р. Лебяда (бас. Нёмана).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 98 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца каля в. Калечыцы, упадае ў Лебяду каля в. Бешанкі. На працягу 7 км каналізаваная (ад в. Гурнофель да вусця). На рацэ каля в. Гурнофель створана сажалка (пл. 0,6 км$^2$).

**КАТЛЯ́НКА,** рака ў Мядзельскім р-не, правы прыток Сэрвачы (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Княгініна, упадае ў Сэрвач у паўднёвай частцы г. п. Крывічы. На ўсім працягу каналізаваная.

**КАТО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

Пл. 0,56 км$^2$.



Рака Каспля ў Віцебскім раёне.

Найбольшая глыбіня 22,9 м.
Даўжыня 1,19 км.
Найбольшая шырыня 0,66 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,37 км.
Аб'ём вады 4,79 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 59,6 $км^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 27 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Катоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 10—19 м (на Пн і У да 6 м), пераважна разараныя. Берагі вышынёй да 0,2 м, пясчаныя, на Пн і З зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 3—3,5 м (на Пд да 5,5—8 м) пясчанае і іліста-пясчанае, ніжэй — ілістае. На Пд упадае р. Дзіва, выцякае ручай у р. Лукомка. Шырыня паласы надводнай расліннасці 20—25 м, на ПдУ да 75 м.

**КАТУ́ХА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток канала Цесна (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 3 км на Пн, вусце за 4 км на З ад в. Дзякавічы. Прыток — Будскі канал (справа).

**КАТЧА,** возера ў Гомельскім р-не.

Пл. 0,14 $км^2$.
Даўжыня 1,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,05 км.

На пойме р. Сож (з возерам злучана ручаём), за 27 км на Пд ад Гомеля, за 3 км на ПдЗ ад в. Цяруха. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам і хмызняком.

**КАТЫЛО́ЎКА,** Катылоўская, рака ў Пружанскім р-не, левы прыток Левай Лясной (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Шчарчова, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Блажкі. Рэчышча каналізаванае.

**КАТЫ́НЬ,** канава Катынь, рака ў Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрач (бас. Дняпра).

Даўжыня 10,7 км.
Пл. вадазбору 33 $км^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца за 0,3 км на ПнЗ ад в. Каравацічы, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Новы Свет. Рэчышча каналізаванае.

**КАТЭ́РКА,** рака ў Камянецкім р-не, правы прыток р. Пульва (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 96 $км^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Бардзёўка, вусце за 1 км на Пд ад в. Катэра. Каналізавана 7 км рэчышча ад вытоку да паўднёвай ускраіны в. Зарэчча.

**КАЎПЕ́НІЦА,** ручай у Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бродня (бас. Дняпра). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Чырвоны Кастрычнік, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Ляхаўка. Рэчышча каналізаванае на працягу 3 км (ад вытоку да моста на дарозе в. Вялікае Стахава — в. Ляхаўка).

**КАЎПІ́ТА,** канал Бярлянка, рака ў Краснапольскім і Чачэрскім р-нах, на мяжы Чачэрскага і Веткаўскага р-наў, з Бранскай вобл., правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).



Рака Каўпіта каля вёскі Будзішча Чачэрскага раёна.

Даўжыня 54 км.
Пл. вадазбору 549 $км^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,5 $м^3/с$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Грозны Краснапольскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Новае Заляддзе Веткаўскага р-на. Асноўны прыток р. Дарагоўша (злева) у Расіі. Цячэ па паўднёвай ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна ў вярхоўі невыразная, на астатнім працягу трапецападобная, шырынёй да 1 км. Схілы спадзістыя і адкрытыя, у ніжнім цячэнні ўмерана стромкія, парослыя лесам, вышыня іх 5—10 м. Пойма двухбаковая, на вялікім працягу нізкая, забалочаная, шырынёй да 0,5 км. Рэчышча каналізаванае на працягу 11,8 км (ад вытоку да вусця р. Бярлянка), ніжэй звілістае. Шырыня ракі ў межань 6—10 м. Берагі стромкія, вышынёй да 1 м. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**КАЎПЫ́НІЦА,** рака ў Крупскім р-не, правы прыток р. Нача (бас. Дняпра). Даўжыня 5,0 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Плавучае Галое, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Колас. Рэчышча каналізаванае. У вярхоўі абапал ракі торфараспрацоўкі.

**КАХА́НКА,** рака, гл. *Добрая.*

**КАЦІ́ЛАВА,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,45 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 4,2 м.
Даўжыня 0,87 км.
Найбольшая шырыня 0,59 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.
Аб'ём вады 0,81 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 32,8 $км^2$.

У бас. р. Мёрыца, за 4 км на Пд ад г. Міёры, каля в. Кацілава. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пад пашай, на З парослі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя ці тарфяністыя, месцамі забалочаныя. Пойма шырынёй 30—50 м, пад лугам. Дно да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. Сцёк у воз. Ворань. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці каля 30 м.

**КАЧА́ЙЛА,** возера ў Ляхавіцкім р-не.

Пл. 0,06 $км^2$.
Даўжыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Шчара, за 35 км на ПдЗ ад г. Ляхавічы, за 5 км на Пд ад в. На-




Возера Кастаўе.




Возера Кацілава.

васёлкі. Схілы катлавіны невыразныя, вышынёй 1—2 м, параслі хмызняком, на Пн пад лесам.

**КАЧАЙСКАЕ ВОЗЕРА,** у Ганцавіцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,48 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,52 км.**

У бас. р. Цна, за 5 км на ПдЗ ад г. Ганцавічы, сярод лясного масіву. Праз возера праходзіць канал.

**КАЧАНАВА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,18 км.**

У бас. р. Авута, за 28 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 1 км на ПдУ ад в. Шчаўкуны. Схілы катлавіны вышынёй 5 м (на Пд і З 10 м), пад хмызняком, на Пн часткова пад сельгасугоддзямі. Уздоўж паўночнага і ўсходняга берагоў пойма, парослая хмызняком. Выцякае ручай у Ауту.

**КАЧАНКА,** рака ў Мінскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Тарасава, упадае ў вадасховішча Крыніца на Пн ад в. Качына каля аўтадарогі Мінск — Радашковічы. Рэчышча каналізаванае на працягу 2 км (ад сажалкі каля в. Тарасава да вусця).

**КАЧАРЫШКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,006 км².**
**Даўжыня 0,14 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,32 км.**

У бас. р. Палата, за 46 км на ПнУ ад Полацка, за 3,5 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, сярод балота, парослага хмызняком.

**КАЧКА,** рака ў Мастоўскім і Зэльвенскім р-нах, правы прыток Сіпы (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Вялікая Угрынь Зэльвенскага р-на, упадае ў Сіпу на З ад в. Катчыно Мастоўскага р-на. Ад вусця на працягу 3 км каналізаваная. Каля в. Пляжынь створана сажалка (пл. 0,30 км²).

**КАШАНКА,** рака ў Мсціслаўскім і Чавускім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 39 км.**
**Пл. вадазбору 146 км².**
**Сярэдні расход вады ў вусці 0,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 1,3 км на Пн ад в. Басценавічы Мсціслаўскага р-на, вусце каля в. Скварск Чавускага р-на. Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Даліна ў вярхоўі невыразная, ніжэй скрынкападобная і трапецападобная; шырыня яе 150—300 м у верхнім цячэнні, 400—600 м у сярэднім, да 1,3 км у ніжнім. Схілы стромкія і ўмерана стромкія (вышыня 20—25 м), парэзаныя ярамі і далінамі дробных прытокаў, на вялікім працягу адкрытыя. Пойма перарывістая, шырынёй 100—300 м, месцамі да 800 м. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,4 км (паміж вёскамі Шыркі і Цярэні Мсціслаўскага р-на), на астатнім працягу звілістае. Шырыня ракі ў межань 1—5 м, месцамі да 10 м.

**КАШАРСКІ КАНАЛ,** меліярацыйн… канал у Рагачоўскім р-не, левы пры… ток р. Добасна (бас. Дняпра). Даў… жыня 5,2 км. Пачынаецца за 1 к… на З ад в. Старая Кашара, упадае … Добасну за 0,4 км на У ад в. Плас… кіня.

**КАШО,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 4,15 км².**
**Найбольшая глыбіня 17,1 м.**
**Даўжыня 6,41 км.**
**Найбольшая шырыня 1,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 21,7 к…**
**Аб'ём вады 14,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 60,1 км².**

У бас. р. Усыса (выцякае з возер… пад назвай Гаражанка), за 4 км н… ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Вялікае Кашо. Схілы катлавіны вышынёй д… 6 м (на Пн да 10 м), разараныя участкамі пад хмызняком, на ПнУ … ПдЗ параслі лесам. Берагі нізкія, у залівах забалочаныя. Мелкаводдз… пясчанае, плоская цэнтральная частк… дна выслана сапрапелем. 2 невял… кія астравы агульнай пл. 0,4 га. За… растае да глыбіні 1,5 м. Адзначан… гнездаванне рэдкай на Беларусі птуш… кі — вялікага крахаля.



Возера Кашо.



Возера Кашо.

**КАШЭВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйн… канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даў… жыня 6,5 км. Пачынаецца за 0,5 к… на Пн ад в. Кашэвічы, вусце за 2 к… на ПнЗ ад в. Лучыцы.

**КВЕТАНКА,** рака, гл. *Ракітаўка.*

**КВЕЦІНА,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,3 км².**
**Даўжыня 0,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,41 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 к…**

У бас. р. Ракітаўка, за 34 км н… ПдУ ад г. Чашнікі, за 5 км на Пд а… в. Чарэя. Схілы катлавіны вышынё… 5—7 м, параслі лесам і хмызняком… на Пн разараныя. Берагі забалоча… ныя. Пойма шырынёй 100—250 м, за… балочаная, пад хмызняком. На П… выцякае ручай у р. Ракітаўка.

**КЕРБІЦКІ КАНАЛ,** Кербіцка… канава, меліярацыйны канал … Рэчыцкім і Брагінскім р-нах, правы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 19 км. Пачынаецца за 2,5 к… на ПдУ ад в. Зара Свабоды Рэчыц… кага р-на, упадае ў Верхнюю Бра… гінку за 0,6 км на У ад в. Лубенік… Брагінскага р-на.

**КЕРНАВА,** рака ў Ашмянскім … Смаргонскім р-нах, левы прыток Аш… мянкі (бас. Віліі).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 103 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверх… 2 ‰.**

Пачынаецца паміж вёскамі Скіло… дзішкі і Мікуцяны Ашмянскага р-н… цячэ па паўночнай ўскраіне Ашмян… скага ўзвышша, упадае ў Рачунска… вадасховішча, створанае на Ашмянц… ў сутоках з Кернавой. Асноўны пры… ток — Нелюбка. На працягу 7,4 к… каналізаваная (выток — 1 км на П…



...озера Кічына.

...д в. Медрыкі). Каля в. Медрыкі ...творана сажалка (пл. 0,17 км²).

...ЕРЧ, канал, гл. *Корч*.

...ЕСТА, рака ў Лепельскім р-не, ... бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 76 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 3,6 км на ПдЗ ад ... Валовая Гара, упадае ў воз. Бя... ...эшча з ПдЗ за 0,7 км на ПнЗ ад ... Чарніцы. Цячэ па лясістай забало...чанай мясцовасці ў межах Бярэзін...кага біясфернага запаведніка.

...ЕЧКАЎКА, рака, гл. *Ботча*.

...ІВА́ЧЫНА, меліярацыйны канал ... Пружанскім р-не, левы прыток ...з. Цісаўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 10,8 км. Пачынаецца за 2 км на У ад ...з. Крыніца, вусце за 2,5 км на ПдУ ...д вусця Цісаўкі.

...КІМ, возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Обаль, за 36 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на ПнУ ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй 7 м (на У і З 2—4 м), пад хмызняком. Уздоўж заходняга і паўднёва-ўсходняга берага парослая хмызняком забалочаная пойма шырынёй 60—100 м.

**КІПЯ́ТКА,** рака ў Зэльвенскім р-не, левы прыток Зальвянкі (бас. Нёмана). Пачынаецца каля в. Янаўшчына, упадае ў Зальвянку на ПнУ ад г. п. Зэльва. На працягу 5,8 км каналізаваная: ад в. Холстава да в. Бародзічы (3,7 км) і ад г. п. Зэльва да вусця (2 км).

**КІРАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдУ ад в. Карлаўка, упадае з З у воз. Сітнае, за 3,2 км на Пн ад в. Верхнія Жары.

**КІСЛАЎШЧЫНКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Міёрскім р-не, правы прыток Пяльнііўскага канала (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пн ад в. Краснае, вусце за 0,7 км на З ад х. Пяльніва.

**КІ́ЧЫНА,** К і ч ы н с к а е в о з е р а, у Сенненскім р-не.

**Пл. 1,74 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,7 м.**
**Даўжыня 3,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,84 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,25 км.**
**Аб'ём вады 4,15 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 16,1 км².**

У бас. р. Абалянка, за 30 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Кічына. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на ПнУ і У да 15 м), парослыя лесам і хмызняком. Берагі вышынёй да 0,3 м, пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем, уздоўж берагоў да глыбіні 1 м, а на мысах да 2 м пясчанае. Сцёк па ручаю ў Абалянку. Зарастае да глыбіні 2,5 м.

**КІШКУРНЯ́НКА,** ручай у Барысаўскім р-не, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Кімія, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Каменка. Рэчышча каналізаванае.

**КІЯВЕ́Ц,** ручай у Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Манькаўшчына, упадае ў Іслач на ПдУ ад в. Кіявец. На працягу 4 км каналізаваны (выток — 1 км на ПдУ ад в. Харужы).

**КЛЁВЕЛ,** К л е в е й, возера ў Астравецкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,1 м.**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,86 км.**
**Аб'ём вады 0,15 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 114 км².**

У бас. р. Сарачанка, за 38 км на ПнУ ад г. п. Астравец, за 3 ад в. Барова. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр (гл. схему да аднайменнага артыкула). Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, параслі лесам, на З у верхняй частцы разараныя. Берагі пераважна сплавінныя, забалочаныя, участкамі зліваюцца са схіламі, месцамі пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Праз возера цячэ р. Клевель (на ПдУ злучае яго з Белым возерам). Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**КЛЁВЕЛЬ,** назва р. *Сарачанка* ў верхнім цячэнні.

**КЛЕ́ТНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,1 м.**
**Даўжыня 0,77 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,26 км.**
**Аб'ём вады 0,15 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 22 км².**

У бас. р. Свіна, за 47 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Дзюдзькі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя, параслі лесам, на Пд разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя. Пойма шырынёй да 50 м. Дно плоскае, выслана сапрапелем. На Пн упадае ручай з воз. Грыбна, на Пд выцякае ручай у воз. Обалінец. Зарастае па ўсёй плошчы пераважна падводнай расліннасцю. У выніку меліярацыі ўзровень возера панізіўся на 1,3 м.

**КЛЕШНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,49 км².**
**Даўжыня 1,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,95 км.**
**Пл. вадазбору 4 км².**

У бас. р. Дрыса, за 24 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Лісуны. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на З да 20 м), параслі хмызняком, на Пн і З — лесам.

**КЛЕ́ШНЯ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,15 км.**

У бас. р. Нішча, за 16 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 5 км на ПдЗ ад в. Юхавічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, параслі лесам і хмызняком, на У і Пд разараныя. Берагі на Пн забалочаныя. Выцякае ручай у Нішчу.

**КЛЁНАЎКА,** рака ў Чэрвеньскім і Бярэзінскім р-нах, правы прыток р. Уша (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 33 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Гайдукова Слабада Чэрвеньскага р-на, вусце на паўночна-заходняй ускраіне в. Котавал Бярэзінскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 7 км (ад в. Гайдукова Слабада да в. Клёнаўка Бярэзінскага р-на).

**КЛІМАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Зэльвенскім р-не, левы прыток р. Бяроза (бас. Нёмана). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца каля в. Клімавічы, упадае ў Бярозу за 1 км на ПдЗ ад в. Барукі.

**КЛІ́МАЎКА,** рака, гл. *Грэбелька*.

**КЛІ́МАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,29 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Сечна, за 20 км на ПдЗ




**Возера Кічына.**

ад г. п. Шуміліна, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Клімава, сярод асушанага балота. Сцёк па канале ў р. Сечна.

**КЛІМОК,** ручай у Валожынскім р-не, левы прыток Чарніцы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 76 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Янішкі, цячэ па забалочанай, лясістай мясцовасці, упадае ў Чарніцу ніжэй х. Будзішча (Іўеўскі р-н). Асноўны прыток р. Гаст.

**КАІЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,7 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Куравое, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Клівы.

**КЛІШАЎКА,** Тройня, рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Моўчадзі (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца каля в. Клішавічы, упадае ў Моўчадзь на Пн ад в. Бубны, у лясным урочышчы Клішавіцы. Ад вытоку на працягу 3,7 км каналізаваная.

**КЛЮЧАГОРСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 3,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Аб'ём вады 1,2 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 410 км².**

На р. Обаль, за 32 км на ПнЗ ад г. Гарадок, паміж вёскамі Пляханава і Жалудова. Створана ў 1958 для энергетычных мэт. Берагі абрывістыя, вышынёй 8—10 м, пад лесам і хмызняком. Вярхоўе вадасховішча забалочанае. Дно выслана пяском, торфам і ілам. Сярэдні шматгадовы сцёк 78,9 млн. м³.

**КЛЮЧНІКАВА,** рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Адроў (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 0,8 км ад паўднёва-заходняй ускраіны в. Наваселле, вусце ў межах г. Барань. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,5 км (ад вытоку да моста каля в. Галачова).

**КЛЮШАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.**

У бас. р. Бярноўка (цячэ праз возера), за 21 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на Пн ад в. Янова.

**КЛЯВА,** рака ў Бялыніцкім і Бярэзінскім р-нах, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 80 км.**
**Пл. вадазбору 498 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца з воз. Заазерскае ў Бялыніцкім р-не, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Чырвоны Бераг Бярэзінскага р-на. Асноўны прыток р. Кляўіца (справа). Цячэ па паўднёва-ўсходніх схілах Беларускай грады і па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырынёй 600—800 м, у нізоўях на працягу 6 км невыразная. Схілы ўмерана стромкія, слабапарэзаныя, вышыня іх 5—8 м. Пойма пераважна двухбаковая, шырынёй 200—300 м. Рэчышча каналізаванае на працягу 17 км (выток — 1 км на З ад в. Карытніца Бялыніцкага р-на). Шырыня ракі ў межань 6—8 м. Берагі вельмі стромкія і абрывістыя.

**КЛЯВА,** рака ў Ашмянскім і Іўеўскім р-нах, левы прыток Гаўі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 56 км.**
**Пл. вадазбору 270 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Кляўіца ў Ашмянскім р-не. Асноўны прыток — р. Трапятушка. Даліна выразная. Пойма двухбаковая (шырыня 100—400 м), месцамі адсутнічае. Рэчышча на працягу 17,6 км каналізаванае: ад в. Кляўіца да в. Доржы (8 км) і ад в. Ганчары да в. Пашкішкі (9,6 км). Яго шырыня ў межань 3—7 м, у ніжнім цячэнні 10—12 м. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КЛЯВІЦА,** рака ў Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Клява (бас. Дняпра).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 136 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Стайчанка, вусце за 1 км на У ад в. Бярозаўка. Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Даліна трапецападобная, шырынёй 0,9—1,5 км. Пойма пераважна двухбаковая, яе шырыня 50—200 м (месцамі да 700 м), у сярэднім і ніжнім цячэнні забалочаная. Рэчышча каналізаванае на працягу 9 км (вусце — 2 км на У ад в. Лісітнік). Шырыня ракі ў межань у ніжнім цячэнні да 8 м.



Рака Клява каля вёскі Трабы Іўеўскага раёна.

**КЛЯПІНКА,** рака ў Краснапольскім і Кармянскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 101 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Беразякі 2-я Краснапольскага р-на, вусце за 1,2 км на ПнЗ ад в. Корсунь Кармянскага р-на. У верхнім цячэнні называецца Будзянка. Ніжэй в. Кляпін цячэ па лесе.

**КЛЯСАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Курыцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 5 км на З ад в. Забродзе, вусце за 6 км на ПнЗ ад в. Курыцічы.

**КЛЯСЦІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 1,25 км².**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 5,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Аб'ём вады 2,52 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1089 км².**

На р. Нішча, за 14 км на З ад г. п. Расоны, каля в. Клясціцы. Створана ў 1959 для энергетычных мэт. Берагавая лінія моцна парэзаная, берагі параслі лесам; вышыня іх у вярхоўі да 5 м, каля плаціны да 10—15 м. Дно выслана пяском і слаба заілена. Ёсць дробныя астравы. Сярэдні шматгадовы сцёк у створы плаціны 226,8 млн. м³.

**КЛЯТЫШЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім і Маларыцкім р-нах, правы прыток Нізяўскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдУ ад в. Клятышча Кобрынскага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Заор'е Маларыцкага р-на. На канале пабудавана помпавая станцыя для перакіду лішку вады з меліярацыйнай сістэмы «Галя».

**КНЯГІНІНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,77 км.**
**Пл. вадазбору 0,5 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 8 км на Пн ад г. п. Мядзел, на Пн ад воз. Мядзел. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, на З і Пд 10—15 м. Берагі зліваюцца са схіламі, на У і Пн нізкія, забалочаныя. Злучана пратокамі з азёрамі Чарток і Мядзел.

**КНЯЖ,** возера ў Шаркоўшчынскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 0,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**

Даўжыня берагавой лініі 1,88 км.
Пл. вадазбору 2,5 км².

У бас. р. Дзісна, за 22 км на ПнУ ад г. п. Шаркоўшчына, каля в. Станіца. Схілы катлавіны невыразныя, разараныя. Злучана ручаём з р. Дзісна.

**КНЯЖАБОР'ЕЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Ельскім р-не.

Пл. 1,45 км².
Найбольшая глыбіня 4,3 м.
Даўжыня 2,5 км.
Найбольшая шырыня 0,61 км.
Аб'ём вады 2,29 млн. м³.
Пл. вадазбору 89 км².

На р. Мытва, за 7 км на У ад г. Ельск, каля в. Бабруйкі. Створана ў 1978 для арашэння. Ваганні ўзроўню на працягу года 2,1 м. Сярэднешматгадовы сцёк 4,42 млн. м³.

**КНЯЖНО,** Княжное возера, у Віцебскім р-не.

Пл. 0,66 км².
Найбольшая глыбіня 6,6 м.
Даўжыня 1,51 км.
Найбольшая шырыня 0,75 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,04 км.
Аб'ём вады 1,66 млн. м³.
Пл. вадазбору 53,2 км².

У бас. р. Шэвінка, за 20 км на ПнЗ ад Віцебска, за 1 км на ПдУ ад в. Заронава. Схілы катлавіны на Пн і У вышынёй да 15 м, на Пд і З 5—8 м, на Пд і Пн разараныя, астатнія пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, участкамі на Пн узвышаюцца да 0,6 м (на З да 0,3 м), у залівах сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае. У цэнтры 4 астравы агульнай пл. 1 га. Дно выслана ілам і сапрапелем. Упадаюць 2 ручаі і р. Гаражанская, выцякае ручай у воз. Заронава. Зарастае да глыбіні 2,5 м.

**КНЯЖНО,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.

У бас. р. Сечна, за 8 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, за 0,9 км на ПдУ ад в. Непароты. Схілы катлавіны вышынёй 20—25 м, парослі хмызняком. Злучана пратокай з азёрамі Будавесць і Віцір.

**КНЯЗЬ-ВОЗЕРА,** гл. *Чырвонае возера.*

**КОБРЫНКА,** Кобрынскі канал, рака ў Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 11,5 км.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.
Пл. вадазбору 23 км².

Пачынаецца каля в. Ізабелін, вусце ў межах г. Кобрын. Рэчышча каналізаванае.

**КОЖКІ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 1 км.

У бас. р. Нішча, за 24 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на Пн ад в. Вароніна. Схілы спадзістыя, на З вышынёй да 3 м. Вакол возера забалочаная пойма. Злучана ручаямі з азерамі Чорненькае і Плішчана.

**КОЗІЦА,** назва ракі, на месцы якой пракапаны *Сыроплашскі канал.*

**КОЙДЗІНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,12 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,32 км.

У бас. р. Свіна, за 45 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на ПдУ ад в. Арлея, сярод асушанага хмызняковага балота.

**КОЛАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Пружанскім р-нах, левы прыток Ясельдаўскага канала (бас. Прыпяці). Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Амяльная Івацэвіцкага р-на, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Клетнае Шанёўскага сельсавета Пружанскага р-на.

**КОЛАСАЎШЧЫНА,** рака, гл. *Ваўкавыя.*

**КОЛЕСКАЕ ВОЗЕРА,** у Брагінскім р-не.

Пл. 0,15 км².
Даўжыня 1,22 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,95 км.

У бас. Дняпра, за 55 км на ПдУ ад г. п. Брагін, за 4 км на ПнУ ад в. Верхнія Жары. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, парослі хмызняком. На Пн шматлікія вузкія залівы.

**КОЛПІНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,16 км².
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,68 км.

У бас. р. Званіца, за 22 км на ПнЗ ад Полацка, за 2 км на У ад в. Адамава, сярод лесу. Выцякае ручай у р. Званіца.

**КОЛПІНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,38 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,12 км.
Пл. вадазбору 2,5 км².

У бас. р. Тураўлянка, за 27 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Ягадкі. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, парослі хмызняком.

**КОЛПІНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,36 км.
Найбольшая шырыня 0,19 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 11 км на Пд ад Полацка, за 0,5 км на З ад п. Міжлессе. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, зверху парослыя лесам. Вакол возера забалочаны выган (шырыня 50—170 м). На Пд выцякае ручай у воз. Суя.

**КОЛПІНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.






Возера **Княжно** (Віцебскі раён).

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,24 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,58 км.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 20 км на ПнЗ ад Полацка, за 1,3 км на ПнЗ ад в. Залессе Баравухскага сельсавета. Схілы катлавіны на Пн і Пд стромкія, вышынёй да 5 м, парослі лесам, на З і У не выражаны, пад забалочаным лесам. На ПдУ возера злучана ручаём з возерам без назвы.

**КОЛЬЦА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 21 км на У ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на Пд ад в. Слабодка, за 2,5 км на Пн ад воз. Атолава, сярод забалочанага хмызняку. Берагі сплавінныя. Зарастае. Упадаюць 2 меліярацыйныя каналы.

**КОНАНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім р-нах, упадае злева ў Вялікі канал (бас. Дняпра). Даўжыня 21,3 км. Пачынаецца за 4 км на ПдЗ ад в. Дубровіца Хойніцкага р-на, упадае ў Вялікі канал на 3 км на ПнЗ ад в. Міхнаўка Брагінскага р-на.

**КОНІК,** Канёк, рака ў Клецкім р-не, левы прыток р. Цапра (бас. Прыпяці).

Даўжыня 10,4 км.
Пл. вадазбору 26,5 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Палаўковічы, вусце за 0,5 км на З ад в. Галавачы. Каля в. Галавачы плаціна і сажалка (пл. 25 га).

**КОНСКІ РУЧАЙ,** у Шумілінскім р-не, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца на З ад в. Калышкі, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Сіманяты. Верхняе і сярэдняе цячэнне ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**КОНЧЫЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Пінскім р-не.

Пл. 0,51 км².




Кончыцкае возера.

Найбольшая глыбіня 8,3 м.
Даўжыня 1,17 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,05 км.

У бас. р. Піна, за 18 км на ПдЗ ад Пінска, каля в. Кончыцы. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, разараныя, на З і У пад хмызняком. Берагі ўчасткамі забалочаныя. Злучана каналам з Пінай.

**КО́НЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток Завішчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Жыдча, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Конячыцы. З дапамогай калектара (трубы ў грунце) злучаны з Кончыцкім возерам.

**КО́ПАНЕЦ,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Эйнаравічы, вусце за 2 км на У ад в. Мураванка. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (2 км на ПнУ ад в. Айнаравічы — вусце).

**КО́ПАНКА,** назва р. *Морач* у верхнім цячэнні.

**КО́ПАНЬ,** рака, гл. *Чарнец.*

**КО́ПЫЛКА,** ручай ў Горацкім р-не, левы прыток р. Паросіца (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 2,3 км на ПнЗ ад в. Задарожжа, вусце ў цэнтры г. Горкі. Рэчышча ад вытоку да сажалкі (пл. 4,5 га) у в. Задарожжа каналізаванае на працягу 1,5 км. На ручаі ў межах г. Горкі створаны тры сажалкі (пл. адпаведна 10,4 га, 7 га і 18 га).

**КО́РАВА,** Рыбацкае возера, у Шчучынскім р-не. Пл. 0,16 км$^2$. У бас. р. Котра (цячэ праз возера), вышэй вусця р. Астрынка.

**КО́РМНА,** ручай у Краснапольскім р-не, левы прыток р. Тур'я (бас. Дняпра). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ, вусце за 3 км ПнУ ад в. Малыя Хутары. Рэчышча ад вытоку каналізаванае на працягу 1,8 км.

**КО́РНАДСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Свіслацкім р-не.

Пл. 3,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,8 м.
Даўжыня 2,5 км.
Найбольшая шырыня 1,5 км.
Аб'ём вады 6,21 млн. м$^3$.

За 37 км на ПдУ ад г. Свіслач, каля в. Корнадзь. Наліўное. Створана ў 1978 для рыбагадоўлі і воднага добраўпарадкавання. Даўжыня агараджальнай дамбы 4 км. Напаўняецца вадой р. Ясельда па падвадным канале пры дапамозе помпавай станцыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 2 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 94,5 млн м$^3$.

**КО́РНІЦА,** меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Густатка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Дальняя Буда, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Корніца.

**КО́РНЯ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,28 км$^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,42 км.
Пл. вадазбору 3,5 км$^2$.

У бас. р. Густатка, за 18 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Кіслаўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, пераважна пад хмызняком, на Пн разараныя. На З выцякае р. Корынка.

**КОРЧ,** Керч, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 9,3 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Зашчоб'е, вусце за 1,8 км на ПнЗ ад в. Галоўкі.

**КОРЧ,** Керч, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Зашчоб'е, вусце за 4,5 км на У ад в. Глінная Слабада.

**КО́РЫНКА,** рака ў Браслаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток р. Густатка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 79 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Выцякае з воз. Корня за 0,4 км на Пд ад в. Вялікія Даўяты Браслаўскага р-на, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Корніца Шаркоўшчынскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**КО́САВА,** рака, гл. *Мальвінка.*

**КО́САЎСКІ КАНА́Л,** Любішчанскі канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не (бас. Нёмана), правы прыток Грыўды. Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Козікі, упадае ў Грыўду за 1,2 км на ПдУ ад в. Любішчыцы. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў (найбольш значныя — Восьмы справа і Дзевяты злева).

**КО́СМЫНЬ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Ваўчанка (бас. Дняпра). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Пабокавічы, упадае ў Ваўчанку за 0,4 км на Пд ад в. Лысая Горка.

**КО́СТРЫЧКА,** Кастрычка, рака ў Кіраўскім і Клічаўскім р-нах, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 52 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Пачынаецца за 0,3 км на ПнУ ад в. Казулічы Кіраўскага р-на, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Усохі Клічаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 11 км (выток — 2 км на ПдУ ад в. Усохі).

**КО́СЦІНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Даўжыня 0,46 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,12 км.

У бас. р. Альзініца, за 31 км на ПдЗ ад Полацка, за 400 м на У ад в. Вуглы, на З ад воз. Ухвішча. Схілы катлавіны вышынёй 5—15 м, пад хмызняком. На Пн забалочаная пойма. Злучана ручаямі з воз. Ухвішча.

**КО́ТРА,** рака ў Гродзенскім і Шчучынскім р-нах, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 140 км.
Пл. вадазбору 2060 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 12,8 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.

Пачынаецца на тэрыторыі Літвы (Варэнскі р-н), амаль на ўсім працягу цячэ праз лес. Асноўныя прытокі: Скарбянка, Нявіша, Жэчка, Астрынка, Рыча, Скідалька, Пыранка. Даліна да возера Корава выразная, шырыня 300—500 м. Пойма двухбаковая, шырынёй 300—500 м; да вусця Рычы нізкая, роўная, забалочаная, ніжэй — звілістая, сухая. Рэчышча моцназвілістае, ніжэй в. Агароднікі Шчучынскага р-на на працягу 3 км каменісты перакат. Шырыня рэчышча ў межань 10—20 м. Берагі да р. Скарбянка спадзістыя, слаба забалочаныя, ніжэй — стромкія, вышынёй 1—5 м, у ніжнім цячэнні да 15 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка — пачатку красавіка. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у пачатку сакавіка. На левабярэжжы Катранская пушча. У маляўнічых мясцінах зона адпачынку Котра (уздоўж ракі) і Скідаль (па левабярэжжы). Ад вусця ўверх па цячэнню (35 км) рыбапрамысловы ўчастак. У пойме меліярацыйныя каналы.

**КО́ТРАНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны

канал у Пружанскім р-не, левы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Клепачы, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Юзафін.

**КОЎПІНА,** Колпін, возера ў Чачэрскім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Сож, за 3 км на Пд ад г. Чачэрск. Схілы катлавіны вышынёй 10—17 м, разараныя, на З пад лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Дно сапрапелістае.

**КРАЙШЧАНКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Віліі.

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 58 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,1 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Ціхонавічы, упадае ў Вілію каля в. Камена. Цячэ па паўночных схілах Мінскага ўзвышша. Каналізаваная на працягу 1,7 км. Ніжэй в. Ціхонавічы створана сажалка (пл. 0,08 км$^2$).

**КРАКІНА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,77 км.**

У бас. р. Рычанка, за 22 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 1,5 км на Пн ад в. Карасіна. Схілы катлавіны невыразныя, на У разараныя ўзгоркі вышынёй да 5 м, на Пн і З забалочаны лес. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 30—100 м. Выцякае ручай у воз. Рычы.

**КРАМАЎКА,** рака ў Навагрудскім і Карэліцкім р-нах, левы прыток Неўды (прыток р. Сэрвач, бас. Нёмана).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 50 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,2 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Сянежыцы, цячэ па ўсходняй частцы Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Неўду на заходняй ускраіне в. Савашы. На працягу 2,5 км каналізаваная (ад в. Сапатніца да в. Забалацце).

**КРАМУШАЎКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 101 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Крываногава, упадае ў Нёман за 1 км на З ад в. Пудзіна. Цячэ пераважна праз лес. Злева ўпадае р. Налібаўка. Ад яе вусця ўздоўж левага берага Крамушаўкі на працягу 2 км меліяраваны поймавы ўчастак, вада з якога скідваецца ў раку.

**КРАМЯНІЦА,** рака, гл. *Самараўка.*

**КРАПІВЕНКА,** рака ў Аршанскім р-не, левы прыток Дняпра.

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 156 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Сідараўка, вусце за 2 км на Пн ад в. Крапіўна. Рэчышча каналізаванае на працягу 7,8 км (1 км на ПнЗ ад в. Кустоўка да моста на аўтадарозе г. Горкі — г. Орша). На рацэ ў сярэднім цячэнні створана вадасховішча з аднайменнай назвай.

**КРАПІВЕНКА,** рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 72 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Вязькуцін 1-ы, вусце за 2 км на Пн ад в. Брадзец. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,9 км (ад вытоку да в. Крапіўня).

**КРАПІВЕНКА,** вадасховішча ў Аршанскім р-не.

**Пл. 1,08 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12,5 м.**
**Даўжыня 5,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 3,3 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 123 км$^2$.**

На р. Крапівенка за 8,8 км ад вусця, за 13 км на ПдУ ад г. Орша, каля вёсак Барадуліна і Браздзечына. Створана ў 1986 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Ваганні ўзроўню на працягу года да 8 м.

**КРАПІЎКА,** рака ў Бабруйскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Ясны Лес, вусце ў г. Бабруйск каля чыгуначнага моста праз Бярэзіну. Рэчышча каналізаванае.



Рака Котра ў вёсцы Галавачы Гродзенскага раёна.

**КРАПІЎКА,** рака ў Ляхавіцкім р-не, левы прыток р. Ведзьма (бас. Нёмана). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца каля в. Падлессе, упадае ў Ведзьму за 1 км на У ад в. Кавалі. На ўсім працягу каналізаваная.

**КРАПІЎНА,** рака, гл. *Трасцянка.*

**КРАПІЎНАЯ,** рака ў Мазырскім р-не, правы прыток р. Скалодзіна (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Асавец, вусце за 0,8 км на З ад в. Глінніца.

**КРАПІЎНІЦА,** рака ў Свіслацкім р-не, левы прыток р. Калонка (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 29 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Крапіўніца, вусце паміж вескамі Вялікія Міхалкі і Малыя Міхалкі. Рэчышча каналізаванае.

**КРАПІЎНЯ,** З ы б і н а, рака ў Буда-Кашалёўскім і Рэчыцкім р-нах, у бас. Дняпра. Даўжыня 20,4 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Баец Буда-Кашалёўскага р-на, упадае ў старэчча Дняпра (воз. Крапіўнае) за 0,5 км на ПдЗ ад в. Чырвоны Кастрычнік Рэчыцкага р-на. Рэчышча каналізаванае на трох участках: выток — 0,8 км на Пн ад п. Краснабудскі (3,5 км); ад в. Рудня-Альхоўка ўніз па цячэнню на працягу 2,1 км; 3,5 км на ПдЗ ад в. Рудня-Альхоўка — 1,5 км на ПнЗ ад в. Чырвоны Кастрычнік (2,2 км).

**КРАПІЎНЯ,** А н д р у г а, К р а п і в е н к а, к а н а в а К р а п і в е н с к а я, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПдЗ ад в. Крынкі, упадае ў Ведрыч за 2 км на У ад в. Ліскі.

**КРАПІЎНЯ,** рака, гл. *Трасцянка.*

**КРАСАМАЙ,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,32 км$^2$.**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,55 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,48 км.**

У бас. р. Обаль, за 30 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 4 км на З ад вусця Свіны. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі сплавінныя. Упадаюць ручаі з азёр Жужнева і Мошня. Выцякае ручай Красамай у Обаль.

**КРАСІЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім і Пінскім р-нах, левы прыток Моладаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Гаравата Іванаўскага р-на, вусце каля в. Красіеўка Пінскага р-на.

**КРАСІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, правы прыток р. Суша (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,8 км на ПнУ ад в. Убалоцце, упадае ў Сушу за 1,6 км на ПнУ ад в. Хрэлева.

**КРАСНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 16 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Усомля. На ПнУ злучана ручаём з воз. Усомля.

**КРАСНАГОРСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім і Хойніцкім р-нах, правы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Звяняцкае Хойніцкага р-на, упадае ў Сярэднюю Брагінку ў межах г. Брагін.

**КРАСНАГОРСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Уздзенскім р-не, правы прыток р. Шаць (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад п. Красная Горка, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Валок.

**КРАСНАЕ ВОЗЕРА,** былое возера (пл. 0,27 км$^2$) у Барысаўскім р-не, у бас. р. Бярэзіна, за 23 км на Пд ад Барысава, за 2 км на ПдУ ад р. п. Зялёны Бор. У выніку асушэння прылеглай мясцовасці і торфараспрацовак ператварылася ў сажалку.



Красноўскае возера.



Красноўскае возера.


Красноўскае возера.

**КРАСНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Даўжыня 0,77 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.**

У бас. р. Ушача, за 23 км на ПдЗ ад Полацка, за 300 м на ПдУ ад воз. Астроўна, за 2 км на ПдЗ ад в. Таўкачы, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй ад 3 м на З (пад лесам) да 5 м на У (пад хмызняком), на Пд і Пн не выражаны.

**КРАСНАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на У ад г. п. Ушачы, за 0,8 км на ПдЗ ад в. Краснае (1 км на ПнУ ад Бярозаўскага возера). Размешчана на ўсходняй ускраіне лесу. Вакол возера забалочаная пойма, парослая лесам (на З) і хмызняком (на У). Канавай злучана з Бярозаўскім возерам.

**КРАСНАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Ушача, за 8 км на Пд ад г. п. Ушачы, каля в. Качаны. Схілы катлавіны вышынёй 10 м, на Пд і У пад агародамі, астатнія параслі хмызняком. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 10 м на У, да 120 м на Пн.

**КРАСНАПАЛЯНСКІ КАНАЛ,** гл. *Чырвонапалянскі канал.*

**КРАСНАСЕЛЬСКІ КАНАЛ,** гл. *Аравіцкі канал.*

**КРАСНАЯ,** рака ў Асіповіцкім, Бабруйскім і Глускім р-нах, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 80 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,69 ‰.**

Пачынаецца з Краснай канавы за 5 км на ПдЗ ад в. Тарасавічы Асіповіцкага р-на, вусце каля в. Гарадзішча Завалочыцкага сельсавета Глускага р-на. У нізоўі цячэ па лясістай

мясцовасці. Рэчышча на працягу 13,6 км ад вытоку каналізаванае.

**КРАСНАЯ КАНАВА,** Карчанка, меліярацыйны канал у Асіповіцкім і Глускім р-нах, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 24 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Краснік Асіповіцкага р-на, вусце каля в. Яўсеевічы Глускага р-на. У нізоўі цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**КРАСНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Чашніцкім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Верацея» (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Мядзвецк, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Красніца.

**КРАСНОЎКА,** Пружанка, рака ў Мядзельскім р-не, правы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Старынкі, упадае ў Вузлянку за 2 км на ПнЗ ад в. Ельніца. На ўсім працягу каналізаваная.

**КРАСНОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 1,37 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 1,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,84 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.**
**Аб'ём вады 2,24 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,6 км².**

У міжрэччы Маціцы і Бярэжы, за 14 км на Пд ад г. Міёры, каля в. Стары Пагост. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, разараныя, на ПнЗ пад лесам. Берагі пясчаныя, на З забалочаныя. На З да поймы прымыкае вярховае балота шырынёй да 500 м. Дно выслана сапрапелем, каля паўночнага і паўднёвага берагоў пясчанае. Вызначаецца вельмі нізкай мінералізацыяй. Зарастае па ўсёй плошчы. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 50 м.

**КРАСНОЎСКІ РУЧАЙ,** ручай у Лідскім р-не, правы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 3 км. Пачынаецца каля в. Красноўцы, упадае ў Дзітву за 1,2 км на ПдУ ад в. Навасёлкі. На ўсім працягу каналізаваны. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**КРАСНЫ,** ручай у Шумілінскім р-не, правы прыток ручая Чорнага (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнУ ад в. Хацілава, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Крупчына. Рэчышча на працягу 2 км уверх ад вусця каналізаванае.

**КРАСЫНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1,3 км на ПдЗ ад в. Красынічы, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Палонь.

**КРАСЯНЕЦ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,67 км.**

У бас. р. Обаль, за 37 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 2 км на ПнЗ ад в. Ключагорская. Вакол возера парослая хмызняком забалочаная пойма шырынёй 25—50 м.

**КРАЎЛЯНКА,** рака ў Смаргонскім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 112 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5 ‰.**

Пачынаецца на Пн ад в. Крэва, цячэ ў межах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Бярэзіну за 1,5 км на Пд ад в. Качаны. На працягу 4,5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Вярэбушкі).

**КРАШАНКА,** рака ва Ушацкім р-не, правы прыток р. Ушача (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 184 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Выцякае з воз. Ваўчо каля в. Ваўчо, цячэ праз азёры Арэхаўна і Мена, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Папоўка.

**КРАШУТЫ,** возера, гл. *Шэлельна.*

**КРОМАНКА,** рака ў Стаўбцоўскім і Навагрудскім р-нах, правы прыток Бойнай (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца з воз. Кромань Стаўбцоўскага р-на, цячэ ў межах Налібоцкай пушчы, упадае ў Бойную за 2 км на Пд ад в. Купіск Навагрудскага р-на. На ўсім працягу каналізаваная, у нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**КРОМАНЬ,** возера ў Стаўбцоўскім р-не.

**Пл. 0,92 км².**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,1 км.**

У бас. р. Нёман, за 38 км на ПнЗ ад Стоўбцаў, у паўднёвай частцы Налібоцкай пушчы. Схілы катлавіны спадзістыя, парослыя лесам. Уздоўж берагоў зарастае. Упадаюць р. Блюшка і меліярацыйны канал, выцякае р. Кроманка.

**КРОПЫ,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**
**Пл. вадазбору каля 1 км².**

У бас. р. Росіца, за 22 км на ПнЗ ад Верхнядзвінска, за 4 км на З ад в. Росіца. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, параслі хмызняком, на Пд часткова разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі.

**КРОТАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Кротаў, вусце за 2 км на З ад в. Якімавічы.

**КРУГАВОД,** возера ў Лоеўскім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,95 км.**

На пойме Дняпра, за 34 км на ПдЗ ад г. п. Лоеў, за 1 км на У ад в. Цясны. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, пясчаныя, пад хмызняком. На Пн злучана пратокай з Дняпром.

**КРУГЛАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,32 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,1 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,72 км.**
**Пл. вадазбору 5,75 км².**

У бас. р. Крашанка, за 20 км на Пд ад Полацка, каля в. Ваўкі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам.

**КРУГЛАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,27 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.**
**Аб'ём вады 0,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1 км².**

У бас. р. Нешчарда, за 18 км на У ад г. п. Расоны, на У ад воз. Нешчарда. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі лесам, асобныя ўчасткі разараныя. Берагі нізкія, на ПдЗ сплавінныя. Дно да глыбіні 1,5—2 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелем. На




**Возера Кромань.**




**Круглае возера (Полацкі раён).**

Пн злучана пратокай з воз. Доўгае. Зарастае да глыбіні 2—2,5 м пераважна падводнай раслiннасцю. Па берагах возера жывуць бабры.

**КРУ́ГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,25 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.**
**Пл. вадазбору 1,25 км².**

У бас. р. Быстрыца, за 38 км на ПнУ ад г. Глыбокае, на У ад в. Чашкі. Схілы катлавіны вышынёй 3 м, над хмызняком. На ПнУ выцякае ручай у р. Быстрыца.

**КРУГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,73 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,88 км.**

У бас. р. Акмяніца, за 14 км на ПнЗ ад г. Браслаў, каля в. Круглішкі. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, параслі лесам, на Пд часткова разараныя.

**КРУГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**

У бас. р. Чарнагосніца, за 21 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, на Пд ад в. Ліхошына. Паўночныя і ўсходнія берагі возера пад лесам. Злучана ручаём з р. Чарнагосніца.

**КРУ́ГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Росіца, за 20 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на З ад в. Юльянова. Схілы катлавіны на З стромкія, вышынёй 17—20 м, на У больш спадзістыя, вышынёй 10—12 м. З паўднёвага боку шырокае забалочанае паніжэнне, якое цягнецца да воз. Доўгае. Выцякае ручай у воз. Чорнае.

**КРУ́ГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Галбіца, за 30 км на У ад г. Паставы, каля в. Жуперкі. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя. Упадаюць 2 ручаі, у т. л. з воз. Доўгае.

**КРУ́ГЛАЕ ВО́ЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Ласіца, за 32 км на ПнУ ад г. Паставы, за 1,2 км на З ад в. Казлоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м (на Пн невыразныя), разараныя. Злучана ручаём з р. Ласіца.

**КРУ́ГЛАЕ-МЕ́ЛКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Полацкім р-не, на мяжы з Пскоўскай вобласцю.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.**

У бас. р. Вядзеціца, за 50 км на ПнУ ад Полацка, за 1 км на ПнУ ад воз. Вядзета. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, параслі лесам, на З невыразныя.

**КРУ́ГЛАЯ**, рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток р. Чорная (бас. Віліі). Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца каля в. Куромшчыцы, упадае ў Чорную на У ад в. Вялікае Сяло. На ўсім працягу каналізаваная.

**КРУ́ГЛІК**, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 31,5 м.**
**Даўжыня 1,43 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,86 км.**
**Аб'ём вады 3,58 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 11,2 км².**

У бас. р. Сечна, за 5 км на Пд ад г. п. Шуміліна, каля в. Прыазёрная. Схілы катлавіны вышынёй 3—6 м, параслі хмызняком, на У лесам. Берагі на У зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе вузкае, дно да глыбіні 5 м выслана пясчанымі і апясчаненымі адкладамі, ніжэй — глiністым ілам. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 30—50 м, падводная па шырана да глыбіні 2,5 м. Злучана пратокай з воз. Лескавічы, выцякае ручай у воз. Мошна.



1 — воз. Лескавічы
2 — у воз. Мошна

**Возера Круглік.**

**КРУГЛО́ВА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,78 км.**

У бас. р. Ушача, за 16 км на ПдЗ ад Полацка, за 2 км на Пн ад в. Заполле, сярод лесу.

**КРУГЛО́ЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Пухавіцкім і Старадарожскім р-нах, левы прыток Шчыткавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Селецк Пухавіцкага р-на, вусце каля в. Лавы Старадарожскага р-на.

**КРУГО́ВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток Кукаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Шашкі, вусце за 0,7 км на ПдУ ад в. Кукава.

**КРУ́КАЎСКІ КАНА́Л**, гл. *Рэдкі Рог.*

**КРУ́ПАНЬ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,33 км².**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,42 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км².**

У бас. р. Палата, за 37 км на ПнУ ад Полацка, на З ад в. Нядружна. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, параслі лесам.

**КРУПІ́ЦА**, рака ў Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Гаць (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Глінішча, вусце на паўднёвай ускраіне в. Ялча. Рэчышча каналізаванае.

**КРУ́ПКА**, З а к р у н і ц а, рака ў Чавускім і Слаўгарадскім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18,5 км.**
**Пл. вадазбору 84 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 3,5 км на Пд ад в. Дрокаўка Чавускага р-на, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Ляцягі Слаўгарадскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**КРУ́ПКА**, Р у т к а, ручай у Круглянскім р-не, левы прыток р. Аслік (бас. Дняпра). Даўжыня 15 км. Пачынаецца на паўднёва-заходніх схілах Аршанскага ўзвышша за 0,7 км на У ад в. Шаўкавінне, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Новае Палессе. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,5 км (0,8 км на ПнЗ ад в. Шаўкавінне — 1,7 км ніжэй моста ў в. Паўлавічы).

**КРУ́ПКА**, рака ў Лідскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Немана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 83 км².**

Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Пачынаецца на ПД ад в. Пурсці, цячэ па Лідскай раўніне, праз нізіннае балота Крупка, упадае ў Дзітву на ПдУ ад в. Навaселкі. На працягу 13,6 км каналізаваная (ад паўднёва-заходняй ускраіны в. Пурсці да вусця).

**КРУПНЯ,** рака ў Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, левы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра).

Даўжыня 41 км.
Пл. вадазбору 136 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 0,7 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Сакалоўка Клімавіцкага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне г. Касцюковічы. Цячэ на ПдУ Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна выразная, шырынёй да 2 км, парэзана лагчынамі, ярамі, меліярацыйнымі каналамі. Пойма вузкая, у верхнім і ніжнім цячэнні чаргуецца па берагах, у сярэднім — двухбаковая (шырыня ў асобных месцах да 1,8 км), асушаная, лугавая. Рэчышча каналізаванае на працягу 26 км (в. Крупня Клімавіцкага р-на — в. Карбанава Касцюковіцкага р-на), у верхнім цячэнні слабазвілістае. Шырыня ракі ў межань да 10 м. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КРУПЧЫНА,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,07 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.

У бас. р. Чарніца, за 1 км на У ад ускраіны г. п. Шуміліна, за 0,2 км на Пн ад в. Крупчына. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера забалочаная мясцовасць, парослая хмызняком. Выцякае ручай Чорны.

**КРУПЯНКА,** рака ў Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, левы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 139 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 1,3 км на ПнЗ ад в. Жэўжык Клімавіцкага р-на, вусце ў в. Негін Касцюковіцкага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**КРУЦІК,** ручай у Шумілінскім р-не, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца з воз. Бочава за 1 км на ПнЗ ад в. Пушчавыя, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Ляхава. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,6 км каналізаванае.

**КРУЦІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім і Клічаўскім р-нах, левы прыток р. Нясета (бас. Дняпра). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Буда Бярэзінскага р-на, упадае ў Нясету за 0,5 км на У ад в. Новыя Набаркі Клічаўскага р-на.

**КРУШЫН,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток Дубайскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Калоднае, вусце за 2 км на Пн ад в. Глінка.

**КРУШЫНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Рагачоўскім р-не.

Пл. 0,96 км².
Найбольшая глыбіня 10 м.
Даўжыня 1,9 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Пл. вадазбору 23,6 км².

У бас. р. Друць, за 22 км на ПнЗ ад г. Рагачоў, каля в. Заазер'е. Схілы катлавіны на Пд і У параслі хмызняком. Сцёк у Друць па р. Заазер'е і ручаю без назвы.

**КРУШЫННАЯ,** Крушынная канава, рака ў Лельчыцкім і Жыткавіцкім р-нах, правы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 30 км. Пл. вадазбору 255 км². Пачынаецца за 4 км на Пд ад в. Слабада Лельчыцкага р-на, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Хлупін Жыткавіцкага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці (пераважна па Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку), у ніжнім цячэнні перасякае рэчышча р. Свінавод. На працягу 19,4 км уверх ад вусця рэчышча каналізаванае.

**КРЫВАЛЬ,** гл. *Асавецкі канал.*

**КРЫВАЯ,** Хвашчоўка, рака ў Талачынскім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 46 км.
Пл. вадазбору 242 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,8 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Раманаўка Талачынскага р-на, вусце ў межах в. Казаброддзе Круглянскага р-на. Цячэ па Аршанскім узвышшы. Даліна на вялікім працягу добра распрацаваная, трапецападобная, шырынёй 0,6—1 км, у вярхоўі невыразная. Асноўны прыток р. Ржаўка. Пойма вузкая, лугавая, шырынёй 0,2—0,5 км, чаргуецца па берагах, месцамі адсутнічае. Рэчышча каналізаванае на працягу 2,5 км уніз па цячэнні ад моста на аўтадарозе Мінск — Масква каля в. Забалацце, на астатнім працягу звілістае. Шырыня ракі ў межань 5—8 м, у ніжнім цячэнні да 10 м. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя, вышынёй 0,5—1 м. Рака прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КРЫВАЯ,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Тосна, вусце на паўднёвай ускраіне в. Нівішчы. Рэчышча ад вытоку на працягу 0,5 км каналізаванае.

**КРЫВАЯ,** рака, гл. *Малінаўка.*

**КРЫВАЯ РЭЧКА,** канава Крывая, меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Старыя Хракавічы, упадае ў р. Сярэдняя Брагінка за 2 км на ПдУ ад в. Грушнае.



Возера Крывец.

**КРЫВЕЦ,** Крывое возера, у Браслаўскім р-не.

Пл. 0,23 км².
Найбольшая глыбіня 4,8 м.
Даўжыня 0,82 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,02 км.
Пл. вадазбору 3 км².

У бас. р. Друйка, за 18 км на Пн ад г. Браслаў, каля в. Шашкішкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, пад хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, у залівах нізкія, забалочаныя.

**КРЫВІНКА,** Крывіна, Ніжняя Крывіна, рака ў Сенненскім і Бешанковіцкім р-нах, левы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 34 км.
Пл. вадазбору 637 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,8 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Выцякае з воз. Багданаўскае за 0,5 км на ПнУ ад в. Запруддзе Сенненскага р-на, цячэ па Чашніцкай раўніне, вусце за 0,3 км на У ад в. Верхняе Крывіна Бешанковіцкага р-на. Асноўны прыток р. Бярозка (справа). Даліна да в. Асавец (Бешанковіцкі р-н) невыразная, ніжэй па цячэнні шырынёй 0,2—0,5 км. Пойма забалочаная, да в. Асавец шырынёй 2—3 км, ніжэй 50—100 м. Рэчышча ад вытоку на працягу 19,5 км каналізаванае, яго шырыня 4—8 м, у ніжнім цячэнні 10—15 м.

**КРЫВІЦКІ КАНАЛ,** гл. *Крывічынскі канал.*

**КРЫВІЧЫ,** вадасховішча ў Пінскім р-не.

Пл. 0,47 км².
Найбольшая глыбіня 11,9 м.
Даўжыня 0,93 км.
Найбольшая шырыня 0,69 км.
Аб'ём вады 1,84 млн. м³.
Пл. вадазбору 15,8 км².

Наліўное. Створана ў 1986 за 14 км на У ад г. Пінск, каля в. Крывічы для арашэння зямель і рыбагадоўлі.

Ваганні ўзроўню на працягу года нязначныя.

**КРЫВІЧЫНСКІ КАНА́Л,** К р ы в і ц к і к а н а л, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток Марынскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Крывічы, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Паварчыцы.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

Пл. 4,5 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 31,5 м.
Даўжыня 6 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 21 км.
Аб'ём вады 43 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 65,4 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Дубраўка. Уваходзіць ва Ушацкую групу азер. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на ПнЗ і ПдУ да 50 м) параслі пераважна ялова-хваёвым лесам і хмызняком. На мысах схілы прадстаўлены озавымі градамі. Берагі месцамі зліваюцца са схіламі, пад хмызняком, на Пн і Пд нізкія, часта забалочаныя. Дно да глыбіні 10—20 м выслана сапрапелем, ніжэй ілам. Востраў пл. 0,2 га. Вызначаецца высокай празрыстасцю вады. Зарастае слаба, шырыня паласы надводнай расліннасці 5—10 м. У возеры расце палушнік азёрны, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу. Злучана ручаямі з азёрамі Сосенка, Усая, Жэнна, Паўазер'е; выцякае ручай у р. Дзіва. У 1979 возера і прылеглая да яго тэрыторыя аб'яўлены азёрным заказнікам Крывое.



Крывое возера (Ушацкі раён).

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,32 км$^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,15 км.
Пл. вадазбору 12 км$^2$.

У бас. р. Шоша, за 26 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Лявонавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, параслі лесам і хмызняком, на Пд часткова разараныя. Берагі высокія, на У зліваюцца са схіламі. Злучана ручаямі з воз. Бяброва і возерам без назвы.



Крывое возера (Глыбоцкі раён, плошча 0,32 км$^2$).

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,26 км$^2$.
Даўжыня 1,25 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,35 км.
Пл. вадазбору 31,5 км$^2$.

У бас. р. Ласіца (цячэ праз возера), за 32 км на У ад г. Паставы, каля в. Крывое 2-е. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м (на У да 15 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй пераважна разараныя.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Даўжыня 0,98 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,38 км.

У бас. р. Палата, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на Пн ад в. Дрэтунь, сярод забалочанага лесу. Схілы невыразныя. Берагі забалочаныя.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,19 км$^2$.
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Пл. вадазбору 5,25 км$^2$.

У бас. р. Ласіца, за 32 км на ПнУ ад г. Паставы, на ПнЗ ад в. Новікі. Схілы катлавіны вышынёй 6—9 м, пад хмызняком, на Пд і У часткова разараныя. Злучана ручаямі з азёрамі Новікі і Баравое.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Бабруйскім р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 1,45 км.
Найбольшая шырыня 50 м.
Даўжыня берагавой лініі 2,95 км.

На пойме р. Бярэзіна, на ПдУ ад г. Бабруйск. Берагі вышынёй да 1 м, пад хмызняком. Старычнае.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.

У бас. р. Дрыса, за 36 км на ПнУ ад Полацка, за 2 км на Пд ад в. Рудня Дворышчанскага сельсавета Расонскага р-на. Схілы катлавіны спадзістыя, вышынёй да 2 м, пад забалочаным лесам. Выцякае ручай у р. Іспол.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Дзісна, за 2,5 км на ПдУ ад г. Глыбокае, сярод балоцістай роўнай паверхні. Праз возера цячэ ручай, які ўпадае ў возера без назвы ў межах Глыбокага.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Вята, за 17 км на З ад г. Міёры, за 2,5 км на Пд ад в. Зачарэўе (на З ад воз. Абстэрна). Схілы катлавіны параслі лесам, стромкія, на У разараныя.

**КРЫВО́Е ВО́ЗЕРА,** гл. *Крывец.*

**КРЫВУ́ЛЯ,** П у к о ў к а, рака ў Камянецкім р-не, правы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 13,2 км.
Пл. вадазбору 62 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца каля в. Перкавічы, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Мікалаева. Рэчышча каналізаванае.

**КРЫВЫ́ ГІ́РАЎ,** возера ў Рэчыцкім р-не.

Пл. 0,26 км$^2$.
Даўжыня 3,42 км.
Найбольшая шырыня 0,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,45 км.

На пойме р. Днепр, за 5 км на У ад Рэчыцы, каля в. Сянная. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй 2 м, пясчаныя. Берагі пераважна забалочаныя. Злучана ручаямі з воз. Гадынь і Дняпром.

**КРЫВЫ́ РОГ,** рака ў Лельчыцкім р-не і Житомірскай вобл. Украіны, левы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 142 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца на тэрыторыі Оўруцкага р-на за 7 км на ПдУ, вусце за 8 км на ПнУ ад в. Глушкавічы. Даўжыня ў межах Беларусі 10 км. На працягу 8,4 км ад вытоку рэчышча каналізаванае (гэты ўчастак мае назву Б я р в е н с к а я к а н а в а).

**КРЫВЫ́Я АКУНІ́,** возера ў Полацкім р-не. Пл. 0,1 км$^2$. У бас. р. Сосніца, за 44 км на ПнУ ад Полацка, на Пн ад воз. Сітна, за 2,5 км на У ад в. Малое Сітна.

**КРЫ́ЛАВА,** Р э з е р в о в а е в а д а с х о в і ш ч а, у Мінскім р-не.

**Пл. 3,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 12,1 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 2,0 км.**
**Аб'ём вады 21,6 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 129,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4 км².**

Наліўное. Створана ў 1981 за 20 км на ПнЗ ад Мінска паміж вёскамі Крылава, Вішнёўка, Чаромуха каля вытоку р. Поплаў (бас. р. Свіслач) для забеспячэння вадой Мінска. Даўжыня агараджальнай дамбы 720 м. Напаўняецца за кошт пераkідy вады з Вілейска-Мінскай воднай сістэмы; вадаскід на р. Поплаў. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 5 м.

**КРЫЛЬЦО́ВА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Пл. вадазбору 22,2 км².**

У бас. р. Крывінка, за 1 км на Пд ад г. Сянно. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, разараныя, на Пн пад хмызняком. Берагі на З і Пн зліваюцца са схіламі, на У і Пд нізкія. На Пн выцякае ручай у воз. Сянно.

**КРЫМКА,** рака, гл. *Залалічная.*

**КРЫНІ́ЦА,** рака ў Лідскім р-не, левы прыток Вавёркі (бас. Нёмана). Даўжыня 4,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Мэйры, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Вавёрку за 1,5 км на Пн ад в. Паперня. На ўсім працягу каналізаваная.

**КРЫНІ́ЦА,** вадасховішча ў Мінскім р-не.

**Пл. 0,96 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 2,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 1,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 160 км².**

На р. Свіслач, за 2 км ад паўночна-заходняй ускраіны Мінска, у межах курорта Ждановічы, уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму. Створана ў 1975 для воднага добраўпарадкавання прыгараднай зоны Мінска. Пераважаюць нізкія пясчаныя берагі, якія плаўна зліваюцца са схіламі. 2 астравы агульнай пл. 0,12 км². Дно выслана пяском і ілам. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня 50—55 см) трымаецца да канца сакавіка. Зарастае 4 % плошчы. На беразе санаторыі, базы адпачынку, піянерскія лагеры.

**КРЫНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, правы прыток Тур'і (бас. Нёмана). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Крыніца, упадае ў Тур'ю за 2 км на ПнУ ад в. Лабоцкія Уздзенскага р-на. У пойме за 2,5 км ад вытоку здабываюць торф.

**КРЫНІ́ЧНАЯ КАНАВА́,** меліярацыйная канава ў Лунінецкім р-не, правы прыток меліярацыйнай канавы Плёса (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,4 км. Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Чудзін Ганцавіцкага р-на, вусце за 5,5 км на ПдЗ ад в. Гаўрыльчыцы Лунінецкага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**КРЫНІ́ЧНЫ,** ручай у Капыльскім р-не, правы прыток р. Мажа (бас. Прыпяці). Даўжыня 2,7 км. Пачынаецца каля в. Красны Партызан, вусце каля в. Мяжа (тут жа плаціна і сажалка пл. 5 га). Рэчышча каналізаванае.

**КРЫ́НКА,** рака, гл. *Залалічная.*

**КРЫ́НКІ,** Крынка, рака ў Берасцавіцкім р-не і Польшчы, левы прыток Свіслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца ў Польшчы, за 2 км на У ад в. Крынкі, перасякае мяжу, упадае ў Свіслач на ПнУ ад в. Парэчча. На працягу 1,7 км ад вусця каналізаваная.

**КРЫТЫ́ШЫН,** вадасховішча ў Іванаўскім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,34 км.**
**Аб'ём вады 1,48 млн. м³.**

За 8 км на ПдЗ ад г. Іванава, каля в. Крытышын. Наліўное. Створана ў 1981 для арашэння і рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 3,8 км. Напаўняецца вадой з р. Няслуха пры дапамозе помпавай станцыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 3,6 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 27,7 млн. м³.

**КРЫЎЛЯ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Гродзенскім р-не, правы прыток Ханявіцкага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Крыўляны, упадае ў Ханявіцкі канал за 1 км на У ад в. Ханявічы.

**КРЫЧАЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у межах г. Крычаў Магілёўскай вобласці.

**Пл. 0,4 км².**
**Найбольшая глыбіня каля 25 м.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 6 млн. м³.**

Створана ў 1977 для рэкрэацыі на месцы кар'ера, з якога здабывалася сыравіна для цэментна-шыфернага камбіната (пасля выпрацоўкі сыравіны кар'ер быў затоплены грунтавымі водамі). Каб скідваць лішак вады з вадасховішча, пабудаваны трубаправод даўжынёй 2 км да р. Сож.

**КРЫЧЫНСКІ 1-ы КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца з р. Бярэзіна за 3 км на ПдЗ ад в. Рагатка, упадае ў Бярэзіну каля в. Весялова.

**КРЫЧЫНСКІ 2-і КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, левы прыток Крычынскага 1-га канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца з Крычынскага 1-га канала за 1,5 км на ПдЗ ад в. Рагатка, упадае ў яго за 1 км на У ад в. Весялова.

**КРЭ́НІЦА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Дрыса, за 20 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Уладычына. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам і хмызняком, на У і Пн луг.

**КРЭ́ЧАТ,** рака ў Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 59 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,96 ‰.**

Пачынаецца за 1,7 км на ПнЗ ад в. Аніцавічы, цячэ праз г. Бяроза і за 1 км на У ад яго ўпадае ў Ясельду. Рэчышча каналізаванае.

**КСЯНДЗОЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,6 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,29 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.**
**Аб'ём вады 0,48 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,8 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 4 км на З ад г. Паставы. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, разараныя, на Пд і З невыразныя. Берагі сплавінныя, месцамі пад хмызняком. На З, Пд і ПдУ забалочаная пойма шырынёй ад 10 м




**Вадасховішча Крылава.**




Ксяндзоўскае возера.

да 250 м, пароспая хмызняком. Дно ілістае. Зарастае амаль трэць плошчы возера. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 6—35 м да глыбіні 1 м.

**КУ́БЛЯ,** рака ў Мядзельскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 13 км. Пачынаецца на Пд ад в. Суднікі, упадае з Пн у воз. Баторына. На ўсім працягу каналізаваная. У вытоку магчымы пераліў у р. Зелянуха.

**КУ́ДРА,** меліярацыйны канал у Гродзенскім р-не, правы прыток Пыранкі (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Рыдзялі, упадае ў Пыранку на ПдЗ ад в. Губінка. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КУЖЭ́Ц,** Нурэц, рака ў Смаргонскім р-не, левы прыток Віліі.

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 100 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 6,2 ‰.

Пачынаецца на Пд ад в. Загор'е, у нізоўі цячэ па забалочанай мясцовасці праз старыцы, упадае ў Вілію ніжэй в. Міхневічы. Асноўны прыток — р. Драй. На працягу 6,3 км каналізаваная (ад в. Паніззе да заходняй ускраіны в. Вётхава).

**КУЗЬМІНО́,** возера ў Аршанскім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
Даўжыня 0,57 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,47 км.

У бас. р. Аршыца, за 24 км на Пн ад Оршы, за 2 км на ПдУ ад в. Клюкаўка. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пад хмызняком. Берагі нізкія, забалочаныя. Праз возера цячэ р. Чорная.

**КУЗЬМІЧЫ́,** возера ў Мядзельскім р-не.

Пл. 0,69 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,4 м.
Даўжыня 1,57 км.
Найбольшая шырыня 0,67 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,01 км.
Аб'ём вады 1,65 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 11 км$^2$.

У бас. р. Страча, за 13 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, каля в. Кузьмічы. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пароспыя хмызняком, месцамі разараныя. Берагі сплавінныя, на Пд нізкія, забалочаныя, на У і ПдУ пад хмызняком. На ПнЗ пойма шырынёй 80—100 м. Дно плоскае, сапрапелістае. У паўночнай частцы востраў пл. 0,2 га. Зарастае да глыбіні 1,7 м. Праз возера цячэ р. Сермеж.

**КУЗЬМІЧЫ́,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Чырвонапалянскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд, вусце за 4,5 км на ПнУ ад в. Кузьмічы.

**КУ́КАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, правы прыток Агарэвіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 3 км на У, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Кукава. Прыток — Круговіцкі канал (злева).

**КУКЛЯ́НКА,** рака ў Ваўкавыскім і Бераставіцкім р-нах, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 72 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Кукалкі Ваўкавыскага р-на, цячэ па паўднёвай ускраіне Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Свіслач на ПдУ ад в. Дзевяткі Бераставіцкага р-на. Прыток — р. Норка. На працягу 7 км каналізаваная (ад вытоку да в. Кватары).

**КУЛА́ЖАНКА,** рака ў Горацкім р-не, правы прыток р. Папна (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 24 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Лысая Слабада, вусце на заходняй ускраіне в. Папна. Рэчышча каналізаванае на працягу 3,5 км (ад вытоку да чыгункі Орша — Крычаў).

**КУЛА́ЖКА,** рака ў Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток р. Янка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 86 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Калеснікі Міёрскага р-на, цячэ па заходняй частцы Полацкай нізіны, вусце на паўночнай ускраіне г. п. Шаркоўшчына. Асноўны прыток — Густатка (справа).

**КУЛЁК,** возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Шоша, за 37 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Завулак Рускі. Размешчана на забалочанай пойме (шырыня 50—100 м) ручая, які цячэ праз возера і ўпадае ў воз. Молена. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м.

**КУЛЁЎКА,** рака ў Свіслацкім р-не, правы прыток р. Рудаўка (бас. Зах. Буга), на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Баяры, вусце за 0,5 км на У ад вусця Друнеўкі. 1,5 км рэчышча ад вытоку каналізавана.

**КУ́ЛІК,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, правы прыток Сіпы (бас. Немана). Даўжыня 13,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Вострава, упадае ў Сіпу за 2,5 км на Пн ад в. Вялікія Азёркі.

**КУЛІКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,17 км.

У бас. р. Крывінка, на паўднёвай ускраіне г. Сянно. На Пн выцякае ручай у воз. Сянно.

**КУ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Тухавічы ў лясным урочышчы Яловая Града. Цячэ праз лес, упадае ў Шчару за 3,5 км на Пн ад воз. Выганашчанскае, у вусці Агінскага канала.

**КУЛЬШЫЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Слаўгарадскім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Даўжыня 0,52 км.
Найбольшая шырыня 0,41 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,47 км.
Пл. вадазбору 7 км$^2$.

У бас. р. Рэста, за 16 км на ПнЗ ад г. Слаўгарад, на Пн ад в. Кульшычы. Катлавіна возера рэшткавага тыпу, размешчана сярод балота, нарослага лесам. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя. Выцякае р. Хоцінка.

**КУМЕ́ЛІНА,** рака, гл. *Кямеліна.*

**КУ́НА,** рака ў Астравецкім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Віктасіна, упадае ў Ашмянку на Пд ад в. Керплашына. На ўсім працягу каналізаваная, прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КУ́НАСА,** канал у Стаўбцоўскім і Нясвіжскім р-нах, правы прыток Гавязнянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Андрушы, упадае ў Гавязнянку на заходняй ускраіне в. Пагарэлае.

**КУНІ́ЦА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.

У бас. р. Дрыса, за 20 км на Пн ад Полацка, за 3,6 км на У ад в. Сястрон-

кі. Схілы катлавіны слаба выражаны, на Пд вышынёй да 5 м, спадзістыя, пад лесам. На З і У забалочаная пойма шырынёй 100—150 м.

**КУПАЛЬНАЕ,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Свольна, за 37 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 1 км на Пн ад в. Любасна, за 3,5 км на У ад воз. Асвейскае. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, разараныя. На Пн і З забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. Выцякае ручай у канал Дзегцяроўка.

**КУПРЭЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Веткаўскім р-не, правы прыток р. Спонка (бас. Дняпра). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Касіцкая, упадае ў Спонку на паўднёвай ускраіне в. Тарасаўка.

**КУРАВІЧЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,7 км.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

У бас. р. Нежлеўка, за 20 км на ПдЗ ад Полацка, на паўднёва-ўсходняй ускраіне г. п. Ветрына. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м (на З да 3 км), пераважна пад хмызняком.

**КУРАКОЎКА,** рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Палуж (бас. Дняпра). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Горна, вусце на паўднёвай ускраіне в. Дуброўка. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. У ніжнім цячэнні мае назву Горанка.

**КУРАЎШЧЫНА,** возера ў Аршанскім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 1 м.**
**Даўжыня 2,13 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,31 км.**
**Аб'ём вады 0,14 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,02 км².**

У бас. р. Аршыца, за 17 км на Пн ад Оршы, каля в. Стайкі. Створана плацінай на невялікім ручаі ў пачатку 20 ст. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пераважна разараныя. Берагі вышынёй да 0,2 м, месцамі зліваюцца са схіламі, у паўднёвым заліве сплавінныя. Дно выслана сапрапелем. Зарастае па ўсёй плошчы пераважна падводнай расліннасцю, паўднёвая частка возера выслана сплавінай. Выцякае ручай у р. Міронаўка.

**КУРАЧОЎКА,** рака ў Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Ольса (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Буда, вусце на ўсходняй ускраіне в. Мацевічы. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,5 км (1,5 км на ПдЗ ад в. Людвікова — вусце).

**КУРГАНІСТАЕ,** возера ў Мёрскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Волта, за 13 км на ПдУ ад г. Мёры, за 2,5 км на Пд ад в. Сухавежа, на паўночнай ускраіне гідралагічнага заказніка Ельня на балоце Мох. Берагі тарфяністыя, забалочаныя. На возеры некалькі сплавінных астравоў.

**КУРДЗЕКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, левы прыток Сэрвачы (бас. Віліі). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Дзядкі, упадае ў Сэрвач за 2 км на ПдЗ ад в. Курдзекі.

**КУРМАНАВА,** вадасховішча ў Мсціслаўскім р-не.

**Пл. 0,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 2,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,34 км.**
**Аб'ём вады 1,08 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 73 км².**

Наліўное. У даліне р. Рамясцвянка за 27 км ад вусця, за 24 км на ПнЗ ад г. Мсціслаў, каля в. Курманава. Створана ў 1987 для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Ваганні ўзроўню на працягу года нязначныя.

**КУРНІКОЎСКАЯ КАНАВА,** меліярацыйны канал ў Жыткавіцкім р-не, левы прыток Рыбгаснага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Юркевічы, вусце за 2 км на Пн ад в. Лагвошчы.

**КУРНІЦА,** рака ў Брэсцкім р-не, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля в. Гутовічы, вусце каля паўночнай ускраіны в. Дружба. Рэчышча каналізаванае.

**КУРШЫНАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 0,5 км ад в. Куршынавічы, упадае ў Шчару за 1,5 км на ПдУ ад в. Нетчын.

**КУРЫНКА,** Бяляеўка, рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 45 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2‰.**

Пачынаецца за 4,5 км на ПнУ ад в. Бяляеўка, вусце на паўночнай ускраіне в. Чырвоны Бераг. Цячэ праз лясны масіў Чачэрскага паляўнічага заказніка, у нізоўі — па левабярэжнай пойме Сожа праз старычныя азёры Вілія і Вір.

**КУРЫНСКІ КАНАЛ,** канава Курынка, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Талька (бас. Дняпра). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад в. Залог Пяцігодкі, упадае ў Тальку за 2,5 км на ПнУ ад в. Суцін.

**КУРЫЦІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 35 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Бобрык, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Бабрэчча. У ніжнім цячэнні канал называецца Хейса. Прытокі справа — каналы Клясаўскі, Водападводзячы, Востраў.

**КУСТОВІЦКІ КАНАЛ,** Восаўцы, меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток канала Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Калонія, вусце за 1,5 км на У ад в. Мухаўлокі.

**КУТЫ,** гл. *Бярозавае возера.*

**КУХЦІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, левы прыток Іліі (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Рогавічы, упадае ў Ілію за 1 км на У ад в. Кухты. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**КУЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад воз. Выганашчанскае ў лясным урочышчы Кут, цячэ сярод лесу, упадае ў Шчару за 3,5 км на ПдУ ад в. Сельцы.

**КУЧЫНКА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток Выні (бас. Нёмана). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пд ад в. Свідзічы, упадае ў Выню на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Слабада-Кучынка. На ўсім працягу каналізаваная.

**КУШЛІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток Чарпакоўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца з канала на меліярацыйнай сістэме «Вярхоўе Ясельды» за 2,7 км на Пн ад в. Ліхачы, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Труханавічы.

**КЯМЕЛІНА,** Кумеліна, рака ў Астравецкім р-не, правы прыток Віліі. Даўжыня 8 км. Пачынаецца на ПнУ ад в. Кемелішкі, упадае ў Вілію на ПдЗ ад в. Даўнарышкі. На працягу 5,2 км ад вытоку каналізаваная.

**КЯПСНІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,23 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,6 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 19 км на ПнУ ад г. Браслаў, на Пд ад в. Кяпсні. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад хмызняком, паўночныя разараныя. На Пн і Пд часткова забалочаная пойма шырынёй ад 30 да 250 м.

**КЯРНЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Астравецкім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 5 км. Пачынаецца з р. Газоўка за 1 км на ПдУ ад в. Кярняны, упадае ў сажалкі рыбгаса каля в. Варняны.

**ЛАБЕ́ЙКА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,21 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 11,8 м.**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,08 км.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 15 км на Пн ад г. Міёры, каля вёсак Бабарыкі і Пруднікі. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, на Пд і Пн больш стромкія. Берагі зліваюцца са схіламі, участкі на ПдЗ і ПдУ нізкія, забалочаныя. На У выцякае ручай у р. Вята.

**ЛАБЖА́НКА,** Лобжа, рака ў Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 54 км.**
**Пл. вадазбору 489 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,1 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Недзведзь, вусце за 3 км на З ад в. Рудня. Цячэ ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, на астатнім працягу трапецападобная, глыбокаўрэзаная, шырынёй 1—1,2 км. Пойма двухбаковая, роўная, месцамі слабазабалочаная, адкрытая; яе шырыня 20—60 м у верхнім цячэнні і 200—500 м на астатнім працягу. Рэчышча каналізаванае на працягу 33,2 км: в. Судзілы — 1,2 км на ПдУ ад в. Рэут (26 км); в. Слабада — вусце (7,2 км). На іншых участках звілістае, свабодна меандруе. Берагі прыроднага рэчышча ўмерана стромкія. На рацэ г. Клімавічы.

**ЛАБУ́ЦЕЎСКАЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,48 км.**

У бас. р. Густатка, за 19 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Лабуцеўцы. Мясцовасць вакол возера пад хмызняком, на З і Пн забалочаная. На Пн невысокія задзернаваныя схілы.

**ЛАБЯ́НКА,** рака ў Пружанскім р-не, левы прыток Ружанкі (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Малочкі, упадае ў Ружанку на У ад в. Карасі. На працягу 2,5 км каналізаваная (ад в. Манчыкі да вусця).

**ЛА́ВІШЧА,** меліярацыйны канал у Магілёўскім р-не, правы прыток р. Лахва (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад в. Дабрасневічы, упадае ў Лахву за 2 км ніжэй вусця р. Лахвіца.

**ЛАВО́ША,** рака ў Лагойскім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Лавоша, вусце за 2 км на З ад в. Чабатары. Цячэ па лясістых паўночна-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша.

**ЛА́ВЫ,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнУ ад в. Лавы, вусце за 5 км на ПнУ ад в. Церабуты. Праходзіць па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЛА́ВЫ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток ручая Азёры (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Панкратавічы, упадае ў ручай Азёры за 1,5 км на Пд ад в. Ламбава.

**ЛАГАЗІ́НКА,** Лагозійка, рака ў Лагойскім р-не, правы прыток р. Гайна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Сялец, вусце на заходняй ускраіне в. Дабрынёва. Цячэ па Мінскім узвышшы. Рэчышча каналізаванае на працягу 6 км (ад в. Лагаза да вусця). На рацэ каля паўночнай ускраіны в. Лагаза плаціна і сажалка.

**ЛАГІ́,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,24 км$^2$.**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,2 км.**
**Пл. вадазбору 11,5 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 26 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Казімірова. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м, параслі хмызняком, месцамі ў верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі. На З упадае ручай з возера без назвы, на ПнУ выцякае ручай у р. Ушача.

**ЛАГІ́ШЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток Любяльпольскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПдЗ, вусце за 4,5 км на ПдУ ад г. п. Лагішын.

**ЛАГО́ЎКА,** рака ў Валожынскім і Стаўбцоўскім р-нах, правы прыток Вадзічанькі (бас. Нёмана). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца каля в. Забор'е Валожынскага р-на, упадае ў Вадзічаньку за 2,5 км на ПнЗ ад в. Пятрылавічы Стаўбцоўскага р-на. На ўсім працягу каналізаваная, у вярхоўі прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЛА́ДАСНА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,61 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13,7 м.**
**Даўжыня 1,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,71 км.**
**Аб'ём вады 3,45 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 41 км$^2$.**

У бас. р. Ладасна (выцякае з возера), за 18 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Мягелі. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, пад хмызняком (расце да ўрэзу вады), на З і ПнУ разараныя. Зона мелкаводдзя вузкая і стромкая, у канцавых частках возера (на Пд і Пн) больш шырокая, выслана пяскамі. З глыбіні 5—6 м ложа выслана ілам. Шырыня паласы прыбярэжнай рас-




Возера **Лабейка.**




Возера **Ладасна.**

лінасці да 10 м (на Пн і Пд да 60 м), падводнай — да глыбіні 2 м. Упадаюць 4 ручаі, у т. л. з азёр Кабак (на Пд) і Гарадзішча (на З).

**ЛАДЗЕЙНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, левы прыток р. Вераця (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Высокая Гара, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Жалезкі.

**ЛАЗДУНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Іўеўскім р-не.

Пл. 0,61 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,5 м.
Даўжыня 2,2 км.
Найбольшая шырыня 0,68 км.
Аб'ём вады 1,04 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 35 км$^2$.



Рака **Лабжанка** каля вёскі Рэут Клімавіцкага раёна.

На р. Гарача (басейн Чапунькі), за 13 км на ПнУ ад г. п. Іўе, каля в. Лаздуны. Створана ў 1973 для арашэння і рыбагадоўлі. Ваганні ўзроўню на працягу года да 2 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 5,31 млн. м$^3$.

**ЛАЗНЕЎКА,** рака ў Магілёўскім р-не, правы прыток р. Пална (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 40 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Халмы, вусце за 1 км на Пд ад в. Пална. Рэчышча каналізаванае на працягу 9,2 км (ад в. Новая Мілееўка да вусця).

**ЛАЗОЎКА,** рака, гл. *Вержбалоўка.*

**ЛАКАНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,1 м.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,34 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,24 км.
Аб'ём вады 0,29 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 0,75 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 6 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Матырына. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на У 6—8 м), на З невыразныя, парослыя хмызняком. Берагі сплавінныя, на Пн і У нізкія, пясчаныя. Пойма шырынёй 20—200 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно выслана ілам і сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2—2,3 м. Злучана ручаем з воз. Матырына.




1 — у воз. Матырына

Возера **Лаканец.**

**ЛАКНЕЯ,** рака ў Капыльскім і Слуцкім р-нах, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці).

Даўжыня 36 км.
Пл. вадазбору 274 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Сунаі Капыльскага р-на, вусце за 3 км на Пд ад г. Слуцк. Асноўны прыток — р. Вужанка (справа). Цячэ ў межах Слуцкай раўніны. Даліна добра выражаная, слабазвілістая, пераважна трапецападобная, шырынёй 1—1,5 км. Рэчышча каналізаванае, яго шырыня 4—7 м.

**ЛАКНІЦА,** ручай у Гродзенскім р-не, правы прыток Бярвенкі (бас. Нёмана). Даўжыня 2,1 км. Пачынаецца з воз. Лакно, упадае ў Бярвенку за 1,5 км на Пд ад в. Лакно. На ўсім працягу каналізаваны.

**ЛАКНО,** возера ў Гродзенскім р-не.

Пл. 0,45 км$^2$.
Даўжыня 1,75 км.
Найбольшая шырыня 0,34 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,2 км.

У бас. р. Бярвенка, за 27 км на У ад Гродна, каля в. Лакно. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на Пд да 2 м), параслі лесам, на З месцамі разараныя. Берагі на Пд нізкія, забалочаныя. Востраў пл. 0,3 га. Дно амаль поўнасцю (на 80 %) выслана сапрапелем, каля берагоў пясчанае. Злучана ручаём з воз. Можнева (на ПнУ), на Пд выцякае ручай Лакніца ў р. Бярвенка.

**ЛАКТЫШЫ,** вадасховішча ў Ганцавіцкім р-не.

Пл. 15,9 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,9 м.
Даўжыня 6 км.
Найбольшая шырыня 4,2 км.
Аб'ём вады 50,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 940 км$^2$.

У пойме р. Лань, за 20 км на У ад г. Ганцавічы, паміж вёскамі Лактышы і Будча. Створана ў 1977 для двухбаковага рэгулявання вільготнасці меліяраваных сельгасугоддзяў, водазабеспячэння рыбнай гаспадаркі «Лактышы». Катлавіна — частка забалочанай поймы. На працягу 9,8 км вадасховішча агароджана дамбай. Для сцёку ў вадасховішча вады з рэк Лань і Нача пабудаваны перапуск з шлюзам-рэгулятарам каля в. Лактышы. Дно плоскае, пераважна ілістае. Ваганні ўзроўню на працягу года да 2 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 118 млн. м$^3$.




Вадасховішча **Лактышы.**

**ЛАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток Заазерскай канавы (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Будча, вусце за 10 км на ПдУ ад в. Дзяніскавічы.

**ЛАНЦАВІЧЫ,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, левы прыток канала Нацкава (бас. Нёмана). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца каля в. Ланцавічы, упадае ў канал Нацкава за 2 км на ПнУ ад в. Пацавічы. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЛАНЬ,** рака ў Мінскай і Брэсцкай абл., левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 147 км.
Пл. вадазбору 2190 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 11,3 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.
Агульнае падзенне ракі 79,2 м.

Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Гарбуны Нясвіжскага р-на, цячэ ў межах Капыльскай грады і нізіны Прыпяцкае Палессе. Вусце за 2 км вышэй ад в. Моршчынавічы Лунінецкага р-на. Асноўныя прытокі: Нача, Люта (справа), Цапра, Балванка (злева). Даліна ў верхнім цячэнні скрынкапа-

добная (шырыня 1—1,5 км), на астатнім працягу невыразная. Пойма шырынёй 0,6—1 км, парэзаная меліярацыйнымі каналамі. Рэчышча каналізаванае, шырыня яго 4—8 м, у ніжнім цячэнні 15—20 м. На рацэ створана вадасховішча Лактышы, якое моцна ўплывае на гідралагічны рэжым ракі. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў красавіку, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем да рэгулявання ракі 1,5 м, найбольшая 1,9 м (1947) каля в. Лактышы. У летні перыяд рэжым узроўняў рэгулюецца шлюзамі. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 4 сутак. На рацэ г. Клецк.

**ЛАПАЦІШКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Воранаўскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Немана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля в. Падзітва, упадае ў Дзітву за 2 км на У ад в. Складанцы. Прымае сцек з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЛАПІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалеўскім р-не, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Радзеева, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Лапічы.

**ЛАПУХІ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,57 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

На водападзеле рэк Волта і Бярэжа, за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, на тэрыторыі гідралагічнага заказніка Ельня.

**ЛАПУХОВА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Галбіца, за 10 км на ПнУ ад г. Паставы, за 0,5 км на ПдУ ад в. Кадукі, сярод балота, парослага хмызняком. Схілы катлавіны невыразныя. Выцякае ручай у р. Паловіца.

**ЛАПУШЫНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Дрыса, за 20 км на ПдЗ ад г. п. Расоны, за 2,2 км на ПнУ ад в. Машніца, сярод лесу. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 100—150 м.

**ЛАСАСІНА,** рака ў Віцебскім і Лёзненскім р-нах, правы прыток р. Сухадроўка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 30 км.**
**Пл. вадазбору 158 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца на заходніх схілах Віцебскага ўзвышша з воз. Запецкае за 1,8 км на З ад в. Цішкава Віцебскага р-на, вусце за 0,3 км на Пн ад в. Буракі Лёзненскага р-на. Даліна пераважна трапецападобная, пойма шырынёй 200—600 м. Рэчышча ў ніжнім цячэнні моцназвілістае.

**ЛАСАСЯНКА,** рака, гл. *Ласосна.*

**ЛАСІНКА,** рака ў Краснапольскім р-не і Бранскай вобласці Расіі, правы прыток р. Дарагоўша (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 273 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Ласінка Краснапольскага р-на, вусце на ўскраіне в. Калюды Бранскай вобласці.

**ЛАСІНЦЫ,** ручай у Драгічынскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 22 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Вулька, вусце за 0,5 км на З ад в. Жабер. Рэчышча каналізаванае.

**ЛАСІЦА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 30 км.**
**Пл. вадазбору 160 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Турчына, цячэ па заходняй частцы Полацкай нізіны праз азёры Крывое і Ласіца. Вусце каля в. Якімаўцы.

**ЛАСІЦА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,46 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 1,44 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,5 км.**
**Аб'ём вады 1,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 108 км².**



**Рака Лань каля вёскі Мокрава Лунінецкага раёна.**



Рака **Лахва** каля вёскі Досава Сяліба Магілёўскага раёна.

У бас. р. Ласіца (цячэ праз возера), за 33 км на У ад г. Паставы, каля в. Казлоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 11—15 м, пад хмызняком, на У, ПдУ і ПдЗ разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Мелкаводдзе пясчанае. У цэнтры востраў пл. 0,2 га. Зарастае да глыбіні 2,2 м пераважна падводнай расліннасцю.

**ЛА́СІЦА,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,07 км².
Даўжыня 0,41 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.

У бас. р. Ласіца, за 36 км на З ад г. Паставы, паміж вёскамі Ласіца і Ваўкі. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, разараныя. Берагі забалочаныя. Вакол возера пойма шырынёй 50—100 м, парослая хмызняком. Праз возера цячэ р. Ласіца (да ўпадзення называецца Турчанка).

**ЛАСКАГО́ЎКА,** рака ў Расонскім р-не, левы прыток р. Свольна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 3,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Роўнае Поле, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Маторына. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛАСО́СНА,** Ласасянка, рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 46 км.
Пл. вадазбору 468 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,8 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца ў Польшчы, непадалёку ад в. Брузгі перасякае дзяржаўную граніцу, упадае ў Нёман на заходняй ускраіне Гродна. Асноўныя прытокі на Беларусі — Каменка (справа) і Татарка (злева). Даліна выразная. Пойма перарывістая, у верхнім цячэнні адкрытая, шырынёй 50—150 м. Рэчышча звілістае, яго шырыня ў межань ад 5—10 м у верхнім і сярэднім цячэнні, да 20—25 м у ніжнім. На рацэ ў нізоўі створана вадасховішча Юбілейнае возера, каля в. Каробчыцы — 2 сажалкі.

**ЛАСО́СНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,25 км².
Даўжыня 1,05 км.
Найбольшая шырыня 0,62 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,77 км.

У бас. р. Свіна (цячэ праз возера), за 45 км на ПнУ ад г. Полацк, каля в. Быхаўцы. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пераважна пад хмызняком.

**ЛА́СТАВІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** Ластавец, у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,2 км².
Даўжыня 1,12 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.
Пл. вадазбору 7,25 км².

У бас. р. Бярозаўка, за 4 км на ПдУ ад г. Глыбокае, каля в. Ластавічы. Схілы катлавіны вышынёй ад 10 м на У да 20 м на З, у верхняй частцы разараныя, на Пн пад хмызняком. На Пн выцякае ручай у возера без назвы.

**ЛАСТАЯ́НКА,** Вішнёўка, рака на мяжы Ашмянскага, Смаргонскага і Валожынскага р-наў, правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 157 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Загарняты Ашмянскага р-на, цячэ па паўднёвай ускраіне Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Бярэзіну на ўскраіне в. Падбярэзь Валожынскага р-на. Асноўны прыток — р. Слабодка.

**ЛАТКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

Пл. 0,11 км².
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.
Пл. вадазбору 3,32 км².

У бас. р. Будавесць (левы прыток Обалі), за 12 км на З ад г. п. Шуміліна, каля в. Латкова. Схілы катлавіны вышынёй 3 м, разараныя. Злучана ручаём з р. Будавесць.

**ЛАЎЖА́НСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Шумілінскім р-не.

Пл. 0,23 км².
Найбольшая глыбіня 9,5 м.
Даўжыня 0,54 км.
Найбольшая шырыня 0,42 км.
Аб'ём вады 1,15 млн. м³.

Наліўное. Створана ў 1984 на левабярэжнай пойме р. Обаль, за 12 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Маргі для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Берагі пакатыя. Напаўняецца вадой помпамі з р. Обаль. Ваганні ўзроўню на працягу года 4,75 м.

**ЛАЎКІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Міёрскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Канахі, упадае ў воз. Кацілава з ПдУ за 0,7 км на Пд ад в. Кацілава.

**ЛА́ЎЛЯ,** рака ў Смалявіцкім р-не, левы прыток р. Пліса (бас. Дняпра). Даўжыня 4,7 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны п. Дарожны, вусце ў межах в. Лаўля. Рэчышча каналізаванае.

**ЛА́ЎРЫХА,** рака, гл. Смычыца.

**ЛАХАЗВА́,** рака ў Баранавіцкім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана).

Даўжыня 29 км.
Пл. вадазбору 335 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Дзекалы, упадае ў Шчару на Пд ад в. Падгорная. Цячэ па лясістай мясцовасці, у вярхоўі праз воз. Хаткі. Асноўны прыток — р. Дзеравянка. Ніжэй упадзення Дзеравянкі ў Лахазву, у маляўнічай мясціне вадасховішча Гаць.

**ЛАХВА́,** рака ў Шклоўскім, Магілёўскім і Быхаўскім р-нах, правы прыток Дняпра.

Даўжыня 90 км.
Пл. вадазбору 731 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,4 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Старая Вадва Шклоўскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Залахвенне Быхаўскага р-на. Асноўныя прытокі: Лахвіца, Жыварэзка, Праціўніца (справа). Цячэ пераважна на Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырыня яе 0,5—0,8 км у верхнім цячэнні, 1—1,5 км у ніжнім. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія, вышынёй 10—25 м. Пойма двухбаковая (шырыня 0,4—0,6 км), слабаперасечаная. Рэчышча каналізаванае на 3 участках у Магілёўскім р-не: 2 км на ПнУ ад в. Селішча — 0,8 км на З ад в. Лужкі 2-я (2,2 км); 1,2 км на Пд ад в. Лахва — в. Нізкая Вуліца (6 км); 2 км на ПдУ ад в. Ямніца — мост на аўтадарозе Магілёў — Бабруйск (14 км). На астатнім працягу рэчышча звілістае, шырыня яго 15—20 м, месцамі да 40 м. Берагі вышынёй 0,5—1 м, у ніжнім цячэнні да 2 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, найбольшая




Возера **Ласіца.**

вышыня над межанным узроўнем да 2,2 м у ніжнім цячэнні. На рацэ зона адпачынку Лахва.

**ЛАХВІЦА,** рака ў Бялыніцкім і Магілёўскім р-нах, правы прыток р. Лахва (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 75 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ермалавічы Бялыніцкага р-на, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад в. Савасцяновічы Магілёўскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,5 км (выток — 0,6 км ніжэй моста каля паўднёвай ускраіны в. Ермалавічы). На рацэ каля в. Мікіцінічы Магілёўскага р-на плаціна і сажалка (пл. 12 га).

**ЛАШАНКА,** рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 143 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца на ўсходніх схілах Гродзенскага ўзвышша каля в. Баранава, упадае ў Свіслач на У ад в. Сухая Даліна. У верхнім цячэнні называецца Лікаўка. Асноўныя прытокі — Баярка, Баранава.

**ЛАШАНКА,** меліярацыйны канал у Свіслацкім р-не, правы прыток р. Калонка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца каля в. Агароднікі, вусце паміж вёскамі Вялікія і Малыя Міхалкі.

**ЛАШАНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Уздзенскім р-не.

**Пл. 3,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 1,8 км.**
**Аб'ём вады 5,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 90 км².**

На р. Лоша, за 12 км на ПдУ ад г. п. Узда, паміж вёскамі Лоша, Крывялі, Баравыя, Сенажаткі. Створана ў 1967 для абваднення глебы і рыбагадоўлі. Катлавіна — частка забалочанай поймы Лошы. Берагі спадзістыя, дно роўнае, пераважна тарфянае, месцамі пясчанае. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,5 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 12,9 млн. м³. Часткова зарастае. Месца адпачынку.



Лашанскае вадасховішча.


Лашанскае вадасховішча.

**ЛЕБЯДА,** рака ў Шчучынскім і Мастоўскім р-нах, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 67 км.**
**Пл. вадазбору 791 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Калечыцы Шчучынскага р-на, цячэ па Лідскай раўніне. Асноўныя прытокі: Жужма, Касцянёўка, Жалудзянка, Шкардзянка, Вялікая Лябёдка, Вавёрка, Голдаўка. У верхнім цячэнні называецца Лябёдка. Даліна трапецападобная, у нізоўі месцамі невыразная. Пойма нізкая, двухбаковая, большай часткай забалочаная; шырыня яе 500—700 м. Рэчышча звілістае. Яго шырыня ў межань да вусця Вялікай Лябёдкі 8—12 м, ніжэй 15—25 м. Берагі стромкія і абрывістыя. На працягу 20,4 км рэчышча каналізаванае: ад в. Русанаўцы да в. Збражкі (7,9 км) і ад в. Васілішкі да в. Малое Мажэйкава (12,5 км). У пойме меліярацыйныя каналы.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА,** рака ў Горацкім р-не, правы прыток р. Быстрая (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 67 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Андзекалава, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Паляшчыцы. Цячэ па паўднёвых схілах Смаленскага ўзвышша. Рэчышча ў вярхоўі каналізаванае.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА,** возера ў Жлобінскім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 1,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**

У бас. Дняпра, за 3 км на Пн ад г. Жлобін, каля в. Лебядзёўка. Упадае ручай з воз. Буйнякава. Старычнае, разгалінаванае на залівы.

**ЛЕБЯДЗІНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Дрыса, за 31 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на ПнУ ад в. Шчаперня, за 0,14 км на З ад воз. Страдань. Схілы катлавіны не выражаны. Размешчана сярод балота. На возеры 2 астравы пл. па 0,1 га.

**ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Дрыса, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на ПнУ ад в. Шчаперня. Схілы катлавіны не выражаны. Размешчана сярод балота, парослага кустамі.

**ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Дрыса, за 36 км на ПнУ ад Полацка, за 3,2 км на Пд ад в. Рудня Дварышчанскага сельсавета Расонскага р-на. Схілы катлавіны спадзістыя, вышынёй да 2 м, пад лесам. На Пд балота Лебядзіны Мох.

**ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,31 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,72 км.**

У бас. р. Волта, за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, за 5,5 км на ПдУ ад в. Сухавежа, у гідралагічным заказніку Ельня на балоце Мох. Берагі тарфяністыя, забалочаныя. Злучана канавамі з азёрамі Белае і Вялікае.

**ЛЕБЯЖОДА,** рака, гл. *Ашмянка.*

**ЛЕВАБЯРЭЖНЫ ПРЫДАМБАВЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток р. Тарасіца (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца з р. Брагінка (Ніжняя Брагінка) за 3,5 км на ПдУ ад в. Чыкалавічы, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Скароднае.

**ЛЕВАНОВА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 18 км.**

У бас. р. Абалянка, за 13 км на У ад г. Сянно, за 1 км на ПнЗ ад в. Адамава. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, парослі хмызняком, на У — лесам, месцамі на Пд і Пн разараныя. Берагі пераважна нізкія, на Пн і Пд зліваюцца са схіламі.

Рака **Левая Лясная** каля вёскі Воля Камянецкага раёна.

**ЛЕ́ВАЯ ЛЯСНА́Я,** рака ў Пружанскім і Камянецкім р-нах (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 50 км.**
**Пл. вадазбору 750 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Мыльнік (Пружанскі р-н), вусце за 0,5 км на У ад в. Вугляны (Камянецкі р-н). Зліваючыся з р. Правая Лясная, утварае р. Лясная. Цячэ па Прыбугскай раўніне. Асноўны прыток р. Вішня (справа). Рэчышча каналізаванае, шырыня яго 6—8 м, у ніжнім цячэнні месцамі да 20 м. Берагі нізкія, вышынёй 0,3—0,5 м, параслі хмызняком. Даліна ракі шырынёй 1,6—2,5 км, у сярэднім цячэнні месцамі невыразная; схілы спадзістыя, вышынёй 7—9 м, парэзаныя ручаямі, лагчынамі і канавамі. Пойма нізкая, забалочаная (шырыня 0,3—0,5 км), перасечаная старыцамі і асушальнымі каналамі. У разводдзе затапляецца вадой на глыбіню да 0,6 м на 15—30 сутак.

**ЛЕ́ВЫ ВАБІ́Ч,** рака, гл. *Чарнаводка*.

**ЛЕЗВІ́НКА,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,5 м.**
**Даўжыня 0,59 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.**
**Аб'ём вады 0,13 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 10,2 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 16 км на Пд ад г. п. Шуміліна, на ПнЗ ад в. Іваніна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на ПнЗ да 12 м), разараныя, на Пн пад лесам. Берагі нізкія, пераважна сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Зарастае па ўсёй плошчы. У возеры расце вадзяны арэх — рэдкі від флоры Беларусі, занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Злучана ручаём з воз. Гародна, на ПнУ выцякае ручай у Зах. Дзвіну.

**ЛЕ́ЛІКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток Арэхаўскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 2 км на Пд, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Лелікава.

**ЛЕ́НА,** рака ў Чэрыкаўскім і Крычаўскім р-нах, левы прыток р. Яленка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Дарагая Крычаўскага р-на, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Халоблін Чэрыкаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 7 км (ад вытоку да в. Халоблін).

**ЛЕНАВЕ́Ц,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Ловаць, за 38 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1,5 км на З ад в. Кавярзы, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, на Пд невыразныя, уздоўж заходняга берага озавыя грады.

**ЛЕНІНДА́РСКІ КАНА́Л,** рака, гл. *Лук'янаўка*.

**ЛЕ́НІНСКІ КАНА́Л,** імя Леніна канал, меліярацыйны канал у Шклоўскім р-не, левы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Заціша, упадае ў Вабіч за 1 км на ПдЗ ад в. Вабічы.

**ЛЕНЬ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 26 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Рудзі. Вакол возера балота, на Пд забалочаны лес.

**ЛЕНЬ,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім і Калінкавіцкім р-нах, правы прыток канала Ізбынька (бас. Прыпяці). Даўжыня 22 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Зашчоб'е, вусце за 4,5 км на ПдУ ад в. Муціжар.

**ЛЕ́ПЕЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Лепель, у Лепельскім р-не.

**Пл. 10,18 км².**
**Найбольшая глыбіня 33,7 м.**
**Даўжыня 7,57 км.**
**Найбольшая шырыня 2,03 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 39,6 км.**
**Аб'ём вады 74,7 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1280 км².**

У бас. р. Ула (выцякае з возера), на паўночнай ускраіне г. Лепель. Катлавіна падзяляецца на 3 часткі, якія маюць мясцовыя назвы: паўночная — Кусцінскае возера (глыбіня 23 м), паўднёвая — Гарадское возера (19,5 м), усходняя — Белае возера (33,7 м). Схілы катлавіны на Пд і ПдУ і месцамі на З вышынёй да 25 м, з асыпкамі і апоўзнямі, месцамі задзернаваныя; астатнія вышынёй каля 10 м, пад пасевамі, на У пад лесам. Шмат заліваў і паўастравоў. Берагі нізкія, задзернаваныя, месцамі пад хмызняком, на Пд і ПдУ зліваюцца са схіламі, участкамі абразійныя. У 1958, калі на р. Ула была пабудавана Лепельская ГЭС, узровень возера падняты прыкладна на 4 м, што істотна змяніла яго гідралагічны рэжым і канфігурацыю берагавой лініі. Падводная частка катлавіны ўскладнена шматлікімі мелямі на месцы былых астравоў і упадзінамі. Дно да глыбіні 7—7,5 м выслана пяскамі, глыбей сапрапелямі. Прыбярэжная расліннасць утварае паласу шырынёй ад 3 м да 300 м, зрэджаную каля абразійных берагоў. Упадаюць р. Эса (на Пд) і р. Зеха (на Пн). У возеры вельмі багаты жывельны свет. Выкарыстоўваецца для адпачынку і ў аздараўленчых мэтах (на беразе дзіцячы санаторый).

**ЛЕПЯСО́ЎКА,** рака ў Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 1,6 км на ПнУ ад в. Навасёлкі (Тэвельскі сельсавет), вусце каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Вялікія Лепясы. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЕПЯСО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток Луцэвіцкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,4 км на ПдЗ ад в. Бяроза, вусце за 1 км на Пн ад в. Луцэвічы.

**ЛЕ́САВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,91 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**
**Даўжыня 2,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,81 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,26 км.**
**Аб'ём вады 1,72 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 120 км².**



Лепельскае возера.

У бас. р. Нача, за 28 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Лесава. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м (на ПнУ 4—5 м), разараныя, на ПдУ стромкія, параслі лесам. Берагі нізкія, пад хмызняком. Катлавіна складаецца з паўночнага плёса (дно плоскае, ёсць востраў пл. 0,06 км²) і паўднёвага. Дно да глыбіні 1 м выслана пяском і ілам, ніжэй — сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2—2,6 м (найбольш паўночная частка). Упадаюць р. Быстрыца (злучае яго з воз. Нявіда), на Пн злучана пратокай з воз. Забеліна.

**ЛЕСАВАЯ РЭЧКА,** рака ў Столінскім р-не, левы прыток р. Маства (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 6 км на ПнУ ад в. Вялікія Віктаравічы, вусце за 6 км на ПдУ ад в. Хотамель. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці, рэчышча часткова каналізаванае.




Возера **Лешна** (Ушацкі раён).

**ЛЕСКАВІЧЫ,** возера ў Шуміліне́кім р-не.

Пл. 0,72 км².
Найбольшая глыбіня 30,7 м.
Даўжыня 2,78 км.
Найбольшая шырыня 0,75 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,2 км.
Аб'ём вады 4,83 млн. м³.
Пл. вадазбору 6,2 км².

У бас. р. Сечна, за 5 км на Пд ад г. п. Шуміліна, каля в. Лескавічы. Схілы катлавіны вышынёй 20—22 м (на Пн і З 14—15 м), параслі хмызняком, на Пн разараныя. У паўднёва-ўсходняй частцы 2 вузкія залівы. Берагі зліваюцца са схіламі, на З нізкія, забалочаныя. Найбольш глыбакаводная паўночная частка возера, у залівах глыбіня не больш за 5—6 м. Дно выслана ілам, уздоўж берагоў пясчанае. Празрыстасць вады вельмі нізкая (0,5 м), з глыбіні 14 м знікае кісларод. Зарастае слаба, шырыня паласы расліннасці 10—50 м. З Пд упадаюць ручаі з воз. Разван і возера без назвы, на ПнЗ злучана пратокай з воз. Круглік.

**ЛЕСНІКОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лідскім р-не, правы прыток Голдаўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Леснікі, упадае ў Голдаўку за 1 км на У ад в. Вялікае Сяло.

**ЛЕСНІЦА,** рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток Гожкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 32 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Вярхполле, упадае ў Гожку на ўскраіне в. Гожа. Ад вытоку на працягу 4 км каналізаваная.

**ЛЕТНЯЕ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,03 км².
Даўжыня 0,38 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Обаль, за 39 км на ПнУ ад Полацка, за 7,5 км на Пд ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 7 м, пад лесам і хмызняком. Упадае ручай з воз. Глыбокае, выцякае ручай у воз. Красамай.

**ЛЕШАВА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,28 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 17 км на У ад г. п. Ушачы, за 600 м на ПнЗ ад в. Загор'е, на забалочанай пойме Чарсцвяцкага возера, з якім на Пн, У і Пд мае агульны схіл вышынёй да 15 м. У разводдзе азёры праз пойму злучаюцца.

**ЛЕШВА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,29 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.

У бас. р. Ушача, за 7 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Банькава, за 200 м на У ад воз. Матырына, сярод лесу. На З аддзелена ад воз. Матырына ўзгоркамі вышынёй 5 м. З Пд і часткова ўздоўж берага забалочаны лес.

**ЛЕШКАЎСКІ КАНАЛ,** Магіст-



Лепельскае возера.

ральны канал, меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Жыгулянка (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 4 км на У ад п. Бронная Гара, вусце за 2 км ад в. Старыя Пескі.

**ЛЕШНА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,3 км².**
**Найбольшая глыбіня 11,8 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 28 км на У ад г. п. Ушачы, на 3 ад в. Любжына. Схілы катлавіны вышынёй 3 м (на ПнЗ, З і ПдЗ да 18 м), пад лесам, на У і Пн пад хмызняком. Злучана пратокай з воз. Жэнна.

**ЛЕШНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,77 км.**

У бас. р. Палата, за 40 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на ПдЗ ад чыг. ст. Алёшча. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, параслі лесам. Берагі месцамі забалочаныя, пад хмызняком. Востраў пл. 0,8 га. На ПдУ выцякае р. Лешніца.

**ЛЕШНА,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 0,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Ула, за 20 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Бортнікі 1-я. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, параслі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі. На ПдУ упадае ручай з воз. Плацішна, на Пн выцякае ручай у воз. Калодна.

**ЛЕШНА,** возера, гл. *Сосна.*

**ЛЕШНЕНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Мазырскім р-не.

**Пл. 0,64 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Аб'ём вады 1,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 52 км².**

У пойме рэк Руднянка і Лешня, за 28 км на З ад Мазыра, каля в. Лешня. Створана ў 1978 для арашэння, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 4,2 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 6,3 млн. м³.

**ЛЕШНЯ,** рака ў Расонскім і Верхнядзвінскім р-нах, левы прыток р. Свольна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 40 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца за 1,4 км на ПдУ ад в. Роўнае Поле Расонскага р-на, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Лешня Верхнядзвінскага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛЕШНЯ,** Алешкі, рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток р. Басі (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Новае Займішча, вусце на паўночна-ўсходняй ускраіне в. Новае Вільянава. Рэчышча каналізаванае на працягу 2,9 км (ад вытоку да ўсходняй ускраіны в. Старое Займішча).

**ЛЕШНЯ,** меліярацыйны канал у Камянецкім і Брэсцкім р-нах, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Лешня (Камянецкі р-н), вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Холмічы (Брэсцкі р-н).

**ЛЕШЧА,** рака ў Шклоўскім і Аршанскім р-нах, левы прыток р. Днепр.

**Даўжыня 33 км.**
**Пл. вадазбору 191 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,2 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Акунёўка Шклоўскага р-на, вусце ў межах в. Зорная Аршанскага р-на. Цячэ на паўночнай ускраіне Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна ў вярхоўі невыразная, у сярэднім і ніжнім цячэнні скрынкападобная, шырынёй ад 0,2 да 1 км. Схілы парэзаны ярамі. Пойма двухбаковая, высокая, сухая. Рэчышча каналізаванае на працягу 20 км (ад вытоку да в. Лешча Шклоўскага р-на), ніжэй звілістае; шырыня яго ў ніжнім цячэнні 5—6 м. Берагі ў верхнім і сярэднім цячэнні ўмерана стромкія і стромкія, у ніжнім — абрывістыя.

**ЛЕШЧАНКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Плісы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 25 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Гердаўка, упадае ў Плісу на ўскраіне в. Зенявічы. Рэчышча каналізаванае ад вытоку да в. Трасцянка (2,8 км) і ад в. Біцавічы ўніз па цячэнні на працягу 0,8 км.

**ЛЕШЧЫНКА,** Лешынка, рака ў Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Уса (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Кадзішча, вусце за 1 км на Пд ад в. Анаполле. Рэчышча каналізаванае на працягу 3,5 км (ад вытоку да в. Кораб).

**ЛЕТЦЫ,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 37 м.**
**Даўжыня 1,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,01 км.**
**Аб'ём вады 0,84 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 28,9 км².**

У бас. р. Шэвінка, за 14 км на З ад Віцебска, каля в. Вялікія Летцы. Схілы катлавіны вышынёй 25—30 м, параслі хмызняком, паўночна-заходні схіл у ніжняй частцы разараны. Бера-



Возера Лескавічы.



Возера Лешна (Бешанковіцкі раён).

гі зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе да 2 м выслана пяском, глыбей пашыраны іл. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 5—20 м да глыбіні 1 м. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 2,4 м. Праз возера цячэ р. Вужніца. Уваходзіць у зону адпачынку Астроўна-Лётцы.

**ЛІБЕ́НЬ,** возера ў Столінскім р-не. Пл. 0,13 км². У бас. р. Прыпяць, за 7 км на ПдУ ад г. Столін, за 1,5 км на Пн ад в. Узляжжа. Уяўляе сабой азёрападобнае расшырэнне ручая паміж рэкамі Льва і Лесавая Рэчка.



Возера **Лётцы.**



Возера **Лінка.**



**Возера Ліпна (Сенненскі раён).**

**ЛІБЯРПО́ЛЬ,** вадасховішча ў Пружанскім р-не.

**Пл. 0,29 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,4 м.**
**Даўжыня 3,1 км.**
**Найбольшая шырыня 2,2 км.**
**Аб'ём вады 4,15 млн. м³.**

На каналізаваным участку р. Цемра, за 28 км на ПнУ ад г. Пружаны, за 0,5 км на З ад х. Лібярполь. Створана ў 1974 для арашэння зямель і рыбагадоўлі.

**ЛІВА́НКА,** Л і в я н к а, рака ў Дзяржынскім і Стаўбцоўскім р-нах, левы прыток Волкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 58 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца ў лесе на У ад в. Ліўе, упадае ў Волку на ПнУ ад в. Навасёлле. На працягу 7,1 км каналізаваная (за 1,2 км на ПдЗ ад в. Ліўе да вусця).

**ЛІДЗЕ́Я,** Л і д а, Л і д з е й к а, рака ў Лідскім р-не, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 167 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,2 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Верхняя Ліда, упадае ў Дзітву за 1 км на У ад в. Даржы. Асноўны прыток — р. Нарва. Даліна ад вытоку да Лайкоўшчыны выразная, шырыня яе 1—2 км. Пойма перарывістая (шырыня ў асноўным 0,5—0,8 км), ніжэй в. Навапрудцы і да вусця парэзана меліярацыйнымі каналамі. Рэчышча на працягу 20 км каналізаванае: ад вытоку да сажалкі (пл. 0,6 км²) у г. Ліда (6 км) і ад в. Навіцкія да вусця (14 км); яго шырыня 6—12 м. Берагі спадзістыя.

**ЛІ́ДНІЦА,** Л ы д н і ц а, рака ў Глыбоцкім р-не, правы прыток р. Чысцянка (бас. Зах. Дзвіны). Паводле некаторых даведнікаў лічыцца верхнім цячэннем Чысцянкі. Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ ад в. Слабада, вусце за 6 км на У ад в. Быкаўшчына. Рэчышча ад вытоку на працягу 9,5 км каналізаванае. Сярэдняе і ніжняе цячэнне ракі ў лясістай, месцамі забалочанай мясцовасці.

**ЛІКО́ЎКА,** назва р. *Лашанка* ў верхнім цячэнні.

**ЛІ́МНА,** рака ў Аршанскім і Горацкім р-нах, правы прыток р. Бася (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 62 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Казловічы 2-я Аршанскага р-на, вусце за 1 км на Пд ад в. Бася Горацкага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ЛІМНІЧА́НКА,** Л я м н і ч а н к а, рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Рафалава, вусце за 2 км на З ад в. Лямніца. Рэчышча каналізаванае на працягу 1,2 км ад вытоку і на працягу 1,7 км каля в. Рафалава.

**ЛІНЕ́Ц,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 19 км на У ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПнУ ад в. Загор'е, сярод балота. Берагі спадзістыя. Зарастае.

**ЛІНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на ПдУ ад в. Марыніца Расонскага р-на. Схілы катлавіны не выражаны. Размешчана сярод забалочанага лесу, на З — балота. Выцякае ручай у р. Марынец.

**ЛІНЗА́Ў РОЎ,** Л і н з і н р о ў, рака ў Карэліцкім р-не, левы прыток Цятранкі (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Некрашэвічы, упадае ў Цятранку за 2 км на ПнУ ад в. Крышылоўшчына. На ўсім працягу каналізаваная. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў на ўчастках торфараспрацовак.

**ЛІ́НІНКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 22 км на У ад г. Браслаў, за 1,2 км на ПнУ ад в. Карасіна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя, з заходняга боку лес. Пойма забалочаная, шырынёй 50—150 м. Выцякае ручай у воз. Рычы.

**ЛІ́НКА,** Л і н а, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 26 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, на Пн ад в. Краснае. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, пераважна разараныя, на У да 3 м, пад хмызняком.

**ЛІ́ННЕ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,08 км².**
**Даўжыня 0,48 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Ушача, за 9 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1 км на ПнУ ад в. Матырына, за 1 км на Пн ад воз. Матырына. Акружана забалочаным лугам, парослым хмызняком.

**ЛІНО́К,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**



Каналізаваны ўчастак ракі Ліпа ў Буда-Кашалёўскім раёне.

Найбольшая шырыня 0,14 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.

У бас. р. Друйка, за 16 км на ПнУ ад Браслава, за 1,25 км на ПнУ ад в. Сутуроўшына, за 0,6 км на ПдЗ ад воз. Опліса. Схілы катлавіны спадзістыя, вышынёй 5—7 м, разараныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—150 м. Сцёк у ручай Плесавіца.

**ЛІПА,** рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 62 км.
Пл. вадазбору 577 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Вуглы Рагачоўскага р-на, упадае ў р. Сож на ПдУ ад в. Андрэеўка. Найбольшыя прытокі — р. Гліна і Прудоўка (злева). Цячэ ў межах Прыдняпроўскай нізіны. Даліна пераважна трапецападобная, шырыня яе да 1 км у вярхоўі і да 3,5 км у сярэднім і ніжнім цячэнні. Схілы на вялікім працягу адкрытыя, вышынёй 6—10 м. Пойма ў вярхоўі перарывістая, вузкая, у сярэднім і ніжнім цячэнні двухбаковая, шырынёй ад 0,5 км да 3 км. Рэчышча на працягу 36 км каналізаванае: выток — мост у в. Любавін (8,5 км), 1 км на Пн ад в. Кастрышча — 1 км на ПдУ ад в. Дубовіца (27,5 км). На астатнім працягу звілістае, шырынёй 8—10 м. Рака прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЛІПАЛАЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,35 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.
Аб'ём вады 0,3 млн. м$^3$.

У бас. р. Маруга, за 40 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Ліпалаты. Схілы катлавіны спадзістыя, пераважна разараныя. Дно выслана ілам. Уздоўж берагоў слаба зарастае аерам. На У выцякае ручай у р. Маруга.

**ЛІПАЎКА,** рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Малыш (бас. Дняпра).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 111 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне ўрочышча Балота Мохавае, за 4 км на ПнЗ ад в. Барсукі, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Падзевічы. У вярхоўі цячэ пераважна сярод забалочанага лесу. Каля в. Заполле ў сутоках з ручаем Малуша плаціна і сажалка (пл. 12,7 га).

**ЛІПАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток Светлагорскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 11,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Ліпаў, упадае ў Светлагорскі канал за 2,6 км на У ад в. Гогалеў.

**ЛІПАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток Нізінскага канала (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Мікалаева, вусце за 0,5 км на ПнЗ ад в. Запруддзе.

**ЛІПЕНКА,** рака ў Ашмянскім р-не, левы прыток Галянкі (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля в. Гінеўцы, упадае ў Галянку на У ад в. Сніпаўшчына. На ўсім працягу каналізаваная.

**ЛІПІЧЫНСКІ КАНАЛ,** у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Косаўскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца ў лясным урочышчы Ліпічы, за 7 км на Пд ад в. Магіліца, упадае ў Косаўскі канал за 4 км на ПнУ ад в. Гічыцы.

**ЛІПНА,** возера ў Сенненскім р-не.

Пл. 1,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,8 м.
Даўжыня 3,88 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,95 км.
Аб'ём вады 3,78 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 40 км$^2$.

У бас. р. Чарнагосніца, за 17 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Ходцы. Паўночна-ўсходнія схілы катлавіны вышынёй 20—35 м (паўднёва-заходнія 10—20 м), тэрасаваныя, парэзаныя ярамі глыбінёй 4—6 м, парослі густым хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, у канцавых частках возера вышыня іх да 0,2 м, пад хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае. 4 астравы агульнай пл. 2,9 га, у паўночнай частцы возера мелі. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 5—30 м да глыбіні 1,5—2,5 м. На ПнЗ выцякае ручай у воз. Ходцы, на схілах адзначаны крыніцы.

**ЛІПНА,** возера на мяжы Ушацкага і Лепельскага р-наў.

Пл. 1,14 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 19,7 м.
Даўжыня 2,9 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,3 км.
Аб'ём вады 7,28 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 147 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Заводзіна.




Возера Ліпна (Ушацкі раён).




Возера Ліпна (Ушацкі раён).

Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 15—18 м, параслі лесам і хмызняком, на Пд і ПнЗ да возера прымыкаюць балотныя масівы. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, на Пд і ПнЗ забалочаныя. Дно возера мае некалькі ўпадзін (па адной восі) глыбінёй 10—15 м. Востраў пл. 0,3 га. Мелкаводдзе пясчанае, астатняя частка ложа выслана ілам. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 5 м, месцамі ў залівах да 30 м. Возера на Пд злучана пратокай з воз. Цеменіца, на ПнЗ сцек па канале ў воз. Атолава.

**ЛІПНІКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Рудзянка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,3 км. Пачынаецца з р. Іпа за 2,5 км на Пд ад в. Селішчы Казлоўскага сельсавета, вусце за 2,7 км на ПнУ ад в. Ліпнікі.

**ЛІПНІКІ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 5,7 км на Пн ад в. Ліпнікі, вусце за 0,5 км на У ад в. Забараўцы. Прытокі — каналы Гарошкаўскі і Плоскі (злева), Рудня (справа).

**ЛІПНІЦКІ КАНАЛ,** гл. *Гарошкаўскі канал.*

**ЛІПНЯНКА,** рака ў Ляхавіцкім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана).

**Даўжыня 20,5 км.**
**Пл. вадазбору 118 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Бенькаўцы, упадае ў Шчару на У ад в. Залужжа. На ўсім працягу каналізаваная.




Лісіцкае возера.

**ЛІСА,** рака ў Глускім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 23,8 км.**
**Пл. вадазбору 214 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Фартуны Бабруйскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Засценак Усцярхі. Асноўны прыток — р. Чаромуха (злева). Рэчышча каналізаванае.

**ЛІСІЦКАЕ ВОЗЕРА,** Лісіца, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,85 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,1 м.**
**Даўжыня 1,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,67 км.**
**Аб'ём вады 2,28 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,25 км$^2$.**

У бас. р. Лучайка, за 18 км на У ад г. Паставы, каля в. Лучай. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, разараныя. Дно мае плаўны нахіл да цэнтра, мелкаводдзе пясчанае, глыбей выслана ілам. Зарастае каля 20 % пл. возера да глыбіні 1,5 м. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 85 м, месцамі адсутнічае. На З выцякае ручай у воз. Лучай.

**ЛІСІЧАНСКАЕ,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Сар'янка, за 28 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, за 2,2 км на ПнЗ ад в. Мотужы. Схілы вышынёй 5—7 м, пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—75 м. Выцякае ручай у р. Тоўша.

**ЛІСНА,** возера на мяжы Верхнядзвінскага і Расонскага р-наў.

**Пл. 15,71 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 7,8 км.**
**Найбольшая шырыня 3,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 25,3 км.**
**Аб'ём вады 40,3 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 943 км$^2$.**

У бас. р. Свольна (цячэ праз возера), за 42 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Лісна. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м (на ПдЗ да 30 м), параслі лесам, на У і Пн невыразныя. Берагі вышынёй да 0,3 м (на У да 0,5 м), пад хмызняком. На У і Пн забалочаная пойма, пораслая рэдкім хваёвым лесам. Дно плоскае, у паўночнай частцы пераважаюць глыбіні 3—4 м, у паўднёвай — да 6 м. 2 астравы агульнай пл. 0,74 км$^2$. Ложа выслана сапрапелямі, уздоўж берагоў і вакол астравоў — апясчаненымі адкладамі. Водная маса ў летні час перамешваецца і прагравaецца да дна. Інтэнсіўна зарастае да глыбіні 2,6 м. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 200 м, уздоўж усходняга берага да 400 м. Возера багатае рыбай. Адзначана гнездаванне звычайнага гогаля — ахоўнай птушкі, занесенай у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. У возера ўпадаюць канал Дзегцяроўка і 7 ручаёў, у т. л. з азёр Малы Тучок і без назвы.



Рака Ловаць каля вёскі Мяжа Гарадоцкага раёна.

**ЛІСТАПАДАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток Салігорскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Вялікія Лістападавічы, вусце за 1,5 км на З ад в. Крушнікі.

**ЛІСЦЯНКА,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца з Асавецкага канала за 3 км на ПнЗ ад в. Камуна, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Верагошч.

**ЛІСЯЦІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Мерчыцы, вусце за 1,5 км на У ад в. Масевічы. Прыток — канал Бостычы (справа).

**ЛІТАНКА,** Вязынка, рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Пяршайкі (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца на 3 ад в. Банькава, упадае ў Пяршайку каля в. Галубы. Да 1974 цякла ў Іслач, былое рэчышча за 1 км на Пд ад в. Даўбені перасыпана. Рэчышча на працягу 4,5 км ад в. Паморшчына да вусця каналізаванае.

**ЛІТАНКА,** рака, гл. *Люцінка.*

**ЛІТВІНКІ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім і Жабінкаўскім р-нах, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Лышчыкі (Кобрынскі р-н), вусце каля ўсходняй ускраіны в. Залуззе (Жабінкаўскі р-н).

**ЛІТКАВА,** рака ў Кобрынскім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня каля 10 км. Пачынаецца лясной канавай на 3 ад дарогі Дзівін — Самары, месцамі дрэнна прасочваецца, у ніжняй частцы рэчышча праходзіць па меліярацыйным канале. Упадае з Пд у воз. Любань на Пн ад в. Дзівін. Рэчышча каналізаванае.





**ЛІТО́ЎКА,** рака, гл. *Выдзерка.*

**ЛІТО́ЎКА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Тросніца (цячэ праз возера), за 12 км на ПнУ ад Полацка, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Спаскае. Схілы катлавіны спадзістыя, вышынёй 1 м, на Пн параслі лесам, на Пд разараныя. Пойма на Пд забалочаная, шырынёй да 75 м.

**ЛІЦВІН,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,19 км².**
**Даўжыня 2,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,68 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 22 км на ПдУ ад г. Калінкавічы, на 3 ад в. Юравічы. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пад хмызняком, на Пн да 13 м, парослыя лесам. Берагі пясчаныя, на У зліваюцца са схіламі. На ПнЗ упадае ручай, на Пд выцякае ручай у Прыпяць.

**ЛІЦВІНА́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Верхнядзвінскім р-не, правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Сасноўцы, вусце каля в. Валынцы.

**ЛО́БЖА,** рака, гл. *Лабжанка.*

**ЛО́БСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Светлагорскім р-не. Пл. 0,16 км². На пойме р. Бярэзіна, за 22 км на ПнЗ ад г. Светлагорск, ніжэй вусця Рудзянкі.

**ЛО́БЧА,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца з Водападзельнага канала за 3,2 км, вусце за 11,3 км на Пд ад п. Лунін.

**ЛО́БЧАНКА,** рака ў Чэрыкаўскім р-не і на мяжы са Слаўгарадскім, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 30 км.**
**Пл. вадазбору 122 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Дубраўка Лабанаўскага сельсавета, вусце ў межах в. Рамідоўшчына. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,8 км (ад в. Доўтая да в. Прыпёчана).

**ЛО́ВАЖ,** возера, гл. *Лоўжа.*

**ЛО́ВАЦЬ,** рака ў Гарадоцкім р-не, Пскоўскай і Наўгародскай абласцях, у бас. р. Нява.

**Даўжыня 536 км.**
**Пл. вадазбору 21,9 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 150 м³/с, на граніцы Беларусі і Расіі каля 2,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,16 ‰, на Беларусі 0,6 ‰.**

Выцякае з воз. Ловацец (Пскоўская вобл.), упадае ў воз. Ільмень з Пд. Паводле іншых крыніц пачынаецца з воз. Завесна за 3,5 км на ПдУ ад в. Марчанкі Гарадоцкага р-на. Цячэ ў межах Беларусі (даўжыня 47 км) па Гарадоцкім узвышшы, праз азёры Задрач, Мяжа, Сосна, Чарняста і Сясіта, па Валдайскім узвышшы і ў ніжнім цячэнні па Ільменскай нізіне. Найбольшыя прытокі на Беларусі: Сярвайка, Пясчанка (справа), Склянка (злева). Даліна ад вытоку да воз. Мяжа невыразная (пойма забалочаная), паміж азёрамі Сосна, Чарняста і Сясіта трапецападобная (пойма роўная, лугавая). Рэчышча да воз. Мяжа звілістае, да воз. Задрач яго шырыня 3—5 м, ніжэй 5—10 м. Суднаходная ў нізоўі на працягу 70 км. На рацэ гарады Вялікія Лукі і Холм (Расія); па ёй у старажытнасці праходзіла частка гандлёвага шляху «з варяг у грэкі».

**ЛОГ,** ручай у Шумілінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Сосіна, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Пятніцкае. У нізоўі ва ўрочышчы Улазавіцкая Лясная Дача цячэ праз азёры Першае, Другое і Трэцяе. Рэчышча на працягу 9 км ад вытоку каналізаванае.

**ЛО́ГАВЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Жорнаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Малыя Лагі, упадае ў Жорнаўку за 2 км на Пд ад в. Жарамец.

**ЛО́ГНАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Клецкім р-не, левы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Урведзь, вусце каля в. Логнавічы.

**ЛО́ДАСІ,** Л о д а с к а е   в о з е р а, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 1,03 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 1,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,94 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.**
**Аб'ём вады 4,13 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 17,5 км².**

У бас. р. Страча, за 22 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Лодасі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, разараныя, на Пд да 10 м, пад хмызняком. Берагі месцамі абразійныя, зліваюцца са схіламі, на З сплавінныя. У паўночна-заходняй частцы возера вост-




**Возера Лісна.**




**Возера Лодасі.**

раў пл. 0,8 га. Ложа выслана ілам, уздоўж берагоў пяском. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 10—30 м да глыбіні 2,5 м. На ПнЗ злучана пратокай з воз. Саранчаны.

**ЛО́МАЎКА,** назва р. *Рудаўка* ў верхнім цячэнні.

**ЛО́МЫШ,** возера ў Хойніцкім р-не.

Пл. 0,22 км².
Даўжыня 2,7 км.
Найбольшая шырыня 0,13 км.

На пойме р. Прыпяць, за 27 км на ПдЗ ад г. Хойнікі, каля в. Ломыш. Старычнае.




Возера **Лодасі.**

**ЛО́НА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,09 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.

У бас. р. Свольна, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,7 км на ПдУ ад в. Ізубрыца (Верхнядзвінскі р-н), сярод забалочанага лесу. На У выцякае ручай у р. Лонніца.

**ЛО́НВА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Віліі.

Даўжыня 22 км.
Пл. вадазбору 125 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца каля в. Амнішава, упадае ў Вілію за 1 км на ПнЗ ад в. Папоўцы. Прытокі — р. Каменка і густая сетка асушальных каналаў. На ўсім працягу каналізаваная.

**ЛО́ННА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,6 км².
Найбольшая глыбіня 2,6 м.
Даўжыня 1,01 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,83 км.
Аб'ём вады 1,09 млн. м³.
Пл. вадазбору 1,12 км².

На водападзеле рэк Лонніца (выцякае з возера) і Палата, за 18 км на ПнУ ад г. Полацк, за 1,8 км на ПнЗ ад в. Узніцы, на тэрыторыі заказніка-журавінніка Лонна. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі тарфяністыя, сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Поўнасцю зарастае. З возера выцякае ручай у р. Палата.

**ЛО́ННЕ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,23 км².
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.

У бас. р. Дрыса, за 23 км на ПнЗ ад г. Полацк, каля вёсак Лісуны і Кацельна. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, пад хмызняком, часткова разараныя. Берагі забалочаныя. На Пн злучана ручаём з р. Дрыса.

**ЛО́ННІЦА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Дахнарка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 100 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Выцякае з воз. Лонна за 2 км на ПдУ ад в. Лоніца. Паводле іншых крыніц рака бярэ пачатак за 2,5 км на ПдЗ ад в. Конны Бор. Вусце за 2 км на З ад в. Дзмітроўшчына. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛО́ННІЦА,** рака ў Расонскім і Верхнядзвінскім р-нах, левы прыток р. Свольна (бас. Прыпяці).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 29 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад воз. Ізубрыца, вусце за 2 км на Пд ад в. Дабраплёсы Верхнядзвінскага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛО́СВІДА,** возера ў Гарадоцкім р-не на мяжы з Віцебскім.

Пл. 11,42 км².
Найбольшая глыбіня 20,2 м.
Даўжыня 7,08 км.
Найбольшая шырыня 4,88 км.
Даўжыня берагавой лініі 25,6 км.
Аб'ём вады 82 млн. м³.
Пл. вадазбору 107 км².

У бас. р. Храпаўлянка, за 7 км на Пд ад г. Гарадок, каля вёсак Вялікае Лосвіда і Малое Лосвіда. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м (на ПнЗ і З да 4 м), на Пн і У стромкія, парослыя лесам, часткова разараныя. З вялікія залівы, паўночна-заходні аддзелены ад возера пясчанай водмеллю (глыбіня 0,2 м). Берагі вышынёй ад 0,5 м да 1,5 м, месцамі абразійныя ці зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдЗ нізкія, часткова забалочаныя. Падводная частка катлавіны складанай будовы (упадзіны чаргуюцца са шматлікімі мелямі). Шырыня зоны мелкаводдзя ад 5—25 м у залівах да 200—250 м уздоўж паўднёвых і паўднёва-ўсходніх берагоў. Дно ў прыбярэжнай частцы да глыбіні 6 м выслана пяскамі, на У і Пн пясчана-галечнымі адкладамі і валунамі. Уздоўж берагоў зарастае надводнай расліннасцю, шырыня паласы ад 10—15 м да 120—150 м. Падводная расліннасць высцілае дно да глыбіні 5 м. У возеры растуць рэдкія для




Возера **Лосвіда.**

флоры Беларусі ахоўныя віды: палушнік азёрны, наяда малая і марская, частуха Валенберга, гідрыла кальчаковая. Багаты жывёльны свет (каля 20 відаў рыб). У возера ўпадае р. Чарніца і 4 ручаі, на У выцякае ручай у воз. Цыганова. Уваходзіць у зону адпачынку Лосвіда. На беразе турбаза «Віцебская», спартыўная база, лодачная станцыя.

**ЛОТВІНЫ,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,42 км².**
**Найбольшая глыбіня 15,1 м.**
**Даўжыня 1,44 км.**
**Найбольшая шырыня 0,49 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,67 км.**
**Аб'ём вады 2,81 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,4 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 10 км на Пн ад г. п. Мядзел, каля в. Лотва. Схілы катлавіны вышынёй 13—20 м (на Пд і ПдУ 3—7 м), пад лугам, на З парасл і лесам. Берагі пад хмызняком, участкі зліваюцца са схіламі. Найбольш глыбокая паўднёва-заходняя частка возера. Мелкаводдзе пясчанае. Зарастае каля 20 % пл. возера. На Пд выцякае ручай у р. Мядзелка.

**ЛОЎЖА,** Л о в а ж, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,77 км.**
**Пл. вадазбору 82 км².**

У бас. р. Будавесць (цячэ праз возера), за 9 км на З ад г. п. Шуміліна, каля в. Лоўжа. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пераважна пад хмызняком.

**ЛОЎЖА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,92 км.**
**Пл. вадазбору 14,8 км².**

У бас. р. Дражбітка, за 34 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на ПдЗ ад в. Труды. Катлавіна размешчана сярод балота, схілы яе невыразныя. Берагі сплавінныя. На ПнЗ выцякае ручай у р. Дражбітка.

**ЛОХНІЦА,** рака на Украіне і ў Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 781 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца на тэрыторыі Украіны за 8 км на ПдЗ, вусце за 3 км на Пн ад в. Лохніца. Цячэ па паўднёва-заходняй частцы раўніны Мазырскае Палессе. Прыток — р. Свідовец (злева).

**ЛОЧЫНСКІ КАНАЛ,** А н т о п а л ь с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Чэрвеньскім і Асіповіцкім р-нах, левы прыток р. Балачанка (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца з Лочынскага возера за 1 км на Пн ад в. Лочын Асіповіцкага р-на, упадае ў Балачанку за 1 км на ПдУ ад в. Балоча Чэрвеньскага р-на.

**ЛОШ,** возера ва Ушацкім р-не. Пл. 0,1 км². У бас. р. Выдрыца, за 14 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, за 1 км на Пн ад в. Мосар.

**ЛОША,** рака ў Ашмянскім і Астравецкім р-нах, левы прыток Ашмянкі (бас. Віліі).

**Даўжыня 55 км.**
**Пл. вадазбору 455 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,9 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,34 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Ваўкоўшчына Ашмянскага р-на, у вярхоўі цячэ па паўночных схілах Ашмянскага ўзвышша, далей праз невялікія лясныя масівы. Упадае ў Ашмянку на ПдЗ ад в. Зарэчча Астравецкага р-на. Асноўны прыток — р. Кавалёўка. Даліна да в. Лоша невыразная, ніжэй трапецападобная; яе шырыня 200—300 м, паміж в. Палушы і г. п. Астравец — да 1 км. Пойма двухбаковая, пераважная шырыня 100—150 м. Рэчышча на працягу 12 км ад вытоку каналізаванае, на астатнім працягу звілістае. Берагі стромкія, у вярхоўі абрывістыя. У г. п. Астравец сажалка (пл. 0,16 км²), на У ад яго ў маляўнічай мясціне — Янаўскае вадасховішча.

**ЛОША,** рака ў Уздзенскім і Капыльскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 42 км.**
**Пл. вадазбору 830 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Даўгінава Уздзенскага р-на, упадае ў Нёман каля в. Пясочнае. Прытокі: р. Выня і сетка меліярацыйных каналаў. Даліна на вялікім працягу невыразная, у ніжнім цячэнні шырынёй 500—600 м. Пойма асушаная. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Берагі абрывістыя. На рацэ паміж вёскамі Лоша, Крывялі, Баравыя, Сенажаткі створана Лашанскае вадасховішча.

**ЛОША,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Дабранка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Сахараўка, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Добрая. Рэчышча каналізаванае на працягу 3 км (ад в. Сахараўка да вусця).

**ЛОША-АБОЛЬКА,** рака, гл. *Вярэдаўка.*

**ЛОШЫНКА,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім і Пухавіцкім р-нах, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Дукоршчына Чэрвеньскага р-на, упадае ў Свіслач на ўсходняй ускраіне в. Дукора Пухавіцкага р-на.

**ЛОШЫЦА,** рака ў Мінскім р-не і Мінску, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Дворышча, вусце на паўночнай ускраіне в. Лошыца 1-я. У сярэднім цячэнні ракі ў межах Мінска створаны 2 сажалкі.






Возера Лотвіны.

**ЛОШЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, левы прыток р. Вялікая Сліва (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Новы Гуткоў, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Мялешкі.

**ЛУБЯНКА,** рака ў Стаўбцоўскім р-не, левы прыток Сярмяжкі (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пл. вадазбору 37 км². Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Вялікія Навікі, цячэ па сярэднеўзгорыстай раўніне, пераважна аблесенай, упадае ў Сярмяжку за 2 км на Пн ад в. Трылес. Ад вытоку на працягу 3,7 км каналізаваная.

**ЛУБЯНКА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток Волкі (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на Пн ад в. Вуглы, цячэ ў межах Налібоцкай пушчы, упадае ў Волку на Пд ад урочышча Ляхавыя Горы.

**ЛУБЯНКА,** рака ў Гомельскім р-не, часткова на мяжы Беларусі і Украіны, правы прыток р. Нямыльня (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ, вусце за 4 км на З ад в. Глыбоцкае. Перад вусцем на мяжы з Украінай на рацэ плаціна і сажалка.

**ЛУБЯНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Свіслацкім р-не.

**Пл. 0,74 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,8 м.**

Даўжыня 1,25 км.
Найбольшая шырыня 2 км.
Аб'ём вады 1,04 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 18 $км^2$.

У верхнім цячэнні р. Лубянка, за 40 км на ПдУ ад г. п. Свіслач, за 2 км на Пд ад в. Лубянка.

Створана ў 1978 для двухбаковага рэгулявання вільготнасці асушаных зямель, рыбагадоўлі, добраўпарадкавання прыбярэжнай зоны. Ваганні ўзроўню на працягу года 1 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 0,76 млн. $м^3$.

**ЛУБЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кармянскім р-не, левы прыток р. Добрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 7,7 км. Пачынаецца за 3,6 км на ПнУ ад в. Лубянка, упадае ў Добрыч за 1,5 км на Пд ад в. Задуб'е.

**ЛУБЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Дабрыца (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Новае Заліцвінне, упадае ў Дабрыцу за 1,5 км на ПдУ ад в. Старое Заліцвінне.

**ЛУГАВОЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.




**Лугавое возера.**




**Лугавое возера.**

Пл. 0,4 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 12,9 м.
Даўжыня 1,18 км.
Найбольшая шырыня 0,55 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,39 км.
Аб'ём вады 1,62 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 224 $км^2$.

У бас. р. Усыса, на паўднёва-заходняй ускраіне г. Гарадок. Схілы катлавіны вышынёй 10—14 м, месцамі да 20 м, на З і Пд парасл і хваёвым лесам, на Пн і У задзернаваныя ці разараныя. Берагі вышынёй да 0,3 м, увільготненыя, часткова на З і Пд зліваюцца са схіламі. Найбольшая глыбіня ў выглядзе ўпадзіны каля паўночна-ўсходняга берага. Дно выслана пяском, на глыбакаводдзі — ілам. Уздоўж берагоў паласа расліннасці да глыбіні 1,5 м. Паўднёва-заходні заліў поўнасцю зарос гарлачыкамі. На Пн упадае р. Гаражанка, на З злучана пратокай (шырыня 60 м, глыбіня 2 м) з Арэхавым возерам.

**ЛУЖАЙКА,** рака ў Пружанскім р-не, левы прыток р. Левая Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Стараволя, вусце каля паўднёвай ускраіны в. Ваські. Рэчышча каналізаванае.

**ЛУЖАСЯНКА,** Лужаснянка, рака ў Гарадоцкім і Віцебскім р-нах, правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 32 км.
Пл. вадазбору 700 $км^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,6 $м^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Выцякае з воз. Вымна на Пн ад в. Хабаты Гарадоцкага р-на, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша, вусце каля чыг. ст. і в. Лужасна за 2 км ад паўночна-заходняй ускраіны Віцебска. Асноўныя прытокі: Громаць, Кабішчанка і Храпаўлянка (справа). Даліна скрынкападобная, на вялікім працягу вузкая, шырынёй 200—400 м. Пойма двухбаковая і перарывістая, часам адсутнічае; шырыня 80—100 м. Рэчышча звілістае, шырынёй 12—20 м, у верхнім цячэнні 5 м.

**ЛУЖОНКА,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім і Рэчыцкім р-нах, правы прыток канала Мядзведка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца з канала Мядзведка каля заходняй ускраіны в. Навінкі Калінкавіцкага р-на, упадае ў яго за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ведрыч Рэчыцкага р-на.

**ЛУЖЭНЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,04 $км^2$.
Даўжыня 0,26 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. Заходняй Дзвіны, за 28 км на У ад г. п. Ушачы, за 1 км на Пд ад в. Залужэнне, сярод хмызняку. Вакол возера лугавая пойма шырынёй 10—40 м.

**ЛУКА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Тур'і (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Заполле, упадае ў Тур'ю на Пн ад в. Забор'е. Ад вытоку на працягу 4 км каналізаваная.

**ЛУКАВА,** возера ў Чэрвеньскім р-не. Пл. 0,16 $км^2$. У бас. р. Уша, за 26 км на ПнУ ад г. Чэрвень, за 1 км на Пн ад в. Раваніцкая Слабада.

**ЛУКАВАЯ,** Рубежка, рака ў Мінскім р-не, левы прыток Удры (бас. Віліі).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 63 $км^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 8,9 ‰.

Пачынаецца на Пн ад в. Буды, упадае ў Удру на ПнЗ ад в. Гайдукоўка. Цячэ па лясістай мясцовасці Мінскага ўзвышша.

**ЛУКАВІНА,** Астроўчыца, рака ў Ваўкавыскім р-не, левы прыток Нятупы (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 32 $км^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4 ‰.

Пачынаецца каля в. Вішнявічы, цячэ ў межах Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Нятупу за 1 км на ПдЗ ад в. Гнезна.

**ЛУКАМКА,** рака, гл. *Лукомка.*

**ЛУКАМЛЬ,** гл. *Лукомскае возера.*

**ЛУКАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** Лукава, у Маларыцкім р-не.

Пл. 5,4 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 11,5 м.
Даўжыня 3,15 км.
Найбольшая шырыня 2,7 км.
Аб'ём вады 23,2 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 112 $км^2$.

На месцы былога Лукаўскага возера (пл. 3,5 $км^2$), за 16 км на ПнУ ад г. Маларыта, каля в. Лукава. Створана ў 1980 для ўвільгатнення глебы і рыбагадоўлі. Агароджана дамбай даўжынёй 9,5 км. Упадае некалькі меліярацыйных каналаў, выцякаюць р. Асіпоўка і канал Гусацкі. Ваганні ўзроўню на працягу года 3,1 м. Сярэдні шматгадовы сцёк больш за 12 млн. $м^3$.

**ЛУКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,19 $км^2$.
Даўжыня 1,22 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,82 км.
Пл. вадазбору 1,24 $км^2$.

У бас. р. Астроўніца (левы прыток Зах. Дзвіны), за 27 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Малы Двор. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, парасл і хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, на У сплавінныя.

**ЛУКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Нясвіжскім і Клецкім р-нах, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца каля в. Гусакі Нясвіжскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Лукаўцы Клецкага р-на.

**ЛУКАЎСКІ КАНАЛ,** рака, гл. *Беліца.*

**ЛУКАЎЦЫ,** меліярацыйны канал у



**Рака Лукомка каля вёскі Пачаевічы Чашніцкага раёна.**

Ельскім р-не, левы прыток р. Батыгўля (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Зашыр'е, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Лукаўцы.

**ЛУКАШЫНА,** меліярацыйны канал у Іўеўскім р-не, на меліярацыйнай сістэме «Нізоўе р. Гаўі» (бас. Нёмана). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Пазяняты, упадае ў меліярацыйны канал за 2 км на ПдЗ ад в. Дзяманты.

**ЛУКА́ШЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Залессе, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Вялікія Прылукі.

**ЛУ́КІ,** рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток р. Цвецень (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Слабодка, цячэ па ўсходніх схілах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Цвецень на Пд ад в. Хажова. На працягу 4,5 км каналізаваная (ад в. Майсічы да вусця).

**ЛУКІ́Ч,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 27,2 км. Пачынаецца з р. Бобрык 2-і за 1 км на У ад в. Агаліцкая Рудня, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Конкавічы. Прыток — Людзвіноўскі канал (злева).

**ЛУКО́МКА,** Лукамка, Уюнок, рака ў Чашніцкім р-не, правы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 53 км.**
**Пл. вадазбору 831 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Выцякае з Лукомскага возера каля г. Новалукомль, цячэ ўздоўж усходняй ускраіны Лукомскага ўзвышша па Чашніцкай раўніне, вусце ў межах г. Чашнікі. Асноўны прыток — р. Югна (справа). Даліна трапецападобная, шырыня яе 400—600 м, у ніжнім цячэнні да 5 км. Пойма перарывістая, у вярхоўі і вусцевай частцы забалочаная; шырыня 200—500 м, на забалочаных участках да 1,6 км. Рэчышча моцназвілістае, шырынёй 15—20 м у верхнім цячэнні, 8—12 м на астатнім працягу. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 1,1 м. Замярзае ў сярэдзіне лістапада, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 8 сут. Каля в. Рудніца Лукомскае вадасховішча.

**ЛУКОМКА,** Уюток, рака ў Лепельскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 7,4 км.**
**Пл. вадазбору 27 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 1,3 км на ПдЗ ад в. Халімонава, цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша, упадае ў воз. Рагоўскае з ПдУ за 1 км на Пн ад в. Варашкі. Рэчышча каналізаванае.

**ЛУКОМСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 12 м.**
**Даўжыня 3,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Аб'ём вады 1,25 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 700 км².**

На р. Лукомка, за 16 км на Пд ад г. Чашнікі, каля в. Рудніца. Створана ў 1951 для энергетычных мэт (Лукомская ГЭС). Берагі ў вярхоўі спадзістыя, у нізоўі абрывістыя, вышынёй 10—15 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 134 млн. м³.

**ЛУКО́МСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Лукамль, у Чашніцкім р-не.

**Пл. 36,7 км².**
**Найбольшая глыбіня 11,5 м.**
**Даўжыня 10,4 км.**
**Найбольшая шырыня 6,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 36,4 км.**
**Аб'ём вады 243 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 179 км².**

У бас. р. Ула, за 18 км на Пд ад г. Чашнікі, каля заходняй ускраіны г. Новалукомль. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м (на Пн і ПнЗ да 15 м), разараныя, на Пд і З парэслі лесам, месцамі хмызняком. У паўночнай частцы возера 2 вялікія залівы. Берагі нізкія, месцамі пад хмызняком, на З і ПдЗ абразійныя, вышынёй 1—2 м. Ложа ўскладнена шматлікімі мелямі. На Пн 5 астравоў агульнай пл. 0,7 км². Дно да глыбіні 5—6 м выслана пясчанымі адкладамі, ніжэй — сапрапелем. З 1969 возера выкарыстоўваецца як ахаладжальнік Лукомскай ГЭС. Вада вяртаецца падагрэтай на 8—12 °С вышэй, чым у возеры, што аказвае значны ўплыў на ход прыродных працэсаў у вадаёме. Адзначаецца «амаладжэнне» возера. Бязлёдавы перыяд павялічыўся на 2 месяцы. Замярзае ў другой палове снежня, лёд (таўшчыня да 30 см) трымаецца да сярэдзіны сакавіка, да 30 % паўночна-ўсходняй часткі возера наогул не замярзае. Сярэдняя тэмпература вады за чэрвень — жнівень у зоне падагравання 21,6 °С, у зоне з прыродным тэмпературным рэжымам 19,8 °С. Скідванне вады ў возера і ветравое перамешванне павялічваюць аэрацыю воднай масы. Зарастае ўздоўж берагоў трыснягом і чаротам, шырыня паласы расліннасці да 250 м, каля ўсходняга берага да 20—50 м. У возеры багаты раслінны і жывёльны свет, жыве больш за 5 тыс. т дрэйсены (двухстворкавыя малюскі), якая адфільтроўвае ўвесь аб'ём вады менш чым за 2 месяцы, што станоўча ўплывае на экалагічны стан возера. Водзяцца каля 20 відаў рыбы (аматарская лоўля дазволена толькі ў вызначаных месцах). У незамярзаючай частцы возера зімуюць качкі. На заходнім беразе піянерскі лагер і прафілакторый.




**Лукомскае возера.**




**Лукомскае возера.**

**ЛУКОНЕЦ,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,24 км².
Даўжыня 0,72 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Пл. вадазбору 11,1 км².

У бас. р. Эса, за 5 км на ПдЗ ад г. Лепель, каля в. Бяседы. Схілы катлавіны вышынёй 14—16 м (на Пд да 26 м), параслі лесам. Берагі на З і У нізкія, забалочаныя, астатнія зліваюцца са схіламі. На З і У забалочаная пойма, парослая хмызняком. На У выцякае ручай у р. Эса.

**ЛУКОНЕЦ,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,15 км².
Даўжыня 0,62 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.

У бас. р. Сергуч, за 13 км на ПнЗ ад г. Лепель, за 2 км на ПдУ ад в. Пышна. У паўднёвай частцы возера заліў. Злучана ручаем з воз. Тэклщ.

**ЛУКОНІЦА,** рака ў Слонімскім, Зэльвенскім і Мастоўскім р-нах, левы прыток Шчары (бас. Немана).

Даўжыня 32 км.
Пл. вадазбору 195 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,1 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Плаўскія Слонімскага р-на, цячэ ў межах Слонімскага ўзвышша, упадае ў Шчару на Пн ад в. Дубраўка Мастоўскага р-на. Есць невялікія прытокі злева, у нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. Даліна выразная, трапецападобная, у верхнім і сярэднім цячэнні вузкая, звілістая, шырынёй 200—900 м. Пойма забалочаная, вузкая, яе шырыня 100—500 м. Рэчышча ў верхнім цячэнні звілістае, на працягу 15 км каналізаванае: за 1 км на Пд ад в. Ярнева ўверх па цячэнні (1,5 км) і ад в. Пруд да вусця (13,5 км). Берагі стромкія і абрывістыя. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія, парэзаныя далінамі прытокаў і ярамі.

**ЛУКОНІЦА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,53 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 21 км на ПнУ ад г. Лепель, за 2,5 км на ПдУ ад в. Несіна. Меліярацыйнай канавай злучана з р. Лукомка.

**ЛУК'ЯНАЎКА,** Леніндарскі канал, рака ў Добрушскім р-не, правы прыток р. Уць (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Леніна, упадае ў Уць за 1,5 км на ПнУ ад в. Лук'янаўка. Рэчышча каналізаванае.

**ЛУНЕЎСКАЕ ВОЗЕРА,** Ліноўа, у Ганцавіцкім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,34 км.

У бас. р. Прыпяць, за 30 км на ПдЗ ад г. Ганцавічы, за 5 км на ПдЗ ад в. Раздзялавічы.

**ЛУНЕЎ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Ганцавіцкім р-нах, левы прыток канала Рудня (бас. Прыпяць). Даўжыня 5,8 км. Выцякае з Лунеўскага возера за 6 км на ПдЗ ад в. Раздзялавічы Ганцавіцкага р-на, вусце за 4 км на ПдЗ ад Лунеўскага возера. Пракладзены ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЛУНІНЕЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 29 км. Пачынаецца за 10 км на З ад в. Дзятлавічы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Кораб'е Столінскага р-на.

**ЛУНІЧНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,47 км².
Найбольшая глыбіня 3,7 м.
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,65 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.
Аб'ём вады 0,96 млн. м³.
Пл. вадазбору 10,5 км².

У бас. р. Нача, за 32 км на ПдЗ ад Полацка, за 1 км на У ад в. Сяльцо. Схілы катлавіны вышынёй 1—4 м, забалочаныя, параслі лесам, на У — да 10 м, разараныя. Берагі нізкія, на ПнЗ сплавінныя (шырыня сплавіны 3—5 м), пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем, уздоўж берагоў на ПнУ і ПдЗ — пясчанымі адкладамі. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 3 м (85 % пл. возера). На ПнЗ з возера выцякае ручай у р. Нача.

**ЛУСКА,** рака, гл. *Альшанка.*

**ЛУСЫНКА,** рака, гл. *Люцінка.*

**ЛУТАВА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,1 км².
Найбольшая глыбіня 15,9 м.
Даўжыня 0,49 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.



Лукомскае возера.



Рака Лучоса ў ніжнім цячэнні.

**Аб'ём вады 0,53 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 0,23 км$^2$.**

У бас. р. Крашанка, за 4 км на Пн ад г. п. Ушачы, каля в. Лутава. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, разараныя. Падводная частка катлавіны ў выглядзе 2 упадзін з глыбінямі 15,9 м і 12,8 м. Дно да глыбіні 3,5 м выслана пясчанымі адкладамі, ніжэй — ілам. Зарастае ўздоўж берагоў да глыбіні 2,5 м пераважна падводнай расліннасцю.

**ЛУТАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лоеўскім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Даўжыня 1,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,72 км.**

На правабярэжнай пойме Дняпра, за 26 км на ПдЗ ад г. п. Лоеў, каля вёсак Старое Лутава і Глушэц. Старычнае. Схілы катлавіны на Пд і З вышынёй 6—8 м, на У да 3 м, пад хмызняком. Берагі на Пд і З зліваюцца са схіламі, на У нізкія, забалочаныя. Праз возера цячэ р. Песачанка.

**ЛУЦЭВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Казішча, вусце за 1 км на Пд ад в. Луцэвічы.

**ЛУЦЯНОК,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,26 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,58 км.**

У бас. р. Дрыса, за 28 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПдЗ ад в. Вялікія Асёткі, сярод лесу. Схілы невыразныя.

**ЛУЧАЙ,** Лучайскае возера, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 2,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 3,9 км.**
**Найбольшая шырыня 1,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,1 км.**
**Аб'ём вады 4,38 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 19,1 км$^2$.**

У бас. р. Мядзелка, за 15 км на У ад г. Паставы, каля в. Лучай. Схілы катлавіны вышынёй да 13 м, разараныя або пад лугам, на Пд і ПдЗ нізкія, забалочаныя, парослыя лесам, на Пн, З і ПнЗ невысокія ўчасткі (3—5 м) чаргуюцца з забалочанымі нізінамі. У паўночна-заходняй і паўднёвай частках возера вялікія залівы. Берагі нізкія, пераважна забалочаныя, на Пн і Пд месцамі тарфяністыя, участкамі сплавінныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 70 м, пад хмызняком. Дно плоскае, 6 астравоў агульнай пл. 0,09 км$^2$. Ложа выслана сапрапелем, уздоўж берагоў нешырокая перарывістая паласа пясчаных адкладаў. Моцна зарастае, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 30—200 м, пашырана да глыбіні 1,1 м; паўночна-заходні заліў зарос поўнасцю. На У упадае ручай з Ліsіцкага возера, на З выцякае р. Лучайка.

**ЛУЧАЙКА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Мядзелка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 46 км.**
**Пл. вадазбору 258 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Выцякае з воз. Лучай за 1,5 км на ПнЗ ад в. Гаўрылавічы, цячэ па паўднёва-заходняй частцы Полацкай нізіны, вусце каля в. Маскалішкі. Прытокі — невялікія ручаі і меліярацыйныя каналы. Даліна пераважна трапецападобная. Пойма двухбаковая, у верхнім і сярэднім цячэнні большай часткай забалочаная; шырыня яе 500—600 м, у ніжнім цячэнні звужваецца да 100—200 м. Рэчышча звілістае, паміж вёскамі Баранавічы — Лапосі на працягу 16 км каналізаванае.

**ЛУЧАЙКА,** рака ў Глыбоцкім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток р. Мнюта (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 121 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Выцякае з воз. Сельцы за 0,9 км на Пн ад в. Гаравыя Глыбоцкага р-на, вусце за 0,5 км на З ад в. Жукі Ложныя Шаркоўшчынскага р-на. Рэчышча каналізаванае ад вытоку на працягу 2,5 км і ўверх ад вусця на працягу 5,7 км.

**ЛУЧКА,** рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток Улы (бас. Нёмана). Даўжыня 11,8 км. Пачынаецца каля в. Мікуты Лідскага р-на, упадае ва Улу за 1 км на У ад в. Пшаленскія. Асноўныя прытокі — Правожа, Слепіца. Рэчышча каналізаванае.

**ЛУЧОСА,** рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 90 км.**
**Пл. вадазбору 3510 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 21,4 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**




Возера Лутава.




Возера Лучай.




Возера Лучай.



Любанскае вадасховішча.




Возера Любань.

Выцякае з воз. Зелянское каля в. Бабінавічы Лёзненскага р-на, цячэ па Лучоскай нізіне і ў межах Віцебскага ўзвышша, вусце ў межах паўднёвай ускраіны Віцебска. Асноўныя прытокі: Чарніца, Сухадроўка (справа), Ардышэўка, Серакаратнянка, Абалянка, Чарнічанка (злева). Даліна трапецападобная, у вярхоўі невыразная, шырыня яе 400—600 м. Пойма перарывістая, чаргуецца па берагах, больш развіта на левабярэжжы; шырыня яе 300—500 м. Рэчышча шырынёй 20—30 м, у нізоўі да 60 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў ніжнім цячэнні ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над меЖанным узроўнем 6,2 м, найбольшы 9,9 м (1956). Замярзае ў канцы 1-й дэкады снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 3 сут.

**ЛУЧЫЛА,** возера, гл. *Тартак.*

**ЛУЧЫНЕЦ,** ручай у Лельчыцкім р-не, прыток канала, які ўпадае злева ў р. Крушынная (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,7 км на Пн, вусце за 7 км на Пн ад в. Іванава Слабада. Цячэ па лясістай мясцовасці ў межах Прыпяцкага гідралагічнага запаведніка. Рэчышча на працягу 2 км уверх ад вусця каналізавана.

**ЛУЧЫЦЫ,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім і Клецкім р-нах, правы прыток р. Нача (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Гайнінец Ляхавіцкага р-на, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Лучыцы Клецкага р-на.

**ЛЫБЕЛЬ,** Л і б е л ь, возера ў Пінскім р-не.

**Пл. 0,035 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,2 м.**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.**
**Аб'ём вады 0,04 млн. м³.**

На пойме Прыпяці, за 30 км на У ад г. Пінск, за 5 км на У ад в. Маладзельчыцы. Схілы катлавіны не выражаны, берагі нізкія, на Пн забалочаныя, на Пд пясчаныя. Уключана ў польдэр.

**ЛЫДНІЦА,** рака, гл. *Лідніца.*

**ЛЫНТУПКА,** рака ў Пастаўскім і Мядзельскім р-нах, правы прыток Страчы (бас. Віліі).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 57 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Вялічкі Пастаўскага р-на, цячэ па лясістых схілах Свянцянскіх град, упадае ў Страчу за 1 км на З ад воз. Балдук. Сярод парку ў г. п. Лынтупы на рацэ створаны 4 сажалкі, злучаныя каналамі.

**ЛЫНТУПКА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Гаўі (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Лынтуп, упадае ў Гаўю на Пн ад в. Баравікі. Ад вытоку на працягу 1,5 км каналізаваная.

**ЛЬВА,** назва р. *Маства* ў верхнім і сярэднім цячэнні.

**ЛЮБАНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Любанскім і Старадарожскім р-нах.

**Пл. 22 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,3 м.**
**Даўжыня 11,8 км.**
**Найбольшая шырыня 4,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 38 км.**
**Аб'ём вады 39,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 850 км².**

На р. Арэса, за 7 км на Пн ад г. Любань. Створана ў 1966 для рэгулявання рачнога сцёку і жыўлення вадой сажалак рыбакамбіната «Любань». Да затаплення на месцы вадасховішча быў балотны масіў з тарфянікамі магутнасцю да 3 м. Больш за 20 % берагоў — дамбы абвалавання. На левым беразе ў ніжняй частцы вадасховішча 2 мелкаводныя залівы. Ёсць 5 астравоў агульнай пл. 0,5 км². Дно выслана торфам (каля 50 %), ілам, пяском. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня 45—55 см) трымаецца да пачатку красавіка. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню 80 см. Сярэдні шматгадовы сцёк 142 млн. м³. Зарастае каля 20 % плошчы.

**ЛЮБАНСКА-СТАЎПЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток ручая без назвы ў вадазборы р. Чачора (бас. Дняпра). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Зорка, упадае ў ручай за 0,6 км на ПнЗ ад в. Лозаў.

**ЛЮБАНСКІ 7-ы КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца з Любанскага 1-га водападводзячага канала за 5 км на ПнЗ ад в. Пласток, вусце за 1 км на Пн ад в. Сарачы.

**ЛЮБАНЬ,** возера ў Кобрынскім р-не.

**Пл. 1,83 км².**
**Найбольшая глыбіня 11,5 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Пл. вадазбору 143 км².**

У бас. р. Мухавец, за 30 км на ПдУ ад Кобрына, за 1 км на ПнУ ад в. Дзівін. На ПдЗ у возера ўпадаюць р. Літкава і канал без назвы, на Пн каналам Казацкі праз сістэму каналаў злучана з Дняпроўска-Бугскім каналам.

**ЛЮБАНЬ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток Чарабасаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 20,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Флярова, вусце за 4 км на З ад в. Мокрава.

**ЛЮБАЧ,** возера, гл. *Ходцы.*

**ЛЮБАШАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Ганцавіцкім р-не.

**Пл. 0,76 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,6 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 2,04 млн. м³.**

Наліўное. За 5 км на Пн ад г. Ганцавічы, за 1 км на Пн ад в. Любашава.

Створана ў 1974 для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 3,9 км. Напаўняецца вадой з р. Цна па падвадным канале. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,3 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 9,65 млн. м$^3$.

**ЛЮБАШАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Перадзел, вусце за 1 км на У ад в. Любашава.

**ЛЮБЖЫНСКАЕ ВОЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,46 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 10,3 м.**
**Даўжыня 2,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,3 км.**
**Аб'ём вады 1,97 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 30 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Любжына. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, у ніжняй частцы парослыя хмызняком, у верхняй — разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 1,5—2 м выслана пяском, ніжэй — ілам. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 15 м, пашырана да глыбіні 2 м. З возера выцякае ручай у воз. Паўазер'е.

**ЛЮБІНА,** рака ў Мазырскім р-не, правы прыток р. Скалодзіна (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Турбінка, вусце каля в. Крушнікі. У вярхоўі і нізоўі цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛЮБІТАВА,** возера ў Брагінскім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Даўжыня 4,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 10 км.**

На правабярэжнай пойме Дняпра, за 54 км на ПдУ ад г. п. Брагін, каля в. Верхнія Жары. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад хмызняком, на 3 разараныя.

**ЛЮБІЦА,** ручай у Жлобінскім р-не, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 53 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Скарына, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Сцёпы. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЮБІЦЫНА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,35 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,6 м.**
**Даўжыня 1,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,73 км.**
**Аб'ём вады 1,33 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 30 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Двор Суша. Схілы катлавіны вышынёй 10—16 м (на Пн і ПдУ 1—4 м), на ПнУ і З у ніжняй частцы стромкія, разараныя. Берагі нізкія, на Пд зліваюцца са схіламі (на ПдЗ участак сплавіннага берага), месцамі тарфяністыя, пад хмызняком. Дно да глыбіні 1,5 м выслана пясчанымі адкладамі, ніжэй — сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2,5 м, шырыня прыбярэжнай паласы




Возера **Любань.**




**Любашаўскае вадасховішча.**



**Любанскае вадасховішча.**

да 5 м. Злучана пратокай з воз. Цеменіца.

**ЛЮБІ́ЧА,** Р о ў к а в і ц к і к а н а л, рака ў Буда-Кашалёўскім і Чачэрскім р-нах, правы прыток р. Чачора (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнУ ад в. Каромка Буда-Кашалёўскага р-на, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Падазер'е Чачэрскага р-на. Рэчышча каналізаванае.




1 — у воз. Цеменіца

Возера Любіцына.




Возера [illegible].

**ЛЮБІШЧА́НСКІ КАНА́Л,** гл. *Косаўскі канал.*

**ЛЮБКІ́ННЯ,** рака ў Дубровенскім р-не, правы прыток р. Расасенка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Ляхаўка, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Гладкія. Рэчышча каналізаванае на працягу 3,2 км (ад вытоку да в. Ляхаўка).

**ЛЮБО́НКА,** рака, гл. *Гуцянка.*

**ЛЮБЯЛЬПОЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 24,3 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад г. п. Лагішын, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Любяльполь.

**ЛЮБЯ́ЧКА,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Талька (бас. Дняпра). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Вялень, упадае ў Тальку за 1,5 км на ПдЗ ад в. Запярынне.

**ЛЮДВІНАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 11 км. Пачынаецца з Сярэдняй Брагінкі за 4 км на ПдУ ад в. Ляды, упадае ў старарэчча на пойме Дняпра каля в. Старая Елча.

**ЛЮДВІНО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Ляхавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Ялач, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Людвінова.

**ЛЮДЗВІНО́ВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 25 км на З ад г. Браслаў, за 2 км на З ад в. Марцінкавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, парослі хмызняком, на З і У невыразныя. Пойма шырынёй да 50 м, забалочаная. Выцякае ручай у воз. Чаймушка.

**ЛЮДЗВІНО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток канала Лукіч (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ, вусце за 2 км на Пд ад в. Людзвіноў.

**ЛЮДЗВІ́ШЧА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,25 км².**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,57 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**
**Пл. вадазбору 2 км².**

У бас. р. Нача, за 24 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,8 км на З ад в. Гуры. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м (на Пн і З невыразныя), пад хмызняком. Берагі нізкія, на З сплавінныя.

**ЛЮДЗІ́НАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток р. Няслуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Сухое, вусце каля в. Людзінавічы.

**ЛЮДЗЯНЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток р. Скрыпіца (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца каля в. Дзедаўка, вусце за 2 км на Пд ад в. Людзяневічы.

**ЛЮДО́МЕР,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 0,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 2 км.**
**Аб'ём вады 0,09 млн. м³.**

На пойме Прыпяці, за 12 км на ПдЗ ад г. Жыткавічы, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Боркі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя, на Пн не выражаны, разараныя, на З месцамі пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пн забалочаныя. Злучана пратокай з Прыпяццю.

**ЛЮКТАШ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,8 м.**
**Даўжыня 0,98 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,35 км.**
**Аб'ём вады 0,37 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,87 км².**

У бас. р. Выдрыца, за 8 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Пятніцы. Схілы катлавіны вышынёй 3—7 м (на ПдЗ 10—15 м), пад лесам. Берагі нізкія, на ПдУ і ПдЗ сплавінныя, на невялікім участку на У зліваюцца са схіламі. Дно плоскае, выслана сапрапелем,

уздоўж усходняга берага нешырокая паласа пясчаных адкладаў. Поўнасцю зарастае. На ПдУ возера выцякае ручай у р. Выдрыца.

**ЛЮКШЫНА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,66 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,7 м.**
**Даўжыня 1,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,87 км.**
**Аб'ём вады 2,58 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 27,2 км².**

У бас. р. Ула, за 8 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Вялікае Жэжліна. Схілы катлавіны вышынёй 10—13 м (на ПдЗ — 5 м), пад хмызняком. Берагі нізкія, параслі водна-балотнай раслліннасцю і хмызняком. На З пойма шырынёй 150—200 м. Да глыбіні 2 м ложа выслана пяском, ніжэй — ілам і сапрапелем. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 30—80 м да глыбіні 5 м.

**ЛЮСІНСКІ КАНАЛ,** гл. *Масцішчынскі канал.*

**ЛЮСЫНКА,** рака, гл. *Люцінка.*

**ЛЮТА,** рака ў Лунінецкім р-не, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца з Агарададжальнага канала за 9,5 км на ПнУ ад в. Барсукова (у верхнім цячэнні рака называецца Петрашэўская канава), вусце каля в. Мокрава. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЮТАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,13 км.**
**Найбольшая шырыня 0,06 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,3 км.**

У бас. р. Палата, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на З ад в. Алёшча. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, пад лесам, на У пад забудовай. Вакол возера нешырокая забалочаная пойма. Праз возера цячэ р. Лютая.

**ЛЮТАЯ,** рака ў Брэсцкім р-не, правы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 93 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Люта, вусце каля в. Уладычыцы. Цячэ па Прыбугскай раўніне. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЮТАЯ,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Палата (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Алёшча, вусце за 4 км на З ад в. Малое Сітна. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЛЮТКА,** рака ў Барысаўскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца ў в. Люцец, упадае ў воз. Палік, на паўднёвай ускраіне в. Палік. Рэчышча каналізаванае на працягу 2,9 км ад вытоку — в. Клетнае і на працягу 2,5 км перад вусцем. Цячэ пераважна па забалочаным лесе.

**ЛЮТНЯ,** рака ў Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Бязвусця (бас. Дняпра). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Пянькоўка, вусце за 2 км на Пд ад в. Роськаў. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЮТЫНКА,** рака, гл. *Люцінка.*

**ЛЮТЫНЯ,** рака ў Дубровенскім р-не, правы прыток р. Вярхіта (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 5 км на ПнУ, вусце за 0,5 км на З ад в. Азёры. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЛЮХАВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,43 км².**
**Найбольшая глыбіня 20,7 м.**
**Даўжыня 1,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,78 км.**
**Аб'ём вады 2,07 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,7 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 10 км на ПнЗ ад Полацка, каля г. Наваполацк. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, параслі лесам. Ёсць мноства заліваў і паўастравоў. Берагі нізкія, пад хмызняком, на Пн забалочаныя. Падводная частка катлавіны складаецца з паўночнага (глыбіня да 4,5 м) і паўднёвага (20,7 м) плёсаў, злучаных праліўам глыбінёй 3 м. Ложа да глыбіні 2 м выслана пяском, ніжэй — сапрапелем.

**ЛЮЦІ,** рака ў Расонскім р-не, левы прыток р. Нішча (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 31 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,4 км на ПдЗ ад в. Глаты, упадае ў Клясціцкае вадасховішча за 1,4 км на Пн ад в. Клясціцы. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЛЮЦІНКА,** Літанка, Лусянка, Люсынка, Лютынка, рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 48 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,4 ‰.**

Пачынаецца на ўскраіне Мінскага ўзвышша на Пн ад в. Навасёлкі, упадае ў Іслач за 3 км на ПдЗ ад в. Явідаўшчына. У нізоўі цячэ праз лясное ўрочышча Сутокі.

**ЛЮЦЯНСКАЯ КАНАВА,** рака ва Ушацкім р-не, правы прыток р. Крашанка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 0,8 км на У ад в. Ліпаўкі, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Арэхаўна. Рэчышча каналізаванае.

**ЛЯБІДКА,** рака, гл. *Лебяда.*

**ЛЯВОНКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Браслаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6,2 км. Выцякае з воз. Вісяты за 0,5 км на З ад в. Вісяты Міёрскага р-на, упадае ў воз. Укля з Пд за 2,5 км на ПнУ ад в. Голубаўшчына Браслаўскага р-на.

**ЛЯДЗЕШНЯ,** рака ў Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 0,6 км на Пн ад в. Васілёўка, вусце на паўночнай ускраіне в. Лядзешня. Рэчышча каналізаванае на працягу 2 км ад вытоку і на працягу 1 км перад вусцем.

**ЛЯДЗІНКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Івязянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Навасёлкі, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Івязянку на ПдЗ ад в. Івязь. Рэчышча каналізаванае. Каля вёсак Боркі і Раготна створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,07 км² і 0,30 км²).

**ЛЯДЗІНКА,** назва р. *Івязянка* ў верхнім цячэнні.

**ЛЯДНА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,58 км².**
**Найбольшая глыбіня 22 м.**
**Даўжыня 1,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,81 км.**
**Аб'ём вады 4,35 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 14,2 км².**

У бас. р. Ула, за 8 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Старое Лядна. Схілы катлавіны вышынёй 12—19 м, разараныя, на У і Пн параслі лесам. Берагі высокія, месцамі зліваюцца са схіламі, на ПнЗ пад хмызняком. Дно да глыбіні 1,5—2 м (на Пн да 6,5 м) выслана пяском, ніжэй — сапрапелем і ілам. Зарастае слаба, расліннасць пашырана да глыбіні 1,5—2 м. Выцякае ручай у воз. Огзіна. Забруджваецца сцёкавымі водамі.

**ЛЯДНЯ,** рака ў Горацкім і Мсціслаўскім р-нах, правы прыток р. Рамясцвянка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 36 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**




Возера Люкшына.

Пачынаецца на мяжы з Расіяй за 3 км на ПнУ ад в. Малая Рубанаўка Мсціслаўскага р-на, вусце на заходняй ускраіне в. Буда Горацкага р-на. Цячэ ў межах Горацка-Мсціслаўскай раўніны. Рэчышча каналізаванае на 3 участках: ад вытоку на працягу 2,2 км, каля в. Вялікая Рубанаўка (0,3 км) і каля вусця на працягу 2,1 км.

**ЛЯДЫНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток канала, які ўпадае ў р. Салон (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 1,6 км на ПнЗ ад в. Зялёная Дуброва, вусце за 4,3 км на Пн ад в. Шапчыцы.

**ЛЯМНІ́ЧАНКА**, рака, гл. *Лімнічанка*.

**ЛЯ́СКАВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток Слаўкавіцка-Ямінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Ляскавічы, вусце за 5 км на Пд ад в. Забалацце.

**ЛЯ́СКАВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток р. Самароўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн, вусце за 1 км на З ад в. Ляскавічы (каля паўночнай ускраіны г. Іванава).

**ЛЯСНА́Я**, рака ў Камянецкім і Брэсцкім р-нах, правы прыток Зах. Буга.




**Возера Ляшчынава.**

**Даўжыня 85 км.**
**Пл. вадазбору 2650 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 13 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Утвараецца ад зліцця рэк Правая Лясная і Левая Лясная за 1 км на У ад в. Вугляны Камянецкага р-на, вусце за 0,5 км на З ад в. Церабунь Брэсцкага р-на. Цячэ па Прыбугскай раўніне і Брэсцкім Палессі. Асноўныя прытокі: Крывуля, Тачыя, рака без назвы каля в. Трасцяніца, Лютая (справа), Градаўка (злева). Даліна шырынёй 2—4 км, схілы да 20 м (месцамі да 30 м), перасечаныя лагчынамі, ярамі, асушальнымі каналамі. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,2—0,6 км (найбольш 1 км), лугавая, радзей — парослая хмызняком; у разводдзе затапляецца вадой на глыбіню 0,3—0,8 м тэрмінам да 3 тыдняў. Рэчышча звілістае, месцамі моцназвілістае. Шырыня ракі ў межань 20—30 м. Берагі вышынёй 1—1,5 м (месцамі 3—4 м), адкрытыя, пад хмызняком. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы 2-й дэкады сакавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 1,5 м, найбольшая 2,1 м (1958). Замярзае ў 3-й дэкадзе снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка (6 сутак). На рацэ г. Камянец, каля в. Цюхінічы Брэсцкага р-на плаціна. Рака прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЛЯСНЫ́ 1-ы КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Забродзе, цячэ праз г. Жыткавічы, упадае ў сажалку рыбгаса «Чырвоная Зорка» на Пд ад г. Жыткавічы.

**ЛЯСНЯ́НСКІ КАНА́Л**, Маладушская канава, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток канала Бонда (бас. Дняпра). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Сяргееўка, упадае ў канал Бонда за 2,5 км на ПнЗ ад в. Лясное.

**ЛЯСУ́НСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Нясвіжскім р-не, правы прыток Рымашынскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца каля в. Мысліва, цячэ ў межах Капыльскай грады, упадае ў Рымашынскі канал за 1,6 км на Пн ад в. Пнівада Капыльскага р-на.



**Рака Лясная каля вёскі Цюхінічы Брэсцкага раёна.**

**ЛЯЎКІ́**, вадасховішча ў Старадарожскім р-не.

**Пл. 4,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 2,6 км.**
**Найбольшая шырыня 2 км.**
**Аб'ём вады 23,6 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1811 км².**

Наліўное. Створана ў 1986 за 22 км на ПнЗ ад г. Старыя Дарогі, каля в. Ляўкі для арашэння зямель, рыбагадоўлі, рэкрэацыі. Напаўняецца вадой па канале з р. Пціч. Ваганні ўзроўню на працягу года да 4 м.

**ЛЯЎКО́ВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Добасна (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Рог, упадае ў Добасну за 0,4 км на ПнУ ад в. Няптун.

**ЛЯЎКО́ЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Ляўкі, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Падарэссе.

**ЛЯ́ХАВА**, возера, гл. *Нявешчанка*.

**ЛЯ́ХАВЦКАЯ КАНА́ВА**, меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, левы прыток Ведзьмы (бас. Нёмана). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца ва ўрочышчы Каменка, за 3,5 км на З ад в. Пашкоўцы, упадае ў Ведзьму за 0,5 км ніжэй чыгуначнага моста на дарозе Баранавічы — Ганцавічы.

**ЛЯ́ХАВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 32 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Равіны, цячэ праз г. Драгічын, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Кублік.

**ЛЯ́ХАВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Страявога канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца каля в. Ляхавічы, вусце за 2 км на Пн ад в. Хісцецкі Бор.

**ЛЯХА́ЎКА**, рака ў Навагрудскім р-не, правы прыток Плісы (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км




**Возера Лядна.**

на ПнЗ ад в. Верaскава, упадае ў Плісу на Пн ад в. Пліса-1. Рэчышча на працягу 2,8 км (ад вусця ўверх) каналізаванае.

**ЛЯХАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, левы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 3,5 км на Пд, вусце за 2,8 км на ПнУ ад в. Ляхаўцы.

**ЛЯШКО́ЎСКІ КАНА́Л,** Магістральны канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Бярозаўскім р-нах, левы прыток р. Жыгулянка (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ ад в. Няхачава Івацэвіцкага р-на, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Старыя Пескі Бярозаўскага р-на.

**ЛЯШУГА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,005 км$^2$.**
**Даўжыня 0,12 км.**
**Найбольшая шырыня 0,08 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,3 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 38 км на ПнУ ад Гарадка, за 2,2 км на ПдУ ад в. Двухполле. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, спадзістыя, на Пд вышынёй да 15 м, у ніжняй частцы забалочаныя і пароплыя кустамі.

**ЛЯШЧЫНАВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,19 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 0,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.**
**Аб'ём вады 0,3 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 0,61 км$^2$.**

У бас. р. Крашанка, за 22 км на Пд ад Полацка, каля в. Зыкава. Схілы катлавіны вышынёй 3—8 м, параслі лесам, на ПдУ 15—18 м, разараныя. Берагі нізкія, на Пн і ПнУ сплавінныя, на У зліваюцца са схіламі, усюды параслі хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (каля 90 мг/л) і высокай колернасцю (120—130°). Зарастае каля 40 % пл. возера да глыбіні 1,5 м пераважна падводнай расліннасцю. На ПдЗ выцякае ручай у воз. Саламірскае.

# М

**МАГІЛЕ́НЯ,** рака ў Клімавіцкім р-не, левы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 11,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Кавалёўка 1-я, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Цімошкі. Рэчышча каналізаванае.

**МАГІЛІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не на меліярацыйнай сістэме «Даманаўская» (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца ва ўрочышчы Стралянскае, за 3 км на Пд ад в. Волька, упадае ў канал каля в. Магіліца. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**МАГІЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток Дубайскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Верхні Церабяжоў, вусце за 3 км на Пд ад в. Глінка.

**МАГІСТРА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, левы прыток р. Маска (бас. Дняпра). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад воз. Пясочнае, упадае ў Маску за 2 км на З ад в. Устроны. Канал перасякае асушаны балотны масіў, дзе працуе торфапрадпрыемства «Зялёны Бор».

**МАГІСТРА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Дубровенскім р-не, правы прыток р. Вярхіта (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Пятрыкі, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Вялікае Тхарына.

**МАГІСТРА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** гл. *Ляшкоўскі канал.*

**МАДО́РКА,** рака ў Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 58 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Яленава, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Мадора. У нізоўі цячэ праз старычныя азёры.

**МА́ЕЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 10,5 м.**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,98 км.**
**Аб'ём вады 0,78 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**

У бас. р. Свячанка (цячэ праз возера), за 18 км на ПдУ ад г. Чашнікі, за 1 км на ПнУ ад в. Хотліна. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, пераважна разараныя, на У вышынёй да 16 м, параслі хмызняком. Злучана р. Свячанка з воз. Хотлінскае.

**МА́ЖА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 40 км.**
**Пл. вадазбору 319 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,4 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на У ад г. Капыль, цячэ праз горад (на рацэ ў межах горада створаны сажалкі пл. 22 га і 11 га) у межах Капыльскай грады і па Клецкай раўніне. Вусце каля паўночнай ускраіны в. Семежава. Даліна скрынкападобная, месцамі трапецападобная, шырынёй 0,3—0,5 км. Пойма пераважна двухбаковая (шырыня 0,25—0,4 км), месцамі забалочаная. Шырыня рэчышча 2—5 м. На рацэ створана Цімкавіцкае вадасховішча.

**МАЖА́НКА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 55 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на З ад г. п. Бягомль, вусце за 2 км на У ад в. Вускром'е. Рэчышча каналізаванае на працягу 4 км (1 км на ПнЗ ад в. Вускром'е — вусце).

**МАЖЭ́ЙСКАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,66 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 1,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,66 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,19 км.**
**Аб'ём вады 1,68 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 10,7 км$^2$.**

У бас. р. Мядзелка, за 4 км на ПнЗ




**Маеўскае возера.**

ад г. Паставы, каля в. Мажэйкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, на ПнЗ і ПдУ пераходзяць у забалочаную нізіну. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на Пн і Пд сплавінныя. На ПнЗ і У пойма шырынёй 100—200 м, забалочаная. Дно ілістае. Зарастае да глыбіні 2—2,3 м. Упадаюць некалькі меліярацыйных каналаў.

**МАЗГАНОЎКА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,005 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,09 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,28 км.**

У бас. р. Кабішчанка, за 5 км на ПнУ ад Гарадка, за 0,9 км на З ад в. Заазер'е. Схілы катлавіны спадзістыя, забалочаныя. Пойма шырынёй 25—100 м.

**МАЗІЧЫ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 12,7 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Глінянка, вусце каля в. Мазічы.

**МАЗНОЎКА,** рака, гл. *Міронаўка.*

**МАЗОРАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Добасна (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 2,5 км на З ад в. Камерава, упадае ў Добасну за 1,4 км на ПнУ ад в. Скрыпліца.

**МАКАРАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Найбольшая глыбіня 13,3 м.**
**Даўжыня 0,94 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,26 км.**
**Аб'ём вады 1,22 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 7,32 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 24 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Макараўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 10—22 м (на Пд 6—8 м), разараныя, у ніжняй частцы пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, на У і З нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на Пн на невялікіх участках сплавінныя. На З забалочаная пойма шырынёй да 70 м. Дно да глыбіні 1,5 м пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Зарастае ўздоўж берагоў да глыбіні 2,7 м.

**МАКАЎСКІ КАНАЛ,** М а к а ў е н с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Макаўе, упадае ў Бярэзіну за 4 км на ПнУ ад в. Уборак.

**МАКАЧЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,62 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**
**Пл. вадазбору 14,7 км².**

У бас. р. Палата, за 46 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на Пд ад в. Булыгі. Схілы катлавіны на У і Пд вышынёй да 8 м, пара слі лесам. Берагі забалочаныя. Злучана пратокай з р. Палата.

**МАКАШЫ,** меліярацыйны канал у Баранавіцкім р-не, правы прыток Залюбіцкага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Падлясейкі, упадае ў Залюбіцкі канал за 1 км на Пн ад в. Стары Двор. Прымае сцек з сеткі меліярацыйных каналаў.

**МАКЕЕНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,73 км.**

У бас. р. Свіна, за 37 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1,8 км на ПнЗ ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 100 м. Выцякае ручай у воз. Малое Свіно.

**МАКОНЬ,** рака ў Смалявіцкім і Чэрвеньскім р-нах, левы прыток р. Уша (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 71 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Кляннік Смалявіцкага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 5 км (выток — 2 км на ПдУ ад в. Забалоцце Смалявіцкага р-на).

**МАКОЎЗА,** рака ў Лагойскім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Паграбішча, вусце за 1,2 км на Пн ад в. Масцішча. Рэчышча каналізаванае на працягу 1,5 км (ад вусця ўверх). На ўсходняй ускраіне в. Паграбішча на рацэ плаціна і сажалка.

**МАКРАНКА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Днядро.

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 161 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Клятное, вусце на паўночна-ўсходняй ускраіне г. Быхаў. Асноўны прыток — р. Забава (злева). Рэчышча каналізаванае.

**МАКРЭЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 14 км. Пачынаецца з р. Пясчанка на паўднёвай ускраіне в. Дзімамеркі, упадае ў Верхнюю Брагінку за 2,5 км на Пд ад в. Малейкі.

**МАКСІМАВА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не, на мяжы з Латвіяй.

**Пл. 0,4 км².**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,52 км.**
**Пл. вадазбору 2,71 км².**

У бас. р. Росіца, за 23 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, пара слі лесам, на Пн разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя, пад лесам і хмызняком. У цэнтры востраў пл. 0,8 га. Выцякае ручай у р. Росіца.

**МАЛАДУШСКАЯ КАНАВА,** гл. *Ляснянскі канал.*

**МАЛАЖАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Малажані, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Жураўлёва.

**МАЛАЖЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Малажын, упадае ў Верхнюю Брагінку за 2,5 км на ПдЗ ад в. Ленінск.

**МАЛАРЫТА,** рака ў Маларыцкім р-не, левы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 30,5 км.**
**Пл. вадазбору 602 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Цячэ па Брэсцкім Палессі. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Арэхава ад аўтадарогі Арэхава — Олтуш і з'яўляецца працягам канала Сярэдні Роў (раней выцякала з Арэхаўскага возера, але ў выніку меліярацыйных работ выток ракі быў засыпаны). Вусце за 2 км на ПнУ ад в. Замшаны.



Макараўскае возера.

Даліна невыразная. Схілы спадзістыя, парэзаныя сеткай меліярацыйных каналаў, пад лесам і разараныя. Пойма двухбаковая, нізкая, асушаная, шырынёй 1—1,5 км. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае, шырыня яго 6—8 м. Берагі выраўнаваныя, вышынёй да 2 м. Рака прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. На рацэ г. Маларыта.

**МАЛАСТОЎКА,** рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Тур'я (бас. Дняпра). Даўжыня 11,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Князеўка, вусце ў межах г. п. Краснаполле. Рэчышча каналізаванае на працягу 7 км (выток — 2,4 км на З ад Краснаполля). На рацэ перад Краснаполлем сажалка.

**МАЛАТОЎКА,** Малатоўня, рака ў Мсціслаўскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 107 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Мышкіна, вусце ў в. Падлужжа. Цячэ па Горацка-Мсціслаўскай раўніне.

**МАЛАТОЎКА,** рака ў Баранавіцкім р-не, правы прыток Мышанкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 197 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Сваяшкі, упадае ў Мышанку ва ўрочышчы Астравок за 4 км ад в. Сялец. Прыток — р. Навасадка. На працягу 12 км каналізаваная (ад в. Стрэлава да вусця). Каля в. Мілавіды створана сажалка (пл. 0,09 км$^2$). Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МАЛАЯ БАРОНІЦА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,4 м.
Даўжыня 0,66 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,52 км.
Аб'ём вады 0,18 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 38,2 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 10 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Зарубаўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, на Пн невыразныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн сплавінныя. Дно плоскае, ілістае, у прыбярэжнай частцы пясчанае. Зарастае да глыбіні 3 м. Упадае ручай з воз. Ясна, выцякае ручай у воз. Вялікая Бароніца.

**МАЛАЯ ВОСМАТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,58 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 10,5 м.
Даўжыня 1,92 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,58 км.
Аб'ём вады 2,23 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 13,8 км$^2$.

У бас. р. Свіна, за 34 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 7 км на ПдЗ ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м (на У да 5—7 м), парослі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, месцамі забалочаныя. Мелкаводдзе шырынёй 5—10 м, на Пд да 30 м. Дно пясчанае, месцамі ілістае. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 5—40 м, пашырана да глыбіні 2,2 м. Злучана пратокай з воз. Вялікая Восмата.

**МАЛАЯ ВУДАГА,** Малая Вудажка, рака ў Чэрыкаўскім р-не, правы прыток р. Вудага (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 77 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ржавец, вусце за 2 км на У ад в. Перамога. Рэчышча каналізаванае на працягу 2,8 км (ад в. Ржавец да в. Шароеўка).

**МАЛАЯ ГАЛЬШsu,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Гальша (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца ў лясным масіве за 3,4 км на ПдЗ ад в. Сенькава каля чыгункі Орша — Горкі, вусце за 2 км на У ад в. Чапялінка. Рэчышча каналізаванае.

**МАЛАЯ ЕЛЬНЯ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,2 м.
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.
Пл. вадазбору 0,5 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 17 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Быстрамаўцы. Выцякае ручай у воз. Вялікая Ельня.

**МАЛАЯ СЛІВА,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, правы прыток р. Вялікая Сліва (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Боркі, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Малая Сліва.

**МАЛАЯ ШВАКШТА,** возера, гл. *Малыя Швакшты*.

**МАЛІМОНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПдЗ ад в. Малімоны, упадае ў Бярэзіну за 0,7 км на Пн ад в. Міхайлаўка Казлоўскага сельсавета.

**МАЛІНАЎКА,** Крывая, рака ў Талачынскім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 109 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Скавышкі, вусце на паўднёвай ускраіне г. Талачын. Рэчышча каналізаванае на працягу 8 км (ад вытоку да паўднёвай ускраіны в. Лісоўшчына).

**МАЛІНАЎКА,** рака, гл. *Выпрата*.

**МАЛІНАЎКА,** назва р. *Вялікі Пера коп* у верхнім цячэнні.

**МАЛІНАЎСКІ КАНАЛ,** Барбароўскі канал, меліярацыйны канал у Глускім р-не, правы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 19 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ ад в. Сялец, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Барбарова.

**МАЛКА,** рака ў Лагойскім р-не, правы прыток Дзвінаса (бас. Віліі).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 24 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,5 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Адрубак, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, пры ўпадзенні ў Дзвінасу г. п. Плешчаніцы. На працягу 4,1 км каналізаваная: ад вытоку да в. Адрубак (2,5 км), ад вусця ўверх на працягу 1,6 км.

**МАЛОЕ АСТРАВІТА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,57 км.
Найбольшая шырыня 0,26 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,52 км.




Возера Малая Бароніца.




Возера Малая Ельня.

Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.

У бас. р. Сосніца, за 50 км на ПнУ ад Полацка, за 2 км на ПдЗ ад в. Белая. Схілы катлавіны вышынёй 7—9 м, парослі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пн зліваюцца са схіламі.

**МАЛО́Е АСТРАЎЛЯ́НСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,92 км.**

У бас. р. Усыса, за 12 км на ПдЗ ад г. Гарадок, каля в. Астраўляны. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м. Востраў пл. 0,25 га. На З і У забалочаная пойма. На З упадае ручай, выцякае ручай у Вялікае Астраўлянскае возера.

**МАЛО́Е БЕ́ЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,9 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 11,1 м.**
**Даўжыня 2,09 км.**
**Найбольшая шырыня 0,87 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,36 км.**
**Аб'ём вады 4,22 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1 км$^2$.**

У бас. р. Свіна (выцякае з возера), за 52 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Белая. Схілы катлавіны вышынёй 11—12 м (на У да 20 м), пясчаныя, пад лесам. Берагі пясчаныя, на ПдУ тарфяністыя. На Пд да возера прымыкае масіў вярховага балота. Мелкаводдзе вузкае, дно да глыбіні 2,5—4 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (60—80 мг/л), чысцінёй і высокай празрыстасцю. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 25 м, падводныя макрафіты пашыраны да глыбіні 5 м, імхі да 8 м. У возеры расце палушнік азёрны — рэдкі для Беларусі ахоўны від расліны, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу.

**МАЛО́Е ВО́ЗЕРА,** у Смалявіцкім р-не.

Пл. 0,4 км$^2$.
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,55 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,47 км.**



**Малое возера (Смалявіцкі раён).**

**Пл. вадазбору 6,8 км$^2$.**

У бас. р. Гайна, за 13 км на Пн ад г. Смалявічы, каля в. Юр'ева. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м. Берагі забалочаныя. Пойма шырынёй 100—200 м, забалочаная, пад лесам. Злучана канавай з р. Усяжа.

**МАЛО́Е ВО́ЗЕРА,** Дварышчанскае возера, у Маларыцкім р-не.

Пл. 0,32 км$^2$.
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**

У бас. р. Рыта, за 11 км на ПдЗ ад г. Маларыта, каля в. Дворышча. Схілы катлавіны вышынёй 1—2 м, месцамі пад хмызняком, на Пн разараныя. Берагі забалочаныя. Дно сапрапелістае. Выцякае канал у р. Маларыта.

**МАЛО́Е ВО́ЗЕРА,** у Шумілінскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Будавесць, за 5,5 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, за 1 км на ПдУ ад в. Мерзлякі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лугам, на Пн пад хмызняком. Злучана ручаём з воз. Вялікае.

**МАЛО́Е ГАРО́ДНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,08 км.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Чарнец, за 40 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 5 км на Пн ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй на Пд да 5 м, на Пн да 15 м, парослі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд нізкія. Дно сапрапелістае. Злучана ручаём з воз. Вялікае Гародна, выцякае ручай у р. Чарнец.

**МАЛО́Е ГЛЫБО́КАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
**Даўжыня 0,29 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 33 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2 км на Пд ад в. Баброва. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пад лесам.

**МАЛО́Е КАМА́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 12,2 м.**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**
**Аб'ём вады 0,2 млн. м$^3$.**

У бас. р. Камайка, за 16 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Камаі. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м. Дно выслана ілам. Мелкаводдзе моцна зарастае. Упадаюць 2 ручаі, злучана пратокай з воз. Вялікае Камайскае.

**МАЛО́Е МО́ХАВАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Нішча, за 20 км на ПнЗ ад г. Паставы, за 6 км на ПнЗ ад в. Юхавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м (на У да 7 м), парослі лесам. Берагі забалочаныя, пад лесам і хмызняком.

**МАЛО́Е СВІНО́,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 1,06 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 6,7 м.**
**Даўжыня 2,87 км.**
**Найбольшая шырыня 0,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,26 км.**
**Аб'ём вады 3,69 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 12,9 км$^2$.**

У бас. р. Свіна, за 37 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 6 км на ПдЗ ад в. Халамер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м (на Пд да 10 м), пясчаныя, парослі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПдУ і З нізкія, пясчаныя. Дно да глыбіні 2,5—4 м пясчанае, ніжэй ілістае і сапрапелістае. Зарастае амаль палова возера да глыбіні 2,7 м. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 40 м. Злучана пратокай з воз. Вялікае Свіно.

**МАЛО́Е СВЯТО́Е ВО́ЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

Пл. 0,11 км$^2$.
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,22 км.**
**Пл. вадазбору 1,25 км$^2$.**

У бас. р. Свячанка, за 11 км на З ад г. Сянно, на У ад в. Замошша, сярод меліяраванага балота. Схілы невыразныя, берагі забалочаныя. Выцякае ручай у р. Свяча.

**МАЛО́Е УКЛЕ́ЙНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,12 км$^2$.
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.**

У бас. р. Альзініца, за 18 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, на Пн ад в. Капылоўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, пад хмызняком. Выцякае ручай у воз. Вялікае Уклейна.

**МАЛОЕ ХАЦЬКО́ВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Ценіца, за 32 км на У ад Полацка, за 9 км на ПнУ ад в. Домнікі. Схілы катлавіны слаба выражаны, на Пд парослі забалочаным хмызняком, на Пн, ПнУ пад лугам.

**МАЛО́Е ЧАРНО́ВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,25 км$^2$.
**Даўжыня 1,15 км.**

Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,85 км.
Пл. вадазбору 18,1 км$^2$.

У бас. р. Чарнаўка, за 16 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на Пн ад в. Загуззе. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пераважна пад хмызняком, на Пд і ПнЗ разараныя. Праз возера цячэ р. Чарнаўка.

**МАЛОЕ ЯЗНА,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Даўжыня 0,82 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 2 км.
Пл. вадазбору 14,2 км$^2$.

У бас. р. Авута, за 40 км на ПдУ ад г. Міёры, каля в. Язна. Злучана пратокай з воз. Вялікае Язна.

**МАЛОТКАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Піна (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Малоткавічы, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Стахавічы.

**МАЛОЧНАЕ ВОЗЕРА,** Малотнева, возера ў Гродзенскім р-не.

Пл. 0,78 км$^2$.
Даўжыня 2,35 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,15 км.

У бас. р. Пыранка (выцякае з возера), за 30 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Парэчча. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м, пад лесам, участкамі на ПнЗ і ПдЗ разараныя. Берагі высокія, на З і У абразійныя. Дно сапрапелістае.

**МАЛУША,** рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Ліпаўка (бас. Дняпра).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 54 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Малатоўка, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Заполле. Рэчышча каналізаванае на працягу 3 км (ад паўднёвай ускраіны в. Бахані да вусця).

**МАЛЫ БЕЛЯНОК,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.

У бас. р. Быстрыца, за 30 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,6 км на Пд ад в. Двор Саланевічы. Схілы катлавіны вышынёй 10 м (на Пн 5 м), пераважна пад хмызняком. На Пн лугавая пойма. Злучана ручаём з воз. Вялікі Белянок.

**МАЛЫ ГРАБЯНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,005 км$^2$.
Даўжыня 0,1 км.
Найбольшая шырыня 70 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,25 км.

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 24 км на ПнЗ ад Полацка, за 2 км на З ад в. Лісуны, сярод балота.

**МАЛЫ ПЕРАКОП,** рака ў Мядзельскім р-не, правы прыток Вялікага Перакопа (бас. Віліі). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Канстанцінава, цячэ пераважна сярод лесу, упадае ў Вялікі Перакоп за 1,5 км на ПдУ ад в. Шэметава. На ўсім працягу каналізаваная. У вярхоўі прымае сцек з меліярацыйных каналаў.

**МАЛЫ СУПОНЕЦ,** возера на мяжы Глыбоцкага і Ушацкага р-наў.

Пл. 0,15 км$^2$.
Даўжыня 0,45 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,39 км.

У бас. р. Альзініца, за 18 км на З ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Лісічына. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, парослі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пд зліваюцца са схіламі. Злучана пратокай з воз. Вялікі Супонец.

**МАЛЫ ТУЧОК,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,46 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Свольна, за 28 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на У ад воз. Лісна, сярод ляснога масіву. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м (на Пн і Пд вышынёй 13—18 м), пад лесам.

**МАЛЫШ,** рака ў Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 29 км.
Пл. вадазбору 234 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Падкрэжнік, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Вугольшчына. Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Асноўны прыток — р. Ліпаўка (злева). Рэчышча каналізаванае на працягу 2,4 км (ад в. Макаўка ўніз па цячэнні).

**МАЛЫЯ БЛІЗНЯТЫ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,48 км.

У бас. р. Дрыса, за 25 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1,3 км на ПнУ ад в. Галубова. Размешчана сярод высокіх (да 20 м), парослых лесам узгоркаў.

**МАЛЫЯ СУРВІЛІШКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,29 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,6 м.
Даўжыня 1,02 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,16 км.
Аб'ём вады 0,33 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 135 км$^2$.

У бас. р. Камайка (цячэ праз возера, злучае яго з воз. Вялікае Сурвілішскае), за 20 км на З ад г. Паставы, каля в. Сурвілішкі. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м (на У 1—2 м), разараныя. Берагі сплавінныя, на У пясчаныя. Дно плоскае, ілістае. Поўнасцю зарастае.

**МАЛЫЯ ТАБОЛЫ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,06 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,16 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.



Малое Мохавае возера.




Возера Малыя Сурвілішкі.

У бас. р. Свіна, за 40 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 3,8 км на ПнЗ ад в. Майсеева. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, пад лесам, на З і ПнЗ забалочаныя. На У ўпадае ручай з воз. Вялікія Таболы, выцякае ручай у р. Чарнец.

**МАЛЫЯ ШВАКШТЫ,** Малая Швакшта, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 1,91 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 2,3 км.**
**Найбольшая шырыня 1,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,75 км.**
**Аб'ём вады 2,86 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 105 км².**

У бас. р. Страча (выцякае з возера), за 22 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Папоўцы. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, параслі хмызняком. Берагі нізкія, забалочаныя. Дно сапрапелістае, прыбярэжная частка пясчана-галечная. 2 астравы. У летні час вада добра перамешваецца і прагрэецца. Поўнасцю зарастае (пераважна падводнай расліннасцю). Упадаюць 3 ручаі. Злучана пратокай з воз. Вялікія Швакшты.

**МАЛЬВІНКА,** Косава, канал Рудзянка, рака ў Івацэвіцкім р-не, правы прыток Грыўды (бас. Нёмана). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Лазаўцы, упадае ў Грыўду на У ад в. Старажоўшчына. На ўсім працягу каналізаваная.

**МА́ЛЬКА,** рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Кавалёўкі (бас. Віліі). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Паракіці, упадае ў Кавалёўку на У ад г. п. Астравец. Ад вытоку на працягу 8,5 км каналізаваная.

**МАЛЮ́ШЫЦА,** рака, гл. *Зямчатка.*

**МАМА́ЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Быхаўскім р-не, левы прыток р. Ухлясць (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Давыдавічы, упадае ў Ухлясць за 1,5 км на Пд ад в. Мамачына.




**Возера Малыя Швакшты.**

**МАНАСЕ́ЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Люта (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 9 км на ПнУ ад в. Барсукова, вусце за 1 км на Пн ад в. Манасеева.

**МАНАСЕ́ЕЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток Чарабасаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Манасеева, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Намакрава.

**МАНАСТЫ́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Міхедава-Грабаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца за 6 км на ПдЗ ад в. Міхедавічы, вусце каля в. Сотнічы.

**МА́НЕЦ,** возера ў Докшыцкім р-не.

**Пл. 1,44 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,3 м.**
**Даўжыня 2,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,1 км.**
**Аб'ём вады 0,96 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 188 км².**

У бас. р. Сергуч (цячэ праз возера), за 42 км на ПдУ ад г. Докшыцы, на тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Поўнасцю зарастае.

**МАНЧА,** рака ў Крупскім і Бярэзінскім р-нах, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору [redacted] км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Гумны Крупскага р-на, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Арэшкавічы Бярэзінскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**МА́НЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток пратокі Старая Убарць (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,3 км. Пачынаецца за 6 км на ПнЗ ад в. Чырвонабярэжжа, вусце за 4,5 км на Пн ад в. Манчыцы.

**МАРАЧА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Смердзь (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Перунова, вусце каля в. Лахва.

**МАРГВА́,** рака ў Глыбоцкім р-не, левы прыток р. Бярозаўка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 36 км.**
**Пл. вадазбору 158 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Стураўшчына, вусце за 0,5 км на У ад в. Панфілаўшчына. Цячэ ў межах Свянцянскіх град і Полацкай нізіны. Даліна пераважна трапецападобная, характэрна чаргаванне звужаных месцаў (шырыня 0,3—0,5 км) з пашыранымі (шырыня 1—1,5 км). Пойма двухбаковая, шырынёй 100—150 м, месцамі 50—60 м. Рэчышча (за выключэннем участкаў в. Дзеркаўшчына — в. Альховікі і в. Ракаўцы — в. Гатоўкі) каналізаванае на працягу 26,1 км (шырыня ў вярхоўі 2—3 м, у нізоўі да 9 м).

**Возера Малыя Швакшты.**

**МАРГО́ЧКА,** рака ў Ляхавіцкім р-не, левы прыток р. Ведзьма (бас. Нёмана).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 40 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Пашкоўцы, упадае ў р. Ведзьма за 1 км на У ад в. Кавалі. На працягу 8 км каналізаваная (ад в. Грушаўка да вусця).

**МА́Р'ІНА ГО́РКА,** вадасховішча ў Пухавіцкім р-не.

**Пл. 0,69 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Аб'ём вады 1,02 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,8 км².**

Наліўное. Створана ў 1962 у даліне р. Цітаўка за 1,5 км на З ад г. Мар'іна Горка для рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 0,95 м.

**МА́Р'ІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 21 км. Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Сосны, вусце за 2 км на Пд ад в. Нежын. Канал пракладзены ў 1930-я гады для меліярацыі тарфянікаў Мар'інскага балота, апісаны ў паэме Янкі Купалы «Над ракой Арэсай».

**МАРКАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток р. Ласіцы (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Мосткі, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Маркавічы.

**МАРКО́ЦІНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.



Возера Манец.

**Пл. 0,002 км².**
**Даўжыня 0,06 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.**

У бас. р. Сомніца, за 10 км на Пд ад Полацка, за 1 км на ПдЗ ад в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, спадзістыя, парослі лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—100 м.

**МАРОЗЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Ушача, за 10 км на ПдЗ ад Полацка, за 2 км на У ад в. Рудня. Схілы катлавіны вышынёй 2 м, пад хмызняком, які расце да ўрэзу вады. Упадаюць ручай і меліярацыйная канава, выцякае ручай у р. Ушача.

**МАРОХАРАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, правы прыток Найда-Бялёўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Пухавічы, вусце за 2 км на З ад в. Бялёў.

**МАРОЧНА,** вадасховішча ў Столінскім р-не.

**Пл. 1,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 1,15 км.**
**Аб'ём вады 4,3 млн. м³.**

Налыўное. Створана ў 1988 за 22 км на З ад г. Столін, каля в. Калоднае для арашэння зямель. Напаўняецца вадой з рэк Стубла і Стыр. Ваганні ўзроўню на працягу года да 2,9 м.

**МАРТЫНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца на У ад в. Загараны, упадае ў Нёман на У ад в. Падбараны. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МАРУГА,** рака ў Браслаўскім р-не, левы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 50 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1‰.**

Выцякае з воз. Маруга, цячэ праз г. п. Відзы, вусце за 1,4 км на У ад в. Германоўшчына. Рэчышча каналізаванае.

**МАРУГА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,36 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 0,81 км.**
**Найбольшая шырыня 0,71 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.**
**Аб'ём вады 0,46 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 11,5 км².**

У бас. р. Дзісна, за 36 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 0,5 км на Пн ад г. п. Відзы. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м (на У да 10 м), пераважна пад лугам, на У разараныя. Берагі сплавінныя, на ПдУ пясчаныя, забалочаныя. Дно выслана сапрапелем, на У і Пн уздоўж берагоў да глыбіні 1 м трапляюцца пясчаныя адклады. Поўнасцю зарастае пераважна падводнай расліннасцю. Упадаюць 2 ручаі, выцякае р. Маруга.

**МАРЦІНАЎКА,** рака ў Зэльвенскім р-не, правы прыток р. Самараўка (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 0,7 км на У ад в. Савічы, упадае ў Самараўку на ПнЗ ад в. Самаравічы.

**МАРЦІНЯЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Браслаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток р. Корынка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдЗ ад в. Каменка Ахрэмавецкага сельсавета Браслаўскага р-на, вусце за 0,6 км на ПдУ ад в. Марціняты Шаркоўшчынскага р-на.

**МАРЦОЎКА,** назва р. *Хатава* ў верхнім цячэнні.

**МАРЦЫБЫЛІНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**
**Пл. вадазбору 0,8 км².**

У бас. р. Бярозаўка, за 5 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Марцыбыліна. Схілы вышынёй да 5 м, пад хмызняком, на З і часткова на У разараныя. Злучана ручаём з Забельскім возерам.

**МАРЫНЕЦ,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Обаль, за 25 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Вішня, сярод урочышча Обальскае балота. Схілы катлавіны невыразныя. На З выцякае ручай.

**МАРЫНЕЦ,** рака ў Шумілінскім р-не, правы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Барсукі Обальскага пассавета, вусце каля в. Тупічына. Верхняе і сярэдняе цячэнне ў лясістай мясцовасці.

**МАР'ЯЛІЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мінскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Бараўляны, упадае у Астрашыцкае вадасховішча за 1 км на З ад в. Астрашыцкі Гарадок.

**МАСІЛАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слонімскім р-не, левы прыток Грыўды (бас. Нёмана). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца ва урочышчы Ліпнікі за 1,2 км на ПнУ ад в. Прыхілы, упадае у Грыўду на З ад в. Масілавічы.

**МАСКА,** рака у Барысаўскім р-не, правы прыток р. Рова (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 89 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Рыбацкае, вусце за 2,5 км на ПнУ ад в. Забашэўка. Рэчышча каналізаванае.

**МАСКАВІЦА,** рака ў Докшыцкім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца з воз. Маскавіца, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Беразіно. Рэчышча каналізаванае на працягу 5 км (ад вытоку да аўтадарогі в. Беразіно — г. Лепель). Цячэ па забалочаным лесе на Пн Бярэзінскага біясфернага запаведніка.

**МАСКАВІЦА,** возера ў Докшыцкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,5 км.**

У бас. р. Бярэзіны, за 32 км на ПнУ ад г. Докшыцы, за 6 км на ПнУ ад в. Беразіно, сярод забалочанага ляснога масіву. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя. Выцякае р. Маскавіца.

**МАСКАЛЁВА,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**




Возера Маруга.

Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.
Пл. вадазбору 2,25 км².

У бас. р. Галбіца, за 26 км на ПнУ ад г. Паставы, за 1 км на ПдУ ад в. Харкі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі хмызняком, месцамі на З і Пд разараныя. Выцякае ручай у р. Заражанка.

**МАСЛАВІЧЫ,** возера ў Быхаўскім р-не.

Пл. 0,11 км².
Даўжыня 0,82 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,82 км.

На пойме Дняпра, на У ад г. Быхаў. Старычнае. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя.

**МАСЛІЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,31 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Обаль, за 28 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Масліцы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя, на Пд пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. На ПдЗ упадае ручай, на ПнУ злучана ручаём з Давыдзенскім возерам.

**МАСТАВІКОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, левы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2,6 км на ПнУ ад в. Дубаносы, упадае ў Вузлянку за 1,5 км на ПдУ ад в. Няверы. У вярхоўі цячэ праз лясное ўрочышча, далей прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МАСТАВУХА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Званіца, за 21 км на ПнЗ ад Полацка, за 2 км на Пн ад в. Залессе. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам, месцамі забалочаным. На Пд упадае ручай.

**МАСТВА,** рака ў Ровенскай вобл. Украіны і ў Столінскім р-не, левы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці).

Даўжыня 172 км.
Пл. вадазбору 2400 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 10,1 м³/с.
Агульнае падзенне ракі 64 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,37 ‰, на Беларусі 0,01 ‰.

Пачынаецца ў Ракітнаўскім р-не на вышыні 190 м над узроўнем мора, у верхнім і сярэднім цячэнні называецца Л ь в а. Цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе, вусце каля в. Кароцічы Столінскага р-на. Даўжыня ў межах Беларусі 80 км, пл. вадазбору 800 км². Асноўныя прытокі справа — Гнойніца (на Украіне), Мышанка і Лесавая Рэчка (на Беларусі). Даліна невыразная, у верхнім цячэнні месцамі трапецападобная. Пойма двухбаковая (шырыня 0,3—5 км), пераважна забалочаная. Рэчышча ўмерана звілістае, разгалінаванае, у ніжнім цячэнні каналізаванае.

**МАСЦІЦКАГА КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, на мяжы з Валынскай вобл. Украіны, правы прыток Зах. Буга. Даўжыня 5 км. Пачынаецца з возера без назвы каля в. Кашары Валынскай вобл., вусце за 3 км на Пд ад в. Орхава. Моцна зарос.

**МАСЦІШЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Маладзечанскім р-не, правы прыток Ушы (бас. Віліі). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад г. Маладзечна, упадае ва Ушу за 2 км на З ад в. Масцішча.

**МАСЦІШЧЫНСКІ КАНАЛ,** Л ю с і н с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, правы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 5 км на З, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Люсіна. Праходзіць па лясістай забалочанай мясцовасці.

**МАТРОНА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток Гаўі (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на Пд ад в. Рудзэўшчына, упадае ў Гаўю на ўсходняй ускраіне в. Суботнікі. На працягу 5 км каналізаваная (ад вытоку да в. Квяткоўцы).

**МАТЫКАЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток Зах. Буга. Даўжыня 18,6 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Вялікія Матыкалы, вусце за 1,2 км на З ад в. Чыжэвічы.

**МАТЫЛЁЎ РОЎ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, левы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Малы Краснік, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Выброды.

**МАТЫРЫНА,** М а т ы р ы н с к а е в о з е р а, ва Ушацкім р-не.



Рака Мастаў ў ніжнім цячэнні.


Возера Матырына (Ушацкі раён).

Пл. 1,38 км².
Найбольшая глыбіня 6 м.
Даўжыня 1,74 км.
Найбольшая шырыня 1,41 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,98 км.
Аб'ём вады 4,89 млн. м³.
Пл. вадазбору 178 км².

У бас. р. Ушача, за 6 км на Пн ад г. п. Ушачы, каля в. Матырына. Схілы катлавіны вышынёй 10—25 м (на Пн і У 5—8 м), месцамі высланыя валунамі, пад лугам, на ПдУ пад лесам. На Пн і Пд залівы. Берагі нізкія, на ПнУ сплавінныя. Зона мелкаводдзя шырынёй ад 20 м на ПдУ да 115 м на ПнЗ. Дно ў прыбярэжнай частцы пясчанае, глыбей ілістае, у паўночным заліве сапрапелістае. 2 астравы агульнай пл. 1 га. Зарастае больш за 1/3 плошчы возера да глыбіні 2 м. Праз возера цячэ р. Альзініца.

**МАТЫРЫНА**, возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,39 км².
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 1,69 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 4 км.
Аб'ём вады 0,98 млн. м³.
Пл. вадазбору 2,26 км².

У бас. р. Лукомка, за 17 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Матырына. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя. Берагі пясчаныя, пад хмызняком, часткова зліваюцца са схіламі. Пойма ўчасткамі на ПнЗ і ПдЗ шырынёй 50—100 м, забалочаная, параслая хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно выслана ілам і сапрапелем. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 2 м.

**МАХАНАЎКА**, рака ў Аршанскім і Горацкім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Малая Лыскаўка Аршанскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Вялікія Шарыпы Горацкага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 3,5 км (ад вытоку да в. Калацілы Горацкага р-на).

**МАХІРОВА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,03 км².
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 18 км на ПнЗ ад Полацка, за 2 км на ПнУ ад в. Махірова, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. На Пн упадае ручай, на З выцякае ручай у возера без назвы.

**МАХРОЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток канала Спад (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ ад в. Калена, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Махро.

**МАЦЕЕВІЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Талька (бас. Дняпра). Даўжыня 15,2 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Новы Уборак, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Запярынне.

**МАЦІЦА**, рака ў Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 27 км.
Пл. вадазбору 117 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Смолеўцы Міёрскага р-на, цячэ па паўднёва-заходняй частцы Полацкай нізіны, вусце за 0,6 км на Пд ад в. Саварына Шаркоўшчынскага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 7 км каналізаванае.

**МАЦКЕВІЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, левы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Жыліхава, вусце за 2 км на Пн ад в. Семежава.

**МАЦОЎКА**, назва р. *Хатава* ў верхнім цячэнні.

**МАЦУКОЎШЧЫНА**, рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток канала на асушальнай сетцы торфапрадпрыемства «Бярэзінскае» (водапрыёмнік р. Бярэзіна, бас. Нёмана). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1,3 км на У ад в. Хоўхлава, упадае ў канал на ПдУ ад в. Літва. Месцазнаходжанне вусця залежыць ад рэжыму эксплуатацыі палёў здабычы торфу. Рэчышча на працягу 4 км ад вусця ўверх каналізаванае, прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МАЦЬКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, правы прыток Іліі (бас. Віліі). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Мацькаўцы, упадае ў Ілію за 1,1 км на ПнЗ ад в. Уладыкі. У вярхоўі сажалка (пл. 0,05 км²).

**МАЦЯРЫНСКАЕ ВОЗЕРА**, у Пухавіцкім р-не.

Пл. 0,58 км².
Даўжыня 1,1 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.

У бас. р. Свіслач, за 18 км на ПнЗ ад г. Мар'іна Горка, на Пд ад п. Свіслач. Схілы катлавіны на Пн пад лесам і хмызняком. У разводдзе сцёк з возера ў р. Свіслач.

**МАЦЯРЫНСКІ КАНАЛ**, гл. *Дрычынскі канал*.

**МАЧУЛІШЧА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 км².
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.

У бас. р. Дражбітка, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 3,5 км на ПдЗ ад в. Труды, сярод забалочанага хмызняку. На Пн за 150 м ад возера лясістыя пясчаныя ўзгоркі вышынёй 10 м.

**МАЧЫЛІШЧА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,12 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.



Возера Матырына (Ушацкі раён).



Возера Матырына (Лепельскі раён).

Даўжыня берагавой лініі 0,35 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 13 км на Пд ад Полацка, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Мяжно 2-е. Схілы катлавіны вышыней да 5 м, зверху стромкія, парослі лесам, знізу спадзістыя, забалочаныя.

**МАШАРНЯ,** рака ў Аршанскім р-не, левы прыток р. Ульянаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Малое Замошша, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Вялікае Замошша. Рэчышча каналізаванае.



Возера Медзазол.




Возера Медзазол.

**МАШКОВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Вінец (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца каля в. Мар'янова, вусце за 1 км на З ад в. Машковічы.

**МАШНІЦА,** рака ў Расонскім р-не, правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 9,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Валатоўкі, вусце за 1,5 км на Пн ад в. Баркі Полацкага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці. Рэчышча на працягу 1,9 км уверх ад вусця каналізаванае.

**МАШНІЦА,** ручай у Расонскім р-не, правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Грыбова, вусце за 0,5 км на ПдУ ад в. Грыбова. Рэчышча каналізаванае.

**МАШОЎКА,** Мешаўка, ручай у Касцюковіцкім р-не, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 132 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Раёк, вусце за 1 км на Пн ад в. Зацішша. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,4 км (2,5 км на Пд ад в. Машавое — 1 км на ПнЗ ад гэтай вёскі).

**МЕДЗАЗОЛ,** возера ў Докшыцкім р-не.

Пл. 3,02 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,3 м.
Даўжыня 2,96 км.
Найбольшая шырыня 1,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,15 км.
Аб'ём вады 8,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 381 км$^2$.

У бас. р. Бярэзіна (прыток Дняпра, цячэ праз возера), за 18 км на ПнУ ад г. Докшыцы, каля в. Бірулі. Схілы катлавіны нізкія, забалочаныя, тарфяністыя, парослі лесам, на Пн вышынёй 4—8 м, разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, тарфяністыя, на ПдЗ зліваюцца са схіламі, пясчаныя. Дно сапрапелістае. Моцна зарастае, шырыня паласы расліннасці 80—100 м, пашырана да глыбіні 1,5—2 м.

**МЕДЗВЕДАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Жардзянка (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 6,5 км на ПнЗ, упадае ў Жардзянку за 1,9 км на ПдУ ад. в. Медзведаў.

**МЕДКАЎ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Чырка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Расава, упадае ў Чырку ў в. Чыркавічы.

**МЕДНА,** гл. *Мяднянскае возера.*

**МЕЖАВА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 2,06 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,3 м.
Даўжыня 2,82 км.
Найбольшая шырыня 1,36 км.



Возера Межава.

Даўжыня берагавой лініі 10,2 км.
Аб'ём вады 4,71 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 86,7 км$^2$.

У бас. р. Нішча, за 8 км на ПнУ ад г. п. Расоны, каля в. Межава. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м (на Пн і З 10—15 м), парослі лесам і хмызняком. Берагі пясчаныя, пад хмызняком, на Пн зліваюцца са схіламі, у залівах сплавінныя. Мелкаводдзе пясчанае і пясчана-ілістае, глыбей дно сапрапелістае. 4 астравы агульнай пл. 5 га. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 4—60 м да глыбіні 1,5 м. Упадаюць 6 ручаёў, у т. л. з воз. Шэвіна, выцякае р. Чарапяціца.

**МЕЖАВА,** назва р. *Чарапяціца* ў верхнім цячэнні.

**МЕЖНА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 1,34 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,1 м.
Даўжыня 3,55 км.
Найбольшая шырыня 0,55 км.
Даўжыня берагавой лініі 11 км.
Аб'ём вады 4,59 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 15 км$^2$.

У бас. р. Дрыса, за 18 км на ПдУ ад г. п. Расоны, на Пн ад в. Межна. Схілы катлавіны вышынёй 7—8 м, участкамі на ПнУ і З да 3 м, пясчаныя, парослі лесам. Берагі пясчаныя, пад хмызняком, на У зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе пясчанае, месцамі ілістае, глыбей дно выслана сапрапелем. Зарастае слаба. Упадаюць 4 ручаі, сцёк па пратоцы ў Дрысу зарэгуляваны шлюзам.

**МЕЖУЖОЛ,** возера ў Докшыцкім р-не.

Пл. 2,9 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 3,9 км.
Найбольшая шырыня 1,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,15 км.
Аб'ём вады 1,82 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 53,4 км$^2$.

У бас. р. Бярэзіна, за 22 км на ПнУ ад г. Докшыцы, за 2 км на ПнЗ ад в. Трасцяніца, сярод вярховага балота, якое парасло лесам і хмызняком. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, забалочаныя, тарфяністыя. Дно сапрапелістае. У паўднёвай част-


Возера Межужол.

цы возера востраў пл. 0,04 км². Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (да 70 мг/л) і высокай колернасцю. Зарастае слаба.

**МЕЛКАЕ ВОЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,39 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,6 м.**
**Даўжыня 1,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,57 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,9 км.**
**Аб'ём вады 0,77 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 14,1 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 26 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Замялочча. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, разараныя, на ПнЗ пад хмызняком. Берагі сплавінныя (шырыня сплавіны да 30 м), парослі хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Па ўсёй плошчы зарастае падводнай расліннасцю. Упадаюць 4 ручаі, выцякае ручай у Доўгае возера.

**МЕЛКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,52 км.**

У бас. р. Палата, за 38 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на Пн ад в. Дрэтунь, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя.

**МЕЛКАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.**
**Пл. вадазбору 3,5 км².**

У бас. р. Усвейка, за 18 км на ПдУ ад г. Чашнікі, каля в. Бельнякі. Схілы катлавіны вышынёй 10—50 м, забалочаныя, пад лугавой расліннасцю. Злучана ручаём з воз. Глыбокае.

**МЕЛКАЕ СТРУНАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**
**Пл. вадазбору 3,2 км².**

У бас. р. Аўсянка, за 27 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 3 км на Пд ад воз. Мядзесна. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, парослі лесам. Берагі нізкія, на Пд забалочаныя. Злучана ручаём з воз. Глыбокае Струнава, на З выцякае ручай у р. Кудзінка.

**МЕЛЬНЕЦ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,003 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 33 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2,5 км на Пд ад воз. Цёста, сярод балота. Сцёк па ручаі, які часам перасыхае, у воз. Цёста.

**МЕНА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,9 м.**
**Даўжыня 1,06 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,88 км.**
**Аб'ём вады 0,43 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 132 км².**

У бас. р. Крашанка (цячэ праз возера), за 7 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Федаронкі. Схілы катлавіны невыразныя, на ПдУ і ПнЗ вышынёй 2—5 м, парослі лесам, на У і Пд разараныя. Берагі сплавінныя, парослі хмызняком. Пойма шырынёй да 300 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Поўнасцю зарастае.

**МЕНТЫНЬ,** рака ў Вілейскім р-не, левы прыток Вузлянкі (бас. Віліі).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 84 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Галінова, упадае ў Вузлянку за 0,5 км на ПдЗ ад в. Ляскі. На ўсім працягу каналізаваная.

**МЕНТЫНЬ,** ручай, гл. *Рудня*.

**МЕРАЧАНКА,** рака ў Пінскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 24,3 км.**
**Пл. вадазбору 149 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Выжлавічы, цячэ ў межах раўніны Загароддзе, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Навaселле. Ад вытоку на працягу 16,5 км рэчышча каналізаванае.

**МЕРКУЛАВІЧЫ,** вадасховішча ў Чачэрскім р-не.

**Пл. 0,79 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 3,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 1,03 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 51 км².**

На р. Чачора, за 20 км на ПнЗ ад г. Чачэрск, каля в. Меркулавічы. Створана ў 1973 для арашэння зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Берагі спадзістыя, пад хмызняком. У вярхоўі частка левага берага забалочана. Ваганні ўзроўню на працягу года ня-



Возера Межава.



Возера Межна.



Мелкае возера (Чашніцкі раён).

значныя. Сярэдні шматгадовы сцёк 9,3 млн. $м^3$.

**МЕРЛІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці). Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 19 км на ПнЗ ад в. Карма Лельчыцкага р-на, вусце за 10 км на Пд ад в. Аздамічы Столінскага р-на. Праходзіць па лясістай забалочанай мясцовасці.




Возера Межна.



Мёрскае возера.

**МЕСЕНКА,** рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Вілейка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Залессе, вусце за 2 км на Пн ад в. Галавенчыцы. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,9 км (выток — 2,6 км на З ад в. Залессе).

**МЕШАЎКА,** ручай, гл. *Машоўка.*

**МЁРСКАЕ ВОЗЕРА,** Міёрскае возера, у Міёрскім р-не.

**Пл. 1,15 $км^2$.**
**Найбольшая глыбіня 13,2 м.**
**Даўжыня 3,49 км.**
**Найбольшая шырыня 0,63 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,8 км.**
**Аб'ём вады 5,24 млн. $м^3$.**
**Пл. вадазбору 63,6 $км^2$.**

У бас. р. Мёрыца, у межах г. Міёры. Схілы катлавіны вышынёй 6—9 м, пераважна разараныя, участкамі пад хмызняком. Берагі пясчаныя, на Пд і З пад хмызняком, на ПдУ забалочаныя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае. У заходнім плёсе востраў пл. 4,4 га. Цэнтральны і заходні плёсы раздзелены дамбай. Зарастае каля 30 % плошчы возера, расліннасць пашырана да глыбіні 1,8—2 м. Злучана пратокай з воз. Асінаўка.

**МЁРТВАЕ ВОЗЕРА,** у Смаргонскім р-не.

**Пл. 0,14 $км^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,69 км.**

У бас. р. Ашмянка, за 14 км на ПнЗ ад г. Смаргонь, каля в. Валэйкавічы. Схілы катлавіны вышынёй 5—6 м, пераважна разараныя, на Пд і ўчасткамі на У параслі хмызняком. Берагі забалочаныя, сплавінныя. Выцякае ручай у р. Ашмянка.

**МЁРЫЦА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 224 $км^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 $м^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Выцякае з Мёрскага возера каля г. Міёры, цячэ ў межах Браслаўскай грады, вусце за 1 км на Пн ад в. Чамяры. Даліна выразная, скрынкападобная, на вялікім працягу слабазвілістая, шырынёй 200—400 м. Пойма перарывістая, чаргуецца па берагах, шырыня яе 50—100 м. Рэчышча слабазвілістае, шырынёй 5—7 м.

**МІЁРСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Мёрскае возера.*

**МІЖЛЁСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток Чарабасаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ, вусце за 6 км на У ад в. Чырвоная Воля.

**МІЖЛЁСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Восьмага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца ў лясным ўрочышчы Барсукі, упадае ў Восьмы канал за 4,5 км ніжэй вусця канала Зябчанскага, за 7 км на ПнУ ад в. Козікі.

**МІЗГІРАЎКА,** назва р. *Бусяж* у верхнім цячэнні.

**МІЗГІРОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слонімскім р-не, левы прыток Бусяжы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад в. Сасноўка, упадае ў Бусяж каля в. Мізгіры.

**МІЗЕРЫШКІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,13 $км^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 0,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**
**Аб'ём вады 0,24 млн. $м^3$.**
**Пл. вадазбору 1 $км^2$.**

У бас. р. Друйка, за 8 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 3,5 км на З ад воз. Дрывяты. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, разараныя. Берагі забалочаныя. Пойма шырынёй 50—100 м забалочаная. На Пн выцякае ручай у воз. Рака.

**МІКАЛАЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, левы прыток р. Гарадзечанка (бас. Дняпра). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 3,8 км на У ад в. Уладзіміраўка, упадае ў Гарадзечанку за 1 км на ПдЗ ад в. Дулебня.

**МІКАЛАЕЎШЧЫНА,** рака ў Лагойскім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 43 $км^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,2 ‰**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Стайкі Каменскага сельсавета, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Малінаўка Каменскага сельсавета. Цячэ пераважна сярод лесу.

**МІКАШЭВІЦКІ КАНАЛ,** суднаходны канал у Лунінецкім р-не, злучае р. Прыпяць з портам Мікашэвічы. Даўжыня 7 км. Праходзіць па левабярэжнай пойме Прыпяці. Служыць для вывазу прадукцыі вытворчага аб'яднання «Граніт» (будаўнічы камень, друз, штучны пясок і інш.).

**МІКЛАШОЎЦЫ,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, левы прыток р. Скідалька (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 3 км на Пн ад в. Заполле, упадае ў Скідальку за 3 км на ПнЗ ад в. Міклашоўцы.

**МІКОЛЬСКІ,** ручай у Дрыбінскім р-не, левы прыток р. Быстрая (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Пічаўка, вусце за 1 км на Пд ад в. Кледневічы. Рэчышча каналізаванае на працягу 1,4 км (в. Мікольск — 0,7 км ад вусця).

**МІКУЛІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Нясвіжскім р-не, правы прыток Ушы (бас. Нёмана). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца каля в. Сейла

вічы, упадае ва Ушу на З ад в. Слаўкава. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МІЛАСЛАВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Клімавіцкім р-не.

**Пл. 1,43 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,6 м.**
**Даўжыня 5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Аб'ём вады 1,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 112 км².**

На р. Іпуць, за 20 км на ПнУ ад г. Клімавічы, каля в. Мілаславічы. Створана ў 1981 для ўвільгатнення зямель, рыбагадоўлі, рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 0,6 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 19 млн. м³.

**МІЛАЎКА,** ручай у Шклоўскім і Горацкім р-нах, правы прыток р. Лімна (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1,3 км на ПнЗ ад в. Вялікія Сліжы Шклоўскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Анікавічы Горацкага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**МІЛАШАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток Прыбалавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад в. Мілашавічы, вусце каля гэтай вёскі.

**МІЛАШКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,25 км.**

У бас. р. Янка, за 20 км на Пд ад г. Браслаў, каля в. Мілашкі. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, на У пад лугам, на ПнУ пад агародамі; уздоўж заходняга берага лес. Злучана ручаём з р. Янка.

**МІЛЬЧАНСКАЯ КАНАВА,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца ў в. Уза, вусце на ўсходняй ускраіне в. Бабовічы.

**МІЛЬЧАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток Мільчанскай канавы (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ, упадае ў Мільчанскую канаву за 2 км на ПдЗ ад в. Чырвоны Маяк.

**МІНІЧЫ,** вадасховішча ў Ляхавіцкім р-не.

**Пл. 5,4 км².**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 8,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Аб'ём вады 7,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 343 км².**

На р. Шчара, за 10 км на Пд ад г. Ляхавічы, каля в. Мінічы. Створана ў 1985 для прамысловага водазабеспячэння г. Баранавічы, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года да 2 м.

**МІНСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Камсамольскае возера.*

**МІНСКАЕ МОРА,** гл. *Заслаўскае вадасховішча.*

**МІНТУРОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,59 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Трасніца, за 7 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Мінтурова. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, разараныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 50—75 м. На З выцякае ручай у р. Трасніца.

**МІНЯНКА,** М і я н к а, рака ў Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Стрыі, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Мінянка. Рэчышча каналізаванае.

**МІРАНКА,** рака ў Карэліцкім р-не, правы прыток Ушы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 85 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Сімакава, цячэ праз г. п. Мір, упадае ва Ушу за 2 км на У ад в. Загор'е. На працягу 7,2 км каналізаваная (выток — 2 км на ПнУ ад в. Аюцавічы).

**МІРОНАЎКА,** М а з н о ў к а, рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Аршыца (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Стайкі, вусце на заходняй ускраіне п. Высокае. Рэчышча ад вытоку каналізаванае на працягу 4,7 км.

**МІРОНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Іванаўскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 15,6 км. Пачынаецца за 6 км на З ад в. Аброва Івацэвіцкага р-на, вусце за 6 км на ПнЗ ад в. Тышкавічы Іванаўскага р-на.

**МІСЯЦІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Лосічы, вусце за 1,5 км на З ад в. Тупчыцы.

**МІХАЙЛАВА,** вадасховішча ў Пухавіцкім р-не.

**Пл. 0,8 км².**
**Найбольшая глыбіня 8 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 3,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 307 км².**

Наліўное. Створана ў 1988 за 4 км на ПдЗ ад г. Мар'іна Горка, каля в. Міхайлава для арашэння зямель, рыбагадоўлі і воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак. Напаўняецца вадой з р. Цітаўка пры дапамозе помпавай станцыі. Ваганні ўзроўню на працягу года да 4,4 м.




**Возера Мізерышкі.**

**МІХАЙЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскім і Лоеўскім р-нах, левы прыток Дняпра. Даўжыня 21 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Міхайлаўск Рэчыцкага р-на, упадае ў Дняпро за 2 км на Пд ад в. Падрачыцкае Лоеўскага р-на. У сярэднім цячэнні цячэ па забалочаным і часткова асушаным урочышчы Хомінскія Клеткі.

**МІХАЙЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Нараўлянскім р-не, левы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ, вусце за 1 км на ПдУ ад нежылой вёскі Ленінскі Пасёлак.

**МІХАЛІНАВА,** Г р а б е н і ц к а е в о з е р а, у Лёзненскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 1,03 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,65 км.**
**Пл. вадазбору 3,75 км².**

У бас. р. Мошна, за 7 км на Пн ад г. п. Лёзна, каля в. Грабенікі. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, параслі хмызняком. Берагі высокія, месцамі зліваюцца са схіламі. На Пн упадае ручай.

**МІХАЛОВА,** возера, гл. *Сосна.*

**МІХАЛЬКІ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, правы прыток Стукачоўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПдЗ ад в. Карналін, упадае за 2 км на ПдУ ад в. Міхалькі.




**Мёрскае возера.**

**МІХА́НАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток Шчэлбінскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 10,7 км. Пачынаецца з Вялікага канала за 1,5 км на ПнУ ад в. Вялікі Лес, упадае ў канал за 1,3 км на ПдУ ад в. Міхнаўка.

**МІХЕДАВА-ГРАБАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Грабаў, вусце каля в. Аголіцкая Рудня.

**МІХЕ́ДАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Міхедава-Грабаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,3 км. Пачынаецца з Міхедава-Грабаўскага канала за 3,8 км на З, упадае ў Міхедава-Грабаўскі канал за 4 км на Пд ад в. Міхедавічы.

**МІХЕ́ДАВІЧЫ,** вадасховішча ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,78 км.**
**Аб'ём вады 1,77 млн. м³.**

Наліўное. Створана ў 1980 за 20 км на ПнЗ ад г. Петрыкаў, каля в. Міхедавічы для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Напаўняецца вадой з Міхедава-Грабаўскага канала (бас. Прыпяці) у час веснавога разводдзя. Берагі спадзістыя, да іх прымыкаюць сенажаці і паша, на паўднёвым беразе лясныя насаджэнні і хмызнякі.

**МІША,** рака, гл. *Мышанка.*

**МІЯ́НКА,** рака, гл. *Мінянка.*

**МЛІНАЎКА,** рака ў Слонімскім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Літва, упадае ў Шчару за 0,9 км на Пд ад в. Вялікія Шылавічы. Каналізаваная, прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МЛІНАЎКА,** рака, гл. *Шэя.*

**МЛЫ́НКА,** канал Млынка, рака ў Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Сіняя (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16,5 км.**
**Пл. вадазбору 144 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ражнетава, вусце за 1 км на ПнУ ад г. Асіповічы. Рэчышча каналізаванае.

**МЛЫНО́К,** рака ў Ельскім і Нараўлянскім р-нах, правы прыток р. Мытва (бас. Прыпяці). Даўжыня 19,6 км. Пачынаецца каля в. Чырвоны Пільшчык, цячэ праз г. Ельск (на ПдУ ад яго — сажалка пл. 32 га), вусце каля в. Лінаў Нараўлянскага р-на.

**МЛЫНО́К,** рака ў Драгічынскім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Прысе́ла (бас. Зах. Буга). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 3 км на У ад г. п. Антопаль Драгічынскага р-на, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад в. Падзяменне Кобрынскага р-на. Рэчышча каналізаванае. Раней рака пачыналася з балота Мыслін на У ад в. Грушава і ўпадала ў канал Мухавец. З правядзеннем меліярацыі рэчышча ў нізоўі адведзена ў р. Прысе́ла, а ў вярхоўі падоўжана да дарогі Антопаль — Заніўе. У сярэднім цячэнні да в. Грушава называецца канал Прысе́ла, ніжэй — Скідны канал.

**МНЮ́ТА,** рака ў Глыбоцкім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 41 км.**
**Пл. вадазбору 873 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Выцякае з воз. Пліса каля в. Пліса Глыбоцкага р-на, цячэ ў межах Свянцянскіх град і паўднёва-заходняй часткі Полацкай нізіны праз азёры Мнюта і Вялец, вусце за 0,5 км на У ад в. Балбекі Шаркоўшчынскага р-на. Прыток р. Лучайка. Даліна скрынкападобная, шырынёй 200—400 м. Пойма перарывістая, вузкая, месцамі чаргуецца па берагах. Шырыня рэчышча 15—30 м.


Рака Можа ў Крупскім раёне.

**МНЮ́ТА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,96 км².**
**Найбольшая глыбіня 14,1 м.**
**Даўжыня 1,31 км.**
**Найбольшая шырыня 1,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.**
**Аб'ём вады 4,9 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 601 км².**

У бас. р. Мнюта (цячэ праз возера), за 20 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Вялец. Схілы катлавіны вышынёй 7—20 м, парараслі лесам і хмызняком, на У і ПдУ 3—5 м, пад лугам ці разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя. Зона мелкаводдзя шырынёй 20—40 м, на Пн да 90—120 м. Дно ілістае. Востраў пл. 0,3 га. Шырыня паласы надводнай расліннасці 10—30 м, на З і Пн 50—100 м.



Возера Мнюта.



Возера Мнюта.

**МО́ЖА,** рака ў Крупскім і Круглянскім р-нах, левы прыток р. Бобр (бас. Дняпра).

**Даўжыня 77 км.**
**Пл. вадазбору 530 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Шынкі Крупскага р-на, частка сярэдняга цячэння ў Круглянскім р-не, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Прудок Крупскага р-на. Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны, у сярэднім цячэнні (часткова) і ў нізоўі — праз лясныя масівы. Асноўныя прытокі: Бярозка, Казлянка, Мясрэда. Даліна трапецападобная, шырынёй 600—800 м, у ніжнім цячэнні невыразная. Схілы спадзістыя, радзей стромкія, слаба парэзаныя далінамі прытокаў і каналаў (вышыня 3—10 м). Пойма двухбаковая, часам чаргуецца па берагах, шырынёй 200—400 м; найбольшая (600 м) каля в. Новая Слабада. Рэчышча ўмерана звілістае, на некаторых участках выпрастана; шырыня ракі ў межань ў вярхоўі 6—8 м, у сярэднім цячэнні 15—30 м, у ніжнім 10—20 м. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя, вышынёй ад 1—2 м да 5—6 м.

**МО́ЖНЕВА,** возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,88 км.**

У бас. р. Бярвенка, за 30 км на У ад Гродна, за 3 км на ПнУ ад в. Лакно. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на Пд і Пн да 3 м), пераважна спадзістыя, параслі лесам. Берагі нізкія. Пойма шырынёй 10—50 м, увільготнена, пад лесам. Выцякае ручай у воз. Лакно.

**МО́ЖНІЦА,** рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток р. Недалька (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 25 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Сабалеўка, вусце за 2 км на Пн ад в. Броды. Рэчышча каналізаванае на працягу 0,9 км (уніз па цячэнні ад пункта на 1,5 км ніжэй моста на аўтадарозе Бягомль — Барысаў).

**МО́ЙСТРА,** возера ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 2,13 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,47 км.**

На пойме р. Прыпяць, за 6 км на У ад г. Петрыкаў, за 1 км на ПдУ ад в. Бяланавічы. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пад хмызняком. Берагі высокія, месцамі абразійныя. Злучана ручаём з Прыпяццю.

**МО́КРАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Быхаўскім р-не, левы прыток р. Макранка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Сланеўшчына, упадае ў Макранку на паўднёвай ускраіне в. Мокрае.

**МО́ЛАДАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 18,5 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Кротава, вусце за 3,5 км на Пн ад в. Моладава.

**МО́ЛЕНА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.**
**Пл. вадазбору 10,5 км².**

У бас. р. Шоша, за 36 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Івесь. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, разараныя, на З вышынёй да 7 м, пад хмызняком. Берагі высокія, на У зліваюцца са схіламі. Выцякае ручай у воз. Івесь.

**МО́ЛІНКА,** рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору [illegible] км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Томіна, вусце на паўночнай ускраіне п. Чырвоны Бераг. Прымае аднайменны прыток (злева). Рэчышча ўверх ад вусця каналізаванае на працягу 4,3 км. У нізоўі рака цячэ па тэрыторыі Чачэрскага паляўнічага заказніка.

**МО́ЛІНКА,** рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Молінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 2,2 км на Пд, вусце за 3 км на Пн ад в. Куклічы. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу, акрамя ўчастка 1,8 км у ніжнім цячэнні.

**МО́ЛЬЧАНСКІ КАНА́Л,** рака, гл. *Чырка*.

**МО́РАЙ,** рака ў Докшыцкім р-не, левы прыток р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Паўночнае Гняздзілава, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Буй. Рэчышча каналізаванае.

**МО́РАТНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,23 км.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

У бас. р. Аўсянка, за 20 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2 км на ПнУ ад в. Смалоўка. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам. Выцякае ручай у р. Аўсянка.

**МО́РАЧ,** рака ў Мінскай вобласці, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 150 км.**
**Пл. вадазбору 2030 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 8,7 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 74 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Вошкаты Капыльскага р-на на Капыльскай градзе на вышыні 210 м над узроўнем мора, цячэ ў Слуцкім, Клецкім і Салігорскім р-нах па паўднёва-заходняй частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны і паўночнай частцы нізіны Прыпяцкае Палессе. Упадае ў Случ за 1 км на ПнЗ ад в. Морач Салігорскага



Рака Морач у ніжнім цячэнні.

р-на. Асноўныя прытокі: Удава, Мажа (справа), Волка, Вызенка (злева). Даліна на вялікім працягу невыразная, месцамі трапецападобная, шырынёй 400—800 м. У месцах, дзе даліна выразная, пойма двухбаковая, чаргуецца па берагах (шырыня 100—200 м). У верхнім цячэнні рака называецца К о п а н к а. Рэчышча амаль на ўсім працягу каналізаванае. Шырыня яго да в. Морач (Капыльскі р-н) 2—4 м, ніжэй 20—25 м, каля Чырвонаслабодскага вадасховішча (плаціна за 50 км ад вусця ракі) 40—50 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 2,4 м, найбольшая 2,9 м (1932). Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Веснавы ледаход 5 сут.

**МО́РЗІНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,29 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Полюшка, за 13 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Гваздова. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на 3 пад лесам.

**МО́РМАЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 15,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Новая Карма, упадае ў Бярэзіну за 1 км на ПдУ ад в. Васілевічы.

**МО́РЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 22 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Салагошч, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Капцэвічы. Прыток — Крывічынскі канал (злева).



**Мотальскае возера.**

**МО́ТАЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Іванаўскім р-не.

**Пл. 1 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Аб'ём вады 1,18 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3588 км$^2$.**

У бас. р. Ясельда (цячэ праз возера), за 20 км на Пн ад г. Іванава, каля в. Моталь. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, часткова разараныя. Берагі нізкія. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае больш за 50 % плошчы возера.

**МО́ТВА,** рака, гл. *Мытва.*

**МО́ЎЧАДЗЬ,** Моўчадка, рака ў Баранавіцкім і Дзятлаўскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 98 км.**
**Пл. вадазбору 1140 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 9 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кузевічы Баранавіцкага р-на, цячэ пераважна па Навагрудскім узвышшы, упадае ў Нёман за 1,2 км на ПнЗ ад в. Нясілавічы Дзятлаўскага р-на. Асноўныя прытокі: Сваротва, Ятранка, Паніква, Промша (справа), Івязянка, Дзятлаўка (злева). Даліна трапецападобная, яе шырыня каля 1,5 км. Пойма двухбаковая, часткова забалочаная, перасечаная меліярацыйнымі каналамі. У вярхоўі ракі вядуцца торфараспрацоўкі. Рэчышча моцназвілістае, паміж вёскамі Дварэц і Агароднікі Дзятлаўскага р-на і ў ніжнім цячэнні невялікія астравы, ад в. Кузевічы да в. Саўцавічы (9,8 км) каналізаванае. Схілы спадзістыя, умерана стромкія, на ўсім працягу верхняга і сярэдняга цячэння перарывістыя тэрасы шырынёй да 1,5 км. За 9 км ад вусця — ГЭС і Гезгальскае вадасховішча; у сутоках Моўчадзі і Ятранкі г. п. Наваельня, на заходняй ускраіне якога ў маляўнічай мясціне курортная зона і санаторый.

**МО́ЎЧАНКА,** рака ў Горацкім р-не, левы прыток р. Проня (бас.Дняпра). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца за 0,7 км на У ад в. Харкаўка, вусце за 2 км на Пд ад в. Шарыпы. Рэчышча каналізаванае.

**МОХ-1,** М о х  М а л о е, возера ў Слонімскім р-не.



**Рака Моўчадзь у Дзятлаўскім раёне.**

Пл. 0,22 км$^2$.
Даўжыня 0,95 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,4 км.

У бас. р. Грыўда, за 24 км на ПдЗ ад г. Слонім, каля в. Яруцічы. Схілы катлавіны вышынёй 1—3 м, разараныя. Берагі нізкія, на З і ПдЗ забалочаныя. Ёсць некалькі заліваў.

**МОХАВА,** возера ў Лоеўскім р-не.

Пл. 0,42 км$^2$.
Даўжыня 2,6 км.
Найбольшая шырыня 0,19 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,62 км.

На пойме Дняпра, за 6 км на ПнЗ ад г. п. Лоеў, каля в. Мохаў. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на У параслі хмызняком, на З пад лугам.

**МОХАВАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,33 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2 м.
Даўжыня 0,73 км.
Найбольшая шырыня 0,65 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,13 км.
Аб'ём вады 0,41 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5,6 км$^2$.

У бас. р. Нішча, за 20 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2 км на У ад в. Чырвоны Бор, на Пн ад балота Вялікі Мох. Схілы катлавіны невыразныя, на У вышынёй да 2 м, пясчаныя, пад лесам. Берагі сплавінныя, тарфяністыя, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**МОХАВАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 14 км на Пд ад Полацка, за 1,5 км на Пд ад в. Мяжно 3-е, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя, берагі забалочаныя.

**МОХАВАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Селядцова.*

**МОШНА,** рака ў Лёзненскім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 33 км.
Пл. вадазбору 335 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Шэркіна, вусце каля в. Сутокі. Цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша. Асноўныя прытокі: Брыжоўка, Рубяжніца (злева), Скулянка (справа). Даліна скрынкападобная, звілістая, шырынёй 200—300 м, ніжэй в. Міхалінава на працягу 4 км пашыраецца да 1—1,5 км. Пойма паміж в. Міхалінава і г. п. Лёзна двухбаковая, шырыня рэчышча 4—6 м, у вусцевай частцы 10—12 м. На рацэ г. п. Лёзна.

**МОШНА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Грэза (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,3 км на ПнЗ ад в. Замошша, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Гута. Рэчышча каналізаванае.



Возера Мугірына.

**МОШНА,** возера ў Віцебскім р-не.

Пл. 1,07 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,9 м.
Даўжыня 2,54 км.
Найбольшая шырыня 0,95 км.
Даўжыня берагавой лініі 8 км.
Аб'ём вады 1,88 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 22 км$^2$.

У бас. р. Чарнічанка, за 16 км на ПдЗ ад Віцебска, каля в. Ваяводкі. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м (на Пд да 10 м), параслі лесам і хмызняком, на Пн разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, у залівах сплавінныя. Пойма шырынёй ад 10—30 м на Пд і Пн да 100 м на У, забалочаная. Дно да глыбіні 0,5—1 м пясчанае, ніжэй іліставе. Зарастае больш паловы плошчы возера. Упадаюць 2 ручаі, выцякае ручай у р. Чарнічанка.

**МОШНА,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 0,65 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,9 м.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,03 км.
Аб'ём вады 1,51 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 16,3 км$^2$.

У бас. р. Сечна, за 4 км на Пд ад г. п. Шуміліна, каля в. Прыазёрная. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на Пд да 9 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй разараныя, на Пн парослыя лесам. Берагі нізкія, тарфяныя, на У пясчаныя, у залівах сплавінныя. Дно плоскае, выслана сапрапелем, на асобных участках да глыбіні 2 м — пяском. Моцна зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 3,1 м. У возеры расце шальнік Валенберга — рэдкі для Беларусі ахоўны від флоры. Упадае ручай з воз. Круглік, выцякае ручай у воз. Дабееўскае.

**МОШНЯ,** возера ў Шумілінскім р-не.

Пл. 1,21 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7 м.
Даўжыня 1,7 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,35 км.
Пл. вадазбору 6,8 км$^2$.

У бас. р. Обаль, за 26 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Зальхаўе. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, параслі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, забалочаныя. Пойма шырынёй да 250 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно сапрапелістае. Заходняя частка возера зарастае. Выцякаюць ручаі ў воз. Красамай і ў р. Ценіца.

**МРАЙ,** М р а й к а, рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 27 км.
Пл. вадазбору 130 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,0 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Дзедзелавічы, вусце за 4 км на У ад в. Уборак. Асноўныя прытокі — Сасна і Пуста-Мсціжская (справа). Рэчышча каналізаванае на 3 участках: на працягу 0,5 км ад вытоку; в. Гаражанка — сажалка на заходняй ускраіне в. Мсціж (1,5 км); в. Мсціж — 2,5 км на ПдУ ад в. Уборак (8,6 км). У нізоўі рака цячэ праз Бярэзінскі біясферны запаведнік.

**МУГІРЫНА,** возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 1,48 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 26,2 м.
Даўжыня 2,5 км.
Найбольшая шырыня 1,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,3 км.
Аб'ём вады 8,31 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 2,9 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 27 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Завадзіна Лепельскага р-на. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны на З і Пн вышынёй 15—20 м (на Пд да 10 м), параслі хмызняком, на У невыразныя, забалочаныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, на У забалочаныя. Дно да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. Вада ў возе-




Возера Мошна.

ры вызначаецца высокай празрыстасцю. Зарастае слаба. Злучана канавай з воз. Паўазер'е.

**МУЖА́НКА,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 34 км.**
**Пл. вадазбору 231 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Зарослае, вусце за 1 км на У ад в. Глівін. Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырынёй 0,6—2 км, у верхняй частцы невыразная, у вусцевай зліваецца з далінай Бярэзіны. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,1—1 км, адкрытая, месцамі асушаная, парэзаная меліярацыйнымі каналамі. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,5 км (ад в. Ратуцічы да в. Мужанка).

**МУЖЫЧО́К,** рака ў Клімавіцкім і Хоцімскім р-нах, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 104 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Фядотава Буда Клімавіцкага р-на, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Трасціно Хоцімскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 6,3 км (ад в. Прудок да вусця ракі Трасцінка).

**МУ́ЙСА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 2,01 км.**
**Найбольшая шырыня 1,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6 км.**
**Аб'ём вады 4,16 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 177 км².**

У бас. р. Рычанка (цячэ праз возера), за 18 км на З ад г. Браслаў, каля в. Мінкавічы. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пн і Пд зліваюцца са схіламі. Пойма шырынёй да 350 м, пад лугам. Дно плоскае. Вузкая прыбярэжная зона выслана пяском і ілам, астатняя частка ложа сапрапелістая. Моцна зарастае, шырыня плошчы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 250 м.




**Возера Муйса.**

**МУЙСА́ТКА,** М у й с а т а, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,19 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,08 км.**
**Аб'ём вады 0,55 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,3 км².**

У бас. р. Рычанка, за 20 км на ад г. Браслаў, каля х. Міхалінка. С лы катлавіны вышынёй 10—12 м, пе раважна разараныя.

**МУКВЯ́ЦІЦА,** ручай у Верхнядзв скім р-не, правы прыток р. Вужы (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 58 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн в. Муквяціца, вусце за 1 км на П ад в. Мікаленкі. Цячэ па паўночна частцы Полацкай нізіны. Рэчышча вытоку на працягу 3,6 км каналі ванае.

**МУ́ЛЬНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Іванаўск р-не.

**Пл. 0,51 км².**
**Найбольшая глыбіня 21 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,47 км.**
**Аб'ём вады 2,47 млн. м³.**

У бас. р. Ясельда, за 25 км на ад г. Іванава, каля в. Тышкавічы. С лы катлавіны нізкія, разараныя, на З У пад хмызняком. На Пн тэраса в шынёй 2 м. Мелкаводдзе пясчана глыбей дно сапрапелістае. Зарастае глыбіні 3 м.

**МУРАВЕ́ЙНІЦКІ КАНА́Л,** меліяр цыйны канал у Калінкавіцкім р- правы прыток р. Ненач (бас. Пры пяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаец каля в. Юшкі, вусце за 1 км на П ад в. Муравейніца.

**МУ́РАВЕНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** Брагінскім р-не.

**Пл. 1,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,4 м.**
**Даўжыня 4,8 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Аб'ём вады 7,4 млн. м³.**

Налiўное. Створана ў 1982 за 22 на Пд ад г. п. Брагін, каля в. Чэра для арашэння зямель. Напаўняец вадой з р. Сярэдняя Брагінка па во падводзячым канале. Ваганні ўзро ню на працягу года да 4,5 м.

**МУРА́ВЕЦ,** ручай ва Ушацкім р- левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжы 7,5 км. Пачынаецца за 0,6 км на ад в. Крыжы Глыбачанскага се савета, вусце за 3,5 км на ПнУ в. Муравец. Рэчышча на праця 6,7 км уверх ад вусця каналізаван

**МУРАВІ́ЧНА,** рака ў Пінскім р- правы прыток р. Бобрык 1-ы (б Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынае ца з урочышча Выжарскае за 6 на Пн ад в. Ліпнікі, вусце ка в. Бобрык. Рэчышча каналізаван

**МУРАВІ́ШЧЫНА,** М у р а в і ш ч ы с к і к а н а л, ручай у Слуцкім р-




**Возера Мугірына.**



Возера Муйса.

правы прыток р. Вялікая Сліва (бас. Прыпяці). Даўжыня 21,3 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Амговічы, вусце за 0,5 км на З ад в. Малая Сліва. Прыток — ручай Сліўка (злева). Рэчышча каналізаванае.

**МУРАГІ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,59 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,4 м.**
**Даўжыня 2,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,78 км.**
**Аб'ём вады 3,38 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 102 км².**

У бас. р. Ушача (цячэ праз возера), за 24 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Заазер'е. Схілы катлавіны вышынёй да 36 м, парэзаныя ярамі. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. У прыбярэжнай зоне дно пясчанае, глыбей — ілістае. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 90 м. Мелкаводны ўсходні заліў зарос поўнасцю. Упадае шмат ручаёў.

**МЎРАМШЧЫНА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**
**Пл. вадазбору 6,16 км².**

У бас. р. Дабрылаўка, за 12 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Загор'е. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя, на ПнЗ да 16 м, параслі лесам. Выцякае ручай у воз. Белае.

**МУРАЎЁЎКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Осы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Паўбераг, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Осу на У ад в. Ракевічы. На працягу 2,6 км каналізаваная (ад в. Паўбераг ад вусця).

**МУРА́ЎКА,** назва р. *Папярэчная* ў верхнім цячэнні.

**МУРА́ШКА,** рака ў Хоцімскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Вясёлая Дуброва, вусце за 1 км на У ад в. Падлесная. Рэчышча каналізаванае на працягу 5 км (ад вытоку да моста ў в. Падлесная).

**МУРО́ЖНІЦА,** рака, гл. *Язвінка.*

**МУРО́ЖНІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** М у р о ж н і ц а, у Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,5 м.**
**Даўжыня 1,44 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,56 км.**
**Аб'ём вады 0,47 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 38,9 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 10 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Язвіна. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м, разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, забалочаныя, месцамі пад хмызняком. Дно плоскае, да глыбіні 0,5—0,8 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Зарастае слаба, расліннасць пашырана да глыбіні 2 м. У возеры расце шальнік Валенберга — рэдкі для Беларусі ахоўны від флоры. З возера выцякае р. Язвінка, упадае р. Мурожніца.

**МЎТВА,** рака, гл. *Мытва.*

**МЎТВІЦА,** рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток Галоўнай канавы (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 77 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,77 ‰.**

Пачынаецца каля в. Тонеж, вусце за 8 км на Пн ад в. Рудня. Прывусцевая частка ракі ў межах Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка на тэрыторыі Жыткавіцкага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,5 км каналізаванае. Цячэ ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**МЎТВІЦА,** рака ў Баранавіцкім р-не, левы прыток Мышанкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 8 км.**
**Пл. вадазбору 77 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля п. Кабушкіна, упадае ў Мышанку на З ад в. Млынок. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**МЎТНІЦА,** рака ў Навагрудскім і Дзятлаўскім р-нах, правы прыток Ятранкі (бас. Моўчадзі).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 40 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 6,9 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на ПдУ ад в. Пісарукі Навагрудскага р-на, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Ятранку на З ад в. Касцюкі Дзятлаўскага р-на. Ад вытоку на працягу 4 км каналізаваная.

**МЎХА,** к а н а л  М у х а, рака ў Пружанскім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня 4 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Арабнікі, зліваецца з р. Вец (даюць пачатак Мухаўцу) у межах г. Пружаны. Рэчышча каналізаванае.

**МЎХА,** гл. *Сяргееўскае возера.*

**МУХАВЕ́Ц,** рака ў Брэсцкай вобл., правы прыток Зах. Буга.

**Даўжыня 112,6 км.**
**Пл. вадазбору 6600 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Цячэ па Прыбугскай раўніне (вярхоўе) і Брэсцкім Палессі. Пачынаецца ў сутоках рэк Муха і Вец у г. Пружаны, вусце ў межах г. Брэст. Уваходзіць у Дняпроўска-Бугскі водны шлях. Асноўныя прытокі: рэкі Дахлоўка і Жабінка (справа), Дняпроўска-Бугскі канал, рэкі Трасцяніца, Асіпоўка і Рыта (злева). Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, шырыня яе ў сярэднім цячэнні 400—600 м, ніжэй 1,5—2 км. Схілы ўмерана стромкія, вышынёй 4—8 м (у ніжнім




Возера Муйсатка.




Мульнае возера.




Возера Мурагі.

цячэнні 3—6 м), адкрытыя, месцамі разараныя або пад лесам. Пойма двухбаковая, нізкая, парэзаная старыцамі і меліярацыйнымі каналамі, месцамі забалочаная. Да в. Шэбрын Брэсцкага р-на шырыня яе 200—400 м, ніжэй 1—1,5 км; у разводдзе і пры паводках затапляецца на глыбіню 0,2—0,8 м у вярхоўі і да 1—2 м у ніжнім цячэнні. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу. У верхнім цячэнні рака называецца **канал Мухавец**. Ад Кобрына да Брэста рака зарэгуляваная, шырыня ў межань у верхнім цячэнні 4—8 м, ніжэй упадзення Дняпроўска-Бугскага канала 20—35 м, у вусці 60—70 м. Берагі вышынёй 0,5—2 м, абрывістыя, ніжэй упадзення Рыты разбураюцца, на суднаходным участку абвалаваныя. Сярэднегадавы расход вады каля Брэста 34,9 м³/с, найбольшы 269 м³/с (1979), найменшы 3,4 м³/с (1971—72). Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў сярэдзіне сакавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 1,5—2,4 м, найбольшая 2—3,8 м (1951, 1958). Замярзае ў сярэдзіне снежня, лёд трымаецца да 2-й паловы сакавіка. Суднаходства ад г. Кобрын (за 64 км ад вусця), працягласць навігацыйнага перыяду 230—240 сутак. На рацэ гарады Брэст (порт пры ўпадзенні Мухаўца ў Зах. Буг), Пружаны (у вытоку), Жабінка (пры ўпадзенні р. Жабінка ў Мухавец), Кобрын (у сутоках Мухаўца і Дняпроўска-Бугскага канала).

**МУХАВЕ́Ц**, **Каралеўскі канал**, меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 21 км. Пачынаецца з Дняпроўска-Бугскага канала за 3 км на ПдУ ад в. Мяфёдавічы, вусце за 0,5 км на ПдУ ад в. Мухаўлокі. Частка старой трасы Дняпроўска-Бугскага воднага шляху. Як суднаходны канал не выкарыстоўваецца, у час веснавой паводкі па ім (пры неабходнасці) скідваецца частка вады з Дняпроўска-Бугскага канала ў р. Мухавец. Канал густа зарос воднай расліннасцю.

**МУХАЕДАЎСКІ КАНА́Л**, рака, гл. *Жалонь*.

**МУ́ХНА**, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,58 км².**
**Найбольшая глыбіня 20 м.**
**Даўжыня 1,96 км.**
**Найбольшая шырыня 0,62 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,9 км.**
**Аб'ём вады 4,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,28 км².**

У бас. р. Ула, за 12 км на ПнУ ад г. Лепель, за 2 км на ПдЗ ад в. Бор. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, пад хваёвым лесам. Берагі нізкія, пясчаныя або тарфяністыя, параслі водна-балотнай расліннасцю. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно выслана сапрапелем. Зарастае слаба. Злучана пратокамі з азёрамі Воласна і Уклейна.

**МУШКА́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.




Возера **Мухна**.



Рака **Мухавец** каля Брэста.



ака Мытва каля вёскі Вербавічы На-
ючлянскага раёна.

Пл. 0,34 км².
Найбольшая глыбіня 18,7 м.
Даўжыня 0,71 км.
Найбольшая шырыня 0,71 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,89 км.
Аб'ём вады 2,16 млн. м³.
Пл. вадазбору 18,4 км².

У бас. р. Бярозаўка, за 1 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Мушкат. Схілы катлавіны вышынёй 3—6 м, на разараныя, на ПнЗ і З парасл. лесам. Берагі нізкія, пад хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае. Прыбярэжная расліннасць па- шырана да глыбіні 2,2 м. Злучана ручаямі з азёрамі Забельскае і Пад- лужнае.

**МЫЛЕНСКАЕ ВОЗЕРА,** на мяжы Ра- онскага р-на і Пскоўскай вобл.

Пл. 0,95 км².
Даўжыня 3,1 км.
Найбольшая шырыня 0,55 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,7 км.

У бас. р. Чарапяціца (цячэ праз возера і злучае яго з Чарапецкім озерам), за 6 км на Пн ад г. п. Расоны.

**МЫЛІЧЫНА,** возера ў Глыбоцкім -не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,73 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.
Пл. вадазбору 4,25 км².

У бас. р. Шоша (за 3 км на ПдУ ад е вусця), за 23 км на ПнУ ад г. Глы- бокае. Схілы катлавіны вышынёй —15 м, пад лесам. Выцякае ручай р. Шоша.

**МЫТВА,** Мотва, Мутва, рака ў Гомельскай вобл., правы прыток Прыпяць.

Даўжыня 47 км.
Пл. вадазбору 430 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,7 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9‰.

Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад Бярозаўка Мазырскага р-на, цячэ ў межах Мазырскага і Гомельскага Па- лессяў, вусце каля в. Канатоп Нараў- лянскага р-на. Даліна ў верхнім ця- чэнні трапецападобная (шырыня 1—2 км), у сярэднім і ніжнім цячэнні невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма двухбаковая (шы- рыня ад 0,3 км да 1,3 км), месцамі чар- гуецца па берагах. Рэчышча каналіза- ванае. На рацэ створана Бабруйкаў- скае вадасховішча.

**МЫТНАЯ,** рака ў Віцебскім р-не, пра- вы прыток р. Віцьба (бас. Зах. Дзві- ны). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Міхайлова, вусце за 0,5 км на ПдУ ад в. Лебартова. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,2 км каналізаванае.

**МЫШ,** рака ў Пінскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці).

Даўжыня 9,4 км.
Пл. вадазбору 54 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,73 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Малы Халажын, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Рудка. Рэчышча кана- лізаванае.

**МЫША́НКА,** Міша, рака ў Брэсцкай вобл., правы прыток Шчары (бас. Нёмана).

Даўжыня 109 км.
Пл. вадазбору 930 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,9 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца на паўднёвых схілах Навагрудскага ўзвышша каля в. Буй- нявічы Баранавіцкага р-на, цячэ па Баранавіцкай раўніне, упадае ў Шча- ру за 1 км на ПдЗ ад в. Сельцы Івацэвіцкага р-на. Асноўныя прытокі: Малатоўка, Мутвіца. Даліна пера- важна трапецападобная, шырынёй 500—800 м. Пойма двухбаковая, мес- цамі забалочаная, шырынёй 400— 600 м. Рэчышча ад в. Агароднікі да в. Новая Мыш (16 км) каналізаванае, на астатнім працягу моцназвілістае; шырыня яго 10—12 м, у ніжнім ця- чэнні месцамі да 40 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у ся- рэдзіне сакавіка. Каля вёсак Белалес- се, Магіляны і Жалезніца створаны сажалкі (пл. 0,06 км², 0,7 км² і 0,04 км²). Прымае сцёк з меліярацый- ных каналаў.




Мушкацкае возера.




Мушкацкае возера.




Возера [redacted].

**МЫШАНКА,** рака ў Столінскім р-не, правы прыток р. Маства (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пл. вадазбору 71,9 км². Выцякае з воз. Вялікае Засамінае за 3 км на ПдУ, вусце за 9 км на Пн ад в. Альманы. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**МЫШАНКА,** рака ў Столінскім р-не, правы прыток р. Маства (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца каля в. Альманы, вусце за 3,5 км на ПдУ ад в. Хотамель.

**МЫШАНКІ,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Маства (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 6 км на Пн ад в. Альманы, вусце за 7 км на ПдЗ ад п. Старына.

**МЫШКАВІЦКІ КАНАЛ,** В і к т а р а ў с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, левы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 3,6 км на ПнЗ ад в. Калусціна, упадае ў Алу за 1,5 км на ПнЗ ад в. Мышкавічы.

**МЫШКАЎКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Іліі (бас. Віліі).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 21 км²**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Мышкавічы, цячэ па лясістых схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ілію за 2 км на ПдЗ ад в. Селішча. Ад вусця на працягу 6,5 км каналізаваная.

**МЯДЗВЕДАК,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Мёрыца, за 2 км на У ад г. Міёры, каля в. Мацюкі. Уздоўж усходняга берага высокія (да 10 м) стромкія схілы. Упадаюць 2 ручаі.

**МЯДЗВЕДЖЫ ЛОГ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Сцяг Працы, упадае ў Іпуць за 2 км на Пд ад в. Раманавічы.

**МЯДЗВЕДЖЫНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.**

У бас. р. Ушача, за 19 км на З ад Полацка, на У ад Наваполацка. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лесам. На З і У забалочаная пойма шырынёй 25—50 м.

**МЯДЗВЕДЖЫНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток канала рыбгаса «Сялец» (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца за 10 км на ПнУ ад в. Сялец, вусце за 2,5 км на Пн ад в. Мормажава.

**МЯДЗВЕДЗЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гарадоцкім р-не правы прыток Зайкаўскага канала (бас. Ловаці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Рудакова, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Мядзведзева.

**МЯДЗВЕДЗІЦА,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Гусак, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Печкі.



Рака [redacted] каля вёскі Малахоўцы Баранавіцкага раёна.

**ЗВЕ́ДЗІЦА,** меліярацыйны канал
мельскім р-не, левы прыток Вой-
;ага канала (бас. Дняпра). Даў-
я 5 км. Пачынаецца за 1,5 км
ПнУ ад в. Мядзведзіца, упадае
йцінскі канал за 5,5 км на У ад
зменева Рудня Лоеўскага р-на.

**ЗВЕ́ДЗЬ,** рака ў Калінкавіцкім
левы прыток р. Трэмля (бас.
яці).

ўжыня 8 км.
. вадазбору 69 км$^2$.
эдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

чынаецца за 4 км на ПнЗ ад
Азарычы, вусце за 1,6 км на
ад в. Трамец. Рэчышча каналіза-
.

**ЗВЕ́ДКА,** меліярацыйны канал у
цкім р-не, правы прыток р. Вед-
(бас. Дняпра). Даўжыня 14,5 км.
наецца за 4 км на ПдУ ад в. Го-
Калінкавіцкага р-на, упадае ў
ыч за 1,5 км на ПнУ ад в. Ведрыч.

**ЗВЕ́ДНА,** Н я д з в е д н а, возера
іслаўскім р-не.

0,44 км$^2$.
бoльшая глыбіня 9,9 м.
жыня 1,62 км.
ібольшая шырыня 0,4 км.
жыня берагавой лініі 4,07 км.
ём вады 1,91 млн. м$^3$.
вадазбору 3,18 км$^2$.

іас. р. Абабіца, за 20 км на ПнУ
Браслаў, на ПнУ ад воз. Абаб'е.
катлавіны вышынёй 8—10 м,
лі лесам. Берагі зліваюцца са
мі, у залівах нізкія, тарфяністыя.
мелкаводдзя вузкая. Дно да глы-
,5—2 м пясчанае, ніжэй выслана
ганенымі адкладамі і сапрапе-
лем. Зарастае да глыбіні 4,5 м пера-
важна падводнай расліннасцю. Выця-
кае ручай у воз. Дуброк.

**МЯДЗВЕ́ДКАЎСКАЕ 1-е ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,14 км.
Найбольшая шырыня 0,11 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,37 км.

У бас. р. Аржаніца, за 4 км на ПдЗ ад г. Глыбокае, каля в. Мядзвёдкі. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м (на З да 3 м), часткова пад хмызняком, на Пн пад агародамі.

**МЯДЗВЕ́ДКАЎСКАЕ 2-е ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,11 км.
Найбольшая шырыня 0,06 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,27 км.

У бас. р. Аржаніца, за 4 км на ПдЗ ад г. Глыбокае, за 0,3 км на Пд ад в. Мядзвёдкі. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, пад хмызняком, на Пд пад агародамі.

**МЯ́ДЗЕЛ,** возера ў Мядзельскім р-не.

Пл. 16,2 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 24,6 м.
Даўжыня 6,3 км.
Найбольшая шырыня 4 км.
Даўжыня берагавой лініі 30,92 км.
Аб'ём вады 102 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 89,2 км$^2$.

У бас. р. Мядзелка (выцякае з возера), за 4 км на Пн ад г. п. Мядзел. Схілы катлавіны вышынёй 15—20 м, у верхняй частцы разараныя, у ніжняй параслі хмызняком. З ПдУ да возера прымыкае лес. Берагі нізкія, пясчаныя і пясчана-галечныя, участкамі на Пд і У зліваюцца са схіламі. Пойма шырынёй да 250 м, вакол заліваў забалочаная. Дно да глыбіні 2—2,5 м пясчанае, ніжэй выслана апясчаненымі адкладамі і сапрапелямі. 8 астравоў агульнай плошчай 0,24 км$^2$, найбольшыя Замак, Бярозавы, Кульчына, Селішча. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,5—2 м, падводная — да 6 м. Моцна зарастаюць залівы. Упадаюць 6 ручаёў.

**МЯДЗЕЛІЦА,** рака ў Докшыцкім




Возера **Мядзел.**



а **Мядзел.**

р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Тумілавічы, вусце за 2 км на У ад в. Стараселле ніжэй воз. Медзазоя. Рэчышча каналізаванае на працягу 4,5 км (0,5 км на ПнЗ ад в. Хмялёўшчына — вусце).



Мяднянскае возера.




Возера Мядзесна.

**МЯДЗЕЛКА,** рака ў Мядзельскім і Пастаўскім р-нах, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 50 км.**
**Пл. вадазбору 775 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Выцякае з воз. Мядзел каля в. Лапосі Мядзельскага р-на, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Бірвіта Пастаўскага р-на. Асноўныя прытокі — Лучайка (справа) і Вінгра (злева). Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 250—400 м. Пойма двухбаковая, чаргуецца па берагах, шырынёй 100—200 м. Рэчышча ўмерана звілістае, шырыня ракі ў верхоўі 10—15 м, на астатнім працягу 15—20 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 1,5 м, найбольшая 2,1 м (1956). Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 2 сут. На рацэ ў межах г. Паставы сажалка — Пастаўскае возера (пл. 27 га).

**МЯДЗЕСНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 1,47 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,4 м.**
**Даўжыня 3,3 км.**
**Найбольшая шырыня 1,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,86 км.**
**Аб'ём вады 4,14 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 351 км².**

У бас. р. Аўсянка (цячэ праз возера), за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, на Пд ад в. Зарэчча. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, параслі лесам. Берагі нізкія, пад хмызняком. Пойма шырынёй ад 10 м да 100 м, забалочаная, парасла хмызняком. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, з глыбіні 2 м дно ілістае. На Пд востраў плошчай 1 га. Зарастае да глыбіні 3 м. Упадаюць рэкі Кудзінка і Мыльна.

**МЯДЗЯНКА,** рака ў Свіслацкім і Пружанскім р-нах, правы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 17 км. Пачынаецца каля в. Малыя Масушыны Свіслацкага р-на, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Юзафін Пружанскага р-на. Рэчышча каналізаванае. У ніжнім цячэнні называецца Н а в а д в о р с к і к а н а л.

**МЯДНЯНСКАЕ ВОЗЕРА,** М е д н а, у Брэсцкім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.**
**Аб'ём вады 0,46 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,75 км².**

У бас. р. Зах. Буг, за 25 км на Пд ад Брэста, каля в. Медна. Уваходзіць у Брэсцкую групу азёр. Бэрагі катлавіны высокія, пясчаныя, месцамі пад хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, з глыбіні 2 м дно сапрапелістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 3—3,5 м. Выцякае р. Спанаўка, злучана каналам са Страдзецкім возерам.

Возера Мядзесна.

**МЯЖА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,79 км².**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,93 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,52 км.**
**Аб'ём вады 0,51 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 258 км².**

У бас. р. Ловаць (цячэ праз возера), за 36 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Мяжа. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, пераважна разараныя, участкамі на У і Пд парослыя лесам. Берагі нізкія, пясчаныя і тарфяністыя, пад хмызняком. Пойма шырынёй ад 25 м да 300 м, забалочаная. Мелкаводдзе да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй дно ілістае. Невялікі востраў плошчай 0,1 га. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю. Упадае р. Шыша.

**МЯЖНОЕ,** меліярацыйны канал у Асіповіцкім р-не, правы прыток канавы Красная (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 1,4 км на ПнУ, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Мяжное.

**МЯНА,** рака ў Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 66 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Дуброва, вусце за 2 км на ПнУ ад п. Чарніцкі. Рэчышча каналізаванае.

**МЯРКІС,** рака ў Літве і Ашмянскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 202 км, у т. л. на Беларусі 12 км.**
**Пл. вадазбору 4440 км², у т. л. на Беларусі 100 км².**

Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Мікулішкі Ашмянскага р-на, цячэ ў межах Ашмянскага ўзвышша, 2 км на мяжы з Літвой і каля в. Гаравыя Грыгі перасякае яе. У межах Беларусі каналізаваная.

**МЯРТВІЦА,** рака ў Мсціслаўскім і Крычаўскім р-нах, правы прыток р. Чорная Натапа (бас. Дняпра).

**Даўжыня 24,5 км.**



Рака Мярэя каля вёскі Баева Дубровенскага раёна.

Пл. вадазбору 106 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.

Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Забалоцце Мсціслаўскага р-на, вусце за 1 км на З ад в. Маляцічы Крычаўскага р-на. Рэчышча каналізавана.

**МЯРЭДЗЕЖ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 19 м.
Даўжыня 0,57 км.
Найбольшая шырыня 0,21 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,38 км.
Аб'ём вады 0,9 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 0,38 км$^2$.

У бас. р. Альзініца, за 32 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Ухвішча. Схілы катлавіны вышынёй 15—25 м, разараныя, на У параслі лесам. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, на Пд вышынёй 1—1,5 м, на ПнЗ невялікімі ўчасткамі сплавінныя. Дно да глыбіні 5 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 5 м. Выцякае ручай у воз. Ухвішча.

**МЯРЭЯ,** рака ў Горацкім і Дубровенскім р-нах, на мяжы Дубровенскага р-на і Смаленскай вобл., левы прыток р. Дняпро.

Даўжыня 56 км.
Пл. вадазбору 694 км$^2$.
Сярэдні гадавы расход вады ў вусці каля 4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Стараселле Горацкага р-на, вусце за 0,8 км на ПнУ ад в. Лазараўка Дубровенскага р-на. Асноўныя прытокі на Беларусі Ірвяніца і Закабыліца (злева), у Расіі Свіная і Лупа (справа). Цячэ па заходніх схілах Смаленскага ўзвышша. Даліна трапецападобная, шырынёй да 2 км. Пойма двухбаковая. Рэчышча звілістае, шырыня ракі ў межань 3—6 м, у ніжнім цячэнні 10—15 м. На рацэ каля в. Леніна вадасховішча.

**МЯСТРА,** возера ў Мядзельскім р-не.

Пл. 13,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,3 м.
Даўжыня 5,8 км.
Найбольшая шырыня 4,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 20,2 км.
Аб'ём вады 70,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 130 км$^2$.

У бас. р. Нарач, каля г. п. Мядзел. Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м (на Пн і ПнУ 6—10 м), раза-



Возера Мядзесна.




Возера Мярэдзеж.

Возера Мястра.



Возера Мястра.

раныя, на Пд і ПдЗ пад лесам. Берагавая лінія ўтварае некалькі паўастравоў і заліваў (Панасаўка, Мядзельская лука, Паўночная лука). Берагі на Пн і ПнУ зліваюцца са схіламі, астатнія нізкія, пясчаныя, на Пд і У забалочаныя. На асобных участках уздоўж берагоў — берагавы вал вышынёй да 1 м. Дно паўночнага плёса са шматлікімі падняццямі, якія чаргуюцца з упадзінамі. Зона мелкаводдзя пясчаная, на асобных участках пясчана-галечная, высланая валунамі. Глыбей пашыраны сапрапелі і ілы. Расліннасць утварае ўздоўж берагоў некалькі палос (падводная пашырана да глыбіні 4 м). Злучана пратокамі з азёрамі Батарына, Скрылава, Шастакова. Сцёк праз пратоку Скема ў воз. Нарач. Водзіцца вугор, багатая арнітафауна.

**МЯСРЭДА,** рака ў Бярэзінскім і Крупскім р-нах, левы прыток р. Можа (бас. Дняпра).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 48 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Альшанец Бярэзінскага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Купленка. Цячэ па лясістай мясцовасці, у вярхоўі ўрочышчы Вялікае Балота і Белы Востраў.

**МЯТРОЎЛЯ,** канал Мятроўля, рака ў Веткаўскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Замосце, вусце ў межах в. Прысна. Рэчышча каналізаванае. Паміж вёскамі Данілавічы і Прысна плаціна і сажалка.

**МЯШТОЎКА,** рака, гл. *Вольшына.*

**МЯШЧЭЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,7 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,5 м.
Даўжыня 2,16 км.
Найбольшая шырыня 0,53 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,56 км.
Аб'ём вады 2,5 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 49,8 км$^2$.

У бас. р. Дрыса, за 26 км на Пд ад Полацка, каля в. Воранава. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м (на З і ПнУ 3—4 м), разараныя, на Пд парослі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на Пд і ПнУ зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 1,5 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй (да 90 мг/л) і празрыстасцю (1,1 м), высокай колернасцю (да 170°). Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці да глыбіні 1,4—2 м. Упадае ручай з воз. Якаўскае, выцякае ручай у р. Дрыса.

# Н

**НАБАРКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, правы прыток р. Нясета (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца з ручая без назвы каля в. Новыя Набаркі, упадае ў Нясету за 1,5 км на ПнУ ад в. Мілажань.

**НАБІСТА,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 3,75 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,8 м.




Возера Набіста.

Даўжыня 4,8 км.
Найбольшая шырыня 1,11 км.
Даўжыня берагавой лініі 12,6 км.
Аб'ём вады 4,37 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 152 км$^2$.

У бас. р. Вята (выцякае з возера пад назвай Хараброўка), за 13 км на З ад г. Міёры, каля в. Перабродздзе. Уваходзіць у Абстэрнаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, парослі хмызняком, на Пд і ПдЗ разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, участкамі сплавінныя. Дно ў прыбярэжнай частцы пясчанае, месцамі глеістае, глыбей сапрапелістае. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю. Злучана пратокамі з азёрамі Абстэрна і Падзявы.

**НАБОРКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Косаўскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Магіліца ў лясным урочышчы Наборкі, упадае ў Косаўскі канал за 4,5 км на ПнУ ад в. Гічыцы.

**НАВАДВОРКА,** Нязянка, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Нявішы (бас. Котры).

Даўжыня 9 км.
Пл. вадазбору 21 км$^2$.

Сярэдні нахіл воднай паверх[ні]
2,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Курылаўцы, упадае ў Нявішу за 1 км на ПнУ ад в. Раваячычы. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Новы Двор створана сажалка (пл. 0,08 км$^2$).

**НАВАДВОРСКІ КАНАЛ,** назва р. *Мядзянка* ў ніжнім цячэнні.

**НАВАДУБАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток Валожынскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца каля в. Залессе, вусце за 2 км на ПдУ ад п. Пціч Глускага р-на.

**НАВАСАДКА,** Уцясянка, рака ў Баранавіцкім р-не, левы прыток Малатоўкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 58 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверх[ні]
1,2 ‰.

Пачынаецца на ПдУ ад в. Груды, цячэ праз лясныя ўрочышчы, упадае ў Малатоўку на ПнУ ад в. Мілавіды. Рэчышча каналізаванае.

**НАВАСАДСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, правы прыток р. Капаёўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 11,5 км

...ынаеццa каля паўднёвай ускраіны ...радзеж Маларыцкага р-на, вусце ...я ўсходняй ускраіны в. Чэрск ...сцкага р-на.

**...ВАСАДСКІ КАНАЛ**, меліярацый... канал у Брэсцкім і Жабінкаўскім ...ах, правы прыток р. Мухавец (бас. ... Буга). Даўжыня 7,4 км. Пачына...а за 1 км на Пн ад в. Вочкі Брэсц...а р-на, вусце за 1,5 км на ПдУ ад ...авасады Жабінкаўскага р-на.

**...ВАСЕЛЬСКАЕ ВОЗЕРА**, на мяжы ...ненскага і Чашніцкага р-наў.

...л. 0,15 км².
...айбольшая глыбіня 5,8 м.
...аўжыня 0,69 км.
...айбольшая шырыня 0,3 км.
...аўжыня берагавой лініі 1,68 км.
...б'ём вады 0,47 млн. м³.
...л. вадазбору 1,42 км².

... бас. р. Свячанка, за 18 км на З ад ...яно, каля в. Новае Сяло. Схілы ...лавіны на З вышынёй да 10 м, у ...няй частцы пад хмызняком, у ...хняй разараныя; на У вышынёй ..., разараныя. Берагі высокія, на З ...аюцца са схіламі. Выцякае ручай ... Свяча.

**...ВАСЕЛЬСКІ КАНАЛ**, меліяра...йны канал у Карэліцкім р-не, ...ы прыток Нёмана. Даўжыня 5 км. ...ынаецца за 2 км на З, вусце за ...м на ПнУ ад в. Новае Сяло ва ...чышчы Навізна.

**...ВАСЕЛКАЎСКІ КАНАЛ**, С т а р а в а с ё л к а ў с к і к а н а л, мілія...ыйны канал у Калінкавіцкім р-не, ...ы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). ...жыня 10,5 км. Пачынаецца за 3 км ... Пн ад в. Кошчычы, вусце за ...км на ПдУ ад в. Каплічы.

**НАВАСЕЛКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, правы прыток р. Поня (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Вардамічы Вілейскага р-на, упадае ў Поню за 3 км на ПнЗ ад в. Мацееўцы.

**НАВАСЕЛКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток р. Трасцяніца (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Навасёлкі, вусце за 3,5 км на ПнУ ад гэтай вёскі.

**НАВАСЕЛКАЎСКІ КАНАЛ**, гл. *Павіцкі канал.*

**НАВАСЕЛКІ**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,18 км.
Найбольшая шырыня 0,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Свіна, за 54 км на ПнУ ад Полацка, за 1,8 км на ПнЗ ад в. Белая. Схілы катлавіны не выражаны. Возера размешчана сярод забалочанага лесу. На ПдУ выцякае ручай у воз. Вялікае Свіно.

**НАВІКІ**, возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.

У бас. р. Ласіца, за 32 км на У ад г. Паставы, каля в. Навікі. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя. На Пн выцякае ручай у Крывое возера.

**НАВІНА**, А с е л і ц а, рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Жалудзянкі (бас. Нёмана).




Мяшчэцкае возера.

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 32 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Навасады, упадае ў Жалудзянку на заходняй ускраіне г. п. Жалудок. Каля в. Вялікае Сяло створана сажалка (пл. 0,1 км²).



...ера Набіста.

**НАВІНЫ**, рака, гл. *Грудзеніца.*

**НАВУМКА**, рака ў Ваўкавыскім р-не, у бас. Нёмана.

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 94 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Сямёнава, цячэ ў межах Ваўкавыскага ўзвышша. Зліваючыся з р. Пікарэц на Пд ад в. Мешбава ўтварае р. Нятупа. Рэчышча каналізаванае.

**НАВУХАВА-МАЛЫНІЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Чачэрскім р-не, бас. Дняпра. Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. [illegible], упадае ў старычча на пойме [illegible] (воз. [illegible]) каля в. Сябро[illegible].

**НАВУЦЬ**, Р[illegible], рака ў Жыткавіцкім р-не, [illegible] прыток р. [illegible] (бас. [illegible]).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 269 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Навуць, вусце за 3,8 км на Пд ад в. Пасекі. Даліна невыразная, рэчышча ад вытоку на працягу 22 км каналізаванае. Скарыстоўваецца для напаўнення вадой сажалак рыбгаса «Чырвоная Зорка».

**НАВЯТА**, возера ў межах г. Браслаў, у басейне р. Друйка.




**Возера Навята.**

**Пл. 0,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,1 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,67 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,26 км.**
**Аб'ём вады 1,57 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,7 км².**

Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 10—13 м, на Пд і У да 20 м, у верхняй частцы разараныя. На ПнУ пойма шырынёй да 700 м, пад лугам з рэдкім хмызняком. Мелкаводная зона шырынёй 100—150 м. 3 астравы агульнай пл. 3 га. Дно да глыбіні 1,5 м выслана пяском і апясчаненым ілам, глыбей сапрапелем. Слаба зарастае да глыбіні 0,5—1 м. Упадаюць 2 меліярацыйныя канавы, выцякае ручай у воз. Дрывяты.

**НАГАЎСКАЕ ВОЗЕРА**, у Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.**

У бас. р. Галбіца, за 16 км на ПнУ ад г. п. Мядзел, каля в. Нагаўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на ПнЗ да 12 м), пераважна пад лесам (на Пн і З) і хмызняком (на Пд), усходнія часткова разараныя. Праз возера цячэ р. Лаўрыха (Смычыца).

**НАГОРНАЯ КАНАВА**, гл. *Пераралоцкі канал.*

**НАГОРНЫ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Асташкава, перахоплівае сцёк р. Орпа і адводзіць яго ў Вілейскае вадасховішча за 2,5 км на ПдУ ад в. Асташкава.

**НАГОРНЫ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Аршанскім і Дубровенскім р-нах, левы прыток р. Заволінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца каля в. Буда Пірагоўскага сельсавета Дубровенскага р-на, упадае ў Заволінку за 4 км на ПдУ ад г. п. Арэхаўск Аршанскага р-на.

**НАГОРНЫ КАНАЛ**, Атоцкі стары канал, меліярацыйны канал у Камянецкім р-не, правы прыток Атоцкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Любашкі, упадае ў Атоцкі канал каля моста на аўтадарозе Каленкавічы — Янушы.

**НАГОРНЫ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, правы прыток канала на торфаўчастку «Паўночныя Грады» (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 7 км на З, вусце за 3,4 км на ПнЗ ад в. Палонь.

**НАГОРНЫ КАНАЛ**, гл. *Ганцавіцкі канал.*

**НАДАЗЕРСКАЕ ВОЗЕРА**, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.**



**Рака Нараў на тэрыторыі Белавежска пушчы.**

**Пл. вадазбору 3,25 км².**

У бас. р. Ласіца, за 36 км на У а г. Паставы, каля в. Колаўцы. Схіл катлавіны вышынёй 12 м (на Пн д 7 м), пераважна пад хмызняко участкамі на Пн і ПнУ разараны Берагі высокія.

**НАДЗЕЯ**, рака ў Лідскім р-не, лев прыток Няшкрупы (бас. Нёмана Даўжыня 7 км. Пачынаецца ка в. Гуды, цячэ ў межах Лідскай ра ніны, упадае ў Няшкрупу на ПдЗ а в. Жырмуны. На працягу 1 км а в. Шаўдзюкі да вусця каналізавана

**НАЙДА**, возера ў Жыткавіцкім р-н

**Пл. 0,21 км².**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,68 кі**

У бас. р. Прыпяць, за 15 км на Пд ад г. Жыткавічы, каля в. Найда. Схіл катлавіны вышынёй 2—5 м, пясч ныя, разараныя, на Пн участка пад хмызняком. Дно сапрапеліста каля берагоў пясчанае. Праз возе пракладзены канал.

**НАЙДА-БЯЛЁЎСКІ КАНАЛ**, меліяр цыйны канал у Жыткавіцкім р-н левы прыток р. Прыпяць. Даўжы 33 км. Пачынаецца за 5 км на Пн ад в. Бялёў, вусце за 5,5 км на Пн ад в. Халупін. Прытокі — меліяр цыйныя каналы, у т. л. Найд Бялёўскі 1-ы.

**НАЙДА-БЯЛЁЎСКІ 1-ы КАНАЛ**, мі ліярацыйны канал у Жыткаві кім р-не, правы прыток Найда-Б лёўскага канала (бас. Прыпяці). Да жыня 6,5 км. Пачынаецца за 6 на ПнУ, вусце за 2 км на Пн в. Бялёў.

**НАКВА**, Накза, рака ў Мядзел скім р-не, правы прыток р. Сэрв (бас. Віліі).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 84 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверх 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. К ляшы, упадае ў Сэрвач на паўднё ўсходняй ускраіне г. п. Крывіч На працягу 11,8 км каналізаван (ад вытоку да в. Філіпкі). На рацэ ка в. Наква створана сажалка.

**...ЛІБАЎКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Крамушаўкі (бас. Нёмана).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 39 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Ждановічы, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, пераважна сярод лесу, упадае ў Крамушаўку ва ўрочышчы Кухнішча за 3 км на ПдУ ад в. Пудзіна.

**...ЛЮЦІК,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,006 км$^2$.
Даўжыня 0,22 км.
Найбольшая шырыня 0,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.

У бас. р. Аўсянка, за 33 км на ...У ад Гарадка, за 1 км на ПнЗ ад в. Цёста, за 1,5 км на ПнУ ад в. Сяло. Схілы катлавіны вышынёй ...-7 м, спадзістыя, верхняя частка ... ворывам, ніжняя пад лесам. На... забалочаная пойма шырынёй ... км.

**...РАЎ** (Narev), рака ў Пружанскім і Свіслацкім р-нах і Польшчы, правы прыток Зах. Буга.

Даўжыня 497 км.
Сярэднегадавы расход вады ў межах Беларусі (з прытокамі, якія ўпадаюць на тэрыторыі Польшчы) 5 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні ў межах Беларусі 0,3 ‰.
Пл. вадазбору 74,8 тыс. км$^2$.

Пачынаецца з вярхоўя Скаронава ...ала за 6 км на ПнУ ад в. Клепа... Пружанскага р-на, вусце на тэрыторыі Польшчы. У Беларусі цячэ па Прыбугскай раўніне праз Белавежскую пушчу, даўжыня 44 км. Даліна ў межах Беларусі амаль на ўсім працягу невыразная. Каналізавана 13 км рэчышча ад вытоку да вусця канала Матылёў Роў; на астатнім працягу яно звілістае, месцамі выраўнаванае. Шырыня ракі ў межах 8—10 м. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Асноўныя прытокі: Рудаўка, Калонка (Беларусь), Бебжа, Піса, Амулёў, Вкра (правыя), Тушамлянка (Беларусь), Нараўка (левыя).

**НАРАЎКА,** канал Нараўка, рака ў Пружанскім р-не і Польшчы, левы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 61 км (у т. л. на Беларусі 21,3 км).
Пл. вадазбору 303 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Малы Краснік Пружанскага р-на, вусце на тэрыторыі Польшчы. Цячэ па Прыбугскай раўніне праз Белавежскую пушчу. Ад вытоку да мяжы з Польшчай рэчышча каналізаванае. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. У верхнім цячэнні называецца канал Стары Роў.

**НАРАЎЛЯНКА,** Нароўля, рака ў Мазырскім і Нараўлянскім р-нах, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 27 км. Пл. вадазбору 124 км$^2$. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Міхалкі Мазырскага р-на, вусце ў межах г. Нароўля. Рэчышча ў ніжнім цячэнні на працягу 3 км каналізаванае.

**НАРАЧ,** Нарачанка, рака ў Вілейскім і Мядзельскім р-нах, правы прыток Віліі.

Даўжыня 75 км.
Пл. вадазбору 1650 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 11,9 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца на Пд з возера Нарач у Мядзельскім р-не, цячэ ў межах Нарачана-Вілейскай нізіны, упадае ў Вілію за 1,2 км на ПдЗ ад в. Красніца Вілейскага р-на. Асноўныя прытокі: Вузлянка, Спягліца, Ганутка. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, у ніжнім трапецападобная, шырынёй 1—1,5 км. Пойма двухбаковая, часткова аблесеная, у верхнім і сярэднім цячэнні забалочаная (шырыня 300—600 м), ніжэй в. Нарач перарывістая, вузкая, адкрытая. Азёрнасць 6 % (найбольшыя азёры ў вярхоўі ракі — Нарач, Мястра, Баторына, Бледнае). Рэчышча звілістае, яго шырыня 8—16 м, ад в. Слабада на працягу 5 км каналізаванае. Берагі ў вярхоўі нізкія, забалочаныя, на астатнім працягу стромкія. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. У міжрэччы Нарачы і Вузлянкі гідралагічны заказнік Чарэмшыца. На маляўнічых берагах Нарачы і Вузлянкі зона адпачынку Вузлянка. У вытоку ракі каля хутара Скок створаны сажалкі для развядзення рыбы. Рака папулярная сярод турыстаў-воднікаў.



...зера Нарач.

**НАРАЧ**, самае вялікае возера на Беларусі, у Мядзельскім р-не.

Пл. 79,6 км².
Найбольшая глыбіня 24,8 м.
Даўжыня 12,8 км.
Найбольшая шырыня 9,8 км.
Даўжыня берагавой лініі 41 км.
Аб'ем вады 710 млн. м³.
Пл. вадазбору 199 км².

У бас. р. Нарач (выцякае з возера), за 4 км на З ад г. п. Мядзел, паміж вёскамі Нараўкі, Пасынкі, Мікольцы, Гатавічы, Занарач. Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр. Схілы [illegible] на Пн і ПнУ вышынёй 45—50 м утвораны адгор'ямі Свянцянскіх град. На Пд да возера прымыкае больш нізкая Паўднёва-Нарачанская града. Берагі пераважна нізкія, пясчаныя, месцамі стромкія і абразійныя, вышынёй 2—11 м, на ПдУ забалочаныя, тарфяныя. Трапляюцца невялікія берагавыя валы, утвораныя прыбойнай дзейнасцю хваль і пасоўваннем ледзянога покрыва. Каля паўночна-ўсходняга берага востраў пл. 6,2 га, які з-за сваёй надзвычайнай маляўнічасці і пражывання на ім рэдкіх звяроў і птушак, гнездавання ахоўнага віду (крахаль вялікі) аб'яўлены помнікам прыроды. Да паўднёва-ўсходняга берага прымыкае гідралагічны заказнік Чарэмшыца, на паўночным створаны біялагічныя заказнікі Някасецкі і Пасынкі. Дно возера адносна роўнае, на У больш складанай будовы, трапляюцца прыўзнятыя амаль да паверхні ўчасткі (мялíны). Прыбярэжная водмель пясчаная, часткова заіленая, каля стромкіх берагоў шмат галькі і валуноў. Глыбакаводная частка дна выслана сапрапелем, глініста-пясчанымі адкладамі. Паўвостраў Наносы (заканчваецца касой) падзяляе возера на паўночна-заходні Малы плёс (глыбіні да 18 м) і паўднёва-ўсходні Вялікі плёс (глыбіня да 24,8 м на т. зв. Гатаўскіх ямах каля ўсходняга берага, насупраць в. Гатавічы). Ваганні ўзроўню на працягу года да 70 см. Лёд трымаецца з 1-й дэкады снежня, таўшчыня 50—60 см, у асобныя гады да 80 см, да 1-й дэкады красавіка. У некаторыя гады паўднёва-ўсходні плёс замярзае толькі ў студзені. У зацяжныя вёсны ледзяныя палі захоўваюцца да канца красавіка, а ледзяныя таросы каля берагоў — да мая. Вясной водная маса добра перамешваецца да дн
тэмпература вады на найбольшы глыбінях 10—12 °С. Сярэднямесячна тэмпература паверхневых слаёў вад ў кастрычніку 8,7°, у ліпені 18,9 °( На працягу года вада добра насычан кіслародам. У воднай флоры 48 віда уласна водных раслін, у т. л. 38 кве кавых, ▮ водарасцей. Найбольш зарс Малы плёс, у паўночна-ўсходня частцы якога шырыня паласы расліі насці да 2 км (у Вялікім плёсе 50-350 м). Характэрна хвалепрыбойна паласа без расліннасці (ад урэзу вад да глыбіні 1,5—2 м у Малым плёс і 3,5—4 м у Вялікім плёсе). Надво, ная расліннасць (трыснёг, чаро займае нязначную (менш за 3% плошчу возера, пашырана ўчастка да глыбіні 1,5—2 м. Падводнай ра ліннасцю, сярод якой пераважаю харавыя водарасці, выслана ка 15 км² плошчы дна (пашырана д глыбіні 7,5 м). У іхтыяфауне 25 в даў рыб, прамысловае значэні маюць акунь, плотка, шчупак, вуго верхаводка, лінь, мянтуз, гусцяра інш. Возера вызначаецца багацце вадаплаўных птушак; адзначан гняздоўі лебедзя-шыпуна, мал( крачкі, скапы, малой паганкі, якія з несены ў Чырвоную кнігу Рэспублі Беларусь. У возера ўпадаюць 17 руч ёў (найбольшыя Пронькі, Купа, Ант нізберг, Сіманы) і кароткая рак пратока Скема з воз. Мястра. Спрі яльныя кліматычныя ўмовы, маляўн чыя ландшафты абумовілі стварэні вакол Нарачы шматлікіх зон адп чынку. Каля возера і на яго ўзбярэ жы дзейнічаюць курорт Нарач, шэр санаторыяў і дамоў адпачынку, ту гасцініцы, піянерлагеры.



**Наўліцкае возера.**



**Возера Нарач.**

у сувязі з інтэнсіфікацыяй сель-...й гаспадаркі і павелічэннем антра-...геннай нагрузкі назіраецца пагар-...нне экалагічнага стану возера: па-...ншаецца празрыстасць вады, па-...лічылася колькасць фітапланктону, ...энсіўна развіваюцца ніткаватыя во-...расці — індыкатары эўтрафіраван-... расце ўтрыманне фасфатных злу-...нняў у вадзе і інш. У мэтах ...овы Нарачы і рацыянальнага вы-...рыстання яго рэсурсаў прымаюц-... меры па ахове возера. Комп-...ксныя назіранні за яго станам ...наваколлем праводзяць нарачан-...ія азёрная і біялагічная станцыі. ...іяўлены ўласцівасці функцыяніра-...ння экасістэмы возера, што дазво-...ла ўнесці яго ў спіс вадаёмаў, ...ія падлягаюць асаблівай ахове.

**...РАЧАНКА,** рака, гл. *Нарач.*

**...РАЧАНСКАЯ ГРУПА АЗЁР,** у ...дзельскім р-не, у бас. р. Нарач. ...лючае азёры Нарач, Мястра, Ба-...рына, Бледнае, якія злучаны паміж ...бой кароткімі пратокамі (за вы-...ючэннем бяссцёкавага Бледнага ...зера) і маюць агульны сцёк у р. На-...ч. Агульная пл. каля 100 км$^2$, аб'ём ...ды 0,8 км$^3$, пл. вадазбору ...9 км$^2$.

...Фарміраванне азёр звязана з этапа-... адступання паазерскага ледавіка, ...лі вызваленыя ім участкі Нара-...на-Вілейскай нізіны запоўніліся ...талымі водамі і ўтварыўся азёрны ...сейн (узровень яго быў на 5—7 м ...шэй сучаснага). 10—12 тыс. га-...ў назад прыток ледавіковых водаў ...ыніўся, узровень басейна панізіўся ...пачалі фарміравацца сучасныя азё-...ы. Тыповыя прадстаўнікі іхтыяфау-...ы — лешч, шчупак, акунь, плотка, ...зь, судак; азёры зарыбляюцца вуг-...м. Маляўнічасць азёр, хваёвыя ля-... па берагах, спрыяльныя кліма-...чныя ўмовы абумовілі стварэнне ...кол азёр буйнога рэкрэацыйнага ...нтра з санаторыямі, дамамі адпа-...нку, турбазамі, турысцкімі стаянкамі, піянерлаге-...мі. На дзяржаўным узроўні пры-...юцца меры па ахове унікальнага ...ыроднага азёрналандшафтнага ...мплексу.

**...РВА,** Няцеч, рака ў Лід-...ім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 157 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на ПнЗ ад ... Брындзяняты, упадае ў Нёман ... ўсходняй ускраіне в. Дакудава. ... працягу 12 км каналізаваная ... п. Першамайскі — 1 км на У ад ... Філонаўцы). Каля в. Дуброўня ...ворана сажалка (пл. 0,19 км$^2$). ...сярэднім цячэнні прымае сцёк ме-...рацыйных каналаў з тарфяных ...лот (урочышчы Бабіна, Лідскае ...лота), на якіх вядуцца торфарас-...рацоўкі.

**...АРОЎЛЯ,** рака, гл. *Нараўлянка.*

**...АРУШОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Глыбоц-...м р-не.

**Пл. 0,09 км$^2$.**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,19 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**

У бас. р. Дабрылаўка, за 10 км на ПнЗ ад г. Глыбокае, каля в. Нарушова. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя. Вакол возера пойма, якая на Пн злучаецца з поймай ручая без назвы.

**НАЎЛІЦКАЕ ВОЗЕРА,** Наўліцы, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 3,86 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12,9 м.**
**Даўжыня 3,43 км.**
**Найбольшая шырыня 1,74 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 11,4 км.**
**Аб'ём вады 23,5 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 11,3 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 20 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Наўліца. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на Пн і ПдУ да 8 м, на З да 25 м), пераважна разараныя, на Пд і Пн тэрасаваныя. На Пд некалькі заліваў і паўастравоў. Берагі нізкія, пясчаныя і пясчана-галечныя, на З і ПнЗ абразійныя. Вакол возера пойма шырынёй да 200 м, затарфаваная, пароcлая хмызняком. Мелкаводная зона пясчаная, глыбакаводная — ілістая. Расліннасць пашырана да глыбіні 6 м. Упадаюць 2 ручаі, злучана ручаём з воз. Нежлева.

**НАЎРАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, левы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,1 км на ПнУ ад в. Гарадзішча, цячэ пераважна сярод лесу, упадае ў Вузлянку за 1,7 км на ПнУ ад в. Наўры. У нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НАЦКАВА,** меліярацыйны канал у Мастоўскім р-не, правы прыток Зальвянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 12,5 км. Пачынаецца на З ад в. Ланцавічы, цячэ праз невялікія ўрочышчы, упадае ў Зальвянку за 2 км на Пн ад в. Пацавічы. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НАЧА,** рака ў Крупскім і Барысаўскім р-нах, правы прыток р. Бобр (бас. Дняпра).

**Даўжыня 80 км.**
**Пл. вадазбору 526 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,6 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**




Наўліцкае возера.




Нарачанская група азёр.

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Баркі Халопеніцкага сельсавета Крупскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Вяляцічы Барысаўскага р-на. Асноўны прыток — р. Блудыня (злева). Даліна трапецападобная, у многіх месцах невыразная, шырынёй 1—1,5 км. Схілы спадзістыя (вышыня 4—6 м), у ніжнім цячэнні ўмерана стромкія (да 10 м). Пойма двухбаковая, шырынёй 300—600 м, перасечаная меліярацыйнымі канавамі, большай часткай адкрытая. Рэчышча каналізаванае на працягу 28 км (ад вытоку да в. Вялікія Жаберычы), на астатнім працягу звілістае, шырынёй 5—10 м. Прымае сцек з меліярацыйных каналаў.

**НАЧА,** Н а ч к а, рака ў Полацкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 43 км.
Пл. вадазбору 424 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,8 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Выцякае з воз. Арэхаўна каля в. Арэхаўна, вусце за 1 км на ПнУ ад в. [illegible]. Цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша. Асноўны прыток — р. Бедрыца (злева). Даліна на вялікім працягу трапецападобная, шырынёй 200—300 м. Пойма перарывістая (шырыня 150—200 м), у сярэднім і ніжнім цячэнні адсутнічае. Рэчышча ад вытоку на працягу 8 км каналізаванае, на астатнім працягу ўмерана звілістае, шырынёй 10—15 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы 3-й дэкады сакавіка, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем 2,7 м, найбольшая 3,7 м (1951 г.). Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у 3-й дэкадзе сакавіка. Веснавы ледаход 6 сут.

**НА́ЧА,** Н а ч, рака ў Ляхавіцкім, Клецкім і Ганцавіцкім р-нах, правы прыток р. Лань (бас. Прыпяці).




**Возера Недрава.** 1 — з воз. Поцех; 2 — з воз. Вера; 3 — з воз. Несвіш; 4 — р. Друйка.



**Рака Нача каля аднайменнай вёскі ў Крупскім раёне.**

Даўжыня 42 км.
Пл. вадазбору 360 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца на З ад в. Канюхі Ляхавіцкага р-на, вусце за 2 км на У ад в. Нач Ганцавіцкага р-на. Цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе. Асноўны прыток — р. Тучанка (злева). Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 0,5—1 км, месцамі да 2—3 км. Пойма пераважна двухбаковая (шырыня 0,3—0,6 км). Рэчышча на вялікім працягу звілістае, у верхнім цячэнні на працягу 20,8 км каналізаванае, яго шырыня 3—10 м.

**НА́ЧА,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 17,5 км.
Пл. вадазбору 78 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Падбярэззе, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Нежыцы. Рэчышча каналізаванае.

**НА́ЧКА,** Н а ч а, П а н а ч к а, рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца каля в. Пацялюнцы, цячэ па Лідскай раўніне, упадае ў Дзітву за 1 км на ПнУ ад в. Янавічы. Рэчышча каналізаванае.

**НАЧО́ЎКІ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,05 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.

У бас. р. Нішча, за 16 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 4 км на ПнЗ ад в. Вялікае Балота, сярод лесу. Схілы невыразныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй да 50 м.

**НЕВАРО́ЖКА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Каспля (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 43 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,2 ‰.

Пачынаецца за 1,4 км на ПдУ ад в. Салавічы, вусце каля паўднёвай ускраіны г. п. Сураж. Прыток — ручай Неварожыха (злева). Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 2,8 км каналізаванае.

**НЕВАРО́ЖЫХА,** ручай у Віцебскім р-не, левы прыток р. Неварожка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдЗ ад в. Краўцова, вусце за 1,5 км на Пд ад г. п. Сураж. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,2 км каналізаванае.

**НЕ́ВЕЖА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,93 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 1,5 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,55 км.
Пл. вадазбору 79,2 км$^2$.

У бас. р. Сосніца, за 35 км на Пн ад Полацка, за 5 км на ПдЗ ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй да 13 м (на З і Пн да 5 м), пясчаныя, пад хмызняком. Упадае р. Жэльцаўка, выцякае р. Невежа.

**НЕ́ВЕЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 3,7 км. Пачынаецца за 4 км на У ад в. Невель, упадае ў вадасховішча Жыдча з Пд за 1 км на Пд ад в. Жыдча.

**НЕ́ВЕЛЬСКІ 2-і КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток Невельскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Невель, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Жыдча.

**НЕ́ВЯСЕЛЬ,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,34 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.
Аб'ём вады 0,032 млн. м$^3$.

На пойме Прыпяці, за 12 км на Пд ад г. Жыткавічы, за 0,1 км на Пн ад в. Боркі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лугам, месцамі парасл хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, на З забалочаныя. Пратокай злучана з воз. Бяседка.

**НЕ́ГАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,005 км$^2$.
Даўжыня 0,1 км.
Найбольшая шырыня 0,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.

У бас. р. Дрыса, за 20 км на Пд ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПдУ ад в. Тапары. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, разараныя. Праз возера цячэ ручай (прыток р. Зверынка).

**НЕ́ГАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток Любанска-Стаўпянскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 9,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Салтанаўка, упадае ў Любан



зера Недрава.

з-Стаўпянскі канал за 1,3 км на Пд в. Зорка.

ГЛЮБСКІ КАНА́Л, меліярацыйны нал у Веткаўскім р-не, левы прык р. Гнеў (бас. Дняпра). Даўжыня км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ п. Уютны, упадае ў Гнеў за 1 км ПнЗ ад в. Неглюбка.

ГНАВІЧЫ, рака ў Барысаўскім не, левы прыток р. Мужанка (бас. япра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца 3 км на У, вусце за 0,8 км на З ад Малыя Негнавічы. Рэчышча каналізанае.

ТРАЗА, возера, гл. *Гарадзішча.*

ДАЙКА, рака ў Буда-Кашалёўскім не, левы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 76 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні ,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Неайка, вусце за 1 км на Пн ад п. Крыў.

ДАЛЬКА, рака ў Барысаўскім р-не, авы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняа).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 53 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні ,5 ‰.**

Пачынаецца на лясістых паўночнаходніх схілах Мінскага ўзвышша 1,5 км на З ад в. Ніўкі, вусце на ўночнай ускраіне в. Броды. Асноўпрыток — р. Можніца. Рэчышча вусця ўверх каналізаванае на прагу 1,2 км.

ДРАВА, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 3,72 км².**
**Найбольшая глыбіня 12,2 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 2,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 15 км.**
**Аб'ём вады 17,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 808 км².**

У бас. р. Друйка (цячэ праз возера, чае яго з воз. Неспіш), за 7 км на У ад г. Браслаў, каля в. Маскаўцы. аходзіць у Браслаўскую групу р. Схілы катлавіны вышынёй да м, пад лугам і хмызняком. На Пн вая града вышынёй 15—20 м, парасла рэдкім хваёвым лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, участкамі на Пд абразійныя. Мелкаводдзе пясчанае, да глыбіні 3—4 м дно іністае, ніжэй — сапрапелістае. 3 астравы пл. 2 га. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4 м. Пратокай злучана з воз. Поцех, упадае ручай з воз. Вера. Па возеры праходзіць турысцкі маршрут.

**НЕЖКАВА,** вадасховішча ў Горацкім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 3,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Аб'ём вады 1,3 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 71 км².**

На р. Парасіца, за 3 км на ПнЗ ад г. Горкі, каля в. Нежкава. Створана ў 1986 для арашэння зямель, рыбагадоўлі, воднага добраўпарадкавання і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 2,4 м.

**НЕ́ЖЛЕВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,25 км².**
**Даўжыня 0,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,27 км.**
**Пл. вадазбору 24 км².**

У бас. р. Нежлеўка (выцякае з возера), за 18 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Лагані. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, параслі лесам, на У хмызняком. Берагі нізкія, забалочаныя. Злучана ручаём з воз. Наўліцкае.

**НЕ́ЖЛЕЎКА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Ушача (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 73 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Выцякае з воз. Нежлева за 1,6 км на З ад в. Заполле Вароніцкага сельсавета, вусце за 1 км на З ад в. Рудня. Рэчышча ад вытоку на працягу 7 км каналізаванае.

**НЕЖЫБО́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім і Лунінецкім р-нах, левы прыток р. Цна (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Ліпск Ганцавіцкага р-на, вусце за 3,5 км на Пн ад в. Люшча Лунінецкага р-на.

**НЕЖЫХА́ЎСКІ 1-ы КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток Слабодскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Нежыхаў, вусце за 1,3 км на ПдЗ ад в. Перасяцінец. Цячэ ў зоне адсялення.

**НЕЖЫХА́ЎСКІ 2-і КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток Слабодскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ ад в. Нежыхаў, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Перасяцінец. Цячэ ў зоне адсялення.

**НЕЙМАЙЦЯ́НКА,** рака, гл. *Немайцянка.*

**НЕ́КАЛАЧ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,55 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,5 м.**
**Даўжыня 1,39 км.**
**Найбольшая шырыня 0,69 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5 км.**
**Аб'ём вады 3,08 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,35 км².**

У бас. р. Ула, за 15 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Бор. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, разараныя. Шэраг заліваў і паўастравоў. Берагі нізкія, у асобных месцах зліваюцца са схіламі, пад хмызняком. Мелкаводдзе шырынёй да 15—25 м. Глыба-




**Возера Некалач.**




**Возера Некалач.**

каводная частка ўскладнена ўпадзінамі і падняццямі, ілістая. Зарастае ... плошчы возера да глыбіні 4 м. Злучана ручаём з воз. Воласна.

**НЕКРАШОЎСКІ КАНАЛ,** Валосавіцкі канал, меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток р. Трэмля (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Воспін, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Мушычы.

**НЕКРАШОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за [illegible] км на У ад в. Камуна, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Нежын.

**НЕМАЙЦЯНКА,** Неймайцянка, рака ў Сенненскім р-не, левы прыток р. Суботка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 86,3 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Карал, вусце за [illegible] км на ПнУ ад в. Серкуці. У верхнім цячэнні называецца Брус. Асноўны прыток — р. Палонка (справа). Рэчышча ад вытоку на працягу 5,5 км каналізаванае.

**НЕМАК,** возера, гл. Ізмак.

**НЕМЦАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,32 км².**
**Даўжыня 1,18 км.**




1 — з воз. Войса
2 — у воз. Нядрава
3 — р. Дрыйка

**Возера Несліш.**

**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,15 км.**

У бас. р. Ловаць, за 35 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Немцава. Схілы катлавіны вышынёй ад 6—7 м на Пн і У да 10 м на Пд і З, часткова разараныя, на Пн і З пад лесам і хмызняком. Выцякае ручай у р. Ловаць.

**НЕНАЧ,** рака ў Калінкавіцкім і Мазырскім р-нах, левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 41 км.**
**Пл. вадазбору 796 км.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Рудніца Калінкавіцкага р-на, вусце каля рачнога порта Мазыр (Пхоў). Цячэ па нізінах Прыдняпроўскай і Мазырскім Палессі. Асноўныя прытокі — канал Ненач (справа) і ручай Шыздра (злева). Даліна невыразная, каля в. Антонаўка Калінкавіцкага р-на трапецападобная (шырыня 500—800 м). Пойма двухбаковая (шырыня 0,3—0,6 км), у ніжнім цячэнні зліваецца з поймай Прыпяці. Рэчышча ад вытоку на працягу 34,6 км каналізаванае.

**НЕНАЧ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 38 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Халоднікі, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Турцэвічы.

**НЕПР,** рака ў Смаргонскім р-не, левы прыток Тушчанкі (бас. Віліі). Даўжыня 10 км.

Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Сыраваткі, упадае ў Тушчанку на У ад в. Дабраўляны. Рэчышча каналізаванае. У басейне ракі каля в. Лылойці створана сажалка (пл. 0,10 км²).

**НЕРАЙШАНКА,** рака ў Сенненскім р-не, правы прыток р. Абалянка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 90 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,9 ‰.**

Пачынаецца на схілах Аршанскага ўзвышша за 0,5 км на ПнУ ад в. Выгада, вусце за 0,5 км на ПнЗ ад в. Масяйкі. Рэчышча на працягу 3,3 км ад вытоку каналізаванае.

**НЕРАСНА,** Брады, рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 167 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,72 ‰.**

Пачынаецца за 8 км на З ад в. Салагубаў, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Мілашавічы. Рэчышча каналізаванае. Цячэ па забалочанай лясістай мясцовасці.

**НЕРАТОЎКА,** рака ў Акцябрскім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці).

**Возера Несліш.**

**Даўжыня 33,5 км.**
**Пл. вадазбору 183 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вус**
**0,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх**
**0,5 ‰.**

Пачынаецца за 1,8 км на З ад в. Расвет, вусце за 4 км на ПдЗ ад чы ст. Рабкор. Цячэ па паўночна-ўсхо няй частцы нізіны Прыпяцкае Палессе. Даліна невыразная, шырыне 1,5—3 км. У нізоўі пойма двухбак вая, шырынёй 1—2 км. Рэчыш каналізаванае, яго шырыня ў верхн цячэнні 10—12 м, у ніжнім 6—7 На рацэ г. п. Акцябрскі.

**НЕРЫБ,** возера ў Крупскім р-не.

**Пл. 0,3 км².**
**Даўжыня 0,93 км.**
**Найбольшая шырыня 0,47 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,33 км.**
**Пл. вадазбору 31,2 км².**

У бас. р. Брусята, за 22 км на П ад г. п. Крупкі, за 1,5 км на ПдЗ в. Захараўка. Схілы катлавіны н выразныя. Берагі нізкія, забалочаны Дно сапрапелістае. Каналам злуча з р. Брусята.

**НЕСВІЧ,** Несвіж, рака ў Брагі скім і Хойніцкім р-нах, правы пр ток р. Брагінка (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 37 км.**
**Пл. вадазбору 489 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вус**
**1,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх**
**0,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кулажын месцы зліцця каналаў Слабодска і Радзінскага, вусце за 1 км на У в. Чыкалавічы Брагінскага р-на. Ця па нізіне Гомельскага Палесся, на пр цягу 9 км па мяжы з Украіна Даліна невыразная. Пойма ў сярэдн цячэнні двухбаковая, шырынёй 0,2 0,4 км. Рэчышча на працягу 24 уверх ад вусця каналізаванае (шыр ня 7—12 м). Рака цячэ ў зоне а сялення.

**НЕСІНА,** возера ў Лепельскім р-

**Пл. 0,53 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,8 м.**
**Даўжыня 2,03 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**

Даўжыня берагавой лініі 4,87 км.
Аб'ём вады 1,47 млн. м³.
Пл. вадазбору 15,4 км².

У бас. р. Лукомка, за 22 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Несіна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пераважна разараныя, на ПдЗ і ПнЗ 13—16 м, пад хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, на ПнЗ зліваюцца са схіламі. 3 невялікія астравы агульнай пл. 0,6 га. Мелкаводдзе пясчанае, на глыбіні 2 м дно іліcтае. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 1,6 м. Упадае ручай, выцякае меліярацыйная канава.

**НЕСЛУЧ,** ручай у Мядзельскім р-не, у бас. Нарачы. Даўжыня 4,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Памошша, упадае на 3 у воз. Нарач. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. Рэчышча каналізаванае.

**НЕСПІШ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 4,26 км².
Найбольшая глыбіня 6,3 м.
Даўжыня 4,13 км.
Найбольшая шырыня 1,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 16,5 км.
Аб'ём вады 13,8 млн. м³.
Пл. вадазбору 781 км².

У бас. р. Друйка (цячэ праз возера), за 4 км на У ад г. Браслаў, каля в. Рубеж. Уваходзіць у Браслаўскую групу азер. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, на ПнЗ абразійныя. Берагі нізкія, пясчаныя, задзернаваныя. Дно да глыбіні 4,5 м выслана пясчанымі і апясчаненымі адкладамі, ніжэй сапрапелем. 15 астравоў агульнай пл. 0,31 км². Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 160 м. Ракой Друйка злучана з воз. Недрава і пратокай з воз. Войса. Па возеры праходзіць турысцкі маршрут.

**НЕХРЫСЦЬ,** рака ў Глыбоцкім р-не, правы прыток р. Авута (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 89 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Празарокі, вусце за 0,8 км на У ад п. Шчаўкуны.

**НЕЦЕЧКА,** Н е ц е ч, рака ў Дзяржынскім р-не, левы прыток Ператуці (бас. Нёмана).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 32 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца на ПнУ ад в. Макаўчыцы, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, праз г. Дзяржынск, упадае ў Ператуць на 3 ад в. Клыпаўшчына. На працягу 6 км каналізаваная (ад паўднёвай ускраіны Дзяржынска да вусця), прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НЕШЧАНКА,** рака ў Старадарожскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 111 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца за 3 км на Пд ад г. Старыя Дарогі (у верхнім цячэнні называецца С і н я р о ў к а), вусце за 1 км на Пд ад в. Вярхуціна. Рэчышча на двух участках на працягу 2,6 км і 1,7 км каналізаванае.

**НЕШЧАРДА,** рака ў Расонскім р-не, правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 346 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Выцякае з воз. Нешчарда за 1 км на ПнУ ад в. Парэчча, вусце за 0,8 км на У ад в. Прыбыткі. Асноўны прыток — р. Расонка (справа). На вадазборы азёры займаюць да 9 % плошчы — Нешчарда, Валуйскае, Бродна, Доўгае, Расамачынскае і інш. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**НЕШЧАРДА,** Н я ш ч э р д а, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 27,4 км².
Найбольшая глыбіня 8,1 м.
Даўжыня 11,9 км.
Найбольшая шырыня 4,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 50 км.
Аб'ём вады 84,7 млн. м³.
Пл. вадазбору 170 км².

У бас. р. Нешчарда (выцякае з возера), за 15 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Гарбачэва. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, пераважна разараныя, тэрасаваныя, заходнія пад лесам, на Пд і Пн марэнныя ўзгоркі вышынёй 10—15 м. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком, у залівах сплавінныя. Найбольшыя глыбіні ў паўночным плёсе, у паўднёвым пераважаюць глыбіні 2—5 м. 3 астравы агульнай пл. 0,23 км². Прыбярэжная частка дна шырынёй да 200 м выслана пясчанымі адкладамі (на асобных участках пашыраны да глыбіні 4—5 м), цэнтральная — сапрапелем. Зарастае ў прыбярэжнай частцы, шырыня паласы зарастання да 250 м. Упадаюць 7 ручаёў і р. Атлайская, злучана пратокай з воз. Доўгае. Багата рыбай, вадаплаўнай птушкай. Аматарская лоўля рыбы абмежаваная.

**НЕГРА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,3 км².
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,49 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,66 км.
Аб'ём вады 0,41 млн. м³.
Пл. вадазбору 45,1 км².

У бас. р. Аўсянка (цячэ праз возера), за 25 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 1 км на 3 ад в. Бярозна. Схілы катлавіны невыразныя, на ПдУ і ПнЗ вышынёй 5—7 м, парасл лесам і хмызняком. Берагі сплавінныя, на ПдУ нізкія, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю. Шы-



Возера Нешчарда.



Возера Нешчарда.

рыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 40 м.

**НЁМАН** (у Літве Н я м у н а с), рака ў Беларусі і Літве.

> Даўжыня 937 км (у т. л. ў межах Беларусі 459 км).
> Пл. вадазбору 98,2 тыс. км$^2$, у т. л. на тэрыторыі Беларусі 35 тыс. км$^2$ (без вадазбору р. Вілія).
> Сярэднегадавы расход вады пры выхадзе за мяжу Беларусі 214 м$^3$/с, у вусці 685 м$^3$/с.
> Агульнае падзенне ракі на Беларусі 96,5 м.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,21 ‰.

Пачынаецца пад назвай Нёманец на Старобінскай раўніне каля в. Верх-Нёман Уздзенскага р-на, упадае ў Куршскі заліў Балтыйскага мора. Асноўныя прытокі: Уса, Сула, Бярэзіна, Гаўя, Дзітва, Лебяда, Котра, Мерачанка, Вілія (Нярыс), Нявежыс, Дубіса (справа); Уша, Молчадзь, Шчара, Зальвянка, Росъ, Свіслач, Шашупе (злева). Даліна амаль да вусця Сулы невыразная, ніжэй да мяжы з Літвой пераважна скрынкападобная, паміж вусцямі Шчары і Чорнай Ганчы, дзе Нёман цячэ па ўсходняй ускраіне Гродзенскага ўзвышша, — глыбокая і вузкая (пераважная шырыня 1—4 км). Схілы да ўпадзення Бярэзіны спадзістыя (вышыня 8—15 м, месцамі 30—50 м), на астатнім працягу стромкія, парэзаныя ярамі, вышынёй да 25 м. Пойма двухбаковая, нізкая, забалочаная, парэзаная старыцамі; яе шырыня 1—2 км, месцамі да 4 км, ніжэй г. Масты, дзе даліна глыбокая, часта адсутнічае. Вышэй вусця Шчары складаецца з 2 узроўняў: высокага (2—3 м) і нізкага (0,5—1,5 м). На астатнім працягу даліны вылучаюцца высокі, сярэдні і нізкі ўзроўні. Рэчышча ад вытоку на працягу 26,4 км каналізаванае, далей — звілістае, шмат меляў, перакатаў, кос, пясчаных астравоў. Шырыня ракі ў межань у вярхоўі 35—40 м, ніжэй па цячэнні да 90 м, паміж вусцямі Шчары і Чорнай Ганчы 120—150 м. Дно пясчанае, на перакатах пясчана-камяністае і галечнае. Цячэнне спакойнае з сярэдняй хуткасцю 0,6—0,8 м/с і ваганнямі ад 0,2 м/с да 2 м/с (у разводдзе). Веснавое разводдзе звычайна праходзіць некалькімі хвалямі, доўжыцца 30—50 дзён. Сярэдняя вышыня над меžаным узроўнем 2,5—4 м. Найбольшае разводдзе за апошнія 150 гадоў назіралася ў 1958, калі ўзровень вады падняўся да 3,1 м каля Стоўбцаў і да 8,1 м каля Гродна. Замярзае ў 2-й палове снежня, найбольшая таўшчыня лёду 54—63 см, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 7—16 сутак. Характэрны працяглыя, амаль штогадовыя зажоры. Вада ў рацэ па гідрабіялагічных паказчыках умерана забруджаная, выкарыстоўваецца для бытавога і прамысловага забеспячэння. Рэгулярнае суднаходства і лесасплаў не ажыццяўляюцца. Праз Агінскі канал Нёман злучаны з басейнам Дняпра, праз Аўгустоўскі — з басейнам Віслы. З пабудовай Вілейска-Мінскай воднай сістэмы частка сцёку з басейна Нёмана перакідваецца ў басейн Дняпра. У Беларусі на рацэ гарады Стоўбцы, Масты, Гродна (порт); у маляўнічых мясцінах Коласаўскі мемарыяльны заказнік (в. Мікалаеўшчына), зоны адпачынку Стоўбцы, Морына, Дзітва (у міжрэччы Нёмана і Дзітвы), Масты (у міжрэччы Нёмана і Шчары), Скідаль, Сонічы.

**НЁМАНКА,** рака ў Веткаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

> Даўжыня 26 км.
> Пл. вадазбору 128 км$^2$.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за [illegible] км на У ад в. Скачок, вусце за 2 км на ПнУ ад [illegible] Юркавічы. Рэчышча каналізаванае.

**НЁЎДА,** Н я в о д а, П а л у ж а н к а, рака ў Навагрудскім і Карэліцкім р-нах, левы прыток Сэрвачы (бас. Нёмана).

> Даўжыня [illegible] км.
> Пл. вадазбору 240 км$^2$.
> Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,7 м$^3$/с.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца каля в. Нёўда Навагрудскага р-на, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша па ўзгорыстай мясцовасці, перасечанай глыбокімі лагчынамі і ярамі; упадае ў Сэрвач на Пн ад в. Беразавец. Асноўныя прыткі — Зямчатка і Крамаўка. Даліна пераважна трапецападобная (шырыня 2—3 км) са стромкімі схіламі вышынёй да 30 [illegible]. Пойма роўная, месцамі забалочаная, пад хмызняком (шырыня 100—150 м). Рэчышча моцназвілістае, ад в. Аколіца да вусця каналізаванае; яго шырыня 4—6 м.



Возера Нешчарда.

Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НІВІШЧЫ,** ручай у Горацкім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Славікі, вусце за 0,8 км на ПдЗ ад в. Нівішчы. Рэчышча каналізаванае на працягу 5,2 км (ад вытоку да в. Нівішчы).

**НІЖАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток Казацкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Хабовічы, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Руховічы. У час вялікіх паводак праз трубу-рэгулятар паступае вада з Нізяўскага канала.

**НІЖНЕКАЗЛО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца з Казловіцкага канала за 0,5 км на ПнЗ ад в. Казловічы, вусце за 3 км на У ад в. Навасёлкі.

**НІ́ЖНЯЯ ВЯСЕ́ЙКА,** рака ў Слуцкім р-не, левы прыток р. Вясейка (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 19,3 км.**
**Пл. вадазбору 110 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Краснае, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Ніва. Рэчышча каналізаванае.

**НІ́ЖНЯЯ КРЫ́ВІНА,** рака, гл. *Крывінка*.

**НІЗАВЫ́ КАНА́Л,** Восаўскі канал, канава Нізавая, меліярацыйны канал у Рэчыцкім і Светлагорскім р-нах, правы прыток р. Свядзь (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Рудзец Рэчыцкага р-на, упадае ў Свядзь за 1 км на Пд ад в. Баравікі Светлагорскага р-на.

**НІЗА́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток Нізяўскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 3,7 км на Пд ад в. Роса, вусце за 2 км на З ад в. Барысаўка.

**НІЗГАЛА́ЎЕ,** возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,5 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 1,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,95 км.**
**Аб'ём вады 0,97 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 11,5 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 20 км на З ад г. п. Бешанковічы, каля в. Нізгалава. Схілы катлавіны вышынёй 10—13 м, пераважна разараныя. Выцякае ручай у р. Ула.

**НІЗІ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Маціца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Бардзянцы, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Рэчкі.

**НІЗО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток Дрычынскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад г. п. Рудзенск, упадае ў Дрычынскі канал за 1,5 км на ПнУ ад в. Нізоўка.

**НІЗЯ́НКА,** рака ў Воранаўскім р-не і Літве, левы прыток Улы (бас. Нёмана). Даўжыня 15 км, у т. л. ў Беларусі 8,6 км. Пачынаецца каля в. Малюкі Воранаўскага р-на, перасякае мяжу за 2 км на ПнЗ ад в. Пасека Дварчаны Шчучынскага р-на, упадае ва Улу ў Літве. Рэчышча на тэрыторыі Беларусі каналізаванае.

**НІЗЯ́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток канала Бона (бас. Зах. Буга). Даўжыня 18,6 км. Пачынаецца за 2,8 км на З ад в. Барысаўка, вусце за 4 км на Пн ад в. Бельск.

**НІКУ́ЛЬСК,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Друйка, за 22 км на ПнУ ад Браслава, за 3 км на У ад в. Дзергава, сярод лясного масіву Друйская дача. Схілы катлавіны на ПдУ, ПдЗ і З стромкія, вышынёй 10 м, на Пн і Пд забалочаныя. Выцякае ручай у воз. Берца.

**НІСКО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, правы прыток Выні (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на Пд ад в. Ржаўка, цячэ ў межах Капыльскай грады, упадае ў Выню за 1,3 км на ПдУ ад в. Думічы. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НІ́ЎСКА-ГРА́БАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток р. Добасна (бас. Дняпра). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Гармавічы, упадае ў Добасну ў в. Нівы.



Рака Нёман каля Гродна.

**НІЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Язнач (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Мормаль, упадае ў Язнач за 3 км на ПдУ ад в. Ісцёнкі.

**НІЎСКІ КАНАЛ,** рака, гл. *Дабасна.*

**НІШЧА,** рака ў Пскоўскай вобл. і Расонскім р-не, правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 85 км, у т. л. на Беларусі 68 км.
Пл. вадазбору 1380 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 9,7 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Выцякае з воз. Нішча (Себежскі р-н [illegible] Пскоўскай [illegible]), вусце [illegible] км на З ад в. Кульнёва. Асноўныя прытокі: Чарапянка, Асіп, Вель[illegible] (злева); Хоўка [illegible] Галанач (справа). Даліна [illegible] трапецападобная, шырыня 100—300 м. Пойма часцей двухбаковая, чаргуецца па берагах, у сярэднім і ніжнім цячэнні месцамі адсутнічае. Рэчышча звілістае, шырыня 25—30 м; у ніжнім цячэнні [illegible] вадасховішчам. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы 1-й дэкады красавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем 3 м, найвышэйшая 5,1 м (1956 г.). Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у 1-й дэкадзе красавіка. Веснавы ледаход 2 сут.

**НО́ВА-ГАБСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, левы прыток Стара-Габскага канала (бас. Віліі). Даўжыня 6 км. Пачынаецца ў лясістай, забалочанай мясцовасці, за 1 км на ПдЗ ад воз. Чорнае, упадае ў Стара-Габскі канал за 1 км на Пн ад в. Новыя Габы.


Рака Нішча каля вёскі Сакалішча Расонскага раёна.

**НОВАМАГІСТРА́ЛЬНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца з Брадоўскага канала за 4,5 км на Пд ад в. Брады, вусце за 1,5 км на У ад в. Слабодка 2-я.

**НОВАМАЙДА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Антонаўка, вусце за 1 км на У ад в. Бярозаўка. Цячэ ў зоне адсялення.

**НОВАПАЛЕ́СКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Лельчыцкім р-не.

Пл. 0,7 км².
Найбольшая глыбіня 4,5 м.
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Аб'ём вады 2,2 млн. м³.
Пл. вадазбору 63,5 км².

Наліўное. Створана ў 1986 за 16 км на ПнЗ ад г. Лельчыцы, каля в. Новае Палессе, для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Напаўняецца вадой з р. Каросцінка. Ваганні ўзроўню на працягу года да 2,1 м.

**НОВА-ЧАЎНЫШКАВІЦКІ КАНА́Л,** Нова-Чаўнышкаўскі канал, меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, правы прыток р. Свячанка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Лабачова, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Чаўнышкі.

**НО́ВАЯ АСІПО́ЎКА,** Водапрыёмнік, меліярацыйны канал у Маларыцкім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Асіпоўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 20,2 км. Пачынаецца ад мяжы з Украінай за 3 км на У ад в. Боркі Маларыцкага р-на, вусце за 0,7 км вышэй моста на аўтадарозе Кобрын — Маларыта. Верхняя частка канала пракладзена па старым рэчышчы канала Бона. Праз каналы злучаны з басейнамі р. Рыта, каналам Бона, р. Трасцяніца.

**НО́ВАЯ ВАЛОЖЫНКА,** рака, гл. *Капусцінка.*

**НО́ВЫ РЫБГА́СНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, у басейне Прыпяці. Даўжыня 17,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Колкі, упадае ў адну з сажалак рыбгаса «Трэмля» за 5 км на ПдЗ ад в. Церабаў.

**НО́ВЫ СВЕТ,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Ліпа (бас. Дняпра). Даўжыня 12,3 км. Пачынаецца за 1 км на З ад п. Зімнік, упадае ў Ліпу за 2 км на ПнЗ ад в. Андрэеўка.

**НО́ЖНІЦЫ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,72 км².
Найбольшая глыбіня 5,6 м.
Даўжыня 1,38 км.
Найбольшая шырыня 0,63 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,6 км.
Аб'ём вады 2,6 млн. м³.
Пл. вадазбору 1,76 км².

У бас. р. Дрыса, за 36 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Ножніцы. Схілы катлавіны вышынёй 5—9 м пясчаныя, парослі лесам і хмызняком, на Пд разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. Дно сапрапелістае. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 4 м. Упадаюць 3 ручаі.



Возера Ножніцы.

**НО́РКАВА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,01 км².
Даўжыня 0,15 км.
Найбольшая шырыня 80 м.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

У бас. р. Нішча, за 16 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на З ад в. Сасновы Бор, сярод балота.

**НО́РКІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Норкіна, упадае ў Жадуньку за 1 км на ПнУ ад в. Галачоўка.

**НОСАЎКА,** рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца на 3 ад в. Бурнейкі, упадае ў Іслач за 1 км на Пн ад в. Белакорац. Рэчышча на працягу 3,5 км перад вусцем каналі-

Возера Нявіда.

заванае. У нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НОЎЧАТКА**, меліярацыйны канал у Воранаўскім р-не, левы прыток Наўянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца каля в. Мікшавічы, вусце каля в. Наўянка.

**НОЧВІХА**, рака, гл. *Балавец*.

**НУРЭЦ**, рака, гл. *Кужэц*.

**НЫРКА**, рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Лужаснянка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца за 0,4 км на Пд ад в. Евіна, вусце за 0,4 км на ПдУ ад в. Латыгава.

**НЮЛЯ**, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,7 м.**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,08 км.**
**Аб'ём вады 0,6 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3,15 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 4 км на У ад г. Лепель, за 1 км на З ад в. Бораўна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, парaслі водна-балотнай расліннасцю і хмызняком. На З пойма шырынёй да 100 м. Востраў пл. 0,2 га. Дно да глыбіні 3 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Зарастае да глыбіні 2 м. Злучана ручаём з воз. Бораўна, выцякае ручай у р. Ула.

**НЯБЕЛА**, Н я б е л к а, рака ў Стаўбцоўскім і Дзяржынскім р-нах, левы прыток р. Перакуль (бас. Нёмана). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца на У ад в. Папкі Дзяржынскага р-на, цячэ па паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Перакуль за 1,5 км на ПнУ ад в. Рудня Стаўбцоўскага р-на.

**НЯБЫЛОВА**, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 14 км на У ад г. п. Ушачы, за 0,7 км на З ад в. Слабада. Размешчана сярод поля ў забалочаным паніжэнні. Злучана канавай з р. Выдрыца.

**НЯВЕЖА**, рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток Ушы (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Лебедзева, у нізоўі цячэ сярод лесу, упадае ва Ушу за 3 км на У ад в. Турэц-Баяры. На працягу 5 км перад вусцем каналізаваная.

**НЯВЕРАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Мядзельскім р-не, правы прыток Вузлянкі (бас. Віліі). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ПдУ в. Ліпава 1-е, упадае ў Вузлянку за 0,6 км на ПдУ ад в. Няверы. У вярхоўі цячэ сярод лесу.

**НЯВЕРЫЦА**, рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток р. Сінюха (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля в. Гаўрыліна, вусце за 3 км на Пн ад в. Прошкі. У нізоўі цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**НЯВЕШЧАНКА**, Л я х а в а, возера ў Рэчыцкім р-не.

**Пл. 0,22 км$^2$.**
**Даўжыня 2,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5 км.**

На пойме Дняпра, за 7 км на Пн ад г. Рэчыца, каля в. Гіроў. Старычнае. Схілы невыразныя.

**НЯВІДА**, Н я в і д а в а, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 1,09 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9 м.**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,82 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,22 км.**
**Аб'ём вады 4,96 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 78 км$^2$.**

У бас. р. Нача, за 28 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Бабынічы. Схілы катлавіны вышынёй 3—15 м (на ПнУ 20—25 м), парослыя лесам і хмызняком, месцамі разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. На У, ПнЗ і Пд пойма шырынёй да 400 м, парасла хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае. З глыбіні 4 м дно глеістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 3—3,2 м. Праз возера цячэ р. Быстрыца (злучае яго з азёрамі Бабынічы і Лесава), упадае ручай з воз. Белянок.

**НЯВІША**, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток Котры (бас. Нёмана).

**Даўжыня 39 км.**
**Пл. вадазбору 328 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2,2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Мякішы, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Котру на У ад х. Зубраўка. Асноўныя прытокі — Навадворка (злева) і Пуціска (справа). Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная, шырынёй 500—600 м, у ніжнім цячэнні перасечаная старыцамі. Пойма двухбаковая, у ніжнім цячэнні пад хмызняком. Рэчышча на працягу 27 км ад вытоку каналізаванае, на астатнім працягу звілістае, шырынёй 5—10 м. Каля в. Кронькі створана сажалка (пл. 0,55 км$^2$).

**НЯВОДА**, рака, гл. *Нёўда*.

**НЯГРЫМАЎКА**, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Ізвы (бас. Немана).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 42 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Байкі, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, у ніжнім цячэнні праз лясныя масівы. Упадае ў Ізву за 2,2 км на ПнЗ ад в. Каменка.

**НЯДЗВЕДНА**, возера, гл. *Мядзведна*.

**НЯДРУЖНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,6 км$^2$.**
**Даўжыня 1,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,55 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,35 км.**

У бас. р. Палата, за 40 км на ПнЗ ад Полацка, за 6 км на Пн ад в. Дрэтунь, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя, пад лесам і хмызняком.

**НЯДРУЖНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,53 км$^2$.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,48 км.**
**Пл. вадазбору 3,25 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 38 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Нядружна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам, на Пн разараныя. Берагі забалочаныя, на Пн зліваюцца са схіламі.

**НЯДРУЖНА**, возера ў Полацкім р-не.

Возера Нявіда.

Пл. 0,14 км$^2$.
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.
Пл. вадазбору 2 км$^2$.

У бас. р. Палата, за 26 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на ПдУ ад в. Палата, сярод высокіх (да 30 м) пясчаных узгоркаў. 2 невялікія залівы. Выцякае ручай у р. Палата.

**НЯЖАРАЎКА**, рака ў Слуцкім р-не, правы прыток р. Таліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пл. вадазбору 82 км$^2$. Пачынаецца за 2,3 км на Пн ад в. Няжараўка, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Таль. Рэчышча каналізаванае.

**НЯЖАТКА**, рака ў Навагрудскім р-не, правы прыток Ізвы (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 25 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 6 ‰.

Пачынаецца каля в. Макрэц, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша праз лясныя урочышчы, упадае ў Ізву на ўрочышчы Ратчэвічы за 2,5 км на ПнУ ад в. Бетанаўка.

**НЯЖЭЎЛЯ**, рака ў Горацкім р-не, правы прыток р. Паўна (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Маслакі, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Барсукі. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,6 км каналізаванае.

**НЯЗВЯДКА**, возера ў Браслаўскім р-не.




Возера **Нядружна** (плошча 0,53 км$^2$).




Возера **Няклея**.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.

У басейне р. Вята, за 22 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Стрыжкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя. На Пн забалочаная пойма шырынёй да 100 м.

**НЯЗЯНКА**, рака, гл. *Навадворка*.

**НЯКЛЕЯ**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,95 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,2 м.
Даўжыня 3,04 км.
Найбольшая шырыня 0,52 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,2 км.
Аб'ём вады 2,76 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 24,8 км$^2$.

У бас. р. Сосніца, за 37 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, участкамі на ПнУ, У і Пд вышынёй да 10 м, параслі лесам. Берагі нізкія, на Пд і У зліваюцца са схіламі, да ўрэзу вады расце лес і хмызняк. Мелкаводдзе выслана пясчанымі і апясчаненымі адкладамі, глыбей — сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2,2 м. Упадаюць 2 ручаі, выцякае р. Няклейка (злучае яго з воз. Жэльцы). У возеры жывуць бабры.



Возера **Няклея**.

**НЯЛЮБКА**, рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Кернавы (бас. Віліі). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,6 км на Пд ад в. Баяры, упадае ў Кернаву на З ад в. Снігяны. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НЯМЕГЛЯ**, рака ў Старадарожскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 20,2 км, пл. вадазбору 62 км$^2$. Пачынаецца за 1,3 км на ПнЗ ад в. Аляксандраўка, у ніжнім цячэнні называецца Руч. Вусце каля в. Лука. Рэчышча каналізаванае.

**НЯМЕЛЬЧЫК**, возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,28 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.

У бас. р. Обаль, за 36 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 0,8 км на Пн ад в. Ключагорская, сярод забалочанага на У і З хмызняку. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, на Пд парослая лесам озавая града вышынёй 15 м. Выцякае ручай у р. Обаль.

**НЯМЕРЖА**, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток р. Ласінцы (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца ў лясным урочышчы Курыцк за 2,5 км на ПнЗ ад в. Ласінцы, вусце каля в. Пярэспа.

**НЯМЕРЖАНКА**, рака ў Пружанскім і Свіслацкім р-нах, левы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Нікар Пружанскага р-на, вусце за 2 км на Пн ад в. Нямержа. Цячэ па Белавежскай пушчы. Каналізавана 3 км рэчышча ад вытоку.

**НЯМОНІ**, меліярацыйны канал у Валожынскім р-не, правы прыток Бярэзіны (бас. Нёмана). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца каля в. Нямоні, упадае ў Бярэзіну за 2 км на З ад в. Буні.

**НЯМЫЛЬНЯ**, рака ў Гомельскім р-не і Чарнігаўскай вобл. Украіны, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 37 км.
Пл. вадазбору 380 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Глыбоцкае, вусце за 3 км на У ад в. Карпаўка Лоеўскага р-на. Асноўныя прытокі на Беларусі — р. Струпень і ручай Быкаўка. Даліна ў сярэднім цячэнні трапецападобная, на астатнім працягу невыразная. Пойма нізкая, забалочаная, у ніжнім цячэнні лугавая (шырыня 0,3—0,5 км). Рэчышча каналізаванае на працягу 3,5 км ад вытоку і на працягу 2,5 км ад пункта за 1,5 км на У ад в. Дзікалаўка ўніз па цячэнні; на астатнім працягу шырыня ракі ў межах 10—15 м. Каля в. Дзікалаўка плаціна і сажалка.

**НЯРОПЛЯ**, рака ў Бялыніцкім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 30 км.
Пл. вадазбору 200 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в.Ількавічы, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Калінаўка. Рэчышча, за выключэннем 2 км у вярхоўі, каналізаванае. Цячэ праз воз. Няропля.

**НЯРОПЛЯ**, возера ў Бялыніцкім р-не.

Пл. 0,26 км$^2$.
Даўжыня 0,65 км.
Найбольшая шырыня 0,52 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.
Пл. вадазбору 52,4 км$^2$.

У бас. р. Няропля (цячэ праз возера), за 2 км на ПнУ ад г. п. Бялынічы. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, пераважна разараныя, участкамі на Пд і ПдУ пад хмызняком; на ПдЗ да 22 м, парэзаныя ярамі. Берагі вышынёй да 1 м.

**НЯСЕ́ТА,** рака ў Клічаўскім р-не, правы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

Даўжыня 39 км.
Пл. вадазбору 346 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Куцін, вусце ў в. Бацэвічы. Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. Асноўныя прытокі — Гарадзечанка і Турчанка (злева). Даліна невыразная. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,1—0,3 км. Рэчышча каналізаванае, шырынёй 4—12 м. Выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**НЯСЛА́ЎКА,** рака ў Акцябрскім і Петрыкаўскім р-нах, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км, пл. вадазбору 110 км$^2$. Пачынаецца за 1,8 км на ПнУ ад в. Ніўнае Акцябрскага р-на, вусце за 0,5 км на У ад в. Хвойня Петрыкаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**НЯСЛУ́ХА,** рака ў Драгічынскім і Іванаўскім р-нах, левы прыток р. Піна (бас. Прыпяці).

Даўжыня 32 км.
Пл. вадазбору 422 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,5 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,51 ‰.

Пачынаецца каля в. Заплессе Драгічынскага р-на, у верхнім цячэнні называецца Стрымня, цячэ ў межах раўніны Загароддзе і нізіны Прыпяцкае Палессе. Вусце насупраць в. Патапавічы Іванаўскага р-на. Асноўныя прытокі — Самароўка і Струга (злева). Даліна пераважна невыразная, у ніжнім цячэнні трапецападобная (шырыня да 2 км). Пойма двухбаковая, шырыня 50—100 м (правабярэжная) і 10—50 м (левабярэжная). Рэчышча каналізаванае, яго шырыня ў вярхоўі 4—10 м, у нізоўі 16—20 м.

**НЯТУ́ПА,** рака ў Польшчы і Берасцейскім р-не, левы прыток Свіслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 18 км (у Беларусі 1,3 км). Пачынаецца каля в. Нова ў Польшчы, за 2 км на З ад в. Дзіневічы перасякае граніцу, за 0,5 км на З ад гэтай вёскі ўпадае ў Свіслач. Рэчышча на тэрыторыі Беларусі каналізаванае.

**НЯТУ́ПА,** Гнезна, рака ў Ваўкавыскім р-не, левы прыток р. Рось (бас. Нёмана).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 285 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.

Пачынаецца ў сутоках рэк Навумка і Пікарэц каля в. Мсцібава, цячэ ў межах Ваўкавыскага ўзвышша, дзе прымае прыток Астраўчыцу. Упадае ў Рось на ПнУ ад в. Цімахі.

**НЯХА́ЧАЎСКІ КАНА́Л,** гл. *Аграджальны канал.*

**НЯЦЕ́Ч,** рака, гл. *Нарва.*

**НЯЦЕ́ША,** рака ў Добрушскім р-не і Бранскай вобл. Расіі, левы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра).

Даўжыня 29 км.
Пл. вадазбору 132 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Пятроўка ў Бранскай вобл., вусце за 3,5 км на ПнУ ад г. Добруш. Рэчышча каналізаванае на працягу 19,8 км (1,8 км на ПнЗ ад в. Уборак Добрушскага р-на — вусце).

**НЯЧВОРА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.
Пл. вадазбору 2,75 км$^2$.

У басейне р. Палата, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 7 км на У ад в. Палата. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пясчаныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя.

**НЯШКРУ́ПА,** рака ў Лідскім і Воранаўскім р-нах, левы прыток Дзітвы (бас. Нёмана). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца каля в. Вялікае Сяло Лідскага р-на, упадае ў Дзітву за 1 км на ПдУ ад в. Талькунцы Воранаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае. У нізоўі пойма забалочаная, у вярхоўі рака прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**НЯШЧЭ́РДА,** возера, гл. *Нешчарда.*

# О

**О́БАЛІНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,15 км$^2$.
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,67 км.
Пл. вадазбору 4,5 км$^2$.

У бас. р. Свіна, за 46 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Дзюдзькі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, парасл і лесам і хмызняком, на Пн і ПнЗ разараныя. Пойма шырынёй 20—70 м, на Пд забалочаная. Упадае ручай з воз. Клетнае, выцякае ручай у р. Свіна.

**О́БАЛЬ,** рака ў Віцебскай вобл., правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 148 км.
Пл. вадазбору 2690 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 19,4 м$^3$/с.
Агульнае падзенне ракі 55 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Выцякае з воз. Езярышча каля г. п. Езярышча, цячэ па Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах у межах паўночна-заходняй часткі Гарадоцкага ўзвышша і па паўночна-ўсходняй частцы Полацкай нізіны. Вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Новыя Гараны Полацкага р-на. Асноўныя прытокі: Чарнуйка, Чарнаўка, Чарняўка, Выдрыца, Усыса, Будавесць (злева), Свіна, Цяніца, Глыбачка (справа). Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 300—600 м (найбольшая 2,5 км паміж вёскамі Малое Цешава і Канавалава Гарадоцкага р-на); у вярхоўі невыразная. Пойма двухбаковая, чаргуецца па берагах, месцамі адсутнічае; шырыня яе да ўпадзення р. Свіна 400—800 м, ніжэй 100—200 м. Рэчышча звілістае, шырынёй 8—20 м у верхнім цячэнні, 20—40 м у сярэднім, 25—30 м у ніжнім. Рака зарэгулявана Ключагорскім вадасховішчам. Найвышэйшы ўзровень разводдзя каля г. п. Обаль у 1-й дэкадзе красавіка, сярэдняя вышыня над межанню 4,6 м, найбольшая 7,3 м (1956). Замярзае ў канцы 1-й дэкады снежня, крыгалом у пачатку красавіка. Веснавы ледаход 4 сут.

**О́БАЛЬ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,8 м.
Даўжыня 2,56 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,25 км.
Аб'ём вады 0,7 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 568 км$^2$.

У бас. р. Обаль (цячэ праз возера), за 28 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на ПдЗ ад в. Обаль. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м, пад хмызняком. Берагі забалочаныя, сплавінныя. Пойма шырынёй да 300 м, забалочаная. Дно плоскае, ілістае, каля ўсходняга берага — сапрапелістае. Поўнасцю зарастае. Упадаюць 4 ручаі.

**О́ГЗІНА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,4 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 10,9 м.
Даўжыня 1,31 км.
Найбольшая шырыня 0,51 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,27 км.

Аб'ём вады 1,78 млн. м³.
Пл. вадазбору 21,4 км².

У бас. р. Ула, за 4 км на ПнУ ад в. Лепель, за 1,5 км на З ад в. Вялікае Жэжліна. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м (на З і Пд 5—8 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй — разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. Дно да глыбіні 3,5—4 м пясчанае, ніжэй — глеістае. Зарастае слаба. Упадае ручай, сцек па пратоцы ва Улу.

**ОДЛА,** рака ў Полыччы, Гродзенскім і Бераставіцкім р-нах, левы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору [illegible] км².



Возера **Огзіна.**




Возера **Опліса.**

Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,1 ‰.

Пачынаецца каля в. Мала ў Полыччы, каля х. Мінкаўцы Гродзенскага р-на перасякае дзяржаўную граніцу, упадае ў Свіслач за 3 км на У ад в. Пачобуты Бераставіцкага р-на.

**ОЗНІЦКІ КАНАЛ,** гл. *Слабодскі канал.*

**ОКАНА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 4,13 км².
Найбольшая глыбіня 2,2 м.
Даўжыня 2,9 км.
Найбольшая шырыня 1,84 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,3 км.
Аб'ём вады 6,34 млн. м³.
Пл. вадазбору 46,8 км².

У бас. р. Эса, за 10 км на ПдЗ ад г. Лепель каля в. Селішча. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м (на ПдУ і Пд 2—5 м), на Пн невыразныя, пад лесам і хмызняком; на Пн і ПнУ разараныя. Берагі пясчаныя, тарфяністыя, парослі водна-балотнай расліннасцю і хмызняком, на ПдЗ і Пн сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае, уздоўж заходніх і ўсходніх берагоў пясчанае. Зарастае да глыбіні 2 м, уздоўж берага паласа надводнай расліннасці шырынёй да 200 м. Упадае ручай, выцякае р. Оканіца.

**ОКАНІЦА,** ручай у Лепельскім р-не, левы прыток р. Бярэшча (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 2,6 км. Выцякае з воз. Окана з ПдУ, каля в. Окана, вусце за 1 км на Пд ад той жа вёскі. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ОКРА,** Старарудня нскі канал, рака ў Жлобінскім р-не, левы прыток р. Дняпро.

Даўжыня 31 км.
Пл. вадазбору 293 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,2 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Кірава, вусце за 3 км на З ад в. Баравуха. Цячэ па Прыдняпроўскай нізіне. Асноўны прыток — р. Рудзенка (злева). Даліна на вялікім працягу адкрытая, трапецападобная, шырынёй ад 0,3 км да 2,5 км. Пойма двухбаковая, лугавая, у ніжнім цячэнні забалочаная (шырыня 150—350 м). Рэчышча каналізаванае на працягу 14,5 км (ад вытоку да вусця р. Рудзенка), на астатнім працягу звілістае; шырыня ракі ў межань 5—15 м. Берагі ўмерана стромкія, у ніжнім цячэнні абрывістыя, вышынёй 0,5—1,5 м.

**ОКСНА,** рака ў Смаргонскім р-не, левы прыток Віліі.

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 104 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,8 ‰.

Пачынаецца каля в. Глінна, цячэ па Ашмянскім узвышшы, праз г. Смаргонь, упадае ў Вілію на ПнЗ ад в. Пераволы. Асноўны прыток — р. Гарвятка.



Возера **Окана.**

**ОЛТУШСКАЕ ВОЗЕРА,** Олтуш, Маларыцкім р-не.

Пл. 2,19 км².
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 2,6 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,3 км.
Аб'ём вады 2,1 млн. м³.
Пл. вадазбору 302 км².

У бас. р. Маларыта, за 13 км ПдЗ ад г. Маларыта, каля в. Олту Схілы і берагі катлавіны нізкія, заб лочаныя. Дно плоскае, сапрапеліста на У у прыбярэжнай частцы высла пяскамі і апясчаненымі адкладам Моцна зарастае падводнай расліннас цю. Шырыня паласы прыбярэжн расліннасці 80—100 м. Меліярацы най канавай злучана з Арэхаўск возерам.

**ОЛЬНІЦА,** рака ў Глускім р-не, ле прыток р. Даколька (бас. Прыпяці).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 54 км².
Сярэдні нахіл воднай павер 1,2 ‰.

Пачынаецца каля в. Баравіч вусце за 2,5 км на З ад в. Бараці Рэчышча каналізаванае.

**ОЛЬСА,** рака ў Бярэзінскім, Кліча скім і Кіраўскім р-нах, левы прыт р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 92 км.
Пл. вадазбору 1690 км².
Сярэднегадавы расход вады ў ву 9,3 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай павер 0,3 ‰.

Пачынаецца за 3,4 км на ПнУ в. Каменны Барок Бярэзінскага р- вусце за 5 км на З ад в. Любоні Кіраўскага р-на. Цячэ ў межах Цэ ральнабярэзінскай раўніны. Асн ныя прытокі: Нясета (справа), Дул ка, Сушанка, Суша (злева). Даліна раважна невыразная, каля г. п. К чаў, в. Ваевічы і паміж вёскамі Ба вічы і Заполле Клічаўскага р-на т пецападобная (шырыня 0,8—1 к Схілы спадзістыя, вышынёй 2—7 месцамі слабапарэзаныя; правы крыты, разараны, левы амаль на ў працягу парослы мяшаным лес Пойма двухбаковая, ніжэй Кліч



Оятушскае возера.

чаргуецца па берагах (шырыня 0,6—1,5 км), нізкая, месцамі забалочаная; ад вусця Сушы да в. Заполле Клічаўскага р-на перасечаная меліярацыйнымі каналамі. У разводдзе затапляецца вадой на глыбіню 0,5—1 м тэрмінам да 2 тыдняў. Рэчышча ў вярхоўі на працягу 10 км каналізаванае, ніжэй шырыня ракі ў межань 12—18 м. Берагі ў вярхоўі нізкія, забалочаныя, паміж вёскамі Ваевічы і Заполле Клічаўскага р-на спадзістыя, ніжэй да вусця стромкія і абрывістыя. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у 3-й дэкадзе сакавіка. У ніжнім цячэнні найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем 1,2 м. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**ОПЛІСА,** Оплеса, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,56 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3 км.**
**Аб'ём вады 0,54 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,1 км².**

У бас. р. Друйка, за 16 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Опліса. Схілы катлавіны вышынёй 7—12 м, разараныя, на У пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд і ўчасткамі на У і З забалочаныя. Упадае ручай з воз. Глыбошчына, выцякае ручай у р. Друйка.

**ОПСА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,93 км².**
**Найбольшая глыбіня 20,2 м.**
**Даўжыня 2,96 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Аб'ём вады 5,66 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,17 км².**

У бас. р. Акунёўка, за 16 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Опса. Схілы катлавіны вышынёй 15—18 м, у верхняй частцы разараныя. Многа заліваў. Берагі ўчасткамі зліваюцца са схіламі, пад хмызняком, на Пд нізкія, забалочаныя. Зона мелкаводдзя вузкая. Найбольшыя глыбіні ў паўночным плёсе, у паўднёвым да 6 м. Невялікі востраў пл. 0,1 га. Дно да глыбіні 1,5—3 м пясчанае, да 8—10 м ілістае, ніжэй сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 2,5 м. Упадае меліярацыйная канава, выцякае ручай у воз. Пагошча.

**ОПЦІНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,65 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 1,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,48 км.**
**Аб'ём вады 2,46 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 10,1 км².**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Забор'е. Схілы катлавіны вышынёй 8—15 м, пясчаныя, параслі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, на У зліваюцца са схіламі. Дно сапрапелістае, уздоўж берагоў пясчанае. 7 астравоў агульнай пл. 3 га. Зарастае да глыбіні 2—2,5 м. Упадаюць 2 ручаі, выцякае ручай у воз. Валоба.

**ОРЛАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Валавельскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля в. Брашэвічы, упадае ў канал за [illegible] км на ПдУ ад в. Літоўск.

**ОРЛІНСКАЕ ВОЗЕРА,** на мяжы Асіповіцкага і Клічаўскага р-наў.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 3,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,17 км.**

У бас. р. Бярэзіна, за 28 км на У ад г. Асіповічы, за 1,5 км на У ад в. Краснае. Старычнае. Берагі вышынёй да 1 м, пясчаныя. Злучана пратокай з Бярэзінай.

**ОРАЯ,** рака ў Івацэвіцкім р-не, левы прыток р. Туроса (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Хрышчонавіны, вусце за 6 км на ПдЗ ад в. Бялавічы. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча ад вусця на працягу 1,5 км каналізаванае.

**ОРПА,** рака ў Вілейскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Орпа, упадае ў Вілейскае вадасховішча на Пн, каля в. Рабунь. Ад вусця на працягу 2 км каналізаваная. У нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ОРСІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, правы прыток р. Брожа (бас. Дняпра). Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 4,3 км на Пд ад в. Мачулкі ва ўрочышчы Жоўты Брод, упадае ў Брожу за 2,6 км на У ад п. Брожа.

**ОРХАВА,** вадасховішча ў Брэсцкім р-не.

**Пл. 0,56 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,65 км.**
**Аб'ём вады 1,48 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 13 680 км².**

На р. Зах. Буг (382,5 км ад вусця), за 60 км на Пд ад Брэста, за 0,8 км на З ад в. Орхава. Створана ў 1988 для




Возера Опса.




Возера Опціна.



Возера **Оршына.**



Возера **Орцы.**

арашэння і рыбагадоўлі. Сярэдні шматгадовы сцёк 143,8 млн. м³.

**ОРЦЫ,** О р ц а ў с к а е в о з е р а, у Міёрскім р-не.

**Пл. 1,94 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,2 м.**
**Даўжыня 4,84 км.**
**Найбольшая шырыня 0,93 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 13,4 км.**
**Аб'ём вады 11,02 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 11,1 км².**

У бас. р. Мёрыца, за 8 км на ПнУ ад г. Міёры, паміж вёскамі Орцы і Папкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, разараныя, месцамі пад хмызняком, на ПнУ вышынёй 10—12 м, парослыя лесам. Берагі нізкія, пад хмызняком, участкамі забалочаныя. Зона мелкаводдзя вузкая (3—5 м), у паўночным плёсе пашыраецца да 50—80 м, пясчаная, месцамі гліністая; астатняя частка дна ілістая. 2 невялікія астравы агульнай пл. 1,9 га. Зарастае да глыбіні 3—3,2 м.

**ОРШЫНА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Найбольшая глыбіня 21,7 м.**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**
**Аб'ём вады 0,72 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,4 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Навасёлкі. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 15—17 м (на У і ПдУ да 5 м), парослі лесам і хмызняком, на ПдУ разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, на невялікім участку на ПдУ нізкія, забалочаныя. Дно выслана ілам, да глыбіні 3—3.5 м пясчанае. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 10—15 м пашырана да глыбіні 2,2 м, падводная — да глыбіні 4 м.

**ОСА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток р. Валоўка (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 106 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**



Возера **Орцы.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Басіна, цячэ па Навагрудскім узвышшы, упадае ў Валоўку за 1 км на ПнУ ад в. Асташын. Прытокі — Мураўёўка, Свіцязь. На працягу 8,2 км каналізаваная: ад в. Басіна да в. Вялікія Вераб'евічы (4,7 км) і ад в. Нянькава да вусця (3,5 км).

**ОСА,** ручай у Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, правы прыток р. Спанаўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Брадзяцін Маларыцкага р-на, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Рагозна Брэсцкага р-на. Цячэ праз лясное ўрочышча Крамянка. Каналізавана 0,6 км рэчышча ад вытоку.

**ОСЛІК,** рака, гл. *Аслік.*

**ОЎЗІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Оўзічы, вусце за 3 км на З ад в. Журавок.

# П

**ПАВІЦКІ КАНАЛ,** Н а в а с ё л к а ў с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Кобрынскім і Драгічынскім р-нах, левы прыток Дняпроўска-Бугскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 15,5 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Павіцце Кобрынскага р-на, вусце каля в. Навасёлкі Драгічынскага р-на. Моцна зарос.

**ПАВУЛЛЕ,** П а в у н н е, возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,21 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,4 м.**
**Даўжыня 0,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.**
**Аб'ём вады 1,08 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,04 км².**

У бас. р. Ула, за 10 км на ПнЗ ад г. Чашнікі, каля в. Навасёлава. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на Пн 2—3 м), пераважна разараныя. Берагі невысокія, на ПнУ абразійныя, часткова пад хмызняком, месцамі зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй ілістае. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 3 м. Выцякае ручай у р. Ула.

**ПАВУЛЬСКАЕ ВОЗЕРА,** П а в у л л е, Ц ё т ч а, ва Ушацкім р-не.

**Пл. 8,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 6,4 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 25 км.**
**Аб'ём вады 26,75 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 652 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 18 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Павулле. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м (на Пн і З да 20 м), разараныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, месцамі забалочаныя. Востраў пл. 6 га. Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м. Праз возера цячэ р. Дзіва (злучае яго з азёрамі Бярозаўскае і Янова). Упадаюць 5 ручаёў, у т. л. з азёр Чарсцвяцкае і Вяркудскае.

**ПАГАНІК,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.**

У бас. р. Сосніца, за 28 км на ПнУ ад Полацка, за 2 км на З ад воз. Сосна. Схілы катлавіны стромкія, вышынёй 10—15 м. Пойма вакол возера шырынёй 25—75 м, забалочаная.

Возера Пагошча.

**ПАГАРЭ́ЛАЎКА,** ручай у Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Крупня (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Муравіль. Рэчышча на працягу 2 км каля вусця каналізаванае.

**ПАГАРЭЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Ельскім р-нах, правы прыток Высокамахнавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Вуглы Лельчыцкага р-на, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Вярхі Ельскага р-на.

**ПАГАРЭЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Пагарэлка, упадае ў Нёман за 3 км на ПнУ ад в. Новае Сяло.

**ПАГАРЭ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, левы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Пяценка, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Бярэжкі.

**ПАГНО́Й,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

Пл. 0,11 км$^2$.
Даўжыня 1,8 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,95 км.

На пойме р. Прыпяць, за 22 км на ПдУ ад г. Жыткавічы, каля в. Перароўскі Млынок. Старычнае. Берагі вышынёй да 1 м, пад хмызняком, на Пн забалочаныя. Злучана ручаём з Прыпяццю.

**ПАГО́ННЕНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім і Хойніцкім р-нах, левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 29,3 км. Пачынаецца за 2,6 км на ПдЗ ад нежылой в. Багушы Брагінскага р-на, вусце за 3,4 км на Пд ад нежылой в. Баршчоўка Хойніцкага р-на. Прытокі — каналы Хатучынскі і Уласаўскі (злева), Безназоўны, Бродніцкі, Градскі, Тужарскі і Аравіцкі (справа).

**ПАГО́СТ,** вадасховішча ў Пінскім р-не.

Пл. 16,2 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,9 м.
Даўжыня 6,1 км.
Найбольшая шырыня 4,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 16,2 км.
Аб'ём вады 54,48 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 89,3 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 710 км$^2$.

На месцы большай часткі Пагосцкага возера і прылеглых да яго зямель, за 22 км на ПнУ ад г. Пінск, каля в. Загародскі Пагост, у зоне адпачынку Бобрык. Створана ў 1976 для арашэння зямель саўгаса «Парахонскі» і водазабеспячэння рыбаводнай гаспадаркі «Палессе». Былое возера каля в. Загародскі Пагост агароджана дамбай-плацінай даўжынёй 16,2 км, для рэгулявання аб'ёму вады ў плаціне ёсць вадавыпуск. Вадасховішча напаўняецца з р. Бобрык 1-ы па водападводзячым канале даўжынёй 8,5 км пры дапамозе шлюзаў-рэгулятараў. Замярзае ў сярэдзіне лістапада — пачатку студзеня. Таўшчыня лёду 40—60 см. Дно пясчанае. Ваганні ўзроўню на працягу года 2—3 м. Месца адпачынку, летняй і зімовай лоўлі рыбы.

**ПАГО́СЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пінскім р-не.

Пл. 0,87 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 1,6 м.
Даўжыня 1,42 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.
Аб'ём вады 0,88 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 711 км$^2$.

У бас. р. Бобрык 1-ы, за 25 км на ПнУ ад г. Пінск, за 0,1 км на ПдЗ ад в. Пагост Загародскі. Схілы катлавіны спадзістыя, пясчаныя, вышынёй да 5 м, пад лугам і ворнымі землямі, на Пд лес. Ад вадасховішча Пагост адгароджана дамбай, водаабмен з якім ажыццяўляецца пры дапамозе помпаў. Сцёк з возера па пратоцы р. Бобрык 1-ы.

**ПАГО́ШЧА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 1,23 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,7 м.
Даўжыня 1,9 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,74 км.
Аб'ём вады 1,9 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 40,7 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 12 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Пагошча. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад хмызняком ці пашай, на У параслі хваёвым лесам. Берагі нізкія, на Пд і З забалочаныя, парасліхмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае, уздоўж берагоў пясчанае. Расліннасць пашырана да глыбіні 1,2—1,7 м. Упадаюць ручаі з азёр Бяржонка і Опса, выцякае ручай у р. Акунёўка.

**ПАГРАБЁНКА,** рака ў Сенненскім р-не, правы прыток р. Зелянуха (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 0,6 км на Пд ад в. Паграбёнка, вусце каля в. Рэчкі Багушэўскага сельсавета. Верхняе і сярэдняе цячэнне ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**ПАДАВУ́ТА,** возера ў Глыбоцкім р-не.




Павульскае возера.




Возера Пагошча.




Вадасховішча Пагост.

Пл. 0,18 км².
Даўжыня 1,15 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.
Пл. вадазбору 11 км².

У бас. р. Авута (выцякае з возера), за 28 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 2,5 км на У ад в. Прошкава. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, парослі хмызняком.

**ПАДАЗЁРКІ**, возера на мяжы Полацкага і Расонскага р-наў.

Пл. 0,15 км².
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,68 км.
Пл. вадазбору 1,25 км².

У бас. р. Дрыса, за 27 км на Пн ад Полацка, [illegible] км на Пн ад в. Воранава, [illegible] ад в. Якаўскае. Схілы [illegible] 2—4 м (на Пн да [illegible] м), [illegible] хмызняком. Берагі [illegible], на Пн зліваюцца са схіламі.

**ПАДАЗЁРЫШЧА**, возера ў Бялыніцкім р-не.

Пл. 0,16 км².
Даўжыня 0,83 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.

У бас. р. Дулебка, за 35 км на ПдЗ ад г. п. Бялынічы, за 3 км на ПдЗ ад в. Мяжонка, сярод балоцістага лясного ўрочышча Балота Дулебскае. Схілы катлавіны невыразныя.

**ПАДАРЭСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Ляўкі, вусце за 2,5 км на ПнУ ад в. Падарэссе.

**ПАДВЕ́ЙКА**, рака, гл. *Вейнка.*

**ПАДВО́ТЧЫНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Маларыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 12,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Дрочава, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Вотчын.

**ПАДГА́ЙЦЫ**, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,1 км².
Даўжыня 0,41 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Густатка, за 17 км на ПдУ ад г. Браслаў, за 1 км на ПдЗ ад в. Шаўляны ва ўрочышчы Кулажкі. Схілы катлавіны невыразныя. На Пн і ПнУ забалочаная пойма шырынёй 50—100 м, уздоўж паўднёвага берага лес. На Пн упадаюць 2 ручаі, праз ручай і сістэму каналаў злучана з воз. Густата.

**ПАДДВО́РНАЕ**, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,29 км².
Найбольшая глыбіня 9,3 м.
Даўжыня 1,07 км.
Найбольшая шырыня 0,41 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.
Аб'ём вады 1,37 млн. м³.
Пл. вадазбору 7,19 км².

У бас. р. Дружнянка, за 16 км на Пд ад г. Браслаў, каля в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пясчаныя, парослыя хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, пясчаныя, участкамі тарфяністыя, пад хмызняком. Мелкаводдзе вузкае. Дно да глыбіні 4—5 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. На паўночным усходзе невялікі востраў. Зарастае да глыбіні 2,8 м. Упадаюць 2 ручаі, выцякае ручай у воз. Сярэднік.

**ПАДДУБЯ́НКА**, рака ў Смаргонскім р-не, правы прыток Віліі. Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 0,3 км на ПдУ ад в. Куляшы, цячэ пераважна сярод лясных масіваў, упадае ў Вілію на 3 [...] ад в. Рудня. Ад вытоку на працягу 5,2 км каналізаваная.

**ПАДЗЕ́ЙКА**, рака, гл. *Ула.*

**ПАДЗЯ́ВЫ**, возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,42 км².
Найбольшая глыбіня 2,7 м.
Даўжыня 0,98 км.
Найбольшая шырыня 0,73 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,08 км.
Аб'ём вады 0,7 млн. м³.
Пл. вадазбору 6,28 км².

У бас. р. Вята, за 15 км на ПнЗ ад г. Міёры, за 1 км на ПдУ ад в. Падзявы. Схілы катлавіны на З вышынёй 10—12 м, часткова разараныя, на У 3—5 м, пад хмызняком. Берагі нізкія, пад хмызняком, на Пд сплавінныя. Пойма шырынёй да 400 м, забалочаная, парослая хмызняком. Дно сапрапелістае, уздоўж заходніх і ўсходніх берагоў пясчанае. Поўнасцю зарасло падводнай расліннасцю. Злучана ручаём з воз. Набіста.

**ПАДКАСЦЁЛАК**, возера, гл. *Галадзянка.*

**ПАДЛЕ́СНЫ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Быхаўскім р-не, левы прыток р.Езва (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км



Павульскае возера.

Даўжыня 93 км.
Пл. вадазбору 651 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,8 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Выцякае з воз. Колпіна за 1,4 км на ПнУ ад в. Колпіна Невельскага р-на (у межах Гарадоцкага ўзвышша), цячэ праз воз. Неклач (Расія), па Полацкай нізіне (у вярхоўі праз лясныя масівы) і воз. Ізмак. Вусце ў межах г. Полацк. Даўжыня на тэрыторыі Беларусі 86 км, пл. вадазбору больш за 470 км². Прытокі: Лютая, Страдань (справа), Троснiца і Чарнаўка (злева). Даліна трапецападобная, шырынёй 100—400 м. Пойма двухбаковая, у нізоўі чаргуецца па берагах, месцамі адсутнічае, шырыня 100—200 м. Рэчышча моцназвілістае, на асобных участках у верхнім і сярэднім цячэнні на працягу 14,2 км каналізаванае, шырыня яго 5—10 м, ніжэй упадзення р. Лютая месцамі да 30 м. Найвышэйшы ўзровень паводкі ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем 4 м, найбольшая 5 м (1931 г.). Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у пачатку красавіка. Веснавы ледаход 4 сут.

**ПАЛАЎСКІ КАНАЛ,** Палаўкоўскі канал, меліярацыйны канал у Ельскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Палаўкі, упадае ў Бабруйкаўскае вадасховішча з ПдУ за 2,5 км на ПдЗ ад в. Палаўкі.

**ПАЛАХВА,** канал Палахва, рака ў Жабінкаўскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Свішчы, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Здзітава. Рэчышча амаль на ўсім працягу каналізаванае.

**ПАЛЕСКАЕ ВОЗЕРА,** Гарадзішча, у Пінскім р-не.

Пл. 0,96 км².
Даўжыня 1,6 км.
Найбольшая шырыня 1,1 км.

У бас. р. Ясельда, за 12 км на ПнУ ад Пінска, каля в. Гарадзішча. Схілы катлавіны пераважна разараныя. Злучана пратокай з р. Ясельда.

**ПАЛЕСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Хваецкае» (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца каля паўднёва-ўсходняй ускраіны п. Палессе, вусце за 10,1 км на Пд ад в. Вулька 1-я.

**ПАЛЕСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 2,5 км на З, вусце за 3,5 км на ПнУ ад в. Палессе.

**ПАЛІК,** Пялік, возера ў Барысаўскім р-не.

Пл. 7,68 км².
Найбольшая глыбіня 2,1 м.
Даўжыня 6,2 км.
Найбольшая шырыня 3 км.
Аб'ём вады 8,76 млн. м³.
Пл. вадазбору 2760 км².

У бас. р. Бярэзіна (цячэ праз возера), за 30 км на Пн ад Барысава, каля в. Палік, у межах Бярэзінскага біясфернага запаведніка (заснаваны 30.1.1925, у 1978 яму нададзены статус біясфернага). Схілы катлавіны вышынёй 7—8 м, пясчаныя, parасл лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, тарфяністыя, месцамі пясчаныя, пад хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае, месцамі ўздоўж берагоў пясчанае. Моцна зарастае, шырыня паласы надводнай расліннасці да 500 м. Упадаюць р. Лютка, Смольніца, Бурчак.

**ПАЛІЧНА,** Палічная, рака ў Польшчы і Камянецкім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня 17 км (у т. л. ў Камянецкім р-не 8,4 км). Пачынаецца на тэрыторыі Польшчы, зліваецца з р. Сіпурка (утвараюць р. Белая) на Пд ад в. Стаўповіскі. Ад вусця да мяжы з Польшчай каналізаваная.

**ПАЛОВА,** рака, гл. *Палоза.*

**ПАЛОВЕЦ,** рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах, правы прыток р. Вымнянка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 158 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,2 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Кукракі Лёзненскага р-на, цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша. Вусце за 0,5 км ад г. п. Янавічы Віцебскага р-на. У верхнім цячэнні называецца Чарна. Прыток — р. Гарна (справа). Рэчышча на працягу 7,5 км уверх ад вусця каналізаванае.

**ПАЛОВІЦА,** рака ў Пастаўскім р-не, левы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 38 км.
Пл. вадазбору 211 км².



Возера Палазер'е.



Рака Палата каля вёскі Юравічы Полацкага раёна.

**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 0,9 км на ПдЗ ад в. Кролікі, вусце на Пд ад в. Рымкі. Цячэ па паўднёва-заходняй частцы Полацкай нізіны. Асноўны прыток — рака без назвы каля в. Чашуны. Даліна ў верхнім цячэнні на працягу 10—12 км слабавыразная, ніжэй трапецападобная (шырыня 0,5—0,7 км). Пойма пераважна двухбаковая, у нізоўі чаргуецца па берагах (шырыня 60—100 м). Рэчышча ў вярхоўі на працягу 3 км звычайна ў межань перасыхае. Каля в. Кунды ад ракі адыходзіць канал, па якім частка сцёку перакідваецца ў р. Лучайка. Рэчышча на працягу 29,2 км уверх ад вусця і 4,5 км у верхнім і сярэднім цячэнні каналізаванае.

**ПАЛОВІЦА,** Шкунціца, рака ў Глыбоцкім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 65 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Выцякае з воз. Карпікаўскае каля в. Карпікі Глыбоцкага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Шкунцікі Шаркоўшчынскага р-на.

**ПАЛОЗА,** Палова, рака ў Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 11 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Альхоўка, вусце ў межах в. Чырвоны Бераг. Рэчышча каналізаванае.

**ПАЛОНАЯ,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Віцьба (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,8 км. Пл. вадазбору 32 км². Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,51 ‰. Выцякае з воз. Асінаўскае за 2 км на У ад в. Агароднікі, вусце за 1,5 км ад паўночна-ўсходняй ускраіны Віцебска. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 1,2 км каналізаванае.

**ПАЛОНКА,** рака ў Сенненскім р-не, правы прыток р. Немайцянка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Цімірazева, вусце каля в. Нямойта. Рэчышча ад вытоку на працягу 2 км каналізаванае.

**ПАЛОНКА,** назва р. *Пікарэц* у верхнім цячэнні.

**ПАЛОНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

**Пл. 0,35 км².**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,67 км.**

У бас. р. Ласасіна, за 12 км на У ад Віцебска, каля в. Вароны. Схілы катлавіны вышынёй 17—20 м (на Пн і ПнЗ да 5 м), параслі хмызняком, на ПнЗ участкамі разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Выцякае ручай у р. Ласасіна.

**ПАЛУЖ,** рака ў Краснапольскім р-не і Бранскай вобласці Расіі, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 46 км.**
**Пл. вадазбору 343 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Шалухоўка Краснапольскага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Палужская Рудня Бранскай вобласці. Цячэ па паўднёвай частцы Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даўжыня ў межах Беларусі 30 км. Даліна выразная, трапецападобная, шырынёй ад 0,3 км да 2,5 км. Пойма перарывістая, месцамі чаргуецца па берагах, забалочаная. Рэчышча каналізаванае ў вярхоўі на працягу 6,4 км (в. Мануйлы — в. Палуж 2-я), на астатнім працягу звілістае. Берагі стромкія, у ніжнім цячэнні абрывістыя.

**ПАЛУЖАНКА,** рака, гл. *Нёўда.*

**ПАЛУЖСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Краснапольскім р-не.

**Пл. 1,46 км².**
**Найбольшая глыбіня 7 м.**
**Даўжыня 7,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Аб'ём вады 2,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 163 км².**

На р. Палуж, за 12 км на ПдУ ад г. п. Краснаполле, паміж вёскамі Горы і Дуброўка (Горскі сельсавет). Створана ў 1986 для арашэння зямель, рыбагадоўлі, воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак, рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 1,3 м.

**ПАЛУЧЧА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,34 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**

У бас. р. Сосніца, за 42 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Палучча. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, параслі лесам, на Пн разараныя.

**ПАЛЫКАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Безыменнае возера.*

**ПАЛЬМІНКА,** назва р. *Кабішчанка* ў верхнім цячэнні.

**ПАЛЮШКА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Бараўцы, вусце каля в. Ахотніца. У вярхоўі цячэ па лясістай мясцовасці.

**ПАЛЯНІНАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слаўгарадскім і Быхаўскім р-нах, левы прыток р. Баброўка (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Зацішша Слаўгарадскага р-на, упадае ў Баброўку за 0,6 км на Пд ад в. Палкі Быхаўскага р-на.

**ПАЛЯНКА,** рака, гл. *Абчуга.*

**ПАМАРАЙКА,** рака, гл. *Дзятлаўка.*

**ПАНАРКА,** рака ў Смаргонскім і Ашмянскім р-нах, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 90 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Татаршчына Смаргонскага р-на, цячэ праз невялікія лясныя масівы, упадае ў Ашмянку за 0,7 км на ПдУ ад в. Лусцішкі Ашмянскага р-на. Прыток — р. Міркліішка. Ад в. Панара да в. Ціжышкі (2,7 км) каналізаваная.

**ПАНАСАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пружанскім і Бярозаўскім р-нах, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Жагалы Пружанскага р-на, вусце за 1,3 км на Пн ад в. Панасавічы Бярозаўскага р-на.

**ПАНАЧКА,** рака, гл. *Начка.*

**ПАНГАЛАСОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Валхва (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца з Галоўнага канала, вусце за 3,5 км на ПдУ ад р. п. Мікашэвічы.

**ПАНІКВА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Моўчадзі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 81 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.**



Возера Палік.

Пл. 0,18 км².
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.
Пл. вадазбору 2,23 км².

У бас. р. Палата, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 5 км на ПдЗ ад з. Дрэтунь. Схілы катлавіны невыразныя, на Пд вышынёй да 3 м, парaслі лесам. Выцякае ручай у р. Страдань.

**ПАТАЧА́НКА,** Габка, рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток Сэрвачы (бас. Віліі).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 72 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Пачынаецца каля в. Ваўкалата, упадае ў Сэрвач за 1 км на Пн ад в. Ясяноўцы Докшыцкага р-на. У пойме знаходзіцца воз. Станіслаўскае. Рэчышча каналізаванае, прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ПА́ТРЫКІ-БАГА́Ч,** Патрыкаўскі канал, меліярацыйны канал у Пружанскім і Кобрынскім р-нах, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,7 км. Пачынаецца з канала Бона каля в. Хідры Пружанскага р-на, вусце каля п. Фруктовы Кобрынскага р-на.

**ПАТЫЛЬТЫ,** канал у Дзятлаўскім р-не, левы прыток Дзятлаўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на ПдУ ад в. Пецюкі, упадае ў Дзятлаўку на У ад в. Засецце.

**ПАЎАЗЕ́Р'Е,** возера, гл. *Палазер'е.*

**ПАЎДНЁВЫ БЛІЗНЯ́,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,35 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 23 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Рудня. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера забалочаны хмызняк, на У лясная высечка.

**ПАЎДНЁВЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Рахавічы, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Морач.

**ПАЎДНЁВЫ ШЧУ́ЧЫНЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,3 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. р. Нішча, за 19 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 4,5 км на ПнЗ ад в. Сасновы Бор, сярод забалочанага лесу. Берагі і пойма забалочаныя.

**ПАЎЛАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,3 км на Пд ад в. Палікараўка, вусце за 1,2 км на ПдЗ ад в. Рудня.

**ПАЎЛІНОЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня [redacted] км. Пачынаецца каля левай агараджальнай дамбы Церабовіцкага канала за 4 км на ПнУ ад в. Лелікава, упадае ў воз. Любань на Пн ад в. Дзівін.

**ПАЎНО́ЧНАЯ СЛУЧ,** рака, гл. *Случ.*

**ПАЎНО́ЧНЫ БЛІЗНЯ́,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,45 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.

У бас. р. Дрыса (правы прыток Зах. Дзвіны), за 23 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Рудня. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера забалочаны хмызняк.

**ПАЎНО́ЧНЫ ШЧУ́ЧЫНЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,09 км².
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,33 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.

У бас. р. Свольна, за 24 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3,5 км на ПдЗ ад в. Чырвоны Бор, за 0,75 км на У ад воз. Белае, сярод лесу. Схілы катлавіны на З і У стромкія, вышынёй да 20 м, на Пн і ПдЗ ад возера плоская мясцовасць. Вакол возера забалочаная пойма.

**ПАЎПЕ́,** Паўпа, рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Віліі. Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнЗ ад в. Побалі, упадае ў Вілію на У ад в. Маркуні. Рэчышча на працягу 4,6 км ад вытоку да в. Чэхі каналізаванае.

**ПАЎСТЫ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, левы прыток р. Бярозаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Ліпнікі, вусце за 1 км на Пд ад в. Паўстынь.

**ПАЎТАРА́НАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Мерачанка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,7 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Вялікі Халожын, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Ганькавічы.

**ПАЦІЧО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Маконь (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Клянік, вусце за 1 км на У ад в. Пацічова.

**ПАЦЭ́Я,** рака ў Слаўгарадскім р-не, левы прыток р. Касалянка (бас. Дняпра).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 117 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Цераховка, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Прудок. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Лебедзеўка плаціна і сажалка (пл. 27,3 га).




**Пачаевіцкае возера.**

**ПАЧАЕ́ВІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 0,11 км².
Найбольшая глыбіня 11 м.
Даўжыня 0,57 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,56 км.
Аб'ём вады 0,47 млн. м³.
Пл. вадазбору каля 1 км².

У бас. р. Лукомка, за 6 км на Пд ад г. Чашнікі, каля в. Пачаевічы. Схілы катлавіны вышынёй 6—9 м, у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй часткова пад сельгасугоддзямі. Берагі сплавінныя, часткова пад хмызняком, на Пн зліваюцца са схіламі. На У забалочаная пойма шырынёй да 40 м, парослая хмызняком. Дно ілістае і сапрапелістае, каля паўночнага берага пясчанае. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 20 м. Злучана пратокай з Лукомкай.

**ПАЧАЛІ́ЦА,** рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Аршыца (бас. Дняпра).

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 104 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.

Пачынаецца каля в. Казечына, вусце на паўночнай ускраіне г. Орша. Цячэ па Аршанскім узвышшы.

**ПЕ́ЛА,** рака ў Вілейскім р-не, правы прыток Віліі.

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 56 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.

Пачынаецца на ПнУ ад в. Кураненц, упадае ў Вілію на У ад г. Вілейка.

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Убалацце, вусце за 0,8 км на ПдЗ ад в. Перасопня. Рэчышча на працягу 7 км ад вытоку каналізаванае. Цячэ сярод лесу.

**ПЕРАСЎХА,** рака, гл. *Чарняўка.*

**ПЕРАТОК,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім і Петрыкаўскім р-нах, правы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Старушкі Жыткавіцкага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Капцэвічы Петрыкаўскага р-на. Пракладзены па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ПЕРАТЎЦЬ,** рака ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах, правы прыток Усы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 44 км.**
**Пл. вадазбору 344 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,4 км на ПнЗ ад в. Лучыцы Дзяржынскага р-на, цячэ праз невялікія лясныя масівы па паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша, г. п. Негарэлае, упадае ва Усу на З ад в. Кухтычы Уздзенскага р-на. Упадаюць рэкі Самацеч, Сініцкая, Еленка, меліярацыйныя каналы. Даліна на вялікім працягу невыразная, месцамі трапецападобная. Пойма пераважна роўная, месцамі пад хмызняком. Рэчышча ў верхнім цячэнні і на асобных участках сярэдняга цячэння каналізаванае, яго шырыня 8—10 м, зрэдку да 15 м.

**ПЕРАХОДКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Трасцянкі (бас. Нёмана). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Лудзічы, цячэ сярод лясных урочышчаў, упадае ў Трасцянку на ПдУ ад в. Пушча Ліпічанская. Рэчышча каналізаванае.

**ПЕРТКА,** рака, гл. *Портка.*

**ПЕРУНОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, правы прыток канала Любань (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 5 км на Пн, вусце за 4 км на ПдУ ад в. Перунова.

**ПЕРШЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Вадападводзячага 1-га канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 5 км на ПнУ, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Козікі.

**ПЕРШЫ МАР'ІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Салігорскім і Любанскім р-нах, правы прыток Чырвонапалянскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,4 км. Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Запераходнае Салігорскага р-на, вусце за 3 км на Пн ад в. Кузьмічы Любанскага р-на. Прытокі — каналы Сосны 1-ы (злева) і Сосны 2-і (справа).

**ПЕСАЧАНКА,** рака ў Сенненскім р-не, левы прыток р. Серакаратнянка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 57 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Калантаева, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Шылы. Цячэ ў межах Чашніцкай раўніны. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,3 км каналізаванае.

**ПЕСТУНІЦА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Шэвінка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 39 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца на Пн ад в. Міхалі, вусце за 1 км на У ад в. Казакі. У верхнім цячэнні называецца Ш а л ы г і н с к а я.

**ПЕСТУНІЦА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Заронаўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца каля в. Пестуніца, вусце за 0,8 км на ПдУ ад в. Казакі.

**ПЕСТУНІЦА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,36 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,92 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 15 км на ПнЗ ад Віцебска, каля в. Пестуніца. Схілы катлавіны вышынёй 10 м, пад агародамі і забудовай. Злучана ручаём з р. Пестуніца.

**ПЕТКУНЫ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,31 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**
**Аб'ём вады 0,31 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 4,4 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 14 км на ПнЗ ад г. Міёры, каля х. Петкуны. Схілы катлавіны вышынёй 17—20 м. Берагі высокія, участкамі зліваюцца са схіламі.

**ПЕТРАШЭЎСКАЯ КАНАВА,** рака, гл. *Люта.*

**ПЕЧЫШЧЫ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Жардзянка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,8 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПдЗ ад п. Мольча, упадае ў Жардзянку за 1 км на Пд ад в. Печышчы.

**ПЕШКІ,** гл. *Бачэвіцкі канал.*

**ПІЖАЎКА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток р. Свольна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 30 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Дубрава, вусце на Пн ад в. Маторына Расонскага р-на. У верхнім цячэнні называецца ручай К р у п е ц. Цячэ па лясістай, часткова забалочанай мясцовасці.

**ПІКАРЭЦ,** рака ў Свіслацкім р-не, у бас. Нёмана.

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 99 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на З ад в. Палонка, цячэ ў межах Ваўкавыскага ўзвышша, зліваючыся з Навумкай на Пд в. Мсцібава ўтварае р. Нятупа. У верхнім цячэнні называецца П а л о н к а. Асноўны прыток — р. Свінка. Пойма часткова забалочаная. Рэчышча ў вярхоўі каналізаванае. Каля вёсак Палонка і Шусцікі створаны сажалкі (пл. адпаведна 0,02 км$^2$ і 0,56 км$^2$).




Возера Петкуны.

**ПІКЕЛКА,** П і к е т к а, рака ў Мастоўскім і Гродзенскім р-нах, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 79 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Хамічы Мастоўскага р-на, упадае ў старыцу Свіслачы на ПдЗ ад в. Занявічы Гродзенскага р-на. Рэчышча каналізаванае на працягу 9 км (выток — 1 км вышэй ад в. Каленікі Гродзенскага р-на). Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ПІЛІПАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Піліпавічы, вусце за 0,6 км на Пд ад в. Здзітава.

**ПІЛІПАЎКА,** рака ў Іванаўскім р-не, левы прыток р. Піна (бас. р. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 152 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Кацкі, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Еўлашы. Асноўны прыток — р. Струга (справа). Рэчышча каналізаванае.

**ПІЛЬНЯ,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, правы прыток р. Вясейка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Пільня, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Ржаўка.




Возера **Плацішна** (Бешанковіцкі раён).

**ПІНА**, рака ў Іванаўскім і Пінскім р-нах, левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 40 км.**
**Пл. вадазбору 2460 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 8,6 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,01 ‰.**

Пачынаецца каля в. Перяруб Іванаўскага р-на, вусце ў межах г. Пінск. Паводле некаторых даследчыкаў рака бярэ свой пачатак каля в. Дубай Пінскага р-на (даўжыня рэчышча 27 км). Прытокі: канавы Выщенская, Таўкачыха, Кобельская, без назвы каля в. Хамічава (справа); рэкі Струга, Няслуха (злева). Цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе. Даліна невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Рэчышча слабазвілістае, шырыней 30—40 м. У выніку каналізацыі лукавіны выпрастаны, рэчышча паглыблена на перакатах. Воднасць ракі падтрымліваецца перакідам часткі сцёку з Прыпяці праз сістэму Выжаўскага і Белаазерскага каналаў. Піна з'яўляецца часткаю Днепроўска-Бугскага канала. У г. Пінск — порт.

**ПІСАРАЎКА**, рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток Ушы (бас. Віліі). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Малыя Кушэўнікі, упадае ва Ушу ў межах в. Мясата. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,3 км каналізаванае, на гэтым участку прымае сцек з меліярацыйных каналаў.

**ПІТОМКА**, ручай у Віцебскім р-не, левы прыток р. Віцьба (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 2,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ, вусце за 0,7 км на ... ад в. Тулава.

**ПЛАН**, рака, гл. *Плаў*.

**ПЛАСТОЦКІ КАНАЛ**, меліярацый... канал у Жыткавіцкім р-не, пра... прыток Марахараўскага канала (б... Прыпяці). Даўжыня 12,2 км. Пач... наецца за 1 км на ПнЗ ад в. Пу... вічы, вусце за 2,5 км на З ад в. Бял...

**ПЛАЎ**, План, рака на Украіне ... Лельчыцкім р-не, правы прыт... р. Сцвіга (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 45 км, у т. л. на Белар... 14 км.**
**Пл. вадазбору 326 км$^2$, у т. л. на Беларусі 68 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў ву... 1,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай павер... 0,78 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ... в. Юрове Алеўскага р-на Житомірскай вобл., цячэ па Житомірс... Палессі, на Беларусі па нізіне Прыпяцкае Палессе. Вусце за 5 км на ... ад в. Дзяржынск. Даліна невыразн... зліваецца з прылеглай мясцовас... Пойма двухбаковая, шырынёй 0,... 0,5 км, месцамі да 1 км. Рэчышч... верхнім цячэнні слабазвілістае, ... астатнім працягу каналізаванае.

**ПЛАЎ**, возера ў Гарадоцкім р-не...

**Пл. 1,12 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,8 м.**
**Даўжыня 2,73 км.**
**Найбольшая шырыня 0,68 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,04 км...**
**Аб'ём вады 4,85 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 10,2 км$^2$.**



Рака **Піна** каля вёскі Кончыцы Пінскага раёна.



Возера Плаў.

У бас. р. Лужаснянка, за 26 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Канашы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на З і У месцамі да 10 м), у ніжняй частцы да вышыні 2—3 м пад хмызняком, вышэй разараныя, на невялікім участку на З пароcлыя лесам. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, на ПнУ і ПнЗ нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. Дно да глыбіні 2,5 м пясчанае, да 4,5—5 м выслана апясчаненымі адкладамі, ніжэй — ілам. Шырыня паласы надводнай расліннасці 8—10 м, на ПдУ да 40 м. Упадаюць 4 ручаі, выцякае ручай у р. Арлейка.

**ПЛА́ЎНА**, возера ў Докшыцкім р-не.

**Пл. 4,01 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 3,45 км.**
**Найбольшая шырыня 1,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,05 км.**
**Аб'ём вады 5,12 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 186 км$^2$.**

У бас. р. Сергуч (цячэ праз возера), за 42 км на У ад г. Докшыцы, у межах Бярэзінскага біясфернага запаведніка (заснаваны ў 1925 г. для аховы і развядзення каштоўных дзікіх жывёл, асабліва бабра, у 1978 яму нададзены статус біясфернага). Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, забалочаныя, на З сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае. Востраў пл. 0,07 км$^2$, ёсць сплавінныя астравы. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.



Возера Плаўна.

**ПЛА́ЎНЯ**, рака ў Бярэзінскім р-не, левы прыток р. Брусята (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 104 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Барсукі, вусце каля в. Каранец. Рэчышча на працягу 6 км каналізаванае (2 км на ПдЗ ад в. Высокая Гара — вусце).

**ПЛА́ЎНЯ**, рака ў Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 51 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 2,8 км на Пн ад в. Уліна Падкарчэмнае, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Германавічы. Цячэ па паўднёва-заходняй частцы Полацкай нізіны. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,1 км каналізаванае.

**ПЛАЦІ́ЧНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Палата, за 26 км на ПнУ ад Полацка, за 3,5 км на ПнУ ад в. Бабовікі. Схілы катлавіны невыразныя, на ПнЗ нізкія, вышынёй 1,5—2 м, пад забалочаным лесам.

**ПЛАЦІ́ЧНА**, возера ў Полацкім р-не на мяжы з Пскоўскай вобл. Расіі.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,88 км.**

У бас. р. Палата, за 50 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя, на Пд прымыкае балотны масіў. На Пн і Пд забалочаная пойма шырынёй да 100 м. Выцякае ручай у Звярынае возера.

**ПЛАЦІ́ЧНАЕ ВО́ЗЕРА**, у Расонскім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Даўжыня 0,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,55 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Пл. вадазбору 2,78 км$^2$.**

У бас. р. Свольна, за 24 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2 км на З ад в. Чырвоны Бор, сярод забалочанага лесу. Схілы невыразныя. Берагі нізкія, часткова забалочаныя. Уздоўж заходняга берага цягнецца озавая града вышынёй 10—15 м. Выцякае р. Нячэрская (злучае яго з воз. Тутча).

**ПЛАЦІ́ШНА**, возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 17,9 м.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,19 км.**
**Аб'ём вады 1,48 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,45 км$^2$.**




Возера Плаўна.




Возера Плацішна (Бешанковіцкі раён).

У бас. р. Ула, за 20 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Бортнікі 2-я. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, парослі лесам, на 3 у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 5—7 м выслана пясчанымі і апясчаненымі адкладамі, ніжэй — сапрапелем. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 2,5 м, падводная да 4—4,5 м. Выцякае ручай у воз. Лешна.

**ПЛАЦІШНА**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5 м.
Даўжыня 0,71 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.

Аб'ём вады 0,27 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5,5 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Кавалеўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 8—9 м, разараныя, часткова пад лугам. Берагі пераважна сплавінныя, на У нізкія, пясчаныя. Дно плоскае з 2 упадзінамі, ілістае, участкамі ўздоўж усходняга берага да глыбіні 1 м пясчанае. Зарастае амаль палова плошчы возера да глыбіні 2,8 м. Злучана пратокай з воз. Доўгае, выцякае ручай у воз. Астравіта.




Возера **Плацішна** (Ушацкі раён).

**ПЛЕСА**, Плёса, возера ў Жыткавіцкім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,5 км.

На пойме р. Прыпяць, за 26 км на ПдУ ад г. Жыткавічы, каля в. Хлупін. Старычнае. Берагі высокія, пясчаныя, участкамі пад хмызняком. Пратокамі злучана са стараРэччамі Прыпяці.

**ПЛЁСА**, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Дрыса, за 37 км на У ад г. п. Расоны, за 1,5 км на З ад в. Ніўе. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 100—200 м, з усходняга боку — лес. Злучана пратокай з воз. Астраўцы. Зарастае.

**ПЛЕСАВІЦА**, рака ў Браслаўскім р-не, правы прыток р. Друйка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 27 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,6 ‰.

Выцякае з воз. Опліса за 1 км на У ад в. Пустошкі, вусце каля в. Друйск. Цячэ ў межах Браслаўскай грады.

**ПЛЁСНА**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 9,5 м.
Даўжыня 0,64 км.
Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.
Аб'ём вады 0,78 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 7 км$^2$.

У бас. р. Тураўлянка, за 24 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Краснае. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м (на Пн 12—14 м, на З невыразныя), разараныя, на Пн пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі, на З нізкія, часткова забалочаныя, пад хмызняком. На У невялікі востраў. Дно да глыбіні 3—3,5 м пясчанае, да 4,5—5 м выслана апясчаненымі адкладамі, ніжэй — сапрапелем. Зарастае амаль трэць плошчы возера да глыбіні 3 м. Упадае ручай з воз. Астравіта.




Возера **Плесна**.

**ПЛЁСЫНСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, правы прыток р. Беліца (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Савічы, упадае ў Беліцу за 1,5 км на З ад в. Забалоцце.



На беразе ракі **Пліса** ў Барысаўскім раёне.

**ПЛЕШЧАНІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА**, Войкаўскае вадасховішча, у Лагойскім р-не.

Пл. 2,04 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,3 м.
Даўжыня 2,9 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,3 км.
Аб'ём вады 5,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 232 км$^2$.

На р. Дзвінаса (34 км ад вусця), 24 км на Пн ад г. п. Лагойск, ка[ля] заходняй ускраіны г. п. Плешчаніц[ы]. Створана ў 1960 для рэгулявання ра[ч]нога сцёку, рэкрэацыі і спартыўн[ых] мерапрыемстваў. Берагі пад лес[ам], правы забалочаны, левы высокі (1,5—3 м). Дно выслана ілам, на мелкаво[д]дзі пяском. Сярэднегадавое ваган[не] ўзроўню 50 см. Замярзае ў пачат[ку] снежня, лёд (таўшчыня 40—50 с[м]) трымаецца да 2-й паловы сакаві[ка]. Інтэнсіўна зарастае, асабліва ў вер[х]няй частцы і ў заліве.

**ПЛЁШЧЫЦЫ**, рака ў Шклоўскім р-[не], правы прыток р. АрцІслаўка (б[ас.] Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 42 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,5

Пачынаецца ў в. Бель, вусце [каля] в. Пруды. У верхнім цячэнні на[зы]ваецца Рудзейка.

**ПЛЁСА**, рака ў Драгічынскім р[-не], у бас. Прыпяці.

Даўжыня 15,5 км.
Пл. вадазбору 68 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9

Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. ... верша, упадае ў Спораўскае воз[ера] з Пд за 2 км на Пн ад в. Какор[ы]... Цячэ па заходняй ускраіне ніз[іны] Прыпяцкае Палессе. Рэчышча ка[на]лізаванае.

**ПЛЁСАЎКА**, рака ў Жлобінс[кім] р-не, левы прыток р. Ала (бас. Дн[я]пра). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецц[а] паўночнай ускраіне в. Кароткав[ічы], вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Плесав[...].

**ПЛІНА**, возера ва Ушацкім р-н[е].

Пл. 0,87 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 18,2 м.
Даўжыня 2,56 км.
Найбольшая шырыня 0,51 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,58 км.
Аб'ём вады 6,01 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 14,6 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 5 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Пліна. Схілы катлавіны вышынёй да 17 м (на Пд і Пн 5—8 м), на 3 разараныя, на У пад выпасам. Берагі нізкія, на ПнЗ сплавінныя. Ложа ўскладнена ўпадзінамі і мелямі. 2 астравы агульнай пл. 6 га. Дно ў прыбярэжнай частцы пясчанае, глыбей ілістае. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 25 м. Упадаюць 7 ручаёў і канаў, выцякае ручай у воз. Утвіна.

**ПЛІСА́**, рака ў Смалявіцкім і Барысаўскім р-нах, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 64 км.
Пл. вадазбору 625 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца на ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша за 1,5 км на ПдУ ад в. Слабада Смалявіцкага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Юшкевічы Барысаўскага р-на. Асноўны прыток — р. Чарніца (справа). Даліна ў ніжнім цячэнні паміж вёскамі Яловіца Смалявіцкага р-на і Струпень Барысаўскага р-на звілістая, на астатнім працягу прамая, трапецападобная (шырыня 0,8—1,2 км), ніжэй г. Смалявічы да 2 км., паміж г. Жодзіна і в. Яловіца невыразная. Схілы спадзістыя, вышынёй 6—17 м, месцамі ў сярэднім і ніжнім цячэнні стромкія і абрывістыя. Пойма ад в. Трубянок Смалявіцкага р-на да вусця двухбаковая (шырыня 0,2—0,4 км), перасечаная сеткай меліярацыйных каналаў і старых рэчышчаў. Рэчышча ад вытоку да в. Яловіца Смалявіцкага р-на каналізаванае, на астатнім працягу звілістае, свабодна меандруе. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя, пераважна адкрытыя. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў канцы сакавіка, найбольшая вышыня над меженным узроўнем 2,6 м. Лядовыя з'явы няўстойлівыя. Прымае сцёк з шэрага меліярацыйных каналаў. На рацэ Смалявіцкае і Жодзінскае вадасховішчы.

**ПЛІСА́**, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

Даўжыня 25 км.
Пл. вадазбору 121 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Вялікія Карнышы, цячэ сярод лясных масіваў па Навагрудскім узвышшы, упадае ў Нёман за 0,6 км на З ад в. Мікалаева Іўеўскага р-на. Асноўныя прытокі — Ляхаўка і Лешчанка. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,9 км каналізаванае.

**ПЛІСА́**, рака ў Талачынскім і Крупскім р-нах, левы прыток р. Бобр (бас. Дняпра).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 179 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Раманаўка Талачынскага р-на, вусце ў межах в. Пліса Крупскага р-на.

**ПЛІ́СА**, возера ў Глыбоцкім р-не.

Пл. 4,24 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 15 м.
Даўжыня 6,2 км.
Найбольшая шырыня 1,43 км.
Даўжыня берагавой лініі 18,2 км.
Аб'ём вады 23,6 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 54,2 км$^2$.

У бас. р. Мнюта (выцякае з возера), за 17 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Пліса. Схілы катлавіны вышы-




Плешчаніцкае вадасховішча.



Плешчаніцкае вадасховішча.

ней да 10 м, на Пд і ПдЗ абрывістыя, пад лесам. На Пн тэраса вышынёй 1,2—1,5 м. Берагі нізкія, забалочаныя. 7 астравоў агульнай пл. 2,5 га. Дно да глыбіні 6—7 м пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Уздоўж берагоў вузкая перарывістая паласа надводнай расліннасці. Упадаюць рэкі Шоша, Свіліца, 4 ручаі.

**ПЛІСА,** возера на мяжы Глыбоцкага і Пастаўскага р-наў

**Пл. 1,1 км².**
**Найбольшая глыбіня [redacted] м.**
**Даўжыня 1,41 км.**
**Найбольшая шырыня 1,16 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,22 км.**
**Аб'ём вады 10,22 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,04 км².**

У бас. р. Галбіца за 18 км на ПнЗ ад г. Глыбокае каля в. Луцк-Казлоўск. Схілы катлавіны вышынёй 1—5 м (на ПдЗ 12—13 м), пад хмызняком і валунамі. Берагі нізкія, месцамі завалуненыя, парослыя хмызняком, на ПнЗ абразійныя. Дно ўздоўж берагоў пясчана-жвіровае, глыбей — пясчанае (да глыбіні 7 м) і глеістае. Зарастае слаба. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 5 м, месцамі адсутнічае. Выцякае р. Плісаўка.

**ПЛІСАЎКА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 49 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Выцякае з воз. Пліса за 2 км на ПнУ ад в. Луцк-Казлоўск, вусце каля в. Піскуны. Цячэ па паўднёва-заходняй частцы Полацкай нізіны. Рэчышча ад вытоку на працягу 12,3 км каналізаванае.

**ПЛІСКІ КАНАЛ,** Судобаўскі канал, меліярацыйны канал у Смалявіцкім і Барысаўскім р-нах, правы прыток р. Пліса (бас. Дняпра). Даўжыня 12,8 км. Пачынаецца з ручая Чарніца за 1 км на Пд ад п. Цэнтральны Смалявіцкага р-на, упадае ў Плісу за 0,5 км на Пд ад в. Залессе Барысаўскага р-на.

**ПЛІШЧА,** ручай у Мастоўскім і Ваўкавыскім р-нах, правы прыток Росі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 62 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Калядзічы Ваўкавыскага р-на, у нізоўі цячэ па лясістай мясцовасці, праз воз. Немнішча, упадае ў Рось за 1,9 км на ПдУ ад в. Дубна Мастоўскага р-на. Пойма ў вярхоўі забалочаная. Рэчышча на працягу [redacted] км каналізаванае (в. Агароднікі — 1,5 км на ПдЗ ад в. Кульшычы).

**ПЛІШЧАНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.**

У бас. р. Нішча, за 25 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1 км на Пн ад в. Варонiна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам, на ПнЗ разараныя. На Пн і Пд ад возера забалочаны лес. Злучана ручаём з воз. Кожкі.

**ПЛІШЧЫН,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,75 км.**

На пойме р. Прыпяць, за 2 км на Пн ад вусця Скрыпіцы, за 15 км на ПдУ ад г. Жыткавічы. Старычнае. Схілы катлавіны невыразныя, забалочаныя, пад лесам і хмызняком. У заходняй частцы невялікі востраў. Выцякае ручай у воз. Мута.

**ПЛОДА,** рака ў Браслаўскім р-не, правы прыток р. Друйка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Радкуны, вусце за 1 км на ПдЗ ад хутара Букаўшчына.




**Возера Пліса (Глыбоцкі раён).**



**Возера Пліса ў басейне р. Галбіца.**

**ПЛОСКАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-н

**Пл. 0,62 км².**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,1 км.**
**Пл. вадазбору 3 км².**

У бас. р. Бярэжа, за 16 км на П ад г. Міёры, у межах гідралагічна заказніка Ельня (пл. 23,2 тыс. га, ств раны ў 1968). Берагі нізкія, заб лочаныя. Злучана канавай з в Доўгае.

**ПЛОСКАЯ КАНАВА,** рака, гл. Т *роса.*

**ПЛОСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны нал у Пінскім р-не, левы прыт канала Ліпнікі (бас. Прыпяці). Да жыня 6,9 км. Пачынаецца за 2,5 на З ад в. Пласкінь, вусце за 1,5 км У ад в. Пучыны.

**ПЛОТНІЦА,** рака ў Житомірск вобл. Украіны і Лельчыцкім р-не, пр вы прыток р. Убарць (бас. Прыпя

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 144 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9**

Пачынаецца за 8 км на ПнУ в. Хочына Алеўскага р-на, вусце 2,5 км на У ад в. Тартак Лельчы кага р-на. Цячэ ў межах раўні Мазырскае Палессе па лясістай м цовасці (даўжыня ў межах Белар 16 км).

**ПЛОТНЩА,** рака, гл. *Прысць.*

**ПЛОТНЩА,** рака, гл. *Свідовец.*

**ПЛОТНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацый канал у Ганцавіцкім і Пінскім р-н левы прыток р. Бобрык 1-ы ( Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачына ца на паўночна-ўсходняй ускра в. Задуб'е Ганцавіцкага р-на, ву за 3 км на З ад в. Канатоп Пінс га р-на.

**ПЛОТНІЦКІ КАНАЛ,** рака, *Прысць.*

**ПЛОЧ,** возера ў Лепельскім р-н

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км**

У бас. р. Эса, за 12 км на ПдЗ г. Лепель, за 1,2 км на З ад в. Ру

сярод лесу. Уздоўж паўднёвага берага озавая града вышынёй да 5 м.

**ПАЎЦІНОК,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,23 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,5 м.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,58 км.**
**Аб'ём вады 0,45 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 0,7 км².**

У бас. р. Друйка, за 5 км на Пн ад г. Браслаў, каля в. Міхееўцы, паміж азёрамі Струста, Войса і Балойса. Схілы катлавіны слабавыражаныя, участкамі на Пд і Пн вышынёй да 15 м, часткова разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, затарфаваныя, пад хмызняком, на Пн і ПнУ сплавінныя. Дно плоскае, уздоўж берагоў да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Зарастае па ўсёй плошчы.

**ПЛЫВУН,** возера ў Бабруйскім р-не.

**Пл. 0,39 км².**
**Даўжыня 4,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 10,2 км.**

У бас. р. Вір (цячэ праз возера), за 10 км на ПдУ ад г. Бабруйск, за 4 км на З ад в. Цялуша. Катлавіна возера — азёрападобнае расшырэнне рэчышча р. Вір. Берагі высокія, на Пн пад лесам і хмызняком. Злучана ракой з воз. Вяхава.

**ПЛЮСЕНСКАЯ КАНА́ВА,** гл. *Слаўкавіцка-Ямінскі канал.*

**ПЛЮСЫ,** Плюскае возера, у Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,8 м.**
**Даўжыня 2,04 км.**
**Найбольшая шырыня 1,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,6 км.**
**Аб'ём вады 4,62 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 6,56 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 20 км на Пн ад г. Браслаў, каля в. Плюсы. Схілы катлавіны на З і Пн вышынёй 4—5 м, разараныя, на Пд 8—10 м, пад хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя. 9 астравоў агульнай пл. 10 га, з якіх Вялікі і Малы вызначаюцца значнымі памерамі. Дно да глыбіні 1,5 м пясчанае, каля паўночнага берага і вакол вострава ў цэнтры на глыбіні 3—4 м выслана заіленым пяском, астатняя частка — сапрапелем і ілам. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,5 м, падводная да 2,5 м. Поўнасцю зараслі ўсходні і паўночны залівы, участкі паміж астравамі, шматлікія мелі. Упадаюць некалькі каналізаваных ручаёў, выцякае ручай у воз. Прысвяты.

**ПЛЯСЕ́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Петрыкаўскім р-не, на мяжы з Калінкавіцкім.

**Пл. 0,22 км².**
**Даўжыня 0,61 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,67 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 34 км на ПнУ ад г. Петрыкаў, за 2,5 км на У ад в. Церабаў. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі хмызняком. Берагі забалочаныя. Дно сапрапелістае.

**ПЛЯСЕ́ЦКІ КАНА́Л,** Баянавіцкі канал, Плясецкая канава, меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Трэмля (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Ператрутаўскі Варатынь, вусце каля в. Мышанка.

**ПЛЯСНА́,** Гразь, Гнойніца, рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Раста (бас. Дняпра).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 64 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 1,4 км на ПнУ ад в. Халмы, вусце за 1 км на З ад в. Вайнілы. Рэчышча на працягу 9,6 км (ад в. Благавічы да вусця) каналізаванае.

**ПЛЯХО́ЎКА,** Гляхоўка, рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Ісы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 110 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Дукрава, цячэ на паўднёва-заходняй ускраіне Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Ісу на ПдУ ад в. Дзераўная. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў, у вярхоўі выдуцца торфараспрацоўкі.

**ПНЕ́ЎКА,** рака ў Дубровенскім і Горацкім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 36 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,5 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Пнявічы Дубровенскага р-на, цячэ па Смаленскім узвышшы, вусце за 1 км на Пд ад в. Шарыпы Горацкага р-на.

**ПО́ГІРСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Дзятлаўскім р-не, левы прыток р. Дзятлаўка (бас. Нёмана). Даў-




Возера **Плюсы.**




Возера **Плюсы.**

жыня 6,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Погіры, упадае ў Дзятлаўку каля в. Нагародавічы. Прыток р. Дзікая.

**ПОКАТКА,** ручай у Чачэрскім р-не, правы прыток р. Покаць (бас. Дняпра).

> **Даўжыня 11 км.**
> **Пл. вадазбору 76 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**




**Возера Полазна.**



**Возера Поўсвіж.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Асінаўка Сідаравіцкага сельсавета, вусце на ўсходняй ускраіне в. Сідаравічы. Цячэ сярод лесу.

**ПО́КАЦЬ,** рака ў Краснапольскім і Чачэрскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

> **Даўжыня 76 км.**
> **Пл. вадазбору 504 км$^2$.**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,9 м$^3$/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца на заходняй ускраіне ж. Няўмесны Краснапольскага р-на, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Петраполле Веткаўскага р-на. Цячэ па Чачорскай раўніне. Асноўны прыток — ручай Покатка. Даліна на вялікім працягу добра распрацаваная, трапецападобная (шырыня 0,5—1,5 км), у верхнім цячэнні невыразная, у ніжнім зліваецца з поймай Сожа. Схілы ўмерана стромкія, месцамі стромкія, вышынёй 15—20 м, у сярэднім цячэнні адкрытыя. Пойма двухбаковая, шырыня яе ў сярэднім і ніжнім цячэнні 0,3—0,5 км, у вусцевай частцы 1—1,3 км. Рэчышча каналізаванае ў Чачэрскім р-не на працягу 3,3 км, на астатнім працягу меандруе, моцназвілістае, асабліва ў сярэднім цячэнні. Шырыня ракі ў межань 0,5—2,5 м у верхнім цячэнні, 10—12 м у сярэднім і ніжнім. Берагі пераважна стромкія, ніжэй в. Покаць Чачэрскага р-на месцамі абрывістыя, у верхнім цячэнні нізкія, забалочаныя. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над меженным узроўнем у ніжнім цячэнні 2,8 м. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у пачатку 3-й дэкады сакавіка. Рака прымае сцёк з шэрага меліярацыйных каналаў.

**ПО́ЛАЗНА,** возера ва Ушацкім р-не.

> **Пл. 0,15 км$^2$.**
> **Найбольшая глыбіня 32,5 м.**
> **Даўжыня 0,49 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,43 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**
> **Аб'ём вады 1,59 млн. м$^3$.**
> **Пл. вадазбору 0,5 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 21 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, за 2 км на ПдУ ад в. Царкавішча. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на Пн 3—5 м), парослі лесам. Берагі абрывістыя, пясчаныя. Дно да глыбіні 7—9 м пясчанае, ніжэй — сапрапелістае. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 3,5 м. Выцякае ручай у воз. Царкавішча.

**ПО́ЛУЧКА,** возера ў Расонскім р-не.

> **Пл. 0,03 км$^2$.**
> **Даўжыня 0,2 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,15 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 0,62 км.**

У бас. р. Дрыса, за 30 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Астрацэнкі. Схілы катлавіны вышынёй 5 м, разараныя.

**ПО́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны ка-



**Рака Покаць у ніжнім цячэнні вясн**

нал у Докшыцкім р-не, пр прыток р. Поня (бас. Дняпра). Д жыня 6,2 км. Пачынаецца за 4 км З ад в. Беразіно, упадае ў Понк 2,5 км на ПнЗ ад в. Пустаселле.

**ПО́НЯ,** рака ў Докшыцкім р-не, вы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняп

> **Даўжыня 44,9 км.**
> **Пл. вадазбору 503 км$^2$.**
> **Сярэднегадавы расход вады ў в 3,4 м$^3$/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,**

Пачынаецца на паўднёвай ускр в. Крыпулі, вусце ў межах в. Б спонне. Цячэ ў скразной даліне на Мінскага ўзвышша. Асноўны п ток — р. Варлынка (справа). Далі вярхоўі трапецападобная, шыр 1,5—2,5 км, на астатнім працягу выразная, пры ўпадзенні ў Бяр зліваецца з прылеглай мясцова Пойма асушаная, парэзаная гу сеткай меліярацыйных каналаў. чышча каналізаванае, шырынёй а да 30 м. Прымае сцёк з сеткі ліярацыйных каналаў.

**ПО́ПЛАВА,** рака ў Пружанскім правы прыток р. Ружанка (бас. мана). Даўжыня 9 км. Пачынаецц У ад в. Калазубы, упадае ў Руж за 2 км на ПдЗ ад в. Бярэзніца. вёсак Варанілавічы і Калазубы раны сажалкі (пл. адпаведна 0,06 і 0,2 км$^2$).

**ПО́ПЛАЎ,** рака ў Мінскім р-не, вы прыток р. Свіслач (бас. Дня

> **Даўжыня 13 км.**
> **Пл. вадазбору 47 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 3**

Пачынаецца каля ўсходняй ус ны в. Крылава, вусце ў межах слаўе. Цячэ па цэнтральнай ча Мінскага ўзвышша. Рэчышча ка завана на 5 участках на пр 3,7 км. Каля вытоку ракі сховішча Крылава.

**ПО́РАЎНА,** возера ва Ушацкім

> **Пл. 0,21 км$^2$.**
> **Даўжыня 0,62 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,43 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 1,72 км**
> **Пл. вадазбору 8,75 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 19 км на

г. п. Ушачы, за 2 км на ПдУ ад в. Пораўна. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам. Берагі нізкія.

**ПОРТКА,** П е р т к а, рака ў Старадарожскім р-не, левы прыток р. Нешчанка (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,9 км на ПдУ ад в. Рубежы, вусце за 3 км на У ад в. Вярхуціна. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,9 км каналізаванае.

**ПОЎСВІЖ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,41 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,3 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,48 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,5 км.**
**Аб'ём вады 1,35 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1,7 км$^2$.**

У бас. р. Эса, за 4 км на ПдУ ад г. Лепель, каля в. Вялікі Поўсвіж. Схілы катлавіны вышынёй 7—9 м (на ПнУ 15—20 м), разараныя, месцамі пад лугам, на ПдЗ невыразныя. Берагі парослыя водна-балотнай раслiннасцю і хмызняком. Уздоўж заходняга берага забалочаная пойма шырынёй да 70 м. 2 астравы агульнай пл. 0,2 га. Дно да глыбіні 3 м выслана пяскамі і апясчаненымі адкладамі, ніжэй — ілам. Зарастае слаба. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,5 м, падводная да глыбіні 2,2 м. Упадаюць 2 меліярацыйныя канавы.

**ПОЎЧЫН,** возера ў Жыткавіцкім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Даўжыня 1,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,15 км.**

На левабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 18 км на ПдЗ ад г. Жыткавічы, на Пд ад в. Поўчын. Старычнае. Берагі высокія, пясчаныя, пад хмызняком, на З забалочаныя.

**ПОЦЕХ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,35 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,1 м.**
**Даўжыня 2,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,95 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,72 км.**
**Аб'ём вады 4,52 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 28,6 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 10 км на ПнУ ад г. Браслаў, каля в. Слабодка. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, на Пн прадстаўлены камавымі ўзгоркамі, пераважна разараныя. Паўднёвыя схілы ўтварае пясчаная озавая града вышынёй 25—30 м, якая аддзяляе Поцех ад воз. Недрава. Дно да глыбіні 1,5 м пясчанае, месцамі гліністае. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,5 м, падводная да 2– 2,5 м. Злучана пратокай з воз. Недрава, упадае ручай з воз. Ільмёнак. Месца адпачынку, уваходзіць у турысцкія маршруты.


Рака Пона ў сярэднім цячэнні.

**ПРАБОЙНАЯ КАНАВА,** Г о р н а ў с к і к а н а л, меліярацыйны канал ва Ушацкім р-не, левы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Глінішча, упадае ў Чарніцу за 4 км на ПнЗ ад в. Зарубаўшчына Вялікадолецкага сельсавета.

**ПРАБОЙНАЯ КАНАВА,** рака, гл. *Віць.*

**ПРАБОЙНІЦА,** рака ва Ушацкім і Докшыцкім р-нах, левы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 57 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Касары Ушацкага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Адрубак Докшыцкага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ПРАВАБЯРЭЖНЫ ПРЫДАМБАВЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток р. Брагінка (Ніжняя Брагінка, бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Чыкалавічы, вусце за 5,5 км на Пд ад в. Гдзень.

**ПРАВАДЫ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,07 км$^2$.**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 23 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Правады і воз. Турасы. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад хмызняком, на Пн пад агародамі.

**ПРАВАЯ ЛЯСНАЯ,** рака ў Польшчы і Камянецкім р-не (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 63 км.**
**Пл. вадазбору 996 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца на тэрыторыі Польшчы. За 0,8 км на У ад в. Вугляны Камянецкага р-на зліваецца з р. Левая Лясная (утвараюць р. Лясная). Цячэ на Прыбугскай раўніне, перасякае тэрыторыю Белавежскай пушчы. Даўжыня ў межах Беларусі 30 км, пл. вадазбору каля 650 км$^2$. Даліна месцамі невыразная, у ніжнім цячэнні яе шырыня да 4 км. Пойма двухбаковая, пераважна ўвільготненая, у нізоўі забалочаная, шырынёй 200—400 м, бліжэй да вусця пашыраецца да 1 км. Рэчышча звілістае, свабодна меандруе, слабаразгалінава-



Возера Поўсвіж.



Возера Поцех.

нае, шырыня ў ніжнім цячэнні 20—25 м. Берагі адкрытыя або пад хмызняком, нізкія, пераважна забалочаныя. Замярзае ў канцы снежня, лёд трымаецца да сярэдзіны сакавіка. Найбольшы ўзровень веснавога разводдзя звычайна ў 2-й пал. сакавіка. Асноўныя прытокі: Белая (справа), Пераналока (злева).

**ПРАВОЖА,** рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток Лучкі (бас. Нёмана). Даўжыня 12 км. Пачынаецца каля в. Градаўшчына, упадае ў Лучку ва ўрочышчы Тракельшчына, за 1,6 км на ПдЗ ад в. Лялюшы. Рэчышча каналізаванае. Упадае р. Барташунка, прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ПРАЗЕРКА,** ручай у Дрыбінскім р-не, правы прыток ручая Шыпаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца каля в. Слабодка, вусце на паўночнай ускраіне в. Мураванка. Рэчышча на працягу 4 км (ад в. Мокрадзь да вусця) каналізаванае.

**ПРАЛОБНА,** возера на мяжы Расонскага р-на і Пскоўскай вобл.

**Пл. 0,87 км².**
**Даўжыня 1,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,93 км.**
**Пл. вадазбору 13,4 км².**

У бас. р. Дрыса, за 37 км на У ад г. п. Расоны, каля в. Уклеенка. Злучана пратокай з р. Дрыса.

**ПРАСВЯТА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 23 км на Пн ад г. Браслаў, за 3 км на ПнЗ ад в. Спрынды, сярод балоцістага масіву. Зарастае. Выцякае ручай Прасвята, упадае ручай з воз. Ільжа.

**ПРАСКАВЕЯ,** ручай у Лепельскім р-не, правы прыток р. Дзіва (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,5 км. Выцякае з воз. Вогзіна за 2 км на З ад в. Суша, вусце за 0,7 км на З ад в. Кугоні. Рэчышча каналізаванае.

**ПРАСКУРНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,65 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**
**Пл. вадазбору 1 км².**

У бас. р. Сосніца, за 50 км на ПнУ ад Полацка, за 6 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітнае. Схілы катлавіны вышынёй 4—8 м, парослі лесам.

**ПРАСТЫР,** заходняе адгалінаванне (рукаў) р. *Стыр.*

**ПРАТАСЕВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім і Асіповіцкім р-нах, левы прыток р. Сіняя (бас. Дняпра). Даўжыня 20 км. Пачынаецца з воз. Грамячае за 3 км на Пд ад в. Весялова Пухавіцкага р-на, упадае ў Сінюю на паўднёвай ускраіне г. Асіповічы.

**ПРАТОЧЧА,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Вілы каля чыгункі Бабруйск — Жлобін, упадае ў Алу за 1,7 км на Пд в. Коўрын.

**ПРОДЗВІНКА,** рака, гл. *Брожа.*

**ПРОМША,** рака ў Навагрудскім Дзятлаўскім р-нах, правы прыт Моўчадзі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 32 км.**
**Пл. вадазбору 74 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вус каля 0,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх 4,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,3 км на У ад в. В лікія Лезнявічы Навагрудскага р-н цячэ па схілах Навагрудскага ўзвыш ша, у нізоўі — пераважна сярод ле су і ўпадае ў Моўчадзь ва ўроч шчы Салтанскі лес на З ад в. Вус Дзятлаўскага р-на. Прымае сцёк з н вялікіх меліярацыйных каналаў. Д ліна пераважна трапецападобная шырынёй 0,3—0,7 км. Пойма двухб ковая, у верхнім цячэнні месца забалочаная, ніжэй сухая, адкрыта Рэчышча ад вытоку на працягу 7 к каналізаванае, ніжэй звілістае; я шырыня ад 3 м у вярхоўі да 9 у ніжнім цячэнні. Берагі парослі л сам і хмызняком.

**ПРОНЯ,** рака ў Віцебскай і Магілё скай абл., правы прыток р. Со (бас. Дняпра).

**Даўжыня 172 км.**
**Пл. вадазбору 4910 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вус 29,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх 0,5 ‰.**

Пачынаецца ў в. Ланенка Дубр венскага р-на, вусце на ўсходня ускраіне г. Слаўгарад. Цячэ пераваж



**Возера Поцех.**

на па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Асноўныя прытокі: Галыша, Бася, Раста (справа), Парасіца, Быстрая, Вербаўка, Кашанка (злева). Даліна добра распрацаваная, глыбокаўрэзаная, скрынкападобная, у вярхоўі невыразная; шырыня яе ад 0,4—0,6 км у верхнім цячэнні да 1—2 км у ніжнім. Схілы стромкія, нярэдка абрывістыя, (вышыня ад 3 м да 20 м), ніжэй вусця р. Бася трапляюцца невялікія тэрасы. Пойма роўная, двухбаковая, сухая, лугавая; шырыня яе 0,25—0,5 км, у вусці 0,8—1,2 км (на асобных участках звужаецца да 80 м), ніжэй вусця р. Быстрая пашыраецца да 3,8 км. У разводдзе затапляецца вадой на 10—40 сутак на глыбіню 0,4 м у верхнім цячэнні і 1,5—2,5 м у ніжнім. Рэчышча каналізаванае на працягу 19 км: ад вытоку да вусця р. Пнёўка (15 км) і ад паўднёвай ускраіны г. Горкі ўніз па цячэнню (4 км): на астатнім працягу звілістае, каля г. Горкі разгаліноўваецца на некалькі рукавоў. Шырыня ракі ў межань 15—20 м, у ніжнім цячэнні месцамі да 50 м. Берагі пераважна стромкія, абрывістыя, у верхнім цячэнні нізкія і забалочаныя, адкрытыя (вышыня 1—1,5 м, на асобных участках да 7 м). Найбольшы ўзровень разводдзя звычайна ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем ад 2,8 м у верхнім да 3,8 м у ніжнім цячэнні. Замярзае ў вярхоўі ў канцы лістапада, ніжэй — у 1-й дэкадзе снежня; крыгалом у канцы сакавіка — пачатку красавіка. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў. На рацэ гарады Горкі і Слаўгарад.

**ПРО́РВА,** рака ў Браслаўскім р-не, левы прыток р. Дрысвята (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 716 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Выцякае з воз. Дрысвяты каля в. Дрысвяты, цячэ праз азёры Ставок і Аболе, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад в. Абалікшты. Рэчышча слабазвілістае. Паміж азёрамі Ставок і Аболе на рацэ ў 1953 пабудавана міжкалгасная ГЭС «Дружба народаў» (выток р. Дрысвята з воз. Дрысвяты быў перагароджаны дамбай і ўвесь сцёк з басейна возера пайшоў па р. Прорва праз турбіны ГЭС).

**ПРО́РВА,** назва р. *Грыўчык* у верхнім цячэнні.

**ПРУД-ВЯРХО́ЎЕ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток р. Славечна (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца з р. Чэрцень каля в. Некрашоўка, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Новая Рудня.

**ПРУ́ДЗІЧ,** рака, гл. *Дунай.*

**ПРУДЗІ́ШЧА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Усвяча (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Жыльцы, вусце на ПдУ ад в. Новааляксандраўка. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,4 км каналізаванае.

**ПРУД-НІЗО́ЎЕ,** меліярацыйны канал у Ельскім і Нараўлянскім р-нах, левы прыток р. Славечна (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Новая Рудня Ельскага р-на, вусце каля в. Гажын Нараўлянскага р-на.

**ПРУДО́ВАЯ,** Г а т к а, рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 32 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Навіны, цячэ сярод лесу, упадае ў Нёман за 1,2 км на ПдЗ ад в. Сялец Лідскага р-на. Рэчышча ад вытоку да в. Багданка (1,8 км) каналізаванае.

**ПРУДОК,** рака ў Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Машоўка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 68 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Выцякае з сажалкі на паўднёвай ускраіне в. Паўленка, вусце ў межах в. Зацішша. Цячэ пераважна сярод лесу, у асобныя гады на большым працягу перасыхае.

**ПРУДО́К,** ручай у Шумілінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 63 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Падоры, вусце каля в. Убоіна. Рэчышча ад вытоку на працягу 8,7 км каналізаванае.

**ПРУДО́К,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток Вадападводзячага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Крышычы, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Прудок.



Рака **Поня** ў сярэднім цячэнні.

**ПРУДОК,** рака, гл. *Тур.*

**ПРУДОЎКА,** П р у с а ў к а, рака ў Буда-Кашалёўскім і Чачэрскім р-нах, левы прыток р. Ліпа (бас. Дняпра).

Даўжыня 18,5 км.
Пл. вадазбору 106 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Забалоцце Буда-Кашалёўскага р-на, вусце за 0,7 км на ПдУ ад в. Дудзічы Чачэрскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ПРУДОЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 0,8 км на Пн ад в. Пагонцы, упадае ў воз. Заліў Старык на пойме Бярэзіны за 2,5 км на ПнУ ад в. Прудок.

**ПРУДУНЕЛІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,14 км².
Даўжыня 0,55 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.

У бас. р. Дзісна за 36 км на ПдЗ ад г. Браслаў, каля в. Біцюны. Вакол возера невысокія (да 5 м) разараныя ўзгоркі. На Пн забалочаная пойма шырынёй да 300 м. Злучана ручаём з воз. Прутас.

**ПРУДЧЫНСКАЯ,** рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Чорная (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Стайкі, вусце на заходняй ускраіне в. Клюкаўка. Рэчышча ад вытоку на працягу 2 км каналізаванае.

**ПРУЖАНКА,** рака, гл. *Краснаўка.*

**ПРУСАЎ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хоцімскім р-не, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ, упадае ў Беседзь за 3,6 км на ПнЗ ад в. Князеўка.

**ПРУСАЎКА,** рака, гл. *Прудоўка.*

**ПРЫБАЛАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Прыбалавічы, вусце каля в. Мілашавічы. Прыток — канал Прыбалавічы (злева).

**ПРЫБАЛАВІЧЫ,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток Прыбалавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Прыбалавічы.

**ПРЫБОЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Сведзь (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПнЗ ад в. Баравікі, упадае ў Сведзь за 1,6 км на ПнЗ ад в. Селішчы.

**ПРЫДАМБАВЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток р. Бобрык 1-ы (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,6 км. Пачынаецца за 6,7 км на У ад в. Селішча, вусце за 10,5 км на Пд ад в. Вулька 1-я Лунінецкага р-на.

**ПРЫДАМБАВЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток Бор-Дубенецкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 3,8 км на ПнЗ ад в. Вялікія Арлы, вусце каля в. Ду... нец.

**ПРЫДАМБАВЫ 1-ы КАНАЛ,** ме... рацыйны канал у Жыткавіцкім р-... правы прыток канала Пасека (б... Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачы... ецца за 1,5 км на ПдЗ, вусце за 5 ... на ПдУ ад в. Кольна.

**ПРЫДАМБАВЫ 2-і КАНАЛ,** меля... цыйны канал у Жыткавіцкім р-не, ... вы прыток канала Пасека (бас. Пр... пяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца ... 2,5 км на У, вусце за 5 км на ПдУ ... в. Кольна.

**ПРЫКАРДОННАЯ КАНАВА,** мел... рацыйны канал у Жытомірскай во... і Лельчыцкім р-не, левы прыт... р. Крывы Рог (бас. Прыпяці). Даўж... ня 22 км, у т. л. на Беларусі 12 ... Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Х... чына Алеўскага р-на, вусце за 2,5 ... на У ад в. Глушкавічы Лельчы... кага р-на.

**ПРЫЛУЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйн... канал у Брэсцкім р-не, правы прыт... Зах. Буга. Даўжыня 12,5 км. Р... чышча канала (былы ручай без назв... пачынаецца ад скіднога канала ў па... ночнай частцы рыбгаса «Страдзеч... за 0,5 км на Пн ад сажалкі Кру... лая, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Пры... лукі.

**ПРЫПІЛІЯ,** рака ў Гродзенскім р-н... левы прыток Татаркі (бас. Нёмана... Даўжыня 8 км. Пачынаецца ка... дзяржаўнай граніцы з Польшчай на ... ад в. Навасёлкі, упадае ў Татарку ... 1,1 км на У ад в. Саннікі. Рэчышч... каналізаванае. Прымае сцёк з мелі... рацыйных каналаў.

**ПРЫПЛАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацый... ны канал у Глускім р-не, правы пры...



Рака Прыпяць каля горада Петрыкаў.

к р. Ліса (бас. Прыпяці). Даўжыня км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад Прываращче, вусце каля в. Прыпла- і.

**РЫПЯТКА,** рака ў Столінскім р-не, равы прыток р. Прыпяць. Даўжыня . км. Пл. вадазбору 49 км². Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Бродча, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Стаава. Цячэ па забалочанай мясцовасці. Рэчышча моцназвілістае. Прыток — р. Прысць (справа).

**РЫПЯЦЬ,** рака ў Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абласцях на Украіне, Брэсцкай і Гомельскай абласцях Беларусі, правы прыток Дняпра.

**Даўжыня 761 км.**
**Пл. вадазбору 121 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 450 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 69,5 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,1 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад . Гладзін Любомльскага р-на Валынкай вобл. на вышыні 168 м над узроўем мора, цячэ ўздоўж Прыпяцкай ніны на працягу 204 км па Украіне, 00 км па Беларусі і астатнія 57 км зноў па Украіне. Упадае з ПнУ у Кіеўкае вадасховішча. Асноўныя прытокі: Піна, Ясельда, Бобрык 1-ы, Цна, Лань, Случ, Бобрык 2-і, Пціч, Трэмля, па (злева, усе на тэрыторыі Беларусі), Турыя, Стаход, Весялуха (на тэрыторыі Украіны), Стыр, Гарынь, Сцвіга, Убарць, Славечна (справа). Даліна слабавыразная, шырынёй 70—5 км; каля Мазырскай грады трапецападобнай формы, звужаецца да км. Вылучаюцца пойма і 2 надпоймавыя тэрасы. Пойма развітая на ўсім працягу ракі; шырыня яе да воз. Любяж (Любязь, Валынская вобл.) 2—6 км, на Беларусі ў вусці Піны і Гарыні 16—18 км, ніжэй паміж в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на і вусцем Сцвігі 8—9 км, уздоўж Мазырскай грады да в. Барбароў Мазырскага р-на звужаецца да 1 км і далей пашыраецца да 9 км. Першая надпоймавая тэраса развіта на ўсім працягу, адсутнічае толькі каля Петрыкава і Мазыра. Шырыня яе 1—8 км, у месцах упадзення буйных прытокаў да 18 км. Шырыня 2-й тэрасы ад 200—500 м да 28 км. Рэчышча ў вярхоўі каналізаванае, на астатнім працягу звілістае, свабодна меандруе, шмат нізкіх пясчаных астравоў, старарэччаў, заліваў. Ніжэй вусця р. Турыя гідравузел, адкуль падаецца вада ў Белаазерскі канал для жыўлення Дняпроўска-Бугскага канала. Ніжэй гідравузла на невялікім працягу рэчышча месцамі перасыхае і ператвараецца ў азёрападобныя плёсы. Пераважная шырыня ракі ад вытоку да вусця р. Стаход 4—15 м, ніжэй па цячэнні 50—70 м, у нізоўі 100—250 м, пры ўпадзенні ў Кіеўскае вадасховішча 4—5 км. Да р. Бобрык 1-ы рэчышча Прыпяці нярэдка абвалаванае, у сярэднім цячэнні — прыродныя берагавыя валы (вышыня да 1,5 м). Асаблівасць гідралагічнага рэжыму ракі — расцягнутае веснавое разводдзе, кароткачасовая (100—120 сут.) летняя межань, якая парушаецца дажджавымі паводкамі і амаль штогоднімі асеннімі пад'ёмамі ўзроўню вады. На перыяд веснавога разводдзя прыпадае 60 %, летне-асеннюю межань 24 %, зімовую 16 % гадавога сцёку. Максімальныя ўзроўні вады ў 1-й палове красавіка. Вышыня пад'ёму ў верхнім цячэнні да 2 м, у сярэднім і ніжнім да 5 м, у межах вузкай поймы (каля Мазыра) да 7 м над самай нізкай меженню. Самыя нізкія ўзроўні звычайна ў верасні — кастрычніку. Замярзае амаль аднachасова на ўсім працягу звычайна ў першай палове снежня, ачышчаецца ад лёду ў канцы сакавіка. Веснавы ледаход 4—8 сут. Сярэднегадавы расход вады (м³/с) каля в. Кораб'е (Столінскі р-н, 310 км ад вытоку) 119, г. п. Тураў 264 і г. Мазыр 383; найбольшы адпаведна 1760 (1932), 3990 (1979), 5670 (1895); найменшы адпаведна 9,66 (1953), 38,6 (1954), 22 (1921). Вада ў рацэ гідракарбанатна-кальцыевага класа, умерана жорсткая, сярэдняй мінералізацыі. Водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась залаты, верхаводка, гусцяра; каштоўныя — судак, галавень, падуст, сом і іншш. Рака суднаходная на ўсёй тэрыторыі Беларусі, навігацыя на працягу 240—270 сут. Злучана Дняпроўска-Бугскім каналам з р. Мухавец (бас. Зах. Буга), Агінскім каналам (не дзейнічае) — з Нёманам, Мікашэвіцкім каналам — з рачным портам Мікашэвічы. На рацэ порты Пінск, Мазыр, прыстані Тураў, Петрыкаў, Нароўля, Чарнобыль (Украіна). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1986 г. басейн ніжняга цячэння Прыпяці быў забруджаны радыенуклідамі. На месцы, дзе пражыванне стала



**Порт Мазыр на Прыпяці.**

небяспечным для здароўя, насельніцтва эвакуіравана і створаны Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. У сярэднім цячэнні Прыпяці, на тэрыторыі Жыткавіцкага і Петрыкаўскага р-наў паблізу ракі знаходзіцца Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік.

**ПРЫ́РВА,** назва р. *Спанаўка* ў верхнім цячэнні.

**ПРЫСА́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Жорнаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Брыялёва, упадае ў Жорнаўку каля в. Пружанка.

**ПРЫСЕ́ЛА,** меліярацыйны канал у Драгічынскім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Млынок (бас. Зах. Буга). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнЗ ад в. Каты Драгічынскага р-на, вусце за 1,5 км на У ад в. Грушава Кобрынскага р-на.

**ПРЫСЁЛА,** канал Прысёла, канал Прысела, рака ў Драгічынскім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад в. Корсунь Драгічынскага р-на, вусце за 3 км на З ад в. Падзяменне Кобрынскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ПРЫСЁЛА,** назва р. *Млынок* у сярэднім цячэнні.

**ПРЫСУ́ХАЕ ВО́ЗЕРА,** ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,47 км.**

У бас. р. Альзініца, за 18 км на З ад г. п. Ушачы, за 0,8 км на З ад в. Чамярычына. Вакол возера забалочаны луг.

**ПРЫСЦЬ,** Плотніца, Плотніцкі канал, рака ў Столінскім р-не, правы прыток р. Прыпятка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Сіціцк, вусце за 2 км на Пн ад в. Плотніца. Рэчышча каналізаванае.




Возера Псуя.

**ПРЫТЫ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Вяжны, вусце за 2 км на Пн ад в. Дуброва.

**ПРЭНЦ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,22 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,1 м.**
**Даўжыня 0,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,19 км.**
**Аб'ём вады 0,23 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,42 км².**

У бас. р. Лужаснянка, за 22 км на У ад г. Гарадок, на З ад воз. Вымна. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на У і ПдУ 10—15 м), пясчаныя, параслі лесам. Берагі сплавінныя, шырыня сплавіны 2—7 м. Да ўрэзу вады расце хмызняк. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае. Выцякае ручай у р. Громаць.

**ПСУ́Я,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,65 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,5 м.**
**Даўжыня 2,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,9 км.**
**Аб'ём вады 2,81 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,6 км².**

У бас. р. Шоша, за 30 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Псуя. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, пераважна разараныя. Берагі нізкія, задзернаваныя, пад хмызняком. Дно сапрапелістае, у мелкаводнай зоне пясчанае. Зарастае слаба, найбольш моцна ў паўднёвым заліве. Выцякае ручай у воз. Доўтае.

**ПУДРЫ́ЧЫЦА,** рака, гл. *Студзёнка.*

**ПУЗЫНО́ЎЦЫ,** меліярацыйны канал у Шчучынскім р-не, правы прыток Ханявіцкага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца каля в. Прудцы, упадае ў Ханявіцкі канал за 3 км на ПдЗ ад в. Залесна.

**ПУ́ЛЬВА,** рака ў Польшчы і Камянецкім р-не, правы прыток Зах. Буга.

**Даўжыня 54 км (у т. л. на Беларусі 42 км).**
**Пл. вадазбору 535 км² (у т. л. на Беларусі 457 км²).**

Пачынаецца ў Польшчы, вусце за 2 км на Пд ад в. Ставы Камянецкага р-на. Цячэ па Прыбугскай раўніне, праз г. Высокае. Каналізавана 18 км рэчышча (ад моста каля в. Хмялі да мяжы з Польшчай). Асноўны прыток — Кацерка (справа).

**ПУСТАСЕ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, правы прыток р. Варлынка (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Пустаселле, упадае ў Варлынку за 1,2 км на ПдЗ ад в. Варлань.

**ПУСТО́Е ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Палата, за 46 км на Пн Полацка, за 3 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, за 0,3 км на ПнЗ ад в. Сітна, каля заходняга берага воз. Глыбокае. Схілы катлавіны стромкія, вышынёй да 15 м. Размешчана сярод лесу.

**ПУСТЫ́НКІ,** ручай у Сенненскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПнУ, упадае ў воз. Шчэбіна з ПдУ за 1,3 км на ПнЗ ад в. Пустынкі. Рэчышча ад вытоку на працягу 2 км каналізавана.

**ПУСЦЁНАК,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,09 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,2 км.**

У бас. р. Альзініца, за 18 км на З ад г. п. Ушачы, за 0,8 км на Пн ад в. Лісічына, сярод забалочанага лесу.

**ПУ́ХАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Цітаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Зацішша, упадае ў Цітаўку каля в. Пухавічы.

**ПУЦІ́СКА,** рака ў Шчучынскім р-не, правы прыток Нявішы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 104 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Табалічы, цячэ па паўночнай ускраіне Лідскай раўніны, упадае ў Нявішу на ПдУ ад в. Краснае. Асноўны прыток — Зеня пішка. На працягу 2,5 км на З ад в. Першамайская да в. Замасцяны цячэ па новым рэчышчы. Каналізаваная. Прымае сцёк са шматлікіх меліярацыйных каналаў.

**ПУ́ЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток р. Сярэдняя Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Пучын, упадае ў Сярэднюю Брагінку ў межах в. Цалуйкі.

**ПУЧЫ́НЫ,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Пучыны, вусце за 1,2 км на ПнУ ад в. Забараўцы.

**ПУ́ШНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,36 км².**
**Даўжыня 0,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,28 км.**
**Пл. вадазбору 4,5 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 12 км на ПдУ ад Полацка, каля в. Пушна, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя, на ПдУ вышынёй да 5 м. Берагі забалочаныя, участкамі сплавінныя. Выцякае р. Сомніца.

**ПУШЧАНКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток Дзвінасы (бас. Віліі). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Скарады, цячэ па Мінскім узвышшы пераважна сярод лесу, упадае ў Дзвінасу за 1,7 км на ПдУ ад в. Ляўданшчына.

**ПЦІЧ,** рака ў Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 421 км.**
**Пл. вадазбору 9470 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 49,7 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 176 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 295 м над узроўнем мора за 1 км на З ад в. Нарэйкі Дзяржынскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Багрымавічы Петрыкаўскага р-на. Верхняе цячэнне ў межах Мінскага ўзвышша, сярэдняе — на захадзе Цэнтральнабярэзінскай раўніны, ніжняе — на нізіне Прыпяцкае Палессе. Асноўныя прытокі: Шаць, Даколька, Арэса (справа), Нератоўка і Няслаўка (злева). Паводле будовы даліна і рэчышча падзяляюцца на 2 участкі: верхні (ад вытоку да в. Дараганава Асіповіцкага р-на, 203 км) і ніжні (ад в. Дараганава да вусця, 218 км). Даліна на ўсім працягу пераважна трапецападобная (шырыня ад 1,5 км да 5,5 км, у вытоку да 0,1 км), у нізоўі невыразная. Пойма двухбаковая, яе шырыня да в. Гарадзішча Мінскага р-на ад 60 м да 300 м, ніжэй 1—3 км, каля в. Пясчанка Асіповіцкага р-на да 5 км. Рэчышча свабодна меандруе, разгаліноўваецца пратокамі, якія ўтвараюць астравы. Яго шырыня ў верхнім цячэнні да вусця р. Асачанка (85 км ад вытоку) 5—10 м, ніжэй 20—45 м, у ніжнім цячэнні 45—70 м. Разводдзе ў канцы сакавіка, у верхнім цячэнні каля 40 сут, у ніжнім 84 сут. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над межанным узроўнем 1,4—3,2 м, найбольшая — 3,7 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у канцы сакавіка. У час веснавога разводдзя частка вады з Пцічы пераліваецца ў Свіслач праз Цітаўку і Трэмлю. Каля в. Лучыца Петрыкаўскага р-на (60 км ад вусця) найбольшы расход вады 800 м$^3$/с (1931), найменшы 5,76 м$^3$/с (1915). На рацэ Воўчкавіцкае вадасховішча (у вярхоўі); гарадскія пасёлкі Глуск і Капаткевічы.

**ПЦІЧ,** гл. *Воўчкавіцкае вадасховішча.*

**ПЧОЛКА,** рака ў Свіслацкім р-не і Польшчы, правы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 14 км. Пачынаецца каля в. Дабраволя Свіслацкага р-на, вусце на тэрыторыі Польшчы. Каналізавана 9,5 км рэчышча (ад вытоку да мяжы з Польшчай).

**ПШЫГУДКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Даўжыня 0,53 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**

У бас. р. Друйка за 13 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 0,7 км на З ад в. Марцінішкі, сярод лесу. Берагі ўчасткамі забалочаныя. Зарастае.

**ПЫРА,** рака ў Гродзенскім р-не, левы прыток Пыранкі (бас. Нёмана). Даўжыня 11 км. Пачынаецца сярод лесу за 3 км на ПнУ ад в. Лакно, упадае ў Пыранку на Пн ад в. Пыра. Ад вытоку на працягу 5 км каналізаваная. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ПЫРАНКА,** Хамутоўка, рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток р. Котры (бас. Нёмана).

**Даўжыня 44 км.**
**Пл. вадазбору 622 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,5 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца з воз. Малочнае, цячэ праз азёры Белае і Рыбніца, упадае ў Котру на Пд ад в. Гушчыцы. Ад вытоку да воз. Белае называецца Хамутоўка. Асноўны прыток — р. Бярвенка. Даліна ў сярэднім цячэнні невыразная, у верхнім і ніжнім трапецападобная (шырыня 200—300 м). Пойма ў верхнім цячэнні двухбаковая, шырыня 30—40 м, у ніжнім — пераважна правабярэжная. Азёрнасць басейна 2 % (найбольшыя азёры Вераўскае, Белае, Рыбніца, Кальніца, Зацкава, Антвозера). Рэчышча ў верхнім цячэнні звілістае (шырыня 3—4 м, месцамі да 10 м), на ўчастку ніжэй воз. Рыбніца да в. Пыра (3,2 км) каналізаванае.

**ПЫРШЧЫНА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,14 км$^2$.**
**Даўжыня 0,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,37 км.**



**Рака Пціч каля гарадскога пасёлка Капаткевічы Петрыкаўскага раёна.**

**Даўжыня берагавой лініі 1,4 км.**

У бас. р. Дабрылаўка, за 12 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Пыршчына. Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, пераважна пад сельгасугоддзямі, на Пн пад агародамі, на З часткова пад лугам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй ад 50 м на У да 150 м на Пд. На Пн злучана ручаем з воз. Восава.



Возера Пышна.




Возера Пышна.

**ПЫШНА,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,34 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,46 км.**
**Аб'ём вады 1,08 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 20,9 км$^2$.**

У бас. р. Зеха (выцякае з возера), за 14 км на ПнЗ ад г. Лепель, каля в. Пунішча. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м (на Пн і З 2—3 м), пераважна пад лесам. Берагі сплавінныя, на Пн і Пд участкамі пясчаныя, парослыя хмызняком. Пойма на ПдЗ і ПнУ шырынёй да 700 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно сапрапелістае, уздоўж берагоў — пясчанае. Зарастае амаль $^3/_4$ плошчы возера. Упадае ручай з воз. Доўгае, выцякае ручай у воз. Азерцы. Ёсць пасяленні баброў.

**ПЯКА́ЛІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Навозы, упадае ў старыцу Бярэзіны за 3 км на ПнУ ад г. п. Парычы.

**ПЯЛІ́К,** возера, гл. *Палік.*

**ПЯЛЬНІЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах, правы прыток Карсакаўскага канала (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Усаўцы Міёрскага р-на, вусце за 1 км на ПнУ ад х. Пішчалёўка Шаркоўшчынскага р-на.

**ПЯЛЯ́КА,** рака, гл. *Пеляка.*

**П'Я́НАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,77 км.**

У бас. р. Сосніца, за 28 км на ПнУ ад Полацка, за 1 км на З ад воз. Лешна. Схілы катлавіны спадзістыя, на З і У стромкія, вышынёй да 5 м.

**ПЯНТРЫ́ЩА,** Цэнтрыца, канал Пянтрыца, рака ў Бярэзінскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 47 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на ПдЗ ад в. Забалацце, вусце на ўсходняй ускраіне в. Чырвоны Бераг. Рэчышча ў вярхоўі каналізаванае.

**ПЯРВІШЧАНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,55 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,2 м.**
**Даўжыня 1,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,58 км.**
**Аб'ём вады 1,52 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 5,6 км$^2$.**

У бас. р. Лужасянка, за 6 км на Пд ад г. Гарадок, на У ад в. Малыя Стайкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на З і ПнУ 10—15 м), у заходняй частцы разараныя, ва ўсходняй парослі хмызняком. Берагі на Пн і У нізкія, увільготненыя, на З, часткова на Пн і Пд зліваюцца са схіламі. Каля заходняга берага невялікі востраў пл. 0,1 га. Дно ілістае і сапрапелістае, каля берагоў пясчанае. Зарастае каля 60 % плошчы возера. Выцякае ручай у воз. Лосвіда.

**ПЯРША́ЙКА,** рака ў Валожынскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 67 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 6,2 ‰.**

Пачынаецца за 2,3 км на З ад в. Шараі, цячэ па заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач каля в. Яцкава-Карчомныя. Прытокі — Баранаўка, Літанка. За 1 км на З ад в. Пяршаі на працягу 1,2 км уніз па цячэнню каналізаваная. У ніжнім цячэнні на левым беразе ад в. Пяршаі лясныя масівы, з правага боку прымае сцёк меліярацыйных каналаў.

**ПЯРЫ́ЛЬНАЕ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,06 км$^2$.**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,97 км.**

На забалочанай пойме р. Ушача, за 8 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Ільюшына. Схілы катлавіны невыразныя, берагі сплавінныя. Пратокай злучана з р. Ушача.

**ПЯРЭ́СПА,** ручай у Добрушскім р-не і Бранскай вобл. Расіі, левы прыток р. Ачоса (бас. Дняпра). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца ў Бранскай вобл. за 1 км на З ад в. Грыва, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Ачоса-Рудня Добрушскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ПЯСО́ЧАНКА,** рака ў Лоеўскім р-не, у бас. р. Дняпро.

**Даўжыня 36 км.**
**Пл. вадазбору 340 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Міхалёўка, упадае ў старычнае Лутаўскае возера на пойме Дняпра за 1 км на ПдУ ад в. Новае Лутава. Рэчышча каналізаванае.

**ПЯСО́ЧНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чэрвеньскім р-не.

**Пл. 0,24 км$^2$.**




Пярвішчанскае возера.

Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,48 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,86 км.

У бас. р. Бярэзіна, за 30 км на ПнУ ад г. Чэрвень, за 2,5 км на ПнЗ ад в. Рэчкі, у забалочаным меліяраваным паніжэнні. Схілы невыразныя, на Пд вышынёй да 10 м, пад лесам. Берагі забалочаныя, на Пд пясчаныя.

**ПЯСО́ЧНАЯ,** рака ў Карэліцкім р-не, левы прыток Міранкі (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на У ад в. Лемнікі, упадае ў Міранку за 1,2 км на ПнУ ад в. Трошчыцы. Ад вусця на працягу 3 км каналізаваная. У вярхоўі пойма забалочаная, у нізоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ПЯСО́ШАНЬКА,** рака ў Гомельскім р-не, правы прыток р. Цяруха (бас. Дняпра). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Антонаўка, вусце на заходняй ускраіне в. Шутаўка. Рэчышча каналізаванае на працягу 8 км (ад вытоку да чыгункі Чарнігаў — Гомель).

**ПЯСЧА́НАЕ ВО́ЗЕРА,** у Іванаўскім р-не.

Пл. 2,08 км².
Найбольшая глыбіня 5,7 м.
Даўжыня 2,4 км.
Найбольшая шырыня 1,8 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,7 км.

У бас. р. Піна, за 18 км на ПдЗ ад г. Іванава, каля в. Адрыжын. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м (на Пд да 7 м), пясчаныя, разараныя, на У забалочаныя, пад хмызняком. Берагі пясчаныя, усходнія — забалочаныя. Дно сапрапелістае. Востраў пл. 3 га. Упадае канава Кобельская, выцякае — Заазерская.

**ПЯСЧА́НКА,** рака ў Слаўгарадскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 126 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Кабіна Гара, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Рудня Васькавіцкага сельсавета. Рэчышча ад вытоку (1 км) і на працягу 12,5 км (усходняя ўскраіна в. Чырвоны Узыход — 1 км на ПдУ ад в. Рудня) каналізаванае.

**ПЯСЧА́НКА,** рака ў Акцябрскім і Светлагорскім р-нах, правы прыток р. Рудзянка (бас. Дняпра).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 41 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Слабодка Акцябрскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Пясчаная Рудня Светлагорскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ПЯСЧА́НКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Ловаць (бас. Нявы).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 58 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,8 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Паташня, вусце за 0,5 км на З ад в. Мяжа. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша.

**ПЯСЧА́НКА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток Вялікай Рэчкі (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 20 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца за 7 км на ПдЗ ад в. Цярошкі, вусце за 5 км на ПнЗ ад в. Палік Барысаўскага р-на. Рэчышча на працягу 7 км ад вытоку каналізаванае. Цячэ па Бярэзінскім біясферным запаведніку.

**ПЯСЧА́НКА,** возера ў Калінкавіцкім р-не.

Пл. 0,32 км².
Даўжыня 1,87 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,45 км.

У бас. р. Прыпяць, за 17 км на ПдУ ад г. Калінкавічы, каля в. Шарэйкі. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком. Берагі забалочаныя, парослі хмызняком, на Пд высокія, пясчаныя. Злучана ручаём з воз. Горкі, упадае меліярацыйная канава.

**ПЯТРО́ВІЦКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Смалявіцкім р-не.

Пл. 4,8 км².
Найбольшая глыбіня 8,2 м.
Даўжыня 11,5 км.
Найбольшая шырыня 2 км.
Аб'ём вады 15 млн. м³.
Пл. вадазбору 214 км².

На р. Волма (75,3 км ад вусця), за 15 км на У ад г. Смалявічы, каля в. Пятровічы. Створана ў 1978 для акумуляцыі вады ў час веснавога разводдзя ў мэтах абвадненння прылеглых сельгасугоддзяў, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню на працягу года 3,5 м.

**ПЯТРО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Пятровічы, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Раковічы.

**ПЯТРО́ЎКА,** Ахонаўка, рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Моўчадзі (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца на Пд ад в. Ахонава, цячэ сярод лесу, упадае ў Моўчадзь ва ўрочышчы Ахонаўскі Лес за 1,2 км на ПнЗ ад в. Баравікі. Ад вытоку на працягу 3,2 км каналізаваная.

**ПЯТРО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,66 км².
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 1,04 км.
Найбольшая шырыня 0,98 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,19 км.
Аб'ём вады 1,34 млн. м³.
Пл. вадазбору 76,7 м².

У бас. р. Дабрылаўка (цячэ праз



Пясчанае возера.



Пясчанае возера.



Пятровіцкае вадасховішча.

возера), за 15 км на ПнЗ ад г. Глыбокае, каля в. Пятроўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м (на ПнУ да 10 м), разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком, на Пд, ПнЗ і ПнУ абрывістыя. Дно плоскае, сапрапелістае, на Пн, У і Пд уздоўж берага ілістае.

**ПЯТУХОЎКА,** рака ў Карэліцкім р-не, левы прыток Сэрвачы (бас. Нёмана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на ўсходніх схілах Навагрудскага ўзвышша за 1 км на ПдУ ад в. Равіны, упадае ў Сэрвач на З ад в. Цырын. Ад вусця на працягу 2 км каналізаваная.

# Р

**РАБІНАЎКА,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 0,3 км на Пд ад в. Капавішча, упадае ў воз. Белае з У за 1 км на ПнУ ад в. Гендзікі.

**РАБІНКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Громаць (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 11,6 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдУ ад в. Ваўненкі, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Стыркі. Рэчышча ад вытоку на працягу 7,1 км каналізаванае.

**РАБУСКА,** к а н а в а Р а б у с к а, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток р. Ведрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Каростань, упадае ў Ведрыч за 3 км на Пн ад в. Рабуса.

**РАБУСКА ІЎНЯНСКАЯ,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток канала Іўня (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Каростань каля аўтадарогі Гомель — Калінкавічы, упадае ў канал Іўня за 2,5 км на ПдУ ад в. Прудзішча.

**РАБЯНКА,** к а н а л Р а б я н к а, рака ў Камянецкім р-не, левы прыток р. Крывуля (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля дамбы паміж вёскамі Агароднікі (Дзмітравіцкі сельсавет) і Праходы, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Жылічы. Дамба (па ёй пракладзена аўтадарога) з'яўляецца водападзелам паміж басейнамі р. Крывуля і Атоцкага канала. Рэчышча каналізаванае.

**РАБЯЦІНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Палата, за 12 км на Пн ад Полацка, каля в. Капавішча. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад выганам, на У параслі лесам. Праз возера цячэ канава Рабінаўка.

**РАВЕЙКІ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Чарняўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Хойнікі, вусце за 0,8 км на Пд ад в. Пясчанка Першамайскага сельсавета.

**РАВУЧАЕ ВОЗЕРА,** у Добрушскім р-не.

**Пл. 0,87 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,91 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,12 км.**
**Пл. вадазбору 25 км².**

У бас. р. Ачоса, за 22 км на ПнУ ад г. Добруш, каля п. Падравучае. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком, на Пн і У часткова разараныя. Дно сапрапелістае. Упадае некалькі меліярацыйных канаў, выцякае канава ў р. Ачоса.

**РАГАЗНЯНСКАЕ ВОЗЕРА,** З б у н і н с к а е в о з е р а, у Брэсцкім р-не.



Пятровіцкае вадасховішча.

$0{,}43$ км².
...ольшая глыбіня 5,8 м.
...кыня 1,1 км.
...ольшая шырыня 0,5 км.
...кыня берагавой лініі 3,3 км.
...м вады 0,85 млн. м³.
...вадазбору 3 км².

...с. р. Серадовая Рэчка, за 30 км ...ад Брэста, за 3,5 км на 3 ад ...озна. Уваходзіць у Брэсцкую ...азёр. Схілы катлавіны вышы... —4 м, параслі лесам, на Пн ...ера акаймавана дзюнамі. Берагі ...ія, на 3 сплавінныя. Дно плос... ...ыслана пясчанымі і ілістымі ...дамі, мелкаводдзе шырынёй да ... Зарастае ўздоўж берагоў. Злу... ...канавай з воз. Белае, выцякае ... у Серадовую Рэчку. На беразе ... санаторый «Бярэсце».

...А, меліярацыйны канал у Вілей... ...р-не, левы прыток Пануркі ...Вілії). Даўжыня 5,5 км. Пачына... ...за 1,8 км на ПнУ ад в. Зяно... ... упадае ў Панурку на 3 ад ...бада.

...ЖЫНКА, рака ў Клімавіцкім ...правы прыток р. Сасноўка (бас. ...ра).

...жыня 12 км.
...вадазбору 34 км².
...эдні нахіл воднай паверхні ...‰.

...ынаецца ў в. Нязнань, вусце за ... на У ад в. Царковішча. Рэчы... ...а працягу 8,5 км (ад вытоку да ...ішча) каналізаванае.

...ЖЫЦА, рака ў Сенненскім і ...іцкім (прывусцевая частка) ..., у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня ...м. Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ... Мар'янова Сенненскага р-на, ...не ў воз. Сцержань з Пд за ... на ПнУ ад в. Грыбіна Чашніц... ...-на. Рэчышча на працягу 5,2 км ..., вусцем каналізаванае.

...ЗНІЦА, рака, гл. *Юхнаўка.*

...ЎСКАЕ ВОЗЕРА, у Лепель... ...р-не.

... 0,16 км².
...ібольшая глыбіня 28,1 м.
...ўжыня 1,71 км.
...ібольшая шырыня 0,59 км.
...ўжыня берагавой лініі 4,37 км.
...ём вады 6,68 млн. м³.
... вадазбору 99,6 км².

...бас. р. Тураўлянка, за 30 км на ...ад г. Лепель, за 1 км на Пн ад ...рашкі. Схілы катлавіны на 3 ...ынёй 18—24 м (на Пн і ПнУ 9— ...), параслі хмызняком, на У і Пд ...ынёй 4—5 м, часткова разараныя. ...гі пераважна зліваюцца са схіла... ...на У нізкія, пясчаныя. Дно да ...ні 2—3 м пясчанае, да 5—7 м ...дамі да 10 м) выслана апясчане... ...адкладамі, ніжэй — ілам. Зара... ...надводнай расліннасцю да глы... ...1,7—2 м, падводнай — да 3—4 м. ...ае р. Лукомка, выток у воз. Аст...

...ОЎСКІ КАНАЛ, меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Рагі, упадае на Узу за 2 км на З ад в. Зялёны Сад.

**РАГОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Капыльскім р-не, левы прыток Амяльянаўскага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Баркаўцы, упадае ў Амяльянаўскі канал за 2,5 км на ПдУ ад в. Бор.

**РАДВАНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, правы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,9 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Антанова Маларыцкага р-на, вусце каля в. Вялікія Радваничы Брэсцкага р-на.

**РАДЗВІН,** ручай у Добрушскім р-не, левы прыток р. Уць (бас. Дняпра). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 3,3 км на ПнУ ад в. Займішча Гомельскага р-на, вусце на паўночнай ускраіне в. Гардуны. Рэчышча каналізаванае.

**РАДЗЕБКА,** Радомльва, рака ў Дрыбінскім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 9,6 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Пакуцце, вусце ў межах в. Дрыбін. Рэчышча на працягу 2,5 км (ад сажалкі на ўсходняй ускраіне Дрыбіна да вусця) каналізаванае.

**РАДЗІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім р-нах, правы прыток р. Несвіч (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца за 4,5 км на ПдУ ад в. Пагоннае Хойніцкага р-на, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Кулажын Брагінскага р-на. Цячэ ў зоне адсялення.

**РАДНІЦКІ КАНАЛ,** гл. *Захламлены канал.*

**РАДОМЛЬВА,** рака, гл. *Радзебка.*

**РАДУНЬКА,** рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток Дзітвы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 28 км.**
**Пл. вадазбору 169 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Павіланцы, цячэ па паўночнай ускраіне Лідскай раўніны, праз г. п. Радунь, упадае ў Дзітву на У ад в. Тальkунцы. Рэчышча ад вусця на працягу 25 км каналізаванае.

**РАДУЦІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток Шыхава-Гелінскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,8 км на Пн ад в. Радуцін каля аўтадарогі Стрэшын-Зломнае, упадае ў Шыхава-Гелінскі канал за 2,5 км на З ад в. Шыхаў.

**РАДУШСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, левы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Змяёўка, упадае ў Алу за 2,8 км на З ад в. Радуша.

**РАЖАВА,** ручай у Кіеўскай вобл. і Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 99 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Дзянісавічы Палескага р-на і на працягу 2,4 км цячэ па тэрыторыі Украіны, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Ражава Нараўлянскага р-на. Цячэ ў зоне адсялення.

**РАЖКОВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,4 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Росахі, вусце за 2,8 км на ПнУ ад в. Руднікі.



Рагазнянскае возера.



Рагазнянскае возера.

**РАЗА́НКА**, рака, гл. *Вязенская*.

**РАЗВАЖА́НКА**, Развαжчанка, Развазчанка, рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 35 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,2 ‰.**

Возера Рака.

Возера Рака.

Пачынаецца на схілах Навагрудскага ўзвышша за 1,7 км на ПдУ ад в. Аляксандравічы, ад в. Русакі да в. Ганчары цячэ сярод лесу, упадае ў Нёман за 0,6 км на Пн ад в. Ганчары. У сутоках з ручаём Барадзінка створана сажалка.

**РАЗВА́Н**, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,76 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,71 км.**
**Пл. вадазбору 20,6 км$^2$.**

У бас. р. Сечна, за 7 км на Пд ад г. п. Шуміліна, каля в. Нетаропы. Схілы катлавіны вышынёй 18—20 м, параслі хмызняком. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Злучана ручаём з воз. Віцір, выцякае ручай у воз. Лоскавічы.

**РАЗДЗЯЛА́ВІЧЫ**, вадасховішча ў Ганцавіцкім р-не.

**Пл. 1,98 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,9 м.**
**Даўжыня 1,63 км.**
**Найбольшая шырыня 1,25 км.**
**Даўжыня агараджальнай дамбы 5,38 км.**
**Аб'ём вады 9,43 млн. м$^3$.**

Наліўное. Створана ў 1983 за 23 км на ПдЗ ад г. Ганцавічы, каля в. Раздзялавічы для двухбаковага рэгулявання сцёку, арашэння зямель. Напаўняецца вадой з р. Бобрык 1-ы. Ваганні ўзроўню на працягу года каля 4 м. Сярэдні шматгадовы сцёк 33,7 млн. м$^3$.

**РАКА́**, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,83 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 17 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,76 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,3 км.**
**Аб'ём вады 4,87 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 116 км$^2$.**

У бас. р. Друйка, за 5 км на З ад г. Браслаў, каля в. Зарачча. Схілы катлавіны вышынёй да 18 м, параслі хмызняком, у верхняй частцы разараныя, усходнія і заходнія тэрасаваныя (вышыня 3—3,5 м). Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн нізкія, забалочаныя. Дно ілістае, у прыбярэжнай частцы пясчанае. Зарастае слаба. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй да 8 м. Упадаюць ручаі з азер Рожава, Бужа і Мізерышкі; выцякае р. Рака (злучае яго з воз. Дрывяты).

**РА́КАЎКА**, Высокабярэжны канал, рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Глініца (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Барсукі, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Высокі Бераг. Рэчышча на працягу 5 км (ад в. Максімаўка да вусця) каналізаванае.

**РАКІ́ТАЎКА**, Кветанка, рака ў Чашніцкім і Крупскім р-нах, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 119 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паве**
**0,9 ‰.**

Пачынаецца за 2,3 км на У в. Гара Чашніцкага р-на, упадае ў Сялява з У каля в. Калодніца Кр скага р-на. Рэчышча ад вытоку працягу 13,1 км каналізаванае.

**РАКІТНІЦКІ КАНА́Л**, меліярацы канал у Жабінкаўскім р-не, л прыток р. Асіпоўка (бас. Зах. Бу Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца за 1, на ПнЗ ад в. Задзерць, вусце за 2, на У ад в. Ракітніца.

**РАКУТУ́Н**, Рэкут, Рокут, ру у Рагачоўскім р-не, левы пры Дняпра.

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 112 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паве**
**1,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Ям Доўскага сельсавета, вусце за 1 км З ад в. Свержань. Рэчышча на п цягу 14 км (0,2 км ніжэй аўтадар Ямнае — Карма да аўтадарогі Ра чоў — Доўск) каналізаванае.

**РАКУ́ХА**, ручай у Веткаўскім р- правы прыток р. Зборхаў (бас. Дн ра). Даўжыня 4 км. Пачынаецца 2 км на Пн ад в. Малінаўка, ву на заходняй ускраіне в. Вялі Нямкі. Рэчышча на працягу 1,9 ад вытоку каналізаванае.

**РАКУ́ЦІНА**, возера ў Полацкім р-

**Пл. 0,014 км$^2$.**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,07 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55**

У бас. р. Нача, за 23 км на П ад г. Полацк, за 0,6 км на ПнЗ в. Мураўшчына (на Пн ад воз. І каньκі), сярод марэнных узгорк вышынёй 5—8 м, парослых хмы няком. Злучана ручаём з воз. І канькі. Па даліне ручая забалочан пойма.

**РАМА́ШКАВА ВО́ЗЕРА**, у Гарадо кім р-не.

**Пл. 0,17 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,1 м.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,23 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,38 к**
**Аб'ём вады 0,48 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3 км$^2$.**

У бас. р. Аўсянка, за 40 км на Пн ад г. Гарадок, каля в. Азёркі. Схіл катлавіны вышынёй 12—15 м ( Пн да 3 м, на Пд невыразны у ніжняй частцы параслі лесам хмызняком, у верхняй разаран Берагі пераважна нізкія, забалоч ныя, тарфяныя, на Пн часткова пя чаныя, параслі водна-балотнай ра ліннасцю і хмызняком. Дно на ме каводдзі пясчанае, глыбей сапра лістае. У возеры расце вадзяны арэ занесены ў рэспубліканскую Чырв ную кнігу (утварае паласу шырын каля 30 м да глыбіні 2,5 м).

**РАМЕ́ЛЬ-СЯМІГО́СЦІЦКІ КАНА́** гл. *Сямігосціцкі канал*.

...СЦВЯНКА, рака ў Мсціслаў- і Дрыбінскім р-нах, левы пры... Быстрая (бас. Дняпра).

...ўжыня 49 км.
... вадазбору 291 км$^2$.
...рэднегадавы расход вады ў вусці ... м$^3$/с.
...рэдні нахіл воднай паверхні ... ‰.

...чынаецца за 1,2 км на Пн ад ...аместава Мсціслаўскага р-на, ...е на паўночна-ўсходняй ускраіне ...Хледнявічы Дрыбінскага р-на. ...оўны прыток — р. Лядня (спра...). Цячэ па Горацка-Мсціслаўскай ...іне. Даліна выразная, трапеца...обная, шырынёй ад 0,2—0,5 км ...рхнім і сярэднім цячэнні да 1 км ...сцевай частцы. Пойма ад вытоку ...в. Пацкава Мсціслаўскага р-на ...ая, далей да в. Курманава Мсці...ўскага р-на і ад вусця Лядні да ...я Рамясцвянкі забалочаная, чар...уецца па берагах, зарасла лугавой ...іннасцю і хмызняком. Рэчышча ...істае, у вытоку перасыхае; шыры...ракі ў межань да 15 м. Берагі ...ія, месцамі абрывістыя або заба...аныя.

...ДОЎКА, канал Рандоўка, ...а ў Гомельскім р-не, правы пры... р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня ...км. Пачынаецца на паўночна-за...дняй ускраіне Гомеля за 1,1 км ... ПдУ ад перасячэння чыгункі ...ель — Жлобін, вусце ў межах ...Прыбор. Рэчышча каналізаванае.

...ПСІНАК, возера ў Шаркоўшчын...м р-не.

...л. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,24 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,6 км.

У бас. р. Паловіца, за 14 км на У ... г. п. Шаркоўшчына, каля х. Ба...ы. Схілы катлавіны вышынёй 3 м, ...заранья. Пойма шырынёй да 50 м, ... лугам.

...ПУСА, рака ў Дзяржынскім р-не, ...вы прыток Усы (бас. Нёмана).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 54 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Янавічы, ...адае ва Усу на З ад в. Каменка. ...чышча каналізаванае на працягу ...3 км (ад в. Лапцавічы да вусця). ...аля в. Станькава створана сажалка ...л. 0,02 км$^2$).

...АСА, рака, гл. *Арэса.*

...АСАЛАЙ, возера ў Шумілінскім ...-не.

Пл. 0,69 км$^2$.
Даўжыня 1,6 км.
Найбольшая шырыня 0,58 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,66 км.
Пл. вадазбору 4,13 км$^2$.

У бас. р. Обаль, за 25 км на ПнЗ ...д г. п. Шуміліна, за 1 км на З ад ... Расалай, на паўночнай ускраіне ...алота Обаль-2. Схілы катлавіны не-выразныя. Берагі забалочаныя. Дно сапрапелістае. Выцякае р. Глыбачка.

**РАСАМАХА,** рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Сянна (бас. Дняпра).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 36 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Мануйлы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Касцюкоўка.

**РАСАМАЧЫНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,48 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,2 м.
Даўжыня 2,01 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,76 км.
Аб'ём вады 2,01 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 4,17 км$^2$.

У бас. р. Нешчарда, за 10 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 2 км на ПнУ ад в. Даўтабор'е. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, на Пн участкамі невыразныя, параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пн тарфяныя, на З і Пд зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае, у паўночна-заходнім заліве сапрапелістае. Зарастае слаба. Выцякае ручай у р. Нешчарда.

**РАСАСЕНКА,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток р. Дняпро.

Даўжыня 43 км.
Пл. вадазбору 271 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 1,7 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Пішчыкі, вусце на паўночнай ускраіне в. Расосна. Асноўны прыток — р. Перавалочка (справа). Цячэ па заходніх схілах Смаленскага ўзвышша. Даліна трапецападобная, шырынёй 1—2 км. Пойма двухбаковая або чаргуецца па берагах, вузкая, шырыня яе месцамі да 100 м. Рэчышча ў вярхоўі на працягу 2,4 км каналізаванае, на астатнім працягу звілістае, шырынёй 5—7 м, у ніжнім цячэнні да 10 м. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**РАСНА,** возера на мяжы Полацкага і Ушацкага р-наў.

Пл. 0,4 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,1 м.
Даўжыня 0,88 км.
Найбольшая шырыня 0,66 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.
Аб'ём вады 0,59 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5,7 км$^2$.

У бас. р. Ушача, за 12 км на Пн ад г. п. Ушачы, каля в. Шандзялы. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на У і ПдУ — 6—9 м), пад хмызняком, на У разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, на З і Пн сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае. Мелкаводдзе на ПнУ, У і ПдУ да глыбіні 1 м пясчанае. Поўнасцю зарастае. Упадае ручай з воз. Астроўна, выцякае ручай у воз. Салонец. У возеры жывуць бабры.

**РАСНА,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,004 км$^2$.
Даўжыня 0,07 км.
Найбольшая шырыня 0,05 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,15 км.

У бас. р. Дрыса, за 23 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 4 км на ПдЗ ад в. Рудня (Дворышчанскі сельсавет).




Рамашкава возера.




Расамачынскае возера.



Расамачынскае возера.




Возера Расона.

сярод балотнага масіву. Схілы катлавіны невыразныя. Праз ручай злучана з р. Марынец.

**РАСО́НА,** Расонскае возера, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 2,38 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,3 м.**
**Даўжыня 2,37 км.**
**Найбольшая шырыня 1,73 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,42 км.**
**Аб'ём вады 4,93 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 30,8 км$^2$.**

У бас. р. Нешчарда, на паўднёва-заходняй ускраіне г. п. Расоны. Схілы катлавіны вышынёй 2—6 м, участкамі да 1 м, разараныя, на ПдЗ пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на ПнЗ і Пн месцамі сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае, у прыбярэжнай частцы пясчанае. У цэнтры возера востраў пл. 1 га. Моцна зарастае. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,8 м, падводная — 3 м. Упадаюць 4 ручаі, выцякае р. Расонка.

**РАСО́НКА,** Расона, рака ў Расонскім р-не, правы прыток р. Нешчарда (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 80 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,77 ‰.**

Выцякае з воз. Расона за 1,8 км на ПдЗ ад г. п. Расоны, вусце за 0,6 км на ПнЗ ад в. Даўгабор'е. Рэчышча каналізаванае.

**РАСО́ХІ,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,16 км$^2$.**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,86 км.**
**Пл. вадазбору 0,75 км$^2$.**

У бас. р. Мядзелка, за 10 км на Пн ад г. п. Мядзел, каля в. Расохі. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на З да 15 м), парослі хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. Злучана пратокай з воз. Ходасы.

**РАСО́ШСКАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, правы прыток Страявога канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ляхавічы, вусце за 3 км на Пд ад в. Семянча.

**РАСТА́,** рака ў Магілёўскай вобл., правы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 100 км.**
**Пл. вадазбору 1290 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Аляксандраўка Шклоўскага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Харанеў Слаўгарадскага р-на. Асноўныя прытокі: Рудзея, Будлянка, Хоцінка (справа), Плясна, Вілейка (злева). Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Даліна добра распрацаваная, глыбокаўрэзаная, трапецападобная, пераважная шырыня 0,6—1 км. Схілы спадзістыя і ўмера-



Рачунскае вадасховішча.

на стромкія, часам стромкія, вы… нёй 10—15 м. Пойма двухбако… слабазабалочаная. Паверхня яе… вярхоўі роўная, у сярэднім цяч… куп'істая, у ніжнім узгорыстая, … рэзаная меліярацыйнымі канал… (шырыня 0,3—0,4 км). У развод… затапляецца на глыбіню 0,5—1,… на 5—10 сутак. Рэчышча свабо… меандруе, умерана звілістае, ні… в. Харкаўка Чавускага р-на трап… юцца невялікія астравы. Берагі стр… кія, месцамі абрывістыя, вышы… 0,8—1,5 м. Найвышэйшы ўзров… разводдзя ў пачатку красавіка, сяр… няя вышыня над межанным узр… нем ад 2,3 м у верхнім цячэ… да 3,2 м у ніжнім. Замярзае ў пач… ку снежня, крыгалом у канцы са… віка. Веснавы ледаход у сярэд… 5 сут.

**РАТАГО́Л,** рака ў Смаргонскім р-… правы прыток Сікункі (бас. Ві…

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 29 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай павер… 1,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Карані, … в. Смалярня цячэ сярод лесу, упад… ў Сікунку за 1 км на ПдУ ад в. Ра… ны. Рэчышча каналізаванае.

**РА́ТАМКА,** рака ў Мінскім р-… у бас. Дняпра.

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 47 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай павер… 5,3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Н… васелле, упадае ў Ратамскі за… Заслаўскага вадасховішча за 1 км… У ад чыг. ст. Крыжоўка. Рэчыш… на працягу 4,2 км каналізавана… 1,5 км на ПдЗ ад в. Падгор'е — чыг… начны мост на дарозе Мінск — М… ладзечна (3,5 км); 0,7 км ад моста… дарозе Мінск — Заслаўе — вусце.

**РАТЫ́НЦА,** рака ў Валожынскім р-… левы прыток р. Іслач (бас. Нёман… Даўжыня 8 км. Пачынаецца на … ад в. Тэкляполле, цячэ ў межах Мі… скага ўзвышша, упадае ў Іслач … 1,5 км на ПнЗ ад в. Пярэжары.

**РАЎКЕ́ТА,** Раўкота, рака ў Літ… і Браслаўскім р-не, левы прыто… р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**ўжыня 16 км.**
**дазбор 87 км².**
**рэдні нахіл воднай паверхні ‰.**

ычынаецца на У ад в. Пацюнай інскага р-на Літвы, вусце за на З ад в. Германоўшчына Браскага р-на. Даўжыня ў межах русі 9 км. Рэчышча на працягу км у ніжнім цячэнні каналізае.

**КЕТА,** возера ў Браслаўскім р-не, жы з Літвой.

**0,25 км².**
**ўжыня 0,73 км.**
**йбольшая шырыня 0,55 км.**
**ўжыня берагавой лініі 2,05 км.**

бас. р. Дзісна, за 39 км на ПдЗ Браслаў, каля в. Эйцмяны. Схіатлавіны вышынёй 5—7 м (на да 2 м), разараныя, часткова пад зняком. Сцёк у р. Раўкета.

**КО́ТА,** рака, гл. *Раўкета.*

**ЮЎКА,** рака ў Валожынскім р-не, прыток Валожынкі (бас. Нёма-. Даўжыня 8 км. Пачынаецца за на ПнЗ ад в. Белакорац, упадае аложынку за 2 км на ПнУ ад оркі.

**ЧУНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у ргонскім р-не.

**л. 1,5 км².**
**йбольшая глыбіня 4,4 м.**
**аўжыня 6,9 км.**
**йбольшая шырыня 0,81 км.**
**аўжыня берагавой лініі 13,8 км.**
**б'ём вады 2,3 млн. м³.**
**рэдні шматгадовы сцёк 184,5 млн. м³.**
**л. вадазбору 840 км².**

а р. Ашмянка (36 км ад вусця), за 13 км на ПнЗ ад г. Смаргонь, каля в. Рачуны. Створана ў 1959 для энергетычных мэт (працавала Рачунская ГЭС), скарыстоўваецца для рыбагадоўлі. Катлавіна складаецца з двух заліваў. Берагі пераважна высокія. У паўднёвай частцы вадасховішча востраў пл. 0,1 км². Зарастае. Ваганні ўзроўню на працягу года нязначныя. На беразе вадасховішча Дом рыбака, лодачная станцыя.

**РДЗІ́ЦА,** Р о і ц а, рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 102 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Нярaж, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Тайманава. Цячэ пераважна па забалочанай пойме Дняпра. На ўсходняй ускраіне в. Нярaж на рацэ плаціна і сажалка (пл. 16,5 га).

**РЖА́ВЕЦ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Востраў, упадае ў Сож за 5 км на ПдУ ад в. Пакалюбічы.

**РЖА́ЎКА,** рака ў Рагачоўскім і Жлобінскім р-нах, левы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 43 км.**
**Пл. вадазбору 396 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,7 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Рыскова Рагачоўскага р-на, вусце за 2 км на У ад г. Жлобін. Асноўны прыток — р. Ржача (злева). Цячэ па




1 — р. Расоняка

**Возера Расона.**




**Рачунскае вадасховішча.**

**а Раста каля вёскі Астравы Чавускага раёна.**

Прыдняпроўскай нізіне. Даліна на вялікім працягу трапецападобная (пераважная шырыня 1—2 км), у нізоўі невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма ў асноўным асушаная, у ніжнім цячэнні на працягу 8—10 км шырокая, лугавая, зліваецца з поймай Дняпра. Рэчышча на працягу 35 км (ад вытоку да в. Асінаўка Жлобінскага р-на) каналізаванае, пераважная яго шырыня 8—10 м, у вярхоўі да 2 м.

**РЖАЎКА,** Беліца, рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Будлянка (бас. Дняпра).

> Даўжыня 20,4 км.
> Пл. вадазбору 108 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад [illegible] на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Сутокі. Рэчышча на працягу 19 км (акрамя невялікіх участкаў у вытоку і каля вусця) каналізаванае.

**РЖАЎКА,** ручай у Асіповіцкім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Ставішча, вусце за 1,3 км на У ад в. Слопішча. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,7 км каналізаванае.

**РЖАЎКА,** рака ў Рагачоўскім і Кармянскім р-нах, правы прыток р. Добрыч (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Стары Крыўск Рагачоўскага р-на, вусце ў межах в. Хізаў Кармянскага р-на. Рэчышча на працягу 4,5 км ад вытоку каналізаванае.

**РЖАЧА,** рака ў Жлобінскім і Рагачоўскім р-нах, левы прыток р. Ржаўка (бас. Дняпра).

> Даўжыня 16,1 км.
> Пл. вадазбору 62 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Селіванаўка Жлобінскага р-на, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Ветачка Рагачоўскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**РОВА,** рака ў Смалявіцкім і Барысаўскім р-нах, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

> Даўжыня 29 км.
> Пл. вадазбору 245 км².
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца за 5 км на З ад р. п. Зялены Бор Смалявіцкага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Навасёлкі Барысаўскага р-на. Рэчышча на трох участках каналізаванае: выток — 2,2 км на У ад Зялёнага Бору (8,0 км); паўднёвая ўскраіна в. Слабодка Барысаўскага р-на — 0,3 км вышэй вусця р. Чарніца (2 км); в. Краснае Барысаўскага р-на — вусце (9 км).

**РОВЕЦКАЯ КАНАВА,** гл. *Зуброўскі канал*.

**РОГАВА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

> Пл. 0,13 км².
> Даўжыня 0,56 км.
> Найбольшая шырыня 0,35 км.
> Даўжыня берагавой лініі 1,43 км.
> Пл. вадазбору 3 км².

У бас. р. Лужаснянка, за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2,5 км на ПнУ ад в. Казловічы, сярод лесу.

**РОДАМЛЯ,** возера ў Крупскім р-не.

> Пл. 0,42 км².
> Даўжыня 1,38 км.
> Найбольшая шырыня 0,32 км.
> Даўжыня берагавой лініі 2,95 км.

У бас. р. Лукомка, за 33 км на Пн ад г. п. Крупкі, за 1,2 км на Пн ад в. Малыя Хальнявічы. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, парослі хмызняком, на У на невялікім участку разараныя. Дно сапрапелістае. Выцякае ручай у р. Югна.

**РОЖАВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

> Пл. 0,51 км².
> Найбольшая глыбіня 9,4 м.
> Даўжыня 1,1 км.
> Найбольшая шырыня 0,73 км.
> Даўжыня берагавой лініі 3,15 км.
> Аб'ём вады 2,95 млн. м³.
> Пл. вадазбору 3,3 км².

У бас. р. Друйка, за 8 км на Пд ад г. Браслаў, каля в. Рожава. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, на З, Пн і У абразійныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пд і ПдУ нізкія. Дно ў прыбярэжнай зоне пясчанае, астатняя частка выслана ілам. Зарастае слаба. Падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4—4,5 м. Выцякае ручай у воз. Рака.

**РОЗА ЛЮКСЕМБУРГ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток канала Пруд-Нізоўе (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 2 км на Пн, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Роза Люксембург. Прыток — Вадаскідны канал.

**РОІЦА,** рака, гл. *Рдзіца*.

**РОКУТ,** ручай, гл. *Ракатун*.

**РОПНА,** возера ў Полацкім р-не.

> Пл. 0,15 км².
> Даўжыня 0,88 км.
> Найбольшая шырыня 0,25 км.
> Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 6 км на ПнЗ ад Полацка, на ПнУ ад в. Ропна. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, парослі хмызняком, на Пн у верхняй частцы разараныя.

**РОС,** рака, гл. *Рось*.

**РОСА,** рака, гл. *Рось*.

**РОСІЦА,** рака ў Латвіі і Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

> Даўжыня 51 км.
> Пл. вадазбору 279 км².
> Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,9 м³/с.
> Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Пустыня Браслаўскага р-на ў Латвіі, вусце на мяжы з Латвіяй за 0,7 км на З ад в. Новае Сяло Верхнядзвінскага р-на. Цячэ ў межах Латгальскага ўзвышша. Даўжыня ў межах Беларусі 36 км, пл. вадазбору каля 150 км². Асноўныя прытокі — ручаі Бярозаўка (злева) і Росіца (справа). Даліна трапецападобная, яе шырыня 150—200 м, найбольшая — 1 км (каля в. Данькі Верхнядзвінскага р-на), найменшая — 40 м (ніжэй воз. Чорнае). Пойма чаргу-




**Возера Рожава.**


...ака **Рось** каля гарадскога пасёлка ...ось Ваўкавыскага раёна.

...цца па берагах (шырыня 20—70 м), ...аля в. Данькі двухбаковая (шырыня ...0 м), у вусцевай частцы адсутнічае. ...эчышча на тэрыторыі Латвіі і 1 км ...а Беларусі каналізаванае, далей ...мерана звілістае.

**РО́СІЦА,** ручай у Латвіі і Верхня...дзвінскім р-не, правы прыток р. Ро...сіца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня ...5,5 км, у т. л. на Беларусі 2,5 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад п. Акцябрскі Краслаўскага р-на ў Латвіі, вусце за 0,6 км на З ад в. Ворзава Верхнядзвінскага р-на. Рэчышча каналізаванае ад мяжы з Латвіяй да вусця.

**РО́СІЦА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Даўжыня 2,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,43 км.**
**Пл. вадазбору 46,9 км².**

У бас. р. Росіца, за 9 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Росіца. Схілы катлавіны вышынёй 12—13 м, параслі хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Упадаюць 3 ручаі, выцякае ручай у р. Росіца.

**РО́СЬ,** Р о с, Р о с а, рака ў Гродзенскай вобл., левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 99 км.**
**Пл. вадазбору 1250 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца ў забалочанай мясцовасці за 2 км на З ад в. Лозы Свіслацкага р-на, цячэ ў межах Ваўкавыскага ўзвышша, праз г. Ваўкавыск і гарадскія пасёлкі Поразава, Краснасельскі, Рось. Упадае ў Нёман за 1,8 км на ПдУ ад в. Дубна Мастоўскага р-на. Асноўныя прытокі: Харужаўка, Ваўкавыя, Плішча (справа), Свянціца, Нятупа, Вехатнянка, Ваўпянка (злева). Даліна трапецападобная (шырыня 1 км у вярхоўі да 2,5 км у ніжнім цячэнні), перасечаная глыбокаўрэзанымі далінамі прытокаў і ярамі. Пойма паміж вёскамі Зарачаны і Падрось Ваўкавыскага р-на адсутнічае, на астатнім працягу двухбаковая, забалочаная, парасла хмызняком, у вусцевай частцы высокая, сухая (шырыня 400—600 м). Рэчышча на працягу 3 км ад вытоку каналізаванае, ніжэй звілістае. Каля в. Лічыцы і г. п. Краснасельскі падзяляецца на 2 рукавы, якія ўтвараюць астравы (даўжынёй 1,5 км і 3,5 км). У маляўнічай мясціне ніжэй упадзення р. Ваўпянка створана Воўпаўскае вадасховішча. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у пачатку сакавіка.

**РО́ЎБІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Цісаўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Хвалава, вусце за 4,6 км на ПдЗ ад в. Роўбіцк.

**РО́ЎКАВІЦКІ КАНА́Л,** гл. *Любіча.*

**РУ́БАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,76 км.**
**Пл. вадазбору 7,5 км².**

У бас. р. Крывінка, за 19 км на ПнЗ ад г. Сянно, за 1 км на ПнУ ад в. Запруддзе, сярод забалочанага хмызняку. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, участкамі разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя.

**РУБЕ́ЖАЎСКІ КАНА́Л,** рака, гл. *Сліўка.*

**РУБЕ́ЖКА,** рака, гл. *Лукавая.*

**РУБЕ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Гарынь (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,1 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Хотамель, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Рубель.

**РУ́БРЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім і Столінскім р-нах, правы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці). Даўжыня 19 км. Пачынаецца каля в. Букча Лельчыцкага р-на, вусце за 16 км на ПнЗ ад той жа вёскі. Ніжняе цячэнне ракі на тэрыторыі Столінскага р-на. Прыток — р. Трудзеж. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**РУБЯЖНІ́ЦА,** рака ў Лёзненскім р-не, левы прыток р. Мошна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 45,5 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,48 ‰.**

Пачынаецца за 0,6 км на ПдЗ ад в. Шляхава, вусце за 0,8 км на Пн ад г. п. Лёзна.

**РУДАБЕ́ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, правы прыток р. Нератоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Млын, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад г. п. Акцябрскі.

**РУДАВЕ́Ц,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,6 м.**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,04 км.**
**Аб'ём вады 0,28 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,3 км².**

У бас. р. Дружнянка (выцякае з возера), за 16 км на ПдУ ад г. Браслаў, на Пд ад в. Рукшы. Схілы катлавіны вышынёй 5—9 м (на З і У 3—4 м), пераважна разараныя, на З і У пад лесам. Берагі сплавінныя. Пойма шырынёй 100—500 м, пераўвільготненая, парослая хмызняком. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае слаба. Упадаюць 3 ручаі.

**РУДА́КІС,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Друйка, за 10 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 0,5 км на ПнУ ад в. Кумпіні (за 0,5 км на ПнУ ад воз. Даўблі). Схілы катлавіны вышынёй да 7 м, часткова разараныя. На З і У забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. Упадае ручай з возера без назвы, выцякае ручай у р. Акунеўка.

**РУДАКО́ВА,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Найбольшая глыбіня 28,6 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,56 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,01 км.**
**Аб'ём вады 2,72 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,16 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 4 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, за 2 км на З ад в. Баяры. Схілы катлавіны на У і Пн вышынёй 18—20 м (на Пн і З да 8 м), параслі хмызняком, на Пн часткова разараныя. Берагі на У і Пн зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдУ нізкія. Мелкаводдзе пясчанае, глыбакаводная зона ілістая. Вада вызначаецца вельмі высокай празрыстасцю. Падводная расліннасць пашырана да глы-



Возера **Рудакова.**



Возера Рудзіца.

біні 9—13 м. Уваходзіць у біялагічны заказнік Рудакова.

**РУДАКОЎКА**, рака, гл. *Каргаўшчына*.

**РУДАЎКА**, рака ў Свіслацкім р-не, правы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 138 км$^2$.

Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Бойкавічы, вусце за 1 км на З ад в. Рудня Дабравольскага сельсавета. Каналізавана 7 км рэчышча ад вытоку. У верхнім цячэнні называецца Ломаўка.

**РУДАЎКА**, рака ў Лагойскім р-не, правы прыток Дзвінасы (бас. Віліі).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 16 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 7,4 ‰.

Пачынаецца за 1,3 км на ПдЗ ад в. Замошша, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, участкамі сярод лесу, упадае ў Плешчаніцкае вадасховішча на Дзвінасе за 1,5 км на З ад в. Слабада. Каля в. Бурыя на пойме створана сажалка (пл. 0,18 км$^2$).

**РУДАЎКА**, рака ў Свіслацкім р-не, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Ятвязь, упадае ў Свіслач на З ад г. п. Свіслач. Рэчышча каналізаванае.

**РУДАЎКА**, ручай у Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Жацераўкі (бас. Нёмана). Даўжыня 3,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Халаімаўшчына, упадае ў Жацераўку на З ад в. Мархачоўшчына. Рэчышча на працягу 1 км перад вусцем каналізаванае.

**РУДЗЕНКА**, рака ў Жлобінскім і Буда-Кашалёўскім р-нах, левы прыток р. Окра (бас. Дняпра).

Даўжыня 15,8 км.
Пл. вадазбору 142 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Перамога Буда-Кашалёўскага р-на, вусце за 0,6 км на ПнЗ ад в. Асінавіца Жлобінскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**РУДЗЕНСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток канала Ізбынька (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачынаецца каля в. Партызанская, вусце за 5 км на ПнУ ад в. Хвойнае.

**РУДЗЕНСКІ 1-ы КАНАЛ**, Слабада-Варонічы, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Варонічы.

**РУДЗЕНСКІ 2-і КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад г. п. Рудзенск, вусце за 1,5 км на З ад в. Цытва.

**РУДЗЕНЬКІЯ**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.

У бас. р. Палата, за 47 км на ПнУ ад Полацка, за 3,4 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, сярод балот.

**РУДЗЕЯ**, Рудзейка, рака ў Магілёўскім і Чавускім р-нах, правы прыток р. Раста (бас. Дняпра).

Даўжыня 40 км.
Пл. вадазбору 318 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Макоўня Магілёўскага р-на, вусце ў межах в. Цемналессе Чавускага р-на. Асноўны прыток — р. Чарняўка (справа). Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Даліна трапецападобная, шырынёй 0,2—0,5 км, у асобных месцах да 1 км. Пойма перарывістая, чаргуецца па берагах (шырыня 0,1—0,15 км). Рэчышча на працягу 7,9 км ад вытоку каналізаванае, ніжэй па цячэнню звілістае.

**РУДЗЕЯ**, вадасховішча на мяжы Магілёўскага і Чавускага р-наў.

Пл. 3,85 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,6 м.
Даўжыня 12 км.
Найбольшая шырыня 0,72 км.
Аб'ём вады 8,35 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 329 км$^2$.

На р. Рудзея (паблізу ўпадзення яе ў р. Раста), за 16 км на ПдУ ад Магілёва, каля вёсак Гародня і Мядзвёдаўка. Створана ў 1986 для арашэння зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. У сутоках ручая Ільменка і р. Чарняўка — залівы.

**РУДЗЁНКАВА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,16 км$^2$.
Даўжыня 0,77 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.
Пл. вадазбору 16,5 км$^2$.

У бас. р. Нача, за 23 км на ПдЗ ад Полацка, за 0,5 км на ПнУ ад в. Глінская. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на У разараныя, на З пад хмызняком. Каля заходняга берага невялікі астраў. Злучана ручаём з воз. Сердава. Выцякае ручай у р. На

**РУДЗІЦА**, возера ў Пастаўскім р-

Пл. 0,22 км$^2$.
Даўжыня 0,77 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,19 к
Пл. вадазбору 3,75 км$^2$.

У бас. р. Галбіца, за 30 км на У г. Паставы, каля в. Рэчкаўшчы Схілы катлавіны вышынёй да 8 у верхняй частцы разараныя. Бер высокія, участкамі на Пд і У зліі юцца са схіламі. Злучана ручаі з воз. Паскрынне, выцякае р. Чэрт

**РУДЗЬМЯНСКІ КАНАЛ**, меліяраць ны канал у Стаўбцоўскім і Кар ліцкім р-нах, правы прыток Нёман Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца ў ля ным урочышчы Рудзьмянская Пушч за 3,5 км на ПдЗ ад в. Падгорна цячэ ўчасткамі сярод лесу, упада ў Нёман ва ўрочышчы Гарнізоны 1,5 км на Пд ад х. Рудзьма.

**РУДЗЯНЕЦКІ КАНАЛ**, меліярацыйн канал у Жыткавіцкім р-не, лев прыток р. Навуць (бас. Прыпяці Даўжыня 16 км. Пачынаецца з вода размеркавальніка за 2 км на Пн ад в. Хісцецкі Бор, вусце за 1,3 кі на ПдУ ад в. Востранка. Цячэ пра сажалкі рыбгаса «Чырвоная Зорка»

**РУДЗЯНКА**, рака ў Акцябрскім Светлагорскім р-нах, правы прыто р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 29,7 км.
Пл. вадазбору 205 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхн 0,6 ‰.

Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Рассвет Акцябрскага р-на, вусце за 3 км на У ад в. Скалка Светлагорскага р-на. Асноўны прыток — р. Пясчанка (справа). Рэчышча каналізаванае.

**РУДЗЯНКА**, канал, гл. *Мальвінка*.

**РУДЗЯНОК**, возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.

У бас. р. Дрыса, за 24 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 0,8 км на З ад в. Амосенкі, сярод лесу і хмызняку. Уздоўж заходняга берага забалочаная пойма. Сцёк па ручаі ў р. Дрыса.

**РУДНІКІ**, вадасховішча ў Пружанскім р-не.

Пл. 0,88 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 1,6 км.
Найбольшая шырыня 0,8 км.
Аб'ём вады 1,19 млн. м$^3$.

Наліўное. Створана ў 1978 за 14 км на Пн ад г. Пружаны, за 2,5 км на ПнЗ ад в. Руднікі для абваднення зямель, воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак і рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 2,2 км. Напаўняецца вадой з р. Ясельда па адкрытым канале праз сажалку пры дапамозе помпавай станцыі. Забіраецца вада з вадасховішча праз вежа-

вадаскід. Ваганні ўзроўню на працягу года 0,5 м.

**...ДНІКОВАЯ КАНАВА**, меліярацый... канал у Лельчыцкім і Петры...скім р-нах, правы прыток канала ...еская Стрэлка (бас. Прыпяці). ...ўжыня 12 км. Пачынаецца за 5 км ... Пн ад в. Вецвіца Лельчыцкага ...а, вусце за 3,5 км на ПдЗ ад ...Судзібар Петрыкаўскага р-на. Пра...дзіць па тэрыторыі ў межах Пры...дкага ландшафтна-гідралагічнага ...аведніка.

**...ДНІЦА**, Вешалка, рака ў Жы...мірскай вобл. і Лельчыцкім р-не, ...авы прыток р. Убарць (бас. Пры...ці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца ... 11 км на ПнУ ад в. Хочына Алеў...зга р-на і на працягу 5,6 км цячэ па ...раіне, вусце за 2,5 км на ПнУ ад ... Мілашавічы Лельчыцкага р-на. ...чэ праз возера Замошша. Ад ...жы з Украінай на працягу 3,2 км ... воз. Замошша) рэчышча кана...заванае.

**...ДНІЦА**, ручай у Сенненскім р-не, ...вы прыток р. Чарвінка (бас. Пры...ці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца ...ля в. Новая Беліца, вусце за 1 км ... ПнУ ад в. Асінаўка Беліцкага ...льсавета. У час летне-асенняй ме...ані сцёк з верхняй часткі рэчышча ...дніцы паступае ў р. Усвейка па ...нале з тарфянога масіву «Чорная ...шава».

**...ДНЯ**, рака ў Віцебскім р-не, правы ...ыток р. Усвяча (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 88 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,28 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПдЗ ад Кавалёва, вусце за 0,5 км на У ад Новааляксандраўка.

**...ДНЯ**, рака ў Верхнядзвінскім р-не, ...евы прыток р. Свольна (бас. Зах. ...звіны). Даўжыня 10 км. Пачынаецца ... 2,6 км на ПдУ ад в. Ярмоліна, ...усце за 0,5 км на ПнУ ад в. Юзафо...ва. Рэчышча паміж вёскамі Рудня і ...зафова на працягу 2,8 км каналі...заванае.

**...ДНЯ**, рака ў Дзятлаўскім і Сло...німскім р-нах, правы прыток Ісы ...бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Па...чынаецца на У ад в. Студзераўшчына, ...падае ў Ісу за 1,8 км на ПдЗ ад ... Кавалі. Рэчышча каналізаванае.

**...ДНЯ**, Ментынь, ручай у Вілей...скім р-не, правы прыток р. Мен...тынь (бас. Віліі). Даўжыня 4,5 км. ...ачынаецца на ПдУ ад в. Губы, цячэ ...ераважна сярод лесу, упадае ў Мен...тынь за 1,3 км на ПнУ ад в. Кузьмічы. ...эчышча на працягу 0,5 км ад вусця ...аналізаванае.

**...ДНЯ**, вадасховішча ў Слуцкім р-не.

**Пл. 3,76 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,7 м.**
**Даўжыня 2,6 км.**
**Найбольшая шырыня 1,7 км.**
**Аб'ём вады 14,1 млн. м$^3$.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 22,7 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 138 км$^2$.**

На р. Случ (179 км ад вусця), за 17 км на Пн ад г. Слуцк, каля в. Рудня. Створана ў 1981 для акумуляцыі сцёку ў час веснавога разводдзя з мэтай арашэння зямель, рыбагадоўлі і воднага добраўпарадкавання прылеглых вёсак. Ваганні ўзроўню на працягу года 2,5 м.

**РУ́ДНЯ**, канал у Івацэвіцкім, Ганцавіцкім і Пінскім р-нах, правы прыток канала Ліпнікі (бас. Прыпяці). Даўжыня 28 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Выганашчы Івацэвіцкага р-на, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Ліпнікі Пінскага р-на. Прытокі — каналы Лунёў (злева) і Гнездзішча (справа). Пракладзены ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**РУ́ДНЯ**, рака ў Расонскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Глаты, упадае ў Чарапецкае возера з Пд, за 3 км на ПнУ ад в. Глаты. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 3 км каналізаванае.

**РУ́ДНЯ-МАРЫМО́НАЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, у бас. Дняпра. Даўжыня 11,3 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Папанін, упадае ў воз. Глушэц (на пойме Дняпра) за 2 км на ПдЗ ад в. Гарадок.

**РУДНЯ́НКА**, рака ў Івацэвіцкім і Слонімскім р-нах, левы прыток Грыўды (бас. Нёмана).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 110 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Заводны Лес Слонімскага р-на, цячэ сярод лесу, участкамі пойма забалочаная. Упадае ў Грыўду на ПдУ ад в. Любішчыцы Івацэвіцкага р-на. У сярэднім і ніжнім цячэнні каналізаваная. Упадае р. Цулаўка. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**РУДЧА́НКА**, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток р. Свянціца (бас. Нёмана). Даўжыня 9,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Лагады, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Свянціцу за 0,5 км на Пд ад в. Ракавічы.

**РУЖА́НКА**, рака ў Пружанскім р-не, правы прыток Зальвянкі (бас. Нёмана).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 237 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца ва ўрочышчы Ялашоўка за 3,7 км на ПдЗ ад в. Верчыцы, цячэ ў межах г. п. Ружаны, упадае ў Зальвянку на ПдУ ад в. Заполле. Асноўны прыток — р. Поплава. Рэчышча на працягу 11,4 км перад вусцем каналізаванае. У маловодныя гады ў вытокавай частцы перасыхае. Прымае сцёк з невялікіх рэк і каналаў.

**РУКША́НСКАЕ ВО́ЗЕРА**, ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,44 км$^2$.**



**Найбольшая глыбіня 15,2 м.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,68 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,06 км.**
**Аб'ём вады 2,35 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 25 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй ад 3—4 м




**Рукшанскае возера.**




**Рукшанскае возера.**

на Пд да 10 м на ПдУ, разараныя. Берагі пераважна нізкія, на ПдУ зліваюцца са схіламі, у паўночным і паўднёва-заходнім залівах сплавінныя. Мелкаводдзе пясчанае, астатняя частка дна выслана ілам і сапрапелем. Зарастае да глыбіні 3 м. Злучана ручаем з воз. Глыбачка, выцякае ручай у воз. Доўгае.

**РУЛЬЕЎ КАНАЛ,** Ямы, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток Агараджальнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Зыбайлы Івацэвіцкага р-на, вусце за 6 км на У ад в. Рэчыца Бярозаўскага р-на. Пракладзены ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**РУ́ТА,** рака ў Навагрудскім і Карэліцкім р-нах, левы прыток Сэрвачы (бас. Немана).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 132 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Рудка 1-я Навагрудскага р-на, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша праз г. п. Карэлічы, упадае ў Сэрвач за 2,5 км на ПдУ ад г. п. Карэлічы. У г. п. Карэлічы створана сажалка (пл. 0,53 км$^2$).

**РУТКА,** рака ў Круглянскім р-не, левы прыток р. Аслік (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 52 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на У ад в. Шаўкавінне, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Дарожкавічы. Рэчышча на ўчастку паміж вёскамі Шаўкавінне і Паўнавічы на працягу 5,5 км каналізаванае.

**РУЦЯ́НКА,** рака ў Чашніцкім р-не, правы прыток р. Цяплінка (бас. Зах.

**РУ́ТКА,** рака, гл. *Крулка.*

**РУ́ХВА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Лядня (бас. Дняпра). Даўжыня 13,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Свярдлова, вусце на ўсходняй ускраіне в. Беразетня. Рэчышча на працягу 7 км (ад вытоку да в. Несцерава) каналізаванае.

**РУЦЯ́НКА,** рака ў Чашніцкім р-не, правы прыток р. Цяплінка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Руць, вусце каля в. Проземля. Рэчышча каналізаванае.

**РУЧ,** рака, гл. *Нямегля.*

**РУЧА́Й,** ручай у Шаркоўшчынскім р-не, правы прыток р. Маціца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Ліпава, вусце на ўсходняй ускраіне в. Ручай. Рэчышча каналізаванае.

**РЫБАКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Рыбакоўка, у Сенненскім р-не.

**Пл. 0,11 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.**

У бас. р. Свячанка, за 19 км на З ад г. Сянно, каля в. Рыбакоўшчына. Ручаямі злучана з р. Свяча.

**РЫБАНЕЦ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,34 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 11,2 м.**
**Даўжыня 1,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,58 км.**
**Аб'ём вады 1,23 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,11 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 13 км на ПнУ ад г. Лепель, за 2,5 км на ПнУ ад в. Экімань, за 10 км на У ад воз. Лепельскае. Схілы катлавіны вышынёй 2—10 м, пераслі хмызняком і асобнымі дрэвамі. Берагі нізкія, на У зліваюцца са схіламі, пясчаныя, задзернаваныя, месцамі пад хмызняком. Зарастае да глыбіні 2 м. Выцякае ручай у р. Бярозаўка.

**РЫБА́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Корава.*

**РЫ́БНА,** меліярацыйны канал у К… рынскім р-не, правы прыток р. … дзерка (бас. Зах. Буга). Даўж… 8,2 км. Пачынаецца за 2,8 км на П… ад в. Калюхі, вусце за 3 км на … ад в. Рыбна.

**РЫБГА́СНЫ КАНА́Л,** меліярацый… канал у Жыткавіцкім р-не, ле… прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Д… жыня 10 км. Пачынаецца з Водап… водзячага канала за 1 км на ПдУ в. Юркевічы, вусце за 4 км на ПдЗ в. Лагвошчы. Прыток — Курнік… ская канава (злева).

**РЫ́БНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,05 км$^2$.**
**Даўжыня 0,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Нача, за 26 км на … ад Полацка, за 1,5 км на У ад в. … белле 1-е, сярод балота.

**РЫ́БНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Брэсцкім р-…

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,15 …**

У бас. р. Рыта, за 25 км на ПдУ Брэста, за 4 км на У ад в. Вялі… Радванічы. Схілы катлавіны вышыя… да 2 м, пераслі лесам. Берагі месца… забалочаныя.

**РЫ́БНІЦА,** возера ў Гродзенскім р-…

**Пл. 2,48 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,7 м.**
**Даўжыня 4,76 км.**



Возера Рыбніца.

**Найбольшая шырыня 0,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,4 к…**
**Пл. вадазбору 403 км$^2$.**

У бас. р. Пыранка (цячэ праз воз… ра і злучае яго з воз. Белае), за 20 к… на У ад г. Гродна, каля в. Азёры. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, … З і ПнЗ да 17 м, пераслі хмызняко… месцамі разараныя. Берагі на З і Пн… зліваюцца са схіламі. Дно сапрапел… стае, у прыбярэжнай зоне пясчана… Упадае р. Стрыеўка.

**РЫБЧА́НКА,** рака ў Маладзечанскі… і Вілейскім р-нах, левы прыток р. Ілі… (бас. Віліі).




Возера Рыбанец.

Даўжыня 30 км.
Пл. вадазбору 518 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,9 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл водней паверхні 1,7 ‰.

твараецца ад зліцця рэк Вязынка уйка ў г. п. Радашковічы, цячэ аважна на паўночных схілах Мінга ўзвышша, упадае ў Ілію за км на ПнЗ ад в. Беражок. Асноўі прытокі: Удра, Канатопка (спра- Бервячанка (злева). Даліна ў хнім і ніжнім цячэнні трапецапаная, яе вышыня 3—4 км, у сярэд- цячэнні не выражана. Пойма на ікім працягу двухбаковая (шыры- 0,5—1 км), парасла хмызняком, алочаная. Рэчышча звілістае, у мек г. п. Радашковічы (1,5 км) каназванае, яго шырыня ў межань 15—км. У маляўнічай мясціне на рацэ а адпачынку Рыбчанка. Каля в. Раа сажалка (пл. 0,15 км$^2$).

**ЖАЕ ВО́ЗЕРА,** у Смаргонскім р-не.

Пл. 0,65 км$^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,65 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,98 км.

бас. р. Ашмянка, за 14 км на З ад г. Смаргонь, каля в. Заазерцы. ы катлавіны вышынёй 12—15 м, хмызняком, на У разараныя. Пн і Пд да возера прымыкае ота. Берагі на З і У зліваюцца схіламі, на Пн і Пд нізкія, забааныя. Дно сапрапелістае. Праз ера цячэ невялікая рэчка.

**АЕЙКА,** Дваранінавіцкі кал, рака ў Бабруйскім р-не, правы ток р. Ала (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 90 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 35 ‰.

ачынаецца за 1,2 км на ПнУ ад арохава, вусце за 1 км на ПдУ ад Воўчая Гара. Рэчышча каналізае.

**МАША́НСКІ КАНА́Л,** меліяраны канал у Капыльскім р-не, ы прыток р. Выня (бас. Нёмана). жыня 6,4 км. Пачынаецца за км на Пд ад в. Рымашы, упадае ыню каля в. Пнівада.

**НКО́НЬ,** меліярацыйны канал у анаўскім р-не, левы прыток Жыжма (бас. Нёмана). Даўжыня м. Пачынаецца каля в. Утканы, дае ў Жыжму за 1 км на З ад ырканцы. Прымае сцёк з меліяраных каналаў.

**СКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны ал у Рагачоўскім р-не, правы ток р. Ржаўка (бас. Дняпра). жыня 7,1 км. Пачынаецца за км на ПнЗ ад в. Куставіца, упа- ў Ржаўку за 0,8 км на ПнУ ад Малыя Стралкі.

**СТУНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 км$^2$.
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.

У бас. р. Палата, за 48 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна. Схілы невыразныя. Вакол возера балота, на ПдУ прымыкае лес. Сцёк праз меліярацыйную канаву ў воз. Макачы.

**РЫТА,** рака ў Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 62 км.
Пл. вадазбору 1730 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5,9 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.

Пачынаецца ад трубы-рэгулятара каля в. Сушытніца Маларыцкага р-на. Раней пачыналася з воз. Крымна (Украіна), пасля меліярацыйнай рэканструкцыі верхняе цячэнне перавездзена ў р. Маларыта (пры неабходнасці частка сцёку можа накіроўвацца ў Рыту). Цячэ па Брэсцкім Палессі. Вусце каля ўсходняй ускраіны в. Літвіны Брэсцкага р-на. За 2 км вышэй аўтадарогі Ляхаўцы — Макраны частка сцёку Рыты накіроўваецца ў Лускаўскае вадасховішча, ніжэй вусця Маларыты рэчышча прымае прыродныя параметры. Пойма двухбаковая, нізкая, забалочаная (шырыня 0,3—0,5 км), перасечаная меліярацыйнымі каналамі, у верхнім і сярэднім цячэнні меліяравана. Рэчышча каналізаванае амаль на ўсім працягу за выключэннем 3,5 км вышэй вусця. Берагі стромкія, месцамі абрывістыя. Замярзае ў 3-й дэкадзе снежня, лёд трымаецца да сярэдзіны сакавіка. Веснавы ледаход 7 сутак. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку 3-й дэкады сакавіка. Рака прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.



Рака Рыта каля вёскі Велікарыта Маларыцкага раёна.

**РЫТАЎНА,** Рытава, возера ў Сенненскім р-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,63 км.
Пл. вадазбору 6,5 км$^2$.

У бас. р. Чарніченка, за 26 км на ПнУ ад г. Сянно, за 1,2 км на ПдУ ад в. Ляхава, у забалочаным паніжэнні сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, на З і Пд забалочаныя.

**РЫЎЦЫ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Малінаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Хідры, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Малінаўка.

**РЫЧА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток р. Котра (бас. Нёмана).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 53 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца каля в. Шынкаўцы, цячэ па захадзе Лідскай раўніны, у нізоўі праз лес. Упадае ў Котру за 1,5 на ПдЗ ад в. Наваселкі. У сярэднім цячэнні пойма забалочаная. Рэчышча ад вытоку на працягу 14,5 км каналізаванае.

**РЫЧА́НКА,** Рыча, рака ў Браслаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 16 км.
Пл. вадазбору 208 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,29 ‰.

Выцякае з воз. Рычы за 1 км на У ад в. Крываселі, цячэ праз воз. Муйса, упадае з ПдУ у воз. Дрысвяты, за 0,4 км на ПнУ ад в. Дрысвяты.

**РЫ́ЧКІ,** вадасховішча ў Драгічынскім р-не.

Пл. 0,52 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,5 м.
Даўжыня 1,15 км.
Найбольшая шырыня 0,64 км.
Аб'ём вады 1,41 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 20,2 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 195 км$^2$.

Створана ў 1981 за 11 км на Пд ад г. Драгічын, каля в. Кублік для ўвільгатнення зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Даўжыня агараджальнай дамбы 3,1 км. Налiўное: напаўняецца вадой з Ляхавіцкага канала механічным водапад'ёмам. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 3,4 м.

**РЫЧЫ,** Рыча, Рычу, возера ў Браслаўскім р-не, на мяжы з Латвіяй.

Пл. 12,83 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 51,9 м.
Даўжыня 6,27 км.
Найбольшая шырыня 3,73 км.
Даўжыня берагавой лініі 33,4 км.
Аб'ём вады 131 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 123 км$^2$.

У бас. р. Дрысвята, за 20 км на ПнЗ ад г. Браслаў. Другое па глыбіні возера на Беларусі. З 1979 возера і прылеглая да яго зона абвешчаны азёрным заказнікам. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, парослі хмызняком і лесам. Берагі высокія, пясчаныя, участкамі нізкія, на У зліваюцца

…КА, рака ў Гродзенскім р-не, …ы прыток р. Вержбалоўка (бас. …ана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца … км на У ад в. Зялёная, упадае …ржбалоўку на Пн ад в. Казімі…а. У вярхоўі цячэ сярод лесу, у …і прымае сцёк з меліярацыйных …лаў. Рэчышча каналізаванае.

…КІ, меліярацыйны канал у Івацэ…ім р-не, левы прыток Акімаў…а канала (бас. Прыпяці). Даў…ня 6,4 км. Пачынаецца за 2,7 км …ПнЗ, вусце за 3,5 км на ПдЗ ад … Рудня Рэчкаўскага сельсавета.

…ЫЦА, Жэчыца, рака ў Стаў…ўскім р-не, левы прыток Усы …. Нёмана). Даўжыня 9,7 км. Па…аецца за 2 км на ПнУ ад в. Це…ейнае, цячэ ў межах Налібоцкай …пчы, упадае ў Усу на З ад в. Кля…ча. Рэчышча каналізаванае.

…ЧЫЦА, рака ў Шумілінскім р-не, …вы прыток р. Обаль (бас. Зах. …віны). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Захарава, вусце каля в. Брыцікі Лявонаўскага сельсавета. Рэчышча на працягу 1,6 км ад вытоку каналізаванае.

**РЭЧЫЦА,** ручай у Шумілінскім р-не ў бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5 км. Выцякае з воз. Мошня за 4 км на ПнУ ад в. Роўнае, упадае ў воз. Красамай з Пд за 4 км на ПнЗ ад в. Гульбішча. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,2 км каналізаванае. Цячэ ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**РЭ́ЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім і Рэчыцкім р-нах, правы прыток Водаскіднога канала (бас. Дняпра). Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 3,5 км на З ад в. Хоўхла Буда-Кашалёўскага р-на, упадае ў Водаскідны канал за 3 км на ПдУ ад в. Белае Балота Рэчыцкага р-на.

**РЭ́ЧЫШЧА,** возера ў Светлагорскім р-не.

**Пл. 0,13 км².**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,1 км.**

На пойме р. Бярэзіна, за 40 км на ПнЗ ад г. Светлагорск, за 0,5 км на У ад в. Каралеўская Слабада-2. Старычнае. Берагі нізкія, на Пн забалочаныя, часткова пад хмызняком.

**РЭ́ЧЫШЧА,** возера ў Мазырскім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.**

На правабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 35 км на З ад г. Мазыр, каля в. Скрыгалаў. Старычнае. Берагі высокія, пясчаныя, пад хмызняком.

# С

…АБАЛЁЎКА, рака ў Клімавіцкім …не, левы прыток р. Лабжанка (бас. …іяпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 31 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад … Сабалёўка Галіцкага сельсавета, …усце ў в. Прудок. Рэчышча на пра…ягу 5 км ад в. Будлаўка да вусця …аналізаванае. На рацэ ў в. Сабалёўка …аднянскага сельсавета плаціна і са…алка.

…АВА́, ручай у Слонімскім р-не, ле…ы прыток Воленкі (бас. Нёмана). …аўжыня 5 км. Пачынаецца за 1 км …а ПдУ ад в. Азарычы, упадае ў Во…енку за 0,6 км на З ад в. Шундры. …эчышча ў ніжнім цячэнні на праця…у 2 км каналізаванае.

…А́ВА, рака, гл. *Жалязянка.*

…САВАНА́Р, возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,75 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 1,42 км.**
**Найбольшая шырыня 1,01 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,1 км.**
**Аб'ём вады 1,41 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 49,2 км².**

У бас. р. Друйка, за 10 км на З ад г. Браслаў, каля в. Мякяны. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, параслі хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. 5 заліваў, 3 астравы агульнай пл. 0,8 га. Катлавіна падзяляецца на заходнюю (глыбіні 1—2 м) і ўсходнюю (глыбіні больш за 3 м) часткі. Каля ўсходняга берага пясчаная водмель. Дно плоскае, да глыбіні 1,5 м і вакол астравоў пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Інтэнсіўна зарастае паўночна-заходняя частка возера і залівы. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 20—80 м, падводная расліннасць пашырана да глыбіні 2 м. Звязана ручаём з воз. Бужа.

**СА́ВІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, левы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Савін Вугал, упадае ў Чарніцу за 3 км на ПдУ ад в. Тарасік Смалявіцкага р-на.

**САДО́ВЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток Дублінскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад пас. Садовы, упадае ў Дублінскі канал за 2,5 км на Пд ад в. Дублін.

**САДО́К,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,48 км.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 30 км на У ад г. п. Ушачы, на Пн ад в. Хадакова, у балоцістым паніжэнні. На Пн ад возера хмызняк, на З вылучаюцца схілы вышынёй 6 м.

**САДО́ЎКА,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана. Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПдУ ад в. Храпянёва, упадае ў Нёман на У ад в. Ляхавічы-1. На працягу 2 км каналізаваная. За 1,5 км на ПнУ ад в. Храпянёва — в. Ляхавічы-1.




**Возера Саванар.**

**САЖЫЛКА**, рака ў Нараўлянскім р-не прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Мытва» (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на З ад в. Раманаўка, вусце за 0,9 км на ПнЗ ад в. Калінічы. Рэчышча каналізаванае. За 1 км на З ад в. Завойць на рацэ плаціна і сажалка пл. 27 га.

**САКАЛОЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Браслаўскім р-не, правы прыток р. Белая (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5 км. Выцякае з воз. Густата за 1,5 км на ПдУ ад в. Густата, вусце за 1 км на У ад в. Біейкі.

**САКАЛО́ЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток Безназоўнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Сакалова, вусце за 1,5 км на У ад в. Стрыгінь.

**САКАЛЯНКА**, рака ў Талачынскім і Аршанскім р-нах, правы прыток р. Адроў (бас. Дняпра).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 120 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Рэчкі Талачынскага р-на, вусце каля паўднёвай ускраіны в. Задроўе Аршанскага р-на. Цячэ па Аршанскім узвышшы. На рацэ г. п. Коханава, у яго межах створана сажалка.

**САКАЎШЧЫНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА**, у Валожынскім р-не.

Пл. 1,29 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,1 м.
Даўжыня 3,2 км.
Найбольшая шырыня 0,73 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,88 км.
Аб'ём вады 1,5 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 239,6 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1100 км$^2$.

На р. Бярэзіна (бас. Нёмана), за 11 км на З ад г. Валожын, каля в. Сакаўшчына. Створана ў 1937 для энергетычных і рэкрэацыйных мэт, у 1955 г. адноўлена. Берагі нізкія, пясчаныя, замацаваныя раслліннасцю, у вярхоўі забалочаныя. У рэльефе ложа вылучаюцца 2 участкі: верхні — мелкаводны і ніжні — прыплацінны з глыбінямі больш за 1 м; глыбіні больш за 2 м знаходзяцца на затопленым рэчышчы Бярэзіны. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню вады нязначная. Моцна зарастае. Гняздуюцца лебедзі. У вярхоўі вадасховішча навучальная станцыя геаграфічнага факультэта БДУ «Заходняя Бярэзіна».



Сакаўшчынскае вадасховішча.

**САКАЎШЫНСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток Даманавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Сакаўшын, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Запераходнае.

**САЛАГУ́БАЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Нярэсня (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца каля в. Салагубаў, вусце за 6 км на ПдЗ ад гэтай жа вёскі.

**САЛАДЗЁЦ**, рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Чыгрынаўка, вусце за 1 км на У ад в. Пуцькі. Рэчышча ад вытоку на працягу 2 км каналізаванае.

**САЛАКУ́ЧА**, рака ў Мазырскім р-не, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 20 км. Пл. вадазбору 159 км$^2$. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Міхалкі, вусце за 1 км на Пд ад в. Ніжні Млынок (цячэ праз воз. Заліў Старык на пойме Прыпяці ў межах раўніны Мазырскае Палессе).

**САЛАМІ́РСКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Полацкім р-не.

Пл. 0,4 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,9 м.
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 0,44 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,01 км.
Аб'ём вады 0,68 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 5,5 км$^2$.

У бас. р. Крашанка, за 20 км на Пд ад г. Полацк, каля в. Саламір'е. Схілы катлавіны вышынёй 3—6 м, парaслі лесам і хмызняком, часткова разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пн, У і ПнЗ сплавінныя. Пойма шырынёй 10—300 м, забалочаная, пад хмызняком. Ёсць 3 вялікія залівы. Дно выслана сапрапелем, прыбярэжная зона да глыбіні 1—1,5 м пясчаная. Зарастае да глыбіні 2 м, шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 30—75 м. Упадае ручай з воз. Ляшчынава. Адзначаны пасяленні баброў.

**САЛАНЕ́Ц**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,48 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 3,4 м.
Даўжыня 1,43 км.
Найбольшая шырыня 0,72 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,22 км.
Аб'ём вады 0,6 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 12,7 км$^2$.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 20 к[м]
З ад г. Полацк, каля в. Ліцві[...]
Схілы катлавіны вышынёй 2—5 [...]
Пн і ПнУ тарфяныя, пад паша[...]
ПдУ разараныя. Берагі нізкія, м[...]
мі забалочаныя, на Пд сплаві[...]
На Пн і Пд забалочаная пойма [...]
рынёй 10—100 м, парослая хм[...]
ком. Ва ўсходняй частцы во[...]
пл. 0,2 га. Дно выслана сапрап[...]
прыбярэжная зона каля заходн[...]
ўсходняга берагоў пясчаная. Зар[...]
да глыбіні 0,8 м, поўнасцю за[...]
паўночны і паўднёвы залівы. На[...]
выцякае р. Валынка.

**САЛАЎІНЫ РУЧА́Й**, Салаў[...]
Сіні, ручай у Астравецкім [...]
левы прыток р. Страча (бас. [...]
Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца [...]
в. Завідзіненты, упадае ў Стра[...]
0,5 км на ПдУ ад воз. Вераб'і і [...]
нюці. Рэчышча каналізаванае.

**САЛЁНАЕ ВО́ЗЕРА**, у Шум[...]
скім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,43 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1[...]
Пл. вадазбору 21,4 км$^2$.

У бас. р. Шэвінка, за 5 км на[...]
ад г. п. Шуміліна, каля в. Двор[...]
Схілы катлавіны пераважна [...]
раныя. Берагі нізкія, на Пд і[...]
забалочаныя, пад хмызняком.

**САЛЁНАЕ ВО́ЗЕРА**, у Шумілі[...]
р-не.

Пл. 0,07 км$^2$.
Даўжыня 0,44 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,1[...]

У бас. р. Чарніца, за 5 км на[...]
ад г. п. Шуміліна, за 0,3 км на[...]
ад в. Дварышча. Схілы катл[...]
вышынёй да 2 м, разараныя, у[...]
няй частцы забалочаныя. Вакол[...]
ра забалочаная пойма шырынёй[...]
100 м. Упадаюць 2 ручаі.

**САЛІГО́РСКАЕ ВАДАСХО́ВІ[ШЧА]**,
у Салігорскім р-не.

Пл. 23,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,5 м.
Даўжыня 24 км.
Найбольшая шырыня 2 км.
Даўжыня берагавой лініі 70[...]
Аб'ём вады 55,9 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 288 мл[...]
Пл. вадазбору 1793 км$^2$.

У сярэднім цячэнні р. Случ (1[...]
ад вусця), каля г. Салігорск. [...]
рана ў 1967 для забеспячэння [...]
прадпрыемстваў вытворчага а[...]
нання «Беларуськалій», рэгуля[...]
сцёку Случы, абваднення прыле[...]
зямель, жыўлення поўнасістэ[...]
рыбаводнай гаспадаркі «Старо[...]
Да затаплення на месцы вадасхо[...]
быў забалочаны тарфяны м[...]
40 % берагоў — штучныя. У вер[...]
і сярэдняй частцы берагі н[...]
забалочаныя або ўмацаваныя на[...]
мі і дамбамі; каля Салігорска вы[...]
ня іх 1—3 м, у залівах нізкія,

лочаныя. Ёсць 4 буйныя залівы. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчынёй да 50 см) трымаецца да канца сакавіка. Сярэднегадавая амплітуда ўзроўню вады 150 см. Рэгуляванне сцёку сезоннае, аб'ём вады абнаўляецца 4 разы за год. Моцна зарастае. Вакол вадасховішча створана зона адпачынку, працуюць 2 санаторыі-прафілакторыі, лодачная станцыя. Вядзецца кантроль за хімічным саставам вады ў сувязі з забруджваннем яе солямі са Старобінскага радовішча калійных і каменнай солей.

**САЛО́МЕНКА,** назва р. *Пераволока* ў верхнім цячэнні.

**САЛОНА́ЎКА,** рака ў Гарадоцкім р-не, левы прыток р. Аўсянка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 52 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Капасы, за 1,3 км на ПдУ ад в. Вышадкі ўпадае з ПдУ у Вышадскае возера (праз яго цячэ р. Аўсянка).

**САЛО́НЕЦ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,73 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,9 м.**
**Даўжыня 1,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,42 км.**
**Аб'ём вады 2,78 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 18,5 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 11 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Салонец 1-ы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, на ПдУ і Пд 1,5—4 м, разараныя, на Пн і У араслі лесам. Берагі нізкія (да 0,3 м), тарфяністыя, на ПдУ павышаюцца да 0,5 м. На Пн і У 4 залівы, каля паўночнага берага востраў пл. 0,5 га. Пойма шырынёй да 200 м, забалочаная, пад хмызняком, на Пд і ПдУ адсутнічае. Дно да глыбіні 1—1,7 м выслана пяском, глыбей — сапрапелем. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 25 м, пашырана да глыбіні 1,5 м, падводная расліннасць — да глыбіні 2—3 м. На У выцякае ручай у р. Ушача, на ПнУ упадае ручай з воз. Расна.

**САЛО́ШАНКА,** рака ў Слаўгарадскім р-не, левы прыток р. Штанкі (бас. Дняпра). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Ржаўка 2-я, вусце за 1 км на З ад в. Ржаўка 1-я. Рэчышча каналізаванае.

**САЛЯ́НКА,** рака ў Старадарожскім р-не, левы прыток р. Солан (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 72 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Дубное, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Солан. Працякае праз г. Старыя Дарогі, далей — па лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча ад вытоку на працягу 9,5 км каналізаванае.

**САМАВО́ЛКА,** ручай у Мсціслаўскім і Чавускім р-нах, правы прыток р. Волчас (бас. Дняпра). Даўжыня 3,2 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Васількава Мсціслаўскага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Грабалава Чавускага р-на. Рэчышча каналізаванае на 1,8 км уверх ад вусця.

**САМА́РАЎКА,** Краманіца, рака ў Зэльвенскім р-не, левы прыток р. Зальвянка (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 104 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.**



Салігорскае вадасховішча.



Возера Салонец.


Салігорскае вадасховішча.




Возера Саранчаны.







Саранчанская група азёр.

Пачынаецца на Пд ад в. Ялуцавічы, цячэ па ўсходняй частцы Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Зальвянку за 1,5 км на ПнУ ад в. Самаравічы. Прыток — р. Мартынаўка. Пойма месцамі забалочаная. Каля в. Краміаніца створана сажалка (пл. 0,18 км²).

**САМАРО́ЎКА,** Самаранка, рака ў Іванаўскім р-не, левы прыток р. Няслуха (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 17,8 км.**
**Пл. вадазбору 74 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Шчакоцк, вусце каля в. Рудск. Рэчышча каналізаванае. На рацэ г. Іванава.

**САМАЦЕ́Ч,** рака ў Дзяржынскім р-не, правы прыток р. Ператуць (бас. Нёмана).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 44 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,1 ‰.**

Пачынаецца ва ўрочышчы Ясева за 2 км на Пн ад в. Старынкі, цячэ па паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ператуць на Пн ад в. Старая Рудзіца. Пойма ўчасткамі забалочаная. Каля в. Старынкі створана сажалка (пл. 0,03 км²).

**СА́ННІКІ,** ручай у Бешанковіцкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 9,6 км. Пачынаецца каля в. Мартасы, вусце каля в. Шарыпіна. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,9 км каналізаванае.

**САРАНЧА́НЫ,** Серанчаны, возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,5 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,61 км.**
**Аб'ём вады 0,97 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 45,6 км².**

У бас. р. Страча, за 27 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Саранчаны. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м (на ПдЗ 6—8 м), на У спадзістыя, парослі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, месцамі сплавінныя, на У участкамі вышынёй да 0,5—0,7 м. Пойма шырынёй 5—10 м, пад хмызняком. Дно выслана сапрапелем, у прыбярэжнай частцы да глыбіні 1 м пясчанае. У паўднёвай частцы востраў пл. 0,4 га. Шырыня паласы расліннасці 10—75 м, пашырана да глыбіні 1 м. На Пн упадае ручай з воз. Лодасі, на Пд выцякае ручай у р. Страча.

**САРАЧА́НКА,** рака ў Астравецкім р-не, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 29 км.**
**Пл. вадазбору 201 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,75 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,...**

За верхняе цячэнне лічаць р. Клевель, якая пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Караняты і цячэ праз азёры Баранскае, Клевел, Белае, Турайскае, Залаўскае, Каймін, Тумскае. 3 воз. Тумскае выцякае Сарачанка, упадае ў Вілію за 1 км на З ад в. ...рочча. У вярхоўі цячэ пераважна сярод лесу, пойма часткова забалочаная. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,2 км каналізаванае.

**САРАЧА́НСКАЯ ГРУ́ПА АЗЁР,** у Астравецкім р-не, у басейне р. Вілія. Уключае 12 азёр агульнай пл. 4,3 км² (пл. вадазбору 180 км²): Тумскае, Ёдзі, Вераб'і, Каймін, Турайскае, Белае, Галадзянка, Залаўскае, Гульбеза, Баранскае, Галодна, Клевел. Азёры займаюць невялікія глыбокія ўчасткі агульнай ледавіковай лагчыны (даўжыня больш за 20 км), утварэнне якой звязана з выворваннем паазерскага ледавіка і наступнай дзейнасцю расталых водаў. У ваколлі азёр марэнныя ўзвышшы (вышыня 30—40 м) чаргуюцца з забалочанымі нізінамі, уздоўж азёр выцягнуты озавыя грады, мноства камавых узгоркаў, парослых лесам. Вылучаюцца мелкаводныя (найбольшыя глыбіні да 6 м) і сярэднеглыбокія (глыбіні да 21 м) азёры. Мелкаводныя (Клевел, Вераб'і, Белае, Турайскае, Галадзянка) характарызуюцца простай будовай ложа, іх літаральная зона (шырыня 50—70 м) пясчаная, паступова пераходзіць у высланую сапрапелем глыбакаводную зону. Азёры значна зарастаюць (Клевел па ўсёй плошчы), шырыня паласы расліннасці 40—200 м. Сярэднеглыбокія азёры (Галодна, Тумскае, Ёдзі, Каймін і інш.) маюць вузкую літараль, глыбакаводную частку іх высцілаюць сапрапелі. Зарастанне азёр нязначнае, шырыня паласы расліннасці менш за 30 м. Большасць азёр дрэніруюцца р. Клевель (паміж азёрамі мае выгляд шырокіх пратокаў), з Тумскага возера выцякае р. Сарачанка. Ёдзі, Гульбеза і Вераб'і, злучаныя паміж сабой, маюць сцёк у р. Страча. Сарачанская група азёр вызначаецца выключнай маляўнічасцю і мае высокія рэкрэацыйныя вартасці.

**САРАЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 3 км на У, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Сарачы.

**САРО́,** возера ў Бешанковіцкім р-не, на мяжы з Сенненскім р-нам.

**Пл. 5,31 км².**
**Найбольшая глыбіня 36,3 м.**
**Даўжыня 9,47 км.**

...большая шырыня 0,91 км.
...жыня берагавой лініі 22,6 км.
...м вады 60,5 млн. $м^3$.
...вадазбору 104 $км^2$.

...ас. р. Чарнагосніца, за 18 км ...д г. п. Бешанковічы, каля вёсак ... Сіняны. Схілы катлавіны вы... 20—25 м (на З да 10 м), на ...ніжаюцца да 2 м, пад хмызня... ...у верхняй частцы разараныя. ... ад вышыні 1,5 і 7 м тэрасы. ... вышынёй 0,5—0,8 м, на Пн ... забалочаныя. Зона мелкавод... ...адоўж усходніх берагоў вузкая, ...ромкім нахілам дна, уздоўж ...ніх — значна пашыраецца. Пя... ...значаны да глыбіні 7—11 м у ...ёвай і 4 м у паўночнай частках ...віны, глыбакаводная зона вы... ...ілам. 2 невялікія астравы агуль... ...л. 0,04 га. Возера вызначаецца ...інёй вады. Шырыня прыбярэж... ...паласы раслiннасці 5—40 м, ...одная расліннасць пашырана да ...іні 3,5—4 м (на Пн да 5 м). Упа... ...ручай з воз. Тросна, на Пн вы... ... ручай у воз. Астровенскае.

**...ÓКА,** рака ў Брэсцкім р-не, ...ы прыток Матыкальскага кана... ...ас. Зах. Буга). Даўжыня 13,6 км. ...наецца за 1 км на З ад в. Кустын, ... за 1 км на Пд ад в. Сычы. Рэ... ...а каналізаванае.

**...ÓКА,** ручай у Астравецкім р-не, ...ы прыток р. Парока (бас. Віліі). ...жыня 3 км. Пачынаецца каля ...мілгі, упадае ў Пароку на ПнЗ ... Ліпнішкі. Рэчышча каналіза... ...е.

**...ÓКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,1 $км^2$.
Даўжыня 0,51 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,35 км.
Пл. вадазбору 2,5 $км^2$.

У бас. р. Ласіца, за 32 км на У ад г. Паставы, каля в. Сарокі. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, разараныя. Берагі на У і Пд зліваюцца са схіламі. На Пн пойма шырынёй 10—30 м.

**САРÓЦКАЕ ВÓЗЕРА,** у Гродзенскім р-не.

Пл. 0,1 $км^2$.
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.

У бас. р. Сламянка, за 32 км на ПнУ ад г. Гродна, за 1 км на Пн ад в. Новая Руда. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пераважна пад лесам, на У разараныя.

**САРÓЧЫНКА,** рака ў Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Мяртвіца (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Міхайлава, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Сарочына. Рэчышча каналізаванае.

**САРÓЧЫНСКАЕ ВÓЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 0,13 $км^2$.
Даўжыня 0,88 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Пл. вадазбору каля 1 $км^2$.

У бас. р. Лукомка, за 10 км на ПдЗ ад г. Чашнікі, каля в. Сарочына. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м,



Возера Саро.

разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі.

**САР'ЯНКА,** рака ў Латвіі і Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 87 км.
Пл. вадазбору 1000 $км^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,4 $м^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Выцякае з воз. Броджайс у Латвіі, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Вусце.



...зера Саро.

Даўжыня берагавой лініі 4,48 км.
Аб'ём вады 1,44 млн. м³.
Пл. вадазбору 10 км².

У бас. р. Ушача, за 23 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Навасёлкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—9 м (на Пд і ПдУ 10—12 м), пад лесам. Берагі нізкія, пад хмызняком, на ПдУ зліваюцца са схіламі. Ёсць 4 залівы. На Пн і ПнЗ пойма шырынёй да 25 м, тарфяністая, парослая хмызняком і лесам. Найбольшыя глыбіні ў паўночнай частцы возера. Дно да глыбіні 2—3,5 м выслана пяском, ніжэй сапрапелем. Зарастае да глыбіні 1,5 м надводнай расліннасцю (шырыня паласы да 15 м), да глыбіні 3 м пашыраны гарлачыкі і рдзесты. На ПнЗ пратока ў р. Ушача.

**СВЕТЛАГО́РСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Светлагорскім р-не.

Пл. 14,4 км².
Сярэдняя глыбіня 4,5 м.
Аб'ём вады 64,4 млн. м³.

Створана ў 1989 за 11 км на Пд ад г. Светлагорск, каля г. п. Сасновы Бор для арашэння зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 4 м.

**СВЕТЛАГО́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Сведзь (бас. Дняпра). Даўжыня 15 км. Пачынаецца за 2,8 км на ПдУ ад в. Гогалева, упадае ў Сведзь за 2,5 км на ПдУ ад в. Славань.

**СВЕ́ТЛАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,05 км².
Даўжыня 0,31 км.
Найбольшая шырыня 0,24 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.

У бас. р. Мядзелка, за 10 км на Пд ад г. Паставы, за 1,5 км на З ад в. Шабаны (0,5 км на ПдУ ад воз. Чэцверць). Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на У да 2 м), разараныя, пад хмызняком.

**СВЕ́ЦІЦКАЯ КАНА́ВА,** гл. *Сваціцкі канал.*

**СВІДАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток Асачынскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 10,6 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Свідаўка, упадае ў Асачынскі канал у в. Васілева.

**СВІ́ДНА,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,97 км².
Найбольшая глыбіня 11,6 м.
Даўжыня 1,45 км.
Найбольшая шырыня 0,98 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,05 км.
Аб'ём вады 5,89 млн. м³.
Пл. вадазбору 8,43 км².

У бас. р. Галбіца, за 25 км на У ад г. Паставы, каля в. Дунілавічы. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, разараныя. Берагі нізкія, на ПдЗ сплавінныя, на У і З вышынёй 0,5—0,8 м, абразійныя, пад хмызняком. Пойма шырынёй 10—200 м, забалочаная, парослая хмызняком. Дно да глыбіні 3—5 м пясчанае, ніжэй выслана ілам. Шырыня паласы расліннасці 50—75 м, пашырана да глыбіні 3—3,5 м. На ПдЗ выцякае ручай у р. Заражанка.

**СВІ́ДНАЕ,** вадасховішча ў Лельчыцкім р-не.

Пл. 2,2 км².
Найбольшая глыбіня 4,6 м.
Даўжыня 2,8 км.
Найбольшая шырыня 2 км.
Аб'ём вады 5,7 млн. м³.
Пл. вадазбору 5379 км².

Створана ў 1986 за 16 км на ПнУ ад г. Лельчыцы, каля в. Свіднае для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Налiўное, вада падаецца з р. Убарць. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 2,5 м.

**СВІДНАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Смалявіцкім і Лагойскім р-нах, правы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнЗ ад в. Юзэфова, упадае ў Гайну каля в. Свідна.

**СВІДО́ВЕЦ,** Свідоўка, Балотніца, Плотніца, рака ў Жытомірскай вобл. Украіны і Лельчыцкім р-не, правы прыток р. Убарць (бас. Прыпяці).

Даўжыня 61 км.
Пл. вадазбору 600 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,44 ‰.

Пачынаецца за 6 км на ПдЗ ад в. Кованка Алеўскага р-на, вусце каля в. Картынічы (раней рака ўпадала ў р. Лохніца — прыток Убарці). Рэчышча на тэрыторыі Беларусі каналізаванае (даўжыня 16 км). Рака цячэ па лясістай мясцовасці.

**СВІДРО́ЎКА,** рака ў Ляхавіцкім р-не, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 74 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад хутара Рачканы, участкамі цячэ сярод лесу, упадае ў Шчару за 1,5 км на Пд ад в. Меляхі. Рэчышча на працягу 7,2 км (ад хутара Русінавічы да в. Смаленікі) каналізаванае.

**СВІЕ́РВІЦА,** рака, гл. *Акунёўка.*

**СВІ́ЛІЦА,** рака ў Глыбоцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 98 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,1 ‰.

Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад г. п. Падсвілле, упадае ў воз. Пліса з З за 0,5 км на ПнЗ ад хутара Юзафова. Прытокі — Агурнееўка і Вараноўка (злева).

**СВІ́ЛЫ,** канал, гл. *Войшалка.*

**СВІНА́,** рака ў Гарадоцкім, Полацкім і Шумілінскім р-нах, правы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 360 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,9 ‰.

Выцякае з воз. Малое Белае за 1,5 км на ПнЗ ад в. Прудок Гарадоц-



Светлагорскае вадасховішча.



Возера Свідна.



Возера Свідна.



Возера Свір.

кага р-на, цячэ праз воз. Ласосна, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Казьяны Шумілінскага р-на. Цячэ па паўночна-ўсходняй частцы Полацкай нізіны, па лясістай мясцовасці. Прымае прытокі з 47 азёр, якія займаюць каля 14 % вадазбору.

**СВІНАВОД,** рака ў Лельчыцкім і Жыткавіцкім р-нах, правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 46 км.**
Пл. **вадазбору 511 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на Пн ад в. Данілавічы Лельчыцкага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Пераpoўскі Млынок Жыткавіцкага р-на. У ніжнім цячэнні большую частку сцёку перахоплівае Крушынная канава. Рака цячэ па ўсходняй частцы нізіны Прыпяцкае Палессе, па лясістай забалочанай мясцовасці. Прыток — р. Мутнянка (злева). Даліна ў вярхоўі месцамі трапецападобная, вузкая, у сярэднім і ніжнім цячэнні невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма ў верхнім цячэнні перарывістая, чаргуецца па берагах, у сярэднім цячэнні шырыня 0,3—0,8 км, у ніжнім — зліваецца з поймай Прыпяці. Рэчышча звілістае, шырыня 1—6 м.

**СВІНКА,** рака ў Чашніцкім і Бешанковіцкім р-нах, левы прыток р. Свячанка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 15 км.**
Пл. **вадазбору 52 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Выцякае з воз. Канцовае за 0,5 км на З ад в. Малая Вядрэнь Чашніцкага р-на, цячэ праз азёры Вядрэнскае, Зелянок, Глыбочына, Баярскае, Хацькоўскае, Запольскае; вусце за 0,7 км на ПнЗ ад в. Заполле Бешанковіцкага р-на.

**СВІНКА,** рака ў Касцюковіцкім р-не і Бранскай вобл. Расіі, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
Пл. **вадазбору 83 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6**

Пачынаецца каля в. Калыбелі Бр скай вобл., вусце за 2 км на З в. Віроўка Касцюковіцкага р Рэчышча на працягу 9,5 км (вытон 1 км на ПнЗ ад в. Ягораўка Мокр скага сельсавета Касцюковіцк р-на) каналізаванае.

**СВІНКА,** рака ў Дубровенскім р- левы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 10 км.**
Пл. **вадазбору 52 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,5**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ в. Загваздзіна, вусце на паўночн ўсходняй ускраіне г. Дуброў

**СВІНКА,** рака ў Свіслацкім р- правы прыток р. Пікарэц (бас. Н мана). Даўжыня 9 км. Пачынаец на Пн ад в. Скраблы, упадае ў Пі рэц за 0,5 км на ПдЗ ад пас. Астрс скі. Рэчышча на працягу 2,5 км ( в. Вердамічы да в. Манчыцы) кана заванае. Пойма часткова забалоч ная. Каля в. Вердамічы створа сажалка (пл. 0,02 км$^2$).

**СВІНО,** агульная назва злучані паміж сабой азёр Вялікае Свіно Малое Свіно (Гарадоцкі р-н).

**СВІР,** возера ў Мядзельскім р-н

**Пл. 22,28 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,7 м.**
**Даўжыня 14,1 км.**
**Найбольшая шырыня 2,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 31,2 к**
**Аб'ём вады 104,3 млн. м$^3$.**
Пл. **вадазбору 364 км$^2$.**



Возера Свір.

У бас. р. Страча, за 27 км на ПдЗ ад г. п. Мядзел, каля г. п. Свір. Заходнія схілы катлавіны вышынёй 12—15 м (участкамі да 25 м), разараныя ці пад хмызняком, усходнія вышынёй 3—5 м, парaслі лесам. Берагі высокія, месцамі зліваюцца са схіламі, усходнія нізкія, забалочаныя. Пойма на У і Пн выразная (шырыня да 200 м), пад зрэджаным хмызняком, забалочаная, парэзана сеткай меліярацыйных каналаў. Пераважаюць 6-метровыя глыбіні, у цэнтры і на Пд пясчаныя мелі (2 і 3,4 м). Дно да глыбіні 4 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелямі. Моцна зарастае ўздоўж усходніх берагоў, у вытоку Свірыцы і месцы ўпадзення Смолкі паласа трыснягу і чароту дасягае шырыні 200 м. Упадаюць рэкі Смолка, Вялікі Перакоп, на Пн выцякае р. Свірыца. Месца адпачынку, каля возера санаторый «Свір».

**СВІРА́НКА,** рака, гл. *Свірыца.*

**СВІ́РКА,** рака ў Астравецкім р-не, у басейне Сарачанкі (бас. Віліі). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на Пд ад в. Кісялі, упадае ў воз. Каймін каля в. Гінкішкі. Рэчышча ад в. Трашчаны да в. Спонды (2,7 км) і на працягу 2 км ад вусця ўверх каналізаванае.

**СВІ́РНІШЧА,** возера ў Мядзельскім р-не.

Пл. 0,38 км².
Найбольшая глыбіня 2,7 м.
Даўжыня 0,87 км.
Найбольшая шырыня 0,57 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,39 км.
Аб'ём вады 0,71 млн. м³.
Пл. вадазбору 10 км².

У бас. р. Страча, за 36 км на З ад г. п. Мядзел, каля в. Навасёлкі. Схілы катлавіны вышынёй 4—5 м (на З і ПдЗ да 20 м), парaслі хмызняком, на З і У разараныя. Берагі сплавінныя, на У зліваюцца са схіламі. Дно выслана сапрапелем. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**СВІ́РСКІ РУЧА́Й,** у Мядзельскім р-не, у бас. Віліі. Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ПнЗ ад в. Сёмкі, упадае ў воз. Свір на У ад г. п. Свір. Рэчышча на працягу 0,6 км каля в. Болькава каналізаванае.

**СВІ́РЫЦА,** Сві́ранка, рака ў Мядзельскім р-не, левы прыток Страчы (бас. Віліі).

**Даўжыня 6 км.**
**Пл. вадазбору 419 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці больш за 3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Выцякае з паўночна-заходняга боку воз. Свір, упадае ў Страчу на Пд ад в. Валодзькі.

**СВІ́СЛАЧ,** рака ў Мінскай і Магілёўскай абласцях, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 285 км.**
**Пл. вадазбору 5,2 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 40—50 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца на Мінскім узвышшы за 1,5 км на ПдУ ад в. Шапавалы Валожынскага р-на, вусце на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Свіслач Асіповіцкага р-на. Асноўныя прытокі: Вяча (упадае ў Заслаўскае вадасховішча), Волма, Балачанка (злева), Цітаўка, Талька, Сіняя (справа). Рака цячэ па цэнтральнай частцы Мінскага ўзвышша і па заходняй ускраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Даліна ў вытокавай частцы V-падобная і скрынкападобная, у сярэднім цячэнні пераважна трапецападобная, у ніжнім — невыразная або трапецападобная, шырыня яе ў вярхоўі 0,4—0,6 км, у сярэднім і ніжнім цячэнні 1—2 км. Схілы ў верхнім і сярэднім цячэнні ўмерана стромкія, радзей спадзістыя (вышыня 10—12 м), парэзаныя далінамі прытокаў. Пойма двухбаковая (радзей аднабаковая), чаргуецца па берагах, парэзаная старыцамі і меліярацыйнымі каналамі, пераважна адкрытая. Шырыня яе 0,3—0,5 км у верхнім і 0,8—1 км у ніжнім цячэнні. Рэчышча ў межах Мінска і ніжэй да в. Каралішчавічы Мінскага р-на на 7 невялікіх участках агульнай працягласцю 7,9 км каналізавана. У вярхоўі ад в. Векшыцы рака з'яўляецца часткай канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, шырыня рэчышча да Заслаўскага вадасховішча 20—25 м. У межах Мінска рака ўтварае 8 лукавін. У цэнтры горада берагі забетаніраваны, добраўпарадкаваны. У сярэднім і ніжнім цячэнні рэчышча меандруе, глыбокаўрэзанае, звілістае, шырынёй 25—30 м, ніжэй плаціны Асіповіцкага вадасховішча — да 50 м. Берагі ў ніжнім цячэнні вышынёй 2—3 м, месцамі 6—8 м. Прыродны рэжым ракі зарэгуляваны каскадам вадасховішчаў



Рака Свіслач у Мінску. Свята горада.



Возера Світа.

(Заслаўскае, Крыніца, Дразды, Камсамольскае возера, Чыжоўскае, Асіповіцкае). На сцек ракі ўплывае таксама перакідка вады з Віліі па Вілейска-Мінскай воднай сістэме. З вадасховішча Дразды частка сцёку паступае ў Сляпянскую водную сістэму, у перспектыве паступіць у Лошыцкую водную сістэму, што дасць магчымасць стварыць воднае кола ў Мінску агульным працягам каля 50 км. Лядовы рэжым значна змяніўся пасля будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Да яе будаўніцтва рака замярзала ў сярэдзіне снежня, крыгалом у 2-й палове сакавіка, найбольшыя ўзроўні вады ў 1-й дэкадзе красавіка, працяг разводдзя 50 сутак; пасля будаўніцтва рэжым ракі мала вывучаны. У рацэ водзяцца акунь, плотка, шчупак, карась, лінь, але ніжэй Мінска рака забруджана і рыбы амаль няма. На Свіслачы гарады Мінск і Заслаўе.

**СВІСЛАЧ,** рака ў Гродзенскай вобл., левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 121 км.**
**Пл. вадазбору 1800 км² (у т. л. на тэрыторыі Беларусі 1432 км²).**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 9 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Занкі 1-я Свіслацкага р-на, у верхнім і сярэднім цячэнні цячэ па ўсходніх схілах Гродзенскага і заходніх свілах Ваўкавыскага ўзвышшаў, упадае ў Нёман за 1,2 км на Пн ад г. п. Свіслач. Асноўныя прытокі: Рудаўка, Куклянка, Бераставічанка, Верацейка, Пікелка (справа), Устачанка, Нятупа, Уснарка, Одла, Індурка, Лашанка (злева). Даліна ў верхнім і ніжнім цячэнні трапецападобная, яе шырыня 0,8—2 км, у сярэднім не выражана. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія, парэзаныя далінамі прытокаў і ярамі. Пойма двухбаковая, яе шырыня 300—500 м, роўная, у сярэднім цячэнні не выражана, пераважна балочаная. Рэчышча на працягу 30,6 км каналізаванае: ад вытоку да в. Дварчаны (8,5 км) і ад граніцы з Польшчай да в. Ярмолічы (22,1 км). На астатнім працягу звілістае, шырыня ў верхнім цячэнні 3—6 м, ніжэй 10—35 м, месцамі да 60 м. Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка.

**СВІТА,** возера ў Пастаўскім р-

**Пл. 0,83 км².**
**Найбольшая глыбіня 31 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1,06 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,44**
**Аб'ём вады 7,54 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 22 км².**

У бас. р. Мядзелка, за 7 км на ад г. Паставы, каля в. Сіманькі. С лы катлавіны вышынёй 20—35 м, раслі лесам і хмызняком, у верхн частцы часткова разараныя. Бер пад хмызняком. Пойма шырын 10—15 м, на 3 да 200 м. 3 астра агульнай пл. 0,016 км². Найбольш глыбіні ў паўднёвай частцы возе Дно ў прыбярэжнай частцы пяс нае, глыбей глеістае. Зарастае сла шырыня паласы прыбярэжнай ра лінасці да 5 м. Упадае ручай з в Чэцверць, выцякае ручай у в Світка.

**СВІТКА,** возера ў Пастаўскім р-

**Пл. 0,23 км².**
**Даўжыня 0,87 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2 км.**
**Пл. вадазбору 23,5 км².**



**Рака Свіслач (басейн Дняпра) на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска.**

у бас. р. Мядзелка, за 7 км на Пд г. Паставы, каля в. Сіманькі. Схі- катлавіны вышынёй да 8 м, на дЗ да 13 м, часткова разараныя. лучана ручаём з воз. Світа, на Пн цякае р. Спорыца.

**ВІЦЯЗЬ,** рака ў Навагрудскім р-не, авы прыток р. Оса (бас. Нёмана). аўжыня 8,5 км. Пачынаецца каля Несутычы, упадае ў Осу за 0,5 км ПнЗ ад в. Асташына. Рэчышча аналізаванае.

**ВІЦЯЗЬ,** возера ў Навагрудскім р-не.

**Пл. 2,24 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 15 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 1,6 км.**
**Аб'ём вады 7,84 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 14 км$^2$.**



**Возера Свіцязь (Навагрудскі раён).**

У бас. р. Моўчадзь, за 22 км на Пд ад г. Навагрудак, за 3 км на Пд ад в. Валеўка, на тэрыторыі Свіцязянскага ландшафтнага заказніка. Схілы катлавіны параслі лісцевым, месцамі хвойным лесам, на Пд і ПдЗ забалочаныя, тарфяністыя. Прыбярэжная частка возера да глыбіні 3—5 м выслана пяском, глыбакаводная — ілам. Слаба зарастае. У возеры растуць лабелія Дортмана і палушнік азёрны, занесеныя ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу. Выцякае р. Сваротва. На возеры пансіянат «Свіцязь», шматлікія зоны адпачынку.

**СВІЦЯЗЬ,** возера ў Нясвіжскім р-не.

**Пл. 0,19 км$^2$.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,2 км.**

У бас. р. Уша (цячэ праз возера), за 2 км на ПдЗ ад г. Нясвіж, каля в. Фэрбаўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, пераважна разараныя, на ПнЗ пад лесам. На Пд у месцы вытоку Ушы агароджана дамбай.

**СВО́ЛЬНА,** рака ў Пскоўскай і Віцебскай абл., правы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 99 км.**
**Пл. вадазбору 1510 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 11,7 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Выцякае з воз. Нечарыца (Себежскі р-н), цячэ па Полацкай нізіне (даўжыня на Беларусі 93 км) па мяжы Расонскага і Верхнядзвінскага р-наў, сярэдняе і ніжняе цячэнне ў Верхнядзвінскім р-не, вусце насупраць в. Цясты, размешчанай на левым беразе Дрысы. Верхняе і сярэдняе




**Возера Світа.**




**Возера Свіцязь (Навагрудскі раён).**



**Рака Свіслач (басейн Нёмана) каля в. Ярмолічы Бераставіцкага раёна.**

...la 3 і У забалочаная пойма шырынёй 100—150 м. Выцякае ручай у ... Дрыса.

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,45 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.

У бас. р. Шэвінка, за 16 км на ПнЗ ад Віцебска, за 2,5 км на ПдУ ад в. Заронава (на У ад воз. Княжно). Ляжыць сярод марэнных узгоркаў вышынёй 5 м; з паўднёвага боку хмызняк, з паўночнага — сельгасугоддзі.

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

Пл. 0,05 км².
Даўжыня 0,32 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.

У бас. р. Ужыца, за 28 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, за 1,5 км на У ад в. Селішча. Схілы катлавіны на Пн і З невыразныя, на Пд вышынёй да 5 м (на У і ПнУ 15—20 м), пад лесам; на Пн і З забалочаны хмызняк.

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,42 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,98 км.

У бас. р. Дрыса, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 3 км на ПнУ ад в. Шчаперня. Вакол возера забалочаная пойма, на Пд — лес.

**СВЯТОЕ ВОЗЕРА,** гл. *Каранёва.*

**СВЯТЦА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,29 км².
Найбольшая глыбіня 4,1 м.
Даўжыня 0,74 км.
Найбольшая шырыня 0,59 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.
Аб'ём вады 0,76 млн. м³.
Пл. вадазбору 4,1 км².

У бас. р. Друйка, на паўночнай ускраіне г. Браслаў. Схілы катлавіны на Пн нізкія, пад забудовамі, часткова разараныя, месцамі зменяюцца балотамі, на Пд камавыя ўзгоркі вышынёй да 15 м. Берагі пераважна нізкія, забалочаныя, на Пд вышынёй да 0,5 м. Пойма шырынёй 5—70 м. Дно выслана сапрапелем, вузкая прыбярэжная частка (акрамя З) пясчаная. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 3—15 м, пашырана да глыбіні 1 м. На З выцякае ручай у воз. Бярэжа.

**СВЯТЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток р. Вялікая Вязынка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца з Радушскага канала за 1,6 км на ПнЗ ад в. Змяёўка, упадае ў Вялікую Вязынку за 3,3 км на ПдЗ ад в. Баршчоўка Радушскага сельсавета.

**СВЯЦЕЦ,** Свяцінец, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,04 км².
Даўжыня 0,25 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.

У бас. Зах. Дзвіны, за 23 км на ПнЗ ад Полацка, за 0,5 км на Пн ад в. Мікуліна. Вакол возера балота з хмызняком, на У — лес.

**СВЯЦІЛАЎКА,** рака ў Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Старое Ляда, вусце на заходняй ускраіне в. Рудня Лебядзянкаўскага сельсавета. Рэчышча на працягу 4,8 км ад вытоку да в. Свяцілавічы і на працягу 0,6 км каля паўднёвай ускраіны гэтай вёскі каналізаванае. У нізоўі рака перасыхае.

**СВЯЦІЦА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток р. Вужыца (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 46 км²
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Свяціца, вусце за 1 км на У ад в. Шаўракі.

**СВЯЦІЦКІ КАНАЛ,** Свеціцкая канава, Свяціцкая канава, меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, левы прыток р. Шчара (бас. Нёмана). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 8 км на ПдУ ад в. Свяціца, упадае ў Шчару за 3,5 км на Пн ад воз. Выганашчанскае.

**СВЯЦІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, правы прыток аднайменнага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца за 35 км на Пн, вусце за 6 км на ПдЗ ад в. Свяціца.

**СВЯЧА,** вадасховішча ў Нараўлянскім р-не.

Пл. 0,78 км².
Найбольшая глыбіня 3 м.
Даўжыня 1,13 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Аб'ём вады 1,77 млн. м³.
Сярэдні шматгадовы сцёк 18,2 млн. м³.

Створана ў 1981 у пойме р. Гразіва за 28 км на ПдЗ ад г. Нароўля, каля в. Мальцы для акумуляцыі сцёку веснавой паводкі з выкарыстаннем яе для ўвільгатнення зямель, рыбагадоўлі і воднага добраўпарадкавання прылеглых тэрыторый. Даўжыня агараджальнай дамбы 3,57 км. Наліўное: напаўняецца вадой з р. Гразіва па водападводзячым канале. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 1 м.

**СВЯЧАНКА,** рака ў Сенненскім, Чашніцкім і Бешанковіцкім р-нах, правы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 84 км.
Пл. вадазбору 551 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,5 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.




Возера **Святца.**

Выцякае з воз. Вялікае Святое за 1,6 км на У ад в. Замошша, вусце за 1,8 км на З ад в. Броды Бешанковіцкага р-на. Прытокі — р. Свінка (злева), невялікія ручаі і меліярацыйныя каналы. Цячэ праз азёры Хотлінскае, Маеўскае, Сцержань (да ўпадзення ў гэтае возера рака называецца Свяча). Слабадское. Даліна амаль на ўсім працягу трапецападобная, каля вытоку і воз. Сцержань У-падобная; пераважная шырыня 0,2—0,4 км, каля азёр, праз якія цячэ Свячанка, пашыраецца да 1—1,5 км. Пойма двухбаковая, чаргуецца па берагах, шырыня 0,1—0,3 км, каля в. Вярхоўе і Броды Бешанковіцкага р-на адсутнічае. Рэчышча ад вытоку на працягу 10,6 км каналізаванае. Пераважная шырыня рэчышча 5—10 м, у ніжнім цячэнні да 15 м.

**СЕВЯРЫНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, правы прыток Заўшыцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Севярыны.



Рака **Свячанка** каля вёскі Свяча Бешанковіцкага раёна ў зімовы перыяд.



Возера Селішча.




Возера Семяховічы.

**СЕЛІГО́РЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,58 км.**

У бас. р. Нача, за 22 км на ПдЗ ад г. Полацк, каля в. Глыбачка. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м. Ёсць некалькі падоўжаных заліваў.

**СЕЛІКО́ЎСКАЯ РЭ́ЧКА,** рака ў Віцебскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 39 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Сапраны, вусце за 1,3 км на ПдУ ад в. Астраўскія.

**СЕ́ЛІШЧА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 14 м.**
**Даўжыня 1,73 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,28 км.**
**Аб'ём вады 2,56 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 76,8 км².**

У бас. р. Ушача, за 10 км на З ад г. п. Ушачы, каля в. Селішча. Схілы катлавіны вышынёй 4—8 м (на ПдЗ і Пн 14—19 м), на У парослі лесам, на З і Пн у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй частцы пад выганам ці разараныя. Берагі нізкія, на З і Пд забалочаныя, тарфяністыя. Мелкаводная зона вузкая, у глыбакаводнай адзначаюцца тры ўпадзіны глыбінёй 7,7, 14, 11,5 м. Каля паўднёвага берага востраў пл. 0,2 га. Дно да глыбіні 1,5 м выслана пяскамі, ніжэй — ілам. Шырыня паласы надводнай расліннасці 4—30 м, пашырана да глыбіні 2,5 м; падводная расліннасць пашырана да глыбіні 4,4 м. Праз возера цячэ р. Альзініца.

**СЕЛІША́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток Ліпніцкага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца з Ліпніцкага канала за 2 км на ПдУ ад в. Селішчы Казлоўскага сельсавета, упадае ў яго за 0,6 км на ПдУ ад в. Ліпнікі.

**СЕ́ЛЬПЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,17 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Друйка, за 21 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 1,5 км на ПнУ ад в. Далікатары. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на Пн і З невыразныя), парослыя забалочаным хмызняком, на Пд пад лесам. Вакол возера пойма шырынёй 25 м. Выцякае ручай у р. Друйка.

**СЕ́ЛЬЦЫ,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 0,67 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.**
**Пл. вадазбору 8,25 км².**

У бас. р. Лучайка (правы прыток р. Дзісна), якая выцякае з возера, за 14 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 1 км на ПдЗ ад в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Пойма шырынёй 25—50 м, забалочаная, пад лугам.

**СЕЛЯДЦО́ВА,** Мохавае воз[…] возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 0,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,25 км**
**Пл. вадазбору 3,75 км².**

У бас. р. Свольна, за 23 к[м …] ПнУ ад г. Верхнядзвінск, каля в[…] лядцова. Схілы катлавіны вы[…] нёй 6—10 м, параслі лесам, на [...] ПдЗ разараныя. У паўднёвай ча[…] доўгі вузкі заліў. Берагі заб[…] чаныя.

**СЕЛЯХО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Селя[…] скае возера, Селяхі, у Бр[…] кім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,6 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,7[…]**
**Аб'ём вады 1,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,75 км².**

У бас. р. Зах. Буг, за 55 км […] г. Брэст, каля в. Селяхі. Схілы […] лавіны часткова пад ворывам. М[…] каводдзе пясчанае, глыбей пашы[…] ны сапрапелі магутнасцю да 12,5[…] Уздоўж берагоў зарастае трысняг[…] чаротам; падводная расліннасць […] шырана да глыбіні 3,5—4 м. Злуч[…] ручаём з возерам без назвы.

**СЕМЯНЕ́Ц,** возера ў Полацкім р-[не].

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,46 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 10 км […] Пд ад Полацка, каля в. Семян[…] Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, [ра]заранныя. На З забалочаная пой[ма] шырынёй 50—100 м. Выцякае ручай […] воз. Заазер'е.

**СЕМЯХО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацы[й]ны канал у Пінскім р-не, пра[вы] прыток канала Безуменнік (бас. Пр[и]пяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца […] 3 км на ПнУ, вусце за 3 км на П[…] ад в. Семяховічы.

**СЕМЯХО́ВІЧЫ,** возера ў Пінскім р-н[е].

**Пл. 0,32 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,52 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**

У бас. р. Піна, за 30 км на ПдЗ а[д] г. Пінск, каля в. Семяховічы. Схіл[ы] катлавіны вышынёй да 1 м, разара[]ныя, на Пн пад хмызняком. Берагі высокія, на Пн забалочаныя, па[д] хмызняком. Больш за 50 % пл. дн[а] выслана сапрапелем. На Пн з возер[а] выцякае канал.

**СЕНАЖА́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацый[]ны канал у Жлобінскім р-не, лев[ы] прыток р. Добасна (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Кабанаўка, упадае ў Добасну за 0,3 км на ПнЗ ад в. Гар[]бачоўская Слабада.

**НЕЧКА,** рака ў Клімавіцкім і Краспольскім р-нах, левы прыток Сянна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 26 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад Канчары Клімавіцкага р-на, вусе за 2 км на ПнУ ад в. Касцюкоўа Краснапольскага р-на. Цячэ пераважна па лясістай мясцовасці.

**ЕНІЦА,** рака ў Мінскім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца з сажалкі на паўднёвай ускраіне в. Сеніца, вусце на паўднёвай ускраіне . Новы Двор. Рэчышча на працягу ,5 км (в. Сеніца — 1,9 км ніжэй моста на чыгунцы Мінск — Асіповічы) каналізаванае. На рацэ вышэй ад . Клімавічы плаціна і сажалка.

**ЕНКАЎ,** ручай у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Бабруйка (бас. Дняпра). Даўжыня 21,6 км. Пачынаецца на паўночна-заходняй ускраіне . Бабруйск, вусце за 0,5 км на У ад . Заціша. Рэчышча перад вусцем на працягу 7,7 км каналізаванае.

**ЕННЕНСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Сянно.*



Возера **Серакаротня.**

**СЕНЦЯНЯЦКІ РУЧАЙ,** ручай у Смаргонскім р-не, правы прыток р. Вілія. Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Дзенавішкі, у нізоўі цячэ сярод лесу, упадае ў Вілію за 1,8 км на ПнЗ ад в. Сенцяняты. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Паляны створана сажалка (пл. 0,12 км²).

**СЕНЬКАЎШЧЫНА,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Мамойкі 1-я, упадае ў Слабадское возера з ПдУ каля в. Слабодка.

**СЕРАБРАНКА,** рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 89 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Вялікае Чорнае, вусце на паўднёвай ускраіне г. Шклоў. Рэчышча на працягу 2,6 км (ад вытоку да в. Малыя Аўчыненкі) каналізаванае. На рацэ ў в. Вялікі Стары Шклоў плаціна і сажалка.

**СЕРАБРОНСКІ КАНАЛ,** С е р а б р о н с к а я к а н а в а, меліярацыйны канал у Акцябрскім р-не, левы прыток р. Нератоўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПдЗ ад в. Лескі, вусце за 5,5 км на ПдЗ ад г. п. Акцябрскі.

**СЕРАДОВАЯ РЭЧКА,** рака ў Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, левы прыток р. Спанаўка (бас. Зах. Буга). Раней лічылася прытокам Зах. Буга, але па канале была адведзена ў Спанаўку. Даўжыня 28 км (разам з каналам). Пл. вадазбору 115 км². Цячэ на ПдЗ Брэсцкага Палесся. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Хмялёўка Маларыцкага р-на, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Знаменка Брэсцкага р-на. Каналізавана 11,6 км рэчышча ў ніжнім і 9 км у верхнім цячэнні.

**СЕРАКАРАТНЯНКА,** рака ў Сенненскім р-не, левы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 356 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Выцякае з Дзевінскага возера (у некаторых даведніках за пачатак ракі прымаюцца суткі рэк Добрынка і Зерамнянка за 1 км на У ад в. Добрына, дзе яна вядома пад назвай С е р а к а р о т н я), цячэ праз воз. Серакаротня. Вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Шылы. Асноўныя прытокі: р. Зелянуха (справа) і р. Песачанка (злева).

**СЕРАКАРОТНЯ,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 1,75 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,8 м.**
**Даўжыня 5,24 км.**
**Найбольшая шырыня 0,65 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,3 км.**
**Аб'ём вады 6,07 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 194 км².**

У бас. р. Лучоса, за 34 км на У ад г. Сянно, на ПдУ ад г. п. Багушэўск. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на З да 20 м), на У і ПдУ вышынёй 4—5 м, пад хмызняком, часткова разараныя. Берагі на Пн зліваюцца са схіламі, на У участкамі сплавінныя. Мелкаводдзе пясчанае, астатняя частка ложа выслана ілам. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 30 м, месцамі адсутнічае. Моцна зарастаюць усходняя і заходняя часткі возера. Расце ахоўны від флоры Беларусі — наяда марская. Праз возера цячэ р. Серакаратнянка.

**СЕРГУЦКІ КАНАЛ,** канал у складзе былой Бярэзінскай воднай сістэмы ў Лепельскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца з р. Сергуч за 3 км на ПнЗ ад в. Кветча, упадае ў Бярэзіну за 2 км на ПдЗ ад в. Крайцы. Цячэ праз Бярэзінскі біясферны запаведнік.



**Селяхоўскае возера.**




**Возера Семяховічы.**




**Возера Серакаротня.**




Возера Серакаротня.

**СЕ́РГУЧ,** рака ў Лепельскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

> **Даўжыня 47 км.**
> **Пл. вадазбору 238 км$^2$.**
> **Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 м$^3$/с.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Пачынаецца з воз. Тэкліц, цячэ праз азёры Вольшыца, Плаўна і Манец, частка сцёку пападае ў Бярэзінскі канал (бас. Зах. Дзвіны). Ніжэй воз. Манец называецца р. Бузянка. Праз пратоку злучана з воз. Домжарыцкае, ніжэй в. Домжарыцы асноўны сцёк ідзе па Сергуцкім канале. Вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Крайцы. Працякае па Верхнебярэзінскай нізіне, амаль цалкам у межах Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Уваходзіць у склад былой Бярэзінскай воднай сістэмы. Даліна невыразная, каля вытоку трапецападобная, шырынёй 0,5—1 км. Пойма двухбаковая, шырыня яе ад 0,05—0,25 км у вытокавай частцы да 1—1,3 км паблізу ўпадзення ракі ў воз. Вольшыца. Паверхня поймы пераважна раўнінная, радзей куп'істая, забалочаная, складзена з торфу; у разводдзе затапляецца на глыбіню 0,4—0,5 м. Рэчышча ад вытоку да воз. Вольшыца звілістае. Берагі пераважна нізкія, забалочаныя.

**СЕ́РДАВА,** возера ў Полацкім р-не.

> **Пл. 1,1 км$^2$.**
> **Найбольшая глыбіня 9 м.**
> **Даўжыня 2,92 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,7 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 6,86 км.**
> **Аб'ём вады 5,04 млн. м$^3$.**
> **Пл. вадазбору 3,61 км$^2$.**

У бас. р. Нача, за 24 км на ПнЗ ад г. Полацк, каля г. п. Ветрына. Схілы катлавіны вышынёй 10—25 м (на ПнЗ 30—35 м), на З пад выганам, на У пад агародамі; на вышыні 2—6 м абразійны ўступ. Ёсць 3 вялікія (на Пд і З) і некалькі меншых заліваў, 5 астравоў агульнай пл. 0,09 км$^2$. Берагі нізкія, часткова пад хмызняком, на Пн і З участкамі сплавінныя. На Пн, ПдУ і З забалочаная, парослая хмызняком пойма шырынёй 20—30 м. Дно выслана пяском, глыбей 4 м — ілам. Шырыня паласы надводнай расліннасці 2—10 м, пашырана да глыбіні 2,2 м; падводная расце да глыбіні 2,5—3,5 м. Злучана ручаём з воз. Рудзёнкава (на Пн).

**СЕ́РМЕЖ,** С ы р м е ж, рака ў Пастаўскім і Мядзельскім р-нах, левы прыток р. Вялікі Перакоп (бас. Віліі). Пачынаецца каля в. Ясева Пастаўскага р-на. Даўжыня 15 км. Пл. вадазбору 35 км$^2$. Цячэ па паўднёвай ускраіне Свянцянскіх град, праз воз. Кузьмічы, упадае ў Вялікі Перакоп на ПдУ ад в. Мельнікі. Рэчышча на працягу 5,2 км каналізаванае: на ўчастку 3,1 км да в. Нарач і 2,1 км да вусця.

**СЕ́ТАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** С е т ы, возера ў Глыбоцкім р-не.

> **Пл. 0,49 км$^2$.**
> **Найбольшая глыбіня 19,8 м.**
> **Даўжыня 1,7 км.**
> **Найбольшая шырыня 0,41 км.**
> **Даўжыня берагавой лініі 4,93 км.**
> **Аб'ём вады 3,93 млн. м$^3$.**
> **Пл. вадазбору 4,72 км$^2$.**

У бас. р. Дабрылаўка, за 11 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Вераб'і. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на З і Пд 10—27 м), разараныя, часткова пад хмызняком, на ПдЗ пад лесам. Берагі нізкія, задзернаваныя. На З, ПнУ і ПнЗ пойма шырынёй 3—50 м. Дно выслана ілам, у зоне мелкаводдзя пясчанае. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 50 м, месцамі адсутнічае. Злучана канавай з воз. Загорскае.



Возера Сердава.

**СЕ́ЧНА,** С е ш н я, рака ў Шумі[скім] р-не, правы прыток Дзвіны.

> **Даўжыня 21 км.**
> **Пл. вадазбору 166 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паве[рхні] 1,1 ‰.**

Выцякае з воз. Дабееўскае за 0,5 [км] на ПдУ ад в. Ільінцы Дабейск[ага] сельсавета, вусце каля в. Ярш[...] Рэчышча ад вытоку на працягу 7 [км] каналізаванае.

**СІВЕ́ЛЬГА,** рака ў Слуцкім і Са[лігорскім] р-нах, правы прыток р. Сл[...] (бас. Прыпяці).

> **Даўжыня 19,5 км.**
> **Пл. вадазбору 200 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ [ад] в. Прусы Салігорскага р-на, вусце [за] 2 км на ПдУ ад в. Вялікі Быкоў Са[лі]горскага р-на. Рэчышча каналізава[н]ае. Прыток злева — р. Дзявіца.

**СІВІЧА́НКА,** рака ў Валожы[н]скім р-не, левы прыток р. Волка (ба[с.] Нёмана).

> **Даўжыня 21 км.**
> **Пл. вадазбору 37 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца на заходніх схіла[х] Мінскага ўзвышша за 1 км на ПдЗ а[д] в. Сівіца, цячэ па Налібоцкай пушчы, упадае ў Волку за 7,8 км на ПдУ а[д] в. Белы Бераг Іўеўскага р-на. Пойм[а] пераважна забалочаная. Рэчышча д[а] вусця на працягу 4,1 км каналізаванае.

**СІКУ́Н,** рака, гл. *Сікуня.*

**СІКУ́НА,** рака, гл. *Сікуня.*

**СІКУ́НКА,** рака ў Смаргонскім р-не, правы прыток Ашмянкі (бас. Віліі).

> **Даўжыня 13 км.**
> **Пл. вадазбору 89 км$^2$.**
> **Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Солы, цячэ праз воз. Рыжае, упадае ў Ашмянку на З ад в. Валейкавічы. Асноўны прыток — р. Ратагол. У сярэднім цячэнні працякае праз лес. Рэчышча каналізаванае.

**СІКУНЯ,** Сікуна, Сікун, рака ў Смаргонскім р-не, правы прыток Ашмянка (бас. Віліі).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 75 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Кушляны 1-я, цячэ па паўночных схілах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Ашмянку на У ад в. Солы. Прыток — р. Студзянец. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,3 км каналізаванае.

**СІЛОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Мёрыца, за 8 км на ПнУ ад г. Міёры, каля в. Сілова. Злучана ручаямі з воз. Чэрас (на Пд) і р. Мёрыца (на Пн).

**СІМА,** рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток р. Чапунька (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца каля в. Вікшняны, упадае ў Чапуньку за 1,6 км ад в. Яськавічы. Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СІМАНАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток р. Ласінцы (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Суткі, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Пярэспа.

**СІМАНІХА,** рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Чарнуйка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Клюшова, вусце каля в. Гара. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,1 км каналізаванае.

**СІНЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 32 км на ПнУ ад г. Полацк, за 10 км на ПдЗ ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на З да 20 м), пад лесам. Ёсць некалькі заліваў. Берагі часткова забалочаныя. На З і Пн пойма шырынёй 50—100 м.

**СІНІ РУЧАЙ,** гл. *Салаўіны ручай.*

**СІНІЦКАЯ,** рака ў Дзяржынскім р-не, правы прыток р. Ператуць (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,7 км на З ад в. Скароднае, цячэ пераважна сярод лесу, упадае ў Ператуць на З ад в. Логавішча. Пойма ад в. Скароднае пераважна забалочаная. Рэчышча на працягу 3 км ад вытоку і 2 км перад вусцем каналізаванае.

**СІНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, левы прыток Зашыр'еўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 5,5 км на ПнЗ, вусце каля в. Зашыр'е.

**СІНІЧКА,** ручай у Ашмянскім р-не, левы прыток р. Ашмянка (бас. Віліі). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца каля в. Вялікія Шумелішкі, упадае ў Ашмянку на У ад в. Жупраны. Рэчышча каналізаванае.

**СІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лоеўскім р-не, левы прыток р. Пясочанка (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2,3 км на Пн ад в. Сінск, упадае ў Пясочанку за 1,6 км на У ад в. Крывін.

1 — у воз. Загорскае

Сетаўскае возера.




Возера Сіньша.



Возера Сіньша.

**СІНЧАК,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,25 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 34 км на ПнУ ад Полацка, за 9 км на ПдЗ ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад лесам, на Пд забалочаны хмызняк. Упадае ручай з воз. Сінец.

**СІНЬКА,** Дражнеўскі канал, меліярацыйны канал у Асіповіцкім р-не, левы прыток Пратасевіцкага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Дражня, упадае ў Пратасевіцкі канал за 1 км на ПдЗ ад в. Верхі.

**СІНЬША,** возера ў Расонскім р-не, на мяжы з Пскоўскай вобласцю.

**Пл. 2,53 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,1 м.**
**Даўжыня 4 км.**
**Найбольшая шырыня 1,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,9 км.**
**Аб'ём вады 8,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1782 км².**



Возера Сіта.

У бас. р. Дрыса (цячэ праз возера), за 37 км на У ад г. п. Расоны, за 6 км на ПдУ ад в. Забор'е. Двума астравамі (агульная пл. 0,17 км²) і паўастравам катлавіна падзелена на 2 часткі, злучаныя вузкімі пралівамі. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на ПнУ 5—8 м) параслі лесам. Ёсць мноства невялікіх заліваў. Пойма шырынёй 10—20 м, пад хмызняком. Дно да глыбіні 2,5—3 м выслана пяском, ніжэй ілам і сапрапелем. Зарастае да глыбіні 3,5 м, асабліва паўночная частка. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 20—30 м, пашырана да глыбіні 2,2 м. У заходніх залівах паўночна-ўсходняй часткі возера расце вадзяны арэх, занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Злучана пратокамі з азёрамі Валоба (на ПнЗ) і Данское (на Пд). Маляўнічасць і зручнае палажэнне робяць возера прыдатным для воднага турызму і адпачынку.

**СІНЮ́ХА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, Латвіі (З і л у п е) і Пскоўскай вобл. (С і н я я), левы прыток р. Вялікая (бас. Чудскога возера).

**Даўжыня 195 км.**
**Пл. вадазбору 2040 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 10 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Сукалі, на працягу 14 км у межах Беларусі цячэ па лясістай мясцовасці, далей на Латвіі і Расіі, вусце за 21 км на Пд ад г. Востраў.

**СІНЯГО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Сінятова, вусце за 2 км на Пд ад в. Вярхуціна.

**СІ́НЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Пухавіцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,57 км.**

У бас. р. Пціч, за 33 км на З ад г. Мар'іна Горка, за 5 км на З ад в. Церабель, сярод меліяраванага балота. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя.

**СІ́НЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Чэрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,13 км².**
**Даўжыня 1,46 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,88 км.**

У бас. р. Сож, за 5 км на ПдЗ ад г. Чэрыкаў, за 1,5 км на Пд ад в. Міраміцч. Схілы катлавіны невыразныя, на Пн вышынёй да 4 м, парослі хмызняком. Злучана ручаём з затокай р. Сож. Старычнае.

**СІНЯРО́ЎКА,** назва р. *Нешчанка* ў верхнім цячэнні.

**СІНЯ́ЎКА,** рака ў Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца з балота Мурашова за 1 км на У ад в. Угодзіна, вусце за 0,4 км на У ад в. Берлеж. Рэчышча каналізаванае.

**СІ́НЯЯ,** рака ў Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 508 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на З ад в. Паплавы, вусце за 2,8 км на ПнУ ад в. Цяплухі. Асноўныя прытокі: Пратасевіцкі канал (злева) і Каранскі канал (справа). Рэчышча каналізаванае. На рацэ г. Асіповічы.

**СІ́НЯЯ ЛУ́ЖА,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток канала Печышчы (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Расава, упадае ў канал Печышчы за 2 км на ПнУ ад в. Медзведаў.

**СІПА́,** рака ў Зэльвенскім і Мастоўскім р-нах, левы прыток Шчары (бас. Нёмана).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 147 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца каля в. Грабава Зэльвенскага р-на, цячэ праз воз. Азяранскае, упадае ў Шчару на ПнЗ ад в. Пясчанка Мастоўскага р-на. Рэчышча на працягу 9 км каналізаванае: ад в. Букштава да в. Малыя Азёркі (3 км) і ад пункта за 1,4 км н[а] ... воз. Азяранскае да в. Баяры (6 ... Пойма да возера амаль на ўсім [пра]цягу забалочаная.

**СІПУ́РКА,** рака ў Камянецкім р[-не] ... Польшчы, у бас. Зах. Буга.

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 258 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паве[рхні] 1,5 ‰.**

Пачынаецца на тэрыторыі П... шчы, цячэ па паўночнай частцы П... бугскай раўніны. Зліваецца з р. ... лічна (утвараюць р. Белая) на П... в. Стаўповіскі. Рэчышча на пра... 12 км (ад сажалкі каля в. Сіпурка ... вусця) каналізаванае.

**СІРЭНЕ́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацый[ны] канал у Драгічынскім р-не, л[евы] прыток Ляхавіцкага канала (бас. Пр[ы]пяці). Даўжыня 6,7 км. Пачынае[цца] каля в. Залужжа, вусце за 0,3 ... на Пн ад в. Сірэнеўка.

**СІ́ТА,** возера ў Браслаўскім р-не, мяжы з Латвіяй.

**Пл. 1,88 км².**
**Найбольшая глыбіня 28,5 м.**
**Даўжыня 3,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,79 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,8 км.**
**Аб'ём вады 14,4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,45 км².**

У бас. р. Друйка, за 16 км на З ... г. Браслаў, каля в. Крываселле. Схіл[ы] катлавіны вышынёй 10—12 м (на Пд 3 5—6 м), параслі лесам і хмызняко[м], участкамі пад лугам. Берагі па[д] хмызняком, на Пд забалочаныя. Пой[]ма шырынёй 4—12 м. Ёсць востра[ў] пл. 0,023 км². Дно да глыбіні 7—9 ... выслана пяском, ніжэй — ілам і са[]прапелем. Шырыня паласы прыбя[]рэжнай надводнай расліннасці 6—10 м, у паўночным і паўднёвым залі[]вах 40—50 м; падводная расліннасц[ь] расце да глыбіні 6—6,5 м. У возер[ы] жыве рэлікт ледавіковага перыяду — рачок лімнакалянус. На Пд выцякае ручай у возера без назвы.

**СІ́ТА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,48 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**



Возера Сіта (басейн р. Друйка).



Возера Скрыдлева.




Слабадское возера (Бешанковіцкі раён).

в. Хамічыцы Драгічынскага р-на. З'яўляецца агараджальным каналам польдэрнай сістэмы.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, левы прыток канала Новая Асіпоўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Дарапеевічы, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Малінаўка.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім і Брэсцкім р-нах, левы прыток Навасадскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8 км. Пачынаецца лясной канавай за 2 км на Пд ад в. Наваселле Маларыцкага р-на, вусце за 1 км на Пн ад в. Навасады Брэсцкага р-на.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля в. Любань, вусце за 4,5 км на ПдУ ад в. Лахаўка.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, левы прыток р. Перасека (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Убалоцце, упадае ў Перасеку за 2 км на ПнУ ад в. Астапаўка.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца з сажалкі № 10 рыбгаса «Волма», за 2 км на ПнЗ ад в. Клінок, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Турэц.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток канала Спад (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,9 км. Пачынаецца з Адрыжынскага канала за 1,5 км на ПдЗ ад в. Віўнева, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Баландзічы.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток р. Скрыпіца (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 3 км на У ад в. Лагвошчы, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Браніслаў.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** А б в а д н ы  к а н а л, меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, у бас. Зах. Буга. Даўжыня 6 км. Пачынаецца ад водаразмеркавальніка рыбгаса «Страдзеч» каля в. Дуброва, агінае рыбгас з Пн, упадае ў Прылуцкі канал за 0,5 км на Пн ад сажалкі Круглая.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Салігорскім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Вялікія Лістападавічы, вусце за 1 км на У ад г. п. Старобін.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток канала Рэдкі Рог (бас. Дняпра). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Орсічы, упадае ў канал Рэдкі Рог за 3 км на ПдЗ ад в. Язвінцы Светлагорскага р-на.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Белазерскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца каля паўночна-ўсходняй ускраіны в. Радастава, вусце за 1,3 км на ... ад в. Залессе.

**СКІДНЫ КАНА́Л,** назва р. Мл... у ніжнім цячэнні.

**СКНО,** возера ў Шаркоўшчын... р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05**

У бас. р. Дзісна, за 25 км на ... ад г. п. Шаркоўшчына, на Пн... в. Буды. Схілы катлавіны вышы... 2—5 м, на Пн і Пд невыразныя, у н... няй частцы пад лесам. На Пн пой... шырынёй да 50 м. Сцёк у ру... Расоха.

**СКО́БЕНКА,** меліярацыйны ка... у Бярэзінскім р-не, правы пры... р. Жорнаўка (бас. Дняпра). Даўж... 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З... в. Баркі, упадае ў Жорнаўку за 3... на Пд ад в. Жарамец.

**СКО́БРАЕ,** возера ў Полацкім р-...

**Пл. 0,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,3 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,34 к...**
**Аб'ём вады 1,38 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 5,4 км².**

У бас. р. Палата, за 20 км на Пн... ад г. Полацк, каля чыг. ст. Палат... Схілы катлавіны вышынёй 2—5... разараныя, на Пн вышынёй 6—10... пад хмызняком. Берагі нізкія, месц...мі забалочаныя. Пойма шырынё... да 8 м, участкамі пад хмызняко... Дно выслана сапрапелем, уздоў... берагоў да глыбіні 1—2 м пяско... і ілам. Шырыня паласы прыбярэж...най расліннасці 10—100 м, пашыран... да глыбіні 1,8 м. На ПдЗ злучан... пратокай з р. Палата.

**СКО́РЫЦА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток р. Гніліца (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецц... за 0,5 км на Пн ад в. Леніна, упада... ў Гніліцу за 0,7 км на ПнУ ад в. Цяля...давічы. Рэчышча каналізаванае.

**СКО́ЦІШЧА,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Сушытніца, вусце за 4,5 км на ПдЗ ад в. Вотчын.

**СКРЫ́ДЛЕВА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,76 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 2,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,41 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,98 км.**
**Аб'ём вады 2,43 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 110 км².**

У бас. р. Чарнічанка (цячэ праз возера), за 18 км на Пд ад г. Віцебск, каля в. Скрыдлева. Схілы катлавіны вышынёй 3—6 м, на ПдЗ да 9 м. Берагі нізкія, на Пн і Пд забалочаныя, на ПдЗ зліваюцца са схіламі. Дно ў прыбярэжнай частцы пясча-

глыбей глеістае. Шырыня пала-рыбяржнай раслінасці 8—50 м, одная раслінасць расце да глы-3 м.

**...ЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны ...л у Пухавіцкім р-не, левы пры-...р. Цітаўка (бас. Дняпра). Даўжы-...5 км. Пачынаецца каля в. Шыма-...Кут, упадае ў Цітаўку на ПдУ ... Падвілле.

**...ЫПІЦА,** рака ў Жыткавіцкім ..., левы прыток Прыпяці.

**...аўжыня 36 км.**
**...в. вадазбору 360 км².**
**...рэднегадавы расход вады ў вусці ... м³/с.**
**...рэдні нахіл воднай паверхні ...04 ‰.**

...ачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад ...агвошчы, вусце за 2 км на ПнЗ ...в. Перароў. Асноўныя прытокі: ...ліца і Навуць (злева). Цячэ па ...ве Прыпяцкае Палессе. Даліна на ... працягу невыразная. Рэчышча ...вытоку на працягу амаль 25 км ...алізаванае.

**...РЫПЛІЦА,** вадасховішча ў Кіраў-...м р-не.

**...Пл. 0,73 км².**
**...Найбольшая глыбіня 5 м.**
**...Даўжыня 1,0 км.**
**...Найбольшая шырыня 1 км.**
**...Аб'ём вады 1,39 млн. м³.**
**...Пл. вадазбору 94 км².**

...Створана ў 1981 г. за 10 км на ПнУ ...г. п. Кіраўск, каля в. Скрыпліца ... акумуляцыі веснавога сцёку ...Добасна з выкарыстаннем яго для ...шэння, рыбагадоўлі, воднага доб-...парадкавання прылеглых тэрыто-...й. Даўжыня агараджальнай дамбы ...5 км. Налiўное: напаўняецца вадой ...Добасны па водападводзячым ка-...ле. Ваганні ўзроўню вады на пра-...у года 1,5 м.

**...УЛЯНКА,** Ацкаўлянка, рака ...Лёзненскім р-не, правы прыток ...Мошна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 61 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца за 0,3 км на У ад Канашкава, вусце насупраць в. Су-...кі, размешчанай на левым беразе ...ошны. Рэчышча на працягу 4 км ... вусця каналізаванае.

**...УПА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, ...вы прыток р. Пад'яварка (бас. ...мана).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 19 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Лозкі, ...чэ праз лясныя ўрочышчы Добрая ...очка і Гончая Струга, упадае ў ...ад'яварку каля в. Копці. У верхнім ...ечэнні ў сухое лета перасыхае.

**СКУПО́Е ВО́ЗЕРА,** у Іванаўскім раёне.

**Пл. 0,13 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 0,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Аб'ём вады 0,17 млн. м³.**

У бас. р. Ясельда, за 22 км на Пн ад г. Іванава, на Пд ад в. Тышкавічы. Схілы катлавіны нізкія, месцамі забалочаныя. Берагі вышынёй 0,3—0,5 м, часткова пад хмызняком.

**СКУ́П'Я,** Гараднянка, рака ў Аршанскім р-не, правы прыток р. Аршыца (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 52 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,53 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Стайкі (цэнтр сельсавета), вусце за 0,7 км на ПдУ ад в. Антонвіль. Цячэ па Аршанскім узвышшы. Рэчышча на працягу 3,5 км ад вытоку да в. Новае Сяло каналізаванае.

**СЛАБАДА́ — ВАРО́НІЧЫ КАНА́Л,** гл. *Рудзенскі 1-ы канал.*

**СЛАБАДСКІ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Докшыцкім р-не, левы прыток Камайскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца каля в. Шалагіры, упадае ў Камайскі канал за 1,2 км на У ад в. Нававольберавічы.

**СЛАБАДСКІ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім і Бабруйскім р-нах, левы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Амельная Рагачоўскага р-на, упадае ў Алу за 2,5 км на Пд ад в. Туркі Бабруйскага р-на.

**СЛАБАДСКІ́ КАНА́Л,** Слабодкаўскі канал, меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Заруччa, упадае ў Чарніцу ў в. Слабодка.

**СЛАБАДСКО́Е ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,94 км².**
**Найбольшая глыбіня 22 м.**
**Даўжыня 2,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Пл. вадазбору 491 км².**

У бас. р. Свячанка (цячэ праз возера), за 11 км на З ад г. п. Бешанковічы, каля в. Ліцвякі. Злучана ручаём з воз. Чорнае.

**СЛАБАДСКО́Е ВО́ЗЕРА,** у Вілейскім р-не.

**Пл. 0,86 км².**
**Найбольшая глыбіня 11 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,77 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,75 км.**
**Аб'ём вады 4,33 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 6,14 км².**

У бас. р. Нарач, за 25 км на ПнЗ ад г. Вілейка, за 1,5 км на У ад в. Слабада (Іжскі сельсавет). Схілы катлавіны вышынёй 1—4 м, парaслі лесам, часткова разараныя. Берагі нізкія, пад хмызняком, месцамі забалочаныя, на ПнЗ вышынёй 0,3—0,4 м, абразійныя, тарфяністыя. Пойма шырынёй да 20 м, забалочаная, пакрыта




Возера Скрыдлева.




Слабадское возера (Вілейскі раён).



**Слабадское возера** (Вілейскі раён).

хмызняком. У прыбярэжнай зоне дно пясчанае, глыбей выслана сапрапелем. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 30—50 м, пашырана да глыбіні 1—1,5 м. На ПнЗ выцякае ручай у р. Нарач.

**СЛАБАЖА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,8 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Алексічы, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Буда. Прытокі — каналы Барысаўшчына (злева) і Тунеўшчына (справа).

**СЛАБОДКА,** рака ў Ашмянскім р-не, правы прыток р. Ластаянка (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Трасечаняты, упадае ў Ластаянку на У ад в. Пятровічы. Прыток — р. Тараканка. Рэчышча на працягу 6,9 км ад вытоку да в. Гейстуны каналізаванае.

**СЛАБО́ДКА,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім і Мінскім р-нах, левы прыток р. Вожа (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне з. Ляды, упадае ў Вожу за 3,5 км на Пн ад в. Старына.

**СЛАБО́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток р. Несвіч (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,7 км. Пачынаецца за 4,7 км на З ад в. Вярховая Слабада, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Кулажын. Прытокі справа — каналы Нежыхоўскі 1-ы і Нежыхоўскі 2-і. Цячэ ў зоне адсялення.

**СЛАБО́ДСКІ КАНА́Л,** О з н і ц к і к а н а л, меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, правы прыток р. Сэрвач (бас. Нёмана). Даўжыня 7,7 км. Пачынаецца каля в. Браносава, у... ў Сэрвач за 2 км на ПдЗ ад в. Н... Сяло.

**СЛАБО́ДСКІ КАНА́Л,** гл. *Харо...* *канал.*

**СЛАВА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацы... канал у Светлагорскім р-не, ... прыток Светлагорскага канала ... Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачы... ца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Карпа... упадае ў Светлагорскі канал за ... на ПнУ ад в. Славань.

**СЛАВЕ́ЧНА,** рака ў Житомір... вобл., Ельскім і Нараўлянскім р... правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 158 км.**
**Пл. вадазбору 3600 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў ... 13,7 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 172,7 м...**
**Сярэдні нахіл воднай паве... 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на ПдЗ... в. Антонавічы Оўруцкага р-на, ... вышыні 280 м над узроўнем м... ў межах Оўруцкага кража, цяч... лясістай забалочанай мясцовасці ... ніны Мазырскае Палессе, вусце... 3 км на ПнУ ад в. Вяжышча На... лянскага р-на. Даўжыня ў межах ... ларусі 109 км, пл. вадазбору ... 3000 км². Ніжняе цячэнне ракі ў з... адсялення. Асноўныя прытокі: ... тыўля, Чэрцень (злева), Ясенец (сп... ва). У Славечну па Свячанскім ка... ле пастулае частка сцёку з р. ... лонь. Даліна трапецападобная, ніж... в. Цешкаў Нараўлянскага р-на зл... ецца з поймай Прыпяці; пераваж... шырыня 0,7—1 км, на некатор...



Рака **Славечна** ў ніжнім цячэнні.

стках у сярэднім цячэнні да 2,5 км. іма двухбаковая, шырынёй 400— м. Рэчышча звілістае, на значным цягу ў сярэднім цячэнні моцна- ілістае (шырыня 2—8 м), у некато- месцах у верхнім цячэнні на ыторыі Украіны каналізаванае. Вышэйшы ўзровень разводдзя канцы сакавіка — пачатку краса- , сярэдняя вышыня над межан- узроўнем 2,3 м, у ніжнім ця- ні 1,8 м. Замярзае ў канцы снежня, галом у сярэдзіне красавіка. Вес- ы крыгаход 11 сутак.

**АВІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны ал у Асіповіцкім і Глускім р-нах, вы прыток Краснай канавы (бас. ыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачына- а за 1 км на ПдЗ ад в. Мяжное повіцкага р-на, вусце за 3 км на 3 ад в. Рудня Глускага р-на.

**АМЯ́НКА,** рака ў Гродзенскім е, у бас. Нёмана.

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 178 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні ,2 ‰.**

Пачынаецца з воз. Чыжоўка (на З), цячэ сярод лесу праз азёры Ве- скае, Кальніца, Стаў, Антвозера, адае ў воз. Зацкава (на ПдУ). вярхоўі ракі Парэцкі батанічны азнік. Уздоўж маляўнічых берагоў р працягваецца ландшафтны за- нік Азёры.

**А́СТАЎКА,** Слаўстаўка, аўстуйка, рака ў Вілейскім е, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 62 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні ,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад Даўгінава, упадае ў Вілію за 0,5 км ПдУ ад в. Кумельшчына. Рэчы- а каналізаванае.

**АЎКАВІЦКА-ЯМІНСКІ КАНА́Л,** аўкавіцкі канал, Плю- нская канава, меліярацыйны ал у Старадарожскім, Любанскім, мяжы Любанскага і Глускага і ў ябрскім р-нах, левы прыток Арэса (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 52 км.**
**Пл. вадазбору 528 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца каля паўднёвай ускраі- в. Рухава Столінскага р-на на нтральнабярэзінскай раўніне, цячэ нізіне Прыпяцкае Палессе. Вусце ля в. Смалоўка Акцябрскага р-на. ырыня канала ў верхнім цячэнні -3 м, у ніжнім — 8—10 м. Прымае ёк з некалькіх меліярацыйных тэм.

**АЎКАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацый- канал у Глускім р-не, левы прыток аўкавіцка-Ямінскага канала (бас. ыпяці). Даўжыня 16,6 км. Пачына-

ецца за 5,5 км на ПнЗ ад в. Амур, вусце за 2,5 км на Пд ад в. Чапаева.

**СЛА́ЎСТАЎКА,** рака, гл. *Сластаўка.*

**СЛА́ЎСТУЙКА,** рака, гл. *Сластаўка.*

**СЛЕ́ПІЦА,** рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток р. Лучка (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Бярозаўка, упадае ў Лучку ва ўро- чышчы Тракельшчына за 2 км на ПнУ ад в. Падэйкі. Рэчышча каналі- заванае.

**СЛЕ́ПНЯ,** Сляпянка, рака ў Мін- ску, у бас. Дняпра. Даўжыня 17 км. Да 1979 г. пачыналася на паўночна- ўсходняй ускраіне горада, упадала ў Чыжоўскае вадасховішча на р. Свіс- лач. У сувязі з уключэннем ракі ў склад Сляпянскай воднай сістэмы пе- раўтворана ў каскад 12 невялікіх вадасховішчаў. Уздоўж сістэмы ство- раны зялёныя масівы, што паляпшае мікраклімат прылеглых тэрыторый, стварае спрыяльныя ўмовы для адпа- чынку насельніцтва.

**СЛЕ́ПЧА,** рака ў Лельчыцкім р-не, левы прыток р. Убарць (бас. Прыпя- ці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 3 км на ПнЗ, вусце за 4 км на У ад в. Буда Лельчыцкая. Рэчышча каналіза- ванае.

**СЛЕ́ПЧАНКА,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток р. Задубровенка (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачы- наецца за 2 км на З ад в. Махначы, вусце за 1 км на Пд ад г. Дуброўна. Рэчышча ад вытоку да сажалкі каля в. Махначы (2,1 км) і паміж вёскамі Махначы і Станіславова (2 км) кана- лізаванае.

**СЛІВЯ́НКА,** рака, гл. *Вялікая Сліва.*

**СЛІ́ДЗЕЦ,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,55 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,1 м.**
**Даўжыня 1,91 км.**
**Найбольшая шырыня 0,48 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,3 км.**
**Аб'ём вады 3,75 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8 км².**

У бас. р. Лукомка, за 11 км на Пд ад г. Чашнікі, за 1 км на Пд ад в. Слідцы. Схілы катлавіны вышынёй 10—25 м, пад хмызняком. У паўднёвай частцы возера вялікі заліў. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, на Пн, Пд і З не- вялікія ўчасткі сплавіны. Дно да глы- біні 4 м пясчанае, ніжэй выслана ілам. Шырыня паласы расліннасці да 40 м, пашырана да глыбіні 3—4 м.

**СЛІЖА́НКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток р. Ілія (бас. Віліі).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 69 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 5,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Вя- лікія Бясяды, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Ілію за 2,5 км на ПдЗ ад в. Селішча. Рэчышча ў вусце- вай частцы каналізаванае (0,4 км).

**СЛІ́НЕЦ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**



Возера Слідзец.

**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,13 км.**

У бас. р. Свіна, за 44 км на ПнУ ад Полацка, за 1,7 км на ПдЗ ад в. Быхаў- цы, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забало- чаныя.

**СЛІ́ЎКА,** Рубежаўскі канал, ручай у Слуцкім р-не, левы прыток ручая Муравішчына (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Хінолаўка, вусце за 0,5 км на ПдУ ад в. Амговічы.

**СЛО́ПІНСКІ,** ручай у Чэрыкаўскім р-не, левы прыток р. Сянна (бас. Дняпра). Даўжыня 4,7 км. Пачынаец- ца за 2 км на Пд ад в. Бакунавічы, вусце за 1 км на З ад в. Ушакі. Рэчышча на працягу 2,3 км (мост каля в. Бакунавічы — вусце) каналізава- нае.

**СЛО́ТЦА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.**

У бас. р. Свольна, за 28 км на ПнЗ ад г.п. Расоны, за 1,5 км на ПдУ ад в. Валасы, сярод лесу.

**СЛО́ЎСТ,** Слоўсць, рака ў Мінскім і Чэрвеньскім р-нах, правы прыток р. Волма (бас. Дняпра).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 162 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Лебядзінец Мінскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Карзуны



Возера **Сляпіца.**

Чэрвеньскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**СЛУЗІНКА**, ручай у Сенненскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 5,8 км. Выцякае з воз. Шэбіна за 0,7 км на ПнУ ад в. Шэбіна, упадае ў воз. Бароўка (з ПдУ) каля паўночнай ускраіны в. Гумне. Рэчышча каналізаванае.

**СЛУЧ,** Паўночная Случ, рака ў Мінскай, Гомельскай, на мяжы Гомельскай і Брэсцкай абл., левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 197 км.**
**Пл. вадазбору 5470 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 22,4 м³/с.**
**Агульнае падзенне ракі 46,6 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,24 ‰.**

Пачынаецца ў межах Капыльскай грады на вышыні 166 м над узроўнем мора за 2 км на ПдУ ад м. Крывая Града Слуцкага р-на, цячэ па заходняй частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны і па нізіне Прыпяцкае Палессе ў межах Салігорскага, Жыткавіцкага і па мяжы Жыткавіцкага і Лунінецкага р-наў. Вусце за 6 км на ПнУ ад в. Запроссе Лунінецкага р-на. Асноўныя прытокі: Лакнея, Морач (справа), Вясейка (злева), шматлікія меліярацыйныя каналы. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, ніжэй трапецападобная; шырыня яе 0,5—1,5 км у верхнім, 1,5—2,5 км у сярэднім і ніжнім цячэнні, у вусці пашыраецца да 6 км і зліваецца з далінай Прыпяці. Пойма пераважна двухбаковая, зрэдку чаргуецца па берагах; у вярхоўі яе шырыня 100—400 м, ніжэй 1—1,2 км, у вусці 4—5 км. Вышэй г.п. Старобін на Случы створана Салігорскае вадасховішча. Рэчышча ў верхнім цячэнні шырынёй 6—25 м, да Салігорскага вадасховішча на працягу 71 км каналізаванае, ад вадасховішча да вусця р. Морач мелкае, ніжэй — звілістае (шырыня 20—40 м), свабодна меандруе. Веснавое разводдзе пачынаецца ў сярэдзіне сакавіка, заканчваецца ў пачатку мая. Сярэдняя вышыня над меланным узроўнем ад 1,8 м у вярхоўі да 2,4 м у ніжнім цячэнні. Замярзае ў канцы сн... крыгалом у канцы сакавіка. Вес... ледаход у вярхоўі 8 сутак, у ... 3 сутак. Каля в. Ленін Жыткаві... р-на (45 км ад вусця) найбольшы... ход вады 576 м³/с (1958), най... шы — 2,16 м³/с (1971). На ... г. Слуцк і г.п. Старобін.

**СЛУЧ-МІЛЬЧА,** рака ў Гомелі... р-не, у басейне Дняпра. Даўж... 17,5 км. Пачынаецца каля аўтад... Гомель — Рэчыца за 4 км на ПдЗ ... Новая Буда, вусце за 2 км на Пд... в. Чкалава. Пасля меліярацыі р... шча ракі за 2,5 км на У ад п. Мі... перасыпана і падзелена на дзве... вялікім працягу каналізаваныя, ч... кі. Сцёк верхняй часткі (даўж... 9 км) праз сістэму каналаў пасту... непасрэдна ў Дняпро, ніжняй (... жыня 8,5 км) — у воз. Глушэц (ст... рэчча на пойме Сожа).

**СЛЯПІЦА,** возера ў Пастаўскім р...

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,68 км.**

У бас. р. Мядзелка, за 2 км на ... ад г. Паставы, на ўскраіне лясн... масіву Пастаўская Дача.

**СЛЯПЯНКА,** рака, гл. *Слепня.*

**СМАЛОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Гарад... кім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,63 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,42 км.**

У бас. р. Аўсянка, за 17 км на П... ад г. Гарадок, каля п. Смалоў...



Рака **Случ** каля вёскі Ленін Жыткавіцкага раёна.

...хілы катлавіны вышынёй да 5 м, па-...слі лесам. На З выцякае ручай у Аўсянка.

**...МАЛЬЯНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніц...м р-не.

Пл. 0,09 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 6,9 м.
Даўжыня 0,54 км.
Найбольшая шырыня 0,25 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,39 км.
Аб'ём вады 0,25 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 10,2 км$^2$.

У бас. р. Ула, на паўднёва-ўсход...й ускраіне г. Чашнікі. Схілы катла-...ы вышынёй 2—5 м, на Пн невы-...зныя, пераважна разараныя і пад ...будовамі. Берагі нізкія, часткова ...а хмызняком, на Пн месцамі ...лавінныя (шырыня сплавіны 3—...м). Пойма шырынёй 10—20 м, пера-...ільготнена, месцамі парасла хмыз-...ком, на Пн пераходзіць у нізіну. ...но выслана ілам, уздоўж берагоў ...счанае. Шырыня паласы прыбя-...жнай надводнай расліннасці 2—... м. На Пн злучана пратокай з р. ...ла.

**...МАЛЯВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у ...малявіцкім р-не.

Пл. 0,95 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4 м.
Даўжыня 1,4 км.
Найбольшая шырыня 1 км.
Даўжыня берагавой лініі (з агара-джальнымі дамбамі) 4,2 км.
Аб'ём вады 2,38 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 21,1 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 99,7 км$^2$.

Створана ў 1979 за 2 км на ПнЗ ад г. Смалявічы для арашэння зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Наліўное: напаўняецца вадой з р. Пліса пры дапамозе помпавай станцыі. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 0,3—0,6 м.

**СМАЛЯВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Пліса (бас. Дняпра). Даўжыня 7,3 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Падыгрушша, упадае ў Плісу за 0,5 км на ПнУ ад в. Уборкі.

**СМАЛЯНІЦА,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Смаляніца, вусце за 1,2 км на ПдУ ад в. Стаі.

**СМАЛЯНКА,** рака ў Баранавіцкім р-не, правы прыток р. Шчара (бас. Нёмана).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 89 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.

Пачынаецца каля в. Навасёлкі, цячэ ў межах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Шчару за 0,9 км на Пд ад в. Загор'е. Рэчышча ад в. Заполле да вусця (5,9 км) каналізаванае.

**СМАЛЯРНЯ,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, левы прыток р. Нясета (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца ў паўночнай частцы г.п. Клічаў, упадае ў Нясету за 1,9 км на З ад в. Смалярня.

**СМАЛЯРНЯ,** назва р. *Жорнаўка* ў верхнім цячэнні.

**СМАРОДНЫ РУЧАЙ,** ручай у Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Лужаснянка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца за 2,7 км на ПдЗ ад в. Шніцы, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Боркава. Рэчышча каналізаванае.

**СМЕРД,** ручай у Расонскім р-не, левы прыток р. Нішча (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Валатоўкі, вусце каля в. Сакалішча. Рэчышча ад вытоку на працягу 4 км каналізаванае.

**СМЕРДЗІЯ,** С м е р д з е я, рака ў Вілейскім р-не, левы прыток Віліі.

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 31 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца на З ад в. Паняцічы, цячэ сярод лесу, упадае ў Вілію за 1,5 км на Пд ад в. Асіповічы. Рэчышча на працягу 8,6 км каналізаванае: 6 км ад вытоку да сажалкі (пл. 2,18 км$^2$) за 3 км на Пд ад в. Гліннае і 2,6 км ад сажалкі да вусця.

**СМЕРДЗЬ,** С м е р ц ь, рака ў Лунінецкім р-не, левы прыток Прыпяці.

Даўжыня 37 км.
Пл. вадазбору 502 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца ад зліцця двух каналаў за 1,5 км на ПнЗ ад в. Міжлессе, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Лахаўка. Даліна



Смалявіцкае вадасховішча.

невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма шырынёй 200—300 м. Рэчышча ў вытокавай частцы каналізаванае, на астатнім працягу звілістае; шырыня яго 5—10 м, у ніжнім цячэнні да 15 м.

**СМЕРЖАЎ,** возера ў Нараўлянскім р-не.

Пл. 0,32 км$^2$.
Даўжыня 2,05 км.
Найбольшая шырыня 0,22 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,45 км.

У бас. р. Прыпяць, за 28 км на ПдУ ад г. Нароўля, за 1 км на Пд ад нежылой в. Дзернавічы. Схілы катлавіны на [illegible] да 4 м, на У 1—2 м, [illegible]. Берагі нізкія, забалочаныя, [illegible] Моцна зарастае. У возеры растуць расліны, занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі, [illegible] сальвінія плывучая.

**СМ[illegible]ЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у [illegible] р-не, [illegible] (бас. Дняпра). Даўжыня [illegible] км. Пачынаецца за 1,2 км на [illegible] ад [illegible] Кавалёўскага [illegible], упадае ў [illegible] за 1,2 км на [illegible] ад [illegible].

**СМОЛАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Найда-Бярэзаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны п. Старушкі, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад в. Найда.

**СМОЛАЧ,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток Нёмана.

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 57 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Пішчаўцы, упадае ў Нёман на У ад в. Паняконцы. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў. Рэчышча на працягу 13 км ад вытоку да хут. Чарткі каналізаванае.

**СМОЎЖ,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,16 км.
Найбольшая шырыня 0,08 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.

На водападзеле рэк Волта і Бярэжа, за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, на балоце Мох. Берагі забалочаныя.

**СМУГА,** рака, гл. *Барысаўка.*

**СМУЖСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, правы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Смуга, вусце за 0,5 км на З ад в. Дружба.

**СМУРОДЗІНА,** ручай у Бялыніцкім р-не, правы прыток р. Аслік (бас. Дняпра). Даўжыня 3,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на З, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Вялікая Машчаніца. Рэчышча каналізаванае (акрамя 0,5 км каля вытоку).

**СМЫЧЫЦА,** другая назва р. *Лаўрыха.*

**СНАРЫХОЎКА,** Скарыхоўка, рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Паловіца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Слабада, вусце за 0,5 км на ПнЗ ад в. Цёплая. Рэчышча каналізаванае.

**СНЕЖКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацы[…] ны канал у Чэрвеньскім р-не, ле[…] прыток р. Волма (бас. Дняпра). Да[…] жыня 5,6 км. Пачынаецца з р. Во[…] каля в. Адынь, упадае ў Волму ка[…] в. Снежкі.

**СНІТЧАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацы[…] ны канал у Івацэвіцкім р-не (ба[…] Нёмана), левы прыток Восьмага кан[…] ла. Даўжыня 5 км. Пачынаецца ў заб[…] лочанай мясціне ў лясным урочышч[…] Востраў Борын, упадае ў Восьм[…] канал за 3 км ад яго вытоку, у лясны[…] урочышчы Варотцы.

**СНОЎКА,** Снуўка, рака ў Нясві[…] скім р-не, левы прыток р. Уша (ба[…] Нёмана). Даўжыня 20 км. Пачынаец[…] каля в. Малаеды, упадае ў Ушу […] 0,9 км на У ад в. Еськавічы. Рэч[…] шча каналізаванае. Каля вёсак Каме[…] ка, Высокая Ліпа (на рацэ) і Тарэй[…] (на пойме) створаны сажалкі (п[…] адпаведна 0,02 км$^2$, 0,03 км$^2$ і 0,12 км$^2$[…]

**СНОЎКА,** рака ў Старадарожскі[…] р-не, правы прыток р. Даколька (ба[…] Прыпяці). Даўжыня 11 км. Пачынае[…] ца за 2 км на ПнЗ ад в. Глядавіч[…] вусце за 0,5 км на У ад в. Стражь[…] Рэчышча каналізаванае.

**СНУДЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 16,5 м.
Даўжыня 8,8 км.
Найбольшая шырыня 4,9 км.
Даўжыня берагавой лініі 34,4 км.
Аб'ём вады 107 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 113 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 10 км на Пн а[…] г. Браслаў, уваходзіць у Браслаўску[…] групу азёр. Схілы катлавіны вышы[…]



Возера Снуды.

нёй да 30 м, на У і ПдУ абрываюцца блізка каля ўрэзу вады. Уздоўж усходняга берага цягнецца озавая града, пораслая лесам. Берагі нізкія, пераўвільготненыя. Пойма шырынёй ад 5 да 150 м. Упадзіны чаргуюцца з пясчанымі мелямі, большасць з якіх парасла трыснягом, ёсць 11 астравоў агульнай пл. 1,6 км². У малаводныя гады мелі агаляюцца, колькасць астравоў павялічваецца да 16. Мелкаводдзе пясчанае, месцамі гліністае, глыбокія ўчасткі дна высланы сапрапелем. Уздоўж берагоў паласа трыснягу і чароту шырынёй да 300 м, пашырана да глыбіні 2 м; падводная расліннасць пашырана да глыбіні 8 м. На Пд злучана пратокай з воз. Струста, на У — канавай з воз. Валасо Паўночны. Возера ўваходзіць у зону адпачынку Браслаў. Да ўсходняга берага прымыкае Міжазёрны ландшафтны заказнік.

**СНЎЎКА,** рака, гл. *Сноўка.*

**СНЯ́ДЗІНСКІ КАНА́Л,** гл. *Залеская Стрэлка.*

**СО́БЕЛЬСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Лунінецкім р-не.

**Пл. 2,9 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,8 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,5 км.**
**Аб'ём вады 14,2 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 360 км².**

Створана ў 1986 за 22 км на ПнУ ад г. Лунінец, каля в. Чырвоная Воля. Наліўное, вада падаецца з Грычынскага канала. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 5,7 м.

**СО́БЕЛЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 8 км на ПдЗ ад в. Лугі, вусце за 11 км на ПнУ ад в. Чырвоная Воля (у сутоках Собельскага канала і Заазерскага канала пачынаецца Галоўны канал).

**СОЖ,** рака ў Магілёўскай, Гомельскай і Смаленскай абл., на мяжы Беларусі з Расіяй і Украінай, левы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 648 км.**
**Пл. вадазбору 42,1 тыс. км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 219 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,17 ‰.**

Пачынаецца за 12 км на Пд ад г. Смаленск, вусце каля г.п. Лоеў. Агульная даўжыня рачной сістэмы (3410 рэк) 16 220 км, даўжыня ракі ў межах Беларусі 493 км, густата рачной сеткі на тэрыторыі Беларусі 0,38 км/км², пл. вадазбору 21,5 тыс. км². На вадазборы ў межах Беларусі больш за 300 рэк і ручаёў часткова або поўнасцю каналізаваны, пракладзена больш за 170 меліярацыйных каналаў даўжынёй 5 км і больш. Асноўныя прытокі: Віхра, Волчас, Проня, Уза (справа), Хмара, Асцёр, Беседзь, Іпуць, Уць (злева). Верхняе цячэнне на паўднёва-заходняй ускраіне Смаленскага ўзвышша, сярэдняе — на Аршанска-Магілёўскай раўніне, ніжняе — у Гомельскім Палессі. Даліна пераважна трапецападобная, ад вытоку да вусця Проні — выразная, глыбокаўрэзаная (20—30 м). Шырыня ў вярхоўі ад 0,3 км да 1 км, на вялікім працягу 1,5—3 км, пры зліцці з далінамі рэк Асцёр і Проня — 5 км, ніжэй г. Ветка — да 7 км, пры зліцці з далінай Дняпра — да 20 км. Схілы спадзістыя, умерана стромкія (радзей




Возера Снуды.

Рака Сож каля Крычава.

стромкія), вышынёй 15—25 м (месцамі да 40 м), парэзаны ярамі, лагчынамі, далінамі прытокаў. Правы схіл больш адкрыты, левы зарос лесам і хмызняком. На Беларусі амаль на ўсім працягу вылучаюцца пойма з нізкім (1,5—2,5 м над урэзам вады) і высокім (3—4 м) узроўнямі і 2 надпоймавыя тэрасы. Пойма двухбаковая, месцамі левабярэжная або чаргуецца па берагах. Паверхня яе перасечана лагчынамі, старарэччамі і невялікімі азёрамі-старыцамі. Затапляецца на 5—10 сутак на глыбіню 0,5—2,5 м, у вусцевай частцы — да 4—5 м. Рэчышча звілістае. У ніжнім цячэнні вялікая колькасць лукавін, рукавоў, старыц. Да Гомеля трапляюцца астравы (даўжыня 30—300 м, шырыня 10—50 м). Шырыня ракі ў верхнім цячэнні 40—80 м, у ніжнім 90—125 м, месцамі да 230 м. Дно роўнае. Берагі да вусця Проні пераважна стромкія, вышынёй 1,5—4 м, ніжэй за цячэнні спадзістыя; на лукавінах, дзе рэчышча падыходзіць да карэннага берага (напрыклад, каля в. Гайшын Слаўгарадскага р-на) абрывістыя, вышынёй 12—15 м, месцамі да 35 м. Ніжэй г. Ветка па берагах пясчаныя пляжы. На перыяд веснавога разводдзя прыпадае 57 % гадавога сцёку. Пад'ём узроўняў вясной пачынаецца звычайна ў 3-й дэкадзе сакавіка (радзей — у пачатку сакавіка) або ў сярэдзіне красавіка, доўжыцца 10—15 сутак у верхнім цячэнні, 20—25 сутак у нізоўі. Сярэдняя вышыня над самай нізкай межанню 4—5 м, найбольшая 6—7,5 м. Зімовыя ўзроўні ў сярэднім на 10—20 см вышэй за летнія, але ў асобныя гады ў выніку адліг павышаюцца ў нізоўі да 2,5 м. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у канцы сакавіка — пачатку красавіка ад вусця да вярхоўя. Веснавы крыгаход 3—5 сутак. На Беларусі найбольшая таўшчыня лёду ў рацэ 62—65 см. Сярэдняя тэмпература вады ў чэрвені — жніўні 19—21 °С, найбольшая ў ліпені — да 28 °С. Водзяцца шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась залаты, верхаводка, гусцяра, мінога ўкраінская, галавень, судак. У сярэднім і ніжнім цячэнні Сож працякае праз тэрыторыі, забруджаныя радыёнуклідамі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Суднаходства ад в. Барысавічы Клімаўскага р-на (за 373 км ад вусця) — пры высокіх узроўнях, рэгулярнае — ад г. Слаўгарад. На Сажы ў Беларусі гарады Крычаў, Чэрыкаў, Слаўгарад, Чачэрск, Ветка, Гомель.

**СОЙКА**, рака ў Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Бродня (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Буда, вусце за 1 км на Пн ад в. Замлынне. Рэчышча на працягу 2,9 км ад вусця ўверх каналізаванае.

**СОКАЛЕЦ**, рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Покаць (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Аўчынец, вусце на паўднёва-заходняй ускраіне в. Сабалі. Рэчышча каналізаванае.

**СОКАРАВА**, возера ў Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,25 км.**

У бас. р. Тураўлянка, за 23 км ПнЗ ад г.п. Бешанковічы, каля Сокарава. Схілы катлавіны вышы[нёй] 5—8 м, пераважна разараныя. Злу[чана] ручаём з воз. Паўазер'е.

**СОЛАН**, рака ў Старадарожск[ім] р-не, левы прыток р. Арэса (б[ас.] Прыпяці).

**Даўжыня 32 км.**
**Пл. вадазбору 278 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вус[ці] 1,4 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх[ні] 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПнЗ ад Зялёная Дуброва (у верхнім цячэн[ні] называецца Казённая канава), вусце за 1,6 км на ПнУ ад в. Баравік. Асноўны прыток — р. Салянка (зл[е]ва). Цячэ па паўднёва-заходняй час[т]цы Цэнтральнабярэзінскай раўнін[ы]. Даліна на вялікім працягу невыраз[]ная, у сярэднім цячэнні, каля в. С[]лан, трапецападобная. Пойма ў сярэд[]нім і ніжнім цячэнні двухбаковая, шырынёй 200—500 м. Рэчышча ад вы[]току на працягу 19,6 м каналізаванае, астатняе звілістае, шырынё[й] 5—10 м.

**СОМІНА**, Бабарыкі, возера ў Га[]радоцкім р-не.

**Пл. 0,15 км².**
**Даўжыня 0,78 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.**



**Рака Сож каля Слаўгарада.**

У бас. р. Свіна, за 32 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Бабарыкі. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лесам. На ПнУ выцякае ручай у воз. Жодзень.

**СОМІНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,6 км.**

У бас. р. Дрыса, за 30 км на ПнУ ад г.п. Расоны, за 3 км на ПнУ ад в. Шарстова, каля мяжы з Расіяй. Ляжыць сярод парослага хмызняком балота. Злучана ручаём з воз. Ямна.

**СОМІНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 0,41 км².**
**Найбольшая глыбіня 33,5 м.**
**Даўжыня 0,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,65 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**

У бас. Агінскага канала, за 44 км на ПдУ ад г. Івацэвічы, каля в. Соміна. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад хмызняком, на ПнЗ разараныя. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Дно да глыбіні 10 м выслана пяском, ніжэй — сапрапелем. Зарастае падводнай расліннасцю да глыбіні 4 м.

**СОМНІЦА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 9,4 км. Выцякае з воз. Пушна на Пн за 0,5 км на ПнУ ад в. Пушна, вусце каля в. Кулакова. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,3 км каналізаванае.

**СОСЕНКА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,2 м.**
**Даўжыня 0,69 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,8 км.**
**Аб'ём вады 0,67 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,13 км².**

У бас. р. Тураўлянка, за 26 км на У ад г.п. Ушачы, каля в. Крывушчына. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПдЗ і ПнУ сплавінныя. Дно да глыбіні 1,5—3,5 м выслана пяском, ніжэй — ілам. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 10—15 м, пашырана да глыбіні 1,1—1,5 м; падводная расліннасць пашырана да глыбіні 3,5 м. Злучана ручаём з воз. Крывое.

**СОСНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 1,25 км².**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,45 км.**
**Пл. вадазбору 127 км².**

У бас. р. Дражбітка (цячэ праз возера), за 30 км на ПнУ ад г. Полацк. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м (на Пн і У да 8 м), на У пад лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, ёсць востраў пл. 0,8 га. Зарастае слаба.

**СОСНА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 1,1 км².**
**Найбольшая глыбіня 9,4 м.**
**Даўжыня 2,64 км.**
**Найбольшая шырыня 0,82 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,53 км.**
**Аб'ём вады 4,01 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 5 км².**

У бас. р. Лужаснянка, за 18 км на ПнЗ ад г. Віцебск, каля в. Доўжа. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на ПнУ 10—13 м), на ПнУ і У разараныя, на З парослі лесам. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, участкамі вышынёй 0,4—0,7 м, задзернаваныя, на ПдУ забалочаныя, пад хмызняком. Пойма шырынёй 5—20 м, на ПдУ пашыраецца да 300 м, забалочаная. У цэнтры возера востраў пл. 0,015 км². Дно да глыбіні 3 м (уздоўж усходняга берага да 4 м) пясчанае, ніжэй выслана ілам і сапрапелем. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 2—20 м, радзей да 30 м. На ПнУ выцякае ручай у р. Храпаўлянка. Возера ўваходзіць у зону адпачынку Лосвіда.

**СОСНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 1,02 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,1 м.**
**Даўжыня 1,54 км.**
**Найбольшая шырыня 1,02 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,05 км.**
**Аб'ём вады 3,5 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 260 км².**

У бас. р. Ловаць (цячэ праз возера і злучае яго з воз. Мяжа), за 37 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Мяжа. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м, месцамі 7 м, парослі хмызняком, на ПдУ разараныя. Берагі нізкія (да 0,2 м), парослі балотнай расліннасцю



**Возера Сосна (Гарадоцкі раён).**

і хмызняком. Дно да глыбіні 2 м выслана пяском, ніжэй — ілам і сапрапелем. Уздоўж берагоў перарывістая паласа надводнай расліннасці шырынёй да 8 м, пашырана да глыбіні 0,7 м; да глыбіні 1,5 м растуць рдзесты.

**СОСНА,** Міхалова, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,71 км².**
**Найбольшая глыбіня 22,9 м.**
**Даўжыня 1,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,96 км.**



**Сомінскае возера.**




**Возера Сосна (Віцебскі раён).**



**Возера Сосна (Віцебскі раён).**



Возера Сосна (Шумілінскі раён)




Возера Сосна (Шумілінскі раён).



Спораўскае возера.

**Даўжыня берагавой лініі 4,83 км.**
**Аб'ём вады 4,72 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 3,79 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 14 км на ПдУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Міхалова. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м (на Пн і У 3—5 м), параслі хмызняком. Ёсць некалькі невялікіх заліваў і мысаў, 3 астравы агульнай пл. 0,012 км$^2$. Берагі нізкія, на З і ПнУ зліваюцца са схіламі. Дно да глыбіні 2—5 м пясчанае, ніжэй выслана ілам. Найбольш зарастае ў залівах і вакол астравоў, шырыня паласы расліннасці 20—170 м. У возеры выяўлены рэдкія расліны — гідрыла кальчаковая і наяда малая. Злучана ручаём з воз. Гародна. Возера і прылеглая тэрыторыя абвешчаны азёрным заказнікам.

**СОСНА,** Л е ш н а, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,68 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,82 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,67 км.**
**Пл. вадазбору 93 км$^2$.**

У бас. р. Сосніца (выцякае з возера), за 30 км на ПнУ ад г. Полацк, за 10 км на ПдУ ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, на У да 20 м. Берагавая лінія ўтварае некалькі заліваў. На ПнУ упадае р. Невежа.

**СОСНА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,54 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 8,2 м.**
**Даўжыня 2,73 км.**
**Найбольшая шырыня 0,34 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,29 км.**
**Аб'ём вады 2,1 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 7,21 км$^2$.**

У бас. р. Бярозка, за 18 км на Пн ад г. Сянно, за 2 км на ПнЗ ад в. Ходцы. Схілы катлавіны на ПнУ вышынёй да 20 м (на ПдЗ 2—5 м), пераважна пад хмызняком. Берагі на ПдЗ нізкія, забалочаныя, на ПнУ зліваюцца са схіламі. Уздоўж паўднёва-заходняга берага забалочаная пойма шырынёй 150—250 м, парослая хмызняком. Найбольшыя глыбіні ўздоўж паўночна-ўсходняга берага. Дно да глыбіні 2—3 м пясчанае, астатняя частка дна выслана ілам. Зарастае да глыбіні 3 м, шырыня паласы расліннасці 15—75 м.

**СОСНІЦА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 39 км.**
**Пл. вадазбору 394 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,8 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Выцякае з воз. Сосна за 10 км на ПдЗ ад в. Труды, вусце каля в. Сосніца. Цячэ па Полацкай нізіне. Даліна невыразная. Рэчышча звілістае, шырыня ў вярхоўі 3—5 м, у ніжнім цячэнні 7—9 м.

**СОСНЫ 1-я,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток Мар'інскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 3,5 км на У ад в. Запераходнае Салігорскага р-на, вусце каля в. Сосны Камунараўскага сельсавета Любанскага р-на.

**СОСНЫ 2-я,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Мар'інскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ, вусце за 3 км на У ад в. Сосны (цэнтр сельсавета).

**СПАД,** Х а м і ч а ў с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток р. Сасновіца (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Выцякае з Пясчанага возера за 1,5 км на ПдЗ ад в. Баландзічы, вусце за 1 км на Пн ад в. Хамічава.

**СПАНАЎКА,** Ш п а н а ў к а, рака ў Брэсцкім р-не, правы прыток Зах. Буга. Пачынаецца са старога прыроднага рэчышча каля левага берага канала Прырва за 200 м вышэй моста на аўтадарозе Рагозна — Брадзяцін за 3 км на У ад в. Рагозна (раней пачыналася з балота Мысляціна-Магілішча, але ў выніку меліярацыі сцёк з яго быў накіраваны па нанава пракладзеным канале Прырва ў сажалкі рыбгаса «Страдзеч»). Даўжыня 25 км. Пл. вадазбору 200 км$^2$. Цячэ па паўднёва-заходняй частцы Брэсцкага Палесся. Вусце за 2 км на Пн ад в. Страдзечы. Рэчышча амаль на ўсім працягу каналізаванае. Найбольшы прыток — р. Серадовая Рэчка (злева). У верхнім цячэнні называецца р. П р ы р в а.

**СПІЦЫ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,18 км$^2$.**
**Даўжыня 0,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.**
**Пл. вадазбору 14,1 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 26 км на ПнУ ад г. Полацк, за 3,5 км на У ад в. Альхоўка. У паўночна-заходняй частцы возера вузкі заліў. На З выцякае ручай у р. Палата.

**СПЛАВЕНЬ,** Т р а с ц я н е ц, рака ў Хоцімскім р-не, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 100 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца ў в. Горня, вусце за 4 км на Пд ад в. Енаполле. Рэчышча на працягу 12,8 км (ад вытоку да моста на аўтадарозе в. Юзафоўка — в. Дубраўка) каналізаванае. Цячэ пераважна па лесе, у вярхоўі перасякае меліяраванае ўрочышча Гарахоўшчына.

**СПЛЁТЫ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, левы прыток Кушліцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца з Водападводзячага 2-га канала за 2,2 км ад в. Клепачы Мокраўскага сельсавета, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Труханавічы.

**СПОНКА,** рака ў Веткаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 218 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Барба, вусце за 1 км на З ад в. Руд-

ня Спонiцкая. Рэчышча на працягу 4,7 км ад вытоку і 14,4 км ад пункта за 1,5 км на ПнУ ад в. Млынок да пункта за 2 км на ПдЗ ад в. Тарасаўка каналізаванае.

**СПОРАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** на мяжы Бярозаўскага і Драгічынскага р-наў.

Пл. 11,5 км².
Найбольшая глыбіня 2,2 м.
Даўжыня 5,6 км.
Найбольшая шырыня 3 км.
Даўжыня берагавой лініі 19,5 км.
Аб'ём вады 16,1 млн. м³.
Пл. вадазбору 3030 км².

У бас. р. Ясельда (цячэ праз возера), за 26 км на ПдУ ад г. Бяроза, каля в. Спорава. Схілы катлавіны нізкія, забалочаныя, на ПнЗ вышынёй да 5 м, часткова параслі хмызняком. Берагі забалочаныя, тарфяністыя, на Пн пясчаныя. Дно да глыбіні 0,5—0,7 м пясчанае, цэнтральная частка ложа выслана сапрапелем. Ледастаў з пачатку снежня, лёд трымаецца да канца сакавіка. Зарастае падводнай расліннасцю. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 150—200 м, пашырана да глыбіні 0,5 м. У возера ўпадае р. Плёса, некалькі меліярацыйных каналаў.

**СПОРАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца з Галоўнага 1-га канала за 7,5 км на Пн ад в. Спорава, упадае ў Спораўскае возера з ПнУ каля в. Спорава.

**СПОРКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,15 км².
Найбольшая глыбіня 8,1 м.
Даўжыня 0,6 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Аб'ём вады 0,26 млн. м³.
Пл. вадазбору 2,6 км².

У бас. р. Мядзелка, за 7 км на ПдЗ ад г. Паставы. Схілы катлавіны нізкія, на Пд і ПдУ вышынёй 12—15 м, параслі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пд і ПдУ вышынёй да 0,3 м. Найбольшая глыбіня каля заходняга берага. На Пн выцякае ручай у воз. Споры.

**СПОРНЯ,** рака ў Вілейскім р-не, правы прыток Віліі.

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 99 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.

Пачынаецца ва ўрочышчы Мох за 2,5 км на ПнЗ ад в. Цынцавічы, у нізоўі цячэ праз лес, упадае ў Вілію за 1 км на У ад в. Асіпавічы. Рэчышча на працягу 14 км ад вытоку каналізаванае.

**СПОРЫ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,7 км².
Найбольшая глыбіня 20,8 м.
Даўжыня 1,45 км.
Найбольшая шырыня 0,84 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,89 км.
Аб'ём вады 3,38 млн. м³.
Пл. вадазбору 48 км².

У бас. р. Мядзелка, за 5 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Шыркі. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, на Пн і З параслі лесам, на ПдУ і У разараныя. Заходняя частка катлавіны глыбакаводная, усходняя — мелкаводная з плоскім дном. Паміж імі востраў пл. 0,015 км². Ёсць 3 вялікія залівы. Берагі пад хмызняком, месцамі зліваюцца са схіламі. Участкамі забалочаная пойма шырынёй 5—8 м, парослая хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбакаводная зона выслана ілам. Зарастае да глыбіні 4,5—5,2 м. Праз возера цячэ р. Спорыца (злучае яго з азёрамі Світка і Задзеўскае), упадае ручай з воз. Спорκі.




Возера **Споры.**

**СПОРЫЦА,** рака ў Пастаўскім р-не, левы прыток р. Мядзелка (бас. Зах. Дзвіны).

Спораўскае возера.

**СТАРАНАВАСЕЛКАЎСКІ КАНАЛ,** гл. *Навасёлкаўскі канал.*

**СТАРАРУДНЯНСКІ КАНАЛ,** рака, гл. *Окра.*

**СТАРАСЕЛЛЕ,** возера ў Хойніцкім р-не.

**Пл. 0,32 км².**
**Даўжыня 3,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,83 км.**

На пойме р. Прыпяць, за 26 км на ПдЗ ад г. Хойнікі, за 3,5 км на З ад в. Тульгавічы. Старычнае. Катлавіна падзяляецца на 3 рукавы. Берагі высокія (да 1 м), пад хмызняком, на З забалочаныя.

**СТАРАСЕЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ляхавіцкім р-не, правы прыток Куршынавіцкага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 11 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Куршынавічы, вусце за 1,3 км на ПдЗ ад в. Стараселле. Па правабярэжжы лясныя масівы.

**СТАРАСЕЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Трэмля (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ, вусце за 3 км на З ад в. Савічы.

**СТАРАСОЖЖА,** возера ў Чачэрскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 2,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,75 км.**

У бас. р. Сож, за 2 км на Пн ад г. Чачэрск, каля в. Іпалітаўка. Старычнае. На З возера абмежавана высокім (10—17 м) карэнным берагам Сожа, на У — поймай ракі.

**СТАРАЯ,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток р. Галдаўка (бас. Нёмана). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца каля в. Цвербуты, упадае ў Галдаўку за 1 км на У ад в. Галдава. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СТАРАЯ,** ручай у Свіслацкім р-не, правы прыток р. Мядзянка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 3 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Вялікія Масушыны, вусце каля ўсходняй ускраіны в. Новы Двор. Рэчышча каналізаванае.

**СТАРАЯ УХЛЯСЦЬ,** рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 7,9 км. Адыходзіць ад р. Ухлясць у паўночным напрамку за 3 км на Пд ад в. Салаўіха, каля аўтадарогі Доўск — Магілёў. Вусце на ўсходняй ускраіне г. Быхаў. Рэчышча каналізаванае.

**СТАРОБІНКА,** рака ў Лепельскім р-не, правы прыток р. Свядзіца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 72 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,5 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Замошша, вусце за 1,2 км на ПнЗ ад в. Азерцы. Рэчышча ад вытоку на працягу 6 км каналізаванае.

**СТАРОЕ ВОЗЕРА,** у Чачэрскім р-не.

**Пл. 0,63 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,05 км.**
**Пл. вадазбору 18,8 км².**

У бас. р. Сож, за 9 км на Пд ад г. Чачэрск, каля в. Старыя Малыничы. Схілы катлавіны вышынёй 14—15 м (на ПнУ і ПдЗ да 3 м), разараныя. Берагі высокія (да 1 м), пад хмызняком. На ПнУ і ПдЗ пойма, парэзаная сеткай меліярацыйных каналаў. Дно выслана сапрапелем, каля берагоў пясчанае. На З выцякае меліярацыйны канал у воз. Асіннае (старарэчча Сожа).

**СТАРУХА,** возера ў Нараўлянскім р-не.

**Пл. 0,42 км².**
**Даўжыня 3,07 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,3 км.**

На правабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 7 км на ПдУ ад г. Нароўля, каля в. Канатоп. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, пад хмызняком. Берагі нізкія, вышынёй 0,2 м. У возеры расце вадзяны арэх, занесены ў рэспубліканскую Чырвоную кнігу.

**СТАРУХА,** возера ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Даўжыня 3,05 км.**
**Найбольшая шырыня 0,14 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,68 км.**

На левабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 25 км на З ад г. Петрыкаў, за 3 км на ПдЗ ад в. Ляскавічы. Старычнае. Берагі вышынёй да 0,8 м, часткова пад хмызняком. Злучана ручаём з Прыпяццю.

**СТАРУШКІ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Азёрнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад чыг. станцыі Старушкі Жыткавіцкага р-на, вусце за 3,5 км на Пд ад в. Вялікія Сялюцічы.

**СТАРЧАНЯЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Іўеўскім р-не, левы прыток р. Івенка (бас. Нёмана). Пачынаецца за 1,5 км на Пн ад в. Старчаняты, упадае ў Івенку каля в. Збойск.

**СТАРЫ РОЎ,** меліярацыйны канал у Слуцкім і Капыльскім р-нах, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Рачкавічы Слуцкага р-на, вусце каля в. Сухоўчыцы Капыльскага р-на.

**СТАРЫ РОЎ,** назва р. *Нараўка* ў верхнім цячэнні.

**СТАРЫ РЫБГАСНЫ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, упадае ў Скідны канал (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Колкі, вусце за 1,5 км на З ад в. Гарадзішча.

**СТАРЫ ЮРКАВІЦКІ КАНАЛ,** Запольеўскі канал, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Юркавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 3,5 км на З ад в. Ляхаўка, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Рэдкавічы.

**СТАРЫ ЮРКОВІЦКІ 2-і КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца каля в. Сялец, вусце за 1,5 км на ПдЗ в. Верачагошч.

**СТАРЫК,** возера ў Петрыкаўскім р-не.

**Пл. 0,4 км².**
**Даўжыня 3,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,72 км.**

На левабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 13 км на У ад г. Петрыкаў, каля вёсак Конкавічы і Міцуры. Старычнае. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, на З і Пн пад хмызняком, на У разараныя. Злучана пратокай з Прыпяццю.

**СТАРЫК,** возера ў Быхаўскім р-не.

**Пл. 0,3 км².**
**Даўжыня 5,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,08 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 11,7 км.**

На левабярэжнай пойме р. Дняпро, за 12 км на ПдУ ад г. Быхаў, за 2 км на ПнУ ад в. Тайманава. Старычнае. Берагі вышынёй 1—1,2 м, пад лугам. Злучана ручаём з Дняпром.

**СТАРЫШОЎКА,** рака ў Камянецкім р-не, правы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца на паўднёва-заходняй ускраіне в. Гарадзішча, вусце за 0,5 км на Пд ад г. Камянец. Рэчышча каналізаванае.

**СТАРЫШЧА,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток р. Бобрык 2-і (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 4,5 км на З ад в. Грабаў, вусце за 4,5 км на З ад в. Вялікія Сялюцічы.

**СТАЎ,** возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,13 км².**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.**

У бас. р. Сламянка (цячэ праз возера і злучае яго з воз. Кальніца), за 30 км на ПнУ ад г. Гродна, каля в. Новая Руда. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя.

**СТАЎБУНКА,** рака ў Веткаўскім р-не і Бранскай вобл. Расіі, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 192 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Стаўбунка ў Бранскай вобл., вусце



Возера Страдань.




Страдзецкае возера.



Стражоўскае возера

каля в. Жалезнікі Веткаўскага р-на. Рэчышча на працягу 17,3 км (ад мяжы з Расіяй да в. Стаўбун Веткаўскага р-на) каналізаванае.

**СТАЎПІШЧАНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 0,2 км на У ад в. Стаўпішчы, упадае ў Алу за 2,5 км на ПнУ ад в. Цейкавічы.

**СТА́ХАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 5 км на У, вусце за 4,5 км на ПнУ ад в. Стахава.

**СТАША́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, правы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Вісліца» (бас. Прыпяці). Даўжыня 3 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ ад в. Сташаны, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Новы Двор.

**СТАШО́ЎКА,** рака ў Камянецкім р-не, правы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца на ПдЗ ад в. Чарнёва, вусце на паўднёвай ускраіне в. Трасцяніца. Рэчышча каналізаванае.

**СТАЯ́ЧАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чачэрскім р-не.

Пл. 0,42 км$^2$.
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**
**Пл. вадазбору 5,25 км$^2$.**

У бас. р. Сож, за 5 км на Пд ад г. Чачэрск, каля в. Сярэднія Малынічы. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на З да 10 м, на У 16—18 м), разараныя. Берагі вышынёй да 0,5 м. Дно выслана сапрапелем, каля берагоў пясчанае.

**СТО́ЎБЦЫ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,17 км$^2$.
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,05 км.**

У бас. р. Тросніца (правы прыток р. Струнка), за 17 км на ПнУ ад г. Полацк, за 0,7 км на ПнУ ад в. Мінтурова. З возера выцякае ручай у р. Тросніца.

**СТО́ШЫНА,** рака, гл. *Жавуніца.*

**СТРА́ДАНЬ,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Палата (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 70 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Конны Бор, вусце за 5 км на ПдЗ ад в. Дрэтунь. Прыток — р. Чармісца (злева). Рака цячэ ў лясістай мясцовасці.

**СТРА́ДАНЬ,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,57 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 2,9 м.**
**Даўжыня 1,07 км.**
**Найбольшая шырыня 0,76 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,8 км.**
**Аб'ём вады 0,89 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,5 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на ПнУ ад г. Полацк, за 5 км на Пн ад в. Конны Бор, сярод парослага лесам і хмызняком вярховага балота. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, пад лесам, месцамі сплавінныя. Дно выслана сапрапелем. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй і высокай колернасцю. Зарастае да глыбіні 1,7 м. Шырыня паласы надводнай раслін[...] сці 30—80 м. На Пн выцякае р. [...] рынец.

**СТРА́ДЗЕЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Брэсц[...] р-не.

Пл. 0,16 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 6,6 м.**
**Даўжыня 0,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**
**Аб'ём вады 0,42 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 1 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Буг, за 24 км на [...] ад г. Брэст, за 1,5 км на Пн [...] в. Медна. Берагі высокія, зрэдку [...] раслі хмызняком. Мелкаводдзе п[...] чанае, глыбей дно выслана сапра[...] лем. На мелкаводдзі зрэджаныя [...] раснікі трыснягу і чароту, да глы[...] ні 3—3,5 м растуць рдзесты, элад[...] На Пд злучана канавай з Мядзя[...] скім возерам.

**СТРА́ДНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзв[...] скім р-не.

Пл. 0,94 км$^2$.
**Найбольшая глыбіня 1,1 м.**
**Даўжыня 1,44 км.**
**Найбольшая шырыня 1,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,53 к[...]**
**Аб'ём вады 0,6 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 16,8 км$^2$.**

У бас. р. Свольна, за 38 км на П[...] ад г. Верхнядзвінск, каля в. Стра[...] нае. Схілы катлавіны вышынёй да 2 [...] разараныя. Берагі нізкія, месцамі та[...] фяныя. Пойма шырынёй 50—300 [...] забалочаная, пад хмызняком. Д[...] каля паўднёвага і ўсходняга бераг[...] да глыбіні 0,5 м выслана пяско[...] і ілам, астатняя частка — сапрапеле[...] Поўнасцю зарасло падводнай раслі[...] насцю, уздоўж берагоў перарывіста[...] паласа надводнай расліннасці шыры[...] нёй да 75 м, пашырана да глыбі[...] 0,5 м. На ПдЗ упадае р. Балгач, [...] ПнУ выцякае р. Трудніца.

**СТРА́ЖНІЦА,** Безназоўны ка[...] нал, ручай у Крупскім р-не, прав[...] прыток р. Бобр (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 58 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхн[...] 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. А[...] павец, вусце на ўсходняй ускраін[...] г. п. Крупкі. Рэчышча на праця[...] 10,9 км (ад вытоку да в. Лебедзева[...] каналізаванае.

**СТРАЛА́,** меліярацыйны канал у Іва[...] цэвіцкім і Іванаўскім р-нах, лев[...] прыток Аброўскага канала (бас. Пры[...] пяці). Даўжыня 17,7 км. Пачынаец[...] за 1,5 км на ПдЗ ад в. Вялікая Гаці[...] Івацэвіцкага р-на, вусце за 4 км н[...] ПнУ ад в. Тышкавічы Іванаўскага р-на.

**СТРАЛА́,** Стрэлка, меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Закованка (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Боруск, вусце за 4 км на У ад в. Малыя Аўцюкі.

**СТРАЛІ́ЧАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток Кажушкаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,8 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Паселічы, вусце за 3 км на Пд ад в. Навасёлкі.

**СТРАЛКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,93 км².**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,85 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,57 км.**
**Пл. вадазбору 10,9 км².**

У бас р. Ужыца, за 25 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінск, каля вёсак Абрамава і Стралкі. Схілы катлавіны і берагі нізкія, амаль паўсюдна забалочаныя, часткова пад ворывам. Дно выслана сапрапелем. На З выцякае ручай у р. Ужыца.

**СТРАМЕ́Ц,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток Залядынскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,1 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Карсынь, вусце за 2,2 км на ПнУ ад в. Страмец. Прыток — канал Таўкачыха (справа).

**СТРА́ЧА,** рака ў Пастаўскім, Мядзельскім і Астравецкім р-нах, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 59 км.**
**Пл. вадазбору 1140 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 9,1 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Выцякае на З з воз. Малыя Швакшты Пастаўскага р-на, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Свянцянскіх град, упадае ў Вілію за 2 км на ПдУ ад в. Міхалішкі Астравецкага р-на. Асноўныя прытокі: Лынтупка, Струна (справа), Свірыца, Тушчанка (злева). Цячэ праз ландшафтны заказнік Блакітныя азёры. У басейне ракі многа азёр, з якімі рака злучана рэчкамі, ручаямі, пратокамі (Свір, Вішнеўскае, Вялікія і Малыя Швакшты, Балдук, Глубля, Глубелька, Вераб'і, Губіза, Ёдзі і інш.). Даліна ў верхнім цячэнні не выражана, на астатнім працягу трапецападобная. Пойма двухбаковая, забалочаная, яе шырыня 50—150 м. Рэчышча моцназвілістае, у верхнім цячэнні камяністае, ёсць парогі; яго шырыня ў межань у верхнім і сярэднім цячэнні 8—12 м, у ніжнім 15—20 м. Каналізаваная на працягу 6,1 км (за 3 км на ПдЗ ад в. Альшэва да в. Селевічы). Каля в. Страча створана сажалка (пл. 0,07 км²). Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СТРАЯВА́Я КАНА́ВА,** меліярацыйная канава ў Салігорскім і Жыткавіцкім р-нах, левы прыток Страявога канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца за 5 км на ПдЗ ад в. Даманавічы Салігорскага р-на, вусце за 4 км на ПдЗ ад в. Сяменча Жыткавіцкага р-на.

**СТРАЯВЫ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца з канала на меліярацыйнай сістэме «Жыткавічы», за 1 км на ПнУ ад в. Юркевічы, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Хісцецкі Бор, заканчваецца вадаразмеркавальнікам, адкуль вада цячэ ў рэкі Гніліца, Навуць і Рудзянецкі канал.

**СТРО́КЛА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,29 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,17 км.**

У бас. р. Свіна, за 44 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на З ад в. Уладзіміраўка, сярод меліяраванага балота.

**СТРО́КТЫ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Альзініца, за 5 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Строкты. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м (на Пн і Пд невыразныя), часткова пад сельгасугоддзямі. Вакол возера (акрамя З) забалочаная пойма шырынёй 50—100 м. Упадае ручай з возера без назвы, выцякае ручай у р. Альзініца.

**СТРУГ,** рака ў Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд ад в. Пераваловчная, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Юр'евічы. Рэчышча на працягу 5,7 км перад вусцем каналізаванае.

**СТРУ́ГА,** рака ў Іванаўскім р-не, левы прыток р. Няслуха (бас. Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пл. вадазбору 41 км². Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад г. Іванава, вусце за 0,8 км на З ад в. Пяшкова. Рэчышча каналізаванае.

**СТРУ́ГА,** рака ў Мастоўскім і Гродзенскім р-нах, правы прыток Свіслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 14 км.



Рака **Страча** ў **Мядзельскім** раёне.

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Хамічы Мастоўскага р-на, упадае ў Свіслач за 0,4 км на ПнЗ ад в. Балічы Гродзенскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**СТРУ́ГА,** ручай у Іванаўскім р-не, правы прыток р. Філіпаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,9 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ляхавічы, вусце каля паўночнай ускраіны в. Бродніца. Рэчышча каналізаванае.

**СТРУМЕНКА,** рака ў Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Ракатун (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца ў лясным урочышчы за 2,4 км на Пн ад в. Партызаны, вусце за 0,5 км на З ад в. Свержань. Рэчышча на працягу 3 км (ад в. Партызаны да вусця) каналізаванае.

**СТРУНА,** рака ў Астравецкім р-не і Літве, правы прыток р. Страча (бас. Вяллі).

Даўжыня 31 км.
Пл. вадазбору 194 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,5 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8‰.

Пачынаецца ў Літве перасякае граніцу за ПнЗ ад хутара Рудня. Цячэ па паўночных схілах Свянцянскіх град. Даўжыня ў межах Беларусі 18 км, упадае ў Страчу за 2 км на Пн ад в. Вялікія Стаўпяняты. Асноўны прыток — р. Пеляка. Даліна трапецападобная, яе шырыня 0,2—0,5 км у верхнім цячэнні, 1—1,5 км у сярэднім і ніжнім. Пойма вузкая. Рэчышча на працягу 10,3 км каналізаванае: ад чыгуначнага моста па дарозе г. п. Лынтупы — г. Пабрадзе да в. Масцяны (6,3 км) і перад вусцем (4 км). У ніжнім цячэнні прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СТРУ́НКА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 21 км.
Пл. вадазбору 123 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Шылы, вусце каля в. Слабада Саланіцкага сельсавета. Прыток — р. Троснiца (справа). Рэчышча ад вытоку на працягу 4 км каналізаванае.

**СТРУПАЎ,** рака ў Чарнігаўскай вобл. Украіны і Гомельскім р-не, правы прыток р. Нямыльня (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 46 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6‰.

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Карпаўка Гараднянскага р-на, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Паддабранка Гомельскага р-на. Рэчышча ад граніцы з Украінай уніз па цячэнні (4 км) і перад вусцем (3 км) каналізаванае.

**СТРУ́ПЕНЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Барысаўскім р-не, правы прыток р. Пліса (бас. Дняпра). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Вераскі, упадае ў Плісу ў в. Струпень.

**СТРУСТА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 13 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 23 м.
Даўжыня 6,4 км.
Найбольшая шырыня 4,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 27,8 км.
Аб'ём вады 94,3 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 223 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 4 км на Пн ад г. Браслаў, у зоне адпачынку Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на Пн 25—30 м), абразійныя, парослыя хмызняком і лесам, часткова раныя. Берагі нізкія, пераўвільнyя, на Пн зліваюцца са сх Ёсць мноства заліваў і 7 аст (агульная пл. 2,58 км$^2$; найбол Чайчын, Шова, Бярозаўскія, Я Прыбярэжная зона да глыбіні пясчаная, трапляюцца гліны; г. каводную зону высцілаюць ілы, кова сапрапелі. Каля паўднёв ўсходняга берагоў паласа трысн чароту шырынёй да 300 м. Да гл 6—7 м растуць харавыя водар элодэя, рагалiснік, рдзесты. На З дае р. Акмяніца, злучана прато з азёрамі Снуды, Балойса і Е сцёк праз пратоку ў воз. Войса. возера праходзіць усесаюзны рысцкі маршрут.

**СТРЫЕЎКА,** Стрыюўка, рак Гродзенскім р-не, у бас. Нёмана.

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 145 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паве 0,8‰.

Пычынаецца за 4 км на ПдЗ в. Парэчча, цячэ пераважна сярод су, упадае на ПнУ у воз. Рыбн Рэчышча ад в. Перасельцы да ву на працягу 17 км каналізаванае. П мае сцёк з меліярацыйных канал

**СТРЫ́ЖАВА,** Стрыжаўскі к нал, меліярацыйны канал у Ганцав кім і Лунінецкім р-нах, у бас. Пры ці. Даўжыня 25 км. Пачынаецца 3 км на ПдУ ад в. Шашкі Ганцав кага р-на, упадае ў канал на мел рацыйнай сістэме «Ваўчанская», 4 км на ПдЗ ад в. Вялікія Чучаві Лунінецкага р-на.

**СТРЫ́МНЯ,** меліярацыйны канал Драгічынскім і Іванаўскім р-нах, пр вы прыток Трудавога канала (ба Прыпяці). Даўжыня 15 км. Пачын ецца за 1,5 км на Пн ад в. Дробат Драгічынскага р-на, вусце кал в. Трудавая Іванаўскага р-на.

**СТРЫМНЯ,** назва р. *Няслуха* ў вер нім цячэнні.

**СТРЫЮЎКА,** рака, гл. *Стрыеўка*.

**СТРЭЛІЦА,** Стрэльніца, ручай Лідскім р-не, левы прыток р. Гол даўка (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км Пачынаецца на Пн ад в. Малышы упадае ў Голдаўку за 1 км на ПнЗ а в. Канюшаны. Рэчышча каналізаванае.

**СТРЭ́ЛКА,** Тур'я, рака ў Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці).

Даўжыня 14 км.
Пл. вадазбору 46 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Аляксандраўка, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Ленінскі Пасёлак. Цячэ ў лясістай мясцовасці. Рэчышча перад вусцем на працягу 2 км каналізаванае.

**СТРЭЛКА,** меліярацыйны канал у Акцябрскім і Калінкавіцкім р-нах, правы прыток р. Мядзведзь (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,3 км. Пачынаецца




**Возера Струста.**

3 км на ПдУ ад в. Дзербін Ашабрскага р-на, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Трамец Калінкавіцкага р-на.

**ГРЭЛКА,** канал, гл. *Страла.*

**ГРЭЧНА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,83 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,22 км.**
**Аб'ём вады 1,2 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,19 км².**

У бас. р. Дзісна, за 34 км на ПдУ ад г. Міёры, за 1,5 км на З ад в. Балаі, в вярховым балоце Стрэчна. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі вышынёй 0,4—0,5 м, параслі асакой. Адразу ад берага глыбіня вады 1 м. Дно выслана торфам. Вада вызначаецца вельмі нізкай мінералізацыяй (25 мг/л) і кіслай рэакцыяй. Амаль не зарастае, у цэнтры і залівах асобныя экземпляры гарлачыка жоўтага.

**СТРЭШНА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**

У бас. р. Лучоса, за 43 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Навасёлкі (Багушэўскі сельсавет). Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, параслі лесам. Берагі зліваюцца са схіламі. На З ёсць доўгі вузкі заліў.

**СТРЭШНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,22 км.**

У бас. р. Свольна, за 24 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3,5 км на ПнУ ад в. Мілавіды (650 м ад р. Свольна). Схілы катлавіны вышыней 7—10 м, пад лесам; на Пн невыразныя, прымыкае забалочаны хмызняк.

**СТРЭШНА,** возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,43 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,22 км.**

У бас. р. Абалянка, за 27 км на ПнУ ад г. Сянно, за 1 км на ПнЗ ад в. Варашылы, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 10—13 м, параслі лесам.

**СТРЭШЫНКА,** Стрэшынскі канал, рака ў Жлобінскім р-не, правы прыток р. Дняпро. Даўжыня 10,7 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Горкі, вусце ў г. п. Стрэшын. Рэчышча каналізаванае.

**СТУБЛА 2-я,** рака ў Пінскім і Столінскім р-нах, правы прыток р. Стыр (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пл. вадазбору 157 км². Выцякае з возера без назвы каля в. Жоўкіна Пінскага р-на, цячэ па раўніне Прыпяцкае Палессе па забалочанай лясістай мясцовасці. Вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Грыўкавічы Пінскага р-на. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 7,1 км каналізаванае.

**СТУДЗЁНІЦА,** рака ў Расонскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 27 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Грышына, упадае ў воз. Валоба з ПнЗ за 0,7 км на У ад в. Азерная. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 1,5 км каналізаванае. Цячэ ў лясістай мясцовасці.

**СТУДЗЁНКА,** рака ў Докшыцкім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 43 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца на паўночнай частцы Мінскага ўзвышша, на заходняй ускраіне в. Баяры Бягомльскага пассавета, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Ваўча. Рэчышча на працягу 4,2 км каналізаванае: ад аўтадарогі Баяры — Бягомль да аўтадарогі Плешчаніцы — Бягомль (2,5 км), ад сажалкі ў в. Будачы ўніз па цячэнні (0,5 км) і ад пункта за 2,5 км на У ад в. Ваўча ўніз па цячэнні (1,2 км).

**СТУДЗЁНКА,** Пудрычыца, канал Пудрычыца, рака ў Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Боркі, вусце за 2 км на У ад в. Лушчыкі, каля моста па аўтадарозе Бяроза — Кобрын. Рэчышча каналізаванае.

**СТУДЗЁНКА,** рака ў Лепельскім р-не, правы прыток р. Зеха (бас. Зах.



**Возера Струста.**



Рака **Сула** каля хутара Зуберава Стаўбцоўскага раёна.

**СУДКО́ВА**, вадасховішча ў Хойніцкім р-не.

**Пл. 1 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 1,25 км.**
**Найбольшая шырыня 1,1 км.**
**Аб'ём вады 3 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 63,7 млн. м³.**

Створана ў 1982 за 7 км на З ад г. Хойнікі, 4,5 км на З ад в. Судкова для ўвільгатнення зямель і рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 4,1 км. Наліўное: напаўняецца вадой з р. Віць па напорным трубаправодзе пры дапамозе помпавай станцыі, забіраецца вада праз донны вадавыпуск у целе дамбы. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 2 м.

**СУДО́БАЎСКІ КАНА́Л**, гл. *Пліскі канал.*

**СУКАЧО́ЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Дзятлавіцкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Каты, вусце за 1,6 км на У ад в. Сукачы.

**СУКНЕ́ЎКА**, рака ў Лагойскім р-не, левы прыток р. Громніца (бас. Віліі). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца на Пд ад в. Сукневічы, упадае ў Громніцу за 4 км на ПдУ ад в. Рудня. Рэчышча каналізаванае.

**СУЛА́**, рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 76 км.**
**Пл. вадазбору 520 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на Пд ад в. Таўкачоўшчына, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Мінскага ўзвышша, у ніжнім цячэнні перасякае невялікія, зрэдку забалочаныя лясныя масівы. Упадае ў Нёман за 0,7 км на Пн ад в. Бяражное. Асноўныя прытокі: Тонва, Сярмяжка (справа), Перакуль, Волка (злева). Даліна слабазвілістая, трапецападобная, яе шырыня 0,3—0,5 км, месцамі пашыраецца да 2 км. Схілы пераважна пад лесам. Пойма двухбаковая, яе шырыня 0,2—0,3 км, зрэдку пашыраецца да 0,6 км, перасечана лагчынамі і старыцамі. Рэчышча моцназвілістае, шырыня ракі ў межань ад 3 м у верхнім да 20 м у ніжнім цячэнні. Берагі параслі хмызняком. У маляўнічай мясціне ў сутоках Сулы і Нёмана зона адпачынку Аталезь.

**СУЛІ́ЧАЎСКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток Ляхавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,8 км. Пачынаецца за 2 км на Пд ад в. Дзятлавічы, вусце каля в. Кублік.

**СУ́МАЎКА**, возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 1,63 км².**
**Найбольшая глыбіня 29,9 м.**
**Даўжыня 2,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,68 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,03 км.**
**Аб'ём вады 11,1 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 14,4 км².**

У бас. р. Вята, за 8 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Гентава. Катлавіна складаецца з 2 плёсаў — глыбакаводнага заходняга Гоўцы і ўсходняга Сумаўка (глыбіня 15,8 м). Схілы катлавіны вышынёй 1—5 м, на Пд і ПдЗ разараныя, месцамі пад хмызняком. Берагі нізкія, пад хмызняком, месцамі забалочаныя. Дно на мелкаводдзі пясчанае, глыбакаводная частка выслана ілам. Зарастае слаба. Шырыня паласы расліннасці да 15 м. На У упадае ручай з возера без назвы, на З выцякае ручай у воз. Сярэднік.

**СУПРАНЕ́НЦКІ РУЧА́Й**, у Астравецкім р-не, левы прыток р. Страча (бас. Віліі). Даўжыня 6 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Супраненты, упадае ў Страчу на У ад в. Альхоўка. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,5 км каналізаванае.

**СУРАВЕ́Ц**, ручай у Горацкім р-не, левы прыток ручая Капылка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Шалаханаўка, вусце на паўночна-ўсходняй ускраіне г. Горкі.

**СУ́РАЎ**, рака ў Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра).

**Даўжыня 49 км.**
**Пл. вадазбору 215 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,1 м³/с.**



Возера **Сумаўка**.




Возера **Судабле**.




Возера **Сумаўка**.

**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Завідаўка Клімавіцкага р-на, вусце ў в. Фёдараўка Касцюковіцкага р-на. Цячэ па паўднёва-ўсходняй частцы Аршанска-Магілёўскай раўніны. У верхнім цячэнні называецца С у р а ў к а. Даліна пераважна трапецападобная, шырынёй 0,5—1 км, месцамі да 1,5 км. Схілы ўмерана стромкія і стромкія (вышыня 5—15 м), у ніжнім цячэнні абрывістыя (вышыня да 8 м), месцамі парэзаны ярамі. Пойма перарывістая, пераважна адкрытая, чаргуецца па берагах, забалочаная, шырынёй 0,2—0,5 км. Рэчышча звілістае,

свабодна меандруе, ад вытоку на працягу 8,4 км каналізаванае. Шырыня ракі ў межань 2—6 м.

**СУРВІЛАЎСКІ РУЧАЙ**, ручай у Мядзельскім р-не у бас. Віліі. Даўжыня 3,8 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПнЗ ад в. Сурвілы, упадае ў рыбаводныя сажалкі, створаныя ў сутоках рэк Вялікі Перакоп і Малы Перакоп, за 2 км на ПдУ ад той жа вёскі. Рэчышча каналізаванае.

**СУРВІЛІШСКАЕ ВОЗЕРА**, гл. *Вялікае Сурвілішскае возера*

**СУРЫНКАЎСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Слонімскім р-не, левы прыток р. Була (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца ва урочышчы Мохавае Балота за 1,4 км на У ад в. Падмошша, упадае ў р. Була каля в. Рахавічы.

**СУТОКІ**, рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Каменка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 35 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Малашэнкі, вусце каля в. Паташня. Ніжняе цячэнне ракі ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**СУХАДРОЎКА**, С у х о д р а ў к а, рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах, правы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 66 км.**
**Пл. вадазбору 519 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца каля паўночна-ўсходняй ускраіны в. Свірбы Лёзненскага р-на, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Кузьмянцы Віцебскага р-на. Цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша. Асноўныя прытокі: Выдрэя, Ласасіна (справа), Ардзяжанка (злева). Даліна трапецападобная (шырыня 300—600 м, ёсць звужэнні да 50 м), ніжэй упадзення р. Ласасіна невыразная. Пойма чаргуецца па берагах, у верхнім цячэнні месцамі адсутнічае, пераважная шырыня 100—300 м. Рэчышча свабодна меандруе, умерана звілістае, у сярэднім цячэнні моцназвілістае, паміж вёскамі Стасева і Вялікая Выдрэя Лёзненскага р-на парожыстае.

**СУХАЯ**, рака ў Крупскім р-не, правы прыток р. Высокая (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Язбы, вусце за 2,5 км на ПнЗ ад в. Запуткі. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**СУХІ РОГ**, меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, левы прыток Ляхавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Ялач, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Вулька Попінская.

**СУХОДРАЎКА**, рака, гл. *Сухадроўка*.

**СУХОЕ ВОЗЕРА**, у Мёрскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Дзісна, за 14 км на ПдУ ад г. Міёры, за 6,5 км на У ад в. Белеўцы, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, сярод балота Мох. Берагі забалочаныя.

**СУЦІНКА**, С у ц і н с к і к а н а л, рака ў Асіповіцкім і Пухавіцкім р-нах, правы прыток р. Талька (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 44 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля паўночна-заходняй ускраіны в. Крамок Асіповіцкага р-на, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Суцін Пухавіцкага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**СУЧАНКА**, рака ў Шумілінскім р-не, левы прыток р. Чарніца (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца за 2,7 км на ПдУ ад в. Юрава, вусце каля в. Залужжа.

**СУША**, рака ў Клічаўскім і Кіраўскім р-нах, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

**Даўжыня 40 км.**
**Пл. вадазбору 364 км².**
**Сярэдні гадавы расход вады ў вусці 1,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Рагі Клічаўскага р-на, вусце за 0,7 км на Пд ад в. Ваевічы Клічаўскага р-на. Асноўны прыток — р. Перасопенка (справа). Цячэ ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны, на вялікім працягу праз лясныя масівы. Даліна слабавыразная, у ніжнім цячэнні зліваецца з далінай Ольсы, шырыня ад 0,5 км да 1 км. Пойма перарывістая, чаргуецца па берагах, шырыня ад 0,1—0,2 км у верхнім і сярэднім цячэнні да 0,4—0,6 км ніжэй упадзення Перасопенкі. Рэчышча ад вытоку (шырыня 5—7 м), на працягу 7,5 км каналізаванае, ніжэй свабодна меандруе, моцназвілістае. Берагі спадзістыя. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**СУШАНКА**, рака ў Клічаўскім р-не, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 174 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца ў лясным урочышчы Скобленкава Паляна за 4 км на Пн ад в. Развадаў, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Патока. Цячэ пераважна сярод лесу ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Асноўны прыток — р. Ваданоска (справа).

**СУШЧАВА**, С ы ш ч а в а, возера ў Мастоўскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1**

У бас. р. Сіпа, за 30 км на П г. Масты, каля в. Вялікія А Схілы катлавіны вышынёй 3– разараныя. Берагі забалочаныя. ма шырынёй 20—50 м, пад заба ным лугам. Дно выслана сапрап

**СУШЫНА**, возера ў Полацкім

**Пл. 1,01 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 1,42 км.**
**Найбольшая шырыня 1 км.**
**Аб'ём вады 4,23 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 16,6 км².**

У бас. р. Нача, за 28 км на Пд г. Полацк, каля в. Падазер'е. С катлавіны вышынёй 6—9 м, раз ныя, на вышыні 0,5—1,2 м тэр На Пн, ПнУ і Пд да возера прымы балота. Берагі нізкія, парослі во балотнай раслліннасцю. На ПнУ і забалочаная пойма шырынёй да 10 парослая хмызняком. Дно высл пяском (да глыбіні 2 м) і ілам. Шы ня паласы прыбярэжнай надвод раслліннасці да 10 м, пашырана глыбіні 2,5—3,5 м. Злучана пратока з воз. Жураўна і р. Нача. З воз выцякае Будзькоўшчынскі кан



**Возера Сушына.**

**СУШЫНА**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,36 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,82 км.**

У бас. р. Нача, за 26 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Мамонава. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на У да 7 м), на Пн і У разараныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 20—70 м, на Пд пад хмызняком.

**СУШЫТНІЦА**, меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, правы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Сушытніца, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Мельнікі.

**СУЯ**, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 1,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,6 м.**



озера Суя.

**Даўжыня 2,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,82 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,1 км.**
**Аб'ём вады 3,28 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 787 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 18 км на Пд ад г. Полацк, каля в. Плусы, на тэрыторыі зоны адпачынку Азёрная. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на ПдУ і месцамі на Пд 10—14 м), зараслі лесам, на Пн разараныя. Ёсць некалькі заліваў і паўастравоў. Берагі нізкія, на З забалочаныя, на Пн месцамі сплавінныя (шырыня сплавіны 5—10 м). Пойма шырынёй 10—20 м, забалочаная, пад хмызняком. Дно выслана сапрапелем, у прыбярэжнай зоне пясчанае. Уздоўж берагоў паласа надводнай расліннасці шырынёй 3—50 м, пашырана да глыбіні 0,7 м. Злучана пратокамі з азёрамі Гомель (на З) і Туроўля (на У).

**СХА,** рака ў Барысаўскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 80 км.**
**Пл. вадазбору 577 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,9 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Міхайлава, вусце ў г. Барысаў. Асноўныя прытокі: Глініца, Бродня (справа), Неманіца (злева). Рака цячэ па Верхнебярэзінскай раўніне. Даліна да ўпадзення р. Глініца невыразная, ніжэй скрынкападобная, шырынёй 0,3—0,4 км, месцамі 1—2 км. Схілы спадзістыя і ўмерана стромкія (вышыня 15—20 м), парэзаны ярамі і далінамі прытокаў. Характэрны шматлікія выхады грунтовых водаў. Пойма двухбаковая, зрэдку чаргуецца па берагах або адсутнічае; шырыня яе ў вярхоўі каля 0,1 км, у месцы ўпадзення Неманіцы 0,9 км, у нізоўі зліваецца з далінай Бярэзіны. Паверхня роўная, месцамі забалочаная і перасечаная меліярацыйнымі каналамі. У разводдзе затапляецца на глыбіню 0,3—0,5 м тэрмінам да 5—10 сутак. Рэчышча ад вытоку на працягу 12,5 км каналізаванае, ніжэй моцназвілістае, шырынёй 6—12 м. Берагі стромкія і абрывістыя. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, найбольшая вышыня над межанным узроўнем 1,7 м. Замярзае ў сярэдзіне — канцы снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.



Рака Сха каля вёскі Барань Барысаўскага раёна.

**СЦВІГА,** рака на Пн Украіны (Ровенская вобл.) і Пд Беларусі (Столінскі і Жыткавіцкі р-ны), правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 178 км.**
**Пл. вадазбору 5,3 тыс. км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 21,6 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 68,3 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца ў Ракітнаўскім р-не Ровенскай вобл. на вышыні 188 м над узроўнем мора, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Пагост Жыткавіцкага р-на. Цячэ ў межах Прыпяцкай нізіны (па Жытомірскім Палессі на Украіне і Прыпяцкім Палессі на Беларусі). Даўжыня ў межах Беларусі 112 км, пл. вадазбору 4,3 тыс. км$^2$. Асноўныя прытокі

Рака Сцвіга ў ніжнім цячэнні.



Возера Сцержань.

на Беларусі ручай Плаў, канал Бычок (справа), р. Мстава (злева). Даліна ў вярхоўі трапецападобная (шырыня 0,5—1 км), ніжэй невыразная, зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма двухбаковая, шырыня ў вярхоўі і сярэднім цячэнні 80—200 м, ніжэй 0,6—1,2 км. Рэчышча свабодна меандруе, моцназвілістае, разгалінаванае, трапляюцца пясчаныя астравы, якія затапляюцца ў разводдзе; у вярхоўі — каналізаванае, шырыня ў ніжнім цячэнні 20—30 м.

**СЦЕЖАРЭНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, правы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПнЗ ад в. Сцежарнае, упадае ў Верхнюю Брагінку за 1,2 км на З ад в. Аляксееўка.

**СЦЕ́РЖАНЬ,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 1,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,8 м.**
**Даўжыня 1,8 км.**
**Найбольшая шырыня 1,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,3 км.**
**Аб'ём вады 1,01 млн. м³.**

У бас. р. Лукомка, за 18 км на ра), за 15 км на У ад г. Чашнікі, сярод нізіннага балота. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі сплавінныя, параслі трыснягом, асакой, хмызняком. Амаль уся плошча дна выслана сапрапелем. Вада празрыстая да дна. Поўнасцю зарастае падводнай расліннасцю.

**СЦЕ́РЖАНЬ,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,5 км².**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,17 км.**
**Пл. вадазбору 22,6 км².**

У бас. р. Лукомка, за 18 км на Пд ад г. Чашнікі, каля в. Застарынне. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, у канцавых частках возера невыразныя. Вылучаецца пойма, якая пераходзіць у даліны ручаёў. На Пн выцякае канава ў р. Лукомка.

**СЦЕРНІК,** Б у с о ў н я, возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,28 км².**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Пл. вадазбору 2,5 км².**

У бас. р. Обаль, за 36 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Ключагорская, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, месцамі невыразныя, параслі лесам, на Пн разараныя.

**СЦЕ́РФЕНЬ,** рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток [redacted] Карыценка (бас. Нёмана). Даўжыня [redacted] км. Пачынаецца каля в. Хвінявічы, цячэ пераважна сярод лесу, упадае ў Карыценку за 2 км на ПнУ ад [redacted] Ліпічанская Пушча. Рэчышча ад вытоку на працягу 1 км каналізаванае.

**СЦЯЖНЫ́ КАНА́Л,** С ц я ж н а я к а н а в а, Т р а й ч а н с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Старадарожскім і Любанскім р-нах, левы прыток Слаўкавіцка-Ямінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Прусы Старадарожскага р-на, вусце за 5 км на ПдУ ад в. Трайчаны Любанскага р-на. Прыток — Цясноўскі канал (злева).

**СЦЯПА́НКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, правы прыток Сяхновіцкага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Канатопы, вусце за 0,8 км на У ад в. Сцяпанкі.

**СЦЯРВІ́НКА,** рака ў Браслаўскім р-не, правы прыток р. Акунёўка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 15,6 км. Пачынаецца за 0,8 км ад в. Арцёмавічы, вусце за 1,8 км на ПнЗ ад в. Крукаўшчына. Рэчышча каналізаванае.

**СЦЯТКО́ЎШЧЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Дзятлаўскім р-не, правы прыток Лядзінкі (бас. Нёмана). Даўжыня 3,5 км. Пачынаецца на Пд ад в. Сцяткоўшчына, упадае ў Лядзінку за 1,1 км на ПдУ ад в. Пузавічы.

**СЫ́РМЕЖ,** рака, гл. *Сермеж.*



**Зараслае мелкаводдзе возера Сцержань (плошча 1,68 км²).**

**СЫРО́ДСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Закованка (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Аляксандраўка, вусце за 2 км на Пд ад в. Сырод.

**СЫРО́ПЛАШСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Свіслацкім і Пружанскім р-нах, правы прыток р. Цемра (бас. Прыпяці). Даўжыня 5 км. Выцякае з Лубянскага вадасховішча каля в. Лубянка Свіслацкага р-на, вусце за 5 км на ПдЗ ад в. Асятніца Пружанскага р-на. Канал пракапаны на месцы рэчышча р. К о з і ц а.

**СЫ́ТНІЦА,** назва р. *Дзвінаса* ў верхнім цячэнні.

**СЫЧ,** рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток р. Чапа (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Цешкаўка, вусце ў в. Чарневічы. Рэчышча ад в. Сыч да вусця на працягу 3,5 км каналізаванае.

**СЫЧАЎКА,** к а н а л С ы ч а ў к а, у Чачэрскім р-не, правы прыток р. Покаць (бас. Дняпра). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Нісімкавіцкая Сычаўка, вусце за 0,8 км на ПнУ ад в. Дубок. Рэчышча каналізаванае.

**СЫЧЭЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Нясвіжскім р-не, у басейне р. Уша (бас. Нёмана). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 2,2 км на У ад в. Міцькавічы, упадае ў воз. Свіцязь за 1 км на ПнЗ ад в. Вайнілавічы.

**СЫ́ШЧАВА,** возера, гл. *Сушчава.*

**СЭ́КЛЫ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 1,01 км².**
**Найбольшая глыбіня 3 м.**
**Даўжыня 1,48 км.**
**Найбольшая шырыня 1,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,7 км.**
**Аб'ём вады 1,6 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 9,4 км².**

У бас. р. Дзісна, за 34 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 2 км на Пн ад г. п. Відзы. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, на Пн да 9 м. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Пойма шырынёй 10—20 м. Дно выслана сапрапелем, месцамі каля берагоў пясчанае. Зарастае па ўсёй плошчы дна. Злучана пратокай з Відзкім возерам, выцякае ручай у р. Дрысвята.

**СЭ́РВАЧ,** рака ў Докшыцкім, Мядзельскім і Вілейскім р-нах, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 85 км.**
**Пл. вадазбору 1105 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Выцякае на ПдЗ з воз. Сэрвач Докшыцкага р-на, упадае ў Вілейскае вадасховішча на ПдУ ад в. Людвінова Вілейскага р-на. Асноўныя прытокі: Сэрвач, Галядза, Зуйка (злева), Патачанка, Наква (справа). Даліна ў верхнім і месцамі ў сярэднім цячэнні невыразная, на астатнім працягу трапецападобная; яе шырыня 1,5—2,5 км,


Возера Сэклы.

месцамі звужаецца да 0,6—1 км. Пойма двухбаковая, слабаперасечаная, у верхнім цячэнні забалочаная, тарфяністая, на астатнім працягу сухая, пясчаная. Рэчышча моцназвілістае, у сярэднім цячэнні на працягу 1,8 км каналізаванае, у верхнім — моцна зарастае; шырыня яго ў верхнім цячэнні — 2—5 м, у сярэднім і ніжнім 15—25 м, месцамі да 40 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Пры ўпадзенні Наквы ў Сэрвач г. п. Крывічы. Каля в. Людвінова створана сажалка (пл. 0,1 км²). У маляўнічых мясцінах нізоўя ракі зона адпачынку Вілейка.

**СЭ́РВАЧ,** рака ў Карэліцкім, Баранавіцкім і Навагрудскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 63 км.**
**Пл. вадазбору 770 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца каля в. Багушы Баранавіцкага р-на, у вярхоўі і сярэдняй частцы цячэ па ўсходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Нёман у межах в. Панямонь Навагрудскага р-на. Асноўныя прытокі: Карчоўка, Нёўда, Рута (злева). Даліна трапецападобная, у вярхоўі шырынёй 0,3—0,5 км, у сярэднім цячэнні 1—1,5 км, у ніжнім — невыразная. Пойма двухбаковая, часткова забалочаная, парэзаная меліярацыйнымі каналамі, асабліва ў ніжняй частцы; яе шырыня ў вярхоўі 50—100 м, у сярэднім цячэнні 400—600 м, да вусця пашыраецца да 2—3 км. Рэчышча ў верхнім і сярэднім цячэнні звілістае, ніжэй на працягу 17 км да вусця каналізаванае. У вярхоўі рака зарэгулявана плацінай вадасховішча Кутаўшчына. Замярзае ў 2-й палове снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СЭ́РВАЧ,** ручай у Докшыцкім р-не, левы прыток р. Сэрвач (бас. Віліі).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на З ад в. Дзядкі, упадае ў Сэрвач за 1,1 км на ПдЗ ад в. Вешняе. Рэчышча каналізаванае, ад в. Малінаўка да в. Макаравічы берагі параслі хмызняком.

**СЭ́РВАЧ,** возера ў Докшыцкім р-не.

**Пл. 4,55 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 3,83 км.**
**Найбольшая шырыня 2,9 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,9 км.**
**Аб'ём вады 12,9 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 51,8 км².**

У бас. р. Сэрвач (выцякае з возера), за 18 км на ПнЗ ад г. Докшыцы, каля вёсак Вешняе і Шантараўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 1—3 м, разараныя, на З невыразныя. Берагі нізкія, месцамі сплавінныя. Пойма забалочаная, пад хмызняком, на З пераходзіць у забалочаную, паросную лесам нізіну. Дно выслана сапрапелем, на Пн — торфам; мелкаводдзе пясчанае. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 15—120 м, пашырана да глыбіні 1,5—2 м.

**СЯКІ́РЫЦКІ КАНА́Л,** С я к е р ы ц к і к а н а л, меліярацыйны канал у Акцябрскім і Петрыкаўскім р-нах, левы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,2 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Зарыжжа Акцябрскага р-на,



Возера Сэклы.



Возера Сэрвач.



Возера Сэрвач.



Возера Сялец.

вусце за 3 км на ПдУ ад в. Лучыцы Петрыкаўскага р-на.

**СЯЛЕ́Ц,** возера ў Любанскім р-не.

**Пл. 0,12 км².**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,36 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Арэса, за 25 км на ПдУ ад г. Любань, за 1 км на У ад п. Жалы. Схілы катлавіны невыразныя. На Пн да возера прымыкае лясны масіў, астатняя тэрыторыя вакол возера меліяравана і разарана.

**СЯЛЕ́Ц,** вадасховішча ў Бярозаўскім р-не.

**Пл. 20,7 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,4 м.**
**Даўжыня 11,8 км.**
**Найбольшая шырыня 4,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 33,5 км.**
**Аб'ём вады 56,3 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 101 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 681 км².**

На пойме р. Ясельда (147,5 км ад вусця), за 7 км на ПнЗ ад г. Бяроза, каля в. Сялец. Створана ў 1985 для водазабеспячэння сажалак рыбгаса «Сялец», увільгатнення глеб, добраўпарадкавання прылеглых населеных пунктаў. Земляная намыўная плаціна даўжынёй 4,3 км з хвалеўстойлівым верхавым адхонам, даўжыня агараджальнай дамбы 13,9 км. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 2,5 м.

**СЯЛЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пд ад в. Сялец, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Вялікія Прылукі.

**СЯЛЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, правы прыток Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пд, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Сялец.

**СЯЛЕ́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Башта (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Сашыца, вусце каля в. Сялец.

**СЯЛЬНІ́ЦКІ КАНА́Л,** Сяльнаецкі канал, меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток Мормальскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 1,8 км на З ад в. Яшчыцы, упадае ў Мормальскі канал за 4 км на ПдУ ад в. Сельнае.

**СЯЛЬЦО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Сялічанскае возера, на мяжы Глыбоцкага і Міёрскага р-наў.

**Пл. 0,13 км².**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,6 км.**
**Пл. вадазбору 5,5 км².**

У бас. р. Авута, за 40 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Карнапакія. Схілы катлавіны вышынёй да 18 м, у верхняй частцы разараныя. У паўднёвай частцы заліў. Востраў пл. 0,4 га.

**СЯЛЯ́ВА,** возера ў Крупскім р-не.

**Пл. 15 км².**
**Найбольшая глыбіня 19,5 м.**
**Даўжыня 15 км.**
**Найбольшая шырыня 3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 44,3 км.**



Возера Сялява.

**Аб'ём вады 94,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 324 км².**

У бас. р. Лукомка, за 20 км на Пн ад г. п. Крупкі. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м (на Пн 3—5 м), пераважна парослыя хмызняком, часткова — лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя, на Пд зліваюцца са схіламі. 3 астравы, найбольшы з іх (пл. каля 2 км²) з У аддзелены ад сушы пралівам шырынёй 100—120 м, глыбінёй 2,2 м. Дно да глыбіні 4—6 м, месцамі да 10 м пясчанае, ніжэй выслана сапрапелем. Зарастае слаба. Уздоўж берагоў вузкая перарывістая паласа з асакі, чароту, трыснягу, хвашчу. У возера ўпадаюць рэкі Высокая і Ракітаўка, на Пн злучана шырокай пратокай з воз. Абіда. У выніку будаўніцтва на р. Югна Сяляўскай ГЭС узровень возера падняты.

**СЯЛЯЕВА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,32 км².**
**Даўжыня 1,08 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,63 км.**

У бас. р. Дзвіна, за 28 км на ПнУ ад г. Віцебск, за 1 км на ПнУ ад в. Рыбакі (Суражскі пасялковы Савет). Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, парослі лесам. На З выцякае ручай у Зах. Дзвіну.

**СЯЛЯЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 1,11 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,1 м.**
**Даўжыня 2,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,71 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,4 км.**
**Аб'ём вады 4 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,4 км².**

У бас. р. Дрыса, за 10 км на Пд ад г. п. Расоны, каля в. Сяляўшчына. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на ПнУ да 18 м, на У 2—4 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй разараныя. У паўднёва-ўсходняй частцы возера некалькі заліваў. Берагі нізкія, на ПнУ зліваюцца са схіламі. На Пд забалочаная пойма шырынёй да 350 м, парослая хмызняком. Дно выслана сапрапелем, каля берагоў пясчанае. Зарастае ўздоўж берагоў да глыбіні 2,3 м, шырыня паласы расліннасці 10—200 м. Ручаём злучана з воз. Убежа.

**СЯМЕЦКАЯ СТРЭЛКА,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток канала Бычок (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 8 км на ПнУ ад в. Рудня, вусце за 5,5 км на Пд ад в. Бечы. Цячэ ў межах Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка па лясістай забалочанай мясцовасці.

**СЯМЁНАЎКА,** рака ў Мінскім і Смалявіцкім р-нах, правы прыток р. Волма (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца з Дуброўскага канала за 1 км на З ад в. Зарэчча Апчакскага сельсавета Мінскага р-на, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Узбарогі Смалявіцкага р-на. Рэчышча каналізаванае.




**Возера Сялява.**




**Сяляўскае возера.**



**Сяляўскае возера.**




**Сяляўскае возера.**

**СЯМЁНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Смалявіцкім р-не, правы прыток р. Сямёнаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Забалоцце, упадае ў Сямёнаўку за 3 км на У ад в. Дварэц Мінскага р-на.

**СЯМЁНЕНКІ,** возера ў Расонскім р-не.

Пл. 0,25 км².
Найбольшая глыбіня 2,2 м.
Даўжыня 1,38 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі каля 4 км.
Аб'ём вады 0,39 млн. м³.
Пл. вадазбору 7,2 км².

У бас. р. Дрыса, за 17 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на З ад в. Трыполле. Схілы катлавіны парослі лесам, на Пд і Пн вышынёй да 1 м, на З і У 6—8 м. На Пд і Пн ёсць вузкія залівы. Берагі нізкія, забалочаныя, пад хмызняком. Дно выслана сапрапелем, уздоўж берагоў участкамі пясчанае. Зарастае ўздоўж берагоў да глыбіні 1,5 м, шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 15 м. На ПдУ выцякае ручай у воз. Межна.

**СЯМІГОСЦІЦКІ КАНАЛ**, Рамель-Сямігосціцкі канал, меліярацыйны канал у Столінскім р-не, правы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 17,2 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Мачуль, вусце за 1,2 км на ПнЗ ад в. Сямігосцічы. Прыток — Альшанскі канал (злева).

**СЯМІСОСЕНСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Брэсцкім р-не, левы прыток р. Паднева (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ, вусце за 2,7 км на ПнУ ад в. Сямісосны.

**СЯНКАНКА**, рака ў Астравецкім р-не, левы прыток Віліі.

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 67 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,4 ‰.

Пачынаецца ў лесе за 1,5 км на ПдУ ад в. Лынкішкі, цячэ па паўночных схілах Ашмянскага ўзвышша, упадае ў Вілію за 1 км на ПнУ ад в. Нідзяны. Рэчышча на працягу 1,2 км ад вытоку каналізаванае.

**СЯННА**, рака ў Чэрыкаўскім і на мяжы Чэрыкаўскага і Краснапольскага р-наў, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 59 км.
Пл. вадазбору 543 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,4 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Кліны, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Ушакі. Асноўныя прытокі: Сененка, Расамаха, Тур'я (злева), Дамашня, Рэкта (справа). Цячэ пераважна ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Даліна трапецападобная, глыбокаўрэзаная (шырыня ад 0,3 км у вярхоўі да 1 км у ніжнім цячэнні). Пойма двухбаковая (шырыня ў вярхоўі 30—60 м, у ніжнім цячэнні 300—500 м), месцамі адкрытая, лугавая. Паверхня роўная, у ніжнім цячэнні ўзгорыстая. Рэчышча ад вытоку на працягу 15,8 км каналізаванае, у ніжнім і сярэднім цячэнні звілістае і моцназвілістае; шырыня яго 5—10 м, ніжэй в. Пільня Чэрыкаўскага р-на пашыраецца да 17 м, у ніжнім цячэнні звужаецца да 5—6 м. Берагі ўмерана стромкія і стромкія. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка, сярэдняя вышыня над меžанным узроўнем у ніжнім цячэнні 1,7 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у пачатку 3-й дэкады сакавіка. Веснавы ледаход 7 сутак. Рака выкарыстоўваецца як водапрыёмнік меліярацыйных каналаў.

**СЯННА́**, назва р. *Жыварэзка* ў верхнім цячэнні.

**СЯННО́**, Сенненскае возера, возера ў Сенненскім р-не.

Пл. 3,15 км².
Найбольшая глыбіня 31,5 м.
Даўжыня 6,03 км.
Найбольшая шырыня 0,92 км.
Даўжыня берагавой лініі 18,9 км.
Аб'ём вады 26,8 млн. м³.
Пл. вадазбору 67,9 км².

У бас. р. Крывінка, на ўскраіне г. Сянно. Катлавіна падзяляецца на глыбакаводны паўднёвы і мелкаводны паўночны плёсы. Схілы катлавіны вышынёй да 21 м, у верхняй частцы пераважна разараныя, на З і Пн пад лесам і хмызняком. Берагі вышынёй да 0,6 м, месцамі зліваюцца са схіламі. У паўночным плёсе востраў пл. 0,018 км². Дно да глыбіні 2,5—3 м (месцамі да 7 м) пясчанае, ніжэй выслана ілам. Зарастае слаба. Шырыня паласы надводнай расліннасці да 50 м, пашырана да глыбіні 1,7 м; падводная расліннасць пашырана да глыбіні 2,5 м. Упадаюць каля 20 ручаёў, у тым ліку з Кулікоўскага возера; пратокай злучана з Багданаўскім возерам.

**СЯРВАЙКА**, рака ў Гарадоцкім р-не, правы прыток р. Ловаць (бас. р. Нява). Даўжыня [illegible] км. Пачынаецца каля



Возера Сянно.



Сяргееўскае возера.

в. Шаўрава, вусце каля в. Рудня. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**СЯРГЕЕЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Сяргеевіцкае возера, Муха, у Пухавіцкім р-не.

**Пл. 2,75 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 2,2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,6 км.**

У бас. р. Пціч, за 25 км на З ад г. Мар'іна Горка, на Пн ад в. Сяргеевічы. Схілы катлавіны нізкія, забалочаныя, парослі хмызняком. Дно выслана сапрапелем. Сцёк праз канал у р. Пціч.

**СЯРМЯ́ЖКА,** рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток р. Сула (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 93 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца сярод лесу, за 1 км на У ад в. Беламошша, упадае ў Сулу на ПнУ ад в. Трылес. Прыток — р. Лубянка. Рэчышча на працягу 10,6 км каналізаванае: ад пункта за 0,6 км на ПдУ ад в. Астравы да вусця. Пойма ў вярхоўі забалочаная, ніжэй в. Вялікая Гуменаўшчына прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**СЯРЧЫ́СТАЯ,** Сярністая, рака ў Вілейскім р-не, правы прыток Віліі.

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 65 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Румянскія, упадае ў Вілію за 2,2 км на ПдУ ад в. Аношкі. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Даўгінава створана сажалка (пл. 0,1 км$^2$).

**СЯРЭ́ДНІ РОЎ,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, левы прыток р. Маларыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад в. Перавісь, вусце за 2 км на Пн ад в. Арэхава.

**СЯРЭ́ДНІК,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,17 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 1,13 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,61 км.**
**Аб'ём вады 0,59 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9,19 км$^2$.**

У бас. р. Дружнянка, за 16 км на Пд ад г. Браслаў, каля в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, парослі хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПдУ нізкія. Дно да глыбіні 1—1,5 м выслана пяском, ніжэй ілам і сапрапелем. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці 2—10 м, пашырана да глыбіні 1,5 м. На ПдЗ упадае ручай з воз. Паддворнае, на Пн выцякае ручай у воз. Шылава.

**СЯРЭ́ДНІК,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 0,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,33 км.**
**Аб'ём вады 0,21 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 15 км$^2$.**

У бас. р. Вята, за 9 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Мінкаўшчына. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на З 1—2 м), разараныя, на Пд невыразныя. Берагі нізкія, забалочаныя. Дно выслана сапрапелем. Моцна зарастаюць заходняя і ўсходняя канцавыя часткі возера. Ручаямі злучана з азёрамі Сумаўка і Глыбокае.

**СЯРЭ́ДНЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Талачынскім р-не.

**Пл. 0,27 км$^2$.**
**Даўжыня 0,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.**

У бас. р. Еленка, за 25 км на ПдЗ ад г. Талачын, за 2 км на ПдУ ад в. Залаззе, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, берагі нізкія, месцамі парослі лесам. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Каля паўднёва-ўсходняга берага невялікі востраў пл. 0,1 га. Злучана ручаём з Касмачэўскім возерам.

**СЯРЭ́ДНЯЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км$^2$.**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,68 км.**

У бас. р. Дрыса, за 20 км на ПдЗ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на У ад в. Машніца, сярод лесу. Уздоўж заходняга і паўднёвага берагоў нешырокая забалочаная пойма. Злучана ручаём з воз. Канторскае, канавай — з ручаём Машніца.

**СЯРЭ́ДНЯЕ МО́ХАВАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,15 км$^2$.**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,48 км.**

У бас. р. Нішча, за 20 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 3 км на Пд ад в. Чырвоны Бор, на З ад балота Вялікі Мох. Схілы катлавіны невы-




Сяргееўскае возера.




Возера Сярэднік (Браслаўскі раён).

разныя, берагі забалочаныя, спла-вінныя.

**СЯРЭ́ДНЯЯ ВЯСЕ́ЙКА,** рака ў Слуцкім р-не, левы прыток р. Вясея (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 14,3 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**



Возера Сясіта.




Возера Сясіта.



Возера Сясіта.

Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Чырвоная Старонка, вусце за 0,7 км на ПдЗ ад в. Ніва. Рэчышча каналізаванае.

**СЯСІТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 3,45 км².**
**Найбольшая глыбіня 10,6 м.**
**Даўжыня 4,58 км.**
**Найбольшая шырыня 1,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,8 км.**
**Аб'ём вады 15,9 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 370 км².**

У бас. р. Ловаць (цячэ праз возера), за 43 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Зайкава. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на У 3—5 м), разараныя. Адзначаны 2 тэрасы на вышыні 2 м і 5 м. Берагі нізкія, на У месцамі да 0,5 м параслі хмызняком і водна-балотнай расліннасцю. Пойма шырынёй 10—50 м (на ПдЗ да 200 м), забалочаная, пад хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей 2 м дно выслана ілам. Мноства мелей і ўпадзін. У паўднёвай частцы возера востраў пл. 0,01 км². Уздоўж берагоў да глыбіні 1—1,2 м паласа надводнай расліннасці шырынёй да 30 м, асабліва зарастаюць залівы. У выніку меліярацыйных работ у басейне Ловаці ўзровень возера паніжаны на 1,2—1,5 м.

**СЯХНОВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, левы прыток р. Жабінка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 11 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Арэпічы, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Малыя Сяхновічы.

# Т

**ТАБОЛКІ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.**

У бас. р. Дзісна, за 17 км на ПдУ ад г. Міёры, за 2,5 км на Пн ад в. Буды Шаркоўшчынскага р-на, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, сярод балота Мох. Берагі забалочаныя. Сцёк па ручаі ў Дзісну.

**ТАБОЛКІ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,07 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,37 км.**

У бас. р. Волта, за 15 км на ПдУ ад г. Міёры, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, на балоце Мох. Берагі забалочаныя. Злучана ручаём з воз. Белае і возерам без назвы.

**ТАБОРА,** рака ў Дубровенскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 1,9 км на ПнЗ ад в. Махначы, вусце ў лясным урочышчы Лугаўцы, за 2,5 км на ПнУ ад в. Гацькаўшчына. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,5 км каналізаванае.

**ТАВАРЫШЧЫНА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток р. Волка (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 2,8 км на З ад в. Вуглы, цячэ па паўднёвай ускраіне Пяршайскай пушчы, упадае ў Волку за 5,3 км на ПдЗ ад хутара Козлікі. Рэчышча на працягу 3,2 км перад вусцем каналізаванае.

**ТАЙНАЕ ВОЗЕРА,** у Брэсцкім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 0,47 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**

**ТРАСЦЯ́НКА,** рака ў Навагрудскім р-не, правы прыток р. Лешчанка (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Уселюб, упадае ў Лешчанку на ПдЗ ад в. Лешчанка. Рэчышча на працягу 3 км (ад в. Трасцянка да вусця) каналізаванае.

**ТРАШЧЫЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, левы прыток р. Уша (бас. Нёмана). Даўжыня 6 км. Пачынаецца з канала Црабостынскі (каля в. Лыкавічы), упадае ў Ушу за 1 км на ПнУ ад в. Трашчычы.

**ТРАЯНО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 12,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Межы, упадае ў Дняпро за 2,6 км на Пд ад в. Рудня-Марымонава.

**ТРО́ЙНЯ,** рака, гл. *Клішэўка.*

**ТРО́СЕНКА,** рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 28 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на ПдУ ад в. Тросна, вусце за 1,5 км на У ад в. Нізоўцы. Цячэ па паўднёвых схілах Аршанскага ўзвышша. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,6 км каналізаванае.

**ТРО́СЛІЎКА,** Гіжэнка, рака ў Чэрыкаўскім і Слаўгарадскім р-нах, левы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 67 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Гіжня Чэрыкаўскага р-на, вусце за 2,5 км на ПдЗ ад в. Гіжэнка Слаўгарадскага р-на. Цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне, на значным працягу праз лес.

**ТРО́СНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,45 км$^2$.**
**Даўжыня 1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,6 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,77 км.**
**Пл. вадазбору 3,5 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 33 км на ПнУ ад Полацка, за 8 км на З ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м. Берагі нізкія, на З забалочаныя. У паўночна-заходняй частцы востраў пл. каля 1 га. На Пд выцякае ручай у р. Палата.

**ТРО́СНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,28 км$^2$.**
**Даўжыня 1,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,05 км.**
**Пл. вадазбору 13 км$^2$.**

У бас. р. Тросніца (выцякае з возера), за 20 км на ПнУ ад Полацка, за 0,5 км на З ад в. Затрасценне. Схілы катлавіны пераважна не выражаны, месцамі вышынёй да 2 м, пад лесам, на У разараныя. Берагі забалочаныя, сплавінныя. Выцякае ручай у возера без назвы.

**ТРО́СНА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,25 км$^2$.**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,48 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,55 км.**
**Пл. вадазбору 2,62 км$^2$.**

У бас. р. Бельчыца (прыток Зах. Дзвіны), за 5 км на Пд ад Полацка, за 0,6 км на ПдУ ад в. Тросна. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, на З і Пн не выражаны. Выцякае ручай у р. Бельчыца.

**ТРО́СНА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Лужаснянка, за 24 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2,5 км на З ад в. Казловічы. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, на Пн нізкія. Праз возера цячэ р. Трасцянка.

**ТРО́СНІЦА,** рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Струнка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 65 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Выцякае з воз. Тросна за 1,5 км на ПдУ ад в. Стадола, цячэ праз возера без назвы і воз. Літоўка. Вусце каля в. Арэхавічы.

**ТРО́ШЧА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 38,2 м.**
**Даўжыня 1,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,49 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,24 км.**
**Аб'ём вады 6,3 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,4 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 16 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, каля в. Белае. Схілы катлавіны вышынёй 10—14 м (на ПдЗ да 20 м, на Пн і Пд паніжаюцца да 6 м), усходнія разараныя, заходнія параслі мяшаным лесам. Берагі на ПдЗ і ПдУ зліваюцца са схіламі, на невялікім участку на Пд сплавінныя; да ўрэзу вады расце хмызняк. Дно да глыбіні 2—2,5 м пясчанае, ніжэй іліставае. Вада вызначаецца высокай празрыстасцю і нізкай колернасцю. Шырыня паласы надводнай расліннасці ад 0,5 м да 50 м.



**Возера Трошча.**

Расліннасць пашырана да глыбіні 3 м.

**ТРУБЕ́НЕЦ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,11 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 11,8 м.**
**Даўжыня 0,58 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,45 км.**
**Аб'ём вады 0,4 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9 км$^2$.**

У бас. р. Мёрыца, за 4 км на У ад г. Міёры, каля в. Чэрас. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на З нізкія, забалочаныя. Дно да глыбіні 1,2—1,5 м пясчанае, ніжэй іліставае.

**ТРУ́БІНКА,** Трубунка, рака ў Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад г. Асіповічы, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Цяплухі. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,4 км каналізаванае.

**ТРУБЯ́ЦІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток Любанскага 1-га водападводзячага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,1 км. Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Плюсна, вусце за 2,6 км на Пн ад в. Наўгальнае.

**ТРУДАВЫ́ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, левы прыток Папярочнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца каля в. Стараселле, вусце за 1 км на Пд ад в. Трудавая. Прыток — канал Стрымня (справа).

**ТРУДЗЕ́Ж,** меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, правы прыток Рубрынскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2,5 км на Пн ад в. Букча, вусце за 8,5 км на ПнЗ ад в. Карма.

**ТРУ́ДНІЦА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 3 км. Выцякае з Страднага возера з ПнУ, за 0,9 км на ПдЗ ад в. Лісна, упадае ў воз. Бузянка з З, за 1,3 км на ПдУ ад той жа вёскі.

**ТРУ́МПІЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,44 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 1,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,57 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,86 км.**
**Аб'ём вады 1,14 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 8,6 км$^2$.**

У бас. р. Галбіца, за 26 км на ПнУ ад г. Паставы, каля в. Вайцяхі. Схілы катлавіны вышынёй 6—8 м (на ПнУ 2—3 м), разараныя; участкамі тэраса вышынёй 1,2—1,4 м. Берагі нізкія, пясчаныя і пясчана-галечныя, пад хмызняком, месцамі на Пд сплавінныя. Дно плоскае, іліставае, на невялікім участку каля ўсходняга берага



Трумліцкае возера.

пясчанае. Надводнай расліннасцю зарастае да глыбіні 1,2—1,5 м. Выцякае ручай у р. Галбіца.

**ТРЫГУЗІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Вілейскім р-не, правы прыток р. Вярэдаўка (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Раёўка, упадае ў Вярэдаўку за 2,5 км на ПдУ ад в. Вярэдава.

**ТРЫЦАЎКА,** рака ў Дзятлаўскім р-не, правы прыток Шчары (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 64 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Малдавічы, ад в. Салавічы да вусця цячэ пераважна сярод лесу. Упадае ў Шчару на ПдЗ ад в. Гарадкі. Пойма часткова забалочаная. Каля в. Пацавічы створана сажалка (пл. 0,02 км$^2$).

**ТРЭМЛЯ,** рака ў Гомельскай вобл., левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 80 км.**
**Пл. вадазбору 769 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,92 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца на ПдУ ад в. Раманішчы Акцябрскага р-на, цячэ па Калінкавіцкім, Петрыкаўскім і Мазырскім р-нах пераважна па ўсходняй ускраіне нізіны Прыпяцкае Палессе. Вусце ў межах Мазырскага р-на, за 2,7 км на ПдЗ ад в. Міхнавічы Калінкавіцкага р-на. Асноўныя прытокі: р. Мядзведзь, канава Дубнянская, канал Пляседкі (злева). Даліна невыразная, пойма двухбаковая. Рэчышча ад вытоку на працягу 73,5 км каналізаванае. Замярзае ў сярэдзіне снежня, веснавое разводдзе ў канцы 2-й дэкады сакавіка, працягласць 92 сутак.

**ТРЭСЦІЎКА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Чарняўка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Кругліца, вусце за 0,5 км на У ад в. Дружба. Рэчышча каналізаванае.

**ТУГОЛІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Брожа (бас. Дняпра). Даўжыня 14,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Залессе, упадае ў Брожу за 1,5 км на Пн ад в. Ласі. У верхнім цячэнні перасякае меліяраваны масіў, у ніжнім — лясістае ўрочышча Крамяніца.

**ТУЖАРСКІ КАНАЛ,** Дронькаўскі канал, меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, правы прыток Пагоннеўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Дронькі, вусце за 3 км на Пд ад в. Пагоннае.

**ТУЛАВА,** вадасховішча ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,39 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12 м.**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Аб'ём вады 1,33 млн. м$^3$.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 5,04 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 24,5 км$^2$.**

На пойме р. Віцьба, на месцы воз. Тулава, за 2 км на У ад г. Віцебск, каля в. Тулава. Створана ў 1983 для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Ахоўныя дамбы (агульная даўжыня 400 м) пабудаваны ў месцах магчымага пераліву вады з вадасховішча ў Віцьбу. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 1,7 м.

**ТУЛЬГАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не, левы прыток р. Віць (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Барысаўшчына, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Тульгавічы. Прыток — Водападводзячы 1-ы канал (злева).

**ТУМСКАЕ ВОЗЕРА,** у Астравецкім р-не.

**Пл. 0,86 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,2 м.**
**Даўжыня 3,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,6 км.**
**Аб'ём вады 4,16 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 172 км$^2$.**

У бас. р. Сарачанка (выцякае возера), за 34 км на ПнУ ад г. п. А[...]равец, каля в. Тумкі. Уваходзіць у [...]рачанскую групу азёр. Схілы кат[...]віны вышынёй 3—7 м, разараныя, ПдУ і ПнЗ вышынёй 10—18 м, пара[...] лесам. Берагі нізкія, участкамі У, Пн і З зліваюцца са схіламі, Пн і ПнУ пад хмызняком. Мелкаво[...]дзе пясчанае, глыбей за 2 м дно сапр[...]пелістае. Зарастае ўздоўж берагоў [...] глыбіні 2,2—2,7 м. Злучана пратока[...] з воз. Каймін, упадае ручай з во[...] Галодна.

**ТУНЕЎШЧЫНА,** меліярацыйны кана[...] у Калінкавіцкім і Хойніцкім р-на[...] правы прыток Слабажанскага канал[...] (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Па[...]чынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Бярс[...]заўка Калінкавіцкага р-на, вусце з[...] 4,5 км на ПнУ ад в. Буда Хойніц[...]кага р-на.

**ТУР,** Прудок, рака ў Мазырскім р-не, правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 25 км.**
**Пл. вадазбору 178 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,46 ‰.**

Пачынаецца за 1,8 км на Пд ад в. Слабада, вусце за 1,5 км на ПнЗ ад в. Лучажэвічы. Цячэ ў межах Мазырскага Палесся. Рэчышча каналізаванае.

**ТУРАВЕЙСКАЕ ВОЗЕРА,** Туроўе, у Астравецкім р-не.

**Пл. 0,38 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,7 м.**
**Даўжыня 1,57 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,87 км.**
**Аб'ём вады 1,04 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 131 км$^2$.**

У бас. р. Сарачанка, за 34 км на ПнУ ад г. п. Астравец, каля в. Малое Туроўе. Уваходзіць у Сарачанскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на З да 11 м), парaслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на ПнУ і З забалочаныя, на У і ПдУ пад лесам. Мелкаводдзе да глыбіні 0,5—1 м пясчанае, ніжэй дно сапрапелістае. Прыбярэжнай надводнай расліннасцю зарастае да глыбіні 2—2,5 м. Праз возера цячэ р. Клевель, якая злучае яго з азёрамі Белае і Залаўскае.

**ТУРАСЫ,** Тураса, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,74 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 15,3 м.**
**Даўжыня 1,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,74 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,14 км.**
**Аб'ём вады 3,67 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2,94 км$^2$.**

У бас. р. Сарачанка, за 24 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Калкі. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м, на З і Пн 20—32 м (озавая града), пад лесам, на Пд і У разараныя. Добра выражана тэраса вышынёй 0,8—1,2 м. Берагі нізкія, месцамі на З і У зліваюцца са схіламі, пясчаныя. Прыбярэжная частка дна пясчаная, глыбей — ілі-

я і сапрапелістая. Зарастае слаба. водная расліннасць пашырана да біні 1,9 м. Праз возера цячэ р. ва (злучае яго з воз. Атолава).

**РАЎКА,** рака, гл. *Успол.*

**РАЎ-АЛЬГОМЕЛЬСКІ КАНА́Л,** мерацыйны канал у Столінскім і ткавіцкім р-нах, правы прыток Прыпяць. Даўжыня 25 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Церабі... ы Столінскага р-на, вусце на паўночна-заходняй ускраіне г. п. Тураў ткавіцкага р-на.

**РАЎКА,** Шчучынка, рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток р. Тур'я (бас. Немана). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Даўгадаўшчына, цячэ па Лідскай раўніне, упадае ў Тур'ю за 1,4 км на З ад г. Шчучын. Рэчышча ад вытоку на працягу 3 км каналізаванае. У Шчучыне працэстворана сажалка (пл. 0,05 км$^2$).

**УРАЎЛЯ,** возера, гл. *Туроўля.*

**УРАЎЛЯНКА,** Туроўля, рака ў Полацкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 1000 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,9 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Выцякае з воз. Туроўля за 1,5 км на ПдЗ ад в. Пуканаўка 2-я, вусце каля Гарадзішча. На вадазборы ракі 9 % паверхні займаюць азёры, на ім размешчана *Ушацкая група азёр.*

**УРАЎЛЯНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Пуканаўка 1-я, вусце за 1,3 км на ПдЗ ад в. Шматова.

**ТУРО́ЎЕ,** гл. *Туравейскае возера.*

**ТУРО́ЎЛЯ,** рака, гл. *Тураўлянка.*

**ТУРО́ЎЛЯ,** Тураўля, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,9 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 0,8 м.**
**Даўжыня 3,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,7 км.**
**Аб'ём вады 0,25 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 803 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка (выцякае з возера), за 16 км на Пд ад Полацка, каля в. Емяльянікі. Схілы катлавіны вышынёй 10—18 м (на ПнУ 7—9 м), пераважна пад хваёвым лесам, на Пн месцамі разараныя, амаль на ўсім працягу вылучаецца абразійны ўступ вышынёй 3—6 м над узроўнем возера. Берагі высокія, месцамі забалочаныя. Дно сапрапелістае, вузкая паласа ўздоўж берага выслана апясчаненым ілам. Зарастае. Упадае пратока з воз. Суя і ручай.

**ТУРО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Юркавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,2 км. Пачынаецца за 3 км на З ад в. Федараўка, вусце за 2,5 км на У ад в. Ляхаўка.




Туравейскае возера.




Тумскае возера.

**ТУРО́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, левы прыток Прыпяці. Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля заходняй ускраіны р. Рубча, вусце за 4 км на ПнУ ад в. Мардзвін.




Возера Турасы.




Возера Туроўля.

**ТУ́РСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім р-не, левы прыток р. Вуглянка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Турск, упадае ў Вуглянку ў в. Гардзілавічы.

**ТУРЧА́НКА,** рака ў Клічаўскім р-не, левы прыток р. Нясета (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 20 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**



Возера Тэкліц.



Возера Тэкліц.

Пачынаецца за 0.6 км на З ад в. Слабодка, вусце за 0,4 км на ПдУ ад в. Турчанка. Рэчышча каналізаванае.

**ТУРЧА́НКА,** назва р. *Топкая Лучка* ў верхнім цячэнні.

**ТУ́РЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра). Даўжыня 9,2 км. Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Звязда, упадае ў Свіслач у в. Турын.

**ТУ́РЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Глускім р-не, правы прыток Веснаўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ, вусце за 3,5 км на Пд ад в. Турыно.

**ТУРЫЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** на мяжы Лепельскага і Чашніцкага р-наў.

**Пл. 0,64 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 3,51 км.**
**Найбольшая шырыня 0,44 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,16 км.**
**Аб'ём вады 0,89 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9,5 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 10 км на ПдЗ ад г. Чашнікі каля в. Зазерыца (Чашніцкі р-н). Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м, разараныя. Берагі нізкія, на Пд пясчаныя, астатнія сплавінныя (шырыня сплавіны 5—30 м). Пойма шырынёй 5—100 м, пад лесам і хмызняком. Дно сапрапелістае. Зарастае слаба. Упадае ручай, выцякае ручай у р. Ула.

**ТУРЭ́Ц,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,88 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,85 км.**

У бас. р. Ловаць, за 38 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2,5 км на У ад в. Каверзы. Схілы катлавіны вышынёй 4 м, пад хмызняком.

**ТУ́Р'Я,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток р. Сар'янка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 2,5 км на З ад в. Муквяціца, вусце за 3,5 км на ПнЗ ад в. Вознава. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ТУ́Р'Я,** рака ў Рэчыцкім, Хойніцкім і Калінкавіцкім р-нах, левы прыток Прыпяці. Даўжыня 46 км. Пачынаецца за 6 км на ПнУ ад в. Шаўлоў Калінкавіцкага р-на. Цячэ праз азёры на пойме Прыпяці і ўпадае ў раку за 4 км на ПнЗ ад в. Ломыш Хойніцкага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 37 км каналізаванае і называецца к а н а в а Т у р'я. Прыток справа — Вужынецкі канал.

**ТУ́Р'Я,** рака ў Капыльскім і Уздзенскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 35 км.**
**Пл. вадазбору 208 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,1 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Рымашы Капыльскага р-на, працякае па паўночнай ускраіне Капыльскай грады, упадае ў Нёман на У ад в. Касцяшы Уздзенскага р-на. Даліна трапецападобная, месцамі невыразная, шырынёй 0,5—1,5 км. Пойма роўная, асушаная. Рэчышча каналізаванае, яго шырыня пераважна 10 м. Прым... сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ТУР'Я́,** Т у р э я, рака ў Краснапольск... р-не, левы прыток р. Сянна (бас. Дня... ра).

**Даўжыня 28 км.**
**Пл. вадазбору 188 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на У ад ... Непабядзімы, у нізоўі цячэ праз ле... вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Пі... ня Чэрыкаўскага р-на. Асноўн... прытокі — рэкі Маластоўка, Траві... ка. Рэчышча звілістае, на праця... 11,8 км (ад вытоку да вусця р. Мал... стоўка) каналізаванае. На ра... г. п. Краснаполле, на яго паўночн... ўсходняй ускраіне 2 плаціны і сажа... кі).

**ТУ́Р'Я,** рака ў Шчучынскім р-не, пр... вы прыток Нёмана.

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 107 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверх... 3,1 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на З ад ... Янчукі, цячэ ў межах Лідскай раў... ніны, упадае ў Нёман на Пд ад ... Забор'е. Прытокі: Тураўка, Лука. Р... чышча каналізаванае.

**ТУ́Р'Я,** рака ў Маладзечанскім р-н... левы прыток р. Уша (бас. Віліі...

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 37 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхн... 5,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Лабачоўка, упадае ў Ушу за 0,5 км на Пн ад в. Турэц-Баяры. Рэчышча на працягу 5,7 км (ад моста на аўтадарозе Маладзечна — Смаргонь да в. Турэц-Баяры) каналізаванае.

**ТУР'Я́,** рака, гл. *Стрэлка*.

**ТУ́СЬБА** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,11 км$^2$.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Пл. вадазбору 8 км$^2$.**

У бас. р. Паловіца (бас. Дзісны), за 9 км на ПнУ ад г. Пастaвы, за 1 км на ПнУ ад в. Чарты. Упадае ручай з воз. Чарты, выцякае ручай у Паловіцу.

**ТУ́ТЧА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,75 км$^2$.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,9 км.**
**Пл. вадазбору 8,16 км$^2$.**

У бас. р. Свольна, за 25 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 4 км на У ад воз. Лісна, сярод часткова забалочанага лесу. Праз возера цячэ р. Нячэрская.

**ТУХІ́НСКАЕ ВОЗЕРА,** у Сенненскім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 0,61 км.**
**Найбольшая шырыня 0,28 км.**
**Пл. вадазбору 9,75 км$^2$.**

У бас. р. Крывінка, за 0,3 км на У ад г. Сянно. Схілы катлавіны вышынёй

...а 20 м, пераважна разараныя, участкамі пад хмызняком.

**ЎЧАНКА,** рака ў Клецкім р-не, левы прыток р. Нача (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 93 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Ліскава, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Бабкі. На рацэ каля в. Туча плаціна і вадасховішча... ажалка (пл. 39 га). Рэчышча каналізаванае.

**ЎЧАНКА,** рака, гл. *Точанка.*

**ТУШАМЛЯНКА,** рака ў Свіслацкім р-не, левы прыток р. Нараў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Тушамля, вусце каля в. Броўск. Рэчышча каналізаванае.

**ТУШЧА,** возера ў Смаргонскім р-не.

**Пл. 0,34 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2 м.**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,66 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Аб'ём вады 0,49 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,1 км$^2$.**

У бас. р. Страча (правы прыток Віліі), за 32 км на Пн ад г. Смаргонь, каля в. Лявонавічы. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, разараныя, на З і ПнЗ 12—14 м, парослыя лесам. Берагі пераважна сплавінныя, тарфяністыя, на ПнЗ і ПдУ нізкія, пясчаныя, месцамі на У і ПдУ пад хмызняком. Пойма шырынёй 50—100 м, забалочаная. Дно сапрапелістае, уздоўж паўночна-заходніх і паўднёва-ўсходніх берагоў да глыбіні 1 м пясчанае. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 1,1 м. Выцякае р. Тушчанка.

**ТУШЧАНКА,** рака ў Смаргонскім і Мядзельскім р-нах, левы прыток р. Страча (бас. Віліі).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 86 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Выцякае з воз. Тушча на З, упадае ў Страчу на Пд ад в. Алешкі Мядзельскага р-на. Пойма часткова забалочаная. Прыток р. Непр. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,1 км каналізаванае.

**ТЭКЛІЦ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 2,02 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 2 км.**
**Найбольшая шырыня 1,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 5,5 км.**
**Аб'ём вады 4,14 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 32,9 км$^2$.**

У бас. р. Сергуч (выцякае з возера), за 13 км на ПнЗ ад г. Лепель, каля в. Звязда. Схілы катлавіны вышынёй ад 3 да 12 м, параслі лесам, участкамі разараныя. Берагі пераважна нізкія, пясчаныя, месцамі забалочаныя, пад лесам і хмызняком, на Пд сплавінныя. Дно сапрапелістае, уздоўж берагоў да глыбіні 0,5 м пясчанае. Моцна зарастае. Упадаюць 2 ручаі, у тым ліку з воз. Луконец.

**ТЭЛЬМІНСКІ КАНАЛ,** гл. *Скідны канал.*

# У

**УБАРЦЬ,** рака на Украіне і Беларусі, правы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 292 км.**
**Пл. вадазбору 5,8 тыс. км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 24,4 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 96,3 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 207,2 м над узроўнем мора каля в. Андрэевічы Алеўскага р-на Жытомірскай вобл. Цячэ па Жытомірскім Палессі, на Беларусі (даўжыня 126 км) — па Пры-



Рака Убарць.



Возера Убежа.



Возера Ужо.

пяцкім Палессі. Вусце за 2 км на ПдЗ ад г. Петрыкаў. Асноўныя прытокі на Беларусі: Плотніца, Лохніца, Свідовец, Гурыстая (справа), Каросцінка (злева). Даліна невыразная, месцамі зліваецца з прылеглай мясцовасцю. Пойма двухбаковая, чаргуецца па берагах, яе шырыня ад 0,1—0,2 км у верхнім цячэнні да 1—5 км на астатнім працягу. Рэчышча свабодна меандруе, звілістае, у ніжнім цячэнні моцназвілістае, зрэдку трапляюцца нізкія пясчаныя астравы. Шырыня рэчышча 10—15 м, у нізоўі месцамі да 60 м. Разводдзе пачынаецца звычайна ў 1-й палавіне сакавіка (найбольшая вышыня над межанным узроўнем 4 м, сярэдняя 1,8—2,7 м), заканчваецца ў сярэдзіне мая. Устойлівая межань наступае ў ліпені (працягласць у сярэднім 3 месяцы). Замярзае ў пачатку снежня. Расход вады за 44 км ад вусця найбольшы 659 $м^3/с$ (1932 г.), найменшы 0,44 $м^3/с$ (1935 г.). На рацэ гарадскія пасёлкі Алеўск (Украіна), Лельчыцы.

**УБЕЖА,** Убежжа, возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,34 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 14,3 м.**
**Даўжыня 1,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,4 км.**
**Аб'ём вады 2,1 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 8,1 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 12 км на Пд ад г. п. Расоны, каля в. Барыскава. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на ПдУ да 3 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй — разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на З нізкія, пясчаныя, парослыя хмызняком. Дно да глыбіні 1,2 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Зарастае да глыбіні 1,3 м. Упадае ручай з Сяляўскага возера, выцякае ручай у р. Дрыса.

**УБОРАК,** вадасховішча ў Добрушскім р-не.

**Пл. 0,27 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,4 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Аб'ём вады 1,05 млн. м$^3$.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 2,8 млн. м$^3$.**

Створана ў 1983 за 16 км на У ад г. Добруш, за 1 км на Пн ад в. Уборак для ўвільгатнення зямель і рыбагадоўлі. Абвалавана земляной дамбай даўжынёй 2,07 км. Наліўное: напаўняецца вадой з р. Няцёша па водападводзячым канале даўжынёй 2,2 км. Ваганні ўзроўню на працягу года 5,8 м.

**УБОРКАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім р-не, левы прыток Дуравіцкага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Уборкі, упадае ў Дуравіцкі канал у в. Дуравічы.

**УВІЧ,** рака ў Добрушскім і Веткаўскім р-нах, левы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 15,5 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Марозаўка Добрушскага р-на, упадае ў старычнае возера на пойме Беседзі на паўднёвай ускраіне в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**УГЛЯНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Падоссе, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Здзітаў.

**УГОЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток Азёрнага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 1,8 км на З ад в. Вятчынская Рудня, вусце за 1 км на З ад в. Замошша. Прыток — канал Замошша (злева).

**УДАВА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток р. Морач (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 10,5 км.**
**Пл. вадазбору 82 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Усава, вусце каля в. Новыя Докшавічы. Прытокі — рэкі Хмельніца, Ус (злева). Рэчышча каналізаванае.

**УДАЛЕЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лоеўскім р-не, левы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Новая Баршчоўка, упадае ў Верхнюю Брагінку ў в. Удалёўка.

**УДОЖКА,** рака, гл. *Казёл.*

**УДРА,** Удранка, рака ў Лагойскім, Мінскім і Маладзечанскім р-нах, правы прыток р. Рыбчанка (бас. Віліі).

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 188 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Малыя Бясяды Лагойскага р-на, цячэ пераважна праз лес у межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Рыбчанку за 2,5 км на Пн ад г. п. Радашковічы. За 1 км на ПдУ ад в. Удранка ў маляўнічай мясціне створана сажалка пл. 0,28 км$^2$, уздоўж якой размяшчаецца зона адпачынку Удра.

**УЖНІЦА,** рака ў Віцебскім р-не, левы прыток р. Шэвінка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 40 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Васькавічы, цячэ праз воз. Лётцы, вусце за 0,7 км на Пд ад в. Шэвіна. Цячэ па заходняй ускраіне Віцебскага ўзвышша. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 3,5 км каналізаванае.

**УЖО,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,59 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 12,6 м.**
**Даўжыня 3,14 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,73 км.**
**Аб'ём вады 2,12 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 52,8 км$^2$.**

У бас. р. Обаль, за 42 км на Пн ад г. Гарадок, каля в. Марчанкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, у верхняй частцы разараныя, у ніжняй пад хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, участкамі забалочаныя. Пойма шырынёй да 250 м. Дно ілістае, мелкаводдзе пясчанае. 2 астравы агульнай пл. 0,2 га. Зарастае да глыбіні 2 м. Упадаюць 2 ручаі, выцякае ручай у воз. Белае.

**УЖЫК,** рака , гл. *Вужык.*

**УЖЫЦА,** рака ў Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 48 км.**
**Пл. вадазбору 350 км$^2$.**

Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2,5 $м^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Выцякае з воз. Цятна за 1,2 км на У ад в. Дубравы, вусце за 1 км на ПдЗ ад чыг. ст. Верхнядзвінск. Цячэ ў межах Асвейскай грады і Полацкай нізіны. Асноўныя прытокі: ручай Муквяціца (справа) і р. Бярозаўка (злева). Даліна V-падобная, на асобных участках трапецападобная, шырыней 300—500 м. Пойма двухбаковая (шырыня 100—150 м), на асобных участках адсутнічае. Рэчышча звілістае, шырыня 3—5 м.

**УЗА́**, рака ў Буда-Кашалёўскім і Гомельскім р-нах, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 76 км.
Пл. вадазбору 944 $км^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,4 $м^3$/с.


Рака Уза каля вёскі Новая Буда Гомельскага раёна.

Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Бярозаўка Буда-Кашалёўскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Бабовічы Гомельскага р-на. Асноўныя прытокі: Хочамля і Іволька (справа). Рака цячэ па Прыдняпроўскай нізіне. Даліна трапецападобная, шырыня яе 0,6—0,8 км, найбольшая 1,5 км. Пойма ў вярхоўі і ніжнім цячэнні адсутнічае, у сярэдняй частцы двухбаковая (шырыня 0,2—0,4 км, найбольшая 0,7 км), у разводдзе затапляецца вадой на глыбіню 0,3—0,8 м тэрмінам да 2 тыдняў. Рэчышча каналізаванае, шырыня яго ў верхнім цячэнні 5—8 м, у сярэднім і ніжнім 10—15 м. Берагі стромкія, вышынёй 0,8—3,5 м, месцамі больш. Замярзае ў сярэдзіне снежня, ледастаў 90 сутак. Веснавы крыгаход у пачатку 3-й дэкады сакавіка, сярэдняя працягласць 11 сутак.

**УЗБІНКА**, Ізбінка, рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

Даўжыня 13 км.
Пл. вадазбору 65 $км^2$.

Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 4,5 км на ПнУ ад в. Дзедава, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Хамічы. Рэчышча ад вытоку на працягу 5,6 км каналізаванае.

**УЗДЗЯ́НКА**, Жыцце, рака ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах, левы прыток р. Уса (бас. Нёмана).

Даўжыня 57 км.
Пл. вадазбору 334 $км^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2 $м^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Віцкаўшчына Дзяржынскага р-на, цячэ па Стаўбцоўскай раўніне, праз г. п. Узда, упадае ў Усу за 0,5 км на У ад в. Сямёнавічы Уздзенскага р-на. У верхнім цячэнні называецца Жэсць. Асноўны прыток — р. Алёхаўка. Даліна ў вярхоўі


Рака Уздзянка каля вёскі Бярвішчы Уздзенскага раёна.

невыразная, на астатнім працягу трапецападобная, яе шырыня 400—600 м. Да в. Дуброўка рака цячэ па асушаным балоце, ніжэй пойма роўная, адкрытая (шырыня 40—50 м), месцамі адсутнічае. Рэчышча на працягу 18 км каналізаванае: 14 км ад вытоку і 4 км ад пункта за 1,2 км на ПнЗ ад в. Аляксандрава да в. Чурылава. Каля в. Краснае магчымы пераліў у ручай без назвы.

**УЗЛЯ́ЖЖА**, меліярацыйны канал у Столінскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 16 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад хутара Новы Бор, упадае ў воз. Віры на пойме р. Гарынь, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Узляжжа.

**УЗМЕ́НКА**, рака ў Лёзненскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 56 $км^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,8 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ ад в. Старына, упадае ў воз. Зелянское з Пд за 1 км на У ад в. Бабінавічы. Цячэ па Лучоскай нізіне па лясістай мясцовасці.

**УЗМЕ́НКА**, рака ў Лёзненскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Бандоры, упадае ў воз. Зелянское з Пн за 1 км на У ад в. Бабінавічы. Цячэ па Лучоскай нізіне па лясістай мясцовасці.

**У́ЗНІЧЫ**, рака ў Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Добрыца (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 1,3 км на У ад в. Ляды, вусце за 1,5 км на У ад в. Машчаліна. Рэчышча каналізаванае.

**УЗНО́Ж**, меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Жардзянка (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца з Жардзянкі каля паўночнай ускраіны в. Славань, упадае ў раку за 1,7 км на ПдУ ад в. Жэрдзь.

**УКЛЕ́ЕНКА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,02 $км^2$.
Даўжыня 0,23 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.

У бас. р. Крашанка, за 20 км на Пд ад г. Полацк, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Гаравыя Гомельскага сельсавета, за 1,5 км на З ад воз. Гомель, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя, на Пд вышынёй да 10 м. Злучана ручаём з воз. Доўгае.

**УКЛЕ́ЙНА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,25 $км^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,33 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,42 км.

У бас. р. Палата, за 30 км на ПнУ ад Полацка, за 8 км на Пд ад в. Дрэтунь. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пясчаныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Невялікі востраў пл. 0,1 га. Выцякае ручай у Палату.

**УКЛЕ́ЙНА**, возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,07 $км^2$.
Даўжыня 0,63 км.
Найбольшая шырыня 0,15 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,37 км.
Пл. вадазбору 14,8 $км^2$.

У бас. р. Ула, за 12 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Бор. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад лесам. Злучаны пратокамі з азёрамі Мухна і Бобрыца.

**У́КЛЯ**, Укла, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 9,83 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 25 м.
Даўжыня 5,8 км.
Найбольшая шырыня 2,8 км.
Даўжыня берагавой лініі 19,9 км.
Аб'ём вады 55,3 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 69,3 $км^2$.

У бас. р. Вята, за 18 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Укля. Уваходзіць у Абстэрнаўскую групу азёр. Схілы катлавіны на Пн і Пд вышынёй 10—12 м, на З і У нізкія, забалочаныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на З і У заба-

лочаныя, на ПдУ у заліве высокія, пад валунамі. Дно да глыбіні 3—3,5 м выслана пяском і апясчаненым ілам, ніжэй — сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2—2,5 м. Выцякае ручай у воз. Абстэрна, упадае ручай з воз. Інава і некалькі невялікіх ручаёў.

**УКРОПАЎШЧЫНА,** меліярацыйны канал, гл. *Гуды*.

**У́ЛА,** У л ь я н к а, рака ў Лепельскім, Чашніцкім і Бешанковіцкім р-нах, левы прыток Зах. Дзвіны.

Даўжыня 123 км.
Пл. вадазбору 4090 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 25,4 м$^3$/с.
Агульнае падзенне ракі 30,2 м.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Выцякае з Лепельскага возера на паўночнай ускраіне г. Лепель, вусце каля г. п. Ула Бешанковіцкага р-на. Цячэ па Верхнебярэзінскай нізіне, Чашніцкай раўніне і Полацкай нізіне. Асноўныя прытокі: Лукомка, Усвейка, Свячанка (справа), Хоцінка (злева). Даліна асіметрычная, трапецападобная, да в. Промыслы Бешанковіцкага р-на скрынкападобная; яе шырыня 300—600 м, найбольшая да 1 км у сярэднім цячэнні, найменшая 100 м у верхнім цячэнні. Пойма чаргуецца па берагах, яе шырыня 50—100 м, ніжэй 200—400 м, у сярэднім цячэнні да 600 м. Рэчышча неразгалінаванае, на працягу 75 км ад вытоку моцназвілістае, ніжэй умерана звілістае (шырыня 30 м, месцамі 40—50 м). Веснавое разводдзе в 3-й дэкадзе сакавіка да сярэдзіны мая, сярэдняя працягласць 56 сутак. Сярэдняе перавышэнне вышэйшага ў роўню над межанню 4,6 м, найбо[льшае] 7,3 м. Замярзае ў канцы 1-й [дэ]кады снежня, крыгалом у пачат[ку] красавіка. На рацэ г. Лепель, у вус[ці] г. п. Ула.




Возера Укля.

**УЛА́,** П е л я с а, П а д з е й к а, ра[ка] ў Воранаўскім р-не і Літве, левы пры[]ток р. Мяркіс (бас. Нёмана). Даўжын[я] на тэрыторыі Беларусі 13,5 км. П[а]чынаецца каля в. Падзэйкі, перасяк[ае] граніцу за 2 км на ПнЗ ад в. Пр[]вожа. Рэчышча ад вытоку да граніц[ы] каналізаванае. Прымае сцёк з мелі[я]рацыйных каналаў.

**УЛАСАЎЦЫ,** канал у Івацэвіцкі[м] р-не, правы прыток Галоўнага ка[]нала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Г[]чыцы, вусце за 2 км на З ад в. Вулі[]ка Аброўская.

**УЛАСОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Хойніцкім р-не і Чарнобыльскім р-не Кіеўскай вобл., левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 21,5 км, у тым ліку на Беларусі 13,5 км. Пачынаецца з Пагонненскага канала за 0,5 км на ПнЗ ад в. Малочкі Хойніцкага р-на, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Краснае Чарнобыльскага р-на (упадае ў старыцу на пойме Прыпяці). Канал цячэ ў зоне адсялення.

**УЛАСЫ́,** вадасховішча ў Хойніцкім р-не.

Пл. 0,3 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 5,5 м.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Аб'ём вады 1,01 млн. м$^3$.
Сярэднегадавы сцёк 5,4 млн. м$^3$.

Створана ў 1981 за 32 км на Пд ад г. Хойнікі, каля в. Уласы для ара-



Рака Ула ў ніжнім цячэнні.

...ння зямель і рыбагадоўлі. Наліўное: напаўняецца вадой з Грубчанскага і Уласаўскага каналаў. Абвалавана дамбай даўжынёй 2,25 км. Ваганні ўзроўню вады на працягу года ...,2 м.

**...ЛІНЕЦ,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток р. Авута (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 73 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Падліпкі, вусце каля в. Вялікае Завушча. Цячэ ў межах заходняй часткі Полацкай нізіны. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 3 км каналізаванае.

**...ЛОГАВА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,46 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 1,49 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,22 км.**
**Аб'ём вады 1,12 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 7,4 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 17 км на ПнУ ад Полацка, за 0,5 км на У ад в. Сіденец. Схілы катлавіны вышынёй 4—...5 м, пясчаныя, пад лесам або разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на З і ПнЗ сплавінныя. Дно ўздоўж берагоў да глыбіні 1—1,5 м пясчанае, ніжэй — пясчана-ілістае і сапрапелістае. Зарастае ў прыбярэжнай частцы да глыбіні 2,4 м. Упадаюць 3 меліярацыйныя канавы, выцякае ручай у р. Палата.

**УЛЬЯНАЎКА,** рака ў Аршанскім і Шклоўскім р-нах, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 106 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,2 ‰.**

Пачынаецца ў в. Балотавічы Аршанскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Аляксандрыя Шклоўскага р-на. Асноўны прыток — р. Вілейка. Рака цячэ па паўднёвай ускраіне Аршанскага ўзвышша.

**УЛЬЯНКА,** рака ў Шклоўскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 70 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,8 ‰.**

Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Мікалаеўка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Данькавічы. Цячэ па паўднёва-ўсходніх схілах Аршанскага ўзвышша. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,2 км каналізаванае. У верхнім і сярэднім цячэнні ў межань месцамі перасыхае.

**УЛЬЯНКА,** рака, гл. *Ула*.

**УМІЛЬНА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,12 км$^2$.**
**Даўжыня 0,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.**
**Пл. вадазбору 2,75 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 11 км на Пн ад г. п. Ушачы, за 1,5 км на ПнУ ад в. Салонец. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, пад лесам. Берагі высокія. Выцякае ручай у р. Ушача.

**УПЕЛЬ,** ручай у Астравецкім р-не, левы прыток р. Лоша (бас. Віліі). Даўжыня 3,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Міцюны, упадае ў Лошу каля в. Гервяты. Рэчышча каналізаванае.

**УПІРАВА-КУЛЯКІ,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 21,7 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Кулякі, упадае ў Мотальскае возера з ПнЗ, за 0,7 км на ПнУ ад в. Дзедавічы.

**УПЯСНЯ,** Упясна, рака ў Воранаўскім р-не, правы прыток р. Дзітва (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Помедзь, упадае ў Дзітву за 1,2 км на ПнУ ад в. Волдацішкі. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Больцішкі створана сажалка (пл. 0,25 км$^2$).

**ЎРАДА,** Урода, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 1,52 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,5 м.**
**Даўжыня 3,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**



Возера **Урада**.




Возера **Урада**.

**Даўжыня берагавой лініі 8,8 км.**
**Аб'ём вады 5,96 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9,95 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 27 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Заслаўе. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на ПнУ, У і З месцамі да 20 м), пераважна разараныя. Берагі нізкія, часткова забалочаныя. Дно выслана гліністым ілам, уздоўж берага заілены пяском. 2 астравы агульнай пл. 0,7 га. Зарастае да глыбіні 2 м. Упадаюць 3 ручаі, выцякае р. Дзіва. Злучана 2 пратокамі з азёрамі без назвы.

**УРГАН,** возера ў Быхаўскім р-не.

**Пл. 0,13 км$^2$.**
**Даўжыня 1,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,09 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.**

На пойме Дняпра, за 15 км на Пн ад г. Быхаў, за 1 км на ПдУ ад в. Бароўка. Старычнае. Невялікім ручаём злучана з Дняпром.

**УРУТ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Альхоўка, упадае ў Сож у в. Новыя Цярэшкавічы.

**УРЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Гомельскім р-не, левы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Урыцкае, упадае ў Узу за 3 км на ПнЗ ад в. Прыбор.

**УСА,** рака ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 115 км.**
**Пл. вадазбору 1345 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,3 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на З ад в. Шышкі Дзяржынскага р-на, цячэ па паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Нёман за 0,5 км на У ад в. Пад'ельнікі Уздзенскага р-на. Асноўныя прытокі: Вязенская, Рапуса, Уздзянка (злева), Перацуць (справа). Даліна звілістая, у верхняй частцы V-падобная (шырыня 300—500 м), ніжэй трапецападобная,

пашыраецца да 2 км. Пойма двухбаковая шырыней 200—400 м, ніжэй упадзення Уздзянкі 1—2 км, перасечана старыцамі і асушальнымі каналамі. Рэчышча на працягу 5,5 км ад в. Саковічы да в. Чарнікоўшчына каналізаванае, на астатнім працягу моцназвілістае. Шырыня ракі ў межань 7—10 м. Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Каля в. Уса створана сажалка (пл. 0,08 км²).

**УСА**, рака ў Валожынскім, Стаўбцоўскім, Навагрудскім р-нах, правы прыток Немана.

Даўжыня 75 км.
Пл. вадазбору 665 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Таўканы Валожынскага р-на, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Мінскага ўзвышша, па Налібоцкай пушчы, упадае ў Нёман за 2 км на ПнУ ад г. п. Любча Навагрудскага р-на. У сярэднім цячэнні называецца канал Шубіна, у ніжнім канал Шубіна-Нёманскі. Асноўныя прытокі: Шура, Быстрая, Замянка, канал Каменка. Даліна ў верхнім цячэнні трапецападобная, яе шырыня 0,8—1 км, у Стаўбцоўскім р-не каля в. Драздоўшчына пашыраецца да 1,5 км, каля в. Пільніца звужаецца да 0,2 км. Пойма ў верхнім і ніжнім цячэнні двухбаковая (шырыня 0,1—0,15 км), у вярхоўі і ў межах Шубіна-Нёманскага канала забалочаная, на астатнім працягу сухая, перасечаная ручаямі і меліярацыйнымі каналамі. Рэчышча (шырыня 8—10 м) на працягу 20 км перад вусцем каналізаванае.

**УСА́**, рака ў Чэрвеньскім і Б... рэзінскім р-нах, правы прыток р. Б... рэзіна (бас. Дняпра).

Даўжыня 55 км.
Пл. вадазбору 549 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вус... 3,3 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Выцякае з воз. Дзікае ў Чэрвен... скім р-не, вусце за 1,5 км на У ... в. Якшыцы Бярэзінскага р-на. Асно... ныя прытокі: Карпілаўка, Бусль (зл... ва), Ганутка і Дабрыца (справа). Цяч... па Цэнтральнабярэзінскай раўніне... Даліна ў вярхоўі невыразная, у ся... рэдняй і ніжняй частцы — трапецапа... добная, шырынёй 1,5—2 км. Пойм... двухбаковая, яе шырыня да 0,2 км... на асобных участках да 1 км. Рэ... чышча на працягу 9,2 км ад выток... і 2 км перад вусцем каналізаванае... на астатнім працягу звілістае (шыры... ня каля 8 м). Берагі ўмерана стром... кія, іх вышыня 0,3—1,2 м.

**УСАЯ**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,32 км².
Найбольшая глыбіня 9 м.
Даўжыня 0,96 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,83 км.
Аб'ём вады 1,58 млн. м³.
Пл. вадазбору 1,5 км².

У бас. р. Дзіва, за 28 км на У а... г. п. Ушачы, каля в. Усая. Схілы катлавіны вышынёй 8—10 м, пад лесам, на Пн і Пд вышынёй 5 м, разараныя. Берагі высокія, на З зліваюцца са схіламі. Дно выслана глеістым ілам. У цэнтры возера востраў. Зарастае да глыбіні 1,7 м. Злучана ручаём з воз. Крывое.



Рака Уса каля вёскі Рудня Налібоцкая Стаўбцоўскага раёна.



Рака Уса каля вёскі Багушэвічы Бярэзінскага раёна.



Рака Уса каля вёскі Сямёнавічы Уздзенскага раёна.

**УСВЕЙКА,** Альшанка, Усвея, Усвіж-Бук, Усвіца, Язва, рака ў Талачынскім і Чашніцкім р-нах, правы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 116 км.**
**Пл. вадазбору 708 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,5 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 94,4 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 221 м над узроўнем мора каля ўсходняй ускраіны в. Курчэўская Усвейка Талачынскага р-на, вусце за 2 км на ПдУ ад г. п. Чашнікі. Цячэ ў межах Аршанскага ўзвышша і Чашніцкай раўніны. Даліна трапецападобная, шырыня яе ў верхнім цячэнні да 0,3 км, найбольшая 1—1,5 км. Пойма двухбаковая (шырыня 200—300 м), у ніжнім цячэнні зліваецца з балотамі. Рэчышча ў сярэднім і ніжнім цячэнні звілістае і моцназвілістае, на працягу 28 км у верхнім цячэнні каналізаванае; шырыня яго 2—5 м, у сярэднім і ніжнім цячэнні 6—10 м, у вусці да 28 м. Разводдзе звычайна з 3-й дэкады сакавіка да 3-й дэкады мая. Сярэдняе перавышэнне ўзроўню над межанню 2,9 м, найбольшае 4 м. Замярзае ў 2-й дэкадзе снежня, крыгалом у канцы сакавіка.

**УСВЕ́ЧЧА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 4,2 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 2,98 км.**
**Найбольшая шырыня 2,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,2 км.**
**Аб'ём вады 8,08 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 22,8 км$^2$.**

У бас. р. Нішча, за 17 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на З ад в. Канашонкі. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м (на ПдУ да 20 м), пясчаныя, парослі лесам, участкамі на У і З разараныя. На Пд да возера прымыкае забалочаная нізіна. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, участкамі моцна забалочаныя. Пойма шырынёй да 100 м, забалочаная. Дно да глыбіні 1 м пясчанае, ніжэй выслана апясчаненым ілам і сапрапелем. Востраў пл. 0,02 км$^2$. Зарастае ўздоўж берагоў да глыбіні 1,5 м. Упадаюць 3 ручаі, выцякае ручай Іспол.

**УСВЕ́Я,** рака, гл. *Усвейка.*

**УСВЕ́Я,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 2,39 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 1,9 м.**
**Даўжыня 3,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,96 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,2 км.**
**Аб'ём вады 2,36 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 32,3 км$^2$.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 28 км на ПнУ ад г. п. Ушачы, каля в. Усвея. Схілы катлавіны вышынёй 11—18 м, разараныя, да возера абрываюцца ўступам вышынёй 4—6 м. Берагі нізкія, забалочаныя, на У месцамі пясчаныя, на З тарфяністыя. Дно плоскае, сапрапелістае, уздоўж усходніх і месцамі заходніх берагоў вузкая паласа апясчаненых адкладаў. Зарастае да глыбіні 0,9 м. Упадаюць 2 ручаі, пратокай злучана з Зах. Дзвіной.

**УСВІЖ-БУК,** рака, гл. *Усвейка.*

**У́СВІЦА,** рака ў Браслаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 72 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Выцякае з воз. Іказнь за 1 км на ПнУ ад в. Іказнь, упадае ў воз. Дрывяты з У за 0,7 км на З ад в. Азяраўцы. Цячэ ў межах Браслаўскай грады. Рэчышча ў сярэднім і ніжнім цячэнні на працягу 3 км каналізаванае.

**УСВІЦА,** рака, гл. *Усвейка.*

**УСВЯ́ЧА,** рака ў Пскоўскай вобл. і Віцебскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 100 км.**
**Пл. вадазбору 2340 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 15,9 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,15 ‰.**

Выцякае з воз. Ардосна каля в. Шастакова Усвяцкага р-на Пскоўскай вобл. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша, праз азёры Сарочына і Усвяцкае. Вусце за 3 км на ПнУ ад г. п. Сураж (Віцебскі р-н). Асноўныя прытокі на Беларусі — Аўсянка і Рудня (справа). Даўжыня ракі на тэрыторыі Віцебскага р-на 31 км. Даліна трапецападобная, шырынёй ад 50 м да 3 км (пераважная шырыня 0,3—0,8 км). Пойма двухбаковая, часта чаргуецца па берагах, шырыня 0,2—0,3 км. Рэчышча слабазвілістае і звілістае, неразгалінаванае, у сярэднім цячэнні трапляюцца валуны. Разводдзе звычайна пачынаецца ў канцы сакавіка, працягласць да 65 сутак. Найбольшае перавышэнне вады над межанным узроўнем каля 2,9 м (у сярэднім цячэнні). Замярзае ў канцы лістапада, ледаход у канцы сакавіка.

**УСНА́РКА,** рака ў Польшчы і Берастаўіцкім р-не Беларусі, левы прыток р. Свіслач (бас. Нёмана).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 86 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,4 ‰.**

Пачынаецца ў Польшчы, за 1,4 км на ПнЗ ад в. Русакі перасякае граніцу, цячэ па паўднёвых схілах Гродзенскага ўзвышша (даўжыня ў межах Беларусі 7 км), упадае ў Свіслач за 1,6 км на ПнУ ад в. Ігнатавічы. Пойма ў нізоўі забалочаная.

**УСО́МЛЯ,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 2,03 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,2 м.**
**Даўжыня 2,1 км.**
**Найбольшая шырыня 1,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7 км.**
**Аб'ём вады 3,9 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 8,6 км$^2$.**

У бас. р. Тураўлянка, за 14 км на ПдЗ ад Полацка, на У ад в. Усомля. Схілы катлавіны вышынёй 7—9 м (на ПнЗ 5 м), разараныя, на Пд, ПдЗ і ПдУ пад лесам і хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, на У і Пд сплавінныя, на ПнЗ і ПдУ абразійныя. Дно да глыбіні 1,3—2 м пясчанае, месцамі ілістае, ніжэй сапрапелістае. Невялікі востраў пл. 0,003 км$^2$. Зарастае



Возера Усвечча.




Возера Усвечча.




Возера Усвея.




Возера Усомля.

да глыбіні 1,4 м. Выцякае ручай у воз Канашы.

**УСОХ**, возера ў Бабруйскім р-не

Пл. 0,13 км².
Даўжыня 1,76 км.
Найбольшая шырыня 80 м.
Даўжыня берагавой лініі 3,9 км.

У бас. р. Вір, за 7 км на ПдУ ад Бабруйска, за 2 км на З ад в. Дубаўка. Схілы катлавіны выразныя толькі на З (вышыня 5—10 м), пад лесам. Злучана ручаем з воз. Драгічын.

**УСОШКА**, рака ў Слаўгарадскім і Чэрыкаўскім р-нах, левы прыток р. Трослiўка (бас. Дняпра). Даўжыня 4,2 км. Пачынаецца за 2,3 км на ПнЗ ад в. Рагаліна Чэрыкаўскага р-на, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Усохі Слаўгарадскага р-на. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,3 км каналізаванае.

**УСПЕР**, ручай у Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра). Даўжыня 2 км. Пачынаецца за 1 км на У ад п. Крастоўскі, упадае ў вадасховішча на р. Іпуць, за 1 км на У ад в. Мілаславічы. Рэчышча каналізаванае.

**УСПОЛ**, Т у р а ў к а, рака ў Смаленскай вобл. і Віцебскім р-не, левы прыток р. Усвяча (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 17 км (на тэр. Беларусі 10,2 км). Пачынаецца за 8 км на ПнЗ ад г. Веліж, вусце за 1 км на Пн ад в. Дразды.

**УСПОЛ**, возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,004 км².
Даўжыня 0,2 км.
Найбольшая шырыня 0,09 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,27 км.

У бас. р. Аўсянка, за 31 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 0,5 км на ПдУ ад в. Зара. Схілы катлавіны невыразныя. Знаходзіцца на забалочанай пойме р. Крапіўка (цячэ праз возера).

**УСЦІЗЁРКІ**, рака ў Смаргонскім і Астравецкім р-нах, левы прыток Віліі (бас. Нёмана).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 47 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.

Пачынаецца ва ўрочышчы Голае балота, за 4 км на Пд ад в. Старая Рудня. Цячэ пераважна праз лес, упадае ў Вілію за 1,3 км на Пн ад в. Усцізер'е. Рэчышча на працягу 5 км (ад вытоку да в. Старая Рудня) каналізаванае. У вярхоўі прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**УСЫСА**, рака ў Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 50 км.
Пл. вадазбору 423 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,2 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.

Выцякае з воз. Кашо за 1,5 км на З ад в. Прудок, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша і Полацкай нізіны, вусце каля в. Мішневічы Шумілінскага р-на. Цячэ праз азёры Лугавое, Арэхавае, Шчарбакоўскае, у верхнім цячэнні да г. Гарадок рака называецца Г а р а ж а н к а. Асноўны прыток — р. Каменка (злева). Даліна трапецападобная, пераважная шырыня 0,2—0,5 км, найбольшая 2 км. Пойма шырынёй 50—80 м. Рэчышча ўмерана звілістае, месцамі звілістае (шырыня 10—15 м).

**ЎСЯ**, возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,2 км².
Найбольшая глыбіня 17,3 м.
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,45 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Аб'ём вады 0,97 млн. м³.
Пл. вадазбору 18 км².

У бас. р. Друйка, за 10 км на З ад г. Браслаў, каля в. Усяны. Схілы катлавіны вышынёй да 8 м, на Пд і З разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдУ нізкія, забалочаныя. Каля ўсходняга берага невялікі востраў пл. 0,25 га, парослы хмызняком. Дно да глыбіні 2—3 м пясчанае, ніжэй — ілістае. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 35 м. Злучана ручаём з воз. Рэйспа і пратокай з воз. Бірутэ.

**УСЯЖА**, рака ў Мінскім і Смалявіцкім р-нах, правы прыток р. Гайна (бас. Дняпра).

Даўжыня 45 км.
Пл. вадазбору 473 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,2 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.

Пачынаецца з вадасховішча Астрашыцкі Гарадок у Мінскім р-не (да 1978 вытокам лічылася р. Вяснянка), вусце за 3 км на ПнУ ад в. Юр'ева Смалявіцкага р-на. Асноўныя прытокі: Дуброўка, Дзяражанка (злева) і Домелька (справа). Цячэ ў вярхоўі па паўднёва-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша, у нізоўі па Верхнебярэзінскай нізіне. Даліна ў верхнім і сярэднім цячэнні трапецападобная (шырыня 0,5—2 км), у ніжнім нев[ы]разная. Пойма ў верхнім і сярэдн[ім] цячэнні высокая, лугавая, месцамі п[ера]ворывам (шырыня 0,2—1 км), у ні[ж]нім амаль поўнасцю асушаная, тарф[я]ністая (шырыня ад 1,5 км да 5 км). Рэчышча ад в. Прылепы Смалявіцк[ага] р-на на працягу 6,1 км уніз [па] цячэнні каналізаванае, на астатн[ім] працягу ўмерана звілістае; шыры[ня] яго 4—7 м, у нізоўі (шырыня 10-25 м) меандруе. Берагі стромкія (вы[]шыня 1,5—2 м), месцамі абрывісты (вышыня 3—5 м). У сярэднім і ніж[]нім цячэнні рака прымае сцёк з мелі[я]рацыйных каналаў. На ёй вадасх[о]вішча Дубраўскае.

**ЎТАНЬКА**, рака, гл. *Гніва*.

**ЎТВІНА**, возера ва Ушацкім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,66 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.
Пл. вадазбору 104 км².

У бас. р. Альзініца, за 6 км на ПнЗ ад г. п. Ушачы, за 1 км на У ад в. Новае Сяло. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, пад хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй ад 10 м да 250 м, пад хмызняком або лугам. Упадае ручай з воз. Пліна, выцякае — у р. Альзініца.

**УТВОХА**, рака ў Жыткавіцкім р-не, правы прыток Найда-Бялеўскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПдЗ, вусце за 5,5 км на ПдУ ад в. Найда. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЎХВІШЧА**, возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,57 км².
Найбольшая глыбіня 23,5 м.
Даўжыня 2,64 км.
Найбольшая шырыня 0,46 км.
Даўжыня берагавой лініі 6,1 км.
Аб'ём вады 3,86 млн. м³.
Пл. вадазбору 24,4 км².

У бас. р. Альзініца, за 32 км на ПдЗ ад Полацка, каля в. Ухвішча. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м (на ПдУ 14—15 м, месцамі да 18 м, пясчаныя), пад лесам, на Пн, ПнУ і ПнЗ разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пд забалочаныя, на У і ПдУ зліваюцца са схіламі, парослыя хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно сапрапелістае і ілістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 4,9 м. Злучана пратокай з воз. Жадунь, упадаюць 4 ручаі, у т. л. з воз. Мярэдзеж, выцякае ручай у р. Альзініца.

**ЎХЛЯСЦЬ**, рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Дняпро.

Даўжыня 48 км.
Пл. вадазбору 478 км².
Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 2,6 м³/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Ляжанка, вусце за 0,5 км на ПнЗ

ад в. Прыбар. Асноўны прыток — р. Варонінка (справа). Цячэ пераважна па Аршанска-Магілёўскай раўніне. Рэчышча каналізаванае. Замярзае ў пачатку снежня, крыгалом у канцы сакавіка (у сярэднім 6 сутак).

**УЦЯСЯНКА**, рака, гл. *Навасадка*.

**УША**, рака ў Нясвіжскім і Карэліцкім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 105 км.**
**Пл. вадазбору 1220 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,3 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца каля заходняй ускраіны в. Качановічы Нясвіжскага р-на, упадае ў Нёман на У ад в. Ярэмічы Карэліцкага р-на. Асноўныя прытокі: Гараднíца, Сноўка, Змейка, Цятранка (злева), Міранка (справа). Даліна не выражана, схілы забалочаныя. Пойма двухбаковая, забалочаная, шырыня разліву ў ніжнім цячэнні да 2,5 км, у верхнім і сярэднім — ад 100 м да 1 км. Рэчышча на працягу 10,1 км каналізаванае: ад вытоку да сажалкі Дзікая (7,3 км) і за 1,5 км на ПнУ ад в. Еськавічы да в. Круты Бераг (2,8 км). Замярзае ў сярэдзіне снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Каля Нясвіжа і в. Качановічы цячэ праз сажалкі. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**УША**, рака ў Мінскай вобл., правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 89 км.**
**Пл. вадазбору 725 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,2 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Смольніца Смалявіцкага р-на, вусце за 4,5 км на У ад в. Уша Бярэзінскага р-на. Асноўныя прытокі: Маконь, Рэчкі (злева), Клёнаўка, Беліца (справа). Цячэ пераважна па паўднёва-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша. Даліна да в. Уборкі Чэрвеньскага р-на невыразная, на астатнім працягу трапецападобная; шырыня яе 0,9—1,2 км, найбольшая каля 3,5 км. Схілы спадзістыя, вышыней 5—20 м. Пойма двухбаковая (шырыня 100—200 м), да вусця р. Маконь забалочаная і парослая лесам, ніжэй перасечаная, пясчана-тарфяністая. Рэчышча ад вытоку на працягу 13,9 км каналізаванае, на астатнім працягу ўмерана звілістае. Берагі пераважна стромкія і абрывістыя. Найвышэйшы ўзровень вады ў сярэдзіне красавіка. Замярзае ў канцы лістапада, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Прымае сцек з меліярацыйных каналаў.

**УША**, рака ў Валожынскім і Маладзечанскім р-нах, левы прыток Віліі.

**Даўжыня 75 км.**
**Пл. вадазбору 780 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 6,01 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2‰.**

Пачынаецца на ПнЗ ад в. Будраўшчына Валожынскага р-на, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Вілію за 1,8 км на ПнЗ ад в. Шыкава. Асноўныя прытокі: Гадзея (злева), Цна (справа). Даліна ў вярхоўі трапецападобная, яе шырыня 0,6—1 км,



Рака **Уша** каля вёскі Рудня Чэрвеньскага раёна.



Рака **Уша** каля вёскі Вяжуці Маладзечанскага раёна.



Рака **Уша** каля вёскі Вялікія Жухавічы Карэліцкага раёна.

у сярэднім цячэнні невыразная, у ніжнім – скрынкападобная. Пойма шырынёй 0,4—0,7 км, ніжэй г. Маладзечна 4—5 км, перасечаная меліярацыйнымі каналамі. Рэчышча на працягу 35 км каналізаванае.

**УШАЦКАЯ ГРУПА АЗЁР,** ва Ушацкім, часткова ў Полацкім і Лепельскім р-нах, у бас. р. Тураўлянка. Уключае больш за 60 азёр агульнай пл. больш за 75 км² і аб'ёмам вады 350 млн. м³. Найбольшыя: Чарсцвяцкае, Павульскае, Атолава, Паўазер'е, Янова, Бярозаўскае, Крывое, Гомель. Вадазбор 803 км² пераважна разараны, прадстаўлены комплексам ледавіковых і водна-ледавіковых форм рэльефу. Спалучэнне розных тыпаў [illegible], озавых град, якія іх акру[illegible] камавых узвышшаў часта [illegible] стварае маляўнічы [illegible]. Азёры [illegible]чаны невялі[illegible] ручаямі, [illegible] азёр цячэ р. Дзі[illegible] 3 [illegible] перад воз. Гомель узровень Ушацкай групы азёр зарэгуляваны. Азёры з'яўляюцца месцам адпачынку і турызму. Возера Крывое як эталон чыстых мезатрофных вадаёмаў аб'яўлена азёрным заказнікам.

**УША́ЧА,** рака ў Віцебскай вобл., левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 118 км.**
**Пл. вадазбору 1150 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 169,7 м над узроўнем мора ў Докшыцкім р-не, за 5 км на ПдЗ ад в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на. Цячэ ў межах Ушацка-Лепельскага ўзвышша і Полацкай нізіны (ніжняе цячэнне), праз азёры Мурагі, Тартак, Царкавішча, Замошша, Вялікае Існа і Варонічы. Вусце насупраць размешчанай на правым беразе Зах. Дзвіны в. Цюлькі Полацкага р-на. Асноўныя прыткі: Ідута, Альзініца, Нежлеўка (злева) і Крашанка (справа). Даліна да в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на невыразная, ніжэй трапецападобная шырыня яе да вусця р. Альзініц да 1 км, ніжэй 300—400 м, месцам звужаецца да 200 м. Пойма двухбаковая, шырынёй 0,4—0,6 км, на асобных участках да 1,5 км, ніжэй упа дзення р. Альзініца звужаецца да 30—50 м. Рэчышча моцназвілістае у верхнім цячэнні шырынёй 3—10 м ніжэй воз. Вялікае Існа 30—40 м. Раз воддзе пачынаецца ў канцы 2-й дэкады сакавіка і доўжыцца да канца мая, сярэдняя працягласць каля 60 сутак. Сярэдняе перавышэнне вышэйшага ўзроўню над межанню да 1,5 м. Замярзае ў 1-й дэкадзе снежня, крыгалом у пачатку красавіка. На рацэ г. п. Ушачы.

**У́ШЧА,** рака ў Пскоўскай вобл. і Расонскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 82 км. Пачынаецца з воз. Ушча на мяжы Невельскага і Пустошкінскага р-наў Пскоўскай вобл., ніжняе цячэнне (3,2 км па граніцы рэспублік і 4,4 км на Беларусі) у лясістай забалочанай мясцовасці. Упадае ў воз. Дрысы з ПдУ, за 1 км на ПнЗ ад в. Пераваз.

**УШЧАЛЁПСКІ КАНА́Л,** У ш ч а л ё п к а ў с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Расонскім р-не, левы прыток р. Вельніца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Ушчалёпкі, вусце каля в. Сінск.

**УШЫВЕ́Ц,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,23 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,65 км.**

У бас. р. Свольна, за 22 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,2 км на У ад в. Дабраплёсы. Ляжыць сярод лесу. Схілы на 3 вышынёй да 20 м, з іншых бакоў вакол возера невялікія ўзгоркі вышынёй да 10 м. Усходні бераг забалочаны. Бяссцёкавае.

**УШЫ́ВЕЦ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,13 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Свольна, за 28 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 1,5 км на ПдУ ад в. Валясы, каля ўсходняга берага воз. Лісна. Ляжыць сярод лесу. Схілы вышынёй да 20 м.

**УЮ́НКА,** рака ў Хоцімскім р-не, правы прыток р. Жадунька (бас. Дняпра). Даўжыня 13,4 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Гаўрылаўка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Узлогі. Рэчышча ад вытоку на працягу 9 км каналізаванае.

**УЮНО́К,** рака ў Быхаўскім р-не, левы прыток р. Грэза (бас. Дняпра). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца ў забалочаным лясным урочышчы за 2 км на ПдЗ ад в. Выгода, вусце на паўднёвай ускраіне в. Гамарня. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,6 км каналізаванае.

**УЮТО́К,** рака, гл. *Лукомка*.

**Ушацкая група азёр.**

**ФАЛЕВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Рагачоўскім р-не, левы прыток р. Добрыца (бас. Дняпра). Даўжыня 9,3 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Вялікая Крушынаўка, упадае ў Добрыцу за 1,2 км на ПнУ ад в. Талочкаў.

**ФАСТАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім і Акцябрскім р-нах, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 14,7 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Вялікія Гарадзяцічы Любанскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Сасноўка Акцябрскага р-на. Прытокі справа — Цартова канава і канал Камаровічы.

**ФЕРБІНА,** рака ў Стаўбцоўскім р-не, левы прыток р. Каменка (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 39 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Церабейнае, цячэ ў межах Налібоцкай пушчы, упадае ў Каменку за 0,5 км на ПнУ ад вусця Каменкі. Пойма часткова забалочаная.

**ФІЛІПАЎКА,** Піліпаўка, рака ў Іванаўскім р-не, левы прыток р. Піна (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 152 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на У ад в. Кацкі, вусце за 1 км на Пд ад в. Еўлашы. Прыток — р. Струга (справа). Рэчышча каналізаванае.

**ФІЛІПЕНСКАЕ ВОЗЕРА,** Філіпенкі, возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 1,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.**
**Пл. вадазбору 23,2 км².**

У бас. р. Шэвінка, за 10 км на ПнУ ад г. п. Шуміліна, каля в. Філіпенкі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя. Упадае ручай з воз. Зачорнае, выцякае ручай у воз. Грабніцкае.

**ФІЯНАВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,08 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,32 км.**

У бас. р. Друйка, за 19 км на ПнУ ад г. Браслаў, за 1 км на ПнЗ ад в. Далікатары, сярод балота. Схілы невыразныя. Выцякае ручай у р. Абабіца.

**ФЛЯРОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток канала Любань (бас. Прыпяці). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Флярова, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Радзігерава.

**ФЯДОСКА,** рака ў Івацэвіцкім р-не, левы прыток р. Жыгулянка (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 87 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Верашкі, вусце за 6 км на ПдЗ ад в. Заполле Касаўскага сельсавета. Рэчышча каналізаванае. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

# Х

**ХАБОЦІНА,** меліярацыйны канал у Сенненскім р-не, правы прыток р. Бярозка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 13,6 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнУ ад в. Мелехава, вусце за 1,1 км на ПдЗ ад в. Дубкі.

**ХАДАКОЎСКІ КАНАЛ,** гл. *Днепра-Нёманскі канал.*

**ХАЛАДЦОВА КАНАВА,** меліярацыйны канал у Асіповіцкім р-не, правы прыток р. Сіняя (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Ягаднае, упадае ў Сінюю ў в. Восава.У вярхоўі меліярацыйнымі каналамі злучана з р. Пціч.

**ХАЛАСЕНСКАЕ ВОЗЕРА,** Халасцінскае возера, у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Даўжыня 0,8 км.**
**Найбольшая шырыня 0,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,25 км.**
**Пл. вадазбору 13,5 км².**

У бас. р. Галбіца, за 28 км на ПдУ ад г. Паставы, за 2 км на У ад в. Сяргеевічы. Схілы катлавіны амаль не выражаны, месцамі вышынёй да 2 м. Берагі нізкія, на У забалочаныя. Востраў пл. 0,3 га. Упадаюць некалькі меліярацыйных канаў, выцякае ручай у Галбіцу.

**ХАЛАСТОЎКА,** рака, гл. *Барань.*

**ХАЛОДЧЫЯ,** возера ў Мазырскім р-не на левабярэжнай пойме р. Прыпяць, за 5 км на ПнЗ ад г. Мазыр. Пл. 0,12 км². Старычнае.

**ХАМІНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Лоеўскім р-не.

**Пл. 0,16 км².**
**Даўжыня 6,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 14 км.**

У бас. р. Сож, за 12 км на ПнУ ад г. п. Лоеў, каля в. Хамінка. Старычнае. Берагі вышынёй да 2 м, задзернаваныя, пад хмызняком, на Пн часткова пад лесам. На З возера агібае стромкі карэнны бераг Сажа вышынёй 4 м. Ручаём злучаецца з Сажом.

**ХАМІЧОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Хамічы Азарыцкага пассавета.

**ХАМІЧЭЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кіраўскім р-не, левы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад г. п. Кіраўск, упадае ў Алу за 2 км на У ад в. Падлессе.

**ХАМУТОЎКА,** рака, гл. *Пыранка.*

**ХАНЯ,** Хан, Цераздрэў, рака ў Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 24 км.**
**Пл. вадазбору 88,7 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1,8 км на Пн ад в. Дзятлік, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Хільчыха. На рацэ плаціны і сажалкі каля вёсак Красноўка (пл. 21 га), Хамянкі (пл. 12 га), Нічыпа-

вусцем на працягу 2 км каналізаванае.

**ХЛЕЎНЯ,** Х л е ў н а я, рака ў Дзятлаўскім р-не, левы прыток р. Пад'яварка (бас. Нёмана).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 52 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца каля в. Скіпоравічы, у нізоўі цячэ праз лясное ўрочышча Амшэр, упадае ў Пад'яварку на Пн ад в. Вялікая Воля. Пойма ўчасткамі забалочаная. Рэчышча каналізаванае.

**ХЛЎПІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 5,5 км на Пд ад в. Хлупін, упадае ў воз. Абяда (на пойме Прыпяці) з Пд, за 2,3 км на ПнУ ад в. Хлупін. Канал праходзіць па забалочаным лесе, пераважна ў межах Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка.

**ХЛЯЎКІ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км$^2$.**
**Даўжыня 0,16 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.**

У бас. р. Палата, за 36 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 3,7 км на ПдУ в. Сельнікі. Размешчана сярод забалочанага ўчастка лесу, схілы невыразныя.

**ХМЕЛЕЎКА,** рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Покаць (бас. Дняпра). Даўжыня 3,2 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Барталамееўская Рудня, вусце за 1,5 км на Пн ад в. Валосавічы. Рэчышча перад вусцем на працягу 0,9 км каналізаванае.

**ХМЕЛЬНІЦА,** рака ў Капыльскім р-не, левы прыток р. Удава (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Скабін, вусце за 0,8 км на У ад в. Ванелевічы. Рэчышча каналізаванае.

**ХМЕЛЯНЕЦ,** ручай у Рагачоўскім р-не, правы прыток р. Ракатун (бас. Дняпра). Даўжыня 11,2 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Стары Доўск, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Серабранка. Рэчышча на працягу 5,8 км (ад вытоку да сажалкі каля в. Хмелянец) каналізаванае.

**ХМЯЛІНКА,** рака ў Кіраўскім р-не, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 59,5 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.**

Пачынаецца за 4,6 км на Пд ад в. Баркі, каля аўтадарогі Бабруйск — Магілёў, вусце ў в. Чыгірынка. Рэчышча каналізаванае. Рака цячэ пераважна праз лес.

**ХМЯЛЬНІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слонімскім р-не, левы прыток р. Грыўда (бас. Нёмана). Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Хмяльніца, упадае ў Грыўду за 2 км на ПнЗ ад в. Шыганы.

**ХОБНЕНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, правы прыток р. Тур'я (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,1 км. Пачынаецца за 1,4 км на ПнЗ ад в. Шаўлоў, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Хобнае.

**ХОДАСЫ,** возера ў Мядзельскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,3 м.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.**
**Аб'ём вады 0,36 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 0,9 км$^2$.**

У бас. р. Мядзелка, за 11 км на ПнЗ ад г. п. Мядзел, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Расохі. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на Пн і Пд да 15 м), пад хмызняком, у верхняй частцы разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі, участкамі вышынёй да 1 м, часткова нізкія, забалочаныя. Зарастае ўздоўж берагоў. Злучана пратокай з воз. Расохі, выцякае ручай у р. Мядзелка.

**ХОДЦЫ,** Л ю б а ч, возера ў Сенненскім р-не.

**Пл. 0,53 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,2 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,4 км.**
**Аб'ём вады 1,32 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 55,3 км$^2$.**

У бас. р. Чарнагосніца, за 18 км на ПнУ ад г. Сянно, каля в. Ходцы. Усходнія схілы катлавіны вышынёй 15—18 м, пераважна пад ворывам, заходнія да 25 м, парослі хмызняком. Заходнія берагі зліваюцца са схіламі, усходнія часткова забалочаныя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно ілістае. Зарастае ўздоўж берагоў. Упадае ручай з воз. Ліпна, выцякае ў воз. Тросна.

**ХОЛЬЧА,** возера ў Столінскім р-не.

**Пл. 0,1 км$^2$.**
**Даўжыня 0,85 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,87 км.**

У бас. р. Бобрык, за 37 км на ПнЗ ад г. Столін, за 7 км на Пн ад в. Беразцы, на забалочанай пойме. Схілы катлавіны невыразныя. Упадае меліярацыйны канал, выцякае ручай у р. Бобрык.

**ХОМСК,** вадасховішча ў Драгічынскім р-не.

**Пл. 0,8 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 1,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Аб'ём вады 2,9 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 290 км$^2$.**

Створана ў 1988 за 17 км на ПнУ ад г. Драгічын, каля в. Хомск для арашэння зямель і рыбагадоўлі. Наліўное: вада падаецца з р. Ласінцы і меліярацыйнага канала. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 3,4 м.

**ХОМСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Драгічынскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 16,7 км. Пачынаецца каля паўднёва-ўсходняй ускраіны в. Крамно, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Хомск.



**Хотлінскае возера.**

**ХОНКА,** рака ў Расонскім р-не, правы прыток р. Нішча (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 28 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца ў балоце Вялікі Мох, за 3,5 км на ПнЗ ад в. Юхавічы, вусце за 4 км на ПнЗ ад в. Вялікае Балота. Рэчышча ад вытоку на працягу 6,2 км каналізаванае. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ХОРАПУЦЬ,** рака ў Добрушскім р-не, левы прыток р. Іпуць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 45 км.**
**Пл. вадазбору 528 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,06 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Чырвоны Арол, вусце на заходняй ускраіне г. Добруш. Асноўныя прытокі: рэкі Грязліўка (справа) і Чачора (злева). Рака цячэ па Гомельскім Палессі. Даліна трапецападобная, у вусці зліваецца з далінай Іпуці. Пойма пераважна лугавая. Рэчышча каналізаванае на ўсім працягу, шырыня яго 2—3 м у вярхоўі, у вусці да 12 м. Берагі стромкія, вышынёй да 1,2 м. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ХОРАЎКА,** Х а р э ў к а, рака ў Свіслацкім і Пружанскім р-нах, правы прыток р. Шчыба (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Куклічы Свіслацкага р-на, упадае ў Шчыбу на Пн ад в. Лыскава Пружанскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ХОТЛІНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,23 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,9 м.**




Хоцькаўскае возера.

Даўжыня 1,31 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,4 км.
Аб'ём вады 0,67 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 97 км$^2$.

У бас. р. Ула, за 18 км на ПдУ ад г. Чашнікі, каля в. Хотліна. Схілы катлавіны на Пд і ПдУ вышынёй 15—20 м (на З 4—6 м), разараныя, на ПдУ пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, зараслі водна-балотнай расліннасцю і хмызняком, месцамі сплавінныя. Мелкаводдзе вузкае, пясчанае, глыбей дно ілістае. Зарастае да глыбіні 2,2 м. Праз возера цячэ р. Свяча, якая на Пн злучае яго з воз. Маеўскае.

**ХО́ЎХЛА,** рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, левы прыток Вадаскіднага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Хоўхла, вусце за 1,5 км на У ад в. Бярвёнаўка. Рэчышча на працягу 1,1 км перад вусцем каналізаванае.

**ХО́ЦЕМЛЯ,** возера ў Рэчыцкім р-не.

Пл. 0,4 км$^2$.
Даўжыня 4,55 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 9,3 км.

У бас. Дняпра, за 10 км на Пн ад г. Рэчыца, каля в. Чорнае. Схілы катлавіны вышынёй да 17 м (усходнія да 2 м), пад хмызняком. Берагі на У нізкія, на З зліваюцца са схіламі.

**ХО́ЦІНА,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,4 м.
Даўжыня 1,09 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,3 км.
Аб'ём вады 0,3 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 52 км$^2$.

У бас. р. Ула, за 9 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Ірынполле. Схілы катлавіны на Пн і ПнЗ вышынёй 8—9 м (на Пд і ПдУ 10—12 м), разараныя, на ПдЗ пад лесам. Берагі сплавінныя, парослыя хмызняком. Пойма забалочаная, месцамі затарфаваная. Дно выслана гліністым ілам і сапрапелем. Зарасло. Праз возера цячэ ручай Бярозаўка.

**ХО́ЦІНКА,** рака ў Слаўгарадскім і Чавускім р-нах, правы прыток р. Раста (бас. Дняпра).

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 106 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца з Кульшыцкага возера ў Слаўгарадскім р-не, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Доўгі Мох Чавускага р-на. Рэчышча на працягу 15,3 км (ад вытоку да в. Машэцкая Слабада Слаўгарадскага р-на) каналізаванае.

**ХО́ЦІНКА,** рака ў Бешанковіцкім р-не, левы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 28 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Хоціна, вусце насупраць размешчанай на правым беразе Улы в. Саўрасы.

**ХО́ЦІНСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,2 м.
Даўжыня 0,96 км.
Найбольшая шырыня 0,41 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.
Аб'ём вады 0,53 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 0,7 км$^2$.

У бас. р. Ула, за 24 км на ПнЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Хоціна. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, разараныя, месцамі пад хмызняком. Берагі нізкія, пясчаныя, на З сплавінныя, на Пн зліваюцца са схіламі. На Пд і У забалочаная і парослая хмызняком пойма шырынёй да 350 м. Дно да глыбіні 3 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. Зарастае надводнай расліннасцю да глыбіні 2 м. Упадаюць 2 канавы.

**ХО́ЦІШЧА,** рака ў Слаўгарадскім і Быхаўскім р-нах, левы прыток р. Ухлясць (бас. Дняпра). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на, вусце за 2 км на Пн ад в. Александроў Быхаўскага р-на. Рэчышча каналізаванае. Рака цячэ сярод лесу, на правым беразе лясное ўрочышча Хоцішча.

**ХО́ЦЬКАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,22 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 4,3 м.
Даўжыня 1,13 км.
Найбольшая шырыня 0,27 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,4 км.
Аб'ём вады 0,42 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 28,3 км$^2$.

У бас. р. Свінка (цячэ праз возера), за 12 км на ПдЗ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Доўгае. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м (на Пн 4—5 м), пераважна разараныя або пад пашай, на ПдУ парослі лесам. Берагі на З высокія, на У нізкія, месцамі абразійныя, на Пн і Пд сплавінныя. Дно выслана гліністым ілам. Зарастае амаль чвэрць плошчы возера.

**ХОЧАМЛЯ,** канал Хочамля, рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, правы прыток р. Уза (бас. Дняпра).

Даўжыня 10 км.
Пл. вадазбору 42 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.

Пачынаецца за 0,6 км на ПнУ ад п. Першабацунскі, вусце за 1,5 км на З ад в. Зялёны Востраў. Рэчышча, акрамя невялікага ўчастка паміж вёскамі Бацунь і Аляксандраўка, каналізаванае.

**ХРАПАЎЛЯ́НКА,** рака ў Віцебскім р-не, правы прыток р. Лужаснянка (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 12 км.
Пл. вадазбору 224 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Выцякае з воз. Бутыка за 0,3 км на З ад в. Канавалава, вусце насупраць размешчанай на левым беразе Лужаснянкі в. Сушчова. Прытокі — р. Шэсценка (справа) і ручай Смародны (злева).

**ХРАПУ́НЬ,** Крусейка, ручай у Нараўлянскім р-не, правы прыток р. Жалонь (бас. Прыпяці).

Даўжыня 17 км.
Пл. вадазбору 70 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,76 ‰.

Пачынаецца за 3 км на Пд ад в. Кіраў, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Хільчыха. Рэчышча на працягу 7 км ад вытоку і 4 км перад вусцем каналізаванае.

**ХУДАБЫ́ЧКА,** рака ў Крычаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

Даўжыня 15 км.
Пл. вадазбору 64 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Чырвоная Буда, вусце на паўднёва-ўсходняй ускраіне г. Крычаў. Рэчышча на працягу 5,5 км перад вусцем каналізаванае.

**ХУ́ДРА,** рака ў Слуцкім р-не, левы прыток р. Вясея (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Шантароўшчына. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

Ц

**ЦАПРА́,** Цэпра, рака ў Нясвіжскім і Клецкім р-нах, левы прыток р. Лань (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 123 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Габруны Нясвіжскага р-на, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на. Асноўны прыток — р. Конік (злева). Рака цячэ пераважна ў межах Капыльскай грады. Рэчышча каналізаванае. На рацэ плаціны і сажалкі каля в. Пляшэвічы Нясвіжскага р-на (пл. 21,8 га) і в. Зубкі Клецкага р-на (пл. 34 га).

**ЦАРКАВІ́ШЧА,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 1,61 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 1,9 м.**
**Даўжыня 3,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,7 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9 км.**
**Аб'ём вады 1,64 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,6 км$^2$.**

У бас. р. Бярозаўка, за 18 км на ПнЗ ад г. Глыбокае, каля в. Мосар. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м (на ПдЗ і ПнУ 5—8 м), разараныя, невялікія ўчасткі пад лесам і хмызняком. На У і З тэраса вышынёй 0,4—0,6 м. Берагі нізкія, часткова на Пд і Пн сплавінныя. Пойма забалочаная. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае па ўсёй плошчы. Упадае больш за 10 меліярацыйных канаў.

**ЦАРКАВІ́ШЧА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,37 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 16,1 м.**
**Даўжыня 0,93 км.**
**Найбольшая шырыня 0,66 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,64 км.**
**Аб'ём вады 2,05 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 130 км$^2$.**

У бас. р. Ушача (цячэ праз возера), за 20 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, за 0,5 км на Пд ад в. Царкавішча. Схілы катлавіны вышынёй 10—17 м (на ПдЗ 5—8 м, на У 3—5 м), разараныя, на У і ПдУ пад лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, парослыя хмызняком. Дно да глыбіні 2—2,5 м пясчанае, ніжэй іліставе. Зарастае да глыбіні 2,7—3,2 м. Упадаюць 2 ручаі і ручай з воз. Полазна.

**ЦАРКО́ЎКА,** канал Царкоўка, рака ў Клімавіцкім р-не, правы прыток р. Сасноўка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Круглае, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Царковішча. Рэчышча каналізаванае.

**ЦАРТО́ВА КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Любанскім і Петрыкаўскім р-нах, правы прыток Фаставіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12 км. Пачынаецца на тэрыторыі Любанскага р-на, за 6,5 км на ПнЗ ад в. Замосце Петрыкаўскага р-на, вусце за 1 км на У ад в. Вялікія Гарадзяцічы Любанскага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЦА́ХМІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток Любанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 25 км. Пачынаецца з Любанскага 1-га водападводзячага канала, за 2 км на ПдЗ ад в. Ямінск, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Каліпаўка. Прыток — Цахмінскі 7А канал (справа).

**ЦА́ХМІНСКІ 7А КАНА́Л,** Азломльскі канал, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток Цахмінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,7 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Азломль, вусце за 2 км на У ад в. Ямнае.

**ЦВЕ́РБУЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лідскім р-не, правы прыток р. Голдаўка (бас. Нёмана). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Цвербуты, упадае ў Голдаўку за 1 км на У ад в. Голдава.

**ЦВЕ́ЦЕНЬ,** рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Нёмана).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 94 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца на ПдЗ ад в. Малыя Кашэўнікі, цячэ па заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Бярэзіну на ПдЗ ад в. Капачы. Прытокі — р. Лукі і меліярацыйныя каналы. Рэчышча каналізаванае.

**ЦЕЛЯ́КІ,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, правы прыток канала Чорны Роў (бас. Зах. Буга). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Мышчыцы, вусце за 1,5 км на З ад в. Целякі.

**ЦЕЛЯХА́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Пінскім р-нах, правы прыток Хварашчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Горталь Івацэвіцкага р-на, вусце за 4,5 км на ПнЗ ад в. Валішча Пінскага р-на.

**ЦЕЛЯШО́ЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Гомельскім р-не.

**Пл. 0,51 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,1 м.**
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,78 км.**
**Аб'ём вады 1,2 млн. м$^3$.**

Створана ў 1973 за 20 км на З ад г. Гомель, за 2,5 км на Пд ад в. Целяшы, для рэгулявання воднага рэжыму прылеглых зямель. Абвалавана земляной дамбай даўжынёй 2,88 км. Наліўное: напаўняецца вадой з р. Уза па напорным трубаправодзе. Ваганні ўзроўню на працягу года 2,1 м.

**ЦЕ́МЕНІЦА,** Цялгеніца, возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 1,07 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 20,2 м.**
**Даўжыня 2,21 км.**
**Найбольшая шырыня 0,87 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,2 км.**
**Аб'ём вады 9,46 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 105 км$^2$.**

У бас. р. Дзіва, за 30 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Суша. Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 11—15 м, на У і Пд 6—9 м. На З і У тэраса вышынёй да 2 м. Берагі высокія, на Пд нізкія, пясчаныя. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. Невялікі востраў. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1,7 м, падводная — да 3 м. Злучана пратокамі з азёрамі Астраўкі і Ліпна.

**ЦЕ́МЕНКА,** ручай у Лагойскім і Вілейскім р-нах, правы прыток р. Ілія (бас. Віліі). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Палосы Лагойскага р-на, упадае ў Ілію за 2 км на ПдЗ ад в. Зацемень Вілейскага р-на. Рэчышча на працягу 2 км ад вусця каналізаванае.

**ЦЕ́МРА,** рака ў Пружанскім р-не, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 153 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Лібярполь, вусце за 0,5 км на У ад в. Труханавічы. Цячэ па Нараўска-Ясельдзінскай раўніне ў межах Ружанскай Пушчы. Рэчышча каналізаванае. У вярхоўі ракі створана вадасховішча Лібярполь.

**ЦЕНІЦА,** рака ў Шумілінскім р-не, правы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 94 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Выцякае з воз. Ценіца каля в. Роўнае, вусце за 1,6 км на З ад в. Мазуры. Рэчышча ад вытоку на працягу 3,9 км і ў сярэднім цячэнні на працягу 3,2 км каналізаванае.

**ЦЕНІЦА,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,17 км$^2$.**
**Даўжыня 0,97 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Пл. вадазбору 18,9 км$^2$.**


Возера **Цёста**.



**Возера Цёста.**

У бас. р. Обаль, за 26 км на ПнЗ ад г. п. Шуміліна, каля в. Роўнае. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, пад лесам, на У разараныя. Выцякае р. Ценіца.

**ЦЕНЬ,** рака ў Верхнядзвінскім і Расонскім (прывусцевая частка) р-нах, правы прыток р. Свольна (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,8 км. Пачынаецца за 4 км на Пд ад в. Страдна Верхнядзвінскага р-на, вусце каля в. Мілавіды Расонскага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЦЕ́ПЛЕНЬКА,** рака ў Уздзенскім і Пухавіцкім р-нах, правы прыток р. Асачанка (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 12,5 км.**
**Пл. вадазбору 46 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Сукаўцы Уздзенскага р-на, вусце на паўднёвай ускраіне в. Асака Пухавіцкага р-на. Цячэ па паўночнай ускраіне Цэнтральнабяразінскай раўніны. Рэчышча каналізаванае.

**ЦЕРАБА́ЎЛЯ,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,75 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,98 км.**
**Пл. вадазбору 2,5 км².**

У бас. р. Обаль, за 22 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 1 км на ПдЗ ад в. Верына. Схілы катлавіны вышынёй 3—4 м, пад хмызняком, на Пн разараныя. Пойма парасла хмызняком.

**ЦЕРАБЕ́ТАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 24 км на ПнУ ад г. п. Бешанковічы, каля в. Чанавічы (2 км на У ад Зах. Дзвіны). Ляжыць на паўднёвай ускраіне лясного масіву, абкружана хмызняком. На Пн берагі забалочаныя.

**ЦЕРАБО́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не і на Украіне, левы прыток Арэхаўскага канала (бас. Зах. Буга). Даўжыня 14,3 км. Пачынаецца з воз. Церабовічы (Украіна), вусце за 3,5 км на ПдЗ ад в. Павіцце Кобрынскага р-на.

**ЦЕРАБОЛЬ,** рака ў Клічаўскім р-не, левы прыток р. Ольса (бас. Дняпра).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 35 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 6 км на ПнЗ ад п. Лясны, вусце за 1 км на У ад в. Ганаратаў. Рака цячэ праз лес, у вярхоўі — балота Астравы-Дулебы (урочышча Вялікае Дулебскае).

**ЦЕРАБО́СТЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, левы прыток р. Цятранка (бас. Нёмана). Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца каля в. Лыкавічы, упадае ў Цятранку за 1,5 км на ПдЗ ад в. Уша.

**ЦЕРАБУ́ЦКІ 1-ы КАНА́Л,** Д в а р ы ш ч а н с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Старадарожскім і Асіповіцкім р-нах, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Церабуты Старадарожскага р-на, вусце за 1 км на ПнЗ ад в. Жыцін Асіповіцкага р-на. Прыток — Драгічынскі 2-і канал (злева).

**ЦЕРАБУ́ЦКІ 2-і КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Старадарожскім р-не, левы прыток Церабуцкага 1-га канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Шчыткавічы Старадарожскага р-на, вусце каля в. Дворышча Асіповіцкага р-на.

**ЦЕРАЗДРЭЎ,** рака, гл. *Ханя.*

**ЦЕ́РАХАВА,** возера ў Капыльскім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 0,68 км.**
**Найбольшая шырыня 0,33 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Морач, за 25 км на ПдЗ ад г. п. Капыль, каля в. Семежава. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, разараныя.

**ЦЕ́СНА,** меліярацыйны канал у Любанскім і Жыткавіцкім р-нах, у бас. Прыпяці. Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Забярэзінец Любанскага р-на, упадае ў Чырвонае возера з Пн, за 5 км на ПдЗ ад в. Дзякавічы Жыткавіцкага р-на. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЦЕЦЕРАВЕ́ЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Клецкім і Капыльскім р-нах, правы прыток Даманавіцкага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Цецеравец Клецкага р-на, вусце каля в. Вострава Капыльскага р-на.

**ЦЕЦЯВА́,** рака на Украіне і на мяжы Добрушскага р-на з Чарнігаўскай вобл., правы прыток р. Сноў (бас. Дзясны). Даўжыня 19,2 км, у тым ліку на мяжы з Беларуссю 5,5 км. Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Усохі Добрушскага р-на, вусце ў Чарнігаўскай вобл., на паўднёвай ускраіне в. Горск. Рэчышча ад вытоку на працягу 1,2 км каналізаванае.

**ЦЁСТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 5,35 км².**
**Найбольшая глыбіня 11,7 м.**
**Даўжыня 6,25 км.**
**Найбольшая шырыня 1,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 21,4 км.**
**Аб'ём вады 21,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 426 км².**

У бас. р. Аўсянка (цячэ праз возера), за 35 км на ПнУ ад г. Гарадок, каля в. Сяло. Схілы катлавіны невысокія, разараныя, на У і Пд забалочаныя, на З, ПнЗ і ПдУ вышынёй да 8 м, параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, на Пд забалочаныя, ва ўсходнім заліве сплавінныя. Дно да глыбіні 2—2,5 м пясчанае, ніжэй ілістае, у паўночна-ўсходняй частцы сапрапелістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 2,4 м. У паўночна-ўсходнім і паўднёвым залівах расце рэдкі ахоўны від — вадзяны арэх. Упадаюць 6 ручаёў і р. Марысіна.

**ЦЁТЧА,** гл. *Павульскае возера.*

**ЦІМЕНЕЦ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,1 км².**
**Даўжыня 0,43 км.**
**Найбольшая шырыня 0,27 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,12 км.**

У бас. р. Галбіца, за 30 км на ПнУ ад г. Паставы, за 1 км на ПнУ ад в. Трумпічы. Схілы катлавіны вышынёй 2—6 м, разараныя. Берагі нізкія, часткова забалочаныя. Пойма шырынёй да 100 м, пад хмызняком. Злучана ручаём з Галбіцай.

**ЦІМЕНЬ,** рака ў Клічаўскім р-не, правы прыток р. Ольса (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Ганаратава, вусце за 1 км на ПдУ ад в. Закуцце. Рэчышча каналізаванае.

**ЦІМКАВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Капыльскім р-не.

**Пл. 0,75 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,2 м.**
**Даўжыня 5,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Аб'ём вады 1,16 млн. м$^3$.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 16,9 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 202 км$^2$.**

На р. Мажа, за 10 км на ПдЗ ад г. п. Капыль, за 0,5 км на Пд ад в. Цімкавічы. Створана ў 1975 для арашэння зямель, рыбагадоўлі. Правы бераг разараны, левы (у вярхоўі высокі, да плаціны паніжаецца і пераходзіць у спадзісты) пад лугам. У вярхоўі зарастае. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 1,5 м.

**ЦІМНІЦА,** возера ў Шчучынскім р-не.

**Пл. 0,15 км$^2$.**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,24 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,6 км.**

У бас. р. Котра, за 26 км на ПнЗ ад г. Шчучын, за 2 км на ПнЗ ад в. Шчанец, сярод лесу. Берагі высокія, пясчаныя, на ПнЗ забалочаныя. Злучана ручаём Цімніца з р. Котра.

**ЦІМОШЫШЧЫ,** Чумакі, возера ў Калінкавіцкім р-не.

**Пл. 0,2 км$^2$.**
**Даўжыня 1,37 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 14 км на ПдУ ад г. Калінкавічы, за 2 км на ПдУ ад в. Пеніца. Схілы катлавіны невыразныя. Злучана пратокай з воз. Дварышча.

**ЦІСАЎКА,** канал Вялікі Нікар, рака ў Пружанскім р-не, левы прыток р. Нараўка (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 49 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Хвалава (раней, да асушэння, пачыналася з урочышча Дзікі Нікар). Цячэ па паўночнай частцы Прыбугскай раўніны. Вусце за 3 км на Пд ад в. Хвойнік. Рэчышча каналізаванае. Водападзел з р. Тачніца праходзіць па земляной перамычцы, за 2 км на ПнУ ад в. Крыніца.

**ЦІТАЎКА,** рака ў Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

**Даўжыня 33 км.**
**Пл. вадазбору 372 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,16 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,3 ‰.**

Пачынаецца з р. Пціч за 1,5 км на ПдУ ад в. Русаковічы, вусце ў в. Пухавічы. Цячэ па заходняй ускраіне Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Даліна ў верхнім і сярэднім цячэнні невыразная, у нізоўі трапецападобная або скрынкападобная са стромкімі схіламі. Пойма ў верхнім і сярэднім цячэнні адсутнічае, у ніжнім вузкая, месцамі адсутнічае, шырынёй 0,5—0,8 км. Рэчышча (шырыня ад 10 м да 20 м) ад вытоку да в. Загай на працягу 16 км каналізаванае. На рацэ г. Мар'іна Горка.

**ЦІШОЎКА,** рака ў Берастаўіцкім р-не, правы прыток р. Свіслач (бас. Нёмана). Даўжыня 7 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПнУ ад в. Цецяроўка, упадае ў Свіслач за 1,1 км на З ад в. Мінчыкі.

**ЦМЯНІХА,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток р. Талька (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ, упадае ў Тальку за 2,5 км на ПдУ ад в. Мацеевічы. Збірае ваду з Мурашова балота.

**ЦНА,** рака ў Ляхавіцкім, Ганцавіцкім і Лунінецкім р-нах, левы прыток р. Прыпяць.

**Даўжыня 126 км.**
**Пл. вадазбору 1130 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,23 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 53 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Гайнінец Ляхавіцкага р-на, вусце за 4 км на Пд ад в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на. Асноўны прыток — Карыцінскі канал (справа). Рака цячэ па нізіне Прыпяцкае Палессе. Даліна да в. Велута і ніжэй ад в. Кажан-Гарадок (абедзве ў Лунінецкім р-не) невыразная, на астатнім працягу трапецападобная, шырынёй 1—2 км. Пойма двухбаковая, у Лунінецкім р-не каля в. Купаўцы, Бараўцы, Вічын, Дварэц аднабаковая (шырыня 0,5—1 км). Рэчышча ад вытоку на працягу 54 км каналізаванае, у ніжнім цячэнні моцназвілістае, шырынёй каля 10 м. Веснавое разводдзе пачынаецца ў сярэдзіне сакавіка і доўжыцца да сярэдзіны чэрвеня, найбольшая вышыня ўзроўню над межаннем 3,1 м. За 42 км ад вусця каля в. Дзятлавічы Лунінецкага р-на найбольшы расход вады 87,6 м$^3$/с (1970), найменшы 0,51 м$^3$/с (1969). Замярзае ў канцы снежня, крыгалом у сярэдзіне красавіка. Веснавы крыгаход каля 11 сутак. На рацэ г. Ганцавічы.

**ЦНА,** Чырвоная рэчка, рака ў Лагойскім, Барысаўскім і Смалявіцкім р-нах, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 66 км.**
**Пл. вадазбору 609 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 4,1 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Літвічы Лагойскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне в. Сутокі Смалявіцкага р-на. Асноўныя прытокі: Чарніца і Лавоша (справа). Цячэ па паўночна-ўсходняй частцы Мінскага ўзвышша. Даліна трапецападобная, месцамі не выражана; яе шырыня 1—2 км, найбольшая да 3,5 км. Схілы спадзістыя, вышынёй 10—20 м, у ніжнім цячэнні да 30 м, у вярхоўі зніжаюцца да 3 м. Пойма да в. Губа і ад в. Забярозаўка да вусця двухбаковая (шырыня 300—600 м). Рэчышча каналізаванае, акрамя ўчасткаў на працягу 14 км ад вытоку і 2 км перад вусцем, дзе яно слабазвілістае, зарастае. Рака замярзае ў канцы лістапада, крыгалом у сярэдзіне сакавіка, найвышэйшы ўзровень разводдзя ў пачатку красавіка. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЦНА,** рака ў Маладзечанскім і Вілейскім р-нах, правы прыток р. Уша (бас. Віліі).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 130 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля в. Рашаткі Маладзечанскага р-на, упадае ў Ушу вышэй вусця р. Нявежа, за 3 км на ПнУ ад в. Турэц-Баяры Маладзечанскага р-на. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЦНА,** Цнянка, рака ў Мінску і Мінскім р-не, левы прыток р. Свіслач (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 70 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 0,7 км на Пн ад в. Малінаўка, вусце за 0,3 км на ПдЗ ад в. Зацень. Рэчышча каналізаванае, акрамя ўчастка даўжынёй 0,5 км каля в. Цна-Едкава.

**ЦНО,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,57 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,9 м.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,85 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,7 км.**
**Аб'ём вады 0,74 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 452 км$^2$.**

У бас. р. Друйка (цячэ праз возера), за 1,5 км на У ад г. Браслаў. Уваходзіць у Браслаўскую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м, у ніжняй частцы разараныя, у верхняй занятыя сухадольным лугам і лесам. Берагі нізкія, забалочаныя і сплавінныя. Дно плоскае, сапрапелістае, пры ўпадзенні Друйкі — заіленыя пяскі. Востраў пл. 0,011 км$^2$. Моцна зарастае. Па возеры праходзіць турысцкі маршрут.

**ЦНЯНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** га-



Возера Цятна.



Цнцерынскае вадасховішча.

лаўное вадасховішча Сляпянскай воднай сістэмы ў Мінскім р-не.

**Пл. 0,94 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 1,5 км.**
**Найбольшая шырыня 1,4 км.**
**Аб'ём вады 2,1 млн. м³.**

Створана ў 1981 на паўночнай ускраіне Мінска для воднага добраўпарадкавання горада і як месца адпачынку гараджан. Наліўное: напаўняецца з вадасховішча Дразды па вадаводзе. Берагі пясчаныя, заходні і паўночна-заходні пад лесам. На працягу каля 2 км пляжы. Дно пясчанае. Востраў пл. 0,6 км². Моцнапраточнае. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 0,5 м. Даўжыня земляной плаціны 1,1 км.

**ЦУЛАКО́ЎКА,** рака ў Івацэвіцкім р-не, правы прыток р. Руднянка (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Падстарыны, упадае ў Руднянку на Пд ад в. Боркі. Рэчышча каналізаванае.

**ЦУ́ПЕРКА,** канал Цуперка, рака ў Жлобінскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Антонаўка Майскага сельсавета, вусце за 1,8 км на З ад в. Цупер. Рэчышча каналізаванае.

**ЦУРА́КІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бешанковіцкім р-не, левы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Слабада Сокараўскага сельсавета, вусце за 1,2 км на ПдУ ад в. Жданова.

**ЦЫГАНО́ВА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,24 км².**
**Даўжыня 1,87 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4 км.**

У бас. р. Лужаснянка, за 20 км на ПнЗ ад Віцебска, за 1 км на Пн ад в. Герасімова. Упадае ручай з воз. Лосвіда, выцякае р. Даўжанка.

**ЦЫТВЯ́НСКІ КАНА́Л,** Каробкавіцкі канал, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, левы прыток Скрыльскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Цытва, упадае ў Скрыльскі канал на паўночнай ускраіне в. Скрыль-Слабада.

**ЦЫТРА́НКА,** рака ў Чашніцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 7,8 км. Пачынаецца каля в. Забор'е, упадае ў Лукомскае возера з ПнЗ, за 0,7 км на ПнУ ад в. Гурэц. Рэчышча на працягу 1,5 км уверх ад вусця каналізаванае. Паміж вёскамі Новая Зара і Млын на рацэ плаціна і сажалка (пл. каля 20 га).

**ЦЭНТРЫ́ЦА,** рака, гл. *Пянтрыца.*

**ЦЭ́ПЕНЯЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іўеўскім р-не, правы прыток р. Дунай (бас. Нёмана). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 0,4 км на Пн ад в. Цэпеняты, упадае ў Дунай за 1 км на ПнЗ ад в. Такарышкі.

**ЦЭ́ПРА,** рака, гл. *Цапра.*

**ЦЮ́РЫНКА,** рака ў Глускім р-не, правы прыток р. Даколька (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Вайцяхова, вусце каля в. Клетнае. Рэчышча каналізаванае.

**ЦЯЛГЕ́НІЦА,** возера, гл. *Цеменіца.*

**ЦЯЛЕ́ЦКАЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,004 км².**
**Даўжыня 0,7 км.**
**Найбольшая шырыня 0,05 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**

У бас. р. Нішча, за 21 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 3 км на ПдЗ ад в. Вароніна. Катлавіна з невыразнымі схіламі размешчана сярод лесу.

**ЦЯЛУ́ШСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бабруйскім р-не, левы прыток р. Беліца (бас. Дняпра). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 0,6 км на З ад в. Міхалёва 3-е, упадае ў Беліцу за 1 км на З ад в. Цялуша.

**ЦЯЛЬЦЫ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Нішча, за 22 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на З ад в. Вароніна, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м, на Пн і ПнЗ невыразныя. Злучана ручаём з возерам без назвы.

**ЦЯЛЯ́ТНАЕ,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Свольна, за 25 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, каля мяжы з Латвіяй, за 4 км на Пн ад в. Чырвоны Бор. Размешчана сярод забалочанага лесу.

**ЦЯ́ПІНКА,** рака ў Чашніцкім р-не, правы прыток р. Ула (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 7 км. Пачынаецца каля в. Цяпіна, вусце каля в. Зарэчная Слабада. Прыток — р. Руцянка (справа). Рэчышча на працягу 5,7 км ад вытоку каналізаванае.

**ЦЯПЛУ́ХА,** рака, гл. *Паравалока.*

**ЦЯРУХА́,** рака ў Добрушскім і Гомельскім р-нах, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 57 км.**
**Пл. вадазбору 525 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад п. Альховае Добрушскага р-на, вусце за 4 км на З ад в. Цяруха Гомельскага р-на. Цячэ па ўсходняй ускраіне Гомельскага Палесся. Даліна пераважна выразная. Пойма двухбаковая (шырыня да 2 км), часткова асушаная. Рэчышча (шырыня да 10 м) на працягу 9 км ад вытоку і ад пункта за 2 км на ПнУ ад в. Будзішча да пункта за 1,5 км на ПдЗ ад в. Каралін Гомельскага р-на (27,1 км) каналізаванае. Берагі стромкія, вышынёй да 3 м. Найвышэйшы ўзровень разводдзя ў сярэдзіне 3-й дэкады сакавіка. Замярзае ў канцы 2-й дэкады снежня, крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Рака прымае сцёк меліярацыйных каналаў. Некалькі шлюзаў рэгулююць яе водны рэжым. Уздоўж ракі зона адпачынку Цяруха.

**ЦЯСНО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Старадарожскім і Любанскім р-нах, левы прыток Сцяжнога канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Прусы Старадарожскага р-на, вусце за 3 км на У ад в. Трайчаны Любанскага р-на.

**ЦЯ́ТНА,** возера ў Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 1,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,1 м.**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 1,2 км.**
**Пл. вадазбору 20,5 км².**

У бас. р. Ужыца (выцякае з возера), за 32 км на ПнУ ад г. Верхнядзвінска, за 2 км на У ад в. Дубровы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам і хмызняком. Берагі нізкія, забалочаныя і парослыя хмызняком. Упадае некалькі ручаёў.

**ЦЯТРА́НКА,** рака ў Карэліцкім р-не, левы прыток р. Уша (бас. Нёмана).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 134 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 4,1 ‰.**

Пачынаецца на З ад в. Лукі, цячэ па ўсходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Ушу каля в. Уша. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЦЯЦЕ́РАЎКА,** рака ў Валожынскім р-не, левы прыток р. Іслач (бас. Нёмана).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 26 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 10 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Шэлеўшчына, цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач за 1 км на ПнЗ ад в. Галімцы.

**ЦЯЦЕ́РКА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Найбольшая глыбіня 4 м.**
**Даўжыня 0,49 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,27 км.**
**Аб'ём вады 0,21 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,41 км².**

У бас. р. Вята, за 10 км на ПдЗ ад г. Міёры, каля в. Апанасенкі. Схілы катлавіны на ПнЗ нізкія, занятыя вярховым балотам, на Пд і ПдУ вышынёй 3—4 м. Берагі высокія, на ПнЗ і ПнУ абрывістыя, тарфяністыя, пад хмызняком. Дно сапрапелістае, у паўднёвай і паўднёва-ўсходняй частцы возера вузкая паласа пясчана-каменістых адкладаў. Зарастае.

**ЦЯЦЕ́РЫНСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Круглянскім р-не.

**Пл. 4,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,8 м.**
**Даўжыня 9,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 24,6 км.**
**Аб'ём вады 8,32 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 166 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 818 км².**



**Цяцерынскае вадасховішча.**

На р. Друць, паміж г. п. Круглае і в. Цяцерын. Створана ў 1955 для энергетычных мэт і рыбагадоўлі. Берагі нізкія. У падводнай частцы катлавіны вылучаюцца верхняя мелкаводная (глыбіні 0,5—1,5 м) і ніжняя глыбакаводная (больш за 3 м) часткі. Дно выслана ілам (90 %) і торфам. Моцна зарастае. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 0,9—1,1 м.

# Ч

**ЧА́БУСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 28 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Крываль, вусце за 1 км на Пн ад в. Нежын. Прыток — Азёрны канал (справа).

**ЧА́ЙКА,** рака ў Капыльскім р-не, правы прыток р. Мажа (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,4 км. Пачынаецца за 1 км на З ад в. Якубавічы, вусце каля в. Доўгае. За 0,5 км ад вусця ўверх на рацэ плаціна і сажалка пл. 19 га.

**ЧА́КВА,** рака на Украіне і ў Столінскім р-не, левы прыток р. Льва (бас. Прыпяці). Даўжыня 17,2 км, у тым ліку на Беларусі 13 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнУ ад в. Жадзень Дубровіцкага р-на Ровенскай вобл., упадае ў старычнае возера Семіжа з ПдЗ каля в. Струга Столінскага р-на. На тэрыторыі Украіны і далей на працягу 6 км на Беларусі рэчышча каналізаванае.

**ЧАЛЮ́ШЧАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Чалюшчавічы, вусце за 3 км на ПнЗ ад г. п. Капаткевічы.

**ЧАМЯЛЫ́НСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Івацэвіцкім р-не.

**Пл. 1,26 км².**
**Найбольшая глыбіня 1,8 м.**
**Даўжыня 2,4 км.**
**Найбольшая шырыня 1,25 км.**
**Аб'ём вады 1,83 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 375 млн. м³.**

Створана ў 1954 на пойме р. Шчара, за 14 км на ПнУ ад г. Івацэвічы, каля в. Чамялы для рыбагадоўлі. Даўжыня агараджальнай дамбы 5,1 км. Наліўное: напаўняецца вадой праз шлюзы Даманаўскага вадасховішча пры дапамозе помпавай станцыі.

**ЧАМЯЛЫ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, левы прыток канала «Даманаўскі» з меліярацыйнай сістэмы (бас. Нёмана). Даўжыня 5,1 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдЗ, вусце на У ад в. Чамялы.

**ЧАМЯРЫ́ЦА,** возера ў Чашніцкім р-не.

**Пл. 0,54 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 1,52 км.**
**Найбольшая шырыня 0,46 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,58 км.**
**Аб'ём вады 0,87 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 4,2 км².**

У бас. р. Лукомка (прыток Улы), за 26 км на ПдУ ад г. Чашнікі, за 1,5 км на З ад в. Антаполле. Схілы катлавіны вышынёй 4—7 м, абрываюцца ўступам вышынёй 1,5—2,5 м, на Пд разараныя, на Пн пад лесам. Берагі нізкія, сплавінныя, парослыя хмызняком. Пойма затарфаваная і парослая хмызняком, на Пн лесам. Дно сапрапелістае, на Пд вузкая паласа пясчаных адкладаў. Дно выслана падводнай расліннасцю. Выцякае ручай у воз. Чарэйскае.

**ЧА́ПА,** рака ў Барысаўскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 28,5 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Шабынькі, вусце за 1,5 км на У ад в. Восава Чарневіцкага сельсавета.



Чарапецкае возера.




Чарапецкае возера.

Прыток — р. Сыч (справа). Рэчышча на працягу 6,9 км уніз ад в. Шабынькі каналізаванае.

**ЧАПУНЬКА,** Ш ы л в е, рака ў Іўеўскім р-не, правы прыток р. Бярэзіна (бас. Нёмана).

**Даўжыня 38 км.**
**Пл. вадазбору 311 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,2 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца каля г. п. Юрацішкі, упадае ў Бярэзіну за 2,5 км на ПдУ ад в. Чапунь. Прытокі: Гарача, Сіма, Вярэнка. Даліна ў верхнім цячэнні слабавыразная, у сярэднім і ніжнім невыразная. Пойма забалочаная. Рэчышча на працягу 28,4 км ад вытоку каналізаванае, яго шырыня ў нізоўі да 12 м.

**ЧАРАБАМІ́РКА,** рака ў Кіраўскім р-не, правы прыток р. Друць (бас. Дняпра).

**Даўжыня 17 км.**
**Пл. вадазбору 60 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад в. Скачок, вусце за 1,8 км на ПдУ ад в. Чарабамір. Рэчышча на працягу 4,2 км (ад в. Зялёная Рошча да вусця) каналізаванае. Цячэ пераважна праз забалочаны лес.

**ЧАРАБА́САЎСКІ КАНА́Л,** Ч а р а б а с а ў к а, меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток р. Прыпяць. Даўжыня 32,2 км. Пачынаецца з Аграджальнага канала за 7,5 км на У ад в. Чырвоная Воля, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Намакрава.

**ЧАРАВА́ЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Клічаўскім р-не, правы прыток р. Нясета (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Арэхаўка, упадае ў Нясету ў в. Чаравач.

**ЧАРАВЕ́ЧАЕ,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,19 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,85 км.**

У бас. р. Ушача, на 3 ад г. п. Ушачы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, разараныя. На Пн і З забалочаная пойма шырынёй 50—70 м.

**ЧАРАМХА́,** канал Ч а р а м х а, рака ў Буда-Кашалёўскім р-не, левы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 83 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 0,5 км ад паўночнай ускраіны в. Мядзвядзёва, вусце за 5 км на ПдЗ ад в. Губічы. Рэчышча на працягу 15 км ад вытоку каналізаванае.

**ЧАРАПЕ́ЦІЦА,** рака, гл. *Чарапяціца.*

**ЧАРАПЕ́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** Ч а р п е ц к а е в о з е р а, Ч а р п е т, у Расонскім р-не.

**Пл. 2,03 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5 м.**
**Даўжыня 5,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,94 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 14,8 км.**
**Аб'ём вады 6,1 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 194 км$^2$.**

У бас. р. Нішча, за 6 км на Пн ад г. п. Расоны, за 2 км на ПнУ ад в. Глаты. Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 2—4 м, на Пд 5—9 м, на У да 15 м, пераважна пад лесам. Берагі нізкія, на ПнУ зліваюцца са схіламі. Мелкаводдзе пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 2,5—3 м. Праз возера цячэ р. Чарапяціца, якая злучае яго з азёрамі Мыленскае, Валькоўскае; упадае р. Рудня і 2 ручаі.

**ЧАРАПЯ́ЦІЦА,** Ч а р а п е ц і ц а, рака ў Расонскім р-не, левы прыток р. Нішча (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 359 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Выцякае з воз. Межава (у вярхоўі рака называецца М е ж а в а), за 0,5 км на У ад в. Межава. Цячэ ў межах Нешчардаўскага ўзвышша і Полацкай нізіны, праз азёры Мыленскае, Чарапецкае і Валькоўскае. Вусце за 3 км на ПнУ ад в. Юхавічы.

**ЧАРАША́НКА,** рака, гл. *Чарэшынка.*

**ЧАРБАМЫ́СЛА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,5 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 6,9 м.**
**Даўжыня 1,32 км.**
**Найбольшая шырыня 0,51 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,2 км.**
**Аб'ём вады 1,67 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 2 км$^2$.**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 48 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, у межах азёрнага заказніка Глыбокае-Чарбамысла (створаны ў 1979 г. для аховы аднайменных азёр і прылеглых прыродных комплексаў). Схілы катлавіны на Пн і З вышынёй 15—20 м, на У да 8 м, пад хваёвым лесам; на Пд да возера прымыкае вярховае балота. Берагі высокія, на З, Пн і У зліваюцца са схіламі, пясчаныя, на Пд тарфяныя. Дно да глыбіні 1,5—2 м выслана пяском і апясчаненым ілам, ніжэй сапрапелем. На глыбіні да 2 м расце рэдкі ахоўны від — палушнік азёрны, да 4—4,5 м імхі. Ёсць пасяленні баброў, водзяцца ракі.

**ЧАРВІ́НКА,** рака ў Сенненскім і Чашніцкім р-нах, правы прыток р. Усвейка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 23 км.**
**Пл. вадазбору 98 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Старая Беліца Сенненскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Баркі Чашніцкага р-на. Цячэ ў межах Аршанскага ўзвышша. Рэчышча ў верхнім і ніжнім цячэнні на працягу 14,3 км каналізаванае.

**ЧАРВЯ́ТКА,** Ч а р в я т а, возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 4,25 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,6 м.**
**Даўжыня 2,55 км.**
**Найбольшая шырыня 2,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,8 км.**
**Аб'ём вады 6,02 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 13,7 км$^2$.**

У бас. р. Палата, за 24 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на Пн ад в. Кулькі. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, параслі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, пад лесам і хмызняком. Дно сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 0,7—1 м. Злучана пратокай з воз. Галовец, выцякае ручай у р. Палата.

**ЧАРВЯТКА,** меліярацыйны канал у Полацкім р-не, левы прыток р. Палата (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5,6 км. Выцякае з воз. Чарвятка з Пн, за 4,8 км на ПнУ ад в. Затрасценне, вусце за 1,7 км на ПнУ ад в. Дзявічкі.

**ЧАРКЕ́СКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іўеўскім р-не, правы прыток р. Чапунька (бас. Нёмана). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Чаркесы, упадае ў Чапуньку за 1,2 км на Пд ад в. Папельнікі.

**ЧАРА́ЯНКА,** меліярацыйны канал на мяжы Дзятлаўскага і Мастоўскага р-наў, левы прыток р. Чарняўка (бас. Нёмана). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля в. Воля-Крупіцы Мастоўскага р-на, упадае ў Чарняўку каля в. Руда Ліпічанская Мастоўскага р-на.

**ЧАРМІ́СЦА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Страдань (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад чыг. ст. Дрэтунь, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Конны Бор. Цячэ па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЧАРМІ́СЦА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,22 км².**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,5 км.**
**Пл. вадазбору 25,2 км².**

У бас. р. Палата, за 36 км на ПнУ ад Полацка, за 3 км на Пн ад в. Дрэтунь, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя, берагі забалочаныя. Выцякае ручай у воз. Дрэтунь.

**ЧА́РНА,** рака, гл. *Паловец.*

**ЧАРНАБЕ́РКА,** рака ў Чачэрскім р-не, левы прыток р. Дзявіца (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 2,5 км на У ад п. Баброўскі ва ўрочышчы Бокава, вусце за 0,5 км на У ад в. Салтанаўка. Па берагах ракі забалочаны лес.

**ЧАРНАВО́ДКА,** Альхоўка, Вабіч, Левы Вабіч, рака ў Шклоўскім р-не, левы прыток р. Вабіч (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 83 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца з Безназоўнага возера, вусце ў в. Ступляны. Рэчышча на працягу 8,6 км (ад в. Рамшына да вусця) каналізаванае.

**ЧАРНАВУ́ТКА,** рака ў Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Чарняўка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на У ад в. Рвенск, вусце ў в. Саматэвічы. Рэчышча на працягу 6,9 км ад вытоку каналізаванае.

**ЧАРНАГО́СНІЦА,** рака ў Бешанковіцкім р-не, левы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 7 км.**
**Пл. вадазбору 185 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,6 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Выцякае з Астровенскага возера з ПнУ, за 1 км на З ад в. Дуброва, вусце каля в. Будзілава. Рэчышча ад вытоку на працягу 2,3 км каналізаванае, далей звілістае, шырынёй 5—6 м.

**ЧАРНАРУ́Ч,** рака ў Мінскім р-не, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца на У ад в. Жукі (у вярхоўі перасыхае), цячэ ў межах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач за 1,5 км на Пн ад в. Аксакаўшчына. У нізоўі на рацэ створаны сажалкі, на маляўнічых берагах размяшчаюцца піянерскія лагеры, за 0,6 км на ПнЗ ад вусця санаторый «Аксакаўшчына».

**ЧАРНАТО́ПКА,** ручай у Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Чорная Натапа (бас. Дняпра). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца ў паўночнай частцы в. Валоўнікі, вусце на мяжы з Крычаўскім р-нам, за 1,5 км на Пд ад гэтай вёскі. Рэчышча на працягу 1,5 км перад вусцем каналізаванае. У в. Валоўнікі на рацэ плаціна і сажалка.

**ЧАРНА́ЎКА,** рака ў Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 32 км.**
**Пл. вадазбору 220 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Выцякае з воз. Чарнова, за 0,5 км на Пн ад в. Касцянава Гарадоцкага р-на, цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша і Полацкай нізіны, праз воз. Малое Чарнова. Вусце каля в. Скаціца Шумілінскага р-на. Асноўны прыток — р. Бярноўка (справа). Даліна ў вярхоўі вузкая (шырыня 150—200 м), у сярэднім і ніжнім цячэнні невыразная, пойма двухбаковая. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 8,4 км каналізаванае (шырыня да 5 м, у вусці да 12 м).

**ЧА́РНЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,08 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Друйка, за 20 км на Пн ад г. Браслаў, за 0,8 км на ПнУ ад в. Мацюлішкі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м, часткова пад хмызняком. Вакол возера ўвільготненая пойма.

**ЧАРНЕ́ЙКА,** Чарняўка, рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 72 км².**




Возера Чарвятка.

**Сярэдні нахіл воднай паверхні 7,1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Чорнае, вусце за 3,7 км на ПнЗ ад в. Фядоценкі. Цячэ ў межах Полацкай нізіны па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЧАРНЕ́Ц,** Копань, рака на мяжы Гарадоцкага р-на і Пскоўскай вобл., у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 22 км.**
**Пл. вадазбору 132 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 3 км на ПнЗ ад в. Ключагорская Гарадоцкага р-на, цячэ праз воз.Існа, упадае ў воз. Вялікае Свіно з Пн, каля в. Чухіліна Гарадоцкага р-на. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЧАРНЕ́Ц,** рака ў Гарадоцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 11 км. Выцякае з воз. Доўгае, за 2,3 км на ПнУ ад в. Асмата, вусце за 0,7 км на З ад в. Прудок (упадае ў р. Пруднiца даўжынёй 2 км). Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша. Рэчышча ад вытоку на працягу 4,2 км каналізаванае.

**ЧАРНІ́ЦА,** рака ў Смаленскай вобл. і Лёзненскім р-не, правы прыток р. Лучоса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 74 км.**
**Пл. вадазбору 775 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 5 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Ваўкі Руднянскага р-на Смаленскай вобл., вусце каля в. Бабінавічы Лёзненскага р-на. Цячэ ў межах Віцебскага ўзвышша (на Беларусі даўжыня 70 км, пл. вадазбору каля 700 км²). Асноўныя прытокі: Ціхута, Зааль-

Даўжыня берагавой лініі 17,8 км.
Аб'ём вады 22,91 млн. м³.
Пл. вадазбору 22,5 км².

У бас. р. Чарнаўка (выцякае з возера), за 13 км на ПнЗ ад г. Гарадок, каля в. Лыска. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м (на Пн 12—16 м), пад хмызняком, на ПдЗ забалочаныя, аблесеныя. Берагі высокія, пясчаныя, параслі хмызняком, на Пн месцамі абразійныя. Дно ілістае, на водмелях уздоўж берагоў і каля астравоў пясчанае, месцамі заіленае. 5 невялікіх астравоў агульнай пл. 0,6 га. Шырыня паласы надводнай расліннасці вагаецца ад 10 да 150 м. Упадаюць 5 ручаёў.

**ЧАРНО́ЎКА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,14 км².
Найбольшая глыбіня 10,7 м.
Даўжыня 0,72 км.
Найбольшая шырыня 0,28 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,78 км.
Аб'ём вады 0,51 млн. м³.
Пл. вадазбору 63,3 км².

У бас. р. Обаль, за 27 км на ПнЗ ад г. Гарадок, на Пд ад в. Смароднік. Схілы катлавіны вышынёй 9—12 м, параслі лесам; на вышыні 1,6 м тэраса. Берагі нізкія, пясчаныя, забалочаныя, пад хмызняком. Дно ілістае, на мелкаводдзі пясчанае. Востраў пл. 0,1 га. Зарастае да глыбіні 2 м. Надводная расліннасць пашырана да глыбіні 1—1,5 м. Праз возера цячэ р. Чарнуйка.

**ЧАРНО́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Петрыкаўскім р-не.

Пл. 0,3 км².
Даўжыня 2,9 км.
Найбольшая шырыня 0,1 км.
Даўжыня берагавой лініі 6 км.

На пойме р. Прыпяць, за 5 км на ПдУ ад г. Петрыкаў, за 1,5 м на ПнЗ ад в. Чарноцкае. Старычнае. Берагі возера высокія, пясчаныя, на У абразійныя, пад хмызняком.

**ЧАРНУ́ЙК,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,06 км².
Даўжыня 0,37 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,15 км.

У бас. р. Палата, за 48 км на ПнУ ад Полацка, за 4,6 км на ПнУ ад в. Вялікае Сітна, сярод балота. Пойма шырынёй 75—100 м. Упадае ручай з воз. Барсукі, выцякае ручай у воз. Макачы.

**ЧАРНУ́ЙКА,** Чарнушка, рака ў Гарадоцкім р-не, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 23 км.
Пл. вадазбору 97 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,1 ‰.

Пачынаецца за 0,5 км на ПнЗ ад в. Пershaмайка, вусце за 0,7 км на У ад в. Воўкава. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша.

**ЧАРНУ́ХА,** рака ў Гродзенскім р-не, правы прыток р. Гожка (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца сярод лесу, за 3 км на ПдЗ ад в. Рыбніца, упадае ў Гожку каля в. Гумбачы. Рэчышча на працягу 6,5 км перад вусцем каналізаванае.

**ЧАРНУ́ХА,** ручай у Чашніцкім р-не, правы прыток р. Усвейка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 3,8 км. Выцякае з воз. Жэрынскае, за 0,5 км на Пд ад в. Баравыя, цячэ праз воз. Святое, вусце за 1,7 км на Пд ад в. Вішкавічы. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНУ́ШКА,** рака ў Чавускім р-не, левы прыток р. Вілейка (бас. Дняпра). Даўжыня 7,6 км. Пачынаецца каля в. Лапені, каля в. Юшкавічы ўпадае ў сажалку, якая ўтворана плацінай на р. Вілейка. Рэчышча каналізаванае на працягу 7,5 км, акрамя ўчастка каля вытоку.

**ЧАРНУ́ШКА,** рака, гл. *Чарнуйка.*

**ЧАРНЯКО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток Бачэвінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 2 км на ПнЗ ад в. Вялікія Ляскавічы, вусце за 2 км на Пд ад в. Батарэя.

**ЧАРНЯ́НКА,** рака, гл. *Чарняўка.*

**ЧАРНЯ́СТА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 1,9 км².
Найбольшая глыбіня 9 м.
Даўжыня 2,1 км.
Найбольшая шырыня 1,43 км.
Даўжыня берагавой лініі 8,4 км.
Аб'ём вады 9,4 млн. м³.
Пл. вадазбору 275 км².

У бас. р. Ловаць (цячэ праз возера), за 40 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2 км на ПнУ ад в. Мяжа. Схілы катлавіны на У вышынёй 15—20 м, на З нізкія, пераважна пад лесам, месцамі разараныя. Берагі параслі водна-балотнай і хмызняковай расліннасцю. Востраў пл. 0,8 га. Дно да глыбіні 2—3 м пясчанае, ніжэй ілістае. Расліннасць пашырана да глыбіні 1,2 м. Упадаюць 2 ручаі.

**ЧАРНЯ́ЎКА,** рака ў Мінскім р-не, у бас. Дняпра.

Даўжыня 24 км.
Пл. вадазбору 108 км².
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,6 ‰.

Пачынаецца на паўднёвай ускраіне в. Мацкі, упадае ў Заслаўскае вадасховішча на паўднёвай ускраіне в. Сёмкава. Рэчышча на працягу 3 км перад в. Буцэвічы, ніжэй моста на аўтадарозе Радашковічы — Камсамолец (5 км) і на працягу 0,4 км каля в. Сялюты каналізаванае. На рацэ каля вёсак Юзуфова і Сялюты 2 плаціны і сажалкі.

**ЧАРНЯ́ЎКА,** рака ў Бярозаўскім р-не, левы прыток канала Вінец (бас. Прыпяці).

Даўжыня 20,8 км.
Пл. вадазбору 76 км².




Возера Чарноўка.




Возера Чарняста.

Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,83 ‰.

Пачынаецца за 0,7 км на ПдЗ ад в. Варажбіты (паводле некаторых даведнікаў, пачынаецца на Пн ад в. Ка-




Чаросава возера.




Чарсвяцкае возера.

бакі і даўжыня яе 12 км), вусце за 1,5 км на Пд ад в. Равяцічы. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** П е р а с у х а, Б я с і т а, рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Гутлянка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 95 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1 ‰.**

Пачынаецца каля ўсходняй ускраіны в. Доўгае, вусце за 1 км на Пд ад в. Вець. Рэчышча на працягу 7,7 км ад вытоку да в. Дружба і ніжэй аўтадарогі Магілёў — Доўск (3 км) каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Дзятлаўскім і Шчучынскім р-нах, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня [illegible] км.**
**Пл. вадазбору 118 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на У ад хутара Пад'яварка Дзятлаўскага р-на, цячэ праз лясныя ўрочышчы Воступ, Цеафілін і інш., упадае ў Нёман за 1 км на ПнЗ ад в. Зачэпічы Шчучынскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Касцюковіцкім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 17 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Рвенск, вусце за 0,5 км на ПдУ ад в. Кісялёўка. Прыток — р. Чарнавутка. У вярхоўі рака часткова каналізаваная.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Гарадоцкім і Шумілінскім р-нах, левы прыток р. Обаль (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 48 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Мядзведзева Гарадоцкага р-на, вусце каля в. Рыбчына Шумілінскага р-на. Цячэ ў межах Полацкай нізіны, верхняе цячэнне ў забалочанай, лясістай мясцовасці. Прыток — р. Гразнуха (злева). Рэчышча на працягу 8,2 км уверх ад вусця каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Чэрвеньскім р-не, правы прыток р. Балачанка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 146 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Язаўка, вусце за 2 км на ПдУ ад в. Усохі. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Лідскім р-не, правы прыток р. Дзітва (бас. Нёмана).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 115 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца на У ад в. Бабоўцы, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Дзітву за 1 км на ПнЗ ад в. Дзітрыкі. Рэчышча на працягу 9,3 км ад вытоку каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** Ч а р н е в а, рака ў Магілёўскім і Чавускім р-нах, правы прыток р. Рудзея (бас. Дняпра).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 64 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Шчэжар 1-ы Магілёўскага р-на, на ўсходняй ускраіне в. Гародня. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Быхаўскім р-не, правы прыток р. Старая Ухлясць (бас. Дняпра). Даўжыня 12 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Баркалабава, вусце за 0,8 км на З ад п. Салаўіха. Рэчышча каналізаванае. Цячэ па меліяраванай пойме Дняпра.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток р. Рыбчанка (бас. Віліі). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 0,5 км на ПдУ ад в. Залессе, упадае ў Рыбчанку на Пн ад г. п. Радашковічы. Цячэ па Мінскім узвышшы. Рэчышча на працягу 3,2 км перад вусцем каналізаванае. Каля в. Дзякшняны створана сажалка (пл. 0,13 км²).

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Слонімскім р-не, правы прыток р. Шчара (бас. Нёмана). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Савічы, упадае ў Шчару за 1,6 км на ПнУ ад в. Русакова. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Чавускім р-не, правы прыток р. Ржаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 8,4 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Ісакава Буда, вусце за 0,5 км на ПдЗ ад в. Ваўкавічы. Рэчышча ад вытоку на працягу 6,3 км каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака ў Лагойскім р-не, левы прыток р. Гайна (бас. Дняпра). Даўжыня 6 км. Пачынаецца на ўсх. ускраіне в. Прудкі, вусце за 1 км на Пд ад в. Чырвоны Бор. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** Ч а р н я н к а, рака ў Вілейскім р-не, правы прыток р. Жучок (бас. Віліі). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 0,6 км на ПнЗ ад в. Зачарная, упадае ў р. Жучок за 1,2 км на З ад в. Шчокаўшчына. Рэчышча на працягу 2,1 км у сярэднім цячэнні каналізаванае.

**ЧАРНЯЎКА,** рака, гл. *Тонва.*

**ЧАРНЯЎКА,** рака, гл. *Трасцянка.*

**ЧАРНЯЎКА,** рака, гл. *Чорная.*

**ЧАРНЯЎКА,** рака, гл. *Яршоўка.*

**ЧАРОМХА,** рака ў Глускім р-не, левы прыток р. Ліса (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,03 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Нязнанне, вусце каля в. Прыплавы.

**ЧАРОНКА,** рака, гл. *Стуканаўка.*

**ЧАРОСАВА ВОЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,52 км².**
**Найбольшая глыбіня 12,2 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,74 км.**
**Аб'ём вады 3,34 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 13,3 км².**

У бас. р. Дзіва, за 20 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Чаросава. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на У да 15 м), пад лесам, на З і Пд разараныя і пад хмызняком. Берагі вышынёй 0,5—0,8 м, месцамі зліваюцца са схіламі, пясчаныя. Дно да глыбіні 3—4 м пясчанае, ніжэй ілістае. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 10—120 м. Упадаюць ручаі са Школьнага і Дзявочага азёр, выцякае ручай у воз. Астроўна.

**ЧАРПАКОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 11,6 км. Пачынаецца з канала на меліярацыйнай сістэме «Вярхоўе Ясельды», за 1,5 км на Пн ад в. Клепачы Мокраўскага сельсавета, вусце за 0,7 км на ПнУ ад в. Труханавічы. У ніжнім цячэнні канал праходзіць па старым рэчышчы р. Ясельда.

**ЧАРПЕ́Т,** возера, гл. *Чарапецкае возера.*

**ЧАРПЕ́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** гл. *Чарапецкае возера.*

**ЧАРСЦВЯ́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА,** Чарсцвяты, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 9,35 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,3 м.**
**Даўжыня 6,9 км.**
**Найбольшая шырыня 2,5 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 19,2 км.**
**Аб'ём вады 20,7 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 152 км².**

У бас. р. Дзіва, за 15 км на У ад г. п. Ушачы, каля в. Слабада. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—10 м (на Пд і З 10—18 м), на З і ПдЗ тэрасаваныя. Берагі нізкія, паступова пераходзяць у вузкую забалочаную пойму. Дно да глыбіні 0,5—1 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. 8 астравоў пл. 0,8 км². Шырыня паласы надводнай расліннасці ад 20 м да 200 м. Упадае р. Выдрыца і 3 ручаі, выцякае ручай у воз. Павульскае.

**ЧАРТО́ВА,** возера ў Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,11 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,1 км.**

У бас. р. Сламянка, за 37 км на ПнУ ад Гродна, за 3 км на У ад Вераўскага возера, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі вышынёй да 0,5 км. Выцякае ручай у воз. Кальніца.

**ЧАРТО́ВА,** возера ў Расонскім р-не. У бас. р. Свольна, за 23 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 0,25 км на ПнУ ад воз. Плацічнае. Пл. 0,002 км². Акруглая катлавіна (50 × 50 м) ляжыць сярод лесу.

**ЧАРТО́ЎКА,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Палата (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Замхі, вусце каля в. Янкава. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАРТО́ЎСКАЕ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,05 км.**

У бас. р. Дрысвята, за 14 км на З ад г. Браслаў, за 2,5 км на ПдУ ад в. Мяжаны. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, разараныя. Пойма забалочаная, шырынёй 100—250 м, парослая хмызняком. Упадае ручай з воз. Глушанок, выцякае ручай у воз. Муйса.




**Чарсцвяцкае возера.**



**Чарсцвяцкае возера.**



Возера Чарты.



Чарэйскае возера.



Чорнае возера.

**ЧАРТО́ЎСКІ ВІР,** Чартоў Вір, Ястрабельскае возера, у Столінскім р-не.

**Пл. 0,26 км².**
**Даўжыня 4,55 км.**
**Найбольшая шырыня 0,07 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 9,2 км.**

У бас. р. Прыпяць, за 25 км на ПнУ ад г. Столін, за 5 км на ПнУ ад в. Магільнае. Схілы невыразныя. Старычнае.

**ЧАРТЫ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,29 км².**
**Даўжыня 1,18 км.**
**Найбольшая шырыня 0,38 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Пл. вадазбору 4,75 км².**

У бас. р. Паловіца, за 8 км на ПнУ ад г. Паставы, каля в. Чарты. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, разараныя, на Пд пад хмызняком. Востраў пл. 0,5 га. Выцякае ручай у воз. Тусьба.





Чарэйскае возера.



Чарэйскае возера.

**ЧАРЦІ́ЖСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Маларыцкім р-не, левы прыток р. Рыта (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад в. Ляхаўцы, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Кожух.

**ЧАРЭ́ЙСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Чарэя, у Чашніцкім р-не.

**Пл. 3,38 км².**
**Найбольшая глыбіня 17 м.**
**Даўжыня 6,71 км.**
**Найбольшая шырыня 1,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 17,3 км.**
**Аб'ём вады 18,96 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 17 км².**

У бас. р. Лукомка, за 26 км на ПдУ ад г. Чашнікі, каля в. Чарэя. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м (на Пд да 18 м), разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком, месцамі на Пн, ПнЗ і З зліваюцца са схіламі, абрывістыя, абразійныя, на Пд і ПдУ сплавінныя. Дно ў прыбярэжнай частцы выслана глінай, пясчанымі і пясчана-ілістымі адкладамі, глыбей — ілам. У цэнтры востраў пл. 0,02 км². Зарастае да глыбіні 4 м. Злучана пратокай з азёрамі Галаўня і Чамярыца, упадаюць больш за 10 ручаёў і меліярацыйных каналаў, выцякае ручай у воз. Родамля.

**ЧАРЭ́ШЛІ,** Чарэшля, возера ў Навагрудскім р-не.

**Пл. 0,45 км².**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,45 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.**

У бас. р. Нёман, за 24 км на Пн ад г. Навагрудак, каля в. Чарэшля. Заходнія схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лугам, усходнія — да 8 м, параслі лесам. Праз возера цячэ р. Бярозка.

**ЧАРЭ́ШЫНКА,** Баброўка, Чарашанка, Шарашанка, рака ў Пру-

жанскім р-не, левы прыток р. Ружанка (бас. Немана). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца сярод лесу за 1,2 км на ПдЗ ад в. Клепачы, упадае ў Ружанку за 2 км на ПдЗ ад в. Бярэзніца. Рэчышча на працягу 4,3 км ад сажалкі каля в. Клепачы (пл. 0,15 км²) да вусця каналізаванае.

**ЧАЧАВЕ́Ц,** рака ў Хоцімскім р-не, правы прыток р. Беседзь (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ ад в. Разальмоў, вусце ў в. Боханы. Рэчышча каналізаванае.

**ЧАЧАЛЁЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

**Пл. 0,53 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,3 м.**
**Даўжыня 1,14 км.**
**Найбольшая шырыня 0,61 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,3 км.**
**Аб'ём вады 1,19 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 64,5 км².**

У бас. р. Дзісна, за 3,5 км на ПдУ ад г. Глыбокае, каля в. Чачалі. Схілы катлавіны разараныя, на Пн і ПнУ вышынёй 5—8 м, пясчаныя, парослыя хмызняком, месцамі забалочаныя. Дно выслана гліністым ілам і сапрапелем. Зарастае да глыбіні 2,3 м. Праз возера цячэ р. Аржаніца, на Пн упадае ручай з воз. Белае.

**ЧАЧО́РА,** рака ў Кармянскім, Буда-Кашалёўскім і Чачэрскім р-нах, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 56 км.**
**Пл. вадазбору 551 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,2 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Лёсавая Буда Кармянскага р-на, вусце на ўсходняй ускраіне г. Чачэрск. Асноўныя прытокі Дулепа, Любіца (справа) і Глыбокая (злева). Цячэ па Прыдняпроўскай нізіне. Даліна ў верхнім цячэнні невыразная, шырынёй 0,5—0,6 км. Схілы пераважна адкрытыя, умерана стромкія і спадзістыя; іх вышыня 7—10 м, месцамі да 15 м. Пойма двухбаковая (шырыня 200—500 м), асушаная, лугавая, асобныя ўчасткі парaслі хмызняком. Рэчышча каналізаванае; яго шырыня 3—6 м у верхнім цячэнні, 7—10 м у сярэднім і да 15 м у ніжнім. Берагі вышынёй 1—1,5 м. На рацэ вадасховішча Меркулавічы. Разводдзе звычайна з 2-й дэкады сакавіка да пачатку 3-й дэкады красавіка. Прымае сцёк з сеткі меліярацыйных каналаў.

**ЧАЧО́РА,** рака ў Добрушскім р-не, левы прыток р. Харапуць (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 1 км на Пн ад в. Перарост, вусце за 1,5 км на ПнУ ад в. Агародня. Рэчышча ад вытоку на працягу 4 км каналізаванае.

**ЧАЧО́РА,** вадасховішча ў Буда-Кашалёўскім р-не.

**Пл. 0,77 км².**
**Найбольшая глыбіня 3 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Аб'ём вады 1,17 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 51,1 км².**

У даліне каналізаванага ўчастка р. Дулепа, за 26 км на Пн ад г. Буда-Кашалёў, каля в. Выдрыца. Створана ў 1977 для арашэння зямель і рэкрэацыі. Чаша вадасховішча — частка поймы Дулепы. Дно выслана торфам і пяском. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 1,5 м.

**ЧАЧЭ́НСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, левы прыток




**Чачалёўскае возера.**

р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,1 км. Пачынаецца за 4 км на ПдЗ ад в. Пласток, вусце за 5 км на ПдУ ад в. Рэдкавічы.

**ЧО́РНАЕ БАЛО́ТА,** возера ў Шумілінскім р-не.

**Пл. 0,14 км².**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,5 км.**

У бас. р. Сечна, за 6 км на ПдЗ ад г. п. Шуміліна, за 1 км на Пд ад в. Мерзлякі (1 км на Пн ад Дабееўскага возера), сярод асушанага балота (вядуцца торфараспрацоўкі). Абкружана хмызняком.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бярозаўскім р-не.

**Пл. 17,3 км².**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 6,4 км.**



**Чорнае возера (Бярозаўскі раён).**



Чорнае возера (Пастаўскі раён).

Найбольшая шырыня 3,4 км.
Аб'ём вады 22,5 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 539 $км^2$.

У бас. р. Жыгулянка (цячэ праз возера), за 17 км на ПдУ ад г. Бяроза, за 2,5 км на З ад г. Белаазерск. Схілы катлавіны вышынёй да 4 м, параслі лугавой і балотнай расліннасцю, часткова лесам. Берагі нізкія, забалочаныя. Дно плоскае, сапрапелістае. Зарастае па ўсёй плошчы. Упадаюць некалькі каналаў і ручаёў.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не, на мяжы з Пскоўскай вобл.

Пл. 1,56 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 2,83 км.
Найбольшая шырыня 0,78 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,6 км.
Аб'ём вады 1,6 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 4,49 $км^2$.

У бас. р. Обаль, за 40 км на Пн ад г. Гарадок, за 4 км на З ад г. п. Езярышча. Схілы катлавіны на Пд вышынёй да 30 м, на ПнЗ 5—7 м, пад лесам. Берагі пераважна сплавінныя, на Пд, ПдУ і ПнЗ нізкія, пясчаныя і тарфяністыя. Пойма шырынёй ад 50 м да 300 м, месцамі забалочаная, парослая лесам. Дно плоскае, сапрапелістае. Востраў пл. 0,1 га. Зарастае па ўсёй плошчы. Выцякае ручай Чарнуля (злучае яго з воз. Іса).

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

Пл. 0,7 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 3,7 м.
Даўжыня 1,8 км.
Найбольшая шырыня 0,86 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,9 км.
Аб'ём вады 1,25 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 23,5 $км^2$.

У бас. р. Дзісна, за 18 км на ПдУ ад г. Міёры, у межах гідралагічнага заказніка Ельня. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі нізкія, пясчаныя, забалочаныя. Дно плоскае, у заходняй частцы тарфяністае, ва ўсходняй пясчана-камяністае, у цэнтры сапрапелістае. Слаба зарастае. Упадае пратока з воз. Ельня, выцякае р. Яльнянка.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бялыніцкім р-не.

Пл. 0,57 $км^2$.
Даўжыня 1,17 км.
Найбольшая шырыня 0,7 км.
Даўжыня берагавой лініі 3 км.
Пл. вадазбору 14,2 $км^2$.

У бас. р. Аслік, за 15 км на ПдЗ ад г. Бялынічы, за 1,5 км на Пд в. Гордава, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Берагі забалочаныя.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,4 $км^2$.
Даўжыня 1 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.

У бас. р. Дахнарка, за 8 км на Пн ад Полацка, каля в. Гендзікі. Схілы катлавіны вышынёй 1—2 м, пад лесам, на Пн пад хмызняком. Злучана пратокай з воз. Белае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,4 $км^2$.
Даўжыня 1,2 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 3 км.
Пл. вадазбору 2,12 $км^2$.

У бас. р. Званіца, за 22 км на ПнЗ ад Полацка, каля в. Лагуны. Схілы катлавіны вышынёй да 25 м, пад хмызняком.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

Пл. 0,36 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 31,5 м.
Даўжыня 1,5 км.
Найбольшая шырыня 0,5 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,83 км.
Аб'ём вады 2,96 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 9,39 $км^2$.

У бас. р. Галбіца, за 27 км на У ад г. Паставы, каля в. Чорнае. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, пад хмызняком і лугам, участкамі на У і З разараныя. Берагі нізкія, пясчана-тарфяністыя, на ПнУ і ПдЗ забалочаныя. Дно да глыбіні 5 м пясчанае, ніжэй ілістае. Зарастае ўздоўж берагоў і на мелкаводдзі паміж плёсамі. Упадае ручай, выцякае ручай у р. Чэртка.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Лунінецкім р-не.

Пл. 0,31 $км^2$.
Даўжыня 0,68 км.
Найбольшая шырыня 0,6 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.

У бас. р. Цна, за 12 км на ПнЗ ад г. Лунінец, за 5 км на ПдЗ ад в. Бостынь. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, пад лесам. Берагі нізкія, забалочаныя. Дно сапрапелістае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Докшыцкім р-не.

Пл. 0,28 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 2,4 м.
Даўжыня 0,66 км.
Найбольшая шырыня 0,64 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,04 км.
Аб'ём вады 0,38 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 5,9 $км^2$.

У бас. р. Патачанка, за 26 км на З ад г. Докшыцы, за 1 км на Пд ад в. Замошша. Схілы катлавіны невыразныя. Дно сапрапелістае. Зарасло. Меліярацыйнай канавай злучана з воз. Станіслаўскае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не, на мяжы з Латвіяй.

Пл. 0,2 $км^2$.
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,9 км.
Пл. вадазбору 12,5 $км^2$.

У бас. р. Росіца (цячэ праз возера), за 24 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, за 1,5 км на З ад в. Крывасельцы. Злучана канавай з воз. Белае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

Пл. 0,14 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 4 м.
Даўжыня 0,98 км.
Найбольшая шырыня 0,23 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,28 км.
Аб'ём вады 0,33 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 3,2 $км^2$.

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 25 км на ПдУ ад г. Чашнікі, каля в. Белая Цэрква. Схілы катлавіны вышынёй 5—9 м, параслі лесам, на Пд пад сухадольным лугам. Берагі сплавінныя, параслі воднай і водна-балотнай расліннасцю. Пойма на Пд і Пн шырынёй да 100 м, месцамі забалочаная і пад хмызняком. Дно сапрапелістае. Да 85 % пл. возера зарастае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Бешанковіцкім р-не.

Пл. 0,11 $км^2$.
Даўжыня 0,75 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,65 км.

У бас. р. Свяча, за 11 км на З ад г. п. Бешанковічы, на Пд ад в. Слабодка. Схілы катлавіны вышынёй да 6 м, пад хмызняком. Берагі зліваюцца са схіламі. Выцякае ручай у воз. Слабодскае.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Полацкім р-не.

Пл. 0,11 $км^2$.
Даўжыня 0,58 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,32 км.

У бас. р. Дрыса, за 24 км на ПнУ ад Полацка, каля в. Чорнае. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, разараныя, на Пд параслі хмызняком. Выцякае ручай Чорны.

**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Брэсцкім р-не.

Пл. 0,1 $км^2$.
Найбольшая глыбіня 7,5 м.
Даўжыня 0,43 км.
Найбольшая шырыня 0,33 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.
Аб'ём вады 0,35 млн. $м^3$.
Пл. вадазбору 0,83 $км^2$.

У бас. р. Серадовая Рэчка (прыток Буга), за 30 км на Пд ад Брэста, за 2,5 км на ПнУ ад в. Дубіца. Берагі нізкія, забалочаныя, параслі лесам. Каля паўднёвага берага сплавіна шы-

рынёй да 6 м. Дно сапрапелістае. Слаба зарастае. Злучана каналам з Белым возерам.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,35 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,7 км.**

У бас. Зах. Дзвіны, за 12 км на ПнЗ ад Полацка, за 1 км на З ад в. Гваздова. Схілы катлавіны невыразныя, вакол возера часткова забалочаны лес.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,97 км.**

У бас. р. Вята, за 15 км на ПдЗ ад г. Міёры, за 1 км на ПдУ ад в. Воўкаўшчына, сярод балота. Упадае ручай з возера без назвы, выцякае ручай у воз. Вісяты.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Гродзенскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,62 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,27 км.**

У бас. р. Пыранка, за 28 км на ПнУ ад Гродна, за 1 км на ПнУ ад в. Дзертніца, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй ад 3 м да 12 м.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не, на водападзеле рэк Дрыса і Палата, за 31 км на ПдУ ад г. п. Расоны, за 3 км на ПдУ ад в. Вялікія Асёткі. Пл. 0,06 км². Круглая катлавіна (0,3 км у дыяметры) размешчана сярод вялікага балотнага масіву.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Верхнядзвінскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.**

У бас. р. Росіца, за 20 км на ПнЗ ад г. Верхнядзвінск, каля в. Юльянова, сярод лесу. Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, на Пн і Пд забалочаная пойма. Злучана ручаём з азёрамі Круглае і Доўгае, выцякае ручай у р. Росіца.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,05 км².**
**Даўжыня 0,42 км.**
**Найбольшая шырыня 0,21 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Мядзелка, на паўночна-заходняй ускраіне г. Паставы, у забалочаным паніжэнні.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,28 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,75 км.**

У бас. р. Нішча, за 19 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 2,5 км на Пн ад в. Лямно, сярод лесу. Схілы катлавіны невыразныя, уздоўж заходняга берага балота.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,33 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,77 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 37 км на ПнУ ад Полацка, за 4 км на ПдЗ ад в. Труды, сярод забалочанага хмызняку.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,23 км.**
**Найбольшая шырыня 0,15 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,63 км.**

У бас. р. Вята, за 10 км на З ад г. Міёры, за 3,5 км на У ад в. Перабродդзе, у межах гідралагічнага заказніка Балота Мох. Злучана ручаём з р. Галчыца.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,55 км.**

У бас. р. Вята, за 12 км на ПнЗ ад г. Міёры, за 1,4 км на ПдУ ад в. Казакова. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м, пад лесам. Вакол возера забалочаная пойма шырынёй 25—75 м.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Полацкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,21 км.**
**Найбольшая шырыня 0,11 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,52 км.**

У бас. р. Дражбітка, за 32 км на ПнУ ад Полацка, за 10 км на ПдЗ ад в. Труды. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м, пад лесам, на Пн забалочаны хмызняк.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,4 км.**

У бас. р. Дрыса, за 34 км на У ад г. п. Расоны, за 2 км на ПнУ ад в. Забор'е. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера лес, на Пд і З забалочаны хмызняк.

**ЧОРНАЕ ВОЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,006 км².**
**Даўжыня 0,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,02 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.**

У бас. р. Авута, за 33 км на ПдУ ад г. Міёры, за 3 км на З ад в. Фурсы (1,7 км на Пн ад воз. Стрэчна), сярод балота.

**ЧОРНАЯ,** рака ў Карэліцкім і Навагрудскім р-нах, правы прыток Нёмана. Даўжыня 27 км. Пачынаецца ва ўрочышчы Касавец, за 5 км на ПнУ ад в. Антанёва Карэліцкага р-на, цячэ пераважна праз лес, упадае ў Нёман на У ад в. Гнесічы Навагрудскага р-на. Пойма часткова забалочаная. Рэчышча на працягу 7 км перад вусцем каналізаванае. У ніжнім цячэнні ў час разводдзя праз групу азёр Юзькавічы магчымы пераліў у р. Бойная.

**ЧОРНАЯ,** рака ў Мсціслаўскім р-не, правы прыток р. Віхра (бас. Дняпра).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 99 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,2 ‰.**

Пачынаецца за 0,8 км на ПдУ ад в. Судоўшчына, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Банькаўшчына. Рэчышча на працягу 0,7 км ніжэй аўтадарогі Мсціслаў — Горкі і паміж вёскамі Старое Сяло і Дзеснакіта (2,5 км) каналізаванае.

**ЧОРНАЯ,** рака ў Навагрудскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 43 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 3,8 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Воркавічы, цячэ праз лясныя ўрочышчы Лісіныя Норы, Устронь-Боркі, у верхняй частцы па Навагрудскім узвышшы. Упадае ў Нёман за 3 км на ПдЗ ад г. п. Бярозаўка. Рэчышча на працягу 2,8 км перад вусцем каналізаванае.

**ЧОРНАЯ,** рака ў Вілейскім р-не, левы прыток р. Вузлянка (бас. Віліі).

**Даўжыня 13 км.**
**Пл. вадазбору 86 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Малькевічы, упадае ў Вузлянку за 1 км на ПнЗ ад в. Сіўцы. Рэчышча на працягу 4,5 км ад вытоку каналізаванае.

**ЧОРНАЯ,** Аржаніца, рака ў Докшыцкім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Дняпра). Даўжыня 10,8 км. Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Крулеўшчына, вусце за 3 км на ПдУ ад в. Слабада. Рэчышча на працягу 5,7 км перад вусцем каналізаванае.

**ЧОРНАЯ,** Чарняўка, рака ў Маладзечанскім р-не, левы прыток р. Уша (бас. Віліі). Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Крыніцы, упадае ў Ушу за 2 км на ПнУ ад в. Вялікае Сяло. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЧОРНАЯ ГАНЧА,** рака ў Польшчы і Гродзенскім р-не, левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 145 км.**
**Пл. вадазбору 1916 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці каля 17 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,2 ‰.**

Пачынаецца ў Польшчы, перасякае граніцу за 1 км на ПдЗ ад в. Лясная. Цячэ па паўночных схілах Гродзенскага ўзвышша, упадае ў Нёман за 1 км на ПнЗ ад в. Загорнікі (даўжыня ў межах Беларусі 35 км, пл. вадазбору



Возера Чорная Урада.

178 км²). Прытокі: р. Марыха (злева), шматлікія ручаі. Даліна глыбокаўрэзаная, яе шырыня ад 0,7 км да 3,5 км. Пойма двухбаковая, забалочаная (шырыня 0,2—1 км), ёсць участкі надпоймавых тэрас (вышыня да 10 м). Рэчышча звілістае, з буйнымі меандрамі. Шырыня ракі ў межань да 10 м.

**ЧО́РНАЯ НА́ТАПА,** рака ў Мсціслаўскім і Крычаўскім р-нах, правы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 49 км.**
**Пл. вадазбору 464 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2,8 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,1 ‰.**

Пачынаецца за 2 км на Пн ад в. Пячкавічы Мсціслаўскага р-на, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Сялец Крычаўскага р-на. Цячэ па Горацка-Мсціслаўскай і Аршанска-Магілёўскай раўнінам. Асноўны прыток — р. Белая Натапа (злева). Рэчышча на працягу 7 км паміж вёскамі Бялынец і Сычоўка Мсціслаўскага р-на і ніжэй в. Кашаны Крычаўскага р-на (2,4 км) каналізаванае.

**ЧО́РНАЯ У́РАДА,** возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,53 км².**
**Найбольшая глыбіня 3,9 м.**
**Даўжыня 1,6 км.**
**Найбольшая шырыня 0,43 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,3 км.**
**Аб'ём вады 1,2 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 93,7 км².**

У бас. р. Дзіва, за 22 км на ПдУ ад г. п. Ушачы, за 1 км на У ад в. Вялічкаўцы. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, разараныя, на Пн і Пд месцамі забалочаныя. Берагі нізкія, пясчаныя або забалочаныя, на Пд сплавіна шырынёй 10—15 м. Дно сапрапелістае, на мелкаводдзі месцамі заілены пяскі. Моцна зарастае. Упадаюць ручай Пракса і р. Бельская, злучана ручаём з воз. Атолава.

**ЧО́РНЕНЬКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,07 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1 км.**

У бас. р. Нішча, за 19 км на ПнЗ ад г. п. Расоны, за 5,3 км на У ад в. Ізубрыца, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м.

**ЧО́РНЕНЬКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,02 км.**

У бас. р. Нішча, за 25 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на ПнЗ ад в. Вароніна, сярод забалочанага лесу. Схілы катлавіны невыразныя. Вакол возера забалочаная пойма. Злучана ручаём з воз. Кожкі.

**ЧО́РНЕНЬКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,02 км².**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,8 км.**

У бас. р. Лужаснянка, за 24 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 3,5 км на З ад в. Казловічы (на Пн ад воз. Васлепна). Схілы катлавіны вышынёй 7—10 м, пераважна пад лесам. На З і ПдЗ забалочаная пойма шырынёй 25—100 м.



Чыгірынскае вадасховішча.

**ЧО́РНЕНЬКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,01 км².**
**Даўжыня 0,15 км.**
**Найбольшая шырыня 0,06 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,32 км.**

У бас. Обаль, за 45 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 0,7 км на ПнУ ад в. Марчанкі, сярод лесу.

**ЧО́РНЫ РОЎ,** рака ў Маладзечанскім р-не, правы прыток р. Дудкавіца (бас. Віліі). Даўжыня 7 км. Пачынаецца на Пд ад в. Грудкі, упадае ў Дудкавіцу за 1 км на ПнЗ ад в. Запалякі. Рэчышча на працягу 5,6 км (ад в. Маліноўшчына да вусця) каналізаванае.

**ЧО́РНЫ РОЎ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім і Жабінкаўскім р-нах, правы прыток р. Асіпоўка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 20,7 км. Пачынаецца за 2,7 км на ПнУ ад в. Альхоўка Кобрынскага р-на, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Федзькавічы Жабінкаўскага р-на.

**ЧО́РНЫ РУЧА́Й,** у Шклоўскім р-не, левы прыток р. Чарнаводка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,4 км. Пачынаецца на ўсходняй ускраіне в. Красная Горка, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Бабчына. Рэчышча на працягу 5 км (ад в. Чарнаручча да вусця) каналізаванае.

**ЧО́РНЫ РУЧА́Й,** Гуцкі канал, ручай ва Ушацкім р-не, левы прыток р. Ідута (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца за 0,7 км на ПнЗ ад в. Гута, вусце каля в. Чарнаручча. Рэчышча каналізаванае.

**ЧО́РНЫ РУЧА́Й,** у Міёрскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6,6 км. Пачынаецца каля в. Бяртоўшчына, упадае ў воз. Важа з У, за 2 км на З ад в. Лінкаўшчына. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЧО́РНЫ РУЧА́Й,** у Лагойскім р-не, правы прыток р. Ілія (бас. Віліі). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдУ, упадае ў Ілію за 2,5 км на ПдЗ ад в. Селішча. Цячэ праз лес, у верхнім цячэнні ў сухое лета перасыхае. Рэчышча ад вусця на працягу 1,5 км каналізаванае.

**ЧО́РНЫ РУЧА́Й,** у Шумілінскім р-не, правы прыток р. Чарніца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 3,3 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Крупчына, вусце за 0,5 км на Пн ад г. п. Шуміліна. Прыток — Красны ручай (справа). Рэчышча каналізаванае.

**ЧУ́ДЗІНКА,** рака ў Сенненскім р-не, правы прыток р. Абалянка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 68 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца каля в. Пасад, вусце за 0,7 км на ПнЗ ад в. Дубаўцы Обальскага сельсавета. Рэчышча на працягу 2,3 км ад вытоку і 5,6 км ад вусця ўверх каналізаванае.

**ЧУРЫ́ЛАВА,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,2 км².**
**Найбольшая глыбіня 14,4 м.**
**Даўжыня 0,92 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,38 км.**
**Аб'ём вады 0,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2 км².**

У бас. р. Мёрыца, за 8 км на ПнУ ад г. Міёры, каля в. Чурылава. Схілы катлавіны вышынёй 4—6 м, пад сельскагаспадарчымі ўгоддзямі, на ПдУ пад лесам. Берагі высокія, пад хмызняком. Дно да глыбіні 1—2 м пясчанае, ніжэй ілістае. Вада вызначаецца нізкай мінералізацыяй і празрыстасцю. Зарастае амаль трэць плошчы возера да глыбіні 2 м.

**ЧУРЫ́ЛАВІЦКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Мінскім р-не.

**Пл. 0,34 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,1 м.**
**Даўжыня 0,66 км.**
**Найбольшая шырыня 0,58 км.**
**Аб'ём вады 1,3 млн. м³.**
**Сярэднегадавы сцёк 44,8 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 240 км².**

На пойме р. Пціч, за 20 км на Пд ад Мінска, каля в. Чурылавічы, у зоне адпачынку Пціч. Створана ў 1982 для рэгулявання воднага рэжыму зямель і рыбагадоўлі. Чаша вадасховішча — частка поймы р. Пціч, агароджаная з двух бакоў дамбамі даўжынёй 0,73 км і 1,37 км. Ваганні ўзроўню вады на працягу года да 4 м.

**ЧУХА́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Вісліца (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,4 км. Пачынаецца за 2 км на У ад в. Лышча, вусце на ПдЗ ад в. Чухава.

**ЧУ́ЧАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Лунінецкім р-не, левы прыток Ваўчанскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 12,7 км. Пачынаецца на Пд ад в. Вялікія Чучавічы, вусце за 5 км на У ад в. Велута.

**ЧЫГІРЫНКА,** ручай у Круглянскім р-не, левы прыток р. Друць (бас. Дняпра). Даўжыня 8 км. Пачынаецца на паўночнай ускраіне в. Старкі, вусце на заходняй ускраіне в. Бор. Рэчышча на працягу 3 км (ад в. Чыгіры да вусця) каналізаванае.

**ЧЫГІРЫ́НСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** на мяжы Кіраўскага і Быхаўскага р-наў.

**Пл. 21,1 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,1 м.**
**Даўжыня 17 км.**
**Найбольшая шырыня 2,4 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 55 км.**
**Аб'ём вады 60 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 817 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 3,7 тыс. км².**

На р. Друць, за 30—32 км на У ад г. п. Кіраўск, каля в. Чыгірынка. Створана ў 1960 для энергетычных мэт, лесасплаву і рэкрэацыі. Берагі ў прыплацінный частцы абразійныя, справа высокія, злева спадзістыя.



Чыгірынскае вадасховішча.

Дно — забалочаная пойма Друці, пераважна выслана торфам і заіленым пяском. Ёсць востраў пл. 0,37 км². Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня да 55 см) трымаецца да пачатку красавіка. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню 80—85 см. Праточнасць вялікая, аб'ём воднай масы абнаўляецца на працягу 27 сутак. Зарастае, асабліва моцна ў паўночнай частцы.

**ЧЫЖО́ЎКА,** рака ў Дубровенскім р-не, правы прыток р. Дняпро.

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 85 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,1 ‰.**

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Косціна, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Чыжоўка. Цячэ па Аршанскім узвышшы. Рэчышча на працягу 9,9 км (ад вытоку да аўтадарогі Дуброўна — Арэхаўск) каналізаванае. Упадае адзінаймены ручай.

**ЧЫЖО́ЎКА,** ручай у Дубровенскім р-не, правы прыток р. Чыжоўка



Чырвонае возера.

(бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца за 0,5 км на Пд ад в. Мака[illegible]ка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Чыжоўка. Рэчышча на працягу [illegible] км ад вытоку каналізаванае.

**ЧЫЖОЎКА**, возера ў Гродзенскім р-не.

Пл. 0,12 км².
Даўжыня 0,5 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,2 км.

У бас. р. Сламянка (выцякае з возера), за 35 км на ПнУ ад Гродна, каля в. Саланце, на заходняй ускраіне лясного масіву.

**ЧЫЖОЎСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА**, у паўднёва-ўсходняй частцы Мінска.

Пл. 1,63 км².
Найбольшая глыбіня 4,7 м.
Даўжыня 3,5 км.
Найбольшая шырыня 0,9 км.
Аб'ём вады 2,87 млн. м³.
Сярэдні шматгадовы сцёк 379 млн. м³.
Пл. вадазбору 930 км².

На р. Свіслач. Створана ў 1949 для тэхнічнага водазабеспячэння трактарнага і аўтамабільнага заводаў і ЦЭЦ-3, мае вялікае значэнне для воднага добраўпарадкавання горада (звязжа Сляпянскую і Лошыцкую водныя сістэмы). 9 астравоў агульнай пл. 6 га. Па другі бок плаціны на старой пойме Свіслачы створаны заалагічны сад Мінскага аўтазавода.

**ЧЫЖЫНОВІЦКІ КАНА́Л**, меліярацыйны канал у Карэліцкім р-не, левы прыток р. Уша (бас. Нёмана). Даўжыня 4 км. Пачынаецца за 2 км на ПдЗ ад в. Чыжыноўцы, упадае ў Ушу за 2,2 км на У ад в. Маласельцы.

**ЧЫКАЛАВІЦКІ КАНАЛ**, З а л е с к і к а н а л, меліярацыйны канал у Брагінскім р-не, левы прыток канала Несвіч (бас. Прыпяці). Даўжыня 23 км. Пачынаецца за 1,8 км на ПдЗ ад в. Стары Сцепаноў, вусце каля в. Чыкалавічы. Прыток — Пасудаўскі канал (справа).

**ЧЫРВАНАСЁЛКА**, меліярацыйны канал у Лельчыцкім р-не, левы прыток канала на меліярацыйнай сістэме «Жмурынская» (бас. Прыпяці). Даўжыня 4,5 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ, вусце за 2 км на Пн ад в. Кавыжаў. Цячэ па лясістай мясцовасці.

**ЧЫРВОНАБЯРЭЖСКІ КАНАЛ**, гл. *Бярэштань*.

**ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА**, К н я з ь - в о з е р а  Ч ы р в о н а е  П а л е с с е, у Жыткавіцкім р-не.

Пл. 43,79 км².
Найбольшая глыбіня 4 м.
Даўжыня 12,1 км.
Найбольшая шырыня 5,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 30,8 км.
Аб'ём вады 67,8 млн. м³.
Пл. вадазбору 280 км².

У бас. р. Прыпяць, за 19 км на ПнУ ад г. Жыткавічы, каля в. Ляхавічы. Ляжыць на ўзроўні 136,4 м. 3-е па плошчы возера на Беларусі. Заходнія схілы катлавіны зліваюцца з прылеглымі асушанымі балотамі, паўднёвыя вышынёй 20—25 м. Берагі нізкія, тарфяністыя. Дно сапрапелістае (сапрапель здабываецца на ўгнаенне), уздоўж паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх берагоў пясчанае і пясчана-ілістае. 5 астравоў агульнай пл. 0,06 км². Ледастаў з канца лістапада да канца сакавіка — пачатку красавіка. Адзначаецца пастаянны дэфіцыт кіслароду, высокая колернасць вады, зімой здараюцца заморы рыбы. Зарастае вельмі слаба. Упадаюць некалькі каналаў, у тым ліку Восаўскі, Дубрава і Чырвонаазёрскі, р. Дзямянка; выцякаюць каналы Азёрны, Жыткавіцкі і Марахораўскі. Выкарыстоўваецца ў рыбагаспадарчых і рэкрэацыйных мэтах, як крыніца вады на арашэнне.

**ЧЫРВОНАЕ ВО́ЗЕРА**, у Полацкім р-не.

Пл. 0,2 км².
Даўжыня 0,78 км.
Найбольшая шырыня 0,35 км.
Даўжыня берагавой лініі 2 км.
Пл. вадазбору 2,75 км².

У бас. р. Ушача, за 24 км на ПдЗ ад Полацка, за 2 км на ПдЗ ад в. Блізніца. Катлавіна складаецца з 2 плёсаў. Схілы вышынёй да 5 м, пад лесам.



Чырвонае возера (Жыткавіцкі раён).

**ЧЫРВОНАПАЛЯ́НСКІ КАНА́Л,** Краснапалянскі канал, меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 17,7 км. Пачынаецца за 3 км на ПнУ ад в. Сосны, вусце за 3 км на Пд ад в. Нежын.

**ЧЫРВОНАСЛАБО́ДСКАЕ ВАДАСХО́ВІШЧА,** у Клецкім, Капыльскім і на мяжы з Салігорскім р-нам.

**Пл. 23,6 км².**
**Найбольшая глыбіня 5,5 м.**
**Даўжыня 6,6 км.**
**Найбольшая шырыня 5,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 22,6 км.**
**Аб'ём вады 69,5 млн. м³.**
**Сярэдні шматгадовы сцёк 78,7 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 668 км².**

На р. Морач (50 км ад вусця), за 34 км на З ад г. Салігорск, каля г. п. Чырвоная Слабада. Створана ў 1973 для рэгулявання сцёку вады і воднага рэжыму прылеглых зямель, водазабеспячэння сажалак рыбакамбіната «Чырвоная Слабада». 77 % берагоў — штучныя агараджальныя дамбы. Дно выслана ілам і пяском. Замярзае ў пачатку снежня, лёд (таўшчыня да 50 см) трымаецца да пачатку красавіка. Слаба зарастае. Сярэднегадавая амплітуда вагання ўзроўню вады 1 м.

**ЧЫРВО́НАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Буда-Кашалёўскім і Гомельскім р-нах, правы прыток р. Уза (бас. Дняпра). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца каля паўднёва-заходняй ускраіны в. Перамога Буда-Кашалёўскага р-на, упадае ў Узу за 1,7 км на ПдЗ ад в. Цярэнічы Гомельскага р-на.

**ЧЫ́РКА,** Мольчанскі канал, рака ў Светлагорскім р-не, левы прыток р. Жардзянка (бас. Дняпра).

**Даўжыня 18 км.**
**Пл. вадазбору 100 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.**

Пачынаецца за 3,5 км на ПнУ ад в. Вялікі Бор, вусце за 2 км на У ад в. Чыркавічы. Рэчышча каналізаванае.

**ЧЫРВО́НАЯ РЭ́ЧКА,** рака, гл. *Цна.*

**ЧЫ́СТАЯ ЛУ́ЖА,** рака ў Слаўгарадскім р-не, правы прыток р. Проня (бас. Дняпра).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 78 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8 ‰.**

Пачынаецца за 2,2 км на ПдЗ ад в. Кашалёў, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Рабавічы. Рэчышча на працягу 3 км ад вытоку каналізаванае. На паўночнай ускраіне в. Рабавічы на рацэ плаціна і вадасховішча. Цячэ пераважна праз лес.

**ЧЫ́СТЫЯ ЛУ́ЖЫ,** меліярацыйны канал у Веткаўскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра). Даўжыня 8,8 км. Пачынаецца за 3,4 км на ПдУ ад в. Тумарын, упадае ў Сож за 3 км на ПдЗ ад в. Споніцкая Рудня.

**ЧЫ́СЦІК,** возера ў Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,04 км².**
**Даўжыня 0,35 км.**
**Найбольшая шырыня 0,32 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,02 км.**



**Чырвонаслабодскае вадасховішча.**

У бас. р. Аўсянка, за 30 км на ПнУ ад г. Гарадок, за 2,5 км на ПдУ ад в. Смалоўка, на балоце Чысцік.

**ЧЫЧЭ́Л,** возера ў Веткаўскім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 1,9 км.**
**Найбольшая шырыня 0,12 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,1 км.**

У бас. р. Сож, за 2 км на ПдЗ ад в. Ветка, каля в. Старое Сяло. Старычнае. Злучана пратокай з р. Сож.

**ЧЭ́КУЦЬ,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,09 км².**
**Даўжыня 0,4 км.**
**Найбольшая шырыня 0,3 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,07 км.**

У бас. р. Друйка, за 10 км на ПнЗ ад г. Браслаў, за 0,5 км на ПдУ ад в. Урбаны сярод балота. Схілы катла-



**Чырвонаслабодскае вадасховішча.**



Возера Чэрас.




Возера Чэцверць.

віны невыразныя. Выцякае ручай у воз. Бужа.

**ЧЭ́РАС,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,99 км².**
**Найбольшая глыбіня 12,8 м.**
**Даўжыня 3,29 км.**
**Найбольшая шырыня 0,53 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 7,74 км.**
**Аб'ём вады 6 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 7 км².**

У бас. р. Мёрыца (прыток Зах. Дзвіны), за 6 км на ПнУ ад г. Міёры, каля в. Сушкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, разараныя, месцамі пад хмызняком. Берагі пясчаныя, месцамі пад валунамі. Зарастае да глыбіні 1,5 м. Злучана пратокай з Грэцкім возерам. Па берагах некалькі крыніц.

**ЧЭ́РВЕНКА,** Г у м е н к а, рака ў Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Волма (бас. Дняпра).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 146 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.**




Возера Чэрас.

Пачынаецца каля паўночнай ускраіны в. Камісарскі Сад, вусце за 2 км на Пн ад в. Іванічы. Рэчышча каналізаванае. Цячэ па Цэнтральнабярэзінскай раўніне. На рацэ г. Чэрвень.

**ЧЭ́РВЕНЬСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Чэрвеньскім р-не, левы прыток р. Чэрвенка (бас. Дняпра). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдЗ ад г. Чэрвень, упадае ў Чэрвенку за 2 км на ПдЗ ад в. Лежні. Цячэ па забалочаным лесе.

**ЧЭ́РНІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Мінскім і Пухавіцкім р-нах, левы прыток ракі без назвы ў бас. Прыпяці. Даўжыня 5,7 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Чэрнікі Крупіцкага сельсавета Мінскага р-на, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Шабуні Пухавіцкага р-на.

**ЧЭРНЯ,** рака ў Магілёўскім р-не, левы прыток р. Рудзея (бас. Дняпра). Даўжыня 8,3 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Акулінцы, вусце на паўночнай ускраіне в. Зылі. Рэчышча каналізаванае.

**ЧЭРНЯ,** рака, гл. *Скарбянка.*

**ЧЭРТКА,** рака ў Пастаўскім р-не, правы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 14 км.**
**Пл. вадазбору 51 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.**

Выцякае з воз. Рудзіца каля в. Ляхаўшчына, вусце каля в. Галбея. У ніжнім цячэнні працякае па лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЧЭ́РЦЕНЬ,** меліярацыйны канал у Мазырскім р-не, правы прыток р. Чэрцень (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,9 км. Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Зялёны Мох, вусце за 7 км на ПнЗ ад в. Мялешкавічы.

**ЧЭ́РЦЫ,** возера ў Лепельскім р-не.

**Пл. 0,13 км².**
**Найбольшая глыбіня 6,8 м.**
**Даўжыня 0,72 км.**
**Найбольшая шырыня 0,26 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 1,75 км.**
**Аб'ём вады 0,47 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 2,3 км².**

У бас. р. Ула, за 11 км на ПдУ ад г. Лепель, за 0,2 км на З ад в. Чэрцы. Схілы катлавіны вышынёй 5—7 м (на У 10—11 м), разараныя. Берагі высокія, абразійныя, на Пн і Пд нізкія, месцамі сплавінныя. Прыбярэжная частка дна пясчаная і пясчана-глінiстая, глыбей глінiстыя адклады. Слаба зарастае ўздоўж берагоў, шырыня паласы расліннасці да 30 м.

**ЧЭЦВЕРЦЬ,** возера ў Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,46 км².**
**Найбольшая глыбіня 7,7 м.**
**Даўжыня 0,95 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,05 км.**
**Аб'ём вады 1,19 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 8,24 км².**

У бас. р. Дзісна, за 10 км на Пд ад г. Паставы, за 1 км на У ад в. Падаляны. Схілы катлавіны вышынёй 10—16 м, на У і ПдУ пад лесам. Берагі параслі водна-балотнай расліннасцю, на Пн пад хмызняком. Возера паўвостравам раздзелена на 2 плёсы: заходні мелкаводны і ўсходні глыбакаводны. Дно да глыбіні 1—2 м пясчанае і пясчана-ілістае, ніжэй глінiстае. На Пн выцякае ручай у воз. Світа.

**ШАБЕ́НІХА,** Журыха, рака ў Вілейскім р-не, левы прыток р. Ментынь (бас. Віліі). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 0,8 км на ПнЗ ад в. Сухары, у нізоўі цячэ праз лес, упадае ў Ментынь у лясным урочышчы Рудня, за 3 км на ПдУ ад в. Чырвоны Бераг.

**ШАВЯЛЁЎКА,** рака ў Ляхавіцкім р-не, левы прыток р. Ведзьма (бас. Нёмана).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 70 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца каля в. Зарытава, цячэ ў межах Баранавіцкай раўніны, упадае ў Ведзьму за 1 км на ПдУ ад в. Пранчакі. Рэчышча на працягу 3 км (ад вытоку да в. Астрэйкі) каналізаванае. Пойма ў сярэднім і ніжнім цячэнні забалочаная.

**ШАЛАМСКІ КАНА́Л,** Шаламоўскі канал, меліярацыйны канал у Сенненскім і Бешанковіцкім р-нах, правы прыток р. Крывінка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 5 км. Пачынаецца за 2,6 км на З ад в.Падворыца, вусце за 2 км на У ад в. Хізава.

**ША́ЛІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Камянецкім р-не, левы прыток р. Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 5,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Задвор'е, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Баранкі.

**ШАЛО́МАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Слаўгарадскім р-не, правы прыток р. Пясчанка (бас. Дняпра). Даўжыня 10 км. Пачынаецца за 0,5 км на З ад в. Серкаўка, упадае ў Пясчанку ў в. Шаламы 1-я.

**ШАЛО́МІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пінскім р-не, левы прыток р. Стыр (бас. Прыпяці). Даўжыня 10,8 км. Пачынаецца каля в. Мясцічы, вусце за 3 км на ПнУ ад в. Вуйвічы.

**ШАЛЫ́ГІНСКАЯ,** назва р. *Пестуніца* ў верхнім цячэнні.

**ШАМЯТО́ЎКА,** Шамятоўскі Роў, рака ў Драгічынскім і Кобрынскім р-нах, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 27 км. Пачынаецца каля в. Меневеж Драгічынскага р-на. Раней выцякала з Мазурскага балота і знікала ў балоце Ель каля в. Кустовічы Кобрынскага р-на. Пасля асушэння балота Ель сцёк з Шамятоўкі накіраваны па Скідному каналу ў канал Мухавец (Каралеўскі канал). Вусце на У ад в. Акцябр Кобрынскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ША́ПЧЫЦЫ,** ручай у Рагачоўскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 10 км. Пачынаецца на паўднёва-ўсходняй ускраіне в. Званец, вусце на паўночнай ускраіне в. Шапчыцы.

**ШАРАНЕ́Ц,** возера ў Браслаўскім р-не.

**Пл. 0,04 км$^2$.**
**Даўжыня 0,3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,2 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,76 км.**

У бас. Заходняй Дзвіны, за 18 км на ПнЗ ад г. Браслаў, каля в. Вагнішкі. Схілы катлавіны вышынёй да 5 м (на З невыразныя), пераважна пад лесам, участкамі на Пн і У разараныя. З усходняга і заходняга бакоў возера нешырокая ўвільготненая пойма.

**ШАРАШАНКА,** рака, гл. *Чарэшынка.*

**ШАРАШО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пружанскім р-не, правы прыток р. Левая Лясная (бас. Зах. Буга). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдЗ ад в. Доўгае (Крыніцкі сельсавет), вусце ў межах г. п. Шарашова.

**ШАТРО́ЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Верхнядзвінскім р-не, правы прыток Зах. Дзвіны. Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдУ ад в. Кавалеўшчына, вусце каля в. Шатрова.

**ШАТЫ́ЛКА,** рака, гл. *Тонва.*

**ШВА́РАЎСКІ РУЧА́Й,** у Верхнядзвінскім р-не, левы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнЗ ад в. Несцяры, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Цясты. Рэчышча каналізаванае.

**ШКАРДЗЯ́НКА,** рака ў Шчучынскім р-не, левы прыток р. Лебяда (бас. Нёмана).

**Даўжыня 9 км.**
**Пл. вадазбору 27 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.**

Пачынаецца каля в. Стары Двор, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Лебяду за 1 км на ПдУ ад в. Васілішкі. Рэчышча на працягу 6,8 км (ад вытоку да в. Васілішкі) каналізаванае.

**ШКО́ЛЬНАЕ ВО́ЗЕРА,** у Лепельскім р-не.

**Пл. 0,22 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 5,2 м.**
**Даўжыня 0,74 км.**
**Найбольшая шырыня 0,49 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,1 км.**
**Аб'ём вады 0,7 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 6,9 км$^2$.**

У бас. р. Дзіва, за 20 км на ПнУ ад г. Лепель, каля в. Камень. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м, разараныя, на Пд месцамі да 15 м. Берагі пясчаныя, забалочаныя, участкамі сплавінныя. Пойма на Пн і Пд шырынёй 10—15 м, на З і У 150—250 м, забалочаная і пароспая хмызняком. Дно да глыбіні 2—2,5 м пясчанае, ніжэй ілістае і сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 2 м. Упадаюць 6 ручаёў, выток у воз. Чаросава.

**ШКУ́НЦІЦА,** рака, гл. *Паловіца.*

**ШО,** возера ў Глыбоцкім р-не.

**Пл. 7,65 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,1 м.**
**Даўжыня 4,2 км.**
**Найбольшая шырыня 2,1 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12,4 км.**
**Аб'ём вады 14,8 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 110 км$^2$.**




**Возера Шо.**




1 — з воз. Доўгае
2 — р. Шоша

**Возера Шо.**

У бас. р. Шоша (выцякае з возера), за 32 км на У ад г. Глыбокае, каля в. Надазер'е. Схілы катлавіны вышынёй 2—4 м, пясчаныя, параслі лесам часткова разараныя, на Пн і Пд забалочаныя. Берагі нізкія, пясчана-тарфяністыя, забалочаныя, пад лесам і хмызняком. Дно сапрапелістае, уздоўж берагоў да глыбіні 0,5—1 м пясчанае. Зарастае па ўсёй плошчы. Упадаюць ручаі з азёр Доўгае і Івесь.

**ШОЗІМКА**, рака, гл. *Тонва*.

**ШОПСК**, рака ў Кобрынскім р-не, левы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

Даўжыня 13,8 км.
Пл. вадазбору 67 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Пачынаецца на З ад в. Лука, цячэ па Прыбугскай раўніне, вусце за 3 км на У ад в. Рачыцы. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ШОША**, рака ў Глыбоцкім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 30 км.
Пл. вадазбору 304 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 2 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5 ‰.

Выцякае з воз. Шо за 1,4 км на ПдУ ад в. Надазер'е, упадае ў воз. Пліса з У, за 2 км на ПдЗ ад в. Прудаўё. Цячэ па Ушацка-Лепельскім узвышшы, у вярхоўі і сярэднім цячэнні па лясістай мясцовасці. Асноўныя прытокі — Чысцянка і Лучайка (злева). Даліна скрынкападобная, звілістая, шырынёй 0,5—2 км, месцамі да 4 км. Пойма вузкая, чаргуецца па берагах, месцамі адсутнічае. Рэчышча звілістае, слабаразгалінаванае; яго шырыня ад 3—5 м у верхнім цячэнні да 12 м у сярэднім і ніжнім. У сярэднім цячэнні прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ШПАКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Баранавіцкім р-не, у бас. р. Мышанка, за 17 км на ПнЗ ад г. Баранавічы, каля в. Шпакоўцы. Пл. 0,11 км$^2$.

**ШПА́НАЎКА**, рака, гл. *Спанаўка*.

**ШТАНКІ́**, ручай у Слаўгарадскім р-не, правы прыток р. Пацея (бас. Дняпра). Даўжыня 4,8 км. Пачынаецца за 2 км на З, вусце за 1 км на Пд ад в. Ржаўка 1-я. Рэчышча каналізаванае.

**ШУ́БІНА**, назва р. *Уса* ў сярэднім цячэнні.

**ШУ́БІНА-НЁМАНСКІ КАНА́Л**, назва р. *Уса* ў ніжнім цячэнні.

**ШУ́БНІЦКАЕ ВО́ЗЕРА**, у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,4 км.
Найбольшая шырыня 0,17 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,9 км.

У бас. р. Дабрылаўка, за 7 км на Пн ад г. Глыбокае, каля в. Шубнікі. Схілы катлавіны вышынёй 6 м, пад хмызняком, на Пд пад агародамі і пабудовамі. На Пн забалочаная пойма. Выцякае ручай у р. Дабрылаўка.

**ШУРА́**, рака ў Стаўбцоўскім р-не, левы прыток р. Уса (бас. Нёмана).

Даўжыня 27 км.
Пл. вадазбору 99 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,7 ‰.

Пачынаецца за 1 км на Пд ад в. Дружная, упадае ў Усу за 1,8 км на ПнУ ад в. Пруды. Рэчышча на працягу 16 км (ад вытоку да в. Янкавічы) каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ШУ́РЫН**, меліярацыйны канал у Добрушскім р-не, правы прыток р. Харапуць (бас. Дняпра). Даўжыня 5,4 км. Пачынаецца за 1,7 км на ПдЗ ад в. Уборак, упадае ў Харапуць за 3,1 км на У ад в. Селішча 2-е. Збірае ваду з меліяраванага ўрочышча Шурын.

**ШУ́РЫЦА**, рака ў Пастаўскім р-не, левы прыток р. Галбіца (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 20 км.
Пл. вадазбору 70 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,3 ‰.

Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Карпавічы, вусце за 0,5 км на Пн ад г. Галбея. Цячэ праз Старадворскае возера, пасля выхаду з яго рэчышча на працягу 7,8 км да вусця каналізаванае. Сярэдняе і ніжняе цячэнне праходзіць па лясістай мясцовасці.

**ШУ́ШКА**, рака ў Лагойскім р-не, левы прыток р. Усяжа (бас. Дняпра). Даўжыня 6,8 км. Пачынаецца ў в. Зыкава, вусце за 0,5 км на У ад в. Астрашыцкі Гарадок. Рэчышча на працягу 2 км ад вытоку каналізаванае.

**ШЧАБІ́РКА**, рака ў Полацкім р-не, правы прыток р. Нача (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за



Возера Шо.

1,2 км на ПдУ ад в. Залессе, вусце ў межах в. Астроўшчына. Рэчышча каналізаванае.

**ШЧАДРЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, правы прыток р. Ала (бас. Дняпра). Даўжыня 13,5 км. Пачынаецца каля в. Навозы Жлобінскага р-на, упадае ў Алу за 1,5 км на У ад в. Кіцін.

**ШЧАПЕ́РНЯ,** рака ў Полацкім р-не, левы прыток р. Дрыса (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 19 км.**
**Пл. вадазбору 59 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Пачынаецца каля в. Шчаперня, вусце за 2 км на ПнЗ ад в. Фядоценкі. Цячэ па Полацкай нізіне, па лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча ў сярэднім цячэнні на працягу 2,8 км каналізаванае.

**ШЧА́РА,** рака ў Брэсцкай і Гродзенскай абл., левы прыток Нёмана.

**Даўжыня 325 км.**
**Пл. вадазбору 6990 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 37,7 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**
**Агульнае падзенне ракі 77,7 м.**

Пачынаецца на Навагрудскім узвышшы з воз. Калдычэва Баранавіцкага р-на, упадае ў Нёман за 2 км на ПдУ ад в. Дашкаўцы Мастоўскага р-на. Асноўныя прытокі: Ліпнянка, Мышанка, Лахазва, Уса, Пад'яварка (справа), Ведзьма, Грыўда, Луконіца, Сіпа (злева). Паводле будовы даліны, рэчышча і ўмоў працякання Шчара падзяляецца на 2 участкі. Ад вытоку да ўпадзення р. Грыўда даліна трапецападобная (шырыня 1,5 км), са стромкімі схіламі вышынёй 15—20 м, пойма нізкая, забалочаная і куп'істая, перасечана асушальнымі каналамі. Шырыня разліву ад 200 м да 3 км. Ад вусця Агінскага канала пойма парэзана сеткай каналаў, па якіх (і па Агінскім канале) у веснавое разводдзе адбываецца пераліў вады з Шчары ў воз. Выганашчанскае. Рэчышча звілістае, акрамя каналізаваных участкаў у вытоку і перад упадзеннем Грыўды; яго шырыня 15—30 м, месцамі да 60 м. Берагі нізкія, пераважна тарфяністыя. На ўчастку ад упадзення р. Грыўда да вусця даліна трапецападобная, яе шырыня 3—5 км. Схілы стромкія, вышынёй 10—20 м, месцамі 35—40, у ніжнім цячэнні спадзістыя. Пойма забалочаная, яе шырыня ў пачатку ўчастка 1,5—2,5 км, у сярэдняй частцы 0,5—0,8 км, у ніжняй 50—300 м. Рэчышча звілістае. Веснавое разводдзе пачынаецца ў пачатку сакавіка і доўжыцца ў сярэднім 65—80 сутак; ускладняецца нераўнамернасцю снегараставання і выпадзеннем дажджоў. Сярэдняе перавышэнне найвышэйшага ўзроўню над летне-асенняй межанню 1,8 м. Замярзае ў канцы снежня (найбольшая таўшчыня лёду 40—65 см), крыгалом у сярэдзіне сакавіка. Суднаходная ад в. Быцень (за 155 км ад вусця) у паўнаводны перыяд. На рацэ Даманаўскае (у сутоках з р. Грыўда) і Чамялынскае вадасховішчы, г. Слонім. У маляўнічай мясціне ўздоўж ракі на Пд ад г. Ляхавічы зона адпачынку Шчара.

**ШЧАРБАКО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Гарадоцкім р-не.

**Пл. 0,17 км².**
**Даўжыня 0,82 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,07 км.**

У бас. р. Усыса (цячэ праз возера, злучае яго з воз. Арэхавае), за 2 км на З ад г. Гарадок. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад хмызняком, на Пд параслі лесам.

**ШЧА́РКА,** рака ў Вілейскім р-не, левы прыток р. Ілія (бас. Віліі). Даўжыня 6,3 км. Пачынаецца за 1,2 км на ПдУ ад в. Забор'е, упадае ў Ілію на Пд ад в. Беражок. Рэчышча каналізаванае. Каля в. Шчарка створана сажалка (пл. 0,10 км²).

**ШЧАЎБІ́НІЦА,** возера ў Полацкім р-не.

**Пл. 0,03 км².**
**Даўжыня 0,27 км.**
**Найбольшая шырыня 0,17 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.**

У бас. р. Палата, за 25 км на ПнУ ад Полацка, за 1,5 км на ПнУ ад в. Кулькі, сярод забалочанага хмызняку.

**ШЧА́ЎРЫНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Крупскім р-не, левы прыток р. Нача (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца каля в. Старыя Шчаўры, упадае ў Начу за 1,5 км ад в. Крыштопаўшчына.



Шчара ніжэй Слоніма.


Возера Шчоўна.



Возера Шылава (Браслаўскі раён).

**ШЧАЦІНКА,** Шарсцінка, рака ў Магілеўскім р-не, левы прыток р. Вільчанка (бас. Дняпра).

Даўжыня 11 км.
Пл. вадазбору 44 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.

Пачынаецца за 1 км на З ад в. Смолка, вусце на ўсходняй ускраіне в. Вільчыцы. Рэчышча на працягу 6,5 км (ад в. Запруддзе ўніз па цячэнні) каналізаванае. На рацэ плаціна і сажалка каля в. Дубінка 1-я.

**ШЧАЦІНКА,** возера ў Мсціслаўскім р-не, у бас. р. Сож, за 10 км на ПдУ ад Мсціслава, каля в. Парадзіна. Пл. 0,12 км$^2$. Старычнае.

**ШЧО́ЎНА,** возера ў Міёрскім р-не.

Пл. 1,14 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,6 м.
Даўжыня 1,48 км.
Найбольшая шырыня 0,95 км.
Даўжыня берагавой лініі 4,1 км.
Аб'ём вады 1,7 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 357 км$^2$.

У бас. р. Вята (цячэ праз возера), за 7 км на ПнЗ ад г. Міёры, каля в. Рускае Сяло. Схілы катлавіны на З, ПнЗ і ПдЗ слаба выражаны, забалочаныя. Берагі нізкія, пясчаныя або тарфяністыя, забалочаныя і пад хмызняком. Дно сапрапелістае. Зарастае, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 100—150 м.

**ШЧУ́ЧАЕ ВО́ЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,04 км$^2$.
Даўжыня 0,24 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,7 км.

У бас. р. Дрыса, за 25 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 4,7 км на Пн ад в. Галубова. Схілы катлавіны вышынёй да 10 м, пад лесам. Пойма месцамі пераўвільготнена.

**ШЧУ́ЧЫНА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,08 км$^2$.
Даўжыня 0,52 км.
Найбольшая шырыня 0,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,3 км.

У бас. р. Тураўлянка, за 18 км на Пд ад Полацка, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Спашчына. Абкружана ўзгоркамі вышынёй 3 м, парослымі лесам.

**ШЧУ́ЧЫНКА,** рака, гл. *Тураўка.*

**ШЧЫ́БА,** рака ў Пружанскім і Свіслацкім р-нах, правы прыток р. Зальвянка (бас. Нёмана).

Даўжыня 19 км.
Пл. вадазбору 143 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,6 ‰.

Пачынаецца ў лясным урочышчы Хварасцянкі, за 3 км на ПдЗ ад в. Сабалькі Свіслацкага р-на. Цячэ па паўднёвай ускраіне Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Зальвянку на У ад в. Зіновічы Пружанскага р-на. Асноўны прыток р. Хораўка.

**ШЧЫ́БАТ,** возера ў Лепельскім р-не.

Пл. 0,42 км$^2$.
Даўжыня 2,43 км.
Найбольшая шырыня 0,32 км.
Даўжыня берагавой лініі 5,78 км.
Пл. вадазбору 3,75 км$^2$.

У бас. р. Ула, за 10 км на ПнУ ад г. Лепель, за 3 км на ПнУ ад в. Старое Лядна. Схілы катлавіны вышынёй да 20 м, пад лесам. Берагі зліваюцца са схіламі, месцамі вышынёй 0,5 м. Выцякае ручай.

**ШЧЫ́ТКАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Пухавіцкім і Старадарожскім р-нах, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 2 км на З ад в. Медзенае, вусце за 5 км на З ад в. Чырвоны Пасёлак (абедзве ў Пухавіцкім р-не).

**ШЧЭЛБІНСКІ КАНА́Л,** Шчэлбінская канава, меліярацыйны канал у Хойніцкім і Брагінскім р-нах, правы прыток р. Брагінка (бас. Дняпра). Даўжыня 38 км. Пачынаецца за 6,3 км на ПнУ ад в. Збынь Хойніцкага р-на, упадае ў Верхнюю Брагінку за 2,3 км на ПнУ ад в. Сялец Брагінскага р-на. Канал перасякае вялікія лясныя і балотныя масівы ў межах Гомельскага Палесся.

**ШЫ́ЗДРА,** ручай у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Ненач (бас. Прыпяці). Даўжыня 13 км. Пачынаецца сярод лесу, за 4,3 км на ПнУ ад в. Есіпава Рудня, вусце на Пн ад в. Буда. Рэчышча каналізаванае.

**ШЫ́ЛАВА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,19 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 11,8 м.
Даўжыня 1,24 км.
Найбольшая шырыня 0,26 км.
Даўжыня берагавой лініі 2,9 км.
Аб'ём вады 1,01 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 11,6 км$^2$.

У бас. р. Дружнянка, за 15 км на ПдУ ад г. Браслаў, каля в. Замошша. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м (на У да 7 м, на ПдУ 10—12 м), пад лесам, на ПдУ разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на З параслі лесам. Дно да глыбіні 2 м пясчанае, ніжэй сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 3 м. Упадае ручай з воз. Сярэднік.

**ШЫ́ЛАВА,** возера ў Полацкім р-не.

Пл. 0,11 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 23,9 м.
Даўжыня 0,77 км.
Найбольшая шырыня 0,21 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,67 км.
Аб'ём вады 0,85 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 0,6 км$^2$.

У бас. р. Нежлеўка (прыток Ушачы), за 22 км на ПдЗ ад Полацка, за 3 км на Пд ад г. п. Ветрына. Схілы катлавіны вышынёй 15—35 м. Берагі зліваюцца са схіламі, на ПнЗ і ПдУ сплавінныя. Дно ўздоўж берагоў пясчанае, на ПнЗ і ПдУ сапрапелістае, астатняя частка ложа ілістая. Зарастае да глыбіні 6 м. Выцякае ручай у воз. Глыбачка.

**ШЫЛАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Глыбоцкім р-не.

Пл. 0,1 км$^2$.
Даўжыня 0,63 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,37 км.
Пл. вадазбору 30,8 км$^2$.

У бас. р. Авута, за 35 км на ПнУ ад г. Глыбокае, каля в. Косарава. Схілы катлавіны вышынёй да 15 м (на Пн да 25 м), на З пад хмызняком.

Берагі высокія, на Пн зліваюцца са схіламі. Упадаюць 2 ручаі.

**ШЫЛВЕ,** рака, гл. *Чапунька.*

**ШЫЛІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, левы прыток р. Вінец (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца з Машковіцкага канала, за 2 км на ПнЗ ад в. Машковічы, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Шылін.

**ШЫПАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Глыбоцкім р-не, правы прыток р. Аржаніца (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 0,6 км на Пд ад в. Кавалі, вусце каля в. Шайтараўка.

**ШЫПІЛАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 9,9 км. Пачынаецца за 1 км на ПдУ ад в. Обчын, вусце за 2,5 км на ПдУ ад в. Шыпілавічы.

**ШЫПОВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 9,4 км. Пачынаецца каля в. Ластаўкі, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Чаравацічы.

**ШЫПОЎКА,** ручай у Дрыбінскім р-не, правы прыток р. Проня (бас. Дняпра). Даўжыня 18 км. Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰. Пачынаецца за 1,2 км на У ад в. Юраўка, вусце за 1,5 км на У ад в. Мураванка. Рэчышча на працягу 4,5 км ад вытоку каналізаванае.

**ШЫПСК,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,01 км$^2$.**
**Даўжыня 0,1 км.**
**Найбольшая шырыня 70 м.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,27 км.**

У бас. р. Нішча, за 19 км на ПдЗ ад г. п. Расоны, за 1 км на ПнУ ад в. Беразнюгі, сярод лесу. Схілы невыразныя. Выцякае ручай у р. Нішча.

**ШЫРА,** Я с т р а б і н с к і  к а н а л, меліярацыйны канал у Ельскім р-не, правы прыток р. Чэрцень (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1,5 км на З ад в. Кочышча, вусце за 4 км на З ад в. Новая Рудня.

**ШЫХАВА-ГЕЛІНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жлобінскім р-не, правы прыток р. Дняпро. Даўжыня 21 км. Пачынаецца за 1 км на ПдЗ ад в. Ляды, упадае ў Дняпро за 2 км на ПдЗ ад в. Шыхаў.

**ШЫША,** рака ў Гарадоцкім р-не, у бас. Ловаці.

**Даўжыня 18,8 км.**
**Пл. вадазбору 64 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2 ‰.**

Пачынаецца за 2,5 км на ПнУ ад в. Карнілы, упадае ў воз. Мяжа з ПдЗ, за 0,7 км на У ад в. Мяжа. Цячэ ў межах Гарадоцкага ўзвышша ў лясістай забалочанай мясцовасці. Рэчышча ў верхнім цячэнні на працягу 5,2 км каналізаванае.

**ШЭВІНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 2,36 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,4 м.**
**Даўжыня 4,45 км.**
**Найбольшая шырыня 0,88 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 11,9 км.**
**Аб'ём вады 5,55 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 63,2 км$^2$.**

У бас. р. Нішча, за 12 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 0,5 км на З ад в. Гарбачэва. Схілы катлавіны вышынёй 10—15 м (на ПнУ 6—9 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй парослыя лесам, на ПнЗ разараныя. Многа заліваў і мысаў. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн і ПдЗ пад хмызняком. Дно да глыбіні 2 м пясчанае і глеістае, ніжэй сапрапелістае. Востраў плошчай 0,4 га. Зарастае да глыбіні 2,5—2,9 м. Упадаюць 5 ручаёў (у т. л. з воз. Гародна), выцякае ручай у воз. Межава.

**ШЭВІНА,** возера ў Віцебскім р-не.

**Пл. 0,37 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 4,5 м.**
**Даўжыня 1,2 км.**
**Найбольшая шырыня 0,48 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,36 км.**
**Аб'ём вады 0,72 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 296 км$^2$.**

У бас. р. Шэвінка (цячэ праз возера, упадае ў яго пад назвай Заронаўка), за 16 км на З ад Віцебска, каля в. Шэвіна. Схілы катлавіны вышынёй да 17 м (на Пд 10—12 м, на Пн да 2 м), параслі лесам і хмызняком, на ПнУ разараныя. Берагі зліваюцца са схіламі, на Пн часткова сплавінныя. Дно адносна плоскае, да глыбіні 0,5—0,8 м пясчанае, ніжэй ілістае. Зарастае да глыбіні 2,5 м. Упадае р. Ужніца. На беразе санаторый «Лётцы» і піянерскі лагер.

**ШЭВІНКА,** рака ў Шумілінскім і Віцебскім р-нах, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 26 км.**
**Пл. вадазбору 342 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Выцякае пад назвай З а р о н а ў к а з Заронаўскага возера на тэрыторыі Шумілінскага р-на, за 0,7 км на ПнЗ ад в. Сімонаўшчына Віцебскага р-на, вусце за 0,5 км на У ад в. Лукі Віцебскага р-на. Цячэ па заходніх схілах Віцебскага ўзвышша і Полацкай нізіне, праз воз. Шэвіна. Прытокі — Пестуніца і Ужніца (злева).

**ШЭЛАХАВА,** возера ў Лёзненскім р-не.

**Пл. 1 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 7,5 м.**
**Даўжыня 3 км.**
**Найбольшая шырыня 0,75 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,5 км.**
**Пл. вадазбору 8,75 км$^2$.**

У бас. р. Сухадроўка, за 13 км на ПдЗ ад г. п. Лёзна, каля в. Зубкі. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй разараныя. Берагі пераважна зліваюцца са схіламі. Выцякае ручай Рудзіца.

**ШЭПЕЛЬНА,** К р а ш у т ы, возера ў Расонскім р-не.



**Возера Шэвіна (Расонскі раён).**




**Возера Шэвіна (Расонскі раён).**




**Возера Шэвіна (Віцебскі раён).**



Возера Шэлахава.

**Пл. 0,2 км².**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,25 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,55 км.**
**Пл. вадазбору 1,75 км².**

У бас. р. Дрыса, за 32 км на ПдУ ад г. п. Расоны, каля в. Крашуты. Схілы катлавіны вышынёй 5—8 м, у верхняй частцы разараныя. Выцякае ручай у Дрысу.

**ШЭ́СЦЕНКА,** рака ў Віцебскім р-не, правы прыток р. Храпаўлянка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 12 км.**
**Пл. вадазбору 41 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,8 ‰.**

Пачынаецца за 0,1 км на У ад воз. Шэсцена, за 3 км на ПнУ ад в. Бліны, вусце за 1 км на У ад в. Храпавічы. Рэчышча ў ніжнім цячэнні на працягу 3,3 км каналізаванае.

**ШЭЎНЯ,** рака ў Кобрынскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга).

**Даўжыня 19,2 км.**
**Пл. вадазбору 66 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,6 ‰.**

Пачынаецца за 4 км на ПнУ ад в. Рынкі (раней, да меліярацыі, пачыналася з балота Шэўня, за 1 км на З ад в. Рынкі). Цячэ па Прыбугскай раўніне. Вусце каля ўсходняй ускраіны в. Мазічы. Рэчышча каналізаванае.

**ШЭ́Я,** Млінаўка, рака ў Слонімскім р-не, левы прыток р. Шчара (бас. Нёмана). Даўжыня 10 км. Пачынаецца на У ад в. Асабнякі, упадае ў Шчару на ПнУ ад в. Шылавічы. Рэчышча на працягу 1 км ад вытоку і 2,8 км да в. Тушэвічы да вусця каналізаванае. Каля в. Шылавічы створана сажалка (пл. 0,34 км²).

# ЭЮЯ

**Э́СА,** рака ў Крупскім, Чашніцкім і Лепельскім р-нах, у бас. Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 84 км.**
**Пл. вадазбору 1040 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 7,28 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.**

Пачынаецца за 0,6 км на Пд ад в. Двор Пярэсіка Крупскага р-на, упадае ў Лепельскае возера з Пд, за 1 км на ПдЗ ад г. Лепель. Цячэ ў межах Верхнебярэзінскай нізіны і Ушацка-Лепельскага ўзвышша. Асноўныя прытокі: Дзяражанка, Байна, Свядзіца (справа). Даліна пераважна трапецападобная, шырыня яе ў верхнім цячэнні 2—3 км, ніжэй да 1 км, месцамі да 6 км. Пойма двухбаковая, у верхнім і сярэднім цячэнні шырынёй 300—600 м, месцамі пашыраецца да 0,5—1 км. Рэчышча ў верхнім цячэнні ад вытоку на працягу 38 км каналізаванае, шырыня яго ў верхнім цячэнні 2—5 м, у сярэдзіне 5—12 м, у ніжнім 10—12 м. Разводдзе звычайна з 3-й дэкады сакавіка да канца мая, працягласць каля 55 сутак.




Юндзялоўскае возера.

**ЭСЬМА́НАЎКА,** рака, гл. *Каскруўка.*

**ЮГНА́,** рака ў Крупскім і Чашніцкім р-нах, правы прыток р. Лукомка (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 11 км.**
**Пл. вадазбору 430 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,2 ‰.**

Выцякае з воз. Абіда каля в. Вялікія Хальнявічы, вусце за 1 км на Пн ад г. Новалукомль. Цячэ ў межах Чашніцкай раўніны.

**ЮНДЗЯЛО́ЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** у Міёрскім р-не.

**Пл. 0,44 км².**
**Найбольшая глыбіня 4,8 м.**
**Даўжыня 1,22 км.**
**Найбольшая шырыня 0,39 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,8 км.**
**Аб'ём вады 1,38 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 1,7 км².**

У бас. р. Зах. Дзвіна, за 15 км на Пд ад г. Міёры, каля в. Стары Пагост. Схілы катлавіны разараныя, на Пн і Пд тэраса вышынёй 1—1,3 м. Берагі нізкія і абрывістыя, на У пад хмызняком. Дно плоскае, выслана сапрапелем, уздоўж берага пяском. Слаба зарастае каля берагоў.

**Ю́НЦАЎШЧЫНА,** ручай у Дзяржынскім р-не, левы прыток р. Кабылянка (бас. Віліі). Даўжыня 4,6 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, упадае ў Кабылянку за 1 км на Пд ад в. Забалацце. Рэчышча на працягу 2,3 км (ад в. Юнцавічы да вусця) каналізаванае.

**Ю́РАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПнЗ ад в. Юравічы, упадае ў воз. Літвін на пойме Прыпяці, за 1,5 км на З ад той жа вёскі.

**Ю́РАЎКА,** ручай у Лепельскім і Барысаўскім р-нах, правы прыток р. Гурба (бас. Дняпра). Даўжыня 12,8 км. Пачынаецца з воз. Безадзеннае за 1 км на З ад в. Аношкі Лепельскага р-на, вусце за 3 км на ПнЗ ад в. Глыбочыца Барысаўскага р-на. Цячэ сярод лесу па тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Рэчышча на працягу 5,5 км ад вытоку каналізаванае.

**ЮРАЎШЧЫНА,** ручай у Маладзечанскім р-не, левы прыток р. Бярэзіна (бас. Нёмана). Даўжыня 5 км. Пачынаецца на Пн ад в. Пекары, вусце за 2 км на У ад в. Баркі. Рэчышча на працягу 2,5 км перад вусцем каналізаванае, у ніжнім цячэнні з'яўляецца часткай асушальнай сеткі торфапрадпрыемства «Бярэзінскае».

**ЮРАВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Любанскім р-не, правы прыток р. Арэса (бас. Прыпяці). Даўжыня 18,2 км. Пачынаецца з Асавецкага канала за 1 км на ПнЗ ад в. Новая Дуброва, вусце за 1,5 км на ПдЗ ад в. Рэдкавічы.

**ЮРКЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Жыткавіцкім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 20 км. Пачынаецца за 4 км на ПдУ ад в. Новыя Мілевічы, вусце за 3 км на З ад в. Лагвошчы. Цячэ ў лясістай забалочанай мясцовасці.

**ЮХНАЎКА,** Рагозніца, рака ў Мастоўскім р-не, левы прыток р. Зальвянка (бас. Нёмана).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 87,5 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на У ад в. Грыцкі Ваўкавыскага р-на, цячэ па ўсходніх схілах Ваўкавыскага ўзвышша, упадае ў Зальвянку за 0,5 км на ПнУ ад в. Боркі. Пойма ад вытоку да в. Малая Рагозніца пераважна забалочаная. Рэчышча на працягу 9,5 км (ад в. Малая Рагозніца да вусця) каналізаванае. Каля в. Вялікая Рагозніца створана сажалка (пл. 0,22 км²). За 1 км на ПдУ ад в. Забалацце да вусця па правабярэжжы прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**Я́ГАДНЫ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Добрушскім р-не, правы прыток р. Харапуць (бас. Дняпра). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Убарок, упадае ў Харапуць за 0,3 км на ПнЗ ад в. Селішча.

**ЯГЛЕ́ВІЦКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток р. Грыўда (бас. Нёмана). Даўжыня 7,2 км. Пачынаецца за 1 км на У ад в. Галенчыцы, упадае ў Грыўду за 1 км на Пн ад в. Яглевічы.

**ЯЁЧКАЎСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Іванаўскім р-не, правы прыток р. Філіпаўка (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,9 км. Пачынаецца за 3 км на ПдЗ ад в. Яечкавічы, вусце каля в. Еўлашы.

**ЯЖГІНЯ,** возера ў Міёрскім р-не.

**Пл. 0,78 км².**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,8 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 3,25 км.**
**Пл. вадазбору 2 км².**

У бас. р. Дзісна, за 17 км на ПдУ ад г. Міёры, на ПнУ ад воз. Бярэжа, у межах гідралагічнага заказніка Ельня, на балоце Мох. Берагі забалочаныя, сплавінныя. Злучана канавай з воз. Валозева.

**Я́ЗВА,** рака, гл. *Усвейка.*

**ЯЗВІ́Н,** меліярацыйны канал у Столінскім р-не, левы прыток р. Сцвіга (бас. Прыпяці). Даўжыня 10 км. Пачынаецца з лясного ўрочышча Астрова, за 25 км на ПдУ, вусце за 24 км на У ад в. Альманы.

**Я́ЗВІНКА,** рака ў Шумілінскім і Віцебскім р-нах, правы прыток Зах. Дзвіны.

**Даўжыня 10 км.**
**Пл. вадазбору 56 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,5 ‰.**

Выцякае з Мурожніцкага возера з У, за 1 км на З ад в. Ужляціна Шумілінскага р-на, вусце за 1 км на Пд ад в. Старое Сяло Віцебскага р-на.

**Я́ЗВІНКА,** рака, гл. *Біоста.*

**Я́ЗВІНСКІ КАНА́Л,** меліярацыйны канал у Шумілінскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны. Даўжыня 6 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПдЗ ад в. Мазекі, упадае ў Мурожніцкае возера з З, каля в. Язвіна.

**ЯЗВІ́ТКА,** ручай у Мсціслаўскім р-не, левы прыток р. Волчас (бас. Дняпра). Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ, вусце за 0,5 км на З ад в. Лыкінка. Рэчышча на працягу 3,6 км у вярхоўі каналізаванае.

**Я́ЗНА,** возера, гл. *Ясна.*

**Я́ЗНАЧ,** Ніўскі канал, рака ў Жлобінскім р-не, правы прыток р. Дабасна (бас. Дняпра).

**Даўжыня 7 км.**
**Пл. вадазбору 105 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,9 ‰.**

Пачынаецца за 3,5 км на У ад в. Мормаль, каля дарогі Мормаль — Папаратнае, вусце за 1,5 км на З ад в. Грабск. Рэчышча каналізаванае.

**ЯЗО́ВІЦКАЯ КАНА́ВА,** меліярацыйны канал у Петрыкаўскім р-не, правы прыток Прыпяці. Даўжыня 18 км. Пачынаецца за 5,5 км на ПдЗ ад в. Судзібар, упадае ў старыцу Прыпяці каля в. Мардзвін. Часткова цячэ па тэрыторыі Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка.

**Я́ЗЬМЕНКА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,06 км².**
**Даўжыня 0,38 км.**
**Найбольшая шырыня 0,22 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 0,95 км.**

У бас. р. Дрыса, за 28 км на ПнУ ад г. п. Расоны, за 5 км на ПнУ ад в. Галубова. Схілы катлавіны невыразныя, вакол возера лес, уздоўж берагавой лініі паласа забалочанай поймы.

**ЯКАЎСКАЕ ВО́ЗЕРА,** Янаўскае возера, у Полацкім р-не.

**Пл. 1,68 км².**
**Найбольшая глыбіня 8,8 м.**
**Даўжыня 4,34 км.**
**Найбольшая шырыня 0,82 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 12 км.**
**Аб'ём вады 6,59 млн. м³.**
**Пл. вадазбору 44,5 км².**



**Якаўскае возера.**



**Якаўскае возера.**

У бас. р. Дрыса, за 26 км на Пн ад Полацка, каля в. Рудня. Схілы катлавіны вышынёй 3—5 м (на Пн і З 10—12 м), у ніжняй частцы пад хмызняком, у верхняй разараныя, на У параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя, пад хмызняком. Дно ўздоўж берагоў да глыбіні 3—4 м пясчанае і пясчана-ілістае, у цэнтры сапрапелістае. Зарастае да глыбіні 1,9 м. Упадаюць р. Зверынка і 2 ручаі, выцякае ручай у Мяшчэцкае возера.




Возера Ямна.



Возера Ямнае.

**ЯКАЎЧЫЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Жабінкаўскім р-не, правы прыток р. Мухавец (бас. Зах. Буга). Даўжыня 13,4 км. Пачынаецца за 1,5 км на ПнУ ад в. Агароднікі, вусце на Пд ад в. Залуззе.

**ЯКІМАВІЦКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Калінкавіцкім р-не, левы прыток р. Іпа (бас. Прыпяці). Даўжыня 13,6 км. Пачынаецца за 5 км на ПдУ ад в. Кротаў, вусце за 1 км на ПнУ ад в. Клінск.

**ЯКУНЬКА,** рака ў Іўеўскім р-не, левы прыток р. Гаўя (бас. Немана).

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 96,2 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца на ПнУ ад в. Брагі, цячэ ў межах Лідскай раўніны, упадае ў Гаўю за 1 км на З ад в. Васілевічы. На працягу 16,4 км (ад вытоку да в. Васілевічы) каналізаваная. Каля в. Чарнелі створана сажалка (пл. 0,21 км$^2$).

**ЯКУШОЎКА,** рака ў Краснапольскім р-не, левы прыток р. Сож (бас. Дняпра).

**Даўжыня 20 км.**
**Пл. вадазбору 63 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,9 ‰.**

Пачынаецца на заходняй ускраіне в. Вялікі Восаў, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Касцюкоўка Кармянскага р-на.

**ЯКШТЫНСКІ КАНАЛ,** Якштаўскі канал, меліярацыйны канал у Браслаўскім р-не, левы прыток р. Дрысвята (бас. Зах. Дзвіны). Пачынаецца за 0,5 км на ПнУ ад в. Якшты, вусце за 0,5 км на ПнУ ад в. Гультаеўшчына.

**ЯЛАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Светлагорскім р-не, левы прыток р. Сведзь (бас. Дняпра). Даўжыня 8,5 км. Пачынаецца з р. Жардзянка, за 2,6 км на ПнУ ад в. Асінаўка, упадае ў Сведзь за 0,5 км на Пд ад в. Яланы.

**ЯЛЕНКА,** рака ў Крычаўскім і Чэрыкаўскім р-нах, левы прыток р. Волчас (бас. Дняпра).

**Даўжыня 15 км.**
**Пл. вадазбору 41 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Пачынаецца за 1 км на ПнЗ ад в. Дарагая Касцюковіцкага р-на, вусце за 1 км на Пд ад в. Камаровічы Чэрыкаўскага р-на.

**ЯЛЕЦ,** ручай у Магілёўскім р-не, левы прыток р. Дняпро. Даўжыня 4,4 км. Пачынаецца за 0,6 км на Пн, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Бароўка. Рэчышча на працягу 3,8 км перад вусцем каналізаванае.

**ЯЛОЖЫНСКАЕ ВОЗЕРА,** у Круглянскім р-не.

**Пл. 0,3 км$^2$.**
**Даўжыня 1,1 км.**
**Найбольшая шырыня 0,42 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,52 км.**

У бас. р. Еленка, за 24 км на З ад г. п. Круглае, за 2,5 км на З ад в. Татарка. Схілы катлавіны вышынёй да 2 м, параслі лесам і хмызняком. Берагі нізкія, месцамі забалочаныя, пад лесам і хмызняком.

**ЯЛОЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ганцавіцкім р-не, левы прыток Карыцінскага канала (бас. Прыпяці). Даўжыня 7,5 км. Пачынаецца за 3,5 км на ПдУ ад в. Хатынічы, вусце за 5 км на ПнУ ад в. Яловая.

**ЯЛУХАНСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Івацэвіцкім р-не, правы прыток Восьмага канала (бас. Нёмана). Даўжыня 13 км. Пачынаецца за 8 км на ПдУ ад в. Волька ва ўрочышчы Варотцы, упадае ў Восьмы канал за 6 км на У ад г. Гічыцы.

**ЯЛЬНЯНКА,** рака ў Міёрскім р-не, левы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

**Даўжыня 16 км.**
**Пл. вадазбору 93 км$^2$.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,7 ‰.**

Выцякае з Чорнага возера і ў вярхоўі цячэ ў межах гідралагічнага заказніка Ельня. Вусце насупраць размешчанай на правым беразе Дзісны в. Казлоўцы.

**ЯМНА,** возера ў Расонскім р-не.

**Пл. 0,92 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 3,8 м.**
**Даўжыня 1,56 км.**
**Найбольшая шырыня 0,72 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 4,95 км.**
**Аб'ём вады 2,15 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 13,4 км$^2$.**

У бас. р. Дрыса, за 27 км на ПнУ ад г. п. Расоны, на 3 км на ПнЗ ад в. Шарстова. Схілы катлавіны вышынёй да 3 м (на ПнУ да 12 м), параслі лесам. Берагі нізкія, пясчаныя. Дно плоскае, у прыбярэжнай частцы да глыбіні 2 м выслана пяском і апясчаненым ілам, глыбей сапрапелем. Шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці да 60 м, зарастае да глыбіні 2 м. Упадаюць 6 ручаёў, выцякае ручай Язьмянок у воз. Усвеча.

**ЯМНАЕ ВОЗЕРА,** у Чашніцкім р-не.

**Пл. 2,28 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 2,5 м.**
**Даўжыня 2,3 км.**
**Найбольшая шырыня 1,31 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 6,49 км.**
**Аб'ём вады 3,42 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 9 км$^2$.**

У бас. р. Ула, за 16 км на ПдУ ад г. Чашнікі, за 1 км на ПдЗ ад пас. Першае Мая. Схілы катлавіны слабавыразныя, на Пн вышынёй 3—8 м. Берагі тарфяныя, абрывістыя, на Пн пясчаныя. Дно плоскае, сапрапелістае. Участкамі ўздоўж берагоў мелкаводдзе пясчанае. Поўнасцю зарастае. Шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці 50—100 м.

**ЯМНАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Ровенскай вобл. і Столінскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 14,4 км, у т. л. на тэрыторыі Беларусі 10 км. Пачынаецца за 1 км на ПнУ ад в. Жадзень Дубровецкага р-на Ровенскай вобл., упадае з Пд у воз. Віры на пойме р. Гарынь, на Пн ад в. Ямнае Столінскага р-на.

**ЯМНАЎСКІ КАНАЛ,** Ямненскі канал, меліярацыйны канал у Пухавіцкім р-не, правы прыток р. Пціч (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,2 км. Пачынаецца за 2 км на ПдУ ад в. Ямнае, вусце каля в. Выемка.

**ЯМНАЯ КАНАВА,** меліярацыйны канал, гл. *Бонда*.

**ЯМНАЯ КАНАВА,** канал, гл. *Іўня-Бонда*.

**ЯМПАЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, правы прыток Бязуеўскага канала (бас. Дняпра). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПдУ ад в. Ямпаль, упадае ў Бязуеўскі канал за 0,7 км на Пн ад в. Роўнае.

**ЯМЫ,** гл. *Рульеў канал.*

**ЯМЯНІШЧА,** возера ў Гарадоцкім р-не.

Пл. 0,007 км$^2$.
Даўжыня 0,17 км.
Найбольшая шырыня 0,12 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,45 км.

У бас. р. Чарнаўка, за 16 км на ПнЗ ад г. Гарадок, за 0,7 км на ПдЗ ад в. Загуззе. Вакол возера балота, на Пд лес.

**ЯНАВІЦА,** рака ў Пастаўскім р-не, у бас. Зах. Дзвіны.

Даўжыня 18 км.
Пл. вадазбору 96 км$^2$.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,31 ‰.

Пачынаецца за 0,5 км на Пн ад в. Янанішкі, упадае ў Вялікае Сурвілішскае возера з З, за 0,7 км на Пд ад в. Сурвілішкі.

**ЯНАВІЦКАЕ ВОЗЕРА,** у Віцебскім р-не.

Пл. 1,46 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7 м.
Даўжыня 2,82 км.
Найбольшая шырыня 0,87 км.
Даўжыня берагавой лініі 7,43 км.
Аб'ём вады 5,65 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 31,3 км$^2$.

У бас. р. Вымнянка, за 30 км на ПнУ ад Віцебска, каля г. п. Янавічы. Схілы катлавіны вышынёй 4—8 м, у верхняй частцы разараныя, у ніжняй задзернаваныя, пад хмызняком. Берагі пясчаныя, месцамі пясчана-галечныя, на Пн і Пд участкамі зліваюцца са схіламі, на З у месцы ўпадзення ручая нізкія, увільготненыя. Дно да глыбіні 1,5—2,5 м пясчанае, ніжэй ілістае. Зарастае да глыбіні 1,8 м. Упадаюць 3 ручаі, выцякае ручай у Вымнянку.

**ЯНАЎСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА,** у Астравецкім р-не.

Пл. 1,1 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 7,5 м.
Даўжыня 7,7 км.
Найбольшая шырыня 0,4 км.
Даўжыня берагавой лініі 11 км.
Аб'ём вады 2,27 млн. м$^3$.
Сярэдні шматгадовы сцёк 92 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 329 км$^2$.

На р. Лоша, каля г. п. Астравец і хутара Янава. Створана ў 1955 для энергетычных мэт, арашэння зямель, рыбагадоўлі і рэкрэацыі. Берагі высокія, месцамі да 10 м. Ёсць 2 залівы, востраў пл. 0,2 га. Каля берагоў зарастае. Ваганні ўзроўню вады на працягу года 0,1 м.

**ЯНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Расонскім р-не.

Пл. 0,01 км$^2$.
Даўжыня 0,16 км.
Найбольшая шырыня 0,14 км.
Даўжыня берагавой лініі 0,42 км.

У бас. р. Дрыса, за 35 км на У ад г. п. Расоны, за 2 км на Пн ад в. Бухава, сярод пераўвільготненага лесу. Схілы катлавіны вышынёй 2—5 м. Выцякае ручай у воз. Валоба.

**ЯНАЎСКАЕ ВОЗЕРА,** гл. *Янова.*

**ЯНЕЛІ,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,2 км$^2$.
Даўжыня 0,7 км.
Найбольшая шырыня 0,38 км.
Аб'ём вады 0,54 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 1,4 км$^2$.

У бас. р. Друйка, за 27 км на ПнУ ад г. Браслаў, на Пд ад в. Войса. Схілы катлавіны вышынёй 15—17 м, у ніжняй частцы задзернаваныя, у верхняй разараныя. Берагі нізкія, пясчаныя або затарфаваныя, на ПдУ і ПдЗ месцамі сплавінныя, на Пд і З пад хмызняком. Дно да глыбіні 1—1,5 м пясчанае і ілістае, ніжэй сапрапелістае. Шырыня паласы зарастання 5—25 м. Упадае ручай.

**ЯНКА,** рака ў Браслаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах, левы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны).

Даўжыня 48 км.
Пл. вадазбору 564 км$^2$.
Сярэднегадавы расход вады ў вусці 3,7 м$^3$/с.
Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,4 ‰.

Выцякае з Багданаўскага возера на Пд, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Багданова Браслаўскага р-на, цячэ праз воз. Янка, ў межах паўднёва-заходняй часткі Полацкай нізіны па лясістай забалочанай мясцовасці, вусце на ўсходняй ускраіне г. п. Шаркоўшчына. Асноўныя прытокі — рэкі Янка (справа) і Кулажка (злева). Даліна трапецападобная (шырыня 100—350 м), у верхнім цячэнні невыразная. Пойма ў верхнім цячэнні вузкая, перарывістая, ніжэй пераважна двухбаковая (шырыня 50—100 м), у нізоўі амаль адсутнічае. Рэчышча ўверх ад вусця на працягу 39 км каналізаванае.

**ЯНКА,** рака ў Браслаўскім р-не, правы прыток р. Янка (бас. Зах. Дзвіны). Даўжыня 24 км. Пл. вадазбору 105 км$^2$. Пачынаецца за 0,7 км на ПдУ ад в. Дамашы, вусце за 7 км на У ад в. Дуброўка. Цячэ ў межах заходняй часткі Полацкай нізіны па забалочанай лясістай мясцовасці. Рэчышча каналізаванае.

**ЯНКА,** возера ў Браслаўскім р-не.

Пл. 0,24 км$^2$.
Даўжыня 1,5 км.
Найбольшая шырыня 0,18 км.
Даўжыня берагавой лініі 3,25 км.
Пл. вадазбору 29,2 км$^2$.

У бас. р. Янка (цячэ праз возера), а 22 км на Пд ад г. Браслаў, каля в. Мілашкі. Схілы катлавіны вышынёй 2—3 м, разараныя, на Пд пад лесам. Ракой Янка злучана з Багданаўскім возерам.

Янавіцкае возера.

**ЯНКІШКІ,** возера ў Пастаўскім р-не.

Пл. 0,18 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 2,5 м.
Даўжыня 0,8 км.
Найбольшая шырыня 0,3 км.
Даўжыня берагавой лініі 1,95 км.
Аб'ём вады 0,22 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 15,6 км$^2$.

У бас. р. Камайка, за 20 км на З ад г. Паставы, каля в. Гродзі. Схілы катлавіны вышынёй 6—10 м, разараныя. Берагі высокія, участкамі зліваюцца са схіламі, забалочаныя. Дно ілістае. Амаль усё зарастае. Выцякае ручай у р. Камайка.

**ЯНОВА,** Янаўскае возера, у Полацкім р-не, на мяжы з Ушацкім р-нам.

Пл. 7,7 км$^2$.
Найбольшая глыбіня 14 м.
Даўжыня 6,5 км.
Найбольшая шырыня 2,2 км.
Даўжыня берагавой лініі 25 км.
Аб'ём вады 41,8 млн. м$^3$.
Пл. вадазбору 721 км$^2$.

У бас. р. Дзіва (упадае ў возера), за 23 км на Пд ад Полацка, за 3 км на ПдУ ад в. Гомель. Уваходзіць ва Ушацкую групу азёр. Схілы катлавіны вышынёй да 12 м, пад лесам, часткова разараныя. На Пн і Пд тэраса вышынёй 2 м. Берагі вышынёй да 1 м, пясчаныя, месцамі завалуненыя, на У нізкія. На Пд да возера прымыкае забалочаная нізіна. Мелкаводдзе шырынёй да 10 м, пясчанае, глыбей дно сапрапелістае. Шырыня паласы зарастання 25—200 м. Упадаюць 2 ручаі, ракой Туржэц злучана з воз. Зашчаты.

**ЯРЦАВІЦКІ 1-ы КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, у бас. Прыпяці. Даўжыня 9,4 км. Па-




Возера **Янова**.

чынаецца за 1,5 км на З ад в. Вайцяшын, упадае ў воз. Белае з Пн, за 3 км на ПдЗ ад г. Белаазёрск.

**ЯРЦАЎСКІ КАНАЛ**, Баявая канава, меліярацыйны канал у Рэчыцкім р-не, левы прыток канала Бонда (бас. Дняпра). Даўжыня 9 км. Пачынаецца за 3 км на ПдУ ад в. Галоўкі, упадае ў канал Бонда за 4,2 км на ПнУ ад в. Першамайск Каравацкага сельсавета.

**ЯРШОЎКА**, Ярцоўка, Яршуўка, Чарняўка, рака ў Маладзечанскім і Валожынскім р-нах, правы прыток Іслачы (бас. Нёмана).

**Даўжыня 30 км.**
**Пл. вадазбору 225 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,76 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца на Пд ад в. Шалыгі Маладзечанскага р-на, цячэ па заходніх схілах Мінскага ўзвышша, упадае ў Іслач за 1,5 км на ПдУ ад в. Міхалова Валожынскага р-на. Прытокі — Дараўлянка і Каскруўка. Даліна трапецападобная, яе шырыня 0,2—0,5 км. Пойма роўная, двухбаковая. Рэчышча ад вытоку на працягу 10,6 км каналізаванае, ад в. Зарэчча моцназвілістае.

**ЯСЕЛЬДА**, Ясольда, рака ў Брэсцкай вобл., левы прыток Прыпяці.

**Даўжыня 250 км.**
**Пл. вадазбору 7790 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 35,8 м$^3$/с.**
**Агульнае падзенне ракі 37,5 м.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,15 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 168,6 м над узроўнем мора, за 4 км на Пн ад в. Клепачы Пружанскага р-на, у вярхоўі цячэ па Прыбугскай раўніне, далей па нізіне Прыпяцкае Палессе (па Бярозаўскім, Драгічынскім і Пінскім р-нах) праз Спораўскае возера. Вусце каля в. Качановічы Пінскага р-на. На пойме ракі створана вадасховішча Сялец. Асноўныя прытокі: канал Вінец (справа), р. Жыгулянка, Агінскі канал (злева). Даліна невыразная, месцамі трапецападобная, яе шырыня 2—4 км, найбольшая 6—8 км. Пойма двухбаковая, у сярэднім цячэнні шырынёй 0,8—1,2 км, у ніжнім 1,5—6 км. Рэчышча ад вытоку на працягу 39,1 км, а таксама на тэрыторыі Бярозаўскага р-на ад в. Сялец да в. Стрыгін на працягу 15 км каналізаванае. На неканалізаваных участках рэчышча звілістае і моцназвілістае, яго шырыня 10—40 м, найбольшая 80 м (каля в. Купяцічы Пінскага р-на). Веснавое разводдзе ў канцы сакавіка, доўжыцца да 1-й палавіны мая. Сярэдняя вышыня над межанным узроўнем ад 1,4 м у вярхоўі да 2,6 м у ніжнім цячэнні, найбольшая адпаведна 1,7 і 3,1 м. Замярзае рака ў пачатку снежня, крыгалом у канцы сакавіка. Веснавы ледаход 2—3 сутак. Расход вады каля в. Сінін Пінскага р-на (53 км ад вусця) найбольшы 573 м$^3$/с (1958), найменшы 1,36 м$^3$/с (1956). Ясельда ўваходзіць у водную сістэму, якая злучае басейн Прыпяці і Нёмана Агінскім каналам. На рацэ г. Бяроза.

**ЯСЕЛЬДАЎСКІ КАНАЛ**, Ясельдскі канал, меліярацыйны канал у Івацэвіцкім і Пінскім р-нах, левы прыток р. Ясельда (бас. Прыпяці). Даўжыня 14 км. Пачынаецца за 1,5 км на Пд ад в. Гошча Івацэвіцкага р-на, вусце насупраць размешчанай на правым беразе Ясельды в. Чамярын Пінскага р-на. Прытокі — каналы Страла, Буса (справа) і Коланскі (злева).

**ЯСЕНАВІЦА**, ручай у Ваўкавыскім р-не, правы прыток р. Рось (бас. Нёмана). Даўжыня 6,5 км. Пачынаецца каля в. Ясенавіца, упадае ў Рось за 1,5 км на ПдЗ ад в. Задворанцы. Рэчышча на працягу 5,5 км (ад в. Ясенавіца да вусця) каналізаванае.

**ЯСЕНЕЦ**, рака ў Житомірскай вобл. на Украіне і ў Ельскім р-не, правы прыток р. Славечна (бас. Прыпяці).

**Даўжыня 63 км.**
**Пл. вадазбору 390 км$^2$.**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,33 м$^3$/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,4 ‰.**

Пачынаецца на вышыні 244 м над узроўнем мора, каля в. Леўкавічы Оўруцкага р-на Житомірскай вобл. (на ПнУ Оўруцкага кража), цячэ па Мазырскім Палессі. Даўжыня ў межах Беларусі 23 км, пл. вадазбору 115 км$^2$. Вусце каля в. Скароднае Ельскага р-на. Асноўны прыток — р. Звонка (справа) у Оўруцкім р-не.

**ЯСЕНКА**, канал Ясенка, рака ў Асіповіцкім і Бабруйскім р-нах, левы прыток р. Вабчанка (бас. Дняпра). Даўжыня 10,5 км. Пачынаецца за 1,2 км на З ад в. Ясень Асіповіцкага р-на, вусце за 0,5 км на Пд ад в. Ізюмава Бабруйскага р-на. Рэчышча каналізаванае.

**ЯСНА**, Язна, возера ва Ушацкім р-не.

**Пл. 0,73 км$^2$.**
**Найбольшая глыбіня 9,7 м.**
**Даўжыня 2,5 км.**
**Найбольшая шырыня 0,53 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 8,8 км.**
**Аб'ём вады 3,19 млн. м$^3$.**
**Пл. вадазбору 35,3 км$^2$.**

У бас. р. Ушача, за 6 км на ПдЗ ад г. п. Ушачы, каля в. Пад'язна. Схілы катлавіны вышынёй 10—12 м, пад лесам, месцамі разараныя. Берагі пясчаныя, парослі хмызняком, на ПдЗ зліваюцца са схіламі. Мелкаводная зона вузкая, пясчаная і ілістая, глыбакаводная сапрапелістая, мае некалькі ўпадзін. Найбольшыя глыбіні ў паўночна-ўсходнім плёсе. У паўднёва-заходнім плёсе востраў пл. 1 га.




Возера **Ясна**.

Слаба зарастае, шырыня паласы зарастання да 60 м. Злучана ручаямі з азёрамі Белае і Малая Бароніца.

**ЯСНАЎСКІ КАНАЛ,** гл. *Задашчэнска-Яснаўскі канал.*

**ЯСТРАБЕЛЬСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Бярозаўскім р-не, правы прыток канала Вінец (бас. Прыпяці). Даўжыня 5,5 км. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в. Ястрабель, вусце за 2 км на ПнУ ад в. Зарэчча.

**ЯСТРАБІНСКІ КАНАЛ,** гл. *Шыра.*

**ЯСТРАБЛЯ,** меліярацыйны канал у Ельскім р-не, правы прыток канала Шыра (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,1 км. Пачынаецца за 2,5 км на ПнЗ ад в. Валаўская Рудня, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Калінавая.

**ЯСЮКОЎСКАЕ ВОЗЕРА,** у Пастаўскім р-не.

**Пл. 0,18 км².**
**Даўжыня 0,83 км.**
**Найбольшая шырыня 0,18 км.**
**Даўжыня берагавой лініі 2,15 км.**
**Пл. вадазбору 1,2 км².**

У бас. р. Галбіца, за 25 км на У ад г. Паставы, за 0,5 км на У ад г. п. Варапаева, каля в. Ясюкі. Схілы катлавіны пераважна разараныя, на ПнЗ вышынёй да 10 м. Берагі высокія, на ПнЗ зліваюцца са схіламі. Выцякае ручай у воз. Глыбокае.

**ЯТВЕСК,** рака ў Свіслацкім р-не, правы прыток р. Калонка (бас. Зах. Буга). Даўжыня 10 км. Пачынаецца на У ад в. Ятвеск, вусце на Пд ад в. Якушоўка. Рэчышча каналізаванае.

**ЯТРАНКА,** рака ў Навагрудскім і Дзятлаўскім р-нах, правы прыток р. Моўчадзь (бас. Нёмана).

**Даўжыня 31 км.**
**Пл. вадазбору 208 км².**
**Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,33 м³/с.**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 2,4 ‰.**

Пачынаецца каля в. Ярошычы Навагрудскага р-на, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Моўчадзь на Пд ад г. п. Наваельня Дзятлаўскага р-на. Прытокі — Мутніца, Лапушанка. Рэчышча на працягу 4,7 км ад вытоку каналізаванае. Каля вёсак Круцілавічы і Стараельня створаны сажалкі (пл. 0,01 км² кожная).

**ЯЧАЎСКІ КАНАЛ,** меліярацыйны канал у Слуцкім р-не, левы прыток р. Случ (бас. Прыпяці). Даўжыня 6,7 км. Пачынаецца за 2 км на ПнУ ад в. Лесуны, вусце за 2 км на ПдЗ ад в. Агароднікі.

**ЯЧОНКА,** Ячэнка, рака ў Стаўбцоўскім р-не, правы прыток Нёмана.

**Даўжыня 21 км.**
**Пл. вадазбору 100 км².**
**Сярэдні нахіл воднай паверхні 1,3 ‰.**

Пачынаецца ў балоцістай мясціне за 1,5 км на ПнЗ ад чыг. ст. Коласава, упадае ў Нёман на Пд ад в. Жукаў Барок. Рэчышча каналізаванае. Прымае сцёк з меліярацыйных каналаў.

**ЯШНА-АСІНАЎКА,** рака, гл. *Асінаўка.*


**НАД КНІГАЙ ПРАЦАВАЛІ**

**Рэдакцыя геаграфіі і геафізікі**

Загадчык рэдакцыі М. М. Курловіч; навуковыя рэдактары І. Я. Афнагель, В. М. Вераценнікава, С. А. Крукава, Я. П. Цупа, Я. А. Якубоўскі.

**Рэдакцыя навуковага і літаратурнага кантролю**

Загадчык рэдакцыі С. П. Самуэль; навуковыя рэдактары Т. М. Кароткая, Т. П. Панчанка

Карты падрыхтавалі
навуковыя рэдактары Т. У. Кавалеўская, Г. Р. Шыкунова, рэдактар В. Ф. Надзененка

Блакітная кніга Беларусі: Энцыкл./Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.:
Б 68 Н. А. Дзісько і інш.— Мн.: БелЭн, 1994.— 415 с.: іл.

ISBN 5-85700-133-1.

У энцыклапедыі ў алфавітным парадку змешчана больш за 5 тысяч артыкулаў пра рэкі, ручаі, азёры, вадасховішчы і каналы (даўжынёй больш за 5 км), якія маюць уласную назву. Артыкулам папярэднічае ўступны навукова-папулярны нарыс з абагульняльнымі звесткамі пра водныя аб'екты. Значным дадаткам да характарыстыкі таго ці іншага аб'екта служаць каляровыя і чорна-белыя здымкі, карты-схемы месцазнаходжання вадаёмаў, якія даюць уяўленне пра вадаёмы і ў пэўнай ступені пра іх наваколлі, а таксама карты глыбінь найбольш значных і даследаваных азёр.

Пры характарыстыцы водных аб'ектаў выкарыстаны архіўныя даныя БелЭн, гідралагічныя даведнікі і буйнамаштабныя тапаграфічныя карты.

Выданне будзе карысным і цікавым спецыялістам, краязнаўцам, аматарам рыбнай лоўлі і ўсім, каму неабыякавы лёс нашых вадаёмаў — блакітнага скарбу Беларусі.

Б $\frac{5560500000-04}{М\ 318(03)-94}$ 20—94 ББК 26.222(2Б)я2

Даведачнае выданне

БЛАКІТНАЯ КНІГА
БЕЛАРУСІ

Энцыклапедыя

Мастацкае афармленне і рэдагаванне *В. Р. Загародняга*

Тэхнічныя рэдактары: *М. І. Грыневіч, І. І. Цыцаня, Н. М. Шэвель*

Карэктары: *В. І. Багдановіч, Т. Я. Радзевіч, Л. У. Сідарава, Л. В. Суцягіна, А. А. Федасеева*

Здадзена ў набор 28.07.92. Падпісана да друку 23.11.93. Фармат 84 × 108[1]/16. Папера афсетная. Гарнітура Балтыка. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 43,68. Ум. фарб.-адб. 174,72. Ул.-выд. арк. 65,12. Тыраж 10 000 экз. Заказ 367.

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліка Беларусь, 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15а. Ліцэнзія ЛВ № 10.

Набрана на Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце МВПА імя Я. Коласа. Рэспубліка Беларусь. 220600, г. Мінск, вул. Чырвоная, 23.

Надрукавана на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Рэспубліка Беларусь, 220115, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

